АКАДЕМИЯ НАУК СССР

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ СССР

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ СССР ПО ДЕЛАМ ИЗДАТЕЛЬСТВ, ПОЛИГРАФИИ И КНИЖНОЙ ТОРГОВЛИ

# СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ НАРОДОВ СССР

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

## МІНСК



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1988

# ПРАДМОВА

Выданне «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», якое з'яўляецца часткай Збору помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР,— канкрэтнае ажыццяўленне палажэнняў Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР аб ахове помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей, закона СССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» і адпаведнага закона Беларускай ССР. «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» — афіцыйны дакумент, які ўключае помнікі, што ўзяты або павінны быць узяты пад дзяржаўную ахову.

Прапануемы чытачу том Збору помнікаў гісторыі і культуры горада Мінска складзены на аснове навуковага абследавання помнікаў, вывучэння першакрыніц і літаратуры аб часе, падзеях і людзях, якім яны прысвечаны.

Помнікі гісторыі і культуры сталіцы Беларускай ССР — горада Мінска займаюць значнае месца ў культурнай спадчыне беларускага народа, нашай краіны. Складаны больш як 900-гадовы шлях гістарычнага развіцця горада адзначаны помнікамі, якія адлюстроўваюць лёс, працоўную дзейнасць і творчасць не толькі многіх пакаленняў мінчан, а ўсяго беларускага народа, яго братнія сувязі з народамі СССР.

Горад неаднаразова быў у цэнтры палітычных і рэлігійных сутыкненняў, ваенных падзей, што наносіла стваральнай дзейнасці людзей, у т. л. помнікам, значныя страты. Мноства падзей абумовіла і значную колькасць помнікаў, што іх увекавечваюць.

Археалагічныя помнікі, у т. л. рэшткі старажытнага цэнтра, вытворчыя і культавыя збудаванні сярэдневякоўя, збудаванні і пабудовы новага часу, як і іншыя помнікі матэрыяльнай культуры, змяшчаюць звесткі аб зніклых грамадска-эканамічных фармацыях, аб прадукцыйных сілах, сацыяльна-эканамічных адносінах і ідэалогіі розных эпох, даюць уяўленне аб майстэрстве народа, зменах, што адбываліся ў галіне мастацтва пад уплывам умоў і традыцый.

Вялікае месца ў кнізе адведзена помнікам савецкага перыяду. Разнастайныя помнікі перадаюць веліч сацыялістычнай перабудовы грамадства, увекавечваюць найбольш важныя падзеі айчыннай гісторыі і культуры, славутых людзей Радзімы. Асаблівае месца сярод іх займаюць помнікі і мемарыяльныя знакі, што прысвечаны падзеям Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, адлюстроўваюць гераізм і мужнасць савецкіх людзей у гады Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў.

У том уключаны толькі нерухомыя помнікі, у іх ліку:

помнікі археалогіі — стаянкі, гарадзішчы, селішчы і могільнікі, старажытныя помнікі працоўнай дзейнасці чалавека на тэрыторыі сучаснага Мінска, рэшткі старажытнага мінскага замчышча і інш.;

помнікі гісторыі — помнікі вытворчай (працоўнай) дзейнасці людзей розных гістарычных фармацый, памятныя месцы і помнікі, звязаныя з дзяржаўным будаўніцтвам, адлюстраваннем класавай барацьбы і барацьбы за незалежнасць, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, з абаронай сацыялістычнай Айчыны, з развіццём навукі, культуры, мастацтва;

помнікі архітэктуры — горадабудаўнічае мастацтва, жыллёвая, грамадзянская і культавая архітэктура, помнікі ваенна-абарончага дойлідства, прамысловай архітэктуры, інжынернага і садова-паркавага мастацтва, архітэктурныя манументы;

помнікі манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва — манументальная скульптура, манументальны жывапіс, творы дэкаратыўнага мастацтва.

У выданне ўключаны ўсе ўцалелыя помнікі архітэктуры з часоў старажытнасці да сярэдзіны 19 ст., найбольш характэрныя для 2-й паловы 19 — пачатку 20 ст. і даваеннага савецкага перыяду (1917 — 41 гг.), найлепшыя архітэктурныя збудаванні пасляваеннага часу (1950 — 80-я гады), што адлюстроўваюць дасягненні савецкай архітэктуры ў прамысловым, жыллёвым, грама-

дзянскім будаўніцтве. У выданне не ўключаны помнікі гісторыі, архітэктуры і мастацтва, якія не захаваліся. Яны разглядаюцца толькі пры агульнай характарыстыцы развіцця горада ці пэўнага архітэктурнага комплексу.

Кожнаму помніку прысвечаны артыкул, у якім дадзена характарыстыка яго гістарычных і мастацкіх каштоўнасцей. Многія артыкулы праілюстраваны фотаздымкамі, чарцяжамі, схемамі, картамі. Том мае паказальнікі — імянны, геаграфічны, храналагічны, а таксама пералік бібліятэк, музеяў, архіваў, з кароткім апісаннем іх фондаў.

Сістэматызацыя помнікаў у томе праведзена паводле алфавітнага парадку назваў вуліц. Помнікі, размешчаныя на адной вуліцы, даюцца ў алфавітным парадку іх назваў.

Даты да лютага 1917 г. даюцца звычайна ў старым стылі, з 27 лютага (12 сакавіка) 1917 г. і да прыняцця новага стылю 14 лютага (1 лютага старога стылю) 1918 г.— у старым і новым стылях (апошні даецца ў дужках), даты з 14 лютага (1 лютага старога стылю) 1918 г. даюцца паводле новага каляндарнага стылю.

Том падрыхтаваны сектарам Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Навуковае апісанне помнікаў археалогіі зроблена Аддзелам археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. Шэраг артыкулаў напісаны аўтарамі іншых устаноў навукі і культуры. Падрыхтоўка тома да выдання, дапаўненне і ўдакладненне звестак пра помнікі і навуковае рэдагаванне матэрыялаў зроблены супрацоўнікамі выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выказваюць глыбокую ўдзячнасць партыйным і савецкім органам горада Мінска, актывістам Беларускага і Мінскага гарадскога таварыстваў аховы помнікаў гісторыі і культуры, а таксама прадстаўнікам навуковай грамадскасці рэспублікі за дапамогу кансультацыямі, парадамі і рэцэнзаваннем рукапісаў.




УКАЗАМ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР АД 3 СНЕЖНЯ 1966 г. ЗА МУЖНАСЦЬ І ГЕРАІЗМ, САМААДДАНУЮ ПАРТЫЗАНСКУЮ БАРАЦЬБУ З НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІМІ ЗАХОПНІКАМІ ПРАЦОЎНЫХ ГОРАДА МІНСКА Ў ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЕ І ЗА ПОСПЕХІ, ДАСЯГНУТЫЯ Ў АДНАЎЛЕННІ ГОРАДА І Ў РАЗВІЦЦІ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ, ГОРАД МІНСК УЗНАГАРОДЖАНЫ ОРДЭНАМ ЛЕНІНА.

УКАЗАМ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР АД 26 ЧЭРВЕНЯ 1974 г. ЗА ВЫДАТНЫЯ ЗАСЛУГІ ПЕРАД РАДЗІМАЙ, МУЖНАСЦЬ І ГЕРАІЗМ, ПРАЯЎЛЕНЫЯ ПРАЦОЎНЫМІ ГОРАДА МІНСКА Ў БАРАЦЬБЕ СУПРАЦЬ ГІТЛЕРАЎСКІХ АКУПАНТАЎ, ВЯЛІКУЮ РОЛЮ Ў РАЗГОРТВАННІ ЎСЕНАРОДНАГА ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ Ў БЕЛАРУСІ Ў ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ І Ў АЗНАМЕНАВАННЕ 30-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСКАЙ ССР АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ ГОРАДУ МІНСКУ ПРЫСВОЕНА ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ «ГОРАД-ГЕРОЙ» З УРУЧЭННЕМ ОРДЭНА ЛЕНІНА І МЕДАЛЯ «ЗАЛАТАЯ ЗОРКА».

# МІНСК



у Заслаўе
у Маладзечна
у Вільнюс
у Вільнюс
Заслаўская
вадасх. Драздов
Цнянскае вдсх.
у Радашковічы
аўтамабільная
вул. Кальцова
Шыронай вул.
Шыронай вул.
Жылы
САВЕЦКІ
РАЁН
парк Дружбы народаў
вул. Максіма Горкага
вул. Сурганава
вул. Якуба Коласа
Прыгарадная вул.
Наватарская вул.
Ваўпшылава
вул. Варашылава
вул. Гая
Нахоўская вул.
вул. Асіпенкі
вул. Чарвякова
вул. Веры Харужай
пл. Якуба Коласа
праспект Машэрава
вул. Вясніна
Піянерская вул.
вул. Цімірзяева
вул. Пушкіна
вул. Матусевіча
Ракаўскай шашы
ФРУНЗЕНСКІ
РАЁН
Ракаўская шаша
у Ракаў
у Ліду
у Гродна
вул. Прытыцкага
вул. Прытыцкага
Жылы раён
Захад
вул. Шаранговіча
вул. Панамарэнкі
Жылы раён
Харкаўская вул.
вул. Апанскага
Камсамольскае возера
парк Перамогі
ЦЭНТРАЛЬНЫ
РАЁН
Свіслач
вул. Намыга
Заслаўская вул.
Танкавая вул.
пл. Перамогі
пл. Леніна
Цэнтральны дзіцячы парк імя Горкага
вул. Казлова
вул. Карла Лібкнехта
МАСКОЎСКІ
РАЁН
праспект Жукава
вул. Дзяржынскага
Бабруйская вул.
пл. Прывакзальная
Суражская вул.
Кастрычніцкая вул.
Ульянаўская вул.
вул. Сумалінска
Фабрычная вул.
Партызанскі
ЛЕНІНСКІ
РАЁН
вул. Ванеева
Аранская вул.
вул. Маякоўскага
Мастацкая вул.
Кузнечная вул.
Азрадромная вул.
Брылеўская вул.
вул. Чкалава
праспект Дзяржынскага
Чыгуначная вул.
Грушаўская вул.
вул. Алібегава
Жылы раён
Паўднёва-Захад
прасп. Любімава
КАСТРЫЧНІЦКІ
РАЁН
Жылы раён Курасоўшчына
вул. Ландара
пл. Казінца
вул. Асанаіліева
Асіповіцкая вул.
вул. Серова
у Слуцк
у Салігорск
у Асіповічы
у Баранавічы
Брэсцкая шаша
у Стоўбцы
у Брэст
вул. Сцебенева
Барадзінская вул.
вул. Чыжэўскіх
Жылы раён
Серабранка
праспект Рокасоўскага
вул. Якубава
ПАРТЫ

# МІНСК




ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЧАСТКА ГОРАДА

Першамайскі раён

Заводскі раён

Жылы раён Усход

Жылы раён

Ангарская вул.

Партызанскі праспект

Свіслач

у Лагойск, у Хатынь, у Віцебск

Маскоўская шаша у Смаленск, у Маскву

у Оршу

у Магілёў, у Бабруйск, у Гомель, Магілёўская шаша

Магільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы славы, помнікі зямлянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц
- дасавецкага перыяду
- савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні
- дасавецкага перыяду
- савецкага перыяду

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

Чыгункі

Паркі, скверы, зялёныя масівы

ГРАНІЦЫ
- горада Мінска
- раёнаў горада

Транспартныя развязкі на перасячэнні Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі з выездамі з горада

# УВОДЗІНЫ

Мінск — сталіца Беларускай ССР, горад рэспубліканскага падпарадкавання, цэнтр Мінскай вобласці і раёна. Палітычны, адміністрацыйны, эканамічны, навуковы і культурны цэнтр рэспублікі, горад-герой (26.6.1974 г.). Тут працуюць Цэнтральны Камітэт КПБ, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, Савет Міністраў БССР, рэспубліканскія міністэрствы і ведамствы, абласныя, гарадскія і раённыя партыйныя, савецкія, гаспадарчыя органы і арганізацыі, а таксама рэспубліканскія, абласныя, гарадскія і раённыя грамадскія арганізацыі. Значны транспартны (чыгуначных і аўтамабільных дарог) вузел СССР, галоўны — рэспублікі і вобласці. Аэрапорты: Мінск-1, Мінск-2. Насельніцтва на 1.1.1987 г. 1565,5 тыс. жыхароў. Падзяляецца на 9 адміністрацыйных раёнаў: Заводскі, Кастрычніцкі, Ленінскі, Маскоўскі, Партызанскі, Першамайскі, Савецкі, Фрунзенскі, Цэнтральны. Размешчаны на р. Свіслач, прытоку Бярэзіны.

Мінск знаходзіцца на паўднёва-ўсходнім схіле Мінскага ўзвышша. Рэльеф разнастайны, ваганні ў межах горада складаюць амаль 100 м. На захадзе ў наваколлі Ракаўскай шашы (паміж вул. Ціміразева і Харкаўскай) найбольш узвышаная частка горада з абсалютнай вышынёй 280 м. На паўднёвым усходзе ў пойме р. Свіслач у раёне Чыжоўкі самая нізкая адзнака — 185 м. Важным элементам рэльефу горада з'яўляецца даліна р. Свіслач з дзвюма надпоймавымі тэрасамі на вышыні 10—20 м над межанным узроўнем ракі, у бок даліны Свіслачы мясцовасць паніжаецца да 220 — 200 м. Паўднёва-ўсходняя ўскраіна горада развіваецца ў бок Цэнтральнабярэзінскай раўніны, якая мае згладжаны рэльеф, значную забалочанасць. У горадзе і яго наваколлі р. Свіслач прымае прытокі Вячу, Нямігу, Ратамку, Слепню, Трасцянку, Цну. На паўднёвы захад ад Мінска цячэ р. Пціч — прыток Прыпяці. На рэках у межах Мінска ў прыгараднай зоне пабудаваны вадасховішчы: Воўчкавіцкае, Вяча, Дразды, Заслаўскае, Камсамольскае возера, Крыніца, Пятровіцкае і інш.; дзейнічаюць Вілейска-Мінская і Сляпянская водныя сістэмы. Горад увабраў прыродныя лясныя масівы, часткай якіх з'яўляюцца паркі імя Чэлюскінцаў і імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка. У зонах адпачынку Вяча, Раўбічы, Вясёлка, Вяснянка лесапасадкі. Пераважае хвоя, пашыраны елка, бяроза, асіна, вольха, вярба і інш. У зоне Заслаўскага вадасховішча размешчаны лесапаркі са значнымі плошчамі хваёвых насаджэнняў. Фарміруецца адзіная сістэма паркаў і лесапаркаў, звязаных паміж сабой бульварамі, скверамі, алеямі. У спалучэнні з вадаёмамі яны ўтвараюць гарадскі водна-зялёны дыяметр.

Першыя звесткі аб засяленні тэрыторыі Мінска і яго ваколіц адносяцца да эпохі неаліту (пачаўся ў канцы 5 — пачатку 4-га тысячагоддзя да н. э.). Людзі рассяляліся па берагах вадаёмаў і невялікіх рэк, іх паселішчы размяшчаліся на рачных тэрасах пры вусцях рэк, на берагах старыц і пясчаных дзюнах. Асноўнымі заняткамі насельніцтва былі рыбалоўства, паляванне і збіральніцтва, пад канец эпохі ўзніклі вытворчыя формы гаспадаркі — прымітыўнае земляробства і жывёлагадоўля. Побач з крамянёвымі сякерамі, матыкамі, долатамі, скрабкамі, цёсламі, скрэбламі выраблялiся прылады працы і рэчы ўжытку з рогу, косці, дрэва. Найважнейшай рысай неаліту з'яўляецца вынаходства керамічнай вытворчасці. Гліняны посуд выраблялі ўручную і абпальвалі на агні. Здабыча сродкаў існавання і іх спажыванне былі калектыўныя, усе асноўныя матэрыяльныя каштоўнасці лічыліся агульнай уласнасцю. Але асобныя сем'і ўжо мелі больш выразную эканамічную незалежнасць.

Неалітычныя паселішчы выяўлены на поўнач ад Старажоўкі, у парку Перамогі (на паўночна-ўсходнім беразе Камсамольскага возера, у раёне вул. Ціміразева і Гвардзейскага завулка), прылады працы неалітычнага часу знойдзены на тэрыторыі Батанічнага саду АН БССР.

Бронзавы век на Міншчыне пачаўся ў канцы 3 — пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. Бронзавы век характарызаваўся з'яўленнем медных і бронзавых вырабаў, аднак адсутнасць на Беларусі сы-

равіны для іх вытворчасці абумовіла выраб тут амаль на працягу ўсёй эпохі каменных прылад працы. Пры іх апрацоўцы скарыстоўвалі шліфаванне, свідраванне, пілаванне. Адбывалася далейшае развіццё земляробства і жывёлагадоўлі, паступова яны станавіліся пануючымі формамі гаспадаркі, пашыраўся абмен паміж плямёнамі. Асноўную ролю ў гаспадарчым і грамадскім жыцці з часам пачалі адыгрываць мужчыны, складваўся патрыярхальна-родавы лад (патрыярхат). Прыкметы паселішчаў бронзавага веку выяўлены ў раёне вул. Ціміразева, Гвардзейскага завулка, праспекта Машэрава, на паўднёвы захад ад Камсамольскага возера, каля Батанічнага саду АН БССР. Каменныя сякеры бронзавага веку знойдзены ў час земляных работ на тарфяніку каля вёсак Ратамка і Калодзішчы. У ваваколлі горада знойдзены скарб бронзавых вырабаў, у т. л. 2 сякеры так званага меларскага тыпу позняга бронзавага веку. У Мінску знойдзена каменная булава, упрыгожаная перакрыжаванымі рыскамі — сімвал улады ў раннім патрыярхаце.

У 7—6 стагоддзях да н. э. пачаўся жалезны век. Плямёны, што жылі на тэрыторыі Міншчыны, навучыліся здабываць жалеза і выраблять з яго прылады працы, зброю, рэчы ўжытку. Выкарыстанне жалезных прылад працы спрыяла далейшаму развіццю земляробства і жывёлагадоўлі, стварала ўмовы для атрымання прыбавачнага прадукту. Маёмасная няроўнасць паскорыла працэс распаду першабытнаабшчынных адносін, абвастрыліся супярэчнасці паміж родамі і плямёнамі. Складваліся ўмовы для ўзнікнення прыватнай уласнасці, класаў і дзяржавы. У раннім жалезным веку б. ч. тэрыторыі цэнтральнай Беларусі насялялі плямёны культуры штрыхаванай керамікі. Гарадзішчы гэтай культуры выяўлены недалёка ад Мінска каля вёсак Банцараўшчына, Гарадзішча, Лабеншчына і інш. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, здабычай і апрацоўкай жалеза, ганчарствам і інш., жыло ў доўгіх наземных жытлах слупавой канструкцыі, падзеленых на некалькі памяшканняў, з каменна-глінабітнымі агнішчамі, выраблялa жалезныя прылады працы і зброю, грубы слабаабпалены таўстасценны вастрарэберны посуд, пакрыты штрыхамі, а таксама слабапрафіляваную і слоікападобную кераміку. На тэрыторыі Мінскага р-на пашыраны помнікі культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі). Кераміка гэтай культуры знойдзена ў вусці р. Няміга пры раскопках Ніжняга рынку ў 1986 г.

У 9—10 стагоддзях тэрыторыю цэнтральнай Беларусі насялялі ўсходнеславянскія плямёны дрыгавічоў і крывічоў. Граніца іх рассялення праходзіла па поўнач і паўночны захад ад Мінска, прыкладна па лініі Барысаў — Лагойск — Заслаўе — Маладзечна. Археалагічныя помнікі дрыгавічоў — курганныя могільнікі спачатку з пахавальным абрадам трупаспалення, з канца 10 ст.— трупапалажэння. У пахаваннях разам з прыладамі працы, керамікай, упрыгожаннямі і зброяй трапляюцца драўляныя зрубы з двухсхільнымі дахамі. Этнавызначальная адзнака дрыгавічоў — зярнёныя пацеркі. Дрыгавічы ўпамінаюцца ў «Аповесці мінулых гадоў» у сувязі з падзеямі, што папярэднічалі 9 ст., належалі да найбольш развітых у сацыяльных адносінах плямён, знаходзіліся на заключнай стадыі распаду родаплемяннога ладу, мелі сваё палітычнае аб'яднанне — «княжанне». Курганныя могільнікі выяўлены на тэрыторыі Мінска (раён праспектаў імя газеты «Праўда» і Любімава, вуліц Казінца, Сямашкі, Сцебенева). Курганныя могільнікі і паселішчы 10—11 стагоддзяў размяшчаліся на берагах р. Лошыца, правага прытока р. Свіслач. Упрыгожанні дрыгавіцкага тыпу знойдзены пры раскопках Мінскага замчышча.

Мінск (летапісны М е н е с к, М е н ь с к) знаходзіўся ў паўднёвай частцы Полацкага княства. У летапісах упершыню ўпамінаецца ў сувязі з падзеямі, якія адбываліся ў Полацкай зямлі ў 1067 г. У час княжацкіх міжусобіц кіеўскі князь Ізяслаў Яраславіч разам з братамі пераяслаўскім князем Усеваладам і чарнігаўскім князем Святаславам выступіў у паход супраць полацкага князя Усяслава Брачыславіча. Аб'яднаныя сілы Яраславічаў паявіліся пад Мінскам. На вечы «мяняне» рашылі абараняць горад. Яны зачыніліся ва ўмацаванай частцы горада, але Яраславічы захапілі Мінск да прыходу войска Усяслава. Горад быў разрабаваны, насельніцтва ўзята ў палон, часткова знішчана. Потым Яраславічы рушылі да р. Няміга, на берагах якой 3 сакавіка 1067 г. адбылася жорсткая бітва. Войска Усяслава было разбіта, а сам князь вымушаны быў уцячы. З пачуццём вялікага жалю аб пагібелі людзей на берагах Нямігі паведамляў аўтар «Слова аб палку Ігаравым»: «На Немизе снопы стелют головами, молотят чепи харалужными, на тоце живот кладут, веют душу от тела. Немизе кровави брезе не бологом бяхуть посеяни — посеяни костьми руских сынов».

Акадэмік АН БССР А. М. Ясінскі, звязваючы паходжанне назвы горада Менск з гідронімам Менка, выказаў меркаванне, што горад Мінск узнік і склаўся на рацэ Менцы, а потым быў перанесены на сучаснае месца.

Археалагічныя даследаванні пацвердзілі, што ў 10 ст. на р. Менка (каля в. Гарадзішча Шчомысліцкага сельсавета Мінскага р-на) у густа заселенай мясцовасці, дзе вядома мноства старажытных курганоў, існавала значнае паселенне, якое ў 1-й палове 11 ст. дасягнула росквіту. Вялікія памеры яго пасада, знаходка ў вярхоўях р. Пціч 3 скарбаў куфічных манет 10 — 1-й паловы 11 ст. сведчаць аб існаванні тут важнага населенага пункта. Магчыма, гэта і быў вядомы па летапісах Менск. Размяшчэнне горада на невялікай рацэ, відаць, стрымлівала яго рост ва ўмовах далейшага



*Мінскае замчышча. Здымак пачатку 20 ст.*

развіцця феадальнага грамадства. Каля сярэдзіны 1070-х гадоў у вусці Нямігі на правым беразе Свіслачы былі зроблены магутныя ўмацаванні адміністрацыйнага і ваеннага цэнтра. За новым горадам пакінулі старую назву — Менск. Вакол дзядзінца ў 12 ст. паступова развіваўся пасад.

На Мінск неаднаразова рабілі паходы паўднёварускія князі, у т. л. кіеўскі князь Уладзімір Усевалададавіч Манамах, бо полацкія і іншыя князі імкнуліся адасобіцца ад Кіева. У сваім «Павучанні» Уладзімір Манамах пры апісанні падзей 1083—1084 гг., калі яшчэ быў чарнігаўскім князем, расказвае, як ён з чарнігаўскім войскам і полаўцамі захапіў Мінск.

У 2-й палове 11 ст. Мінск знаходзіўся пад уладай Полацка. Ён меў сваё веча, гарадское апалчэнне і, верагодна, пасадніка (намесніка), таму што гарады, дзе не было сваіх князёў, кіраваліся полацкім князем цераз пасаднікаў. У канцы 11 — пачатку 12 ст. Мінск стаў цэнтрам удзельнага княства. Тут княжыў сын Усяслава Брачыславіча Глеб, які атрымаў Мінскае княства яшчэ пры жыцці бацькі. У 1073 г. ён быў заручаны з дачкой валынскага князя Яраполка Ізяславіча. Глеб спачатку быў у варожых адносінах з кіеўскім князем Святаполкам, але памірыўся з ім і ўваходзіў у антыманамахаўскую кааліцыю. Ён шмат зрабіў для ўмацавання і расшырэння Мінскага княства. У пачатку 12 ст. у княства, магчыма, уваходзілі Орша і Копысь, у залежнасці ад яго быў Друцк. Глеб Усяславіч доўгі час падтрымліваў сувязі з Пячэрскім манастыром у Кіеве, ён пабудаваў там трапезную, даў на патрэбы манастыра 600 грыўняў серабра і 50 грыўняў золата. Жонка Глеба таксама ахвяравала манастыру 100 грыўняў серабра і 50 грыўняў золата. Паводле яе завяшчання манастыру перададзены 5 сёл з чэляддзю, што сведчыць аб развіцці феадальных адносін у Мінскім княстве. Чэлядзь — назва феадальна залежнага насельніцтва, у 9—10 стагоддзях так называлі рабоў. Пазней тэрмін ужываўся для абазначэння больш шырокага кола залежных людзей, з сярэдзіны 11 — пачатку 12 ст. яго паступова замяніла назва «халопы». Адной з груп пануючага класа былі дружыннікі. Аб дружынніках мінскага князя Глеба ў летапісе пад 1116 годам сказана: «Глеб жа выйшаў з горада з дзецьмі і дружынай».

Пасля смерці полацкага князя Усяслава (1101 г.) паміж яго сынамі пачалася міжусобная барацьба. У пачатку 12 ст. у Полацку назіралася палітычная арыентацыя нашчадкаў Усяслава на асобныя дынастычныя лініі паўднёва-рускіх князёў: друцкія Барысавічы арыентаваліся спачатку па Манамаха і Манамахавічаў, мінскі князь Глеб і яго сыны — спачатку на Ізяславічаў, потым на Ольгавічаў. У 1104 г. паўднёва-рускія князі арганізавалі супраць Глеба Усяславіча няўдалы паход, у якім прыняў удзел яго брат Давыд Усяславіч. У 1115 г. на Мінскае княства напаў Уладзімір Манамах і разбурыў Друцк. У адказ на гэта Глеб Усяславіч зрабіў паход на тураўскія землі і спаліў г. Слуцк, які належаў кіеўскаму князю.

У 1116 г. Уладзімір Манамах разам з іншымі князямі накіраваўся да Мінска. Яго сын смаленскі князь Вячаслаў заняў Оршу і Копысь. Аб'яднанае войска чарнігаўскага князя Давыда Святаславіча і другога сына Манамаха пераяслаўскага князя Яраполка ўзялі прыступам Друцк. Сам Манамах падрыхтаваўся да аблогі Мінска. Ён прапанаваў Глебу, каб той прызнаў сябе васалам кіеўскага князя. Глеб спачатку згадзіўся, але потым не выканаў свайго абяцання. Тады ў 1119 г. Уладзімір Манамах захапіў Мінск, непакорны Глеб быў узяты ў палон і перавезены ў Кіеў, дзе неўзабаве памёр і быў пахаваны ў Пячэрскім манастыры. Праз 40 гадоў побач з ім была пахавана яго жонка мінская княгіня.

Пасля смерці Глеба Мінск быў падначалены вялікаму князю кіеўскаму Уладзіміру Манамаху, а потым яго сыну Мсціславу Уладзіміравічу. Пераканаўшыся, што паўднёва-рускія князі не змогуць падпарадкаваць сабе Полацк, Мсціслаў перавёў у 1132 г. адтуль у Мінск сына Ізяслава, якому аддаў таксама Тураў і Пінск. Да сярэдзіны 12 ст. адносіцца новае ўзвышэнне Мінска. Магчыма, з 1146 г. у Мінску стаў княжыць сын Глеба Усяславіча Расціслаў. Полацкія князі Усяславічы варагавалі паміж сабой і імкнуліся захапіць суседнія землі і полацкі прастол. У Іпацьеўскім летапісе паведамляецца, што ў 1151 г. палачане



*Пячатка-пломба з выявай мінскага князя Глеба.*



*Залаты бранзалет з раскопак Мінскага замчышча.*

выгналі свайго князя Рагвалода Барысавіча ў Мінск, дзе трымалі «ў вялікай нястачы», а на полацкі прастол запрасілі мінскага князя Расціслава Глебавіча. У Мінску намеснікам заставаўся яго брат Валадар. Другі яго брат Усевалад княжыў у Заслаўі, а сын Глеб — у Друцку. Такім чынам, Расціславу Глебавічу ўдалося аб'яднаць значную частку Полацкай зямлі. У 1158 г. Рагвалод Барысавіч з дапамогай сваіх прыхільнікаў заняў полацкі прастол. Расціслаў Глебавіч быў вымушаны ўцячы ў Мінск. Пачалася новая міжусобная вайна. Рагвалод Барысавіч зрабіў 3 беспаспяховыя паходы на Мінск (1159, 1160, 1161 гг.), але авалодаць горадам не змог.

Паводле археалагічных даследаванняў у Мінску ў 2-й палове 11—13 ст. высокага ўзроўню дасягнула рамяство. Аб гэтым сведчаць знойдзеныя ў час раскопак інструменты рамеснікаў, рэшткі майстэрняў, шматлікія вырабы з жалеза, каляровых металаў, косці, дрэва, скуры.

Вывучэнне жалезных вырабаў з раскопак Мінскага замчышча паказвае, што гарадскім рамеснікам была вядома тэрмічная апрацоўка жалеза, якая павышала яго якасці. Кавалі выраблялі абцугі, свярдзёлкі, долаты, нажніцы, замкі, іголкі, цвікі, ювеліры — разнастайныя ўпрыгожанні: пярсцёнкі, бранзалеты, спражкі, шпількі, падвескі і інш. Сярод знаходак археолагаў залаты бранзалет вагой 75,472 г, сплецены з некалькіх залатых тоўстых дратоў, на канцах — стылізаваныя змяіныя галоўкі. Шырока выкарыстоўвалася дрэва. З яго будавалі жытлы і гаспадарчыя памяшканні, вежы, а таксама выраблялі бочкі, вёдры, кубкі, верацёны, лыжкі, рыдлёўкі, ім масцілі вуліцы. Пры раскопках выяўлена шмат глінянага посуду, пераважна гаршкоў. Было развіта гарбарнае рамяство, са скуры шылі прыгожы вываратны абутак: боты, чаравікі, туфлі, а таксама кашалькі, ножны, футляры, рукавіцы. У гаспадарчым жыцці Мінска ў 11—13 стагоддзях пэўнае месца займалі прадзенне (з дапамогай верацяна, на канец якога насаджвалі грузік-прасліца) і ткацтва. У 13 ст. паявіліся гарызантальныя ткацкія станкі (кросны). Сыравінай для ткацтва служылі лён, пянька, а для вязання — воўна авечак.

Гандлёвыя сувязі Мінска з іншымі гарадамі і землямі не перапыняліся ні частымі войнамі, ні сутычкамі феадалаў. З Кіева прывозілі шкляныя вырабы, з Поўдня — амфары з вінам і аліўкавым алеем, самшыт, грэцкія арэхі, з Прыбалтыкі — бурштын.

Важным заняткам жыхароў старажытнага Мінска была сельская гаспадарка, аб чым сведчаць знаходкі землеапрацоўчых прылад, пшаніцы, ячменю, аўса, ільну, канапель, проса, бабоў і гароху. Збожжа малолі ў ручных жорнах, высечаных з каменю, крупы абдзіралі ў драўляных ступах. Займаліся гараджане і паляваннем, найчасцей на зубра, лася, дзіка, барсука. Важным промыслам было рыбалоўства.

Абставіны і дакладны час уваходжання Мінскага княства ў Вялікае княства Літоўскае не вызначаны. Адбываўся гэты працэс у 2-й палове 13 — першай чвэрці 14 ст. Ёсць меркаванні, што Мінская зямля трапіла пад уплыў Літоўскай дзяржавы ў канцы 13 ст., у склад Вялікага княства Літоўскага ўвайшла ў 1-й чвэрці 14 ст. Як паведамляе Ноўгарадскі першы летапіс, у 1325 г. сярод літоўскіх паслоў у Ноўгарадзе знаходзіўся «Василий, меньский князь», які быў васалам Гедыміна. Верагодна, у Мінскім княстве некаторы час існавала мясцовая княжацкая дынастыя. У 1387 г. вялікі князь літоўскі і кароль Польшчы Ягайла аддаў «горад Меньск» свайму брату Скіргайлу. Пасля Гарадзельскай уніі 1413 г. Мінск у складзе Віленскага ваяводства. У 2-й палове 15 ст. тут кіравалі намеснікі з мясцовых князёў — Іван Заслаўскі і Іван Красны, Мікалай Ільініч.

У каралеўскім прывілеі 1441 г. Мінск названы ў ліку 15 буйнейшых гарадоў Вялікага княства



*Абразок 12 — 1-й пал..зы 13 ст. з выявамі маці боскай і святога Пятра (вонка..а і адваротны бакі) з раскопак Мінскага замчышча.*

Літоўскага. Горад быў значным рамесным і гандлёвым цэнтрам. Тут атрымалі развіццё рамёствы, звязаныя з апрацоўкай металаў (у т. л. кавальскае, слясарнае) і дрэва, а таксама ювелірнае, гарбарнае, рымарнае, шавецкае, ганчарнае. Праз Мінск праходзілі старажытныя гандлёвыя шляхі, горад меў сталыя сувязі са Смаленскам, Вільняй, Магілёвам, Мсціславам, Полацкам, Віцебскам, Гродна, Брэстам, Слуцкам, Пінскам, Гомелем, Туравам, Рэчыцай, Рагачовам, з гарадамі Украіны. Аб росце эканомікі горада сведчыць павелічэнне пошліны з тавараў. З 1495 г. да 1525 г. арэндная плата за збіранне мыта вырасла з 120 да 450 коп грошаў. У 15 ст. у Мінску было каля 3—4 тыс. жыхароў. Пануючае становішча ў горадзе належала феадалам, заможным купцам і рамеснікам.

Вялікія разбурэнні гораду прычынялі войны і пажары. У час дынастыйнай барацьбы ў 1432—36 гг. паміж вялікімі літоўскімі князямі Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам Мінск у 1433 г. спалены войскам Свідрыгайлы, у 1505 г.— войскам крымскіх татараў на чале з ханам Махмет-Гірэем. Пажары 1547, 1552, 1569 гг. знішчылі амаль усю драўляную забудову горада.

Даравальнай граматай вялікага князя літоўскага ад 14.3.1499 г. Мінску дадзена самакіраванне паводле магдэбургскага права. Кіраўніцтва горадам перайшло да магістрата на чале з войтам, якога прызначаў вялікі князь звычайна з буйных феадалаў. Гараджане выбіралі 12 радцаў. Яны ў сваю чаргу разам з войтам выбіралі членаў рады — 2 бурмістраў, 4 радцаў, 4 лаўнікаў на гадавы тэрмін. Граматай дазвалялася пабудаваць у Мінску ратушу — адміністрацыйны будынак для пасяджэнняў магістрата, бурмістраўска-радзецкага суда, а таксама размяшчэння пастрыгальнай камеры (для раскрою тканін на продаж), крамы і хлебных клецяў. У ратушы павінны былі захоўвацца меры вагі, аб'ёмаў, прынятыя ў горадзе, сцяг горада. Мураваная ратуша (замест драўлянай) была пабудавана ў пачатку 17 ст. на тэрыторыі Верхняга рынку (цяпер пл. Свабоды), які стаў адміністрацыйным, гандлёвым і культурным цэнтрам горада.

Магдэбургскае права юрыдычна гарантавала права ўласнасці гараджан, рэгламентавала іх эканамічную дзейнасць, вызваляла ад падсуднасці і ўлады велікакняжацкіх ці каралеўскіх адміністратараў, спрыяла фарміраванню гарадскога саслоўя, характэрнага для феадальнага грамадства. Жыхары атрымалі шэраг прывілеяў, асабліва ў гандлі, былі ўстаноўлены пэўныя падаткі і павіннасці. Аднак частка гарадскіх зямель заставалася ўласнасцю феадалаў, духавенства, манастыроў, цэркваў і касцёлаў. Утвараліся так званыя юрыдыкі, якія сталі пастаянна дзейным фактарам (існавалі да 19 ст.) эканамічнага і палітычнага жыцця феадальнага Мінска. Уладальнікі юрыдык, зацікаўленыя ў выкарыстанні мясцовага рынку і дробнатаварнай вытворчасці для павелічэння даходаў, сялілі на іх сваіх прыгонных, якія займаліся пераважна рамяством, часам і гандлем. Юрыдыкі ў Мінску мелі князі Радзівілы, Друцкія-Горскія, Саламярэцкія, буйныя феадалы Корсакі і інш. Некаторыя юрыдыкі велікакняжацкімі граматамі вызваляліся ад падаткаў і павіннасцей. Кіраўніцтва ў іх ажыццяўлялі старосты, або войты, прызначаныя ўладальнікамі, быў свой суд. Паміж магістратам, які імкнуўся пашырыць судовую і адміністрацыйную ўладу на ўсіх жыхароў горада, і ўладальнікамі юрыдык ішла жорсткая барацьба.

Пацвярджальным прывілеем на магдэбургскае права ад 12.1.1591 г. Мінск атрымаў герб: выява дзевы Марыі на блакітным полі. Выявы герба былі на сцягах горада, будынках, што належалі магістрату, на гарадской пячатцы; кляймом з выявай герба мецілі тавары, што вывозілі з Мінска. У выніку адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы 1564—66 гг. горад стаў цэнтрам Мінскага ваяводства і павета. З канца 16 ст. тут засядаў вышэйшы апеляцыйны суд Вялікага княства Літоўскага — Галоўны літоўскі трыбунал.

Рамесніцкая вытворчасць у сярэдневяковым Мінску развівалася ў абставінах феадальнага дэспатызму і эканамічнага наступлення шляхты на правы гараджан. Каб супрацьстаяць гэтаму і забяспечыць сваю манаполію на рынку, рамеснікі аб'ядноўваліся ў карпарацыі па прафесіі — цэхі. Першае ўпамінанне аб арганізацыі ў Мінску цэхаў адносіцца да 1552 г. У 16 ст. існавалі цэхі металістаў, краўцоў, ювеліраў. У сярэдзіне 17 ст. у горадзе было больш за 80 спецыяльнасцей рамеснікаў. Рэгулярна праводзіліся таргі і кірмашы, пашыраліся гандлёвыя сувязі Мінска. Праз Барысаў, Оршу, Смаленск, Вязьму, Мажайск ішла дарога з Мінска на Маскву. Гандлёвыя шляхі звязвалі Мінск з гарадамі Украіны, Польшчы, Прыбалтыкі. Мінскія купцы вывозілі лесаматэрыялы, смалу, воск, футра, вырабы з жалеза, шкла і скуры, прывозілі соль, віно, тканіны, металы і вырабы з іх, прыправы і інш.

У працэсе фарміравання беларускай народнасці ў 14—16 стагоддзях культура беларускага народа набывала самабытны характар, нацыянальную своеасаблівасць. У Вялікім княстве Літоўскім да канца 17 ст. беларуская мова была дзяржаўнай. На ёй вялі справаводства ва ўстановах, пісалі статуты, летапісы, хронікі, свецкія і царкоўныя творы.

Адначасова ў грамадска-палітычным жыцці Мінска значнае месца займала дзейнасць каталіцкіх манаскіх ордэнаў. Пранікненне каталіцызму на Беларусь актывізавалася пасля Крэўскай уніі 1385 г. і асабліва пашырылася ў 16 ст. Гэтаму спрыяла заключэнне Люблінскай уніі 1569 г., у выніку якой Вялікае княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую, і асабліва Брэсцкай царкоўнай

уніі 1596 г.— аб зліцці каталіцкай і праваслаўнай цэркваў ва уніяцкую царкву на ўмовах прызнання вяршынства рымскага папы і асноўных догмаў каталіцкай царквы пры захаванні праваслаўнай абраднасці. Каталіцкія манаскія ордэны езуітаў, дамініканцаў, бернардзінцаў, францысканцаў, базыльян, бенедыкцінак і інш. атрымлівалі ў межах горада землі, будавалі касцёлы і кляштары, адкрывалі калегіумы і школы, друкарні, школьныя тэатры з мэтай падпарадкаваць свайму ўплыву праваслаўнае насельніцтва.

Пашырэнне і актывізацыя каталіцкай царквы выклікала пратэст у мінчан. Магістрат Мінска ў 1609 г. адмовіўся прызнаваць уніяцкіх мітрапалітаў. Цэнтрамі супраціўлення каталіцызму сталі нацыянальна-рэлігійныя арганізацыі праваслаўных гараджан — брацтвы. Яны фарміравалі пазіцыю гараджан у рэлігійна-палітычнай барацьбе, рашуча выступалі супраць акаталічвання і паланізацыі беларускага праваслаўнага насельніцтва, змагаліся за захаванне беларускай мовы і культуры. Адначасова брацтвы імкнуліся вырашаць грамадскія асветніцка-дабрачынныя задачы — навучанне дзяцей у школах асновам ведаў, што диктавалася патрэбамі развіцця рамяства і гандлю, арганізацыі медыцынскай дапамогі насельніцтву (стварэнне шпіталяў) і інш. Першае ў Мінску брацтва мяшчан-аднаверцаў «закону рускага грэчаскага» заснавана ў 1592 г. Буйное Петрапаўлаўскае брацтва склалася ў 1612—14 гг. пры манастыры Пятра і Паўла. У сярэдзіне 17 ст. у горадзе было 7 брацтваў. Пры брацтвах адкрываліся школы. Уніяты імкнуліся падарваць уплыў праваслаўных брацтваў, спрабавалі стварыць свае падобныя арганізацыі і школы. Так, Троіцкаму уніяцкаму манастыру ў Вільні ў 1605 г. было дазволена адкрыць школы ў Навагрудку, Мінску і інш. месцах на той падставе, што манахі гэтага манастыра вельмі дасведчаны ў «навуках вызваленых». Адначасова ў горадзе з'явіліся абшчыны прыхільнікаў рэфармацыі розных кірункаў, Мінск стаў адным з асяродкаў кальвінізму, які пашыралі і падтрымлівалі мясцовыя магнаты, у прыватнасці Радзівілы, а таксама багатыя гараджане. У 1564 г. у горадзе ўзнікла кальвінісцкая абшчына, якая пабудавала малельны дом (т. зв. збор) і заснавала вуліцу — Зборaўскую; дзейнічала кальвінісцкая школа, дзе побач з рэлігійным навучаннем і выхаваннем значная ўвага аддавалася свецкім навукам. Наяўнасць розных рэлігійных плыней раз'ядноўвала гараджан.

У вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. каля Мінска адбыліся ўзброеныя сутычкі паўстанцаў з войскамі шляхты і наёмнікаў. У час вайны 1654—67 гг. паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай за Украіну і Беларусь Мінск у ліпені 1655 г. заняты рускімі войскамі. У горадзе некаторы час канцэнтраваліся галоўныя сілы рускай арміі пад камандаваннем князя Я. К. Чаркаскага і казацкія атрады І. Залатарэнкі. У выніку ваенных дзеянняў горад быў спустошаны, аб чым сведчыць пададзеная ў ліпені 1657 г. на імя цара Аляксея Міхайлавіча чалабітная мінскіх мяшчан, у якой яны пісалі, што раней у Мінску было шмат купцоў і гандлёвых людзей, «...а цяпер мы, сіроты твае, да канца даведзены да галечы, не дабудзем і хлеба купіць...». Пасля вайны ў горадзе засталося каля 2 тыс. жыхароў і крыху больш як 300 дамоў. У 1694 г. вялікі пажар знішчыў большую частку гарадской драўлянай забудовы. Але ўжо ў 1697 г. стольнік Пятра І П. Талстой адзначаў, што горад амаль адноўлены і «пабудовы каменнай у Мінску нямала».

У Паўночную вайну 1700—21 гг. шведскія войскі ў 1708 г. захапілі Мінск, налажылі на жыхароў вялікую кантрыбуцыю; у выніку эпідэміі 1710—11 гг. горад зноў панёс цяжкія людскія страты. У 1706 г., калі ў Мінску стаялі рускія войскі, у адным з будынкаў езуіцкага калегіума на Верхнім рынку некаторы час жыў Пётр І, у 1708 г. у езуітаў спыняўся шведскі кароль Карл XII.

На працягу 16—17 стагоддзяў пэўнае развіццё атрымалі асвета, кнігадрукаванне, тэатральнае і музычнае, дэкаратыўна-манументальнае і станковае мастацтва. У мінскай друкарні ў 1596 г. надрукаваны артыкул М. Смятрыцкага супраць кнігі І. Пацея «Унія». У друкарні Святадухаўскага манастыра базыльян апрача рэлігійных выпускаліся і свецкія кнігі, у бібліятэцы былі сабраны рукапісы, кнігі, каштоўныя гістарычныя дакументы, у т. л. беларуска-літоўскі Нікіфараўскі летапіс.

Развівалася дэкаратыўна-манументальнае мастацтва — фрэскавы жывапіс, драўляная скульптура, разьба па дрэве, якімі багата аздабляліся мінскія цэрквы і касцёлы. Фрэскавая размалёўка ўпрыгожвала фасад царквы Святога Духа базыльянскага манастыра, інтэр'еры езуіцкага (маст. А. Анташэўскі) і бернардзінскага касцёлаў.

З'явіліся творы жывапісу, звязаныя з мясцовай мастацкай школай («Маці боская Мінская», 1-я палова 16 ст.; «Нараджэнне Хрыста», 17 ст., і інш.). У 17—18 стагоддзях у аздабленні інтэр'ераў і фасадаў грамадзянскіх і культавых будынкаў мастакі выкарыстоўвалі паліхромную размалёўку, драўляную і стукавую скульптуру, каваныя вырабы (цэрквы Петрапаўлаўская і Святога Духа, касцёлы дамініканцаў, езуітаў, бернардзінак і інш.). У 18 ст. у Мінску працавалі мастакі А. Анташэўскі, М. Бейтнік, Я. Брэтцар, І. Дарэці, Я. Шаферс і інш., у канцы 18 — пачатку 19 ст. А. Галавацкі, Ю. Г. Главацкі, Ю. Пешка (выканаў шэраг партрэтаў жыхароў Мінска, акварэльных краявідаў горада).

Першыя тэатральныя паказы ў Мінску вядомы з 1692 г.; ставіліся ў школьным тэатры пры калегіуме езуітаў. Рэпертуар складаўся з бытавых сатырычных камедый, т. зв. школьных драм на гістарычныя і рэлігійныя тэмы: «Уступленне на трон рымскага імператара Севера», «Уладзіслаў Ягела,

кароль польскі, і разгром ім крыжакоў пад Грунвальдам», «Пра Барыса і Глеба» і інш. Важным кампанентам школьных спектакляў былі шматгалосыя харавыя спевы. Мелі пашырэнне дамашнія спектаклі з удзелам лялечнага тэатра (батлейкі) і выступленнямі скамарохаў. У 2-й палове 18 ст. у Мінску музычна-тэатральныя паказы ставілі школьны тэатр пры калегіуме езуітаў і ў школе пры манастыры базыльян. З 1796 г. паказваліся спектаклі на рускай і польскай мовах, выступалі трупы пад кіраўніцтвам А. Ш. Жукоўскага, М. Кажынскага, Я. Хелмікоўскага, В. Драздоўскага. У 1797 г. М. Кажынскі стварыў у Мінску першы сталы тэатр, дзе паказы ішлі на польскай мове.

У 1790 г. у горадзе 6,5—7 тыс. жыхароў, налічвалася 980 дамоў, у т. л. 14 манастырскіх і 5 царкоўных пабудоў.

У 1793 г. у выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай Мінск уз'яднаны з Расіяй і паводле ўказа Сената ад 3.4.1793 г. стаў адміністрацыйным цэнтрам Мінскай губерні, з 3.5.1795 г.— цэнтр Мінскага намесніцтва, з 12.12.1796 г.— аднаўленай губерні. У адпаведнасці з даравальнай «Граматай на правы і прывілеі гарадам Расійскай імперыі» 1785 г. распарадчым органам гарадскога самакіравання ў Мінску з 1795 г. была гарадская дума, якая выбіралася на трохгадовы тэрмін, выканаўчым — шасцігалосная дума (па 1 прадстаўніку ад 6 саслоўных груп насельніцтва горада; у 1875 г. заменена гарадской управай). Захаваўся і магістрат (да 1870 г.), але дзейнасць яго абмяжоўвалася функцыямі суда і рэкруцкага набору. Уключэнне Беларусі ў сістэму ўсерасійскага рынку зрабіла станоўчы ўплыў на развіццё ўсіх галін эканомікі, рост гандлю, у т. л. і ў Мінску. Былі скасаваны шматлікія таможныя зборы, адменены пошліны на вываз у Польшчу і Прыбалтыку сельскагаспадарчых прадуктаў. Каб некалькі ўзняць эканоміку губернскага цэнтра, купцы і рамеснікі на 2 гады былі вызвалены ад плацяжоў акладных збораў. У 1796 г. у Мінску 5,8 тыс. жыхароў, каля 1000 дамоў, у 1800 г.— 6,7 тыс., у 1811 г.— 11,2 тыс. жыхароў.

Нашэсце напалеонаўскіх войск перапыніла працэс развіцця горада. 26.6.1812 г. Мінск захапілі войскі корпуса французскага маршала Л.-Н. Даву, якія 4 дні рабавалі горад і яго ваколіцы. Тут былі размешчаны вялікі гарнізон, склады і шпіталі. За час акупацыі насельніцтва зменшылася больш чым у 3 разы і складала 3,5 тыс. чалавек. Мінск вызвалены 4.11.1812 г. авангардам рускіх войск пад камандаваннем генерала Ламберта, што ўваходзіў у склад 3-й Заходняй арміі адмірала П. В. Чычагова.

На грамадска-палітычнае жыццё Мінска ў 19 ст. значна ўплывалі ідэі рускага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху. У 1815 г. у горадзе жыў будучы дзекабрыст К. Ф. Рылееў, у 1821—22 гг.— кіраўнік «Паўночнага таварыства» М. М. Мураўёў, член гэтага таварыства А. А. Бястужаў (Марлінскі). М. М. Мураўёў напісаў у Мінску (1821 г.) 1-ы варыянт канстытуцыі будучай рускай дзяржавы — праграмны дакумент таварыства, вядомы пад назвай «мінскі варыянт» канстытуцыі. У Мінск прыязджалі пісьменнікі Ф. Глінка, А. Грыбаедаў, М. Гоголь, Л. Талстой.

У час паўстання 1830 — 31 гг. у Польшчы, Літве і на Беларусі ўрад абвясціў у Мінску і губерні ваеннае становішча. У перыяд уздыму сялянскага і грамадска-палітычнага руху на Беларусі ў 1846—49 гг. у Мінску дзейнічала аддзяленне тайнай арганізацыі «Саюз свабодных братоў». Члены саюза вялі прапаганду сярод вучняў гімназіі і дваранскага вучылішча, салдат і афіцэраў гарнізона, у фальварку Бараўляны выраблялі зброю. У час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 гг. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве ў горадзе была створана ў 1861—62 гг. і дзейнічала паўстанцкая арганізацыя, якая ажыццяўляла падрыхтоўку і кіраўніцтва паўстаннем у Мінску і губерні. На чале яе стаялі прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні — «чырвоныя»: А. Д. Трусаў, Я. І. Козел, К. В. Марцінкевіч, К. Станкевіч і інш. Былі створаны паўстанцкія губернскія, павятовыя, гарадскія органы ўлады. Мінскім губернскім ваенным арганізатарам прызначаны С. В. Ляскоўскі, паўстанцкім губернскім камісарам — М. А. Аскерка. Мінскія паўстанцкія атрады, сфарміраваныя з рамеснікаў, навучэнцаў, дробных чыноўнікаў, ваенных і інш., з мая да восені 1863 г. змагаліся з царскімі войскамі на тэрыторыі губерні.

З 2-й паловы 19 ст. эканамічныя, сацыяльныя, палітычныя працэсы, што адбываліся ў Мінску, гарадская забудова вызначаліся развіццём капіталістычных адносін у краіне. У 1861 г. у горадзе было каля 27 тыс. жыхароў, з 1565 будынкаў 851 мураваны. Росту і развіццю горада садзейнічала будаўніцтва шляхоў зносін. Праз Мінск прайшлі пабудаваная ў 1846 г. Маскоўска-Варшаўская шаша, у 1871 г.— Маскоўска-Брэсцкая, у 1873 г.— Лібава-Роменская чыгункі, якія злучылі горад з цэнтрамі Расіі, Польшчы, Прыбалтыкі і Украіны. Былі пабудаваны вакзалы і дэпо, у 1871 г.— чыгуначныя майстэрні. Узнік шэраг прадпрыемстваў,


*Будынак Брэсцкага вакзала. Пачатак 20 ст.*

у т. л. цагельныя, суконныя, тытунёвыя, піваварныя, шпалернае, 2 шклозаводы, майстэрня па вырабу плугоў і малатарняў. У 1881 г. заснаваны машынабудаўнічы і чыгунамеднаметалургічны завод (т. зв. Кашарскі, на ім у 1900 г. працавалі 102 чалавекі), у 1896 г.— машынабудаўнічы і кацельны завод (Вакзальны). У 1874 г. у Мінску пачаў дзейнічаць водаправод з паравой помпай. У 1890 г. праведзены тэлефон, у 1894 г. дала ток першая электрастанцыя. Паводле перапісу 1897 г. у Мінску 90,9 тыс. жыхароў; у 1899 г. было 200 вуліц і завулкаў. У 1900 г. працавала 58 прадпрыемстваў, на іх 2,8 тыс. рабочых, у горадзе было 6 тыс. рамеснікаў. З 1858 г. да 1900 г. даходы горада павялічыліся з 21 тыс. да 208 тыс. рублёў. З ростам капіталістычных прадпрыемстваў скарачалася колькасць рамесных рабочых. У 1904 г. у Мінску ў 667 майстэрнях працавала каля 3,8 тыс. рамеснікаў. Развівалася металаапрацоўчая прамысловасць, павялічыўся выраб будаўнічых матэрыялаў, расла гарбарная вытворчасць. У горадзе было шмат гандлёвых і крэдытных устаноў. У 1873 г. заснаваны Мінскі камерцыйны банк, дзейнічалі філіял дзяржаўнага Азова-Данскога камерцыйнага банка, у 1890-я гады — аддзяленне Пецярбургска-Азоўскага банка. На рубяжы 19—20 стагоддзяў узніклі акцыянерныя таварыствы. У Мінску знаходзілася праўленне акцыянернага таварыства мазырскай запалкавай фабрыкі «Маланка» з асноўным капіталам 300 тыс. руб., 82 % акцый таварыства належала 6 мінскім прадпрыемцам. У 1901 г. заснавана акцыянернае таварыства крухмала-патачнага завода «Сокал» з асноўным капіталам 150 тыс. руб., у 1903 г.— акцыянернае таварыства «Прасвет». Акцыянернае таварыства гарадскіх і прыгарадных конных дарог і чыгунак Расіі пабудавала ў Мінску конку (рух пачаўся ў 1892 г.), таварыства «Шаўрахром» заснавала абутковыя фабрыкі «Скараход» і «Праца». Дзейнічалі сіндыкаты лесапрамыслоўцаў, цагельных заводаў, гандляроў газай і інш. Галоўнай галіной прамысловасці была харчовая. Прадукцыя дрожджа-вінакурных заводаў і тытунёвых фабрык вывозілася за межы губерні. Значнае месца ў жыцці горада займаў гандаль. У 1912 г. у Мінску налічвалася 1500 магазінаў і крам, большасць якіх былі дробнымі, праводзіліся кірмашы.

У 19 — пачатку 20 ст. больш інтэнсіўна развівалася культурнае жыццё горада. З 1830-х гадоў атрымала пашырэнне аматарскае музіцыраванне — камерныя канцэрты, пастаноўкі музычных спектакляў, выступленні ансамбляў беларускіх народных інструментаў на плошчах горада. У 1840—50-я гады ў Мінску выступаў тэатр Дуніна-Марцінкевіча — першы беларускі тэатральны калектыў, створаны драматургам і тэатральным дзеячам В. І. Дуніным-Марцінкевічам. Ён адначасова быў аўтарам многіх п'ес і лібрэта опер, пастаўленых тэатрам: у 1841 г. у Мінску паказаў вадэвіль на яго тэкст — «Рэкруцкі яўрэйскі



*Забудова Мінска. Від з левага берага р. Свіслач. Пачатак 20 ст.*

набор»; 9.2.1852 г. паставіў першую беларускую оперу «Ідылія» С. Манюшкі і К. Кжыжаноўскага на лібрэта В. І. Дуніна-Марцінкевіча; опера была паказана ў горадзе таксама ў 1853 г. і 1855 г. Тэатральныя паказы адбываліся ў будынку Ратушнага тэатра, які існаваў у 1847—51 гг. (гастролі ў ім даваў вядомы рускі трагік В. Каратыгін), у 1864—77 гг. праходзілі ў доме Дваранскага сходу. Сярод музыкантаў, якія зрабілі ўплыў на музычнае жыццё Мінска, вылучаюцца ўраджэнец Міншчыны кампазітар С. Манюшка (вучань Д. Стэфановіча), кампазітары Ф. Міладоўскі (у 1861 г. пастаўлена яго опера «Канкурэнты»), П. Карафа-Корбут, скрыпач і кампазітар М. Ельскі, ураджэнец Ігуменскага павета (Чэрвеньскі р-н). У развіцці музычнай адукацыі прыкметная роля братоў Дамініка і Вікенція Стэфановічаў, якія на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў былі дырыжорамі гарадскога духавога аркестра, кіравалі фартэпіяннымі класамі. У Мінску гастраліравалі вядомыя музыканты і спевакі Л. Аўэр, Г. і Ю. Вяняўскія, К. Давыдаў. Пасля забароны спектакляў на беларускай мове (1863 г.) тэатральна-музычнае жыццё абмяжоўвалася гастролямі пераважна рускіх і ўкраінскіх труп і асобных артыстаў. Перыядычна тут жылі і працавалі мастакі А. Шэмеш, В. Ваньковіч, Ф. Рушчыц, Я. Дамель, Л. Альпяровіч, І. Яроменка, Я. Кругер, артыст і паэт А. Макрэцкі, мастак і паэт Ч. Манюшка (бацька кампазітара С. Манюшкі), у доме якога ў 1830—31 гг. праходзілі літаратурныя вечары. У сярэдзіне 19 ст. адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры В. Дунін-Марцінкевіч наладжваў у сваім доме літаратурныя вечары, на якія збіраліся прадстаўнікі перадавой інтэлігенцыі горада — урач А. Пянкевіч (аўтар зборніка вершаў «Нашы песні»), белетрыст Ю. Гарайн, мастак А. Шэмеш, бібліяфіл і паэт І. Легатовіч. З Вільні і Варшавы ў Мінск прыязджалі С. Манюшка, У. Сыракомля, А. Плуг (у 1859 г. надрукаваў у Мінску зборнік вершаў «Голас з Літвы»), з Віцебшчыны — А. Вярыга-Дарэўскі, з Ігуменшчыны — краязнавец і піяніст А. Ельскі.

З 1838 г. выдавалася газета «Минские губернские ведомости» (да 1917 г.), у яе неафіцыйным аддзеле з 1844 г. друкаваліся літаратурныя творы

мясцовых аўтараў. Развівалася выдавецкая справа. У 1855 г. у друкарнях І. Дворца і братоў Бейліных выдадзены кнігі В. Дуніна-Марцінкевіча «Вечарніцы», «Гапон», у 1856 г.— «Цікавішся? — Прачытай!», у 1857 г.— «Дудар беларускі, або Усяго патроху». З 1859 г. у мінскай прэсе друкаваліся паэт-рэвалюцыянер І. Гольц-Мілер, Л. Вечар (Л. Шчарбовіч), Ф. Чапялінскі, М. Лойка і інш. У 1886—1902 гг. выдавалася першая на Беларусі легальная грамадска-палітычная і літаратурная газета «Минский листок» (перайменавана, выходзіла ў 1902—05 гг. пад назвай «Северо-Западный край»). На яе старонках змяшчаліся вершы на беларускай мове, былі надрукаваны вершы Я. Лучыны, 15.5.1905 г. апублікаваны верш Я. Купалы «Мужык» (першае выступленне паэта ў друку), друкавалі свае артыкулы па гісторыі, этнаграфіі, фальклору, мове і культуры Беларусі вучоныя М. Доўнар-Запольскі, А. Слупскі, М. Янчук, Я. Ляцкі, У. Завітневіч і інш., у 1889 г. упершыню была надрукавана сатырычна-гумарыстычная паэма «Тарас на Парнасе». Выдаваліся таксама газеты «Минские епархиальные ведомости» (1869—1917 гг.), «Голос провинции» (1906—07 гг.), «Белорусский вестник» (1904—05 гг.), «Минская речь» (1906 г.), «Минское слово» (1906—12 гг.), «Жизнь провинции» (1907 г.), «Минский курьер» (1908 г.), «Окраина» (1907—08 гг.), «Минское эхо» (1908—09 гг.), «Минский голос» (1909—18 гг.), «Северо-Западная жизнь» (1911—15 гг.), «Минская газета» (1912—18 гг.), часопіс «Лучынка» (1914 г.), які рэдагавала беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка А. С. Пашкевіч (Цётка), зборнік «Минская старина» (1909—13 гг.). Дзейнічалі кніжныя таварыствы «Мінчук» (1906—07 гг.), «Лучынка» (1914 г.), «Вясёлка» (1915 г.), выдавецтва «Саха» (1914—15 гг.). У 1910 г. у Мінску было 15 друкарняў і літаграфічных прадпрыемстваў.

У Мінску здаўна існавалі мастацкія майстэрні, якія выконвалі заказы на іканастасы, абразы і г. д. У сярэдзіне 19 ст. мастак-дэкаратар Я. Кураткевіч аформіў інтэр'еры тэатральнай залы ў будынку ратушы, выканаў дэкарацыі да шэрагу спектакляў. У пачатку 1860-х гадоў беларускі мініяцюрыст і кніжны графік Э. Адамовіч выдаў у Мінску Біблію з уласнымі гравюрамі, напісаў шэраг партрэтаў, у т. л. А. Міцкевіча. З ростам эканамічнага значэння горада ў канцы 19 ст. актывізавалася яго мастацкае жыццё. У 1891 г. арганізавана 1-я мастацкая выстаўка (экспанаваліся творы А. Бартэльса, Э. Сукоўскага, Я. Тышынскага і інш.). У 1899 г. адбылася выстаўка работ мастакоў-перасоўнікаў (экспанаваліся творы І. Рэпіна, У. Макоўскага, М. Касаткіна і інш.). З Мінскам канца 19 — пачатку 20 ст. звязана творчасць Г. Вейсенгофа (стварыў эскіз дыплома сельскагаспадарчай і прамысловай выстаўкі 1901 г.), С. Богуш-Сестранцэвіча (карціна «Баль у Мінску»), Б. Адамовіча, Э. Сукоўскага, З. Ленскага, І. Івашкевіча, П. Мрачкоўскай, Л. Альпяровіча, Дз. Дваракоўскага, Л. Пігулеўскага, К. Каганца, Я. Кругера (у 1904 г. арганізаваў у Мінску курсы малявання, рэарганізаваныя ў 1906 г. у прыватную школу малявання; існавала да 1914). Сярод мастакоў, якія працавалі ў Мінску ў дакастрычніцкі час, жывапісцы, скульптары і графікі В. Калашнікаў, Ф. Кулік, К. Ермакоў, К. Карсалін, А. Савіцкі, В. Струеў, М. Сляпян, І. Умецкі, К. Чэмка, Д. Леснікаў, браты І. і Ф. Ягоравы, іканапісцы А. Шчокатаў і Ф. Бабеш.

У 1890 г. у Мінску пабудаваны гарадскі тэатр, які адкрыўся 5 чэрвеня аматарскім спектаклем драмы «Сфінкс» А. Фелье. На сцэне тэатра паказы ставілі оперныя і драматычныя калектывы: мінская оперная трупа, якую ў 1890—91 гг. узначальваў дырыжор В. Сук, украінскія трупы пад кіраўніцтвам М. Крапіўніцкага, М. Садоўскага, М. Старыцкага, артысты пад кіраўніцтвам А. Ленскага і А. Яблачкінай, італьянская оперная трупа з удзелам М. Батыстыні, Парыжскі тэатр пад кіраўніцтвам М. Метэрлінка і інш. Выступалі ў Мінску выдатныя рускія драматычныя артысты В. Камісаржэўская, А. Южын, П. Арленеў, спевакі і музыканты А. Залоці, С. Рахманінаў, Ф. Шаляпін, пачыналі творчую дзейнасць В. Далматаў і М. Савіна. У канцы 1850 — пачатку 1860-х гадоў працавалі фартэпіянная фабрыка Бяляўскага, нотны магазін А. Валіцкага. У 1880 г. узнікла Музычна-літаратурнае таварыства, у 1886 г.— Музычнае таварыства, у 1896 г.— Музычны гурток, былі прыватныя музычныя школы. У 1898—1906 гг. дзейнічала Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў, якое мела 4 секцыі: літаратурную, драматычную, музычную і мастацкую. Пры драматычнай секцыі Таварыства арганізоўваліся вечары беларускай культуры, т. зв. беларускія вечарынкі. У 1906 г. члены гэтага таварыства стварылі літаратурна-артыстычнае таварыства, якое мела літаратурную і драматычную секцыі, садзейнічала арганізацыі аматарскіх тэатральных і літаратурна-драматычных гурткоў.

У 1910 г. у Мінску выступала Першая драматычная трупа І. Буйніцкага, у большасці пастаўленых спектакляў выкарыстаны традыцыйныя беларускія народныя танцы і песні.

Да сярэдзіны 19 ст. у горадзе працавалі дваранскае 5-класнае вучылішча, 2-класная прыход-



*Панарама Мінска. З гравюры сярэдзіны 19 ст.*

ская школа, духоўнае вучылішча, каталіцкая і праваслаўная духоўныя семінарыі, губернская гімназія (з 1803 г.); у 1879 г. адкрыта 4-класнае вучылішча, у 1880 г.— Мінскае рэальнае вучылішча, у 1896 г.— школа рамесных вучняў. У 1897 г. у 32 пачатковых і сярэдніх вучэбных установах 4,1 тыс. навучэнцаў. У 1899 г. заснавана жаночая гімназія, у 1905 г. адкрыта 3-класнае гарадское вучылішча. У 1913/14 навучальным годзе ў 62 навучальных установах Мінска (у т. л. гімназіях) вучылася 5 тыс. чалавек. У 1914 г. пачаў працаваць Мінскі настаўніцкі інстытут. У горадзе былі 3 бібліятэкі — «У памяць вайны 1812 г.», імя А. С. Пушкіна, імя Л. М. Талстога.

У 1872 г. створаны як самастойная ўстанова архіў скасаваных судовых месцаў Мінскай губерні, у 1908 г.— Мінскі царкоўна-археалагічны музей; у 1911 г. пачала дзейнічаць Мінская балотная доследная станцыя.

З 1863 г. дзейнічала (з перапынкамі) навуковае таварыства мінскіх урачоў, якое ў 1867 г. адкрыла медыцынскую бібліятэку, у 1910—15 гг. выдавала часопіс «Минские врачебные известия». У 1879 г. у горадзе адкрыта бясплатная лячэбніца для бедных, у 1895 г.— радзільны дом, у 1899 г.— першая амбулаторыя, у 1908 г.— фельчарска-акушэрская школа, у 1912 г.— амбулаторыя для хворых туберкулёзам.

З развіццём капіталістычных адносін фарміраваўся і рос новы клас буржуазнага грамадства — пралетарыят. Жорсткая эксплуатацыя, сацыяльны і нацыянальны прыгнёт, палітычнае бяспраўе стваралі аб'ектыўныя перадумовы для развіцця рабочага руху. Першая на Беларусі забастоўка адбылася ў сакавіку 1876 г. у Мінскіх майстэрнях Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. У ёй удзельнічала 300 рабочых, якія патрабавалі рэгулярнай выдачы заработнай платы. У 1886 г. баставалі ў Мінску рабочыя шпалерных майстэрняў, у 1888 г.— рамеснікі-слесары. У 1885 г. кавалі і слесары Мінска стварылі касу ўзаемадапамогі, якая ў 1887 г.ператварылася ў стачачную касу — першую ў заходніх губернях. У 1893 г. у горадзе стачачныя касы створаны рабочымі 15, у наступным годзе — 24 рамёстваў. Пэўны ўплыў на развіццё рабочага руху ў 1870—80-я гады мела дзейнасць разначынцаў-народнікаў, якая насіла рэвалюцыйна-дэмакратычны характар. У 1876 г. у Мінску створаны народніцкія падпольныя гурткі і групы. Яны аб'ядноўвалі прадстаўнікоў вучнёўскай моладзі (інтэлігенцкі гурток), рабочых слясарных майстэрняў, пазней і рабочых друкарняў (рабочы гурток), у 1877—87 гг. налічвалі 20—30 членаў. Пасля расколу ў 1879 г. народніцкай арганізацыі «Зямля і воля» на арганізацыі «Чорны перадзел» і «Народная воля» ў Мінск у 1879 г. і 1880 г. прыязджаў лідэр чорнаперадзельцаў Г. В. Пляханаў. Большасць мінскіх народнікаў падтрымала платформу «Чорнага перадзелу», якая ставіла за мэту падрыхтоўку народнай рэвалюцыі шляхам прапаганды сацыялістычных ідэй і разгортвання эканамічнай барацьбы, змену дзяржаўнага і грамадскага ладу Расіі, перадачу зямлі сялянам на аснове ўраўняльнага падзелу («чорнага перадзелу»), фабрык і заводаў рабочым, і ў выніку — пераход да сацыялізму (поўнага калектывізму). У 1879—82 гг. у горадзе дзейнічалі гурткі «Чорнага перадзелу». Яны мелі сувязі з гурткамі Гродна, Віцебска, Магілёва і інш., па ініцыятыве Г. В. Пляханава ў Мінску створана падпольная друкарня «Чорнага перадзелу» (працавала з вясны да канца 1881 г.), дзе надрукаваны 3—6-ы нумары газеты для рабочых «Зерно», 3—5-ы нумары часопіса «Чёрный передел», а таксама 5 пракламацый. У 1880—89 гг. дзейнічалі гурткі «Народнай волі». Яны аб'ядноўвалі прыхільнікаў новай тактыкі палітычнай барацьбы ў форме індывідуальнага тэрору. Пад уплывам рэвалюцыйнай прапаганды народнікаў да сярэдзіны 1880-х гадоў у Мінску ўзнікла сетка рабочых гурткоў у т. л. марксісцкага кірунку, якія мелі сувязі з групай «Вызваленне працы», з польскай рабочай партыяй «Пралетарыят». У пачатку 1894 г. С. С. Трусевіч арганізаваў 2 сацыял-дэмакратычныя гурткі, куды ўваходзілі рабочыя чыгуначных майстэрняў і металаапрацоўчага завода. З сярэдзіны 1890-х гадоў сярод рабочых фабрычна-заводскіх і рамесных прадпрыемстваў прапаганду марксізму і масавую агітацыю вялі сацыял-дэмакратычныя групы. У 1894 г. на базе цэхавых стачачных кас (цэхавых саюзаў) аформілася падпольная арганізацыя рамесных рабочых — Мінская рабочая арганізацыя. У 1896 г. яна аб'ядноўвала больш за 1000 чалавек, падтрымлівала сувязі з рабочымі арганізацыямі Пецярбурга, Вільні, Кіева, з групай «Вызваленне працы», якой даручыла прадстаўляць Мінскую рабочую арганізацыю на Лонданскім кангрэсе II Інтэрнацыянала (1896 г.). Пасля масавых арыштаў (сакавік 1897 г.) арганізацыя раскалолася. Частка яе членаў стварыла мясцовую арганізацыю леванародніцкай Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі (РППВР, кіраўнікі А. В. Бонч-Асмалоўскі, К. К. Брэшка-Брашкоўская), частка былых цэхавых саюзаў увайшла ў бунд. Пасля разгрому паліцыяй РППВР у 1900—01 гг. некаторыя яе члены ўвай-



*Выгляд горада з боку Замкавай гары. Пачатак 20 ст.*

шлі ў Мінскую арганізацыю эсэраў, што дзейнічала з вясны 1904 г. За 1894—1900 гг. у Мінску праведзена 65 стачак. У першай маёўцы рабочых горада ў 1895 г. удзельнічала 40 чал. 1 — 3.3.1898 г. у Мінску адбыўся I з'езд РСДРП. Ён праходзіў у доме № 135 па вул. Захар'еўскай (цяпер Ленінскі праспект) на кватэры чыгуначнага служачага сацыял-дэмакрата П. В. Румянцава. Рашэнні з'езда далі пачатак арганізацыйнаму афармленню марксісцкай партыі пралетарыяту Расіі. Рэвалюцыйную работу ў Мінску вёў Ф. Э. Дзяржынскі, які неаднойчы прыязджаў у горад; у 1900 г. у Мінску на з'ездзе Рабочага саюза Літвы і партыі Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага створана аб'яднаная марксісцкая партыя Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы.

У пачатку 20 ст. эканоміка горада перажывала перыяд крызісу і дэпрэсій, закрываліся дробныя прадпрыемствы, расло беспрацоўе. Гэта садзейнічала росту рабочага руху. У 1901—05 гг. і ў 1909—10 гг. у Мінску функцыяніраваў перасыльны пункт нелегальнай палітычнай літаратуры. Першапачаткова яго абслугоўвала створаная ў 1901 г. іскраўская група, якая адыграла значную ролю ў транспарціроўцы з-за мяжы і распаўсюджванні газеты «Искра», іншай нелегальнай літаратуры, разгортванні рэвалюцыйнага руху. Вясною 1902 г. работу пункта і Мінскай іскраўскай групы непасрэдна накіроўвалі Н. К. Крупская, П. М. Лепяшынскі, Г. М. Кржыжаноўскі. Іскраўская група падрыхтавала перадумовы для стварэння восенню 1903 г. Мінскай арганізацыі РСДРП і стала яе ядром. У 1904 г. арганізацыя РСДРП налічвала 150 членаў і больш за 200 спачуваючых, да канца 1905 г.— каля 1000 членаў і спачуваючых. Пад яе кіраўніцтвам былі створаны і дзейнічалі ў 1904—07 гг. Мінская арганізацыя навучэнцаў пры РСДРП, у 1905—09 гг. Мінская акруговая сялянская арганізацыя пры РСДРП, у 1905—07 гг. Мінская ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП. У 1901—04 гг. у Мінску ў палітычных стачках удзельнічала 7,8 тыс. чалавек. З сакавіка 1904 г. Мінская арганізацыя РСДРП уваходзіла ў Паўночна-Заходні Камітэт РСДРП (у падпольнай друкарні Камітэта друкаваліся лісткі «Искры», пракламацыі і лістоўкі), з жніўня 1905 г.— у Паўночна-Заходні саюз РСДРП, з чэрвеня 1906 г.— у Абласны Саюз РСДРП Літвы і Беларусі.

Працоўныя Мінска актыўна ўдзельнічалі ў першай рускай Рэвалюцыі 1905—07 гг. Па закліку арганізацыі РСДРП 13—17 студзеня ў горадзе адбылася палітычная стачка, у якой удзельнічала каля 2 тыс. рабочых. Спынілі работу рамесныя майстэрні і гандлёвыя ўстановы, 14 студзеня забаставалі рабочыя заводаў машынабудаўнічага «Тэхнолаг» і крухмала-патачнага «Сокал», гільзавай фабрыкі, 16 студзеня — рабочыя конкі. У лютым 1905 г. баставалі рабочыя майстэрняў Маскоўска-Брэсцкай чыгункі (800 чалавек), паравознага дэпо Лібава-Роменскай чыгункі (200 чалавек), Вакзальнага і Кашарскага заводаў. 10.2.1905 г. каля 7 тыс. рабочых, навучэнцаў, прадстаўнікоў дэмакратычнай інтэлігенцыі ўдзельнічалі ў масавай палітычнай дэманстрацыі пад лозунгамі барацьбы супраць самадзяржаўя. У першамайскіх рабочых маніфестацыях прынялі ўдзел больш за 1000 чалавек. Агульнагарадская палітычная забастоўка каля 6 тыс. рабочых у чэрвені 1905 г. суправаджалася масоўкамі, у якіх удзельнічала каля 9 тыс. чалавек, дэманстрацыямі і сутычкамі з паліцыяй. Трое рабочых забіты, многія паранены, 185 арыштаваны. Усерасійскую кастрычніцкую палітычную стачку 1905 г., што праходзіла пад лозунгамі знішчэння самадзяржаўя і ўстанаўлення дэмакратычнай рэспублікі, актыўна падтрымалі працоўныя Мінска, у першую чаргу чыгуначнікі. 11—12 кастрычніка забаставалі рабочыя і служачыя Маскоўска-Брэсцкай і Лібава-Роменскай чыгунак. Іх падтрымалі палітычнай забастоўкай рабочыя фабрык і заводаў, друкарняў, рамесных майстэрняў і гандлёвых прадпрыемстваў, а таксама навучэнцы. 18.10.1905 г. удзельнікі 10-тысячнага мітынгу на плошчы каля Віленскага вакзала па загаду губернатара П. Р. Курлова былі расстраляны паліцыяй і войскамі — каля 100 чалавек забіта, каля 300 паранена. Курлоўскі расстрэл выклікаў абурэнне працоўных і грамадскасці горада. Мінская арганізацыя РСДРП правяла дэманстрацыю пратэсту працоўных горада, у адозве ад 19 кастрычніка «Да грамадзян горада Мінска» заклікала іх узяцца за зброю, паўстаць супраць царызму, патрабавала пакараць злачынцаў. У кастрычніку — снежні 1905 г. рэвалюцыйнай барацьбой працоўных горада кіраваў Кааліцыйны савет, створаны з прадстаўнікоў Мінскай групы РСДРП, Лібава-Роменскага камітэта Усерасійскага чыгуначнага саюза, мясцовых камітэтаў эсэраў і бунда. Па закліку Кааліцыйнага камітэта ў горадзе зноў пачалася ўсеагульная стачка працоўных, якая працягвалася з 18 да 24 кастрычніка. Састаўной часткай снежаньскай усерасійскай палітычнай стачкі была ўсеагульная палітычная забастоўка ў Мінску 8—12.12.1905 г. Яна ахапіла каля 11,5 тыс. рабочых і служачых горада, навучэнцаў. Забастоўка была задушана царскімі ўладамі. 9 снежня Мінск і губерня абвешчаны на становішчы надзвычайнай аховы. Пачаліся рэпрэсіі, да пачатку 1906 г. арыштавана больш за 130 чалавек, была закрыта газета «Северо-Западный край».

У лістападзе 1905 г. паводле ўказання ЦК РСДРП Мінская арганізацыя РСДРП у адпаведнасці з новымі ўмовамі перабудавала структуру і формы работы, была падзелена на 2 раёны (фабрычна-заводскі і рамесны) на чале з райкомамі, што падпарадкоўваліся Цэнтральнай групе. У перыяд рэакцыі дзейнасць арганізацыі РСДРП часткова спынена, аднавіла работу ў 1908 г., налічвала каля 20 чалавек. У 1905 г. на многіх

прадпрыемствах Мінска ўзніклі папярэднікі прафсаюзаў — цэхавыя сходкі, адначасова былі створаны прафсаюзы чыгуначнікаў, работнікаў пошты і тэлеграфа, рабочых крэдытных і гандлёва-прамысловых устаноў. У 1907 г. у горадзе дзейнічала 15 прафсаюзаў.

Пралетарыят адступаў з баямі. Да гадавіны расстрэлу 9 студзеня пецярбургскіх рабочых Мінская група РСДРП выдала лістоўкі аб выніках рэвалюцыйнай барацьбы. 27.2.1906 г. навучэнцы гімназіі арганізавалі антыўрадавую маніфестацыю ў знак пратэсту супраць пакарання смерцю рэвалюцыянера І. П. Пуліхава, які разам з А. А. Ізмайловіч, выконваючы прыгавор падпольнай арганізацыі эсэраў, зрабіў замах на мінскага губернатара П. Р. Курлова — арганізатара расстрэлу рабочых. 1 Мая адбылася стачка працоўных. У адказ на эканамічныя стачкі гаспадары прадпрыемстваў абвяшчалі лакаўты. Пачаліся ганенні на прафсаюзы (да 1911 г. у Мінскай губ. разгромлены ўсе легальныя прафсаюзы). Мінская група РСДРП у 1906 г. нелегальна выдавала газету «Минский летучий листок», якая выкрывала антынародную палітыку царызму, заклікала працоўных да байкоту Дзяржаўнай думы, барацьбы за звяржэнне царызму.

У 1913 г. у Мінску працавала 69 фабрык і заводаў, на якіх было занята 5,1 тыс. рабочых. З пачаткам 1-й сусветнай вайны ў горадзе пачалі закрывацца прадпрыемствы, на 12 буйных да ліпеня 1915 г. аб'ём вытворчасці скараціўся на 45, а колькасць рабочых на 60 %. З кастрычніка 1915 г. Мінск стаў прыфрантавым горадам. Тут размяшчаўся штаб Заходняга фронту і іншыя вайсковыя арганізацыі і ўстановы, шпіталі. Углыб Расіі было эвакуіравана 20 прадпрыемстваў. У сувязі з неабходнасцю павелічэння выпуску прадукцыі для патрэб фронту, у горад па мабілізацыі прысланы рабочыя з Петраграда і Масквы. Многія з іх мелі вопыт рэвалюцыйнай барацьбы.

Партыя накіравала на Заходні фронт і ў Мінск многіх сваіх кадравых работнікаў, здольных арганізатараў. У 1914 г. Мінская група РСДРП разгромлена паліцыяй. У 1-ю сусветную вайну партыйную работу ў Мінску вялі створаныя ў 1915 г. латышская сацыял-дэмакратычная арганізацыя (кіраўнікі бальшавікі К. І. Ландар і Л. П. Рэзаўскі), бальшавіцкая арганізацыя ў Земсаюзе (гаспадарчым аддзеле камітэта Усерасійскага земскага саюза Заходняга фронту; І. Е. Любімаў, С. Р. Магілеўскі, з красавіка 1916 г. М. В. Фрунзе) і з 1916 г. бальшавіцкая арганізацыя ў 32-м эвакапункце (В. Г. Кнорын, М. І. Крывашэін, Я. Ф. Пярно, Папамароў). М. Фрунзе ўзначальваў падпольную бальшавіцкую арганізацыю ў Мінску з аддзяленнямі ў 3-й і 10-й арміях, ваенных майстэрнях.

Перамога Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. і звяржэнне самадзяржаўя далі пачатак разгортванню буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі па ўсёй краіне. У Мінску 2(15).3.1917 г. бальшавікі правялі тэрміновую нараду (прысутнічалі М. В. Фрунзе, В. Г. Кнорын, К. І. Ландар, С. Р. Магілеўскі і інш.) па пытанню мабілізацыі рэвалюцыйных сіл у падтрымку паўстаўшых піцерскіх рабочых і салдат. Бальшавікі ўдзельнічалі ў стварэнні Саветаў, фабрычна-заводскіх камітэтаў, салдацкіх і сялянскіх дэмакратычных арганізацый. 4(17)3. 1917 г. створаны Мінскі Савет рабочых дэпутатаў, 6(19) сакавіка ў яго склад уключаны дэпутаты ад вайсковых часцей Мінскага гарнізона і створаны Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, старшынёй выканкома якога выбраны Б. П. Позерн. Мэтанакіраваную палітычную работу ў Савеце вялі дэпутаты-бальшавікі (пазней бальшавіцкая фракцыя ў Савеце). Мінскі Савет стаў рэвалюцыйным цэнтрам на тэрыторыі Беларусі і на Заходнім фронце. 4(17) сакавіка створана народная міліцыя на чале з М. В. Фрунзе. У Мінску былі ліквідаваны органы царскага дзяржаўнага апарату, раззброена паліцыя і жандармерыя, пад ахову ўзяты ўрадавыя ўстановы, пошта, тэлеграф. Ствараліся атрады Чырвонай гвардыі. Адначасова сфарміраваны мясцовыя органы буржуазнага Часовага ўрада. 4.3.1917 г. на нарадзе прадстаўнікоў Мінскай гарадской думы, земскай і гарадской управ, земскага і гарадскога саюзаў, Мінскага ваенна-прамысловага камітэта, прадстаўнікоў згодніцкіх і нацыяналістычных партый быў створаны так званы «Часовы грамадскі камітэт парадку». Ён ставіў за мэту ўладу ў горадзе ўзяць у свае рукі і дзейнічаць у цесным кантакце з Часовым буржуазным урадам. Працоўныя Мінска выступалі супраць антынароднай палітыкі Часовага ўрада. Пратэст супраць падрыхтоўкі ім у чэрвені 1917 г. наступлення на фронце выліўся ў масавую антываенную дэманстрацыю рабочых і салдат пад бальшавіцкімі лозунгамі.

У чэрвені 1917 г. бальшавікі Мінска выйшлі з аб'яднанай арганізацыі РСДРП (уваходзілі бальшавікі, меншавікі і бундаўцы), афармілі самастойную бальшавіцкую арганізацыю (500—600 членаў), стаў дзейнічаць Мінскі камітэт РСДРП(б) на чале з А. Ф. Мясніковым. 27.7(9.8).1917 г. у Мінску пачала выдавацца газета «Звезда» — орган Мінскага камітэта РСДРП(б) (у сувязі з праследаваннем буржуазнымі ўладамі выходзіла таксама пад назвай «Молот», «Буревестник»). Цэнтрам мінскіх бальшавікоў стаў дом № 6 па вул. Петраградскай (цяпер вул. Ленінградская), дзе размяшчаліся Мінскі камітэт РСДРП(б), Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, рэдакцыя газеты «Звезда», курсы і школа агітатараў.

У жніўні 1917 г. працоўныя Мінска рашуча выступілі супраць карнілаўшчыны — контррэвалюцыйнага мяцяжу, які ўзняў і ўзначаліў вярхоўны галоўнакамандуючы генерал Л. Г. Карнілаў з мэтай разграміць рэвалюцыйныя сілы і ўстанавіць ваенную дыктатуру ў Расіі. Для барацьбы

з карнілаўшчынай у Мінску 28.8(10.9).1917 г. на аб'яднаным пасяджэнні франтавога камітэта і выканкома Мінскага Савета створаны Часовы рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту, які абвясціў сябе адзінай уладай у раёне Заходняга фронту. У Мінску барацьбу з карнілаўшчынай узначаліў М. В. Фрунзе, які быў прызначаны начальнікам штаба рэвалюцыйных войск Мінскага р-на, кіраваў чырвонагвардзейскімі атрадамі і рэвалюцыйнымі часцямі, гарадской міліцыяй. Былі створаны рабочыя баявыя дружыны (больш за 1000 чалавек), 2 атрады з рабочых чыгуначнікаў (да 300 чалавек). Непадалёку ад горада было раззброена некалькі эшалонаў мяцежнікаў. Вядучая роля бальшавікоў у разгроме карнілаўшчыны садзейнічала росту аўтарытэту бальшавіцкай партыі, масавай бальшавізацыі Саветаў. У выніку перавыбараў у верасні 1917 г. бальшавікі атрымалі ў Мінскім Савеце 184 месцы з 337 і ўсе месцы ў яго прэзідыуме. Мінская арганізацыя РСДРП(б) на гэты час налічвала 1200 членаў. Мінскі Савет стаў органам падрыхтоўкі рэвалюцыйных сіл на Беларусі і на Заходнім фронце для барацьбы за ажыццяўленне сацыялістычнай рэвалюцыі. На пл. Свабоды ў доме № 4 з красавіка 1917 г. знаходзіўся Выканком Заходняга фронту, у верасні тут адбылася 1-я, у кастрычніку 1917 г. — 2-я Паўночна-заходнія абласныя канферэнцыі РСДРП(б) (у 1917—18 гг. тэрыторыя Беларусі ўваходзіла ў т. зв. Паўночна-Заходнюю вобласць), з верасня 1917 г. працаваў Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б).

* * *

Архітэктурна-планіровачная першааснова горада — умацаваны замак 2-й паловы 11 ст., які знаходзіўся на правым беразе р. Свіслач, пры ўпадзенні ў яе р. Няміга (раён сучаснай пл. 8 Сакавіка і праспекта Машэрава). Замак быў акружаны ровам і абнесены земляным валам вышынёй каля 8 м, на грэбені якога пастаўлены драўляныя сцены. З паўднёвага боку размяшчалася брама, аснову якой у 12 ст. складалі 8 зрубаў-клецей памерамі 17,4×7,1 м, вышынёй 12 м, шырынёй праёму 3,9 м. Брама зачынялася на 3 варот. Замак меў форму няправільнага авала (даўжыня ад р. Свіслач да процілеглага заходняга краю 300 м, шырыня 120—150 м), што забяспечвала франтальную стральбу з сцен па ўсім перыметры. Пры археалагічных раскопках (1945—51, 1957—61, 1976, 1981—87 гг.) выяўлена планіроўка ўсходняй часткі дзядзінца, якая прымыкала да правага берага р. Свіслач, раскапаны драўляныя канструкцыі ў насыпе вала, рэшткі некалькіх вуліц і завулкаў. Галоўная вуліца шырынёй да 4 м перасякала дзядзінец з усходу на захад, ад яе адыходзілі вузкія завулкі. Шырыня астатніх вуліц была каля 3 м, праезная іх частка мела драўляны насціл. Двары гараджан плошчай 220—250 м² уключалі 1—2 жылыя пабудовы, хлявы, клеці, майстэрні. У 12—13 ст. у замку было 400—500 жыхароў, 80—82 двары. Раскапаны рэшткі 130 пабудоў. Жытлы аднакамерныя, часам пяцісценныя, зрубнай канструкцыі, плошчай 9—25 м², з дашчанай падлогай, мелі 2-схільныя стрэхі без столі і дзверы (вышынёй не больш за 1,6 м) з ганкам. На тэрыторыі замка выяўлены фундамент мураванага храма. Па невядомых прычынах яго будаўніцтва не закончана (закладзены падмуркі, выведзены ніжнія часткі апсід, паўднёвай і заходняй сцен). Паводле плана падмурка, меркавалася паставіць кампактны 4-слуповы крыжова-купальны храм, які б уключаў асноўны квадратны ў плане цэнтрычны аднакупальны аб'ём (12×12 м) з трыма паўавальнымі апсідамі. Царква не мела аналагаў у старажытнарускім манументальным будаўніцтве, спалучала візантыйскія і заходнераманскія рысы. У пачатку 13 ст. недабудаваны храм пераўтвораны ў гарадскі некропаль. Тут знойдзена 21 пахаванне багатых гараджан у саркафагах з хваёвых дошак.

У 12 — 14 ст. у сувязі з эканамічным развіццём павялічвалася колькасць насельніцтва горада. Жылая забудова ў гэты час выйшла за межы абарончых замкавых сцен. У 12—13 ст. на поўдзень, паўднёвы захад і паўднёвы ўсход ад замчышча вырас рамесны пасад з гандлёвай плошчай — Нямігскі рынак (з 16 ст. Ніжні рынак; сучасны раён пл. 8 Сакавіка, частка праспекта Машэрава). Да гэтай плошчы сыходзіліся ўсе знешнія гандлёвыя шляхі. З захаду падыходзіў гасцінец з Ракава і Койданава, з поўдня — з Лошыцы, на ўсходзе цераз мост на р. Свіслач сыходзіліся дарогі з Вільні, Полацка, Лагойска, Барысава, Смаленска. Вуліцы Нямігскага рынку былі вымашчаны драўляным насцілам з дрэнажнымі прыстасаваннямі, шчыльна забудоўваліся зрубнымі дамамі. Цэнтральная вуліца пасада — Няміга (самая старажытная вуліца Мінска, 12 ст.) ішла ўздоўж р. Няміга, з паўночнага захаду падыходзіла да Нямігскага рынку і далей да моста цераз р. Свіслач. У гэты час узніклі пасады на левым беразе р. Свіслач каля Троіцкай гары і на



*Ніжні рынак. Раскоп з рэшткамі гарадскіх пабудоў 17 ст.*

паўночны захад ад замчышча Пятніцкі канец (сучасны раён праспекта Машэрава). У 15 ст. у асноўным сфарміравалася забудова прадмесцяў: Троіцкага (сучасныя раён пл. Парыжскай камуны, часткі вуліц Я. Купалы, М. Горкага, Старавіленскай, Камунальнай набярэжнай) і Ракаўскага (вул. Астроўскага і на поўнач ад яе). Развіваўся Пятніцкі канец, які ў пачатку 16 ст. стаў называцца Татарскай слабадой (з-за пасялення тут крымскіх татараў, узятых у палон пад Клецкам у 1506 г.). У 16 ст. забудова развівалася на паўднёвы ўсход і паўднёвы захад ад замка, дзе на ўзвышэнні фарміраваліся прамавугольная сістэма вуліц і новы гандлёвы цэнтр — Верхні рынак (сучасная пл. Свабоды). Тут былі пабудаваны ратуша з гандлёвымі радамі і гасціны двор, якія разам з грамадзянскімі і культавымі будынкамі ўтваралі архітэктурны ансамбль плошчы і сілуэт цэнтра горада. Архітэктурнае аблічча горада ў 16 ст. вызначалі прылеглыя да Верхняга, Ніжняга і Троіцкага (размяшчаўся ў Троіцкім прадмесці) рынкаў вуліцы, забудаваныя драўлянымі дамамі феадалаў, купцоў, багатых рамеснікаў, драўлянымі манастырамі (з царквамі) — Казьмадзям'янскім, Ушэсця, Петрапаўлаўскім, Святога Духа (мужчынскім і жаночым), кляштарамі з касцёламі манаскіх ордэнаў. Горад цярпеў ад частых пажараў, якія ў 1547, 1552, 1569 гг. знішчылі амаль усе гарадскія збудаванні. Замест згарэлых драўляных узводзіліся новыя, мураваныя жылыя дамы, культавыя і грамадскія будынкі.

У пачатку 17 ст. старажытны замак канчаткова страціў сваё значэнне як адміністрацыйны і планіровачны цэнтр Мінска. Асновай планіровачнай структуры горада становяцца плошчы Ніжняга і Верхняга рынкаў. На плошчы Верхні рынак сфарміраваўся своеасаблівы барочны ансамбль. Ён не меў адзінай дамінанты, складаўся з асобных маляўнічых груп, якія ўключалі найбольш значныя культавыя будынкі. Яны займалі галоўнае становішча ў кампазіцыі, стваралі раскрыты з усіх бакоў плошчы комплекс з своеасаблівым аблічам і запамінальным сілуэтам. На паўднёвым баку плошчы знаходзіўся кляштар дамініканцаў (заснаваны ў 1605 г., паводле інш. звестак у 1615 г., не захаваўся) з касцёлам (закладзены каля 1622 г., не захаваўся). На ўсходнім баку — комплекс базыльянскіх манастыроў (заснаваны ў 1616 г.) з царквой Святога Духа (закладзена пасля 1636 г., не захавалася). На паўночным баку групаваліся кляштары з касцёламі: бернардзінцаў (пабудаваны ў 1-й палове 17 ст. з дрэва, у 1752 г. перабудаваны з каменю) і бернардзінак (1633 г., паводле інш. звестак у 1642 г.). На заходнім баку размяшчаўся калегіум езуітаў (заснаваны ў 1654 г.). У 2-й палове 17 ст. на Зборавай вул. (сучасная Інтэрнацыянальная) пабудаваны мураваны кляштар бенедыкцінак (не захаваўся), на рагу вуліц



*Від на езуіцкі касцёл і калегіум. З малюнка Н. Орды. 19 ст.*

Францысканскай (сучасная вул. Леніна) і Юр'еўскай (сучасная вул. Астроўскага) узведзены драўляны кляштар францысканцаў (заснаваны ў 1676 г.; у 18 ст. на месцы драўляных пастаўлены новыя мураваны кляштарны будынак і драўляны касцёл, не захаваўся). У раёне Ніжняга рынку ў 1613 г. пабудавана Петрапаўлаўская царква (у 1795 г. рэканструявана і перайменавана ў Кацярынінскую). На Троіцкай гары пры драўлянай Троіцкай царкве (вядома з 15 ст.) узведзены ў 1630 г. драўляны Троіцкі манастыр базыльянак, у пачатку 18 — канцы 18 ст. пабудаваны кляштары з касцёламі баніфратаў (1700 г., не захаваўся), кармелітаў (1703 г., не захаваўся), бенедыкцінцаў (1764 г., не захаваўся), марыявітак — «Дом марыявітак» (1771 г., не захаваўся). У 1799—1800 гг. на месцы драўлянага Троіцкага манастыра базыльянак пабудаваны мураваны манастырскі будынак (у 1834 г. перабудаваны пад шпіталь гарадской бальніцы, цяпер адзін з карпусоў 2-й клінічнай бальніцы). На Верхнім рынку пабудаваны комплекс карпусоў кляштара езуітаў: 2-павярховы будынак школы (1699 г.), касцёл (1700 — 10 гг.), двухпавярховы будынак калегіума (1733 — 47 гг.), які меў па цэнтры галоўнага фасада 3-ярусную вежу (1738—50 гг.) з гадзіннікам. У 1-й палове 17 ст. насупраць комплексу кляштара езуітаў на месцы драўлянай пабудавана мураваная ратуша (аднаўлена ў 1744 г., рэканструявана ў 1798 — 1800 гг. у стылі класіцызму, архіт. Ф. Крамер). У ёй знаходзіліся магістрат, суд, архіў і інш., у 1830-я гады — музычная школа, у 1847 г. зала ратушы прыстасавана пад тэатр (у сярэдзіне 1850-х гадоў будынак разбураны). У 18 ст. у раёне плошчы Верхні рынак і навакольных вуліцах пабудаваны мураваныя жылыя дамы: 2-павярховы гарадскі асабняк (сучасная пл. Свабоды, 15), комплекс жылых дамоў на паўднёвым баку плошчы (сучасная пл. Свабоды, 19—21), двухпавярховы жылы дом (на рагу сучасных пл. Свабоды і вул. Рэвалюцыйнай). Важнае месца ў кампазіцыі плошчы займаў будынак гасцінага двара (узведзены ў сярэдзіне 18 ст., рэканструяваны ў канцы 18 ст. у стылі класіцызму, архіт. Ф. Крамер).



*Забудова Праабражэнскай (цяпер Інтэрнацыянальная) вуліцы. Пачатак 20 ст.*

Да канца 18 ст. Мінск заставаўся тыповым феадальным горадам з акрэсленай замкавай тэрыторыяй. План Мінска па форме набліжаўся да авала. З трох бакоў (захаду, поўдня і ўсходу) горад быў абнесены па перыметры абарончым валам. Выразна вылучаліся тры часткі: Ніжні горад, Верхні горад, аддзеленае р. Свіслач Троіцкае прадмесце. У паўночна-заходняй частцы Мінска захаваліся рэшткі старажытнага замка, яго тэрыторыя была абмежавана земляным валам. На ўсходнім баку забудова даходзіла да Юр'еўскай гары.

Асноўныя вуліцы Верхняга горада мелі прамавугольную схему і сыходзіліся на плошчы Верхні рынак. З захаду да плошчы падыходзіла Койданаўская (сучасная вул. Рэвалюцыйная) і паралельная ёй Зборавая (сучасная вул. Інтэрнацыянальная); з паўднёвага боку былі таксама паралельныя вуліцы — Францысканская (сучасная вул. Леніна) і Дамініканская (сучасная вул. Энгельса). Галоўнай вуліцай Мінска з'яўлялася Няміга, якая перасякала ўсю гарадскую забудову на мяжы Ніжняга горада. Зарэчная частка — Троіцкае прадмесце — перапланавана, зроблена ўзбуйненне кварталаў і выпростванне вуліц. Галоўнай вуліцай у гэтай частцы была Троіцкая (з 19 ст. Аляксандраўская, сучасная вул. М. Горкага), якая злучала плошчу Троіцкага рынку з Ніжнім рынкам і праходзіла цераз мост на р. Свіслач.

У 19 ст. распрацоўваюцца рэгулярныя планы забудовы (1800, 1809, 1817, 1858 гг.). Яны прадугледжвалі ўпарадкаванне планіровачнай структуры, узбуйненне кварталаў, выпростванне вуліц, урэгуляванне забудовы. Змяненне планіровачнай структуры пачалося са знішчэння абарончага землянога вала, які знаходзіўся ў паўразбураным стане, страціў сваё значэнне і абмяжоўваў рост горада. Новая жылая забудова развівалася за межамі былых абарончых умацаванняў у паўднёвым, а таксама паўднёва-ўсходнім напрамках уздоўж р. Свіслач. Тэрыторыя Мінска да сярэдзіны 19 ст. павялічылася амаль у 2 разы ў параўнанні з 18 ст. У новай частцы горада забудоўваліся жылыя кварталы выразнай прамавугольнай формы з геаметрычнай сеткай вуліц. Пракладзена вуліца Захар'еўская (сучасны Ленінскі праспект і вул. Савецкая) шырынёй 18—22 м, якая праходзіла праз усю гарадскую забудову з захаду на ўсход. Яна канчаткова склалася ў пачатку 20 ст. і стала галоўным дыяметрам Мінска. Трасіроўка вуліцы паўтарала напрамак ужо існуючых Праабражэнскай (ранейшая назва Зборавая, сучасная вул. Інтэрнацыянальная), Койданаўскай (сучасная вул. Рэвалюцыйная), якія сыходзіліся па плошчы Верхні рынак. Гэтыя вуліцы з'яўляліся асноўнымі ў планіровачнай структуры. Былі надоўжаны вуліцы папярэчнага напрамку: Петрапаўлаўская (ранейшая назва Дамініканскай, сучасная вул. Энгельса), Губернатарская (ранейшая назва Францысканская, сучасная вул. Леніна), Багадзельная (ранейшая назва Феліцыянская, сучасная вул. Камсамольская).

У Ніжнім горадзе захавалася радыяльна-веерная планіровачная структура, якая склалася гістарычна. Кароткія вулачкі радыяльнага напрамку сыходзіліся на плошчы Ніжні рынак: Школьная (частка сучаснага праспекта Машэрава), Казьмадзям'янаўская (сучасная вул. Дз. Беднага), Манастырская (сучасная вул. Герцэна). Галоўнай тут аставалася вул. Няміга, да якой прымыкала вул. Кацярынінская (цяпер частка вул. Астроўскага). Зарэчная частка (Троіцкае прадмесце) значна пашыралася ў паўночным напрамку. Тут забудоўвалася прамавугольная ў плане Троіцкая плошча. На ёй у 1809 г. узведзены мураваны будынак духоўнай семінарыі (перабудаваны ў 1953 г. для Суворaўскага ваеннага вучылішча), у межах прадмесця — жаночае епархіяльнае вучылішча (архіт. А. Жукоўскі; сучасны адміністрацыйны будынак па вул. Камуністычнай). Рэгулярная планіроўка Зарэчнай часткі не была ажыццёўлена. Тут асталіся вузкія крывалінейнага абрысу вуліцы. Новым у развіцці планіровачнай структуры Мінска было стварэнне ў цэнтральнай частцы горада на беразе р.




*Забудова вуліцы Школьнай. Пачатак 20 ст.*



*Петрапаўлаўскі кафедральны сабор. Пачатак 20 ст.*

Свіслач губернатарскага саду (сучасны Цэнтральны дзіцячы парк імя М. Горкага), які быў адкрыты ў 1805 г. Паводле плана 1817 г., распрацаванага з улікам змен, што былі ажыццёўлены ў планіроўцы і забудове горада, вызначаны новыя шляхі яго развіцця. Асноўнай кампазіцыйнай воссю Мінска з'яўлялася р. Свіслач. Гарадская забудова размяшчалася на яе берагах. У больш старажытнай частцы — Ніжнім горадзе — захоўвалася радыяльна-веерная планіровачная структура. Новая частка — з вуліцай Захар'еўскай — вылучалася строга геаметрычнай структурай, асноўныя напрамкі вуліц ішлі перпендыкулярна р. Свіслач. Узніклі новыя вуліцы — Падгорная (сучасная вул. К. Маркса), Магазінная (вул. Кірава). Намячалася ўпарадкаванне структуры Троіцкага прадмесця. Пасля пажару 1835 г. цэнтр забудоўваўся пераважна 2—3-павярховымі муравaнымі дамамі. У 19 ст. рэканструяваны ансамбль Верхняга горада, дзе размяшчаліся дом губернатара (у былым будынку школы калегіума езуітаў), Марыінскі кафедральны касцёл (былы касцёл езуітаў), дзяржаўныя ўстановы (у перабудаваным корпусе мужчынскага манастыра базыльян), Петрапаўлаўскі кафедральны сабор (да 1795 г. царква Святога Духа базыльянскага манастыра), перабудаваны ў псеўдарускім стылі. Плошча Верхні рынак з 1860-х гадоў стала называцца Саборнай.

Да сярэдзіны 19 ст. горад пашыраўся за кошт далучэння зямель маёнтка Сярэбраны Лог (тут былі пабудаваны млыны, таму раён атрымаў назву Сярэбраныя млыны; у 1895 г. заснаваны чыгуналіцейны завод), слабод Старажоўка (у 1847 г. пабудавана мураваная царква Марыі Магдаліны, у 1873 г. піваварны завод), Камароўка (у 2-й палове 19 ст. дзейнічаў дрэваапрацоўчы завод), Ляхаўка (у 1881 г. пабудаваны Кашарскі машынабудаўнічы і чыгунамеднаметалургічны завод і інш.), прадмесцяў Доўгі Брод (цяпер раён трамвайнага парка на рагу вуліц Батанічнай і Даўгабродскай), Залатая Горка (раён вуліц Залатой Горкі і Казлова, у 1861—64 гг. тут пабудаваны Троіцкі касцёл у стылі несапраўднай готыкі), Кальварыя (у 1830—39 гг. пабудаваны мураваны касцёл і брама ў стылі несапраўднай готыкі). У выніку горад атрымаў расшыраную кампазіцыю плана, яго архітэктурна-планіровачная структура ўключала 2 тыпы планіроўкі: радыяльную (Ніжні горад) і прамавугольную (Верхні горад). Асноўнае гарадское ядро (Ніжні і Верхні горад) абкружалі вуліцы, якія склаліся на тэрыторыі былых слабод — Камароўка, Раманава, Ляхаўка, Грушаўка, Кальварыя, Татарская, Серабранка, Старажоўская, Пярэспа. Яны з'яўляліся ўскраінамі, мелі хаатычную планіроўку і драўляную аднапавярховую забудову сядзібнага тыпу (акрамя Ляхаўкі, дзе былі мураваныя карпусы прамысловых прадпрыемстваў).

З 2-й паловы 19 ст. назіраецца інтэнсіўнае развіццё горада, пашырэнне яго тэрыторыі. Прамая траса па вул. Захар'еўскай, якая злучыла Барысаўскі і Варшаўскі тракты, вызначыла перамяшчэнне цэнтра горада на самае высокае месца — т. зв. Новае месца (цяпер Кастрычніцкая плошча і раён тэатра імя Я. Купалы). Тут квартал займала архірэйскае падвор'е (цяпер на гэтым месцы будынкі Дома афіцэраў і Дома работнікаў мастацтваў), быў узведзены будынак Дваранскага сходу (на рагу сучасных вул. Маркса і Энгельса, не захаваўся), паміж гэтай забудовай у 1872 г. створаны Аляксандраўскі (цяпер Цэнтральны) сквер з фантанам, упрыгожаным дэкаратыўнай скульптурай (1874 г.), у кампазіцыю сквера пазней увайшоў будынак гарадскога тэатра (1890 г., архіт. К. Казлоўскі, К. Увядзенскі).

З пачатку 19 ст. вялося сядзібна-паркавае будаўніцтва. У гістарычным цэнтры горада ў стылі класіцызму пабудаваны сядзібны комплекс (сучасная вул. Інтэрнацыянальная, 33а), дзе жыў і працаваў вядомы мастак В. Ваньковіч. Яму ж належала сядзіба, пабудаваная ў 1-й палове 19 ст. у прыгарадзе Вялікая Сляпянка (сучасная вул.



*Плошча. Верхні рынак. З малюнка Ю. Пешкі. Пачатак 19 ст.*



*Від на Саборную плошчу і Губернатарскую вуліцу. Пачатак 20 ст.*

Парніковая, 26). У 2-й палове 19 ст. на паўднёва-заходняй ускраіне Мінска пастаўлены мураваны 1-павярховы сядзібны дом (сучасная вул. Казінца, 76), у архітэктуры якога спалучаны рысы рамантызму і позняга класіцызму, на паўднёвай ускраіне горада ў сутоку рэк Свіслач і Лошыца (сучасная вул. Чыжэўскіх) закладзены пейзажны парк, пабудаваны сядзібны дом, капліца, гаспадарчыя памяшканні.

У гэты час на архітэктурна-планіровачную структуру горада зрабілі ўплыў 2 асноўныя фактары: пракладка чыгункі і ўзнікненне новых прамысловых прадпрыемстваў. У 1871 г. праз Мінск пракладзена Маскоўска-Брэсцкая, у 1873 г.— Лібава-Роменская чыгункі. Побач з чыгуначнымі лініямі ўзнік новы жылы раён Грушаўка з хаатычнай драўлянай забудовай. У 1871—74 гг. пабудаваны Брэсцкі і Віленскі чыгуначныя вакзалы, 2 дэпо, рамонтныя майстэрні. Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы былі размешчаны ў паўднёвай частцы горада ўздоўж р. Свіслач, на рабочай ускраіне Ляхаўка — кандытарская фабрыка, фабрыка грабянёў, некалькі гарбарняў, металаапрацоўчы «Гігант», дрожджа-патачны, машынабудаўнічы і чыгунамедналіцейны заводы, вінзавод. Ускраіны прамысловых раёнаў, дзе па танных землях узнікалі рабочыя пасёлкі з неўпарадкаванай, скучанай і хаатычнай драўлянай забудовай, кантрастна адрозніваліся ад цэнтральных раёнаў, дзе сяліліся прадстаўнікі пануючых класаў.

У 1895 г. часткова высечаны губернатарскі сад і пабудавана электрастанцыя. У пачатку 20 ст. узведзены мураваныя гасцініцы: на вул. Губернатарскай «Еўропа», на рагу вуліц Петрапаўлаўскай і Захар'еўскай «Парыж» (не захаваліся) і даходныя жылыя дамы на вул. Захар'еўскай, Падгорнай, Магазіннай, Серпухоўскай (сучасная вул. Валадарскага), кінатэатры «Гігант», «Мадэрн», «Эдэн» (усе 1912 г., не захаваліся).

У 2-й палове 19 — пачатку 20 ст. у архітэктуры Мінска былі вельмі пашыраны стылізатарскія плыні — неаготыка, псеўдарускі стыль, неабарока, неакласіцызм і інш., якія імітавалі мастацкія стылі мінулых эпох. Рысы неакласіцызму маюць будынкі Дзяржаўнага банка (цяпер Дзяржаўны музей Беларускай ССР) па вул. Падгорнай (сучасная К. Маркса), сельскагаспадарчай страхавой кампаніі (цяпер адміністрацыйны будынак) па вул. Захар'еўскай (сучасны Ленінскі праспект). У псеўдарускім стылі пабудаваны царква Аляксандра Неўскага (1898 г.) на Вайсковых могілках, будынак царкоўна-археалагічнага музея (1913 г., архіт. В. Струеў; цяпер Дом работнікаў мастацтваў) на архірэйскім падвор'і. Рысы неаготыкі ўласцівы архітэктуры касцёла Сімяона і Алены (Чырвоны касцёл, 1908 г., архіт. У. Марконі, Т. Паяздэрскі; цяпер Дом кіно). Рысамі неабарока і неакласіцызму пазначаны жылыя дамы на вул. Серпухоўскай (сучасная вул. Валадарскага). Стыль «мадэрн» не атрымаў шырокага развіцця. Элементы яго сустракаюцца ў архітэктуры некаторых жылых даходных дамоў пачатку 20 ст. [комплекс жылых дамоў па вул. Захар'еўскай (цяпер вул. Савецкая, 17, 19, архіт. С. Гайдукевіч, Г. Гай); жылы дом па вул. Падгорнай (сучасная вул. К. Маркса, 30, архіт. Г. Гай); даходны дом па вул. Магазіннай (сучасная вул. Кірава 11/26, архіт. А. Краснапольскі) і інш]. У архітэктуры будынкаў канца 19 — пачатку 20 ст. пераважалі рысы эклектызму, асаблівая ўвага звярталася на дэкор фасадаў. У гэты час былі ўзведзены будынкі для сярэдніх навучальных устаноў — прыватнай жаночай гімназіі (1890-я гады) на рагу вул. Магазіннай (сучасная вул. Кірава) і Міхайлаўскага завулка, жаночай Марыінскай гімназіі (1879 г.) на вул. Падгорнай (сучасная вул. К. Маркса). Непадалёку ад чыгуначнай станцыі па вул. Аўтадораўскай пастаўлены будынкі чыгуначнай бальніцы (1912—14 гг.).

* * *

Вестку аб Кастрычніцкім узброеным паўстанні ў Петраградзе, перамозе сацыялістычнай рэвалюцыі і стварэнні Савецкага ўрада на чале з У. І. Леніным працоўныя Мінска сустрэлі адаб-



*Успенская царква і архірэйскі дом. Пачатак 20 ст.*



*Перон Віленскага вакзала. Пачатак 20 ст.*

рэннем, мітынгамі і дэманстрацыямі. 25.10(7.11). 1917 г. выканком Мінскага Савета абнародаваў загад № 1 аб пераходзе ўлады ў горадзе ў рукі Савета, з гарадской турмы былі вызвалены больш за 1000 салдат, зняволеных за ўдзел у рэвалюцыйным руху, з іх сфарміраваны Першы рэвалюцыйны імя Мінскага Савета полк. 27.10(9.11).1917 г. у Мінску быў створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту, для абароны рэвалюцыі фарміраваліся атрады Чырвонай гвардыі. Контррэвалюцыйныя сілы, абапіраючыся на верныя ім вайсковыя часці, ультыматыўна патрабавалі перадаць уладу «Камітэту выратавання рэвалюцыі», які яны стварылі. На дапамогу бальшавікам горада ў ноч на 2(15).11.1917 г. у Мінск з фронту прыбылі бліндзіраваны поезд і пяхотныя часці з 2-й арміі, што стварыла перавагу рэвалюцыйных сіл. ВРК Заходняга фронту загадам ад 4(17).11. 1917 г. распусціў «Камітэт выратавання рэвалюцыі». 26.11(9.12).1917 г. у Мінску створаны выканком Савета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту і Савет Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту.

Ленінскія дэкрэты аб зямлі і міры, Дэкларацыя правоў народаў Расіі сталі пуцяводнымі. За імі пайшлі мільёны працоўных шматнацыянальнай Расіі, у т. л. беларусы. Пачаліся першыя сацыялістычныя пераўтварэнні. У горадзе ўстаноўлены рабочы кантроль над вытворчасцю і размеркаваннем, прымаліся меры па ліквідацыі беспрацоўя, паляпшэнню жыллёвых умоў і забеспячэнню працоўных харчаваннем. Але ўнутраныя і знешнія сілы контррэвалюцыі прыкладалі ўсе намаганні, каб задушыць маладую Савецкую рэспубліку.

Парушыўшы ўмовы аб перамір'і, войскі кайзераўскай Германіі 18.2.1918 г. перайшлі ў наступленне, 21 лютага захапілі Мінск. Барацьбу супраць акупантаў узначальваў створаны 28.2.1918 г. Мінскі падпольны раённы камітэт РКП(б) (старшыня Б. З. Райцэс, сакратар А. М. Крыніцкі), які працаваў пад кіраўніцтвам Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б). Дзейнасць райкома пашыралася на тэрыторыю суседніх паветаў, былі створаны Барысаўскі, Замір'еўскі, Ігуменскі, Кайкаўскі, Нясвіжскі, Слуцкі падрайкомы. Да мая 1918 г. у Мінску 15 падпольных ячэек аб'ядноўвалі больш за 100 камуністаў. Яны праводзілі палітычную работу сярод насельніцтва, выкарыстоўвалі для яе і легальна дзеючыя прафсаюзы. Рэвалюцыйную прапаганду сярод акупацыйных войск вялі Федэрацыя замежных груп РКП(б) і Ваенна-рэвалюцыйны Савет германскіх войск Усходняга фронту. Да лета 1918 г. у падполлі дзейнічаў Мінскі Савет. У выніку агітацыі бальшавікоў рабочыя прамысловых прадпрыемстваў адмаўляліся выконваць заказы германскага камандавання, праводзілі забастоўкі, 1 Мая адбылася дэманстрацыя працоўных. 15.7.1918 г. у Мінску пад кіраўніцтвам Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б) праведзена 1-я падпольная канферэнцыя камуністычных арганізацый Мінскага р-на, у рабоце якой удзельнічалі прадстаўнікі 75 партыйных арганізацый. Да восені 1918 г. падпольная раённая арганізацыя аб'ядноўвала каля 2 тыс. камуністаў. Са жніўня да снежня 1918 г. у горадзе дзейнічаў таксама Краявы камітэт камуністычных арганізацый Беларусі і Літвы, які накіроўваў дзейнасць Мінскага падпольнага райкома, выдаваў газету «Подпольная правда», лістоўкі. У лістападзе 1918 г. Мінскі падпольны райком РКП(б) арганізаваў узброеныя групы з рабочых і партызан, якія ахоўвалі чыгунку, прамысловыя прадпрыемствы і інш. аб'екты і падтрымлівалі ў горадзе парадак у час адыходу германскіх войск з савецкай тэрыторыі пасля Лістападаўскай рэвалюцыі 1918 г. у Германіі. Штаб па арганізацыі барацьбы супраць акупантаў размяшчаўся ў будынку былой гасцініцы на рагу вул. Захар'еўскай і Багадзельнай (цяпер Ленінскі праспект і вул. Камсамольская).

10.12.1918 г. Мінск вызвалены часцямі Чырвонай Арміі. Улада перайшла да Мінскага губернскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, які правёў вялікую работу па аднаўленні органаў Савецкай улады на вызваленай тэрыторыі. 30.12.1918 г. VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б), якая праходзіла ў Смаленску, аб'явіла сябе I з'ездам Кампартыі (бальшавікоў) Беларусі і прыняла рашэнне пра абвяшчэнне Беларускай



*Від на Саборную плошчу і Манастырскую вуліцу. Пачатак 20 ст.*

ССР. 1.1.1919 г. апублікаваны Маніфест аб утварэнні БССР. Мінск стаў сталіцай рэспублікі. 5.1.1919 г. сюды са Смаленска пераехаў Часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі, у студзені — лютым 1919 г. ён размяшчаўся ў доме на пл. Свабоды (былы Дом губернатара, цяпер музычная школа). У памяшканні гарадскога тэатра (цяпер тэатр імя Я. Купалы) 2—3.2.1919 г. адбыўся І Усебеларускі з'езд Саветаў, дзе старшыня ВЦВК Я. М. Свярдлоў абвясціў пастанову Прэзідыума ВЦВК «Аб прызнанні незалежнасці Беларускай Сацыялістычнай Савецкай рэспублікі». З'езд прыняў дэкларацыі: да ўсіх народаў і іх урадаў, у якой заклікаў прызнаць незалежнасць БССР і ўстанавіць з ёй дыпламатычныя адносіны; аб устанаўленні федэратыўнай сувязі з РСФСР; аб аб'яднанні савецкіх сацыялістычных рэспублік Літвы і Беларусі, што было выклікана неабходнасцю згуртаваць сілы абедзвюх рэспублік для барацьбы з унутранай і знешняй контррэвалюцыяй. З'езд прыняў першую Канстытуцыю БССР, выбраў ЦВК БССР.

Вясной 1919 г. на Беларусь пачалі наступленне войскі буржуазна-памешчыцкай Польшчы. У сувязі з рэальнай пагрозай захопу імі Мінска 8.5.1919 г. на сумесным пасяджэнні Мінскага Савета, савета прафсаюзаў і прадстаўнікоў фабзаўкомаў горада створаны Камітэт абароны Мінска, які правёў вялікую работу па мабілізацыі працоўных у Чырвоную Армію, на абарончыя работы і па забеспячэнню фронту прадуктамі. 20 мая У. І. Ленін даў указанне намесніку старшыні Рэўваенсавета РСФСР Э. М. Склянскаму прыняць тэрміновыя меры для ўмацавання абароны Мінска; 22 мая пастанову аб абароне горада прыняў Савет абароны Літоўска-Беларускай ССР. Былі праведзены партыйная, камсамольская, прафсаюзная мабілізацыі, сфарміраваны Першы Асобы рабочы полк імя Мінскага савета прафсаюзаў (больш за 600 чалавек), баявы атрад з рабочых-чыгуначнікаў, абсталяваны бліндзіраваны поезд. 20.6.1919 г. у Мінск прыбыў агітпоезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя» на чале са старшынёй ВЦВК М. І. Калініным, які ў той жа дзень выступіў з прамовай на аб'яднаным пасяджэнні ЦВК Літвы і Беларусі, Мінскага Савета, савета прафсаюзаў і праўленняў галіновых прафсаюзаў, дзе абмяркоўваўся дэкрэт ВЦВК РСФСР «Аб аб'яднанні савецкіх рэспублік: Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Беларусі для барацьбы з сусветным імперыялізмам». У сувязі з ліквідацыяй Савета абароны яго функцыі 26.7.1919 г. перададзены Мінскаму губернскаму рэвалюцыйнаму камітэту. Цяжкія баі на подступах да горада з 1 ліпеня вялі часці 52-й (начальнік Р. В. Лонгва, камісар А. С. Славінскі) і 17-й (начальнік Г. М. Барзінскі, камісар М. Д. Шчарбітаў) стралковых дывізій 1-й арміі. 28 ліпеня польскія войскі прарвалі лінію абароны, 8.8.1919 г. захапілі горад. Барацьбу супраць польскіх акупантаў узначальвалі камуністы. У верасні 1919 г. у мінскай падпольнай камуністычнай арганізацыі налічвалася 100 чалавек. Быў створаны Мінскі падпольны камітэт КП(б)ЛіБ, які арганізаваў канспіратыўныя партыйныя ячэйкі ў шэрагу галіновых прафсаюзаў, падпольныя камуністычныя групы ў польскіх вайсковых часцях. Пад кіраўніцтвам камітэта ў лістападзе 1919 г. на прадпрыемствах горада адбыліся палітычныя забастоўкі пратэсту супраць акупацыйнага рэжыму. У Мінску распаўсюджваліся газеты «Правда», «Звезда», «Жизнь национальностей», «Коммунист». У адным з дамоў на вул. Мала-Татарскай працавала падпольная друкарня. У кастрычніку 1919 г. створана мінская раённая паўстанцкая арганізацыя і штаб на чале з упаўнаважаным ЦК КП(б)ЛіБ В. Ф. Шаранговічам. Пад кіраўніцтвам штаба ў наваколлі Мінска дзейнічалі партызанскія атрады, у т. л. дукорскіх і козыраўскіх партызан. У выніку дзейнасці падпольных бальшавіцкіх арганізацый у барацьбу супраць акупантаў былі ўцягнуты шырокія слаі насельніцтва. 11.7.1920 г. Мінск быў вызвалены часцямі 27-й і 17-й стралковых дывізій 16-й арміі. Работу па аднаўленню Савецкай улады ў горадзе і губерні ўзначальваў створаны зноў 9.7.1920 г. Мінскі губернскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт (старшыня А. Р. Чарвякоў). 31.7.1920 г. на сумесным пасяджэнні губернскага ВРК, ЦК КП(б)ЛіБ з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый прынята «Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай ССР». 15.10.1920 г. войскі буржуазнай Польшчы, нарушыўшы перамір'е, зноў захапілі Мінск, але праз дзень былі выгнаны савецкімі войскамі.

Пасля вайны прамысловасць Мінска была ў цяжкім стане. Прадпрыемствы былі разбураны ці разрабаваны. Не хапала прадуктаў харчавання і тавараў. III з'езд КП(б)Б (22—25.11.1920 г.) і II Усебеларускі з'езд Саветаў (13—17.12.1920 г.), якія адбыліся ў Мінску, падвялі вынікі ўзброенай барацьбы за Савецкую ўладу і паставілі на першы план задачы гаспадарчага будаўніцтва. У выніку аднаўленчых работ у 1921—22 далі першую прадукцыю заводы машынабудаўнічы і чыгуналіцейны «Энергія», лесапільны, шкляны, дрождж авы і інш. Да пачатку 1924 г. у горадзе дзейнічалі 29 буйных прадпрыемстваў; у 1925—26 гг. сацыялістычны сектар у прамысловасці склаў 97,8 %. Упарадкоўвалася тэрыторыя горада: аднаўляліся разбураныя адміністрацыйныя і жылыя будынкі, у 1920-я гады пачалося будаўніцтва жылых кварталаў і рабочых пасёлкаў. У 1921 г. у Мінску працавала 108 школ па ліквідацыі непісьменнасці; у 1919 г. адкрыты Беларускі абласны музей (з 1923 г. Беларускі дзяржаўны музей), у 1920 — Першы Беларускі дзяржаўны тэатр, у 1921 — Беларускі дзяржаўны універсітэт, у 1922 — Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт), Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна, у 1923 г.— Дом-музей І з'езда РСДРП, у 1926 г.— Музей рэвалюцыі БССР.

Перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі дала моцны штуршок развіццю беларускага мастацтва. У гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі асаблівае пашырэнне атрымалі плакат і карыкатура. У Мінску дзейнічала мясцовае бюро РОСТА, мастакі актыўна ўдзельнічалі ў грамадска-палітычным жыцці горада, у афармленні плошчаў і вуліц у час рэвалюцыйных свят.

Манументальнае мастацтва першых паслярэвалюцыйных гадоў развівалася пад уздзеяннем ленінскага плана манументальнай прапаганды. У 1920-я гады закладка помнікаў, адкрыццё першых манументаў былі адной з форм палітычнага выхавання мас. Першая спроба стварыць вобразы выдатных дзеячаў міжнароднага рэвалюцыйнага руху ў манументальным мастацтве — часовы помнік-бюст К. Марксу (1922 г., скульпт. К. Елісееў) на рагу вуліц К. Маркса і Ф. Энгельса. У 1925 г. каля будынка Камуністычнага універсітэта Беларусі пастаўлены помнік У. І. Леніну (скульпт. А. Грубэ; не захаваўся). Важную ролю ў кансалідацыі мастацкіх сіл горада і рэспублікі адыграў Інбелкульт. Мастацкая секцыя разам з Наркаматам асветы, прафсаюзам работнікаў мастацтва была ініцыятарам арганізацыі 1-й Усебеларускай мастацкай выстаўкі (1925 г.), дзе экспанаваліся творы старажытна-беларускага мастацтва, жывапісу, графікі, скульптуры (экспанавалася 1115 твораў 85 мастакоў). Выстаўка выявіла творчы актыў і садзейнічала стварэнню Усебеларускага аб'яднання мастакоў.

У гады індустрыялізацыі і першых пяцігодак развівалася прамысловасць, гарадская гаспадарка і транспарт, жыллёвае будаўніцтва, культура і навука, павысіўся дабрабыт і адукацыйны ўзровень працоўных Мінска. Да 10-годдзя Кастрычніка пабудаваны хлебазавод, заводы крухмальны, гарбарны «Бальшавік»; завод «Энергія» выпусціў у 1927 г. першыя такарныя, у 1928 — свідравальныя станкі. У 1927 г. пачаў працаваць завод металавырабаў «Ударнік». За гады 1-й пяцігодкі (1928/29—1932/33 гг.) у Мінску пабудаваны 33 прамысловыя прадпрыемствы, у іх ліку фабрыкі швейная «Акцябр», кандытарская «Камунарка», галантарэйная, люстэркавая, заводы малочны, хіміка-фармацэўтычны. На базе дробных прадпрыемстваў створаны машынабудаўнічы завод «Камунар» (цяпер станкабудаўнічы імя С. М. Кірава), рэканструяваны станкабудаўнічы завод (цяпер імя Кастрычніцкай рэвалюцыі), фабрыкі дрэваапрацоўчая і абутковая. У 1930 г. было канчаткова ліквідавана беспрацоўе (у 1929 г. у горадзе было каля 7 тыс. беспрацоўных). У 1924 г. у Мінску пушчаны аўтобус, у 1929 г.— трамвай, у 1930 г. пачата будаўніцтва каналізацыйнай сеткі. У 1931 г. пабудаваны клінічны гарадок, у 1933 г.— АТС на 10 тыс. нумароў. У 1932/33 навучальным годзе ў горадзе працавала 21 агульнаадукацыйная школа, у іх больш за 20 тыс. вучняў. За гады 2-й пяцігодкі (1933—37 гг.) у Мінску пабудаваны 35 прамысловых аб'ектаў, у т. л. ЦЭЦ-2, асфальтабетонны і клінкерны заводы, аўтарамонтная станцыя, аэрапорт. У 3-й пяцігодцы (перарвана вайной) у 1940 г. уведзены ў дзеянне радыёзавод, хлебазавод «Аўтамат», кінафабрыка «Савецкая Беларусь».

У 1924—30 гг. Мінск быў цэнтрам Мінскай акругі, з 1934 г.— раёна, з 1938 г.— Мінскай вобл., з 27.9.1938 г.— горад абласнога падпарадкавання. У 1940 г. у Мінску былі 332 дзяржаўныя і кааператыўныя прадпрыемствы. Удзел шырокіх мас працоўных у сацыялістычным спаборніцтве за найвышэйшыя дасягненні ў вытворчасці, што пачаўся ў 1929 г., выліўся ў 1935 г. у масавы рух наватараў сацыялістычнай вытворчасці за павышэнне прадукцыйнасці працы на базе новай тэхнікі — стаханаўскі рух. У выніку выпуск прамысловай прадукцыі ў горадзе ў 1940 г. павялічыўся ў параўнанні з 1913 г. у 40 разоў. Значнае развіццё атрымалі навука, народная асвета, культура. У 1929 г. Інбелкульт рэарганізаваны ў Акадэмію навук БССР, на базе факультэтаў БДУ створаны ў 1930 г. медыцынскі, у 1931 г. педагагічны, юрыдычны, планава-эканамічны, фінансава-эканамічны і кааператыўны інстытуты (тры апошнія ў 1933 г. аб'яднаны ў інстытут народнай гаспадаркі, ВНУ тэхнічнага профілю — у політэхнічны інстытут). У 1932 г. пачалі працаваць Камуністычны інстытут журналістыкі, Вышэйшая камуністычная сельскагаспадарчая школа Беларусі імя У. І. Леніна, Беларуская дзяржаўная кансерваторыя, у 1936 г.— настаўніцкі інстытут, у 1937 г.— Інстытут фізічнай культуры, філармонія, у 1939 г.— Дзяржаўная карцінная галерэя БССР.

У 1940 г. у Мінску працавала 30 навуковых, 10 ВНУ, 17 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, 69 агульнаадукацыйных школ, 80 дзіцячых дашкольных устаноў. Дзейнічалі 81 масавая бібліятэка, 78 клубаў, 5 тэатраў, 4 музеі, 20 кінаўстановак. Агульная працягласць гарадскіх вуліц і праездаў 199,3 км, трамвайных ліній 36,7 км, жылы фонд складаў 1800 тыс. м². На 1.1.1941 г. у Мінску было 270,4 тыс. жыхароў.

* *
*

У гады Савецкай улады пачаўся планамерны працэс развіцця архітэктуры і будаўніцтва горада. Пасля заканчэння Грамадзянскай вайны і выгнання інтэрвентаў аднаўляліся разбураныя будынкі, у т. л. жылыя, добраўпарадкоўвалася тэрыторыя горада. Рэканструяваны старыя і пабудаваны новыя прамысловыя прадпрыемствы. З завяршэннем аднаўленчага перыяду пачалося індустрыяльнае развіццё горада, а разам з ім і хуткі рост насельніцтва. Узнікалі новыя кварталы, вуліцы і цэлыя рабочыя пасёлкі, якія забудоўваліся 4—16-кватэрнымі жылымі дамамі па тыпавых праектах,— Беларуская слабада (раён Ляхаўкі; з 1925 г.), пасёлкі Камінтэрн (1925—32 гг.), Гру-

шаўскі (1930—31 гг.), Пушкінскі (1938—41 гг.) і інш. У канцы 1920-х гадоў на свабодных участках, а таксама замест старых пабудоў у цэнтры і на ўскраінах узводзіліся новыя капітальныя жылыя і грамадскія будынкі. У 1927—32 гг. былі пабудаваны мураваныя шматпавярховыя жылыя дамы: дом энергетыкаў па вуліцы Кірава, дом кааператыву «Дзяржбанкавец» па вул. Валадарскага (інж. Г. Кавокін), 73-кватэрны дом Наркамлесу па вул. К. Маркса (архіт. А. Дзянісаў), 112-кватэрны дом чыгуначнікаў па вул. Маскоўскай (архіт. А. Воінаў, А. Крылоў, М. Гіляраў) і інш. Сярод буйных грамадскіх будынкаў таго часу — Дзяржбанка па вул. Савецкай (1927—29 гг., архіт. Г. Гольц, М. Паруснікаў), Дом селяніна на рагу вул. Чырвонаармейскай і К. Маркса (1929 г.), клуб харчавікоў па вул. Інтэрнацыянальнай (1927—29 гг., архіт. А. Бураў) і металістаў па вул. Кірава (1929—32 гг., архіт. А. Васільеў), кінатэатр «Чырвоная зорка» па вул. Савецкай (1927—30 гг., інж. Э. Лосер), будынак гідраметэаралічнай абсерваторыі (1934, архіт. І. Валадзько; усе, акрамя апошняга, не захаваліся). Вылучаліся архітэктурныя комплексы — Універсітэцкі гарадок (1928—31, архіт. І. Запарожац, Г. Лаўроў), Клінічны гарадок (1928—31 гг., архіт. Г. Лаўроў; сучасная 1-я гарадская клінічная бальніца). У 1931 г. у раёне парку Чэлюскінцаў быў пабудаваны комплекс 1-й Усебеларускай сельскагаспадарчай і прамысловай выстаўкі (архіт. А. Воінаў, А. Крылоў, М. Гіляраў, І. Валадзько). У гады 2-й і 3-й пяцігодак Мінск забудоўваўся ў паўднёвым і паўночна-ўсходнім напрамках — уздоўж Магілёўскай і Маскоўскай шашы, Лагойскага тракту.

У 1933—36 гг. Ленінградскае аддзяленне Дзіпрагара РСФСР распрацавала генеральны план сацыялістычнай рэканструкцыі і развіцця Мінска, які быў зацверджаны ў 1938 г.
Некаторыя змены ў перспектывах развіцця горада прывялі да карэкціроўкі плана (1939—41 гг., інстытут «Белдзяржпраект»). Адначасова выконваліся праекты рэканструкцыі асобных горадабудаўнічых вузлоў: плошчаў Леніна, Свабоды, Круглай (сучасная пл. Перамогі), Парыжскай камуны, Камароўскай (сучасная пл. Я. Коласа), Прывакзальнай. Большасць з гэтых праектаў завяршыць не давялося. З запланаваных работ па добраўпарадкаванню набярэжнай р. Свіслач і арганізацыі зялёнай паласы ўздоўж яе поймы створана толькі Камсамольскае возера і часткова рэканструяваны сад Прафінтэрна (сучасны Цэнтральны дзіцячы парк імя М. Горкага). За гады перадваенных пяцігодак былі праведзены вялікія работы па добраўпарадкаванню і азеляненню горада. Даўжыня брукаваных вуліц павялічылася ў 4 разы, атрымаў развіццё гарадскі транспарт, значна пашырылася сетка водаправода і каналізацыі. Жыллёвы фонд, пабудаваны ў даваенны час, у 2 разы перавышаў увесь жылы фонд дарэвалюцыйнага Мінска. Да 1941 г. узведзены грамадскія будынкі, якія істотна змянілі архітэктурнае аблічча Мінска. Сярод іх — Дом урада (1930—34 гг., архіт. І. Лангбард), Дом Чырвонай Арміі (1934—39 гг., архіт. І. Лангбард), бібліятэка імя Леніна (1932 г., архіт. Г. Лаўроў), Палац піянераў і школьнікаў (1937 г., архіт. А. Воінаў, У. Вараксін), Дзяржаўны тэатр оперы і балета (1933—37 гг., архіт. І. Лангбард), галоўны корпус АН БССР (завершаны ў 1939 г., архіт. І. Лангбард), вучэбныя карпусы і інтэрнаты політэхнічнага інстытута (1932 г., архіт. Г. Лаўроў), інстытут фізічнай культуры (1939 г., архіт. А. Воінаў, А. Брэгман), гасцініца «Свіслач» (да 1987 г. «Беларусь»; архіт. А. Воінаў). Вылучаліся новыя жылыя дамы — 100-кватэрны Дом спецыялістаў (1934 г., не збярогся) па вул. Савецкай, 108-кватэрны гарсавета (1937—39 гг., архіт. Г. Якушка) на Ленінскім праспекце. У 1941 амаль завершаны будынак ЦК КПБ па вул. К. Маркса (архіт. А. Воінаў, У. Вараксін), жылыя 115—127-, 130-кватэрныя дамы ў раёне Круглай плошчы (архіт. Р. Столер, завершаны ў 1947 г.).

Пры будаўніцтве Дома ўрада БССР і афармленні яго інтэр'ераў вырашалася праблема сінтэзу мастацтваў. Зала пасяджэнняў Вярхоўнага Савета БССР, канферэнц-залы, кулуары і інш. памяшканні афармлены размалёўкамі (мастакі М. Лебедзева і І. Фрэнк, кіраўнік І. Бродскі) і шматфігурнымі рэльефамі на тэмы рэвалюцыйнай барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва (скульпт. А. Бембель, У. Рытэр, Р. Ізмайлаў, кіраўнікі М. Манізер, М. Керзін, І. Лангбард). Для Дома ўрада была створана галерэя скульптурных партрэтаў: К. Маркса, Ф. Энгельса (скульпт. М. Керзін), Г. Бабёфа, Ф. Э. Дзяржынскага і А. Ф. Мяснікова (скульпт. З. Азгур), М. В. Фрунзе (скульпт. А. Глебаў), М. Г. Чарнышэўскага (скульпт. А. Арлоў), К. Лібкнехта (скульпт. Р. Ізмайлаў). У агульную кампазіцыю плошчы перад Домам урада ўключаны помнік У. І. Леніну (1933 г., скульпт. М. Манізер, архіт. І. Лангбард). Сінтэз пластычнага мастацтва і архітэктуры дапамагае раскрыць прызначэнне будынка, надаць яму выразнасць. Прынцыпы сінтэзу мастацтва былі выкарыстаны таксама ў інтэр'ерах Дома Чырвонай Арміі (архіт. І. Лангбард, скульпт. А. Бембель, А. Глебаў і інш.), у фае тэатра оперы і балета (скульпт. З. Азгур, А. Бразер, А. Арлоў).

Вялікія выпрабаванні Мінск перажыў у Вялікую Айчынную вайну. Вераломны напад фашысцкай Германіі на СССР перапыніў мірную стваральную працу мінчан. 22 чэрвеня 1941 г. ЦК КП(б)Б правёў сход гарадскога партактыву, на якім з дакладам «Аб задачах партыйных арганізацый у сувязі з пачаткам вайны» выступіў першы сакратар ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка. ЦК партыі і ўрад рэспублікі наметылі канкрэтныя мерапрыемствы па перабудове работы партыйных, савецкіх, гаспадарчых і адміністрацыйных

арганізацый, транспарту і сувязі адпаведна задачам ваеннага часу. Асаблівая ўвага аддавалася правядзенню мабілізацыі, усемагчымай дапамозе Чырвонай Арміі, узмоцненай ахове прамысловых прадпрыемстваў, вузлоў сувязі і транспарту ад верагоднага пранікнення варожых дыверсантаў, стварэнню ўзброеных атрадаў з рабочых, арганізацыі медыцынскай дапамогі параненым. Было ўведзена ваеннае становішча.

24 чэрвеня варожая авіяцыя вяла масіраваную бамбардзіроўку горада. Мінск быў разбураны, паўсюдна ўзнікалі пажары, выйшлі са строю водаправод, электрасетка і інш. камунікацыі. У выключна складаных і напружаных абставінах была праведзена мабілізацыя. У Чырвоную Армію накіравана каля 27 тыс. чалавек, больш за 700 аўтамашын і трактароў, каля 20 тыс. коней, іншыя мабілізацыйныя рэсурсы, сфарміраваны 1-ы Мінскі запасны полк (10 тыс. чал.). Праводзіліся работы па эвакуацыі. Мінскія чыгуначнікі адправілі на ўсход больш за 10 саставаў з насельніцтвам і матэрыяльнымі каштоўнасцямі. Паводле рашэння ЦК КП(б)Б ад 23 чэрвеня ў Мінску былі створаны знішчальныя атрады і баявыя рабочыя дружыны, пазней многія байцы з гэтых фарміраванняў удзельнічалі ў абаронча баях.

Мінск абаранялі войскі 44-га (камдыў В. А. Юшкевіч, 64-я і 108-я стралковыя дывізіі) і 2-га (генерал-маёр А. М. Ермакоў, 100-я і 161-я стралковыя дывізіі) стралковых карпусоў 13-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант П. М. Філатаў) Заходняга фронту. 25 чэрвеня 3-я і 2-я нямецкія танкавыя групы з паўночнага і паўднёвага захаду наблізіліся да Мінска. На рубяжы Стайкі — Заслаўе — Дзяржынск абарону трымалі войскі 64-й (камандзір палкоўнік С. І. Іаўлеў) і 108-й (генерал-маёр А. І. Маўрычаў) стралковых дывізій. У ходзе баёў толькі 64-я дывізія знішчыла да 300 танкаў, бронe- і аўтамашын ворага. На рубяжы Астрашыцкі Гарадок — Карасі мужна змагаліся воіны 100-й стралковай дывізіі (палкоўнік І. М. Русіяпаў). За трое сутак баёў дывізія разграміла пяхотны і танкавы палкі, знішчыла 101 танк, 13 бронемашын, 61 матацыкл, 23 процітанкавыя гарматы праціўніка. 27 чэрвеня разам з 161-й стралковай дывізіяй (палкоўнік А. І. Міхайлаў) яна перайшла ў наступленне, адкінула праціўніка на 13—14 км на паўночны захад. Для знішчэння нямецкіх танкаў савецкія воіны выкарыстоўвалі бутэлькі з бензінам. На паўднёвы захад ад Мінска 28 чэрвеня 26-я танкавая дывізія (генерал-маёр В. Ц. Обухаў) вывела са строю 50 нямецкіх танкаў. Тром стралковым дывізіям, якія абаранялі Мінск, у верасні 1941 г. нададзены найменні гвардзейскіх: 100-я стала 1-й гвардзейскай, 161-я — 4-й гвардзейскай, 64-я — 7-й гвардзейскай дывізіямі.

Выкарыстаўшы вялікую перавагу ў сілах, гітлераўцы 28.6.1941 г. уварваліся ў Мінск. Акупанты ўстанавілі ў горадзе жорсткі рэжым тэрору. У Мінску размясціліся штаб корпуса па ахове тылу армій «Цэнтр», аддзел ваеннай разведкі і контрразведкі, упраўленне паліцыі бяспекі і СД, штаб па барацьбе з партызанскім рухам, часці СС, жандармерыя, ахоўная паліцыя і інш. Насельніцтва было пазбаўлена элементарных грамадзянскіх правоў, уведзены надзвычайнае становішча, сістэма заложнікаў. У Мінску і яго ваколіцах акупанты стварылі канцэнтрацыйныя лагеры: на вул. Шырокай, на станцыі Мінск-Таварны, у раёне вул. Нямігі, каля Старажоўскіх могілак, у прыгарадах — Драздны і Масюкоўшчына, у в. Трасцянец. За гады акупацыі гітлераўцы расстралялі, павесілі, атруцілі ў душагубках, спалілі больш за 70 тыс. мінчан; у горадзе і наваколлі акупанты загубілі больш за 400 тыс. чалавек. Аб жудасных злачынствах сведчаць магілы ахвяр фашызму ў парку імя Чэлюскінцаў, на бульвары Талбухіна, у пасёлку Усходні на 9-м км Маскоўскай шашы, каля вёсак Масюкоўшчына, Вялікі Трасцянец, у в. Малы Трасцянец.

З першых дзён акупацыі разгарнулася барацьба працоўных Мінска супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З чэрвеня 1941 г. дзейнічала Мінскае камуністычнае падполле і яго састаўная частка — камсамольскае падполле. У ліку першых створаны падпольная група ў паравозным дэпо станцыі Мінск, у якую ўвайшлі Ф. С. Кузняцоў, А. Дз. Балашоў, І. Г. Сцяпура, К. А. Паўлечка, В. С. Купрыянава і інш.; падпольная партыйная група ў раёне Камароўкі ў складзе С. І. Зайца (Зайцава), С. К. і У. С. Амельянюкоў, А. В. Каліноўскага, І. М. Цімчука і інш. Падпольную партыйную групу ў Кастрычніцкім раёне стварылі былыя работнікі рэспубліканскай канторы Белнафтазбыту К. Дз. Грыгор'еў, І. П. Казінец, В. К. Нікіфараў, Г. М. Сямёнаў і інш.; камуністы М. Ф. Малаковіч, М. Б. Осіпава, А. А. Сакалова арганізавалі падпольную групу з выкладчыкаў і студэнтаў юрыдычнага інстытута. У падпольную групу гета ўваходзілі М. Л. Гебелеў, М. Л. Екельчык, М. М. і Х. М. Прусліны, Н. Л. Фэльдман і інш. Да канца 1941 г. у Мінску і яго наваколлі дзейнічала больш за 50 падпольных арганізацый і груп. У канцы лістапада 1941 г. на нарадзе кіраўнікоў партыйных арганізацый і груп Камароўкі, чыгуначнага вузла, Белнафтазбыту створаны Мінскі падпольны гарадскі партыйны камітэт. У кантакце з гаркомам дзейнічаў Ваенны савет партызанскага руху, створаны ў верасні 1941 г. з ваеннаслужачых Чырвонай Арміі, што не выйшлі з акружэння ці ўцяклі з палону. У канцы 1941 г. пад кіраўніцтвам гаркома ў горадзе (без наваколля) дзейнічалі некалькі дзесяткаў падпольных партыйных і камсамольскіх груп. Падпольныя арганізацыі і групы былі створаны і дзейнічалі на чыгуначным вузле, на заводах вагонарамонтным імя А. Ф. Мяснікова і станкабудаў-

пічым імя Варашылава, на цагельных № 1 і № 4, на хіміка-фармацэўтычным, піўзаводзе «Беларусь», ЦЭЦ-2, у старажоўскай хлебапякарні, на харчовых складах і базах і інш. У барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў з пачатку акупацыі актыўна ўключыліся камсамольцы і моладзь Мінска. Летам і восенню 1941 г. пад кіраўніцтвам камуністаў, з канца 1941 г.— Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б былі створаны і дзейнічалі падпольныя камсамольскія групы і арганізацыі, у іх ліку арганізацыя «Андруша», арганізацыі вуліц Розы Люксембург і Карла Лібкнехта, цвіковага завода, гарбарнага завода «Бальшавік», падпольныя групы ў аптэцы № 1, на Балотнай станцыі, на пладова-агародніннай базе № 1, на торфапрадпрыемстве «Чырвоны сцяг». Да верасня 1942 г. арганізатарам і кіраўніком камсамольскага падполля горада быў С. А. Благаразумаў (псеўданім Быстры, загінуў). У горадзе дзейнічалі падпольныя арганізацыі і групы, не звязаныя з гаркомам КП(б)Б. У пачатку ліпеня 1941 г. створана група на чале з камуністам А. А. Марксвічам, якая вырасла ў значную падпольную арганізацыю. Пад яе кіраўніцтвам у горадзе і навакольных вёсках дзейнічалі 6 падпольных груп, у т. л. на радыёзаводзе і вагонарамонтным заводзе імя А. Ф. Мяснікова, у гарадской управе. Група падпольшчыкаў, якую ўзначальвалі К. І. Трус і В. Ф. Шчарбацэвіч, выратоўвала савецкіх ваеннаслужачых, якія трапілі ў палон, забяспечвала іх дакументамі, перапраўляла да партызан. Акупанты напалі на след патрыётаў. 26.10.1941 г. гітлераўцы павесілі 12 падпольшчыкаў, сярод іх К. І. Трус, В. Ф. Шчарбацэвіч з 14-гадовым сынам Валодзем, Н. Ф. і П. Ф. Янушкевічы.

У сакавіку — красавіку 1942 г. фашысцкія карнікі правялі ў горадзе масавыя арышты. У выніку былі разгромлены падпольная друкарня, многія канспіратыўныя кватэры. У гітлераўскія катавальні было кінута больш за 400 чалавек, у т. л. члены падпольнага гаркома партыі. 7.5.1942 г. было расстраляна і павешана 279 чалавек, у т. л. І. П. Казінец, С. І. Заяц (Зайцаў), Г. М. Сямёнаў. Але падполле ўдасканальвала сваю арганізацыю і працягвала барацьбу. На майскай нарадзе 1942 г. у склад падпольнага гаркома партыі ўвайшлі Дз. А. Караткевіч, В. К. Нікіфараў, У. С. Амельянюк і інш. Пасля гібелі У. С. Амельянюка (26.5.1942 г.) у камітэт уведзены К. І. Хмялеўскі. Пры камітэце была створана аператыўная група па барацьбе з варожымі агентамі і правакатарамі, якую ўзначаліў І. К. Кабушкін. Паводле рашэння майскай 1942 г. нарады актыву падполля ў горадзе створаны падпольныя райкомы КП(б)Б: Варашылаўскі, Чыгуначны, Кастрычніцкі, Сталінскі, Тэльманаўскі. Падпольшчыкі вялі палітычную работу сярод насельніцтва, арганізоўвалі сабатаж і дыверсіі, выратоўвалі савецкіх ваеннаслужачых, якія трапілі ў палон, стваралі баявыя атрады, вялі разведку, здабывалі зброю. Сетка падпольных арганізацый пашыралася. Яны дзейнічалі на заводах імя А. Ф. Мяснікова, «Бальшавік», «Чырвоная зара», радыёзаводзе, хлебазаводзе «Аўтамат», у Доме друку, на абутковых фабрыках і інш. Умацаваліся падпольныя групы і арганізацыі, якія былі створаны ў раёнах Камароўкі, Старажоўкі, парку імя Чэлюскінцаў, у пасёлках Пушкінскі, Грушаўскі, імя Камінтэрна, па Чэрвеньскім тракце і інш. Жыццё многім савецкім патрыётам выратаваў прафесар медыцыны Я. У. Клумаў, які перадаў падпольшчыкам і партызанам шмат медыкаментаў, з яго дапамогай былі абсталяваны 2 палявыя шпіталі. Падполле ў 1942 г. налічвала больш за 3200 чалавек. Яно трымала сувязь з сельскімі падпольнымі арганізацыямі, больш чым з 30 партызанскімі атрадамі і брыгадамі, дапамагала ім разведвальнымі данымі, забяспечвала рост іх асабовага складу, збірала і перапраўляла партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты.

У верасні — лістападзе 1942 г. падполле зноў панесла вялікія страты. Былі схоплены і загублены члены Мінскага камітэта КП(б)Б Дз. А. Караткевіч, В. К. Нікіфараў, К. І. Хмялеўскі, сакратары гарадскіх райкомаў партыі Н. Я. Герасіменка, І. І. Матусевіч, М. К. Каржанеўскі, М. А. Шугаеў, у катавальнях СД, у канцлагерах загінулі сотні актыўных падпольшчыкаў. Нягледзячы на цяжкія страты, падпольшчыкі працягвалі весці шырокую палітычную работу, друкавалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро і іншыя выданні. Першым нелегальным партыйным органам у акупіраваным Мінску быў «Вестник Родины», які выдаваўся паводле рашэння падпольнага гаркома КП(б)Б у падпольных друкарнях па вул. Астроўскага, 7, і Дабрамысленскім завулку, 7 (захаваліся тры нумары выдання ад 18, 25 студзеня і 1 лютага 1942 г.). У маі — верасні 1942 г. падпольшчыкі горада выпусцілі 4 нумары газеты «Звязда» [орган Мінскага падпольнага гарадскога камітэта КП(б)Б] агульным тыражом 10 000 экз. Першы нумар (рэдактар У. С. Амельянюк) быў нелегальна набраны ў друкарні Дома друку, набор тайна вынесены на канспіратыўную кватэру



*Цэнтральная частка Мінска, разбураная нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г.*

падпольшчыкаў Воранавых па вул. Шорнай, 9, дзе надрукавана газета. Наступныя 2 нумары «Звязды» набраны і надрукаваны ў падпольнай друкарні, якая размяшчалася ў доме Т. Якавенкі па вул. Выдавецкай, 10; тут набраны і 4-ы нумар, але ў сувязі з пагрозай правалу быў надрукаваны на кватэры П. К. Хадасевіча па вул. 3-я Лінія, 26. Мінскія падпольшчыкі (група А. А. Маркевіча) у 1942 г. на шапірографе надрукавалі 8 нумароў газеты «Патриот Родины» (агульны тыраж 80—100 экземпляраў). Нягледзячы на параўнальна невялікія тыражы і малы фармат, падпольныя выданні адыгралі важную ролю ў палітычнай рабоце, натхнялі і мабілізоўвалі насельніцтва на барацьбу з акупантамі.

У верасні 1943 г. ЦК КП(б)Б зацвердзіў прапанову Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б аб стварэнні Мінскага падпольнага гаркома партыі, які базіраваўся ў партызанскім атрадзе недалёка ад горада. Сакратары С. К. Ляшчэня (Савельеў), Г. М. Машкоў, І. П. Паромчык. З лістапада 1943 г. выдавалася газета «Минский большевик» — орган Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б (выйшла 25 нумароў), друкаваліся лістоўкі, спецвыпускі «Вести с фронтов», «Вести с советской Родины», зводкі Саўінфармбюро. За час акупацыі горада падпольшчыкі правялі супраць акупантаў каля 1500 дыверсій. Паводле прыгавору беларускага народа яны 22.9.1943 г. знішчылі генеральнага камісара Беларусі В. Кубэ. Толькі ў маі — верасні 1942 г. да партызан накіравана больш за 2 тыс. чалавек, у 1943 г.— 6,5 тыс. мінчан. Пры непасрэдным удзеле Мінскага падполля ў 1941—42 гг. створаны партызанскія атрады «Мсціўцы», № 208, М. Нікіціна, «Штурм», «Бальшавік», імя С. М. Будзённага, імя В. П. Чкалава, імя А. В. Суворава, імя М. В. Фрунзе, імя С. Г. Лазо і іншыя. У канцы 1943 — пачатку 1944 г. у Мінску арганізавана 79 баявых груп.

Пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага абкома і міжрайкома КП(б)Б з 18.7.1942 г. да 22.11. 1943 г. дзейнічаў створаны ЦК ЛКСМБ Мінскі падпольны міжрайком ЛКСМБ; з 12.12.1942 г. да 4.7.1944 г. дзейнічаў створаны Мінскім падпольным міжрайкомам ЛКСМБ Мінскі падпольны гарком ЛКСМБ, які базіраваўся ў партызанскай брыгадзе «Штурмавая» ў Заслаўскім р-не, а з 25.1 да 4.7.1944 г.— Мінскі паўднёвы падпольны гарком ЛКСМБ, пад кіраўніцтвам якога працавалі 3 падпольныя гарадскія райкомы камсамола. У камсамольскае падполле ўваходзіла больш за 70 падпольных арганізацый і груп.

1100 дзён у акупіраваным Мінску ішла мужная барацьба з ворагам. Мінскае падполле аб'ядноўвала каля 9 тыс. прадстаўнікоў 25 нацыянальнасцей СССР, антыфашыстаў 9 замежных краін, налічвала каля 3000 рабочых, 2235 служачых, 1860 былых ваеннаслужачых, больш за 1700 навучэнцаў і хатніх гаспадынь, у іх ліку 1025 камуністаў, 2044 камсамольцы. За выдатныя заслугі, стойкасць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, падпольшчыкі У. С. Амельянюк, І. К. Кабушкін, І. П. Казінец, М. А. Кедышка, Я. У. Клумаў, А. Р. Мазанік, М. Б. Осіпава ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза. Многія актыўныя ўдзельнікі падполля ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі.



*Забудова плошчы Калініна.*

У ходзе Беларускай наступальнай аперацыі, якая пачалася 23.6.1944 г., войскі Чырвонай Арміі прарвалі абарону праціўніка, акружылі і знішчылі яго буйныя групоўкі пад Віцебскам, Оршай, Магілёвам, Бабруйскам і разгарнулі наступленне на мінскім напрамку. 29 чэрвеня пачалася Мінская аперацыя. У ёй удзельнічалі войскі 1-га Беларускага фронту (Маршал Савецкага Саюза К. К. Ракасоўскі) у складзе армій: 3-й (генерал-палкоўнік А. В. Гарбатаў), 48-й (генерал-лейтэнант П. Л. Раманенка), 16-й паветранай (генерал-палкоўнік авіяцыі С. І. Рудэнка), конна-механізаванай групы (генерал-лейтэнант І. А. Пліеў), 1-га гвардзейскага танкавага корпуса (генерал-маёр танкавых войск М. Ф. Паноў); 2-га Беларускага фронту (генерал-палкоўнік Г. Ф. Захараў) у складзе армій: 33-й (генерал-лейтэнант В. Дз. Кручонкін), 49-й (генерал-лейтэнант І. Ц. Грышын), 50-й (генерал-лейтэнант І. В. Болдзін), 4-й паветранай (генерал-палкоўнік авіяцыі К. А. Вяршынін); 3-га Беларускага фронту (генерал арміі І. Д. Чарняхоўскі) у складзе армій: 5-й (генерал-лейтэнант М. І. Крылоў), 5-й гвардзейскай танкавай (маршал бранятанкавых войск П. А. Ротмістраў), 11-й гвардзейскай (генерал-палкоўнік К. М. Галіцкі), 31-й (генерал-лейтэнант В. В. Глаголеў), 1-й паветранай (генерал-палкоўнік Ц. Ц. Хрукін), конна-механізаванай групы (генерал-лейтэнант М. С. Аслікоўскі), 2-га гвардзейскага танкавага корпуса (генерал-маёр танкавых войск А. С. Бурдзейны).

2.7.1944 г. вечарам на падыходах да Мінска баі завязалі 2-і гвардзейскі танкавы корпус каля в. Жукаў Луг і 5-я гвардзейская танкавая армія ў раёне Астрашыцкага Гарадка. На досвітку 3 ліпеня з усходу і паўночнага ўсходу ў горад уварваліся войскі 2-га гвардзейскага танкавага кор-

 пуса, з поўначы — часці 5-й гвардзейскай танкавай арміі, перадавыя часці 11-й гвардзейскай і 31-й армій 3-га Беларускага фронту; у сярэдзіне дня з паўднёвага ўсходу — 1-ы гвардзейскі танкавы корпус і злучэнні 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 2-й палове дня 3.7.1944 г. Мінск быў поўнасцю вызвалены. З выхадам войск 3-га і 1-га Беларускіх франтоў да Мінска на ўсход ад горада было завершана акружэнне галоўных сіл 4-й і асобных часцей 9-й нямецкіх армій. Стварыўся мінскі «кацёл», у які трапіла 105 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка. У выніку ліквідацыі «катла» да 14 ліпеня знішчана больш за 70 тыс., узята ў палон каля 35 тыс. варожых салдат і афіцэраў. У ліквідацыі «катла» разам з вайсковымі часцямі ўдзельнічалі партызаны брыгад 1-й і 2-й Мінскай, імя К. К. Ракасоўскага, «Дзядзькі Колі», імя В. П. Чкалава, «За Савецкую Беларусь», «Штурмавая», імя газеты «Правда», «Полымя», імя М. А. Шчорса і інш. 52 вайсковым злучэнням і часцям Чырвонай Арміі, якія вызначыліся пры вызваленні горада, нададзены ганаровыя найменні «Мінскіх». 16.7.1944 г., як трыумф вызвалення і перамогі над ворагам, у Мінску на тэрыторыі былога іпадрома быў праведзены мітынг працоўных горада з удзелам дэлегацыі Чырвонай Арміі на чале з камандуючым 3-м Беларускім фронтам генералам арміі І. Д. Чарняхоўскім і дэлегацыі



*Вуліца Няміга. Фота 1967 г.*



*Фрагмент забудовы вуліцы Няміга і праспекта Машэрава.*

працоўных г. Горкага. Пасля мітынгу адбыўся парад больш як 30 тыс. партызан.

Страты, нанесеныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі гаспадарцы Мінска, былі велізарныя. Акупанты знішчылі 5975 жылых дамоў, што складала больш за 80 % даваеннага жылога фонду. З 332 дзяржаўных і кааператыўных прадпрыемстваў асталося толькі 19, былі разбураны чыгуначны вузел, амаль усе школы, тэхнікумы, вышэйшыя навучальныя ўстановы, у руіны ператвораны Універсітэцкі гарадок, будынкі Дзяржфілармоніі і кансерваторыі, 8 кінатэатраў, Палац піянераў і школьнікаў і інш. Агульныя страты, нанесеныя гаспадарцы горада, склалі 6 млрд. руб. (у цэнах 1941 г.). У 1944 г. у Мінску каля 45—50 тыс. жыхароў.

Дзякуючы намаганням працоўных і дапамозе братніх народаў Савецкай краіны працэс адраджэння горада адбываўся даволі хутка. У ліпені 1944 г. былі ўведзены ў строй хлебазавод «Аўтамат», электрастанцыя і водаправод, чыгуначны вузел, друкарня, наладжана тэлеграфная сувязь з Масквою і абласнымі цэнтрамі рэспублікі. На аднаўленне і развіццё Мінска ўрад СССР у 1945 г. дадаткова асігнаваў 220 750 тыс. руб. На 1.1. 1945 г. у Мінску працавала 21, на канец года — 56 прамысловых прадпрыемстваў, адноўлена каля 100 тыс. м² жылля, 14 км трамвайнай лініі, будынкі шмат якіх медыцынскіх, культурна-асветных, адміністрацыйных устаноў.

У 1944 г. у Мінск вярнуліся і пачалі працаваць калектывы тэатраў оперы і балета, імя Я. Купалы, філармоніі, ансамбля песні і танца. 7.11.1944 г. адкрыты Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Аднавілі работу Беларускі дзяржаўны універсітэт, політэхнічны, педагагічны, медыцынскі, юрыдычны, народнай гаспадаркі, фізкультурны інстытуты, кансерваторыя, 25 школ, у 1945 г.— тэатральны і лесатэхнічны інстытуты. Аднавіла работу карцінная галерэя, адкрыты Літаратурны музей Янкі Купалы. З 14.5.1946 г. Мінск — горад

рэспубліканскага падпарадкавання. Да 1.1.1949 г. прамысловасць горада па выпуску валавой прадукцыі дасягнула даваеннага ўзроўню.

У кастрычніку 1944 г. распрацаваны «Эскіз планіроўкі Мінска», які стаў асновай генплана аднаўлення і развіцця горада (1946 г., інстытут «Белдзяржпраект»). Генеральны план прадугледжваў фарміраванне грамадскага цэнтра, расшырэнне існуючых і пракладванне новых магістраляў з паступовым пераходам на радыяльна-кальцавую сістэму вуліц, стварэнне буйных жылых і прамысловых раёнаў, арганізацыю сістэмы азелянення, інжынернага добраўпарадкавання горада. У 1951—52 гг. генплан скарэкціраваны, удакладнены і паглыблены рашэнні па найбольш складаных праблемах рэканструкцыі і далейшага развіцця Мінска.

Адметнай рысай пасляваеннага будаўніцтва горада з'явілася шырокае развіццё архітэктурных ансамбляў, цэласнай забудовы вуліц, плошчаў, кварталаў. Менавіта ў гэты час быў створаны адзін з лепшых ансамбляў сталіцы — Ленінскі праспект з плошчамі У. І. Леніна, Цэнтральнай (цяпер Кастрычніцкая), Перамогі, Я. Коласа, Калініна і зялёнымі масівамі ўздоўж р. Свіслач. Галоўная вуліца сталіцы забудоўвалася шматпавярховымі жылымі дамамі і грамадскімі будынкамі, сярод якіх гасцініца «Мінск» (1957 г., архіт. Г. Баданаў), паштамт (1953 г., архіт. У. Кароль), Дзяржаўны універмаг (1951 г., архіт. Л. Мілегі, Р. Гегарт), Дзяржбанк (1952 г., архіт. М. Парусьнікаў), Палац прафсаюзаў (1954 г., архіт. У. Яршоў), цырк (1959 г., архіт. В. Жукаў) і інш. У забудову цэнтра арганічна ўвайшлі будынкі, якія былі значна пашкоджаны (Дом урада, будынак ЦК КПБ, тэатр оперы і балета) і новыя комплексы — стадыён «Дынама» (1954 г., архіт. М. Колі, М. Парусьнікаў і інш.), Прывакзальная плошча (1956 г., архіт. Б. Рубаненка, Л. Галубоўскі, А. Карабельнікаў) і інш.



*Забудова вуліцы Харкаўскай.*



*Палац культуры вытворчага тонкасуконнага аб'яднання імя Ц. Я. Кісялёва.*

У 1950-я гады ствараецца ансамбль Круглай плошчы (сучасная пл. Перамогі), ідэйным і кампазіцыйным цэнтрам якой з'яўляецца манумент Перамогі (1954 г., архіт. Г. Заборскі, У. Кароль, скульпт. З. Азгур, А Бембель, А. Глебаў, С. Селіханаў), пастаўлены ў гонар перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй і на ўшанаванне памяці воінаў Савецкай Арміі і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Кварталы, прылеглыя да галоўнай магістралі, забудоўваліся шматпавярховымі жылымі дамамі (вул. Леніна, Энгельса, Свярдлова, Кірава), узведзены будынкі тэхналагічнага інстытута (1957 г., архіт. А. Брэгман, В. Ладыгіна), абкома КПБ (1956 г., архіт. А. Воінаў, Л. Усава), мастацкага музея БССР (1957 г., архіт. М. Бакланаў), Цэнтральнага тэлеграфа (1957 г., архіт. У. Кароль, А. Духан), Беларускай кансерваторыі (1958 г., архіт. Р. Гегарт) і інш. У 1-е пасляваеннае 10-годдзе ў паўднёва-ўсходняй частцы горада пабудаваны заводы: аўтамабільны, трактарны, мотавеласіпедны, падшыпнікавы, запасных частак, аўтаматычных ліній, камвольны камбінат і інш., каля іх — кварталы жылых дамоў. На паўночна-заходнім баку Камароўскай плошчы (сучасная пл. Якуба Коласа) узведзены вытворчыя карпусы паліграфічнага камбіната імя Якуба Коласа (1956 г., архіт. С. Баткоўскі, Н. Шпігельман).

З сярэдзіны 1950-х гадоў у горадабудаўніцтве і архітэктуры Мінска адбываліся значныя якасныя змены. На аснове індустрыяльных метадаў жыллёвае будаўніцтва вялося канцэнтравана, вялікімі масівамі. Былі забудаваны кварталы па вул. Арлоўскай (цяпер Варашылава) і мікрараён па вул. Валгаградскай, кварталы па вул. Апанскага, В. Харужай і М. Горкага. У 1965 г. зацверджаны другі пасляваенны генеральны план забудовы горада, вызначаны і ўдакладнены зоны жыллёвага і прамысловага будаўніцтва і ў пер-




*Кінатэатр «Сучаснік».*

шую чаргу такія буйныя жылыя раёны, як Чыжоўка, Усход, Зялёны Луг, Серабранка. Фарміраваўся водна-зялёны дыяметр, вакол горада створана кальцавая аўтамагістраль (1963 г.), якая звязала раёны горада і дала магчымасць разгрузіць яго ад транзітнага транспарту. Пачалася рэканструкцыя існуючых магістраляў — Ленінскага праспекта і яго працягу — вул. Маскоўскай, вялася забудова вуліц Я. Коласа, В. Харужай, Няміга, Казлова, Маякоўскага, Прытыцкага, пракладваўся праспект Пушкіна і інш. Гэта дало магчымасць узбуйніць маштаб горада, стварыць перадумовы для фарміравання цэласных архітэктурных ансамбляў, плошчаў, рацыянальна размясціць аб'екты культурна-бытавога абслугоўвання насельніцтва. Далейшае ўдакладненне і развіццё атрымалі гэтыя пытанні пры карэкціроўцы генеральнага плана ў 1969 і 1972—73 гадах, калі былі вызначаны першачарговыя задачы на 1980—85 гг. і прагнозы фарміравання горада да 2000 года і на больш далёкую перспектыву. Пачалі забудоўвацца буйныя жылыя раёны Курасоўшчына, Масюкоўшчына.

У 1974 г. складзены праект дэталёвай планіроўкі цэнтра Мінска і эскіз забудовы водна-зялёнага дыяметра. Галоўнае кампазіцыйнае ядро цэнтра фарміравалася ў раёне Цэнтральнай плошчы (цяпер Кастрычніцкая). Ствараліся ансамблі грамадска-дзелавых комплексаў і жылых раёнаў на асноўных радыяльных напрамках: па вул. Няміга, М. Горкага, Я. Коласа, Прытыцкага, Паркавай магістралі (сучасны праспект Машэрава), праспектах Партызанскім, Пушкіна.

Адначасова ішоў пошук новых архітэктурных форм, якія паляпшалі б знешні выгляд будынкаў, рабілі больш выразнымі і разнастайнымі іх кампазіцыйную будову і афармленне.

У 1960—70-я гады ў горадзе ўзведзены па індывідуальных праектах шэраг грамадскіх збудаванняў: будынак гарсавета (1964 г., архіт. С. Мусінскі, Г. Сысоеў), кінатэатры «Піянер» (1965 г., архіт. Г. Заборскі), «Кастрычнік» (1975 г., архіт. В. Малышаў), Палац культуры трактарнага завода (1960 г., архіт. Г. Бенядзіктаў), Палац культуры тэкстыльшчыкаў (1960 г., архіт. С. Мусінскі, Л. Каджар), Палац спорту (1966 г., архіт. С. Філімонаў, В. Малышаў), Палац воднага спорту (1967 г., архіт. В. Ладыгіна), павільён ВДНГ БССР (1968 г., архіт. С. Баткоўскі, Ю. Градаў, Л. Левін), Палац мастацтваў (1973 г., архіт. С. Мусінскі, Н. Краўкова), галоўны корпус БДУ імя У. І. Леніна (1962 г., архіт. М. Бакланаў, А. Духан), Інстытут тэхнічнай кібернетыкі і электронікі АН БССР (1967 г., архіт. Ю. Грыгор'еў, А. Беразоўскі), будынак навукова-даследчага інстытута сродкаў аўтаматызацыі (1977 г., архіт. С. Мусінскі, Дз. Кудраўцаў), галоўны корпус інстытута народнай гаспадаркі (1968 г., архіт. А. Ткачук), гасцініца «Турыст» (1973 г., архіт. Л. Пагарэлаў), Дом літаратара (1976 г., архіт. Ю. Грыгор'еў, В. Шубіна). Пабудаваны шэраг прамысловых аб'ектаў, якія ўзбагацілі архітэктурнае аблічча горада — будынкі гадзіннікавага завода (1956—61 гг., архіт. С. Баткоўскі, І. Боўт, Н. Шпігельман), завода халадзільнікаў (1968—75 гг., архіт. Л. Афанасьева, І. Боўт,



*Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі БССР.*



*Забудова праспекта Машэрава.*



*Жылы дом па вуліцы Харужай.*



*Галоўны корпус медыцынскага інстытута на праспекце газеты «Праўда».*

М. Буйлава, А. Ганчароў, І. Некрашэвіч). Вылучаюцца жылыя дамы з магазінамі «1000 дробязей» (1962 г., архіт. Г. Сысоеў, Дз. Кудраўцаў), «Сінтэтыка» (цяпер «Дом гандлю»; 1965 г., архіт. С. Мусінскі, Г. Сысоеў, В. Марокін), «Несцерка» (1974 г., архіт. Л. Маскалевіч, Г. Ласкавая), комплекс жылых дамоў і культурна-бытавых прадпрыемстваў па вул. Талбухіна (1966 г., архіт. Ю. Шпіт і інш.). Арыгінальнае архітэктурна-мастацкае вырашэнне маюць пабудаваныя ў 1970—80-я г. комплекс адміністрацыйна-грамадскіх будынкаў на праспекце Машэрава, крыты рынак «Камароўскі» (1979 г., архіт. В. Аладаў, А. Жалдакоў, У. Крывашэеў, М. Ткачук), карпусы медыцынскага інстытута на праспекце Газеты «Праўда» (1980 г., архіт. Э. Гальдштэйн, Ю. Бічан), радыётэхнічнага інстытута на перакрыжаванні вул. Гікалы і Платонава (1980 г., архіт. П. Бяляеў, М. Волкаў), галоўны корпус архітэктурнага і будаўнічага факультэтаў БПІ на скрыжаванні Ленінскага праспекта і кальцавой аўтамагістралі (1982 г., архіт. І. Есьман, В. Анікін), кінатэатр «Масква» (1980 г., архіт. В. Крамарэнка, У. Шчарбіна, М. Вінаградаў), Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі (1981 г., архіт. А. Ткачук, У. Тараноўскі), будынкі бібліятэкі № 11 (1981 г., архіт. А. Ладкін, В. Яўсееў, А. Чадовіч), Дома мод-2 і праектна-тэхналагічнага інстытута па вул. Мельнікайтэ (1982 г., архіт. П. Кракалёў, В. Алейнікава), аўтавакзала «Усходні» (1983 г., архіт. Л. Пагарэлаў, Л. Кустова, В. Ягадніцкі), гасцініцы «Беларусь» (1987 г., архіт. Л. Пагарэлаў, Л. Кустова). У гэты час забудоўваліся новыя жылыя раёны — Захад, Паўднёвы Захад, Масюкоўшчына, па вул. Сярова, Сурганава, развіваліся існуючыя. Для сучаснай забудовы Мінска характэрна комплекснае вырашэнне функцыянальных, эканамічных, тэхнічных, эстэтычных задач архітэктуры, што знайшло адлюстраванне ў серыях буйнапанельных 9-, 12-, 16-павярховых дамоў з аб'ёмных блокаў. Па індывідуальных праектах будуюцца жылыя дамы па вул. Я. Купалы, Пуліхава, Сурганава, Танкавай, на бульвары Луначарскага, у Бранявым і Вайсковым завулках, жылы комплекс на праспекце Машэрава. Да XXII Алімпійскіх гульняў 1980 г. рэканструяваны стадыёны «Дынама», «Трактар». Арыгінальнымі творамі архітэктуры з'яўляюцца станцыі першай чаргі метрапалітэна (1984 г.). У ідэйна-мастацкім вырашэнні станцый увасоблена грамадскае, вытворчае і культурнае жыццё Савецкай Беларусі, яе гераічнае мінулае і сучаснае.

Пераважная большасць скульптурных помнікаў 1950-х гадоў выканана ў жанры помніка-партрэта. Яны пастаўлены на бульварах, у парках, скверах, каля адміністрацыйных будынкаў, школ, заводаў, музеяў і фарміруюць іх асяроддзе.

З пасляваенным будаўніцтвам, аднаўленнем і добраўпарадкаваннем горада звязана развіццё манументальна-дэкаратыўнай скульптуры. Для афармлення мінскага Палаца прафсаюзаў, вышынных будынкаў на Прывакзальнай плошчы, Дзяржаўнага мастацкага музея БССР характэрны выкананыя па класічных узорах алегарычныя фігуры ў стылістычным адзінстве з архітэктурай тых гадоў. Інтэр'еры грамадскіх будынкаў упрыгожваліся манументальна-дэкаратыўнай разма-



*Забудова вуліцы Карбышава.*

лёўкай (плафон «Дружба народаў» у Тэатры юнага гледача і пано «Беларускія народныя майстры» ў канферэнц-зале Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з зарубежнымі краінамі; 1956 г., мастакі І. Ахрэмчык, І. Давідовіч). Адрадзілася выкарыстанне мастацкага ліцця ў аздобе будынкаў, мастоў, сквераў і вуліц.

З 1970-х гадоў пашыраецца і ўскладняецца тэматыка манументальнага жывапісу. У творах гучаць ідэі рэвалюцыйнай пераемнасці, памяць аб героях і ахвярах вайны, пафас сацыяльных і навукова-тэхнічных пераўтварэнняў. Творы манументальнага жывапісу 1970—80-х гадоў вылучаюцца шырокім выкарыстаннем алегорыі, метафары, сімволікі, у т. л. сімволікі колеру, зваротам да традыцый сусветнага мастацтва. У іх спалучаюцца лірыка-эпічны і грамадзянска-публіцыстычны пачаткі, выяўляецца і падкрэсліваецца сувязь гістарычных і культурных з'яў мінулага і сучаснага. Сярод найб. значных твораў размалёўкі «Вялікая Айчынная вайна. 1944» М. Савіцкага ў Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, «Асветнікі» Г. Вашчанкі ў Доме настаўніка, «Стары і новы Вільнюс» С. Катковай і З. Літвінавай у кінатэатры «Вільнюс», цыкл «Мінск — горад-герой» Ю. Багушэвіча і Г. Жарына ў фае залы пленумаў гаркома КПБ, мазаікі «Горад-воін», «Горад-будаўнік», «Горад навукі», «Горад культуры» на тарцах жылых дамоў у мікраёне Усход 1 А. Кішчанкі. Цікава аформлены інтэр'еры Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі (дэкаратыўныя рэльефы, заслона-габелен; мастакі Ю. Якубовіч, А. Кішчанка, А. Бельцюкова), кінатэатра «Масква» (вітраж Г. і М. Вашчанкаў), гасцініц «Кастрычніцкая» (габелены В. Крывашэевай, Г. Стасевіч, П. Бондара), «Планета» (керамічнае пано; М. Байрачны, В. Прыешкін і інш.), «Беларусь» (мазаіка А. Кішчанкі, керамічная пластыка Т. Кіршынай, Н. Кухарэнкі).

Сінтэз архітэктуры і манументальнага мастацтва вырашаецца ў маштабе цэлага горада. Вуліцы і плошчы Мінска ўпрыгожваць помнікі: К. Марксу, У. І. Леніну, М. І. Калініну, Ф. Э. Дзяржынскаму, М. В. Фрунзе, С. М. Кіраву, Р. К. Арджанікідзе, М. Горкаму, Я. Купалу, Я. Коласу, М. Багдановічу, двойчы Герою Сав. Саюза С. І. Грыцаўцу, Героям Сав. Саюза К. С. Заслонаву, М. Казею, Ц. Ц. Рамашкіну, Б. С. Акрэсціну і 9 лётчыкам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, помнік-танк у гонар танкістаў, што першымі ўварваліся 3. 7. 1944 у Мінск, помнікі студэнтам і выкладчыкам БДУ, БПІ, педагагічнага інстытута, сувязістам, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Пастаўлены мемарыяльныя знакі: у скверы каля тэатра імя Я. Купалы на месцы загубы нямецка-фашысцкімі захопнікамі членаў Мінскага камуністычнага падполля, на пл. Леніна на месцы гібелі першага рэдактара падпольнай газеты «Звязда» Героя Савецкага Саюза У. С. Амельянюка, на вул. Чыжэўскіх на месцы загубы падпольшчыц М. П. і А. А. Чыжэўскіх, Н. П. Майсеевай, у двары Дома друку на ўшанаванне памяці рабочых друкарні ЦК КПБ, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, на вул. Вар-



*Забудова вуліцы Мірашнічэнкі.*



*Забудова жылога раёна Захад.*



*Від на гасцініцу «Беларусь» з боку р. Свіслач.*



*Фрагмент забудовы вуліцы Бакуніна ў гісторыка-архітэктурнай ахоўнай зоне Верхні горад.*

вашэні ў гонар Мінскага камуністычнага падполля, на брацкіх магілах воінаў Чырвонай Арміі, партызан і мірных жыхароў на бульвары Талбухіна і ў парку імя Чэлюскінцаў і інш. На 21-м км шашы Мінск — Масква насыпаны Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі (скульптар А. Бембель, архіт. А. Стаховіч).

Выразным сілуэтам вызначаецца архітэктурна-скульптурны комплекс «Мінск — горад-герой» (1985 г., скульпт.-архіт. В. Занковіч, архіт. В. Крамарэнка, В. Яўсееў, У. Раманенка), які мае вялікае горадабудаўніча-планіровачнае, ідэйнае і эмацыянальна-вобразнае значэнне. Працоўнай славе мінчан прысвечаны помнік-аўтамабіль, помнікі-трактары, помнік-тралейбус, вагон-музей гісторыі мінскага трамвая. Цікавымі і значнымі творамі ўзбагацілася мемарыяльная пластыка: помнікі на магілах П. М. Машэрава і С. В. Прыпыцкага (скульпт. А. Анікейчык), двойчы Героя Савецкага Саюза Л. І. Бяды (скульпт. І. Міско, архіт. Ю. Казакоў), народнага мастака БССР А. Глебава (скульпт. З. Азгур, А. Заспіцкі) і інш. на Усходніх могілках.

У горадзе 3 гісторыка-архітэктурныя ахоўныя зоны. Найбольшая з іх — зона старога Мінска, або зона Верхняга горада (пл. Свабоды і кварталы паміж вуліцамі Гандлёвай, Рэспубліканскай, Інтэрнацыянальнай і Нямігай), дзе часткова захаваліся планіроўка і забудова 17 — пачатку 19 ст. Другая зона — Троіцкае прадмесце (квартал паміж вуліцамі М. Горкага, Я. Купалы, Старавіленскай і Камунальнай набярэжнай), трэцяя — Ракаўскае прадмесце (уздоўж вул. Астроўскага, Вызвалення, Віцебскай, Замкавай, Дзімітрова). Тэрыторыя старажытнага замка — Мінскае замчышча — з'яўляецца археалагічным запаведнікам. Захаваліся таксама асобныя помнікі грамадзянскай, жылой, культавай і прамысловай архітэктуры 19 — пач. 20 ст.

У 1982 г. у інстытуце «Мінскпраект» завершаны новы генеральны план Мінска, які прадугледжвае развіццё горада да 2000 года і дае горадабудаўнічы прагноз да 2050 г. Паводле плана ў Мінску будзе 58 жылых раёнаў, якія ўвойдуць у 18 планіровачных раёнаў. Асноўныя напрамкі развіцця горада — паўночна-заходні, заходні, паўночны.

Водна-зялёны дыяметр Мінска — сістэма паркаў, бульвараў і вадаёмаў, што праходзіць праз горад з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход уздоўж р. Свіслач, уключае Чыжоўскае вадасховішча, Камсамольскае возера, паркі — Цэнтральны дзіцячы імя М. Горкага, культуры і адпачынку імя Перамогі, імя Я. Купалы, імя 900-годдзя Мінска. Адкрытыя водна-зялёныя прасторы маюць важнае значэнне ў фарміраванні архітэктурна-планіровачнай структуры і функцыянальнага заніравання гарадской прасторы і прыгарадаў. Зоны адпачынку створаны вакол горада ў радыусе 25—50 км у лесапаркавым і знешнім паясах каля рэк, азёр і вадаёмаў прыгараднай зоны: Вяча, Вясёлка, Вяснянка, Мінскае мора, Пціч, Раўбічы, Стайкі, Верасы, Грыбное, Мядовыя росы, Чараўніца.

* * *

Сёння Мінск — буйны адміністрацыйны, эканамічны, навуковы і культурны цэнтр рэспублікі

і краіны. Прамысловыя прадпрыемствы горада выпускаюць разнастайную прадукцыю — ад магутных аўтасамазвалаў, трактароў «Беларусь», аўтаматычных ліній, электронных вылічальных машын да багацейшага асартыменту вырабаў масавага ўжытку. Мінск дае больш за 50 % прадукцыі машынабудавання, каля 25 % вырабаў лёгкай прамысловасці, больш за 17 % будаўнічых матэрыялаў, што выпускаюцца ў рэспубліцы. Шырокае развіццё атрымалі машынабудаванне і металаапрацоўка, станкабудаўнічая і інструментальная, лёгкая, прыладабудаўнічая, радыёэлектронная, харчовая, дрэваапрацоўчая, цэлюлозна-папяровая, хімічная, паліграфічная, будаўнічых матэрыялаў прамысловасць. Агульная працягласць адзіночнага трамвайнага пуці складае 139 км, тралейбуснай лініі — 301 км, аўтобусных маршрутаў — 938 км, метро (першы ўчастак 1-й лініі) — больш за 10 км.

Плённа працуюць Акадэмія навук БССР, яе навукова-даследчыя інстытуты, вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. У горадзе 14 вышэйшых навучальных устаноў, 23 сярэдніх спецыяльных навучальных установы, 32 прафесійна-тэхнічныя навучальныя ўстановы, 178 школ, 53 дашкольныя ўстановы. Дзейнічаюць творчыя саюзы пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, кінематаграфістаў, журналістаў, архітэктараў, тэатральных дзеячаў; добраахвотныя грамадскія арганізацыі: Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Таварыства аховы прыроды, Таварыства кнігалюбаў, Беларускі фонд культуры і інш. Выдаюцца 10 рэспубліканскіх газет: «Звязда», «Советская Белоруссия», «Сельская газета», «Чырвоная змена», «Знамя юности», «Літаратура і мастацтва», «Настаўніцкая газета», «Физкультурник Белоруссии», «Зорька», «Піянер Беларусі», абласная «Мінская праўда», гарадская «Вячэрні Мінск», 20 шматтыражных газет, больш за 35 часопісаў і іншых выданняў, у ліку якіх «Коммунист Белоруссии», «Полымя», «Беларусь», «Неман», «Маладосць», «Мастацтва Беларусі». З 1970 г. выходзіць інфармацыйны навукова-метадычны бюлетэнь «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Дзейнічаюць карэспандэнцкія пункты газет «Правда» і «Известия». Працуюць Беларускае тэлеграфнае агенцтва і Беларускае аддзяленне агенцтва друку «Навіны», 11 выдавецтваў: «Беларусь», «Навука і тэхніка», БДУ імя У. І. Леніна, «Вышэйшая школа», «Народная асвета», «Юнацтва», «Мастацкая літаратура», «Ураджай», кніжна-часопіснае «Полымя», газетна-часопіснае выдавецтва ЦК КПБ, выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Працуюць 20 паліграфічных прадпрыемстваў, кінастудыя «Беларусьфільм», 6 тэатраў, Дзяржаўны цырк, Беларуская дзяржаўная філармонія і дзесяткі канцэртных калектываў, студыі тэлебачання і радыёвяшчання, 9 дзяржаўных музеяў, 190 масавых бібліятэк, 24 кінатэатры, 57 клубных устаноў. У 1968 г. адкрыта Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі БССР. У горадзе 72 калектывы мастацкай самадзейнасці маюць назву народных, у Мінску 12 стадыёнаў, у т. л. стадыён «Дынама», 15 зімовых плавальных басейнаў, 240 спартыўна-гімнастычных залаў, 188 лыжных баз, Палац спорту, Палац воднага спорту, стадыён стралковага спорту. 3. 12. 1966 г. за мужнасць і гераізм, самаадданую партызанскую барацьбу працоўных Мінска ў гады Вялікай Айчыннай вайны супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў і за поспехі ў аднаўленні горада і ў развіцці народнай гаспадаркі Мінск узнагароджаны ордэнам Леніна. 26. 6. 1974 г. за выдатныя заслугі перад Радзімай, мужнасць і гераізм, праяўленыя працоўнымі горада ў барацьбе супраць гітлераўскіх акупантаў, вялікую ролю ў разгортванні ўсенароднага партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны і ў гонар 30-годдзя вызвалення Беларускай ССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Мінску прысвоена ганаровае званне «Горад-герой».

*Літ.:* Ленін У. І. Крытычныя заметкі па нацыянальнаму пытанню.— Тв., т. 20 (Полн. собр. соч., т. 24); яго ж. Аб пралетарскай культуры.— Тв., т. 31 (Полн. собр. соч., т. 41).

Абецедарский Л. С. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в.— Мн., 1978; Абрасимов П. А. Минск: Историко-экономический очерк.— Мн., 1956; Акалович Н. М. Десять дней в Минском УРе.— У кн.: В боях за Белоруссию. Мн., 1970; яго ж. Стоять насмерть: (Очерки о героях-защитниках г. Минска).— Мн., 1975; яго ж. Они защищали Минск.— 2 изд.— Мн., 1987; яго ж. ...И враг не прошел.— Мн., 1984; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии).— М., 1966; Алексеев Н. Грозные испытания.— У кн.: Сквозь огонь и смерть. Мн., 1970; «Андрюша».— У кн.: Юность мужала в боях. М., 1966; Андрющенко Н. Дорогами подвигов: Памятники и памятные места революционной, боевой и трудовой славы на Минщине.— 2 изд.— Мн., 1978; Аникин В. И., Григорьев Ю. П. Город-герой Минск.— М., 1976; Антипенко Н. А. На главном направлении.— Мн., 1982; Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Артиллеристы стояли насмерть.— Мн., 1981; Археалогія, нумізматыка і геральдыка Беларусі.— Мн., 1979; Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии.— Мн., 1957; Архитектура Советской Белоруссии.— М., 1986; Барановский Е. И. Памятные места Великой Октябрьской социалистической революции в Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1978; Батурина М. Боевые будни.— У кн.: Сквозь огонь и смерть. Мн., 1970; Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.— СПб., 1855; Белогорцев И. Д., Гурин И. И., Кустанович С. М. Развитие городов Белоруссии.— Мн., 1967; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 1—4.— Мн., 1959—79; Белорусский «экватор»: Путевая книга в шести тетрадях.— Мн., 1981; Белявцев В. И. Памятные места, связанные с жизнью и деятельностью соратников В. И. Ленина в Белоруссии.— Мн., 1976; яго ж. В. И. Ленин и Белоруссия.— Мн., 1978; Бессмертные имена.— Мн., 1979; Бич М. О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг.— Мн., 1973; яго ж. Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг.— Мн., 1983; Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии.— Мн., 1967; Богданович М. История Отечественной войны 1812 года по достоверным источникам. Т. 1—3.— СПб., 1859—60; Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.).— Мн., 1966; яго ж. Промышленность Белоруссии. 1860—1900.— Мн., 1978; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 1—2.— Мн., 1968—71; Бруноў М. І. Беларуская архітэктура XI—XII ст.— У кн.: Зборнік артыкулаў. Этнаграфія. Антрапалогія. Псіхалогія, псіхатэхніка і навуковая арганізацыя працы. Гісторыя мастацтва. Мн., 1928; Бурдейный А. С. Таницы в боях за Белоруссию.— У кн.: Освобождение Белоруссии. 1944. 2 изд. М., 1974; яго ж. Освобождение Минска.— У кн.: В боях за Белоруссию. Мн., 1974; В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте: Воспоминания активных участников Октябрьской революции.— Мн., 1957; В борьбе за Советскую власть.— Мн., 1967; В непокоренном Минске: Документы и материалы о подпольной борьбе сов. патриотов в годы Великой Отеч. войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1987; В памяти народной: Путеводитель по местам борьбы за установление Советской вла-

сти в Белоруссии, за честь, свободу и независимость социалистической родины.— Мн., 1969; Ваупшасов С. А. Партизанская хроника.— 2 изд.— Мн., 1971; яго ж. На тревожных перекрестках: Записки чекиста.— 2 изд.— М., 1974; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1957; Виды гор. Минска: [Альбом]. Ч. 1.— Мн., 1904; Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975; яго ж. Жилищное строительство в Белорусской ССР.— Мн., 1980; Воранава А. І. Рабочы рух у Беларусі напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг.— Мн., 1960; Восстановление народного хозяйства БССР (1921—1925 гг.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1981; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1983—85; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941—июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Гісторыя беларускага тэатра: У 3 т. Т. 1—3.— Мн., 1983—87; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1—2.—Мн., 1968—69; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Т. 1—2.— Мн., 1965—66; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1—5.— Мн., 1972—75; Гісторыя Мінска.— [2 выд.].— Мн., 1967; Горад і годы: Апавяданні. Вершы. Нарысы. Замалёўкі. Артыкулы. Успаміны.— Мн., 1967; Грахоўскі С. І. Мінск: Спадарожнік турыста.— 2 выд.— Мн., 1975; Дёмин И. М. Мы сражались под Минском.— Мн., 1980; Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 1—4.— Мн., 1936—54.— Назва т. 1: Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах; т. 2: Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі; Дорога в бессмертие.— Мн., 1967; Дробаў Л. Н. Беларускія мастакі XIX стагоддзя.— Мн., 1971; яго ж. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974; яго ж. Живопись Советской Белоруссии (1917—1975 гг.).— Мн., 1979; Дружчыц В. Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст.— Мн., 1926; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Елатомцева И. М. Монументальная летопись эпохи.— Мн., 1969; яе ж. Очерки по истории белорусской советской станковой скульптуры.— Мн., 1974; Ермаловіч М. І. Дарагое беларусам імя.— Мн., 1970; Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Т. 3.— СПб.; М., 1882; Журавлев Д. Н. Союз композиторов БССР: Краткий биобиблиогр. справочник.— Мн., 1978; Жураў А. Я. У баях народжаны: Кароткі нарыс гісторыі камсамола Беларусі.— 2 выд.— Мн., 1970; Жучкевич В. А. Улицы помнят: История, события, люди в названиях улиц и площадей города-героя Минска.— Мн., 1979; Загорульский Э. М. Древний Минск.— Мн., 1963; яго ж. Возникновение Минска.— Мн., 1982; Ивашин В. Г. Великий Октябрь в Минске.— Мн., 1957; Ивашненко И. Е. Промышленность БССР в восстановительный период 1921—1925 гг.— Мн., 1971; Игнатенко А. П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв.— Мн., 1963; Из истории борьбы за распространение марксизма в Белоруссии (1883—1917 гг.).— Мн., 1958; Индустриализация Белорусской ССР (1926—1941 гг.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1975; Иосько М. И., К. Маркс, Ф. Энгельс и революционная Белоруссия.— Мн., 1977; Искусство Советской Белоруссии.— М.; Л., 1940; История белорусской дооктябрьской литературы.— Мн., 1977; История белорусской музыки.— М., 1976; История белорусской советской литературы.— Мн., 1977; История Белорусской ССР.— Мн., 1977; История искусства народов СССР. Т. 7.— М., 1972; История Коммунистической партии Советского Союза.— 7 изд.— М., 1985; Казаченок В. С. Когда Родина в опасности: Записки о Минском подполье.— Мн., 1961; Казеко И. И., М. В. Фрунзе: Революционная деятельность в Белоруссии.— Мн., 1983; М. И. Калинин в Белоруссии: Доклады, речи, беседы, документы, материалы.— Мн., 1973; Калинин Ф. А. Центр вызывает Минск.— Мн., 1973; Каменская Н. В. Первые социалистические преобразования в Белоруссии (25 окт. 1917 — июль 1919 г.).— Мн., 1957; яе ж. Белорусский народ в борьбе за Советскую власть (1919—1920 гг.).— Мн., 1963; Каменшчыкаў В. В. За ўладу Саветаў (1917 год на Заходнім фронце): Успаміны.— Мн., 1959; Кацер М. С. Белорусская архитектура: Исторический очерк.— Мн., 1956; яго ж. Скульптура Савецкай Беларусі.— Мн., 1957; яго ж. Нарысы па гісторыі выяўленчага мастацтва Савецкай Беларусі.— Мн., 1960; яго ж. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода: Очерки.— Мн., 1969; яго ж. Народно-прикладное искусство Белоруссии (от первобытного общества до 1917 г.).— Мн., 1972; Кишеня О. Ф., Гушинская А. А. Почетные граждане города Минска.— Мн., 1980; Козлов В. И. Люди особого склада.— Мн., 1973; яго ж. Верен до конца.— 2 изд.— М., 1973; Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 1. 1918—1927.— Мн., 1973; Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI— первой половине XVII в.— Мн., 1975; Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 года.— Мн., 1962; Корнилович Э. А. Революцией призванные.— Мн., 1980; Краснознаменный Белорусский военный округ.— 2 изд.— М., 1983; Крах немецкой оккупации в Белоруссии в 1918 году.— Мн., 1947; Крепак Б. А., Казаков Ю. И. Никто не забыт, ничто не забыто: Памятники жертвам фашизма на территории Белоруссии.— Мн., 1976; Круталевич В. А. Рождение Белорусской Советской Республики: (На пути к провозглашению республики. Октябрь 1917 — декабрь 1918 г.).— Мн., 1975; яго ж. Рождение Белорусской Советской Республики: (Провозглашение республики. Развертывание национально-государственного строительства. Ноябрь 1918 — февраль 1919 г.).— Мн., 1979; Кудрявцев А. Минск и минчане.— Мн., 1973; Купревич В. Ф. Академия наук Белорусской ССР: Очерк истории и деятельности.— 3 изд.— Мн., 1968; Лазебников В. С., Поссе В. С. Памятники коммунистического подполья в Белоруссии.— Мн., 1975; Лещеня С. К. С паролем горкома: (Записки секретаря Минского подпольного горкома партии).— Мн., 1981; Либерман Б. И. Город Минск.— Мн., 1940; Лосинский Н. Б. Революционно-народническое движение в Белоруссии. 1870—1884 гг.— Мн., 1983; Ляховский П. Р. Посланцы Большой земли.— Мн., 1973; Мазаник Е. Г. Возмездие: Документальная повесть.— Мн., 1981; Марцелев С. В. Печать Советской Белоруссии: (Исторический очерк).— Мн., 1967; яго ж. На путях строительства социализма. Печать Белоруссии в 1926—1937 гг.— Мн., 1972; яго ж. Печать Белоруссии в период развитого социализма.— Мн., 1982; Марченко И. Е. Трудовой подвиг рабочего класса Белорусской ССР (1943—1950 гг.).— Мн., 1977; Мастацтва Савецкай Беларусі: Зб. дакументаў і матэрыялаў. Т. 1 (1917—1941 гг.).— Мн., 1976; Матуковский Н. Е. Минск: Документальная повесть о 1100 днях героической борьбы минчан против гитлеровских оккупантов (в письмах, воспоминаниях и документах). 1941—1944.— М., 1982; Мачульский Р. Н. Страницы бессмертия.— Мн., 1972; яго ж. Люди высокого долга.— Мн., 1975; яго ж. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; яго ж. На огненной земле.— Мн., 1983; Минск: Краткая хроника (ноябрь 1917—1966).— Мн., 1967; Минск: Послевоенный опыт реконструкции и развития.— М., 1966; Минск: Адресно-справочная книга.— Мн., 1981; Мінск: Фотаапавесць аб 900-годдзі сталіцы Савецкай Беларусі.— Мн., 1967; Минск — город-герой: Справочник.— Мн., 1976; Мінск=Минск=Minsk: [Фотаальбом].— Мн., 1981; Минск в творчестве художников.— Мн., 1964; Минск и окрестности: Справочник-путеводитель.— Мн., 1979; Мінск на старых паштоўках (канец XIX — пачатак XX ст.).=Минск на старых открытках (конец XIX — начало XX в.) / Аўтар-склад. В. М. Целеш.— Мн., 1984; Миронова Ж. Дом-музей I съезда РСДРП.— 2 изд.— Мн., 1983; Мурашко П. Е. Особого назначения...: Из истории ЧОН Белоруссии. 1918—1924.— Мн., 1979; Мы расскажем о Минске.— 2 изд.— Мн., 1966; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984; Николаев Н. Минские молодогвардейцы: Документальная повесть.— Мн., 1968; Никто не забыт и ничто не забыто. 1941—1945: Сб. документов и материалов.— М., 1970; Новиков И. Г. Минский фронт: Документальные повести. Кн. 1—3.— Мн., 1977—78; О партийном подполье в Минске в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944 гг.).— Мн., 1961; Огненные годы: Документы и материалы об участии комсомола в Великой Отечественной войне.— 2 изд.— М., 1971; Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Осмоловский М. С. Минск: Градостроительство столицы Советской Белоруссии.— Мн., 1952; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1920).— 2 изд.— Мн., 1968; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 2. (1921—1966).— Мн., 1967; Очерки истории Ленинского комсомола Белоруссии.— Мн., 1975; Пазняк З. С. Рэха даўняга часу.— Мн., 1985; Память сердца: [Очерки о юных героях Белоруссии, запечатленных в памятниках].— Мн., 1973; Панамарэнка П. К. Партызанскі рух у Вялікай Айчыннай вайне.— [М.], 1943; Панютич В. П. Из истории формирования пролетариата Белоруссии 1861—1914 гг.— Мн., 1969; Партийное подполье: Деятельность подпольных партийных органов и организаций на оккупированной советской территории в годы Великой Отечественной войны.— М., 1983; Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984; Паўловіч Л. А., Малышаў А. Я. Прамысловасць Мінска: (Эканоміка-геаграфічны нарыс).— Мн., 1972; Пашкин Ю. А. Русский драматический театр в Белоруссии XIX века.— Мн., 1980; Петраченко Д. Н. Именами героев.— Мн., 1978; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік.— Мн., 1981; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Подвиг народа бессмертен: О праздновании 30-летия освобождения Советской Белоруссии от нем.-фашистских захватчиков.— Мн., 1975; Подвиги их бессмертны: О подпольной борьбе советских людей в захваченных фашистскими оккупантами городах и селах Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1978; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Полки идут на Запад: Воспоминания и очерки об освобождении Белоруссии от фашистских оккупантов.— М., 1964; Полное собрание русских летописей. Т. 32. Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца...— М., 1975; Польскі С. А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917—1941 гг.).— Мн., 1973; яго ж. Демографические проблемы развития Минска.— Мн., 1976; Потапов Л. С. Силуэт Минска.— Мн., 1980; Пра час і пра сябе: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў.— Мн., 1966; Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965; Пятніцкі М. Зарава над горадам: Апавяданне аб баявых справах герояў камсамольскага падполля г. Мінска.— Мн., 1950; яго ж. У непакораным Мінску.— Мн., 1959; Пяцьдзесят чатыры дарогі: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў.— Мн., 1963; Революционое движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль — декабрь 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1957; Революционные комитеты БССР (ноябрь 1918 г.— июль 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1961; Рокоссовский К. К. Солдатский долг.— 4 изд.— М., 1984; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и

Белоруссия.— СПб., 1905; Сакулевич Г. А. Подвигу народа жить в веках: Монументы боевой славы советского народа в Белоруссии.— Мн., 1975; Сакулевич Г. А., Хушенский И. Я. Памятники и монументы в честь трудовых свершений рабочего класса Белоруссии.— Мн., 1977; Самбук С. М. Революционные народники Белоруссии (70-е начало 80-х годов XIX в.).— Мн., 1972; Скарабагаты У. В. Бальшавікі Мінска ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.— Мн., 1957; Сквозь огонь и смерть.— Мн., 1970; Солодков Т. Е. Борьба трудящихся Белоруссии против царизма (1907—1917 гг.).— Мн., 1967; Солошенко В. И. Из истории распространения марксизма в Белоруссии (1883—1904 гг.).— Мн., 1963; яго ж. От народничества к марксизму: Распространение марксизма и образование социал-демократических организаций в Белоруссии.— Мн., 1971; яго ж. Большевики в борьбе с мелкобуржуазными партиями в Белоруссии (1903 — март 1917 гг.).— Мн., 1981; Статистический справочник состояния народного хозяйства и культуры Белорусской ССР к началу Великой Отечественной войны.— М., 1943; Сташкевич Н. С. На пути к истине: (Из истории национально-освободительного движения в Белоруссии. 1917 год).— Мн., 1983; Страницы героической истории: К 50-летию Краснознаменного Белорусского военного округа.— Мн., 1968; Строительство и реконструкция городов. 1945—1957. Т. 2.— М., 1958; Судебный процесс по делу о злодеяниях, совершенных немецко-фашистскими захватчиками в Белорусской ССР (15—29 января 1946 года).— Мн., 1947; Тарасенко В. Р. Древний Минск.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1; Тихомиров М. Н. Древнерусские города.— 2 изд.— Мн., 1956; Труд, талант, доблесть. Ч. 1—2.— Мн., 1981; Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода.— М., 1973; Усе раёны БССР.— Мн., 1933; Хохлов А. Г. Красная гвардия Белоруссии в борьбе за власть Советов (март 1917 — март 1918 гг.).— Мн., 1965; яго ж. Коммунистические части особого назначения в Белоруссии.— Мн., 1974; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1—3.— Мн., 1962—80; Цітоў А. К. Гербы беларускіх гарадоў.— Мн., 1983; Чантурия В. А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX века.— Мн., 1962; яго ж. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; яго ж. Архитектурные памятники Белоруссии.— Мн., 1982; яго ж. Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии.— Мн., 1986; Чернатов В. М. Сынам Отчизны: Мемориальные сооружения воинской славы на территории Белоруссии.— Мн., 1980; Чернявская Т. И., Петросова Е. Ю. Памятники архитектуры Минска XVII — начала XX в.— Мн., 1984; Чурко Ю. М. Белорусский балет.— Мн., 1966; яе ж. Белорусский балетный театр.— Мн., 1983; Шаціла В. У. Рэвалюцыйная барацьба ў Мінску ў гады першай рускай рэвалюцыі (1905—1907 гг.).— Мн., 1956; Шевела Г. Н. Комсомольско-молодежное подполье Минска в годы Великой Отечественной войны.— Мн., 1968; Штыхов Г. В. Города Белоруссии по летописям и раскопкам (IX — XIII вв.).— Мн., 1975; яго ж. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1.— Мн., 1928; Экономика Белоруссии в эпоху империализма. 1900—1917.— Мн., 1963; Экономика Советской Белоруссии. 1917—1967.— Мн., 1967; Экономическая география Белоруссии.— 3 изд.— Мн., 1982; Юрэвіч У. Мінск учора, сёння, заўтра: Нарыс.— Мн., 1982; Якубовский И. И. Земля в огне.— М., 1975; Яцкевич И. В. Всесоюзный староста на белорусской земле.— Мн., 1975; Баханькова В., Сасноўская Д. Беларуская ССР у гады Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза (1941—1945 гг.): Бібліягр. паказальнік.— Мн., 1970—76; Баханькова В. У. Беларуская ССР у гады Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза (1941—1945 гг.): Бібліягр. паказальнік. 1981.— Мн., 1982; Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия: Библиогр. на иностранных языках. Ч. 1—2.— Мн., 1982—83; Короткина Н. Ф., Цлаф С. Г., В. И. Ленин о Белоруссии: Библиогр. указатель.— Мн., 1970; Крэканэ М. Г., Сакольчык А. А. Бібліяграфія па гісторыі Беларусі: Феадалізм і капіталізм.— Мн., 1969; Кубіцкая А., Балукова Н. Камуністычнае падполле і партызанскі рух на Міншчыне. 1941—1944 гг.: (Рэкамендацыйны паказальнік літаратуры).— Мн., 1975; Сакольчик А. А. Дооктябрьская книга на русском языке о Белоруссии (1768—1917 гг.): Библиогр. указатель.— 2 изд.— Мн., 1976; Сіленка В. М., Лазарук Т. К. Мінску — 900 год: Рэкамендацыйны паказальнік літаратуры.— Мн., 1967; Чыгірова Р. М., Ляўко Э. І. Беларуская ССР у Вялікай Айчыннай вайне Савецкага Саюза (1941—1945 гг.): Бібліягр. паказальнік літаратуры (1941—1971 гг.).— Мн., 1980.

*А. А. Воінаў, Л. Г. Лапцэвіч,
С. В. Марцэлеў, Т. І. Чарняўская,
Г. В. Штыхаў, М. М. Яніцкая.*

**вул. Авангардная**

**1. ПОМНІК ЗАСЛОНАВУ** Канстанціну Сяргеевічу (гіст.). На тэрыторыі школы № 68.

Герой Савецкага Саюза, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Віцебскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну К. С. Заслонаў (партызанская мянушка Дзядзька Косця) нарадзіўся 25.12.1909 г. у г. Асташкаў (Калінінская вобл.) у сям'і рабочага. Член КПСС з 1942 г. У 1930 г. скончыў прафесійна-тэхнічнае вучылішча ў г. Вялікія Лукі. З 1937 г. начальнік паравознага дэпо станцыі Рослаўль, з кастр. 1939 г.— станцыі Орша. У верасні 1941 г. у Маскве па ініцыятыве К. С. Заслонава сфарміраваны партызанскі атрад з чыгуначнікаў, які ў кастрычніку перайшоў лінію фронту і быў разгрупаваны. Група на чале з К. С. Заслонавым прыбыла ў Оршу, дзейнічала ў складзе Аршанскага камуністычнага падполля. Уладкаваўшыся на працу ў Аршанскае чыгуначнае дэпо начальнікам рускіх паравозных брыгад, К. С. Заслонаў узначаліў сетку падпольных дыверсійных груп. Яны з іншымі падпольнымі групамі паралізавалі работу Аршанскага чыгуначнага вузла: са снежня 1941 г. да лютага 1942 г. вывелі са строю 200 паравозаў, знішчылі 6 варожых эшалонаў, узрывалі склады з боепрыпасамі і гаручым і інш. З лютага 1942 г. К. С. Заслонаў — камандзір партызанскага атрада, з ліпеня 1942 г.— партызанскай брыгады «Дзядзькі Косці». Прымаў удзел у арганізацыі і кіраўніцтве барацьбой супраць нямецкіх акупантаў на тэрыторыі Аршанскага, Багушэўскага, Сеннецкага, Лёзненскага і іншых р-наў. 14.11.1942 г. загінуў у в. Купаваць Сенненскага р-на ў баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1955 г. перапахаваны з в. Купаваць на пероне чыгуначнага вакзала г. Орша. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 7.3.1943 г. Яго імем у Айчынную вайну былі названы 2 партызанскія брыгады. У Оршы створаны музей героя. Імя К. С. Заслонава прысвоена дэпо станцыі Орша, адной са школ горада, вёсцы ў Аршанскім р-не, чыгуначнай станцыі ў Лепельскім р-не, дзіцячай чыгунцы ў Мінску, калгасам; яго імем названы вуліцы ў многіх гарадах, у т. л. у Мінску, і вёсках. Подзвігам К. С. Заслонава прысвечаны творы жывапісу, літаратуры, скульптуры і музыкі, мастацкі кінафільм, складзены народныя песні і легенды.

У 1971 г. устаноўлены бюст героя (скульпт. С. Вакар).

*Літ.:* Лынькоў М. Герой Савецкага Саюза Канстанцін Заслонаў.— Мн., 1944; Папоў Ф., Шчуцкі С. Герой Савецкага Саюза Канстанцін Заслонаў.— Мн., 1951; Иванов В. Константин Заслонов.— У кн.: Люди легенд. М., 1965, в. 1.

*Г. Ф. Раманаў.*



1. *Помнік К. С. Заслонаву.*

**вул. Акадэмічная**

**2. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АКУЛАВУ** Мікалаю Сяргеевічу (гіст.). На будынку Інстытута прыкладной фізікі АН БССР (дом № 16). Устаноўлена ў 1977 г. (сілумін; скульпт. А. Велікзонаў).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне фізікі і тэхнікі, акадэмік АН БССР (1940 г.), доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар (1935 г.) М. С. Акулаў нарадзіўся 12.12.1900 г. у г. Арол у сям'і служачага. Скончыў Маскоўскі універсітэт (1926 г.). У 1931—54 гг. загадчык кафедры магнетызму Маскоўскага ун-та, у 1954—59 гг. загадваў кафедрамі фізікі ў Фізіка-тэхнічным і Геолага-разведачным інстытутах у Маскве. З 1959 г. у АН БССР: загадчык лабараторыі фізічных праблем Фізіка-тэхнічнага інстытута, у 1963—67 гг. загадчык Аддзела фізікі неразбуральнага кантролю, загадчык лабараторыі гэтага Аддзела. Аўтар прац па тэорыі хімічнай дынамікі і ланцуговых працэсаў, статыстычнай тэорыі дыслакацыі, тэорыі пластычнасці і трываласці («Ферамагнетызм», 1939 г.; «Асновы хімічнай дынамікі», 1940 г.; «Тэорыя ланцуговых працэсаў», 1951 г.; «Дыслакацыі і пластычнасць», 1961 г.) і інш. Дзяржаўная прэмія СССР 1941 г. за стварэнне тэорыі ферамагнетызму і яе практычнае выкарыстанне. Дзяржаўная прэмія БССР 1976 г. за распрацоўку і ўкараненне электрамагнітных метадаў і сродкаў неразбуральнага кантролю механічных уласцівасцей ферамагнітных матэрыялаў і вырабаў. Работы вучонага адзначаліся прэміяй Германскай АН (1930 г.), Ракфелераўскай прэміяй (1932 г.), прэміяй імя М. В. Ламаносава (1953 г.).

М. С. Акулаў памёр 21.9.1976 г. Пахаваны ў Маскве.




2. *Мемарыяльная дошка М. С. Акулаву.*

**3. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БУЛЫГІНУ** Івану Андрэевічу (гіст.). На будынку Інстытута фізіялогіі АН БССР




3. *Мемарыяльная дошка І. А. Булыгіну.*




4. *Мемарыяльная дошка Ц. М. Годневу.*

(дом № 28). Устаноўлена ў 1986 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага фізіёлага, акадэміка АН БССР І. А. Булыгіна, які працаваў у гэтым інстытуце ў 1953—84 гг. Гл. таксама артыкул № 539 «Магіла Булыгіна Івана Андрэевіча».

**4. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГОДНЕВУ** Ціхану Мікалаевічу (гіст.). На будынку Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР (дом № 27). Устаноўлена ў 1984 г. (скульпт. А. Шатэрнік) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага фізіёлага раслін і біяхіміка, акадэміка АН БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР Ц. М. Годнева, які працаваў у АН БССР. Гл. таксама артыкул № 458 «Магіла Годнева Ціхана Мікалаевіча».

**5. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЖЭБРАКУ** Антону Рамanaвічу (гіст.). На будынку Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР (дом № 27). Устаноўлена ў 1981 г. (бронза; скульпт. В. Папоў).

Беларускі савецкі генетык і селекцыянер, акадэмік АН БССР (1940 г.), доктар біялагічных навук, прафесар (1936 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1944 г.) А. Р. Жэбрак нарадзіўся 27.12.1901 г. у в. Збляны Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. Скончыў Маскоўскую сельскагаспадарчую акадэмію імя К. А. Ціміразева (1925 г.), Інстытут чырвонай прафесуры (1929 г.). У 1930—31 гг. спецыялізаваўся па генетыцы ў ЗША і Германіі. Удзельнік Грамадзянскай вайны, з 1920 г. да 1921 г. інструктар палітаддзела 12-й арміі Паўднёва-Заходняга фронту. У 1931—36 гг. прафесар, загадчык кафедры генетыкі і селекцыі Акадэміі сацыялістычнага земляробства, у 1934—48 гг. прафесар, загадчык кафедры генетыкі Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі імя К. А. Ціміразева. У 1945 г. член дэлегацыі БССР на канферэнцыі ў Сан-Францыска (ЗША), дзе быў падпісаны Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У 1945—46 гг. загадчык аддзела Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК КПСС, прэзідэнт АН БССР. У 1948—49 гг. прафесар Маскоўскага лесатэхнічнага інстытута, з 1949 г. загадчык кафедры батанікі Маскоўскага фармацэўтычнага інстытута. У 1953—65 гг. кіраваў работамі па эксперыментальнай поліплаідыі ў інстытутах біялогіі, генетыкі і цыталогіі АН БССР. Займаўся гібрыдызацыяй, поліплаідыяй і селекцыяй пшаніцы, грэчкі, проса. Упершыню ў свеце атрымаў гібрыдныя пладавітыя формы ад скрыжавання шэрагу відаў пшаніцы. Прааналізаваў філагенію пшаніцы, вёў перспектыўную селекцыю пшаніцы па павышэнню імунітэту да хвароб і шкоднікаў, павелічэнню колькасці бялку, памераў коласу, зярняўкі. Асноўныя працы: «Катэгорыі генетыкі ў свеце дыялектычнага матэрыялізму» (1936 г.), «Сінтэз новых відаў пшаніц» (1944 г.), «Новы сорт грэчкі для БССР» (1959 г.) і інш. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—51 гг.

А. Р. Жэбрак памёр 20.5.1965 г. у Маскве.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.
*М. Б. Батвіннік.*




5. *Мемарыяльная дошка А. Р. Жэбраку.*

**6. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РАКІЦКАМУ** Пятру Фамічу (гіст.). На будынку Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР (дом № 27). Устаноўлена ў 1981 г. (скульпт. А. Веліксонаў) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага біёлага-генетыка, акадэміка АН БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР П. Ф. Ракіцкага, які працаваў у гэтым інстытуце. Гл. таксама артыкул № 645 «Магіла Ракіцкага Пятра Фаміча».

**7. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СЕРБЕНТУ** Віталю Андрэевічу (гіст.). На доме № 7. Устаноўлена ў 1982 г. (сілумін; скульпт. У. Булыга, М. Ткачук) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага гісторыка і філосафа, акадэміка АН БССР В. А. Сербенты, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 660 «Магіла Сербенты Віталя Андрэевіча».




6. *Мемарыяльная дошка П. Ф. Ракіцкаму.*

**вул. Амельянюка**

**8. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі ЦЭЦ-3. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1974 г.

**вул. Апанскага**

**9. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 18. Устаноўлена ў 1967 г. на будынку прахадной фабрыкі дзіцячага абутку (былая фабрыка імя Э. Тэльмана) Мінскага вытворчага абутковага аб'яднання «Прамень», на тэрыторыі якой у Вялікую Айчынную вайну дзейнічала адна з груп Мінскага камуністычнага падполля.

**10. ПОМНІК ТЭЛЬМАНУ** Эрнсту (гіст.). На тэрыторыі фабрыкі дзіця-




7. *Мемарыяльная дошка В. А. Сербенту.*




9. *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*

чага абутку (былая фабрыка імя Э. Тэльмана) Мінскага вытворчага абутковага аб'яднання «Прамень». Скульптура дзеяча нямецкага і міжнароднага рабочага і камуністычнага руху Э. Тэльмана ўстаноўлена ў 1965 г.

**11. ПОМНІК ФРУНЗЕ** Міхаілу Васілевічу (маст.). Каля будынка Фрунзенскага райвыканкома. Пастаўлены ў 1975 г. (скульпт. Г. Мурамцаў, архіт. А. Жалдакоў; бетон, граніт; вышыня пастамента 2,25 м, бюста 1,25 м). Пагрудны бюст рэвалюцыянера, аднаго з кіраўнікоў барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі, савецкага партыйнага, дзяржаўнага і ваеннага дзеяча М. В. Фрунзе ўстаноўлены на прамавугольным пастаменце, абліцаваным шэрымі гранітнымі плітамі. Характарыстыка вобраза дасягаецца дакладным партрэтным падабенствам і дэталёвай прапрацоўкай рыс твару. На пастаменце факсіміле М. В. Фрунзе. Уздоўж пляцоўкі, на якой устаноўлены помнік, дэкаратыўныя насаджэнні, газоны, акаймаваныя бардзюрам з бутавых камянёў.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**вул. Аранская**

**12. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 22 (на дыспетчарскім корпусе «Мінскэнерга»). Устаноўлена ў 1966 г. (сілумін; скульпт. М. Ткачук), абноўлена ў 1984 г.

У час нямецка-фашысцкай акупацыі Мінска на ЦЭЦ-2 дзейнічалі групы камуністычнага падполля, якія накіроўваў Мінскі падпольны гарком КП(б)Б. У стварэнні груп прымаў актыўны ўдзел адзін з арганізатараў камуністычнага падполля ў Мінску У. С. Амельянюк. Група, якую ўзначальваў М. І. Яраслаўцаў, аб'ядноўвала 20 чалавек, пераважна былых работнікаў электрастанцыі і ваеннапалонных. Дзейнічала з жніўня 1941 г. да мая 1942 г. Падпольшчыкі прымалі па радыёпрыёмніку зводкі Саўінфармбюро, пісалі і распаўсюджвалі сярод рабочых ЦЭЦ і ў горадзе антыфашысцкія лістоўкі, падтрымлівалі цесную сувязь з Ваенным Саветам партызанскага руху, з партызанскім атрадам «Беларусь», перапраўлялі ў атрад зброю, накіроўвалі ваеннапалонных. У студзені 1942 г. патрыёты ўзарвалі вадапомпавую станцыю, у лютым — адзін з катлоў, у сакавіку вывелі са строю галоўны пульт кіравання электрастанцыі. У маі 1942 г. у сувязі з пагрозай раскрыцця дзейнасці групы акупантамі большая частка падпольшчыкаў пайшла ў партызанскі атрад імя І. В. Сталіна.

Падпольная група на чале з Дз. Р. Гняўко дзейнічала з верасня 1941 г. да 3.7.1944 г. Яднала 18 чалавек — слесароў, электраманцёраў і інш. Трымала сувязь з партызанскім атрадам «Мясцовыя», брыгадамі «Штурмавая» Мінскай, імя Дзяржынскага Баранавіцкай абласцей. Падпольшчыкі сабатавалі падачу электраэнергіі на аб'екты ворага, выводзілі са строю генератары і інш. абсталяванне. Падпольшчыкі на чале з Дз. Р. Гняўко ў пачатку лютага 1944 г. узарвалі трансфарматарны пункт, пакінулі без электраэнергіі воінскія казармы і склады. Узрывам генератара ЦЭЦ-2 было перапынена электразабеспячэнне многіх устаноў акупантаў. Патрыёты не дапусцілі знішчэння ЦЭЦ-2 гітлераўцамі пры іх адступленні. У барацьбе з ворагам загінулі падпольшчыкі К. Р. Ваўчок, П. М. Дзянісаў, А. Л. Тарлецкі, М. І. Яраслаўцаў.

*Літ.:* Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984; В непокоренном Минске.— Мн., 1987.

*Я. Н. Козін.*

**13. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі кандытарскай фабрыкі «Камунарка». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1954 г.




10. *Помнік Э. Тэльману.*




11. *Помнік М. В. Фрунзе.*

**вул. М. Астроўскага**

**14. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ М. АСТРОЎСКАГА** (архіт.). Вуліца Астроўскага пачынаецца ад вул. Няміга і заканчваецца Юбілейнай плошчай. У 18 ст. мела назву Ракаўская і ўлівалася ў былы Ракаўскі тракт (сучасная вул. Харкаўская), які злучаў Мінск з мястэчкам Ракаў. У 1937 г. названа ў гонар рускага савецкага пісьменніка М. А. Астроўскага.

Забудова складаецца з трох асноўных комплексаў, якія створаны ў 19—пачатку 20 ст. Першы ўключае дамы № 12—20/15, другі — дамы № 15—19, трэці — дамы № 24—32.

Д о м № 12. Пабудаваны ў пачатку 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы чатырохвугольны ў плане будынак мае сіметрычнае аб'ёмна-прасторавае вырашэнне. Галоўны фасад падзелены карнізам. Цэнтральная частка вылучана парталам-аркай увахода. Сцены 1-га паверха прарэзаны невялікімі лучковымі аконнымі праёмамі без ліштваў, на 2-м паверсе вокны дэкарыраваны прамымі сандрыкамі. Пад карнізам пакатага двухсхільнага даху праходзіць пояс сухарыкаў. Цяпер у будынку размешчаны грамадскія ўстановы.

Д о м № 14. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Злучаны з домам № 12 дэкаратыўнай сценкай, у цэнтры якой прарэзана лучковая арка. Двухпавярховы складанай у плане формы будынак асіметрычнай кампазіцыі. Да вуліцы пастаўлены тарцовым



14. *Забудова вуліцы М. Астроўскага. Фота 1967 г.*




14. *Дом № 16 па вуліцы М. Астроўскага. План 1-га паверха.*




14. *Дом № 16а па вуліцы М. Астроўскага. План 1-га паверха.*

фасадам. Паверхі падзелены карнізным поясам. На 1-м паверсе лучковыя аконныя праёмы, на 2-м — прамавугольныя. У цэнтры галоўнага фасада на 2-м паверсе маленькі балкон. Будынак накрыты вальмавым дахам, схілы якога ўтвараюць у дваровай частцы няправільныя трохвугольныя франтончыкі. Цяпер у будынку размешчана грамадская ўстанова.

Дом № 16. Пабудаваны на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы, не атынкаваны. Двухпавярховы чатырохвугольны ў плане будынак з прыбудовай у дваровай частцы, мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У паўднёва-ўсходняй частцы — лучковая арка ва ўнутраны двор. 1-ы і 2-і паверхі галоўнага і дваровага фасадаў падзелены карнізам. Галоўны фасад члянёны лучковымі аконнымі праёмамі з дэкаратыўнымі ліштвамі. Цэнтральную частку фасада аздабляе невялікі балкон з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 18. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накры-




14. *Дом № 12 па вуліцы Астроўскага. План 1-га паверха.*



14. *Забудова вуліцы М. Астроўскага. Дамы № 12, 14.*




14. *Дом № 20/15 па вуліцы М. Астроўскага. План 1-га паверха.*

ты двухсхільным дахам. Фасады вырашаны плоскасна, члянёны лучковымі вокнамі без ліштваў, на 1-м паверсе дэкарыраваны лучковымі сандрыкамі. Цяпер у будынку размешчаны Рэспубліканскі галіновы вылічальны цэнтр.

Дом № 20/15. Пабудаваны на рубяжы 19—20 ст. з цэглы, не атынкаваны. Двухпавярховы вуглавы Г-падобны ў плане будынак пакрыты вальмавым дахам, злучаны з суседнімі пабудовамі. Паверхі фасада, які выходзіць на вул. Астроўскага, падзелены карнізным поясам. Лучковыя аконныя праёмы маюць дэкаратыўныя ліштвы на 2-м паверсе і аздоблены прамымі сандрыкамі на 1-м. У паўночна-заходняй частцы фасада — скразная лучковая арка, побач размешчаны ўваход. На 2-м паверсе невялікія балконы. Пад карнізам даху праходзіць пояс сухарыкаў. Уваходныя дзверы аздоблены фігурнымі філёнгамі, вітымі калонкамі па баках, якія завершаны стылізаванымі капітэлямі. Вуглавая частка будынка скошана, акцэнтавана балконам з чыгуннай агароджай і атыкавай сценкай. Фасад, які выходзіць на вул. Вызвалення, таксама падзелены карнізным поясам, дэкарыраваны паясамі сухарыкаў, ліштвамі, накладнымі цаглянымі падаконнымі ўстаўкамі, лапаткамі. Выкарыстоўваецца як жылы.

На гэтым баку вуліцы ў глыбіні квартала захаваліся тры жылыя дамы 19 ст. (12а, 14а, 16а).

Дом № 12а. Пабудаваны з цэглы. Трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты чатырохсхільным вальмавым дахам. Фасады вырашаны строга і лаканічна. Плоскія сцены члянёны лучковымі вокнамі без ліштваў. Дэкаратыўныя элементы ў архітэктурнай аздобе адсутнічаюць. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 14а. Пабудаваны з цэглы і дрэва. Аднапавярховы прамавугольны ў плане з невялікай драўлянай прыбудовай будынак накрыты двухсхільным дахам. Аконныя праёмы прамавугольныя без ліштваў. З тарцоў схілы даху ўтвараюць трохвугольныя франтоны. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 16а. Пабудаваны з цэглы і дрэва. Двухпавярховы будынак з асіметрычнай кампазіцыяй плана і фасадаў накрыты двухсхільным дахам. Фасады плоскасныя, члянёны прамавугольнымі вокнамі без ліштваў. З паўднёва-ўсходняга боку да дома прымыкае драўляная гарызантальна ашаляваная прыбудова на мураваным фундаменце.

Дамы № 15—19 утвараюць адзіны фронт забудовы.

Дом № 15. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане з невялікім рызалітам будынак накрыты двухсхіль-



14. *Забудова вуліцы М. Астроўскага. Дамы № 14 і 16.*



14. *Забудова вуліцы М. Астроўскага. Дамы № 15, 17, 19.*



14. *Панарама забудовы вуліцы М. Астроўскага. Жылыя дамы № 20/15, 18, 16, 14.*

ным дахам. Галоўны фасад падзелены па гарызанталі карнізам. Аконныя праёмы прамавугольнай формы, на 2-м паверсе дэкарыраваны прамымі сандрыкамі. У цэнтральнай частцы дваровага фасада на 2-м паверсе маленькі балкон.

Дом № 17. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы. У пачатку 20 ст. прыстасаваны пад танцавальную залу, потым — кінатэатр. Двухпавярховы сіметрычны прамавугольны ў плане будынак. Цэнтрам кампазіцыі галоўнага фасада з'яўляецца неглыбокі рызаліт, расчлянёны плоскімі лапаткамі, паміж якімі выцягнутыя высокія паўцыркульныя вокны (на 2 паверхі) з замковым каменем. Над карнізам рызаліта атыкавая сценка, у якой прарэзаны невялікія прамавугольныя аконныя праёмы.

Дом № 19. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад расчлянёны па гарызанталі шматслаёвым карнізам. Аконныя праёмы лучковыя, дэкарыраваны лучковымі на 1-м і прамымі на 2-м паверхах сандрыкамі.

Дом № 24. Пабудаваны ў пачатку 19 ст. з цэглы як сінагога. У пачатку 20 ст. перабудаваны. Двухпавярховы са складаным планам будынак. Галоўны фасад асіметрычнай кампазіцыі, цэнтральная яго частка вылучана рызалітам, завершаным фігурным атыкам. Вокны 1-га паверха паўцыркульныя, высокія, без ліштваў, другога — прамавугольныя. У вуглавым (у паўднёва-ўсходняй частцы) неглыбокім рызаліце прарэзана вузкае высокае акно, якое асвятляе лесвічны вузел. У доме размешчана грамадская ўстанова.

Дом № 26. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак. У цэнтры галоўнага фасада сіметрычнай кампазіцыі — лучковая арка-праезд. Паверхня сцен прарэзана строгімі прамавугольнымі вокнамі без ліштваў. На 2-м паверсе праёмы дэкарыраваны прамымі сандрыкамі, пад вокнамі — невялікія прамавугольныя нішы. Пад карнізам даху праходзіць пояс фігурных сухарыкаў. Несіметрычна на другім паверсе навісае невялікі балкон з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Выкарыстоўваецца як жылы.

Дамы №№ 28, 30. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Шчыльна далучаны адзін да аднаго, утвараюць агульны фасад. Двухпавярховыя прамавугольныя ў плане будынкі пад двухсхільнымі дахамі. Першы і другі паверхі адлзелены міжпаверхавым карнізным поясам. Пад карнізам даху праходзіць пояс фігурных сухарыкаў. Плоскасць сцяны на другім паверсе расчлянёна плоскімі лапаткамі. Вокны першага паверха ў доме № 28 лучковыя, у доме № 30 з прамымі сандрыкамі, на другім паверсе прамавугольныя і лучковыя, без ліштваў, аздобленыя прамымі сандрыкамі і дэкаратыўнымі маленькімі прамавугольнымі нішамі (па дзве на кожнае акно). Выкарыстоўваюцца як жылыя.



14. *Забудова вуліцы М. Астроўскага. Дамы № 24, 26, 28, 30.*




14. *Дом № 26 па вуліцы М. Астроўскага. План 1-га паверха.*

Дом № 32. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты чатырохсхільным вальмавым дахам. Галоўны фасад вырашаны плоскасна, расчлянёны прамавугольнымі вокнамі без ліштваў. Цяпер у доме размешчаны грамадскія ўстановы.

Забудова вул. Астроўскага з'яўляецца кампазіцыйнай воссю гісторыка-архітэктурнай зоны Ракаўскае прадмесце. Архітэктура асобных будынкаў мае эклектычны характар. Разам яны ўтвараюць цікавы куток старога Мінска.

*Літ.:* Чернявская Т. И., Петросова Е. Ю. Памятники архитектуры Минска XVII — начала XX в.— Мн., 1984.

*А. Ю. Пятросава.*



16. *Петрапаўлаўская царква. Фота 1980-х гадоў.*



15. *Ганчарны горан канца 16 ст. Знойдзены ў 1980 г. у час будаўнічых работ на вуліцы Няміга.*

**15. КУЛЬТУРНЫ ПЛАСТ РАКАЎСКАГА ПРАДМЕСЦЯ** (археал.). Выяўлены на тэрыторыі паміж вуліцамі Астроўскага, Нямігай, Віцебскай і Вызвалення. Шэрага, цёмна-шэрага колеру, насычаны рэшткамі драўлянай забудовы 16—19 стагоддзяў і прадметамі матэрыяльнай культуры. Даследаваў у 1976, 1979, 1980 гг. В. Е. Собаль.

Найбольшая магутнасць пласта ўздоўж вул. Няміга — каля 4,5 м, паступова яна памяншаецца да 1—1,5 м (каля вул. Рэспубліканскай). У раёне вуліц Віцебскай, Астроўскага, Вызвалення таўшчыня пласта 0,5—2 м. Тэрыторыя Ракаўскага прадмесця, паводле археалагічных даследаванняў, была заселена ў 15 ст. Знойдзены ганчарны горан і каробчатая кафля канца 16 ст., упрыгожаная раслліннымі і геаметрычнымі ўзорамі, кавалкі гліняных прэс-форм, пры дапамозе якіх выціскалі ўзор на вонкавай пласціне кафлі. Сярод знаходак бытавая кераміка: гаршкі, макотры, збаны, кубкі, талеркі, міскі 15—18 стагоддзяў. Большая частка вырабаў пакрыта палівай зялёнага або карычневага колераў. Трапляюцца чорнаглянцаваныя міскі, талеркі, збаны, а таксама посуд, упрыгожаны ангобнай размалёўкай пад празрыстую зялёную паліву. Знойдзены абутак (боты, чаравікі, туфлі, хадакі з абцасамі і без іх), жалезныя прылады працы (сякера, нажы, нажніцы, замкі, ключы, падковы і падкоўкі для абутку), шкляны посуд



15. *Каробчатая кафля канца 16 ст. з раскопак Ракаўскага прадмесця.*



15. *Каробчатая кафля пачатку 16 ст. з раскопак Ракаўскага прадмесця.*



15. *Шкляныя кварты 18 ст. з раскопак Ракаўскага прадмесця.*

(кварты, збаны, бутэлькі, шкляніцы, стопкі, бакалы), манеты Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Собаль В. Е. Цікавая знаходка.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1980, № 2; Собаль В. Е., Яніцкая М. М. Шкляны посуд Мінска XII—XIX стст.— У кн.: Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1984. *В. Е. Собаль.*

**16. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Дом № 4. Пабудавана ў 1613 г. з цэглы праваслаўным брацтвам, якое існавала пры Петрапаўлаўскім манастыры. У 1795 г. рэканструявана і перайменавана ў Кацярынінскую (вядома і пад назвай Жоўтая) царкву. У 1870—71 гг. перабудавага: зроблены купал на квадратным пастаменце, пабудаваны новыя трох'ярусныя чатырохгранныя шатровыя вежы на галоўным фасадзе. Перабудовы ажыццяўляліся і ў канцы 19 ст.: былі зняты купал і зменены галоўны фасад, да заходняга фасада зроблена прыбудоўка. Храм пашкоджаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1972—79 гг. рэстаўрыраваны паводле праекта Мінскіх навукова-рэстаўрацыйных і вытворчых майстэрняў Міністэрств культуры БССР (архіт. А. І. Курто). Цяпер тут размешчаны Архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі БССР і Архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР.

Царква — мураваная трохнефавая шасцістаўповая базіліка з пяціграннай апсідай і 2 вежамі. Галоўны (заходні) фасад — трохчасткавы партал: цэнтральная частка завершана высокім трохвугольным франтонам, над уваходам вялікае паўцыркульнае акно, 2 бакавыя часткі дэкарыраваны неглыбокімі нішамі паўцыркульнага і прамавугольнага абрысу, фланкіраваны трох'ярусными вежамі-званіцамі, якія завершаны шлемападобнымі купаламі. Над больш нізкай апсідай — франтон асноўнага аб'ёму з люкарнай. Бакавыя фасады дэкарыраваны высокімі пілястрамі, паміж імі ў неглыбокіх нішах размешчаны спараныя паўцыркульныя вокны, якія асвятляюць бакавыя і цэнтральны нефы. Сцены завершаны тонкапрафіляваным карнізам. У інтэр'еры цэнтральны неф мае цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, бакавыя нефы — крыжовыя скляпенні.

Побач з царквой захаваўся царкоўны дом, збудаваны ў 19 ст. (вул. Астроўскага, 2).

У архітэктуры помніка захаваліся элементы рэнесансу і барока.

*Літ.:* Чернявская Т. И., Петросова Е. Ю. Памятники архитектуры Минска XVII — начала XX в.— Мн., 1984; Пазняк З. С. Рэха даўняга часу.— Мн., 1985. *Т. І. Чарняўская.*

**16.** *Петрапаўлаўская царква. Фота 19 ст.*




**16.** *Петрапаўлаўская царква. План.*

**вул. Аўтадораўская**

**17. БРАЦКАЯ МАГІЛА СУПРАЦОЎНІКАЎ МІЛІЦЫІ** (гіст.). На тэрыторыі філіяла чыгуначнай бальніцы. Пахаваны супрацоўнікі Мінскага лінейнага аддзялення міліцыі, якія загінулі 25.6.1941 г. у час налёту фашысцкай авіяцыі на горад. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**18. БУДЫНКІ ЧЫГУНАЧНАЙ БАЛЬНІЦЫ** (архіт., гіст.). Комплекс пабудаваны ў 1912—14 гг. Уключае мураваныя галоўны і 5 дапаможных карпусоў, воданапорную вежу.

Галоўны корпус двухпавярховы, Е-падобны ў плане. Архітэктурнамастацкую выразнасць будынку надае кантрастнае спалучэнне чырвонай цэглы і белых атынкаваных дэталей на фасадах (карнізы, франтоны, пілястры, аконныя ліштвы, сандрыкі). Галоўны фасад вылучаны цэнтральным і 2 бакавымі рызалітамі, завершаны трохвугольнымі франтонамі. Плоскасць сцяны фасада дэкарыравана шырокімі пілястрамі і спаранымі лапаткамі. Аконныя праёмы прамавугольныя на 1-м паверсе, паўцыркульныя на 2-м. Будынак мае калідорную планіроўку. Па перыметры ўздоўж аднабаковага калідора размешчаны палаты для хворых. Аперацыйныя залы на 1-м і 2-м паверхах вынесены ў асобны 5-гранны аб'ём дзеля лепшага іх асвятлення. Санітарныя пакоі ў тарцах бакавых крылаў маюць самастойныя ўваходы з двара.

16. *Петрапаўлаўская царква. Галоўны фасад.*



17. *Помнік на брацкай магіле супрацоўнікаў міліцыі.*

Дапаможныя карпусы 1—2-павярховыя, вырашаны ў лаканічных формах.



18. *Воданапорная вежа.*

Воданапорная вежа цагляная, не атынкавана, 3-ярусная, 8-гранная ў плане. Першы невысокі ярус — аснова вежы, шырокія грані 2-га яруса расчлянёны вялікімі арачнымі нішамі, 3-і ярус глухі. У аздабленні выкарыстаны нішы, пілястры, арнаментальныя паясы. Асобныя дэталі маюць стылізаваныя формы сярэдневя-



18. *Чыгуначная бальніца. Галоўны корпус.*




18. *Чыгуначная бальніца. План 1-га паверха галоўнага корпуса.*

ковага абарончага дойлідства: машыкулі, вокны-байніцы і інш.

Комплекс чыгуначнай бальніцы — помнік грамадзянскай архітэктуры.

У 1914—17 гг. у галоўным корпусе размяшчаўся ваенны шпіталь, у 1918—22 гг.— эвакапункт ваеннага ведамства. У 1922 г. адкрыта чыгуначная бальніца на 52 ложкі (20 у тэрапеўтычным, 20 у хірургічным, 12 у інфекцыйным аддзяленнях). У 1926 г. у бальніцы 70 ложкаў, у 1936 г.— 110, у 1941 г.—155. У 1965—70 гг. па вул. Каржанеўскага пабудаваны новыя карпусы бальніцы, ранейшыя выкарыстоўваюцца як філіял. *Т. І. Чарняўская.*

**вул. Бакуніна**

**19. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНАК** (гіст., архіт.). Дамы № 3, 5, 7. Кляштарны комплекс заснаваны ў 1633 г. з цэглы (паводле інш. звестак у 1642 г.). Размешчаны насупраць мужчынскага бернардзінскага кляштара праз вул. Бакуніна (былая Вялікая Бернардзінская). Пасля пажару 1741 г. рэканструяваны. У выніку перабудоў, праведзеных у 18—19 стагоддзях, шмат дэкаратыўных элементаў страчана. У 1852 г. манастыр бернардзінак ліквідаваны. У 1869 г. тут іспаваў мужчынскі манастыр пры Кірыла-Мяфодзіеўскай царкве. Пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 гг. у манастыры працавала дзяржаўная следчая камісія, некалькі гадоў знаходзіліся зняволеныя паўстанцы, у т. л. К. В. Марцінкевіч (дачка В. Дуніна-Марцінкевіча). Кляштар складаецца з мураванага касцёла (цяпер праваслаўны кафедральны сабор) і жылога корпуса (цяпер жылы дом), якія ствараюць адзіную кампазіцыю з унутраным дворыкам.

Касцёл — прамавугольная ў плане трохнефавая шасціслуповая двухвежавая базіліка з трохграннай апсідай і прыбудаванымі сіметрычна з двух бакоў прамавугольнымі ў плане сакрысціямі. Цэнтральны неф накрыты



19. *Кляштар бернардзінак. План.*



19. *Кляштар бернардзінак.*



19. *Кляштар бернардзінак.*

двухсхільным дахам, больш нізкія бакавыя — аднасхільнымі. Галоўны паўночна-заходні фасад карнізнымі цягамі падзелены на 3 ярусы. Вылучаецца трохчасткавае чляненне і па вертыкалі, дзве бакавыя часткі — асновы 2 трох'ярусных вежаў, якія завершаны складанымі барочнымі купаламі, раскрапаваны пілястрамі, прафіляванымі карнізамі, плоскімі паўцыркульнымі нішамі ў ніжніх і лучковымі праёмамі ў верхніх ярусах. Паміж вежамі складаны па абрысу шчыт, дэкарыраваны падвойнымі пілястрамі, карнізнымі паясамі. У інтэр'еры цэнтральны неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі.

Ж ы л ы  к о р п у с двухпавярховы, П-падобны ў плане, прымыкае да касцёла з паўночна-ўсходняга боку. Паўднёва-ўсходні фасад вылучаны 2 рызалітамі. Сцены будынка рытмічна падзелены пілястрамі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Галоўны ўваход знаходзіўся з паўночнага боку будынка. На вуліцу корпус раскрываўся невялікім курданёрам, дзе быў кветнік. Мае калідорную сістэму планіроўкі: уздоўж аднабаковага калідора, перакрытага крыжовымі скляпеннямі і арыентаванага ва ўнутраны дворык, размяшчаліся келлі, трапезная, а таксама склады і розныя гаспадарчыя памяшканні.

Да жылога корпуса з паўднёвага ўсходу прымыкае 3-павярховы мураваны флігель 18 ст. (вул. Бакуніна, 7).

Кляштар — помнік архітэктуры барока.

*Літ.:* Ч е р н я в с к а я  Т. И., П е т р о с о в а  Е. Ю. Памятники архитектуры Минска XVII — начала XX века.— Мн., 1984; Д е н и с о в  В. Н. Площадь Свободы в Минске.— Мн., 1985. *Т. І. Чарняўская.*

**20. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** (архіт.). Дамы № 4, 6, 8. Заснаваны ў 1628 г. (паводле інш. звестак у 1624 г.). Рэканструяваны пасля пажару 1740 г. Манастырскі комплекс уключаў касцёл, жылыя дамы, трапезную, школу, шпіталь, стайню, піварню і інш. гаспадарчыя пабудовы, якія часткова захаваліся да нашага часу. З 1872 г. у памяшканні касцёла размяшчаліся архівы. Фасады касцёла рэстаўрыраваны ў 1984 г. (архіт. Г. Босак).



20. *Кляштар бернардзінцаў. Падземны контрфорс каля падмурка касцёла.*



20. *Касцёл. Бакавы фасад.*



20. *Кляштар бернардзінцаў.*




20. *Касцёл. План.*

Дамінуючае становішча ў ансамблі займае касцёл — трохнефавая шасціслуповая бязвежавая (сучасны стан) базіліка. У плане збудаванне вылучаецца пластыкай лініі галоўнага фасада, што нагадвае нацягнуты лук, і незвычайна выцягнутай апсіднай часткай. Цэнтральны неф непасрэдна пераходзіць у выцягнуты прэсбітэрый з 3-граннай алтарнай апсідай, умацаванай контрфорсамі, накрыты агульным двухсхільным дахам. Абапал да цэнтральнага нефа прымыкаюць па 3 злучаныя паміж сабой капліцы, што ўтвараюць бакавыя нефы, накрытыя аднасхільнымі дахамі. У тоўшчы сцяны галоўнага фасада размешчаны вітыя лесвіцы, якія вядуць на хоры і ў падвалы.

Галоўны фасад храма мае хвалістую паверхню, у цэнтры расчлянёны 4 шырокімі пілястрамі, што падкрэсліваюць дамінуючае месца галоўнага нефа. Каля карніза пілястры заменены капітэлямі іанічнага ордэра. Уваход у будынак вырашаны ў выглядзе развітага партала, над якім размешчана вялікае трохпялёсткавае акно. Абапал акна паміж пілястрамі нішы, дзе стаялі гіпсавыя скульптуры. Сцены бакавых фасадаў расчлянёны шырокімі пілястрамі, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, больш высокімі ў апсіднай частцы. Вокны цэнтральнага нефа, што выходзяць на бакавыя фасады і апсіду, маюць лучковае завяршэнне.

У інтэр'еры храма адбыліся значныя змены. Захаваліся крыжовыя скляпенні ў капліцах. Дэкор і жывапіс, за выключэннем лепкі ў завяршэнні пілястраў і слупоў, не захаваліся. Страчана цыліндрычнае скляпенне цэнтральнага нефа. У выніку апошняй рэканструкцыі (пачатак 1960-х гадоў) будынак расчлянёны па вышыні 2 жалезабетоннымі перакрыццямі.

З паўночнага ўсходу да касцёла прыбудаваны П-падобны ў плане двухпавярховы жылы будынак кляштара. Фасады рытмічна падзелены пілястрамі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Планіроўка памяшкання калідорная. Акрамя касцёла і жылога корпуса захаваўся таксама мураваны флігель, гаспадарчыя пабудовы і частка муравапай агароджы.

З паўднёвага боку каля касцёла ў 1810—17 гг. былі пабудаваны гандлёвыя рады (зберагліся часткова). Цяпер у будынку касцёла размешчаны Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР.

Касцёл бернардзінцаў вывучала архітэктурна-археалагічная экспедыцыя Інстытута гісторыі АН БССР (археолагі В. Е. Собаль, А. А. Трусаў і З. С. Пазняк) і рэстаўрацыйных майстэрняў Міністэрства культуры БССР у 1979 г. Устаноўлена, што падмуркі складзены з вялікіх камянёў і цэглы-пальчаткі ў тэхніцы мяшанай муроўкі, глыбіня залягання 1,4—1,5 м. З галоўнага фасада касцёл мае падземныя контрфорсы (адзін з іх даследаваны). Контрфорс (вышыня 2,3 м, шырыня 1,8 м) далучаны да падмурка касцёла без перавязкі, зроблены з цэглы-пальчаткі памерам 28×13—14×6—6,5 см у тэхніцы рэнесансавай муроўкі на «падушцы» з камянёў і залягае значна глыбей за падмурак. Прасочаны таксама рэшткі мураванай агароджы (пазначана на плане Мінска 1801 г.), складзенай з цэглы-пальчаткі памерам 27—28×13—14×5 см. Падмурак таксама з цэглы і заглыблены ў мацярык на 60 см. Па памерах цэглы і тэхніцы муроўкі ўзвядзенне агароджы можна аднесці да 1670—90 гг. Час разбурэння невядомы.

Кляштар — помнік архітэктуры барока.

*Літ.:* Денисов В. Н. Площадь Свободы в Минске.— Мн., 1985; Соболь В. Е., Трусов О. А., Позняк З. С. Исследо-

вания старого Минска.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980; Чернявская Т. И., Петросова Е. Ю. Памятники архитектуры Минска XVII — начала XX в.— Мн., 1984.
*Г. П. Босак.*

**вул. Батанічная**

**21. ВАГОН-МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ МІНСКАГА ТРАМВАЯ** (гіст.). На тэрыторыі трамвайнага дэпо.

Будаўніцтва трамвая ў Мінску пачалося ў 1928 г. За кароткі час было пракладзена 10 км трамвайнага пуці, пабудаваны трамвайны парк. Вялікую дапамогу ў будаўніцтве аказалі рабочыя і інжынерна-тэхнічныя работнікі Масквы. Адсюль і з іншых гарадоў краіны былі атрыманы трамвайныя вагоны, рэйкі, абсталяванне. Першы трамвай пушчаны 13.10.1929 г. па лініі Камароўка (цяпер пл. Я. Коласа) — Таварная станцыя, за першы год перавёз больш за 10 млн. пасажыраў. У наступныя гады трамвайныя лініі злучылі цэнтр горада з ускраінамі. У 1933 г. трамвайны парк налічваў 43 вагоны. У Вялікую Айчынную вайну трамвайная гаспадарка была знішчана нямецка-фашысцкімі акупантамі. Пасля вызвалення Мінска працоўныя горада з дапамогай рабочых шэрагу заводаў краіны аднавілі трамвайны парк. У канцы 1945 г. агульная працягласць трамвайнага пуці склала 13,5 км. У 1966 г. пабудавана трамвайнае дэпо. У 1985 г. было 10 трамвайных маршрутаў працягласцю 56,4 км.

У 1979 г. у гонар 50-годдзя пуску першага трамвая ў горадзе адкрыты вагон-музей (вагон — падарунак працоўных Ленінграда да 40-годдзя ўтварэння БССР). У ім сабраны матэрыялы па гісторыі мінскага трамвая, аб працоўных дасягненнях рабочых дэпо.

*Літ.:* Гісторыя Мінска.— [2 выд.].— Мн., 1967.
*У. У. Бянько.*

**вул. Беларуская**

**22. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 21. Устаноўлена ў 1984 г. (архіт. Б. Сідарэнка; сілумін).

Паблізу сучаснага будынка інтэрната ў Вялікую Айчынную вайну знаходзіўся дом (былы 1-ы Беларускі завулак, 6), у якім у 1941—43 гг. размяшчалася канспіратыўная кватэра Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. У доме жыў актыўны ўдзельнік Мінскага камуністычнага падполля, выпускнік 20-й школы горада, камсамолец З. З. Гало (псеўданімы Зорык, Максім). Па заданню падпольнага партыйнага камітэта ён працаваў сакратаром бюро прапускоў Мінскай гарадской управы, забяспечваў падпольшчыкаў бланкамі пашпартоў, прапускоў і іншымі дакументамі, узорамі пячатак і подпісаў, папярэджваў падпольшчыкаў аб падрыхтоўцы аблаў, карных экспедыцыях і г. д., збіраў разведдадзеныя, боепрыпасы. Меў сувязь з падпольнымі групамі на чыгуначным вузле, з Лагойскім падпольным райкомам КП(б)Б, партызанскім атрадам імя А. В. Суворава брыгады «Народныя мсціўцы» і спецгрупай Цэнтральнага штаба партызанскага руху. 25.10.1943 г. З. Гало арыштаваны і ў пачатку 1944 г. закатаваны гітлераўцамі. Яго імем названа вуліца ў Мінску (былы Цыянскі завулак).

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1.— Мн., 1983; В непокоренном Минске.— Мн., 1987.
*М. М. Казлоўская.*



21. *Вагон-музей гісторыі мінскага трамвая.*




23. *Мемарыяльная дошка Ц. Я. Кісялёву.*

**завулак Бранявы**

**23. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КІСЯЛЁВУ** Ціхану Якаўлевічу (гіст.). На доме № 4. Устаноўлена ў 1983 г. (сілумін; скульпт. У. Лятун) на ўшанаванне памяці савецкага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, Героя Сацыялістычнай Працы Ц. Я. Кісялёва, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 586 «Магіла Кісялёва Ціхана Якаўлевіча».

**24. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛАБАНКУ** Уладзіміру Елісеевічу (гіст.). На доме № 4. Устаноўлена ў 1986 г. (скульпт. І. Глебаў) на ўшанаванне памяці дзяржаўнага і партыйнага дзеяча БССР, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Віцебскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну У. Е. Лабанка, які жыў у гэтым доме.

**25. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПРЫТЫЦКАМУ** Сяргею Восіпавічу (гіст.). На доме № 4. Устаноўлена ў 1971 г. (бронза, граніт; скульпт. Г. Мурамцаў) на ўшанаванне памяці савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, аднаго з арганізатараў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну С. В. Прытыцкага, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 639 «Магіла Прытыцкага Сяргея Восіпавіча».

**вул. Броўкі**

**26. БУДЫНКІ РАДЫЁТЭХНІЧНАГА ІНСТЫТУТА** (гіст., архіт.). Дамы № 4, 6 і на перасячэнні вуліц Гікалы і Платонава. Комплекс будынкаў інстытута па вул. Броўкі пабудаваны ў 1967—72 гг. (архіт. П. Бяляеў). Складаецца з трох вучэбна-лабараторных карпусоў, якія размешчаны ўздоўж вуліцы і злучаны паміж сабой падземнымі пераходамі.




24. *Мемарыяльная дошка У. Е. Лабанку.*




**25.** *Мемарыяльная дошка С. В. Прытыцкаму.*

Радыётэхнічны інстытут адкрыты ў 1964 г. на базе радыётэхнічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. У 1987/88 навучальным годзе ў інстытуце працавала 7 факультэтаў: канструктарска-тэхналагічны, радыёэлектронікі, вылічальнай тэхнікі, аўтаматызацыі ўпраўлення, электрасувязі, вячэрняе, завочнае, падрыхтоўчае аддзяленні. Працуюць 2 спецфакультэты: па павышэнню кваліфікацыі і па падрыхтоўцы кадраў. На 33 кафедрах каля 700 выкладчыкаў, 26 дактароў навук, 22 прафесары, 283 дацэнты і кандыдаты навук. Вучылася 8246 студэнтаў. Навучанне дзённае, вячэрняе і завочнае. З 1964 г. аспірантура. Пры інстытуце ёсць навукова-даследчая часць, спецыяльнае канструктарска-тэхналагічнае бюро з вопытнай вытворчасцю, праблемныя і галіновыя навукова-даследчыя лабараторыі.

Першы галоўны вучэбна-лабараторны корпус (вул. П. Броўкі, 6) пабудаваны ў 1967 г. з цэглы і зборнага жалезабетону. Чатырохпавярховы П-падобны ў плане аб'ём з выступаючымі вуглавымі рызалітамі. Сцены па ўсім перыметры расчлянёны пілонамі. Рытм кампазіцыі галоўнага фасада ствараюць вертыкальныя лапаткі. Усе фасады, за выключэннем дваровага, атынкаваны. Пад будынкам падвальныя памяшканні. Планіроўка корпуса калідорная з двухбаковым размяшчэннем кабінетаў і аўдыторый. Сувязь паміж паверхамі ажыццяўляецца праз парадную трохмаршавую лесвіцу ў цэнтральнай частцы і па 2 маршавых лесвіцах у бакавых крылах.

Другі вучэбна-лабараторны корпус (вул. П. Броўкі, 4) пабудаваны ў 1969 г. з цэглы і зборнага жалезабетону. Складаецца з 2 аб'ёмаў, пастаўленых на крутым участку вул. П. Броўкі. Шасціпавярховы прамавугольны ў плане будынак аддалены ад чырвонай лініі забудовы на 10 м. На 1-м паверсе размешчаны прасторны вестыбюль, бібліятэка з кнігасховішчам, чытальная зала. Да паўднёвага тарца шасціпавярховага аб'ёма прыбудаваны прамавугольны ў плане чатырохпавярховы з актавай залай на 900 месцаў і спартыўнымі заламі. Пластыку галоўнага фасада ствараюць жалезабетонныя рэбры на ўсю вышыню будынка. На тарцы выканана каляровае мазаічнае пано. На ўзроўні 1-га паверха зроблены балкон спартыўнай залы, кабінеты выкладчыкаў і ўрача. У цэнтральным вестыбюлі-фае — 2 рады круглых калон. Планіроўка вучэбнага корпуса калідорная з двухбаковым размяшчэннем аўдыторый. Сцены атынкаваны пад граніт з украпінамі слюды. Міжкалонныя прасценкі маюць зубчастую паверхню. З боку двара сцены атынкаваны белай сілікатнай цэглай.

Трэці вучэбна-лабараторны корпус узведзены ў 1972 г. Будынак пяціпавярховы, прамавугольны ў плане, на цокалі, з 2 выступаючымі ў бок двара двухпавярховымі аб'ёмамі аўдыторый і спартыўнага комплексу. У корпусе 7 аўдыторый на 100 і 2 на 250 месцаў кожная, гімнастычная і спартыўная залы, плавальны басейн, вучэбны тэлецэнтр. Архітэктурным акцэнтам корпуса з'яўляецца аб'ём 2-га паверха, які кансольна выступае па фронту будынка. Фасадная плоскасць спартыўнага комплексу вырашана ў выглядзе арнаментальнай рашоткі з буйнапамерных тыпавых жалезабетонных блокаў, што надае будынку рэльефнасць і дынамічнасць. Унутраная планіроўка ідэнтычная 1-му і 2-му карпусам.



**26.** *4-ы і 5-ы карпусы радыётэхнічнага інстытута.*



**27.** *Мемарыяльная дошка А. В. Лыкаву.*

Комплекс на перасячэнні вуліц Гікалы і Платонава пабудаваны ў 1980 г. з цэглы і зборнага жалезабетону (архіт. П. Бяляеў, М. Волкаў). Складаную па канфігурацыі плана аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю ўтвараюць вучэбна-лабараторны корпус № 4 і корпус № 5 з вылічальным цэнтрам. Прамавугольны ў плане 5-павярховы вучэбна-лабараторны корпус № 4 мае з боку галоўнага фасада 3 аўдыторыі на 150, з тыльнага фасада 2 аўдыторыі на 250 месцаў кожная. Узбагачаюць пластыку галоўнага фасада спараныя жалезабетонныя рэбры на ўзроўні 3—5-га паверхаў. Галоўны ўваход вылучаны буйнымі пілонамі на ўсю вышыню будынка. Корпус № 5 (з вылічальным цэнтрам) — дзевяціпавярховы будынак складанай у плане канфігурацыі. З'яўляецца дамінантай комплексу.

Архітэктура ўсіх карпусоў радыётэхнічнага інстытута вытрымана ў адзіным стылі, ёй уласціва манументальнасць і параднасць кампазіцыі.

*А. А. Міцянін, Г. М. Новікава.*

**27. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛЫКАВУ** Аляксею Васілевічу (гіст.). На будынку Інстытута цепла- і масаабмену АН БССР імя А. В. Лыкава (дом № 15). Устаноўлена ў 1976 г. (скульпт. А. Веліксонаў; бронза).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне цепла- і масапераносу, акадэмік АН БССР (1956 г.), акадэмік Акадэміі будаўніцтва і архітэктуры (1957—64 гг.), доктар тэхнічных навук (1940 г.), прафесар (1941 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі РСФСР (1957 г.) А. В. Лыкаў нарадзіўся 7.9.1910 г. у Кастраме ў сям'і служачых. Член КПСС з 1961 г. Скончыў Яраслаўскі педагагічны інстытут (1930 г.), аспірантуру Маскоўскага універсітэта (1934 г.). З 1931 г. працаваў інжынерам лабараторыі Усесаюзнага цеплатэхнічнага інстытута імя Ф. Э. Дзяржынскага, адначасова вёў педагагічную работу. У 1942—56 гг. загадчык



28. *Помнік воінам-сувязістам.*

кафедры фізікі Маскоўскага тэхналагічнага інстытута харчовай прамысловасці, адначасова ў 1942—54 гг. загадчык кафедры фізікі Маскоўскага інстытута хімічнага машынабудавання. У 1954—56 гг. загадчык лабараторыі малекулярнай фізікі і масаабмену ў Энергетычным інстытуце імя Г. М. Кржыжаноўскага АН СССР. У 1956—74 гг. дырэктар Інстытута цепла- і масаабмену АН БССР (да 1963 г. Інстытут энергетыкі АН БССР), адначасова ў 1968—74 гг. загадчык кафедры цеплафізікі БДУ.

Навуковыя працы па цепла- і масаперапосе, цеплаправоднасці, тэарэтычных асновах будаўнічай цеплафізікі, тэорыі сушкі: «Кінетыка і дынаміка працэсаў сушкі і ўвільгатнення» (1938 г.), «Цеплаправоднасць нестацыянарных працэсаў» (1948 г.), «Цепла- і масаабмен у працэсах сушкі» (1956 г.), «Тэарэтычныя асновы будаўнічай цеплафізікі» (1961 г.), «Тэорыя цепла- і масаперапосу» (1963 г., з Ю. А. Міхайлавым). Быў старшынёй навуковага савета Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па навуцы і тэхніцы па праблеме «Маса- і цеплаперанос у тэхналагічных працэсах», рэдактарам ад СССР міжнароднага часопіса «International Iournal of Heat and Mass Transfer» («Цепла- і масаперанос»), сустаршыня рэдакцыі ад СССР амерыканскага часопіса «Heat Transfer. Soviet Research» («Цеплаперанос. Савецкія даследаванні»), галоўным рэдактарам усесаюзнага «Инженерно-физического журнала», Дзяржаўная прэмія СССР 1951 г. за манаграфію «Тэорыя сушкі» (1950, 2 выд., 1968 г.), прэмія імя І. І. Палзунова АН СССР 1952 г. за манаграфію «Тэорыя цеплаправоднасці» (1952 г., 2 выд., 1967 г.). Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1971—74 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1963—71 гг. Імя А. В. Лыкава ў 1979 г. прысвоена Інстытуту цепла- і масаабмену АН БССР.

А. В. Лыкаў памёр 28.6.1974 г. у Маскве. *М. М. Казлоўская.*

**28. ПОМНІК ВОІНАМ-СУВЯЗІСТАМ** (гіст.). На тэрыторыі электратэхнікума сувязі. На ўшанаванне памяці студэнтаў тэхнікума — воінаў-сувязістаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1976 г. пастаўлены мемарыяльны знак.

**тупік Брылеўскі**

**29. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку лакаматыўнага дэпо. Устаноўлена ў 1972 г.

У Вялікую Айчынную вайну ў паравозным дэпо станцыі Мінск дзейнічала падпольная партыйная арганізацыя — састаўная частка Мінскага камуністычнага падполля. Створана ў ліпені 1941 г. Дзейнічала пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага райкома КП(б)Б. Спачатку налічвала 18 членаў, пазней павялічылася да 60 чалавек. Сакратаром партбюро быў начальнік паравознага дэпо Ф. С. Кузняцоў. Арганізацыя аб'ядноўвала 3 падпольныя групы. Групу машыністаў і рабочых дэпо (больш за 42 члены) узначальваў А. Дз. Балашоў, з мая 1942 г. да студзеня 1944 г.— Д. М. Іваноў-Афанасьеў, групай канцэльшчыкаў, памочнікаў машыністаў і інш. (9 чалавек) кіраваў К. А. Паўлечка, з лютага 1942 г. да лістапада 1943 г.— А. А. Даўгалёў, групай рабочых аб'ектаў водазабеспячэння чыгуначнага вузла (9 чалавек) — машыніст вадакачкі Ф. К. Жывалёў (да снежня 1942 г.).

У кастрычніку 1942 г. пасля страт, што нанеслі гітлераўцы Мінскаму камуністычнаму падполлю, з ліку рабочых паравознага дэпо вылучылася група пад кіраўніцтвам В. Д. Шацько («Огнева»). Падпольшчыкі псавалі паравозы, чыгуначнае абсталяванне. Толькі зімой 1941 г. на заводы ў Германію акупанты адправілі для рамонту 50 паравозаў. Усяго было выведзена са строю да 40 % паравознага парку. Прапускная здольнасць чыгуначнага вузла ў бок фронту зменшылася з 90—100 да 5—6 цягнікоў у суткі.

Падпольная арганізацыя мела сувязь з партызанскімі атрадамі «Мсцівец» (камандзір В. Т. Варанянскі) і атрадам «Градава» (камандзір С. А. Ваўпшасаў). З дапамогай партызан падпольшчыкі правялі шэраг дыверсій па знішчэнню эшалонаў з боепрыпасамі і гаручым. У барацьбе з ворагам загінулі Ф. К. Жывалёў, К. А. Паўлечка і інш. У сувязі з праваламі падпольных груп частка падпольшчыкаў пакінула горад і працягвала барацьбу супраць акупантаў у партызанскіх атрадах.

*Літ.:* Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984; В непокоренном Минске.— Мн., 1987. *М. І. Эпалетаў.*




29. *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*




31. *Мемарыяльная дошка А. Я. Макаёнку.*

**вул. Бялінскага**

**30. ПОМНІК КОБЕРУ** Аляксандру **І ХАМЕНКУ** Віктару (гіст.). У скверы, каля школы № 88.

Піянеры — удзельнікі партызанскага руху на Украіне ў Вялікую Айчынную вайну А. Кобер і В. Хаменка нарадзіліся ў 1926 г. у г. Мікалаеў. У 1941 г. скончылі 7 класаў. У час акупацыі горада нямецка-фашысцкімі захопнікамі былі разведчыкамі і сувязнымі Мікалаеўскай падпольнай арганізацыі, збіралі звесткі аб дыслакацыі варожых часцей і ваенных аб'ектаў. В. Хаменка добра ведаў нямецкую мову і ўладкаваўся на працу ў афіцэрскую сталовую. Здабытыя звесткі ён перадаваў партызанам. Па заданню падпольнага Мікалаеўскага цэнтра вясной 1942 г. юныя разведчыкі перайшлі лінію фронту і даставілі ў штаб партызанскага руху ў Маскве каштоўныя звесткі. У лістападзе 1942 г. гітлераўцы напалі на след юных патрыётаў, арыштавалі іх і 5.12.1942 г. пасля доўгіх катаванняў павесілі. У Мікалаеве А. Коберу і В. Хаменку пастаўлены помнік. У Мінску іх імя прысвоена піянерскай дружыне школы № 88.

У 1964 г. на сродкі, сабраныя піянерамі і камсамольцамі школы № 88, пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя. У 1985 г. пастаўлены новы помнік — бюсты А. Кобера і В. Хаменка (скульпт. В. Квасаў). *М. М. Казлоўская.*

**завулак Вайскові**

**31. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАКАЁНКУ** Андрэю Ягоравічу (гіст.). На доме № 10. Устаноўлена ў 1986 г. (сілумін; скульпт. В. Занковіч) на ўшанаванне памяці народнага пісьменніка БССР А. Я. Макаёнка, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 608 «Магіла Макаёнка Андрэя Ягоравіча».

**вул. Валадарскага**

**32. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ВАЛАДАРСКАГА** (архіт.). Вуліца размешчана ў цэнтральнай частцы горада. Працягласць 780 м, перакрыжоўваецца з Ленінскім праспектам, вуліцамі К. Маркса і Кірава. Мела назву Лошыцкая, з 1870 г.— Серпухоўская. У 1922 г. у гонар рэвалюцыйнага дзеяча В. Валадарскага атрымала сучасную назву. У забудове захаваліся дамы 19 — пачатку 20 ст. Сярод іх вылучаюцца дамы № 5, 7, 9, 19, 12, 20, 26.



32. *Дом № 7 на вуліцы Валадарскага.*



32. *Будынак Рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага.*

Дом № 5. Будынак рускага тэатра. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы як сінагога. Уяўляў сабой трохнефавую базіліку. Рэканструяваны ў пачатку 20 ст., набыў сучасны выгляд. Цяпер гэта вялікая трохпавярховая пабудова, амаль прамавугольная ў плане, сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Галоўны фасад вылучаны магутным шасцікалонным порцікам з масіўным трохвугольным франтонам і калонамі карынфскага ордэра. Да галоўнага ўвахода вядзе высокі шматступеньчаты ганак. Вуглы фасада ўмацаваны плоскімі лапаткамі. Невялікія прамавугольныя вокны без ліштваў. Цяпер у бакавых вітражы (маст. В. Позняк).

Унутраная прастора таксама вырашана сіметрычна. Былы цэнтральны неф пераабсталяваны ў глядзельную залу, бакавыя — у фае. Сцэна і службовыя памяшканні займаюць паўночна-ўсходнюю частку. На будынку ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі У. У. Маякоўскаму і ў гонар VI Усебеларускага з'езда Саветаў.

Будынак — помнік архітэктуры эклектыкі з пазнейшымі зменамі.

Дом № 7. Пабудаваны на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы. Трохпавярховы накрыты пакатым двухсхільным дахам будынак з асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй. План Т-падобнай формы (з невялікім крылом у паўночнай частцы). Плоскасць сцяны галоўнага фасада члянёна руставанымі лапаткамі і развітымі карнізнымі паясамі, якія падзяляюць фасад на 3 ярусы. У цэнтры фасада вузкі скразны праезд у двор. Большасць аконных праёмаў прамавугольнай формы, на 2-м і 3-м паверхах дэкарыраваны ліштвамі з замковым каменем. Прамавугольныя вокны чаргуюцца з трохчасткавымі з лучковым завяршэннем у цэнтры. Асіметрычна размешчаны невялікія балкончыкі з агароджай (чыгуннае ліццё). Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 9. Пабудаваны на рубяжы 19—20 ст. з цэглы. Трохпавярховы




32. *Дом № 12 на вуліцы Валадарскага.*

прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад мае асіметрычную кампазіцыю. 1-ы паверх буйна руставаны, аддзелены ад наступных карнізным поясам. У цэнтральнай частцы праходзяць 2 руставаныя пілястры. Плоскасць сцяны расчлянёна прамавугольнымі вокнамі ў ліштвах, на 2-м паверсе — замковым каменем. Пад карнізам — вузкі фрыз з лепкай у выглядзе вянкоў і гірляндаў. Сіметрычна на фасадзе размешчаны маленькія балкончыкі з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 19. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Вулічныя фасады асіметрычнай кампазіцыі. Фасад, які выходзіць на вул. Валадарскага, завершаны трохвугольным франтонам, прарэзаным паўцыркульнымі вокнамі і круглай люкарнай пасярэдзіне. Фасад, што выходзіць на вул. К. Маркса, увенчаны ступеньчатай атыкавай сценкай з круглай люкарнай пасярэдзіне, сцены расчлянёны па вертыкалі плоскімі лапаткамі. Лучковыя вокны дэкарыраваны простымі ліштвамі, прамымі сандрыкамі. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 12. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы будынак Г-падобны ў плане, з высокім 1-м паверхам, мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Фасады 1-га паверха расчлянёны плоскімі пілястрамі, руставанымі на 2-м паверсе і з канелюрамі на 3-м. Паміж пілястрамі плоскасці сцен прарэзаны паўцыркульнымі на 2-м і лучковымі на 3-м паверхах аконнымі праёмамі, аздоблены лепкай. У архітэктурным дэкоры будынка выкарыстаны геаметрычны і раслінны арнаменты, стылізаваныя капітэлі пілястраў, невялікія балконы з паўкруглымі выступамі і ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 26/11, будынак былога Упраўлення Лібава-Роменскай чыгункі. Размешчаны на скрыжаванні вуліц Кірава і Валадарскага, 11/26. Пабудаваны ў 1911 з цэглы (архіт. А. Краснапольскі) як жылы даходны дом.

Спачатку на 1-м паверсе знаходзілася аптэка і кватэры вартаўнікоў. У верхніх паверхах размяшчалася кіраўніцтва Упраўлення Лібава-Роменскай чыгункі. Цяпер будынак выкарыстоўваецца як жылы дом, на 1-м паверсе кафэ.

Будынак 3-павярховы, мае цокальны паверх, у плане П-падобны, з невялікім унутраным дворыкам. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з трох частак: вуглавой і двух франтальных (па вул. Кірава і вул. Валадарскага). Фасады маюць складаную кампазіцыю, якая ствараецца рытмічным чаргаваннем розных па канфігурацыі аконных праёмаў і вертыкальных палос дэкаратыўных нішаў. Фасад арыентаваны на вул. Кірава, сіметрычнай кампазіцыі. Яго цэнтральная частка вылучана аб'яднанымі па вертыкалі аконнымі праёмамі, завершана паўцыркульным атыкам. На вышыню 1-га паверха размешчаны арачны праезд ва ўнутраны дворык. Бакавыя часткі гэтага фасада фланкіраваны трапецападобнымі атыкамі, маюць згрупаваныя аконныя праёмы і балконы на 2-м і 3-м паверхах. Фасад, што выходзіць на вул. Валадарскага, асіметрычнай кампазіцыі, завершаны 2 трапецападобнымі атыкамі, дах — трапецападобным ліхтаром. Завяршальным элементам будынка з'яўляецца шырокі карнізны пояс з рэльефнай паверхняй. Мастацкую выразнасць фасадам надае іх кантрастнае каларыстычнае вырашэнне: спалучэнне чырвонага колеру цаглянай муроўкі і шэрай тынкоўкі (цокальны паверх і асобныя дэталі — аконныя нішы, карнізныя паясы, эркер).



32. *Будынак былога Упраўлення Лібава-Роменскай чыгункі.*




32. *Будынак былога Упраўлення Лібава-Роменскай чыгункі. План 1-га паверха.*

Асноўны акцэнт зроблены на вуглавую частку. Яна са скошанай плоскасцю, вылучана высокім эркерам, які мае раскрапоўку на ўзроўні 2-га паверха. Трохгранны аб'ём над эркерам завяршаўся вуглавой вежай (не захавалася).

Будынак — помнік архітэктуры з рысамі стылю «мадэрн».

Забудова вул. Валадарскага — прыклад грамадзянскай архітэктуры з выкарыстаннем традыцый эклектыкі.

*Літ.:* Чернявская Т. И., Петросова Е. Ю. Памятники архитектуры Минска XVII — начала XX в.— Мн., 1984.

*А. Ю. Пятросава, В. М. Чарнатаў, Т. І. Чарняўская.*

**33. ЗАМАК ПІШЧАЛЫ** (архіт.). Пабудаваны ў 1825 г. з цэглы, як астрог. Уяўляе комплекс з 2 асобных будынкаў. Асноўны трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак з 4 круглымі вежамі па вуглах накрыты чатырохсхільным вальмавым пакатым дахам. Вежы завершаны зубцамі над шматслаёвым карнізам, апіраюцца на кароткія кансолі. Плоскасці сцен вежаў дэкарыраваны конхавымі нішамі. Сцены будынка прарэзаны маленькімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Паміж 2-м і 3-м паверхамі




34. *Мемарыяльная дошка У. У. Маякоўскаму.*

шматслаёвы карнізны пояс. Цэнтральны ўваход вылучаны стылізаваным барбаканам. Будынак абнесены высокай мураванай сцяной, умацаванай контрфорсамі. У паўночна-ўсходняй частцы сцяны размешчаны двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад падзелены карнізам на 2 ярусы, завершаны трохвугольным франтонам. Ніжні ярус з шырокай праезнай аркай вылучаны неглыбокім рызалітам з рустам і арнаментальнымі паясамі сухарыкаў. Скразны праезд вядзе ва ўнутраны двор. У 19 ст. у замку былі царква, шпіталь, аптэка, школа, майстэрні і інш.

Будынак — помнік архітэктуры з выкарыстаннем элементаў неаготыкі.

*Літ.:* Пазняк З. Рэха даўняга часу.— Мн., 1985. *А. Ю. Пятросава.*

**34. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАЯКОЎСКАМУ** Уладзіміру Уладзіміравічу (гіст.). На будынку Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага (дом № 5). Устаноўлена ў 1978 г. (скульпт. Б. Івонцьеў) на ўшанаванне памяці рускага савецкага паэта У. У. Маякоўскага (1893—1930 гг.).

У. У. Маякоўскі ўпершыню прыязджаў у Мінск 11.2.1914 г. Выступаў з лекцыямі і вершамі (разам з паэтам і мастаком Д. Д. Бурлюком) у будынку Купецкага сходу (пл. Свабоды). Другі раз наведаў горад у 1925 г. 28.1.1925 г. у Доме культуры (цяпер Рускі драматычны тэатр) чытаў свае творы. 27 і 28.3.1927 г. у гэтым жа будынку зрабіў даклад, у якім праанаЛізаваў тагачасную савецкую літаратуру, чытаў вершы і ўрыўкі з паэмы «Добра!». 29 сакавіка выступіў у Доме работнікаў асветы і ў клубе служачых савецкага гандлю. У Мінску імем паэта названы вуліца і завулак, яго імя прысвоена бібліятэцы № 3.

*Літ.:* Катанян В. А. Маяковский: Хроника жизни и деятельности.— 5 изд.— М., 1985; Маякоўскі ў Беларусі.— Мн., 1957. *В. Б. Караткевіч.*

**35. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР VI УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА САВЕТАЎ І М. І. КАЛІНІНУ** (гіст.). На будынку Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага (дом № 5). Устаноўлена ў 1975 г. (скульпт. І. Міско; чыгун, бронза; 1,6×0,8 м).

Тут 13—16.3.1924 г. адбыўся VI надзвычайны Усебеларускі з'езд Саветаў.




35. *Мемарыяльная дошка ў гонар VI Усебеларускага з'езда Саветаў і М. І. Калініну.*

На ім прысутнічалі 249 дэлегатаў з рашаючым і 156 з дарадчым голасам (115 дэлегатаў з рашаючым і 115 з дарадчым голасам выбраны на V Усебеларускім з'ездзе Саветаў у студзені 1924 г., 134 дэлегаты з рашаючым і 141 з дарадчым голасам выбраны ад паветаў, далучаных да рэспублікі ў выніку ўзбуйнення БССР). У рабоце з'езда ўдзельнічалі старшыня ЦВК СССР М. І. Калінін, прадстаўнік Камінтэрна Ф. Я. Кон, прадстаўнік Сялянскага Інтэрнацыянала Т. Ф. Домбаль, камандуючы войскамі Заходняй акругі М. М. Тухачэўскі. На парадку дня былі пытанні: міжнароднае і ўнутранае становішча Савецкага Саюза; пашырэнне межаў БССР і задачы савецкага будаўніцтва; адміністрацыйна-гаспадарчы падзел БССР; заснаванне Беларускага сельскагаспадарчага банка; пытанні Канстытуцыі БССР; выбары ЦВК БССР.

Ад імя ЦК РКП(б) і ЦВК СССР М. І. Калінін павіншаваў беларускі народ з уз'яднаннем тэрыторый з беларускім насельніцтвам у складзе Савецкай Беларусі і заклікаў працоўных умацоўваць дружбу з братнімі рэспублікамі Саюза СССР, цясней згуртоўвацца для эканамічнага і культурнага адраджэння краіны. З дакладам «Аб пашырэнні межаў Савецкай Беларусі і задачах савецкага будаўніцтва» выступіў А. Р. Чарвякоў. З'езд заканадаўча аформіў узбуйненне БССР, у выніку якога былі далучаны Віцебскі, Полацкі, Сенненскі, Суражскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Ле-



33. *Замак Пішчалы. Фота 1981 г.*

пельскі і Аршанскі паветы Віцебскай губерні, Клімавіцкі, Рагачоўскі, Быхаўскі, Магілёўскі, Чэрыкаўскі, Чавускі паветы, 7 валасцей поўнасцю і 3 валасці часткова Рэчыцкага павета Гомельскай губерні, Горацкі павет, 3 валасці поўнасцю і 3 часткова разам з г. Мсціславам Мсціслаўскага павета Смаленскай губерні, што ў 1919 г. у абставінах Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі ўвайшлі ў склад РСФСР. З'езд даручыў ЦВК БССР распрацаваць план новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу рэспублікі на акругі, раёны і сельсаветы; падрыхтаваць у адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР і новым адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам рэспублікі праект новай Канстытуцыі БССР. На з'ездзе была размежавана пасада старшыні ЦВК і СНК БССР, устаноўлены склад Прэзідыума ЦВК БССР з 9 чалавек. Для ўзмацнення крэдытнай дапамогі сельскай гаспадарцы з'езд пастанавіў на базе Беларускага таварыства сельскагаспадарчага крэдыту заснаваць Беларускі сельскагаспадарчы банк. З'езд ушанаваў памяць У. І. Леніна і для ўвекавечання яе вырашыў стварыць пры ЦВК БССР адзіны фонд Леніна, які выкарыстоўваць на культурна-асветныя мэты. Быў выбраны ЦВК БССР з 120 членаў і 30 кандыдатаў.

*Літ.:* VI Всебелорусский Чрезвычайный съезд Советов рабочих, крестьянских и красноармейских депутатов: Стеногр. отчет.— Мн., 1924; Арэхва М. С., Рубенчык Я. І. Мара, якая стала явай.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1974, № 3; М. И. Калинин в Белоруссии: Доклады, речи, беседы, документы, материалы.— Мн., 1973. *В. Б. Караткевіч.*

**вул. Валгаградская**

**36. ПОМНІК ВАВІЛАВУ** Сяргею Іванавічу (гіст.). На тэрыторыі завода імя С. І. Вавілава.

Савецкі фізік, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, акадэмік АН СССР (1932 г., член-карэспандэнт з 1931 г.) і яе прэзідэнт (1945—51 гг.), ганаровы акадэмік АН БССР (1950 г.) С. І. Вавілаў нарадзіўся 12.3.1891 г. у Маскве. Скончыў Маскоўскі універсітэт (1914 г.). У 1918—32 гг. выкладчык універсітэта, адначасова (у 1918—30 гг.) загадчык аддзялення фізічнай оптыкі ў Інстытуце фізікі і біяфізікі Народнага камісарыята аховы здароўя РСФСР. З 1932 г. дырэктар Фізічнага інстытута АН СССР, у 1932—45 гг. навуковы кіраўнік Дзяржаўнага аптычнага інстытута. У Вялікую Айчынную вайну ўпаўнаважаны Дзяржаўнага камітэта абароны СССР. Быў старшынёй Савета па каардынацыі дзейнасці АН саюзных рэспублік. Адзін з ініцыятараў і першы старшыня Усесаюзнага таварыства «Веды». З 1945 г. старшыня Рэдакцыйна-выдавецкага савета АН СССР, з 1949 г. галоўны рэдактар 2-га выдання Вялікай Савецкай Энцыклапедыі. Навуковыя працы па фізічнай оптыцы, пераважна па прыродзе люмінесцэнцыі. Дзяржаўныя прэміі СССР 1943 г., 1946 г., 1951 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—50 гг. Ганаровы акадэмік Балгарскай, Пражскай, Індыйскай і інш. акадэмій навук. Памёр С. І. Вавілаў 25.1.1951 г. У 1951 г. устаноўлены залаты медаль імя С. І. Вавілава, які прысуджаецца штогод за выдатныя працы ў галіне фізікі. У Мінску яго імем названы вуліца, завулак, завод.

У 1978 г. на ўшанаванне памяці С. І. Вавілава пастаўлены помнік (скульпт. У. Булыга, архіт. Ю. Казакоў; бронза, бетон; вышыня бюста 0,6 м, стэлы 4 м).



37. *Помнік У. І. Леніну.*

**37. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля дома № 1. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**вул. Ванеева**

**38. АЎТАВАКЗАЛ «УСХОДНІ»** (архіт.). Дом № 34 (на скрыжаванні вуліцы Ванеева і праспекта Ракасоўскага). Пабудаваны ў 1982—83 гг. (архіт. Л. Пагарэлаў, Л. Кустова, В. Ягадніцкі) з бетону і шкла. Арганічная частка архітэктурнага ансамбля буйнога жылога раёна Серабранка.

Будынак мае развітую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, у цэнтры якой трохпавярховы шматгранны зашклёны аб'ём, завершаны па перыметры ўвагнутым парапетам. Фасад з боку перона вырашаны 2 У-падобна размешчанымі над платформамі навісямі, паміж якімі ў цэнтры — круглаваты ў плане аб'ём дыспетчарскай. Галоўны ўваход вылучаны прамавугольным парталам на зашклёнай плоскасці 2-га паверха, які фланкіраваны ўвагнутымі сценкамі і завершаны парапетам са светлавой рэкламай. Да ўвахода вядзе падоўжаная нахіленая



38. *Аўтавакзал «Усходні».*



39. *Стадыён «Трактар». Від на паўднёва-заходнія трыбуны.*

эстакада-пандус. Унутраная прастора будынка падзелена на 3 паверхі, звязаныя паміж сабой 2 мармуровымі лесвіцамі. Прасторны 1-ы паверх адведзены пад залу чакання (на 500 пасажыраў), камеры хавання багажу, аддзяленне сувязі, медпункт, пакой маці і дзіцяці, кіёскі, даведачна-інфармацыйную службу, 2-і — пад касавую залу (17 кас), адміністрацыйныя і службовыя памяшканні, 3-і — пад кафэ, гасцініцу для вадзіцеляў. У зале чакання — каляровая мазаіка «Юнацтва Беларусі» (маст. В. Карнееў).

Будынак аўтавакзала — прыклад сучаснай грамадзянскай архітэктуры.

*А. М. Кулагін.*

**пл. Ванеева**

**39. СТАДЫЁН «ТРАКТАР»** (архіт.). Размешчаны паблізу буйных прадпрыемстваў горада — трактарнага, маторнага і падшыпнікавага заводаў, прылягае да парку культуры і адпачынку імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка. Пабудаваны ў 1962 г. Пасля рэканструкцыі ў 1978 г. (архіт. У. Мінькін, В. Садыкаў) набыў агульнагарадское значэнне. Павялічана змяшчальнасць трыбун да 25 тыс. гледачоў, устаноўлены 4 асвятляльныя мачты для правядзення спаборніцтваў у вячэрні час, палепшана планіроўка падтрыбунных памяшканняў і інш.



40. *Будынак Белдзіпраадгаса. 12-павярховы корпус.*

Архітэктурную выразнасць комплексу стадыёна надаюць паўднёва-заходнія трыбуны, якія ўтвораны шэрагам нахільных пілонаў, злучаных лучковымі аркамі. Пілоны прарэзаны своеасаблівымі, амаль круглымі праёмамі. У іх размешчаны злучаныя з верхнімі ярусамі трыбун антрэсолі. Месцы для гледачоў маюць суцэльную рабрыстую жалезабетонную аснову. У канструкцыі трыбун эфектна спалучаюцца цагляная мураўка, зборны і маналітны жалезабетон. Стадыён мае футбольнае поле, бегавую дарожку, сектары лёгкай атлетыкі. Комплекс дапоўнены спецыялізаванай гімнастычнай залай.

Стадыён «Трактар» — адно з буйнейшых у БССР спартыўных збудаванняў сучаснай савецкай архітэктуры.

*Т. В. Габрусь.*

**вул. Варвашэні**

**40. БУДЫНАК БЕЛДЗІПРАВАДГАСА** (архіт.). Дом № 77. Пабудаваны ў 1980 г. са зборнага жалезабетону (архіт. І. Ларчанка). Плошча перад будынкамі вымашчана гранітнымі плітамі, добраўпарадкавана фантанамі, газонамі, кветнікамі.

Аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю будынка складаюць вышынны дванаццаціпавярховы і выцягнуты па фронту шасціпавярховы карпусы, аб'яднаныя нізкай галерэяй-пераходам. У цэнтры галоўнага паўночнага фасада выступае пластычны аб'ём канферэнц-залы. Вышынны корпус мае дынамічную вертыкальную кампазіцыю з 2 ссунутых адносна адзін аднаго прамавугольных у плане аб'ёмаў, аб'яднаных паміж сабой лесвічнай клеткай і ліфтавай групай. Усходні і заходні фасады маюць плоскаснае вырашэнне з рытмам міжпаверхавых гарызантальных панелей. У апрацоўцы будынка выкарыстаны гранітная абліцоўка, дэкаратыўная тынкоўка. Памяшканні паверхаў будынка аб'яднаны вакол ліфтавага хола з выхадам на 2 лоджыі і міжпаверхавую лесвіцу. Галоўны вестыбюль мае каланаду і 2 трохмаршавыя лесвіцы для сувязі з фае канферэнц-залы. У апрацоўцы інтэр'ера выкарыстаны паркет, керамічная плітка, шпон, шклаблокі.

Будынак Белдзіпраадгаса — твор сучаснай савецкай архітэктуры.

*А. М. Кулагін.*

**41. МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Паблізу дома № 17.

На гэтым месцы ў Вялікую Айчынную вайну знаходзіўся дом (былая вул. Камароўская, 55), у якім размяшчалася канспіратыўная кватэра Мінскага камуністычнага падполля. Гаспадаром кватэры быў камуніст І. Х. Казлоў. Тут па-майстэрску рабілі пашпарты, пропускі, пасведчанні і іншыя дакументы для ўдзельнікаў падполля, савецкіх ваеннапалонных, якія ўцякалі з лагераў, разведчыкаў, адбываліся сустрэчы сувязных. 26.9. 1942 г. І. Х. Казлоў арыштаваны і ў канцы снежня 1942 г. закатаваны гітлераўцамі.

У 1984 г. на месцы дома, дзе жыў падпольшчык І. Х. Казлоў, устаноўлены мемарыяльны знак (архіт. А. Лабачэўскі) — камень-валун з надпісам-інфармацыяй.



40. *Будынак Белдзіпраадгаса. 6-павярховы корпус.*



44. *Раскопкі Ніжняга рынку. 1985 г.*

*Літ.:* Герои подполья. В. 1.—4 изд.— М., 1972; Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978.
*М. М. Казлоўская.*

**42. ПОМНІК У ГОНАР ПЕРШАГА МІНСКАГА ТРАЛЕЙБУСА** (гіст.). На тэрыторыі тралейбуснага дэпо № 1.

Першы тралейбус у Мінску пушчаны 2.10.1952 г. на лініі Вакзал — Круглая пл. (цяпер пл. Перамогі). На маршруце было 5 тралейбусаў МТБ-82 завода імя М. С. Урыцкага (г. Энгельс). Першым выйшаў на лінію тралейбус з заводскім № 49. Гэта машына прайшла 1 083 520 км, на ёй перавезена 2 млн. пасажыраў.

У 1972 г. з нагоды 20-годдзя пачатку тралейбуснага руху ў горадзе машына пастаўлена на пастамент.

**вул. Віцебская**

**43. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ВІЦЕБСКАЙ** (архіт.). Вул. Віцебская знаходзіцца паміж вуліцамі Астроўскага і Горкага. Уваходзіць у гісторыка-архітэктурную зону Ракаўскае прадмесце. Захаваліся мураваныя будынкі № 10, 17, 19, 21, узведзеныя ў 19 ст., архітэктура якіх мае эклектычны характар.

Дом № 10. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Тарцовыя сцены глухія. Галоўны фасад расчлянёны плоскімі прамавугольнымі нішамі, у верхняй частцы якіх размешчаны нішы авальнага абрысу. Аконныя праёмы лучковыя, частка з іх аздоблена шматслойнымі лучковымі сандрыкамі.

Дом № 17. Шчыльна прылягае да дома № 19. Двухпавярховы неатынкаваны чатырохвугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам, пад якім на галоўным фасадзе праходзіць карніз з сухарыкамі. Сцены прарэзаны лучковымі вокнамі без ліштваў. На другім паверсе размешчаны 2 балконы.

Дом № 19. Шчыльна прылягае да дома № 17. Двухпавярховы нізкі неатынкаваны прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Сцены расчлянёны лучковымі вокнамі без ліштваў.

Дом № 21. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты чатырохсхільным вальмавым дахам.



44. *Ніжні рынак. Напластаванне драўляных маставых 17—18 стагоддзяў.*

Фасад рытмічна расчлянёны прамавугольнымі шырокімі вокнамі без ліштваў, аздоблены падаконнымі амаль квадратнымі плоскімі нішамі і сандрыкамі ў выглядзе фрагментаў пластычнага фрыза. *А. Ю. Пятросава.*

**плошча Восьмага Сакавіка**

**44. КУЛЬТУРНЫ ПЛАСТ НІЖНЯГА (НІЗКАГА) РЫНКУ** (археал.). Іншыя назвы: да 16 ст. Нямігскі рынак, Стары рынак, Старое места. На правым беразе р. Свіслач. Паводле археалагічных раскопак тут у 12—13 стагоддзях узнік рамесніцкі пасад з гандлёвай плошчай. У наступныя стагоддзі пасад значна расшырыўся, пад назвай Ніжні рынак праіснаваў да пачатку 20 ст. У 1983—87 гг. археалагічная экспедыцыя Інстытута гісторыі АН БССР даследавала 712 м² тэрыторыі рынку. У час археалагічных даследаванняў выяўлены культурны пласт таўшчынёй 7 м. Верхняя яго частка (2 м) змяшчае прадметы і падмуркі пабудоў 19—20 стагоддзяў.





44. *Драўляныя цвікі і калкі маставых 16—18 стагоддзяў з раскопак Ніжняга рынку.*



44. *Ніжні рынак. Канструкцыя мацавання драўлянай маставой канца 17— пачатку 18 ст. Рэканструкцыя П. А. Русава.*

У наступных напластаваннях захаваліся рэчы, маставыя і рэшткі забудовы 16—17 стагоддзяў. Дэталі канструкцый і парадак іх размяшчэння даюць уяўленне аб забудове тэрыторыі, што прылягала да Ніжняга рынку, магчымасць рэканструяваць яе як адзін з каштоўных помнікаў сярэдневяковага горада і, магчыма, аднавіць ранейшую назву. У канцы 16 — пачатку 17 ст. да Замка праз пойму Нямігі была пракладзена (за 10 м на захад ад старой) новая дарога шырынёй больш за 9 м. Яе насып умацаваны паўтараметровымі па́лямі з нахілам да ўнутранай часткі. Паміж па́лямі ўздоўж палатна да грунту прымацоўвалі драўлянымі цвікамі і калкамі пруты і тонкія жэрдкі. Гэтая




*44. Крыж-складзень (правы і адваротны бакі) 1-й трэці 13 ст. з раскопак Ніжняга рынку.*



*44. Рагавы кубік пачатку 17 ст. з раскопак Ніжняга рынку.*

грэбля перагароджвала р. Нямігу, што дало магчымасць асвоіць забалочаную раней тэрыторыю каля сцен Замка. У 17—18 стагоддзях па гэтай дарозе зроблена 5 насцілаў. Выяўлены 4 будаўнічыя перыяды жылых і гаспадарчых пабудоў абапал маставой (2-я палова 16 ст.). Жытлы 1-га перыяду амаль не захаваліся або былі пашкоджаны пазнейшымі пабудовамі.
Да 2-га перыяду адносіцца пабудова памерам 3,2×3,2 м. Ва ўсходняй сцяне пабудовы на ўзроўні 2-га вянка выемка для дзвярнога праёма, каля паўднёвага вугла знойдзены фрагменты аконнага шкла. Да 3-га перыяду адносіцца каркасна-рамачная пабудова памерам 4×4,6 м, якая размяшчалася з усходняга боку вуліцы. У ніжнім абкладным вянку ў вуглах прасечаны скразныя прамавугольныя адтуліны для шыпоў вертыкальных слупоў, паміж якімі закладвалі дошкі або бярвёны. У паўднёвай кароткай сцяне быў дзвярны праём шырынёй 90 см. У 4-ы перыяд узводзіліся двухпавярховыя пабудовы, якія захаваліся на 5—6 вянкоў (рэшткі экспануюцца ў Беларускім музеі народнай архітэктуры і быту). Адна з пабудоў памерам 5×4,4 м размяшчалася на рэштках каркасна-рамкавай пабудовы. Уваход і падлога 1-га паверха забрукаваны камянямі. У 1-м вянку паўднёвай сцяны ёсць паглыбленне для дзвярнога праёма шырынёй больш за 1 м. Побач з праёмамі, каля парога, знойдзены дзверы шырынёй 103 см, зробленыя з 3 дошак, змацаваных фігурнай каванай завесай. На падлозе ўкапана ў зямлю 80-літровая бочка, якая злучалася трубой з 2-м паверхам. Пад ніжнім паўночным вянком зроблены водаадводны жолаб з доўгага ствала, што закрываўся дошкай (аполкам). У доме знойдзены папярочны брус («трам»), які падтрымліваў столь, рэшткі лесвіцы, бярвёны ад франтона з зачосамі, паліваная кафля, фрагменты цэглы, драўляная талерка, зробленая на такарным станку, жалезны замок, 2 чыгунныя ядры. Выяўлены рэшткі пабудовы памерам 4,4×4,2 м з дзвярным праёмам шырынёй 80 см у паўднёвай кароткай сцяне, да якой прымыкала прыбудова тыпу сенцаў з шырокіх укапаных у грунт дошак. Падлогу








*44. Выявы на евангельскія сюжэты на гранях рагавога кубіка пачатку 17 стагоддзя. З раскопак Ніжняга рынку.*

сенцаў рабілі з дошак або тонкіх бярвён, клалі яе ўздоўж увахода на лагі; у доме масцілі ўпоперак увахода на 3 масіўныя лагі. Пад падлогай каля паўночнай сцяны знаходзіўся жолаб водаадвода, абкладзены камянямі. Знойдзены «трам», фрагмент бервяна франтона, бервяно ад сцяны з аконным праёмам, рэшткамі лесвіцы і яе мацавання да сцяны пабудовы. У 1986 г. на глыбіні 6,2 м, блізка ад мацерыка, знойдзены кубік (памер грані 3 см) пачатку 17 ст., выразаны з рогу. На гранях выгравіраваны 6 шматфігурных кампазіцый на евангельскія сюжэты. У 1987 г. выяўлены крыж-складзень 1-й трэці 13 ст. У 1988 г. раскапаны рэшткі (вышынёй больш за 2 м) мураванай пабудовы грамадзянскай архітэктуры 17 ст.

У 2-й палове 17 ст. Ніжні рынак уяўляў сабой плошчу, вымашчаную тонкімі бярвёнамі, з гандлёвымі радамі і капітальнымі збудаваннямі. У канцы 18 — 1-й палове 19 ст. Ніжні рынак страціў сваё значэнне. Гандлёвы цэнтр перамясціўся на Верхні (Высокі) рынак.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю.— Спб., 1858; Денисов В. Н. Площадь Свободы в Минске.— Мн., 1985; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX — XIII вв.).— Мн., 1978. *П. А. Русаў.*

**45. РЭШТКІ ЗАМКА** (археал., гіст.). У пачатку праспекта Машэрава.

Мінскі замак — умацаваны цэнтр, дзядзінец старажытнага Мінска, на аснове якога ўзнік горад і вакол якога ён рос і развіваўся. У старажытнарускіх летапісах вядомы пад назвай «град», «горад», у актах 15—17 стагоддзяў — замак, пазней — Стары горад, Старое месца, Стары замак, Замкавая гара, Замчышча. Дзядзінец пабудаваны ў 2-й палове 11 ст. на ўзвышшы вышынёй 2 м сярод нізкай мясцовасці правабярэжнай поймы р. Свіслач і вусця р. Няміга. Быў абнесены пясчана-гравійным валам вышынёй каля 8 м, на грэбені якога пастаўлены драўляныя сцены, з паўднёвага боку была брама тыпу вежы.



*45. Брама 12 ст. Макет М. А. Кабякова.*



*45. Алавяны колт 12—13 стагоддзяў з раскопак Мінскага замчышча.*

Аснова брамы ў 12 ст. складалася з 8 клецяў-зрубаў памерам ад 2,8×1,3 да 4,5×1,7 м (па 4 у рад абапал праезда), зробленых у тэхніцы «ў чашку з астаткам» з бярвёнаў дыяметрам да 30 см. Перыметр усёй канструкцыі 17,1×7,4 м, шырыня праёма брамы 3,9 м, але астаткі папярочных сцен клецяў звужалі праезд да 3,4 м. Вышыня брамы складала не менш за 12 м, яна павінна была суадносіцца з вышынёй вала і драўляных сцен, што былі на грэбені вала. Гэта ў выпадку небяспекі давала магчымасць звязаць баявыя пляцоўкі абарончых сцен абапал праезда і забяспечвала бесперашкоднае перамяшчэнне абаронцаў горада ўздоўж іх. Для змяншэння ціску насыпу вала на бакавыя сцены брамы ўнутры яе былі зроблены спецыяльныя распоры, ад якіх захаваліся ніжнія часткі слупоў. Відаць, брама складалася з 2 аб'ёмаў — галоўнага і малога. Асновай малога аб'ёму была першая з боку поля пара клецяў вышынёй каля 6 м. Фасад брамы ад узроўню 4 м быў суцэльны. Зверху асновы рабіўся насціл з забараламі, з якіх вёўся флангові абстрэл схілу вала і франтальны — падыходаў да брамы. Верхні край бруствера малога аб'ёму ўзвышаўся над схілам вала на 3,5—5 м. Праход на яго баявую пляцоўку ажыццяўляўся або знізу праз ход у насціле, або праз аб'ём у фасадзе галоўнага аб'ёму брамы. Галоўны аб'ём пабудаваны на вышыню забарал абарончых сцен. На гэтым узроўні ў ім былі 2 памяшканні, якія апіраліся на звернутыя да праезда сцены клецяў асновы. Памеры памяшканняў (паводле разлікаў) 6×3,9 м і 4×3,9 м. У іх размяшчаліся варта і запасы зброі. Паміж памяшканнямі быў праход шырынёй каля 1 м, што злучаў абарончыя сцены. Вакол памяшканняў па ўсім перыметры брамы (магчыма, толькі з трох бакоў, акрамя гарадскога фасаду) зроблены насцілы з бруствeрам, якія злучаліся з забараламі гарадскіх сцен. Абодва памяшканні, праход і забарала былі накрыты агульным дахам. Памеры брамы абумоўлівалі большую (адносна пакрыцця абарончых сцен) вышыню яе даху. Гэта рабіла браму своеасаблівай архітэктурнай дамінантай горада. Для абароны праезда ўнутры брамы ў галоўным аб'ёме маглі быць насцілы, якія рабіліся або паралельна фасадам, або мелі выгляд невялікіх балконаў, размешчаных у шахматным парадку ўздоўж праезда. Яны злучаліся з памяшканнямі верхняга яруса брамы з дапамогай лесвіц. Абодва варыянты дазвалялі прастрэльваць увесь унутраны аб'ём брам. Брама зачынялася не менш як на трое варот: 2 у фасадах галоўнага аб'ёму — гарадскім і з боку поля, 1 у фасадзе малога аб'ёму — з боку поля.

Паводле археалагічных матэрыялаў, будаўніцтва брамы датуецца 1-й паловай 12 ст. Ніжэй яе выяўлены рэшткі больш ранняй пабудовы. За час існавання брамы ў яе праездзе паслядоўна змянілі 3 насцілы. У канцы 12—13 ст. брама разбурана. Неўзабаве на яе месцы была пабудавана новая, ад якой захаваліся рэшткі 2 клецяў-зрубаў.



*45. Самшытавы грэбень 13 ст. з раскопак Мінскага замчышча.*



45. *Абразок 1-й паловы 13 ст. «Мікола і Стафан» з раскопак Мінскага замчышча.*

Замак меў форму няправільнага авала (даўжыня ад Свіслачы да процілеглага заходняга краю 300 м, шырыня 120—150 м, плошча 3 га). Абкружаны з усіх бакоў вадой, выглядаў умацаваным востравам. Пры археалагічных раскопках (1945—51 гг., 1957—61 гг., 1976 г., 1981—87 гг.) выяўлена планіроўка ўсходняй часткі дзядзінца, якая прымыкае да правага берага Свіслачы, раскапаны драўляныя канструкцыі ў насыпе вала, грэбля і мост цераз Нямігу, рэшткі некалькіх вуліц і завулкаў. Галоўная вуліца шырынёй 4 м перасякала дзядзінец з усходу на захад, ад яе адыходзілі вузкія завулкі. Звычайная шырыня астатніх вуліц была каля 3 м, праезная іх частка абавязкова масцілася драўляным насцілам. Паміж вуліцамі размяшчаліся двары гараджан (плошча 220—250 м²). Яны ўключалі 1—2 жылыя пабудовы, хлявы, клеці, майстэрні. Двор агароджваўся частаколам з бярвёнаў, свабодная ад забудовы плошча масцілася насцілам. У 12—13 стагоддзях у замку было 80—82 двары і 400—500 жыхароў. Раскапаны рэшткі больш як 150 пабудоў, частка з іх з'яўлялася жыллём. Жытлы аднакамерныя, часам пяцісценныя, зрубнай канструкцыі, плошчай 9—25 м², з дашчанай падлогай, мелі двухсхільныя стрэхі без столі і дзверы (вышыня не больш за 1,6 м), зрэдку з ганкам. Гліняныя печы ў выглядзе невялікага скляпення на невысокай драўлянай аснове — падпеччы — размяшчаліся ў куце з правага ці левага ад увахода боку і паліліся па-чорнаму. У куце печы, вышэй яе скляпення, мацаваўся тоўсты «капевы слуп», які служыў апорай для палкоў, што размяшчаліся над печчу. Каля процілеглай сцяны стаялі лаўкі. Валаковыя вокны ў сценах былі маленькія. Жыллё асвятлялася лучынамі, у багатых дамах — свечкамі. Выяўлены фундамент мураванага храма пачатку 12 ст. У 1-й палове 13 ст. недабудаваны храм ператвораны ў гарадскі некропаль (гл. таксама артыкул № 47 «Рэшткі храма»).

Матэрыялы раскопак сведчаць, што насельніцтва ў 11—13 стагоддзях займалася рамяством, гандлем, сельскай гаспадаркай. У культурным пласце знойдзены інструменты рамеснікаў (кавальскія шчыпцы, тачыльныя брускі, сякеры, шылы, драўляныя капылы для вырабу абутку), шматлікія жалезныя рэчы побыту (нажы, нажніцы, замкі, ключы, крэсівы), вырабы з каляровых металаў (бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі), дрэва (бочкі, вёдры, рыдлёўкі, вілы), косці і рогу (грабяні, дзяржанні нажоў), скуры (абутак, паясы, ножны), а таксама прадметы ўзбраення воіна і рыштунку конніка (наканечнікі коп'яў і стрэл, рэшткі кальчуг, цуглі, шпоры, страмёны). Выяўлены унікальныя ўзоры каменнай дробнай пластыкі: двухбаковы абразок 1-й паловы 13 ст. з выявай маці боскай Агіясарытысы, ці Халкапратыйскай, на адным баку, на адваротным — выява апостала Пятра. На другім абразку таго ж часу выявы Міколы і архідыякана Стафана.



45. *Металічная зярнёная пацерка 12—13 стагоддзяў з раскопак Мінскага замчышча.*



45. *Скураныя поршань і чаравік 12—13 стагоддзяў з раскопак Мінскага замчышча.*



45. *Фрагмент драўлянай чашы 12— пачатку 13 ст. з надпісам «Господи помози...».*



45. *Рэчы з раскопак Мінскага замчышча.*

Умацаванні Мінскага замка паспяхова вытрымалі асаду магутнага войска паўднёварускіх князёў і іх саюзнікаў у 1104 г. і 1166 г., няўдалымі былі спробы полацкага князя Рагвалода Барысавіча ўзяць замак прыступам у 1159, 1160—1161 гг. Доўгі час замак быў палітычным, ваенным і культурным цэнтрам, рэзідэнцыяй князёў, пазней велікакняжацкіх і каралеўскіх намеснікаў. У 1506 г. войскі крымскага хана Махмет-Гірэя, захапіўшы горад, не здолелі авалодаць крэпасцю. У замку былі ваенны гарнізон (залога), правіянцкія крамы, дом кіеўскага мітрапаліта, уладанні магната князя Астрожскага, у вежы каля замкавай брамы размяшчалася турма. У замку знаходзіліся цэрквы Мікалаеўская і Раства багародзіцы. Умацаванні Мінскага замка будавалі жыхары горада і навакольных вёсак, у яго карысць ішлі судовыя пошліны і спецыяльныя падаткі, прыбыткі ад млына, што стаяў на левым беразе Свіслачы. З канца 17 ст. замак стаў паступова занепадаць, да канца 18 ст. асталіся земляныя валы, зафіксаваныя на планах Мінска канца 18 — пачатку 19 ст.



46. *Рэшткі храма.*




46. *Рэшткі храма. План.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР, Дзяржаўным музеі БССР і ў Гістарычным музеі БДУ імя У. І. Леніна.

*Літ.:* Гісторыя Мінска.— [2 выд.].— Мн., 1967; Загорульский Э. М. Возникновение Минска.— Мн., 1982; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.— М., 1966. *Ю. А. Заяц, Г. В. Штыхаў.*

**46. РЭШТКІ ХРАМА** (археал., архіт.). За 22 м ад усх. сцяны Дома фізкультуры Добраахвотнага спартыўнага таварыства «Працоўныя рэзервы». Адкрыў і абследаваў у час раскопак 1949—51 гг. В. Р. Тарасенка. Будаўніцтва храма вялося ва ўсходняй частцы Замчышча, на правым беразе р. Свіслач, у пачатку 12 ст., па невядомых прычынах не было скончана. Да закладкі храма гэтая частка Замчышча была забудавана, але будынкі загінулі пры пажары. Магчыма, тут размяшчалася драўляная царква, якая потым згарэла. Падмурак памерам 12×12 м прызначаўся для чатырохслупавога храма з выступаючымі сярэдняй і бакавымі апсідамі (алтарная апсіда павялічвала даўжыню храма з усходу на захад да 16 м), знаходзіўся на глыбіні 4 м ад паверхні, прарэзваў культурны пласт і быў паглыблены ў мацярык на 1,4 м. Сцены храма зроблены на вышыню больш за 1 м, таўшчынёй 1,5 м, змацаваны вапнавым растворам, з унутранага і вонкавага бакоў выкладзены часанымі камянямі, сярэдняя частка запоўнена бутам. Каля паўднёва-заходняга кута, з унутранага боку сцен, захаваліся ўчасткі, абліцаваныя блокамі памерам 29,5×20×9,5 і 19×14,5×5,5 см, высечанымі з наздраватага даламіту. У манументальных помніках Кіеўскай Русі гэтая дэталь больш нідзе не сустракаецца.

Незавершаны храм з 1-й паловы 13 ст. ператвораны ў гарадскі некропаль. Выяўлена 21 пахаванне 13 ст. у дамавінах скрынкавага тыпу з вялікіх хваёвых дошак на шыпах без цвікоў. Саркафагі мелі прамавугольную форму, вечкі і бакавыя сценкі абгорнуты бяростай. Нябожчыкі пахаваны па славянскім звычаі галавой на захад са скрыжаванымі на грудзях рукамі, без рэчаў. Захаваліся рэшткі шарсцянога адзення і скуранога мяккага абутку (чаравікі, вышытыя ніткамі). Каля аднаго дзіцячага пахавання знойдзены залаты бранзалет вагой 75,5 г, відаць, пакладзены як ахвярапрынашэнне ці схаваны як скарб. Цяпер падмурак храма знаходзіцца на глыбіні 0,5—0,9 м ад сучаснай дзённай паверхні.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Тарасенко В. Р. Древний Минск.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1. *Г. В. Штыхаў.*



46. *Пахаванне 1-й паловы 13 ст. з раскопак Мінскага замчышча.*

**вул. Вызвалення**

**47. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ВЫЗВАЛЕННЯ** (архіт.). Размешчана на поўнач ад вул. Астроўскага, у цэнтральнай частцы былога Ракаўскага прадмесця. Раней вуліца мела назву Уваскрэсенская і вяла ў адну са старажытных частак горада — Пятніцкі канец, ці Татарскае прадмесце. Забудова вуліцы сфарміравалася ў канцы 19 — пачатку 20 ст., складаецца з комплексу, які ўключае дамы № 3—13, асобна размешчаны дом № 6.

Дом № 3. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы, нетынкаваны. Невялікі прамавугольны ў плане двухпавярховы аб'ём. Паверхі падзелены карнізным поясам. Лучковыя вокны на першым паверсе аздоблены аканіцамі з філёнгамі. Тарцовыя сцены вырашаны ў выглядзе глухіх трохвугольных шчытоў. Цяпер у будынку размяшчаюцца грамадскія арганізацыі.

Дом № 5. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва. Прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак накрыты



47. *Забудова вуліцы Вызвалення. Дамы № 15/20, 13, 11, 9.*

двухсхільным дахам. Тарцовыя сцены завершаны трохвугольнымі франтонамі. Паверхня сцен гарызантальна ашалявана. Вокны прамавугольныя. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 7. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Чатырохпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты пакатым двухсхільным дахам. Галоўны фасад расчлянёны 2 плоскімі лапаткамі. Вокны прамавугольныя, на 3-м і 4-м паверхах размешчаны невялікія балконы. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 9. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы, перабудаваны ў 20 ст. Прамавугольны ў плане трохпавярховы будынак накрыты пакатым чатырохсхільным вальмавым дахам. Паверхі аддзелены адзін ад другога шматслойным карнізным поясам. Фасад на першым паверсе буйна руставаны, вышэй — расчлянёны плоскімі лапаткамі. Рытмічнасць пабудове надаюць розныя па абрысу аконныя праёмы: на першым паверсе высокія паўцыркульныя, на наступным прамавугольныя з прамымі сандрыкамі. Над дзвярным праёмам — трохвугольны франтончык. У будынку размешчаны грамадскія ўстановы.

Дом № 11. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана неглыбокім рызалітам. Плоскасці сцен строга і рытмічна чляпёны прамавугольнымі вокнамі. На другім паверсе над аконнымі праёмамі праходзяць неглыбокія прамавугольныя нішы. На трэцім паверсе — два балконы. У будынку размешчаны грамадскія ўстановы.

Дом № 13. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Будынак двухпавярховы, прамавугольны ў плане, неатынкаваны. Галоўны фасад кампазіцыйна сіметрычны. Цэнтральная яго частка з уваходам вылучана руставанымі лапаткамі. Паверхі аддзелены адзін ад аднаго шматслойным карнізным поясам. Пад карнізам даху вылучаецца пояс сухарыкаў з лякальнай цэглы. У аздобе выкарыстаны таксама ліштвы акон, замковы камень на вокнах першага паверха. Выкарыстоўваецца як жылы.

На рагу вуліц Вызвалення і Астроўскага размешчаны двухпавярховы, Г-падобны ў плане жылы дом № 15/20.

Дом № 6. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы і дрэва. Складаецца з двух аб'ёмаў, якія прымыкаюць адзін да аднаго. Першы аб'ём трохпавярховы, мураваны, прамавугольны ў плане, накрыты чатырохсхільным вальмавым дахам. Першы высокі паверх аддзелены ад верхніх карнізным поясам. Вокны лучковыя без ліштваў, на трэцім паверсе — маленькія прамавугольныя. Другі аб'ём двухпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Першы паверх мураваны, несіметрычна прарэзаны лучковай аркай-праездам і прамавугольнымі вокнамі. Другі паверх з дрэва, паверхня сцен вертыкальна ашалявана. Вокны прамавугольныя, у ліштвах. Выкарыстоўваецца як жылы.

Забудова вул. Вызвалення — частка гісторыка-архітэктурнай зоны Ракаўскага прадмесця з характэрным прыкладам стужкавага размяшчэння жылых будынкаў. *А. Ю. Пятросава.*

**праспект Газеты «Известия»**

**48. КУРГАН** (археал.). Насупраць дома № 32, корпус 1. Вышыня 4 м, дыяметр 20 м. Раней тут быў могільнік, які адкрыў і даследаваў у 1925 г. І. А. Сербаў. Раскапана 10 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Абследавалі ў 1978 г. Г. В. Штыхаў, у 1980 г. В. Е. Собаль. Датуецца 11 ст. Належаў дрыгавічам.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.*: Сербаў І. А. Археалагічныя раскопкі ў ваколіцах Мінска ў 1925 г.— Мн., 1927. *В. Е. Собаль.*

**праспект Газеты «Правда»**

**49. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Пахаваны 44 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў 1941 г. і 1944 г. Сярод іх — воіны 64-й стралковай дывізіі, што абаранялі Мінск у 1941 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**50. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,4 км на поўдзень ад дома № 60 (корпус 2), на правым беразе р. Лошыца, абапал аўтамабільнай дарогі Масква — Брэст. Плошча каля 1 га. Адкрыў у 1986 г. С. Л. Захараў, раскопкі праводзіў у 1986 г. Ю. А. Заяц, даследавана 400 м² плошчы. Культурны пласт да 0,5 м. Знойдзены фрагменты амфар, ганчарнага глінянага посуду, жалезныя нажы, цвікі, цуглі, крэсіва, шыла, ключ, упрыгожанні з каляровых металаў, глінянае і шыфернае праслiцы, тачыльныя брускі. Выяўлены рэшткі 9 наземных зрубных жылых пабудоў, рэшткі печаў, каля адной з іх шмат шлакаў, што сведчыць аб мясцовай апрацоўцы жалеза. Датуецца канцом 10 — 1-й паловай 13 ст. *Ю. А. Заяц.*

**вул. Гандлёвая**

**51. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 27. Знаходзіцца ў ахоўнай зоне помнікаў архітэктуры Верхні горад. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы, быў двухпавярховы. У 19 — пач. 20 ст. перабудаваны: узведзены трэці паверх і прыбудовы ў дваровай частцы.

Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад вырашаны плоскасна, расчлянёны па гарызанталі карнізамі, прарэзаны прамавугольнымі на 1-м, лучковымі на 2-м і 3-м паверхах аконнымі праёмамі, дэкараванымі сандрыкамі лучковай формы. Тарцы вырашаны ў выглядзе трохвугольных шчытоў з трохвугольнымі вокнамі. Пад дахам праходзіць масіўны шматслойны карніз. 4 балконы маюць ажурную агароджу (чыгуннае ліццё). Выкарыстоўваецца як жылы.

Будынак — прыклад грамадзянскай гарадской архітэктуры 19 ст. *А. Ю. Пятросава.*

**вул. Герцэна**

**52. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ГЕРЦЭНА** (архіт.). Вуліца размешчана ў цэнтры горада. Яе забудова пачалася з 14—15 ст. Першапачатковая назва — Малая Бернардзінская, потым Малая Манастырская, пасля 1863 г. перайменавана ў Стара-Манастырскую. Працягласць больш за 150 м. Па правым баку захаваліся 3 групы дамоў 18—19 ст.: № 2, 4, № 6, 8, № 10, 12, на левым — дом № 1 (былыя гандлёвыя рады).

Дом № 1, гандлёвыя рады. Пабудаваны на паўночна-ўсходнім баку Высокага рынку паміж 1810—1817 гг. [архіт. М. Чахоўскі (?)]. У 1-й палове 19 ст. вядомы як «Бернардзінскія крамы», у 2-й палове 19—



52. *Дамы № 4, 2 па вуліцы Герцэна.*



52. *Дом № 6, 4, 2 па вуліцы Герцэна.*

пачатку 20 ст. як «Віленчукі». Часткова разбураны ў Вялікую Айчынную вайну. Частка, якая захавалася, адноўлена ў 1980-я гады. Гэта аднапавярховы выцягнуты ў плане будынак, накрыты двухсхільным дахам, пад якім праходзіць прафіляваны карніз. Паўколам агінае былы касцёл бернардзінцаў. Галоўны фасад вырашаны плоскасна і падзелены на 2 ярусы карнізам. Рытм фасада ствараюць вялікія паўцыркульныя плоскія нішы, у якіх размешчаны аконныя і дзвярныя праёмы.

У выніку архітэктурна-археалагічных даследаванняў, праведзеных аб'яднанай экспедыцыяй Інстытута гісторыі АН БССР (В. Е. Собаль і З. С. Пазняк) і аб'яднання «Белрэстаўрацыя» Міністэрства культуры БССР (У. М. Дзянісаў, А. А. Трусаў), устаноўлена, што гандлёвыя рады ўзведзены на месцы былых могілак, пад якімі захаваўся культурны пласт 12—17 ст. Расчышчаны два сутарэнні. Адно з іх амаль квадратнае (плошчай 14,4 м²), у ім захаваліся рэшткі цыліндрычных скляпенняў. Другое мае форму няправільнага 4-вугольніка (плошчай 13,8 м²). Сутарэнні складзены з цэглы-пальчаткі памерам 27—26×13,5—14,5×5—5,5 см. Гандлёвыя рады пабудаваны на падмурку, зробленым з камянёў сярэдніх і вялікіх памераў на глыбіні каля 1,5 м. Падмурак на 10—15 см шырэй за сцены радоў. Таўшчыня сцен 1,1—1,25 м, унутраных перагародак 0,9—1 м. З боку касцёла, каля падмурка, прасочана вымастка, складзеная з невялікіх камянёў. На адлегласці каля 1 метра ад радоў, у вымастцы, зроблены жалабок для сцёку вады. Прасочаны 4 перабудовы гандлёвых радоў.

Дом № 2. Складае адзіны комплекс з домам № 1 (Музычны завулак) і домам № 2а 1-й паловы 19 ст. (вул. Герцэна). Пабудаваны на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы. Высокі трохпавярховы чатырохвугольны ў плане будынак накрыты пакатым двухсхільным вальмавым дахам. Плоскасць сцяны чляпёна па гарызанталі карнізнымі паясамі, лучковымі аконнымі праёмамі, дэкарыраванымі ліштвамі з замковым каменем. На 2-м паверсе, у прасценках паміж вокнамі, плоскасці руставаны. Пад дахам праходзіць масіўны шматслойны карніз. Будынак — прыклад так званай «цаглянай» бесстылявой архітэктуры.

Дом № 4. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы. Двухпавярховы чатырохвугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Агульная сіметрычная кампазіцыя галоўнага фасада парушаецца арачным праездам, які ссунуты ад вертыкальнай восі сіметрыі. Цэнтральная частка будынка вылучана трохвугольным франтонам, у тымпане якога прарэзана маленькае квадратнае акно. Пад дахам па перыметры праходзіць развіты шматслойны карніз. Прамавугольныя вокны размешчаны ў неглыбокіх дэкаратыўных нішах паўцыркульнага абрысу. У цэнтры галоўнага фасада на 2-м паверсе навісае балкон з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Выкарыстоўваецца як жылы. Будынак — помнік архітэктуры класіцызму.

Дом № 6. Пабудаваны ў 19 ст. з дрэва на высокім бутавым цокалі. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Сцены ашаляваны гарызантальна. Пад радам прамавугольных акон праходзіць пояс вертыкальнай шалёўкі, што надае фасадам дэкаратыўнасць. Выкарыстоўваецца як жылы. Дом — прыклад драўлянай жылой забудовы.

Дом № 8. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты чатырохсхільным вальмавым дахам, пад якім праходзіць шматслойны карніз. У плоскасці сцен прарэзаны прамавугольныя аконныя праёмы. Выкарыстоўваецца як жылы. Будынак — прыклад грамадзянскай мураванай архітэктуры.

Дом № 10. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы аб'ём з высокім цокалем, які павялічаны з-за крутога схілу вуліцы па вышыні ў паўночна-ўсходняй частцы. Будынак прамавугольны ў плане з рызалітам у



**52.** *Забудова вуліцы Герцэна.*



**52.** *Гандлёвыя рады на вуліцы Герцэна. Від з плошчы Свабоды. Фота 1920-х гадоў.*




**52.** *Жылы дом № 4 па вуліцы Герцэна. План 1-га паверха.*

дваровай частцы накрыты вальмавым дахам, пад якім праходзіць развіты шматслойны карніз. Плоскасць сцен прарэзана прамавугольнымі вокнамі. Дом — помнік мураванай архітэктуры. Цяпер тут размешчана грамадская ўстанова.

Дом № 12. На рагу вуліц Герцэна і Гандлёвай, завяршае ансамбль вул. Герцэна. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы будынак несіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі і складанага плана. 1-ы і 2-і паверхі з боку вулічных фасадаў падзелены развітым карнізным поясам. Галоўны фасад завершаны плоскім трохвугольным шчытом, прарэзаны шырокімі прамавугольнымі вокнамі. Над уваходам навісае казырок, які апіраецца на 2 калонкі круглага сячэння. У доме размешчана гаспадарчая ўстанова. Будынак — прыклад грамадзянскай муравапай архітэктуры.

Забудова вул. Герцэна — частка гісторыка-архітэктурнай зоны Верхні горад. У аздобе жылых дамоў праявіліся рысы класіцызму і эклектызму. *А. Ю. Пятросава, У. М. Дзянісаў, А. А. Трусаў.*

**вул. Горкага**

**53. БУДЫНАК НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТА МЕЛІЯРАЦЫІ І ВОДНАЙ ГАСПАДАРКІ** (архіт.). Дом № 153. Пабудаваны ў 1975 г. (архіт. П. Кракалёў). Кампазіцыя комплексу заснавана на кантрастным спалучэнні лакапічнага прамавугольнага 9-павярховага лабараторнага корпуса, пастаўленага тарцом да вуліцы, і размешчаных перпендыкулярна да яго аднапавярховых аб'ёмаў канферэнц-залы і сталовай.



**53.** *Будынак навукова-даследчага інстытута меліярацыі і воднай гаспадаркі.*



**53.** *Будынак навукова-даследчага інстытута меліярацыі і воднай гаспадаркі. План.*

Лабараторны корпус мае каркасна-панельную канструкцыю. Галоўны ўваход размешчаны асіметрычна. Па восі яго — лесвічна-ліфтавы блок, які вынесены за межы корпуса і злучаны з ім светлавымі пераходамі. Эліпсападобныя ў плане аб'ёмы канферэнц-залы і лесвічна-ліфтавага блока надаюць архітэктуры комплексу пластычную выразнасць. Ях ўзбагачаюць малыя архітэктурныя формы і добраўпарадкаваныя паўадкрытыя дворыкі па баках лабараторнага корпуса.

На процілеглым ад вуліцы тарцы лабараторнага корпуса зроблены асобны ўваход у сталовую і прасторнае зашклёнае прамавугольнае ў плане фае канферэнц-залы. Планіроўка ўсіх паверхаў калідорная. Выключэнне складаюць 1-ы і 4-ы паверхі, дзе знаходзяцца хол і малая зала. У афармленні інтэр'ераў шырока выкарыстаны дрэва (шалёўка сцен, мазаічная паркетная падлога), метал (пано ў сталовай, асвятляльныя прыборы ў канферэнц-зале) і іншыя матэрыялы.



**52.** *Забудова вуліцы Герцэна.*



54. *Будынак навукова-даследчага інстытута электронна-вылічальных машын.*

Будынак — адно з першых у рэспубліцы спецыялізаваных збудаванняў для навукова-даследчых устаноў.

*Т. В. Габрусь.*

**54. БУДЫНАК НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТА ЭЛЕКТРОННА-ВЫЛІЧАЛЬНЫХ МАШЫН** (архіт.). Дом № 155. Пабудаваны ў 1980 г. з цэглы і жалезабетону (архіт. Ю. Грыгор'еў, А. Ладкін).

Кампазіцыя будынка асіметрычная, франтальная, з падоўжаным галоўным фасадам, складаецца з 2 13-павярховых аб'ёмаў з перападам вышынь, абумоўленым паніжэннем рельефу, і невялікай нізкай прыбудовы. Месца злучэння аб'ёмаў падкрэслена лесвічным блокам. Галоўны ўваход вылучаны магутнай раскрапоўкай на ўсю вышыню корпуса. Да яго вядзе тэраса з шырокай лесвіцай, каля якой арганізаваны зялёны дворык з басейнам і дэкаратыўнай скульптурай. Выразнасць фасадам надае разнастайнасць канструкцыйна-дэкаратыўных прыёмаў, выкарыстанне рабрыстых і сталітавых панелей, маналітнага жалезабетону, каляровай тынкоўкі, прыроднага каменю. Планіроўка паверхаў калідорная, з двухбаковым размяшчэннем кабінетаў і лабараторый. На першых паверхах і ў прыбудове — службовыя памяшканні і сталовая.

Будынак — твор сучаснай савецкай архітэктуры.

*Т. В. Габрусь.*

**55. БУДЫНАК ПІВАВАРНАГА ЗАВОДА «БЕЛАРУСЬ»** (архіт.). Дом № 39 (на перакрыжаванні вуліц Горкага і Кісялёва). Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. У 1923—25 гг. і ў 1967—68 гг. рэканструяваны і пашыраны. Уяўляе сабой комплекс пабудоў (тры асноўныя і некалькі дапаможных будынкаў), абнесеных глухой цаглянай агароджай. Самы стары корпус (1873 г.) мае складаную ў плане форму. Яго асноўны аб'ём двухпавярховы. Галоўны фасад, які выходзіць на вул. Кісялёва, асіметрычны, завершаны рознымі па вышыні шчытамі няправільнай формы. Плоскасць сцяны дэкарыравана лапаткамі і карнізам. Аконныя праёмы прамавугольныя, у шчытах прарэзаны круглыя люкарны. Бакавы фасад дэкарыраваны аналагічна, накладныя дэталі кантрастуюць па колеры з асноўнай плоскасцю.

Будынак — помнік прамысловай архітэктуры з рысамі эклектыкі.

*А. Ю. Пятросава.*

**56. БУДЫНАК СУВОРАЎСКАГА ВАЕННАГА ВУЧЫЛІШЧА** (архіт., гіст.). Дом № 29. Рэканструяваны ў 1953 г. (архіт. Г. Заборскі) на аснове будынка былой духоўнай семінарыі (пабудавана ў 19 ст., архіт. А. Мельнікаў).

Чатырохпавярховы з цокальным паверхам Ш-падобны ў плане будынак мае сіметрычную кампазіцыю. Падоўжаны галоўны фасад расчлянёны 3 рызалітамі: плоскім у цэнтры і больш глыбокімі бакавымі, завершанымі трохвугольнымі франтонамі з пінаклямі і скульптурнымі групамі (скульпт. В. Папоў). Фасады падзелены гарызантальнай цягай на 2 часткі. Больш масіўная ніжняя частка мае адзінарныя аконныя праёмы і апрацаваныя рустам прасценкі. У верхняй частцы аконныя праёмы здвоеныя, прасценкі члянёны ордэрнымі пілястрамі, па цэнтральным рызаліце — паўкалонамі. Будынак завершаны развітым антаблементам і невысокім атыкам. Унутраная планіроўка калідорная са зручна размешчанымі вучэбнымі і жылымі памяшканнямі. У цэнтры — вестыбюль з шырокай лесвіцай, фае і актавая зала. Будынак — помнік савецкай архітэктуры пасляваеннага перыяду з элементамі неарэнесансу.

У 1924—37 гг. тут размяшчалася Аб'яднаная беларуская ваенная школа, якая была арганізавана на базе 81-х Мінскіх, 43-х Полацкіх пяхотных і 21-х Мінскіх кавалерыйскіх камандных курсаў. Да 1924 г. мела назву Мінская пяхотная ваенная школа, з 1924 г. — Аб'яднаная беларуская ваенная школа імя ЦВК БССР. Рыхтавала камандзіраў узводаў для стралковых часцей, а з 1924 г. і камандзіраў-артылерыстаў (пераважна для тэрытарыяльных беларускіх вайсковых фарміраванняў). Школай камандавалі героі Грамадзянскай вайны Я. Ф. Фабрыцыус (1922—23 гг.) і Я. С. Алёхін (1933—38 гг.). Летам 1933 г. перад яе навучэнцамі выступіў Старшыня ЦВК СССР М. І. Калінін. У 1937 г. перайменавана ў Мінскае ваеннае вучылішча імя М. І. Калініна, якое ў 1940 г. было рэарганізавана ў танкавае вучылішча імя М. І. Калініна. 26.6.1941 г. вучылішча эвакуіравана ва Ульянаўск. Выхаванцамі школы былі Маршал Савецкага Саюза І. І. Якубоўскі, генералы арміі В. П. Маргелаў, В. А. Пянь-



54. *Будынак навукова-даследчага інстытута электронна-вылічальных машын. Дэкаратыўная скульптура.*



55. *Будынак піваварнага завода «Беларусь».*



56. *Будынак суворацкага ваеннага вучылішча.*

коўскі і інш. З 1953 г. у будынку размяшчаецца Мінскае суворацкае ваеннае вучылішча. На будынку вучылішча ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі ў гонар 81-х Мінскіх пяхотных камандных курсаў, Аб'яднанай Беларускай ваеннай школы і М. І. Калініну.

У 1984 г. у двары вучылішча ўстаноўлены бюст А. В. Суворава.

*Т. В. Габрусь, В. М. Удальцоў.*

**57. ЗАБУДОВА ЗАХОДНЯЙ ЧАСТКІ ВУЛІЦЫ ГОРКАГА** (архіт.). Вуліца мела назвы: Барысаўскі, Старабарысаўскі тракты, Барысаўская, Віленская, Троіцкая, Аляксандраўская, Камунальная. Захаваліся будынкі 19 ст. Ансамбль забудовы 19 ст. размешчаны ў пачатку вуліцы — ад пл. 8 Сакавіка да вул. Я. Купалы. Двух-трохпавярховыя мураваныя дамы сваімі галоўнымі фасадамі выходзяць на чырвоную лінію вуліцы.

Дом № 5. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з рызалітам у дваровай частцы накрыты двухсхільным дахам. Галоўны тарцовы фасад мае сіметрычную кампазіцыю. Паверхі падзелены карнізным поясам. Вуглавыя часткі ўмацаваны плоскімі лапаткамі. Аконныя праёмы на першым паверсе лучковыя, на другім — прамавугольныя. У цэнтры 2-га паверха невялікі балкон. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам; у тымпане якога прарэзана лучковае акно.

Дом № 7. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты пакатым двухсхільным дахам. Кампазіцыя галоўнага фасада строга сіметрычная, мае трохчасткавую будову. Цэнтральная частка вылучана атыкавай сценкай з трыма лучковымі праёмамі. Прамавугольныя аконныя праёмы на другім паверсе дэкарыраваны прамымі сандрыкамі. У бакавых частках трэцяга паверха сіметрычна размешчаны 2 невялікія балконы. Адзін з тарцоў будынка — глухі шчыт, другі ўшчыльную прымыкае да дома № 9.

Дом № 7а. У глыбіні квартала. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак з неглыбокімі рызалітамі на бакавых фасадах накрыты двухсхільным дахам. Плоскія паверхні сцен фасадаў члянёны прамавугольнымі вокнамі. На трэцім паверсе, які аддзелены ад першых двух карнізным поясам, 2 невялікія балконы з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё).

Дом № 9. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы чатырохвугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Адзін з тарцоў будынка глухі, другі прымыкае да дома № 7. Пад дахам праходзіць ступеньчаты карніз. Плоскія паверхні сцен фасадаў члянёны лучковымі вокнамі.

Дом № 9а. У глыбіні квартала. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Невялікі аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак на высокім цокалі, накрыты двухсхільным дахам. Сцены фасадаў расчлянёны лапаткамі, прарэзаны высокімі лучковымі вузкімі вокнамі. Тарцовыя фасады завершаны трохвугольнымі франтонамі, у тымпанах якіх неглыбокія паўкруглыя нішы з дэкаратыўнымі калонамі.

Дом № 11. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак, у дваровай частцы — рызаліт. Накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад падзелены карнізамі па вертыкалі на 3 часткі. Выкарыстанне белай лепкі на каляровай плоскасці сцяны надае збудаванню выразнасць і вытанчанасць. Аконныя праёмы 1-га і 3-га паверхаў прамавугольнай формы, на 2-м паверсе вокны маюць лучковы абрыс.

Дамы № 13, 15, 17. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Уяўляюць сабой вялікі аб'ёмны будынак, які мае адзіны план сіметрычнай кампазіцыі, адзіны дваровы фасад. Галоўны фасад падзелены на 3 часткі, якія ўшчыльную прымыкаюць адна да адной. Часткі пад № 13, 15 двухпавярховыя, пад № 17 трохпавярховая. Усе яны падзелены па гарызанталі карнізнымі паясамі. Другія паверхі дамоў № 13 і 15 члянёны лучковымі вокнамі ў простых ліштвах, некаторыя з іх дапоўнены лучковымі сандрыкамі. Трохпавярховая частка прарэзана прамавугольнымі лучковымі вокнамі на першым паверсе, якія на другім маюць ліштвы з сандрыкамі. Цэнтр сіметрычнага дваровага фасада вылучаны неглыбокім рызалітам з плоскімі лапаткамі па вуглах і ступеньчатым атыкам. Бакавыя рызаліты дваровага фасада завершаны трохвугольнымі франтонамі з паўкруглымі люкарнамі. На 2-м паверсе праходзіць лёгкая драўляная галерэя, па якую вядзе лесвіца.

Дом № 19. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы чатырохвугольны ў плане будынак з паўпадвалам накрыты двухсхільным дахам з




57. *Дом № 9 па вуліцы Горкага. План 1-га паверха.*



57. *Дамы № 19 (злева) і 21/1 па вуліцы Горкага.*




57. *Дом № 19 па вуліцы Горкага. План 1-га паверха.*

дахавымі вокнамі. На галоўным фасадзе пад дахам праходзіць шматслойны развіты карніз. Прамавугольныя вокны вылучаны дэкаратыўнымі падаконнымі плітамі. Тарцы будынка глухія, завершаны трохвугольнымі шчытамі. На другім паверсе дваровага фасада знаходзіцца невялікая галерэя, на якую вядуць лёгкія лесвіцы.

Дом № 21/1. На скрыжаванні вуліц Купалы (Старажоўскай) і Горкага. Пабудаваны ў 1-й палове 19 ст. з цэглы. Прамавугольны ў плане трохпавярховы будынак накрыты вальмавым чатырохсхільным дахам. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю. Яго цэнтральная частка з шырокім дзвярным праёмам вылучана лапаткамі на ўсю вышыню будынка. Фасады вырашаны плоскасна, прарэзаны прамавугольнымі вокнамі з простымі ліштвамі. На 3-м паверсе сіметрычна размешчаны 2 невялікія балконы з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). На даху прарэзаны фігурная (у цэнтры) і 2 бакавыя прамавугольныя люнеты.

Забудова заходняй часткі вул. Горкага — фрагмент гісторыка-архітэктурнай зоны Троіцкае прадмесце, характэрны прыклад шчыльнага размяшчэння жылых дамоў уздоўж магістральнай вуліцы. У 1987 г. праводзілася рэстаўрацыя, у выніку якой будынкі набылі новы, адрознены ад першапачатковага знешні выгляд.

*А. Ю. Пятросава.*

**58. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БАГДАНОВІЧУ** Максіму Адамавічу (гіст.). На доме № 25, размешчаным на месцы, дзе раней быў дом, у якім нарадзіўся паэт. Устаноўлена ў 1959 г. (новы варыянт у 1982 г.; архіт. Ю. Казакоў, скульпт. Э. Астаф'еў) на ўшанаванне памяці беларускага паэта, перакладчыка, крытыка і гісторыка літаратуры М. А. Багдановіча. Гл. таксама артыкул № 257 «Помнік Багдановічу Максіму Адамавічу».

**59. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 39 (на будынку піваварнага завода «Беларусь»). Устаноўлена ў 1970 г., абноўлена ў 1984 г. (архіт. Б. Сідарэнка; сілумін).

У Вялікую Айчынную вайну на заводзе дзейнічала з верасня 1941 г. група Мінскага камуністычнага падполля. Аб'ядноўвала 16 чалавек з ліку работнікаў завода — камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных (сакратар падпольнай партыйнай арганізацыі Н. Р. Зікуненка). Пад кіраўніцтвам падпольных Мінскага гаркома КП(б)Б і Варашылаўскага райкома КП(б)Б на канспіратыўных кватэрах членаў групы В. П. Сіневіча (вул. Старажоўская, д. 26, кв. 1) і П. М. Цвяткова (вул. Беламорская, д. 19,




60. *Мемарыяльная дошка ў гонар 81-х Мінскіх курсаў камсаставу.*




61. *Мемарыяльная дошка ў гонар Аб'яднанай беларускай ваеннай школы.*




58. *Мемарыяльная дошка Максіму Багдановічу.*

кв. 2) падпольшчыкі наладзілі выпуск лістовак, перапісвалі зводкі Саўінфармбюро, размнажалі матэрыялы падпольнай газеты «Звязда». Падпольшчыкі перапраўлялі партызанам зброю, медыкаменты, адзенне, бланкі дакументаў і разведданыя. Восенню 1942 г. акупанты ўдалося выкрыць групу. 4—6 кастрычніка большасць яе членаў была арыштавана. У фашысцкіх засценках загінулі 11 падпольшчыкаў.

*А. М. Літвін.*

**60. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР 81-х МІНСКІХ КУРСАЎ КАМСАСТАВУ** (гіст.). На доме № 29. Устаноўлена на будынку сувораўскага вучылішча, у якім у 1921—24 гг. размяшчаліся курсы.

**61. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР АБ'ЯДНАНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ВАЕННАЙ ШКОЛЫ** (гіст.). На доме № 29. Устаноўлена на будынку сувораўскага вучылішча, у якім у 1924—37 гг. размяшчалася школа.

**62. ТРОІЦКІ МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯНАК. БУДЫНКІ ГАРАДСКОЙ БАЛЬНІЦЫ** (гіст., архіт.). Дом № 2.

Манастыр заснаваны ў 1630 г. на Троіцкай гары пры драўлянай царкве (вядома з 15 ст.). Першапачаткова ўсе пабудовы былі драўляныя. У 1799—1800 гг. пастаўлены новы мураваны корпус (архіт. Ф. Крамер). Пасля пажару 1809 г. будынак аднаўлены (архіт. М. Чахоўскі), з усходу да яго прыбудавана галерэя. На той час корпус быў двухпавярховы, П-падобны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад карнізным поясам падзелены на 2 ярусы (першы апрацаваны рустам), вылучаны трыма рызалітамі, завершанымі франтонамі. Унутры памяшканні перакрыты крыжовымі, калідоры — цыліндрычнымі скляпеннямі. Інтэр'ер упрыгожвалі фрэскі (не зберагліся). У 1840-я гады манастырскі корпус рэканструяваны пад бальніцу (архіт. К. Хршчановіч), тады ж пабудаваны дом інвалідаў, багадзельня (пазней надбудаваны трэція паверхі), гаспадарчыя памяшканні. Цяпер будынкі былых манастыра і бальніцы ўключаны ў комплекс пабудоў 2-й гарадской клінічнай бальніцы.

Манастырскі корпус пасля



62. *Корпус былога Троіцкага манастыра базыльянак. Від з боку р. Свіслач.*

рэканструкцый — трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак з вялікімі падвальнымі памяшканнямі, накрыты вальмавым дахам. Знаходзіцца ў паўднёва-заходняй частцы комплексу сучаснай бальніцы. Галоўны фасад сіметрычнай кампазіцыі. Цэнтр яго вылучаны плоскім шырокім рызалітам, быў завершаны атыкам (не збярогся). Першы паверх расшыты рустам. Планіроўка калідорная. Памяшканні першага і другога паверхаў перакрыты крыжовымі і цыліндрычнымі скляпеннямі.

Дом інвалідаў. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты вальмавым дахам. Размешчаны ў цэнтры комплексу. Галоўны фасад сіметрычнай кампазіцыі, падзелены на 3 ярусы карнізнымі цягамі. Аконныя праёмы аздоблены простымі ліштвамі. Планіроўка калідорная.

Багадзельня. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Размешчаны ў паўночна-ўсходняй частцы комплексу. Галоўны фасад вырашаны аналагічна з былым манастырскім корпусам. Планіроўка калідорная. Першы і другі паверхі перакрыты крыжовымі і цыліндрычнымі скляпеннямі.



63. *Будынак музычнага вучылішча імя М. І. Глінкі.*

Гаспадарчая пабудова. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты двухсхільным дахам. Размешчаны ў заходняй частцы комплексу. Галоўны фасад вылучаны трохвугольным франтонам. Рытм фасадаў ствараюць прамавугольныя аконныя праёмы.

Будынкі — помнікі архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Квитницкая Е. Д. Архитектура лечебных зданий Белоруссии в первой половине XIX в.— У кн.: Архитектурное наследство. М., 1984, № 32.

*У. М. Дзянісаў.*

**вул. Грыбаедава**

**63. БУДЫНАК МУЗЫЧНАГА ВУЧЫЛІШЧА ІМЯ М. І. ГЛІНКІ** (архіт., маст.). Дом № 22. Пабудаваны ў 1975 г. (архіт. Л. Маскалевіч, Г. Ласкавая) з цэглы, зборнага і маналітнага жалезабетону. У складанай кампазіцыі дамінуюць кантрастныя па вышыні і пластычным вырашэнні аб'ёмы канцэртнай залы і пяціпавярховага вучэбнага корпуса. Яны аб'яднаны на галоўным фасадзе вышынным лесвічным блокам асіметрычнай формы. Да асноўных аб'ёмаў прымыкаюць, утвараючы прамавугольны ўнутраны дворык, дапаможныя карпусы, дзе размешчаны майстэрні, склады, сталовая. Галоўны ўваход афармлены магутнымі пілонамі, якія падтрымліваюць навісаючае ў выглядзе кансолі фае канцэртнай залы. Рытм пілонаў падкрэслівае пластычна выразнае рабрыстае зашкленне фае. Спалучэнне шэрай паверхні жалезабетону, чырвонай і белай тынкоўкі — важны дэкаратыўны элемент збудавання. Аконныя праёмы чатырох верхніх паверхаў вучэбнага корпуса вылучаны строгім белым абрамленнем. Аб'ёмы комплексу аб'яднаны агульнымі вестыбюлем, гардэробам, лесвічнымі холамі. Планіроўка вучэбнага і дапаможных карпусоў калідорная. У афармленні інтэр'ераў выкарыстаны дрэва, метал, кераміка.

На пляцоўцы перад уваходам, да якога вядзе шырокая лесвіца, устаноўлена скульптурная кампазіцыя «Арфей» (скульпт. В. Занковіч; бронза; вышыня 4,62 м). Бронзавая фігура юнака, які іграе на арфе, вылучаецца спрошчанасцю форм, выцягнутымі прапорцыямі, што надае сілуэту экспрэсію, адухоўленасць. Пластыка скульптуры процідастаўлена геаметрычным формам будынка, што робіць ўспрыманне яго рамантычна ўзнёслым. Вестыбюль будынка ўпрыгожвае габелен «Музыка» (эскіз маст. А. Кішчанкі).

Будынак — прыклад сучаснага архітэктурнага вырашэння навучальнай установы з спецыяльным ухілам.

*Т. В. Габрусь, Л. Г. Лапцэвіч.*

**зав. Дабрамысленскі**

**64. ДОМ, У ЯКІМ БЫЛА КАНСПІРАТЫЎНАЯ КВАТЭРА САВЕЦКІХ РАЗВЕДЧЫКАЎ** (гіст.). Дом № 3.

18.4.1942 г. пад Мінскам была дэсантавана група савецкіх разведчыкаў, у якую ўваходзіў Л. А. Барсукоўскі (камандзір), 27.7.1942 г. самалётам быў дастаўлены сувязны ЦК КП(б)Б М. М. Бортнік (П. М. Грыб). Яны павінны былі ўмацаваць разведгрупу С. К. Вішнеўскага, якая дзейнічала ў Мінску. Рацыя размяшчалася на кватэры А. Д. і М. Т. Загорскіх (Дабрамысленскі завулак, 3, кв. 53). Сеансы сувязі праводзіліся таксама з кватэры С. А. Берасневіча (вул. Быхаўская, 20, кв. 1). На гэтай кватэры працавала таксама рацыя разведгрупы С. К. Вішнеўскага. Разведчыкі наладзілі сувязь з Мінскім камуністычным падполлем. Восенню 1942 г. рацыя групы С. К. Вішнеўскага была запеленгавана акупантамі. Таму разведгрупа пайшла ў партызанскі атрад «Штурм» Мінскай вобл. У пачатку студзеня 1943 г. члены групы загінулі.

У 1966 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка, у 1984 г. абноўлена (архіт. М. Ткачук; сілумін).

*М. І. Эпалетаў.*

**65. ПОМНІК УДЗЕЛЬНІКАМ ОБАЛЬСКАГА КАМСАМОЛЬСКАГА ПАД-**



64. *Дом, у якім была канспіратыўная кватэра савецкіх разведчыкаў.*




64. *Мемарыяльная дошка на доме, у якім была канспіратыўная кватэра савецкіх разведчыкаў.*

ПОЛЛЯ (гіст.). Каля сярэдняй школы № 41. У 1972 г. на ўшанаванне памяці ўдзельнікаў Обальскай падпольнай арганізацыі «Юныя мсціўцы» (дзейнічала ў Вялікую Айчынную вайну ў Шумілінскім р-не з пачатку 1942 г. да жніўня 1943 г.), якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пастаўлена стэла. Імем сакратара падпольнага камсамольскага камітэта, які узначальваў Обальскае падполле, Е. С. Зяньковай названа піянерская дружына школы. Пры школе працуе музей.

**вул. Даўгабродская**

**66. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі трактарнага завода. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1963 г. (скульпт. З. Азгур).

**67. ПОМНІК-ТРАКТАР** (гіст.). Каля цэнтральнай прахадной трактарнага завода. У 1971 г. у гонар 25-годдзя завода на п'едэстале ўстаноўлены трактар «Беларусь» МТЗ-2.

**68. ПОМНІК-ТРАКТАР** (гіст.). Каля цэнтральнай прахадной трактарнага завода. У 1986 г. у гонар 40-годдзя завода на п'едэстале ўстаноўлены трактар «Беларусь» МТЗ-102.

Будаўніцтва трактарнага завода пачата ў 1946 г. Першая прадукцыя (пускавы рухавік ПД-10) атрымана ў 1948 г. Першы колавы трактар «Беларусь» МТЗ-2 сышоў з канвеера 14.10. 1953 г. З 1963 г. выпускаўся трактар МТЗ-50. У 1974 г. асвоена серыйная вытворчасць трактара МТЗ-80 (з'яўляецца базавай мадэллю уніфікаваных трактароў рознага прызначэння). У 1986 г. пачата вытворчасць трактара МТЗ-102. У 1976 г. заводу прысвоена імя У. І. Леніна. З 1973 г. завод з'яўляецца галаўным прадпрыемствам вытворчага аб'яднання «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна».

Перадавікам вытворчасці А. І. Бялко, Л. А. Дземчанка, Я. І. Клімчанку, Г. П. Мягковай, Р. К. Прусавай, Ф. К. Самусеву прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. За стварэнне і асваенне серыйнай вытворчасці уніфікаваных колавых, паўгусенічных і гусенічных трактароў для комплекснай механізацыі вырошчвання прапашных культур работнікам завода П. І. Байкову, В. У. Войцікаву, М. Дз. Грузду, І. І. Дронгу, П. Я. Прыцкевічу, М. М. Слюнькову, Я. А. Цімашэнку прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР 1971 г. За комплекс работ па стварэнню аўтаматызаваных сістэм кіравання для прадпрыемстваў БССР работнікам завода Л. А. Весяловай, І. І. Дземчанку прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР 1972 г. За распрацоўку навуковых асноў павышэння рабочых скарасцей машынна-трактарных агрэгатаў генеральнаму канструктару завода І. П. Ксяневічу прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР 1976 г. За распрацоўку і асваенне універсальнага трактара МТЗ-80 і яго мадыфікацый работнікам завода М. І. Александроўскаму, П. І. Байкову, В. Н. Вараб'ёву, А. П. Казлову, М. Я. Савошку, П. А. Сцяцко, В. І. Харытановічу, Л. У. Шутко прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР 1976 г. Трактары «Беларусь» адзначаны на міжнародных выстаўках і кірмашах: у Бруселі (1958 г., «Гран-пры» трактару ТДТ-60), Будапешце (1964 г., бронзавы медаль трактару МТЗ-50; 1970 г., сярэбраны медаль трактару МТЗ-52 «Супер»; залатыя медалі трактарам МТЗ-80/82 у 1973 г., МТЗ-80 у 1975 г.), Лейпцыгу (залатыя медалі трактарам МТЗ-52 у 1966 г., МТЗ-82 у 1974 г.), Маскве (1966 г., залаты медаль трактару МТЗ-52), Пloўдзіве (1968 г., залаты медаль трактару МТЗ-52), Маркклебергу (1972 г., 1973 г., залатыя медалі трактарам МТЗ-52Н, МТЗ-80; 1974 г., МТЗ-80). Экспартаваліся ў 78 краін, у т. л. у краіны — члены СЭУ, ЗША, Вялікабрытанію, Францыю, Канаду.



67. *Помнік-трактар у гонар 25-годдзя завода.*



68. *Помнік-трактар у гонар 40-годдзя завода.*

Пры заводзе навукова-даследчы цэнтр, філіял Інстытута павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў і спецыялістаў Міністэрства трактарнага і сельскагаспадарчага машынабудавання СССР, машынабудаўнічы тэхнікум, тэхнічнае вучылішча металістаў. Завод узнагароджаны ордэнам Леніна (1966 г.) і ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі (1977 г.).

*Літ.:* Маликов Т., Сегал М. Минский тракторный.— 2 изд.— Мн., 1973; Беларускі трактарны: Літаратурны зб.— Мн., 1950; Бойков П. Годы славных свершений.— Промышленность БССР, 1976, № 5. *А. Г. Шчарбатаў.*

**вул. Жданава**

**69. БУДЫНАК УНІВЕРСАЛЬНАГА МАГАЗІНА «БЕЛАРУСЬ»** (архіт.). Дом № 4. Пабудаваны ў 1978 г. (архіт. Я. Разапаў, Г. Аквілаў).

У кампазіцыі будынка дамінуе асноўны блізкі да квадрата ў плане аб'ём. Чатыры верхнія паверхі аб'яднаны ў суцэльны манаэлітны блок, які падтрымліваецца калонамі. Першы паверх паглыблены адносна верхніх і абкружаны шырокай галерэяй, у якую адкрыты цэнтральны галоўны ўваход і сіметрычна размешчаныя бакавыя ўваходы. У цэнтры асноўнага аб'ёму ўзвышаецца паверх, завершаны светлавым рэкламным надпісам. Пластыка фасадаў асноўнага аб'ёму заснавана на кантрасце выразных гарызантальных паясоў са шкла і бетону і шматлікіх дробных вертыкальных чляненняў. Мерны рытм падвойных бетонных рэбраў-выступаў паўтараецца ў металічным каркасе зашклення. Вышэй па рэльефу да тыльнага фасада далучаны рознавялікія аб'ёмы.

На 1—4-м паверхах размешчаны гандлёвыя залы, злучаныя паміж сабой па цэнтры эскалатарамі і 2 бакавымі лесвіцамі, адміністрацыйныя, складскія, бытавыя памяшканні, кафэ; на 5—6-м паверхах знаходзяцца сталовая, медпункт, цырульня, кан-




69. *Будынак універсальнага магазіна «Беларусь».*

ферэнц-зала, складскія і інш. памяшканні. У аддзелцы інтэр'ераў выкарыстаны метал, дрэва і мармур. Адвольная планіроўка дазваляе спалучыць рацыянальнае размяшчэнне гандлёвых ячэек з мэтанакіраваным рухам патокаў пакупнікоў. У розпавялікіх аб'ёмах — складскія, службовыя і інш. дапаможныя памяшканні.

Будынак універмага — прыклад сучаснай грамадзянскай архітэктуры.

*Т. В. Габрусь.*

**вул. Жодзінская**

**70. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БЛІАДУХО** Мікалаю Фёдаравічу (гіст.). На будынку Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР (дом № 7). Устаноўлена ў 1979 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага геолага, акадэміка АН БССР М. Ф. Бліадухо. Гл. таксама артыкул № 378 «Магіла Бліадухо Мікалая Фёдаравіча».

**71. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАНАВАЛАВУ** Яўмену Рыгоравічу (гіст.). На будынку Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР (дом № 4). Устаноўлена ў 1977 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага вучонага ў галіне тэхналогіі машынабудавання, акадэміка АН БССР, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі БССР Я. Р. Капавалава, які працаваў у гэтым інстытуце. Гл. таксама артыкул № 576 «Магіла Капавалава Яўмена Рыгоравіча».




70. *Мемарыяльная дошка М. Ф. Бліадухо.*

**72. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СЕВЯРДЭНКУ** Васілю Пятровічу (гіст.). На будынку Фізіка-тэхнічнага інстытута (дом № 4). Устаноўлена ў 1980 г.

Беларускі савецкі вучоны ў галіне металазнаўства, акадэмік АН БССР (1956 г.), доктар тэхнічных навук (1950 г.), прафесар (1952 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1963 г.) В. П. Севярдэнка нарадзіўся 1.1.1904 г. у г. Краматорск у сям'і рабочага-металіста. Член КПСС з 1928 г. Пасля заканчэння школы настаўнічаў, быў рабочым на заводах і ў шахце ў Данбасе. З 1925 г. працаваў слесарам на вагонарамонтным заводзе ў Маскве, адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні рабфака імя Арцёма (1925—29 гг.). Скончыў тэхналагічны факультэт Маскоўскага інстытута сталі (1932 г.). Працаваў асістэнтам, дацэнтам на кафедры пракату металаў у гэтым інстытуце. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1945—51 гг. дацэнт Інстытута сталі, у 1951—57 гг. загадчык кафедры, дэкан тэхналагічнага факультэта Маскоўскага інстытута каляровых металаў і золата. З 1957 г. дырэктар і загадчык лабараторыі пластычнасці Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР, адначасова загадчык кафедры Беларускага політэхнічнага інстытута. З 1970 г. старшы навуковы супрацоўнік-кансультант Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР. Працы па даследаванню формаўтварэнняў у ачагу дэфармацыі, заканамернасцях і асаблівасцях працэсу пластычнай дэфармацыі і апрацоўкі металаў ціскам: «Тэорыя апрацоўкі металаў ціскам» (1966 г.), «Выкарыстанне ультрагуку ў прамысловасці» (1967 г., разам з У. У. Клубовічам), «Тэарэтычныя асновы коўкі і гарачай аб'ёмнай штампоўкі» (1968 г., у сааўтарстве), «Асновы тэорыі пракаткі» (1969 г.), «Ультрагук і пластычнасць» (1976 г., разам з У. У. Клубовічам, А. В. Сцепаненкам) і інш. Распрацаваў высокаэфектыўныя метады атрымання дэталей машын і рэжучага інструменту пластычным дэфармаваннем, метады пракаткі лістоў з парашковых матэрыялаў.

В. П. Севярдэнка памёр 19.12.1978 г. у Маскве.

*Літ.:* В. П. Севярдэнка.— Весці АН БССР. Сер. фізіка-тэхнічных навук, 1964, № 1; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *В. М. Удальцоў.*

**вул. Замкавая**

**73. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЗАМКАВАЙ** (архіт.). Размешчана ў цэнтральнай частцы горада. Адна са старажытных вуліц, злучала Пятніцкі канец з замкам. Захаваліся дамы № 25—31.

Д а м ы № 25, 27, 29. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Шчыльна




71. *Мемарыяльная дошка Я. Р. Канавалаву.*

прымыкаюць адзін да аднаго, утвараюць адзіны фронт забудовы і ўспрымаюцца як адзіны фасад. Двухпавярховыя, прамавугольныя ў плане. Фасады вырашаны плоскасна і строга, раскрапаваны міжпаверхавым і завяршальным развітым шматслаёвым карнізамі. Фасад дома № 25 на другім паверсе фланкіраваны лапаткамі з плоскімі нішамі. Цэнтр фасада дома № 27 вылучаны неглыбокім выступам на другім паверсе з лапаткамі па баках і завершаны трохвугольным франтончыкам. Фасад дома № 29 не мае выразнай восі сіметрыі. Вокны дома № 25 прамавугольныя без ліштваў, на другім паверсе дамоў № 27, 29 — лучковыя і прамавугольныя, дэкарыраваны прамымі сандрыкамі. У будынках размешчаны грамадскія арганізацыі.

Дом № 31. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы, неатынкаваны. Двухпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад члянёны міжпаверхавым карнізным поясам. Вокны прамавугольныя, без ліштваў, на 2-м паверсе дэкарыраваны лучковымі сандрыкамі. Пад завяршальным карнізам праходзіць пояс фігурных сухарыкаў. У паўночна-заходняй частцы — скразная лучковая арка-праезд з варотамі (чыгуннае ліццё). Выкарыстоўваецца грамадскай установай.

Забудова вул. Замкавай — прыклад эклектычнай грамадзянскай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*




**72.** *Мемарыяльная дошка В. П. Севярдэнку.*



**73.** *Забудова вуліцы Замкавай. Фота 1983 г.*

**вул. Заслаўская**

**74. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Заслаўская, 35. Устаноўлена ў 1985 г. (архіт. Б. Сідарэнка; сілумін) на будынку, на месцы якога ў Вялікую Айчынную вайну знаходзіўся дом, дзе размяшчалася канспіратыўная кватэра Мінскага камуністычнага падполля. Кватэру трымаў былы рабочы лямцавай фабрыкі М. П. Дрозд. Тут захоўваліся боепрыпасы, медыкаменты, прымаліся зводкі Саўінфармбюро, хавалі ваеннапалонных, што ўцякалі з лагераў. На гэтай кватэры адбыліся 2 пасяджэнні Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. Актыўны ўдзел у падпольнай рабоце прымалі жонка М. П. Дразда Алена і дзве яго дачкі Рэгіна і Яніна. Яны былі сувязнымі партызанскага атрада «Дзімы», які дзейнічаў у Лагойскім р-не, памагалі ў падрыхтоўцы аперацыі па знішчэнню ката беларускага народа В. Кубэ. На іх кватэры захоўваліся міны, спынялася М. Б. Осіпава. 24.9.1943 г. М. П. Дрозд, яго жонка і дачка Рэгіна арыштаваны гітлераўцамі і закатаваны ў Трасцянецкім лагеры смерці.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 2.— Мн., 1984. Матуковский Н. Е. Минск.— М., 1982. *М. М. Казлоўская.*

**вул. Захарава**

**75. БУДЫНАК ШКОЛЫ № 54** (архіт.). Дом № 56. Пабудаваны ў 1977 г. (архіт. Л. Гельфанд і Ю. Кустаў). Архітэктурнае вырашэнне заснавана на выкарыстанні складанага рэльефу мясцовасці. Мае развіты цокальны паверх з сістэмай лесвіц і падпорных сценак. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з паралельных уваходнага і вучэбнага корпусаў, злучаных двухпавярховымі аб'ёмамі, якія ўтвараюць унутраны дворык. 2—3-павярховы ўваходны корпус падтрымліваецца на рэльефе магутнай маналітнай жалезабетоннай анбрай з арачным праёмам. Вучэбны корпус 5—6-павярховы. Сцены рытмічна расчлянёны лапаткамі. Сіметрычна размешчаныя лесвіцы вылучаны на галоўным фасадзе вокнамі і мазаікай геаметрычнага малюнку. У аздабленні фасадаў выкарыстаны сучасныя дэкаратыўныя элементы і будаўнічыя матэрыялы.

Ва ўваходным корпусе размешчаны адміністрацыйныя памяшканні і спартыўная зала, у вучэбным — класы, кабінеты, сталовая, актавая зала і інш., у цокальным паверсе — гардэроб, да-



**75.** *Будынак школы № 54.*



**75.** *Будынак школы № 54. План цокальнага паверха.*




**76.** *Мемарыяльная дошка Л. П. Александроўскай.*

датковая спартыўная зала і лыжная база. Плапіровачнае вырашэнне рацыянальнае і абумоўлена сучаснай арганізацыяй вучэбнага працэсу. Стадыён і спартыўныя пляцоўкі аддзелены ад школы зялёным бульварам, лесвіцамі і тэрасамі.

Архітэктурна-планіровачнае вырашэнне будынка вызначаецца функцыянальнасцю і мастацкай выразнасцю, з'яўляецца ўзорам творчых пошукаў у архітэктуры школьных будынкаў.

*Т. В. Габрусь.*

**76. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АЛЕКСАНДРОЎСКАЙ** Ларысе Пампееўне (гіст.). На доме № 27. Устаноўлена ў 1982 г. (скульпт. Г. Мурамцаў) на ўшанаванне памяці беларускай савецкай спявачкі, народнай артысткі СССР Л. П. Александроўскай, якая жыла ў гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 517 «Магіла Александроўскай Ларысы Пампееўны».

**77. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГЛЕБАВУ** Аляксею Канстанцінавічу (гіст.). На доме № 25. Устаноўлена ў 1971 г. (скульпт. І. Краўчанка) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага скульптара, народнага мастака БССР А. К. Глебава, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 555 «Магіла Глебава Аляксея Канстанцінавіча».

**78. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАРАЛЮ** Уладзіміру Адамавічу (гіст.). На доме № 33. Устаноўлена ў 1983 г. (скульпт. У. Лятун) па ўшанаванне памяці дзяржаўнага дзеяча БССР, народнага архітэктара СССР, правадзейнага члена Акадэміі мастацтваў СССР, заслужанага будаўніка БССР У. А. Караля, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 577 «Магіла Караля Уладзіміра Адамавіча».

**79. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СМОЛЬСКАМУ** Мікалаю Уладзіслававічу (гіст.). На доме № 25. Устаноўлена ў 1977 г. (скульпт. Н. Трахтэнберг) па ўшанаванне памяці беларускага савецкага батаніка, акадэміка АН БССР і АН Таджыкскай ССР, заслужанага дзеяча навукі БССР М. У. Смольскага, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 668 «Магіла Смольскага Мікалая Уладзіслававіча».

**вул. Інтэрнацыянальная**

**80. БУДЫНАК БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ КАНСЕРВАТОРЫІ ІМЯ А. В. ЛУНАЧАРСКАГА** (архіт., гіст.). Дом № 30.

Будынак кансерваторыі ўзведзены ў 1958 г. з цэглы (архіт. Р. Гегарт). Чатырохпавярховы, складанай канфігурацыі ў плане, сіметрычны аб'ём. Галоўны фасад з парадным уваходам вылучаны чатырохкалонным порцікам з трохвугольным франтонам. Бакавыя крылы Г-падобныя ў плане. Аконныя праёмы прамавугольныя і арачныя. Сцяна паміж 2-м і 3-м паверхамі падзелена карнізам на 2 ярусы, якія апрацаваны пілястрамі, завершаны




**77.** *Мемарыяльная дошка А. К. Глебаву.*




**78.** *Мемарыяльная дошка У. А. Каралю.*

антаблементам. Ніжні ярус дэкарыраваны рустам. У цэнтры будынка па галоўнай восі — парадны вестыбюль, фае і канцэртная зала на 800 месцаў, у бакавых крылах размешчаны класы, аўдыторыі, кабінеты.

У архітэктуры будынка выкарыстаны элементы класіцызму.

Адкрыта 15.11.1932 г. У 1934 г. прысвоена імя А. В. Луначарскага. Адкрыццё першай вышэйшай навучальнай музычнай установы паклала пачатак новаму этапу ў развіцці музычнай адукацыі на Беларусі. З 1932 г. (вучылася каля 40 студэнтаў) рыхтавала спецыялістаў па фартэпіяна, аркестравых інструментах, спевах, кампазіцыі, музыказнаўству, з 1934 г. і па харавым дырыжыраванні. У 1936/37 навучальным годзе мела аддзяленні: фартэпіяннае, струнных, духавых інструментаў, спеваў, харавога дырыжыравання, гісторыі, тэорыі музыкі і кампазіцыі, а таксама інструктарска-педагагічнае і музычнага выхавання, якія ў хуткім часе былі скасаваны. У 1987/88 навучальным годзе працавалі факультэты: фартэпіяна, кампазіцыі і музыказнаўства, аркестравы, вакальніцкі, падрыхтоўчае аддзяленне па спевах; 992 студэнты; на 18 кафедрах 172 выкладчыкі, у т. л. 8 прафесараў, 1 доктар навук, 31 дацэнт. Навучанне дзённае і завочнае. Ёсць аспірантура (з 1963 г.), асістэнтура-стажыроўка (з 1970 г.). Пры кансерваторыі сярэдняя спецыяльная музычная школа (з 1947 г.), оперная студыя (з 1939 г.). У 1983 г. кансерваторыя ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў. Сярод выпускнікоў: народныя артысты СССР М. Ворвулеў, І. Жыновіч, І. Лучанок, народныя артысты БССР У. Алоўнікаў, З. Бабій, А. Багатыроў, В. Глушакоў, Л. Гарэлік, Я. Глебаў, М. Зюванаў, А. Кагадзееў, Ю. Семя-

пяка, І. Шыкунова, Т. Шымко, заслужаныя дзеячы мастацтваў БССР Л. Абеліёвіч, І. Абраміс, Г. Вагнер, М. Дрынеўскі, М. Казінец, С. Картэс, Дз. Лукас, А. Мдывані, П. Падкавыраў, К. Пашлаўскі, Дз. Смольскі.

*Літ.:* Масленікава В. П. Музычная адукацыя ў Беларусі.— Мн., 1980; Белорусская государственная консерватория им. А. В. Луначарского.— Мн., 1983.

*У. В. Алісейчык, Г. М. Новікава.*

**81. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЙ** (архіт., гіст.). Размешчана ў цэнтры горада. Працягласць вуліцы 994 м ад вул. Я. Купалы да стыку вуліц Рэспубліканскай і Урыцкага. Уваходзіць у межы ахоўнай зоны Верхні горад.

Паўднёва-заходняя частка вуліцы (дамы № 5—7, 4—18, 9/17—13а; ад пл. Свабоды да вул. Урыцкага) узнікла ў пачатку 16 ст. пад назвай Зборавай, з 1870-х гадоў называлася Праабражэнскай, пасля ўстанаўлення Савецкай улады — Інтэрнацыянальнай. Паўднёва-ўсходняя частка (дамы № 21—33; паміж вуліцамі Энгельса і Я. Купалы) вядома з 17 ст. як вул. Валоцкая, у канцы 19 ст. перайменавана ў Хрышчэнскую, пасля ўстанаўлення Савецкай улады — у Кастрычніцкую, цяпер — Інтэрнацыянальная. У 18 — пачатку 19 ст. вуліца забудавана 2—3-павярховымі мураванымі дамамі ў стылі класіцызму і «мадэрн». На вуліцы былі размешчаны кальвінскі збор (пабудаваны ў 16 ст.), кляштар бенедыкцінак (1633 г.), перайменаваны ў 19 ст. у Праабражэнскі, домсядзіба В. М. Ваньковіча і інш. У 1900 г. адкрыта публічная бібліятэка імя А. С. Пушкіна. У Вялікую Айчынную вайну забудова вуліцы часткова разбурана, пасля вайны адноўлена.

Дом № 5. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад сіметрычнай кампазіцыі. Цэнтральная яго частка вылучана плоскімі пілястрамі, паміж якімі размешчаны па 2 на кожным паверсе аконныя праёмы (прамавугольныя на 1-м, лучковыя на 2-м), дэкарыраваныя прамымі сандрыкамі. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 7. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Прымыкае да дома № 5. Двухпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад несіметрычнай кампазіцыі, складаецца з двух частак з рознай вышынёй другога паверха. Кожная з частак сіметрычная. Плоскасць сцяны першай, якая прымыкае да дома № 5, члянёна пілястрамі, на другім паверсе з канелюрамі і іанічнымі капітэлямі, вокны першага паверха прамавугольныя ў простых ліштвах, другога — лучковыя, аздоблены ліштвамі, лучковымі сандрыкамі, ляпнінай, падаконнымі плітамі, па цэнтры — балкон з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Другая частка дома запіжаная, фасад вырашаны аналагічна першай частцы, але з іншымі формамі дэкаратыўнай апрацоўкі. Пад карнізам праходзіць пояс сухарыкаў. Выкарыстоўваецца як жылы.




79. *Мемарыяльная дошка М. У. Смольскаму.*



80. *Будынак Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага.*




80. *Будынак Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага. План.*

Дом № 4. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы, чатырохвугольны ў плане, накрыты двухсхільным пакатым дахам. Галоўны фасад мае строгае кампазіцыйнае і дэкаратыўнае вырашэнне. Паверхі падзелены карнізным поясам. Плоскасць сцяны рытмічна члянёна на 1-м паверсе прамавугольнымі аконнымі праёмамі, на 2-м — лучковымі з сандрыкамі. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 6. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы, накрыты пакатым двухсхільным дахам. Галоўны фасад гарызантальна расчлянёны карнізным поясам. Аконныя праёмы 1-га паверха прамавугольныя, 2-га — лучковыя. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 8. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане, накрыты пакатым двухсхільным дахам. Галоўны фасад расчлянёны па гарызанталі карнізным поясам. 1-ы паверх вырашаны строга. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Вокны 2-га паверха дэкарыраваны ліштвамі, сандрыкамі, руставанымі падаконнымі плітамі. У цэнтры 2-га паверха невя-




81. *Дом № 4 па вуліцы Інтэрнацыянальнай. План 1-га паверха.*



81. *Забудова вуліцы Інтэрнацыянальнай. Дамы № 18, 16, 14.*

лікі балкон з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Праём балконных дзвярэй аздоблены кручанымі калонкамі, фігурным сандрыкам з лепкай. У бакавой частцы будынка — арачны праезд. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 10. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты двухсхільным дахам. Аконныя праёмы на 1-м паверсе прамавугольныя, на 2-м — лучковыя. Плоскасць галоўнага фасада расчлянёна лапаткамі. У вуглавой частцы — арачны праезд. Выкарыстоўваецца як жылы.



81. *Дом № 6 па вуліцы Інтэрнацыянальнай. План.*

Дом № 12. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы, накрыты двухсхільным дахам, які ўтварае ў тарцы будынка шчыт. Мае несіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Галоўны фасад расчлянёны карнізнымі паясамі. Аконныя праёмы 1-га і 2-га паверхаў лучковыя без ліштваў, на 2-м паверсе — з прамымі сандрыкамі, на 3-м паверсе — паўцыркульныя. Несіметрычна па фасаду размешчаны невялікія балконы. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 14. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю фасада. Вырашаны аналагічна дому № 12 і з'яўляецца яго працягам. У цэнтры высокі лучковы арачны праезд, фланкіраваны руставанымі лапаткамі. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 16. Пабудаваны ў 1913 г. з цэглы як гасцініца. Трохпавярховы прамавугольны ў плане, накрыты пакатым двухсхільным дахам. Галоўны фасад мае сіметрычнае кампазіцыйнае вырашэнне. Асноўнымі акцэнтамі кампазіцыі з'яўляюцца 3 неглыбокія рызаліты, завершаныя атыкавымі франтонамі трохвугольнай формы з прарэзанымі ў іх паўкруглымі і авальнымі праёмамі. Вокны 1-га і 2-га паверхаў лучковыя, 3-га — прамавугольныя. Сіметрычна па фасаду размешчаны разнастайнай формы 3 балконы з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Выразнасць фасаду надае спалучэнне руставаных, шурпатых і гладкіх паверхняў, украпаванне керамічных і шкляных плітак. Помнік архітэктуры стылю «мадэрн». У будынку размешчаны адміністрацыйныя ўстановы.

Дом № 18. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты трохсхільным вальмавым дахам. Фасады вырашаны плоскасна. Паверхі падзелены карнізным поясам. Вокны прамавугольныя. Пад карнізам даху праходзіць пояс сухарыкаў. На другім паверсе размешчаны балкон з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Планіроўка мяшаная. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 9/17. На скрыжаванні з вул. Камсамольскай. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы, Г-падобны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Фасады вырашаны плоскасна і строга. Аконныя праёмы на 1-м паверсе прамавугольныя, на 2-м — лучковыя. Несіметрычна на фасадах размешчаны маленькія балконы. Цяпер у будынку культасветвучылішча.

Дом № 11. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты пакатым двухсхільным дахам. Галоўны і дваровы фасады вырашаны проста і строга. Плоскасці сцен рытмічна чляпёны лучковымі і больш высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Сцены завершаны карнізам з поясам буйных сухарыкаў. Планіроўка калідорная. Цяпер у будынку культасветвучылішча і кафэ.

Дом № 13а. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Фасады вырашаны плоскасна, прарэзаны невялікімі прамавугольнымі і лучковымі аконнымі праёмамі. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 13. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Чатырохпавярховы, прамавугольны ў плане будынак. Плоскасць галоўнага фасада падзелена па гарызанталі карнізам, рытмічна чляпёна прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Сцяна 1-га паверха апрацавана ру-



81. *Дамы № 8, 10 па вуліцы Інтэрнацыянальнай.*



81. *Дом № 11 па вуліцы Інтэрнацыянальнай.*

стам. Дваровы фасад вылучаны рызалітамі. Арачныя праёмы, якія аддзяляюць будынак ад суседніх пабудоў, перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 21/3, дом, у якім жыў Станіслаў Манюшка. На скрыжаванні вуліц Інтэрнацыянальнай і Энгельса. Пабудаваны ў 1797 г. з цэглы. Першапачаткова двухпавярховы, у пачатку 20 ст. надбудаваны трэці паверх. Г-падобны ў плане будынак мае несіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Галоўны фасад вырашаны плоскасна. Першы паверх аддзелены ад двух верхніх двума карнізнымі паясамі. Вокны прамавугольныя, на 2-м паверсе з простымі сандрыкамі і ліштвамі. Фасад, які выходзіць на вул. Інтэрнацыянальную, аздоблены 2 невялікімі балконамі з ажурнай агароджай на кансолях (чыгуннае ліццё). Дваровы фасад умацаваны 3 масіўнымі контрфорсамі. Размяшчэнне пакояў анфіладнае.

У гэтым доме ў 1830—31 гг. жыў польскі кампазітар, дырыжор і педагог, стваральнік нацыянальнай класічнай оперы, класік польскай вакальнай лірыкі С. Манюшка. Нарадзіўся С. Манюшка 5.5.1819 г. у былым фальварку Убель (Чэрвеньскі р-н) у дваранскай сям'і. Дзяцінства прайшло на ўлонні беларускай прыроды. У 1827 г. паехаў вучыцца ў Варшаву. Кожнае лета будучы кампазітар прыязджаў у родны Убель, слухаў беларускія народныя песні, мелодыі. У 1830 г. сям'я пераехала ў Мінск, жыла пэўны час у доме на рагу вуліц Валоцкай і Дамініканскай (цяпер рог вуліц Інтэрнацыянальнай і Энгельса). Тут наладжваліся музычныя вечары, на якіх прысутнічалі музыканты, артысты, што бывалі ў Мінску. Пазней (да 1835 г.) С. Манюшка жыў у каменным доме (не збярогся) на Верхнім рынку (цяпер раён пл. Свабоды). З 1830 г. вучыўся ў Мінскай гімназіі, кампазіцыяй займаўся пад кіраўніцтвам беларускага музыканта Д. Стафановіча (да 1837 г.). У 1837—40 гг. вучыўся ў Берліне. У 1840—58 гг. арганіст і дырыжор у Вільні, у 1858—72 гг. галоўны дырыжор опернага тэатра, з 1864 г. таксама прафесар Музычнага інстытута ў Варшаве. У 1838 г. выдадзены «Тры песні» С. Манюшкі на словы А. Міцкевіча. Стварэнне кампазітарам першых вадэвіляў, музычных камедый і камічных опер звязана з Беларуссю. У 1834 г. мінскімі аматарамі пастаўлена аперэта «Канторскія служачыя», у 1841 г. у Гродне і ў 1843 г. у Мінску паказана аперэта «Латэрэя». На лібрэта беларускага пісьменніка В. Дуніна-Марцінкевіча ў 1840-я гады напісаны аперэты «Рэкруцкі набор» (з К. Кжыжаноўскім; пастаўлена ў 1841 г., Мінск), «Спаборніцтва музыкаў», оперы «Чарадзейная вада» і «Ідылія» («Сялянка», з К. Кжыжаноўскім; пастаўлена ў 1852 г., Мінск). Апошняя, дзякуючы выкарыстанню ў лібрэта беларускай мовы (побач з польскай) і беларускага музычнага фальклору, мела вялікае значэнне для беларускай музычнай культуры. С. Манюшка — аўтар опер «Карманьёла» (1840 г.), «Ідэал» (1841 г.), «Галька» (1847 г., пастаўлена ў 1854 г., 2-я рэдакцыя пастаўлена ў 1859 г.; у 1856 г. пастаўлена ў Мінску, у 1975 г.— Дзяржаўным тэатрам оперы і балета БССР), «Сплаўшчык лесу» (1858 г.), «Графіня» (1859 г.), «Вербум нобіле» («Слова гонару», 1860 г.), «Страшны двор» (1865 г., у 1952 г. упершыню ў СССР пастаўлена Дзяржаўным тэатрам оперы і балета БССР у перакладзе М. Танка), «Парыя» (1869 г.), кантат «Мільда», «Ніёла», «Крумінэ», «Крымскія санеты» (на словы А. Міцкевіча), больш за 300 песень, сярод іх «К рацэ Нёман», «Вілія», «Свіцязянка», «Праха» і інш. Творы вызначаюцца нацыянальнай своеасаблівасцю музычнай мовы, яркімі характарыстыкамі персанажаў. На працягу ўсяго жыцця падтрымліваў сувязі з беларускімі музыкантамі, аказваў ім разнастайную падтрымку ў творчай дзейнасці, памагаў набыць музычную адукацыю, пісаў артыкулы пра сваіх суайчыннікаў, рэцэнзаваў іх працы, наладжваў канцэрты. С. Манюшка памёр 4.6.1872 г.



81. *Дом № 21/3 на скрыжаванні вуліц Інтэрнацыянальнай і Энгельса.*



81. *Дом № 23 па вуліцы Інтэрнацыянальнай.*




81. *Дом № 25 па вуліцы Інтэрнацыянальнай. План 1-га паверха.*

Дом № 23. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы, у плане выцягнуты прамавугольнік, накрыты двухсхільным дахам. Плоскасць галоўнага фасада падзелена па гарызанталі карнізам. Аконныя праёмы прамавугольныя, на 2-м паверсе апрацаваны ліштвамі і сандрыкамі. Несіметрычна на першым паверсе размешчаны лучковыя арачныя праезды з крыжовымі скляпеннямі. На другім паверсе два балконы з ажурнай агароджай. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 25. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Плоскасць галоўнага фасада расчлянёна прамавугольнымі аконнымі праёмамі без ліштваў. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 27. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы, складаны ў



81. *Дамы № 25, 27 па вуліцы Інтэрнацыянальнай.*




81. *Дом № 27 па вуліцы Інтэрнацыянальнай. План 1-га паверха.*

плане, накрыты пакатым двухсхільным дахам. Плоскасць галоўнага фасада падзелена карнізным поясам, члянёна прамавугольнымі аконнымі праёмамі без ліштваў. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 29. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы, прамавугольны ў плане. Мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Галоўны фасад вылучаны 3 неглыбокімі рызалітамі: больш шырокім цэнтральным і бакавымі. Рызаліты завершаны над развітым дахавым карнізам ступеньчатымі атыкамі. Вуглы бакавых рызалітаў апрацаваны рустам, цэнтральны — дэкарыраваны плоскімі пілястрамі са стылізаванымі іянічнымі капітэлямі. Буйна руставаная сцяна 1-га паверха прарэзана прамавугольнымі аконнымі праёмамі (у рызалітах — паўцыркульнымі), на 2-м паверсе вокны паўцыркульныя ў ліштвах (у цэнтральным рызаліце ліштвы аздоблены замкавым каменем), 3-і паверх члянёны прамавугольнымі вокнамі без ліштваў, у рызалітах — паўцыркульнымі вокнамі. У будынку размешчана дзяржаўная ўстанова.

Дом № 31. Пабудаваны ў канцы 18 — пачатку 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы з высокім цокальным паверхам пад двухсхільным дахам будынак, тарцы якога прыкрываюць трохвугольныя франтоны (тымпаны з лучковымі вокнамі ў паўцыркульных нішах). Галоўны сіметрычны па кампазіцыі фасад зрокава расчляпёны карнізам на 3 ярусы. Плоскасці сцен прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Другі ярус апрацаваны рустам, трэці завершаны антаблементам, які мае фрыз з невялікімі прамавугольнымі вокнамі і карнізам з сухарыкамі. Дваровы фасад афармлены галерэяй з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Да асноўнага аб'ёму прыбудаваны 2—1-павярховы Г-падобны ў плане аб'ём, накрыты двухсхільным дахам. Выкарыстоўваецца як жылы.

У гэтым доме размяшчалася першая ў горадзе публічная бібліятэка.

Пытанне аб адкрыцці ў Мінску публічнай бібліятэкі неаднаразова ўзнімалася прагрэсіўна настроенай інтэлігенцыяй. У 1842 г. была арганізавана падпіска, сабраны грошы і набыта некалькі соцень кніг. Мясцовыя ўлады адмовіліся выдзеліць памяшканне і сродкі для бібліятэкі. У 1899 г. грамадскасць Мінска звярнулася да генерал-губернатара з прашэннем аб адкрыцці ў азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння А. С. Пушкіна публічнай бібліятэкі яго імя. Пасля доўгіх зацяжак было дазволена спецыяльнай камісіі распрацаваць устаў бібліятэкі, які ў ліпені 1900 г. зацверджаны губернатарам на пасяджэнні гарадской думы. 25.12.1900 г. бібліятэка пачала сваю работу спачатку ў доме па вул. Захар'еўскай (цяпер Ленінскі праспект), потым пераведзена на вул. Хрышчэнскую, 31 (цяпер Інтэрнацыянальная). Бібліятэкай кіравала праўленне, якое выбіралі чытачы. На час адкрыцця было сабрана 1960 кніг і 1545 руб. для набыцця літаратуры. Бібліятэка ў асноўным папаўнялася за кошт ахвяраванняў і на



81. *Дом № 29 па вуліцы Інтэрнацыянальнай.*



81. *Дом № 31 па вуліцы Інтэрнацыянальнай.*

сродкі, якія атрымлівала ад чытачоў і ад правядзення дабрачынных мерапрыемстваў. Карыстанне паслугамі бібліятэкі было платным. Напярэдадні Рэвалюцыі 1905—07 гг. адыграла значную ролю ў прапагандзе рэвалюцыйных ідэй сярод працоўных. У кастрычніку 1905 г. у памяць ахвяр курлоўскага расстрэлу пры бібліятэцы быў арганізаваны пакой, у якім бальшавікі сабралі легальныя і нелегальныя марксісцкія выданні, сярод іх творы К. Маркса, Ф. Энгельса, У. Леніна. Атрымлівала першую легальную бальшавіцкую газету «Новая жизнь». З 1908 г. месца сходаў рэвалюцыянераў. У сакавіку 1909 г. на пашыраным пасяджэнні праўлення бібліятэкі ганаровым яе членам абраны Л. М. Талстой.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі бібліятэка стала народнай, карыстанне бясплатным. У 1938 г. пераўтворана ў абласную. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны налічвала 150 тыс. кніг, брашур, часопісаў. У час вайны разрабавана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пасля вызвалення Мінска будынак бібліятэкі адноўлены, з усіх канцоў краіны сюды ішлі пасылкі з кнігамі. У 1949 г.— 50 тыс. кніг, у 1959 г.— 170 тыс. кніг і 273 назвы газет і часопісаў. У лістападзе 1971 г. бібліятэка пераведзена ў новы будынак (вул. Гікалы) са спецыялізаванымі чытальнымі заламі на 800 месцаў.

Дом № 33. Пабудаваны ў канцы 18 — пачатку 19 ст. з цэглы. Прымыкае да дома № 31, утвараючы адзіную кампазіцыю. Двухпавярховы, асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, з прыбудовамі, выступамі, перападамі па вышыні. Фасады вырашаны плоскасна, расчлянёны па гарызанталі карнізам. Прамавугольныя аконныя праёмы размешчаны ў невялікіх нішах. Вуглы будынка апрацаваны прафіляванымі лапаткамі. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 33а, дом-сядзіба Ваньковічаў. Тут некаторы час жыў і працаваў беларускі жывапісец В. М. Ваньковіч (гл. артыкул № 253 «Сядзіба», вул. Парніковая). Пабудаваны ў канцы 18 ст. з драўляных брусоў на краі тэрасы над поплавам Свіслачы. Аднапавярховы будынак з мансардай, на мураваным цокалі. Перад ім быў парадны двор-курданёр з двума флігелямі па баках. З вул. Валоцкай (цяпер Інтэрнацыянальная) на падворак вяла мураваная брама. У 1840-я гады на месцы паўднёва-заходняга драўлянага флігеля быў узведзены мураваны. Асаблівую цікавасць па архітэктуры ўяўляў сабой паўночна-ўсходні флігель. Першы паверх яго быў мураваны, другі — з дрэва. Па цэнтры размяшчаўся пяцігранны мураваны эркер з вежападобным завяршэннем, якое з'яўлялася своеасаблівай дамінантай у сілуэце гістарычнага цэнтра Мінска, надавала строгаму ансамблю рамантычны характар. З усходу сядзібу абкружаў пладовы сад, які па схіле спускаўся да вул. Зыбіцкай (цяпер Гандлёвая) на свіслацкі поплаў. Такая архітэктурна-планіровачная кампазіцыя сядзібы праіснавала больш за сто гадоў, адлюстравана на планах Мінска 1797, 1800, 1917 гг., а таксама на акварэлі Я. Пешкі 1810 г.



81. *Дом № 33а (дом-сядзіба Ваньковічаў) па вул. Інтэрнацыянальнай. 1977 г.*

У выніку архітэктурна-археалагічных даследаванняў, праведзеных экспедыцыяй Інстытута гісторыі АН БССР і спецыялізаванага навукова-рэстаўрацыйнага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» Міністэрства культуры БССР, высветлена, што тэрыторыя, дзе знаходзіцца дом, пачала засяляцца з канца 16 ст. У 2-й палове 17 ст. тут быў узведзены мураваны будынак, перакрыты скляпеннямі (падвалы будынка знаходзяцца пад паўночнай часткай дома Ваньковічаў).

Сіметрычныя фасады дома былі расчлянёны пілястрамі. Галоўны і тыльны фасады вылучаны глыбокімі васьмікалоннымі порцікамі, карнізы якіх з'яўляліся паменшанай копіяй карніза, што ахопліваў увесь будынак, размяшчаліся адносна яго крыху ніжэй. Гэта дазваляе меркаваць, што пры праектаванні і будаўніцтве дома ўлічвалася ўспрыняцце яго з пэўных зрокавых кропак, з якіх назіралася сумяшчэнне іх ліній. Раўпазначнасць галоўнага і тыльнага фасадаў дома звязана з размяшчэннем пабудовы на краі тэрасы і, адпаведна, з неабходнасцю аднолькавага яе ўспрыняцця з вул. Валоцкай, так і з поплава Свіслачы, а таксама зарэчнай часткі горада.



81. *Дом № 31 па вуліцы Інтэрнацыянальнай. Дваровы фасад.*

Спачатку ў паўночнай частцы будынка былі 2 мураваныя сценкі. У 1-й палове 19 ст. частка паўночна-заходняй драўлянай сцяны была заменена на мураваную. Планіроўка калідорна-анфіладная. З калідора вузкая крутая лесвіца вяла на мансарду, дзе таксама былі жылыя памяшканні. Першапачатковa інтэр'еры былі аформлены ў традыцыйна класічных кантрастных і аднатонных колерах, у 1-й палове 19 ст.— жывапісам, замененым пазней эфектнымі шпалерамі. Атынкаваныя фасады фарбавалі спачатку ў зялёны колер, пазней у вохрысты, потым у белы і светла-шэры колеры. Выкананыя з дрэва элементы дэкору фарбавалі толькі ў белы колер.

У 2-й палове 19 ст. калідорна-анфіладная планіроўка была заменена на калідорную. На галоўным фасадзе замест аднаго ўваходу зроблены 2 новыя, размешчаныя асіметрычна. Дом унутранай перагародкай падзялілі на дзве часткі. У ходзе пераробак з боку галоўнага фасада часткова падняты цокаль, павешаны аканіцы, устаноўлены на кансолі ліхтар, вялікае паўцыркульнае акно на франтоне порціка перароблена ў прамавугольнае з двума авальнымі па баках. У 1920—30-я гады дом перароблены пад камунальна-жылы будынак, у 1950-я гады капітальна адрамантаваны.

Вынікі даследаванняў дома Ваньковічаў, аналіз архітэктурна-планіровачнай кампазіцыі сядзібы ў цэлым дазваляюць вызначыць комплекс як яркі прыклад сядзібнага будаўніцтва эпохі класіцызму, дзе ўлічана канкрэтнае ўспрыняцце будынка ў сістэме гарадской забудовы, зрокавыя эфекты і законы гарманічнага спалучэння фасадаў і плана. Уяўляў сабой унікальны прыклад перанясення сядзібы сельскага тыпу ў горад, удалае прыстасаванне яе да новых умоў.

Паводле праекта рэстаўрацыі дома Ваньковічаў, распрацаванага ў Спецыялізаваным навукова-рэстаўрацыйным аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» Міністэрства культуры БССР (аўтары І. Дорахава і А. Кандратаў), вядуцца работы па аднаўленню дома, дзе будзе размешчаны філіял Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.

Забудова вул. Інтэрнацыянальнай — частка гісторыка-архітэктурнай зоны Верхні горад, прыклад горадабудаўнічага мастацтва Беларусі 2-й паловы 18—19 ст.

*Літ.:* Кандратаў А., Дорахава І., Чарняўскі І. Дом Ваньковічаў у Мінску.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1985, № 3. *В. М. Баскова, А. М. Кулагін, А. Ю. Пятросава, А. А. Трусаў, І. М. Чарняўскі.*



81. *Дом № 33 па вуліцы Інтэрнацыянальнай. Выгляд з боку прыбудовы.*



85. *Сядзіба.*

**82. КІНАТЭАТР «ПЕРАМОГА»** (архіт.). Дом № 20. Пабудаваны ў 1947 г. з цэглы (архіт. І. Лангбард, М. Бакланаў). Пры будаўніцтве выкарыстаны рэшткі разбуранага ў Вялікую Айчынную вайну клуба харчавікоў (архіт. А. Бураў, 1929 г.).

Да прамавугольнага ў плане аб'ёму з 2 бакоў далучаны больш нізкія аб'ёмы, якія выступаюць за агульныя контуры збудавання. Цэнтральная частка галоўнага фасада прыўзнятая, вырашана ў выглядзе манументальнага чатырохкалоннага порціка, перад ёй высокі ганак. Бакавыя фасады расчлянёны лапаткамі, дэкарыраваны ляпнымі элементамі. Вокны прамавугольныя. Аснову кампазіцыі будынка складае глядзельная зала на 600 месцаў, злучаная агульным фае з малой лекцыйна-канцэртнай залай на 120 месцаў (прыстасавана для паказу кінафільмаў). У малой зале 2 рады квадратных калон, уздоўж сцен вестыбюля калоны карынфскага ордэра з развітым антаблементам, на які апіраюцца крыжападобныя скляпенні. У астатніх частках будынка столь плоская. У вестыбюлі скульптура У. І. Леніна.

У архітэктуры будынка, аздабленні фасадаў і інтэр'ераў выкарыстаны элементы класіцызму. *А. А. Міцянін.*




82. *Кінатэатр «Перамога».*

**вул. Казінца**

**83. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛУПІНОВІЧУ** Івану Сцяпанавічу (гіст.). На будынку Беларускага навукова-даследчага інстытута глебазнаўства і аграхіміі (дом № 62). Устаноўлена ў 1980 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага вучонага ў галіне глебазнаўства і аграхіміі, акадэміка АН БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР І. С. Лупіновіча. Гл. таксама артыкул № 602 «Магіла Лупіновіча Івана Сцяпанавіча».

**84. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля прахадной вытворчага аб'яднання «Інтэграл». Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1973 г.

**85. СЯДЗІБА** (архіт.). Дом № 76. Размешчаны на ўзгорку. Уключае жылы дом і парк пейзажнага тыпу (на схілах узгорка). Прамавугольны партэр перад домам абсаджаны радамі ліп і таполяў.

Жылы дом. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Рэстаўрыраваны ў 1979—80 гг. (архіт. Атас). Аднапавярховы будынак мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, завершаную васьміграннай вежай-бельведэрам з балконам і зубчастым парапетам. Накрыты складаным дахам з прамавугольнымі атыкамі і трохвугольнымі франтонамі на тарцах. Фасады крапаваны рустам, прафіляванымі паяскамі, нішамі, карнізам з сухарыкамі, фрызам з разеткамі, філёнгамі. Арачныя аконныя і дзвярныя праёмы дэкарыраваны лапаткамі, імпастамі, замковым каменем. Асноўныя ўваходы вылучаны навісямі на фігурных кранштэйнах і калонках, тэрасамі. У дэкаратыўнай апрацоўцы выкарыстана фактурная тынкоўка. Розныя па велічыні памяшканні будынка згрупаваны вакол цэнтральнага квадратнага ў плане вестыбюля і маюць анфіладную ўзаемасувязь. У невялікім тамбуры, які прымыкае да вестыбюля, размешчана лесвіца на бельведэр. Аздоба інтэр'ера не захавалася.

Сядзіба — помнік архітэктуры неакласіцызму. *А. М. Кулагін.*

**вул. Казлова**

**86. ПАЛАЦ МАСТАЦТВА** (архіт.). Дом № 3. Пабудаваны ў 1973 г. (архіт. С. Мусінскі, Н. Краўкова). Прызначаны для правядзення перыядычных выставак — персанальных, рэспубліканскіх, міжрэспубліканскіх, усесаюзных і зарубежнага мастацтва. Прапагандуе выяўленчае мастацтва, арганізоўвае экскурсіі, кансультацыі, лекцыі, сустрэчы з мастакамі.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Пілоны падтрымліваюць галоўны верхні аб'ём, прарэзаны жалезабетоннымі рэбрамі і падзелены на 2 часткі: ніжняя абліцавана керамічнай пліткай, верхняя мае стужачнае зашкленне і завершана вы-



85. *Жылы дом. Вежа-бельведэр.*

сунутым карнізам. Галоўны ўваход размешчаны асіметрычна, вылучаны казырком і тэрасай з лесвіцай. У аздобе інтэр'ера выкарыстаны натуральны камень, дрэва, дэкаратыўная тынкоўка. Палац мае тры выставачныя залы (жывапісу, графікі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва), вестыбюль з антрэсолямі (выкарыстоўваецца для экспазіцый), канферэнц-залу, кафэ-бар. Дадатковай экспазіцыйнай плошчай для скульптуры і керамікі ў летні час з'яўляецца невялікі ўнутраны дворык з дэкаратыўнымі вадаёмамі і малымі архітэктурнымі формамі.

Палац мастацтва — твор сучаснай савецкай архітэктуры. *І. С. Мельнік.*

**87. ЦАРКВА АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА** (архіт., гіст.). На Вайсковых могілках. Пабудавана ў 1898 г. з цэглы ў гонар перамогі рускіх войск у руска-турэцкай вайне 1877—78 гг.

Уздым нацыянальна-вызваленчага руху на Балканах і абвастрэнне міжнародных супярэчнасцей, паўстанні 1875—78 гг. супраць турэцкага прыгнёту ў Босніі і Герцагавіне выклікалі ў Расіі грамадскі рух у падтрымку барацьбы братніх славянскіх народаў. Царскі ўрад, каб умацаваць свой уплыў на Балканах, выступіў у падтрымку паўстанцаў і пасля таго, як султан Турцыі не згадзіўся прыняць праект рэформ для балканскіх славян, абвясціў ёй 12.4.1877 г. вайну.

Беларусы разам з іншымі народамі імкнуліся памагчы балгарскаму народу ў яго справядлівай барацьбе. У Мінску, Віцебску, Магілёве, Гродне, Слуцку і інш. гарадах збіраліся добраахвотнікі, каб рушыць на Балканы. Па ўсёй Беларусі прайшоў збор ахвяраванняў. Да снежня 1877 г. жыхары Віцебскай губ. сабралі 72 тыс. руб., Мінскай губ.— толькі за 2 месяцы 1876 г. больш за 14 тыс. руб. Асноўная колькасць грошай паступала ад сялян і гарадской беднаты. У час вайны 54-ы пяхотны Мінскі полк адзін з першых фарсіраваў Дунай, вызваліў г. Свіштоў, вызначыўся пад Шыпкай і Шыпкай-Шэйнава. Перадавы атрад рускай арміі на Балканах узначальваў таленавіты палкаводзец, ураджэнец Беларусі генерал І. У. Гурка. Асабліва жорсткія баі разгарнуліся за Плеўну, якая мела важнае стратэгічнае значэнне. Баі працягваліся амаль пяць месяцаў. Пасля трох штурмаў руская армія асадзіла Плеўну. 28.11.1877 г. Асман-паша і 43-тысячны гарнізон капітуляваў. Перамога пад Плеўнай вырашыла зыход руска-турэцкай вайны. 19.2.1878 г. быў падпісаны прэлімінарны Сан-Стэфанскі мірны дагавор. Найважнейшы вынік руска-турэцкай вайны 1877—78 гг.— вызваленне Балгарыі ад турэцкага панавання, стварэнне балгар-




86. *Палац мастацтва.*



85. *Жылы дом. Фрагмент дэкору галоўнага фасада.*




85. *Жылы дом. План.*




83. *Мемарыяльная дошка І. С. Лупіновічу.*



87. *Царква Аляксандра Неўскага.*




87. *Царква Аляксандра Неўскага. План.*

скай нацыянальнай дзяржаўнасці. Дзеля вызвалення Балгарыі загінулі 200 тыс. воінаў рускай арміі.

Царква — мураваны крыжова-купальны трохнефавы адпаапсідны чатырохстаўповы храм-помнік. У цэнтры сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі ўзвышаецца масіўны купал на васьміграпным светлавым барабане, завершаны цыбулепадобпай галоўкай. Меншыя дэкаратыўныя купалы сіметрычна размешчаны над дахамі бакавых нефаў. Дамінантай кампазіцыі з'яўляецца высокая 2-ярусная званіца з шатровым пакрыццём, размешчаная над бабінцам. Багатую пластыку фасадам надаюць шматлікія аркатурныя паясы, складаныя дэкаратыўныя арачкі над аконнымі і дзвярнымі праёмамі, разеткі, арнаментальны фрыз, складанапрафіляваны карніз, калонкі. Дэкаратыўныя элементы вылучаны белым колерам.

Алтарная частка аддзелена ад асноўнага памяшкання, вышэй за яго на 3 паўкруглага абрысу прыступкі. Цэнтральны неф адкрываецца ў бакавыя арачнымі праёмамі. У бабінцы пры ўваходзе ў цэнтральны неф — мемарыяльныя дошкі з імёнамі 118 воінаў-беларусаў 30-й артылерыйскай брыгады і 119-га Каломенскага палка, якія гераічна загінулі пад Плеўнай.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

*Літ.:* Мельцэр Д. Б. Балгарскім братам.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1974, № 3.

*В. Б. Караткевіч, А. Ю. Пятросава.*

**пл. Калініна**

**88. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (маст.). Пастаўлены ў 1978 г. (скульпт. І. Глебаў, В. Палійчук, архіт. Ю. Грыгор'еў, А. Няўзораў; бронза, граніт; вышыня пастамента 5 м, фігуры 4,5 м). Арыентаваны ў бок Ленінскага праспекта, з'яўляецца ідэйна-мастацкім цэнтрам плошчы.

Бронзавая фігура дзеяча Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, Героя Сацыялістычнай Працы М. І. Калініна ўстаноўлена на высокім пастаменце прамавугольнай формы. Жэст рукі, нешырокі крок, складкі зашпіленага паліто надаюць пастаці энергію і дынамічнасць. Стрыманая пластыка адпавядае велічнаму і ўрачыстаму ладу помніка. Пастамент і ступеньчаты стылабат абліцаваны паліраваным чырвоным гранітам.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**вул. Каліноўскага**

**89. КІНАТЭАТР «ВІЛЬНЮС»** (архіт., маст.). Дом № 55. Пабудаваны ў 1975 г. з цэглы з выкарыстаннем зборнага і маналітнага жалезабетону (архіт. Э. Левіна, Н. Краўкова, І. Сітнікава). Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак зблакіраваны двухпавярховым пераходам (2-і паверх займае танцавальная зала) з пабудаваным тут раней гандлёвым цэнтрам «Вільнюс». У аснове архітэктурнай кампазіцыі будынка кінатэатра — кантраст глухіх паверхняў тарцовых сцен і вялікага вітража на галоўным фасадзе. З правага вугла на галоўным фасадзе выступае закруглены аб'ём лесвічнай клеткі. Фасады апрацаваны дэкаратыўнай тынкоўкай пад шэры граніт і керамічнай пліткай тэракотавага колеру, што надае будынку своеасаблівы каларыт і святочнасць. Шырокае рабрыстае зашкленне га-



89. *Кінатэатр «Вільнюс».*

лоўнага фасада стварае светацепевыя эфекты. Перад уваходам — адкрытыя тэрасы з шырокімі прыступкамі і дэкаратыўнымі кветнікамі.

Унутраная планіроўка простая. Усе службовыя, дапаможныя і адміністрацыйныя памяшканні сканцэнтраваны на 1-м паверсе пад амфітэатрам глядзельнай залы (776 месцаў). У аздабленні інтэр'ераў выкарыстаны ружовы ракушачнік, дэкаратыўная тынкоўка, перфарыраваная плітка. Уваход у глядзельную залу ажыццяўляецца з фае 2-га паверха, на тарцовай сцяне якога выканаты роспіс ў тэхніцы энкаўстыкі на тэму «Мастацтва і культура Літвы» (маст. З. Літвінава, С. Каткова). У кампазіцыі роспісу аб'яднаны гісторыя і сучаснасць: старыя вуліцы Вільнюса і новыя мікрараёны, выявы персанажаў з канкрэтнымі партрэтнымі характарыстыкамі: заснавальнік класічнай літоўскай літаратуры Крыстапас Данелайціс, пісьменнік і палітычны дзеяч Пятрас Цвірка, спявак, народны артыст СССР Кіпрас Пятраўскас, скульптар Юозас Мікенас, мастак Сільвестрас Джаўкстас. Вобразнай дамінантай размалёўкі з'яўляецца размешчаная ў цэнтры фігура жанчыны, якая ўвасабляе Літву. Кампазіцыя выканана ў блакітна-зялёных і залаціста-жоўтых танах.

Будынак кінатэатра «Вільнюс» уваходзіць у аднайменны гандлёва-грамадскі цэнтр, комплекс уключае 4 аб'ёмы, дзе размешчаны прадпрыемствы бытавога абслугоўвання, грамадскага харчавання, гандлю, бібліятэка, спартыўная зала, аптэка, ашчадная каса і інш.

*Л. Г. Лапуэвіч, А. А. Міцянін.*

**праезд Кальварыйскі**

**90. БРАМА** (архіт.). На Кальварыйскіх могілках. Пабудавана ў 1830 г. з цэглы. Уяўляе сабою сцяну з трыма паўцыркульнымі праёмамі: вялікім цэнтральным і сіметрычна размешчанымі меншымі па памерах бакавымі. Праёмы закрыты жалезнымі дзвярамі мастацкай коўкі. Карнізам плоскасць брамы падзелена на 2 ярусы. Паверхня ніжняга яруса руставаная, на плоскасці сцяны верхняга яруса, над бакавымі праёмамі,— ляпная геральдыка. Усё збудаванне завершана пакатым двухсхільным пакрыццём, над якім па перыметры праходзіць магутны карніз з сухарыкамі.

Брама — помнік архітэктуры класіцыстычных форм. *А. Ю. Пятросава.*

**91. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры Кальварыйскіх могілак. Пабудаваны ў 1839 г. з бутавага каменю на месцы драўлянага. Адрамантаваны ў 1899 г. Аднанефавы храм з слаба выяўленым трансептам накрыты высокім двухсхільным дахам. Над нартэксам узвышаецца масіўная квадратная ў плане вежа пад двухсхільным шатром. Уваход вырашаны ў выглядзе вялікага стральчатага партала, над якім прарэзана акно спічастага абрысу. Вежа падзелена карнізам з сухарыкамі на 2 часткі. У верхняй частцы 2 вузкія спараныя спічастыя аконныя праёмы і круглая люкарна над імі. Алтарная частка храма, размешчаная з паўночнага захаду, вылучана невысокай прамавугольнай апсідай пад двухсхільным дахам. Аналагічна вырашаны трансепт, сцены якога аздоблены вялікімі ляпнымі крыжамі. Плоскасці сцен фасадаў дэкарыраваны аркатурнымі паясамі, стральчатыя вокны з ліштвамі.



88. *Помнік М. І. Калініну.*

Унутраная прастора храма перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках, якія апіраюцца на квадратныя ў сячэнні калоны з простымі капітэлямі. Над вокнамі ў цыліндры скляпення вылучаны распалубкі.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. Ю. Пятросава.*

**вул. Камсамольская**

**92. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ КАМСАМОЛЬСКАЙ** (архіт.). Размешчана ў заходняй частцы Верхняга горада, ад вул. Няміга да вул. Кірава. Мае пра-



90. *Брама.*

цягласць 792 м. Узнікла ў 16 ст. Была кароткай крывалінейнай вулачкай. У 18 ст. называлася Феліцыянскай (ад назвы капліцы касцёла езуітаў). У пачатку 19 ст. у выніку ажыццяўлення рэгулярных планаў была выпрастана і ў 2-й палове 19 ст. называлася Богаяўленскай. Пазней перайменавана ў Багадзельную. Сучасную назву атрымала ў 1922 г. Перакрыжоўваецца з вул. Рэвалюцыйнай, Інтэрнацыянальнай, Ленінскім праспектам і вул. К. Маркса. Адрэзак ад вул. Няміга да перакрыжавання з вул. Інтэрнацыянальнай уваходзіць у ахоўную зону помнікаў архітэктуры. На левым баку нумарацыі дамоў захаваўся ансамбль будынкаў 19 ст.



91. *Касцёл. Галоўны фасад.*

Дом № 5. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак з неглыбокім рызалітам у дваровай частцы. Накрыты двухсхільным дахам. Сіметрыя кампазіцыі галоўнага фасада парушана арачным праездам у вуглавой частцы. Плоскія сцены без дэкору прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Тарцы будынка завершаны трохвугольнымі шчытамі. Выкарыстоўваецца як жылы.

Помнік грамадзянскай архітэктуры.

Дом № 7. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з неглыбокім рызалітам у дваровай частцы. Накрыты пакатым двухсхільным дахам. Галоўны фасад несіметрычны, па вуглах крапаваны плоскімі пілястрамі, на 2-м паверсе чляцёны вялікімі прамавугольнымі вокнамі з ліштвамі. У трохвугольным шчыце тарцовай часткі будынка сегментная люкарна. Цяпер тут размешчаны магазін.

Помнік эклектычнай архітэктуры з рысамі класіцызму.

Дом № 9/16. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Аднапавярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Фасады вырашаны строга, пазбаўлены дэкору. Па вуглах сцены ўмацаваны плоскімі лапаткамі. Аконныя праёмы прамавугольныя. У будынку размешчана грамадская ўстанова.

Дом № 11/7. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы будынак трохчасткавай асіметрычнай кампазіцыі. Складаецца з трох рознавысокіх пабудоў, якія шчыльна прымыкаюць адна да адной.

Паверхня больш высокай часткі сцяны расчлянёна масіўнымі карнізнымі паясамі. На 2-м паверсе прамавугольныя вокны ў ліштвах з замкавым каменем і падваконнымі плітамі, на 3-м у прасценках паміж вокнамі размешчаны дэкаратыўныя разеткі. Балконы маюць ажурныя агароджы. Уваход у будынак размешчаны несіметрычна, яго аздабляе казырок на ажурных кансолях з франтонам-фрызам (чыгуннае ліццё). Паніжаныя часткі дома больш строгія ў архітэктурным дэкоры. Акцэнтам фасада




91. *Касцёл. План.*




92. *Дом № 5 па вуліцы Камсамольскай.*



92. *Дом № 7 па вуліцы Камсамольскай.*



92. *Жылы дом № 11/7 па вуліцы Камсамольскай.*

з'яўляюцца балконныя праёмы паўцыркульнага абрысу на 2-м паверсе, абрамленыя калонкамі з капітэлямі. Капітэлі злучаны накладнымі арачнымі карнізамі. Цяпер у будынку размешчаны дзяржаўныя ўстановы.

Помнік эклектычнай архітэктуры з рысамі ампіру і класіцызму.

Дом № 13. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы як гасцініца. Трохпавярховы з паўпадвалам прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад строга сіметрычны. Яго цэнтральная частка завершана плоскім трохвугольным франтонам. Пад карнізам даха праходзіць фрыз з геаметрычным арнаментам. Плоскасць сцяны (за выключэннем 1-га паверха) прарэзана лучковымі вокнамі ў ліштвах, якія аб'яднаны нішамі. Балконы маюць ажурную агароджу (чыгуннае ліццё). Цяпер у будынку размешчаны дзяржаўныя ўстановы.

Помнік архітэктуры эклектызму з элементамі класіцызму.



92. *Дом № 9/16 па вуліцы Камсамольскай.*



92. *Дом № 13 па вуліцы Камсамольскай.*



92. *Дом № 13 па вуліцы Камсамольскай. План.*



92. *Дом № 6 па вуліцы Камсамольскай.*




92. *Дом № 6 па вуліцы Камсамольскай. План 1-га паверха.*

Дом № 15. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы, амаль квадратны ў плане будынак, з мансардай. Паверхі падзелены карнізным поясам. Прамавугольныя вокны на 2-м паверсе дэкарыраваны прамымі сандрыкамі. Двухсхільны дах ўтварае ў тарцовай частцы трохвугольны франтон з прамавугольным аконным праёмам і паўкруглай люкарнай. На 2-і паверх і мансарду вядзе вонкавая двухмаршавая лесвіца. Выкарыстоўваецца як жылы.

Помнік архітэктуры эклектызму з выкарыстаннем элементаў стыляў класіцызму і ампір.

Дом № 6. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы як жылы, перабудаваны ў 19 ст. Цяпер тут размешчаны рамонтна-будаўнічая ўстанова і майстэрня.

Трохпавярховы будынак складанай канфігурацыі ў плане, накрыты сістэмай аднасхільных дахаў. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Цэнтральная частка фасада вылучана невысокім атыкам лучковага абрысу з люкарнай. Паверхня сцяны члянёна па гарызанталі: паміж 1-м і 2-м паверхамі праходзіць пояс русту, па-



93. *Помнік Ф. Э. Дзяржынскаму.*

між 2-м і 3-м — карнізны пояс з сухарыкамі. Плоскасць сцяны 2-га паверха акцэнтавана плоскімі пілястрамі, паміж якімі размешчаны прамавугольныя вокны з карнізамі. Багата дэкарыраваны галоўны фасад кантрастуе з плоскімі, пазбаўленымі дэкору фасадамі тарцовых сцен.

Помнік грамадзянскай архітэктуры з элементамі класіцызму.

Забудова вуліцы Камсамольскай — прыклад гарадской грамадзянскай архітэктуры. У афармленні будынкаў выкарыстаны элементы стыляў класіцызм і ампір. *А. Ю. Пятросава.*

**93. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (маст.). Бульвар на скрыжаванні вул. Камсамольскай і Ленінскага праспекта. Устаноўлены ў 1955 г. (скульпт. З. Азгур, архіт. В. Волчак; граніт, бронза; вышыня бюста 1,5 м, пастамента 2,5 м).

На абліцаваным чорным паліраваным гранітам пастаменце ў форме ўсечанай піраміды — пагрудны бюст Ф. Э. Дзяржынскага. Партрэт дакладна перадае рысы твару рыцара рэвалюцыі, яго непахісную волю. На цокалі бронзавы вянок.

### Камунальная набярэжная

**94. ЗАБУДОВА КАМУНАЛЬНАЙ НАБЯРЭЖНАЙ** (архіт.). Размешчана ў заходняй частцы гісторыка-архітэктурнай зоны Троіцкае прадмесце. Складаецца з некалькіх дамоў, якія ўтвараюць адзіны ансамбль. Дамы рэканструяваны ў 1980—85 гг. (архіт. С. Багласаў, Л. Левін, Ю. Градаў).

Дом № 6. На перакрыжаванні вуліц Старавіленскай і Камунальнай набярэжнай. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы будынак, асноўны аб'ём якога Г-падобны ў плане, пакрыты двухсхільным дахам. Дах фарміруюць у тарцах трохвугольныя франтоны. Галоўны фасад вырашаны плоскасна, паверхня сцяны прарэзана прамавугольнымі вокнамі, якія на 1-м паверсе маюць акапіцы. На 1-м паверсе размешчана кафэ.

Дом № 6а. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты аднасхільным дахам. Прамавугольныя аконныя праёмы на галоўным фасадзе аздоблены атынкаванымі ліштвамі. Цяпер тут размешчана кафэ.

Дом № 6б. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты высокім двухсхільным дахам. Плоскасць сцен галоўнага фасада раскрапавана 3 лапаткамі (2 з бакоў і 1 пасярэдзіне), прарэзана прамавугольнымі вокнамі ў ліштвах. Цяпер у доме майстэрня аб'яднання «Белрэстаўрацыя».

Дом № 4а. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Фасады вырашаны плоскасна, амаль без дэкору. Уваходная частка аздоблена невялікім казырком. Цяпер у доме размешчаны букіністычны магазін.

Забудова Камунальнай набярэжнай — састаўная частка гісторыка-архітэктурнай зоны Троіцкае прадмесце. *А. Ю. Пятросава.*

**95. КУЛЬТУРНЫ ПЛАСТ ТРОІЦКАГА ПРАДМЕСЦЯ** (археал.). Выяўлены ў час археалагічных даследаванняў 1976, 1977, 1979, 1982 гг. на вуліцах Камунальнай набярэжнай, Старавіленскай, Горкага і Я. Купалы (археолагі В. Е. Собаль, А. А. Трусаў, З. С. Пазняк). Шэрага, цёмна-шэрага, месцамі цёмна-карычневага колеру з рэшткамі трэсак, галля, глеістага пяску і жвіру. На вул. Камунальнай набярэжнай, побач з р. Свіслач, таўшчынёй 4—4,5 м. У напрамку тэатра оперы і балета таўшчыня пласта памяншаецца да 1,5—2 м, на тэрыторыі 2-й клінічнай бальніцы, на вуліцах Стараслабодскай і Чычэрына вагаецца ад 0,6 да 2 м. У час раскопак 1976, 1977 гг. на вуліцах Камунальнай набярэжнай, Старавіленскай і Горкага (тэрыторыя бальніцы) зной-



94. *Троіцкае прадмесце ў панараме забудовы горада.*





94. *Гісторыка-архітэктурная зона Троіцкае прадмесце. План-схема 1987 г.*



94. *Забудова Камунальнай набярэжнай.*



95. *Міскападобная кафля 16 ст. з раскопак Троіцкага прадмесця.*



95. *Геральдычная кафля пачатку 17 ст. з раскопак Троіцкага прадмесця.*



94. *Забудова Камунальнай набярэжнай.*

дзена кераміка 12—13 стагоддзяў (відаць, тут уздоўж былой Барысаўскай вуліцы знаходзіўся адзін з пасадаў). Шмат знаходак 14—18 стагоддзяў: кафля геральдычная, міскападобная з круглым вусцем, каробчатая, сярод якой ёсць бракаваныя экземпляры, што сведчыць аб мясцовай вытворчасці яе ў 16—17 стагоддзях. Знойдзены міскі, талеркі, гаршкі, збаны, керамічныя скарбонкі, падсвечнікі, сальніцы, курыльныя люлькі, а таксама фрагменты рэйнскай керамікі, якая ў 17 ст. завозілася на Беларусь з Германіі, жаночы абутак 18 ст. з драўлянымі абцасамі і мужчынскі з абцасамі, набранымі з скураных пласцінак. Сярод знойдзеных шкляных вырабаў вылу-





94. *Забудова Камунальнай набярэжнай. Галоўны фасад ансамбля і план 1-га паверха.*

чаюцца кварты з клеймамі на плечуку і манаклі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Собаль В. Е. Культурны пласт Мінска.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1982, № 4; Угрыновіч У., Собаль В. Сувеніры стагоддзяў.— Мастацтва Беларусі, 1984, № 10. *В. Е. Собаль.*

**вул. Камуністычная**

**96. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК** (архіт.). Дом № 1. Пабудаваны ў 1945—46 гг. з цэглы (архіт. В. Гусеў) на месцы разбуранага ў Вялікую Айчынную вайну шпіталя.

Трохпавярховы з паўпадвальным паверхам Е-падобны ў плане будынак з дваровым курданёрам. Галоўны фасад з шырокім рызалітам арыентаваны на вул. Камуністычную, мае трохчасткавую сіметрычную кампазіцыю. Цэнтральная частка рызаліта з уваходам вылучана васьмікалонным порцікам карынфскага ордэра, бакавыя часткі апрацаваны пілястрамі. Паўпадвальны і 1-ы паверхі руставаныя. Дэкор верхніх паверхаў абмежаваны ліштвамі аконных праёмаў, узбагачанымі балясамі. Дэталі дэкору фасадаў вылучаны белым колерам на фоне жоўта-вохрыстых сцен. Пануючую ролю ў аб'ёмнай прасторавай кампазіцыі будынка адыгрывае бакавы паўночны фасад, арыентаваны ў бок Ленінскага праспекта. У яго трохчасткавай кампазіцыі з глухімі бакавымі рызалітамі, упрыгожанымі геральдычнымі барэльефамі, вылучаецца вялікі дзесяцікалонны порцік карынфскага ордэра.

Унутраная планіроўка будынка калідорная. Двухсветлавыя вестыбюлі, фае, парадныя памяшканні ўпрыгожаны калонамі, ляпнымі дэталямі, барэльефамі, мастацкай размалёўкай і манументальнай скульптурай. Вялікая зала пасяджэнняў аформлена буйнымі пазалочанымі барэльефнымі пано.

Адміністрацыйны будынак — твор савецкай архітэктуры, вырашаны ў стылізаваных формах класіцызму.

*Літ.:* Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии.— Мн., 1957; Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954. *У. В. Алісейчык.*

**вул. Караля**

**97. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВОРАНАВЫМ** Міхаілу Паўлавічу і Міхаілу Міхайлавічу (гіст.). На доме № 4. Устаноўлена ў 1979 г. (абноўлена ў 1987 г.; архіт. Б. Сідарэнка; сілумін) на будынку, што знаходзіцца на месцы дома, у якім жылі актыўныя ўдзельнікі Мінскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну М. П. і М. М. Воранавы.

У час акупацыі Мінска нямецка-фашысцкімі захопнікамі Міхаіл Паўлавіч працаваў майстрам цэха ў Доме друку, яго сын Міхаіл там жа —




97. *Мемарыяльная дошка М. П. і М. М. Воранавым.*

электраманцёрам. Мелі непасрэдную сувязь з Мінскім падпольным гаркомам і Варашылаўскім падпольным райкомам КП(б)Б. Удзельнічалі ў выпуску падпольнай газеты «Звязда» — органа Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. На іх кватэры ў пачатку 1942 г. была створана падпольная друкарня. Матэрыялы для першага нумара газеты Воранавы тайна пранеслі ў друкарню акупацыйных улад, дзе былі набраны, а потым надрукаваны (май 1942 г.) на кватэры Воранавых. Удзельнічалі ў друкаванні і распаўсюджванні 2—4-га нумароў «Звязды», антыфашысцкіх лістовак, рабілі для падпольшчыкаў дакументы, харчовыя карткі. 9.10.1942 г. М. П. і М. М. Воранавы былі арыштаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі і закатаваны.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Новиков И. Г. Минский фронт. Кн. 1.— Мн., 1977; яго ж. Бессмертие Минска.— Мн., 1977; Лазебников В. С., Поссе В. С. Памятники коммунистического подполья в Белоруссии.— Мн., 1975; Петраченко Д. Н. Именами героев.— Мн., 1978; Герои подполья. В. 1.—4 изд.— М., 1972; В непокоренном Минске.— Мн., 1987. *Л. А. Каліціна.*

**98. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ХАРУЖАЙ** Веры Захараўне (гіст.). На будынку сярэдняй школы рабочай моладзі (дом № 7). Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля ў Віцебску ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза В. З. Харужай, якая ў 1922—24 гг. працавала выхавальніцай Мінскага Дома юнацтва, што размяшчаўся ў гэтым будынку. У школе адкрыты музей, прысвечаны В. З. Харужай.

**вул. Караткевіча**

**99. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У скверы, каля будынка паліклінікі аэрапорта. Скульптура У. І. Лепіна ўстаноўлена ў 1952 г.

**вул. Кастрычніцкая**

**100. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ КАСТРЫЧНІЦКАЙ** (гіст., архіт.). Былая Ніжняя Ляхаўка. У 16 ст. на паўднёвай ускраіне горада знаходзілася в. Ляхава Лука, на месцы якой у 18 ст. была Ляхаўская Слабада (Ляхаўка). У канцы 19 ст. у гэтым прадмесці пачаў фарміравацца прамысловы раён горада, што было абумоўлена зручным размяшчэннем слабады на беразе р. Свіслачы і паблізу чыгункі. Да канца 19 ст. узведзены гарбарныя майстэрні, дрожджава-патачны і вінакурны заводы, у пачатку 20 ст.— металаапрацоўчы завод. Цяпер на вул. Кастрычніцкай знаходзяцца будынкі былых гарбарнага (дом № 19) і вінакурнага (№ 15), дрожджавага (№ 14) і металаапрацоўчага (№ 16) заводаў. Яны захавалі першапачатковае архітэктурнае аблічча.

Дом № 14, дрожджавы завод (сучасны дрожджавы камбінат). Першапачаткова выпускаў дрожджы і спірт. У 1912 г. дабудаваны і пераўтвораны ў дрожджава-патачны. Рэканструяваны ў 1950-я гады. З 1976 г.— дрожджавы камбінат. Галоўны корпус пабудаваны ў 1891 г. з цэглы. Размешчаны з водступам ад лініі забудовы. Уяўляе сабой чатырохпавярховы будынак, вырашаны ў выглядзе вежы. Да яго далучаны 1—2—3-павярховыя карпусы, якія разам утвараюць складаную ступеньчатую кампазіцыю. У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі завода нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 3 удзельнікаў камуністычнага падполля (гл. артыкул № 101 «Мемарыяльная дошка падпольшчыкам»).

Дом № 16, металаапрацоўчы завод (сучасны станкабудаўнічы завод імя Кастрычніцкай рэвалюцыі). Заснаваны ў 1907 г. на базе майстэрні па рамонту сельскагаспадарча-




98. *Мемарыяльная дошка В. З. Харужай.*

га інвентару як завод «Гігант», з 1912 г.— завод «Энергія». Да рэвалюцыі на прадпрыемстве выраблялі дробныя дэталі, рамантавалі сельскагаспадарчыя машыны і воданапорнае абсталяванне. Рабочыя завода ўдзельнічалі ў рэвалюцыйным руху. У Грамадзянскую вайну прадпрыемства было разбурана. Адноўлена ў 1921 г. Тут выраблялі плугі, бароны, сячкарні і інш. У 1927 г. выраблена першая на Беларусі партыя такарных станкоў, пачалося асваенне вертыкальна-свідравальных. У 1929 г. завод узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР. У 1930 г. прадпрыемству прысвоена імя К. Я. Варашылава. 7.9.1933 г. завод наведаў М. І. Калінін. У 1934 г. тут быў створаны двухстоечны падоўжна-стругальны станок, у 1938 г.— доследны ўзор радыяльна-свідравальнага станка. У Вялікую Айчынную вайну на заводзе дзейнічалі групы Мінскага камуністычнага падполля (гл. артыкул № 102 «Мемарыяльная дошка падпольшчыкам»).

За пасляваенны час прадпрыемства значна расшырана, стала адным з буйнейшых на Беларусі. У 1966 г. пабудаваны інжынерны корпус і цэх чарнавой апрацоўкі базавых дэталей, у 1967 г.— корпус № 1 (заводакіраўніцтва і блок вытворчых цэхаў). З 1970 г. працуе тэрмагальванічны цэх, у 1976 г. пабудаваны корпус № 4 (блок вытворчых цэхаў).

У 1961 г. заводу прысвоена імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. За высокія вытворчыя дасягненні ў 1966 г. узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, перадавіку прадпрыемства слесару-лякальшчыку М. А. Каменскіх прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.

З 1976 г. завод імя Кастрычніцкай рэвалюцыі — галаўное прадпрыемства Мінскага станкабудаўнічага вытворчага аб'яднання. Спецыялізуецца пераважна на выпуску падоўжных шматаперацыйных фрэзерна-расточных станкоў з лікавым праграмным кіраваннем, падоўжна-стругальных, капастругальных, даўбёжных, балансіровачных станкоў і інш.

Пры заводзе працуюць пункт аховы здароўя, 2 бібліятэкі, клуб, 3 дашкольныя ўстановы, музей гісторыі прадпрыемства. Мае базу адпачынку на возеры Нарач, спартыўны комплекс і піянерскі лагер.

З старой забудовы захаваўся заводскі корпус пачатку 20 ст. (цяпер механазборачны цэх № 1). Уяўляе сабой прамавугольны ў плане падоўжаны будынак з шматпралётным перакрыццем на стальных фермах, верхнім аднабаковым ліхтаром. Галоўны фасад арыентаваны на вул. Кастрычніцкую. Яго кампазіцыя заснавана на процiпастаўленні падоўжнай аднапавярховай часткі і 3 шматпавярховых аб'ёмаў: 2 бакавых і размешчанага асіметрычна сярэдняга. Аднапавярховая частка будынка члянёна вялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, паміж якімі размешчаны лапаткі. Фасады бакавых аб'ёмаў гладкія з невялікімі прамавугольнымі вокнамі, фасад сярэдняга аб'ёму больш насычаны дэкаратыўнымі элементамі: трохвугольны шчыт з півакпямі, міжаконныя лапаткі, сандрыкі з замковым каменем. Кантраст аб'ёмаў узмацняецца каляровым вырашэннем фасадаў: дэкаратыўныя элементы вылучаны белым колерам на чырвоным фоне цагляпай сцяны.



**100.** *Будынкі былога дрожджа-віна курнага завода.*

Дом № 15, вінакурны завод (сучасны віпна-гарэлачны завод «Крышталь»). Створаны ў 1893 г. як дрожджа-вінакурны завод, выпускаў сухія дрожджы і спірт. У 1917—24 гг. дзяржаўны спіртавы склад № 1 і гарэлачны завод, з 1925 спірта-гарэлачны, з 1937 г. лікёра-гарэлачны завод. Пасля далучэння ў 1958 г. віннага і ў 1959 г. дражджавога заводаў дрожджа-вінны камбінат. У 1964—70 гг. галаўное прадпрыемства вытворчага аб'яднання «Крышталь», у 1972—76 гг. спірта-гарэлачны камбінат «Крышталь». З 1976 г.— галаўное прадпрыемства вытворчага аб'яднання спіртавой і лікёра-гарэлачнай прамысловасці.

Цэнтральны вытворчы заводскі корпус пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Двухпавярховы галоўны фасад мае асіметрычную кампазіцыю. Вуглавая частка вырашана ў выглядзе вежы, утворанай за кошт надбудовы 3-га паверха і накрытай чатырохсхільным дахам. Яе сцены завершаны тонкапрафіляваным карнізам з сухарыкамі. Асноўны дэкаратыўны матыў — шырокі арачны пояс. Сярэдні аконны праём 2-га паверха дэкарыраваны лучковым сандрыкам і разарваным карнізам. Процілеглая вежавай частка корпуса вылучана вузкім рызалітам, трактаваным накшталт трохпавярховай вежы. Фасад паміж вуглавымі часткамі вырашаны плоскасна, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі і плоскімі нішамі пад вокнамі. Унутраная планіроўка калідорная.

Галоўны корпус завода — помнік архітэктуры з рысамі стылю «мадэрн».

Дом № 19, гарбарны завод (сучасны гарбарны завод «Бальшавік»).

Заснаваны ў 1895 г. як гарбарныя майстэрні. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі рэканструяваны і расшыраны. У 1927 г. на іх базе створаны гарбарны завод «Бальшавік». За высокія вытворчыя паказчыкі ў 1929 г. прадпрыемства ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР. 7.9.1933 г. завод наведаў выдатны дзеяч Савецкай дзяржавы і Камуністычнай партыі М. І. Калінін. У Вялікую Айчынную вайну тут дзейнічалі групы падпольшчыкаў (гл. артыкул № 103 «Мемарыяльная дошка падпольшчыкам»). У пасляваенныя гады прадпрыемства расшырана. У 1962 г. уведзены ў дзеянне клеяварны цэх, у 1963 г.— 3-я хромная вытворчасць. У 1970 г. аснашчана новым сучасным абсталяваннем. Галаўное прадпрыемства Мінскага вытворчага гарбарнага аб'яднання «Бальшавік». Спецыялізуецца пераважна на вытворчасці скуры для верха абутку, галантарэйных вырабаў.

Заводскія карпусы размешчаны ўздоўж вуліцы. Забудова пачынаецца вытворчым корпусам № 1 — двухпавярховым мураваным будынкам, узведзеным у даваенны час. Кампазіцыя яго галоўнага фасада асіметрычная, вылучаецца цэнтральная частка, завершаная атыкавай сценкай ступеньчатага абрысу. Сцяна члянёна лучковымі вокнамі і шырокімі лапатка-

мі паміж імі. Корпус злучаны з аднапавярховым будынкам прахадной уязнымі варотамі. Аднапавярховы муравапы корпус пабудаваны ў дакастрычніцкі час. Галоўны фасад аздоблены сандрыкамі з замковым каменем, лапаткамі паміж высокімі прамавугольнымі вокнамі. Дэкаратыўныя элементы афарбаваны ў белы колер і вылучаюцца на неатынкаванай цаглянай сцяне. Да гэтага корпуса далучаны адміністрацыйны двухпавярховы будынак, зроблены ў даваенны час. Лесвічная клетка з вертыкальным зашклепнем прымыкае да асноўнай часткі будынка. Яго фасад чляпёны лапаткамі, размешчанымі паміж аконных праёмаў. За адміністрацыйным корпусам размешчаны аднапавярховыя прыбудовы, якія ўтвараюць глухую фасадную сцяну. Нягледзячы на розначасовасць будаўніцтва, заводскія карпусы ствараюць адзіны архітэктурны ансамбль.

*Г. І. Дулеба, Т. І. Чарняўская.*

**101. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку Мінскага дрожджавага камбіната (дом № 14). Устаноўлена ў 1976 г.

У Вялікую Айчынную вайну ў акупіраваным нямецка-фашысцкімі захопнікамі Мінску ў 1941 г. дзейнічала падпольная група, якую ўзначальвалі камуністы К. І. Трус і В. Ф. Шчарбацэвіч. Членамі гэтай групы былі сястра і брат В. Ф. Шчарбацэвіч — Н. Ф. і П. Ф. Янушкевічы, яе непаўналетні сын У. І. Шчарбацэвіч і інш. Падпольшчыкі ратавалі камандзіраў Чырвонай Арміі з лазарэта ваеннапалонных, што знаходзіўся ў будынку політэхнічнага інстытута, перадавалі ім бланкі пашпартоў, адрасы канспіратыўных кватэр, адкуль Н. Ф. і П. Ф. Янушкевічы пераправулялі іх ў партызанскія атрады.




**101.** *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*




**102.** *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*

Восенню 1941 г. гітлераўцы арыштавалі многіх членаў падпольнай групы. 26.10.1941 г. 12 падпольшчыкаў былі павешаны на вуліцах і плошчах Мінска, К. І. Трус, У. І. Шчарбацэвіч і дзяўчына, прозвішча якой не ўстаноўлена,— на варотах дрожджавага завода.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Новиков И. Г. Минский фронт. Кн. 1.— Мн., 1977; Сквозь огонь и смерть.— Мн., 1970. *Н. Е. Прахаровіч.*

**102. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 16, на будынку кіраўніцтва станкабудаўнічага завода імя Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Устаноўлена ў 1967 г.

У Вялікую Айчынную вайну ва ўмовах акупацыі на прадпрыемстве дзейнічалі з кастрычніка 1941 г. да мая 1944 г. групы Мінскага камуністычнага падполля, створаныя па ініцыятыве ветэранаў завода камуністаў І. Г. Матусевіча, А. М. Драгуна і беспартыйных патрыётаў П. І. Гавіновіча, Б. І. Петрашкевіча, П. С. Алейчыка, В. Ф. Дзярыба і В. С. Дуброўскай. Арганізацыя аб'ядноўвала ў трох групах (кіраўнікі І. Г. Матусевіч, В. Ф. Дзярыба, В. С. Дуброўская) каля 50 чалавек, пераважна рабочых і ваеннапалонных, якія працавалі на заводзе. Дзейнічала пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б і Сталінскага падпольнага райкома КП(б)Б г. Мінска. Падпольшчыкі мелі 8 канспіратыўных кватэр, падтрымлівалі сувязь з партызанскімі брыгадамі 200-й імя К. К. Ракасоўскага, 1-й Мінскай, імя газеты «Правда», «Народныя мсціўцы» імя Варанянскага Мінскай, імя М. В. Фрунзе Вілейскай абл. Яны выводзілі са строю заводскае абсталяванне і інструменты, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро сярод рабочых і ваеннапалонных, якія працавалі на заводзе, а таксама сярод насельніцтва горада, дапамагалі ваеннапалонным уцячы з-пад варты і выводзілі іх у партызанскія атрады. Асабліва актывізавалася баявая дзейнасць падполля з ліпеня 1942 г., калі акупанты арганізавалі на заводзе рамонт танкаў і самаходных гармат. Патрыёты зрывалі тэрміны рамонту, ставілі на машыны бракаваныя дэталі і вузлы, падсыпалі ў машыннае масла пясок, знішчалі аптычныя прылады і інш. І. Г. Матусевіч і П. І. Гавіновіч восенню 1942 г. падпалілі цэх акумулятараў, у пачатку 1943 г. вывелі са строю калярыфер, які даваў цяпло ў цэхі завода. К. А. Вестфаль, В. В. Кахомская, Н. К. Хабенка і А. Грыгор'еў летам 1943 г. здабылі і перадалі партызанам звесткі аб тэхнічных і баявых характарыстыках танкаў «тыгр» і «пантэра». Гітлераўцам удалося натрапіць на след падпольшчыкаў. У лістападзе — снежні 1943 г. і ў лютым — маі 1944 г. большая частка членаў арганізацыі была арыштавана. У фашысцкіх засценках загінулі М. К. Ахрамовіч, В. Ф. Дзярыба, Н. Р. Ермаловіч, А. А. і А. П. Манцывода, Л. С. Цапурняк. Больш за 20 падпольшчыкаў вывезены ў канцэнтрацыйныя лагеры. У баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у партызанскіх атрадах і ў радах Чырвонай Арміі загінулі П. І. Гавіновіч, Г. А. Дзярыба, А. М. Кнырко, В. І. Кандрашэвіч, І. В. Кахомскі, Л. І. Купрэйчык.

*Г. І. Дулеба, А. Дз. Сакевіч.*

**103. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 19 (на будынку гарбарнага завода «Бальшавік»). Устаноўлена ў 1967 г.

У Вялікую Айчынную вайну ў час акупацыі горада нямецка-фашысцкімі захопнікамі на заводзе са жніўня 1941 г. да ліпеня 1944 г. дзейнічала падпольная група пад кіраўніцтвам камуністаў В. Ф. Мацюшка і В. А. Філімонава, з мая да верасня 1942 г.—




**103.** *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*



104. *Помнік У. І. Леніну.*

Варашылаўскага падпольнага РК КП(б)Б г. Мінска. Група створана па ініцыятыве камсамольцаў Я. М. Канапацкага і Р. І. Наркевіч. Яднала 15 чалавек. У барацьбе супраць акупантаў актыўны ўдзел прымалі Е. М. Паўлава, З. І. Пятровіч-Тарчанка, В. В. Бялан, С. Ф. і А. Ф. Аўчынкі, Ф. І. Гаеўскі, В. П. Машкова і інш. Патрыёты вялі антыфашысцкую прапаганду, рабілі дыверсіі. У маі 1943 г. сернай кіслатой сапсавалі вялікую колькасць скураных вырабаў, якія былі падрыхтаваны для адпраўкі ў Германію. Падпольшчыкі выносілі з завода выраблёныя скуры, перадавалі іх у партызанскія брыгады «За Савецкую Беларусь», «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, «Штурмавая», здабывалі для партызан медыкаменты, медінструменты, зброю і боепрыпасы, соль, прадукты. Членаў падпольнай арганізацыі С. Ф. Аўчынку, А. І. Юркевіча фашысты схапілі і загубілі. Ад арыштаваных у канцы сакавіка 1944 г. Р. М. і Я. М. Канапацкіх ворагі не дамагліся паказанняў.

*Г. І. Дулеба, А. Дз. Сакевіч.*

**104. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля станкабудаўнічага завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.



105. *Помнік У. І. Леніну.*

**105. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі завода «Крышталь». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1970 г.

**вул. Кірава**

**106. БУДЫНАК АБКОМА КПБ** (архіт.). Дом № 17. Пабудаваны ў 1953—56 гг. (архіт. А. Воінаў і Л. Усава) з цэглы. Чатырохпавярховы Г-падобны ў плане аб'ём. Цэнтр кампазіцыі — вуглавы гранёны аб'ём з сферычным купалам, у завяршэнні якога васьмігранны барабан са шпілем. Да гранёнага аб'ёму пад прамым вуглом прымыкаюць бакавыя крылы. Плоскасці фасадаў падзелены гарызантальнымі цягамі на 3 ярусы. Першы вырашаны ў выглядзе цокаля, дэкарыраваны пад ружовы граніт. Сцены 1—2-га паверхаў пакрыты рустам, 3—4-га крапаваны пілястрамі карынфскага ордэра. Будынак завершаны буйным карнізам класічнага профілю і парапетам. Аконныя праёмы ніжніх паверхаў прамавугольныя, 4-га — арачныя.

Планіроўка калідорная. Галоўны вестыбюль у цэнтральным аб'ёме. 2 лесвіцы злучаюць яго з бакавымі крыламі, 2-і паверх цэнтральнага аб'ёму займае двухсветлавая зала пасяджэнняў, якая перакрыта купалам з ляпным дэкорам. Сцены залы крапаваны здвоенымі пілястрамі і калонамі.



106. *Будынак абкома КПБ.*



197. *Будынак гаркома КПБ.*



108. *Будынак Дзяржаўнага аграпрамысловага камітэта БССР.*

У 1988 г. да дваравога фасада прыбудавана 6-павярховае прамавугольнае ў плане крыло (архіт. Л. Пагарэлаў), што надало будынку П-падобную ў плане канфігурацыю.

Будынак — прыклад творчага выкарыстання форм класіцызму.

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975. *А. А. Міцянін.*

**107. БУДЫНАК ГАРКОМА КПБ** (архіт.). Дом № 10. Пабудаваны ў 1979 г. (архіт. Л. Левін, Ю. Градаў, С. Тылевіч).

Пяціпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём з прыбудаванымі залай пасяджэнняў (з боку дваровага фасада) і лесвічнай клеткай (з тарцовага фасада). У аснове кампазіцыі галоўнага фасада — вялікая аркатура, якая аб'ядноўвае па вертыкалі прамавугольныя аконныя праёмы. Вось сіметрыі фасада вылучана парталам галоўнага ўвахода. Планіроўка калідорная з цэнтральнай лесвіцай і 2 ліфтавымі шахтамі. З вестыбюля ўваход у авальнае ў плане фае залы пасяджэнняў, якое звязана з невялікім унутраным дворыкам. У аздобе інтэр'ераў выкарыстаны шпон моранага дубу, паркет, дэкаратыўная тынкоўка.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**108. БУДЫНАК ДЗЯРЖАЎНАГА АГРАПРАМЫСЛОВАГА КАМІТЭТА БССР** (архіт.). Дом № 15. Пабудаваны ў 1952 г. (архіт. П. Іваноў) з цэглы. Тут размяшчалася Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР, з 1986 — Дзяржаўны аграпрамысловы камітэт БССР.

Чатырохпавярховы з высокім цокальным паверхам будынак спачатку меў Т-падобную ў плане форму з выступаючым у глыбіню забудовы двухсветлавым аб'ёмам залы пасяджэнняў. У 1974 г. часткова перапрацаваны фасады (архіт. У. Вараксін) і інтэр'еры (архіт. Г. Заборскі). Да дваровага фасада прыбудаваны пяціпавярховыя прамавугольныя крылы, што надало будынку Ш-падобную ў плане канфігурацыю. Перад уваходам — высокі мураваны ганак. Асноўны акцэнт зроблены на архітэктуры галоўнага фасада, цэнтральная частка якога вылучана радам магутных паўкалон на ўсю вышыню будынка. Сцены на вышыню 2 паверхаў расшыты дробным рустам і падзелены карнізным поясам. Развіты антаблемент паўтарае зубчасты абрыс выступаючых кубічных (вышыня больш за 2 м) баз калон і разам з буйнапамернымі капітэлямі надае збудаванню манументальную строгасць. Моцна выступаючы карніз падтрымліваюць кранштэйны ў выглядзе валют. Плоскасць высокага глухога парапета, які праходзіць з трох бакоў будынка, апрацавана філёнгамі, у цэнтральнай ча-



**109.** *Будынак былой жаночай гімназіі.*




**109.** *Будынак былой жаночай гімназіі. План 1-га паверха.*

стцы, над галоўным уваходам, рэльефная выява Дзяржаўнага герба БССР.

Унутраная планіроўка будынка калідорная, з двухбаковым размяшчэннем памяшканняў. Лесвічныя холы паверхаў аддзелены калонамі, якім адпавядаюць пілястры на процілеглых сценах. Столь упрыгожана ляпнымі разеткамі. Сцены залы пасяджэнняў таксама расчлянёны плоскімі пілястрамі з арачным поясам над імі. Падвесная столь уяўляе сабой суцэльнае поле ляпнога арнаменту з чаргаваннем васьміграпных і квадратных элементаў.

Будынак Дзяржаўнага аграпрамысловага камітэта БССР — прыклад творчага выкарыстання класіцыстычнай спадчыны.

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975. *А. А. Міцянін.*

**109. БУДЫНАК ЖАНОЧАЙ ГІМНАЗІІ** (гіст., архіт.). На рагу вул. Кірава і Міхайлаўскага завулка (№ 5/6). Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як прыватны жылы дом. У 1910 г. быў здадзены ў арэнду для прыватнай жаночай гімназіі. Цяпер у будынку размяшчаецца адміністрацыйная ўстанова.

Жаночая гімназія дзейнічала па праграмах і вучэбным плане, зацверджаным Міністэрствам народнай асветы. Асноўная частка прадметаў, якія тут выкладаліся, была гуманітарнафілалагічнага кірунку. Галоўная ўвага аддавалася рускай мове і літаратуры, лацінскай, грэчаскай, замежным мовам, закону божаму. Выкладалі таксама гісторыю, геаграфію, прыродазнаўства. Менш часу адводзілася матэматыцы і фізіцы. У 8-м класе вывучалі педагогіку, былі ўрокі маляванпя, чарчэння, гімнастыкі, а таксама рукадзелля і танцаў. У пачатку 1917 г. у гімназіі навучалася каля 500 чалавек, працавалі 30 настаўнікаў. Плата за навучанне была высокая, даступная дзецям маёмных бацькоў.

Чатырохпавярховы трапецападобны ў плане будынак гімназіі захаваўся без істотных змен. Фасады насычаны дэкаратыўнымі дэталямі, выкананымі цаглянай муроўкай. Асобныя ляпныя элементы — капітэлі, карнізныя цягі, картушы — былі пакрыты белай тынкоўкай. Галоўны фасад вылучаны цэнтральным рызалітам і бакавымі скошанымі вугламі. Плоскасці фасадаў прарэзаны высокімі лучковымі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, на 4-м паверсе — прамавугольнымі. Прасценкі паміж вокнамі дэкарыраваны шырокімі і вузкімі пілястрамі на вышыню 1—3-га паверхаў. Сцены паміж пілястрамі пакрыты гарызантальным рустам. Паміж 3-м і 4-м паверхамі па ўсім перыметры будынка праходзіць шырокі дэкаратыўны пояс з глыбокімі лучковымі і паўцыркульнымі нішамі, у якіх спачатку быў фрэскавы жывапіс. У цэнтры і па вуглах галоўнага фасада ўзвышаюцца трохвугольныя атыкі з паўцыркульнымі завяршэннямі ў цэнтры. Такія ж атыкі і па цэнтрах бакавых фасадаў. Уваходы з боку галоўнага фасада (вул. Кірава) і з процілеглага дваровага фасада. Галоўны ўваход вылучаны трохвугольным франтонам са стылізаваным арачным завяршэннем. Пры ўваходах лесвіцы, паміж імі у цэнтры,— вестыбюль. Класныя пакоі знаходзіліся па перыметры тарцовых сцен.



**109.** *Будынак былой жаночай гімназіі. Фрагмент галоўнага фасада.*



110. *Будынак гасцініцы «Свіслач».*

Будынак гімназіі — помнік эклектычнай архітэктуры.

*М. Б. Батвіннік, Т. І. Чарняўская.*

**110. ГАСЦІНІЦА «СВІСЛАЧ»** (архіт.). На рагу вуліц Кірава і Валадарскага (вул. Кірава, 13). Пабудавана ў 1938 г. (архіт. А. П. Воінаў) з цэглы. У Айчынную вайну спалена, адноўлена паводле праекта аўтара ў 1947 г. Да 1987 г.— «Беларусь».

Пяціпавярховы будынак мае шасціпавярховы вуглавы паўкруглы ў плане аб'ём з цэнтральным уваходам. Да яго пад прамым вуглом прымыкаюць бакавыя крылы. У апрацоўцы фасадаў выкарыстана сістэма рытмічна пастаўленых без баз і капітэлей паўкруглых калон, якія аб'ядноўваюць 3 сярэднія паверхі і падтрымліваюць атыкавы паверх. Калоны цэнтральнай часткі большыя па маштабу, у вуглавых частках — балконы.

Збудаванне вылучаецца прастатой, выразнай двухбаковай калідорнай сістэмай планіроўкі з авальнымі ў плане галоўным фае і размешчанымі над ім холамі. На 1-м паверсе размешчаны адміністрацыйна-гаспадарчыя, бытавыя памяшканні гасцініцы, а таксама магазіны. Астатнія паверхі пабудаваны па адзінай калідорнай схеме. Крыло, што выходзіць на вул. Кірава, злучана з рэстаранам, які ў 1976—78 гг. быў рэканструяваны паводле праекта, распрацаванага ў інстытуце «Белдзіпрагандаль» (архіт. Л. Мельнік). Сцены і васьміграннныя калоны залы рэстарана багата аздоблены лепкай расліннага арнаменту (скульпт. М. Керзін), у фае вестыбюля — пано «Лявоніха» (скульпт. А. Глебаў), што надае гэтым памяшканням своеасаблівы каларыт і святочнасць.

Будынак — помнік грамадзянскага збудавання.

*Літ.:* Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954.

*Л. Г. Лапцэвіч, А. А. Міцянін.*




110. *Будынак гасцініцы «Свіслач». План 2-га паверха.*

**111. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). На рагу вуліц Кірава і Камсамольскай, 19/35. Пабудаваны ў 1929 г. (архіт. Г. Кавокін) з цэглы.

Чатырохпавярховы амаль П-падобны ў плане з цокальным паверхам



111. *Жылы дом № 19/35 на рагу вуліц Кірава і Камсамольскай.*




111. *Жылы дом № 19/35 на рагу вуліц Кірава і Камсамольскай. План 1-га паверха.*



112. *Рэспубліканскія Палац піянераў і школьнікаў і тэатр юнага гледача.*




112. *Рэспубліканскія Палац піянераў і школьнікаў. План 1-га паверха.*

будынак рытмічна спалучае рознавялікія аб'ёмы, злучаныя лесвічнымі клеткамі. Падоўжаны фасад па вул. Кірава мае сіметрычнае вырашэнне: цэнтральная і вуглавыя часткі размешчаны па адной лініі, прамежкавыя аб'ёмы вылучаны рызалітамі. Бакавыя крылы пабудаваны па тым жа прынцыпе. Фасады вырашаны надзвычай сціпла. Рытм прамавугольных аконных праёмаў розных памераў без абрамленняў адвольны. Балконы аформлены простымі агароджамі. 1-ы і 4-ы паверхі вылучаны карнізамі-перацяжкамі. Уваходы ў кватэры розных частак зроблены з інтэрвалам у паўпаверха. Унутраная планіроўка вырашана індывідуальна. Санітарныя блокі маюць натуральнае асвятленне. Канструкцыйная схема мяшаная — з папярочнымі і падоўжнымі нясучымі сценамі і элементамі каркаса.

Будынак — помнік жыллёвай архітэктуры з элементамі канструктывізму. *Т. В. Габрусь.*

**112. РЭСПУБЛІКАНСКІ ПАЛАЦ ПІЯНЕРАЎ І ШКОЛЬНІКАЎ** (архіт., маст.). На рагу вул. Кірава і Энгельса (дом № 16/24). Пабудаваны ў 1937 г. (архіт. А. Воінаў, У. Вараксін). Пры будаўніцтве выкарыстаны фундамент незакончанага клуба будаўнікоў. Разбураны ў Вялікую Айчынную вайну. Адноўлены ў 1947—52 гг. (архіт. А. Воінаў, Л. Усава, В. Кулін). У 1962 г. прыбудаваны новы корпус па вуліцы Кірава (архіт. Э. Левіна), у якім размешчаны спартыўная і актавая залы, памяшканні для гуртковай работы. На базе відовішчнай групы памяшканняў створаны (1956 г.) Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі (вул. Энгельса, 26; архіт. А. Воінаў, Л. Усава).

Трохпавярховы будынак Палаца складаецца з двух прылеглых адзін да аднаго аб'ёмаў — відовішчнай і гурткова-клубнай груп памяшканняў, аб'яднаных вестыбюлем. Фасады апрацаваны пад шэры граніт, расчлянёны пілястрамі. У малюнак іх капітэляў была ўведзена піянерская сімволіка (афармленне зменена пры рэканструкцыі). Манументальны шасцікалонны порцік падкрэслівае галоўны ўваход. Закруглены і выступаючы вугал з вестыбюлем клубнай часткі завяршае аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю будынка.

Унутраная планіроўка заснавана на анфіладна-калідорнай сістэме. Галоўны вестыбюль быў аформлены скульптурным фрызам з шасцю гарэльефамі на сюжэты піянерскага жыцця (захаваліся толькі 2 фрагменты, якія перанесены на парапеты агароджы другога паверха). У аддзелцы інтэр'ера памяшканняў для работы гурткоў шырока выкарыстаны карнізы, разеткі і іншыя архітэктурна-дэкаратыўныя элементы. У афармленні залаў удзельнічалі скульптар А. Глебаў, мастакі І. Ахрэмчык, І. Давідовіч, У. Стальмашонак і інш.

На першым паверсе Палаца размясціліся ігратэка, гурток мяккай цацкі, класы харэаграфіі, скульптурны і харавы, бібліятэка, на другім — выставачная зала, музей гісторыі піянерскай арганізацыі, тэатр лялек, метадычны кабінет, гурток вязання і вышывання. Трэці паверх займаюць харэаграфічная зала, аркестровыя, адміністрацыйныя службы. Харэаграфічную залу ўпрыгожвае маляўнічы плафон на тэму «Дружба народаў» (1964 г., маст. І. Ахрэмчык, І. Давідовіч; тэмпера). Паўсферычнае скляпенне, у ветразі якога ўпісаны 8 кампазіцый, адгароджана намаляванай балюстрадай. Гэты прыём звязвае ілюзорную прастору з рэальнай, стварае ўражанне глыбіні прасторы, «прарыву» скляпення. Каларыт роспісу цёплы з перавагай жоўтых, чырвоных, зялёных і блакітных таноў.

Будынак Палаца піянераў і школьнікаў — прыклад творчага выкарыстання элементаў класіцыстычнай архітэктурнай спадчыны.

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975. *Л. Г. Лапцэвіч, А. А. Міцянін, Т. В. Габрусь.*

**113. СТАДЫЁН «ДЫНАМА»** (архіт.). Вул. Кірава, 8. Адкрыты ў 1934 г., рэканструяваны ў 1939 г., разбураны ў час Вялікай Айчыннай вайны. Новы стадыён пабудаваны ў 1947—54 гг. (архіт. М. Колі, М. Парусьнікаў і інш.). Рэканструяваны ў 1978—80 гг. (архіт. С. Баткоўскі, М. Гаўхфельд, Л. Гельфанд, Ю. Спясіўцаў) у сувязі з правядзеннем папярэдніх спаборніцтваў



113. *Стадыён «Дынама».*



113. *Стадыён «Дынама». Галоўны ўваход.*

па футболу Алімпійскіх гульняў 1980 г.

Спартыўны комплекс разам з паркавай зонай размешчаны на 2 тэрасах плошчай 12 га. Уключае вялікую спартыўную арэну, пляцоўкі валейбольную, баскетбольную, для гульні ў гарадкі, тэнісныя корты. Стадыён мае асобны будынак стралковага ціра з тэхнічна абсталяванымі агнявымі рубяжамі. Тэрыторыя стадыёна абнесена агароджай мастацкага чыгуннага ліцця. Галоўны ўваход аформлены ў выглядзе стройнай аркады карынфскага ордэра (архіт. М. Барщ). У 1980 г. з боку вул. Ульянаўскай створаны другі парадны ўваход. Па восі яго размешчана скульптурная група «Бег» (скульпт. В. Занковіч). Асвятляльныя мачты размешчаны звонку па перыметры трыбун.



113. *Стадыён «Дынама». Скульптурная кампазіцыя «Бег».*

Авальнае ў плане спартыўнае ядро (футбольнае поле, 8 бегавых дарожак, сектар для скачкоў і кідання) абкружана трыбунамі (больш як на 50 тыс. месцаў). Большая іх частка ў выглядзе сегментнага амфітэатра размешчана на натуральным земляным адхоне. Галоўны архітэктурны акцэнт трыбун — павільён-ложа з боку галоўнага ўваходу. Пад трыбунамі размешчаны залы для лёгкай атлетыкі, барацьбы, боксу, лёгкаатлетычны цэнтр з трэнажорнымі ўстаноўкамі.

Стадыён «Дынама» — буйнейшае ў рэспубліцы спартыўнае збудаванне, у якім адлюстраваны асноўныя этапы развіцця архітэктуры савецкай Беларусі.

*А. М. Кулагін.*

**вул. Кісялёва**

**114. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЧУРКІНУ** Мікалаю Мікалаевічу (гіст.). На доме № 3. Устаноўлена ў 1969 г. (скульпт. Г. Мурамцаў) па ўшанаванне памяці беларускага савецкага кампазітара, фалькларыста і педагога, народнага артыста БССР М. М. Чуркіна, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 692 «Магіла Чуркіна Мікалая Мікалаевіча».

**115. ЦАРКВА МАРЫІ МАГДАЛІНЫ І СТАРАЖОЎСКАЯ БРАМА** (архіт.). Вул. Кісялёва, 78. Пабудавана ў 1847 г. з цэглы на паўночнай ускраіне горада, на былых Старажоўскіх могілках. У 1950-я гады будынак рэканструяваны. У ім размешчана Цэнтральная лабараторыя мікрафотакапіравання і рэстаўрацыі дакументаў цэнтральных дзяржаўных архіваў БССР.

Першапачаткова аднакупальны аднаапсідны храм. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму з усходняга боку далучаны нязначна выступаючая апсіда, з заходняга — вялікая прыбудова. Пры рэканструкцыі храма апсіда закрыта чатырохкалонным порцікам, пастаўленым на высокі цокаль. У цэнтры асноўнага аб'ёму на светлавым цыліндрычным барабане ўзвышаўся вялікі купал (не захаваўся), які пры дапамозе ветразяў падтрымлівалі масіўныя слупы. Сцены фасадаў царквы члянёны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і дэкарыраваны пілястрамі. Па ўсім перыметры будынка праходзіць тонкапрафіляваны карніз. Інтэр'ер зальны, трохнефавы. Перакрыцці крыжовыя і цыліндрычныя.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.




114. *Мемарыяльная дошка М. М. Чуркіну.*



115. *Былая царква Марыі Магдаліны і Старажоўская брама.*




115. *Былая царква Марыі Магдаліны. План.*

Старажоўская брама размешчана перад царквой. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы. Брама аднапралётная, манументальная, кампазіцыйна падкрэслівае галоўны ўваход у будынак. Яе плоскасць дэкарыравана пілястрамі, арачнымі нішамі, бакавымі валютамі, завершана развітым шматпрафіляваным карнізам. Над цэнтральным арачным праёмам узвышаецца дэкаратыўны атык, увянчаны невялікай лучковай галоўкай. Збераглася частка агароджы.

Брама вырашана ў эклектычных формах. *Т. І. Чарняўская.*

**завулак Якуба Коласа**

**116. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 7. Устаноўлена ў 1980 г. на будынку, размешчаным на месцы, дзе ў Вялікую Айчынную вайну знаходзіўся дом (былая вул. 3-я лінія, 26), у якім жыла сям'я ўдзельніка Мінскага камуністычнага падполля П. К. Хадасевіча.

У верасні 1942 г. у сувязі з пагрозай правалу надпольная друкарня з вул. Выдавецкай, 10, была перанесена у дом П. К. Хадасевіча. Тут быў надрукаваны 4-ы нумар газеты «Звязда». Восенню 1942 г. гітлераўцы арыштавалі і закатавалі П. К. Хадасевіча, яго жонку Альбіну Адольфаўну і двое дзяцей.

*Літ.:* Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984. В непокоренном Минске.— Мн., 1987.
*М. М. Казлоўская.*

**пл. Якуба Коласа**

**117. КОМПЛЕКС ВЫТВОРЧЫХ БУДЫНКАЎ** (архіт.). Займае 2 кварталы ўздоўж вуліц Чырвонай і Я. Коласа і часткі вул. В. Харужай і Кульман. Складаецца з сіметрычных, блізкіх па архітэктурным вырашэнні будынкаў паліграфічнага камбіната імя Я. Коласа (1953—56 гг.; архіт. Н. Шпігельман, С. Баткоўскі, В. Астроўская) і завода электронных вылічальных машын імя Р. К. Арджанікідзе (1955—61 гг.; архіт. Н. Шпігельман, І. Еоўт, С. Баткоўскі). Архітэктура ансамбля падпарадкавана агульнаму характару забудовы пл. Я. Коласа. Чатырохпавярховыя Г-падобныя ў плане мураваныя будынкі накрыты пакатымі вальмавымі дахамі, утвараюць суцэльны фронт забудовы паўночна-заходняга боку плошчы. Выцягнутыя прамавугольныя крылы будынкаў акцэнтаваны з аднаго боку сіметрычнымі вежападобнымі аб'ёмамі, што надае выразнасць сілуэту забудовы, падкрэслівае вось вул. В. Харужай і стварае своеасаблівы фон размешчанаму на плошчы помніку Я. Коласу.

Фасады будынкаў выкананы ідэнтычна, за выключэннем завяршэння вежаў. 1-ы паверх абліцаваны шэрым гранітам, апрацаваны буйным рустам. У аснову пластычнага вырашэння ансамбля пакладзены прынцып восевай сіметрыі як у агульнай кампазіцыі, так і ў характары чляненняў. Фасады са спаранымі вокнамі рытмічна падзелены шырокімі і вузкімі прасценкамі, апрацаванымі пілястрамі і паўкалонамі. Праз інтэрвалы ў рытм уключаны шырокія плоскасці з цэнтральна-сіметрычным размяшчэннем акон, афармленых ордэрнымі элементамі. Будынкі завершаны развітымі карнізамі з фігурнымі кранштэйнамі. Унутраная планіроўка падпарадкавана патрэбам вытворчага працэсу.

Ансамбль — прыклад архітэктурнага вырашэння прамысловых збудаванняў. *Т. В. Габрусь.*

**118. ПОМНІК КОЛАСУ** Якубу (маст.). У цэнтры плошчы. Пастаўлены ў 1972 г. (скульпт. З. Азгур, архіт. Ю. Градаў, Г. Заборскі, Л. Левін; брон-



117. *Комплекс вытворчых будынкаў на плошчы Якуба Коласа.*

за, граніт; вышыня 8 м). Помнік арыентаваны ў бок Ленінскага праспекта. Дамінантай ансамбля з'яўляецца бронзавая фігура народнага паэта. Абапал яе размешчаны скульптурныя групы герояў яго твораў «Дрыгва» і «Сымон-музыка». Паэт паказаны ў сталым узросце. Ва ўсёй яго постаці мудры спакой, роздум. Жыццёвая канкрэтнасць, партрэтнае падабенства — адметныя рысы скульптуры. Буйныя формы ўзмацняюць манументальнасць вобраза. Справа ад асноўнай скульптуры знаходзіцца група: Дзед Талаш і яго сын Панас. Яны нібы сышлі са старонак «Дрыгвы» — нясуць дазор, насцярожана ўглядаюцца ў далячынь. Лірычныя вобразы другой скульптурнай групы — Сымон-музыка і сялянская дзяўчынка Ганна, якая зачаравана слухае сляпога музыку. Усе элементы скульптурнай кампазіцыі размешчаны сіметрычна, у гарманічнай раўнавазе і арганічна ўваходзяць у агульны ансамбль плошчы.

Газоны рознай формы, групы бяроз, ніцай вярбы, невялікія фантаны, якія па форме нагадваюць каласы, надаюць помніку эмацыянальную афарбоўку, ствараюць вобраз беларускай прыроды.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**вул. Крапоткіна**

**119. КОМПЛЕКС БУДЫНКАЎ ІНФЕКЦЫЙНАЙ БАЛЬНІЦЫ** (архіт.). Дом № 76. Захаваліся 8 карпусоў, пабудаваных ў пачатку 20 ст. з цэглы. Будынкі размешчаны за 100—200 м адзін ад аднаго.

Прыёмны корпус. Аднапавярховы, прамавугольны ў плане будынак пад двухсхільным вальмавым дахам. Падоўжаны галоўны фасад кампазіцыйна сіметрычны. Акцэнтамі кампазіцыі з'яўляюцца цэнтральная і бакавыя часткі. Яны вылучаны трохвугольнымі шчытамі, члянёны прамавугольнымі высокімі аконнымі і дзвярнымі праёмамі. Да ўваходаў вядуць высокія ганкі. Шырокія і вузкія вокны без ліштваў. Перакрыцці памяшканняў драўляныя, сістэма планіроўкі калідорная.

Лячэбны корпус № 1. Аднапавярховы, з двума глыбокімі і двума неглыбокімі рызалітамі будынак сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, пад двухсхільным вальмавым дахам. Сцены члянёны плоскімі лапаткамі. Прамавугольныя і лучковыя ў цэнтры галоўнага фасада аконныя праёмы без ліштваў, аздоблены



119. *Комплекс будынкаў інфекцыйнай бальніцы. Лячэбны корпус № 1.*

118. *Плошча Якуба Коласа.*



118. *Помнік Якубу Коласу.*



119. *Комплекс будынкаў інфекцыйнай бальніцы. Прыёмны корпус.*



119. *Комплекс будынкаў інфекцыйнай бальніцы. Адміністрацыйны корпус.*

падаконнымі камянямі. Сістэма памяшканняў калідорная.

Лячэбны корпус № 2. Паўтарае архітэктурную кампазіцыю лячэбнага корпуса № 1.

Лячэбны корпус № 3. Аднапавярховы несіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі будынак са складаным планам накрыты вальмавым дахам. Дэкаратыўнае афармленне вырашана па аналогіі з лячэбнымі карпусамі 1 і 2.

Адміністрацыйны корпус. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Паверхі аддзелены карнізным поясам, чляні ёны прамавугольнымі вокнамі без ліштваў.

Кухня. Аднапавярховы складанага плана будынак накрыты вальмавым дахам. Плоскасць сцен прарэзана прамавугольнымі і лучковымі аконнымі праёмамі без ліштваў.

Пральня. Адна- і двухпавярховы будынкі складанага плана, несіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, накрыты двухсхільнымі дахамі. Паверхі двухпавярховай часткі дома аддзелены карнізным поясам. Вокны прамавугольныя без ліштваў, на першым паверсе аздоблены падаконным каменем.

Лабараторыя. Двухпавярховы складаны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад сіметрычнай кампазіцыі, вырашаны плоскасна, чляні ёны прамавугольны-



119. *Комплекс будынкаў інфекцыйнай бальніцы. Кухня.*



119. *Комплекс будынкаў інфекцыйнай бальніцы. Лабараторыя (дваровы фасад).*



123. *Помнік Р. К. Арджанікідзе.*

мі, у цэнтры 3 лучковымі вокнамі без ліштваў.

Комплекс будынкаў бальніцы — помнік грамадзянскай архітэктуры, вырашаны ў традыцыях эклектызму.

*А. Ю. Пятросава.*

**вул. Кульман**

**120. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КРАЎЧАНКУ** Івану Сяргеевічу (гіст.). На доме № 15. Устаноўлена ў 1983 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага гісторыка, акадэміка АН БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР І. С. Краўчанкі, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 590 «Магіла Краўчанкі Івана Сяргеевіча».

**121. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 18. Устаноўлена ў 1978 г. (абноўлена ў 1988 г.; архіт. А. Лабачэўскі; сілумін) на будынку, пастаўленым на месцы, дзе ў Вялікую Айчынную вайну быў дом (былая вул. Дабралюбава, 1), у якім у 1942 г. знаходзілася канспіратыўная кватэра Мінскага камуністычнага падполля. Кватэру ўтрымлівала ўдзельніца падполля, у маі — кастрычніку 1942 г. член Варашылаўскага падпольнага РК КП(б)Б В. Ф. Мацюшка. Тут адбываліся сустрэчы падпольшчыкаў, захоўвалася падпольная літаратура, праходзілі пасяджэнні гарадскога і Варашылаўскага раённага падпольных камітэтаў КП(б)Б.

*Літ.:* Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1.— Мн., 1983; В непокоренном Минске.— Мн., 1987.

*М. М. Казлоўская.*

**122. МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Насупраць Дома быту.

На гэтым месцы знаходзіўся дом (былая вул. Выдавецкая, 10) Т. Якавенка. Тут, у пакоі, дзе жыў падпольшчык А. С. Грышын, размяшчалася падпольная друкарня Мінскага гаркома КП(б)Б, у якой надрукаваны другі і трэці нумары падпольнай газеты «Звязда». Другі нумар выйшаў у жніўні, трэці — у верасні 1942 г. На гэтай кватэры набіралі і чацвёрты нумар газеты, але ў сувязі з пагрозай правалу друкарні гранкі былі перанесены ў дом члена падполля П. К. Хадасевіча (вул. 3-я лінія, 26), дзе і быў надрукаваны чацвёрты нумар падпольнай «Звязды».

У 1983 г. на месцы былога дома, у якім надрукаваны 2-і і 3-і нумары газеты, устаноўлены мемарыяльны знак (архіт. А. Лабачэўскі).

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984. Давыдова В. С. В битве за Отечество.—




120. *Мемарыяльная дошка І. С. Краўчанку.*




121. *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*




122. *Мемарыяльны знак падпольшчыкам.*



124. *Помнік савецкім лётчыкам.*

У кн.: Герои подполья. 4 изд. М., 1972, в. 1; В непокоренном Минске.— Мн., 1987.

*М. М. Казлоўская.*

**123. ПОМНІК АРДЖАНІКІДЗЕ** Рыгору Канстанцінавічу (гіст.). На тэрыторыі завода электронных вылічальных машын імя Р. К. Арджанікідзе (дом № 1). Бюст Р. К. Арджанікідзе ўстаноўлены ў 1966 г.

**124. ПОМНІК САВЕЦКІМ ЛЁТЧЫКАМ** (гіст.). Каля будынка школы № 65. На ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза Б. С. Акрэсціна і 9 лётчыкаў, якія загінулі ў 1941—44 г. у паветраных баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены помнік: самалёт на пастаменце і абеліск.

**вул. Янкі Купалы**

**125. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЯНКІ КУПАЛЫ** (архіт.). На адрэзку паміж вуліцамі Старавіленскай і М. Горкага захаваўся ансамбль дамоў 19 ст. У канцы 1987 г. на адрэзку ад вуліцы Горкага ў бок ракі Свіслач перайменавана ў вул. Старажоўскую.

Дом № 3. Пабудаваны з цэглы як жылы. Двухпавярховы будынак мае

прамавугольную ў плане форму з двума бакавымі рызалітамі ў дваровай частцы. Накрыты двухсхільным чарапічным дахам з трыма дахавымі вокнамі. 1-ы і 2-і паверхі аддзелены адзін ад аднаго двума карнізнымі паясамі. Аконныя праёмы на 1-м паверсе прамавугольныя, на другім аздоблены драўлянымі ліштвамі.

Дом № 5. Пабудаваны з цэглы як жылы. Мае двухчасткавую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Правая частка трохпавярховая з паўпадвалам, накрыта двухсхільным чарапічным дахам, прамавугольная ў плане. Дваровы фасад вылучаны двума неглыбокімі рызалітамі. Архітэктурная кампазіцыя галоўнага фасада асіметрычная. Паверхі аддзелены карнізнымі паясамі. Вокны прамавугольныя без ліштваў, на 1-м і 2-м паверхах з прамавугольнымі сандрыкамі. Уваходная частка размешчана з правага боку, вылучана трохвугольным шчытом, які кампазіцыйна завяршае гэтую частку фасада. На 2-м і 3-м паверхах вялікія балконы з чыгуннымі агароджамі.

Левая частка дома прымыкае да правай, двухпавярховая з цокалем і мансардай, накрыта двухсхільным чарапічным дахам. Паверхі аддзелены карнізнымі паясамі. Невялікія прамавугольныя вокны на 1-м паверсе з прамымі сандрыкамі, на 2-м — у драўляных ліштвах.

Дом № 5а. У глыбіні квартала. Пабудаваны з цэглы як жылы. Невялікі двухпавярховы кампактны аб'ём з неглыбокімі рызалітамі, якія парушаюць агульную прамавугольную форму плана. Паверхі аддзелены карнізным поясам. Сцены члянёны прамавугольнымі на 1-м і квадратнымі на 2-м паверхах аконнымі праёмамі, якія дэкарыраваны прамымі сандрыкамі.

Забудова вуліцы Янкі Купалы — помнік эклектычнай архітэктуры.

У 1986—87 гг. праведзена рэстаўрацыя, у выніку якой першапачатковае афармленне парушана.

*А. Ю. Пятросава.*

**126. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КУЛЯШОВУ** Аркадзю Аляксандравічу (гіст.). На доме № 7. Устаноўлена ў 1980 г. (скульпт. Г. Мурамцаў) на ўшанаванне памяці народнага паэта БССР, заслужанага работніка культуры УССР А. А. Куляшова, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 595 «Магіла Куляшова Аркадзя Аляксандравіча».




126. *Мемарыяльная дошка А. А. Куляшову.*




127. *Мемарыяльная дошка І. П. Мележу.*

**127. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МЕЛЕЖУ** Івану Паўлавічу (гіст.). На доме № 7. Устаноўлена ў 1978 г. (скульпт. В. Папоў) на ўшанаванне памяці народнага пісьменніка БССР, лаўрэата Ленінскай прэміі І. П. Мележа, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 619 «Магіла Мележа Івана Паўлавіча».

**128. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СЕЎЧАНКУ** Антону Нічыпаравічу (гіст.). На доме № 7. Устаноўлена ў 1982 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага фізіка, акадэміка АН БССР, Героя Сацыялістычнай Працы, заслужанага дзеяча навукі БССР А. Н. Сеўчанкі, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 662 «Магіла Сеўчанкі Антона Нічыпаравіча».

**129. ПАРК ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ** (архіт., маст., гіст.). Створаны ў 1949—50 гг. у цэнтры горада, на правым беразе р. Свіслач, на месцы знішчаных у 1941—44 гг. нямецка-фашысцкімі захопнікамі гарадскіх кварталаў. Абмежаваны Ленінскім праспектам, вул. Я. Купалы, р. Свіслач. Спачатку называўся паркам імя 30-годдзя БССР. Тут пастаўлены помнік Я. Купалу, размешчаны літаратурны музей паэта.

Парк разбіты па прынцыпу рэгулярнай планіроўкі: геаметрычная сетка алей кантрастна спалучаецца з маляўнічым выгінам ракі. Яе рэчышча акаймавана бетоннай набярэжнай. У кампазіцыі парку асноўную ролю адыгрывае дыяганальная алея, што пачынаецца ад галоўнага ўвахода з Ленінскага праспекта. Уваход фланкіраваны асвятляльнымі калонамі. З боку вул. Я. Купалы і Ленінскага праспекта тэрыторыя абнесена дэкаратыўнай агароджай.

Цэнтр парку — парадны партэр, які выходзіць да берага Свіслачы. Ён завершаны архітэктурна афармленым спускам да вады з шырокімі лесвічнымі сходамі і масіўнымі бетоннымі шарамі. Мастацкую цэласнасць парку надаюць згушчаныя насаджэнні па перыметры, уздоўж алей і партэра. Асноўныя алеі на пэўных участках абсаджаны адной пародай дрэў. Ад галоўных алей разыходзіцца сетка свабодна пракладзеных сцежак. У дэндралагічнай аснове пераважаюць ліпа, клён, ясень, бяроза, белая акацыя, таполя. Пасадачны матэрыял завозілі з навакольных лясоў. Добра прыжыліся ліпа драбналістая, граб звычайны, дуб звычайны, клён вастралісты, рабіна звычайная, піхта каліфарнійская, таполя канадская, каштан конскі і ясень звычайны. Паліхромны летні каларыт парку значна ўзбагачаецца вялікім асартыментам дэкаратыўных кветак, газонамі і рабаткамі.

Помнік Янку Купалу. На галоўнай алеі. Пастаўлены ў 1972 г. да 90-годдзя з дня нараджэння паэта (скульпт. А. Анікейчык, А. Заспіцкі, Л. Гумілеўскі, Дзяржаўная прэмія БССР 1974 г.; архіт. Ю. Градаў, Л. Левін; бронза, граніт; вышыня скульптуры 7 м). Складаецца з манументальнай скульптуры — статуі Я. Купалы і фантана «Вянок».

На гарызантальным пастаменце — гранітнай глыбе — устаноўлена бронзавая фігура паэта. Пясняр у накінутым на плечы паліто апіраецца на посах. Ва ўсёй яго постаці, у выразе твару падкрэслены рамантычная ўзнёсласць, скіраванасць у будучыню, высакароднасць і чалавечая абаяльнасць. Каля ног паэта прабіваецца крыніца, а побач з ёй раскінула цяжкае бронзавае лісце казачная папараць-кветка. Недалёка ад галоўнай скульптуры размешчаны фантан «Вянок», які адлюстроўвае адзін з момантаў старажытнага народнага свя-




128. *Мемарыяльная дошка А. Н. Сеўчанку.*

129. *Помнік Янку Купалу.*



129. *Літаратурны музей Янкі Купалы.*

та — Купалля. Над басейнам круглай формы нахіліліся 2 бронзавыя фігуры дзяўчын, якія кідаюць на ваду вянкі. Ураўнаважанасць скульптур, тонкія лініі сілуэтаў, плаўны выразны рытм руху, а таксама колеравыя суадносіны цёмнай бронзы і ружовага граніту ствараюць паэтычны вобраз.

Арыгінальныя ліхтары, лаўкі, газоны, валуны, пляцоўкі і дарожкі ўзбагачаюць рамантычнае ўспрыняцце помніка, надаюць яму своеасаблівую выразнасць.

Літаратурны музей Янкі Купалы (вул. Я. Купалы, 4). Заснаваны 19.5.1944 г., адкрыты для наведвання 20.9.1945 г. у памяшканні Дома прафсаюзаў на пл. Свабоды, з 1950 г. на вул. Энгельса, 21, з 1959 г. у будынку, пастаўленым на месцы дома, у якім Я. Купала жыў у 1927—41 гг.

Двухпавярховы з цокальным паверхам прамавугольны ў плане будынак (архіт. І. Валадзько, В. Волчак) мае строга сіметрычную кампазіцыю. Да



129. *Фантан «Вянок». Скульптурная кампазіцыя.*

галоўнага ўвахода ў цэнтры фасада вядзе шырокая адкрытая лесвіца. Над багата дэкарыраваным парталам увахода — барэльефная выява Я. Купалы. Фасады рытмічна расчлянёны шырокімі лапаткамі, якія нагадваюць ручнікі. Па нізе лапатак у філёнгавых рамах — ляпныя выявы кніжкі, ліры, лаўровага вянка. Аконныя праёмы на 1-м паверсе прамавугольныя, на 2-м — лучковыя, паглыблены адносна прасценкаў. Ступеньчаты пераход ад лапатак да прасценкаў і да падаконных плоскасцей надае пластыцы фасадаў глыбіню і выразнасць.

Планіроўка залаў анфіладная. Пры ўваходзе — вялікі вестыбюль з трохмаршавай лесвіцай, асветленай вялікім паўцыркульным акном з вітражом. У кампазіцыю вітража ўключаны выява паэта і радкі з яго вершаў (маст. В. Стальмашонак). Уздоўж бакавых лесвіц і над пляцоўкай увахода ў экспазіцыйныя залы ў нішах з паўцыркульным завяршэннем змешчаны размалёўкі на тэму твораў Я. Купалы і яго партрэт (11 кампазіцый; маст. М. Савіцкі).

У 12 залах музея (экспазіцыя 492 м²) каля 20 тыс. экспанатаў, што расказваюць пра жыццё, літаратурную і грамадскую дзейнасць паэта: рукапісы, кнігі, асабістыя рэчы, выданыя творы, фатаграфіі, дакументы розных перыядаў жыцця, жывапісныя, графічныя і скульптурныя работы беларускіх і інш. мастакоў, якія ўвасабляюць вобраз песняра. У музеі ёсць фондасховішча, фататэка, кінаўстаноўка, лекторый на 150 месцаў. Філіялы музея дзейнічаюць на радзіме Я. Купалы ў в. Вязынка Маладзечанскага р-на і ў Ляўках Аршанскага р-на, дзе ў 1935—41 гг. жыў і працаваў народны паэт.

*Літ.:* Літаратурны музей Янкі Купалы.— Мн., 1981. *Т. В. Габрусь, А. М. Кулагін, Л. Г. Лапцэвіч, Т. Р. Чуракова.*

**130. ПОМНІК КАЗЕЮ** Марату (гіст., маст.). У Піянерскім парку.

Герой Савецкага Саюза, юны партызан-разведчык М. Казей нарадзіўся 10.10.1929 г. у в. Станькава Дзяржынскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Вучыўся ў Станькаўскай школе. У Вялікую Айчынную вайну фашысты павесілі яго маці. З лістапада 1942 г. у партызанскім атрадзе імя 25-годдзя Кастрычніка, потым разведчык 200-й партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага. Удзельнічаў у баях у Дзяржынскім р-не каля в. Станькава (9.1.1943 г.), на Слуцкай шашы (снежань 1943 г.), дзе захапіў каштоўныя дакументы і карты праціўніка, у в. Румок Уздзенскага р-на (8.3.1944 г.).

11.5.1944 г. каля в. Хароміцкія Уздзенскага р-на М. Казей, акружаны карнікамі, адстрэльваўся да апошняга патрона, потым гранатай падарваў сябе і некалькіх гітлераўцаў. Пахаваны ў в. Станькава, дзе ў 1987 г. адкрыты мемарыяльны комплекс. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.5.1965 г. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і іншых гарадах Беларусі, школы, піянерскія дружыны, саўгас у Дзяржынскім р-не.

Помнік (скульпт. С. Селіханаў, архіт. В. Волчак; бронза, граніт; вышыня фігуры 3 м) пастаўлены ў 1959 г. на сродкі піянераў рэспублікі. Фігура юнака ўзвышаецца на шырокім пастаменце ў форме ўсечанай



130. *Помнік Марату Казею.*



129. *Фантан «Вянок».*

пірамідь. Герой паказаны ў час апошняга бою з паднятай перад кідком гранатай. Ва ўсёй постаці, у рысах твару — рашучасць і мужнасць, перакананасць у непазбежнай перамозе над ворагам.

*Літ.:* Морозов В. Н. В разведку шёл мальчишка.— Мн. 1965; яго ж. Марат Казей.— Мн., 1970; Костюковский Б. А. Жизнь как она есть.— М., 1973.

*М. Б. Батвіннік, Л. Г. Лапцэвіч.*

**вул. Ландара**

**131. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Непадалёку ад дома № 60, побач з пуцеправодам і кальцавой аўтастрадай. 3 насыпы вышынёй 2—2,5 м, дыяметрам 8—10 м. Абследавалі ў 1925 г. І. А. Сербаў, у 1978 г. Г. В. Штыхаў, у 1980 г. В. Е. Собаль. У адным пашкоджаным кургане на глыбіні 1,5 м быў знойдзены шкілет чалавека, арыентаваны галавой на захад. Побач з ім выяўлены жалезны наканечнік кап'я, падкowападобная фібула, гаршчок, зроблены на ганчарным крузе. Датуецца пачаткам 11 ст., належаў дрыгавічам.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя раскопкі ў ваколіцах Мінска ў 1925 г.— Мн., 1927. *В. Е. Собаль.*

**вул. Леніна**

**132. ДЗЯРЖАЎНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ БССР** (архіт., гіст.). Дом № 20. Заснаваны ў 1939 г., да 1957 г. называўся Дзяржаўнай карціннай галерэяй БССР. У Вялікую Айчынную вайну разрабаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі. Адноўлены ў 1945 г.

Будынак музея пастаўлены ў 1957 г. (архіт. М. Бакланаў) з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём завершаны высокім светлавым ліхтаром. Архітэктура галоўнага фасада вырашана сродкамі класіцыстычнай ордэрнай пластыкі. Парадны ўваход трактаваны шырокай чатырохкалоннай лоджыяй з манументальнай лесвіцай. Каланада фланкіравана двума рызалітамі, у цэнтры якіх у арачных нішах на высокіх пастаментах устаноўлены скульптурныя алегорыі «Жывапіс», «Скульптура» (скульпт. П. Белавусаў, С. Адашкевіч, Л. і М. Роберманы). Манументальнасць пластыкі ўзмоцнена здвоенымі пілястрамі карынфскага ордэра, буйнымі ліштвамі прамавугольных акон, гарызантальнай рустоўкай. Падоўжаны галоўны фасад завершаны буйным карнізам і парапетам з подыумам для скульптурнай кампазіцыі «Слава», якая сімвалізуе росквіт мастацтва ў Беларусі (скульпт. А. Бембель).

Планіроўка будынка арганізавана вакол цэнтральнага двухсветлавога вестыбюля з параднай трохмаршавай лесвіцай. На 1-м і 2-м паверхах — анфілада выставачных залаў. Экспазіцыя разгорнута таксама на галерэі 2-га паверха. Бакавыя рызаліты адведзены пад службовыя і дапаможныя памяшканні, у цокальным паверсе — фондасховішча, майстэрні. У 10 экспазіцыйных залах (пл. 1749 м²), фондах музея і яго філіялах больш за 19 тыс. твораў. У музеі сабраны лепшыя творы беларускага дарэвалюцыйнага і савецкага жывапісу, скульптуры, графікі. Сярод калекцый значнае месца займае старажытнае беларускае мастацтва: абразы, драўляная скульптура, вырабы прыкладнога мастацтва. Шмат выдатных твораў рускага і заходнееўрапейскага мастацтва і Усходу паступіла з фондаў Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі. Музей вядзе навукова-даследчую, збіральніцкую работу, выдае каталогі, альбомы, паштоўкі. Мае рэстаўрацыйную майстэрню, бібліятэку, фоталабараторыю, філіялы: у в. Гурыны Мазырскага р-на, Магілёўскі мастацкі музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі, Раўбіцкі музей беларускага народнага мастацтва.



**132.** *Дзяржаўны мастацкі музей БССР.*




**132.** *Дзяржаўны мастацкі музей БССР. План.*

Дзяржаўны мастацкі музей БССР — буйны культурны цэнтр, прыклад савецкай архітэктуры.

*Літ.:* Государственный художественный музей БССР.— М., 1958; Дзяржаўны мастацкі музей БССР.— Мн., 1976.

*А. М. Кулагін.*

**133. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЛЕНІНА** (архіт.). Размешчана ў цэнтры горада. Забудова вуліцы ад Ленінскага праспекта да вул. Інтэрнацыянальнай уяўляе сабой цэласны архітэктурны ансамбль, узведзены ў 1947—54 гг. (архіт. Г. Заборскі).

Дамы № 3, 4, 5, 6, 8. Размешчаны сіметрычна па баках вуліцы, вырашаны ідэнтычна. Пяціпавярховыя будынкі завершаны развітымі карнізамі на фігурных кранштэйнах, пакрыты вальмавымі дахамі, якія падкрэслены дэкаратыўным парапетам-балюстрадай. Першыя паверхі, дзе размешчаны прадпрыемствы гандлю і бытавога абслугоўвання, вырашаны ў выглядзе аркатурнай каланады з ружова-шэрага граніту. У пралётах паміж калонамі — вялікія арачныя аконныя праёмы. Сцены верхніх жылых паверхаў абліцаваны тэракотавай пліткай. 2-і і 3-і паверхі падзелены развітай гарызантальнай цягай з фрызам з буйных тэракотавых плітак, аздобленых раслінным арнаментам. 3-і і 4-ы паверхі афармлены навяснымі балконамі і ордэрным дэкорам. Будынкі № 4 і 6 злучаны дадатковымі аб'ёмамі з арачнымі праездамі. Верхнія паверхі дадатковых аб'ёмаў заглыблены і завершаны трохвугольнымі шчытамі з дэкаратыўнымі вазамі. На іх фасадных плоскасцях багаты ляпны дэкор.

Дом № 2/26. Размешчаны на рагу вуліц Леніна і Інтэрнацыянальнай. Будынак шасці-, сяміпавярховы. Вуг-

лавая частка паглыблена і зроблена ў выглядзе трохграннага аб'ёму, накрытага вальмавым дахам. Уваход у рэстаран «Патсдам», які займае 2 паверхі, аформлены масіўным парталам з прысадзістымі калонамі і лучковым франтонам.

Забудова вул. Леніна — прыклад архітэктурнага ансамбля.

*Т. В. Габрусь.*

**134. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БУСЛАВУ** Казіміру Паўлавічу (гіст.). На доме № 9. Устаноўлена ў 1984 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага філосафа, акадэміка АН БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР К. П. Буслава, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 540 «Магіла Буслава Казіміра Паўлавіча».

**135. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАЛЧАНАВУ** Паўлу Сцяпанавічу (гіст.). На доме № 9. Устаноўлена ў 1979 г. (скульпт. Л. Гумілеўскі) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага акцёра, народнага артыста СССР П. С. Малчанава, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 610 «Магіла Малчанава Паўла Сцяпанавіча».

**136. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАЦАПУРУ** Міхаілу Яфрэмавічу (гіст.). На доме № 13. Устаноўлена ў 1980 г. (скульпт. М. Палякоў, М. Ткачук) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага вучонага ў галіне механізацыі сельскай гаспадаркі, акадэміка АН БССР, Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук імя У. І. Леніна, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі БССР М. Я. Мацапуры, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 617 «Магіла Мацапуры Міхаіла Яфрэмавіча».




134. *Мемарыяльная дошка К. П. Буславу.*




135. *Мемарыяльная дошка П. С. Малчанаву.*




136. *Мемарыяльная дошка М. Я. Мацапуру.*

**137. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Дом № 30. На будынку 3-й гарадской клінічнай бальніцы імя Я. У. Клумава. Устаноўлена ў 1965 г. (абноўлена ў 1983 г.; архіт. М. Ткачук; сілумін). Тут у Вялікую Айчынную вайну вялі барацьбу супраць акупантаў медыцынскія работнікі — удзельнікі Мінскага камуністычнага падполля. Яны перадавалі партызанам і падпольшчыкам перавязачны матэрыял, лячылі параненых воінаў і перапраўлялі іх у партызанскія атрады, распаўсюджвалі літаратуру. У падпольнай рабоце актыўна ўдзельнічаў прафесар Яўген Уладзіміравіч Клумаў (падпольны псеўданім Самарын).

Герой Савецкага Саюза Я. У. Клумаў нарадзіўся 4.12.1876 г. у Маскве. У 1902 г. скончыў Маскоўскі універсітэт. З 1905 земскі ўрач у Рэчыцкім павеце. У 1-ю сусветную і Грамадзянскую войны ўрач шпіталяў на Заходнім фронце. З 1921 г. працаваў у медыцынскіх установах Мінска. Кандыдат медыцынскіх навук (1935 г.), прафесар (1938 г.). Перад вайной і з восені 1941 г. у 1-й Савецкай бальніцы (з 1944 г. 3-я клінічная), памагаў параненым падпольшчыкам і партызанам, перадаваў ім медыкаменты і хірургічныя інструменты, абсталяваў для народных мсціўцаў 2 палявыя шпіталі. У кастрычніку 1943 г. быў схоплены фашыстамі, у сакавіку 1944 г. разам з жонкай загублены. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.5.1965 г. Яго імем названы ў Мінску вуліца, завулак, школа № 67 і 3-я клінічная бальніца.

*Літ.:* В непокорённом Минске.— Мн., 1987.

*А. П. Няхай.*

**138. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПЕРЦАВУ** Уладзіміру Мікалаевічу (гіст.). На доме № 5. Устаноўлена ў 1971 г. (скульпт. І. Глебаў) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага гісторыка, акадэміка АН БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР У. М. Перцава, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 412 «Магіла Перцава Уладзіміра Мікалаевіча».




138. *Мемарыяльная дошка У. М. Перцаву.*




139. *Мемарыяльная дошка П. С. Пестраку.*




**137.** *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*




**140.** *Помнік С. І. Грыцаўцу.*

**139. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПЕСТРАКУ** Піліпу Сямёнавічу (гіст.). На доме № 4. Устаноўлена ў 1981 г. (скульпт. Э. Астаф'еў) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры БССР П. С. Пестрака, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 632 «Магіла Пестрака Піліпа Сямёнавіча».

**140. ПОМНІК ГРЫЦАЎЦУ** Сяргею Іванавічу (гіст., маст.). На бульвары, арыентаваны на Ленінскі праспект.

Савецкі лётчык, першы двойчы Герой Савецкага Саюза (люты, жнівень 1939 г.) С. І. Грыцавец нарадзіўся 23.6.1909 г. у в. Бараўцы Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. У 1932 г. скончыў Арэнбургскую ваенную школу лётчыкаў. У Чырвонай Арміі з 1931 г. Камандзір авіязвяна, атрада, інструктар-лётчык у складзе інтэрнацыянальнай брыгады ўдзельнічаў (1936—38 гг.) у нацыянальна-рэвалюцыйнай вайне ў Іспаніі, збіў больш за 30 самалётаў праціўніка, 7 з іх за адзін дзень. Удзельнік баёў з японскімі мілітарыстамі на р. Халхін-Гол (1939 г.), у якіх збіў 12 варожых самалётаў. У адным з баёў камандзір знішчальнага авіяпалка маёр В. М. Забалуеў выкінуўся з парашутам з падбітага самалёта і трапіў на варожую тэрыторыю. С. І. Грыцавец прызямліўся каля камандзіра, пасадзіў яго ў свой аднамесны самалёт і пад агнём праціўніка ўзляцеў у паветра. С. І. Грыцавец загінуў 16.9. 1939 г. пры выкананні службовых абавязкаў каля в. Балбасава Аршанскага р-на Віцебскай вобл. Імем героя названы вуліцы ў Баранавічах, Ганцавічах, Ленінградзе. Маскве, Мінску і Оршы; яго імя прысвоена Харкаўскаму ваеннаму авіяцыйнаму вучылішчу; пастаўлены помнікі ў горадзе Баранавічы і ў в. Балбасава Аршанскага р-на, у в. Моўчадзь Баранавіцкага р-на.

Помнік (скульпт. З. Азгур, архіт. В. Волчак; граніт, бронза; вышыня бюста 1,15 м, пастамента 3,5 м) устаноўлены ў 1951 г. На высокім чатырохгранным пастаменце, абліцаваным чорным паліраваным гранітам, пагрудны бюст лётчыка. Рысы твару, упэўнены позірк, шырокія плечы перадаюць мужны вобраз героя. Світар з высокім каўняром і фрэнч з дзвюма выявамі зорак Героя Савецкага Саюза ўдакладняюць яго характарыстыку.

*Літ.:* Люди бессмертного подвига. Кн. 1.—4 изд.— М., 1975; Г р и г о р ь е в Г. К. Две звезды.— М., 1970; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*Г. І. Дулеба, Л. Г. Лапцэвіч.*

**141. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля 3-й клінічнай бальніцы імя Я. У. Клумава. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1936 г. У час акупацыі Мінска нямецка-фашысцкімі захопнікамі помнік быў захаваны сям'ёй рабочага бальніцы П. Марашкі. У 1945 г. зноў пастаўлены на гэтым месцы.

**пл. Леніна**

**142. ЗАБУДОВА ПЛОШЧЫ ЛЕНІНА** (архіт., гіст.). Плошча размешчана ў пачатку Ленінскага праспекта, з'яўляецца галоўнай у горадзе. Фарміраванне яе ансамбля пачалося ў 1930 г. адначасова з будаўніцтвам Дома ўрада. Мае прамавугольную форму (450× ×150 м), забудавана адміністрацыйнымі, навучальнымі і жылымі будынкамі. Паўночную частку займае сквер партэрнага тыпу і адкрытая пляцоўка перад Домам урада (выкарыстоўваецца для стаянкі аўтатранспарту). На заходнім баку размешчаны Дом урада, помнік У. І. Леніну, касцёл Сімяона і Алены (Дом кіно), былыя даходныя жылыя дамы. На ўсходнім баку — будынак выканкома Мінскага гарсавета, інжынерны корпус Мінскага метрапалітэна і станцыя метро «Плошча У. І. Леніна», корпус Бела-




**142.** *Забудова плошчы Леніна. План.*



**142а.** *Дом урада БССР.*

рускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, на паўднёвым баку знаходзіцца будынак Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага. На плошчы праходзяць святочныя дэманстрацыі працоўных і ваенныя парады.

**142а. Дом урада БССР.** Пабудаваны ў 1930—34 гг. (архіт. І. Лангбард).

Праект быў прызнаны лепшым па выніках Усесаюзнага конкурсу (1929 г.), прадугледжваў узвядзенне ансамбля будынкаў Дома ўрада і наркаматаў вакол плошчы, прызначанай для парадаў і дэманстрацый. Ідэя ансамбля не ажыццёўлена. У працэсе будаўніцтва аўтар адмовіўся ад злучальнай галерэі на ўзроўні 3-га паверха паміж бакавымі крыламі, прапанаваў паставіць перад Домам урада помнік У. І. Леніну. Дом урада і помнік з'яўляюцца кампазіцыйнай дамінантай пл. Леніна.

Дом урада — самае буйное на Беларусі збудаванне грамадзянскай архітэктуры даваеннага часу, мае складаную ў плане канфігурацыю. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі выкарыстаны прыём паступовага нарастання сіметрычных рознавышынных аб'ёмаў пры набліжэнні іх да цэнтра, што надае сілуэту будынка дынамічнасць. Цэнтральная дзевяціпавярховая частка заглыблена і фланкіравана бакавымі крыламі, якія паступова паніжаюцца да пяці паверхаў і ўтвараюць унутраную плошчу (100×50 м). Да тыльнага фасада цэнтральнай часткі прымыкае аб'ём залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета БССР, перакрыты паўсферычным купалам на барабане. У дэкоры фасадаў выкарыстана вертыкальнае чляненне — лапаткі простага профілю па ўсім перыметры збудавання, якія надаюць яму накіраванасць у вышыню, манументальнасць.

Інтэр'ер вылучаецца прастатой планіроўкі і функцыянальнай арганізацыяй унутранай прасторы будынка. Цокальны паверх заняты памяшканнямі гаспадарчага прызначэння, 1-ы — вестыбюлямі, гардэробамі, ліфтавымі холамі. Галоўны з трох вялікіх вестыбюляў 1-га паверха знаходзіцца ў цэнтральнай частцы і з'яўляецца асноўным кампазіцыйным звяном. 2 вестыбюлі размешчаны ў бакавых крылах. Ліфты і лесвіцы раўнамерна размеркаваны па ўсім будынку, звязаны паміж сабою пераходамі. У афармленні вестыбюляў, фае, залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета, канферэнц-залы выкарыстана размалёўка




142а. *Дом урада БССР. План 1-га паверха.*



142а. *Дом урада БССР. Фрагмент інтэр'ера.*

(мастакі М. Лебедзева, І. Фрэнк, кіраўнік І. Бродскі). Для залы пасяджэнняў і фае выкананы шматфігурныя рэльефы (скульпт. А. Бембель, Р. Ізмайлаў, У. Рытэр, кіраўнікі М. Манізер, М. Керзін, І. Лангбард) на тэмы рэвалюцыйнай барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва, галерэя скульптурных партрэтаў К. Маркса і Ф. Энгельса (скульпт. М. Керзін), Г. Бабёфа, Ф. Дзяржынскага і А. Ф. Мясцікова (скульпт. З. Азгур), М. В. Фрунзе (скульпт. А. Глебаў), М. Г. Чарнышэўскага (скульпт. А. Арлоў), К. Лібкнехта (скульпт. Р. Ізмайлаў).

У Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі перад адступленнем падрыхтавалі будынак да ўзрыву. Аднак імклівы націск савецкіх войск, рашучыя дзеянні партызан і мінскіх падпольшчыкаў папярэдзілі ўзрыў.

Будынак Дома ўрада — адзін з першых і найбольш значных узораў сінтэзу архітэктуры і манументальнага мастацтва ў Савецкай Беларусі.

*С. Ф. Самбук.*

**142б. Касцёл Сімяона і Алены,** Чырвоны касцёл. Вул. Савецкая, 15. Галоўным фасадам выходзіць на пл. Леніна, арганічна ўпісваецца ў яе ансамбль. Пабудаваны з цэглы 1908—10 гг. паводле праекта архіт. Т. Пайздэрскага, У. Марконі. Трохнефавы 3-вежавы храм асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з развітай паўцыліндрычнай апсідай. Цэнтральны неф і трансепт накрыты ўзаемаперпендыкулярнымі двухсхільнымі дахамі. Ядром кампазіцыі з'яўляецца высокая прамавугольная чатырох'ярусная вежа, якая ўзвышаецца ў паўночна-ўсходнім баку. Абапал алтарнай часткі галоўную вежу дапаўняюць яшчэ 2 невялікія шатровыя вежы. З паўднёва-заходняга боку да галоўнага фасада прыбудавана аднапавярховая галерэя, з якой спачатку быў уваход у плябанію. Уваходы аформлены тамбурамі. Высокія шчыты фасадаў будынка аздоблены дэкарыраванымі архітэктурнымі паясамі, машыкулямі і інш. Плоскасці сцен прарэзаны паўцыркульнымі высокімі рознавялікімі аконнымі праёмамі. У цэнтры галоўнага фасада над галоўным уваходам, а таксама над уваходамі ў крылах трансепта знаходзяцца вялікія вокны-ружы. У дэкаратыўным аздабленні значная роля належыць каларыстычнаму вырашэнню будынка: спалучэнне чырвонага колеру цагляных сцен з тонкімі загладжанымі швамі і жоўтай чарапіцы дахаў.

З 1975 г. будынак прыстасаваны пад рэспубліканскі творчы клуб кінематаграфістаў — Дом кіно. Мае кіна- і канферэнц-залы (на 250 месцаў кожны). Інтэр'еры захавалі сваю прасторавую выразнасць і ў выніку мадэрнізацыі набылі новыя эксплуатацыйныя якасці. У мастацкім аздабленні



142в. і 142г. *Забудова плошчы Леніна. Дамы № 17 і 19.*

**142б.** *Касцёл Сімяона і Алены.*

памяшканняў вылучаюцца вітражы, якія запаўняюць праёмы акон, і люстры з медзі (маст. Г. Вашчанка). У былой алтарнай частцы вітражы з выявамі юнакоў, якія ўвасабляюць алегорыі 5 мастацтваў. У кампазіцыі «Ружа» — нібы алыя вымпелы. Каларыт вітражоў — дымчата-зеленаваты з чырвонымі ўкрапаваннямі. У адзіны комплекс з касцёлам уваходзяць плябанія — мураваны двухпавярховы будынак і частка муравнай агароджы з брамай.

Касцёл і плябанія — помнікі архітэктуры з рысамі неаготыкі і стылю «мадэрн».

*Літ.:* Пазняк З. С. Рэха даўняга часу.— Мн., 1985.

*Л. Г. Лапцэвіч, А. Ю. Пятросава.*

**142в. Жылы дом** (вул. Савецкая, 17). Пабудаваны ў 1912 г. з цэглы паводле праекта архіт. С. Гайдукевіча як даходны жылы дом. Цяпер выкарыстоўваецца адміністрацыйнай установай.

Будынак трохпавярховы прамавугольны ў плане. Уваходы з боку галоўнага і дваровага фасадаў. Кампа-




**142в.** *Дом № 17 па вуліцы Савецкай. План 1-га паверха.*




**142б.** *Касцёл Сімяона і Алены. План.*

8 Зак. 442

зіцыйны акцэнт галоўнага фасада — цэнтральная частка, якая завершана мансардай трапецападобнага абрысу. Галоўны ўваход вылучаны развітым казырком на 2 круглых калонах, над якім — высокі аконны праём з паўцыркульным завяршэннем. Пластыку фасада ўзбагачаюць ляпныя віньеткі, гірлянды, балконы з металічнай агароджай і эркер. Сіметрычную кампазіцыю галоўнага фасада парушае скошаны заходні вугал, завершаны невысокім атыкам. З боку дваровага фасада ўваходны рызаліт. Планіровачным цэнтрам з'яўляецца лесвічны вузел, вакол якога раней размяшчаліся кватэры.

На доме ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі падпольшчыкам і В. В. Папову.

Дом — помнік архітэктуры з элементамі стылю «мадэрн». *Т. І. Чарняўская.*



**142.** *Плошча Леніна.*

**142г. Жылы дом** (вул. Савецкая, 19). Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы паводле праекта архіт. Г. Гая як даходны жылы дом. Цяпер выкарыстоўваецца адміністрацыйнай установай.

Чатырохпавярховы прамавугольны ў плане будынак са зрэзаным усходнім вуглом. Галоўны фасад вылучаны пілястрамі, ляпнымі дэталямі, лучковым праёмам 4-га паверха, па баках якога размешчаны дэкаратыўныя вазы на пастаментах. Прамавугольны ўваходны партал фланкіраваны шырокімі пілястрамі, злучанымі дэкаратыўнай лучковай аркай. Сцены галоўнага фасада расчлянёны на 1-м і 3-м паверхах прамавугольнымі, на 2-м — паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. 4-ы паверх дома аддзелены ад ніжніх карнізным поясам, лучковыя аконныя праёмы абрамлены пілястрамі, завершаны сандрыкамі. Пластыку фасада ўзбагачаюць сіметрычна размешчаныя балкончыкі з узорыстымі агароджамі (чыгуннае ліццё). Дваровы фасад вырашаны проста, без архітэктурнага дэкору.

На доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка Р. Р. Шырмe. *Т. І. Чарняўская.*



**142г.** *Дом № 19 па вуліцы Савецкай. Фрагмент дэкору галоўнага фасада.*





**142г.** *Дом № 19 па вул. Савецкай. План 1-га паверха.*

**142д. Будынак выканкома гарадскога Савета народных дэпутатаў.** Пабудаваны ў 1964 г. (архіт. С. Мусінскі, Г. Сысоеў). Фарміруе паўднёва-ўсходні бок забудовы плошчы Леніна. Своеасаблівасць галоўнага фасада 5-павярховага прамавугольнага ў плане аб'ёму ствараецца мерным рытмам лапатак на ўсю вышыню будынка. Плоскасці паміж лапаткамі (3 цэнтральныя і па 1 па баках) акцэнтаваны рэбрамі, якімі адначасова вылучаны галоўны і бакавыя ўваходы. Вертыкальныя чляненні будынка гарманіруюць з кампазіцыйным ладам Дома ўрада БССР, інжынернага корпуса Мінскага метрапалітэна і галоўнага навучальнага корпуса БДУ.

Цэнтральную частку і левае крыло займаюць службовыя памяшканні гарвыканкома, размешчаныя ўздоўж калідора, што адыходзіць у два бакі ад лесвічна-ліфтавага хола ў цэнтры. На 4-м паверсе двухсветлавая зала пасяджэнняў (450 м²) з фае-выстаўкай. Правае крыло з самастойным уваходам займае Міністэрства замежных спраў БССР. *А. А. Воінаў.*

**142е. Інжынерны корпус метрапалітэна.** Уваходзіць у комплекс забудовы паўднёва-ўсходняга боку плошчы. Пабудаваны ў 1984 г. (архіт. Ю. Грыгор'еў, Дз. Кудраўцаў). 6—9-павярховы Г-падобны ў плане корпус размешчаны паміж будынкам гарвыканкома і галоўным корпусам БДУ. Пластыку галоўнага фасада, арыентаванага на плошчу, узбагачае мерны рытм лапатак ламанага контуру, што адпавядае вертыкальным чляненням Дома ўрада БССР і галоўнага корпуса БДУ. З боку галоўнага фасада асіметрычна размешчаны ўваход у вестыбюль станцыі метро «Плошча У. І. Леніна», акцэнтаваны глухім эркерам, завершаным вежай з гадзіннікам і флюгерам (каваная медзь; мастак Ю. Любімаў). Аналагічны эркер меншых памераў вылучае ўваход у корпус з боку заходняга тарцовага фасада. Планіроўка калідорная. Фасады апрацаваны тынкоўкай светла-шэрага колеру. Цокаль і партал увахода ў вестыбюль станцыі метрапалітэна абліцаваны шэрым паліраваным гранітам.

Корпус — прыклад адміністрацыйных збудаванняў савецкай архітэктуры. *В. Б. Ангелаў.*

**142ж. Комплекс будынкаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.**

Комплекс універсітэцкага гарадка размешчаны ў квартале паміж плошчамі Прывакзальнай і Леніна. У 1928—31 гг. пабудаваны галоўны корпус і карпусы асобных факультэтаў (архіт. І. Запарожац, Г. Лаўроў). Просты і выразны планіровачнай схеме 3-павярховых карпусоў адпавядала лаканічная па форме архітэктура фасадаў. Разбураныя ў Вялікую Айчынную вайну будынкі БДУ адноўлены ў 1945—49 гг., захавана ўнутраная планіроўка, часткова зменены фасады (архіт. С. Баткоўскі). У 1960-я гады

пабудаваны новы галоўны корпус універсітэта (архіт. М. Бакланаў, А. Духан). У вырашэнні галоўнага фасада, які выходзіць на пл. Леніна, пераважае вертыкальнае члянечне, што адпавядае характару архітэктуры Дома ўрада БССР, размешчанага насупраць. На вул. Ленінградскай пабудаваны корпус хімічнага факультэта (архіт. Н. Дзяменцьева). На тэрыторыі універсітэцкага гарадка на ўшанаванне памяці выкладчыкаў і студэнтаў БДУ, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік.

У 1970-я гады пачата будаўніцтва новага універсітэцкага гарадка (архіт. Б. Папоў, А. Сабалеўскі, М. Вінаградаў і інш.) у раёне Шчомыслiцы за кальцавой аўтадарогай, дзе ўзведзены корпус Навукова-даследчага інстытута прыкладных фізічных праблем і радыёфізічнага факультэта, лабараторны корпус, трынаццаціпавярховы інтэрнат.

Пастанова аб адкрыцці Беларускага дзяржаўнага універсітэта (БДУ) прынята прэзідыумам ЦВК БССР 25.2. 1919 г. Урад РСФСР даручыў наркому асветы А. В. Луначарскаму стварыць у Маскве камісію для садзеяння арганізацыі БДУ. Узначаліў яе рэктар Маскоўскага універсітэта В. П. Волгін. У Мінску пачала працаваць дзяржаўная камісія на чале з вядомым савецкім вучоным У. І. Пічэтам, які стаў першым рэктарам БДУ. Акупацыя буржуазнай Польшчай у 1919—20 гг. часткі Беларусі на 2 гады затрымала адкрыццё універсітэта. Адкрыты 11.7.1921 г. Факультэты: рабочы, грамадскіх навук, медыцынскі. На рабочым факультэце заняткі пачаліся летам, на астатніх — у лістападзе 1921 г. АН СССР, Расійская цэнтральная кніжная палата, Петраградскі і Кіеўскі універсітэты перадалі БДУ шмат навуковай літаратуры. Акрамя таго, універсітэт атрымаў бібліятэкі акадэміка Я. Ф. Карскага, этнографа М. А. Янчука і інш. Для работы ў БДУ былі запрошаны вучоныя з Масквы, Петраграда, Кіева, Смаленска і інш. гарадоў. У год адкрыцця навучалася 1390 студэнтаў, прафесарска-выкладчыцкі калектыў налічваў 49 чалавек, у т. л. 14 прафесараў. У 1922 г. створаны педагагічны факультэт з 4 аддзяленнямі: фізіка-матэматычным, прыродазнаўчым, сацыяльна-гістарычным і літаратурна-лінгвістычным, якое мела беларускую, рускую, польскую і яўрэйскую секцыі. Пазней пачалі працаваць хіміка-тэхналагічны, народнай гаспадаркі, права і савецкага будаўніцтва, завочны і інш. факультэты. Першы выпуск спецыялістаў адбыўся ў лютым 1925 г. У 1927 г. была адкрыта аспірантура. На базе асобных факультэтаў універсітэта ў 1930—33 гг. створаны Беларускі інстытут народнай гаспадаркі, Мінскі ме-



**142ж.** *Галоўны корпус БДУ імя У. І. Леніна.*

дыцынскі інстытут, Беларускі дзяржаўны вышэйшы педагагічны інстытут (з 1935 г. Мінскі педагагічны інстытут, з 1936 г. імя А. М. Горкага), Мінскі юрыдычны інстытут. У 1934 г. у БДУ былі адкрыты гістарычны і геаграфічны, у 1939 г.— філалагічны факультэты. За першае дзесяцігоддзе універсітэт падрыхтаваў больш за 5 тыс. спецыялістаў. Перад Вялікай Айчыннай вайной на 6 факультэтах навучалася больш за 2 тыс. студэнтаў, прафесарска-выкладчыцкі калектыў налічваў больш за 150 чалавек.

Летам 1941 г. у сувязі з акупацыяй Беларусі нямецка-фашысцкімі захопнікамі БДУ спыніў сваю работу. Гітлераўцы разбурылі яго вучэбныя карпусы і студэнцкія інтэрнаты, разрабавалі або знішчылі абсталяванне, бібліятэчны фонд. Універсітэт аднавіў работу ў кастрычніку 1943 г. на чыгуначнай станцыі Сходня пад Масквой. Практычныя заняткі вяліся ў лабараторыях Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў універсітэт 12.9.1944 г. аднавіў работу ў Мінску. У 1949 г. БДУ прысвоена імя У. І. Леніна.

За пасляваенныя гады абноўлена і значна расшырана матэрыяльна-тэхнічная база універсітэта. Пабудаваны новыя вучэбныя карпусы, інтэрнаты, створаны добрыя ўмовы для вучобы і навуковай працы. За 1921—87 гг. універсітэт закончыла больш за 52 тыс. чалавек. У ліку яго выпускнікоў 3 Героі Савецкага Саюза, 10 Герояў Сацыялістычнай Працы, больш за 100 лаўрэатаў Ленінскай, Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, прэмій Ленінскага камсамола.

БДУ імя У. І. Леніна — адзін з буйнейшых навучальных і навуковых цэнтраў БССР. На 1.1.1988 г. у ім вучылася больш за 16 тыс. студэнтаў, у т. л. каля 1000 замежных з 78 краін свету. Працавалі факультэты: гістарычны, філалагічны, журналістыкі, юрыдычны, механіка-матэматычны, прыкладной матэматыкі, фізічны, радыёфізікі і электронікі, хімічны, біялагічны, геаграфічны. Навучанне дзённае, вячэрняя і завочнае. Дзейнічаюць падрыхтоўчае аддзяленне, Інстытут павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў грамадскіх навук ВНУ. БДУ імя У. І. Леніна рыхтуе спецыялістаў па 17 спецыяльнасцях: радыёфізіцы, электроніцы, фізіцы, хіміі, біялогіі, правазнаўству, гісторыі, філасофіі і інш. (74 спецыялізацыі).

На 1.1.1988 г. працавалі 103 кафедры, 3 навукова-даследчыя інстытуты — прыкладных фізічных праблем імя А. Н. Сеўчанкі, фізіка-хімічных праблем і ядзерных праблем, 22 навукова-даследчыя лабараторыі. Вучэбную, навуковую і выхаваўчую работу ва універсітэце вядуць каля 5,5 тыс. чалавек, у т. л. два акадэмікі і 4 члены-карэспандэнты АН БССР, 112 дактароў навук і прафесараў, больш за 1100 кандыдатаў навук. У БДУ імя У. І. Леніна ёсць вылічальны цэнтр, выдавецтва, 3 музеі (гістарычны, геалага-мінералагічны, заалагічны), біялагічная і геаграфічная станцыі, вучэбна-доследная гаспадарка, батанічны сад, фундаментальная бібліятэка (на 1.1.1988 г. больш за 1 млн. 950 тыс. тамоў). Выдаецца шматтыражная газета «Беларускі універсітэт» і навуковы часопіс «Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна» (у чатырох серыях). У 1967 г. універсітэт узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, у 1978 г.— ордэнам Дружбы Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам.

*Літ.:* Белорусский государственный университет имени В. И. Ленина: [Фотоальбом].— Мн., 1982. *А. А. Воінаў, Г. І. Дулеба.*

**142з. Будынак Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага** (вул. Савецкая, 18). Заснаваны ў 1922 г. як педагагічны факультэт БДУ. З 1931 г. самастойны інстытут (да 1935 г. Беларускі дзяржаўны вышэйшы педагагічны інстытут). Імя А. М. Горкага прысвоена ў 1936 г. Факультэты: матэматычны, фізічны, прыродазнаўства, філалагічны, гістарычны, педагогікі і методыкі пачатковага навучання, дашкольнага выхавання, дэфекталагічны, музычна-педагагічны. Навучанне дзённае, вячэрняе і завочнае. Працуе падрыхтоўчае аддзяленне. Аспірантура з 1933 г. Пры інстытуце факультэт павышэння кваліфікацыі дырэктараў сярэдніх агульнаадукацыйных школ. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1972 г.).

Галоўны корпус пабудаваны ў 1931 г. (архіт. І. Запарожац, Г. Лаўроў), рэканструяваны ў 1951—59 гг. (архіт. Г. Заборскі). Уяўляў трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Яго галоўны фасад быў упрыгожаны трыгліфным фрызам з алегарычнымі барэльефамі «Атрыбуты навук», порці-

кам на 8 падвойных калонах. На глухіх плоскасцях сцяны сіметрычна размешчаны ў круглых нішах бюсты В. Р. Бялінскага і К. Дз. Ушынскага. Канферэнцзала на 600 месцаў на 2-м паверсе, на які вядзе парадная васьмімаршавая лесвіца.

У 1963 г. і 1964—66 гг. да галоўнага прыбудаваны вучэбна-лабараторныя карпусы (архіт. Г. Заборскі), у 1970 г.— спартыўны корпус (архіт. В. Марцьянаў). У 1986—88 гг. перад галоўным фасадам старога галоўнага корпуса пабудаваны новы 14-павярховы (архіт. І. Марчанка, В. Нікіцін), арыентаваны на пл. Леніна. Ён злучаны са старымі карпусамі цэнтральным пераходам і двума бакавымі несіметрычнымі крыламі, якія падтрымліваюцца чатырохграннымі калонамі на ўзроўні 1—2 паверхаў.

На будынку ін-та ўстаноўлена мемарыяльная дошка І. І. Замоціну, на тэрыторыі — помнік студэнтам і выкладчыкам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

Будынак педінстытута — прыклад архітэктуры навучальных устаноў.

*В. Б. Ангелаў.*

**143. ПОМНІК АМЕЛЬЯНЮКУ** Уладзіміру Сцяпанавічу (гіст., маст.). Каля Дома кіно.

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Мінскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну. Герой Савецкага Саюза (1965 г.) У. С. Амельянюк нарадзіўся ў 1917 г. у г. Дно Пскоўскай вобл. у сям'і ваеннаслужачага. Кандыдат у члены КПСС (1940 г.). Вучыўся ў Мінскай прафтэхшколе сувязі, на педагагічных курсах. З 1933 г. рэдактар газеты «Ударнік Дзяржыншчыны», з 1939 г. супрацоўнік рэспубліканскай газеты «Піянер Беларусі». Перад Вялікай Айчыннай вайной — студэнт Камуністычнага інстытута журналістыкі імя С. М. Кірава ў Мінску. З жніўня 1941 г. у складзе Камароўскай партыйнай падпольнай групы. Размнажаў і распаўсюджваў зводкі Саўінфармбюро, пісаў лістоўкі, падтрымліваў сувязь з партызанскімі атрадамі Мінскай вобл. і Дзяржынскім камуністычным падполлем. З пачатку мая 1942 г. член Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б, загадчык аддзела агітацыі і прапаганды, рэдактар падпольных выданняў, першага нумара падпольнай газеты «Звязда» — органа Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. Удзельнічаў у вызваленні ваеннапалонных з лагераў смерці, у стварэнні падпольнай друкарні. Загінуў пры выкананні баявога задання 26.5.1942 г. Яго імем названы вуліцы ў Дзяржынску, Мінску. У пас. Самахвалавічы Мінскага р-на, дзе ён вучыўся ў школе, пастаўлены помнік.

У 1980 г. на месцы, дзе загінуў У. С. Амельянюк, устаноўлены мемарыяльны знак (скульпт. А. Анікейчык, архіт. Ю. Градаў, Л. Левін; граніт, бронза). Уяўляе сабой двухметровую глыбу чырвонага граніту з няроўнымі зрэзамі і шурпатай паверхняй. З-пад яе нібы вырываецца падхоплены ветрам пачак лістовак са слядамі куль. На сцяне з чорнага паліраванага граніту, якая агінае мемарыяльны знак,— выявы факела і калючага дроту. Абапал гранітнага



143. *Помнік У. С. Амельянюку.*

144. *Помнік У. І. Леніну.*

блока — пліты з імёнамі падпольшчыкаў. Мемарыяльны знак услаўляе мужнасць прадстаўнікоў беларускага друку, якія словамі веры, праўды і гневу ўзнімалі народ на барацьбу з захопнікамі.

*Літ.:* Петраченко Д. Н. Именами героев.— Мн., 1978; Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В непокоренном Минске.— Мн., 1987.

*Л. Г. Лапцэвіч, А. П. Няхай.*

**144. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст., маст.). Перад Домам урада. Адкрыты 7.11.1933 г. (скульпт. М. Манізер, архіт. І. Лангбард; бронза, чорны лабрадарыт; вышыня скульптуры 7 м). Праект быў ухвалены ў выніку Усесаюзнага конкурсу (1931 г.). У час акупацыі Мінска нямецка-фашысцкія захопнікі знішчылі скульптуру. У 1945 г. адноўлена, адліта па ацалелых формах, якія захаваліся ў майстэрні М. Манізера ў Ленінградзе.

Скульптура правадыра ўзвышаецца на пастаменце-трыбуне. Ільіч нібы звяртаецца да народа з прамовай, адной рукой апіраецца на поручні трыбуны, у другой трымае шапку. Спалучэннем дэталёвай прапрацоўкі рысаў твару і абагуленай трактоўкі адзення дасягнута партрэтная дакладнасць і манументальнасць вобраза. З чатырох бакоў масіўнага пастамента гарэльефы: «Кастрычніцкая рэвалюцыя», «Абарона Радзімы», «Індустрыялізацыя краіны», «Калектывізацыя сельскай гаспадаркі», якія развіваюць і канкрэтызуюць агульную ідэю помніка, раскрываюць ленінскую тэму.

Помнік У. І. Леніну — неад'емная частка агульнай кампазіцыі ансамбля Дома ўрада і плошчы Леніна. Шырокія прыступкі лесвіцы каля асновы помніка, арганізацыя ўнутранай плошчы каля Дома ўрада ўзмацняюць яго велічнасць і ідэйна-вобразнае ўздзеянне. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**145. ПОМНІК СТУДЭНТАМ І ВЫКЛАДЧЫКАМ БДУ ІМЯ У. І. ЛЕНІНА** (гіст.). На тэрыторыі універсітэцкага гарадка. На ўшанаванне памяці студэнтаў і выкладчыкаў універсітэта, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены мемарыяльны знак (архіт. І. Пілатовіч, У. Дзятлаў).



145. *Помнік студэнтам і выкладчыкам БДУ імя У. І. Леніна.*

**вул. Ленінградская**

**146. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНІ АБЛАСНЫ КАМІТЭТ РСДРП(б), МІНСКІ САВЕТ РАБОЧЫХ І САЛДАЦКІХ ДЭПУТАТАЎ І РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ «ЗВЕЗДА»** (гіст.). Дом № 6.

У гэтым будынку ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі размяшчаліся Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б), Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў і рэдакцыя газеты «Звезда».

Пасля VI з'езда РСДРП(б) бальшавікі Беларусі і Заходняга фронту ўзмацнілі работу па згуртаванню сваіх радоў. 1—3(14—16).9.1917 г. у Мінску адбылася Паўночна-Заходняя абласная і франтавая нарада РСДРП(б), якая прыняла рашэнне аб скліканні Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі, для чаго было выбрана абласное Бюро РСДРП(б). 1-я Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РСДРП(б) адбылася ў Мінску 15—18.9(28.9—1.10).1917 г. У ёй удзельнічалі 88 дэлегатаў ад 7132 членаў партыі і 2058 спачуваючых. Канферэнцыя ўтварыла Паўночна-Заходнюю абласную арганізацыю РСДРП(б) з партыйных арганізацый Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, часткі Віленскай губерняў і Заходняга фронту. Для кіраўніцтва партыйнай работай быў выбраны Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б) у складзе 26 чалавек. Ад Мінска ў яго ўвайшлі І. Я. Алібегаў, Л. В. Грамашэўскі, В. І. Красноў (Берлянд), А. Ф. Мяснікоў, У. С. Селязнёў, В. В. Фамін, С. Я. Шчукін. Старшыня камітэта А. Ф. Мяснікоў, сакратар У. С. Селязнёў. Друкаваны орган камітэта — газета «Звезда» («Молот», «Буревестник»).

Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РСДРП(б) завяршыла працэс афармлення адзінай бальшавіцкай партыі на Беларусі. 2-я Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РСДРП(б) (надзвычайная), якая адбылася 5—7(18—20).10.1917 г. абмеркавала пытанне аб перадачы ўлады ў цэнтры і на месцах Саветам, якія павінны былі стаць органамі ўзброенага паўстання супраць буржуазнага Часовага ўрада, за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі.

Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў быў створаны 4(17).3.1917 г. па рашэнню нарады бальшавікоў Мінска і Заходняга фронту. Старшыні выканкома — Б. П. Пазерн, з 8(21) ліпеня — І. Е. Любімаў, з верасня 1917 г.— К. І. Ландар. У выканком уваходзілі 18 (пазней 16) прадстаўнікоў ад прамысловых прадпрыемстваў, 18 (пазней 20) ад вайсковых часцей, па 1 ад гарадскіх арганізацый РСДРП(б), Бунда, эсэраў, Савета сялянскіх дэпутатаў. Друкаваны орган — газета «Известия Минского Совета рабочих и солдатских депутатов». 19 мая (1 чэрвеня) у Савеце была аформлена бальшавіцкая фракцыя, у якую ўвайшлі М. В. Фрунзе, А. Ф. Мяснікоў, І. Я. Алібегаў, В. Г. Кнорын, І. Е. Любімаў, І. Ф. Скуратовіч і інш. Мінскі Савет стаў рэвалюцыйным цэнтрам на Беларусі і Заходнім фронце. Ён прыняў пастанову аб увядзенні васьмігадзіннага рабочага дня на прадпрыемствах і ў майстэрнях Мінска, распрацаваў статут салдацкіх камітэтаў, актыўна ўдзельнічаў у скліканні і правядзенні 7—17 (20—30).4.1917 г. 1-га з'езда ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронту, разам з франтавым камітэтам стварыў 28.8 (10.9).1917 г. Часовы рэвалюцыйны камітэт Усходняга фронту па барацьбе з карнілаўшчынай. 5(18) верасня Мінскі Савет прыняў рэзалюцыю аб нацыяналізацыі асноўных галін прамысловасці, неадкладнай перадачы



146. *Дом, дзе размяшчаўся Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б), Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў і рэдакцыя газеты «Звезда».*

памешчыцкіх зямель сялянам і інш. дакументы. 15(28) верасня сход Мінскага Савета вырашыў тэрмінова правесці перавыбары Савета. 24 верасня (7 кастрычніка) газета «Молот» апублікавала падрыхтаваны А. Ф. Мясніковым наказ рабочых і салдат дэлегатам пры выбарах у Мінскі Савет. Наказ абавязваў дэпутатаў дабівацца пераходу ўлады Саветам, вызвалення палітзняволеных, прадастаўлення ўсім народам Расіі права на самавызначэнне, адмены на фронце пакарання смерцю, спынення імперыялістычнай вайны і інш.

Пасля вераснёўскіх перавыбараў бальшавікі атрымалі ў Савеце 184 месцы з 337. У выканком прайшлі 23 бальшавікі (2/3 месцаў). 8(21) кастрычніка на першым агульным сходзе Мінскага Савета быў выбраны яго прэзідыум, які складаўся толькі з бальшавікоў. Савет вёў барацьбу за перадачу ўлады Саветам і скліканне II Усерасійскага з'езда Саветаў, куды паслаў 3 дэлегатаў-бальшавікоў. Як толькі было атрымана паведамленне аб перамозе сацыялістычнай рэвалюцыі ў Петраградзе, 25.10(7.11).1917 г. адбылося нечарговае пасяджэнне выканкома Савета, які выдаў загад № 1. У ім было аб'яўлена аб пераходзе ў Мінску ўлады ў рукі Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З мінскай турмы былі вызвалены палітзняволеныя, з іх створаны 1-ы рэвалюцыйны імя Мінскага Савета полк. На бок рэвалюцыі перайшлі 37-ы і 289-ы запасныя палкі. Вечарам узброеныя рабочыя і чырвонагвардзейцы занялі пошту, тэлеграф, радыёстанцыю, вакзал. 27 кастрычніка (9 лістапада) Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б) і Мінскі Савет стварылі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, які ў пачатку лістапада папоўніўся прадстаўнікамі фронту і стаў называцца Ваенна-рэвалюцыйным камітэтам Заходняга фронту. Прэзідыум Мінскага Савета ўвайшоў у ВРК. Бюро ВРК узначаліў К. І. Ландар. 2(15) лістапада Савет цалкам узяў уладу ў свае рукі.



147. *Дом № 5 па вуліцы Ленінградскай.*

Выключную ролю ў арганізацыі рэвалюцыйнай мабілізацыі працоўных мас Беларусі і салдат Заходняга фронту ў перыяд падрыхтоўкі сацыялістычнай рэвалюцыі адыграла газета «Звезда» — орган Мінскага камітэта РСДРП(б). Выходзіла на рускай мове. Першы нумар яе выйшаў 27.7(9.8).1917 г. трохтысячным тыражом. Стваральнікі і першыя рэдактары газеты — В. Г. Кнорын, А. Ф. Мяснікоў, К. І. Ландар, В. В. Фамін, М. В. Фрунзе. З'яўленне газеты было з радасцю сустрэта рабочымі і салдатамі, якія ўносілі ў яе фонд грошы. За рэвалюцыйную прапаганду на № 17 забаронена Часовым урадам. З 15(28).9.1917 г. як орган Паўночна-Заходняга абласнога бюро РСДРП(б) выдавалася пад назвай «Молот» (№ 1—18), зноў забаронена. З 8(21).10.1917 г. выходзіла пад назвай «Буревестник» (19 нумароў), з 1(14).11.1917 г. пад першапачатковай назвай — «Звезда».

На доме, дзе размяшчаліся Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б), Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў і рэдакцыя газеты «Звезда» (у той час вул. Петраградская), у 1947 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т. 1.— Мн., 1957; Ивашин В. Г. Великий Октябрь в Минске.— Мн., 1957; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967.

*В. Б. Караткевіч.*

**147. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 5. Пабудаваны ў 1937 г. з цэглы (архіт. А. П. Воінаў) для навукова-тэхнічных работнікаў. Цяпер частка 1-га паверха занята прадпрыемствам гандлю.

Чатырохпавярховы прамавугольны ў плане будынак з пакатым вальмавым дахам пастаўлены на высокім цокалі, апрацаваным рустам. Галоўны фасад падоўжны, атынкаваны і дэкарыраваны ордэрнымі элементамі. На ім вылучаюцца блокі 4 лесвічных клетак, якія маюць вертыкальнае стужкавае шкленне. Вакол лесвічных клетак згрупаваны балконы. Вокны прамавугольныя. Астатнія фасады без дэкору.

Жылы дом — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі канструктывізму.

*І. С. Мельнік.*

**148. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПРЫЛЯЖАЕВУ** Мікалаю Аляксандравічу (гіст.). На корпусе хімічнага факультэта БДУ (дом № 14). Устаноўлена ў 1980 г. (скульпт. Э. Астаф'еў).

Савецкі хімік-арганік, акадэмік АН БССР (1940 г., член-карэспандэнт з 1936 г.), член-карэспандэнт АН СССР (1933 г.) М. А. Прыляжаеў нарадзіўся 15.9.1877 г. у Горкім у сям'і свяшчэнніка. У 1900 г. скончыў Варшаўскі універсітэт. Працаваў там жа (з 1913 г. прафесар). З 1915 г. загадчык кафедры арганічнай хіміі Кіеўскага політэхнічнага інстытута. У 1924—32 гг. прафесар БДУ, з



148. *Мемарыяльная дошка М. А. Прыляжаеву.*

1935 г.— БПІ. У 1931—33 гг. дырэктар інстытута хіміі АН БССР. Даследаваў узаемадзеянне арганічных перакісаў з ненасычанымі злучэннямі. Распрацаваў метад атрымання а-вокісаў алефінаў прамым акісленнем падвойнай сувязі гідраперакісам бензаілу (рэакцыя Прыляжаева). Асноўныя працы: «Арганічныя перакісы і выкарыстанне іх для акіслення негранічных злучэнняў» (1912 г.), «Браміраванне трацічных спіртоў» (разам з В. Пансевічам, 1939 г.) і інш. Прэмія А. М. Бутлерава (1912 г.) за работы аб дзеянні арганічных гідраперакісаў на негранічныя злучэнні. Памёр М. А. Прыляжаеў 26.5.1944 г.

*Літ.:* Ахрем А. А., Прилежаева Е. Н., Мещеряков А. П. Жизнь и деятельность Н. А. Прилежаева.— Журнал общей химии, 1951, т. 21, в. 11.

**Ленінскі праспект**

**149. БУДЫНАК АБ'ЯДНАНАЙ ГІДРАМЕТЭАРАЛАГІЧНАЙ СТАНЦЫІ «МІНСК»** (архіт.). Дом № 110. Пабудаваны ў 1934 г. (архіт. І. Валадзько) з цэглы для геафізічнай абсерваторыі. У 1956 г. абсерваторыя рэарганізавана ў гідраметэаралагічную станцыю. У 1970 г. на яе тэрыторыі ўзведзены новы пяціпавярховы адміністрацыйны корпус.

Размешчаны на ўзгорку. Рэльеф мясцовасці абумовіў ступеньчатую бу-




149. *Будынак былой геафізічнай абсерваторыі. План 1-га паверха.*

дову плана, што адбілася на аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі будынка. Трохпавярховы прамавугольны ў плане з рызалітамі і невялікім тамбурам аб'ём на высокім цокалі фланкіруюць на галоўным фасадзе глухія, больш высокія аб'ёмы лесвічных клетак. Сваім галоўным паўночным фасадам павернуты да праспекта. Сцены пазбаўлены дэкору і прарэзаны вялікімі амаль квадратнымі аконнымі праёмамі. Лесвічныя клеткі на бакавых фасадах маюць суцэльнае вертыкальнае шкленне. З боку дваровага фасада, на ўзроўні 2-га і 3-га паверхаў, па ўсёй даўжыні будынка зроблены балконы (першапачаткова ў выглядзе зашклёных галерэй на вуглавых частках). Планіроўка калідорная з двухбаковым размяшчэннем лабараторый і дапаможных памяшканняў.

Будынак — помнік архітэктуры канструктывізму.

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975. *А. А. Міцянін.*

**150. БУДЫНАК БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТА ФІЗІЧНАЙ КУЛЬТУРЫ** (архіт.). Дом № 51.

Інстытут фізічнай культуры заснаваны ў 1937 г. Факультэты: педагагічны, масавых відаў спорту, спартыўных гульняў і адзінаборства; падрыхтоўчае аддзяленне. Навучанне дзённае і завочнае. Аспірантура з 1966 г. Пры інстытуце працуе праблемная навукова-даследчая лабараторыя, факультэт павышэння выкладчыкаў фіз. выхавання вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1937 г.).

Будынак інстытута ўзведзены ў 1939 г. (архіт. А. Брэгман, А. Воінаў, У. Мурамцаў) з цэглы. У 1954 г. было падоўжана левае крыло, што выходзіць на вул. Я. Коласа,— прыбудаваны корпус плавальнага басейна (архіт. С. Мусінскі), у 1963 г. прыбудова зроблена і па Ленінскім пр.— корпус спартыўна-трэніровачных залаў (архіт. С. Мусінскі, Г. Сысоеў). З'яўляецца кампазіцыйнай дамінантай на пл. Я. Коласа ў месцы злучэння яе з Ленінскім пр. і вул. Я. Коласа. Галоўны фасад цэнтральнага корпуса, што выходзіць на пл. Я. Коласа, вырашаны ў выглядзе крывалінейнага ў плане буйнамаштабнага порціка, утворанага 6 пілонамі квадратнага сячэння на вышыні чатырох паверхаў і двухпавярховага атыка над ім. Пілоны апрацаваны рустам, ім адпавядаюць шырокія лапаткі, якія раўнамерна чляняць сцяну галоўнага фасада. Цэнтральную частку будынка ўвенчвае ступеньчаты атыкавы паверх, які завяршае галоўны фасад. Фасады бакавых крылаў, арыентаваных на вул. Я. Коласа і Ленінскі праспект, рытмічна падзелены



150. *Будынак Беларускага інстытута фізічнай культуры.*



150. *Будынак Беларускага інстытута фізічнай культуры. План 1-га паверха.*

магутнымі паўкалонамі, аб'яднанымі фрызам і агульнай асновай, рытмам высокіх прамавугольных акон. Галоўны фасад чляненьі квадратнымі аконнымі праёмамі. Дваровыя фасады не маюць архітэктурнага дэкору.

Планіроўка калідорнага тыпу з аднабаковым размяшчэннем аўдыторый. На восі цэнтральнай часткі знаходзіцца прасторны вестыбюль, парадная трохмаршавая лесвіца. На атыкавым паверсе — гімнастычная зала. Перакрыцці ва ўсіх частках будынка плоскія, у цэнтральным вестыбюлі столь мае буйныя кесоны.

У 1980—82 гг. на праспекце Машэрава пабудаваны новы шматпавярховы вучэбны корпус (архіт. У. Афанасьеў, Б. Школьнікаў).

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975. *А. А. Міцянін.*

**151. БУДЫНАК БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРАЛЬНА-МАСТАЦКАГА ІНСТЫТУТА** (архіт.). Дом № 81. Пабудаваны ў 1953 г. (архіт. Я. Шапіра).

Беларускі тэатральны інстытут заснаваны ў 1945 г. Пасля адкрыцця мастацкага факультэта з 1953 г. Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. У 1987—88 навучальным годзе каля 580 студэнтаў. Факультэты: тэатральны, мастацкі і мастацка-прамысловы. Вядзе падрыхтоўку па спецыяльнасцях: акцёр драматычнага тэатра і кіно, акцёр тэатра лялек; рэжысёр драмы, тэлебачання, народнага тэатра; жывапіс, скульптура, графіка, манументальна-дэкаратыўнае мастацтва, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, праектаванне наглядпай агітацыі, выставак і рэклам, інтэр'ер і абсталяванне, прамысловае мастацтва. Навучанне дзённае. Працуе завочнае аддзяленне, якое рыхтуе рэжысёраў тэлебачання і народнага тэатра, тэатразнаўцаў, мастацтвазнаўцаў. З 1969 г. працуе аспірантура. З 1981 г. дзейнічае вучэбны студэнцкі тэатр.

Пяціпавярховы Г-падобны ў плане будынак (5-ы паверх надбудаваны ў 1977 г.) размешчаны на перакрыжаванні вул. Сурганава і Ленінскага праспекта. Бакавыя крылы, што разыходзяцца па ўзаемаперпендыкулярных вуліцах, у месцы свайго перасячэння аб'яднаны магутным вуглавым рызалітам. Галоўны ўваход вылучаны буйным на ўзроўні 2—4-га паверхаў чатырохкалонным порцікам карынфскага ордэра, завершаным масіўным антаблементам. Сцены 1-га паверха раскрапаваны пад руст, у абліцоўцы цокаля выкарыстаны мармур. Аконныя праёмы аформлены простым абрамленнем, якое кантрастна вылучаецца на тэракотавым фоне сцен.

Планіровачнае ядро будынка — вестыбюльная група, якая складаецца з авальнага фае і параднай трохмаршавай лесвіцы. Планіроўка калідорная з двухбаковым размяшчэннем аўдыторый і службовых памяшканняў. У тарцах дадатковыя лесвічныя клеткі. З боку двара да будынка прымыкае крыло канцэртнай і спартыўнай залаў.

Будынак інстытута — твор савецкай архітэктуры з элементамі класіцызму. *А. М. Кулагін, Т. Р. Чуракова.*



151. *Будынак Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. План 1-га паверха.*


151. *Будынак Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.*

**152. БУДЫНАК БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ФІЛАРМОНІІ** (архіт.). Дом № 50. Будаўніцтва вялося з 1955 г. па паўторна выкарыстанаму праекту, які ў 1959 г. пасля завяршэння агульных работ перапрацаваны (архіт. Г. Бенядзіктаў) з улікам спецыфікі прызначэння. Адкрыта ў 1963 г. Трохпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём з двухсхільным дахам. У 1983 г. да тарца будынка дабудавана пяціпавярховае крыло. Галоўны фасад афармлены порцікамі з 6 каніліраванымі слупамі і трохвугольным франтонам. На бакавых фасадах вылучаюцца паўкруглыя эркеры лесвіц фае. Фасады па тынкоўцы афармлены пад блочную муроўку і завершаны магутным карнізам. Прасценкі паміж вокнамі бакавых фасадаў крапаваны шырокімі лапаткамі з арнаментальнымі паясамі ў завяршэнні. Вокны ў прафіляваным абрамленні з падаконнымі філёнгамі.

Канцэртная зала (996 месцаў) вырашана ў форме амфітэатра. Устаноўлены арган работы чэшскіх майстроў. Двухсветлавое фае з антрэсольнай галерэяй мае каланаду. Інтэр'ер аздоблены габеленам «Музыка» (1976; аўтары В. Нямцоў, У. Ткачоў, А. Яскін).

Будынак Белдзяржфілармоніі — твор савецкай архітэктуры.

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*


152. *Будынак Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Фрагмент інтэр'ера канцэртнай залы.*

**153. БУДЫНАК БЫЛОЙ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫІ** (архіт.). Дом № 32б. Размешчаны на беразе р. Свіслач. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы. Значна перабудаваны пасля Вялікай Айчыннай вайны. Цяпер гэта будынак з несіметрычным планам. 4 злучаныя паміж сабой аб'ёмы маюць розныя вышыню і паверхавасць, архітэктурнае вырашэнне фасадаў. Самы высокі аб'ём, у якім размешчаны спартыўныя залы і манежы, вырашаны сціпла, чляпёны высокімі і шырокімі прамавугольнымі вокнамі. Другі больш нізкі аб'ём, дзе размешчаны вестыбюль і лесвічны вузел, пазбаўлены дэкору, у інтэр'еры — кесонная столь. Два астатнія аб'ёмы яшчэ больш нізкія адносна першага, розныя па архітэктуры. Адзін вытрыманы ў строгім рытме, чляпёны плоскімі лапаткамі, паміж якімі высокія прамавугольныя вокны. Другі аздоблены аркатурным поясам, завершаны невысокім атыкам з пінаклямі, вокны стральчатыя высокія.

У архітэктуры будынка захаваліся элементы гатычнага кірунку.

*А. Ю. Пятросава.*

**154. ДЗЯРЖАЎНЫ БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ** (архіт., маст., гіст.). Дом № 25а.

Экспазіцыя музея адкрыта 7.11. 1944 г. у памяшканні Дома прафсаюзаў на плошчы Свабоды, з 1966 г. размешчана ў спецыяльна пабудаваным будынку (архіт. Г. Бенядзіктаў, Г. Заборскі).

Будынак музея арыентаваны галоўным фасадам на адну з асноўных плошчаў горада Кастрычніцкую, вылучаецца лаканізмам, строгай пластыкай і выразным рытмам чляненняў. Кампазіцыйны акцэнт зроблены на вуглавым вырашэнні Г-падобнага ў плане трохпавярховага будынка. У вуглавой частцы галоўнага фасада размешчаны ўваход, да якога вядзе адкрытая трохбаковая лесвіца. Партал уваходу выкананы ў строгіх геаметрычных формах, што надае яму ўрачыстасць і манументальнасць, адпаведную прызначэнню будынка. Астатняя частка фасада рытмічна падзелена шэрагам шырокіх вертыкальных прасценкаў. Інтэрвалы паміж імі расчлянёны дадатковымі вузкімі рэбрамі, якія ўзбагачаюць пластыку фасада. Рытмічныя чляненні аб'ядноўвае даволі высокая сценка, якая завяршае фасад. Бакавы фасад мае больш свабодную пластычную структуру, якая адпавядае ўнутранай планіроўцы. Дваровыя фасады без дэкаратыўнага афармлення.

У вуглавой частцы будынка размешчаны вялікі двухсветлавы вестыбюль з антрэсольным паверхам, абкружаным магутнай каланадай. На яго вядзе трохмаршавая лесвіца, асветленая вялізным акном з тэматычным вітражом. Планіроўка падоўжанага крыла, дзе размешчана асноўная экспазіцыя музея, анфіладная. У кароткім крыле знаходзіцца кіна- і выставачныя залы, службовыя памяшканні. Гардэробы і іншыя дапаможныя памяшканні — у цокальным паверсе. У афармленні інтэр'ераў выкарыстаны прыродны камень, фактурная тынкоўка, дрэва, метал, тэматычныя размалёўкі.


153. *Будынак былой электрастанцыі.*




154. *Дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.*

Манументальная жывапісная кампазіцыя «Вялікая Айчынная вайна. 1944 год» займае тарэц другога і трэцяга паверхаў (1971 г., маст. М. Савіцкі; сінтэтычная тэмпера, эргаліт; Дзяржаўная прэмія СССР 1973 г.). Кампазіцыя пабудавана на складанай дынаміцы накіраваных углыбіню і набягаючых кругавых рытмаў, якія сюжэтна можна вызначыць як «Круг фронту», «Круг тылу» і «Круг жыцця, што адраджаецца». Цэнтрам кампазіцыі, яе сэнсавым і драматычным ядром з'яўляецца выява групы жанчын ў жалобе, якія ўвасабляюць боль па загінуўшых, надзею на перамогу, працяг жыцця. Гэтая група вылучана маштаба і як бы пастаўлена на п'едэстал. Навокал яе палыхае полымя вайны, самкнутыя шчыльным кальцом ірвуцца ў атаку воіны, зладжаным строем адпраўляюцца на фронт атрады маладых салдат. Жанравыя сцэны, размешчаныя ўнізе кампазіцыі, адлюстроўваюць адраджэнне разбуранай вайной гаспадаркі, сустрэчы на вызваленай зямлі. Тэма вайны паказана ў кампазіцыі ў агульначалавечым маштабе, разам з тым у ёй прысутнічае перажытае асабіста мастаком, што надае вырашэнню тэмы асаблівы гуманістычны сэнс.

У экспазіцыйных залах і фондах музея знаходзіцца звыш 120 экспанатаў, сярод іх — сцягі савецкіх воінскіх часцей і злучэнняў, партызанскіх брыгад і атрадаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, зброя партызан — самаробныя пушкі, аўтаматы, міны, гранатамёты, абсталяванне партызанскіх майстэрняў і друкарняў, падпольны друк (газеты, у т. л. «Звязда», «баявыя лісткі», лістоўкі, рукапісныя часопісы) партыйных і камсамольскіх арганізацый, ваенныя трафеі, прабітыя кулямі ў баях партыйныя і камсамольскія білеты савецкіх воінаў і партызан, іх амуніцыя, імянная зброя, карты, пісьмы і інш. Экспануюцца творы жывапісу, скульптуры, дыярамы і макеты («Мінскі кацёл», фашысцкі лагер смерці Малы Трасцянец і інш.), электрафікаваныя карты.

У экспазіцыі музея адлюстраваны баявыя справы падпольных партыйных і камсамольскіх органаў, якія дзейнічалі на акупіраванай гітлераўцамі тэрыторыі Беларусі, увекавечаны імёны Герояў Савецкага Саюза: воінаў-беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі, воінаў, якія вызначыліся ў баях на беларускай зямлі, беларускіх партызан, поўныя кавалеры ордэнаў Славы — ураджэнцаў Беларусі. У мемарыяльных залах пералічаны 987 вайсковых фарміраванняў, якія вызначыліся ў баях за вызваленне Беларусі, падпольныя абкомы, міжрайкомы, гаркомы і райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партызанскія брыгады і асобна дзеючыя атрады.

Матэрыялы і дакументы музея згрупаваны па тэматычных раздзелах: падзеі на франтах у першы перыяд вайны (чэрвень 1941 г.— лістапад 1942 г.), у т. л. ваенныя дзеянні на тэрыторыі Беларусі ў 1941 г., абарона Брэсцкай крэпасці-героя і гарадоў-герояў; акупацыйны рэжым і злачынствы нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Беларусі, партызанскі рух у першы перыяд вайны і дзейнасць падпольных камуністычных арганізацый на тэрыторыі Беларусі; працоўны подзвіг савецкага народа; падзеі на франтах у перыяд карэннага пералому ў ходзе вайны (лістапад 1942—1943 гг.); усенародная партызанская вайна ў Беларусі ў 1943—44 гг., у т. л. партызанскія краі і зоны, «рэйкавая вайна»; падзеі на франтах у трэці перыяд вайны 1944—45 гг., Беларуская аперацыя 1944 г., вызваленчая місія Чырвонай Арміі, разгром фашысцкай Германіі; паражэнне і капітуляцыя мілітарысцкай Японіі; мемарыяльныя залы. На трэцім паверсе знаходзіцца зала, у якой экспануецца серыя карцін М. Савіцкага «Лічбы на сэрцы» — аб зверствах фашыстаў у 2-ю сусветную вайну.

Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны мае філіялы: музей баявой садружнасці ў г. п. Расоны Віцебскай вобласці, музей Обальскага камсамольскага падполля, Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі на 21-м км шашы Мінск — Масква, мемарыяльны комплекс «Хатынь», Музей бітвы за Дняпро у г. п. Лоеў Гомельскай вобл.

*Т. В. Габрусь, Л. Г. Лапцэвіч, Т. Р. Чуракова.*

**155. ДОМ ДРУКУ** (архіт., гіст.). Дамы № 77, 79. Размешчаны на рагу Ленінскага праспекта і вул. Сурганава.

Д о м № 77. Пабудаваны ў 1935 г. з цэглы. У чатырохпавярховым будынку размяшчаліся друкарня, Белдзяржвыд, Белпаліграфтрэст. У Вялікую Айчынную вайну паліграфісты актыўна змагаліся супраць акупантаў. У 1942 г. тут быў набраны першы нумар падпольнай газ. «Звязда». У пасляваенныя гады пабудаваны новыя адміністрацыйныя і вытворчыя карпусы. У 1959 г. здадзены ў эксплуатацыю рэдакцыйны корпус (дом № 77), у 1963 г.— цэх глыбокага друку. У 1970 г. над падоўжным корпусам, які выходзіць на вул. Сурганава, надбудаваны 4-ы паверх, у 1975 г.— корпус афсетнага друку, пабудаваны новы культурна-бытавы корпус, дзе размясціліся клуб на 600, сталовая на 225 месцаў, бытавыя памяшканні. Цяпер у Доме друку размешчаны Выдавецтва ЦК КПБ, рэдакцыі газет «Звязда», «Советская Белоруссия», «Сельская газета», «Чырвоная змена», «Знамя юности» і інш., часопісы «Коммунист Белоруссии», «Работніца і сялянка», «Вожык» і інш.



155. *Дом друку.*

Д о м № 79. П-падобны ў плане будынак мае цагляныя апорныя сцены з маналітнымі жалезабетоннымі перакрыццямі. Нагрузкі ад паверхаў і абсталявання ўспрымаюцца ўнутранымі жалезабетоннымі слупамі-калонамі — асноўным канструкцыйным элементам будынка. У аснову архітэктурнага вырашэння пакладзены прынцып блакіроўкі розных па вышыні і даўжыні аб'ёмаў. Дамінуе вежападобная пяціпавярховая вуглавая частка, на ўзроўні яе 1-га паверха ўбудавана вуглавая лоджыя, якая акцэнтуе галоўны ўваход у будынак. Кампазіцыя фасада чатырохпавярховага крыла, арыентаванага на Ленінскі праспект, заснавана на рытмічным чляненні сцен вялікімі аконнымі праёмамі. Фасады, арыентаваныя на вул. Сурганава, пазбаўлены архітэктурнага дэкору.

Дом друку — помнік архітэктуры канструктывізму. *А. А. Міцянін.*

**156. ДОМ-МУЗЕЙ І З'ЕЗДА РСДРП** (архіт., гіст.). Дом № 31а.

Дом № 135 па былой Захар'еўскай вул. (цяпер Ленінскі пр., 31а), дзе 1—3(13—15).3.1898 г. адбыўся І з'езд

РСДРП, абвешчаны народнай уласнасцю паводле пастановы Прэзідыума ЦК КП(б)Б 30.1.1923 г. Першых наведвальнікаў Дом-музей прыняў 14.3.1923 г. У Вялікую Айчынную вайну спалены нямецка-фашысцкімі акупантамі. Адноўлены ў 1948 г. У 1953 г. у сувязі з рэканструкцыяй Ленінскага пр. перанесены бліжэй да берага р. Свіслач.

Цяпер гэта прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак пад двухсхільным дахам, тарцовым фасадам арыентаваны ў бок Ленінскага пр. Сцены складзены з бярвёнаў, звонку ашаляваны, прарэзаны прамавугольнымі вокнамі з ліштвамі і аканіцамі. З боку падоўжнага ўсходняга фасада прыбудаваны ўваходны тамбур.

У музеі 6 экспазіцыйных залаў (пл. 127 м²), больш за 350 экспанатаў. Аддзелы: тэарэтычны і мемарыяльны. У першым сабраны матэрыялы пра сацыяльна-эканамічнае становішча Расіі ў 2-й палове 19 ст., распаўсюджанне марксізму ў Расіі, дзейнасць У. І. Леніна па стварэнню марксісцкай партыі, у другім — адноўлены інтэр'ер той часткі дома, дзе адбываліся пасяджэнні з'езда.



156. *Дом-музей I з'езда РСДРП.*

I з'езд РСДРП адбыўся нелегальна на кватэры служачага чыгункі сацыял-дэмакрата П. В. Румянцава. Прысутнічала 9 дэлегатаў ад 6 мясцовых сацыял-дэмакратычных арганізацый: чатырох «Саюзаў барацьбы за вызваленне рабочага класа» (Пецярбургскага, Маскоўскага, Кіеўскага і Екацярынаслаўскага), кіеўскай «Рабочай газеты» і Бунда. Адбылося 6 пасяджэнняў. Былі заслуханы даклады дэлегатаў з месцаў і абмеркаваны пытанні аб асноўных прынцыпах арганізацыйнай будовы партыі. У мэтах канспірацыі пратаколы не вялі, запісвалі толькі рэзалюцыі. Асноўным было пытанне аб утварэнні партыі. З'езд прыняў рашэнне аб'яднаць усе «Саюзы барацьбы», групы «Рабочай газеты» і Бунд у адзіную арганізацыю пралетарыята ўсіх нацыянальнасцей Расіі пад назвай Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (РСДРП), выбраў ЦК РСДРП у складзе трох чалавек. Афіцыйным органам партыі была абвешчана «Рабочая газета».

З'езд прыняў пастанову аб выданні «Маніфеста» партыі. Надрукаваны ў красавіку 1898 г. у г. Бабруйску «Маніфест Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі», у якім былі выкладзены бліжэйшыя палітычныя задачы партыі, і рашэнні з'езда былі ўспрыняты рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыяй Расіі як дакументы гістарычнага значэння, ухвалены У. І. Леніным. Аднак з'езд не здолеў пераадолець ідэйныя і арганізацыйныя разыходжанні ў сацыял-дэмакратычным руху. Ён не распрацаваў ні праграмы, ні статута РСДРП. Адразу ж пасля з'езда паліцыя разграміла многія арганізацыі партыі, правяла масавыя арышты (былі арыштаваны і члены ЦК), захапіла друкарню і падрыхтаваны да друку 3-і нумар «Рабочей газеты». Сярод рускай сацыял-дэмакратыі пачаўся перыяд «разброду і хістанняў», засілля апартунізму.

Задачу стварэння партыі на прынцыпах рэвалюцыйнага марксізму ўзяў на сябе У. І. Ленін. II з'езд РСДРП, які адбыўся ў 1903 г., закончыў працэс аб'яднання сацыял-дэмакратычных арганізацый у адзіную пралетарскую партыю новага тыпу.

*Т. І. Чарняўская, Т. Р. Чуракова.*

**157. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 43. Пабудаваны ў 1936—37 гг. (архіт. Г. Якушка) з цэглы.

Кампазіцыя будынка складаецца з 5 розных па памерах і архітэктурным вырашэнні аб'ёмаў. Цэнтральны аб'ём мае сіметрычную будову. Вось сіметрыі падкрэслена лесвічнай клеткай з вертыкальным стужкавым шкленнем. Па баках ад яе пяціпавярховыя секцыі і шасціпавярховыя рызаліты з балконамі; вуглавыя часткі на 2—4-м паверхах вылучаны стылізаваным спрошчаным ордэрам Пры дапамозе аб'ёмаў-звязак да цэнтральнай часткі далучаны амаль сіметрычныя бакавыя аб'ёмы, якія па сваёй структуры і дэкоры нагадваюць цэнтральны. Невысокі левы аб'ём-звязка мае праезд на ўзроўні 1-га паверха. Правы аб'ём-звязка — жылы пяціпавярховы будынак з эркерамі, які значна адрозніваецца ад астатніх частак. 1-ы паверх, дзе размешчаны прадпрыемствы гандлю і майстэрні, апрацаваны рустам, уваходы падкрэслены нішамі. Вокны прамавугольныя, на 6-м паверсе — з паўцыркульным завяршэннем. Планіроўка жылых секцый індывідуальная.

Архітэктура будынка — прыклад спалучэння элементаў канструктывізму і класіцыстычнай спадчыны.

*Т. В. Габрусь.*

**158. ЗАБУДОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ ЧАСТКІ ЛЕНІНСКАГА ПРАСПЕКТА** (гіст., архіт.).

Ленінскі праспект з'яўляецца галоўнай магістраллю горада і яго асноўным архітэктурна-планіровачным дыяметрам. Праходзіць з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад, агульная працягласць звыш 10 км, шырыня ад 48 да 70 і больш метраў. На праспекце размешчаны асноўныя гарадскія плошчы: Леніна, Кастрычніцкая, Перамогі, Я. Коласа, Калініна, а таксама важнейшыя адміністрацыйныя, культурна-асветныя, навучальныя, гандлёвыя і іншыя ўстановы сталіцы, жылыя дамы. Паводле характару планіроўкі і забудовы Ленінскі праспект



157. *Жылы дом № 43 на Ленінскім праспекце.*

дзеліцца на 3 часткі: цэнтральную — паміж плошчамі У. І. Леніна і Перамогі (працягласць 2,9 км); ад плошчы Перамогі да плошчы Калініна (працягласць 2,7 км); ад плошчы Калініна да мікрараёна Усход (працягласць больш за 3 км).

Цэнтральная частка Ленінскага праспекта ўяўляе сабой архітэктурны ансамбль, створаны ў пасляваенны час. Будаўніцтва пачалося ў 1945 г. і вялося ў 2 чаргі: 1940—50-я гады — ад пл. Леніна да Кастрычніцкай пл.; 1950—60-я гады — ад Кастрычніцкай пл. да пл. Перамогі. Забудова цэнтральнай часткі праспекта ажыццяўлялася пад кіраўніцтвам вядомых савецкіх архітэктараў М. Парусьнікава і М. Баршча. Шырыня праспекта прынята 48 м (24 м — праезная частка, па 12 м — тратуары з пасадкамі дрэў), вышыня будынкаў — 21—23 м (5—6 паверхаў). Тут размешчаны: адміністрацыйныя будынкі (№ 15, 17), паштамт (№ 10), гасцініца «Мінск» (№ 11), Беларуская рэспубліканская кантора дзяржбанка (№ 20), дзяржаўны універмаг (№ 21), дзяржаўны цырк (№ 32), Палац культуры Белсаўпрофа (№ 25), жылыя дамы (№ 12, 13, 14, 18, 19, 22—23, 29—30), большая частка якіх узведзена з выкарыстаннем адзінай серыі тыпавых жылых секцый (Гарбудпраект г. Масква, архіт. С. Кавыкоў). У ансамбль забудовы цэнтральнай часткі праспекта ўваходзяць 2 помнікі архітэктуры 18 — пачатку 20 ст.— будынкі былога царкоўна-археалагічнага музея (№ 26) і духоўнай кансісторыі (№ 24), а таксама помнік савецкай архітэктуры даваеннага часу — адміністрацыйны будынак (№ 27).

Ад Кастрычніцкай пл. магістраль пракладзена да поймы р. Свіслач. З моста (1951 г., архіт. М. Парусьнікаў, Г. Баданаў) цераз раку адкрываецца панарама горада, лукавіна Свіслачы з паркамі імя М. Горкага і Я. Купалы. Завершана цэнтральная частка Ленінскага праспекта ансамблем плошчы Перамогі.

*У. В. Алісейчык.*



158а. *Будынак паштамта.*




158а. *Будынак паштамта. План 1-га паверха.*

**158а. Дом № 10,** будынак паштамта. Пабудаваны ў 1949—53 гг. (архіт. А. Духан, У. Кароль) з цэглы. Складаецца з 2 злучаных паміж сабой аб'ёмаў. Чатырохпавярховы П-падобны ў плане службова-адміністрацыйны корпус галоўным фасадам арыентаваны на Ленінскі праспект, бакавымі — на вул. Свярдлова і Валадарскага. Аперацыйная зала ў выглядзе купальнай ратонды (дыяметр 30 м) прыбудавана з тыльнага фасада асноўнага корпуса.

Галоўны фасад мае сіметрычна-восевую кампазіцыю. Цэнтральная частка з уваходам вырашана ў выглядзе манументальнай аркі, завершанай ступеньчатым атыкам і фланкіраванай здвоенымі калонамі карынфскага ордэра. Бакавыя часткі фасада апрацаваны трохчвэртнымі калонамі, размешчанымі з інтэрвалам у 2 аконныя праёмы. Калоны прадоўжаны выступамі раскрапаванага антаблемента і масіўнага атыка.

Службова-адміністрацыйны корпус мае калідорную планіроўку з цэнтральным парадным вестыбюлем на 1-м паверсе. Галоўная аперацыйная зала перакрыта трыццаціметровым купалам на высокім светлавым барабане, які апіраецца на ўнутраную каланаду. Высокі прамавугольны ў плане вестыбюль дэкарыраваны на ўзроўні 2-га паверха вузкай галерэйкай на 6 слупах з карынфскімі капітэлямі, прасторавая кампазіцыя вырашана ў выглядзе сістэмы арачных праёмаў, у арачных нішах устаноўлены на пастаментах пагрудныя бюсты К. Маркса і У. І. Леніна. Сцены і столь вестыбюля і аперацыйнай залы абліцаваны белым мармурам, аздоблены ляпнымі дэкаратыўнымі элементамі (лаўровыя вянкі, стужкі, разеткі, пальметкі). Пры ўваходзе ў залу 2 спараныя калоны падтрымліваюць класічнага стылю антаблементы. Купал аздоблены ляпной разеткай, абкружанай вянком, вакол якога — гірлянды са стужкамі. У цэнтры разеткі двух'ярусная дванаццаціражковая

люстра (вышыня 3 м; бронза, крышталь, ліццё, малочнае шкло, граненне). Зала асвятляецца вялікімі вокнамі з арачным завяршэннем, у якіх размешчаны 15 вітражных кампазіцый памерам 260×190 см кожная, прысвечаных помнікам беларускай архітэктуры 11—18 стагоддзяў (1980 г., маст. В. Позняк). Вітражы з кавалкаў сіне-блакітнага, жоўтага, чырвонага і аранжавага шкла. Кампазіцыі акаймаваны блакітна-белым геаметрычным арнаментам.

Будынак паштамта — прыклад выкарыстання ў архітэктуры класіцыстычнай спадчыны.

*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў, М. М. Яніцкая.*

**158б. Дом № 11,** гасцініца «Мінск». Пабудавана ў 1958 г. (архіт. Г. Баданаў) з цэглы. Шасціпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Фасады вырашаны ў простых лаканічных формах. Пластычную выразнасць надаюць лоджыі на 5—6-м паверхах. Уваход вылучаны асіметрычна размешчаным арачным парталам на вышыню 1—3-га паверхаў, дэкарыраваным архівольтам. Будынак пастаўлены на масіўным гранітным цокалі, сцены завершаны карнізам спрошчанага профілю. На 3—6-м паверхах размешчаны жылыя нумары на 1—2 месцы, на 1-м і 2-м — вестыбюль з прасторным холам, рэстаран, кафэ, службовыя і дапаможныя памяшканні. У 1969 г. прыбудаваны дадатковы шасціпавярховы Г-падобны ў плане корпус (архіт. Г. Сысоеў, Дз. Кудраўцаў, С. Мусінскі). Кампазіцыя фасадаў заснавана на чляненні гарызантальных і вертыкальных жалезабетонных рэбраў, галоўны ўваход вылучаны выпасным казырком.

У скверы перад будынкам гасцініцы ў 1977 г. з боку вуліцы Свярдлова пабудаваны фантан «Юнацтва» (скульпт. А. Анікейчык, архіт. Ю. Градаў, Л. Левін; бронза, граніт; вышыня 4 м). У асіметрычнай формы басейне на 2 гранітных валунах адна супраць адной устаноўлены ўклепчаныя фігуры юнака і дзяўчыны. У руках яны трымаюць чашы, з якіх ліецца вада. Пластыка фігур, роўнядзь вады з астраўкамі зеляніны, ніцыя вербы, строгая велічнасць валуноў ствараюць рамантычны настрой, надаюць успрыманню лірычную ўзнёсласць.



**158б.** *Гасцініца «Мінск».*



**158в.** *Жылы дом № 12 на Ленінскім праспекце.*

Гасцініца «Мінск» — прыклад сучаснай савецкай архітэктуры.

*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158в. Дом № 12.** Пабудаваны ў 1952 г. з цэглы (архіт. Л. Баталаў). Будынак пяціпавярховы, Г-падобны ў плане, 72-кватэрны. Цокаль абліцаваны плітамі паліраванага граніту. 1-ы паверх заняты прадпрыемствамі гандлю. Кампазіцыя галоўнага фасада трох'ярусная. Ніжні ярус — вітрыны магазінаў, 2-і раскрапаваны шырокімі лапаткамі, 3-і па 4-м і 5-м паверхах дэкарыраваны здвоенымі пілястрамі карынфскага ордэра. Будынак завершаны прафіляваным карнізам з вялікім вынасам. Вокны прамавугольныя. У цэнтральнай частцы на 4-м паверсе некалькі балконаў. У аснову планіроўкі пакладзена двухкватэрная секцыя з пяціпакаёвымі кватэрамі, парадпай і чорнай лесвіцамі, распрацаваная спецыяльна для дамоў гэтага тыпу. Дом — помнік грамадзянскай архітэктуры з выкарыстаннем класіцыстычнай спадчыны.

*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158г. Дом № 13.** Пабудаваны ў 1950—54 гг. (архіт. Г. Баданаў і М. Асмалоўскі) з цэглы. Будынак П-падобны ў плане, пяціпавярховы, 105-кватэрны, з 2 бакавымі крыламі: кароткае крыло павернута да вул. Валадарскага, падоўжанае — да вул. Урыцкага. 1-ы паверх заняты магазінамі і кінатэатрам «Цэнтральны», вестыбюльная група якога размешчана ў межах дома, фае з глядзельнай залай на 502 месцы — у двухпавярховай прыбудове з боку двара. Галоўны фасад расчлянёны на 3 ярусы. Ніжнія ярусы трактаваны масіўна за кошт апрацоўкі атынкаванай паверхні пад руст і арачных праёмаў. Верхні ярус аформлены пілястрамі, арачкамі, вазамі, гірляндамі, абрамленнем балконаў 4-га паверха. Аркі 1-га паверха адкрываюць лоджыю з уваходам у кінатэатр і касы. Бакавыя аркі — скразныя праезды ва ўнутраны двор. У аснове планіроўкі жылых паверхаў — трохкватэрная секцыя (архіт. С. Кавыкоў). Дом — твор савецкай грамадзянскай архітэктуры.

*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158д. Дом № 14.** Пабудаваны ў 1947—51 гг. (архіт. М. Паруснікаў) з цэглы. Размешчаны з водступам ад «чырвонай лініі» забудовы ў глыбіні курданёра. Прамавугольны ў плане, шасціпавярховы 45-кватэрны. 1-ы паверх заняты прадпрыемствамі гандлю і бытавога абслугоўвання. Галоўны фасад мае эркеры на вышыню 5 паверхаў і балконы з карынфскімі капітэлямі. Вокны 1-га і 6-га паверхаў паўцыркульныя, астатніх — прамавугольныя. Фасад завершаны высокім парапетам, дэкарыраваны пад руст. Верхнія паверхі дэкарыраваны карнізнымі цягамі, пілястрамі, абрамленнямі акон, арачкамі, гірляндамі і разеткамі. У аснове планіроўкі жылых паверхаў 3 тыпавыя секцыі (архіт. С. Кавыкоў), трох- і чатырохпакаёвыя кватэры. Дом — помнік савецкай грамадзянскай архітэктуры з выкарыстаннем класіцыстычнай спадчыны. *У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158е. Дом № 15/6,** адміністрацыйны будынак (на рагу Ленінскага пр. і вул. Урыцкага). Пабудаваны ў 1915 г. (архіт. Г. Гай) з цэглы. Належаў таварыству сельскагаспадарчага страхавання.

Будынак чатырохпавярховы, Г-падобны ў плане. Яго кампазіцыя грунтуецца на кантрастным спалучэнні шырокай скругленай вуглавой часткі і 2 падоўжаных крылаў (крыло, арыентаванае на Ленінскі праспект, захавалася часткова). Акцэнт прыпадае на вуглавую частку, дзе знаходзіцца галоўны ўваход. Яго вылучаюць 4 капеліраваныя паўкалоны, якія імітуюць порцік. На 3-м паверсе над уваходам — шырокая лоджыя. Вуглавая частка будынка была завершана скульптурнай кампазіцыяй (не захавалася). Асноўны дэкаратыўны элемент бакавых крылаў — паўкалоны іанічнага ордэра на вышыню 2—4-га паверхаў. Па ўсім перыметры — невысокі парапет з балюстрадай. Аконныя праёмы на першым паверсе паўцыркульныя, на астатніх — прамавугольныя ў нішах з балюстрадай. Унутраная планіроўка калідорнага тыпу.



**158г.** *Жылы дом № 13 на Ленінскім праспекце.*



158д. *Жылы дом № 14 на Ленінскім праспекце.*

Дом — помнік архітэктуры неакласіцызму.
*Т. І. Чарняўская.*

**158ж. Дом № 16.** Пабудаваны ў 1947—51 гг. (архіт. М. Парусьнікаў) з цэглы. Будынак пяціпавярховы, Г-падобны ў плане. Вуглавая частка вылучана гранёнай вежай з гадзіннікам. Вулічныя фасады маюць двух'ярусную кампазіцыю. Ніжні ярус у 2 паверхі вырашаны цэласна ў буйных формах. Асноўнай тэмай яго пластычнага афармлення з'яўляецца рад здвоеных арак, якія аб'ядноўваюць вітрыны магазінаў на 1-м паверсе, і шырокія лучковыя вокны 2-га жылога паверха. Пластыка верхняга паверха больш насычаная. Вежа і плоскасці сцен, якія да яе прымыкаюць, аздоблены пілястрамі карынфскага ордэра. Жылы характар дома падкрэслены радам эркераў, якія падтрымліваюцца магутнымі кранштэйнамі. Невысокі цокаль апрацаваны паліраваным гранітам.

У аснове планіроўкі жылых паверхаў — тыпавая секцыя (архіт. С. Кавыкоў) з двухпакаёвымі кватэрамі. Вуглавая частка будынка спланавана з двух- і пяціпакаёвых кватэр. Эркеры размешчаны з паўночнага боку дома і пашыраюць унутраную прастору кватэр. Дом — помнік савецкай грамадзянскай архітэктуры стылізатарскага кірунку.
*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158з. Дом № 17,** адміністрацыйны будынак. Пабудаваны ў 1945—47 гг. (архіт. М. Парусьнікаў, Г. Баданаў) з цэглы. Будынак трох-, чатырохпавярховы, з цокальным паверхам, у плане складанай формы. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з цэнтральнай часткі, заглыбленай адносна «чырвонай лініі» забудовы праспекта, і 2 бакавых крылаў, якія ўтвараюць курданёр. Левае крыло выцягнута па фронту Ленінскага праспекта, правае — уздоўж вул. Камсамольскай. Цэнтральная частка з уваходам вылучана рызалітам з масіўным чатырохкалонным порцікам карынфскага ордэра. Левае крыло далучана да будынка былой сельскагаспадарчай страхавой кампаніі (дом № 15/6), узведзенага ў стылі неакласіцызму. У месцы злучэння абодвух аб'ёмаў — праезная брама, фланкіраваная па ўсёй вышыні будынка калонамі карынфскага ордэра, якія падтрымліваюць паўкруглы раскрапаваны франтон. Дзякуючы гэтаму кампазіцыйнаму элементу, а таксама адзінай лініі гарызантальных чляненняў, абедзве часткі левага крыла (старая і новая) ствараюць агульную кампазіцыю. Правае крыло збудавання павернута да Ленінскага пр. тарцовым фасадам. Яго бакавы фасад, арыентаваны на вул. Камсамольскую, вылучаны 4 калонамі. Вуглавая частка ўвенчана васьміграным трох'ярусным бельведэрам, апрацавана пілястрамі. Сцены завершаны масіўным карнізам і глухім парапетам. Вокны прамавугольныя (за выключэннем цэнтральнага рызаліта), на 3-м паверсе вылучаны абрамленнем з арачнымі і трохвугольнымі сандрыкамі. Цэнтральная частка фасада апрацавана больш стрымана, чым падкрэслена пластыка цэнтральнага рызаліта. У правым крыле размешчаны клуб імя Ф. Э. Дзяржынскага (630 месцаў).

Планіроўка будынка калідорная. Інтэр'ер залы клуба імя Ф. Э. Дзяржынскага насычаны дэкаратыўнай пластыкай, выкананай ў залаціста-белай гаме. Партал сцэны аздоблены фрызам з барэльефамі танцоўшчыц і арнаментам (вазоны, ленты, галінкі). Актыўным элементам пластыкі інтэр'ера з'яўляюцца паўкруглыя ў плане ложы другога яруса. Бакавыя сцены завершаны ляпнымі гірляндамі. Насычаным арнаментальным дэкорам вылучаецца кесаніраваная столь залы. Фае 2-га паверха (выкарыстоўваецца і як танцзала) звязана з вестыбюлем 2 бакавымі параднымі лесвіцамі. Перакрыцце фае падтрымліваюць 6 канеліраваных калон з карынфскімі капітэлямі. Сцены крапаваны пілястрамі і філёнгамі. Архітэктура адміністрацыйнага будынка вырашана на аснове класіцыстычнай спадчыны.
*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*



158ж. *Жылы дом № 16 на Ленінскім праспекце.*



158і. *Жылы дом № 18 на Ленінскім праспекце.*

**158і. Дом № 18.** Пабудаваны ў 1948—52 гг. (архіт. Г. Баданаў) з цэглы. Будынак складаецца з 2 крылаў, аб'яднаных заглыбленым адносна «чырвонай лініі» корпусам са скразным арачным праездам. Сярэдні пяціпавярховы аб'ём з мезанінамі, дзе размешчаны майстэрні мастакоў. Кампазіцыя фасадаў двух'ярусная. Ніжні ярус руставаны, верхні чляненны масіўнымі пілястрамі карынфскага ордэра і завершаны балюстрадай. Пластыку фасадаў узбагачае чаргаванне франтончыкаў і балконаў. Вуглавы аб'ём дома Г-падобны ў плане. Памяшканні першага паверха заняты магазінамі, кафэ і інш.

У аснове планіроўкі жылых паверхаў тыпавыя секцыі з двух- і трохпакаёвымі кватэрамі (архіт. С. Кавыкоў). Вуглавыя секцыі выкананы паводле індывідуальнага праекта.

Жылы дом — помнік савецкай грамадзянскай архітэктуры з выкарыстаннем класіцыстычнай спадчыны.
*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158к. Дом № 19.** Пабудаваны ў 1952 г. (архіт. Г. Баданаў) з цэглы. Мае Г-падобную ў плане форму і складаецца з 2 аб'ёмаў, аб'яднаных кароткім корпусам. Вуглавая частка зрэзана. Кампазіцыя фасадаў двух'ярусная. 2 першыя паверхі сярэдняй часткі руставаныя, 2-і ярус дэкарыраваны пілястрамі карынфскага ордэра, завершаны балюстрадай і фрызам з лепкай. Пластыка фасадаў узбагачана франтончыкамі і балконамі з балюстраднай агароджай.

У аснове планіроўкі дома — тыпавыя секцыі (архіт. С. Кавыкоў). Індывідуальную распрацоўку атрымала вуглавая секцыя.

Дом — помнік савецкай грамадзян-

скай архітэктуры з выкарыстаннем класіцыстычнай спадчыны.

*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158л. Дом № 20, будынак Беларускай рэспубліканскай канторы Дзяржаўнага банка СССР.** Пабудаваны ў 1947—52 гг. (архіт. М. Парусныкаў) з цэглы. Будынак Г-падобны ў плане, пяціпавярховы, накрыты аднасхільным дахам. Атынкаваная паверхня фасадаў імітуе каменную мuроўку. Галоўны фасад на ўсю вышыню члянёны канеліраванымі пілястрамі карынфскага ордэра і рытмам буйных арачных аконных праёмаў 2—3-га паверхаў. 1-ы паверх, вылучаны ў масіўную цокальную частку, апрацаваны паліраваным гранітам. 4-ы і 5-ы паверхі члянёны здвоенымі вокнамі. Будынак завершаны вынесеным на мадульёнах карнізам і высокім раскрапаваным атыкам-парапетам.

Планіроўка калідорная. Аперацыйная зала двухсветлавая, займае большую палавіну 2-га паверха, яе перакрыццё падтрымліваюць 2 рады здвоеных калон. Сувязь паміж паверхамі ажыццяўляецца праз цэнтральную і 2 бакавыя лесвіцы.

Будынак — помнік савецкай архітэктуры з выкарыстаннем класіцыстычнай спадчыны.

*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158м. Дом № 21, будынак Дзяржаўнага універсальнага магазіна.** Пабудаваны ў 1951 г. (архіт. Р. Гегарт і Л. Мелегі) з цэглы. Будынак Г-падобны ў плане, чатырохпавярховы, з падвалам. Галоўным фасадам арыентаваны на Ленінскі праспект, бакавым — на вул. Леніна. Мае каркасную канструкцыйную аснову з вялікімі плоскасцямі зашклення, члянёнымі масіўнымі пілонамі і тонкімі прасценкамі. Фасад яруснай кампазіцыі члянёны прафіляванымі паясамі і завершаны масіўным раскрапаваным антаблементам і атыкам. 1-ы паверх вылучаны 3 арачнымі праёмамі галоўнага ўваходу. На ўзроўні 3-га паверха ў дэкор уведзены трохвугольныя франтоны. Цоколь, уваходныя парталы абліцаваны чорным лабрадарытам, маёлікавыя дэталі аздабляюць карнізы і міжпаверхавыя паясы. Маёлікавымі фігурнымі барэльефамі абрамлены круглыя вокны 4-га паверха.

Гандлёвыя залы 1—3-га паверхаў універмага злучаны парадняй і 2 бакавымі лесвіцамі. Прастора гандлёвых залаў члянёна 2 радамі слупоў. На 4-м паверсе калідорнай планіроўкі службовыя памяшканні. У дэкоры інтэр'ера выкарыстаны белы мармур (парадная лесвіца), бронзавыя арнаментальныя ўстаўкі, вітражы. Будынак універмага — твор пасляваеннай савецкай архітэктуры.

*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158н. Дамы № 22, 23.** Пабудаваны ў 1949—54 гг. (архіт. М. Парусныкаў) з цэглы. Дамы аднолькавыя паводле аб'ёмна-прасторавага і планіровачнага вырашэння. Пяціпавярховыя П-падобныя ў плане. На першых паверхах размешчаны прадпрыемствы гандлю і грамадскага харчавання, уваходы ў якія ажыццяўляюцца праз лоджыі (па 2 у кожным доме). Галоўныя фасады члянёны міжпаверхавымі карнізамі на 3 ярусы. Ніжні ярус вырашаны ў буйной ордэрнай пластыцы і члянёны на вышыню 2 паверхаў пілястрамі, з інтэрваламі праз 2 аконныя праёмы. Масіўны ніжні ярус падкрэслены рустоўкай і буйнымі арачнымі праёмамі вітрын і лод-



158м. *Будынак Дзяржаўнага універсальнага магазіна.*




158м. *Будынак Дзяржаўнага універсальнага магазіна. План 1-га паверха.*



158к. *Жылы дом № 19 на Ленінскім праспекце.*



158л. *Будынак Беларускай рэспубліканскай канторы Дзяржаўнага банка СССР.*




158л. *Будынак Беларускай рэспубліканскай канторы Дзяржаўнага банка СССР. План.*

жый. Верхні ярус крапаваны пілястрамі карынфскага ордэра. Прасценкі дэкарыраваны паўкалонамі. На 4-м паверсе ў кампазіцыю фасада ўведзены балконы на кранштэйнах. Фасады завершаны масіўным карнізам і балюстрадай з пінаклямі.

Дамы № 22, 23 — помнікі савецкай грамадзянскай архітэктуры.

*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158о. Дом № 24,** будынак былой духоўнай кансісторыі. Размешчаны на рагу Ленінскага праспекта і вул. Чырвонаармейскай (№ 1). Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Цяпер у будынку размешчаны Музей гісторыі войск Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі.

Пасля зацвярджэння мінскай архіепіскапіі ў 1795 г. на гэтай тэрыторыі ў мураваных існуючых і ўзведзеных будынках размясцілася архірэйскае падвор'е — месцазнаходжанне мінскага архіепіскапа. У 1860 г. уздоўж вул. Захар'еўскай на архірэйскім падвор'і былі ўзведзены мураваныя Успенская царква і двухпавярховы архірэйскі дом (не захаваліся).

З усіх пабудоў захаваўся да нашага часу толькі будынак духоўнай кансісторыі, дзе размяшчаліся таксама пакоі мінскага епархіяльнага архітэктара. Будынак невялікі, кампактны, Г-падобны ў плане. Першапачаткова быў двухпавярховы, сцены першага паверха руставаныя, другога — гладкія, вокны прамавугольныя. Пазней надбудаваны трэці паверх. Сцены фасадаў расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, якія на трэцім паверсе дэкарыраваны простымі сандрыкамі. Сцены двух першых паверхаў руставаныя і аддзеленыя ад трэцяга шырокім карнізным поясам. Будынак завершаны тонкапрафіляваным карнізам. Унутраная планіроўка змешанага калідорна-анфіладнага тыпу. Першы і другі паверхі маюць цыліндрычныя і крыжовыя скляпенні, трэці — плоскія. Будынак — помнік архітэктуры з рысамі класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*



**158н.** *Жылы дом № 22 на Ленінскім праспекце.*



**158п.** *Палац культуры Белсаўпрофа.*

**158п. Дом № 25,** Палац культуры Белсаўпрофа. Пабудаваны ў 1954 г. (архіт. У. Яршоў). Галоўным фасадам арыентаваны на Кастрычніцкую пл. У аснове кампазіцыі тып старажытна-рымскага храма. Чатырохпавярховае, прамавугольнае ў плане збудаванне з дзесяцікалоннымі порцікамі карынфскага ордэра на галоўным і тыльным фасадах і 19 паўкалонамі на кожным з бакавых фасадаў. Адметная рыса будынка — насычанасць дэкаратыўнай пластыкай і скульптурай. Сцены аздоблены ляпнымі паясамі і гірляндамі. Франтоны галоўнага і тыльнага фасадаў увенчаны скульптурнымі групамі (скульпт. А. Глебаў, В. Папоў, С. Селіханаў). Цэнтральная шматфігурная скульптурная кампазіцыя ў арачным праёме франтона на галоўным фасадзе прысвечана тэме працы і міру. Над бакавымі фасадамі па 3 франтоны, упрыгожаныя вежачкамі.

Глядзельная зала на 780 месцаў. Перад ёй размешчаны двухсветлавы вестыбюль, над ім — танцзала. З трох бакоў глядзельнай залы знаходзяцца памяшканні для работы гурткоў, бібліятэка.

Палац культуры Белсаўпрофа — твор савецкай архітэктуры стылізатарскага кірунку.

*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158р. Дом № 26,** будынак былога царкоўна-археалагічнага музея. Узведзены ў 1913 г. з цэглы (архіт. В. Струеў, І. Фамін). З 1963 г. тут размяшчаецца рэспубліканскі Дом работнікаў мастацтваў.

Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак на высокім цокалі накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад асіметрычнай кампазіцыі. З усходняга боку галоўнага фасада далучана круглая ў плане вежа, накрытая шлемападобным купалам, якая імітуе старажытнарускія абарончыя вежы. Сцены вежы прарэзаны байніцамі, верхняя частка аформлена машыкулямі і геаметрычным арнаментам. З заходняга боку фасад фланкіраваны невысокай квадратнай у плане чатырохграннай шатровай вежачкай. Галоўны ўваход, размешчаны асіметрычна, падкрэслены кілепадобным шчытом, плоскасць якога ўпрыгожана арнаментам. Сцены галоўнага фасада прарэзаны высокімі лучковымі аконнымі праёмамі,



**158н.** *Жылы дом № 23 на Ленінскім праспекце.*



**158р.** *Будынак былога царкоўна-археалагічнага музея.*



**158р.** *Будынак былога царкоўна-археалагічнага музея. Выгляд з боку вежы.*

якія багата дэкарыраваны (дэкаратыўныя паўкалоны, 2- і 3-лопасцевыя аркі, філёнгі і інш. элементы). Абрамленне акон 2-га паверха імітуе старажытнарускія какошнікі.

Будынак — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

*В. М. Чарнатаў, Т. І. Чарняўская.*

**158с. Дом № 27,** адміністрацыйны будынак. Пабудаваны ў 1940 г. (архіт. Г. Якушка).

Чатырохпавярховы П-падобны ў плане будынак аднесены ў глыбіню ад «чырвонай лініі» забудовы. Рэльеф прадыктаваў неабходнасць зрабіць пад правай часткай будынка цокальны паверх, перад цэнтральнай часткай — падпорныя сценкі, у сістэму якіх арганічна ўключаны шырокія лесвічныя маршы. Над лесвічнай клеткай правага крыла ўзвышаецца квадратны ў плане зашклёны відавы павільён. Над уваходамі на вышыню 2 паверхаў убудаваны галерэі-балконы, абмежаваныя магутнымі квадратнага сячэння калонамі. Пластыка фасадаў строгая і манументальная. Рытму калон на галерэях бакавых крылаў адпавядаюць пілоны на галоўным фасадзе цэнтральнага корпуса, якія даходзяць да 4-га паверха і разам з калонамі галерэй нясуць развіты прафіляваны карніз. Сцены 1-га паверха бакавых




**158р.** *Будынак былога царкоўна-археалагічнага музея. План 1-га паверха.*

крылаў апрацаваны рустам. З боку дваровага фасада рызаліты бакавых крылаў завершаны трохвугольнымі франтонамі. Планіроўка калідорная, з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў.

Манументальная і лаканічная архітэктура будынка, тыповая для грамадзянскіх збудаванняў 1930-х гадоў, захоўвае выразныя рысы канструктывізму *У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158т. Дамы № 29, 30.** Пабудаваны ў 1957 г. (архіт. М. Баршч). Аднолькавыя паводле аб'ёмна-прасторавага і планіровачнага вырашэння. Г-падобныя ў плане, шасці-, дзевяціпавярховыя. Размешчаны на пакатым узгорку і адкрываюць забудову цэнтральнай часткі праспекта з боку пл. Перамогі. У архітэктуры — элементы ордэрнай пластыкі. У планіроўцы дамоў выкарыстана серыя тыпавых чатырохкватэрных секцый, у якіх вычленены чатырохпакаёвыя і ўведзены аднапакаёвыя кватэры.

Дамы № 29, 30 — помнікі савецкай грамадзянскай архітэктуры.

*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**158у. Дом № 32,** будынак Дзяржаўнага цырка БССР (архіт.). Узведзены ў 1958 г. (архіт. В. Жукаў). Уяўляе сабой круглае купальнае збудаванне з прамавугольным у плане трохпавярховым службовым корпусам. Галоўны фасад будынка, павернуты да праспекта, аформлены каланадай карынфскага ордэра. Сцены па перыметры аздоблены пілястрамі. Цэнтральную частку будынка займае амфітэатр на 1668 месцаў і трынаццаціметровы ў дыяметры манеж.



**158т.** *Жылы дом № 29 на Ленінскім праспекце.*

Вакол амфітэатра размешчаны вестыбюлі, фае, артыстычныя, майстэрні, спецыяльныя памяшканні для жывёлы, складскія памяшканні і інш.

Будынак цырка трактаваны ў формах класіцыстычнай архітэктуры.

*У. В. Алісейчык, А. А. Воінаў.*

**159. КІНАТЭАТР «КАСТРЫЧНІК»** (архіт.). Дом № 73. Пабудаваны ў 1975 г. (архіт. В. Малышаў). Размешчаны ў глыбіні ад «чырвонай лініі» забудовы праспекта.

Будынак двухпавярховы, выкананы ў выглядзе фрагмента ўсечанай капеліраванай калоны, якую з трох бакоў абкружае прамалінейная галерэя з лесвічнымі каскадамі. Круглаватая форма галоўнага аб'ёму глядзельнай залы гарманічна спалучаецца з прамавугольным у плане плоскасным аб'ёмам 1-га паверха з суцэльным зашкленнем.

Галоўны ўваход у кінатэатр — праз касавы вестыбюль. На фоне яго зашклення вылучаецца рад беламармуровых слупоў. Вестыбюльная група, фае з кафэ на 200 месцаў і з малым экранам размешчаны на 1-м паверсе, на 2-м — глядзельная зала, разлічаная на 1400 месцаў, вырашаная амфітэ-




**158у.** *Будынак Дзяржаўнага цырка БССР.*

**159.** *Кінатэатр «Кастрычнік».*

атрам, і фае з бакавымі лесвіцамі, якія вядуць у глядзельную залу. Фае другога паверха мае дынамічную трактоўку ўнутранай прасторы: паўкруглая ў плане форма, нахіленая столь. Вялікая плоскасць зашклення адкрывае яго інтэр'ер на шырокую вонкавую тэрасу. У аздобе інтэр'ераў выкарыстаны белы і ружовы мармур, ракушачнік, фанероўка.

Кінатэатр — помнік савецкай архітэктуры.

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*



160. *Будынкі 1-й клінічнай бальніцы.*

**160. КОМПЛЕКС БУДЫНКАЎ 1-й КЛІНІЧНАЙ БАЛЬНІЦЫ** (гіст., архіт.). Размешчаны паміж вуліцамі Акадэмічнай, П. Броўкі і Ленінскім праспектам, займае плошчу каля 10 га. Пабудаваны ў 1929—31 гг. (архіт. Г. Лаўроў) як клінічны гарадок. Комплекс вырашаны на аснове павільённай сістэмы, пры якой ізаляваныя карпусы разлічаны на лячэнне пэўнага віду захворвання. Узведзены 4 карпусы для тэрапеўтычнай, хірургічнай, акушэрска-гінекалагічнай і скурна-венералагічнай клінік. У Айчынную вайну найбольш пацярпеў чацвёрты корпус. Аднаўленне гарадка працягвалася з ліпеня да лістапада 1944 г. Пасля рэканструкцыі ў 1-м корпусе размясціліся тэрапеўтычная і хірургічная клінікі, у 2-м — клініка дзіцячых хвароб, у 3-м — акушэрска-гінекалагічная клініка. У гэты ж час пры бальніцы пачалі працаваць кафедра паталагічнай анатоміі, Інстытут пералівання крыві, рэспубліканская процівалляковая станцыя, анкалагічны дыспансер.

Характэрнай рысай комплексу з'яўляецца прастата планіроўкі і спрошчаная архітэктура, уласцівыя канструктывізму і функцыяналізму. Тэрыторыя клінічнага гарадка падзелена цэнтральнай алеяй-праездам на 2 амаль роўныя часткі. Уздоўж цэнтральнай алеі размешчаны 3 лячэбныя карпусы, пабудаваныя па адзінай планіровачнай схеме (3-і паверх акушэрска-гінекалагічнага корпуса надбудаваны ў 1938 г.). Левая частка плошчы гарадка адведзена пад зялёныя насаджэнні, там жа ў глыбіні ўчастка знаходзіцца трохпавярховы 4-ы корпус. Планіроўка ўсіх 4 будынкаў калідорная з аднабаковым размяшчэннем палат і балконамі. Пластыка фасадаў стрыманая.



160. *Комплекс будынкаў 1-й клінічнай бальніцы.*

З канца 1960-х гадоў комплекс клінічнага гарадка паступова рэканструіруецца. У яго арганічна ўвайшлі новыя карпусы цэнтра дзіцячай хірургічнай дапамогі на 200 ложкаў і тэрапеўтычнага аддзялення на 240 ложкаў. Паміж 2 прамавугольнымі ў плане васьміпавярховымі лячэбнымі карпусамі размешчаны трохпавярховы корпус паліклінікі (на 500 наведванняў штодзень) складанай канфігурацыі плана і выразнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі (архіт. М. Барсукоў). Корпус паліклінікі злучаны з будынкам тэрапеўтычнага аддзялення галерэяй на ўзроўні 3-га паверха. У 1984—87 гг. пабудаваны 7-павярховы корпус рэўмакардыялагічнага аддзялення, арыентаваны галоўным фасадам да Ленінскага праспекта (архіт. У. Галіцкі, А. Быкаў).

Комплекс будынкаў 1-й клінічнай бальніцы — прыклад архітэктурнага і функцыянальнага вырашэння лячэбных устаноў.

*Літ.:* Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии.— Мн., 1957; Крючок Г. Р., Шуба А. И. К истории Минской первой клинической больницы.— У кн.: Сб. научных трудов. Мн., 1959. *Т. В. Габрусь, А. А. Міцянін.*

**161. КОМПЛЕКС БУДЫНКАЎ АКАДЭМІІ НАВУК БССР** (архіт., гіст.). Ленінскі праспект, 66.

Узвядзенне комплексу будынкаў АН БССР пачата ў 1932 г. (архіт. Г. Лаўроў, з 1934 г. І. Лангбард). Да 1939 г. завершана будаўніцтва галоўнага і лабараторнага карпусоў, друкарні. Будынкі разбураны ў Вялікую Айчынную вайну, адноўлены да 1949 г. Галоўны корпус АН БССР мае складаную сіметрычную восевавуглавую структуру. Два П-падобныя крылы, размешчаныя ўзаемна перпендыкулярна, злучаны пры дапамозе вялікага трапецападобнага аб'ёму. Адкрытая вуглавая частка аформлена магутнай паўцыркульнай каланадай у 2 рады. Вулічныя фасады і каланада завершаны высокім прафіляваным атыкам. Фасады рытмічна расчлянёны пілястрамі з іанічнымі капітэлямі. Прасценкі апрацаваны рустам, над прамавугольнымі вокнамі ляпныя гірлянды. Дваровыя фасады вырашаны больш сціпла. Уваход аформлены 3 абліцаванымі гранітам парталамі строгай геаметрычнай формы. Да будынка вядзе шырокая адкрытая лесвіца і пад'язныя пандусы па баках.

Унутры вялікі трапецападобны вестыбюль, па восі якога размешчана парадная трохмаршавая лесвіца. Планіроўка службовых памяшканняў калідорная адна- і двухбаковая.

У 1964 г. да галоўнага корпуса з боку вул. Акадэмічнай прыбудаваны новы корпус (архіт. В. Ладыгіна і




160. *Будынак дзіцячага тэрапеўтычнага корпуса. План 1-га паверха.*

161. *Галоўны корпус Акадэміі навук БССР.*

Н. Аладава), вырашэнне якога падпарадкавана архітэктуры строгай і ўрачыстай манументальнасці асноўнага будынка.

У 1960—70-я гады на ўчастку, абмежаваным вуліцамі Акадэмічнай і Сурганава, створаны комплекс будынкаў АН БССР. Пабудаваны 4—5-павярховыя карпусы інстытутаў фізікі і фізіка-арганічнай хіміі (архіт. А. Іваноў), матэматыкі (архіт. А. Воінаў), агульнай і неарганічнай хіміі (архіт. Г. Бенядзіктаў), фотабіялогіі, заалогіі, СКБ Інстытута фізікі (архіт. А. А. Воінаў), Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа (архіт. Э. Гальдштэйн). На сумежных вуліцах узведзены будынкі Аддзела фізікі неразбуральнага кантролю і Інстытута праблем надзейнасці і даўгавечнасці машын (архіт. Н. Шпігельман, І. Боўт), інстытутаў тэхнічнай кібернетыкі (архіт. Ю. Грыгор'еў, А. Беразоўскі), цепла- і масаабмену (архіт. А. Шчусеў, Л. Сагалаў, Н. Замараева), фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў (архіт. А. Шчусеў), лабараторныя будынкі і карпусы доследнай вытворчасці.

У 1977 г. завершана будаўніцтва 2 чатырнаццаціпавярховых карпусоў (архіт. А. Духан, А. Красоўскі, Л. Хаюцін), у якіх размешчаны інстытуты Аддзялення грамадскіх навук і вылічальны цэнтр Інстытута матэматыкі. Пастаўленыя ўздоўж вуліц Сурганава і Акадэмічнай будынкі павернуты пад вуглом адзін да аднаго і аб'яднаны вялікім аб'ёмам канферэнц-залы (на 400 месцаў) і Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. У апрацоўцы фасадаў спалучаюцца вялікія паверхні бетону



161. *Праект комплексу будынкаў АН БССР архітэктара Г. Лаўрова.*




161. *Акадэмія навук БССР. План 1-га паверха галоўнага корпуса.*

са стужкавым зашкленнем і стамалітавымі панелямі.

З 1972 г. пачата будаўніцтва новага Акадэмгарадка — буйнога комплексу навукова-даследчых інстытутаў сістэмы АН БССР у паўночна-ўсходняй частцы Мінска па вул. Жодзінскай. Узведзены карпусы Фізіка-тэхнічнага інстытута (архіт. Я. Яснагародскі, А. Пецярбуржцаў, В. Малышаў) і Інстытута мікрабіялогіі (архіт. Я. Яснагародскі), Інстытута геафізікі і геахіміі (архіт. М. Вінаградаў, Б. Папоў, Г. Гераўкер), Інстытута біяарганічнай хіміі (архіт. М. Вінаградаў) і інш.

Акадэмія навук БССР адкрыта 1.1. 1929 г. на аснове Інстытута беларускай культуры. Уключае 32 навукова-даследчыя ўстановы, у т. л. 31 інстытут, аб'яднаны ў 5 аддзяленняў, налічвае больш за 16 тыс. супрацоўнікаў, сярод іх 61 акадэмік, 79 членаў-карэспандэнтаў, каля 300 дактароў навук і больш за 2200 кандыдатаў навук. Аддзяленне фізікі, матэматыкі і інфарматыкі аб'ядноўвае інстытуты: матэматыкі (з Гомельскім аддзяленнем), фізікі (з Магілёўскім аддзяленнем), фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў (з Віцебскім аддзяленнем), электронікі. Аддзяленне фізіка-тэхнічных праблем машынабудавання і энергетыкі аб'ядноўвае інстытуты: цепла- і масаабмену імя А. В. Лыкава, ядзернай энергетыкі, фізіка-тэхнічны (з Магілёўскім аддзяленнем), тэхнічнай кібернетыкі, праблем надзейнасці і даўгавечнасці машын, механікі металапалімерных сістэм (у Гомелі), прыкладной фізікі. Аддзяленне хімічных і геалагічных навук аб'ядноўвае інстытуты: фізіка-арганічнай хіміі, агульнай і неарганічнай хіміі, торфу, геахіміі і геафізікі, біяарганічнай хіміі. Аддзяленне біялагічных навук аб'ядноўвае інстытуты: эксперыментальнай батанікі імя В. Ф. Купрэвіча, генетыкі і цыталогіі, фізіялогіі, фотабіялогіі, мікрабіялогіі, заалогіі, радыёбіялогіі, біяхіміі, Цэнтральны батанічны сад. Аддзяленне грамадскіх навук аб'ядноўвае інстытуты: філасофіі і права, гісторыі, эканомікі, літаратуры імя Я. Купалы, мовазнаўства імя Я. Коласа, мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, Аддзел навуковай інфармацыі па грамадскіх навуках.

АН БССР мае Цэнтральную навуковую бібліятэку імя Я. Коласа, выдавецтва «Навука і тэхніка», друкарню імя Ф. Скарыны, вылічальны цэнтр пры Інстытуце матэматыкі, атамны рэактар пры Інстытуце ядзернай фізікі; працуюць Цэнтральнае канструктарскае бюро з доследнай вытворчасцю і аддзяленнямі пры шэрагу інстытутаў. АН БССР выдае 12 навуковых часопісаў, сярод іх 3 усесаюзныя. У 1975 г. АН БССР узнагароджана ордэнам Дружбы народаў, у 1978 г.— ордэнам Леніна.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

*Т. В. Габрусь, Т. Р. Чуракова.*

**162. КОМПЛЕКС БУДЫНКАЎ БЕЛАРУСКАГА ПОЛІТЭХНІЧНАГА ІНСТЫТУТА** (архіт.). Політэхнічны інстытут заснаваны ў 1920 г. на базе Мінскага політэхнічнага вучылішча. У 1922 г. рэарганізаваны ў Беларускі дзяржаўны інстытут сельскай гаспадаркі. 1.6.1933 г. на базе мінскіх інстытутаў энергетычнага, будаўнічага, тарфянога, хіміка-тэхналагічнага, харчовай прамысловасці і Горацкага водна-меліярацыйнага створаны політэхнічны інстытут. Факультэты: энергетычны, механіка-тэхналагічны, машынабудаўнічы, электратрактарны, прыладабудаўнічы, робатаў і робататэхнічных сістэм, архітэктурны, будаўнічы, энергетычнага будаўніцтва, дарожнага будаўніцтва. Навучанне дзённае, вячэрняе і завочнае; працуе падрыхтоўчае аддзяленне. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1967 г.).

Комплекс займае квартал, абмежаваны Ленінскім пр., вуліцамі Я. Коласа, Б. Хмяльніцкага і Дарашэвіча.

Галоўны корпус інстытута (дом № 65) пабудаваны ў 1932 г. (архіт. Г. Лаўроў). Будынак пастаўлены далёка ад «чырвонай лініі» забудовы Ленінскага праспекта, утварае курданёр з шырокай парадной алеяй і скверамі па баках. Развітае ў глыбіню забудовы Ш-падобнае ў плане збудаванне падоўжана па фронту забудовы, мае цэнтральны і бакавыя рызаліты, якія выступаюць на галоўным фасадзе. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя, як і дэкаратыўная апрацоўка фасадаў, значна зменена пры перабудовах, звязаных з расшырэннем і рэканструкцыяй будынка. У 1936 г. (архіт. Н. Макляцова) галоўнаму корпусу нададзена сіметрычнае вырашэнне. Воссю сіметрыі стаў цэнтральны кубічны аб'ём. Пасля Вялікай Айчыннай вайны разбураныя будынкі інстытута адноўлены. У галоўным корпусе зменены вестыбюльная група памяшканняў, фасады (1946—52 гг.; архіт. Л. Рымінскі, Л. Усава). Будынак упрыгожыў шасцікалонны порцік, пастаўлены на цокаль. У 1952—56 гг. узведзены 3 пяціпавярховыя карпусы інтэрнатаў (архіт. С. Мусінскі, Г. Сысоеў). У вырашэнні іх фасадаў выкарыстаны элементы класіцыстычнага дэкору. У 1950—80-я гг. да галоўнага корпуса дабудаваны аб'ём бібліятэкі і спартыўны корпус (архіт. Н. Шпігельман і інш.), паводле тыпавых праектаў пабудаваны навучальныя карпусы, сталовая на 500 месцаў.



162. *Галоўны корпус архітэктурнага і будаўнічага факультэтаў Беларускага політэхнічнага інстытута.*



162. *Галоўны корпус Беларускага політэхнічнага інстытута ў панараме забудовы.*



162. *Галоўны корпус Беларускага політэхнічнага інстытута. План 1-га паверха.*

У 1982 г. на Ленінскім праспекце, 150 на скрыжаванні з кальцавой аўтамагістраллю пабудаваны 8-павярховы корпус — галоўны навучальна-лабараторны і інтэрнат архітэктурнага і будаўнічага факультэтаў (архіт. І. Есьман; В. Анікін).

Ансамбль будынкаў політэхнічнага інстытута — твор архітэктуры класіцыстычнага напрамку.

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975. *А. А. Міцянін, Т. Р. Чуракова.*

**163. КОМПЛЕКС БУДЫНКАЎ ГАДЗІННІКАВАГА ЗАВОДА** (архіт.). Ленінскі праспект, 95. Пабудаваны ў 1955—61, 1963—72 гг. Займае плошчу каля 8 га паміж вуліцамі Талбухіна, Кедышкі, Натуралістаў і Ленінскім праспектам. Уключае галоўны корпус (зборачныя цэхі), 2 механічныя, нарыхтоўча-штампоўачны і інш. карпусы, звязаныя паміж сабой цэнтральнай прахадной і пераходамі-галерэямі на ўзроўні 2-х паверхаў (архіт. С. Баткоўскі, І. Боўт, Н. Шпігельман). Рэзкі перапад рэльефу тэрыторыі прадыктаваў неабходнасць цокальных паверхаў у многіх вытворчых карпусах.

Галоўны корпус — васьміпавярховы з цокалем, Т-падобны ў плане. Галоўны фасад вырашаны суцэльным зашкленнем па ўсёй шырыні і вышыні, тарцовыя — мерным рытмам прамавугольных аконных праёмаў. У будынку размешчаны таксама адміністрацыйныя памяшканні і падсобныя, майстэрні, пакоі асабістай гігіены і інш.

Канструкцыйнай асновай карпусоў механічных цэхаў з'яўляецца металічны каркас з цаглянымі сценамі. У апрацоўцы фасадаў выкарыстаны рустоўка, невялікія нішы ў міжпаверхавых паясах, фігурныя карнізы.

У 1986—88 г. пабудаваны шматпавярховы васьмігранны ў плане інжынерны корпус (архіт. У. Рогаў і інш.), які з'явіўся вышыннай дамінантай комплексу.

Перад галоўным корпусам — дэкаратыўныя басейны з фантанамі і зялёныя насаджэнні.

Комплекс будынкаў гадзіннікавага завода — твор савецкай прамысловай архітэктуры.

*Літ.:* Архитектура Советской Белоруссии.— М., 1986. *А. А. Міцянін.*

**164. КОМПЛЕКС БУДЫНКАЎ КІНАСТУДЫІ «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ»** (архіт.). Ленінскі праспект, 98.

Кінастудыя створана ў 1928 г. кінаарганізацыяй Белдзяржкіно пад назвай «Савецкая Беларусь». Знаходзілася ў Ленінградзе, з 1939 г. у Мінску. Займае плошчу 13 га, на якой размешчаны корпус са здымачнымі павільёнамі, тонатэлье для агучвання



163. *Галоўны корпус гадзіннікавага завода.*

фільмаў, мантажная, вытворчыя цэхі і ўчасткі, фільматэка і інш.

Трохпавярховы галоўны корпус узведзены ў 1960 г. з цэглы. Мае развіты ў падоўжным і папярочным напрамках план. Галоўны фасад выцягнутай па фронту кампазіцыі. Сцены раўнамерна члянёны шырокімі лапаткамі і прарэзаны гарызантальным рустам. Галоўны ўваход вылучаны порцікам з 4 паўкалонамі, завершаны франтонам. Перад будынкам, пастаўленым з глыбокім водступам ад «чырвонай лініі» забудовы, разбіты зялёныя газоны. На 2-м паверсе цэнтральнага корпуса размешчаны адміністрацыйныя памяшканні. На 3-м — 3 шырокаэкранныя залы прагляду.

2 вялікія кіназдымачныя павільёны аддзелены шасціпавярховым энергетычным блокам. Вакол павільёнаў групуюцца вытворчыя памяшканні і кабінеты з аднабаковым і двухбаковым размяшчэннем уздоўж развітай сістэмы калідораў.

Павільёны аснашчаны падвеснымі мастамі для мантажу асвятляльных прыбораў. У верасні 1963 г. уведзены ў строй цэх апрацоўкі плёнкі, размешчаны ў асобным двухпавярховым корпусе. У 1967 г. пабудавана сховішча для кінаматэрыялаў, магнітных фанаграм і фільмакопій. Сховішча абсталявана кандыцыянерамі і халадзільнымі ўстаноўкамі, што забяспечвае аптымальныя ўмовы для захоўвання каляровых і чорна-белых плёнак. Побач з фільматэкай пабудаваны вялікі складскі корпус (плошча 1750 м²). Для захоўвання рэквізіту збудавана памяшканне плошчай 5000 м². Ёсць майстэрні: зброева-піратэхнічная, эксперыментальна-механічныя, а таксама майстэрні цэха дэкарацыйна-тэхнічных збудаванняў.

Комплекс будынкаў кінастудыі «Беларусьфільм» — твор савецкай архітэктуры, заснаванай на выкарыстанні класіцыстычнай спадчыны.

*А. А. Міцянін, Т. Р. Чуракова.*



164. *Галоўны корпус кінастудыі «Беларусьфільм».*



166. *Забудова мікраараёна Усход 1.*

**165. ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ ЯКУБА КОЛАСА** (архіт., гіст.). Дом № 66а. Створаны паводле пастановы ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 16.8.1956 г., адкрыты для наведвання 4.12.1959 г. у будынку, дзе ў 1952—56 г. жыў Я. Колас.

Будынак узведзены ў 1952 г. з цэглы (архіт. Г. Заборскі). Уяўляе сабой кампактны двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём з сіметрычнымі трохграннымі эркерамі на тарцах. Галоўны фасад таксама сіметрычны. Вось сіметрыі падкрэслена развітым уваходам і паўцыркульным франтонам. З боку дваровага фасада ў кампазіцыю збудавання арганічна ўключана больш ранняя жылая пабудова, што надало аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі асіметрычнасць. З паўночна-ўсходняга боку размешчана летняя веранда з тэрасай. У дэкоры фасадаў выкарыстаны ордэрныя элементы: пілястры, калоны, прафіляваныя карнізы, лепка.

Унутры абапал вестыбюля размешчаны экспазіцыйныя залы. Драўляная двухмаршавая лесвіца асветлена вітражом (маст. В. Позняк). На другім паверсе вакол вялікага хола згрупаваны памяшканні (захаваны ў тым выглядзе, які мелі пры жыцці пісьменніка).

У фондах музея і 7 экспазіцыйных залах плошчай 250 м² захоўваецца больш за 14 000 экспанатаў, якія расказваюць аб жыцці і літаратурнай творчасці Я. Коласа,— рукапісы яго паэм, вершаў, апавяданняў, пісьмаў і інш. Экспануюцца таксама асабістыя рэчы і дакументы паэта, мэбля ў рабочым кабінеце і гасцінай. Музей мае навукова-дапаможную бібліятэку, філіял у Стаўбцоўскім р-не.

*Т. В. Габрусь, Т. Р. Чуракова.*

**166. МАЗАІКА ЖЫЛЫХ ДАМОЎ МІКРАРАЁНА УСХОД 1** (маст.). Мікра-



166. *Жылыя дамы ў мікраараёне Усход 1.*

раён Усход 1 знаходзіцца ў паўночна-ўсходняй частцы горада пры ўездзе на Ленінскі праспект з Маскоўскай шашы. Асаблівую ролю ў забудове адыгрывае серыя дамоў, узведзеных дзвюма лініямі па фронту Ленінскага праспекта. Адна ўключае 16-павярховыя жылыя дамы (1976 г., архіт. Г. Сысоеў, І. Папова, І. Жураўлёў). Другая лінія з'яўляецца фонам для парадна-манументальнай забудовы праспекта. Яе вышынныя будынкі згрупаваны з двухпавярховымі прыбудовамі гандлёвых цэнтраў. Тыпавыя вышынныя жылыя дамы складанай канфігурацыі, з 2 ссунутых адносна адзін аднаго блокаў і лесвічна-ліфтавай групай у цэнтры. У кожным блоку на паверсе па 4 кватэры. Рытміка фасадаў вырашана чаргаваннем гладкіх плоскасцей з зашклёнымі ўчасткамі. На дахах створаны глядзельныя пляцоўкі з зялёнымі насаджэннямі і салярыямі. На першых паверхах і ў двухпавярховых прыбудовах размешчаны прадпрыемствы гандлю і бытавога абслугоўвання. Іх інтэр'еры дэкарыраваны керамікай, чаканкай, вітражамі.

У 1979 г. на тарцовых сценах шматпавярховых будынкаў, арыентаваных на Ленінскі праспект, выкананы мазаікі на тэмы воінскай славы, росквіту навукі і мастацтва, з жыцця Савецкай Беларусі (мастак А. Кішчанка; смальта).

М а з а і к а «Горад мастацтва» (Ленінскі праспект, дом № 131, корпус




167. *Мемарыяльная дошка М. І. Аладаву.*




168. *Мемарыяльная дошка Г. В. Багамолаву.*

1). У цэнтры па восевай лініі фігура Маці, якая нібы настаўляе ў жыццё хлопчыка-падлетка, ніжэй па гарызанталі выявы фальклорнага ансамбля і фігур, якія ўвасабляюць розныя віды мастацтва. У надцокальным крузе меншага маштабу выява гусляра, над ім — выява рук як сімвал стварэння.

М а з а і к а «Горад-будаўнік» (Ленінскі пр., дом № 143, корпус 1). Цэнтр яе займае фігура Маці з хлопчыкам-падлеткам. Вакол выявы дойлідаў, рабочых, студэнтаў. Сюжэты размешчаны сіметрычна па вертыкальных і гарызантальных восях. Удалае іх размеркаванне на панельнай сцяне, залацістыя і бірузовыя колеры надаюць малюнку выразнасць і дэкаратыўнасць. Сонца ў крузе і паўкружжа вясёлкі завяршаюць выяўленчы рад мазаікі.

М а з а і к а «Горад навукі» (Ленінскі пр., дом № 155, корпус 1). Асноўным кампазіцыйным і сэнсавым цэнтрам яе з'яўляецца фігура Маці, якая навучае сына. У крузе — выява лётчыка-касманаўта СССР. У надцокальным крузе дадзены паясны партрэт Ф. Скарыны, вышэй — фігура, якая нагадвае аналітычныя малюнкі Леанарда да Вінчы. Побач з сімвалічным гербам Мінска выявы вучоных з атрыбутамі працы. Усе выявы размешчаны сіметрычна, упісаны ў авалы і кругі, аддзелены паўкружжамі вясёлак.

М а з а і к а «Горад-воін» (вул. Каліноўскага, дом № 82, корпус 2; выходзіць на Ленінскі праспект). Створана складанай мовай сімволікі: далоні рук, якія нібы засцерагаюць галінку,— сімвал стварэння; фігура трубача — алегорыя славы, постаць жанчыны з васількамі, якая сустракае воінаў-пераможцаў; фігура сейбіта. У цэнтры кампазіцыі — выява Маці з хлопчыкам-падлеткам.

Ансамбль жылых дамоў мікрараёна Усход 1 — помнік сучаснага горадабудаўніцтва.

*Л. Г. Лапцэвіч, І. С. Мельнік.*

**167. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АЛАДАВУ** Мікалаю Ільічу (гіст.). На доме № 30. Устаноўлена ў 1973 г. (скульпт. З. Азгур) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага кампазітара, народнага артыста БССР, прафесара М. І. Аладава, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 514 «Магіла Аладава Мікалая Ільіча».

**168. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БАГАМОЛАВУ** Герасіму Васілевічу (гіст.). На доме № 76. Устаноўлена ў 1984 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага вучонага ў галіне гідрагеалогіі і прыкладной геалогіі, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі БССР, двойчы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, акадэміка АН БССР Г. В. Багамолава, які жыў у гэтым доме.

**169. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГУРСКАМУ** Ільі Данілавічу (гіст.). На доме 30/17. Устаноўлена ў 1975 г. (скульпт. З. Азгур) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры БССР І. Д. Гурскага, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 558 «Магіла Гурскага Ільі Данілавіча».




169. *Мемарыяльная дошка І. Д. Гурскаму.*




170. *Мемарыяльная дошка М. В. Дарашэвічу.*

**170. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДАРАШЭВІЧУ** Міхаілу Васілевічу (гіст.). На галоўным корпусе Беларускага політэхнічнага інстытута (дом № 65). Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага вучонага-геадэзіста, прафесара, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі БССР М. В. Дарашэвіча, які працаваў рэктарам БПІ. Гл. таксама артыкул № 561 «Магіла Дарашэвіча Міхаіла Васілевіча».




171. *Мемарыяльная дошка У. І. Дзядзюшку.*

**171. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДЗЯДЗЮШКУ** Уладзіміру Іосіфавічу (гіст.). На доме № 74. Устаноўлена ў 1976 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага акцёра, народнага артыста СССР, народнага артыста БССР У. І. Дзядзюшкі, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 562 «Магіла Дзядзюшкі Уладзіміра Іосіфавіча».

**172. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЖЫНОВІЧУ** Іосіфу Іосіфавічу (гіст.). На доме № 19. Устаноўлена ў 1975 г. (скульпт. С. Вакар) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага цымбаліста, дырыжора, кампазітара і педагога, народнага артыста СССР, народнага артыста БССР, прафесара І. І. Жыновіча, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 567 «Магіла Жыновіча Іосіфа Іосіфавіча».

**173. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЗЛОВУ** Васілю Іванавічу (гіст.). На доме № 28. Устаноўлена ў 1972 г. на ўшанаванне памяці партыйнага і дзяржаўнага дзеяча БССР, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намесніка старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Героя Савецкага Саюза В. І. Казлова, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 571 «Магіла Казлова Васіля Іванавіча».

**174. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На будынку Мінскага вытворчага аб'яднання імя У. І. Леніна (дом № 58). Устаноўлена ў 1975 г. Старшыня ЦВК СССР М. І. Калінін быў у Мінску 7—8.9.1933 г. Выступіў на ўрачыстым пленуме Мінскага гарадскога Савета з дакладам аб міжнародным і ўнутраным становішчы СССР, на 1-м Усебеларускім злёце калгасных конюхаў-ударнікаў, наведаў шэраг прадпрыемстваў горада, сярод іх Мінскі дрэваапрацоўчы завод (цяпер на гэтым месцы будынак Мінскага вытворчага аб'яднання імя У. І. Леніна).

**175. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КОРШ-САБЛІНУ** Уладзіміру Уладзіміравічу (гіст.). На доме № 19. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага кінарэжысёра У. У. Корш-Сабліна, які жыў у гэтым доме.

**176. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КОРШ-САБЛІНУ** Уладзіміру Уладзіміравічу (гіст.). На будынку кінастудыі «Беларусьфільм» (дом № 98). Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці аднаго з заснавальнікаў беларускай мастацкай кінематаграфіі, беларускага савецкага кінарэжысёра, народнага артыста СССР, народнага артыста БССР У. У. Корш-Сабліна, які працаваў на кінастудыі ў 1928—74 гг. Гл. таксама артыкул № 588 «Магіла Корш-Сабліна Уладзіміра Уладзіміравіча».




172. *Мемарыяльная дошка І. І. Жыновічу.*

**177. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КУПРЭВІЧУ** Васілю Феафілавічу (гіст.). На доме № 12. Устаноўлена ў 1971 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага вучонага ў галіне батанікі, дзяржаўнага дзеяча БССР, члена-карэспандэнта АН СССР, акадэміка АН БССР, прэзідэнта АН БССР, Героя Сацыялістычнай Працы, заслужанага дзеяча навукі БССР В. Ф. Купрэвіча, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 596 «Магіла Купрэвіча Васіля Феафілавіча».

**178. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛУК'ЯНОВІЧУ** Трыфану Андрэевічу (гіст.). На будынку вытворчага аб'яднання імя У. І. Леніна (дом № 58). Устаноўлена ў 1985 г.

Т. А. Лук'яновіч нарадзіўся ў 1919 г. у в. Рэпішча Лагойскага р-на. Член ВЛКСМ. З 1939 г. працаваў слесарам на Мінскім радыёзаводзе. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з




173. *Мемарыяльная дошка В. І. Казлову.*




174. *Мемарыяльная дошка М. І. Калініну.*

чэрвеня 1941 г. Ваяваў пад Сталінградам, на Сандамірскім плацдарме, удзельнік Берлінскай аперацыі. 25.4. 1945 г. старшы сяржант 3-га стралковага батальёна 1050-га стралковага палка 301-й стралковай дывізіі Т. А. Лук'яновіч быў смяротна паранены




177. *Мемарыяльная дошка В. Ф. Купрэвічу.*

пры выратаванні нямецкай дзяўчынкі. Памёр 30.4.1945 г. Пра подзвіг савецкага воіна расказаў Барыс Палявы ў карэспандэнцыі «Перадавая на Эльзенштрасэ» ў газеце «Правда» (красавік 1945 г.) і ў артыкуле «Помнім імя тваё...» у газеце «Комсомольская правда» (1.4.1976 г.). Высакародны подзвіг савецкага воіна, які страціў у Вялікую Айчынную вайну сям'ю — жонка і двое дзяцей загінулі ў першыя дні вайны ў час бамбардзіроўкі Мінска нямецка-фашысцкай авіяцыяй, маці і бацьку расстралялі акупанты — і які ахвяраваў сваё жыццё дзеля выратавання нямецкай дзяўчынкі, з'явіўся тэмай для стварэння ў Трэптаў-парку ў Берліне помніка-ансамбля воінам Савецкай Арміі, якія загінулі ў баях супраць фашызму (скульпт. Я. Вучэціч, архіт. Я. Белапольскі). На Эльзенштрасэ, на месцы подзвігу Т. А. Лук'яновіча ўстаноўлены мемарыяльны знак. У музеі Мінскага вытворчага аб'яднання імя У. І. Леніна сабраны матэрыялы аб жыцці і подзвігу адважнага савецкага воіна. Ён залічаны ганаровым членам камсамольска-маладзёжнай брыгады, якая носіць яго імя, заробленыя за яго грашовыя сродкі пералічваюцца ў савецкі фонд міру.

На мемарыяльнай дошцы (скульпт. З. Азгур, архіт. Ю. Казакоў) гарэльефы воіна і выратаванай ім дзяўчынкі.

*Літ.:* Сафонов М. И. Семнадцать штурмовых дней.— Саратов, 1985, с. 97—104. *М. М. Казлоўская.*

**179. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛЫНЬКОВУ** Міхасю (гіст.). На доме № 12. Установлена ў 1977 г. на ўшанаванне памяці народнага пісьменніка БССР, літаратуразнаўца, грамадскага дзеяча, акадэміка АН БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа Міхася (Міхаіла Ціханавіча) Лынькова, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 604 «Магіла Лынькова Міхася».

**180. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МІРОВІЧУ** Еўсцігнею Афінагенавічу (гіст.). На будынку Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (дом № 81). Устаноўлена ў 1981 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага рэжысёра, педагога, драматурга, аднаго з стваральнікаў беларускага савецкага тэатра, народнага артыста БССР Е. А. Міровіча, які працаваў у гэтым інстытуце ў 1945—52 гг. Гл. таксама артыкул № 407 «Магіла Міровіча Еўсцігнея Афінагенавіча».

**181. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку Беларускай рэспубліканскай базы спорттавараў (дом № 32б). Устаноўлена ў 1962 г., у 1983 г. абноўлена (архіт. М. Ткачук).

У Вялікую Айчынную вайну ў гэтым будынку, які належаў ЦЭЦ-1, у кастрычніку 1943 г. падпольшчыкі —



178. *Мемарыяльная дошка Т. А. Лук'яновічу.*

інжынер К. Р. Валчок і рабочы А. Л. Тарлецкі па заданню спецгрупы Цэнтральнага штаба партызанскага руху падрыхтавалі ўзрыў генератараў. Выбух адбыўся раней назначанага тэрміну і арганізатары дыверсіі былі схоплены фашыстамі. Пасля катаванняў гітлераўцы павесілі К. Р.




179. *Мемарыяльная дошка Міхасю Лынькову.*




**180.** *Мемарыяльная дошка Е. А. Міровічу.*

Валчка побач з электрастанцыяй, А. Л. Тарлецкага расстралялі.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978. *М. М. Казлоўская.*




**183.** *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам-паліграфістам.*

**182. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На адным з будынкаў Мінскага вытворчага аб'яднання імя У. І. Леніна (дом № 58). Устаноўлена ў 1975 г.

У час нямецка-фашысцкай акупацыі на Мінскім радыёзаводзе і прылеглых да яго вуліц горада з лютага да лістапада 1943 г. дзейнічала падпольная камсамольская арганізацыя «Танюша» — састаўная частка Мінскага камуністычнага падполля. Створана Мінскім падпольным гаркомам ЛКСМБ. Налічвала 8 чалавек, сакратар арганізацыі П. Я. Кудраўцава (Васільчанка). Патрыёты сапсавалі 22 радыёстанцыі, некалькі соцень радыёлямпаў і інш. радыёпрылад, якія былі прызначаны для самалётаў ворага. Падпольшчыкі здабылі і перадалі падпольнаму гаркому ЛКСМБ пішучую машынку, паперу, патроны, збіралі разведданыя аб размяшчэнні і перамяшчэнні нямецкіх войск, распаўсюджвалі сярод насельніцтва лістоўкі, газеты, зводкі Саўінфармбюро. Летам 1943 г. члены арганізацыі ўстанавілі і падтрымлівалі да лістапада 1943 г. сувязь з Мінскімі падпольнымі абкомамі КП(б)Б і ЛКСМБ, якія размяшчаліся ў Барысаўскай партызанскай зоне. У лістападзе 1943 г. гітлераўцы высачылі падпольшчыкаў. Была схоплена акупантамі і адпраўлена ў канцлагер В. В. Лупач. Каб пазбегнуць арышту, падпольшчыкі пайшлі ў партызанскую брыгаду «Штурмавая», дзе працягвалі барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Мемарыяльная дошка ўшаноўвае таксама памяць М. І. Калініна (гл. артыкул № 174 «Мемарыяльная дошка Калініну Міхаілу Іванавічу»).

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Сквозь огонь и смерть.— Мн., 1970; В непокоренном Минске.— Мн., 1987. *Т. Р. Чуракова, Р. М. Шаўла.*

**183. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ - ПАЛІГРАФІСТАМ** (гіст.). На доме друку (№ 79). Устаноўлена ў 1972 г., абноўлена ў 1986 г. (архіт. М. Ткачук; сілумін).

У Вялікую Айчынную вайну ў Доме друку пад кіраўніцтвам падпольных Мінскага гаркома і Варашылаўскага райкома КП(б)Б дзейнічала арганізацыя Мінскага камуністычнага падполля, адным з кіраўнікоў якой быў друкар М. П. Воранаў. Патрыёты выносілі з друкарні акупантаў шрыфты, паперу, друкарскую фарбу і інш. матэрыялы, патрэбныя для стварэння падпольных друкарняў. У маі 1942 г. на нарадзе актыву падполля прынята рашэнне аб выданні падпольнай газеты «Звязда» — органа Мінскага гаркома КП(б)Б. Набор газеты быў даручаны М. П. Воранаву. Для выканання задання ён прыцягнуў членаў падпольнай арганізацыі Б. Пупко, Б. Б. Гофман, М. І. Свірыдава і свайго




**184.** *Мемарыяльная дошка В. І. Пераходу.*

сына М. М. Воранава, якія мелі доступ да шрыфтоў. Падпольшчыкі Б. Пупко і Б. Б. Гофман выносілі набраныя гранкі на канспіратыўныя кватэры патрыётаў В. І. Сайчыка (вул. Савецкая) і Воранавых (вул. Шорная, 9). Дастаўкай шрыфтоў займаліся таксама С. А. Благаразумаў, М. І. Васькоў. Вярстаў газету М. І. Свірыдаў, друкавалася «Звязда» на кватэрах Т. А. Трафімюк, якая жыла ў адным доме з сям'ёй Воранавых, А. С. Грышына (вул. Выдавецкая, 10), П. К. Хадасевіч (вул. 3-я лінія, 26). Выйшлі 4 нумары. У падпольнай друкарні, акрамя газеты, было набрана некалькі лістовак і «Прысяга партызана». Набраны пяты нумар «Звязды» не быў выдадзены з прычыны масавых арыштаў падпольшчыкаў. Былі арыштаваны і закатаваны Б. Пупко, М. П. і М. М. Воранавы, М. І. Свірыдаў. За май — верасень 1942 г. у засценках замучана 27 падпольшчы-




**185.** *Мемарыяльная дошка Л. І. Ржэцкай.*




186. *Мемарыяльная дошка У. І. Уладамірскаму.*

каў-паліграфістаў, каля 30 чалавек вывезены на катаргу ў Германію.

*А. Дз. Сакевіч.*

**184. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПЕРАХОДУ** Вячаславу Іванавічу (гіст.). На доме № 31. Устаноўлена ў 1984 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага вучонага ў галіне лесаводства, акадэміка АН БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР, акадэміка Акадэміі сельскагаспадарчых навук СССР (1959—61 гг.) В. І. Перахода, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 630 «Магіла Перахода Вячаслава Іванавіча».

**185. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РЖЭЦКАЙ** Лідзіі Іванаўне (гіст.). На доме № 30. Устаноўлена ў 1981 г. на ўшанаванне памяці беларускай савецкай актрысы, народнай артысткі СССР, народнай артысткі БССР Л. І. Ржэцкай, якая жыла ў гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 650 «Магіла Ржэцкай Лідзіі Іванаўны».

**186. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА УЛАДАМІРСКАМУ** Уладзіміру Іосіфавічу (гіст.). На доме № 19. Устаноўлена ў 1972 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага акцёра, народнага артыста СССР, народнага артыста БССР У. І. Уладамірскага, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 676 «Магіла Уладамірскага Уладзіміра Іосіфавіча».

**187. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЦІКОЦКАМУ** Яўгену Карлавічу (гіст.). На доме № 36. Устаноўлена ў 1972 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага кампазітара, народнага артыста СССР, народнага артыста БССР Я. К. Цікоцкага, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 682 «Магіла Цікоцкага Яўгена Карлавіча».

**188. МЕТРАПАЛІТЭН** (архіт., маст.). Будаўніцтва пачата ў 1977 г. Паводле праекта прадугледжаны 3 лініі, якія ўзаемна перасякуцца на Кастрычніцкай, Прывакзальнай і Юбілейнай плошчах. Агульная даўжыня каля 53 км. 1-я лінія (17,6 км) звяжа ўсходнюю частку горада з паўднёва-заходняй. Яна пачынаецца ў жылым раёне Усход, праходзіць уздоўж Ле-




187. *Мемарыяльная дошка Я. К. Цікоцкаму.*



188. *Метрапалітэн. Станцыя «Маскоўская».*



188. *Метрапалітэн. Станцыя «Парк Чэлюскінцаў».*




188. *Метрапалітэн. Станцыя «Акадэмія навук».*



188. *Метрапалітэн. Станцыя «Плошча Якуба Коласа».*




188. *Метрапалітэн. Станцыя «Плошча Перамогі».*

нінскага праспекта цераз плошчу Леніна ў жылы раён Паўднёвы Захад. 2-я лінія (19 км) звяжа цэнтр горада з буйнымі жылымі масівамі заходняй часткі горада і паўднёва-ўсходняй прамысловай зонай, працягнецца ад праспекта Пушкіна да аўтазавода; 3-я лінія (16 км) звяжа паўднёвую частку з паўночна-ўсходняй і будзе пракладзена ад скрыжавання вуліц Кіжаватава і Каржанеўскага цераз Юбілейную пл. уздоўж вул. Горкага ў жылы раён Зялёны Луг. Першая чарга 1-й лініі (8,6 км) метро адкрыта 30.6. 1984 г. Праходзіць уздоўж Ленінскага праспекта. На 1988 г. уключае 9 пасажырскіх станцый («Усход, «Маскоўская», «Парк Чэлюскінцаў», «Акадэмія навук», «Плошча Якуба Коласа», «Плошча Перамогі», «Кастрычніцкая», «Плошча У. І. Леніна», «Інстытут культуры»), падземныя вестыбюлі, пераходы, эскалатарныя спускі, службовыя і інш. памяшканні, інжынерны корпус, электрадэпо (архіт. Я. Леановіч, У. Целяпнёў, М. Лапато). Станцыі метро — арыгінальныя творы архітэктуры. Выкарыстанне сучасных будаўнічых канструкцый дало магчымасць стварыць адзіную прастору станцый. У мастацкім афармленні іх увасоблена грамадскае, вытворчае і культурнае жыццё Савецкай Беларусі, яе гераічнае мінулае і сучаснае.

Рабочыя чарцяжы для будаўніцтва метро распрацаваны філіялам маскоўскага інстытута Метрадзіпратранс — Мінскметрапраектам, архітэктурна-мастацкае афармленне інтэр'ераў станцый — інстытутамі Метрадзіпратранс, Мінскметрапраект, Мінскпраект, Белдзяржпраект, перабсталяванне інжынерных сетак у зоне будаўніцтва — інстытутам Мінскінжпраект. Інжынерна-геалагічныя вышуканні праведзены Беларускім дзяржаўным інстытутам інжынерных вышуканняў.

Станцыя «Усход» (архіт. Е. Леановіч, У. Мацельскі). Уведзена ў эксплуатацыю 26.12.1986 г. Скляпеністага тыпу, выканана са зборных жалезабетонных элементаў (трох тыпаразмераў) заводскай вытворчасці. У аснову архітэктурнага афармлення інтэр'ера пакладзена тэма «Савецкая моладзь і гераічнае асваенне космасу». Нетрадыцыйна вырашаны ўвесь унутраны аб'ём. Станцыя — сучаснае інжынерна-транспартнае збудаванне, якое па форме нагадвае касмічны карабель з вокнамі-ілюмінатарамі. Мастацкі вобраз інтэр'ера створаны на аснове адзінага архітэктурнага элемента, выкананага са зборнага жалезабетону ў выглядзе пялёстка кветкі. Падоўжаны казырок на пуцявой сцяне платформы з'яўляецца святлозацянялыным элементам і адначасова экранам светлавога патоку, які скіраваны на скляпенні. Па-новаму выра-

шана інжынернае абслугоўванне станцыі: забяспечаны доступ да свяцільнікаў у любы час сутак, адсутнічаюць кабельная шафа і хвалявод на пуцявых сценах, што паляпшае эстэтычны выгляд інтэр'ера. Мяккасць ліній усяго аб'ёму станцыі і яго асобных архітэктурных элементаў, добрая асветленасць, спалучэнне белых скляпенняў з цёмна-чырвонай абліцоўкай пуцявых сцен (граніт) і надпісаў, выкананых у залацістым тоне, ствараюць уражанне лёгкасці, прастору і навізны.

Станцыя «М а с к о ў с к а я» (архіт. Л. Пагарэлаў, Л. Кустова, Ю. Івахнішын, маст. У. Стальмашонак, В. Даўгала) калоннага тыпу, выканана са зборных жалезабетонных канструкцый. Тэма афармлення станцыі «Масква — сталіца Саюза ССР» раскрываецца архітэктурнымі сродкамі ў сінтэзе з манументальна-дэкаратыўным мастацтвам. Колеравая гама заснавана на кантрасце чырвонага, белага і залацістага тонаў. Тарцовая сцяна над уваходам у перонную залу ўпрыгожана пано, на якім выява крамлёўскіх курантаў. Пано на 2 пуцявых сценах з выявай гісторыка-архітэктурных помнікаў Масквы выканана ў тэхніцы фларэнційскай мазаікі. Сцены і калоны вестыбюля і перонпай залы абліцаваны белым мармурам. Калоны, цягі, элементы падвеснай столі афармлены паліраванай латунню.

Перонная зала станцыі «П а р к Ч э л ю с к і н ц а ў» (архіт. Б. Юрцін, маст. Ю. Індрыксан) перакрыта жалезабетонным скляпеннем, якое апіраецца на абліцаваныя цёмным гранітам пуцявыя сцены. Падоўжнае і папярочнае чляненне скляпення надае станцыі своеасаблівае аблічча. Галоўную кампазіцыйную ролю ў архітэктурна-мастацкім афармленні залы адыгрываюць 8 дэкаратыўных люстраў па восі скляпення і 34 бакавыя свяцільні ў нішах скляпення. Люстры, свяцільні, выкананыя з шкла залацістага колеру, у спалучэнні з белымі скляпеннямі надаюць станцыі ўрачыстасць. Колеравае вырашэнне станцыі — бела-ружовы тон, які дапоўнены гарманічным увядзеннем у аддзелку люстраў і скляпення дэкаратыўна-мастацкіх элементаў з латуні.

Асноўная тэма архітэктурна-мастацкага афармлення станцыі «А к а д э м і я н а в у к» (архіт. М. Пірагоў, А. Зензін, маст. В. Чурыла, С. Сакалоў) — дасягненні навукі Савецкай Беларусі. Станцыя выканана са зборных жалезабетонных канструкцый з шагам калон 4,5 м. Тэма раскрываецца праз архітэктурныя формы перонпай залы (строгі рытм калон своеасаблівай формы, пластычных рыгеляў і арнаментальна-дэкаратыўныя рэльефы на тарцовых сценах). Адкрытае



188. *Метрапалітэн. Станцыя «Кастрычніцкая».*



188. *Метрапалітэн. Станцыя «Плошча У. І. Леніна».*



188. *Метрапалітэн. Станцыя «Інстытут культуры».*

асвятленне мякка падсвечвае рэбры пліт пакрыцця столі ў перспектыве і надае інтэр'еру станцыі дынамічную кампазіцыю і цэласнасць. У аддзелцы сцен пероннай залы і вестыбюляў выкарыстаны мармур, нержавеючая сталь. Падлога абліцавана паліраваным гранітам у спалучэнні з лабрадарытам.

Станцыя «Плошча Якуба Коласа» (архіт. М. Пірагоў, А. Зензін, маст. Г. Жарын, Ю. Багушэвіч) выканана са зборных жалезабетонных канструкцый з шагам калон 7,5 м. Архітэктурнае вырашэнне перроннай залы (форма калон, нахіленыя рэбры перакрыцця станцыі) асацыіруецца з элементамі беларускага народнага дойлідства. Своеасаблівы нацыянальны характар станцыі надае выкарыстанне керамічных аддзелачных матэрыялаў. 26 калон абліцаваны кафляй. Тэматычныя ўстаўкі прысвечаны народным святочным абрадам, працы і побыту беларускага народа. У аддзелцы падлогі выкарыстаны граніт, сцен — белы мармур.

Станцыя «Плошча Перамогі» (архіт. Б. Ларчанка, Б. Школьнікаў, маст. У. Стальмашонак, В. Даўгала) зручна звязана з падземнымі пераходамі. Выканана са зборных жалезабетонных канструкцый з шагам калон 6 м. У аснове архітэктурна-мастацкага вырашэння станцыі — тэма гераічнай перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Урачысты строй 34 бела-мармуровых калон, завершаных свяцільнямі з шкла залацістага колеру, сімвалізуе святочны салют. Перад уваходам у перонную залу, над эскалатарамі вітраж з выявай ордэна Перамогі. У аддзелцы выкарыстаны граніт чырвонага і шэрага колераў.

Станцыя «Кастрычніцкая» (архіт. Ю. Удовін, Ю. Грыгор'еў, Я. Леановіч, маст. А. Кузняцоў, Л. Агаджанян) запраектавана ў 2 узроўнях: над перроннай залай размешчаны гарадскія касы папярэдняга продажу білетаў на міжгародны пасажырскі транспарт. Архітэктурнае вырашэнне перроннай залы заснавана на рытме высокіх калон (у сячэнні форма пяціканцовай зоркі), якія расшыраюцца ў верхняй частцы. Арганічна ўпісаныя ў капітэлі калон свяцільні падкрэсліваюць лёгкасць інтэр'ера. На тарцовых сценах пано з рэльефамі, якія адлюстроўваюць асноўныя вехі гісторыі СССР. Калоны і пуцявыя сцены абліцаваны белым мармурам, падлога — чырвона-карычневым гранітам. Спалучэнне чырвонага, белага і залацістага тонаў складае каляровую гаму, што надае інтэр'еру строгую ўрачыстасць.

Арыгінальнасць архітэктурна-мастацкага вырашэння станцыі «Плошча У. І. Леніна» (архіт. Ю. Градаў, Л. Левін, С. Тылевіч, В. Барташэвіч, маст. В. Мігаль, А. Анікейчык) у адсутнасці калон (перонная зала перакрыта жалезабетонным скляпеннем лаканічнай формы), у прастаце і цэльнасці інтэр'ераў. Свяцільні размешчаны за інфармацыйнымі карнізамі на пуцявых сценах. У цэнтры перроннай залы дэкаратыўна-мастацкі элемент «Светач» (В. Мігаль). На тарцовых сценах манументальна-дэкаратыўныя рэльефы «У. І. Ленін» і «Курлоўскі расстрэл» (скульпт. А. Анікейчык). Пуцявыя сцены абліцаваны белым і чырвоным мармурам, падлога выкладзена светла-шэрым, цёмна-шэрым і чорным гранітам.

У аснове архітэктурна-мастацкага афармлення станцыі «Інстытут культуры» (архіт. В. Іўлічаў, В. Ачайкін, Е. Леановіч, К. Эпштэйн, маст. В. Чайка, С. Катовіч) тэма гісторыі і росквіту культуры Савецкай Беларусі. Перонная зала перакрыта жалезабетонным скляпеннем, падзеленым дэкаратыўнымі тэматычнымі ўстаўкамі з літага шкла на тэму слуцкіх паясоў. Па восі скляпення размешчаны люстры з хрусталёвага шкла. Для аддзелкі пуцявых сцен і падлогі выкарыстаны паліраваны граніт. Малыя формы і сродкі інфармацыі ўсіх станцый выкананы паводле праекту архіт. М. Грыбава, А. Аксёнавай пры ўдзеле У. Сокала.

*Літ.:* Павлович В. Ю. Минское метро: Путеводитель.— Мн., 1984.

*В. Ф. Валошын, Я. Я. Леановіч.*

**189. ПАРК КУЛЬТУРЫ І АДПАЧЫНКУ ІМЯ ЧЭЛЮСКІНЦАЎ** (архіт., гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, выходзіць на Ленінскі праспект. Створаны ў 1928—32 гг. у сасновым бары плошчай 45 га уздоўж Сляпянскага ручая. Адкрыты ў 1932 г. У 1934 г. прысвоена імя Чэлюскінцаў. У 1945 г. тэрыторыя павялічана да 56 га, у 1975 г.— да 78 га, часткова рэканструяваны ў 1950 г.



189. *Парк культуры і адпачынку імя Чэлюскінцаў. Бярозавая алея.*



189. *Магіла савецкіх ваеннапалонных, падпольшчыкаў і мірных жыхароў.*

Асноўны зялёны масіў парку складае сасновы бор плошчай 48 га. З 1983 г. праводзяцца мерапрыемствы па рэканструкцыі парку. Праведзена падсадка елкі, лісцевых парод дрэў (конскі каштан звычайны, арэх маньчжурскі, дуб звычайны, або летні, ліпа, бяроза, клён, рабіна і інш.) і кустоў. Пасадкамі мясцовых парод ствараецца 2-і ярус насаджэнняў. 2 галоўныя ўваходы — з боку Ленінскага праспекта. Ад іх ідуць прамыя алеі, якія перасякаюцца галоўнай алеяй, пракладзенай па лініі паўночны захад — паўднёвы ўсход. Алеі і прагулачныя маршруты не парушаюць натуральнага ляснога масіву.

Тэрыторыя парку падзелена на функцыянальныя зоны: ціхага адпачынку, дзе размешчаны асноўныя відовішчныя і клубныя збудаванні — закрытая танцавальная зала, летняя танцавальная пляцоўка, кінатэатр «Вясёлка», атракцыёны і інш.; спартыўна-аздараўленчую — лыжная база, кардадром, спартыўныя пляцоўкі; адпачынку дзяцей — пляцоўкі, павільёны, атракцыёны; адміністрацыйных і гаспадарчых збудаванняў.

Парк пейзажна-рэгулярнай планіроўкі, прыклад удалага ўключэння натуральнага ляснога масіву ў структуру сучаснага горада.



191. *Помнік падпольшчыкам.*

Магіла савецкіх ваеннапалонных, падпольшчыкаў і мірных жыхароў. У паўночна-ўсходняй частцы парку. Пахавана больш за 10 тысяч ваеннапалонных, якіх у студзені 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. Сярод пахаваных мірныя жыхары, падпольшчыкі, якіх загубілі акупанты ў 1941—44 гг. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

*Літ.:* Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии.— Мн., 1957.
*Г. І. Дулеба, А. М. Кулагін.*

**190. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі Мінскага вытворчага аб'яднання імя У. І. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**191. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст., маст.). У Цэнтральным скверы. Пастаўлены ў 1979 г. на месцы, дзе 26.10.1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты закатавалі членаў камуністычнага падполля В. Ф. Шчарбацэвіч, Н. Ф. і П. Ф. Янушкевічаў, а 7.5. 1942 г. І. П. Казінца і М. Г. Дземідзенку. Помнік (скульпт. А. Анікейчык, архіт. Л. Левін, Ю. Градаў) уяўляе сабой 2 чыгунныя пліты з адбіткамі нібыта слядоў загінуўшых падпольшчыкаў. Пліты злучаны бронзавай мемарыяльнай дошкай. Стылізаваны калючы дрот ахоплівае пятлёй адзін бок дошкі, з другога боку ён, звіваючыся, чапляецца за шурпатую кару старога дрэва — нямога сведкі расправы над мужнымі патрыётамі Радзімы.

*Літ.:* В непокоренном Минске.— Мн., 1987.
*Л. Г. Лапцэвіч.*

**192. ПОМНІК ПАЛІГРАФІСТАМ** (гіст.). На тэрыторыі друкарні Выдавецтва ЦК КПБ. На ўшанаванне памяці 27 паліграфістаў, актыўных удзельнікаў Мінскага камуністычнага падполля, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1983 г. пастаўлена стэла.

**193. ПОМНІК СТУДЭНТАМ І ВЫКЛАДЧЫКАМ БЕЛАРУСКАГА ПОЛІТЭХНІЧНАГА ІНСТЫТУТА** (гіст.). Каля будынка галоўнага корпуса Беларускага політэхнічнага інстытута. На ўшанаванне памяці студэнтаў і выкладчыкаў інстытута, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**194. ТРОІЦКІ ЗАЛАТАГОРСКІ КАСЦЁЛ СВЯТОГА РОХА** (архіт.). Каля перакрыжавання Ленінскага праспекта з вул. Казлова. Пабудаваны ў 1861—74 гг. з цэглы на могілках Залатая горка. Рэстаўрыраваны ў 1983 г.

Храм аднанефавы, аднавежавы, прамавугольны ў плане, з пяціграннай апсідай, мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад завершаны двух'яруснай прамавугольнай ў плане вежай пад чатырохсхільным шатром. Абапал франтона — дэкаратыўныя вежачкі. Фасады будынка расчлянёны стылізаванымі трохступеньчатымі контрфорсамі, члянёны стральчатымі нішамі з аконнымі праёмамі. Па перыметры сцены завершаны развітым карнізам. Уваход вырашаны ў выглядзе высокага спічастага партала.

Інтэр'ер пабудовы мае сіметрычную кампазіцыю. Цэнтральны неф і апсіда перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. У нартэксе — крыжовае скляпенне. Унутраная паверхня сцен дэкарыравана пілястрамі, якія абмежаваны карнізам.

Пасля рэстаўрацыі будынак касцёла прыстасаваны пад залу камернай музыкі Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Пры ўваходзе ў залу ўстаноўлена керамічная скульптура «Музыка», у нішах былой крыпты — дэкаратыўныя скульптуры (народныя персанажы — паліваная кераміка; маст. М. Байрачны, В. Прыешкін). У цэнтры алтара ўстаноўлены арган, абапал яго ў нішах — драўляныя скульптуры (скульпт. Л. Давыдзенка). Вокны дэкарыраваны арнаментальным вітражом.

Касцёл — помнік архітэктуры неагатычнага кірунку.
*А. Ю. Пятросава.*



193. *Помнік студэнтам і выкладчыкам Беларускага політэхнічнага інстытута.*



194. *Троіцкі залатагорскі касцёл святога Роха. Фота 1901 г.*



**194.** *Троіцкі залатагорскі касцёл святога Роха. Бакавы фасад.*




**194.** *Троіцкі залатагорскі касцёл святога Роха. План.*

**195. ЦЭНТРАЛЬНЫ ДЗІЦЯЧЫ ПАРК ІМЯ М. ГОРКАГА** (архіт., гіст., маст.). У цэнтры горада, на беразе р. Свіслач. Абмежаваны Ленінскім праспектам, вуліцамі Я. Купалы, Фрунзе, Першамайскай. Створаны на мяжы 18—19 стагоддзяў (плошча 15 га), адкрыты ў 1805 г., называўся Губернатарскім садам. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі перайменаваны ў сад «Прафінтэрн», з 1936 г. імя М. Горкага. З 1952 г. функцыяніраваў як парк культуры і адпачынку. У 1960 г. пераўтвораны ў Цэнтральны дзіцячы парк.



**194.** *Троіцкі залатагорскі касцёл святога Роха. Галоўны фасад.*

У Айчынную вайну частка парку і прылеглыя да яго гарадскія кварталы былі разбураны. Пасля вайны парк рэканструяваны і пашыраны да 28 га, у 1960-я гады распрацаваны генеральны план яго рэканструкцыі («Мінскпраект»).

Парк з'яўляецца важным звяном у сістэме зялёных масіваў уздоўж р. Свіслач, мае вялікае горадабудаўнічае значэнне. Разам з паркам імя Я. Купалы, што размешчаны на другім баку Ленінскага праспекта, ён стварае перад пл. Перамогі зялёны курданёр.

Парадны ўваход у парк вырашаны ў выглядзе масіўнага шасцікалоннага праезду, які фланкіраваны альтанкамі-ратондамі (архіт. Г. Заборскі). Пры галоўным уваходзе створана плошча, выкладзеная бетоннымі плітамі розных колераў з украпаваннямі газонаў.

Планіровачная кампазіцыя старога саду, якая гістарычна склалася, захавана пераважна і пры рэканструкцыі. Парк пейзажнага тыпу з элементамі рэгулярнага. Аснову планіроўкі складаюць 3 прамыя алеі, перасечаныя ў розных кірунках дарожкамі і сцежкамі.

Ландшафтную кампазіцыю парку ўзбагачае рэчышча Свіслачы, на якой пабудавана плаціна, што стварае эфектны вадаспад, зроблены вадаёмы і адводны канал з пешаходнымі мосцікамі. Берагі ракі добраўпарадкаваны, па набярэжнай праходзіць адзін з асноўных прагулачных маршрутаў. Парк багата насычаны архітэктурай малых форм: павільёны, альтанкі, мосцікі, грот з басейнам, сучасная асвятляльная арматура і інш.

У парку растуць больш за 60 парод дрэў і кустоў, у асноўным мясцовыя: бяроза, ліпа, елка, хвоя, таполя, рабіна, ніцая вярба і інш. Ёсць і рэдкія садова-паркавыя расліны — сасна кедравая, піхта каліфарнійская,

лістоўніца еўрапейская, чаромха вяргінская, клёны палявы і серабрыстым. Зберагліся дэкаратыўныя групы стогадовых ліп і клёнаў, хвоі веймутава, унікальныя экземпляры кедраў. У парку створаны глыбінныя пейзажныя курціны. Усё гэта дапаўняецца пасадкамі кустоў і кветнікамі.

Функцыянальнае заніраванне тэрыторыі прадугледжана з улікам узросту дзяцей. Ва ўсходняй частцы парку для самых маленькіх абсталявана спецыяльная зона з басейнам, горкай, іншымі канструкцыямі і атракцыёнамі. Для заняткаў спортам створана поле масавых гульняў са спартыўным павільёнам, крытым катком, комплексам спартыўных пляцовак, стадыёнам; ёсць велатрэк, цір, гарадок з аўтатрасай для вывучэння правіл вулічнага руху. Для абслугоўвання наведвальнікаў збудаваны выставачны павільён, павільён з аўтаматамі-гульнямі, 2 кафэ. У парку праводзяцца дзіцячыя святы, выстаўкі, канцэрты, працуюць гурткі, школа фігурнага катання, шахматны клуб «Сланяня».

На самым высокім месцы рэльефу пабудаваны вучэбны планетарый і абсерваторыя, перад будынкам планетарыя ўстаноўлены помнік К. Э. Цыялкоўскаму.

Непадалёку ад планетарыя знаходзяцца магілы героя Грамадзянскай вайны А. Э. Даўмана, удзельніка барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі І. М. Флакса, воіна Чырвонай Арміі Г. А. Іванкова, які загінуў у 1944 г., у цэнтральнай частцы парку — помнік М. Горкаму.

**195а. Магіла Іванкова Герасіма Андрэевіча.** Савецкі воін Г. А. Іванкоў загінуў у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі 14.7.1944 г. У 1964 г. на магіле ўстаноўлена надмагільная пліта.

**195б. Магіла Даўмана Анса Эрнеставіча і Флакса Іосіфа Майсеевіча.**

А. Э. Даўман (партыйны псеўданім Пуйка) нарадзіўся 14.11. 1885 г. на хутары Крэйпі Рыжскага павета ў сям'і селяніна. У 1903 г. паступіў у Пскоўскае землямернае вучылішча, дзе быў актыўным членам сацыял-дэмакратычай групы. Пад рэдакцыяй А. Э. Даўмана выдаваўся маладзёжны часопіс «Яўнібас балес» («Голас моладзі»). Пасля заканчэння вучылішча працаваў у землеўпарадкавальнай камісіі Віленскай губ. Член Камуністычнай партыі з 1904 г. Удзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гг. У 1914 г. прызваны ў армію. У 1911 г. быў прызначаны камандзірам роты 1-га батальёна 182-га Грахоўскага пяхотнага палка. У першую сусветную вайну камандзір роты, батальёна. У Лютаўскую рэвалюцыю 1917 г. старшыня Нарвенскага Савета, у кастрычніцкія дні старшыня Нарвенскага ВРК. З сакавіка 1918 г. — камісар Гатчынскай ваеннай акругі, у час наступлення нямецкіх войск быў камандзірам Нарвенскага партызанскага атрада, арганізаваў полк Чырвонай гвардыі, які стаў ядром 6-й дывізіі (камісар гэтай дывізіі). Удзельнік баёў у Латвіі супраць нямецкіх і белагвардзейскіх войск. У жніўні — кастрычніку 1919 г. узначаліў абарону Дзвінскага ўмацаванага раёна. З кастрычніка 1919 г. А. Э. Даўман — член Рэвалюцыйнага ваеннага Савета 16-й арміі, якая вяла баявыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі. З чэрвеня 1920 г. камандзір 10-й стралковай дывізіі, якая вызваліла ад белапольскіх акупантаў шэраг гарадоў Беларусі. Загінуў у баі 1.8.1920 г. каля Брэста. Узнагароджаны двума ордэнамі Чырвонага Сцяга. Яго імем названы вуліцы ў г. Мінску, Барысаве, Нарве, прадпрыемства на ст. Обаль Полацкага раёна.



195. *Цэнтральны дзіцячы парк імя М. Горкага. Від з боку моста цераз р. Свіслач.*



195. *Крыты каток.*

І. М. Флакс нарадзіўся ў верасні 1896 г. у г. Тарту ў сям'і мешчаніна. Вучыўся ў Юр'еўскім універсітэце на медыцынскім факультэце. Член камуністычнай партыі. З 1917 г. актыўны ўдзельнік рэвалюцыйнай барацьбы. У 1918 г. выбраны старшынёй Смаленскага губернскага камітэта КСМ, пазней членам ЦК КСМ Літвы і Беларусі. З 1919 г. у Чырвонай Арміі, у палітаддзеле 16-й арміі, 8-й стралковай дывізіі. Загінуў 4.8.1920 г. у баі пры вызваленні Беларусі ад белапольскіх інтэрвентаў. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

У 1965 г. на магіле ўстаноўлена надмагілле.

**195в. Помнік М. Горкаму.** Устаноўлены ў 1981 г. (скульпт. А. Заспіцкі, М. Рыжанкоў, І. Міско, архіт. А. Трафімчук; бронза, граніт; агульная вышыня 6 м). На невысокім ступеньчатым пастаменце бронзавая скульптура пісьменніка, які сядзіць на лаўцы, паклаўшы нагу на нагу, побач — скінутае паліто. М. Горкі паказаны маладым, у кашулі-касаваротцы. Ва ўсёй яго фігуры, у выразе твару рамантычная ўзнёсласць, высакароднасць, глыбокі роздум.

**195г. Помнік К. Э. Цыялкоўскаму.** Устаноўлены ў 1965 г. (скульпт. А. Заспіцкі, Л. Гумілеўскі; бетон з мармуровай крошкай; вышыня пастамента 3 м, бюста 1,5 м). Паплечны бюст вучонага пастаўлены на пастаменце прамавугольнай формы. Пластыка рысаў твару абагульнена. Непмматлікія матывы руху — валасы, нібы ветрам адкінутыя з высокага ілба, плашч, што развяваецца,— асацыіруюцца з тэмай палёту, надаюць вобразу рамантычнае гучанне. Белы колер бюста добра суадносіцца з ружовым пастаментам і шэрымі плітамі дарожкі, што вядзе да помніка.



195в. *Помнік Максіму Горкаму.*



195г. *Помнік К. Э. Цыялкоўскаму.*

Парк — прыклад садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии.— Мн., 1957; Минск: Послевоенный опыт реконструкции и развития.— М., 1966; Сычёва А. В. Охрана природы и архитектура.— Мн., 1976.

*А. М. Кулагін, Л. Г. Лапцэвіч.*

**196. ЦЭНТРАЛЬНЫ СКВЕР** (архіт.). У цэнтры горада. Прамавугольны ўчастак тэрыторыі сквера (плошча 2,4 га) абмежаваны Ленінскім праспектам, вуліцамі Ф. Энгельса, К. Маркса і Чырвонаармейскай. Зялёны масіў з боку праспекта замыкае Кастрычніцкую пл.

У 19 ст. на гэтым месцы знаходзіўся Новы рынак, дзе ў 1872 г. створаны гарадскі, так званы Аляксандраўскі сад. Ён уяўляў сабою невялікі парк рэгулярнага тыпу планіроўкі з перыметральнымі і дыяганальнымі алеямі і фантанам у цэнтры з дэкаратыўнай скульптурнай групай — хлопчык з лебедзем (1874 г.). У 1888—90 гг. у скверы збудаваны Мінскі гарадскі тэатр (сучасны тэатр імя Я. Купалы). У 1970 г. сквер рэканструяваны (архіт. Ю. Грыгор'еў). Планіроўка захоўвае асноўныя прынцыпы першапачатковага саду. Добраўпарадкаванне ўключае: замошчаныя алеі, сцежкі, рабаткі, кустовыя бардзюры, кветнікі, сучасную асвятляльную арматуру і інш. На роўным зялёным дыване газонаў растуць шматгадовыя ліпы і клёны і больш познія пасадкі — каштаны, таполі і інш.

Архітэктурнае афармленне сквера падпарадкавана параднаму, урачыстаму характару Кастрычніцкай пл.— месцу ўсенародных святкаванняў. Пасярэдзіне падпорнай сценкі, размешчанай уздоўж праспекта, пабудаваны гранітная трыбуна (архіт. Я. Заслаўскі). Эфектныя аддзелачныя матэрыялы — чырвоны граніт, мастацкае чыгуннае ліццё, выкарыс-



196. *Цэнтральны сквер. Фантан з скульптурнай групай — хлопчык з лебедзем.*



197. *Помнік В. У. Куйбышаву.*

таныя ў агароджы, надаюць кампазіцыі манументальнасць і ўрачыстасць. Балюстрада фланкіравана маляўнічымі ўваходамі ў сквер: іх лесвічныя маршы дэкарыраваны вазамі і асвятляльнымі калонамі з чырвонага паліраванага граніту. Рытм балюстрады разнастаяць чыгунныя ўстаўкі-пано. Кантраст ажурна точаных гранітных балясін і манументальных чыгунных уставак, з выявамі сцягоў і атрыбутаў працы, стварае мастацкі эфект. З боку вуліц Энгельса, К. Маркса і Чырвонаармейскай чыгунная агароджа складаецца з квадратных філёнгаў, упрыгожаных ажурным дубовым лісцем, афарбаваным у чорны колер і зоркамі ў разетках, імітаванымі пад бронзу. Правобразам агароджы з'явілася адна з старадаўніх балконных рашотак Ленінграда. Аднак сучасныя эмблемы надаюць ёй новыя дэкаратыўныя якасці. Пры ўваходзе ў сквер з боку вул. Энгельса ў 1949 г. быў устаноўлены бюст народнага паэта Беларусі Я. Купалы (у 1972 г. перанесены на радзіму паэта ў в. Вязынка Мінскага р-на); у 1979 г. устаноўлены мемарыяльны знак на месцы пакарання смерцю членаў Мінскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну.

Сквер — помнік садова-паркавага мастацтва і архітэктуры малых форм.

*Літ.:* Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии.— Мн., 1957; Минск: Послевоенный опыт реконструкции и развития.— Мн., 1966. *А. М. Кулагін.*

**вул. К. Лібкнехта**

**197. ПОМНІК КУЙБЫШАВУ** Валяр'яну Уладзіміравічу (гіст.). На тэрыторыі скургалантарэйнай фабрыкі імя В. У. Куйбышава. Бюст савецкага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча В. У. Куйбышава ўстаноўлены ў 1948 г.

**198. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі Мінскай скургалантарэйнай фабрыкі імя В. У. Куйбышава. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1948 г.

**вул. Лугавая**

**199. ДОМ, У ЯКІМ БЫЛА КАНСПІРАТЫЎНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Дом № 34. У гэтым доме (раней № 9) жыў член Мінскага падпольнага гарадскога камітэта КП(б)Б Г. М. Сямёнаў, у 1941—42 гг. была канспіратыўная кватэра Мінскага падпольнага гаркома партыі.

У канцы кастрычніка 1941 г.— пачатку студзеня 1942 г. тут адбылося некалькі нарад прадстаўнікоў падпольных груп, у лістападзе 1941 г. створаны Мінскі падпольны гарадскі камітэт КП(б)Б. У склад яго ўвайшлі: І. П. Казінец (сакратар), К. Дз. Грыгор'еў, В. С. Жудро, С. І. Заяц (Зайцаў), Г. М. Сямёнаў, пазней В. К. Нікіфараў і інш. Гарком разгарнуў у Мінску і наваколлі шырокую арганізацыйную і палітычную работу. Вялікую ўвагу аддаваў наладжванню сувязі з існуючымі падпольнымі групамі і арганізацыямі, стварэнню новых груп. На канспіратыўнай кватэры падпольшчыкі сустракаліся, прымалі партызанскіх сувязных, захоўвалі боепрыпасы, літаратуру, дакументы. Г. М. Сямёнаў прымаў па радыё зводкі Саўінфармбюро, К. Дз. Грыгор'еў, І. П. Казінец і В. К. Нікіфараў арганізоўвалі распаўсюджванне іх сярод жыхароў горада. У ноч на 26.3.1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты арыштавалі С. І. Зайца,




200. *Мемарыяльная дошка Ф. Дз. Гахаву.*




201. *Мемарыяльная дошка І. М. Лушчыцкаму.*

І. П. Казінца, Г. М. Сямёнава, В. С. Жудро быў смяротна паранены. У маі 1942 г. кіраўнікі падполля і многія актыўныя яго ўдзельнікі былі павешаны.

У 1962 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка, у 1986 г. абноўлена.

*Літ.:* Петраченко Д. Н. Именами героев.— Мн., 1978; Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Герои подполья. В. 1.— 4 изд.— М., 1972; Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984. *З. І. Бялуга.*

**бульвар Луначарскага**

**200. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГАХАВУ** Фёдару Дзмітрыевічу (гіст.). На доме № 5. Устаноўлена ў 1983 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага матэматыка, акадэміка АН БССР Ф. Дз. Гахава, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 457 «Магіла Гахава Фёдара Дзмітрыевіча».

**201. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛУШЧЫЦКАМУ** Івану Мікалаевічу (гіст.). На доме № 5. Устаноўлена ў 1976 г. (скульпт. У. Хмызнікаў) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага філосафа, члена-карэспандэнта АН БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР І. М. Лушчыцкага, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 603 «Магіла Лушчыцкага Івана Мікалаевіча».

**праспект Любімава**

**202. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН, СЕЛІШЧА** (археал.).

**202а.** Курганны могільнік. За 0,8 км на паўднёвы захад ад дома № 26 на краі яра, абапал дарогі ў в. Азярцо. Захавалася 16 насыпаў вышынёй 1—2,2 м, дыяметрам 6—12 м. Даследавалі ў 1977 г. Г. В. Штыхаў, у 1986 г. Ю. А. Заяц. У 1979 г. абследаваў В. Е. Собаль. Раскапана 8 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку галавой на захад, у двух выпадках — на поўнач. Адно пахаванне па абраду трупаспалення. У адным кургане пахаванні былі ў насыпе на падсыпцы вышынёй да 0,95 м. Пахаванні ў курганах адзінакавыя і парныя. Знойдзены скроневыя пярсцёнкападобныя кольцы (S-канцовыя, з завітком на



202а. *Курганны могільнік.*



202а. *Бронзавыя ножны, скроневыя кольцы, сярэбраная спражка і металічная зярнёная пацерка з раскопак курганнага могільніка.*

адным канцы і з завязанымі канцамі), пацеркі шкляныя, сердалікавыя і металічныя зярнёныя, жалезныя крэсівы і нажы, бронзавыя ножны ад нажа, рэшткі драўляных вёдзер, лірападобная сярэбраная спражка і паясное кольца, гліняныя ганчарныя гаршкі. На адным з гаршкоў было кляймо ў выглядзе трызубца. Могільнік датуецца 2-й паловай 10—11 ст. Належаў мяшанаму насельніцтву, пераважна дрыгавічам. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**202б.** Курган. За 0,1 км на паўднёвы ўсход ад дома № 26. Вышыня 3,5 м, дыяметр 20 м.

**202в.** Селішча (археал). За 1 км на паўд. ўсход ад дома № 26 за 50 м на поўнач ад былой в. Дварышча. Часткова разбурана пры земляных работах. Плошча часткі, якая захавалася, каля 0,3 га. Выявіў у 1986 г. С. Л. Захараў, даследаваў у 1986 г. Ю. А. Заяц. Культурны пласт каля 0,6 м. Знойдзены вырабы з жалеза і кераміка пераважна канца 10—12 ст. *Г. В. Штыхаў, Ю. А. Заяц*

**вул. Магілёўская**

**203. ДОМ, У ЯКІМ БЫЛА ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Дом № 68.

У кватэры № 2 гэтага дома, дзе ў Вялікую Айчынную вайну пражывала сям'я Аўчаровых — Акуліна Аляксееўна і яе сын Віктар Якаўлевіч, была канспіратыўная кватэра падпольнай камсамольскай арганізацыі «Андруша», што дзейнічала ў Мінску з лістапада 1941 г. да лістапада 1943 г. Тут праводзіліся пасяджэнні штаба арганізацыі, абмяркоўваліся пытанні правядзення баявых аперацый, разведкі, арганізацыйнай і палітычнай работы. У падвале захоўваліся зброя, боепрыпасы, радыёпрыёмнік, пішучыя машынкі, медыкаменты, папера, выраблялі міны, перадрукоўвалі лістоўкі, паведамленні Саўінфармбюро, якія потым падпольшчыкі распаўсюджвалі ў горадзе. У штаб арганізацыі ўваходзілі М. А. Кедышка (кіраўнік), Л. У. Валадзько, А. А. Галавацкі, Л. А. Дамброўскі, В. В. Міхневіч, П. П. Сіроцін, А. Л. Тарлецкі, Л. М. Яраш. У пачатку лютага 1943 г. падпольшчыкі ўстанавілі сувязь з Мінскім падпольным гаркомам ЛКСМБ, што базіраваўся ў партызанскай брыгадзе «Штурмавая». Патрыёты атрымлівалі ад гаркома камсамола і партызанскага камандавання заданні, літаратуру, сродкі для дыверсій, а з горада перапраўлялі партызанам разведданыя, зброю, медыкаменты, друкарскі шрыфт, паперу, абутак, адзенне, соль, мыла, запалкі, накіроўвалі моладзь у партызанскія атрады. Члены арганізацыі псавалі абсталяванне на хлебазаводзе «Аўтамат», у авіямайстэрні, на Мінскай ЦЭЦ-1, мініравалі цягнікі і чыгуначныя вагоны, распаўсюджвалі лістоўкі і інш. падпольныя выданні, дапамагалі савецкім грамадзянам уцякаць з фашысцкіх турмаў і канцлагераў, вялі агітацыйна-растлумачальную работу сярод салдат славацкіх вайсковых падраздзяленняў. Падпольшчыкі «Андрушы» зрабілі ў Мінску каля 40 дыверсій і знішчылі (па няпоўных даных) 50 гітлераўцаў, пераправілі ў партызанскія атрады больш за 80 чалавек.

Восенню 1943 г. фашысты схапілі некалькіх членаў штаба. У ноч на 7 лістапада былі арыштаваны В. Я. і А. А. Аўчаровы, а ў іх кватэры гітлераўцы арганізавалі засаду. 7 лістапада сюды прыйшла група падпольшчыкаў на чале з М. А. Кедышкам. У выніку перастрэлкі кіраўнік арганізацыі быў забіты, астатнім удалося ўцячы. Пасля гібелі М. А. Кедышкі арганізацыю ўзначальваў В. В. Міхневіч.

У 1967 г. на доме, дзе была явачная кватэра падпольнай арганізацыі «Андруша», устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* О партийном подполье в Минске в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944 гг.).— Мн., 1961; Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Сквозь огонь и смерть.— Мн., 1970; Дорога в бессмертие.— Мн., 1967; Николаев Н. Минские молодогвардейцы.— Мн., 1968; Очерки истории Ленинского комсомола Белоруссии.— Мн., 1975. *Р. М. Шавяла.*

**Магілёўская шаша**

**204. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі Мінскага кансервава-гароднінасушыльнага камбіната. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**вул. К. Маркса**

**205. БУДЫНАК БАНКА** (архіт., гіст.). Дом № 12. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. У ім знаходзілася аддзяленне Дзяржаўнага банка Расіі, створанае ў Мінску ў 1881 г. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі тут размяшчаліся ЦК КП(б)Б і ЦК ЛКСМБ, народны камісарыят фінансаў БССР, рэдакцыя часопіса «Беларуская работніца і сялянка». З 1933 г. тут быў выканком гарсавета, з 1944 г. размяшчаліся гарком і абком КП(б)Б, выканком гарсавета, з 1967 г.— Дзяржаўны музей Беларускай ССР.

Спачатку будынак быў двухпавярховы з цокальным паверхам. Прамавугольны ў плане, з цэнтральным ры-залітам на галоўным і дваровым фасадах. Па баках галоўнага фасада сіметрычна размяшчаліся 2 уваходы, у цэнтры 2-га паверха — балкон. Па



205. *Будынак былога банка. Здымак пачатку 20 ст.*




205. *Будынак былога банка. План 1-га паверха.*

ўсім перыметры паміж цокальным, 1-м і 2-м паверхамі — карнізныя паясы. Будынак завершаны карнізам з «сухарыкамі». У 1930-я гады надбудаваны 3-і паверх. Галоўны фасад расчлянёны гарызантальным рустам і прарэзаны аконнымі праёмамі: на цокальным невялікімі квадратнымі, на 1-м і 3-м прамавугольнымі, на 2-м арачнымі з ліштвамі і замковым каменем. На 2-м і 3-м паверхах паміж аконнымі праёмамі — пілястры іанічнага ордэра.

Унутраная планіроўка мяшаная калідорна-анфіладная. Цокальны паверх перакрыты цагляным цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. 1-ы паверх мае скляпенні на металічных бэльках, 2-і — плоскае бэлечнае перакрыццё. Цяпер унутраная планіроўка зменена.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры, вырашаны ў формах неарэнесансу.

Дзяржаўны музей Беларускай ССР заснаваны ў 1957 г. Экспазіцыя адкрыта для наведвальнікаў 2.11.1967 г. У ім захоўваюцца рэчы матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа (больш за 275 тыс. экспанатаў). Працуюць 7 навуковых аддзелаў. Мае 18 экспазіцыйных залаў. Тэматычныя раздзелы экспазіцыі: прырода, гісторыя першабытнаабшчыннага ладу, феадалізму і капіталізму, Рэвалюцыя 1905—07 гг., Кастрычніцкая рэвалюцыя і Грамадзянская вайна, сацыялістычнае будаўніцтва, Вялікая Айчынная вайна, аднаўленне народнай гаспадаркі, навукова-тэхнічны прагрэс, сельская гаспадарка, навука, культура, дабрабыт. Калекцыі: археалагічная, нумізматычная, этнаграфічная, ваенна-гістарычная; рукапісаў і старадрукаў, твораў дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, мемарыяльных рэчаў, прыродазнаўчанавуковая і інш.

Экспануюцца матэрыялы з археалагічных раскопак на тэрыторыі Беларусі, макеты рэканструкцыі старажытных крэпасцей і гарадоў, дакументы пра гістарычныя падзеі, старажытныя граматы, статуты, рэдкія рукапісныя і друкаваныя кнігі 16—17 стагоддзяў, матэрыялы пра першага беларускага кнігадрукара Ф. Скарыну. Прадстаўлены багаты этнаграфічны матэрыял. Каштоўныя матэрыялы аб рэвалюцыйным руху на Беларусі, у т. л. аб дзейнасці дзекабрыстаў, паўстанні 1863—64 гг. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве, аб рабоце I з'езда РСДРП, падзеях Рэвалюцыі 1905—07 гг. і Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г., аб дзейнасці Паўночна-Заходняга і Палескага камітэтаў РСДРП, першых Саветах рабочых і салдацкіх дэпутатаў.



206. *Будынак галоўнага вытворчага ўпраўлення энергетыкі і электрыфікацыі БССР.*

Экспанаты расказваюць пра падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, аб рэвалюцыйных пераўтварэннях, сацыялістычным будаўніцтве ў рэспубліцы, барацьбе працоўных Заходняй Беларусі на чале з КПЗБ за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне і ўз'яднанне з Беларускай ССР.

Экспазіцыя «Вялікая Айчынная вайна 1941—1945 гг.» дэманструе матэрыялы пра абарончыя баі ў 1941 г. на тэрыторыі Беларусі, камуністычнае падполле і партызанскую барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, вызваленне рэспублікі. Экспануюцца матэрыялы пра аднаўленне і развіццё эканомікі ў пасляваенны час, дасягненні прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры рэспублікі.

У музеі адкрыта экспазіцыя, прысвечаная касмічным палётам двойчы Героя Савецкага Саюза лётчыка-касманаўта СССР П. І. Клімука (1975 г.). Пры музеі працуюць навуковая бібліятэка, фататэка, рэстаўрацыйная майстэрня, філіял — Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў. Музей вядзе навукова-даследчую і лекцыйную работу, дае навуковыя кансультацыі, аказвае метадычную дапамогу краязнаўчым музеям рэспублікі, праводзіць аглядныя і тэматычныя экскурсіі.

*Літ.:* Минск: Энцикл. справ.— 2 изд.— Мн., 1980; Музеі Мінска.— Мн., 1972; Дзяржаўны музей БССР.— Мн., 1986.

*Г. М. Новікава, Т. А. Чарняўская.*




206. *Будынак галоўнага вытворчага ўпраўлення энергетыкі і электрыфікацыі БССР. План 1-га паверха (без прыбудовы).*

**206. БУДЫНАК ГАЛОЎНАГА ВЫТВОРЧАГА ЎПРАЎЛЕННЯ ЭНЕРГЕТЫКІ І ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫІ БССР** (архіт.). Дом № 14/36, на рагу вуліц К. Маркса і Камсамольскай. Пабудаваны ў 1955 г. з цэглы (архіт. Р. Гегарт). У 1988 г. да будынка прыбудаваны аб'ём галоўнага дыспетчарскага пункта (архіт. А. Антонава, С. Матэвушук).

Чатырохпавярховы, спачатку Г-падобны ў плане будынак. У кампазіцыі асноўны акцэнт зроблены на вуглавой частцы. Два крылы, якія сыходзяцца пад вуглом, аб'яднаны магутным круглым аб'ёмам. Падоўжнае крыло, арыентаванае на вул. К. Маркса, мае сіметрычны фасад. Цэнтральная яго частка з галоўным уваходам вылучана на ўзроўні 3—4-га паверхаў шасцікалонным порцікам з франтонам. Бакавыя часткі выступаюць сіметрычнымі рызалітамі, афармленымі па

вуглах алмазным рустам. Аконныя праёмы на 1-м, 3-м і 4-м паверхах — прамавугольныя з разнастайнымі абрамленнямі, на 2-м — з паўцыркульнымі імпастамі і арачнай рустоўкай. Фасады завершаны развітым карнізам на мадульёнах. Унутраная планіроўка калідорная. Па восі галоўнага ўвахода размешчаны вестыбюль і светлавая трохмаршавая лесвіца.




**207.** *Будынак былой жаночай Марыінскай гімназіі. План 2-га паверха.*

Будынак — прыклад манументальнай грамадзянскай архітэктуры.

*Т. В. Габрусь*

**207. БУДЫНАК ЖАНОЧАЙ МАРЫІНСКАЙ ГІМНАЗІІ** (архіт., гіст.). Дом № 29. Пабудаваны ў 1879 г. з цэглы.

Будынак прамавугольны ў плане, выцягнуты ў глыбіню двара. Спачатку быў двухпавярховы з паўпадвальным паверхам (у 1930-я гады надбудаваны 3-і паверх). Галоўны фасад вылучаны ў цэнтры невялікім рызалітам, дзе знаходзіцца ўваход. Сцены расчлянёны высокімі лучковымі аконнымі праёмамі і дэкарыраваны руставанымі пілястрамі. У аздобе выкарыстаны дэталі, выкананыя муроўкай. На 1-м паверсе па галоўнай восі размяшчаліся вестыбюль з параднай лесвіцай, на 2-м — актавая зала, у бакавых частках абапал калідораў — класы.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры эклектычнага кірунку.

Гімназія — сярэдняя агульнаадукацыйная навучальная ўстанова гуманітарна-філалагічнага кірунку. Мела 7 класаў, а таксама 8-ы — педагагічны. У падрыхтоўчы клас залічвалі вучняў без уступных экзаменаў. Плата за навучанне была высокая, таму ў гімназіі маглі вучыцца дзеці багатых. Выкладалі рускую мову і літаратуру, замежныя мовы, чыстапісанне, матэматыку, фізіку і закон божы, а таксама маляванне, гімнастыку, спевы, танцы, рукадзелле. У 1-ю сусветную вайну Марыінская гімназія пераведзена ў г. Прапойск (Слаўгарад), у 1917 г. была закрыта.

У будынку былой гімназіі размяшчаўся палітэхнікум, у 1925—32 гг.— Камуністычны універсітэт Беларусі імя У. І. Леніна, які рыхтаваў кіруючых партыйных і савецкіх работнікаў. Меў аддзяленні: партыйнае, савецкае, прапагандысцкае, газетнае, народнай адукацыі. З 1933 г. у будынку была карцінная галерэя БССР, у 1960-я гады будынак рэканструяваны і прыстасаваны пад міжгароднюю тэлефонную станцыю.

*М. Б. Батвіннік, Т. І. Чарняўская.*

**208. БУДЫНАК МІНСКАГА ТАВАРЫСТВА АМАТАРАЎ ПРЫГОЖЫХ МАСТАЦТВАЎ** (архіт., гіст.). Дом № 17.

Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы як прыватны жылы дом. Спачатку быў двухпавярховы, Т-падобны ў плане. На 1-м паверсе вокны прамавугольныя, на 2-м — лучковыя, дэкарыраваныя арачным пояском. Цяпер будынак трохпавярховы (3-і паверх надбудаваны перад Вялікай Айчыннай вайной), зменены аконныя праёмы.

У гэтым будынку ў зале на 2-м паверсе адбываліся пасяджэнні Мінскага таварыства аматараў прыгожых мастацтваў, якое існавала з 18.2.1898 г. да 8.2.1906 г. Арганізатары яго — прадстаўнікі гарадской інтэлігенцыі А. Аляксандраў, Я. Чырыкаў, І. Самойла, Д. Мейчык, Я. Окунь, К. Фальковіч, С. Мядзведзеў, Г. Пінус. У праўленне таварыства ў розны час уваходзілі таксама А. Альхоўскі, К. Какоўцаў, С. Камінскі, Б. Кушталян, С. Нейфах, М. Нодэльман, П. Пятроў, К. Урсыновіч, А. Фамін, А. Хаванскі, А. Холмскі, В. Чавусаў, І. Чысцякоў і інш. Таварыства шырока прапагандавала эстэтычныя веды, зрабіла значны ўклад у справу развіцця самадзейнай творчасці, абуджэння творчай ініцыятывы дэмакратычных колаў гарадскога насельніцтва. У 1898 г. зацверджаны статут таварыства, які вызначыў асноўную яго мэту: «Збліжэнне мясцовых дзеячаў у галіне прыгожых мастацтваў». Мела чатыры секцыі: літаратурную, драматычную, музычную і мастацкую. У літаратурнай секцыі праводзіліся абмеркаванні творчасці пісьменнікаў, іх ролі ў агульным працэсе развіцця мастацтва. У 1903 г. таварыства ўрачыста адзначыла 75-ю гадавіну з дня нараджэння Л. М. Талстога, яму была паслана віншавальная тэлеграма. Драматычная секцыя ажыццяўляла пастаноўку п'ес А. Чэхава, А. Астроўскага, Ф. Дастаеўскага, М. Горкага. Музычная секцыя мела аркестр, якім кіраваў В. Чавусаў, бясплатны музычны клас па тэорыі і практыцы харавых спеваў. Мастацкая секцыя ў 1901, 1902, 1904 гг. арганізавала выстаўкі жывапісу, графікі, скульптуры, фатаграфіі прафесійных мастакоў і аматараў.

У таварыстве адбывалася вострая



**207.** *Будынак былой жаночай Марыінскай гімназіі.*

барацьба паміж прыхільнікамі буржуазных і рэвалюцыйных тэндэнцый у развіцці мастацтва, ставіліся пытанні грамадскага жыцця, палітычнай і нацыянальнай барацьбы. Напярэдадні і ў час Рэвалюцыі 1905—07 гг. дзейнасць таварыства набыла адкрыта рэвалюцыйна-асветніцкі характар. Таварыства выкарыстоўвала тэатральную сцэну як трыбуну для прапаганды рэвалюцыйных ідэй. Дыскусіі па палітычных пытаннях, лекцыі, на якія збіралася да 1000 чалавек, ператвараліся ў антыўрадавыя выступленні. Даходы ад спектакляў ішлі на друкаванне пракламацый, падтрымку рабочых і студэнцкіх забастовак. У 1906 г. у таварыстве налічвалася 650 членаў. Некаторыя з іх увайшлі ў мясцовыя сацыял-дэмакратычныя арганізацыі. Дзейнасць таварыства ўзгаднялася з Мінскай групай РСДРП. У 1906 г. таварыства забаронена ўладамі, многія яго члены арыштаваны. 26 прадстаўнікоў таварыства аматараў прыгожых мастацтваў стварылі новую арганізацыю — Літаратурна-артыстычнае таварыства, якое ўспрыняло некаторыя функцыі былога таварыства і дзейнічала да 1914 года.

*Літ.:* Дорошевич Э., Конон В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии.— М., 1972, с. 230—250; Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1.— Мн., 1983, с. 356—359.

*В. А. Цыбуля, Т. І. Чарняўская.*

**209. БУДЫНАК МІНСКАЙ ВЫШЭЙШАЙ ПАРТЫЙНАЙ ШКОЛЫ** (архіт., гіст.). Дом № 31. Пабудаваны ў 1937 г. з цэглы (архіт. А. П. Воінаў). У Вялікую Айчынную вайну разбураны, у 1947 г. адноўлены паводле праекта аўтара. У 1949 г. з паўночнага боку вучэбна-адміністрацыйнага корпуса на адной восі з левым рызалітам прыбудавана актавая зала са службовымі памяшканнямі. У 1978 г. да дваровага фасада прыбудаваны новы корпус, злучаны з асноўным пераходам-галерэяй (архіт. А. Канстанціновіч).

Пяціпавярховы складанай у плане канфігурацыі будынак вызначаецца строгасцю форм і прастатой архітэктурна-мастацкага вырашэння. Пастаўлены з водступам ад «чырвонай лініі» забудовы вуліцы. Галоўны пяціпавярховы аб'ём, фланкіраваны 2 невялікімі чатырохпавярховымі рызалітамі, завершаны атыкам. Уваход вырашаны ў выглядзе 4 згрупаваных парталаў. 2-і — 4-ы паверхі цэнтральнай часткі аб'яднаны здвоенымі паўкалонамі без капітэлей і баз. Рытму цэнтральнай часткі адпавядаюць лапаткі на плоскасцях рызалітаў. Сцены 1-га паверха апрацаваны рустам. Унутраная планіроўка калідорная, з двухбаковым размяшчэннем аўдыторый і кабінетаў. 1-ы паверх заняты пераважна вестыбюльнай групай з гардэробам, тут жа знаходзяцца бібліятэка і музей школы. У вестыбюлі сцены раўнамерна расчлянёны канеліраванымі пілястрамі. У аздабленні інтэр'ераў шырока выкарыстана дрэва. У квадратным у плане фае, што злучае актавую залу з вучэбна-адміністрацыйным корпусам, 4 магутныя васьміграннныя калоны падтрымліваюць кесаніраваную столь з невялікай паўсферай у цэнтры. Над уваходнымі праёмамі фае навісаюць дэкаратыўныя сандрыкі на фігурных кранштэйнах. У прасценках актавай залы, асветленай з 2 бакоў высокімі прамавугольнымі вокнамі, пастаўлены трохчвэртныя калоны на высокіх базах, што нясуць буйны антаблемент.



209. *Будынак Мінскай вышэйшай партыйнай школы.*




209. *Будынак Мінскай вышэйшай партыйнай школы. План 1-га паверха.*

Будынак — характэрны прыклад савецкай грамадзянскай архітэктуры даваеннага перыяду.

У будынку ў 1937—41 гг. размяшчалася Вышэйшая камуністычная сельскагаспадарчая школа Беларусі імя У. І. Леніна і Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава. Пасля вайны ў 1946 г. тут працавала Рэспубліканская партыйная школа пры ЦК КПБ (мела аддзяленні арганізацыйна-партыйнай работы, журналістыкі, да 1951 г.— камсамольскай работы). Тэрмін навучання 2 гады, з 1953 г.— 3 гады. У 1956 г. Рэспубліканская партыйная школа пры ЦК КПБ пераўтворана ў Мінскую вышэйшую партыйную школу, якая вядзе падрыхтоўку і перападрыхтоўку партыйных і савецкіх работнікаў, работнікаў друку, радыё, тэлебачання. Тэрмін навучання 4 гады; у 1962 г. адкрыта аддзяленне з двухгадовым тэрмінам навучання для асоб з вышэйшай адукацыяй. На базе вышэйшай партыйнай школы працуюць курсы павышэння кваліфікацыі партыйных і савецкіх работнікаў, курсы старшынь і сакратароў сельсаветаў, Рэспубліканская камсамольская школа. На 10 кафедрах вышэйшай партшколы выкладаюць 95 педагогаў, у т. л. 11 дактароў і 76 кандыдатаў навук (на 1988 г.).

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975.

*М. Б. Батвіннік, А. А. Міцянін.*

**210. БУДЫНАК, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЛАСЯ НАРОДНАЯ МІЛІЦЫЯ** (архіт., гіст.). Дом № 5. На рагу вуліц К. Маркса і Валадарскага. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. З 1917 г. вядомы як дом народнай міліцыі.

Будынак 3-павярховы, Г-падобны ў плане, са зрэзанай вуглавой часткай, вылучанай галоўным уваходам. На вышыні 2-га паверха — эркер, які падтрымліваюць кансолі, на 3-м паверсе эркер заканчваецца балконам з металічнай агароджай. Такія ж балконы на фасадах на ўзроўні 2-га і 3-га паверхаў. На фасадзе з боку вул. Валадарскага была праезная арка, што вяла ва ўнутраны дворык. Аконныя праёмы разнастайнай формы: на 1-м паверсе прамавугольныя, на 2-м — паўцыркульныя, на 3-м — лучковыя. Дэкор фасадаў — пілястры нішы, карнізы, сандрыкі і інш. выкананы муроўкай. Унутраная планіроўка калідорнага тыпу. У вуглавой частцы пры галоўным уваходзе — шырокі вестыбюль.

Мемарыяльная дошка ў гонар народнай міліцыі.

У Мінску 1(14).3.1917 г. былі атрыманы звесткі аб звяржэнні царскага самадзяржаўя. У ноч на 2(15) сакавіка М. В. Фрунзе, які да Лютаўскай рэвалюцыі ўзначальваў створаную ім падпольную бальшавіцкую арганізацыю ў Мінску з аддзяленнямі ў 10-й і 3-й арміях Заходняга фронту, склікаў экстранную нараду бальшавікоў горада. У ёй удзельнічалі В. Г. Кнорын, К. І. Ландар, І. Я. Алібегаў, С. Р. Магілеўскі, І. Е. Любімаў, В. В. Фамін. Было вырашана мабілізаваць сілы для падтрымкі рэвалюцыйнага Петраграда, пачаць арганізацыю ў Мінску Савета рабочых і салдацкіх



210. *Будынак, у якім размяшчалася народная міліцыя. Фота 1960-х гадоў.*

дэпутатаў. Рабочыя правялі дэманстрацыі, раззброілі паліцыю і жандараў, вызвалілі палітзняволеных, бралі пад кантроль дзяржаўныя ўстановы. 4(17).3.1917 г. утвораны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў на чале з Б. П. Пазернам. Напярэдадні М. В. Фрунзе быў выбраны ў Савет ад работнікаў Камітэта Усерасійскага земскага саюза Заходняга фронту і рэкамендаваны на пасаду начальніка міліцыі, 4(17) сакавіка афіцыйна прызначаны начальнікам гарадской міліцыі.

Створаная з атрадаў узброеных рабочых міліцыя заняла памяшканні, дзе размяшчаліся гарадское паліцэйскае ўпраўленне і вышукное аддзяленне, раззброіла амаль усе паліцэйскія пасты, узяла пад ахову дзяржаўныя ўстановы, пошту і тэлеграф. 5(18) сакавіка на пасяджэнні Мінскага Савета М. В. Фрунзе выступіў з дакладам аб неабходнасці далейшага ўмацавання міліцыі, папаўнення яе радоў прадстаўнікамі рабочага класа, падкрэсліў асаблівую важнасць міліцыі ў барацьбе з контррэвалюцыяй. Мінскі Савет па яго прапанове прыняў пастанову з заклікам да працоўных уступаць у рады міліцыі. Праз дзень артыкул М. В. Фрунзе «Записывайцеся ў міліцыю» надрукавала газета «Известия Минского Совета рабочих и солдатских депутатов».

У 1-й палове сакавіка 1917 г. у горадзе створана 5 аддзяленняў міліцыі, на ўсіх прамысловых прадпрыемствах і на чыгунцы — міліцэйскія ўчасткі. Тысячы рабочых былі ўзброены і навучаны ваеннай справе ў радах міліцыі. З дапамогаю міліцыі бальшавікі стваралі на прадпрыемствах баявыя дружыны, якія з'явіліся першымі атрадамі Чырвонай гвардыі. У абавязкі міліцыі на той час уваходзілі барацьба з контррэвалюцыяй, ахова дэмакратычных свабод, падтрыманне парадку ў горадзе, захаванне дакументаў і архіваў, барацьба са спекуляцыяй і інш.




210. *Будынак, у якім размяшчалася народная міліцыя. План 1-га паверха.*

Дом Народнай міліцыі, кабінет М. В. Фрунзе штодзённа наведвалі многія жыхары Мінска. Адным з першых мерапрыемстваў М. В. Фрунзе як начальніка міліцыі было скасаванне забароны друкаваць беларускія кнігі.

Прадстаўнікі Часовага ўрада неаднаразова спрабавалі падпарадкаваць сваймý ўплыву міліцыю, адхіліць М. В. Фрунзе ад кіраўніцтва, але беспаспяхова. Мінская міліцыя, сфарміраваная з прадстаўнікоў рэвалюцыйнага пралетарыяту, абараняла інтарэсы народа супраць контррэвалюцыі, удзельнічала ў разгроме карнілаўшчыны. М. В. Фрунзе кіраваў міліцыяй да ад'езду з Мінска 12(25).10. 1917 г.

У 1947 г. на доме, у якім размяшчалася народная міліцыя, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Казеко И. И., М. В. Фрунзе в Белоруссии.— Мн., 1958; яго ж. М. В. Фрунзе: Революционная деятельность в Белоруссии.— Мн., 1983; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967.

*В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*

**211. БУДЫНАК ЦК КПБ** (архіт.). Дом № 38. Будаваўся з цэглы ў 1939—41 гг., завершаны ў 1947 г. (архіт. А. Воінаў і У. Вараксін).

Цэнтральны аб'ём займае квартал паміж вуліцамі Энгельса і Чырвонаармейская. Аднесены ад «чырвонай лініі» на 40 м у глыбіню квартала, што дазволіла арганізаваць перад ім зялёны партэр. Знаходзіцца на восі Кастрычніцкай пл., адыгрывае вядучую ролю ў фарміраванні яе архітэктурнага ансамбля. Кампазіцыйна будынак вырашаны як адзіны манаілітны аб'ём на масіўным трохметровым цокалі з франтальнай пастаноўкай да вуліцы К. Маркса. Асноўны аб'ём расчлянёны па вертыкалі рытмам прафіляваных лапатак па ўсім перыметры будынка і завершаны атыкам, што надае яму манументальнасць. Абліцоўка цокаля чырвоным паліраваным гранітам і апрацоўка ўсяго збудавання ў светлых танах узмацняюць уражанне манументальнасці і параднасці.

Вялікая ўвага аддадзена арганізацыі ўнутранай прасторы. Цэнтральная частка цокальнага паверха занята вестыбюлем з гардэробам. У цокальным паверсе знаходзяцца бібліятэка, АТС, друкарня, сталовая з дапаможнымі памяшканнямі. З вестыбюля 2 бакавыя лесвіцы вядуць на 1-ы паверх; на галоўнай восі размешчаны фае і вынесеная ў прыбудову двухсветлавая зала пасяджэнняў на 350 месцаў. На 5 паверхах уздоўж светлавога калідора знаходзяцца рабочыя кабінеты. Сувязь паміж паверхамі ажыццяўляецца па 2 двухмаршавых лесвіцах і ліфтах, размешчаных у цэнтральнай частцы будынка, а таксама па лесвічна-ліфтавых групах у бакавых крылах.



211. *Будынак ЦК КПБ.*

Цікава выкананы інтэр'ер залы пасяджэнняў. Сцены, афарбаваныя пад штучны мармур, вохрыста-карычневага тону, ляпная кесанíраваная столь, драўляныя разныя дзверы, лаканічнасць мастацкіх сродкаў — усё гэта надае памяшканню своеасаблівую мастацкую выразнасць. У афармленні залы прымаў удзел скульпт. А. Бембель. Ён выканаў ляпную кампазіцыю партала сцэны з выявай У. І. Леніна. Ва ўнутранай апрацоўцы памяшканняў выкарыстаны паркет, мармур, тынкоўка з маслянай матавай афарбоўкай. Памяшканні 5-га паверха маюць ляпную столь.

У 1976—88 гг. з боку вуліц Энгельса, Чырвонаармейскай і Кірава зроблены прыбудовы (архіт. П. Кракалёў), якія паўтарылі кампазіцыю цэнтральнага аб'ёма і надалі будынку замкнёную кампазіцыю.

У 1980 г. перад галоўным фасадам будынка ўстаноўлены помнікі К. Марксу і У. І. Леніну (скульпт. З. Азгур, архіт. Ю. Грыгор'еў і Ю. Казакоў).



212. *Будынак ЦК ЛКСМБ.*

Будынак ЦК КПБ — прыклад савецкай грамадзянскай архітэктуры.

*С. Ф. Самбук.*

**212. БУДЫНАК ЦК ЛКСМБ** (архіт.). Дом № 40. На рагу вуліц К. Маркса і Чырвонаармейскай. Пабудаваны ў 1953 г. з цэглы (архіт. Г. Заборскі).

Чатырохпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Кампазіцыйным цэнтрам з'яўляецца галоўны ўваход у скошанай вуглавой частцы, падкрэслены 2 трохчвэртнымі калонамі. У архітэктуры фасадаў выкарыстаны рытм арачных і прамавугольных аконных праёмаў, канелíраваных пілястраў. Сцены дэкарыраваны рустам, ляпным беларускім арнаментам і завершаны складаным карнізам. З боку дваровага фасада выступае гранёны аб'ём актавай залы. Планіроўка калідорная.

Будынак — прыклад савецкай архітэктуры з творчым выкарыстаннем класічнай спадчыны.

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975.

*А. А. Міцянін.*

**213. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 30/13, на перакрыжаванні вуліц К. Маркса і Леніна. Пабудаваны на мяжы 19—20 ст. з цэглы (архіт. Г. Гай) як даходны дом.

Будынак Г-падобны ў плане, трох — чатырохпавярховы. Рознапавярхавасць абумоўлена рэльефам мясцовасці. Крыло, што выходзіць на вул. Маркса, чатырохпавярховае, на высокім руставаным цокалі. Рустам апрацавана таксама плоскасць сцяны 1-га паверха. Уваход вырашаны ў выглядзе прамавугольнага праёма, над ім — паўцыркульнае акно, дэкарыраванае ляпнымі гірляндамі. Трохвугольны франтон з люкарнай завяршае правую частку крыла. Пад франтонам на ўзроўні 4-га паверха конхавая ніша ў абрамленні гірлянды з ліцця, у нішы ўстаноўлена ваза, упрыгожаная лепкай. Аконныя праёмы рознай формы і памераў упрыгожаны ажурнымі дэкаратыўнымі каванымі падаконнымі рашоткамі. Па ўсім фасадзе навісаюць разнастайныя балконы, агароджа якіх з арнаментам, вензелямі, раслíннымі элементамі (чыгуннае ліццё). Каваныя парадныя дзверы таксама аздоблены арнаментам. Крыло, што выходзіць на вул. Леніна, трохпавярховае, яго левая частка — чатырохпавярховая. Дэкарыравана ляпнымі ўстаўкамі, атыкавымі сценкамі, атыкавым трохвугольным франтонам у чатырохпавярховай частцы, агароджай на вокнах у выглядзе балюстрады. Арачны праезд у цэнтры фасада перакрыты крыжовым скляпеннем, над ім умацаваны ляпны маскарон. Дваровыя фасады простыя па архітэктуры. Перакрытую шкляным ліхтаром лесвічную клетку асвятляюць невялікія паўцыркульныя вокны, што выходзяць ва ўнутраны двор. У агароджы лесвіцы выкарыстаны




213. *Жылы дом № 30/13 на рагу вуліц К. Маркса і Леніна. План 1-га паверха.*




213. *Дом № 30/13 на рагу вуліц К. Маркса і Леніна.*

дэкаратыўныя элементы ў выглядзе завіткоў і лісця (чыгуннае ліццё).

На будынку ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі савецкім дзяржаўным дзеячам Ф. Э. Дзяржынскаму, А. Р. Чарвякову, П. К. Панамарэнку, вучоным М. М. Нікольскаму, М. Я. Мацапуру, народнаму паэту Беларусі П. У. Броўку.

Жылы дом — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. Ю. Пятросава.*

**214. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 42. Пабудаваны ў 1967 г. (архіт. Ю. Шпіт). Размешчаны на ўчастку са складаным рэльефам, што вызначыла яго ступеньчатую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Будынак дзевяціпавярховы, складаецца з прамавугольных у плане 7 секцый, зблакіраваных уступамі на $^1/_2$ вышыні паверха. Гэта дазволіла пазбегнуць манатоннасці плоскаснага фасада, надаць будынку рытмічнасць, выразнае і арыгінальнае аблічча. На фоне светлай тынкоўкі фасадаў вылучаны гарызантальныя лініі зашклення, вертыкалі пілонаў і праёмаў лесвічных клетак, абліцаваныя чорнай керамічнай пліткай нішы ўваходаў і невысокі цокаль. Кватэры групуюцца вакол лесвічных пляцовак з ліфтам. На першых паверхах прасторныя вестыбюлі з тамбурамі. Участак, што прылягае да дваровага фасада з дзіцячымі пляцоўкамі і месцамі для адпачынку вырашаны ў выглядзе тэрас.

Выразная архітэктура, сувязь з рэльефам мясцовасці ставяць будынак у рад лепшых у сучасным жыллёвым будаўніцтве горада.

*А. М. Кулагін.*

**215. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БРОЎКУ** Пятру Усцінавічу (гіст.). На доме № 30. Устаноўлена ў 1983 г. (скульпт. В. Квасаў; бронза; 1,0×0,6 м) на ўшанаванне памяці народнага паэта Беларусі, лаўрэата Ленінскай прэміі, Героя Сацыялістычнай Працы П. У. Броўкі, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 537 «Магіла Броўкі Петруся».

**216. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГЛЕБКУ** Пятру Фёдаравічу (гіст.). На доме № 36. Устаноўлена ў 1972 г. (скульпт. А. Веліксонаў; бронза; 1,1×1,2 м) на ўшанаванне памяці беларускага паэта, акадэміка АН БССР П. Ф. Глебкі, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 557 «Магіла Глебкі Пятра».

**217. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). На доме № 30. Устаноўлена ў 1977 г. (скульпт. М. Якавенка; бронза; 1,5×1 м) на ўшанаванне памяці прафесійнага рэвалюцыянера, савецкага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, старшыні ВЧК, старшыні ВСНГ СССР Ф. Э. Дзяржынскага, які ў жніўні — верасні 1920 г. жыў у гэтым доме.

**218. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАРАТКЕВІЧУ** Уладзіміру Сямёнавічу (гіст.). На доме № 36. Устаноўлена ў 1986 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага пісьменніка У. С. Караткевіча, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 578 «Магіла Караткевіча Уладзіміра Сямёнавіча»



214. *Жылы дом № 42 па вуліцы К. Маркса.*




214. *Жылы дом № 42 па вуліцы К. Маркса: 1 — фасад, 2 — план 2-га паверха.*

**219. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КОЖАРУ** Ільі Паўлавічу (гіст.). На будынку Мінскай вышэйшай партыйнай школы (дом № 31). Устаноўлена ў 1968 г. (скульпт. М. Палякоў; чыгун; 1,3×1 м) на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза І. П. Кожара, які быў дырэктарам Мінскай вышэйшай партыйнай школы ў 1947—63 гг. Гл. таксама артыкул № 587 «Магіла Кожара Ільі Паўлавіча».

**220. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАЎРУ** Янку (гіст.). На доме № 36. Устаноўлена ў 1975 г. (скульпт. І. Міско; бронза; 1,4×1 м) на ўшанаванне памяці беларускага пісьменніка Я. Маўра (Івана Міхайлавіча Фёдарава), якія жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 616 «Магіла Маўра Янкі».

**221. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА НІКОЛЬСКАМУ** Мікалаю Міхайлавічу (гіст.). На доме № 30. Устаноўлена ў 1971 г. (скульпт. С. Вакар; гіпс; 1×0,8 м) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага гісторыка, члена-карэспандэнта АН СССР, акадэміка АН БССР М. М. Нікольскага, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 622 «Магіла Нікольскага Мікалая Міхайлавіча».

**222. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАНАМАРЭНКУ** Панцеляймону Кандра-




215. *Мемарыяльная дошка П. У. Броўку.*




216. *Мемарыяльная дошка П. Ф. Глебку.*




217. *Мемарыяльная дошка Ф. Э. Дзяржынскаму.*




218. *Мемарыяльная дошка У. С. Караткевічу.*




219. *Мемарыяльная дошка І. П. Кожару.*




220. *Мемарыяльная дошка Янку Маўру.*




221. *Мемарыяльная дошка М. М. Нікольскаму.*




222. *Мемарыяльная дошка П. К. Панамарэнку.*

тавічу (гіст.). На доме № 30, у якім ён жыў. Устаноўлена ў 1985 г.

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, генерал-лейтэнант (1943 г.) П. К. Панамарэнка нарадзіўся 27.7.1902 г. на хутары Шалкоўскі Беларэчанскага р-на Краснадарскага краю. Член КПСС з 1925 г. Скончыў Маскоўскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту (1932 г.). Быў на камсамольскай рабоце. У 1918 г. і 1932—36 гг. у Чырвонай Арміі, з 1938 г. у апараце ЦК ВКП(б). У 1938—47 гг. першы сакратар ЦК КП(б)Б, у Вялікую Айчынную вайну адначасова начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху пры Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандавання, член ваенных саветаў Заходняга, Цэнтральнага, Бранскага, 1-га Беларускага франтоў. У 1944—48 гг. Старшыня СНК (з 1946 г. Савета Міністраў) БССР. У 1948—53 гг. сакратар ЦК ВКП(б), у 1950—53 гг. адначасова міністр нарыхтовак СССР, у 1953—54 гг. міністр культуры СССР. з 1954 г. першы сакратар ЦК КП Казахстана, з 1955 г. надзвычайны і паўнамоцны пасол СССР у ПНР, з 1957 г. у Індыі і Непале, у 1959—62 гг. у Нідэрландах, у 1962—64 гг. прадстаўнік СССР у Міжнародным агенцтве па атамнай энергіі ў Вене, потым на выкладчыцкай рабоце ў Інстытуце грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Член ЦК КПСС у 1939—61 гг. Член Прэзідыума ЦК КПСС з 1952 г., кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПСС у 1953—56 гг. Член ЦК КП(б)Б у 1938—39 гг. Член Бюро ЦК КП(б)Б у 1938—49 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1937—58 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1938—51 гг. Даследаваў гісторыю партызанскага руху і камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну. Памёр П. К. Панамарэнка 18.1.1984 г. у Маскве.

**223. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЧАРВЯКОВУ** Аляксандру Рыгоравічу (гіст.). На доме № 30. Устаноўлена ў 1979 г. (скульпт. М. Андрэеў; бронза; 1,5×1 м) на ўшанаванне памяці савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, старшыні ЦВК Беларусі, аднаго са старшынь ЦВК СССР А. Р. Чарвякова, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 425 «Магіла Чарвякова Аляксандра Рыгоравіча».




223. *Мемарыяльная дошка А. Р. Чарвякову.*



224. *Помнік У. І. Леніну.*

**224. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (маст.). Каля будынка ЦК КПБ. Пастаўлены ў 1980 г. (скульпт. З. Азгур, архіт. Ю. Грыгор'еў, Ю. Казакоў; бронза, граніт; вышыня пастамента 3 м, скульптуры 2 м).

Паплечны бюст У. І. Леніна ўстаноўлены на прамавугольным пастаменце, абліцаваным чырвоным паліраваным гранітам. Скульптурны партрэт перадае сканцэнтраванасць і ўнутраную дынаміку правадыра, што падкрэслена энергічным паваротам галавы, асіметрычна ссунутымі гранямі зрэзаў. Помнік стылістычна адпавядае строгім формам архітэктуры будынка ЦК КПБ, надае яму ўрачыстасць, узмацняе яго ідэйна-мастацкі акцэнт.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**225. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (маст.). Каля будынка ЦК КПБ. Пастаўлены ў 1980 г. (скульпт. З. Азгур, архіт. Ю. Грыгор'еў, Ю. Казакоў; бронза, граніт; вышыня пастамента 3 м, скульптуры 2 м).

Бронзавы бюст К. Маркса ўстаноўлены на прамавугольным пастаменце, абліцаваным чырвоным паліраваным гранітам. Скульптурны партрэт перадае стан унутранай сканцэнтраванасці. Асіметрычна ссунутыя грані зрэзаў плінта надаюць скульптуры своеасаблівую дынаміку. Помнік добра суадносіцца са строгімі архітэктурнымі формамі будынка ЦК КПБ, каля якога пастаўлены.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**вул. Маскоўская**

**226. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 5. Пабудаваны ў 1929 г. з цэглы (архіт.



225. *Помнік Карлу Марксу.*

І. Запарожац, Г. Лаўроў). Цяпер тут вучэбны корпус БДУ.

Чатырохпавярховы крыжападобны ў плане будынак накрыты пакатым двухсхільным дахам. Кампазіцыя цэнтральнай часткі галоўнага фасада ярусная. Галоўны ўваход паглыблены і вылучаны масіўнымі прамавугольнымі слупамі, якія на наступных паверхах пераходзяць у паўкалоны з неразвітымі капітэлямі. У цэнтры — невысокі прамавугольны атык. Вокны прамавугольныя. Па цэнтральнай восі і па баках размешчаны балконы. 1-ы паверх аддзелены дэкаратыўным фрызам, у завяршэнні сцен — непрафіляваны карніз з невялікім вынасам. Планіроўка калідорная з цэнтральнай вестыбюльнай групай памяшканняў.

Будынак — помнік архітэктуры з рысамі канструктывізму. *І. С. Мельнік.*

**227. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 8/1. Пабудаваны ў 1932 г. з цэглы (архіт. А. П. Воінаў, М. Гіляраў, А. Крылоў).

Чатырохпавярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты пакатым дахам. Галоўны фасад мае стрыманы лаканічны дэкор. 1-ы паверх апрацаваны пад блочную муроўку і аддзелены ад 2-га цягай. Вокны верхніх паверхаў рознай шырыні згрупаваны па 2 і дэкарыраваны плоскімі ліштвамі. На 3-м і 4-м паверхах спараныя балконы. На дваровым фасадзе вылучаны блокі лесвічных клетак, якія маюць вертыкальнае стужачнае зашкленне. На 1-м паверсе размешчаны прадпрыемствы гандлю. У аснове планіроўкі жылых паверхаў — двухкватэрная секцыя з 2- і 3-пакаёвымі кватэрамі.

Жылы дом — помнік архітэктуры з рысамі канструктывізму. *І. С. Мельнік.*

**шаша Маскоўская**

**228. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На 7-м км аўтамабільнай дарогі Мінск — Масква. Пахаваны воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**229. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ, ПАРТЫЗАН І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). На 9-м км аўтамабільнай дарогі Мінск — Масква. Пахаваны 30 тыс. савецкіх ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941—44 гг. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**230. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На 8-м км аўтамабільнай дарогі Мінск — Масква. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1965 г.

**231. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На 9-м км аўтамабільнай дарогі Мінск — Масква. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.



226. *Жылы дом.*



227. *Жылы дом № 8/1 па вуліцы Маскоўскай.*



228. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



229. *Помнік на магіле савецкіх ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў.*

**праспект Машэрава**

**232. АРХІТЭКТУРНА-СКУЛЬПТУРНЫ КОМПЛЕКС «МІНСК — ГОРАД-ГЕРОЙ»** (архіт., маст.). Адкрыты 8.5. 1985 г. (архіт. В. Крамарэнка, В. Яўсееў, У. Раманенка, скульпт. В. Занковіч, інж. Г. Басінкевіч, В. Грыбанаў) у гонар 40-й гадавіны перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

Размешчаны на натуральным пагорку, паміж магістраллю і паркавым



232. *Архітэктурна-скульптурны комплекс «Мінск — горад-герой».*

масівам. Кампазіцыйны акцэнт комплексу — абеліск (вышыня 45 м), форма якога нагадвае сцяг. Выкананы з жалезабетону з дэкаратыўнай апрацоўкай вонкавай паверхні пад «бучарду». У ніжняй частцы абеліска, на кансольным блоку, размешчана дошка з тэкстам Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні г. Мінску ганаровага звання «Горад-герой», у верхняй — выявы зоркі і лаўровай галінкі, выкананыя ў метале з тонкай пазалотай. Каля падножжа абеліска абліцаваны чырвоным паліраваным гранітам пастамент, куды ўскладаюць вянкі і кветкі. Справа ад абеліска, на пастаменце, устаноўлена бронзавая фігура жанчыны — абагульнены вобраз маці-Радзімы, сімвал Перамогі і Славы. Пластычная мадэліроўка фігуры кантрастуе з лаканічнай пластыкай абеліска і кампазіцыйна завяршае агульнае вырашэнне комплексу. Левая рука жанчыны пераможна ўзнята, дынамічны жэст яе падкрэсліваюць фанфары. Правая рука павернута ў бок абеліска. Вобразная мова скульптурнай пластыкі дапаўняе і глыбей раскрывае тэму героікі і перамогі савецкага народа.

Каля падножжа пагорка — плошча для правядзення мітынгаў, іншых урачыстых рытуалаў. Яна звязана з абеліскам і скульптурай параднай лесвіцай, а таксама лесвіцай з боку парка.

Плошча, лесвіцы, дарожкі выкладзены пліткай са спецыяльна распрацаваным малюнкам. Тарцы лесвіц, пляцовак, падпорныя сценкі абліцаваны шэрым гранітам. Вакол комплексу ўстаноўлены ліхтары арыгінальнай канструкцыі і пражэктарныя ўстаноўкі для штучнага асвятлення ў вячэрні час. Адпаведнае размяшчэнне пражэктараў забяспечвае правільнае ценеўтварэнне на гранях абеліска і скульптуры. Залацісты колер штучнага асвятлення спрыяе святочнаму, урачыстаму ўспрыманню мемарыяльнага комплексу.

Манумент «Мінск — горад-герой» характарызуецца дасканаласцю кампазіцыі, аб'ёмаў і сілуэта, з'яўляецца значным творам манументальнага мастацтва рэспублікі.

*Г. І. Дулеба, У. І. Пракапцоў.*

**233. ЗАБУДОВА ПРАСПЕКТА МАШЭРАВА** (архіт., гіст., археал.). Першапачатковая назва Паркавая магістраль, у 1980 г. перайменаваны ў гонар савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны П. М. Машэрава.

Пачынаецца ад пуцепровода праз вуліцу Няміга, цягнецца да кальцавой аўтадарогі, працягласць каля 9 км. З паўночна-ўсходняга боку праспекта працякае р. Свіслач. Забудова пачалася з сярэдзіны 1960-х гадоў. Фарміруецца як састаўная частка 2-га гарадскога дыяметра. Тут сфарміраваны жылы раён, узведзены адміністрацыйныя будынкі, ствараецца комплекс збудаванняў інстытута фізкультуры. Забудова чаргуецца з зялёнымі масівамі і вадаёмамі. На праспекце ўзведзены будынкі: Дома мадэлей, Беларускага НДІ навукова-тэхнічнай інфармацыі і тэхніка-эканамічных даследаванняў, Дома кнігі, гасцініц «Юбілейная» і «Планета», кінатэатра «Масква», Палаца спорту, Палаца тэнісу, інжынернага корпуса Мінскага завода халадзільнікаў, Дома праектных арганізацый і інш. Ансамбль забудовы дапаўняюць архітэктурна-скульптурны комплекс «Мінск — горад-герой», дэкаратыўныя скульптурныя групы «Вясна», «Лета», «Восень», «Зіма», парк Перамогі. Тут было адно з старажытных паселішчаў, з 16 ст.— Татарская слабада.

**233а. Дом № 1,** корпус 1, Д о м м а-

д э л е й. Пабудаваны ў 1967 г. (архіт. С. Замараеў).

Будынак Г-падобны ў плане, складаецца з 5-павярховага вытворчага і 2-павярховага (дэманстрацыйная зала, гаспадарчыя і інш. памяшканні) карпусоў. Архітэктура плоскасных фасадаў заснавана на рытме навясных жалезабетонных панелей і стужачнага зашклення. У дэкаратыўным аздабленні выкарыстана фактурная тынкоўка з мармуровай крошкай, мармур. Над галоўным уваходам рэльеф «Салідарнасць» (скульпт. А. Арцімовіч). Гарызантальнае чляненне вытворчага корпуса перарвана вертыкальнай круглаватай у сячэнні пласцінай, у завяршэнні якой кубападобны аб'ём з рэкламай і фірменным знакам. Унутры будынка дамінуе падзеленая 2 радамі слупоў-апор прастора дэманстрацыйнай залы. У вытворчым корпусе размешчаны эксперыментальны, перспектыўнага мадэліравання, канструктарска-мадэльны, абутковы, канструктарскія аддзелы, бібліятэка, малая дэманстрацыйная зала, адміністрацыйныя і складскія памяшканні. У апрацоўцы інтэр'ераў выкарыстаны мармур, рэлін, мазаіка і інш.

Дом мадэлей — выразны элемент сучаснага горадабудаўнічага ансамбля.



233а. *Дом мадэлей. План 1-га паверха.*



233б. *Палац спорту.*

**233б. Дом № 4.** П а л а ц с п о р т у. Пабудаваны ў 1961—66 гг. (архіт. С. Філімонаў, В. Малышаў) з жалезабетону і стальных канструкцый. Найбольшае ў рэспубліцы закрытае спартыўнае збудаванне шматмэтавага прызначэння і першае ў краіне, створанае па новай асіметрычнай планіровачна-тэхналагічнай схеме.

Амаль квадратны ў плане (82×78 м) будынак пастаўлены на подыум з каскадам лесвіц, вырашаны ў лаканічных формах. Кампазіцыя галоўнага фасада заснавана на рытме магутных нахіленых жалезабетонных пілонаў, якія падтрымліваюць навісаючы аб'ём глядзельнай залы, вылучанай суцэльнай на ўсю шырыню фасада агароджай балкона. Рытм бакавых фасадаў вырашаны чаргаваннем высокіх праёмаў з шклаблочным запаўненнем і вузкіх пілонаў. Да бакавых фасадаў прылягаюць нізкія выцягнутыя крылы.



233б. *Палац спорту. План 1-га паверха.*

Планіровачная і функцыянальная арганізацыя будынка простая і выразная. Глядзельная зала (на 4 тыс. месцаў, пры трансфармацыі залы і арэны — да 6 тыс. месцаў) разлічана на правядзенне спаборніцтваў па 22 відах спорту, канцэртаў, тэатралізаваных відовішчаў, сходаў, мітынгаў, паказ кінафільмаў. Тэхнічнае абсталяванне дазваляе ствараць ледзяную пляцоўку для хакея, фігурнага катання на каньках, балета на лёдзе. Мае 2 спартыўныя залы, адміністрацыйныя і дапаможныя памяшканні. Стальныя фермы перакрыцця залы з



233а. *Дом мадэлей.*




233в. *Будынак кінатэатра «Масква».*

сінтэтычным пакрыццём. У аздобе сцен выкарыстана дэкаратыўная драўляная шалёўка. Шырокае фае 1-га паверха (размешчаны гардэробы) мае суцэльнае зашкленне, падшыўную столь. Бакавыя двухмаршавыя лесвіцы аб'ядноўваюць фае з цокальным паверхам і фае 2-га паверха. У апрацоўцы інтэр'ераў выкарыстаны рыфлёныя пліты з белага мармуру, фанероўка, наборная мазаічная падлога.

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*

**233в. Дом № 13,** кінатэатр «Масква». Пабудаваны ў 1980 г. (архіт. М. Вінаградаў, В. Крамарэнка, У. Шчарбіна). Арганічна ўключаны ў агульную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю ансамбля праспекта Машэрава.

Будынак вырашаны кампактным сіметрычным аб'ёмам. У кампазіцыі галоўнага фасада дамінуе тарцовая частка вялікай глядзельнай залы (на 1070 месцаў), якая кансольна навісае над суцэльным зашкленнем фае і вестыбюля. Галоўны фасад аформлены анадзіраванымі і чаканенымі панелямі са свяцільнікамі з каляровага шкла. Пластыку ўзбагачаюць аддзелачныя матэрыялы (белы мармур, чырвоны граніт, светлы туф) і інш. Процілеглы фасад сфарміраваны лаканічным аб'ёмам малой залы на 260 месцаў (выкарыстоўваецца тэатрам-студыяй кінаакцёра), фае якой упрыгожана вітражом «Масква — сталіца нашай Радзімы» (маст. Г. Вашчанка і М. Вашчанка), люстрамі ў выглядзе каскада каляровых шкляных трубак. Вакол вялікай глядзельнай залы размешчаны выставачная зала-фае, лекцыйная зала (таксама і для паказу кароткаметражных фільмаў), кафэ. У аздобе інтэр'ераў выкарыстаны ракушачнік, драўляныя і анадзіраваныя панелі, дэкаратыўная тынкоўка. Перад кінатэатрам невялікая плошча з творамі архітэктуры малых форм.

**233г. Дом № 19,** гасцініца «Юбілейная». Пабудавана ў 1968 г. (архіт. Г. Бенядзіктаў і У. Начараў) са зборнага жалезабетону.

Гасцінічны комплекс складаецца з прамавугольнага ў плане трынаццаціпавярховага жылога корпуса (на 413 месцаў) і прыбудаваных да яго двухпавярховага аб'ёму рэстарана, круглаватага аб'ёму канферэнц-залы і службовых памяшканняў. Архітэктурнае вырашэнне фасадаў заснавана на чаргаванні стужачнага зашклення і міжпаверхавых бетонных паясоў. На 1-м паверсе жылога корпуса знаходзіцца вестыбюль-хол, кіёскі сувеніраў і Саюздруку, адміністрацыйныя памяшканні і прасторны ліфтавы хол. Планіроўка калідорная, з ліфтавымі холамі і кулуарамі. Адна- і двухпакаёвыя камфартабельныя нумары разлічаны на 1—2 чалавек. У аздобе памяшканняў выкарыстаны сучасныя аддзелачныя матэрыялы: мяккая абіўка, шпона, дэкаратыўная тынкоўка, варсапітавае пакрыццё падлогі, мармур, ракушачнік. Жылы корпус кароткім пераходам звязаны з рэстаранам. У афармленні залы рэстарана выкарыстана мастацкая кераміка, габелены (маст. Г. Гаркуноў), жывапіс (З. Літвінава).

Будынак гасцініцы — прыклад савецкай архітэктуры.

**233д. Дом № 21.** Дом прафесійных саюзаў. Пабудаваны ў 1982 г. (архіт. Г. Бенядзіктаў, А. Фрыдман).

Уяўляе сабой вышынную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю з 2 плоскіх зрушаных адзін адносна аднаго карпусоў рознай вышыні. У завяршэнні дамінуе глухі кубападобны аб'ём ліфтавай шахты, на франтальнай плоскасці якой квадратная панель з выявай сярпа і молата. Архітэктура вышынных карпусоў заснавана на строгім рытме гарызантальнага зашклення і вертыкальных пілонаў. Над галоўным уваходам выступае кубападобны з глухімі фасадамі аб'ём актавай залы, пастаўлены на 4 слупы.

Схема планіроўкі тыпавога паверха двухкалідорная з двухбаковым размяшчэннем службовых памяшканняў. У цэнтры ліфтавая група, хол якой аб'ядноўвае калідоры. Акрамя галоўнай лесвіцы каля ліфтавага хола ў тарцы будынка размешчана пажарная лесвіца. На першым паверсе галоўны вестыбюль, на другім — актавая зала з фае, буфет. У апрацоўцы інтэр'ера выкарыстаны дэкаратыўная тынкоўка, шпона, падшыўная плітачная столь, паркет, ружовы ракушачнік, белы і шэры мармур. Галоўны вестыбюль і фае актавай залы асветлены ліхтарамі столі і люстрамі нёманскага шкла. У вестыбюлі на фоне тарцовай сцяны, абліцаванай шэраружовым мармурам, устаноўлены бюст У. І. Леніна.

Будынак — твор сучаснай савецкай архітэктуры.

**233е. Дом № 23.** Дом праектных арганізацый. Пабудаваны ў 1978 г. (архіт. В. Малышаў).

Буйнамаштабны будынак узведзены на маляўнічым схіле ўзгорка, арганічна ўпісваецца ў ансамбль забудовы праспекта. Складаецца з У-падобнага ў плане падоўжанага 7-па-




**233г., 233д.** *Гасцініца «Юбілейная» і Дом прафесійных саюзаў.*

вярховага галоўнага корпуса, які кантрастуе з асіметрычна размешчаным 2-паверховым аб'ёмам, завершаным купалам. Спалучэнне 2 узаемна перпендыкулярных аб'ёмаў, іх візуальная самастойнасць падкрэслены галоўным вышынным корпусам на 8 У-падобных апорах. Асноўная архітэктурная тэма будынка — рытм квадратных акон у абрамленні кесонных пліт. Фрызавы і цокальны паясы выкладзены панелямі ў форме «ізумруднага» руста. Фасады двухпавярховага аб'ёму зашклёны і рытмічна расчлянёны зубчастымі рэбрамі-прасценкамі.

Планіроўка тыпавога паверха галоўнага корпуса калідорная з двухбаковым размяшчэннем майстэрняў, кабінетаў, службовых памяшканняў. Вакол 2 ліфтавых груп з міжпаверхавымі лесвіцамі размешчаны прасторныя холы. Першы паверх двухпавярховага аб'ёму займае парадны вестыбюль з ружоўнікам; у яго дэкаратыўнай апрацоўцы выкарыстаны белы і шэры мармур, кесонная столь, наборная мармуровая падлога. Паміж вестыбюлем і галоўным корпусам створаны ўнутраны зялёны дворык, па перыметры якога размешчаны басейн і спартыўная зала. Другі паверх займае вырашаная амфітэатрам канферэнц-зала на 600 месцаў з эліпсападобнай сцэнай. Прастора залы перакрыта паўсферычным купалам, па баках абмежавана ўступамі балкона і сцен, апрацаваных армянскім туфам.

Будынак — твор сучаснай манументальнай архітэктуры.

**233ж. Дом № 31,** г а с ц і н і ц а «П л а н е т а». Пабудавана ў 1980 г. (архіт. Г. Бенядзіктаў, У. Начараў, Т. Раманоўская) са зборнага жалезабетону. Дынамічная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з дванаццаціпавярховага жылога корпуса (на 601 месца) і двухпавярховага аб'ёму рэстарана.

Архітэктура жылога корпуса заснавана на рытме гарызантальных міжпаверхавых керамзітабетонных панелей і вертыкальных навясных рэбраў. Сцены звонку аздоблены вертыкальнымі цягамі з алюмінію. Элемент асіметрыі ў кампазіцыю ўносіць самастойны вертыкальны аб'ём пажарнай лесвічнай клеткі, у завяршэнні якой светлавая рэклама. Планіроўка калідорная з двухбаковым размяшчэннем пакояў. Перад ліфтавымі групамі і міжпаверхавай лесвіцай прасторныя холы. На 1-м і 2-м паверхах адміністрацыйныя і службовыя памяшканні, кіёскі. У афармленні інтэр'ераў выкарыстаны ракушачны туф, чорны лабрадарыт, шэры мармур, шпона, ціснёная скура.

Прамавугольны ў плане аб'ём рэстарана значна выступае перад галоўным фасадам гасцініцы і арганізаваны вакол унутранага дворыка. Фасады абліцаваны туфам. На галоўным фасадзе асіметрычна размешчана дэкаратыўнае пано (маст. Я. Кузняцоў, размалёўка па керамічнай плітцы). На 1-м паверсе знаходзіцца вестыбюль, гардэроб рэстарана, экспрэс-кафэ, на 2-м — абедзенная зала і бар. Паверхі звязаны вітой лесвіцай. Кесонная столь залы аздоблена сюжэтнай арнаментальнай фрэскавай размалёўкай (маст. С. Каткова), сцены аформлены дэкаратыўнымі керамічнымі пано (маст. М. Байрачны, В. Прыешкін і інш.). Дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера — вялізная люстра (нёманскае шкло). Пры ўваходзе ў рэстаран керамічнае пано «Садоўніца».

Будынак гасцініцы — прыклад сучаснай манументальнай архітэктуры.

**233з. Дом № 45,** і н ж ы н е р н ы к о р п у с з а в о д а х а л а д з і л ь н і к а ў. Пабудаваны ў 1975 г. (архіт. І. Боўт, М. Буйлава, А. Ганчароў).

Дванаццаціпавярховы прамавугольны ў плане будынак пастаўлены перпендыкулярна да транспартнай магістралі, на самым высокім участку рэльефу. Кампазіцыя фасадаў заснавана на рытме вертыкальных алюмі-



**233ж.** *Гасцініца «Планета».*

11 Зак. 442



233ж. *Гасцініца «Планета». План 1-га паверха.*

ніевых рэбраў на ўсю вышыню будынка. Зашкленне стужачнае.

У архітэктурным вырашэнні ўлічаны характар вытворчасці гэтага прадпрыемства. Дынаміку корпуса ўзмацняе аб'ём лесвічна-ліфтавага вузла ў тарцовай частцы. Навясныя міжпаверхавыя панелі абліцаваны металічнымі штампаванымі дэталямі, якія імітуюць крышталь. Метал унутры і звонку пакрыты белай эмаллю. Матыў крышталю, ільдзінак выкарыстаны таксама ў выяве рэкламнага знака. У афармленні фасадаў і інтэр'ераў выкарыстаны граніт, шэры і ружовы туф. Планіроўка паверхаў ідэнтычная. Паабапал калідораў знаходзяцца службовыя памяшканні, кабінеты, лабараторыі. Інжынерны корпус звязаны з вытворчымі карпусамі аднапавярховым аб'ёмам, дзе размешчаны вестыбюль з гардэробам, фае, канферэнц-залы і блок абслугоўвання.

Будынак актыўна ўдзельнічае ў стварэнні сілуэта забудовы праспекта Машэрава.

**233і. Дом № 47,** Палац тэнісу. Пабудаваны ў 1978 г. (архіт. С. Баткоўскі, Л. Гельфанд, інж. В. Скабелкін). Крытае прамавугольнае ў плане збудаванне (аб'ём 62,5 тыс. м$^3$). Складаецца са спартыўнага і адміністрацыйнага карпусоў, хола-звязкі.

Спартыўны корпус перакрыты на 2 узроўнях (сярэдняя частка павышана) жалезабетоннымі абалонкамі дваякай крывізны пралётам 40 м. Скляпенні апіраюцца на рытмічна пастаўленыя нахіленыя апоры, якія падтрымліваюць У-падобную абвязачную бэльку. Тарцы скляпенняў зашклёныя. Уключае 4 тэнісныя корты (20×40 м кожны), стацыянарныя трыбуны на 480 месцаў (пры трансфармацыі максімальна 1280 месцаў), балкон з трыбунамі для гасцей і кабінамі суддзяў. У аздобе інтэр'ера выкарыстаны гафрыраваны анадзіраваны алюміній, варсаніт.

Адміністрацыйны корпус аднапавярховы, з развітым цокальным паверхам. Сцены па перыметры раскрапаваны значна выступаючымі пілонамі. Злева ад галоўнага ўвахода, да якога вядзе шырокая лесвіца, размешчана васьміграннае акно. У апрацоўцы фасадаў выкарыстаны каляровая тынкоўка з вертыкальнымі швамі. На 1-м паверсе — службовыя кабінеты, хол, гардэроб, лесвіцы, якія вядуць у залы і на трыбуны, у цокальным паверсе — трэніровачная зала, буфет, санітарны блок і інш.

Палац — адно з буйнейшых спартыўных збудаванняў рэспублікі. У ім арганічна спалучаюцца новыя дасягненні тэхнікі, функцыянальнасць архітэктурна-планіровачнага вырашэння і мастацкая выразнасць форм.

*Літ.:* Минск спортивный: Справ.-путеводитель.— Мн., 1979.

*А. М. Кулагін, Т. В. Габрусь.*



233з. *Інжынерны корпус завода халадзільнікаў.*



233з. *Інжынерны корпус завода халадзільнікаў. План 2-га паверха.*

**234. КУЛЬТУРНЫ ПЛАСТ ТАТАРСКАЙ СЛАБАДЫ** (археал.). Мясцовыя назвы Татарскае прадмесце, Пятніцкі канец, Татарскі канец. Тэрыторыя паўночна-заходняй ускраіны Мінска (цяпер раён праспекта Машэрава). Узнікла ў сувязі з пасяленнем у пачатку 16 ст. узятых у палон крымскіх татар, што ўдзельнічалі ў набегах на беларускія землі і былі разбіты ў 1506 г. пад Клецкам войскам Вялікага княства Літоўскага.

У 1946 г. В. Р. Тарасенка правodзіў раскопкі на левым беразе паўночнага рукава былой р. Няміга, ва ўрочышчы Міколка (за 250 м на поўнач ад Мінскага замчышча). Тут былі 3 невялікія курганы з пахавальным абрадам трупапалажэння без рэчаў. Пад насыпамі курганоў і каля іх выяўлены культурны пласт таўшчынёй больш за 1 м 12—13 стагоддзяў. Знойдзены рэшткі зямлянкі, шмат глінянага посуду, жалезны ключ. Побач адкапана печ для абпальвання глінянага посуду з 900 чарапкамі гаршкоў розных форм і памераў. Археалагічнымі раскопкамі ўстаноўлена, што ў 12 — пачатку 13 ст. тут размяшчалася адно з старажытных паселішчаў горада, пазней на яго месцы ўзніклі могілкі. Яны адносіліся да часткі горада, якая называлася Пятніцкім канцом (тут была Пятніцкая вуліца і Пятніцкая царква). У час веснавых паводак нізкія месцы затапляла вадой, таму жыхары пакідалі іх, перасяляліся далей ад берага Свіслачы, дзе ўзнікла Татарская слабада. Пакінутыя ўчасткі забалочваліся, пазней іх сталі засяваць (т. зв. Татарскія агароды).

У 1983 г. на вул. Дзімітрава (былая Вялікая Татарская), Замкавай і Вызвалення былі праведзены археалагічныя даследаванні (археолаг В. Е. Собаль). Раскопкі пацвердзілі, што Татарская слабада была заселена ў другой палавіне 15 ст. У раскопе і шурфах быў знойдзены разнастайны гліняны посуд: размаляваныя ангобам, паліваныя талеркі 17 ст., міскі, збаны, макотры і гаршкі 15—18 стагоддзяў. На месцы драўлянага дома 17 ст. знойдзены рэшткі кафлянай печы, сабрана калекцыя гаршковай і каробчатай кафлі. Апошняя была ўпрыгожана раслліннымі, зааморфнымі і геаметрычнымі ўзорамі. Цікавымі знаходкамі з'яўляюцца гліняная цацка-свістулька ў выглядзе лебедзя, ганчарная лашчыла, керамічная шашка. Сярод вырабаў з жалеза — нажы, трохшыпныя падкоўкі для абцасаў, ключ, з шкла — рэшткі шкляніц 16—17 стагоддзяў, аптэчны посуд.



233і. *Палац тэнісу.*

У 1987 г. у час земляных работ паміж Палацам спорту і берагам Свіслачы Г. В. Штыхаў прасачыў культурны пласт магутнасцю ад 0,5 да 1 м (месцамі 1,5 м), у якім знойдзена бытавая кераміка 16—19 стагоддзяў, кафля з зялёнай палівай, рэшткі гаршкоў 12—13 стагоддзяў.



235. *Куток парку Перамогі.*



235. *Куток парку Перамогі.*

Матэрыялы раскопак 1983 г. і 1987 г. захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. В. Штыхаў, В. Е. Собаль.*

**235. ПАРК ПЕРАМОГІ** (архіт.). Закладзены ў 1945 г. у гонар перамогі над фашысцкай Германіяй. Функцыяніраваў як гарадская зона адпачынку ў раёне Камсамольскага возера, з 1975 г. парк культуры і адпачынку. Плошча больш за 100 га, у т. л. воднага люстра 40 га. Высаджана каля 33 тыс. дрэў (ліпа, клён, вярба, ясень, таполя і інш.), 25 тыс. кустоў. Уязная алея пракладзена з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Пасадкі згрупаваны па перыметры парку і яго ўзгоркавых участкаў, вакол возера больш рэдкія і нізкія, што садзейнічае раскрыццю яго ландшафтных карцін. На воднай роўнядзі возера вылучаюцца астравы з паркавымі курцінамі. Дамінантныя акцэнты ў сілуэце парку ствараюць хвойныя пароды дрэў (елка звычайная і серабрыстая, піхта і інш.). На беразе возера размешчаны лодачная станцыя, водна-вяслярная база, створана дзіцячая зона з пляцоўкамі для гульняў і заняткаў спортам, Палац піянераў і школьнікаў. Развіваецца як цэнтральны шматпрофільны парк культуры і адпачынку ўздоўж праспекта Машэрава (уключае вадасховішча ДраздЫ) да в. Ждановічы (плошча каля 1000 га).

Прыклад садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Сычева А. В. Охрана природы и архитектура.— Мн., 1976. *А. М. Кулагін.*

**вул. Маякоўскага**

**236. ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ ТЭКСТЫЛЬШЧЫКАЎ** (архіт.). Дом № 129. На плошчы паблізу камвольнага камбіната імя 50-годдзя Кампартыі Беларусі. Будаўніцтва вялося ў 1954—56 гг. па паўторна выкарыстаным праекце, з 1960 г. адноўлена па перагледжаным праекце (архіт. С. Мусінскі, Л. Каджар), закончана ў 1965 г.

Чатырохпавярховы прамавугольны ў плане будынак з цокальным паверхам накрыты пакатым двухсхільным дахам. Галоўны фасад вырашаны ў выглядзе своеасаблівага порціка, падзеленага на 3 часткі. Цэнтральная частка мае суцэльнае зашкленне, рытмічна чляхёна вертыкальнымі жалезабетоннымі рэбрамі. Глухія бакавыя сцены аздоблены кампазіцыямі ў тэхніцы сграфіта на тэмы росквіту сацыялістычнай культуры. Матыў вертыкальнага члянення цэнтральнай часткі галоўнага фасада паўтораны ў сіметрычных бакавых прыбудовах, дзе размешчаны лесвіцы. Астатнія фасады вырашаны больш стрымана, падзелены міжпаверхавымі гарызантальнымі цягамі. Уваход у выглядзе крывалінейнага ў плане тамбура завершаны вялікім казырком. Палац уключае тэатральна-канцэртную залу (937 месцаў), танцавальную, балетную і спартыўную залы, памяшканні для работы гурткоў і студыі, бібліятэку з чытальнай залай, аўдыторыі, прасторныя фае і холы, адміністрацыйныя і службовыя памяшканні.

Палац — прыклад архітэктуры грамадскіх збудаванняў. *Т. В. Габрусь.*

**вул. Мележа**

**237. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 4. Устаноўлена ў 1983 г. на будынку, размешчаным на месцы, дзе ў Вялікую Айчынную вайну быў дом (былая вул. Беламорская, 146), у якім знаходзілася канспіратыўная кватэра Мінскага камуністычнага падполля.

Кватэру ўтрымлівалі камуніст І. Дз. Будаеў і В. А. Будай. І. Дз. Будаеў узначальваў тэрытарыяльную партыйную арганізацыю на вул. Беламорскай, адначасова ваенную работу Варашылаўскага падпольнага РК КП(б)Б. На канспіратыўнай кватэры адбываліся сустрэчы сувязных, захоўваліся боепрыпасы, медыкаменты, папера, агітацыйная літаратура, фарбы, шрыфты.



236. *Палац культуры тэкстыльшчыкаў.*



238. *Комплекс Дома мод-2 і інстытута «Белбыттэхпраект».*

*Літ.:* О партийном подполье в Минске в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944 гг.).— Мн., 1961; Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**вул. Мельнікайтэ**

**238. КОМПЛЕКС ДОМА МОД-2 І ІНСТЫТУТА «БЕЛБЫТТЭХПРАЕКТ»** (архіт.). Дом № 2—4. Пабудаваны ў 1976—82 гг. (архіт. П. Кракалёў, В. Алейнікава). У ансамблі арганічна спалучаецца 6-павярховы аб'ём Дома мод і 20-павярховы будынак інстытута «Белбыттэхпраект», аб'яднаныя на ўзроўні 3-га паверха.

Дом мод-2 мае арыгінальную ярусную прасторавую кампазіцыю ў пластычных гранёных формах. Вертыкальная накіраванасць 1—3-га паверхаў дасягаецца пілонамі і вузкімі аконнымі праёмамі, 4—6-ы паверхі маюць гарызантальную кампазіцыю, якая ствараецца чаргаваннем стужачнага зашклення і міжпаверхавымі бетоннымі паясамі. Будынак завяршае прамавугольны ў плане 2-павярховы аб'ём, дзе размешчаны тэхнічныя службы. Унутры вестыбюль, двухсветлавы салон заказаў, зала (на 300 месцаў) для дэманстрацыі мадэлей, сталовая, буфет, адміністрацыйныя, вытворчыя і інш. памяшканні. У апрацоўцы інтэр'ераў выкарыстаны светлы і блакітна-ружовы мармур, ракушачнік, дэкаратыўная тынкоўка, акмігран. У салоне заказаў вітраж з каляровага шкла на тэму «Беларусь» (маст. У. Стальмашонак, В. Даўгяла).

Будынак інстытута — вышынная дамінанта Юбілейнай пл. Пабудаваны на каркаснай аснове з выкарыстаннем керамзітабетонных панелей у выглядзе кесонаў, якія ўзбагачаюць пластыку фасадаў. Рытм аконных праёмаў перарваны стужкай балконаў на ўзроўні 9-га паверха і завершаны глухім парапетам, расчлянёным вертыкальнымі рэбрамі. У завяршэнні — гранёны аб'ём тэхнічнага паверха. Памяшканні аб'яднаны калідорамі, у цэнтры якіх авальны ў плане ліфтавы вузел. На 2-м паверсе ўваход у круглую ў плане канферэнц-залу, вырашаную амфітэатрам.

Комплекс — прыклад сучаснай архітэктуры. *В. Б. Ангелаў, А. М. Кулагін.*

**239. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля дома № 35.

Пасля акупацыі Мінска нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі ў ліпені 1941 г. у раёне вуліц Астроўскага, Нямігі, Рэспубліканскай і інш. гета. Сюды прывозілі таксама яўрэйскае насельніцтва з Гамбурга. За калючым дротам аказалася больш за 100 тыс. чал. На працягу 1941—43 гг. амаль усе вязні гета былі знішчаны, нязначная частка іх з дапамогай партызан і насельніцтва была выратавана.

На магіле вязняў гета, што былі расстраляны гітлераўцамі 2.3.1942 г. у раёне Юбілейнай пл., у 1972 г. пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Гісторыя Мінска.— [2 выд.] — Мн., 1967; Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.] — Мн., 1965. *В. М. Удальцоў.*

**вул. Мічурына**

**240. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома юнага тэхніка (дом № 5). Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

**зав. Музычны**

**241. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК** (архіт.). Дом № 3. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Аднапавярховы, прамавугольны ў плане будынак з высокай цокальнай часткай, накрыты чатырохсхільным вальмавым дахам. Кампазіцыя фасадаў асіметрычная. Плоскасць сцен галоўнага фасада ва ўваходнай частцы і па вуглах дэкарыравана шырокімі руставанымі лапаткамі. Прамавугольныя аконныя праёмы ў простых ліштвах з замковым каменем. Па перыметры дома праходзіць развіты шматслойны карніз.

Будынак — прыклад грамадзянскай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

**242. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 1. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Уваходзіць у ахоўную зону Верхні горад.

Двухпавярховы, складаны ў плане будынак асіметрычнай кампазіцыі. Складаецца з розных частак, аб'яднаных у адзіны аб'ём арачнымі праездамі. Вулічныя фасады вырашаны плоскасна, члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Сцены арачнага праезда ўмацаваны масіўнымі контр-

форсамі. Па перыметры будынка праходзіць шматслойны развіты карніз. Лесвічны вузел, вынесены за межы асноўнага аб'ёму, размешчаны з боку дваровага фасада.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

**243. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 5. Пабудаваны ў першай трэці 19 ст. з




*243. Жылы дом № 5 па Музычным завулку. План.*

цэглы. У доме адбываліся пасяджэнні масонскай ложы, адсюль яго назва — Дом масонаў. Цяпер выкарыстоўваецца як жылы.

Трохпавярховы прамавугольны ў плане сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі будынак накрыты вальмавым дахам. Паўночна-ўсходні, паўднёва-ўсходні і паўднёва-заходні фасады вылучаны неглыбокімі рызалітамі, завершанымі трохвугольнымі франтонамі, у тымпане якіх паўкруглыя вокны. Першы паверх аддзелены цягамі складанага профілю, па перыметры сцен пад карнізам праходзіць пояс сухарыкаў. Аконныя праёмы 1-га і 3-га паверхаў прамавугольныя, 2-га дэкарыраваны ліштвамі з замковым каменем і трохвугольнымі сандрыкамі. У прасценках паміж вокнамі над галоўным уваходам невялікія калоны дарычнага ордэра. На паўночна-ўсходняй сцяне асіметрычна размешчаны невялікія балкончыкі з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Планіроўка анфіладная асіметрычнай кампазіцыі.

Будынак — помнік архітэктуры класіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**вул. Мясьнікова**

**244. БУДЫНАК ПАЛІКЛІНІКІ** (архіт.). Дом № 26. Пабудаваны ў 1928—33 гг. Раней тут была паліклініка, цяпер размешчаны кардыялагічны дыспансер.

Будынак Г-падобны ў плане, з роўнымі па даўжыні крыламі, на тарцах якіх размешчаны амаль квадратныя



*244. Будынак паліклінікі.*




*244. Будынак паліклінікі. План.*

ў плане 2—3-павярховыя аб'ёмы са схільнымі дахамі. Аб'ёмы злучаны двухпавярховай вуглавой часткай, якая на галоўным фасадзе вырашана паўкругам. Крывалінейны абрыс надае кампазіцыі будынка пластычнасць і выразнасць. Фасады тарцовых аб'ёмаў пазбаўлены дэкору, у вуглавой частцы прасценкі вылучаны рустам. Найбольш складаную канфігурацыю плана і кампаноўку памяшканняў мае аб'ём паўночна-ўсходняга тарца. У ім 2 уваходы, галоўны злучаны непасрэдна з лесвічнай клеткай, якая выступае на фасадзе.

Адзін з першых на Беларусі будынкаў спецыялізаваных лячэбных устаноў. *Т. В. Габрусь.*

**245. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ МЯСНІКОВА** (архіт.). Вуліца існуе з 18 ст. Да 1880 г. называлася Новазахар'еўская, потым Маскоўская, з 1893 г.— Новамаскоўская. У 1932 г. названа ў гонар А. Ф. Мяснікова. Захавалася забудова канца 19 — пачатку 20 ст.

Дом № 38. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Двухпавярховы з паўпадвальным паверхам прамавуголь-



*243. Жылы дом № 5 па Музычным завулку.*

ны ў плане будынак накрыты чатырохсхільным вальмавым дахам. Паверхі аддзелены карнізнымі паясамі. Галоўны фасад сіметрычны, яго цэнтральная частка вылучана ступеньчатым атыкам з двухсхільным у цэнтры пакрыццём. Па вуглах будынак фланкіраваны плоскімі лапаткамі, якія над карнізам утвараюць чатырохвугольныя ў сячэнні вежачкі. На тарцовых фасадах у цэнтры над карнізам размешчаны простыя атыкі. Пад карнізам праходзіць пояс сухарыкаў. Вокны лучковыя без ліштваў. Выкарыстоўваецца грамадскай установай.

Будынак — помнік так званай «цаглянай» архітэктуры з рысамі неагатычнага кірунку.

Дом № 74. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Паверхі аддзелены карнізным поясам. Аконныя праёмы лучковыя без ліштваў, аздоблены сандрыкамі: на першым паверсе прамымі, на другім — лучковымі. Выкарыстоўваецца грамадскімі арганізацыямі.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры эклектычнага кірунку.

Дом № 76. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы як жылы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Яго цэнтральная частка вылучана мезанінам з лучковым атыкавым франтонам, трайным акном і балконам з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Фасады чляпёны двума карнізнымі паясамі і плоскімі пілястрамі з іанічнымі капітэлямі. Вокны першага паверха прамавугольныя, другога — паўцыркульныя. На другім паверсе сіметрычна размешчаны 2 невялікія балконы. Выкарыстоўваецца як жылы.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры эклектычнага кірунку.

У ансамбль забудовы вуліцы ўваходзяць таксама жылыя дамы № 11а, 11б, 11в, 11г, 13а, пабудаваныя на рубяжы 19—20 стагоддзяў.

Дом № 11а. Пабудаваны з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Паверхі аддзелены карнізным поясам. Першы паверх адной з тарцовых частак руставаны, чляпёны лапаткамі, якія пераходзяць на другім паверсе ў плоскія. Вокны прамавугольныя без ліштваў. На другім паверсе размешчана некалькі балконаў з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё).

Дом № 11б. Пабудаваны з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Дэкор фасадаў вырашаны аналагічна дому № 11а.

Дом № 11в. Пабудаваны з цэглы. Двухпавярховы, складанага плана пад вальмавым дахам. Фасады вырашаны плоскасна. Паверхі аддзелены карнізным поясам. Вокны прамавугольныя без ліштваў. На другім паверсе размешчаны невялікі балкон з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё).

Дом № 11г. Пабудаваны з цэглы. Двухпавярховы, складанага плана, пад двухсхільным дахам. Паверхі аддзелены карнізным поясам, аконныя праёмы без ліштваў. На другім паверсе ў вуглавой частцы размешчана драўляная веранда.

Дом № 13а. Пабудаваны з цэглы. Двухпавярховы з цокальным паверхам будынак прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Фасады вырашаны плоскасна, чляпёны прамавугольнымі вокнамі без ліштваў.

Жылыя дамы — помнікі грамадзянскай архітэктуры эклектычнага кірунку з амаль аднолькавым наборам дэкаратыўных элементаў.

*А. Ю. Пятросава.*

**246. ТЭАТР МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ** (архіт., маст.). Дом № 44. Пабудаваны ў 1981 г. (архіт. А. Ткачук, У. Тарапоўскі).

Будынак мае асіметрычную кампазіцыю з раўнацэннымі фасадамі, што абумоўлена яго размяшчэннем у гістарычнай забудове і ўключэннем у аб'ём будынка былога клуба тонкасу-



246. *Тэатр музычнай камедыі.*



246. *Тэатр музычнай камедыі. Дэкаратыўная кампазіцыя «Батлейка».*

коннага камбіната. У прыбудаваным новым аб'ёме знаходзяцца глядзельная зала на 800 месцаў і развітая сцэнічная група памяшканняў. Архітэктурнае і колеравае вырашэнне фасадаў пабудавана на кантрасце глухіх плоскасцей сцен, абліцаваных белым вапняком, з невялікімі вітражамі і з цёмнага каменю цокалем. Галоўны ўваход вырашаны ў выглядзе параднага партала са скульптурнай групай «Музы» (скульпт. Л. Зільбер; бронза). Статуі вынесены на кансолях над уваходам, уносяць у архітэктуру будынка пластычнасць і адухоўленасць. Інтэр'ер багата дэкарыраваны: выкарыстаны светлы мармур, гіпсавыя ўстаўкі, залацістае шкло, латунь, габеленавая заслона (маст. А. Кішчанка і А. Більцюкова), дэкаратыўныя рэльефы на партале сцяны і калонах фае (архіт. А. Ткачук, скульпт. Ю. Якубовіч). Перад будынкам — фантан з дэкаратыўнымі маскамі (скульпт. М. Бяляеў). У двары дэкаратыўная кампазіцыя «Батлейка» (скульпт. Л. Зільбер; бронза). Традыцыйныя персанажы старажытнага беларускага тэатра лялек выкананы ў народнай, гратэскавай манеры.

Будынак тэатра — прыклад сучаснай грамадзянскай архітэктуры.

*Л. Г. Лапцэвіч, І. С. Мельнік.*

**вул. Нагіна**

**247. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі прадзільнай фабрыкі Мінскага вытворчага тонкасуконнага аб'яднання імя Ц. Я. Кісялёва. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1962 г.

**вул. Надзеждзінская**

**248. ДОМ, У ЯКІМ ЗНАХОДЗІЛАСЯ КАНСПІРАТЫЎНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Дом № 14а. Тут у час нямецка-фашысцкай акупацыі знаходзілася канспіратыўная кватэра падпольнай арганізацыі пад назвай «Ваенны савет партызанскага руху».

Савет створаны ў верасні 1941 г. Сваёй мэтай ставіў актывізацыю партызанскай барацьбы ў наваколлі Мінска. У склад савета ўваходзілі перажна палітработнікі, камандзіры і байцы Чырвонай Арміі, якія не змаглі выйсці з акружэння і асталіся на акупіраванай тэрыторыі ці ўцяклі з палону. Праз канспіратыўную кватэру савета, якую трымала Л. Д. Драгун-Пастрэвіч, партызанам перапраўлялася зброя, боепрыпасы, агітацыйны матэрыял. У 1-й палове лютага 1942 г. на гэтай кватэры І. З. Рабышаў — начальнік штаба 208-га партызанскага атрада імя І. В. Сталіна — прыняў ад Ваеннага савета скрынку гранат, пішучую машынку, паперу і капірку, лістоўкі, а таксама цёплую вопратку для партызанаў.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978.

*А. Г. Шчарбатаў.*



250. *Помнік братам Г. А. і Б. А. Еўдакімавым.*




249. *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*

**249. ДОМ, У ЯКІМ ЗНАХОДЗІЛАСЯ КАНСПІРАТЫЎНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Дом № 16.

У гэтым доме ў час нямецка-фашысцкай акупацыі была канспіратыўная кватэра Мінскага камуністычнага падполля. Тут жыла В. К. Смірнова, якая з верасня 1941 г. да лістапада 1942 г. прымала актыўны ўдзел у падпольнай рабоце, перадавала партызанам медыкаменты, соль, вопратку, збірала інфармацыю пра размешчаныя вакол горада гарнізоны ворага, склады боепрыпасаў і прадуктаў, пра рух цягнікоў. На яе кватэры падпольшчыкі захоўвалі паперу, медыкаменты, зброю, прымалі партызанскіх сувязных.

У 1967 г. у гонар падпольшчыкаў на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*З. І. Бялуга.*

**вул. Народная**

**250. ПОМНІК ЕЎДАКІМАВЫМ** Гвідону Андрэевічу і Барысу Андрэевічу (гіст.). Каля сярэдняй школы № 58.

У Вялікую Айчынную вайну браты Г. А. і Б. А. Еўдакімавы з 1941 г. з'яўляліся актыўнымі ўдзельнікамі Мінскага камуністычнага падполля. У красавіку 1943 г. схоплены гітлераўцамі і закатаваны ў турэмных засценках. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску. На ўшанаванне памяці братоў Еўдакімавых у 1970 г. пастаўлены помнік (скульпт. Ф. Рэўзін) — стэла з барэльефнымі выявамі падпольшчыкаў. Гл. таксама артыкул № 388 «Магіла Еўдакімавых Гвідона Андрэевіча і Барыса Андрэевіча».

**вул. Няміга**

**251. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку клуба Мінскага вытворчага аб'яднання «Прамень» (дом № 30). Устаноўлена ў 1962 г., абноўлена ў 1986 г.

У Вялікую Айчынную вайну на Мінскіх абутковых фабрыках імя М. І. Калініна і імя Э. Тэльмана (цяпер у складзе Мінскага вытворчага абутковага аб'яднання «Прамень») дзейнічалі патрыёты-падпольшчыкі І. Л. Беланоўскі, С. В. Грынвальд-Муха, Г. Ф. Шырко, Ф. В. Адашкевіч, С. І. Гараховіч, Н. І. Наркевіч і інш.

Адзін з арганізатараў і актыўных удзельнікаў Мінскага камуністычнага падполля І. Л. Беланоўскі з верасня 1941 г. да верасня 1942 г. працаваў на абутковай фабрыцы імя М. І. Калініна загадчыкам хлебнай лаўкі. Падпольшчыкі пад яго кіраўніцтвам удзельнічалі ў вызваленні ваеннапалонных з лагера смерці ў Масюкоў-




251. *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*

шчыне, адпраўцы іх у партызанскі атрад В. Т. Варанянскага (з лютага 1942 г. атрад «Мсцівец», з верасня 1942 г. у партызанскай брыгадзе «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага). У кастрычніку 1942 г. І. Л. Беланоўскі быў арыштаваны і загублены гітлераўцамі.

Падпольшчык С. В. Грынвальд-Муха падтрымліваў сувязь з І. Л. Беланоўскім. На абутковай фабрыцы імя М. І. Калініна ён працаваў у 1941—42 гг. загадчыкам сталовай, забяспечваў прадуктамі падпольшчыкаў і партызанскіх сувязных, распаўсюджваў лістоўкі. 22.10.1942 г. арыштаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі, загінуў у лагеры смерці Трасцянец.

Г. Ф. Шырко (падпольная мянушка Цётка Нюра) удзельнічала ў падпольнай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў з ліпеня 1941 г. да верасня 1942 г. У групу, якую яна ўзначальвала, уваходзілі работніцы фабрыкі С. І. Гараховіч, Н. І. Наркевіч, Ф. В. Адашкевіч і інш. Яны збіралі і перадавалі партызанам зброю, патроны, адзенне, медыкаменты, выводзілі ваеннапалонных з лагера і пераpraўлялі іх у партызанскую брыгаду М. М. Нікіціна. На кватэры Г. Ф. Шырко на пішучай машынцы друкавалі лістоўкі і распаўсюджвалі іх сярод насельніцтва. У чэрвені 1942 г. Г. Ф. Шырко паведаміла партызанам пра намечаную гітлераўцамі карную экспедыцыю. Тэрмінова з Мінска і станькаўскага лесу, дзе захоўвалася накопленая патрыётамі зброя, партызанам былі перададзены кулямёты, вінтоўкі, патроны. Гэта дазволіла своечасова падрыхтавацца і адбіць напад карнікаў. У верасні — кастрычніку 1942 г. былі арыштаваны Г. Ф. Шырко і Н. І. Наркевіч. Г. Ф. Шырко загінула ў фашысцкіх засценках, Н. І. Наркевіч — у лагеры смерці Трасцянец.

Ф. В. Адашкевіч пасля арышту сяброўак працягвала падпольную работу. Арыштавана гітлераўцамі 9.2. 1944 г., пасля катаванняў кінута ў лагер смерці.

*Літ.:* Казаченок В. С. Когда Родина в опасности.— Мн., 1961; Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978. *В. М. Баскова.*

**252. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі галаўнога прадпрыемства Мінскага абутковага аб'яднання «Прамень». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

**вул. Парніковая**

**253. СЯДЗІБА** (архіт., гіст.). Дом № 26. Сфарміравана ў 1-й палове 19 ст. (у былым прыгарадзе Мінска — в. Вялікая Сляпянка). Належала беларускаму мастаку В. М. Ваньковічу. Ансамбль уключаў мураваны сядзібны дом, бакавыя драўляныя флігелі (не захаваліся) і парк, перапланаваны ў 1896 г. садаводам В. Кроненбергам. Захаваліся 2 алеі, якія вядуць да сядзібы з боку горада.



253. *Сядзібны дом.*




253. *Сядзібны дом. План.*

Сядзібны дом двухпавярховы, Т-падобны ў плане, накрыты пакатым двухсхільным дахам, закрытым парапетам. Галоўны фасад вылучаны ў цэнтры шырокім рызалітам. Тарцовыя сцены афармлены трохвугольнымі франтонамі з люкарнамі. Фасады па перыметры чляпёны міжпаверхавым паяском і завершаны прафіляваным карнізам. У дэкаратыўным афармленні дома выкарыстаны пілястры, сандрыкі, сухарыкі і інш. Перапад рэльефу адкрывае з боку дваровага фасада цокальны паверх, умацаваны па вуглах контрфорсамі. Унутраная планіроўка дома зменена. З аздобы інтэр'ера захаваліся фрагменты мазаічнай падлогі, карнізаў.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры класіцызму.

Месца жыцця і дзейнасці Ваньковіча Валенція Мельхіёравіча.

Жывапісец В. М. Ваньковіч нарадзіўся 14.2.1800 г. (паводле інш. звестак у 1799 г.) у в. Калюжыца Бярэзінскага р-на. Дзіцячыя гады прайшлі ў в. Вялікая Сляпянка. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме, потым у Віленскім універсітэце (1818—24 гг.) і Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў (з 1824 г.). Скончыўшы навучанне, жыў у Мінску. Прадстаўнік рамантызму. Творчасць звязана з мастацкім жыццём Беларусі, Літвы і Польшчы. Аўтар карцін «Подзвіг маладога кіяўляніна пры аблозе Кіева печанегамі ў 968 годзе» (1827 г.), «Міцкевіч на скале Аюдаг» (1828 г.), «Напалеон каля вогнішча» (1834 г.), партрэтаў А. Пушкіна (1826—27 гг.), А. Міцкевіча, А. Гарэцкага, М. Шымапоўскай, К. Ліпінскага (1827 г.), Э. і С. Хамінскіх і К. Пясецкага (1834 г.), К. і А. Тавянскіх (1837 г.), графа С. Строганава (мініяцюра, 1831 г.), А. Манюшкі і інш. Сярод работ літаграфіі («Галава старога», «Аўтапартрэт»), рысункі («Від руін у Італіі», «Пейзаж», «Сажалка» і інш.). У 1839 г. выехаў за мяжу, памёр 12.5.1842 г. у Парыжы.

Месца нараджэння Ваньковіча Яна Валенцьевіча.

Адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. на Беларусі Я. В. Ваньковіч нарадзіўся ў былым маёнтку Сляпянка 11.10.1838 г. Сын В. М. Ваньковіча. Скончыў Пецярбургскі лясны інстытут. Працаваў ляснічым у Екацярынаслаўскай губерні, з 1860 г. у Белавежскай пушчы. З 1861 г. член Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, створанай К. Каліноўскім. У пачатку паўстання пад псеўданімам Лялiва змагаўся на Падляшшы. У маі 1863 г. узначаліў Брэсцкі паўстанцкі атрад і з Кобрынскім атрадам Р. Траўгута зрабіў рэйд на Піншчыну. У ліпені 1863 г. з дапамогай Э. Ажэшкі выехаў у Аўстра-Венгрыю, дзе працаваў у паўстанцкай арганізацыі ў Галіцыі. Пасля ў эміграцыі. Памёр 2.8.1899 г. *В. Б. Караткевіч, А. М. Кулагін.*

**праспект Партызанскі**

**254. ГАСЦІНІЦА «ТУРЫСТ»** (архіт., маст.). Дом № 81. Пабудавана ў



254. *Вышынны корпус гасцініцы «Турыст».*

1973 г. са зборнага жалезабетону (архіт. Л. Пагарэлаў, А. Гуль).

Складаецца з лаканічнага па архітэктуры 14-павярховага корпуса, выкананага з жалезабетону і шкла, і прылеглага да яго 1—2-павярховага аб'ёму складанай канфігурацыі. Франтальныя фасады рытмічна расчлянёны міжпаверхавымі гарызантальнымі панелямі, квадратнымі аконнымі праёмамі, вертыкальнымі рэбрамі ў прасценках. Лёгкасць будынку надаюць V-падобныя жалезабетонныя апоры. Вышынны корпус з камфартабельнымі жылымі пакоямі разлічаны на 550 месцаў. У нізкім аб'ёме размешчана развітая вестыбюльная група памяшканняў, рэстаран, банкетная зала, канферэнц-зала, фае.

Архітэктурная пластыка ўзбагачана сродкамі манументальна-дэкаратыўнага мастацтва (маст. кіраўнікі Л. Пагарэлаў, А. Кішчанка). Тарэц будынка аздоблены вялікім мазаічным пано «Беларусь партызанская» (мастакі А. Кішчанка, С. Сакалоў). Кампазіцыя смальтавай мазаікі прыцягвае да сябе ўвагу напружанай аранжава-чырвонай гамай, спалучэннем жоўтых і карычнева-чорных колераў. Яна сімвалізуе адзінства народа, памяць аб народных мсціўцах, якія ў небяспечны для Радзімы час узняліся на яе абарону. Лініі пано, якім нададзена форма канцэнтрычных кругоў, кантрастуюць з прамавугольнымі формамі будынка.

Сувязь архітэктурнай і выяўленчай пластыкі вызначае і ўнутранае афармленне будынка. Вар'іруюцца тэмы прыроды, народнага мастацтва і рамёстваў Беларусі, навукова-тэхнічных дасягненняў. Такая тэматычная накіраванасць адпавядае прызначэнню гасцініцы, якая з'яўляецца адным з турысцкіх цэнтраў рэспублікі. Вестыбюль упрыгожаны сферычнымі каванымі чашамі, зала рэстарана — дэкаратыўнай скульптурнай кампазіцыяй «Поры года» (маст. А. Кішчанка, скульпт. С. Ларчанка). Дзверы-рашоткі з мудрагелістымі ўзорамі аддзяляюць рэстаранную залу ад вестыбюля (маст. Ю. Любімаў; метал, коўка). Аскетычную прастату хола змякчае габелен «Чалавек пазнае свет» (маст. А. Кішчанка, А. Бельцюкова, Г. Гаркуноў). Ва ўнутраным дворыку ўстаноўлена дэкаратыўная скульптура «Юнацтва» (скульпт. С. Ларчанка; бетон). *А. М. Кулагін, Л. Г. Лапцэвіч.*



*255. Палац культуры і тэхнікі аўтамабільнага завода.*



*257. Помнік Максіму Багдановічу.*

**255. ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ І ТЭХНІКІ АЎТАМАБІЛЬНАГА ЗАВОДА** (архіт.). Дом № 117а. Пабудаваны ў 1975 г. на аснове тыпавога праекта са зменамі ў вонкавым вырашэнні і планіроўцы (архіт. І. Левін). Размешчаны ў глыбіні жылога квартала з адступленнем ад «чырвонай лініі» забудовы.

Будынак трохпавярховы прамавугольны ў плане, над ім узвышаецца кубападобны аб'ём сцэнічнай каробкі, што надае збудаванню асіметрычную кампазіцыю. Фасады вырашаны ў строгіх архітэктурных формах: спалучэнне вялікіх плоскасцей зашклёных аконных праёмаў, вертыкальных жалезабетонных рэбраў і гладкіх паверхняў сцен. Галоўны ўваход размешчаны асіметрычна і вылучаны вынасным казырком. Палац мае тэатральна-канцэртную (на 1100 месцаў), кіналекцыйную (на 400 месцаў), танцавальную і спартыўную залы, пакоі для работы гурткоў, студыю выяўленчага мастацтва, аматарскую кінастудыю, прасторныя фае, кулуары і інш. Мастацка-дэкаратыўным акцэнтам інтэр'ера галоўнага фае з'яўляецца пано, выкананае з розных парод дрэва ў тэхніцы інтарсіі. У абліцоўцы сцен выкарыстаны ружовы ракушачнік, столі — анадзіраваныя панелі. На плошчы перад палацам разбіты газоны, зроблены басейны. *А. М. Кулагін.*

**256. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі матацыклетнага і веласіпеднага завода. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1946 г.

**пл. Парыжскай камуны**

**257. ПОМНІК БАГДАНОВІЧУ** Максіму Адамавічу (гіст., маст.). У скверы, перад будынкам Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, недалёка ад месца, дзе стаяў дом, у якім нарадзіўся і жыў паэт.

Беларускі паэт, перакладчык, крытык і гісторык літаратуры М. А. Багдановіч нарадзіўся 27.11.1891 г. у Мінску ў сям'і настаўніка. У дзіцячыя гады жыў у Гродне (1892—96 гг.), з 1896 г.— у Ніжнім Ноўгарадзе (Горкім), з 1908 г. у Яраслаўлі, дзе ў 1916 г. скончыў Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй. З кастрычніка 1916 г. да лютага 1917 г. у Мінску, працаваў

сакратаром губернскай харчовай камісіі. Прымаў актыўны ўдзел у дзейнасці Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны. 3 лютага 1917 г. у сувязі з абвастрэннем цяжкай хваробы жыў у Ялце, дзе і памёр 12.5. 1917 г.

Цікавасць да мастацкай творчасці ў М. А. Багдановіча выявілася ў гады вучобы ў Ніжагародскай гімназіі (1902—08 гг.). Гэтаму спрыялі знаёмства з узорамі рускай класічнай літаратуры і народным эпасам, заняткі этнаграфіяй. Вырашальны ўплыў на фарміраванне грамадска-літаратурнай дзейнасці і эстэтычных поглядаў М. Багдановіча зрабіла рэвалюцыйна-дэмакратычная літаратура, ідэі барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне народа. Першы твор — алегарычнае апавяданне «Музыка» — надрукаваны ў 1907 г. у газеце «Наша ніва». У 1913 г. выйшаў вершаваны зборнік «Вянок». Раннія вершы паэта (1908—10 гг.) прасякнуты гуманістычнымі матывамі, смуткам і трывогай за лёс роднага краю («Мае песні», «З песняў беларускага мужыка», «Над магілай мужыка», «Дождж у полі і холад» і інш.). Пазней у паэзіі М. А. Багдановіча ўзмацняецца сацыяльна-філасофская і патрыятычная праблематыка. Мінорныя тоны змяняюцца матывамі сацыяльнага пратэсту, верай у духоўныя сілы беларускага народа («Рушымся, брацця, хутчэй», «Беларусь, твой народ дачакаецца», «Пагоня», «Мяжы», «Эміграпцкая песня», паэмы «Максім і Магдалена», «Страцім-лебедзь» і інш.).

М. А. Багдановіч адзін з актыўных прадстаўнікоў малодшага пакалення беларускіх рэвалюцыйна-дэмакратычных пісьменнікаў, паслядоўнікаў Я. Купалы і Я. Коласа. Гармоніяй пачуцця, думкі і музыкі вызначаюцца творы пейзажнай і інтымнай лірыкі («Возера», «Перад паводкай», «Я, бальны, бесскрылдаты паэт», «Мне доўгае расстанне з вамі»). Патрыятызмам, сцвярджэннем ідэі беражлівых адносін і павагі да самабытнай культурнай спадчыны беларускага народа прасякнуты вершы «Перапісчык», «Кніга», «Слуцкія ткачыхі». Распрацоўваў гістарычную тэму (вершы «Летапісец», «Безнадзейнасць», «Песня пра князя Ізяслава Полацкага»). Паэт зрабіў уклад у развіццё форм беларускага верша (трыялеты, пентаметры, рандо, тэрцыны, санеты, актавы, скерца). Узбагачэнню беларускай паэзіі і культуры паслужылі пераклады М. Багдановіча (з арыгіналаў) антычных аўтараў (Гарацыя, Авідзія), вершаў Ф. Шылера, Г. Гейнэ, П. Верлена, Э. Верхарна, А. Пушкіна, А. Майкава і інш. На рускую мову перакладаў творы Я. Купалы, Т. Шаўчэнкі, І. Франка і інш. Аўтар прац па праблемах рэалізму і народнасці беларускай літаратуры, яе гісторыі, эстэтыкі («Глыбы і слаі», 1911 г., «За тры гады», 1913 г., «Забыты шлях», 1915 г., і інш.). Даследаваў літаратуру і гісторыю славянскіх народаў (артыкулы пра Т. Шаўчэнку, М. Ламаносава, А. Пушкіна, М. Лермантава, гісторыка-этнаграфічныя нарысы «Украінскае казацтва», «Галіцкая Русь», «Браты-чэхі» і інш.).

Сведчанне грамадзянскай сталасці паэта-дэмакрата яго адмоўнае стаўленне да грабежніцкай імперыялістычнай вайны, адкрытыя выступленні супраць шавінізму («За газетай», «Цёмнай ноччу лучына дагарала», «Як Базыль у паходзе канаў» і інш.). Вершы антываеннай тэмы гучаць заклікам да сацыяльнай барацьбы, прасякнуты ідэяй гуманізму і братэрства народаў. Творчасць М. Багдановіча спрыяла ўзбагачэнню культурнай спадчыны беларускага народа. Лепшыя творы паэта перакладзены ў нашай краіне і за мяжой. Некаторыя з лірычных вершаў бытуюць як народныя песні («Зорка Венера», «Слуцкія ткачыхі»), многія пакладзены на музыку кампазітарамі А. Туранковым, М. Аладавым, А. Багатыровым і інш. На лібрэта А. Бачылы кампазітар Ю. Семяняка напісаў оперу «Зорка Венера» (пастаўлена ў 1970 г.). У 1927—28 гг. выдадзены Творы М. Багдановіча ў 2 тамах.

Імем паэта названы вуліцы ў Мінску і Гродне, у Місхоры (Крым) пастаўлены помнік (скульпт. З. Азгур), у в. Ракуцёўшчына Маладзечанскага р-на, дзе летам 1911 г. жыў паэт, пастаўлены помнік і пасаджаны мемарыяльны «Максімаў сад». У Мінску імя паэта прысвоена гарадской бібліятэцы № 8, сярэдняй школе № 40, на доме № 25 па вул. М. Горкага ў 1981 г. устаноўлена мемарыяльная дошка. Створаны літаратурны музей М. Багдановіча (філіял у доме № 3 па вул. Рабкораўскай).

Помнік (скульпт. С. Вакар, архіт. Ю. Казакоў, Л. Маскалевіч; бронза, чырвоны граніт; вышыня фігуры 4,6 м, пастамента 0,6 м) адкрыты 9.12.1981 г. у дзень 90-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча. Скульптура ўстаноўлена на нізкім ступеньчатым пастаменце, арыентавана на вул. Я. Купалы. Паэт паказаны са скрыжаванымі на грудзях рукамі, з букетам васількоў у правай руцэ. У ракурсе фігуры, задумлівым, скіраваным удалячынь поглядзе адлюстравана сыноўняя любоў да роднай беларускай зямлі.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1969; Шлях паэта: Зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча.— Мн., 1975; Грынчык М. Максім Багдановіч і народная паэзія.— Мн., 1963.

*Л. Г. Лапцэвіч, В. М. Удальцоў.*

**вул. Пашкевіч**

**258. ДЗЯРЖАЎНЫ АКАДЭМІЧНЫ ВЯЛІКІ ТЭАТР ОПЕРЫ І БАЛЕТА БССР** (архіт., гіст.). Пл. Парыжскай камуны. Дом № 1. Будынак тэатра ўзведзены ў 1935—37 гг. паводле праекта архіт. І. Лангбарда на ўзвышшы (былая Троіцкая гара). Адкрыты ў 1939 г. Значна пашкоджаны ў Вялікую Айчынную вайну. Адноўлены і рэканструяваны ў 1944—48 гг. (пад кіраўніцтвам аўтара праекта перароблены глядзельная зала, афармленне інтэр'ераў), у 1964—67 гг. тэхнічна пераабсталяваны, у 1977—81 гг. значна



258. *Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР.*



258. *Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР. Інтэр'ер фае 2-га паверха.*

зменены інтэр'ер. Знешні выгляд будынка амаль поўнасцю захаваны.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка створана па прынцыпе ярусаў. Сцены рытмічна чляпёны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі, што надае збудаванню цэласны характар і маштабнасць. Глядзельная частка ўяўляе сабой пастаўленыя адзін над адным 3 цыліндрычныя аб'ёмы рознага дыяметра і вышыні, накрыта шатровым дахам, вылучана 7 уваходнымі квадратнымі ў плане порцікамі. Сцены ніжняга аб'ёму і калоны порцікаў апрацаваны рустам. Развітая сцэнічная каробка і дапаможныя памяшканні прыбудаваны ў выглядзе высокага прамавугольнага ў плане і выступаючых па баках больш нізкіх кубічных аб'ёмаў, накрыты вальмавым дахам.

Ядро тэатра спачатку ўтварала глядзельная зала на 1500 месцаў, вырашаная амфітэатрам з балконам, якую паўкальцом абкружалі на 1-м паверсе вестыбюль з гардэробамі, на 2-м — прасторнае фае. Пасля аднаўлення і рэканструкцыі глядзельная зала зроблена па традыцыйнай яруснай схеме на 1200 месцаў у партэры і ў 3 неглыбокіх ярусах (бенуар, бельэтаж, балкон). Гардэробы, фае і кулуары тэатра прасторныя, светлыя. У іх афармленні, а таксама ва ўпрыгожанні глядзельнай залы выкарыстаны скульптура і мастацкія ляпныя дэталі. Асабліва багата дэкарыраваны партал сцэны (скульпт. А. Бембель). Заслона выканана ў тэхніцы габелена (маст. А. Кішчанка). Фае ўпрыгожана габеленамі на тэму гісторыі і культуры Беларусі. Закулісная частка прамавугольная ў плане з аб'ёмамі па вуглах. Тут знаходзяцца адміністрацыйна-гаспадарчыя службы, сталовая, медпункт, грымёрныя, пакоі адпачынку, балетныя класы, памяшканні вытворчага камбіната.

Будынак тэатра оперы і балета — прыклад відовішчна-грамадскіх збудаванняў. Адыгрывае значную ролю ў фарміраванні шматпланавай горадабудаўнічай кампазіцыі на скрыжаванні Ленінскага праспекта і водна-зялёнага дыяметра ўздоўж р. Свіслач. Да галоўнага ўваходу сыходзяцца 3 алеі з газонамі.

Тэатр створаны на базе Беларускай студыі оперы і балета (існавала з 1930 г.). Адкрыўся ў Мінску 23.5. 1933 г. спектаклем «Кармэн» Ж. Бізэ, у якім галоўную партыю выканала Л. Александроўская. У 1940 г. узнагароджаны ордэнам Леніна і названы Вялікім, у 1964 г. нададзена наймене акадэмічнага. У тэатры ў розны час працавалі: дырыжоры — заслужаныя дзеячы мастацтваў БССР І. Абраміс, І. Гітгарц, Н. Грубін, М. Шнэйдэрман, народны артыст БССР Л. Любімаў, народны артыст УССР У. Пірадаў; рэжысёры — В. Барысевіч, заслужаны артыст БССР П. Златагораў, заслужаны артыст РСФСР І. Шляпянаў, народныя артысты СССР Л. Александроўская, Б. Пакроўскі; народны артыст СССР Дз. Смоліч, заслужаны артыст РСФСР Б. Мардвінаў, заслужаныя артысты БССР У. Шахрай, А. Маралёў, Ю. Ужанцаў, балетмайстры — Л. Крамарэўскі, народны артыст СССР А. Ермалаеў, заслужаны артыст БССР К. Галяйзоўскі, заслужаны артыст РСФСР В. Вайнанен, народны артыст БССР С. Дрэчын, заслужаныя дзеячы мастацтваў БССР і заслужаныя артысты РСФСР А. Андрэеў, А. Дадышкіліяні; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР К. Мулер; мастакі — народныя мастакі БССР С. Нікалаеў, Я. Чамадураў, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР П. Масленікаў; канцэртмайстар — народны артыст БССР



258. *Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР. Інтэр'ер фае 1-га паверха.*



258. *Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР. Інтэр'ер глядзельнай залы.*

С. Талкачоў, хормайстар — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Г. Пятроў; артысты аркестра — заслужаныя артысты БССР В. Браянкоў, У. Буткевіч, К. Бянеўскі, А. Грачоў, П. Дзянісаў, П. Крук, Г. Храмушын; спевакі — народныя артысты СССР Л. Александроўская, М. Ворвулеў, С. Данілюк, К. Кудрашова, Т. Ніжнікава, Н. Ткачэнка, народныя артысты БССР Л. Аляксеева, А. Арсенка, З. Бабій, І. Балоцін, Л. Бражнік, В. Валчанецкая, Л. Галушкіна, А. Генералаў, В. Глушакоў, М. Дзянісаў, С. Друкер, П. Засецкі, М. Зюванаў, В. Малькова, Р. Млодак, І. Сайкоў, М. Сярдобаў, Т. Шымко, заслужаныя артысты БССР Р. Асіпенка, В. Бруй-Шуляк, Л. Ганестава, В. Ганчарэнка, В. Глазаў, Н. Гусельнікава, А. Дзедзік, П. Дружына, М. Зданевіч, У. Іваноўскі, В. Каліноўскі, В. Кірычэнка, М. Лазараў, В. Лапін, Г. Лебедзева, І. Мурамцаў, Н. Нікеева, Б. Нікольскі, А. Рудкоўскі, К. Старыкава, А. Сухін, Г. Цэпава, Р. Яўраеў; салісты балета — народныя артысты БССР З. Васільева, Н. Давыдзенка, В. Давыдаў, С. Дрэчын, А. Карзянкова, В. Крыкава, К. Малышава, В. Міронаў, А. Нікалаева, Л. Ражанава, І. Савельева, В. Саркісьян, Н. Шэхаў, заслужаныя артысты БССР Я. Глінскіх, І. Дзідзічэнка, Т. Караваева, Б. Карпілава, Р. Красоўская, Н. Красоўскі, Н. Младзінская, Я. Паўловіч, С. Пясцехін, М. Пятрова, Л. Чахоўскі і інш. У складзе трупы (на 1988 г.) спевакі — народны артыст СССР А. Саўчанка, народныя артысты БССР Л. Златава, Я. Пятроў, І. Сарокін, В. Чарнабаеў, І. Шыкунова, заслужаныя артысты БССР Ю. Бастрыкаў, М. Галкоўскі, М. Гулегіна, В. Гур'еў, М. Дружына, Н. Казлова, Л. Колас, В. Скарабагатаў, У. Экнадыёсаў, народны артыст РСФСР Э. Пелагейчанка, заслужаны артыст РСФСР М. Майсеенка; салісты балета — народныя артысты БССР Л. Бржазоўская, У. Камкоў, Н. Паўлава, Ю. Траян, заслужа-

ныя артысты БССР І. Душкевіч, У. Іваноў, Т. Яршова; канцэртмайстар — заслужаная артыстка БССР Н. Ражнова; артысты аркестра — народны артыст БССР Л. Гарэлік; артысты хору — заслужаныя артысты БССР Г. Пятровіч, А. Самарадаў. Галоўны дырыжор — народны артыст РСФСР Г. Праватораў; дырыжоры — народны артыст СССР Я. Вашчак, народная артыстка БССР Т. Каламійцава, заслужаныя дзеячы мастацтваў БССР М. Калядка, Л. Лях, У. Машэнскі; галоўны рэжысёр В. Цюпа, рэжысёры — народны артыст БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР С. Штэйн, М. Ізворска-Елізар'ева; галоўны балетмайстар — народны артыст СССР В. Елізар'еў, балетмайстар-рэпетытар — заслужаны артыст БССР А. Смалянскі; галоўны хормайстар — народны артыст БССР А. Кагадзееў, хормайстры — Н. Ламановіч, Г. Луцэвіч; галоўны мастак Э. Гейдэбрэхт.

*Літ.:* Смольский Б. С. Белорусский музыкальный театр.— Мн., 1963; Кулешова Г. Г. Белорусская советская опера.— Мн., 1967; Воинов А. А., И. Г. Лангбард.— Мн., 1976; яго ж. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Тэатр оперы і балета БССР=Театр оперы и балета БССР.— Мн., 1984.

*Г. Р. Куляшова, А. А. Міцянін.*

**пл. Перамогі**

**259. ЗАБУДОВА ПЛОШЧЫ ПЕРАМОГІ** (архіт., маст.). Плошча Перамогі знаходзіцца на Ленінскім праспекце паміж вуліцамі Захарава, Камуністычнай, Кісялёва і Фрунзе. Да 1954 г. Круглая плошча. Ансамбль плошчы пачаў фарміравацца ў 1939 г. з узвядзення паводле генеральнага плана Мінска 1932—36 гг. (архіт. Ю. Кілаватаў, кансультант У. Вітман) 2 дугападобных у плане жылых будынкаў (Ленінскі праспект, № 37, 40). Далейшае развіццё забудова атрымала ў пасляваенныя гады (генеральны план 1946 г.; архіт. М. Андросаў, Н. Трахтэнберг і інш.; дэталёвы праект планіроўкі і забудовы 1950 г.; архіт. М. Баршч, Л. і Г. Арапаўскасы, карэкціроўка Г. Заборскага і Л. Мацкевіча). Работы па рэканструкцыі і забудове плошчы вяліся ў 1951—56 гг.

Плошча ў плане мае форму прамавугольніка (225×175 м), паўночна-ўсходні бок якога завершаны паўкружжам. Прасторава плошча падзяляецца на дзве зоны — авальную (да рэканструкцыі круглая) у цэнтры з манументам Перамогі, які з'яўляецца ідэйна-мастацкім і кампазіцыйным акцэнтам плошчы, і прамавугольную, афармленую 5-павярховымі жылымі дамамі і скверамі партэрнага тыпу. У тарцовай частцы аванплошчы размяшчаецца Дом-музей I з'езда РСДРП, мост цераз р. Свіслач (пабудаваны ў 1951—53 гг., архіт. М. Паруснікаў, Г. Баданаў), з боку вуліцы Фрунзе да плошчы прымыкае Цэнтральны дзіцячы парк імя М. Горкага. Пабудавана станцыя метрапалітэна.



**259а.** *Манумент Перамогі. Гарэльеф «9 мая 1945 г.».*



**259б.** *Жылы дом № 36 на Ленінскім праспекце.*

Ансамбль плошчы Перамогі адыгрывае важную ролю ў кампазіцыі галоўнай магістралі горада Ленінскага праспекта.

**259а. Манумент Перамогі.**

На перакрыжаванні Ленінскага праспекта і вуліцы Захарава. Кампазіцыйна завяршае ансамбль пл. Перамогі і з'яўляецца яе вышыннай дамінантай, замыкае перспектыву вуліц, якія праменнямі сыходзяцца да яго. Паўкружныя фасады дамоў, што агінаюць плошчу з паўночна-ўсходняга боку, утвараюць своеасаблівае абрамленне помніка. Манумент устаноўлены ў 1954 г. (архіт. Г. Заборскі, У. Кароль; шэры граніт, чорны лабрадарыт, бронза, смальта; вышыня 40 м) у гонар перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй і на ўшанаванне памяці воінаў Савецкай Арміі і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Вырашаны ў форме велічнага, абліцаванага шэрым гранітам абеліска (вышыня каля 40 м), увенчанага выявай ордэна «Перамога» (бронза, смальта). Грані абеліска рытмічна расчлянёны вузкімі і завершаны шырокай палосамі, якія нагадваюць беларускі арнамент. 4 грані пастамента афармлены бронзавымі гарэльефамі: «9 мая 1945 г.» (скульпт. А. Бембель), «Савецкая Армія ў гады Вялікай Айчыннай вайны» (С. Селіханаў), «Слава загінуўшым героям» (З. Азгур), «Партызаны Беларусі» (А. Глебаў). Паслядоўным чаргаваннем рэльефаў, лаканічнымі пластычнымі сродкамі эмацыянальна перададзены кульмінацыйныя моманты барацьбы савецкага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, горыч страт, радасць перамогі. Шматфігурныя кампазіцыі выкананы ў рэалістычнай манеры, з дэталёвай прапрацоўкай рэльефных выяў.

Абеліск пастаўлены на гранёны расшыраны ўнізе стылабат (чорны лабрадарыт), на якім выява бронзавага мяча, абвітага лаўровай галінкай (скульпт. С. Салтыкоў). Уся кампазіцыя размешчана на шырокім васьміграннымі ступеньчатым подыуме, 4 грані якога прарэзаны кубічнымі стылабатамі (чорны лабрадарыт) з




**259б.** *Жылы дом № 36 на Ленінскім праспекце. План 1-га паверха.*



259. *Плошча Перамогі.*

4 бронзавымі лаўровымі вянкамі на іх (скульпт. С. Адашкевіч). Перад манументам 3.7.1961 г. запалены Вечны агонь, нясуць ганаровую варту піянеры і камсамольцы.

Першапачаткова манумент быў размешчаны на круглай у плане плошчы. У 1984 г., у сувязі з увядзеннем у дзеянне Мінскага метрапалітэна, плошча перад помнікам перапланавана (вырашана ў 2 узроўнях; архіт. Б. Ларчанка, Б. Школьнікаў, К. Вязгін). Пад зямлёю аснова манумента абкружана кальцавой абходнай галерэяй, звязанай са станцыяй метрапалітэна. Галерэя пераходзіць у круглую мемарыяльную залу, прысвечаную памяці герояў, загінуўшых у Вялікую Айчынную вайну. У цэнтры яе вянок, выкананы з мастацкага шкла з падсветкай знутры (маст. В. Позняк),— сімвал Вечнага агню памяці. На сцяне бронзавыя выява Зоркі Героя Савецкага Саюза і пласціны з імёнамі 566 ураджэнцаў Беларускай ССР і інш. саюзных рэспублік, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза. Гранітныя лесвіцы вядуць з залы на плошчу. Сіметрычныя лесвічныя выхады афармлены масіўнымі гранітнымі блокамі. На іх верхніх пакатых гранях — выкананыя ў бронзе выявы прыспушчаных сцягоў (скульпт. М. Рыжанкоў). Ад выхадаў да манумента вядуць ланцужкі невялікіх гранітных блокаў (па 6 з кожнага боку) з надпісамі-прысвячэннямі гарадам-героям Маскве, Ленінграду, Валгаграду, Адэсе, Севастопалю, Кіеву, Наварасійску, Керчы, Туле, Брэсцкай крэпасці-герою, Смаленску, Мурманску і выявамі ўзнагарод. Пляцоўка, на якой размешчаны помнік, упрыгожана кветкамі і пасадкамі елкі.

Манумент Перамогі вызначаецца высокім грамадзянскім пафасам, глыбокім ідэйным зместам, выразнасцю вобразнага вырашэння, дасканаласцю прапорцый і сілуэта. Яго выява стала эмблемай горада-героя Мінска.

**259б. Жылыя дамы № 31, 33, 35 і 34, 36, 38.** Размешчаны сіметрычна восі праспекта па баках аванплошчы. Пабудаваны ў 1951—56 гг. паводле праекта архіт. М. Баршча і Л. і Г. Аранаўскасаў. Уяўляюць сабой 2 адналькавыя групы з трох 5-павярховых будынкаў. Фронт забудовы кожнай групы з'яўляецца самастойнай сіметрычнай кампазіцыяй. Сярэдні дом кожнай



259б. *Жылы дом № 38 на Ленінскім праспекце. План 1-га паверха.*

з груп прамавугольны ў плане з цэнтральным рызалітам, які акцэнтуе вось сіметрыі ўсёй франтальнай кампазіцыі. Верхні ярус рызаліта вырашаны ў выглядзе 4-калоннага порціка. Сярэднія дамы фланкіраваны Г-падобнымі ў плане будынкамі, якія завершаны невысокімі вуглавымі вежачкамі з увагнутымі шатровымі дахамі, пінаклямі. Група дамоў з паўднёвага цотнага боку аб'яднана каланадамі дарычнага ордэра, якія прасторава звязаны з каланадай галоўнага ўвахода ў парк імя М. Горкага (1954 г., архіт. Г. Заборскі). Паміж дамамі № 31, 33, 35 чыгунныя рашоткі. Сцены фасадаў усіх дамоў падзелены паміж 3-м і 4-м паверхамі шырокім міжпаверхавым поясам на 2 ярусы і завершаны балюстрадай. Пластыку фасадаў дамоў узбагачаюць лоджыі і балконы. Прасценкі ў верхнім ярусе дэкарыраваны рэльефнымі кампазіцыямі з картушаў, гірляндаў, медальёнаў. Буйное 2-ярускае чляненне фасадаў, увядзенне каланады надаюць забудове манументальны характар. У аснове планіровачнай структуры 4-кватэрная секцыя з трох 2-пакаёвых і адной 3-пакаёвай кватэр.




259в. *Жылы дом № 37 на Ленінскім праспекце.*



259в. *Жылы дом № 40 на Ленінскім праспекце.*

**259в. Жылыя дамы № 37 і 40.** Размешчаны сіметрычна восі праспекта па дузе круглай часткі плошчы. Будаўніцтва пачата ў 1939 г. па праекту архіт. Р. Столера, перапынена вайной і закончана ў 1947 г. (архіт. М. Бакланаў). Аднатыпныя 5-павярховыя дугападобныя ў плане будынкі з бакавымі крыламі, якія разыходзяцца ў напрамку праспекта і вуліцы Захарава. У доме № 37 — 115 кватэр, у доме № 40 — 127. На першых высокіх паверхах размешчаны магазіны і кафэ. Фасадныя плоскасці падзелены на 2 ярусы шырокімі паясамі, якія праходзяць паміж 1-м і 2-м паверхамі. Ніжні ярус трактаваны больш масіўна, верхні (чатыры паверхі) падзелены раўнамернымі радамі прамавугольных акон і расчлянёны па вертыкалі двайнымі лоджыямі. У доме № 37 вертыкальны рытм чляненняў падкрэслены выступамі эркераў, у доме № 40 — развітымі ліштвамі. Фасады вырашаны цэласна і адпавядаюць манументальнаму характару забудовы плошчы. Дом № 37 завершаны глухім парапетам, сцены будынка № 40 — балюстрадай. Аконныя праёмы і лоджыі ўпрыгожаны сандрыкамі і франтончыкамі. Пластыку фасадаў узбагачаюць калоны і паўкалоны ў лоджыях, пілястры. У аснову планіровачнай структуры дамоў пакладзена 4-кватэрная секцыя, распрацаваная ў Акадэміі архітэктуры (архіт. П. Блахін і А. Зальцман). Секцыя мае 3 двухпакаёвыя і адну трохпакаёвую кватэры. Для дамоў была распрацавана 3-кватэрная паваротная секцыя (на месцы выгінаў).

Дамы 37 і 40 з'яўляюцца важнымі элементамі аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі плошчы, прыкладам ансамблевай арганізацыі жылой забудовы.

*У. В. Алісейчык, Т. В. Габрусь, Л. Г. Лапцэвіч.*




260. *Помнік С. М. Кіраву.*

**вул. Першамайская**

**260. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). Каля будынка Музея працоўнай і баявой славы Мінскага станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1981 г.

**вул. Пінская**

**261. ПОМНІК ГАСТЭЛУ** Мікалаю Францавічу (гіст.). Перад будынкам



261. *Помнік М. Ф. Гастэлу.*




263. *Ансамбль будынкаў на Прывакзальнай плошчы. Жылыя дамы.*

навукова-вытворчага аб'яднання сродкаў механізацыі і тэхаснасткі «Прагрэс».

Герой Савецкага Саюза М. Ф. Гастэла нарадзіўся 23.4.1907 г. у Маскве ў сям'і рабочага. Бацька — ураджэнец в. Плужыны Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл. Член КПСС з 1928 г. З 1923 г. працаваў вагранщчыкам у майстэрнях Маскоўска-Казанскай чыгункі, слесарам на заводах у Мураме і Маскве. У Чырвонай Арміі з 1932 г. У 1933 г. скончыў Луганскую школу ваенных лётчыкаў. Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну камандзір эскадрыллі 207-га авіяпалка 42-й бамбардзіровачнай авіядывізіі, капітан. Першы варожы самалёт падбіў 24.6. 1941 г. У час бамбардзіроўкі 26.6. 1941 г. танкавай калоны праціўніка на дарозе Маладзечна — Радашковічы з членамі экіпажа лейтэнантамі штурманам А. А. Бурдзенюком, стралком Р. М. Скарабагатым і стралком-радыстам старшым сяржантам А. А. Калініным накіраваў ахоплены полымем самалёт на вялікую колькасць варожых танкаў, аўтамашын, бензацыстэрнаў, нанёс ворагу значныя страты. Званне Героя Савецкага Саюза М. Ф. Гастэлу прысвоена 26.7.1941 г. Члены экіпажа ўзнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны І ступені. У Вялікую Айчынную вайну подзвіг М. Ф. Гастэлы паўтарылі больш за 500 экіпажаў савецкіх лётчыкаў. Яго імя навечна занесена ў спісы авіяпалка. Помнікі М. Ф. Гастэлу пастаўлены на тэрыторыі Варашылаўградскага вышэйшага авіяцыйнага вучылішча штурманаў, у г. п. Радашковічы, на радзіме бацькі. Яго імя прысвоена калгасам, саўгасам, заводам, фабрыкам, гарадскім пасёлкам, яго імем названы вуліцы, шахта, цеплаход, акіянскае судна, сухагруз. Помнік-мемарыял экіпажу ўзведзены на месцы геройчнага подзвігу на шашы Мінск — Вільнюс.

У 1980 г. установлены бюст М. Ф. Гастэлы. *В. М. Барадуліна.*

**завулак Пірагова 1-ы**

**262. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). У канцы завулка, каля чыгункі. Воін Чырвонай Арміі загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пл. Прывакзальная**

**263. ЗАБУДОВА ПРЫВАКЗАЛЬНАЙ ПЛОШЧЫ** (архіт.). Сучасны ансамбль плошчы сфарміраваны ў 1948—56 гг. (архіт. Б. Рубаненка, Л. Галубоўскі,




264. *Мемарыяльная дошка М. І. Калініну.*

А. Карабельнікаў, Л. Усава, В. Герашчанка).

Асноўную ролю ў арганізацыі прасторы архітэктурнага ансамбля адыгрывае буйны па маштабу будынак чыгуначнага вакзала. Абапал — будынкі білетных кас (1955 г., архіт. С. Баткоўскі, Н. Шпігельман) і аўтавакзала. 2 пяціпавярховыя жылыя дамы з 11-павярховымі вежамі (вул. Кірава, 1, 2) фарміруюць панараму паўночнага боку плошчы. Вежы з'яўляюцца вертыкальнымі дамінантамі (так званыя «вароты горада») і адыгрываюць важную ролю ў сілуэце горада.

**263а. Чыгуначны вакзал.** Спачатку драўляныя павільёны (збудаваны ў 1871—79 гг.) Лібава-Роменскай чыгункі; да 1928 г. называўся Віленскім. У 1890-я гады на месцы драўляных пастаўлены мураваны будынак, які ў 1940 г. быў рэканструяваны (архіт. І. Рачанік). У Вялікую Айчынную вайну спалены, у 1949 г. адноўлены.

Будынак двухпавярховы, сіметрычны, выцягнуты па папярочнай восі. Складаецца з цэнтральнага кубападобнага аб'ёму і бакавых больш нізкіх крылаў, вуглавыя часткі якіх вылучаны рызалітамі і атыкамі. Фасады расчлянёны пілястрамі карынфскага ордэра, па верху сцен праходзіць антаблемент. Галоўны фасад у цэнтры мае вялікі арачны праём, завершаны трохвугольным франтонам. Перонны фасад цэнтральнага аб'ёму афармлены чатырохслупавым порцікам. Вокны 1-га паверха арачныя і лучковыя, 2-га — прамавугольныя, здвоеныя, падзелены прасценкамі і паўкалонамі. У цэнтральным аб'ёме знаходзяцца звязаныя двухмаршавай лесвіцай вестыбюлі. На 1-м паверсе размешчаны зала чакання, службовыя памяшканні, на 2-м — зала для транзітных пасажыраў, пакой для маці і дзіцяці, рэстаран, памяшканні адміністрацыі. На будынку ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі У. І. Леніну, М. І. Калініну і падпольшчыкам.

**263б. Жылыя дамы** (вул. Кірава, № 1, 2). Узведзены ў 1947—52 гг. (архіт. Б. Рубаненка).

Дамы выкананы па аднолькавай архітэктурна-планіровачнай схеме. Дом № 1 разлічаны на 106 кватэр, дом № 2 — на 129. На першых паверхах размешчаны магазіны, кафэ, паліклініка, аптэка, дзіцячая дашкольная ўстанова, прадпрыемствы бытавога абслугоўвання. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя кожнага з дамоў складаецца з падоўжанага пяціпавярховага крыла і адзінаццаціпавярховай вуглавой вежы. Фасады крылаў маюць на ўзроўні 4-га паверха стужку балконаў, шэраг магутных пілонаў і 2 праезныя аркі ва ўнутрыквартальныя двары. 1-ы паверх вежаў вылучаны вялікімі арачнымі аконнымі праёмамі. Будынак упрыгожаны арнаментальнымі рэльефамі, картушамі, па вуглах пінаклямі. Вежы будынкаў (адна з гадзіннікам) маюць двух'ярусную форму. Іх рытміку ствараюць лоджыі, разнастайныя аконныя праёмы, пілястры.

Архітэктурны ансамбль Прывакзальнай пл.— помнік савецкага горадабудаўніцтва пасляваеннага часу.

*Літ.:* Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии.— Мн., 1957; Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954. *У. М. Алісейчык.*

**264. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1981 г. у памяць аб выступленні М. І. Калініна перад працоўнымі Мінска.

У Грамадзянскую вайну старшыня ВЦВК М. І. Калінін узначальваў (красавік 1919 г.— лістапад 1920 г.) агітацыйны поезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя». 20.6.1919 г. поезд прыбыў у сталіцу Беларусі — Мінск. На Прывакзальнай пл. адбыўся шматтысячны мітынг жыхароў горада, на якім з прамовай выступіў М. І. Калінін. Ён заклікаў працоўных Мінска ўзмацніць барацьбу з рэшткамі контррэвалюцыі, умацоўваць Савецкую ўладу.




265. *Мемарыяльная дошка У. І. Леніну.*

*Літ.:* М. И. Калинин в Белоруссии.— Мн., 1973; Яцкевич И. В. Всесоюзный староста на белорусской земле.— Мн., 1975. *Г. М. Новікава.*

**265. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1987 г. (скульпт. Л. Гумілеўскі, архіт. Б. Сідарэнка) на ўшанаванне памяці У. І. Леніна, які ў верасні 1895 г. і ў ліпені 1900 г. праязджаў чыгуначную станцыю Мінск.

**266. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1961 г. у памяць аб баявой дзейнасці груп Мінскага камуністычнага падполля, якія дзейнічалі на Мінскім чыгуначным вузле ў Вялікую Айчынную вайну пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. Ініцыятарамі падпольнай барацьбы на чыгуначным вузле былі машыністы, рабочыя і майстры пуцявой і станцыйнай гаспадаркі, паравознага і вагоннага дэпо, інжынерна-тэхнічныя работнікі, сярод іх А. Дз. Балашоў, Ф. К. Жывалёў, І. І. Івашчонак, А. І. Карсека, Ю. Ю. Крыжавец, Ф. С. Кузняцоў, К. А. Паўлечка, А. І. Плавінская, П. І. Чыркун, М. Ф. Шкляраўскі і інш. У ліпені — жніўні 1941 г. на чыгуначным вузле ўзніклі першыя падпольныя групы, якія потым аб'ядналіся ў падпольную арганізацыю. Яе ядро складалі камуністы, што стварылі падпольную партыйную арганізацыю на чале з былым начальнікам дэпо Ф. С. Кузняцовым. Падпольная партыйная арганізацыя ахапіла сваім уплывам усе важнейшыя службы чыгуначнага вузла (паравознае дэпо, пасажырскую

і таварную станцыі, вадакачкі і інш.), стварала там баявыя дыверсійныя групы. У 1941—44 гг. пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б на чыгуначным вузле ў розны час дзейнічала каля 30 падпольных груп, якія аб'ядноўвалі каля 220 патрыётаў, чацвёртую частку з іх складалі камуністы і камсамольцы. Падпольшчыкі вялі палітычную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро і лістоўкі, дастаўлялі з Мінска ў Баранавічы, Барысаў і Оршу і іншыя населеныя пункты Беларусі падпольную газету «Звязда», лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, памагалі ваеннапалонным уцячы з лагераў, наладжвалі сувязь з партызанскімі фарміраваннямі, здабывалі зброю і боепрыпасы. Патрыёты выводзілі са строю пуці, памагалі партызанам знішчаць варожыя эшалоны, зрывалі рамонтныя работы, водазабеспячэнне, перавозкі жывой сілы і тэхнікі праціўніка. У снежні 1941 г. група патрыётаў на чале з камуністам Ф. К. Жывалёвым на чыгуначным вузле вывела са строю 2 вадакачкі і водаправодную сетку вузла ў радыусе 3 км. Больш як на 10 дзён работа вузла была паралізавана, спынены рух эшалонаў праціўніка на фронт. У красавіку 1943 г. члены падпольнай групы В. Д. Шацько ўстанавілі міны на эшалон з бензінам, які ўзарваўся паміж станцыямі Талька — Верайцы. Рух паяздоў быў спынены на 18 гадзін. У маі 1943 г. члены той жа групы замініравалі эшалон з авіябомбамі, які ўзарваўся на ст. Рудзенск. У выніку быў знішчаны гэты састаў, а таксама эшалон з гаручым, які стаяў побач, пашкоджана чыгуначнае палатно і станцыйныя будынкі. У чэрвені 1943 г. замініраваны падпольшчыкамі групы А. А. Даўгалёва эшалон з снарадамі узарваўся на станцыі Калодзішчы, было знішчана 8 вагонаў. У 2-й палавіне 1943 г. на Мінскім чыгуначным вузле зроблена больш за 50 буйных дыверсій, у выніку выведзены са строю дзесяткі паравозаў і сотні вагонаў, знішчана шмат жывой сілы і тэхнікі праціўніка, боепрыпасаў.

У верасні 1943 г. падпольшчыкі групы У. І. Сянько ўзарвалі эшалон праціўніка на ст. Мінск-Таварны, у выніку было знішчана 18 платформ з гаручым, 15 вагонаў. 3 лістапада 1943 г. У. І. і К. І. Сянько замініравалі эшалон з жывой сілай і тэхнікай ворага, які ўзарваўся ў ваколіцы ст. Седча, знішчаны 4 вагоны. Члены падпольнай групы Н. Н. Афанасьева і С. Э. Эрдмана на ст. Мінск і за горадам падарвалі 6 вагонаў з боепрыпасамі і 10 цыстэрнаў з бензінам, пашкодзілі 2 паравозы, 100 м чыгуначнага палатна. Шэраг буйных дыверсій правялі падпольшчыкі Мінскага чыгуначнага вузла і ў 1944 г. У пачатку студзеня 1944 г. яны ўзарвалі 2




266. *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*

цыстэрны і спалілі 50 тон бензіну. 10.1.1944 г. пуцявы абходчык Т. Ф. Андрэеў заміраваў на ст. Мінск эшалон, ад узрыву якога было знішчана і паранена 25 гітлераўцаў. Кіраўнік падпольнай групы машыніст І. Ц. Чарнуха пусціў пад адхон эшалон з ваеннай тэхнікай на ўчастку Рудзенск — Дрычын. На ст. Барысаў ён замініраваў паравоз эшалона з жывой сілай, які ўзарваўся ў час руху. У пачатку мая 1944 г. каля ст. Ратамка падпольшчыкі падарвалі аўтадрызіну, знішчылі 12 фашыстаў. 5.5.1944 г. на перагоне Мінск — Стоўбцы яны ўзарвалі 4 вагоны з жывой сілай праціўніка, у выніку забіта і паранена 87 гітлераўцаў. Значнае месца ў дзейнасці падпольшчыкаў чыгуначнага вузла займаў збор разведданых аб праціўніку. Для Чырвонай Арміі і партызан яны здабывалі звесткі пра колькасць эшалонаў ворага, што ішлі на фронт, пра ахову на станцыях і перагонах, выяўлялі месцы канцэнтрацыі жывой сілы і тэхнікі, наяўнасць бронепаяздоў, рамонтных паяздоў і інш. Асабліва паспяхова вялі разведку падпольныя групы пад кіраўніцтвам І. Х. Пагодзіна (Маркава) і Н. П. Філановіча.

Перад вызваленнем Мінска падпольшчыкі праводзілі вялікую работу па ахове станцыйных аб'ектаў і чыгуначнага палатна ад разбурэння акупантамі, дапамагалі савецкім воінам размініраваць Мінскі вакзал.

У барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі загінулі многія падпольшчыкі, у тым ліку М. П. і П. П. Алісіёнкі, П. Дз. Баранаў, П. П. Бачыла, Г. Р. Буракоў, А. А. Вадкоўскі, В. М. Дзявочка, Д. А. Дорашава, Ф. К. Жывалёў, А. А. і С. А. Караньковы, М. Я. Міронччык, К. А. Паўлечка, М. Г. Хмялеўская, П. І. Чыркун, В. Д. Шацько, Г. Штрубэ і інш.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1983—85; Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978. *Г. М. Новікава.*

**267. МЕСЦА КУРЛОЎСКАГА РАССТРЭЛУ** (гіст.).

Працоўныя Мінска пад кіраўніцтвам арганізацыі РСДРП актыўна ўдзельнічалі ў Кастрычніцкай усерасійскай палітычнай стачцы 1905 г. На пачатку кастрычніка бальшавікі правялі ў горадзе сходкі, на якіх абмяркоўваліся пытанні аб 8-гадзінным рабочым дні, правядзенні масавых палітычных стачак. 5 і 6 кастрычніка на вуліцах Мінска адбыліся мітынгі і дэманстрацыі, якія былі разагнаны нарадамі паліцыі і казакоў. Аб'явілі забастоўку друкары, транспартнікі, многія рамеснікі. 11 кастрычніка спыніўся рух на Маскоўска-Брэсцкай, 12 кастрычніка — на Лібава-Роменскай чыгунках, перасталі працаваць служачыя, прыказчыкі, спынілі заняткі навучэнцы. Стачка стала ўсеагульнай. Быў створаны забастовачны камітэт чыгуначнікаў. З 12 кастрычніка штодзённа ў памяшканні вакзала і на Прывакзальнай пл. адбываліся мітынгі і сходы. 14 кастрычніка на мітынгу была прынята рэзалюцыя з патрабаваннямі 8-гадзіннага рабочага дня, свабоды слова, друку,



267. *Мемарыяльны знак «Курлоўскі расстрэл» на станцыі метро «Плошча У. І. Леніна».*

сходаў, саюзаў, недатыкальнасці асобы, усеагульнага выбарчага права, бясплатнага навучання, медыцынскай дапамогі і г. д. Царскія ўлады імкнуліся задушыць стачку. 12 кастрычніка мінскі губернатар Курлоў на нарадзе ваенных улад горада і гарнізона загадаў у выпадку ўзнікнення вулічных хваляванняў спыніць іх усімі сродкамі, не выключаючы зброі.

18.10.1905 г. на плошчы каля вакзала Лібава-Роменскай чыгункі адбыўся 10-тысячны мітынг працоўных горада з прычыны ілжывага царскага маніфеста. Па патрабаванню ўдзельнікаў мітынгу Курлоў вызваліў палітвязняў, але загадаў страляць па бяззбройных людзях. Больш за 80 чалавек было забіта і некалькі соцень паранена.

У адказ на курлоўскі расстрэл адбыліся мітынгі і дэманстрацыі пратэсту ў многіх гарадах і мястэчках. Мінская арганізацыя РСДРП правяла дэманстрацыю і выпусціла адозву «Да грамадзян горада Мінска», у якой заклікала да звяржэння царызму, патрабавала пакараць вінаватых у расстрэле, забяспечыць дэмакратычныя свабоды, вывесці з горада казакоў, распусціць паліцыю і перадаць ахову грамадскага парадку ў горадзе народнай міліцыі. Абурэнне крывавай расправай было такое вялікае, што царскія ўлады вымушаны былі адклікаць Курлова ў Пецярбург і даць распараджэнне аб расследаванні. Але да адказнасці злачынцы прыцягнуты не былі.

На станцыі метро «Плошча У. І. Леніна» ўстаноўлены мемарыяльны знак «Курлоўскі расстрэл» (скульпт. А. Анікейчык, архіт. Л. Градаў, Л. Левін; бронза).

*Літ.:* Листовки большевистских организаций в первой русской революции 1905—1907 гг. Ч. 2.— М., 1956. *В. Б. Караткевіч.*

**вул. Прылукская**

**268. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПРАКАПЧУКУ** Андрэю Якаўлевічу (гіст.). На будынку скурна-венералагічнага навукова-даследчага інстытута Міністэрства аховы здароўя БССР (дом № 46а). Устаноўлена ў 1982 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага дэрматавенеролага, акадэміка АН БССР А. Я. Пракапчука, які ў 1932—38 і 1945—63 гг. працаваў дырэктарам гэтага інстытута. Гл. таксама арт. № 637 «Магіла Пракапчука Андрэя Якаўлевіча».

**вул. Пуліхава**

**269. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ПУЛІХАВА** (архіт.). Вуліца Пуліхава размешчана ўздоўж набярэжнай р. Свіслач, абмежавана вуліцамі Першамайскай, Захарава і Смаленскай. У 19 ст. тут была так званая Архірэйская слабада. Малапавярховая драўляная забудова захоўвалася да рэканструкцыі, якая пачалася ў 1960-я гады (праект




268. *Мемарыяльная дошка А. Я. Пракапчуку.*

планіроўкі і забудовы 1965 г.— архіт. В. Марцьянаў; карэкціроўка 1975 г.— архіт. С. Баткоўскі, Л. Гельфанд). У забудове пераважаюць тыпавыя пяціпавярховыя дамы. Выразнасць і ансамблевасць архітэктуры мікраараёна надалі дзевяціпавярховыя дамы, пабудаваныя па індывідуальных праектах.

Дамы № 19—21 і 35—37 пабудаваны паводле праекта архіт. С. Баткоўскага, Л. Гельфанда, Ф. Трушкіна. Аднасекцыйныя дзевяціпавярховыя будынкі вежавага тыпу размешчаны пад вуглом адзін да аднаго і злучаны аб'ёмамі, у якіх размешчаны прадпрыемствы бытавога абслугоўвання (на 1-м паверсе). Будынкі з'яўляюцца асноўнымі сілуэтнымі дамінантамі забудовы з боку р. Свіслач, маюць лаканічнае вырашэнне фасадаў з выразным рытмам вертыкальных і гарызантальных члянення. Лесвічна-ліфтавы блок абслугоўвае 6 кватэр на паверсе — па 2 адна-, двух- і трохпакаёвыя.

Дом № 58 пабудаваны паводле праекта архіт. С. Баткоўскага, Ш. Сераняна. Падоўжаны васьмісекцыйны дзевяціпавярховы будынак фарміруе забудову ансамбля з боку вул. Захарава. Вызначаецца выразным рытмам аб'ёмаў, удалым выкарыстаннем рэльефу. Планіровачная структура падкрэслена чаргаваннем балконаў і лоджый. Тыпавая секцыя — двухкватэрная з трох- і чатырохпакаёвымі кватэрамі.

Цікавыя ў архітэктурных адносінах жылыя дамы мікраараёна адлюстроўваюць наватарскі пошук сучасных тыпаў жылля. З 1978 г. добраўпарадкоўваецца набярэжная р. Свіслач як састаўная частка водна-зялёнага дыяметра Мінска (архіт. А. Сахно, Ю. Ягубаў, Н. Курыліна).

*Т. В. Габрусь.*

**вул. Рабкораўская**

**270. ДОМ, У ЯКІМ ЖЫЎ ЗМІТРОК БЯДУЛЯ** (архіт., гіст.). Дом № 3. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. (на металічнай дэкаратыўнай рашотцы над ганкам значыцца дата: 1904 г.) на былой Мала-Георгіеўскай вуліцы (дом № 12) прадмесця Ляхаўка. У першую сусветную вайну будынак выкарыстоўваўся (1915 г.) як сталоўка для бежанцаў. Да 1985 г. знаходзіўся на вуліцы Талстога (дом 14а). Пасля перанесены на вуліцу Рабкораўскую, у 1987 г. рэстаўрыраваны. Цяпер тут філіял музея М. Багдановіча.

Будынак з абчасаных на два канты брусоў, складзеных у чысты вугал (без астатку), на цагляным падмурку. Накрыты двухсхільным дахам. З боку вуліцы — два ганкі з двухсхільнымі навісамі на металічных кансолях. З боку двара — больш позняя зрубная прыбудова. Нягледзячы на пазнейшыя змены, дом захаваў асноўныя планіровачныя рысы, характэрныя драўляным жылым пабудовам горада пачатку стагоддзя. Будынак падзелены на 2 палавіны: у правай размешчана адна кватэра, у левай — дзве. Кожная палавіна мае ўваходы як з боку вуліцы, так і з гаспадарчага двара. У архітэктуры пабудовы



269. *Ансамбль жылых дамоў па вуліцы Пуліхава. Від з боку р. Свіслач.*



270. *Дом, у якім жыў Змітрок Бядуля.*

выкарыстаны разны дэкор на карнізах страхі і шчытах-франтонах. Зашаляваныя вуглы ўпрыгожаны ў верхняй частцы геаметрычнай фігурай ромба. Вокны бакавых і дваровага фасадаў аздоблены філёнгавымі аканіцамі. Металічныя петлі ад аканіц захаваліся і на ліштвах вокнаў вулічнага фасаду. Унутры частка сцен была атынкавана і пабелена, частка абклеена шпалерамі.

У 1916—19 гг. у кватэры правай палавіны дома жыў беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля. У верасні 1916 г. тут спыніўся і жыў да ад'езду ў Ялту (люты 1917 г.) Максім Багдановіч. У 1919 г. у доме пэўны час жыла пісьменніца Зоська Верас. Неаднаразова бываў тут і А. Р. Чарвякоў. Аднак будынак больш вядомы як дом, дзе жыў Змітрок Бядуля.

У 1957 г. на ўшанаванне яго памяці на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Беларускі савецкі пісьменнік Змітрок Бядуля (сапраўднае Плаўнік Самуіл Яфімавіч) нарадзіўся 23.4. 1886 г. у в. Пасадзец Лагойскага р-на. Вучыўся ў яўрэйскай школе хедары і ешыботе — школе рабінаў. Працаваў хатнім настаўнікам, канторшчыкам. Першы друкаваны твор — абразок на беларускай мове «Пяюць начлежнікі» — апублікаваны ў 1910 г. на старонках «Нашай нівы». У гэтай жа газеце змяшчаў вершы на беларускай мове і допісы. У 1911—12 гг. друкаваўся на рускай мове ў часопісах «На берегах Невы» (Пецярбург) і «Молодые порывы» (Вільня). З канца 1912 г. пісьменнік жыў у Вільні, дзе працаваў у выдавецкім таварыстве, пасля — сакратаром газеты «Наша ніва». Першы зборнік твораў «Абразкі» — лірычныя мініяцюры ў прозе — выйшаў у 1913 г. у Пецярбурзе. Часта выступаў у друку з публіцыстычнымі артыкуламі, удзельнічаў у беларускім культурным і грамадскім жыцці. Апавяданні гэтага часу «Злодзей», «Гора ўдавы Сымоніхі», «Пяць лыжак заціркі», «Летапісцы», «Малыя дрывасекі» і інш.— глыбокія рэалістычныя малюнкі сацыяльнага ўціску беларускага сялянства. З 1915 г. жыў у Мінску, удзельнічаў у рабоце Мінскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, у нацыянальна-культурным жыцці. Зблізіўся з М. Багдановічам, жыў з ім на адной кватэры. У перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі, Грамадзянскай вайны і белапольскай акупацыі выказваў памылковыя палітычныя погляды, хоць у некаторых артыкулах і крытыкаваў палітыку акупацыйных улад. У творах пісьменніка таго часу пераважаюць песімістычныя настроі. Пасля выгнання акупантаў прыняў праграму Савецкай улады і ўключыўся ў культурна-грамадскае жыццё Беларускай ССР. Працаваў у газеце «Савецкая Беларусь», рэдагаваў часопісы — дзіцячы «Зоркі», краязнаўчы «Наш край», працаваў у Інстытуце беларускай культуры і інш. У 1922 г. выдаў другі зборнік сваіх твораў «Пад родным небам». На смерць У. І. Леніна адгукнуўся прачула-ўсхваляванай паэмай «Чорна-чырвоная жалоба» (1924 г.). У ліку нямногіх старэйшых пісьменнікаў быў прыняты ў літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», адкуль у 1926 г. перайшоў ва «Узвышша». Актыўна працаваў у жанры апавядання і аповесці. Выдаў зборнік «Буралом» (1925 г.), «Паэмы» (1927 г.), дзе з пафасам услаўляе рэвалюцыйную эпоху. У рамантычнай аповесці «Салавей» (1927 г.) паказаў барацьбу беларускіх сялян супраць паноў-прыгоннікаў. Аповесць была экранізавана (1937 г.), па ёй пастаўлены аднайменны балет (музыка М. Крошнера, 1939 г.), паводле яе — спектаклі тэатрам імя Я. Купалы ў 1937 г. і ў 1956 г. У 1928—1932 гг. напісаў раман «Язэп Крушынскі». Аповесці пісьменніка «Набліжэнне» (1935 г.) і «У дрымучых лясах» (1939 г.) носяць аўтабіяграфічны характар, перадаюць каларыт побыту беларускага мястэчка напярэдадні і ў час 1-й сусветнай вайны, паказваюць трагічнае становішча народных мас у час вайны. Апошні твор «Сярэбраная табакерка» — літаратурная казка, мае складаны грамадска-філасофскі змест, сцвярджае ідэю барацьбы народа за волю і шчасце. Пісьменнік пісаў творы для дзяцей, літаратурна-крытычныя артыкулы. Даследаваў пытанні этнаграфіі і фальклору, пераклаў на беларускую мову асобныя творы Т. Р. Шаўчэнкі, яўрэйскіх пісьменнікаў. Яго творы перакладзены на мовы народаў СССР і за мяжою. Памёр З. Бядуля 3.11. 1941 г. Пахаваны ў г. Уральск Казахскай ССР. Імем пісьменніка названа вуліца ў Мінску (былая Галантарэйная), яго імя прысвоена школе ў в. Пасадзец, на будынку якой устаноўлена мемарыяльная дошка, там жа створаны музей пісьменніка.

*Літ.:* Смолкін М. Д. Змітрок Бядуля.— Мн., 1961; Каваленка В. А. Пошукі і здзяйсненні.— Мн., 1963.

*А. І. Лакатко.*

**вул. Рэвалюцыйная**

**271. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ РЭВАЛЮЦЫЙНАЙ** (архіт., гіст.). Вуліца Рэвалюцыйная ўваходзіць у межы гісторыка-архітэктурнай ахоўнай зоны Верхні горад, размешчана ў паўночнай яе частцы. Былая назва вуліцы — Койданаўская. Вядома з 16 ст., з'яўлялася адной з галоўных магістраляй горада, злучала новую гандлёвую плошчу з мястэчкам Койданава (сучасны г. Дзяржынск), якое ў перыяд рэфармацыі было рэзідэнцыяй кальвіністаў. Захавалася мураваная забудова сярэдзіны 18 — пачатку 20 стагоддзяў. Вылучаюцца 3 ансамблі: першы — ад пл. Свабоды да перакрыжавання з вул. Камсамольскай (дамы № 2—16); другі — ад Камсамольскай да Рэспубліканскай (№ 22—32); трэці — на гэтым жа ўчастку (№ 11—17); дом № 3 не ўваходзіць ні ў адзін з ансамбляў.

Дом № 2/13. На рагу вул. Рэвалюцыйнай і пл. Свабоды. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. з цэглы. Першапачаткова Г-падобны ў плане, двухпавярховы з цокальным паверхам, быў паўднёвым флігелем гарадской сядзібы (пл. Свабоды, 15). У канцы 19 ст. рэканструяваны: стаў П-падобны ў плане, у тарцовых частках надбудаваны 3-і паверх. Будынак мае складаную падоўжаную форму плана з выступамі і скошаным вуглом з боку пл. Свабоды. Фасады маюць плоскаснае вырашэнне. Вокны прамавугольныя, на 2-м паверсе аздоблены



271. *Забудова вуліцы Рэвалюцыйнай.*



**271.** *Дом № 2/13 на рагу вуліцы Рэвалюцыйнай і плошчы Свабоды.*

сандрыкамі. Трохпавярховыя тарцовыя часткі завершаны невялікімі мансардамі пад двухсхільнымі дахамі. Сістэма планіроўкі спалучае анфіладнае размяшчэнне памяшканняў і кароткія калідоры.

У 19 — пачатку 20 ст. у будынку быў інтэрнат мужчынскага духоўнага вучылішча. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі размяшчаўся Наркамат асветы БССР, у 1922—25 гг. першая шматгаліновая навукова-даследчая ўстанова ў рэспубліцы, папярэднік Акадэміі навук БССР — Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт). Цяпер у будынку размешчаны дзяржаўныя ўстановы.

Інстытут беларускай культуры заснаваны 30.1.1922 г. на базе навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР. Статут Інбелкульта распрацаваны камісіяй у складзе савецкіх вучоных Я. Ф. Карскага, У. І. Пічэты і Я. Л. Дылы. На пачатку меў у сваім складзе гуманітарную (слоўнікавую, тэрміналагічную, літаратурна-даследчую камісіі) і прыродазнаўчую секцыі. Асноўнымі задачамі Інбелкульта былі правядзенне планавых даследаванняў мовы, літаратуры, быту народа і яго гісторыі, прыроды, эканомікі, сацыяльна-грамадскага развіцця, аб'яднанне і каардынаванне ўсёй навукова-даследчай работы, якая праводзілася ўстановамі, вышэйшымі навучальнымі ўстановамі і асобнымі навуковымі работнікамі рэспублікі. У 1924 г. пры Інбелкульце было створана Цэнтральнае бюро краязнаўства, якое з кастрычніка 1925 г. пачало выдаваць часопіс «Наш край» (з 1930 г. «Савецкая краіна»). У 1927 г. структура Інбелкульта набліжана да структуры Акадэміі навук: 2 аддзелы — гуманітарных навук, прыроды і гаспадаркі; кафедры — гісторыі беларускай мовы, жывой беларускай мовы (у складзе кафедры — Інстытут навуковай мовы), гісторыі беларускай літаратуры, агульнай гісторыі, гісторыі Беларусі, гісторыі беларускага права, гісторыі народнай гаспадаркі Беларусі, археалогіі Беларусі, этнаграфіі Беларусі, гісторыі Літвы, глебазнаўства, батанікі (з Батанічным садам каля Віцебска), заалогіі (з заалагічным музеем), геаграфіі, хіміі, антрапалогіі, біялогіі, Інстытут беларускага мастацтва, геалагічны інстытут. Працавалі камісіі: бібліяграфічная, вайскова-тэрміналагічная, па вывучэнні Заходняй Беларусі, прыродных прадукцыйных сіл Беларусі, прамысловасці, хатніх рамёстваў, кааперацыі ў Беларусі; па вывучэнні культуры латышоў, яўрэйскі і польскі сектары. У склад Інбелкульта таксама ўваходзілі Цэнтральнае бюро краязнаўства, навуковае таварыства па вывучэнні Беларусі (пры Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі), бібліятэка, друкарня. На 27.4.1928 г. у Інбелкульце працавала 115 чалавек. Паводле пастановы ЦВК і СНК БССР ад 13.10.1928 г. Інстытут беларускай культуры быў рэарганізаваны ў Акадэмію навук Беларускай ССР (адкрыта 1.1.1929 г.).

Дом № 4. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Цяпер у ім размешчаны грамадскія арганізацыі. Двухпавярховая прамавугольная ў плане пабудова накрыта двухсхільным дахам. Галоўны фасад мае плоскаснае строгае вырашэнне, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, якія на 2-м паверсе дэкарыраваны трохвугольнымі сандрыкамі ў выглядзе франтонаў з карнізамі і плоскімі тымпанамі. У цэнтры была праезная арка, над ёй балкон (не захаваліся). Пад карнізам даху праходзіць пояс сухарыкаў. З боку дваровага фасада магутныя вуглавыя контрфорсы.



**271.** *Дом № 4 па вуліцы Рэвалюцыйнай.*

Дом № 6. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Цяпер у ім грамадскія ўстановы. Уяўляе сабой двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак на глухім высокім цокалі. На галоўным фасадзе 1-ы і 2-і паверхі расчлянёны карнізам. Прамавугольныя вокны дэкарыраваны прамымі сандрыкамі. Праезная арка, перакрытая крыжовымі скляпеннямі, размешчана асіметрычна.




**271.** *Дом № 8 па вуліцы Рэвалюцыйнай. План 1-га паверха.*

Дом № 8. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Цяпер у будынку знаходзіцца ўстанова. Чатырохпавярховы чатырохвугольны ў плане будынак з прамавугольным арачным праездам у левай частцы. Чацвёрты паверх надбудаваны ў пачатку 20 ст. Кампазіцыя галоўнага фасада вырашана пластычна разнастайна. Паміж 3-м і 4-м паверхамі праходзіць развіты шматслойны карніз з сухарыкамі. Плоскасці сцяны расчлянёны высокімі пілястрамі са стылізаванымі капітэлямі. Аконныя праёмы 1-га, 2-га і 4-га паверхаў маюць прамавугольную форму, а на 3-м паверсе рытмічна чаргуюцца з больш высокімі паўцыркульнымі вокнамі.

Дом № 8а. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы як жылы. Двухпавярховы бу-




**271.** *Дом № 10 па вуліцы Рэвалюцыйнай. План 1-га паверха.*



**271.** *Дом № 10 па вуліцы Рэвалюцыйнай.*



271. *Дом № 12 па вуліцы Рэвалюцыйнай.*



271. *Дом № 14 па вуліцы Рэвалюцыйнай.*

дынак мае план складанай формы, шчыльна прымыкае ў двары да дома № 10. Плоскія без дэкору фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Пад двухсхільным дахам праходзіць развіты шматслойны карніз.

Дом № 10. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Цяпер у ім размешчана грамадская ўстанова. Двухпавярховая пабудова чатырохвугольная ў плане, асноўны аб'ём падоўжаны ў глыбіню двара і накрыты двухсхільным дахам. Акцэнтам тарцовага галоўнага фасада, які выходзіць на вуліцу, з'яўляецца трохвугольны франтон з сухарыкамі, у тымпане якога прарэзана паўкруглае акно. Пад франтонам праходзіць шматслойны карніз з поясам сухарыкаў. Па баках утвораны лапаткі, руставаныя на 1-м паверсе. Аконныя праёмы прамавугольныя, без ліштваў. Дваровыя фасады будынка вырашаны плоскасна, пазбаўлены аздобы.

Дом № 12. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчана прадпрыемства. Двухпавярховая пабудова са складанай выцягнутай у глыбіню двара формай плана, накрытая вальмавым дахам. На галоўным фасадзе праходзіць карнізная бэлька, вуглы акцэнтаваны плоскімі лапаткамі. Вокны прамавугольныя, без ліштваў. 1-ы і 2-і паверхі аддзелены простым карнізам. Бакавы фасад будынка амаль цалкам зашклёны.

Дом № 14. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Шчыльна прымыкае да дома № 12. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю. У цэнтральнай частцы вялікі прамавугольны арачны праезд, над якім навісае балкон, што аб'ядноўвае 2 дзвярныя праёмы, абрамленыя паўкалонкамі. Плоскасць сцяны расчлянёна простым карнізам, лучковымі аконнымі праёмамі. Пад дахам праходзіць развіты карніз.

Дом № 22. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Выкарыстоўваецца як жылы. Двухпавярховая прамавугольная ў плане пабудова накрыта двухсхільным дахам. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю, расчлянёны карнізам. Плоскасць сцяны 1-га паверха прарэзана прамавугольнымі аконнымі праёмамі без ліштваў. На 2-м паверсе вокны лучковыя, дэкарыраваны падаконнымі плітамі і лучковымі сандрыкамі, сіметрычна размешчаны 2 невялікія балконы.



271. *Жылы дом № 24 па вуліцы Рэвалюцыйнай.*



271. *Дом № 24а па вуліцы Рэвалюцыйнай.*



271. *Жылы дом № 24б па вуліцы Рэвалюцыйнай.*




271. *Жылы дом № 24б па вуліцы Рэвалюцыйнай. План 1-га паверха.*

Дом № 24. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Выкарыстоўваецца як жылы. Трохпавярховы будынак складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, П-падобны ў плане. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю. У яго цэнтры знаходзіцца арачны лучковы праезд са скляпеністымі перакрыццямі і дэкаратыўным афармленнем праёма. Над ім на 2-м паверсе размешчаны тры вялікія акны, дэкарыраваны сандрыкамі з сухарыкамі і канеліраванымі пілястрамі. Па цэнтры — балкон на кансолях з агароджай (чыгуннае ліццё). Аконныя праёмы 1-га і 2-га паверхаў прамавугольныя, трэцяга — лучковыя. На 3-м паверсе сіметрычна размешчаны два маленькія балконы. Пад двухсхільным дахам праходзіць шматслойны карніз. Дваровы фасад больш просты і строгі. У цэнтры на вышыню 1-га паверха зроблены выступ з праездам і высокімі праёмамі з паўцыркульнымі завяршэннямі, над ім — невялікая тэраса з ажурнай агароджай.

Дом № 24а. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Будынак складаецца з двух самастойных аб'ёмаў, якія шчыльна прымыкаюць адзін да аднаго. Адзін з аб'ёмаў двухпавярховы, прамавугольны ў плане. Плоскасць яго сцен прарэзана прамавугольнымі вокнамі па 1-м паверсе, лучковымі — на 2-м. Па перыметры пад вальмавым дахам праходзіць развіты шматслойны кар-



271. *Жылы дом № 26 па вуліцы Рэвалюцыйнай. План 1-га паверха.*



271. *Жылы дом № 28 па вуліцы Рэвалюцыйнай.*

ніз. Другі аб'ём трохпавярховы, накрыты двухсхільным дахам з трохвугольнымі франтонамі ў тарцах. Аконныя праёмы прамавугольныя.

Дом № 24б. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Двухпавярховы чатырохвугольны ў плане будынак з неатынкаваным 2-м паверхам накрыты двухсхільным дахам. Пад карнізам праходзіць пояс аб'ёмнага геаметрычнага арнаменту, выкладзены з цэглы. Атынкаваныя плоскасці прарэзаны аконнымі праёмамі прамавугольнай формы на 1-м паверсе, на 2-м — лучковымі сандрыкамі.

Дом № 26. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы чатырохвугольны ў плане з вуглавой прыбудовай у дваровай частцы будынак накрыты пакатым двухсхільным дахам. Галоўны фасад упрыгожаны дэкаратыўнымі элементамі: карнізным поясам паміж паверхамі, фігурнымі сандрыкамі над вокнамі 1-га паверха, падаконнымі плітамі з геаметрычным арнаментам і руставанымі лапаткамі ў прасценках на 2-м паверсе. Пад дахам праходзіць масіўны развіты карніз. У левай частцы дома арачны праезд з крыжовым скляпеннем.

Дом № 28. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы П-падобны ў плане падоўжаны ў глыбіню квартала будынак накрыты вальмавым дахам. На галоўным фасадзе паміж паверхамі праходзіць карніз. На 2-м паверсе ў цэнтры дзве тонкія пілястры абрамляюць два лучковыя аконныя праёмы. Прамавугольныя аконныя праёмы на 2-м паверсе дэкарыраваны прамымі сандрыкамі. Пад дахам праходзіць прафіляваны карніз.

Дом № 32. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы Т-падобны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад падзелены карнізам на 2 часткі. Прамавугольныя вокны 1-га і лучковыя 2-га паверхаў маюць абрамленне. На 2-м паверсе праёмы дэкарыраваны прамымі сандрыкамі. Пад дахам праходзіць шматслойны развіты карніз.

Дом № 3. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчана дзяржаўная ўстанова. Двухпавярховы будынак з трохпавярховай цэнтральнай часткай, якая завершана ў выглядзе трохвугольнага шчыта. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Уваход паглыблены, дэкарыраваны 2 калонамі круглага сячэння, якія ўстаноўлены на ганку. Аконныя праёмы прамавугольныя, без ліштваў, на 1-м паверсе ў цэнтры — шырокія, двухчасткавыя.

Дом № 11. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Цяпер у ім размешчана швейна-трыкатажнае атэлье. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам, які ўтварае ў тарцы трохвугольны шчыт. Плоскасная кампазіцыя галоўнага фасада падкрэслена чаргаваннем лучковых і прамавугольных аконных праёмаў. Пад дахам праходзіць масіўны карніз. Уваход у будынак вырашаны ў выглядзе высокага паўцыркульнага праёма-партала.



271. *Дом № 13, 15 па вуліцы Рэвалюцыйнай.*

Дом № 13. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Цяпер тут знаходзяцца дзяржаўныя ўстановы. Трохпавярховая пабудова прымыкае да дома № 15, мае складаную замкнёную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, накрыта двухсхільным дахам. Галоўны фасад сіметрычны, яго цэнтральная частка вылучана 2 плоскімі лапаткамі. Паміж 1-м і 2-м паверхамі праходзіць карнізны пояс. Аконныя праёмы 1-га паверха прамавугольныя, 2-га і 3-га — лучковыя з простым абрамленнем, на 2-м паверсе вокны дэкарыраваны прамымі сандрыкамі. Пад дахам праходзіць шматслойны карніз. Да правай часткі дома шчыльна прымыкае аднапавярховая прыбудова з высокай ступеньчатай атыкавай сценкай.

Дом № 15. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Цяпер у ім размешчаны грамадскія арганізацыі. Трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак пад двухсхільным дахам, які ўтварае ў тарцовай частцы плоскі трохвугольны франтон, прарэзаны люкарнай. Першы руставаны паверх аддзелены ад асноўных карнізным поясам. Галоўны фасад расчлянёны плоскімі пілястрамі. Прамавугольныя аконныя праёмы на 2-м паверсе дэкарыраваны прамымі сандрыкамі і падаконнымі плітамі. Пад дахам праходзіць шматслойны развіты карніз.

Дом № 17. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы строга прамавугольны ў плане кампактны будынак накрыты двухсхільным дахам. Пастаўлены асобна ў канцы забудовы. Фасады вырашаны плоскасна, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з простым абрамленнем.

Забудова вул. Рэвалюцыйнай — прыклад франтальнага афармлення магістральнай вуліцы.

*Літ.:* Чернявская Т. И., Петросова Е. Ю. Памятники архитектуры Минска XVII — начала XX в.— Мн., 1984.

*В. М. Баскова, А. Ю. Пятросава.*

**вул. Рэспубліканская**

**272. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ** (архіт., гіст.). Старыя назвы вуліцы Раманаўскі зав, СтараРаманаўская, Навараманаўская. Узнікла ў пачатку 19 ст. на месцы земляного вала. Захаваліся будынкі 2-й паловы 19 — пачатку 20 ст.

Дом № 4, будынак пажарнага таварыства. Пабудаваны ў 1885 г. з цэглы, неатынкаваны аднапавярховы будынак з мезанінам. У пачатку 20 ст. надбудаваны 2-і і 3-і паверхі. Цяпер у ім размешчана пажарная часць Цэнтральнага р-на г. Мінска.

Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты чатырохсхільным вальмавым дахам. Фасады расчлянёны па гарызанталі карнізнымі паясамі, па вертыкалі — лапат-



272. *Будынак былога пажарнага таварыства.*



272. *Жылы дом № 3 па вуліцы Рэспубліканскай.*

камі (на 1-м паверсе руставанымі). Па перыметры сцены завершаны развітым шматслойным карнізам. Аконныя праёмы на 1-м паверсе шырокія прамавугольныя, на 2-м — лучковыя з абрамленнем, на 3-м — вузкія прамавугольныя.

Будынак пажарнага таварыства — помнік грамадзянскага будаўніцтва.

Мінскае пажарнае таварыства створана 8.7.1876 г. Складалася з заснавальнікаў і правадзейных членаў, якія субсідзіравалі таварыства, і ахвотнікаў (пажарных). У 1885 г. 140 чал. Мела 16 коней, 4 ручныя пажарныя помпы, 8 бочак-вадавозак, багорны ход і ручную механічную лесвіцу. З 1893 г. правадзейны член Расійскага пажарнага таварыства. 21.6.1881 г. у час стыхійнага бедства гераічнымі намаганнямі пажарных удалося затрымаць агонь у 19 кварталах горада. У 1906 г. і сакавіку 1917 г. пажарныя ўдзельнічалі ў ратаванні ад паводкі прылеглых да р. Свіслач гарадскіх кварталаў. У 1920-я гады ганаровым старшынёй Мінскага добраахвотнага пажарнага таварыства быў выбраны герой Грамадзянскай вайны камкор Г. Дз. Гай. У 1926 г. у сувязі з пяцідзесяцігоддзем Мінскае пажарнае таварыства ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР. 29.12.1956 г. заснавана добраахвотнае пажарнае таварыства БССР. На прамысловых прадпрыемствах, будоўлях, базах, складах і інш. аб'ектах арганізаваны пажарныя дружыны, пры гарвыканкоме і райвыканкомах — групы няштатных інспектараў. Пажарныя часці горада аснашчаны спецыяльнай тэхнікай.

Дом № 3, жылы дом. Пабудаваны на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы.

Высокі чатырохпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю. Цэнтр фасада вылучаны неглыбокім рызалітам. Аконныя праёмы на 1-м і 4-м паверхах прамавугольныя, на 2-м — лучковыя, на 3-м — з паўцыркульнымі завяршэннямі. У дэкоры сцен выкарыстаны геаметрычны арнамент, руст, замковы камень, балкончыкі з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё).

Дом — помнік жыллёвай архітэктуры эклектычнага кірунку.

Дом № 6, жылы дом. Размешчаны ў заходняй частцы Верхняга горада. Пабудаваны ў другой палове 19 ст. з цэглы.

Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад мае плоскаснае вырашэнне, пазбаўлены дэкаратыўных элементаў, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з абрамленнямі.

Будынак — помнік жыллёвага будаўніцтва.

*І. Я. Лук'янчык, А. Ю. Пятросава, В. М. Шылякін.*

**вул. Савецкая**

**273. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ САВЕЦКАЙ** (архіт.). На вул. Савецкай захаваліся 4 мураваныя будынкі канца 19 — пачатку 20 ст. — № 2, 14, 17, 19. Будынкі № 2, 14 размешчаны паасобку, № 17 і 19 складаюць адзіны фронт забудовы і ўваходзяць у ансамбль пл. Леніна (гл. арт. № 142 «Забудова плошчы Леніна»).

**273а.** Дом № 2. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы як жылы. Цяпер выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак. Двухпавярховы П-падобны ў плане будынак з 2 бакавымі рызалітамі на дваровым фасадзе. Га-



273а. *Дом № 2 па вуліцы Савецкай.*



273б. *Дом № 14 па вуліцы Савецкай.*

лоўны фасад арыентаваны на лінію забудовы вуліцы. Паверхі падзелены шырокім прафіляваным поясам. 1-ы паверх дэкарыраваны глыбокім рустам, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, 2-і — пілястрамі па баках, вокнамі з паўцыркульнымі завяршэннямі і сіметрычна размешчанымі балконамі. Уваходы з боку дваровага фасада. Унутраная планіроўка калідорнага тыпу.

У архітэктуры будынка праявіліся рысы эклектыкі.

**273б.** Дом № 14. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы як даходны жылы дом. Трохпавярховы, складанай у плане формы, што абумоўлена формай зямельнага ўчастка ў шчыльна забудаваным квартале. Галоўны фасад арыентаваны на лінію забудовы, мае 3 рызаліты. Цэнтральны рызаліт з галоўным уваходам завершаны невысокім паўкруглым франтонам з лучковым акном, над уваходам на 2-м паверсе шырокае паўцыркульнае акно, аздобленае рустам. Бакавыя рызаліты завершаны невысокімі мансардамі з трыма вузкімі лучковымі вокнамі. 1-ы паверх будынка руставаны, астатнія — плоскія, дэкарыраваны неглыбокімі падаконнымі нішамі. На галоўным фасадзе і на яго зрэзанай вуглавой частцы размешчаны балконы з металічнай агароджай.

У архітэктуры будынка праявіліся элементы эклектыкі. *Т. І. Чарняўская.*

**274. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЗАМОЦІНУ** Івану Іванавічу (гіст.). На будынку Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (дом № 18). Устаноўлена ў 1985 г.

Беларускі савецкі літаратуразнавец, акадэмік АН БССР (1928 г.), член-карэспандэнт АН СССР (1929 г.), доктар філалагічных навук (1934 г.), прафесар І. І. Замоцін нарадзіўся 20.10.1873 г. у в. Крывуліна Бежацкага р-на Калінінскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1897 г. скончыў Пецярбургскі гісторыка-філалагічны інстытут, працаваў у гімназіях Варшавы і Пецярбурга. З 1904 г. прыват-дацэнт Варшаўскага, Пецярбургскага, у 1908—16 гг. прафесар Варшаўскага, у 1917 — 22 гг. Данскога універсітэтаў. На Беларусі з 1922 г., прафесар БДУ, з 1931 г.— Мінскага педінстытута. Адначасова з 1925 г. працаваў у Інбелкульце. Займаўся распрацоўкай гісторыі рускай літаратуры 18—20 стагоддзяў і беларускай літаратуры пачатку 20 ст. Найбольш значныя працы: «Раннія рамантычныя павевы ў рускай літаратуры» (1900 г.), «Рамантызм дваццатых гадоў XIX ст. ў рускай літаратуры» (т. 1—2, 1903—07 гг., 2 выд., 1911—13 гг.), «Саракавыя і шасцідзесятыя гады» (1911 г., 2 выд., 1915 г.), «Пуціны беларускай літаратуры (Якуб Колас — «Новая зямля»)» («Полымя», 1924, № 1), «На пераломе» (1927 г.). Даследаваў жыццё і творчасць А. Пушкіна, І. Тургенева, М. Някрасава, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Ц. Гартнага. Вялікую ўвагу аддаваў пытанням методыкі выкладання літаратуры ў школе. Яго кніга «Мастацкая літаратура ў школьным выкладанні» (в. 1—2, 1927—28 гг.) не страціла свайго значэння і ў наш час.




*274. Мемарыяльная дошка І. І. Замоціну.*

Памёр І. І. Замоцін 25.5.1942 г. у Маскве. *В. М. Удальцоў.*

**275. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 17. Устаноўлена ў 1979 г. у памяць аб баявой дзейнасці падпольнай камсамольскай групы Мінскага камуністычнага падполля.

У час нямецка-фашысцкай акупацыі ў доме № 6 па вул. Савецкай (не захаваўся) знаходзілася аптэка № 1. У ёй з верасня 1941 г. да мая 1942 г. дзейнічала падпольная камсамольская група Мінскага камуністычнага падполля. Створана па ініцыятыве У. С. Амельянюка. Кіраўнік групы студэнт 4-га курса хімічнага факультэта БДУ, член ВЛКСМ Г. Г. Фалевіч. Па заданню кіраўніцтва Мінскага камуністычнага падполля ён уладкаваўся працаваць загадчыкам аптэкі, арганізаваў падпольную групу, якая яднала былых студэнтаў універсітэта і мединстытута, што таксама працавалі ў аптэцы. Актыўнымі яе членамі былі камсамольцы — Н. А. Ярмоленка (Драздоўская), А. Суша, Д. Макееў і іншыя. Дзейнасць групы накіроўвалі Мінскі падпольны гарком КП(б)Б і Кастрычніцкі падпольны райком КП(б)Б г. Мінска. Аптэка з'яўлялася канспіратыўнай кватэрай Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. Яе неаднаразова наведваў адзін з кіраўнікоў Мінскага камуністычнага падполля У. С. Амельянюк, у ёй сустракаліся падпольшчыкі з сувязнымі партызанскіх атрадаў. У аптэцы патрыёты хавалі зброю, боепрыпасы, друкарскае абсталяванне і шрыфт, антыфашысцкую літаратуру.

Члены падпольнай групы забяспечвалі партызан медыкаментамі і медыцынскімі інструментамі, здабывалі для іх паперу, перадавалі звесткі пра ворага. Яны перапраўлі з Мінска ў партызанскія атрады каля 50 савецкіх патрыётаў. У маі 1942 г. гітлераўцы напалі на след групы. 26.5. 1942 г. яны арыштавалі Г. Г. Фалевіча і пасля катаванняў 15.9.1942 г. расстралялі. Пасмяротна Г. Г. Фалевіч узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені. Гітлераўцы загубілі Д. Макеева і А. Сушу.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1.— Мн., 1983; Герои подполья. В. 1.— 4 изд.— М., 1972; Новікаў І. Р. Руіны страляюць ва ўпор.— Мн., 1962.

*Г. І. Дулеба, М. І. Эпалетаў.*

**276. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАПОВУ** Васілю Васілевічу (гіст.). На доме № 17. Устаноўлена ў 1982 г. па ўшанаванне памяці беларускага савецкага геадэзіста, акадэміка АН БССР В. В. Папова, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 410 «Магіла Папова Васіля Васілевіча».

**277. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ШЫРМЕ** Рыгору Раманавічу (гіст.). На доме № 19. Устаноўлена ў 1980 г. (скульпт. У. Хмызнікаў) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага харавога дырыжора, фалькларыста, народнага артыста СССР, Героя Сацыялістычнай Працы Р. Р. Шырмы, які жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 694 «Магіла Шырмы Рыгора Раманавіча».

**278. ПОМНІК СТУДЭНТАМ І ВЫКЛАДЧЫКАМ МІНСКАГА ПЕДІНСТЫТУТА ІМЯ А. М. ГОРКАГА** (гіст.). На тэрыторыі педінстытута. На ўшанаванне памяці студэнтаў і выкладчыкаў Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага, якія загінулі ў




*276. Мемарыяльная дошка В. В. Папову.*




277. *Мемарыяльная дошка Р. Р. Шырме.*

Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**вул. Сацыялістычная**

**279. ПОМНІК ПРАЦОЎНАЙ СЛАВЫ АЎТАЗАВОДЦАЎ** (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка Мінскага аўтамабільнага завода.

Паводле пастановы Дзяржаўнага камітэта абароны СССР 9.8.1944 г. на паўднёва-ўсходняй ускраіне Мінска, у Чырвоным урочышчы, пачалося будаўніцтва аўтазборачнага завода. У лістападзе таго ж года было сабрана 250 машын. Адначасова ішла работа па стварэнню новай аўтамашыны. Першы аўтамабіль-самазвал МАЗ-205 сышоў з канвеера ў 1947 г. У пачатку 1950 г. быў сабраны першы 25-тонны аўтасамазвал МАЗ-525. З 1951 г. наладжана серыйная вытворчасць грузавога аўтамабіля МАЗ-200. Канструктары МАЗа стварылі таксама новую мадэль 40-тоннага аўтасамазвала. З 1966 г. прадпрыемства пачало выпускаць новыя аўтамашыны сямейства МАЗ-500 розных мадыфікацый, у 1969 г.— аўтамабіль МАЗ-516Б грузападымальнасцю 14,5 т, у 1970 г.— бартавы аўтамабіль МАЗ-500А (базавая мадэль), пазней — новыя мадэлі 20-тонных аўтапаяздоў МАЗ-504В — 5205А для міжгародніх перавозак. У 1977 г. завод перайшоў на выпуск мадэрнізаваных бартавых аўтамашын МАЗ-5335 з лепшымі тэхніка-эксплуатацыйнымі якасцямі. Была наладжана вытворчасць цягачоў МАЗ-6422, якія з'яўляюцца базавымі мадэлямі новага сямейства магістральных аўтапаяздоў грузападымальнасцю 21—35 т. У 1980-я гады выпускаюцца таксама аўтасамазвалы МАЗ-5349, лесавозныя аўтамабілі МАЗ-509А.

У 1975 г. Мінскі аўтамабільны завод стаў галаўным прадпрыемствам беларускага аб'яднання па вытворчасці вялікагрузных аўтамабіляў «БелаўтаМАЗ». Яго прадукцыя экспартуецца за мяжу, неаднаразова экспанавалася на міжнародных выстаўках і кірмашах, дзе атрымлівала прызы і медалі. За вытворчыя поспехі завод узнагароджаны 2 ордэнамі Леніна (1966 г. і 1977 г.) і ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі (1971 г.).

У 1965 г. у гонар працоўнай славы аўтазаводцаў устаноўлены на пастаменце серыйны ўзор першага аўтамабіля-самазвала МАЗ-205.

*Літ.:* Блистинов М., Богушевич Ю., Вайнруб Е. Минский автомобильный.— Мн., 1972; Демин И. М. Завод ордена Ленина.— Промышленность Белоруссии, 1969, № 8. *М. Б. Батвіннік.*

**плошча Свабоды**

**280. ЗАБУДОВА ПЛОШЧЫ СВАБОДЫ** (гіст., архіт.). Плошча Свабоды размешчана на ўзвышаным беразе р. Свіслач, паміж вуліцамі Энгельса,



278. *Помнік студэнтам і выкладчыкам Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага.*



279. *Помнік працоўнай славы аўтазаводцаў.*

Няміга і Інтэрнацыянальная. У 18 ст. называлася Верхні (Высокі) рынак, з 1860-х гадоў — Саборная плошча, з 1917 г.— плошча Свабоды.

Забудоўвалася з пачатку 16 ст. як новы гандлёвы цэнтр, які пазней атрымаў назву Верхні рынак у адрозненне ад першай гандлёвай плошчы — Ніжні (Нізкі) рынак. У 17—18 ст. сфарміраваны архітэктурны ансамбль у стылі барока, які ўключаў адміністрацыйныя, культавыя, гандлёвыя і жылыя будынкі. У цэнтры плошчы размяшчаліся будынкі ратушы, гасцінага двара. На ўсходнім баку ў 17 ст. завершана будаўніцтва манастыроў базыльян і базыльянак і бернардзінскіх кляштараў (мужчынскага і жаночага). Да 2-й паловы 18 ст. на заходнім баку плошчы завершана будаўніцтва комплексу кляштара езуітаў. На паўднёвым і паўночным баках плошчы размяшчаліся крамы, корчмы, мураваныя жылыя дамы.

На працягу 19 — пачатку 20 ст. ансамбль плошчы быў зменены. У 1857 г. будынак ратушы знесены, у цэнтры плошчы разбіты сквер. Часткова перабудаваны комплексы бернардзінскіх кляштараў і базыльянскіх манастыроў, а таксама езуіцкага калегіума. У 1908 г. на паўднёва-заходнім рагу плошчы і вул. Губернатарскай завершана будаўніцтва пяціпавярховага будынка гасцініцы «Еўропа», аднаго з самых вялікіх на той час будынкаў горада.

Сучасная плошча Свабоды з'яўляецца цэнтрам гісторыка-архітэктурнай зоны Верхні горад. У плане прамавугольная, забудавана 4—5-павярховымі будынкамі. На плошчы захаваліся помнікі архітэктуры 17 — пачатку 20 ст.: былыя будынкі гасцінага двара і купецкага клуба (дом



**280.** *Плошча Верхні рынак. 1840 г.*

№ 2—10), езуіцкага касцёла (дамы № 7 і № 9), гарадскі сядзібны дом (дом № 15); манастыр базыльян (дом № 23), а таксама жылыя дамы 18—19 ст. (№ 19, № 21). Забудову плошчы дапаўняюць бернардзінскія касцёлы (размешчаны па вул. Бакуніна).

Некаторыя помнікі архітэктуры, што захаваліся на плошчы, з'яўляюцца і помнікамі гісторыі, звязаны з падзеямі Кастрычніцкай рэвалюцыі, станаўлення Савецкай улады, а таксама Вялікай Айчыннай вайны.

*Т. І. Чарняўская.*

**280а.** Дом № 2, 4, 6, 8, 10, **гасціны двор**. Узведзены ў 18 — пачатку 20 ст. як комплекс мураваных двух —трохпавярховых будынкаў. Спачатку С-падобны ў плане. У канцы 18 ст. рэканструяваны ў стылі класіцызму, крылы комплексу былі злучаны сіметрычным двухпавярховым аб'ёмам з чатырохкалонным порцікам у цэнтры (архіт. Ф. Крамер); утварыўся замкнёны двор. Пасля рэканструкцыі 1909 г. над паўночна-заходняй часткай надбудаваны трэці паверх, фасады дэкарыраваны ў стылі «мадэрн», зменена планіроўка.

Комплекс будынкаў мае замкнёную кампазіцыю з 2 унутранымі дворыкамі. Галоўны паўднёва-заходні фасад у асноўным фарміруе трохпавярховы мураваны будынак (№ 4), які мае складаны Г-падобны план з рызалітамі ў дваровай частцы. Галоўны фасад будынка сіметрычнай кампазіцыі. Цэнтральная яго частка вылучана кілепадобным франтонам з 3 вузкімі аконнымі праёмамі з паўцыркульнымі завяршэннямі. Па баках праёмаў плоскасць руставаная, упрыгожана ляпным раслінным арнаментам у выглядзе выгнутых лістоў і сцяблоў. У цэнтры на 2-м паверсе размешчаны балкон з агароджай чыгуннага ліцця, які аб'ядноўвае 2 акны. Бакавыя часткі фасада былі завершаны невялікімі купаламі з шпілямі (не захаваліся). Рытм фасадаў ствараецца прамавугольнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі. Пластыку ўзбагачаюць ляпныя элементы. Будынак мае калідорную планіроўку. У інтэр'еры лесвіцы з каванай агароджай, печы, абліцаваныя кафляй. У пачатку 20 ст. у памяшканнях былога гасцінага двара былі размешчаны аддзяленне Азова-Данскога камерцыйнага банка, магазіны, купецкі клуб, дзе ў 1914 г. выступаў У. Маякоўскі. У 1917 г. тут праходзілі 1-я і 2-я Паўночна-Заходнія абласныя канферэнцыі РСДРП(б), размяшчаўся Абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту. Цяпер тут дзяржаўныя ўстановы.

**Месца правядзення 1-й Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі РСДРП(б).** Канферэнцыя адбылася 15—18.9 (28.9—1.10).1917 г. Прысутнічала 88 дэлегатаў (67 з рашаючым, 21 з дарадчым голасам), якія прадстаўлялі 7132 члены партыі і 2058 спачуваючых. Парадак дня канферэнцыі: аб рэпрэсіях супраць РСДРП(б) (В. В. Каменшчыкаў); даклады абласнога Бюро і з месцаў; аб бягучым моманце (А. Ф. Мяснікоў); аб пераглядзе партыйнай праграмы (А. Ф. Мясні-




**280а.** *Комплекс будынкаў былога гасцінага двара і купецкага клуба. План 1-га паверха.*



**280а.** *Будынак былога гасцінага двара.*



**280а.** *Будынак былога гасцінага двара. Фрагмент аздобы інтэр'ера.*

коў); аб выбарах ва Устаноўчы сход; арганізацыйныя пытанні; выбары.

Канферэнцыя асудзіла рэпрэсіі Часовага ўрада супраць членаў і арганізацый РСДРП(б), бальшавіцкага друку. Указала, што дабіцца сапраўднай свабоды для працоўных «можна толькі з пераходам улады з рук імперыялістычнай буржуазіі ў рукі пралетарыяту і бяднейшага сялянства». У рэзалюцыі «Аб эканамічным становішчы» адзначыла, што, каб прадухіліць эканамічны крах краіны, неабходна перадаць у рукі дзяржавы буйныя і важныя галіны прамысловасці, банкі, устанавіць рабочы кантроль над вытворчасцю і спажываннем, неадкладна перадаць сялянам усю зямлю без выкупу, аднавіць транспарт. Падкрэсліла, што ўсё гэта можна зрабіць, калі спыніць вайну і ўстанавіць у краіне рэвалюцыйна-дэмакратычную ўладу. У рэзалюцыі «Аб палітычным моманце» заклеймавала згодніцкія партыі, якія аддалі ўладу ў рукі контррэвалюцыі, заклікала ўмацоўваць Саветы. У пастанове «Аб выбарах у Устаноўчы сход» прызнала неабходнасць пагадненняў з рэвалюцыйна-дэмакратычнымі арганізацыямі рабочых, сялян і салдат, якія цалкам прымаюць платформу партыі бальшавікоў, раскрыла контррэвалюцыйную сутнасць кадэтаў, эсэраў і меншавікоў, паказала, што толькі бальшавікі змагаюцца за інтарэсы працоўных. Зацвердзіла «Статут ваеннай арганізацыі РСДРП(б) на Заходнім фронце», у аснову якога быў пакладзены Статут партыі, прыняты на VI з'ездзе РСДРП(б). Канферэнцыя выбрала Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б), якому былі падпарадкаваны партарганізацыі Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, часткі Віленскай губерні і Заходняга фронту. У абласны камітэт уваходзіла 26 чалавек (па адным прадстаўніку ад партарганізацый гарадоў вобласці, 7 ад Мінска і 15 ад партарганізацый армій). Старшынёй камітэта быў выбраны А. Ф. МясНікоў, сакратаром — У. С. Селязнёў. Друкаваным органам камітэта зацверджана газета «Молот», першы нумар якой выйшаў 15(28).9. 1917 г. 1-я Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РСДРП(б) завяршыла афармленне Паўночна-Заходняй абласной арганізацыі РСДРП(б), што было важным этапам на шляху стварэння КП(б)Б.

Месца правядзення 2-й (Надзвычайнай) Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі РСДРП(б). Канферэнцыя адбылася 5—7(18—20).10.1917 г. Прысутнічалі 353 дэлегаты ад 28 591 члена партыі і 27 856 спачуваючых. Парадак дня: даклад абласнога бюро (У. С. Селязнёў); перавыбары Саветаў, армейскіх камітэтаў і тактыка партыі (В. В. Фамін); Устаноўчы сход; перагляд партыйнай праграмы (А. Ф. Мяснікоў); сувязь, агітацыя і транспарціроўка літаратуры (М. М. Васільеў); спіс кандыдатаў ва Устаноўчы сход і інш.

Уся работа канферэнцыі была накіравана на непасрэдную падрыхтоўку сацыялістычнай рэвалюцыі і пераход улады да Саветаў. Партыйным арганізацыям было прапанавана зрабіць усё для своечасовага склікання 2-га Усерасійскага з'езда Саветаў, правесці ў сувязі з гэтым перавыбары Саветаў і армейскіх камітэтаў. Канферэнцыя зацвердзіла спіс кандыдатаў ад РСДРП(б) ва Устаноўчы сход па Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай выбарчых акругах і Заходняму фронту (44 чалавекі, сярод іх Ф. Э. Дзяржынскі, А. Я. Бадаеў, А. Ф. Мяснікоў, К. І. Ландар). Яшчэ раз было падкрэслена, што ва Устаноўчым сходзе немагчымы блок бальшавікоў са згодніцкімі партыямі. Дэлегаты канферэнцыі прынялі рашэнне аб змяненні палітычнай і эканамічнай частак праграмы-мінімум РСДРП(б), аграрную частку выпрацаваць згодна з рэзалюцыямі VII (красавіцкай) Усерасійскай канферэнцыі РСДРП(б). 2-я Надзвычайная Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РСДРП(б) заклікала ўсе партыйныя арганізацыі ўзмацніць палітычную і арганізацыйную работу ў масах, згуртаваць іх вакол Саветаў, якія павінны былі стаць органамі ўзброенага паўстання супраць буржуазнага Часовага ўрада, за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі.

У 1987 г. у гонар 1-й і 2-й Паўночна-Заходніх абласных канферэнцый РСДРП(б) устаноўлена мемарыяльная дошка.

Месца размяшчэння Абласнога выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту.

Аблвыкамзах створаны ў выніку зліцця выканаўчых камітэтаў абласнога Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў (35 чалавек), Савета сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў (35 чалавек) і Франтавога камітэта Заходняга фронту (100 чалавек). У Аблвыкамзах увайшлі таксама прадстаўнікі прафсаюзаў рабочых (11 чалавек), чыгуначнікаў (4 чалавекі), паштова-тэлеграфных служачых (2 чалавекі). Прэзідыум выканкома: старшыня М. У. Рагазінскі [з 17(30).1.1918 г.— А. Ф. Мяснікоў], таварышы старшыні М. І. Крывашэін, П. Казлоў; сакратары І. Я. Алібегаў, П. Осіпаў. Аблвыкамзах з'яўляўся найвышэйшым выканаўчым органам Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў на тэрыторыі Віленскай, Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай, Смаленскай (з красавіка 1918 г.) губерняў і Заходняга фронту. Складаўся з 15 камісарыятаў (аддзелаў). Для каардынацыі дзейнасці камісарыятаў і вырашэння асабліва важных пытанняў быў арганізаваны Савет Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту. Друкаваныя органы Аблвыкамзаха — газеты «Советская правда», «Западная коммуна». З пачаткам наступлення кайзераўскіх войск эвакуіраваны 19.2.1918 г. у Смаленск. Ліквідаваны 31.12.1918 г. у сувязі з стварэннем Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі.



**280а.** *Будынак былога гасцінага двара. Адна з лесвіц.*



**280б.** *Касцёл езуітаў. Галоўны фасад. Фота пачатку 20 ст.*




**280б.** *Касцёл езуітаў. План.*

*Літ.:* Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1957; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 1.— Мн., 1968; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— 2 изд.— Мн., 1968; КП(б)Б у рэзалюцыях. Ч. 1.— Мн., 1934.

*В. М. Баскова, А. Ю. Пятросава.*

**280б. Дом № 7, 9, к л я ш т а р  е з у і т а ў.** Комплекс кляштара сфарміраваны ў 2-й палове 17 — пачатку 18 ст. З сярэдзіны 18 ст. з'яўляўся буйнейшым ансамблем плошчы Верхні рынак. Складаўся з трох асноўных мураваных будынкаў, выцягнутых у адзіны фронт забудовы ўздоўж заходняга боку плошчы: касцёла, да якога далучаліся з поўдня будынак школы, з поўначы будынак калегіума, а таксама гаспадарчых пабудоў, размешчаных унутры квартала.

У 1654 г. кляштар размяшчаўся ў прыстасаваным двухпавярховым мураваным жылым будынку былой сядзібы, што выходзіў галоўным фасадам на плошчу. У глыбіні двара знаходзіліся розныя гаспадарчыя пабудовы. Пасля 1683 г. пачалося стварэнне адзінага архітэктурнага комплексу кляштара. У 1699 г. скончана будаўніцтва двухпавярховага будынка школы. У 1700—10 гг. побач быў узведзены новы мураваны касцёл. У 1722 г. да касцёла прыбудаваны новы двухпавярховы корпус калегіума, які меў у цэнтры галоўнага фасада шмат'ярусную вежу з гадзіннікам. Пасля ліквідацыі ордэна езуітаў у будынку калегіума з 1799 г. размяшчаліся прысутныя месцы, у 1852—1917 гг.— казённая палата. У Вялікую Айчынную вайну ансамбль пашкоджаны, будынак калегіума не захаваўся.

К а с ц ё л (дом № 9). Спачатку называўся касцёл Ісуса, Марыі і Барбары. Дабудаваны ў 1720 г. сакрысція, 1722 г. калегіум, 1732 г. завершаны 2 вежы. З канца 18 ст. перайменаваны ў Марыінскі кафедральны сабор. На працягу 19 ст. неаднаразова перабудаваны: у 1798 — 1800 гг. перароблены інтэр'ер, выканана размалёўка, у 1853—54 гг. часткова зменены галоўны фасад храма. У 1951 г. перароблены інтэр'ер і галоўны фасад. Цяпер тут ДСТ «Спартак». У 1983 г. у Спецыялізаваных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрнях Міністэрства культуры БССР распрацаваны праект рэстаўрацыі касцёла (архіт. А. Курто, А. Сухоцкі, В. Жаўняк).

Храм — трохнефавая двухвежавая 6-слуповая базіліка з паўкруглай апсідай, абапал якой размешчаны Троіцкая і Феліцыянаўская капліцы,— завершаны купаламі. Шмат'ярусныя вежы галоўнага фасада, фігурны франтон паміж імі і шчыт у тарцы даху над апсідай не захаваліся. Акцэнтам галоўнага фасада з'яўляецца імітаваны порцік, завершаны трохвугольным франтонам з ляпной геральдыкай. Над карнізам порціка размешчаны балкон з балюстраднай агароджай. Галоўны фасад дэкарыраваны пілястрамі, паміж якімі маленькія квадратныя вокны ў ляпным абрамленні, складанымі карнізнымі цягамі, плоскімі нішамі, паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, якія захаваліся з 18 ст. Сцены бакавых фасадаў расчляпёны шырокімі плоскімі пілястрамі, вокнамі з лучковым і паўцыркульным завяршэннямі. У інтэр'еры захаваліся цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі ў цэнтральным нефе і крыжовыя — у бакавых.

Касцёл — помнік беларускага барока.

Б у д ы н а к  ш к о л ы (дом № 7). Уяўляў сабой прамавугольнае ў плане, двухпавярховае, пакрытае вальма-



**280б.** *Будынак былога касцёла езуітаў. Выгляд з боку апсіды.*



**280б.** *Езуіцкі калегіум. Агульны выгляд. Фота пачатку 20 ст.*

вым дахам збудаванне. Яго галоўны фасад быў вылучаны квадратнай у плане вежай з купалам. У 1773 г. школа была ператворана ў свецкую шасцікласную.

Пасля рэканструкцыі па праекту Ф. Крамера з канца 18 ст. да 1917 г. тут знаходзілася рэзідэнцыя мінскага губернатара. У 1821—22 гг. у яго бібліятэцы працаваў дзекабрыст М. М. Мураўёў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў гэтым доме размяшчаліся (студзень 1919 г.) Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад Беларусі, з лютага 1919 г. да 1934 — Прэзідыум ЦВК БССР. У 1968 г. будынак рэканструяваны, надбудаваны 3-і паверх. Цяпер тут музычная школа.

*Літ.:* Д е н і с о в В. Н. Площадь Свободы в Минске.— Мн., 1985.

*Т. І. Чарняўская.*

**280в. Дом № 15,** г а р а д с к і с я д з і б н ы д о м. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы. Цяпер тут адміністрацыйная ўстанова. Меў 2 бакавыя



**280в.** *Былы гарадскі сядзібны дом.*

флігелі, якія былі размешчаны сіметрычна і ўтваралі парадны двор. Захаваўся адзін з флігеляў (гл. артыкул № 271 «Забудова вуліцы Рэвалюцыйнай», дом № 2/13).

Дом прамавугольны ў плане сіметрычнай кампазіцыі, накрыты двухсхільным вальмавым дахам. Галоўны фасад, арыентаваны на плошчу, з невялікім уваходным рызалітам у цэнтральнай частцы вырашаны лаканічна. Рызаліт фланкіраваны плоскімі лапаткамі і завершаны трохвугольным франтонам з паўцыркульным акном у тымпане. Пад карнізам франтона праходзіць пояс сухарыкаў. На 2-м паверсе балкон на драўляных кансолях з металічнай ажурнай агароджай. Прамавугольныя аконныя праёмы ў простым абрамленні.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры класіцызму.

**280г. Жылыя дамы № 19, 21.** Размешчаны на паўночным баку плошчы. Узведзены ў 18 — пачатку 19 ст. з цэглы. Комплекс складаўся з трох будынкаў, якія ўтваралі замкнутую кампазіцыю з 2 унутранымі дворыкамі. Часткова разбураны ў Вялікую Айчынную вайну, захаваліся 2 будынкі.




**280г.** *Жылыя дамы № 19, 21 на плошчы Свабоды. План 1-х паверхаў.*



**280г.** *Дамы № 19, 21 на плошчы Свабоды.*

Дом № 19. Двухпавярховы, з высокім цокальным паверхам, складанай, няправільнай у плане формы будынак. З заходняга боку яго агінае галерэя-тэраса, пад якой размяшчаліся складскія і гандлёвыя памяшканні. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. З боку ўнутранага двара на ўзроўні 2-га паверха праходзіць вонкавая галерэя, на якую вядзе лесвіца з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Размяшчэнне памяшканняў анфіладнае.

Дом № 21. Трохпавярховы будынак у плане мае форму няправільнага чатырохвугольніка, часткаю дваровага фасада прымыкае да дома № 19. Акцэнтам галоўнага фасада з'яўляецца неглыбокі рызаліт, завершаны трохвугольным шчытом з круглай люкарнай, над уваходам ступеньчаты карніз. Руставаная сцяна 1-га паверха аддзелена ад астатняй плоскасці карнізам. Аконныя праёмы невялікія, прамавугольныя. Бакавы фасад па вуглах умацаваны руставанымі лапаткамі. Сістэма размяшчэння памяшканняў — калідорна-анфіладная.

Жылыя дамы — помнікі архітэктуры, у якіх увасоблены мясцовыя будаўнічыя традыцыі. *А. Ю. Пятросава.*

**280д. Манастыр базыльян.** Дом № 23/19. Займае тэрыторыю паміж плошчай Свабоды, вуліцамі Інтэрнацыянальнай і Энгельса. Уваходзіў у комплекс базыльянскіх манастыроў (мужчынскага і жаночага) пры Святадухаўскай царкве (не захавалася). Зберагліся будынак жаночага манастыра (гл. артыкул № 364 «Корпус манастыра базыльянак» па вул. Энгельса, 1) і мураваны будынак мужчынскага манастыра, узведзены ў 1-й палове 17 ст.

У 16 ст. тут існаваў праваслаўны манастыр з драўлянай Святадухаўскай царквой, які ў пачатку 17 ст. адышоў да уніятаў. У 1630—40 гг. замест драўлянай была пабудавана мураваная царква (у 1897 г. перабудавана), да якой з паўднёва-ўсходняга боку прымыкаў двухпавярховы мураваны корпус мужчынскага манастыра. У 1795 г. базыльянскія манастыры былі закрыты, Святадухаўская царква пераіменавана ў Петрапаўлаўскі сабор (не захаваўся). Да 1799 г. у манастырскім корпусе знаходзілася рэзідэнцыя праваслаўнага архіепіскапа, потым — Мінскае дваранскае вучылішча, якое ў 1803 г. было пераўтворана ў мужчынскую гімназію. У час пажару 1835 г. комплекс значна пашкоджаны. У 1852 г. манастырскі корпус быў перабудаваны і прыстасаваны для размяшчэння прысутных месцаў: надбудаваны 3-і паверх, часткова зменены фасады і інтэр'ер (архіт. К. Хшчановіч).

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі з 1918 г. гэты будынак вядомы як Дом працы. У ім размяшчаліся Народны камісарыят працы і прафсаюзныя арганізацыі горада. У 1919 г. з яго балкона перад вучнямі працоўных школ Мінска выступаў М. І. Калінін. Цяпер у будынку размешчаны грамадскія арганізацыі і ўстановы.




280д. *Будынак былога манастыра базыльян. План 1-га паверха.*



280д. *Будынак былога манастыра базыльян. Фрагмент інтэр'ера.*



280д. *Будынак былога манастыра базыльян (пасля перабудовы).*

Сучасны будынак прамавугольны ў плане з унутраным дворыкам. Галоўны фасад з цэнтральным уваходам арыентаваны на пл. Свабоды. Цэнтральная яго частка ледзь выступае за асноўную лінію фасада, вылучана гарызантальным рустам на 1-м паверсе і невялікім балконам з чыгуннай агароджай над галоўным уваходам, завершана складаным ступеньчатым атыкам. 1-ы паверх аддзелены ад верхніх карнізам, што праходзіць па ўсім перыметры будынка. Сцены рытмічна расчлянёны строгімі радамі прамавугольных аконных праёмаў, якія на 2-м паверсе дэкарыраваны прамымі сандрыкамі. Пад карнізам вальмавага даху праходзіць пояс сухарыкаў, пад ім фрыз з трыгліфамі. Пластыка дваровага фасада ўзбагачана магутнымі рызалітамі, плоскімі лапаткамі. На фасадзе з боку вул. Энгельса размешчаны сіметрычна дзве аркі, што вядуць у дворык. Планіроўка калідорна-анфіладная. У інтэр'еры скляпенні 1-га паверха крыжовыя.

*Літ.:* Чернявская Т. И., Петросова Е. Ю. Памятники архитектуры Минска XVII — начала XX в.— Мн., 1984; Денисов В. Н. Площадь Свободы в Минске.— Мн., 1985. *Т. І. Чарняўская.*

**281. КУЛЬТУРНЫ ПЛАСТ АХОЎНАЙ ЗОНЫ ВЕРХНІ ГОРАД** (археал.).

Верхні горад — комплекс горадабудаўнічых, гістарычных і археалагічных помнікаў 12—19 стагоддзяў. Ахоплівае тэрыторыю сучасных плошчы Свабоды, вуліц Бакуніна, Герцэна, Гандлёвай, Музычнага завулка і частку вуліц Леніна, Інтэрнацыянальнай, Камсамольскай, Нямігі і Энгельса. З пачатку 16 ст. Верхні горад фарміраваўся як новы адміністрацыйны, культурны і гандлёвы цэнтр Мінска. На плошчы, якая ў 18 ст. атрымала назву Высокага рынка, і вакол яе ў

16—18 стагоддзях пабудаваны ратуша, гандлёвыя рады, гасціны двор. З канца 16 ст. узводзіліся мураваныя дамы феадалаў, заможных купцоў і рамеснікаў, з пачатку 17 ст.— манументальныя культавыя пабудовы.

Раскопкі на тэрыторыі Верхняга горада праводзілі ў 1978—79 гг. археолагі Інстытута гісторыі АН БССР В. Е. Собаль, З. С. Пазняк, А. А. Трусаў. Культурны пласт Верхняга горада 12—18 стагоддзяў захоўвае рэшткі падмуркаў культавых і грамадзянскіх пабудоў 17—18 стагоддзяў, шматлікія рэчы, якія характарызуюць матэрыяльную культуру горада, яго гандлёвыя сувязі, рамёствы. Таўшчыня культурнага пласта на акрэсленай тэрыторыі ад 0,6 да 4 м.

**Пасад Верхняга горада.** У выніку археалагічных даследаванняў на вуліцах Бакуніна, Герцэна, Музычным завулку і ва ўсходняй частцы пл. Свабоды выяўлены культурны пласт 12—15 стагоддзяў. У ім знойдзены кавалкі гліняных гаршкоў з ганчарнымі клеймамі на донцах, шыфернае прасліца, жалезны нож з патоўшчанай спінкай, касцяное дзяржанне з цыркульным узорам. Гэтая частка горада была заселена ўжо ў 12—13 стагоддзях. Відаць, тут знаходзіўся адзін з пасадаў старажытнага Мінска. Культурны пласт 16—18 стагоддзяў прасочаны на ўсёй тэрыторыі Верхняга горада. У ім знойдзены: пячная каробчатая кафля з зааморфным, геаметрычным, раслінным і геральдычным узорамі, гліняны паліваны посуд (гаршкі, міскі, талеркі, макотры, рынкі, збанкі, кубкі). Тут жа сабраны калекцыі гліняных люлек, шкляного посуду (кварты, бутэлькі, шкляніцы, стопкі). Сярод жалезных рэчаў: нажы, падкоўкі для абутку, каганцы і ключы.

Матэрыялы захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.



281. *Кафля 16 ст. з раскопак Верхняга горада.*




280. *Гісторыка-архітэктурная зона Верхні горад. План.*

**Рэшткі будынка тэатра** (архіт., археал.). Па вул. Інтэрнацыянальнай. Былы дом № 28. Будынак былога тэатра ўзведзены ў 18 ст. як жылы. У 1825 г. рэканструяваны пад тэатр.

Трохпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Сіметрычны па кампазіцыі. Галоўны фасад вылучаны цэнтральным рызалітам, карнізным поясам падзелены на 2 ярусы (ніжні апрацаваны рустам). Рызаліт з шырокай праезнай аркай у цэнтры быў аформлены пяцікалонным порцікам, завершаным франтонам з лучковым акном у тымпане. Двухсветлавая тэатральная зала размяшчалася на 2-м паверсе.

Пасля пажару 1884 г. будынак тэатра перабудаваны, у 1885 г. разабраны рызаліт, зменена планіроўка. З 1895 г. вядомы як будынак банка, у 1921—80-я гады — адміністрацыйны. Захаваліся падвалы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі.

*Літ.:* Денисов В. Н. Площадь Свободы в Минске.— Мн., 1985. *У. М. Дзянісаў.*

**Рэшткі дамініканскага касцёла.** У час раскопак на глыбіні 1,5—2 м на рагу вуліц Энгельса і Інтэрнацыянальнай у культурным пласце выяўлены рэшткі падвалаў і падмуркі былога касцёла дамініканцаў.

Касцёл быў пабудаваны ў першай палове 17 ст. у стылі барока. Гэта першая мураваная культавая пабудова ў Мінску. Уяўляў сабой трохнефавую базіліку. Меў абарончае значэнне (таўшчыня сцен да 3 м). Архітэктура касцёла аказала ўплыў на развіццё манументальнага дойлідства ў Мінску ў 17 ст. У 1926 г. помнік быў узяты пад дзяржаўную ахову. У 1941—44 гг. спалены фашыстамі. Рэшткі знесены ў 1950 г. Побач з касцёлам у час раскопак знойдзены кераміка, жалезныя і шкляныя вырабы, кафля, манеты 17—19 стагоддзяў. У 1986 г. рэшткі падмуркаў і падвалаў помніка былі ўскрыты і закансерваваны. У перспектыве плануецца рэстаўрацыя.

**Рэшткі царквы Святога духа.** У паўночна-ўсходняй частцы плошчы Свабоды і пачатку вул. Энгельса. Тут у час раскопак выяўлены і адкрыты рэшткі падвала і падмуркаў унікальнай пабудовы пачатку 17 ст. у стылі рэнесансу царквы Свя-



281. *Каробчатая кафля 17 ст. з раскопак Верхняга горада.*




282. *Мемарыяльная дошка М. І. Калініну.*

тога духа. Уяўляла сабой аднанефавы бязвежавы храм з пяціграннай апсідай.

Культурны пласт, у якім выяўлены рэшткі царквы, мае таўшчыню ад 0,6 да 3 м і захоўвае ў сабе археалагічны матэрыял 14—18 стагоддзяў (кераміка, кафля, шкляныя і жалезныя вырабы).

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

Рэшткі кляштара бенедыкцінак. Культурны пласт на ўчастку вул. Інтэрнацыянальнай паблізу кінатэатра «Перамога» ад 1 да 3 м утрымлівае рэшткі падмуркаў і падвалаў былога кляштара. Археалагічныя даследаванні праводзіліся ў 1978 г. Інстытутам гісторыі АН БССР. У раскопе адкрыта частка падмуркаў былога касцёла бенедыкцінак (другая палова 17 ст.). Уяўляў сабой прамавугольны аднанефавы тып храма, пабудаваны ў стылі барока. Знойдзены таксама кераміка, дахоўка, жалезныя вырабы, шкло 16—18 стагоддзяў.

Рэшткі ратушы. У культурным пласце ў паўночнай частцы сквера, што на пл. Свабоды, выяўлены рэшткі падмуркаў Мінскай ратушы. Таўшчыня пласта дасягае 2,5 м. Ён насычаны таксама прадметамі матэрыяльнай культуры 14—18 стагоддзяў (кафля, кераміка, вырабы з жалеза і шкла). Плануецца рэстаўрацыя помніка.

Культурны пласт Верхняга горада з'яўляецца каштоўным помнікам археалогіі. *З. С. Пазняк, В. Е. Собаль.*

**282. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На доме № 23/19. Устаноўлена ў 1975 г. (скульпт. С. Вакар; чыгун; 1×0,8 м).

Старшыня ВЦВК М. І. Калінін у чэрвені 1919 г. выехаў на чале агітацыйна-інструктарскага поезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя» на Заходні фронт. 20.6.1919 г. поезд прыбыў у Мінск. У гэты ж дзень на плошчы Свабоды адбыўся мітынг 15 тысяч вучняў працоўных школ горада. Перад імі з балкона Дома працы (цяпер пл. Свабоды, 23/19) выступіў М. І. Калінін. Ён заклікаў моладзь вучыцца, каб будаваць новае жыццё, выказаў падзею, што вучні працоўных школ будуць інтэрнацыяналістамі, дастойнымі грамадзянамі і патрыётамі Радзімы. На плошчы адбыўся парад вайсковых часцей рабочага палка і ўсевобуча.

*Літ.:* М. И. Калинин в Белоруссии.— Мн., 1973. *В. Б. Караткевіч.*

**283. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МУРАЎЁВУ** Мікіту Міхайлавічу (гіст.). На доме № 7. Устаноўлена ў 1977 г. (скульпт. С. Вакар; бронза; 0,9× ×1,2 м). На дошцы барэльефныя выявы М. М. Мураўёва, а таксама раскрытай кнігі, якая сімвалізуе Канстытуцыю, і факела свабоды.

Дзекабрыст М. М. Мураўёў нарадзіўся 19.7.1796 г. у Маскве. З 1813 г. у арміі, штабс-капітан Генштаба гвардыі. Адзін са стваральнікаў тайных рэвалюцыйных арганізацый «Саюз выратавання» (1816 г.), «Саюз працвітання» (1818 г.), Паўночнага таварыства, член дырэкцыі Паўднёвага таварыства. У 1821 г. жыў у Віцебску, з 24.10.1821 г. да 6.5.1822 г.— у Мінску. Часта наведваў дом мінскага губернатара, карыстаўся яго бібліятэкай. У час знаходжання ў Мінску распрацаваў праект канстытуцыі для будучай Рускай дзяржавы, вядомы пад назвай мінскі варыянт канстытуцыі Мураўёва. Праект прадугледжваў ліквідацыю прыгону і саслоўяў, роўнасць усіх перад законам, надзяленне сялян зямлёю. Расія павінна была стаць канстытуцыйнай манархіяй, заканадаўчая ўлада належаць двухпалатнаму Народнаму вечу, выканаўчая — імператару. Пасля крытыкі праекта членамі Паўночнага таварыства М. М. Мураўёў у 1824—25 гг. напісаў другі і трэці варыянты канстытуцыі. У час паўстання 14.12.1825 г. яго не было ў Пецярбургу, але як актыўны дзеяч М. М. Мураўёў быў прыгавораны да пакарання смерцю (заменена 20 гадамі катаргі). У Сібіры разам з М. С. Луніным склаў «Разбор данясення тайнай следчай камісіі ў 1826 годзе» супраць фальсіфікацыі гісторыі руху дзекабрыстаў, пісаў працы па ваеннай гісторыі. Памёр 28.4. 1843 г.




283. *Мемарыяльная дошка М. М. Мураўёву.*

*Літ.:* Букчин С. К мечам рванулись наши руки.— Мн., 1978; Минск: Энцикл. справ.— 2 изд.— Мн., 1983. *В. Б. Караткевіч.*




284. *Мемарыяльная дошка ў гонар Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі і Прэзідыума ЦВК БССР.*

**284. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ЧАСОВАГА РАБОЧА-СЯЛЯНСКАГА САВЕЦКАГА ЎРАДА БЕЛАРУСІ І ПРЭЗІДЫУМА ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА БССР** (гіст.). На доме № 7, у якім у студзені 1919 г. размяшчаўся Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад Беларусі, з лютага 1919 г. да 1934 г.— Прэзідыум ЦВК БССР.

6-я Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б), якая праходзіла 30—31.12.1918 г. у Смаленску, прыняла рашэнне пра ўтварэнне БССР і Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. Канферэнцыя абвясціла сябе I з'ездам КП(б)Б, на якім вызначаны адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел БССР з сталіцай у Мінску.

Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад БССР створаны 1.1.1919 г. у Смаленску з 17 чалавек. Старшыня З. Х. Жылуновіч, члены ўрада — камісары замежных спраў У. С. Фальскі, нацыянальных спраў Ф. Г. Шантыр, народнай асветы А. Р. Чарвякоў, ваенных спраў А. Ф. Мяснікоў, фінансаў І. І. Рэйнгольд, харчавання М. І. Калмановіч, земляробства А. А. Андрэеў, унутраных спраў С. В. Іваноў, працы Я. Л. Дыла, сацыяльнага забеспячэння Дз. С. Чарнушэвіч, аховы здароўя І. І. Пузыроў, поштаў і тэлеграфа К. Ф. Разенталь, шляхоў зносін І. П. Савіцкі, юстыцыі А. І. Квачанюк, дзяржаўнага кантролю С. І.

Берсан, старшыня Саўнаргаса Р. В. Пікель.

1.1.1919 г. Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад Беларусі абнародаваў Маніфест пра ўтварэнне БССР, які абвясціў Беларусь Савецкай сацыялістычнай рэспублікай і замацаваў палітычныя і эканамічныя заваёвы рабочых і сялян у выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Дзень абнародавання Маніфеста стаў днём нараджэння БССР. Да склікання рэспубліканскага з'езда Саветаў Часовы ўрад і камісарыяты пры ім з'яўляліся вышэйшымі органамі ўлады і ўпраўлення. Да 7.1.1919 г. Часовы ўрад пераехаў у Мінск і размясціўся ў былым доме губернатара. У склад урада ўведзены яшчэ 2 члены: камісар па справах палонных і бежанцаў Р. П. Найдзёнкаў і старшыня Надзвычайнай камісіі В. І. Яркін. Зацверджаны Прэзідыум Часовага ўрада з 3 чалавек: З. Х. Жылуновіч, А. Ф. Мяснікоў, М. І. Калмановіч; кіраўнік спраў — В. Г. Кнорын. Друкаваны орган Часовага ўрада газета «Известия временного рабоче-крестьянского Советского правительства Белоруссии», якая выходзіла на беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай мовах (рэдактар А. М. Антанікоўскі). Адбылося 6 пасяджэнняў Часовага ўрада, на якіх вырашаліся пытанні дзяржаўнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

У сувязі з пагрозай нападу з боку буржуазнай Польшчы Часовы ўрад прыняў 21.1.1919 г. пастанову аб стварэнні Ваенна-рэвалюцыйнага савета БССР на чале з А. Ф. Мяснікоўым. 2.2.1919 г. Часовы ўрад склікаў I Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў і перадаў яму свае паўнамоцтвы. На з'ездзе быў выбраны вышэйшы заканадаўчы, распарадчы і кантрольны орган дзяржаўнай улады БССР — Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, які дзейнічаў да выбрання ў 1938 г. Вярхоўнага Савета БССР 1-га склікання. Спачатку ў ЦВК уваходзіла 50 членаў, пазней 100; старшыня А. Ф. Мяснікоў. ЦВК вызначаў агульны кірунак дзейнасці ўсіх органаў улады ў рэспубліцы, склікаў з'езды Саветаў; утвараў СНК і Прэзідыум ЦВК БССР, выдаваў дэкрэты і распараджэнні і г. д. У перыяд паміж сесіямі ЦВК вышэйшым заканадаўчым, выканаўчым і распарадчым органам улады ў рэспубліцы быў Прэзідыум ЦВК БССР. Выбіраўся ён на першай сесіі кожнага склікання ў складзе старшыні, яго намесніка, сакратара і членаў Прэзідыума. У сваёй дзейнасці Прэзідыум быў падсправаздачны ЦВК БССР і ажыццяўляў яго правы і функцыі.

*Літ.:* Круталевич В. А. Рождение Белорусской Советской Республики.— Мн., 1979. *В. Б. Караткевіч.*




285. *Мемарыяльная дошка Ф. Шменкелю.*

**285. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ШМЕНКЕЛЮ** Фрыцу (гіст.). На доме № 4. Устаноўлена ў 1975 г. (абноўлена ў 1987 г.) на будынку, дзе ў Вялікую Айчынную вайну нямецкі антыфашыст Ф. Шменкель быў прыгавораны нямецкім ваенным трыбуналам да пакарання смерцю.

Ф. Шменкель нарадзіўся 14.2.1916 г. у пасёлку Варзоў (Германія) у сям'і рабочага цагельнага завода, члена Кампартыі Германіі. Скончыў 8 класаў народнай школы. У 1938 г. прызваны ў армію. Адмовіўшыся служыць фашызму, у кастрычніку 1939 г. Ф. Шменкель дызертыраваў і вярнуўся да сям'і, за што быў арыштаваны і асуджаны. У час 2-й сусветнай вайны яфрэйтар вермахта Ф. Шменкель з жніўня 1941 г. на Усходнім фронце. Восенню 1941 г. кінуў сваю часць і пасля пошукаў і блуканняў па вёсках сустрэўся з партызанамі атрада «Смерць фашызму», які дзейнічаў на тэрыторыі Смаленскай вобласці. Агульны партызанскі сход прыняў Ф. Шменкеля ў атрад. У памяць аб загінуўшым камандзіры атрада партызаны назвалі яго Іванам Іванавічам. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе з фашыстамі, у 1943 г. узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. У снежні 1943 г. пры выкананні адказнага задання разведкі Ф. Шменкель і яго баявы сябра П. Рыбакоў былі схоплены гітлераўцамі і прывезены ў Мінск. Пасля катаванняў ваенны трыбунал 15.2.1944 г. прыгаварыў Ф. Шменкеля да расстрэлу. 22.2.1944 г. прыгавор прыведзены ў выкананне. За актыўны ўдзел у антыфашысцкай барацьбе, гераізм і мужнасць Ф. Шменкелю 6.10.1964 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. У ГДР імя Ф. Шменкеля прысвоена школам, аўтазаводу, навукова-даследчаму інстытуту, яго імем названы вуліцы. Кінематаграфісты ГДР і БССР знялі пра Ф. Шменкеля фільм «Я хачу вас бачыць».

*Літ.:* Александровский П. И., Егоров А. Н. Партизан Фриц.— М., 1971; Нойгаус В. Канец аперацыі «Штэрнлаўф»: Жыццёвы і баявы шлях ням. антыфашыста Героя Сав. Саюза Ф. Шменкеля.— Мн., 1982. *В. М. Баскова.*

**вул. Свярдлова**

**286. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 4. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад асіметрычнай будовы. Паверхі аддзелены карнізным поясам. Плоскасць сцен прарэзана прамавугольнымі вокнамі без ліштваў, на другім паверсе невялікі балкон. Уваход у будынак змешчаны ад цэнтра, над ім высокае вузкае падвоенае акно ў ліштве і накладны элемент у выглядзе шматслойнай паўцыркульнай аркі. Бакавыя фасады глухія, завершаны трохвугольнымі шчытамі. Цяпер тут размешчана грамадская ўстанова.

Будынак — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. Ю. Пятросава.*

**287. ФАБРЫКА-КУХНЯ** (архіт.). Дом № 2. Пабудавана ў 1936 г. У пасляваенныя гады некалькі разоў рэканструявана. Зменены знешні выгляд і ўнутраная планіроўка. Цяпер тут размешчаны Мінская нарыхтовачная фабрыка трэста сталовых Маскоўскага раёна, рэстаран «Папараць-кветка», сталовая № 1, дыетычная сталовая, бар.



286. *Жылы дом № 4 па вуліцы Свярдлова. Галоўны фасад.*



289. *Помнік Л. А. Голікаву.*



290. *Помнік У. Н. Дубініну.*



291. *Помнік М. І. Казею.*

Мураваны двухпавярховы будынак з паўпадвалам мае Г-падобны план з складаным аб'ёмам у вуглавой частцы. Архітэктурнае вырашэнне фасадаў заснавана на ступеньчатым перападзе вышынь асобных частак і на кантрастным спалучэнні вялікіх аконных праёмаў з гладкімі атынкаванымі плоскасцямі сцен. Над выступаючым наперад паўцыркульным у плане барабанам уваходнай групы размешчаны высокі, меншага радыуса ліхтар лесвічнай клеткі. Над аб'ёмам рэстарана ўзвышаецца вузкі (на шырыню барабана лесвічнай клеткі) 3-і паверх банкетнай залы, аконныя праёмы якой завершаны шырокімі казыркамі на жалезабетонных кансолях. У канструкцыйна-планіровачную аснову збудавання пакладзена трохпралётная сетка калон з нясучымі знешнімі сценамі. Перакрыцці 1-га паверха зроблены з маналітнага жалезабетону.

Інтэр'еры залаў рэстарана і дыетычнай сталовай выкананы па праектах, распрацаваных у Інстытуце «Белдзіпрагандаль» (1974 г., 1977 г., архіт. Л. Мельнік, Г. Сысоеў). Шырока выкарыстаны дрэва, метал, дэкаратыўнае шкло і іншыя сучасныя аддзелачныя матэрыялы. Вестыбюль рэстарана ўпрыгожаны дэкаратыўнымі газонамі.

Будынак фабрыкі-кухні — помнік архітэктуры канструктывізму.

*А. А. Міцянін.*

**вул. Слясарная**

**288. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку хлебазавода (дом № 41). Устаноўлена ў 1967 г.

У Вялікую Айчынную вайну на Мінскім хлебазаводзе «Аўтамат» з верасня 1941 г. да ліпеня 1944 г. дзейнічала падполле. Складалася з партыйнай арганізацыі (сакратар М. П. Тужыкаў, май — снежань 1942 г.) і 7 падпольных груп. У розны час яднала 65 чалавек, сярод якіх было 12 камуністаў і 27 камсамольцаў. Дзейнасць патрыётаў накіроўваў Мінскі падпольны гарком КП(б)Б, Варашылаўскі падпольны райком КП(б)Б г. Мінска.

Патрыёты ўстанавілі і падтрымлівалі сувязь з партызанамі, якія дзейнічалі ў наваколлі Мінска, выконвалі іх заданні, вялі антыфашысцкую прапаганду сярод рабочых хлебазавода і насельніцтва Мінска, распаўсюджвалі лістоўкі, газеты, зводкі Саўінфармбюро, выносілі з завода і перадавалі партызанам муку, хлеб, соль і іншыя прадукты. Здабывалі для народных мсціўцаў звесткі аб ворагу, зброю, боепрыпасы, адзенне, медыкаменты, бланкі пропускаў, перадалі ім апарат для размнажэння лістовак, тапаграфічныя карты мінскага наваколля.

Значнае месца ў дзейнасці падполля займалі дыверсіі. Падпольшчыкі псавалі абсталяванне на заводзе, зрывалі выпечку хлеба для гітлераўцаў, выводзілі са строю аўтамашыны, паравоз, які падвозіў на хлебазавод паліва, сабатавалі мерапрыемствы акупантаў. Патрыёты выратоўвалі юнакоў і дзяўчат ад вывазу ў гітлераўскую Германію, перапраўлялі людзей, у тым ліку ваеннапалонных, у партызанскія атрады. У сувязі з арыштамі ўдзельнікаў падполля многія патрыёты пайшлі да партызан. У барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі загінулі П. І. Гавіновіч, Ф. І. Кобзеў, З. А. Лапко, Л. П. Мамат, І. А. Мазанік, Я. Ф. Раманава, Д. С. Рачыцкі, М. Ф. Хаткоўскі і некаторыя іншыя ўдзельнікі падполля, што дзейнічалі на хлебазаводзе «Аўтамат».

*Літ.:* О партийном подполье в Минске в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944 гг.).— Мн., 1961; Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984.

**вул. Солтыса**

**289. ПОМНІК ГОЛІКАВУ** Леаніду Аляксандравічу (гіст.). На тэрыторыі школы-інтэрната № 13.

Герой Савецкага Саюза Л. А. Голікаў нарадзіўся ў 1926 г. у в. Лукіна Стараруcкага р-на Наўгародскай вобл. Скончыў 7-гадовую школу. Член ВЛКСМ з 1942 г. У Вялікую Айчынную вайну з студзеня 1942 г. у партызанскім атрадзе 4-й брыгады Ленінградскай вобл. Удзельнічаў у баявых аперацыях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У жніўні 1942 г. у час выканання баявога задання здабыў стратэгічнай важнасці дакументы ворага. Пасля гэтага подзвіга залічаны разведчыкам у штаб брыгады. Загінуў 24.1.1943 г. у час прарыву з варожага акружэння. Пахаваны ў брацкай магіле партызан каля в. Вострая Лука Наўгародскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 2.4.1944. У Мінску на тэрыторыі школы № 25 Л. А. Голікаву пастаўлены помнік. Гл. таксама артыкул № 311 «Помнік Голікаву Леаніду Аляксандравічу».

У 1970 г. устаноўлены бюст камсамольца-героя.

*Літ.:* Сбойчаков М. Гордость отряда.— У кн.: Люди легенд. М., 1968, в. 3.

**290. ПОМНІК ДУБІНІНУ** Уладзіміру Нічыпаравічу (гіст.). На тэрыторыі школы-інтэрната № 13.

Піянер У. Н. Дубінін нарадзіўся ў 1927 г. у г. Керч. Пасля акупацыі горада нямецка-фашысцкімі захопнікамі стаў сувязным і разведчыкам партызанскага атрада, які з лістапада 1941 г. базіраваўся ў Старакаранцінскіх каменаломнях. Арганізаваў з дзяцей партызан групу разведчыкаў. 4.1.1942 г. пры размініраванні подступаў да каменаломні падарваўся на міне. Пахаваны ў Керчы. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Імем У. Н. Дубініна ў Керчы названа



292. *Помнік З. А. Касмадзям'янскай.*

вуліца, на якой ён жыў, яго імя прысвоена сярэдняй школе, дзе ён вучыўся, а таксама многім піянерскім дружынам і атрадам.

У 1971 г. устаноўлены бюст піянера-патрыёта.

*Літ.:* Юные герои: Сб.— М.; Л., 1953; Кассиль Л. А., Поляновский М. Л. Улица младшего сына.— Мн., 1984; Дети-герои.— 3 изд.— Киев, 1986.

**291. ПОМНІК КАЗЕЮ** Марату Іванавічу (гіст.). На тэрыторыі школы-інтэрната № 13. Бюст піянера Героя Савецкага Саюза М. І. Казея ўстаноўлены ў 1971 г. Гл. таксама артыкул № 130 «Помнік Казею Марату Іванавічу».

**292. ПОМНІК КАСМАДЗЯМ'ЯНСКАЙ** Зоі Анатолеўне (гіст.). На тэрыторыі школы-інтэрната № 13.

Герой Савецкага Саюза З. А. Касмадзям'янская нарадзілася 13.9.1923 г. у в. Асінавыя Гаі Гаўрылаўскага р-на Тамбоўскай вобл. у сям'і служачага. Член ВЛКСМ з 1938 г. Вучылася ў 201-й сярэдняй школе г. Масквы. У Вялікую Айчынную вайну вучаніца 10-га класа. У кастрычніку 1941 г. добраахвотна пайшла ў партызанскі атрад. У лістападзе 1941 г. у час выканання баявога задання была схоплена нямецка-фашысцкімі акупантамі ў в. Пятрышчава Рузскага р-на Маскоўскай вобл. Нягледзячы на жудасныя катаванні, не выдала гітлераўцам таварышаў, не сказала сваё сапраўднае імя, назвалася Таняй. 29.11.1941 г. павешана фашыстамі. У 1942 г. перапахавана на Новадзявочых могілках у Маскве. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.2.1942 г. Адданасць сацыялістычнай Радзіме, вернасць справе камунізма зрабілі імя Зоі легендарным. З. А. Касмадзям'янскай прысвечаны творы савецкіх паэтаў, пісьменнікаў, драматургаў, мастакоў і г. д. Яе імем названы вуліцы ў многіх гарадах СССР. На Мінскай шашы каля в. Пятрышчава пастаўлены помнік, на месцы першапачатковага пахавання ў в. Пятрышчава — мемарыяльная пліта. У Мінску імем З. А. Касмадзям'янскай названа вуліца.

У 1971 г. па ініцыятыве камсамольскай арганізацыі школы-інтэрната ўстаноўлены бюст камсамолкі-патрыёткі.

*Літ.:* Героини. В. 1.— М., 1969; Космодемьянская Л. Т. Повесть о Зое и Шуре.— Мн., 1978.

**293. ПОМНІК КАШАВОМУ** Алегу Васілевічу (гіст.). На тэрыторыі школы-інтэрната № 13.

Адзін з арганізатараў Краснадонскай падпольнай маладзёжнай арганізацыі «Маладая гвардыя» ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза А. В. Кашавой нарадзіўся 8.6.1926 г. у г. Прылукі Чарнігаўскай вобл. у сям'і служачага. Член ВЛКСМ з 1942 г. З 1940 г. жыў у г. Краснадон Варашылаўградскай вобл., вучыўся ў сярэдняй школе. Пасля акупацыі ў ліпені 1942 г. горада нямецка-фашысцкімі войскамі ўдзельнічаў пад кіраўніцтвам партыйнага падполля ў стварэнні камсамольскай падпольнай арганізацыі, камісар і член яе штаба. Арганізатар і кіраўнік шматлікіх баявых аперацый. У студзені 1943 г. арганізацыя раскрыта фашыстамі. А. В. Кашавой спрабаваў перайсці лінію фронту, але 26.1.1943 г. быў схоплены на ст. Картушына і пасля катаванняў 9.2. 1943 г. расстраляны. Пасля вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пахаваны на Цэнтральнай плошчы ў г. Равянькі Варашылаўградскай вобласці. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.9.1943 г. Яго імя прысвоена шахтам, саўгасам, школам, піянерскім дружынам у СССР і за мяжой. У Мінску імем А. В. Кашавога названа вуліца, каля сярэдняй школы № 5 па вул. Цэнтральнай пастаўлены помнік.

У 1971 г. устаноўлены бюст камсамольца-патрыёта.

*Літ.:* Кошевая Е. Повесть о сыне.— М., 1968; Фадзееў А. Маладая гвардыя.— Мн., 1953.

**294. ПОМНІК КОЦІКУ** Валянціну Аляксандравічу (гіст.). На тэрыторыі школы-інтэрната № 13.

Удзельнік партызанскага руху на Украіне ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза піянер В. А. Коцік нарадзіўся 11.2.1930 г. у в. Хмялёўка Шапятоўскага р-на Хмяльніцкай вобл. у сялянскай сям'і. З 1937 г. жыў у г. Шапятоўка. Пасля акупацыі горада нямецка-фашысцкімі захопнікамі вучань 5-га класа Валянцін Коцік уступіў у падпольную арганізацыю. Быў сувязным, дастаўляў партызанам зброю, прадукты, распаўсюджваў у горадзе лістоўкі. З жніўня 1943 г. у партызанскім атрадзе. Удзельнічаў у многіх баявых аперацыях. Загінуў 17.2.1944 г. у баі каля г. Ізяслаў Хмяльніцкай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1958 г.



293. *Помнік А. В. Кашавому.*

У 1971 г. па ініцыятыве піянерскай і камсамольскай арганізацый школы-інтэрната ўстаноўлены бюст.

*Літ.:* Котик А. Н. Он был пионером.— М., 1958; Сбойчаков М. Два юных героя.— М., 1964; Дети-герои.— 3 изд.— Киев, 1986.

**295. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі школы-інтэрната № 13. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1971 г.

**вул. Сонечная**

**296. ПОМНІК БРАТАМ СЯНЬКО** Уладзіміру Іванавічу і Канстанціну Іванавічу (гіст.). Каля школы № 29.

Уладзімір (1920 г. нараджэння, член ВЛКСМ, студэнт Ленінградскага горнага інстытута) і Канстанцін (1923 г. нараджэння, член ВЛКСМ, перад Вялікай Айчыннай вайной скончыў мінскую сярэднюю школу № 29) Сянько пасля акупацыі горада нямецка-фашысцкімі захопнікамі з верасня 1941 г. сталі ўдзельнікамі Мінскага камуністычнага падполля. Уладзімір — кіраўнік, Канстанцін — член падпольнай групы (дзейнічала на чыгуначным вузле і ў горадзе), у якую ўваходзіла каля 10 чалавек, у тым ліку іх бацька І. М. Сянько (член КПСС з 1918 г.), маці Ю. Ф. Сянько і сястра Ванда. З лета 1942 г. падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь са спецгрупай маёра Л. І. Сарокі, з вясны 1943 г. выконвалі заданні партызанскага атрада «Мясцовыя», з кастрычніка 1943 г.— Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. Да вясны 1943 г. знішчылі каля 10 нямецкіх афіцэраў, захапілі 7 грузавых, 2 легкавыя аўтамашыны і перапраўлі іх да партызан, пусцілі пад адхон 3 эшалоны, правялі шэраг іншых дыверсій. 26.9.1943 г.

Уладзімір і Канстанцін Сянько апрануліся ў форму нямецкіх афіцэраў і з дапамогай М. П. Іванова ўзарвалі на чыгуначнай станцыі Мінск-Таварны эшалон, знішчылі 18 платформ з гаручым і 15 вагонаў з ваенным грузам. 2.10.1943 г. У. І. Сянько на чыгуначнай станцыі Мінск-Пасажырскі замініраваў паравоз і 2 вагоны, якія ўзарваліся паміж Маладзечнам і Вілейкай. 9.10.1943 г. К. І. Сянько і М. П. Гурыновіч замініравалі паравоз і вагон з жывой сілай і тэхнікай ворага, якія ўзарваліся ў раёне чыгуначнай станцыі Параф'янава. У хуткім часе У. І. Сянько на станцыі Мінск-Таварны замініраваў эшалон з гаручым, які ўзарваўся і згарэў каля в. Печы Барысаўскага р-на. 3.11.1943 г. Уладзімір і Канстанцін замініравалі эшалон з жывой сілай ворага, які ўзарваўся ў раёне станцыі Седча. У. І. Сянько загінуў 17.11.1943 г. у час засады падпольшчыкаў па дарозе. У снежні 1943 г. К. І. Сянько пры спробе захапіць нямецкую аўтамашыну з соллю на вул. Р. Люксембург цяжка паранены, схоплены і пасля катаванняў павешаны 11.1.1944 г. разам з бацькам. Браты Сянько пасмяротна ўзнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны 1-й ступені. Гл. таксама артыкул № 444 «Магіла Сянько Івана Мікалаевіча, Канстанціна Іванавіча і Уладзіміра Іванавіча».

У 1973 г. на ўшанаванне памяці У. І. Сянько і К. І. Сянько пастаўлены помнік з барэльефнымі партрэтамі братоў (скульпт. Л. Гуміleўскі, архіт. М. Жлабо).



296. *Помнік братам У. І. і К. І. Сянько.*

**пас. Сосны**

**297. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КРАСІНУ** Андрэю Капітонавічу (гіст.). На будынку Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР. Устаноўлена ў 1982 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага вучонага ў галіне атамнай энергетыкі, акадэміка АН БССР, лаўрэата Ленінскай прэміі А. К. Красіна, які працаваў дырэктарам гэтага інстытута ў 1965—77 гг. Гл. таксама артыкул № 589 «Магіла Красіна Андрэя Капітонавіча».

**вул. Старавіленская**

**298. ДОМ, У ЯКІМ БЫЛА КАНСПІРАТЫЎНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Дом № 26. У Вялікую Айчынную вайну ў кватэры № 3 у 1941—42 гг. знаходзілася адна з канспіратыўных кватэр Мінскага камуністычнага падполля, якую ўтрымліваў камуніст П. Р. Ляхоўскі. Тут адбываліся сустрэчы падпольшчыкаў з партызанскімі сувязнымі, разведчыкамі Чырвонай Арміі.

У 1962 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Ляховский П. Р. Посланцы Большой земли.— Мн., 1973.

*Г. Р. Бяльке віч.*

**299. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ СТАРАВІЛЕНСКАЙ** (архіт.). Вуліца размешчана ў паўночнай частцы Троіцкага прадмесця, уздоўж левага берага р. Свіслач, амаль паралельная вул. Горкага. Уваходзіць у межы ахоўнай зоны. Сфарміравана да сярэдзіны 19 ст. Дамы пабудаваны з цэглы, разнастайныя па маштабу і сілуэту. У афармленні фасадаў выкарыстана спалучэнне розных колераў.

Дом № 2. На рагу вуліцы Старавіленскай і Камунальнай набярэжнай. Двухпавярховы складанай у плане формы будынак накрыты двухсхільным вальмавым дахам. Вулічны фасад члянёны шматслойным карнізным поясам на 2 часткі. Невялікія прамавугольныя вокны ў простых ліштвах. Галоўны ўваход лучковага абрысу, над ім ліхтар на кранштэйне. Цяпер у будынку размешчана карчма «Старавіленская».

Дом № 4. Двухпавярховы Т-падобны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Паверхі на галоўным фасадзе аддзелены двума карнізнымі паясамі. Вокны прамавугольныя, па 2-м паверсе ў ліштвах, аздоблены сандрыкамі. Над цэнтральным уваходам навісае казырок чыгуннага ажурнага ліцця. Цяпер у будынку размешчана карчма «Троіцкая».

Дом № 6. Жылы. Складаецца з 2 трохпавярховых будынкаў, якія шчыльна прымыкаюць адзін да аднаго. План пабудовы складаны. Адна з частак накрыта двухсхільным дахам, які ў тарцы будынка ўтварае трохвугольны франтон, у тымпане якога круглае акно. Сцены расчлянёны карнізнымі паясамі, якія аддзяляюць паверхі. Вокны прамавугольныя, у ліштвах, на 2-м паверсе — з сандрыкамі. Галоўны і дваровы фасады злучаны драўлянай галерэяй з разной агароджай. Другая частка дома з двума мезанінамі накрыта аднасхільным дахам. Па фасадах праходзяць карнізныя паясы. Вокны прамавугольныя ў ліштвах.

Дом № 8. Жылы. Складаецца з 2 двухпавярховых аб'ёмаў, якія шчыльна прымыкаюць адзін да аднаго. Першы прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам, які на галоўным фасадзе ўтварае трохвугольны франтон з невялікім прамавугольным акном. Франтон аддзелены ад паверхні сцяны шматслойным карнізам, паверхі — карнізным поясам. Вокны прамавугольныя ў ліштвах. З паўднёва-ўсходняга боку да будынка прымыкае двухпавярховая прыбудова з драўлянай галерэяй. Другі аб'ём таксама прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Сцяна галоўнага фасада гарызантальна расчлянёна простым карнізным поясам. Вокны прамавугольныя, аздоблены ліштвамі.

Дом № 12. Жылы. Размешчаны ў глыбіні квартала. Складаецца з 2 частак і злучаны вуглом з домам № 14. Адна з частак двухпавярховая, накрыта двухсхільным дахам з дахавымі вокнамі. Сцены падзелены карнізным поясам. Вокны прамавугольныя, на 2-м паверсе з ліштвамі. Другая частка дома аднапавярховая з паўпадвалам, накрыта двухсхільным дахам. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі без ліштваў.

Дом № 14. Жылы. Складаецца з 6 будынкаў, якія шчыльна прымыкаюць адзін да аднаго і ўтвараюць адзіны пяцічасткавы фасадны комплекс.

Першы будынак трохпавярховы, Г-падобны ў плане, з рызалітам у дваровай частцы. Накрыты чатырохсхільным вальмавым дахам з вокнамі-люнетамі. Сцены галоўнага фасада па-



299. *Жылы дом № 4 па вуліцы Старавіленскай.*



299. *Дом № 6 па вуліцы Старавіленскай.*

дзелены карнізнымі паясамі, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах.

Другі будынак двухпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам з дахавымі вокнамі. Сцены падзелены карнізным поясам. Галоўны фасад расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі, на 2-м паверсе — з сандрыкамі. Асіметрычна размешчана лучковая арка-ўезд з чыгуннай брамай.

Трэці будынак двухпавярховы, Т-падобны ў плане, накрыты двухсхільным дахам з дахавымі вокнамі. Галоўны фасад падзелены карнізным поясам, прарэзаны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. З боку дваровага фасада на ўзроўні 2-га паверха зроблены балкон-галерэя з драўлянай разной агароджай.

Чацвёрты будынак двухпавярховы, Г-падобны ў плане, накрыты двухсхільным дахам з высокімі дахавымі вокнамі. Галоўны фасад падзелены карнізам, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах, на 2-м паверсе — з сандрыкамі. Асіметрычна размешчана арка-праезд з чыгуннай ажурнай брамай. Дваровы фасад аздоблены невялікім балконам з драўлянай разной агароджай.

Пяты будынак трохпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Сцяна галоўнага фасада падзелена карнізнымі паясамі, расчлянёна прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Уваход з лучковым завяршэннем размешчаны асіметрычна. Галоўны і дваровы фасады аздоблены балконамі з чыгуннай ажурнай агароджай.

Шосты будынак трохпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Сцены фасадаў расчлянёны карнізнымі паясамі. Вокны прамавугольныя, на 2-м паверсе галоўнага фасада з сандрыкамі. Уваход размешчаны з боку двара, вылучаны драўляным казырком на разных калонках. Дваровы фасад упрыгожаны 2 балкончыкамі з чыгуннай ажурнай агароджай.

Дом № 16. Жылы. Складаецца з 3 цагляных будынкаў, якія шчыльна прымыкаюць адзін да аднаго.

Першы будынак невялікі двухпавярховы, Г-падобны ў плане, накрыты двухсхільным дахам з дахавымі вокнамі. Фасады падзелены карнізным поясам. Вокны прамавугольныя ў ліштвах. На 2-м паверсе размешчаны некалькі невялікіх балкончыкаў з чыгуннай ажурнай агароджай.

Другі будынак трохпавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад расчлянёны карнізнымі паясамі. Вокны прамавугольныя ў ліштвах, на 2-м паверсе аздоблены сандрыкамі. На дваровым фасадзе на ўзроўні 2-га паверха праходзіць драўляная галерэя з разной агароджай.

Трэці будынак двухпавярховы з паўпадвалам, прамавугольны ў плане. Накрыты двухсхільным дахам, які ўтварае на галоўным фасадзе трохвугольны франтон, у тымпане якога прамавугольнае акно. Вокны прамавугольныя з ліштвамі, на 2-м паверсе аздоблены сандрыкамі. На адным са схілаў даху ўтворана стужка вокнаў-люнет.

Забудова вуліцы Старавіленскай — састаўная частка гісторыка-архітэктурнай зоны Троіцкага прадмесця. У 1985—87 гг. праводзілася рэстаўрацыя будынкаў, у выніку якой зменены іх знешні воблік.

*А. Ю. Пятросава.*

**300. МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Каля дома № 3.

Ва ўмовах масавых арыштаў удзельнікаў Мінскага камуністычнага падполля, якія па дадзеных варожай контрразведкі пачаліся ў ноч на 26.9. 1942 г., члены гарадской падпольнай арганізацыі Х. М. Александровіч, Я. У. Афнагель, І. К. Кабушкін, У. С. Казачонак, П. К. Калейнікаў і інш. падрыхтавалі выданне лістоўкі «Да насельніцтва Беларусі». Лістоўка была набрана і надрукавана 18.10. 1942 г. у памяшканні лазні (знаходзілася на плошчы 8 сакавіка) і была шырока распаўсюджана ў Мінску і яго ваколіцах. Лістоўка напісана ад імя Мінскага камітэта КП(б)Б і камандавання Н-скай партызанскай брыгады, заклікала савецкіх людзей адказаць на крывавы тэрор акупантаў узмацненнем барацьбы супраць ворага, заканчвалася зваротам «Да зброі, таварышы».

У 1984 г. на месцы, дзе быў будынак, у якім надрукавана лістоўка, устаноўлены камень-валун з надпісам-інфармацыяй (архіт. А. Лабачэўскі).

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1.— Мн., 1983. *М. М. Казлоўская.*

**вул. Старажоўская**

**301. ГАСЦІНІЦА «БЕЛАРУСЬ»** (архіт.). Дом № 15. Размешчана на ўзгорку левага берага р. Свіслач. Добра ўпісваецца ў ансамбль забудовы праспекта Машэрава. Пабудавана ў 1987 г. (архіт. Л. Пагарэлаў).

Вышынны 22-павярховы цэнтрычны трохпялёсткавы ў сячэнні будынак, разлічаны на 1000 гасцінічных месцаў. Архітэктура заснавана на рытме прамавугольных аконных праёмаў і навясных тонкіх пілонаў. Тарцы крылаў маюць пластычнае V-падобнае завяршэнне і вертыкальную стужку балконаў. З боку галоўнага ўвахода выступае аднапавярховы аб'ём вестыбюля і фае. Планіроўка тыпавога паверха радыяльная. Ад цэнтральнай ліфтавай групы разыходзяцца 3 калідоры з двухбаковым размяшчэннем нумароў. Каля ліфтавай групы і ў тарцах 2 крылаў размешчаны міжпаверхавыя лесвіцы. На 22-м паверсе — кафэ. Ад гасцінічнага корпуса ў бок праспекта Машэрава выступае самастойнае двухпавярховае крыло з круглым у плане блокам рэстарана, завершаным цыліндрычным светлавым ліхтаром.

Гасцініца — твор сучаснай савецкай архітэктуры. Іл. гл. на стар. 39.

*А. М. Кулагін.*

**вул. Сурганава**

**302. ЦЭНТРАЛЬНЫ БАТАНІЧНЫ САД АКАДЭМІІ НАВУК БССР** (архіт., гіст.).

Размешчаны ў паўночна-ўсходняй частцы Мінска, непадалёку ад Ленінскага праспекта. Абмежаваны пл. імя Калініна, вуліцамі Сурганава і Акадэмічнай, 1-м Парніковым завулкам (паштовы адрас: вул. Сурганава, 2а). Мяжуе са спартыўным комплексам Інстытута фізкультуры і паркам імя Чэлюскінцаў. Галоўны ўваход з пл. імя Калініна архітэктурна аформлены ў выглядзе каланады з антаблементам (1958 г., архіт. С. Мусінскі, Г. Сысоеў).

Вядучая навуковая ўстанова па інтрадукцыі карысных раслін у рэспубліцы, буйны твор садова-паркавага мастацтва. У батанічных калекцыях і экспазіцыях — дрэвы, кусты і ліяны, кветкавыя мнагалетнікі і аднагалетнікі, вострапахучыя і лекавыя, дубільныя і кармова-сіласныя расліны; на спецыяльных участках растуць ружы, бэз, рададэндраны і альпійскія дэкаратыўныя расліны, у аранжарэях — прадстаўнікі субтрапічнай і трапічнай флоры. Больш за 9 тыс. відаў, форм і сартоў прыроднай і культурнай флоры зямнога шара сабраны ў калекцыях, якія з'яўляюцца базай для навуковых даследаванняў па ўзбагачэнні флоры Беларусі новымі гаспадарча-карыснымі раслінамі.

Будаўніцтва саду пачалося ў 1931 г. пад кіраўніцтвам члена-карэспандэнта

АН БССР, прафесара С. П. Мельніка, 17.4.1932 г. Саветам Народных Камісараў БССР прынята пастанова аб арганізацыі саду ў сістэме Акадэміі навук. Для будаўніцтва была адведзена тэрыторыя ў 106 га, якая раней належала Усебеларускай сельскагаспадарчай і прамысловай выстаўцы (1930 г.). Асваенне гэтай тэрыторыі пачалося па генеральнай схеме, прынятай у 1932 г. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны пасадкі дрэвавых раслін занялі 55 % плошчы саду, былі аформлены амаль усе алейныя пасадкі і жывыя агароджы, у геаграфічных сектарах дэндрарыя, дэкаратыўнай і лесапаркавых частках высаджана каля 50 тыс. дрэў і кустоў 1300 відаў, разнавіднасцей і форм. У час нямецка-фашысцкай акупацыі Мінска сад быў разбураны і спустошаны. Загінула большая частка дрэвавых і травяністых раслін, поўнасцю калекцыя шматгадовых кветкавых, ружоўнік; многія каштоўныя пароды дрэў, кустоў і дэкаратыўных раслін былі вывезены. У калекцыях саду налічвалася ўсяго 298 відаў дрэвавых раслін. У пасляваенны час аднавіліся навуковыя даследаванні па інтрадукцыі раслін, вывучэнні флоры і расліннасці Беларусі, фізіялогіі раслін, па дэкаратыўным садоўніцтве і інш. актуальных праблемах. З 1957 г. самастойная навукова-даследчая ўстанова ў сістэме АН БССР. Мае аспірантуру для падрыхтоўкі навуковых кадраў. У 1963 г. Прэзідыум АН БССР зацвердзіў новы генеральны план рэканструкцыі саду, які быў распрацаваны ў інстытуце «Белдзяржпраект» (архіт. В. Анікін, К. Басаў, М. Трыгубовіч). Праектам прадугледжана ўключэнне ў дэндрарый лесапаркавай часткі і значнае расшырэнне некаторых батаніка-геаграфічных сектараў, павелічэнне плошчы ландшафтнага парку, вылучэнне экспазіцый кветкава-дэкаратыўных раслін. Плошча пладовага саду трансфармавалася ў эксперыментальныя ўчасткі, былі прадугледжаны таксама значныя работы па добраўпарадкаванню тэрыторыі саду, у т. л. стварэнне штучнага вадаёма, будаўніцтва лабараторнага корпуса, аранжарэй, гаспадарчых пабудоў. Цяпер сад (плошча 92,8 га) — буйная навукова-даследчая ўстанова, якая распрацоўвае важнейшыя пытанні інтрадукцыі і акліматызацыі раслін, навуковых асноў зялёнага будаўніцтва, аховы навакольнага асяроддзя. Мае наступную структуру: лабараторыі мабілізацыі раслінных рэсурсаў, інтрадукцыі і селекцыі арнаментальных раслін, інтрадукцыі дрэвавых раслін, хіміі раслін і тэхналогіі расліннай сыравіны, экалагічнай фізіялогіі раслін; інтрадукцыі пладова-ягадных раслін, фітапатагенных арганізмаў. Ёсць навукова-дапаможныя падраздзяленні: група садаўпарадкавання, патэнтна-інфармацыйны аддзел, бібліятэка, гербарый інтрадукаваных раслін, фоталабараторыя, экскурсійнае бюро. Мае таксама доследна-эксперыментальную базу па вырошчванні буйнаплодных паўночна-амерыканскіх журавін і буякоў у Ганцавіцкім р-не. Сад падтрымлівае навуковыя сувязі і абменьваецца насеннем з 279 батанічнымі садамі і арбарэтумамі (дэндрарыямі) 45 замежных краін усіх кантынентаў зямнога шара, а таксама з 134 батанічнымі і раслінаводчымі ўстановамі

**302.** *Цэнтральны батанічны сад АН БССР. Схема планіроўкі.*



302. *Галоўны ўваход у Батанічны сад. Панарама з боку саду.*

СССР. Выдае зборнікі навуковых прац. У садзе працавалі акадэмікі АН БССР М. П. Тамін, Ц. М. Годнеў, М. А. Дарожкін, М. Дз. Несцяровіч, М. У. Смольскі, член-карэспандэнт М. М. Ганчарык.

Сад спалучае рысы пейзажнай і рэгулярнай планіроўкі. Кампазіцыйнае ядро — цэнтральны партэр. Праз яго праходзіць асноўная планіровачная вось, якая ідзе ад галоўнага ўвахода па алеі да партэра і мемарыяльнай алеі, завершанай возерам. Дэндрарый прарэзаны радыяльнымі прамымі алеямі, што сыходзяцца да цэнтральнага партэра. Утвораныя пры гэтым сектары з'яўляюцца экспазіцыйнымі зонамі флоры пэўнага геаграфічнага арэала. Знешняя яблыневая алея кампазіцыйна аб'ядноўвае і абмяжоўвае дэндрарый. Аранжарэйны комплекс і лабараторны корпус удала аддзелены ад гадавальнікаў саду алеяй таполяў. Новыя кампазіцыйныя элементы саду — партэр каля службовага ўвахода і рэканструяваны ракарый з горнаальпійскай расліннасці Каўказа, Сярэдняй Азіі і Закарпацця. Багатая калекцыя раслін саду навукова сістэматызавана. Створаныя батанічныя экспазіцыі аформлены ў адпаведнасці з патрабаваннямі ландшафтнай архітэктуры.

Цэнтральны партэр. З'яўляецца цэнтрам кампазіцыі саду, яго найбольш параднай экспазіцыяй. Да яго вядзе шырокая алея з ліпы драбналістай і арэха маньчжурскага. Аснова партэра — роўны, вельмі прыгожы газон, абкружаны шчыльнай жывой агароджай з туі заходняй, якой нададзены дэкаратыўныя геаметрычныя формы. Цэнтральная клумба аформляецца дэкаратыўнымі кветкавымі раслінамі (ірэзінэ, альтэрнантэра, цынерарыя, бягоніі, пеларгоніі, пірэтрумы і інш.). Аксамітная паверхня га-



302. *Батанічны сад. Пано з кветак.*



302. *Батанічны сад. Возера.*

зона, рабаткі, складаныя вянкі кветкавых арнаментаў ствараюць уражанне жывога калейдаскопа. Веерам разбягаюцца ў радыяльным напрамку алеі: арэхавая, кляновая, бярозавая, туевая, ліпавая, яловая, чаромхавая, ясянёвая, яблыневая, дубовая. З цэнтральнага партэра добра праглядваюцца ландшафтны парк, розныя дрэвава-кустовыя пасадкі, невялікія палянкі, курціны, зараснікі. Каля ўваходнай алеі ружоўнік, які разам з партэрам складае агульнае кампазіцыйнае цэлае. Афармлены ў выглядзе вялікага газона з украпваннем квітучых кустоў, дарожкамі, малымі архітэктурнымі формамі.

Ландшафтны парк. Пабудаваны на аснове спалучэння асобных груп дрэў і квітучых садоў з газонамі і кветкавым афармленнем. Кампазіцыя парку створана з мясцовых і інтрадукаваных парод дрэў (бяроза, арэх маньчжурскі, клён, дуб, ясень, рабіна, хвоя, белая акацыя, таполя, елка, глог, чаромха, барбарыс, вярба, лістоўніца, яблыня і інш.). Тут цудоўныя алеі, групы і курціны з розных мясцовых і іншаземных дрэвавых парод, роўныя газоны, прыгожыя квітучыя рабаткі, лужкі, звілістыя дарожкі, круглаватыя пергалы з разнастайнымі павойнымі раслінамі. Усе кампазіцыі ў парку будуюцца на «падбіўцы» дрэў нізкарослымі кустамі і адасобленасці на зялёным фоне палянак. На асноўнай з іх — Сонечнай — пасаджаны дуб у гонар першаадкрывальніка космасу Ю. А. Гагарына. Палянка — лугавы газон, акаймаваны дугласіямі, дубамі, клёнамі. На ёй створана курціна хвоі чорнай, побач з якой група разгалістых вербаў. Завершана палянка жывой агароджай з пузыраплодніку каліналістага, за ёй вялікі масіў, дзе растуць белая акацыя, граб, клён, хвоі, дугласіі, бярозы, ясені, таполі. Амаль на самым краі масіву бярозавы гай. З паўночнай мяжы парку праходзіць рабінавая алея, высаджаная ўздоўж мураванай агароджы. Уздоўж унутранай звілістай сцежкі ў выглядзе секцыйнага тунеля ўстаноўлены пергалы, абвітыя вінаградам і інш. павойнымі раслінамі. З хвойных экзотаў растуць хвоі Мурэя і веймутава, чорная аўстрыйская, румелійская, кедры сібірскі і карэйскі, елка канадская, піхта сібірская. У кампазіцыю ландшафтнага парку ўключаны пасадкі бэзу (184 сарты).

Дэндрарый размешчаны за партэрам саду. Плошча каля 46 га. З поўначы яго абмяжоўвае алея з клёна серабрыстага, з усходу — алея з яблынь крэба; паўднёвыя межы дэндрарыя і саду супадаюць. Налічвае больш за 1500 відаў і форм дрэвава-кустовых раслін. Прамянёвымі алеямі з абарыгенных і інтрадукаваных дрэвавых парод, якія разыходзяцца ад цэнтральнага партэра, дэндрарый падзелены на батаніка-геаграфічныя сектары: Далёкаўсходні край і Усходняя Азія, Паўночная Амерыка, Еўропа і Сібір, Крым і Каўказ, Сярэдняя Азія, Беларусь. Кожная з алей абсаджана пэўнай пародай дрэў: дуб звычайны, чаромха Маака, ясень пенсільванскі, елка звычайная, туя заходняя, ліпа драбналістая, бяроза павіслая, клён серабрысты. У Дзень Перамогі 9.5.1945 г. тут створана мемарыяльная яловая алея.

Экспазіцыя Далёкаўсходні край і Усходняя Азія. Абмежавана алеямі з крэба і чаромхі Маака. У калекцыі 494 віды і формы. Сярод іх такія лесаўтваральныя віды, як піхта суцэльналістая, хвоя кедравая карэйская, або кедр карэйскі, арэх маньчжурскі, аксаміт амурскі, або коркавае дрэва, бяроза даурская. З Цэнтральнага Кітая культывуюцца кальквіцыя цудоўная, рабіна кенэ, бэз ніцы, розныя віды дэйцыі, спірэі, глогу. З Японіі, пераважна з горных раёнаў Хакайда, інтрадукавана 60 таксонаў дрэвавых раслін (піхта Віча, лістоўніца японская і інш.).

Экспазіцыя Паўночная Амерыка. Абмежавана алеямі з чаромхі Маака і ясеня пенсільванскага. У калекцыі 424 таксоны. З субарктычнай правінцыі Паўночнай Амерыкі, якая ўключае значную частку Канады, інтрадукаваны такія каштоўныя віды дрэвавых раслін, як елка шызая, лістоўніца амерыканская, бяроза папяровая, туя заходняя, хвоя веймутава, піхта бальзамічная. З заходніх паўночнаамерыканскіх штатаў інтрадукаваны 80 відаў: дугласія Мензіса, елка калючая, піхта аднаколерная, лістоўніца заходняя, магонія падубалістая, спірэя Дугласа і інш. віды дрэў і кустоў. Большасць з іх выкарыстоўваюцца ў садова-паркавым будаўніцтве рэспублікі.

Экспазіцыя Еўропа і Сібір. Абмежавана алеямі з бярозы павіслай і туі заходняй. Налічвае 249 таксонаў. Многія віды даволі частыя ў лесаводчай і азеляняльнай практыцы рэспублікі (лістоўніца еўрапейская, хвоя кедравая еўрапейская, ціс еўрапейскі і інш.). З Балкан на Беларусь інтрадукаваны елка сербская, хвоя румелійская, горкі каштан звычайны, бэз звычайны і інш. каштоўныя для зялёнага будаўніцтва віды. 71 від дрэвавых раслін інтрадукаваны з Сібіры: піхта сібірская, лістоўніца сібірская, елка сібірская, віды вольхаў, бярозы, таполі, хвоя сібірская, ліпа сібірская, бружмель алтайскі, рададэндран Ледэбура і інш.

Экспазіцыя Крым і Каўказ. Абмежавана алеямі з клёну серабрыстага і бярозы павіслай. Прадстаўлена 82 таксонамі, сярод якіх такія цікавыя эндэмічныя віды, як елка ўсходняя, дуб Гартвіса, дуб буйнапыльнікавы, ляшчына дрэвападобная, або мядзведжы арэшнік. Амаль цалкам акліматызаваліся ліпа каўказская, рабіна каўказская, бяроза Літвінава і інш. Асобныя віды (елка Нордмана і лапіна ясеналістая, або арэх каўказскі) культывуюцца ў паўднёвай частцы рэспублікі з 19 ст.



302. *Батанічны сад. Адна з алей.*

Экспазіцыя Сярэдняя Азія. Абмежавана алеямі з бярозы павіслай, дуба звычайнага пірамідальнага, туі заходняй і экспазіцыяй сістэматыкі травяністых раслін. Параўнальна бедная, налічвае 89 таксонаў. Сярод іх елка Шрэнка, бяроза туркестанская, бяроза кіргізская, а таксама розныя віды барбарысу, вішні, ружы, глогу.

Экспазіцыя Беларусь. Размешчана абапал алеі з ліпы драбналістай. Прадстаўлена асноўнымі раслiннымі згуртаваннямі лясоў рэспублікі — хвойнікамі, ельнікамі, дубровамі, бярэзнікамі з падлескам з ядлоўцу, курцінай граба звычайнага, групы рабін, зараснікамі вербаў, вольхі чорнай і шэрай і інш. Берагавая лінія і востраў возера дэкарыраваны вербамі, аерам, рагозам, трыснягом.

Экспазіцыя кветкава-дэкаратыўных раслін. Некаторыя кветкавыя культуры прадстаўлены ў выглядзе самастойных экспазіцый (ружоўнік, рададэндрарый, сірынгарый, цюльпінарый і інш.). У калекцыі каля 5000 відаў, форм і сартоў.

Экспазіцыя сістэматыкі травяністых. Заснавана на размяшчэнні вялікай колькасці травяністых раслін (каля 1500 відаў) па філагенетычнай сістэме А. Л. Тахтаджана.

Экспазіцыя экалогіі раслін. Відавочна паказвае ва ўмовах максімальнага набліжэння да прыродных уплыў знешніх фактараў на травяніста-кустовыя расліны і іх згуртаванні, узаемаадносіны раслін з асяроддзем.

Экспазіцыя біялогіі раслін. Дэманструе найбольш важныя этапы біялогіі развіцця, іх марфолага-біялагічныя асаблівасці, прыстасаванасць раслін да розных умоў асяроддзя, з'явы полавага дымарфізму, біялогіі цвіцення і апылення, марфолага-анатамічную будову пладоў, спосабы рассялення насення для падтрымання жыцця і шэраг інш. з'яў з жыцця раслін.

Экспазіцыя ахоўных раслін. Прызначана для паказу рэдкіх і знікаючых відаў раслін беларускай флоры, якія знаходзяцца пад ахоўвай дзяржавы.

*Літ.:* Сидорович Е. А., Маргайлик Г. И. Центральный ботанический сад АН БССР.— Мн., 1978; Итоги интродукции растений в Белорусской ССР (к 50-летию ЦБС АН БССР).— Мн., 1982; Древесные растения Центрального ботанического сада АН БССР.— Мн., 1982. *Б. М. Прусакова.*

**303. БЮСТ ЗЯЛЬДОВІЧА** Якава Барысавіча (гіст., маст.). Перад будынкам Інстытута кібернетыкі АН БССР.

Савецкі фізік-тэарэтык, акадэмік АН СССР (1958 г., член-карэспандэнт АН СССР з 1946 г.), тройчы Герой Сацыялістычнай Працы Я. Б. Зяльдовіч нарадзіўся 8.3.1914 г. у Мінску.



303. *Бюст Я. Б. Зяльдовіча.*

З 1931 г. працаваў у Інстытуце хімічнай фізікі АН СССР, з 1964 г. у Інстытуце прыкладной матэматыкі АН СССР. Прафесар Маскоўскага універсітэта з 1966 г. Навуковыя працы па фізічнай хіміі, астрафізіцы, тэорыі элементарных часцінак і ядзернай фізіцы. Адзін з заснавальнікаў сучаснай тэорыі гарэння, дэтанацыі і ўдарных хваляў, развіў тэорыю адсорбцыі і каталізу на неаднародных паверхнях. Выявіў (разам з Д. А. Франк-Камянецкім) сувязь скорасці гарэння з характарыстыкамі гаручай сумесі, стварыў фізічныя асновы ўнутранай балістыкі ракетных парахавых рухавікоў. Распрацаваў тэорыю апошніх стадый эвалюцыі зорак і зоркавых сістэм з улікам эфектаў агульнай тэорыі адноснасці, тэорыю гравітацыйнага калапсу, тэорыю працэсаў у «гарачым Сусвеце», які расшыраецца. Работы разам з Ю. Б. Харытонам мелі важнае значэнне ў вырашэнні праблемы выкарыстання ядзернай энергіі. Лаўрэат Ленінскай і 4 Дзяржаўных прэмій СССР. У 1979 г. узнагароджаны медалём імя І. В. Курчатава АН СССР. Памёр 2.12. 1987 г.

Бронзавы бюст Я. Б. Зяльдовіча ўстаноўлены 10.11.1978 г. (скульпт. Л. Крамнёва, архіт. В. Шыраева; вышыня пастамента 2,8 м, бюста — 1 м).

*Літ.:* У гонар славутага фізіка.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1984, № 2.

**304. ВОДНА-СПАРТЫУНЫ КАМБІНАТ** рэспубліканскі імя 50-годдзя камсамола Беларусі (архіт.). Размешчаны ў зялёнай зоне. Дзейнічае з 1967 г. Уключае Палац воднага спорту, 2 (адзін з іх пабудаваны ў 1961 г.) адкрытыя з падагрэвам вады басейны для плавання ў любую пару года (пл. 3600 м²), спартыўна-аздараўленчы комплекс з лазнямі-парыльнямі і адкрытым басейнам з мінеральнай вадой (пл. 900 м²), а таксама спецыяльна абсталяванымі кабінетамі для фізіятэрапеўтычных, гідратэрапеўтычных і бальнеалагічных працэдур.

Адзін з буйнейшых комплексаў падобнага тыпу ў Еўропе, разлічаны на абслугоўванне 3 тысяч чалавек штодзень. Тут праводзяцца рэспубліканскія, усесаюзныя і міжнародныя спаборніцтвы па плаванні, водным пола, скачках у ваду. Традыцыйнымі сталі міжнародныя спаборніцтвы па скачках у ваду «Вясновыя ластаўкі». Басейны выкарыстоўваюцца і як навучальная база спецыялізаваных дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ. Пры камбінаце працуюць групы загартоўвання.

Палац воднага спорту. Прамавугольнае ў плане збудаванне, выцягнутае па папярэчнай восі (аб'ём каля 70 тыс. м³). Вырашана ў лаканічных архітэктурных формах. Аб'ёмна-прасторавая структура адпавядае функцыянальнаму прызначэнню аб'екта. Галоўны фасад расчлянёны на 2 паверхі, вырашаныя гарызантальнымі стужкамі зашклення і міжпаверхавых панеляў. Выкарыстанне металічных зварных крывалінейных бэлек пралётам 34 м дало магчымасць перакрыць вялікую прастору збудавання. Асіметрычна размешчаныя ўваходы вылучаны шырокім казырком і тамбурам. Зашклёная плоскасць супрацьлеглага франтальнага фасада рытмічна расчлянёна пілонамі-апорамі скляпеністага перакрыцця залы басейна. Кампазіцыя фасада, арыентаванага на вул. Сурганава, заснавана на рытме жалезабетонных пілонаў пераменнага сячэння. У адным з яго пралётаў асіметрычна размешчана дэкаратыўнае мазаічнае пано.

Унутраная прастора будынка падзелена на 2 часткі, большая з якіх з'яўляецца агульнай залай трох басейнаў (плошча 1650 м²) з трыма



304. *Будынак водна-спартыўнага камбіната.*

скачковымі вышкамі і трыбунай на 1,2 тыс. гледачоў. Меншая частка 2-павярховая і ўключае вестыбюль з гардэробам, буфет, раздзявальні з душавымі, адміністрацыйныя памяшканні, трэнерскія, медыцынскія кабінеты. Двухмаршавая лесвіца звязвае вестыбюль з галерэяй і інш. Вакол камбіната спартыўныя пляцоўкі, месцы для адпачынку.

Камбінат — прыклад комплекснага вырашэння сучаснага спартыўна-відовішчнага збудавання. *А. М. Кулагін.*

**305. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КЕДЫШКУ** Мікалаю Аляксандравічу (гіст.). На будынку гарадскога прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 24 (дом № 45, корпус 1), якое носіць яго імя. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза М. А. Кедышкі, які ў 1938—39 гг. вучыўся ў гэтым вучылішчы. Гл. таксама артыкул № 335 «Помнік Кедышку Мікалаю Аляксандравічу».

**306. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАЎЛЮЧЭНКУ** Міхаілу Міхайлавічу (гіст.). На будынку Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР (дом № 9). Устаноўлена 14.10.1977 г. (скульпт. С. Селіханаў) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага фізіка-хіміка, акадэміка АН БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР М. М. Паўлючэнкі, які працаваў у гэтым інстытуце. Гл. таксама артыкул № 487 «Магіла Паўлючэнкі Міхаіла Міхайлавіча».

**307. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЯРМОЛЕНКУ** Мікалаю Фёдаравічу (гіст.). На будынку Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР (дом № 9). Устаноўлена 14.10.1977 г. (скульпт. У. Хмызнікаў) на ўшанаванне памяці беларускага савецкага хіміка, акадэміка АН БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР М. Ф. Ярмоленкі, які працаваў у гэтым інстытуце. Гл. таксама артыкул № 739 «Магіла Ярмоленкі Мікалая Фёдаравіча».

**вул. Сцебенева**

**308. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад дома № 1. Захавалася 12 насыпаў (раней іх было 27) вышынёй 2 м, дыяметрам 8—10 м. Выявіў у 1892 г. Г. Х. Татур, даследавалі ў 1929 г. А. Рынейскі, у 1974 г. археалагічная экспедыцыя БДУ імя У. І. Леніна, абследаваў у 1977 г. В. Е. Собаль. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Побач са шкілетамі знойдзены буйныя бронзавыя пацеркі, падвеска, пярсцёнак з арнаментам, ганчарная кераміка. Датуецца 11—13 стагоддзямі, належаў дрыгавічам.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Татур Г. Х. Очерк археологических памятников на пространстве Минской губернии и ее археологическое значение.— Мн., 1892. *В. Е. Собаль.*




**305.** *Мемарыяльная дошка М. А. Кедышку.*




**306.** *Мемарыяльная дошка М. М. Паўлючэнку.*

**вул. Сядова**

**309. ПОМНІК ГЕРАСІМЕНКА** Людміле Назараўне (гіст.). На тэрыторыі сярэдняй школы № 25 (дом № 3).

Удзельніца Мінскага камуністычнага падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны Люся Герасіменка — дачка былога інструктара Сталінскага райкома партыі г. Мінска, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Мінскага камуністычнага падполля ў 1941—42 гг. Назара Яўстратавіча Герасіменкі. У час нямецка-фашысцкай акупацыі Люся жыла разам з бацькамі на вул. Няміга, 25, у 23-й кватэры (2 паверх). Тут была канспіратыўная кватэра мінскіх падпольшчыкаў, дзе збіраліся ўдзельнікі падпольнай барацьбы з акупантамі, захоўвалася зброя, боепрыпасы, медыкаменты, нелегальная літаратура. 12-гадовая піянерка Люся і яе маці Тацяна Данілаўна актыўна ўдзельнічалі ў падпольнай рабоце, выконвалі асобныя заданні. У час сходак падпольшчыкаў Люся гуляла з дзецьмі на вуліцы каля дома або па лесвіцы ў доме, пры з'яўленні незнаёмага або паліцэйскага падавала ўмоўны сігнал трывогі. Па ім удзельнікі падпольнай нарады раскладвалі на стале закускі і рабілі выгляд, што яны сабраліся на дзень нараджэння гаспадыні. У маі 1942 г. бацька Люсі (партыйны псеўданім Мікалай) быў пазначаны сакратаром Сталінскага падпольнага райкома партыі г. Мінска. Ён вёў нялёгкую работу па аднаўленні падполля пасля сакавіцкіх правалаў і навальных арыштаў падпольшчыкаў. Па даручэнні бацькі Люся хадзіла ў іншыя раёны горада, перадавала лістоўкі, газеты, у т. л. і падпольную «Звязду», зброю, дакументы, збірала для партызан цёплыя рэчы і медыкаменты, распаўсюджвала лістоўкі, выконвала і іншыя важныя даручэнні. У верасні 1942 г. у горадзе зноў пачаліся арышты падпольшчыкаў. 2 верасня была арыштавана сям'я Герасіменкі. Люся падзяліла лёс многіх падпольшчыкаў і сваіх бацькоў. Разам з маці яна сядзела ў адной з камер на трэцім паверсе мінскай турмы. У суседняй камеры быў бацька. Як і дарослых, дзяўчынку дапытвалі, катавалі. Але піянерка мужна трымалася. Аднойчы, сустрэўшы ў калідоры знаёмага падпольшчыка, яна шапнула, каб ён перадаў бацьку, што яна, як і мама, нічога не сказала. У снежні 1942 г. Люся разам з бацькамі




**307.** *Мемарыяльная дошка М. Ф. Ярмоленку.*

камі загінула ў «душагубцы». У 1981 г. па ўшанаванне памяці Л. Н. Герасіменкі пастаўлены помнік — партрэтны бюст піянеркі. Яе імя прысвоена піянерскай дружыне мінскай сярэдняй школы № 30.

*Літ.:* Рычагов А. Х. По следам юной подпольщицы.— Мн., 1966; Краснопёрко А. «Баба села горох...».— У кн.: Пионеры-герои. 3 изд. Мн., 1972; я е ж. Маленький горнист подполья.— У кн.: Искры пионерских костров. Мн., 1983.

*В. М. Удальцоў.*

**310. ПОМНІК ГОЙШЫКУ** Мікалаю Васілевічу (гіст.). На тэрыторыі сярэдняй школы № 25 (дом № 3).

Удзельнік партызанскага руху на тэрыторыі Брэсцкай і Пінскай абласцей у Вялікую Айчынную вайну М. В. Гойшык нарадзіўся 17.1.1927 г. у в. Воля Івацэвіцкага р-на. З сялян. Член ВЛКСМ з 1944 г. Перад вайной скончыў 5 класаў школы. Пасля акупацыі фашыстамі тэрыторыі Брэсцкай вобл. збіраў зброю, перадаваў яе партызанам, быў сувязным партызанскага атрада А. П. Чарткова. У лютым 1943 г. яго бацька, былы старшыня сельсавета, быў арыштаваны гітлераўцамі і пасля катаванняў расстраляны. М. Гойшык, яго маці і сястра пайшлі да партызан. У брыгадзе імя Ф. Э. Дзяржынскага юны партызан уступіў у камсамол, стаў мінёрам. Разам з іншымі партызанамі хадзіў на баявыя заданні, удзельнічаў у засадах, у разгроме варожай аўтакалоны на дарозе Бяроза — Бронная Гара, дзе ён узяў у палон варожага кулямётчыка. Асабіста пусціў пад адхон 8 варожых эшалонаў, апошні цаной свайго жыцця. 24.4.1944 г. на ўчастку чыгункі Івацэвічы — Брэст не ўдалося загадзя замініраваць рэйкі, бо прагон узмоцнена ахоўваўся ворагам. Пры набліжэнні эшалона М. В. Гойшык кінуўся пад яго з мінай. Выбухам цягнік з танкамі, гарматамі і жывой сілай ворага быў скінуты пад адхон, больш як 300 гітлераўцаў загінулі пад абломкамі і ў агні. Пахаваны камсамолец на партызанскіх могілках ва ўрочышчы Гута-Міхаліна Івацэвіцкага р-на. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. Непадалёку ад месца гібелі партызана каля в. Міхнавічы Івацэвіцкага р-на ў 1968 г. пастаўлены помнік М. В. Гойшыку. Яго імем названа вуліца ў г. Івацэвічы, імя яго прысвоена Яглевіцкай сярэдняй школе, дзе ён вучыўся, піянерскім атрадам і дружынам у многіх школах Беларусі.

У 1981 г. на ўшанаванне памяці М. В. Гойшыка ўстаноўлены бюст мужнага партызана.

*Літ.:* Туричин И. А. Недремлющий лес.— Мн., 1962; В памяти народной.— Мн., 1969, с. 112—113; Шымук В. Коля Гойшык.— Мн., 1971.

*В. М. Удальцоў.*

**311. ПОМНІК ГОЛІКАВУ** Леаніду Аляксандравічу (гіст.). На тэрыторыі школы № 25 (дом № 3). Бюст Героя Савецкага Саюза, партызана-разведчыка ў Вялікую Айчынную вайну Л. А. Голікава ўстаноўлены ў 1981 г. Гл. таксама артыкул № 289 «Помнік Голікаву Леаніду Аляксандравічу».

**312. ПОМНІК КАЗЕЮ** Марату Іванавічу (гіст.). На тэрыторыі сярэдняй школы № 25 (дом № 3). Бюст Героя Савецкага Саюза, юнага партызана-разведчыка ў Вялікую Айчынную вайну М. І. Казея ўстаноўлены ў 1981 г. Гл. таксама артыкул № 130 «Помнік Казею Марату Іванавічу».

**вул. Талбухіна**

**313. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ, ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). Бульвар Талбухіна, насупраць гадзіннікавага завода. Пахавана звыш 10 тыс. чалавек, большасць якіх ваеннапалонныя, а таксама мірныя грамадзяне, закатаваныя ці расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—44 гг. Сярод пахаваных савецкія воіны і партызаны, якія загінулі ў барацьбе з гітлераўцамі ў Вялікую Айчынную вайну.

У 1963 г. на магіле ўстаноўлена гранітная пліта.

Помнік савецкім воінам. На бульвары, злева ад брацкай магілы савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў. Тут 3.7.1944 г. загінулі воіны 4-й гвардзейскай Мінскай Чырванасцяжнай ордэна Суворава II ступені танкавай брыгады 2-га гвардзейскага Тацынскага Чырванасцяжнага ордэна Суворава II ступені танкавага корпуса — камандзір экіпажа танка гвардыі малодшы лейтэнант В. Я. Зенкін, гвардыі сяржанты Я. А. Сітнікаў, М. А. Кашнікаў і гвардыі радавы М. М. Валынкін. Былі пахаваны за 20 м на поўнач ад сучаснай станцыі метро «Парк Чэлюскінцаў». У 1947 г. перапахаваны ў брацкую магілу на бульвары Талбухіна.

У 1987 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых пастаўлены помнік — камень-валун з памятным надпісам.

*Г. І. Дулеба, М. М. Казлоўская.*

**314. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ТАЛБУХІНА** (архіт.). Вуліца Талбухіна знаходзіцца ў паўночна-ўсходняй частцы горада. Названа ў гонар маршала Савецкага Саюза, Героя Савецкага Саюза Ф. І. Талбухіна. Працягласць 700 м ад Ленінскага праспекта да вул. Кнорына. Па цэнтры вуліцы праходзіць шырокі бульвар, у пачатку якога знаходзіцца брацкая магіла савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў, закатаваных ці расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—44 гг. Як адзіны горадабудаўнічы комплекс узведзены жылыя дамы № 12, 14, 16 і кінатэатр «Партызан», рэстаран «Каменная кветка».

Жылыя дамы № 12, 14, 16. Пабудаваны як жылы мікраraён у



313. *Брацкая магіла савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў.*




313. *Помнік савецкім воінам.*

1962—66 гг. (архіт. Ю. Шпіт, інж. Я. Саманчук).

Прасторавая кампазіцыя ансамбля заснавана на кантрасце вертыкалей 9-павярховых жылых дамоў і падоўжанага 1—2-павярховага аб'ёму, у якім размешчаны прадпрыемствы культурна-бытавога абслугоўвання. У агульнай кампазіцыі выкарыстаны пакаты рэльеф мясцовасці. Дамы — комплекс першых на Беларусі 9-павярховых буйнапанельных жылых дамоў. Кожны дом мае 70 кватэр: 37 аднапакаёвых, 29 двухпакаёвых і 4 трохпакаёвыя кватэры. На першых паверхах прадугледжаны вестыбюль, пакой для заняткаў дзяцей. У кожным доме па 2 лесвічна-ліфтавыя групы, аб'яднаныя калідорамі 1-га паверха. Ліфтавыя шахты вынесены за асноўныя аб'ёмы, балконы размешчаны ў шахматным парадку.

Ансамбль жылых дамоў — прыклад сучаснага горадабудаўніцтва.

Кінатэатр «Партызан». Дом № 18. Пабудаваны ў 1966—67 гг. паводле індывідуальнага праекта (архіт. Ю. Шпіт, інж. Я. Саманчук).

Да кубападобнага аб'ёму далучаны пры дапамозе пераходу на ўзроўні 2-га паверха больш нізкі, круглы ў плане

аб'ём касавай залы (1-ы паверх) і малой канферэнц-залы (2-і паверх). Спалучэнне глухіх сцен і прамавугольнай плоскасці вітража, стужачнага зашклення з рытмам вертыкальных пілонаў касавага аб'ёму вызначае асноўную характарыстыку экстэр'ера будынка. Гарызантальныя лініі парапета і балкона з рэкламным надпісам падкрэсліваюць унутранае чляненне фае на 2 паверхі. Глядзельная зала на 960 месцаў вырашана ў выглядзе амфітэатра. Вестыбюль расчлянёны на 2 палавіны — касавую і фае з двухбаковай лесвіцай. У мастацкім афармленні фае абодвух паверхаў выкарыстана тэма партызанскай барацьбы савецкага народа ў Вялікую Айчынную вайну. Насупраць цэнтральнага ўвахода на сцяне фае 1-га паверха рэльеф «Партызаны» (скульпт. Я. Печкін; бетон, металізацыя). Тэма яго развіта ў мазаічным фрызе «Партызанскі паход» (маст. М. Данцыг і В. Няпомняшчы) фае 2-га паверха. У кампазіцыі выкарыстаны прыём суаднясення буйнамаштабных выяў з больш дробнымі. Справа буйным планам пададзены тры твары — камандзіра, хлопчыка і старога, далей — партызанскі атрад на лясной дарозе. Мазаічны фрыз добра праглядаецца з вуліцы, з'яўляецца своеасаблівым дапаўненнем архітэктуры будынка.

Кінатэатр — твор сучаснай савецкай архітэктуры.

*А. М. Кулагін, Л. Г. Лапцэвіч.*



314. *Жылыя дамы № 12, 14, 16 па вуліцы Талбухіна.*



314. *Кінатэатр «Партызан».*

**вул. Танкавая**

**315. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 4—34. Займае квартал ад Юбілейнай плошчы да 2-га Апанскага завулка. Будаўніцтва пачата ў 1978 г. (архіт. С. Самараеў і Л. Пагарэлаў).

Будынак падоўжаны, мае складаную канфігурацыю з сістэмай лесвіц і падпорных сценак. Перапад рэльефу абумовіў індывідуальнае вырашэнне цокальнага і 1-га паверхаў, якія заняты магазінамі і прадпрыемствамі быту. Колькасць паверхаў ад 8 да 12 з дадатковым тэхнічным. Франтальныя фасады падзелены на чатыры часткі, 2 з іх пастаўлены па «чырвонай лініі» забудовы вуліцы, 2 — некалькі заглыблены адносна яе. Акрамя асноўных аб'ёмна-прасторавых чляненняў выкарыстаны шматлікія выступы і паглыбленні, лоджыі і балконы. Выступаючым аб'ёмам нададзены закругленыя формы, у выніку чаго будынак выразна нагадвае сярэдневяковыя замкі. Гэтаму ўражанню спрыяе таксама абліцоўка фасадаў чырвонай цэглай, спалучэнне яе з шэрымі бетоннымі паверхнямі агароджаў лоджый. Уваходы ў выглядзе выступаючых светлых аб'ёмаў зроблены з дваровага фасада. Лесвічна-ліфтавыя блокі абслугоўваюць у тыпавой секцыі 4 кватэры на паверсе, у індывідуальнай (на стыку аб'ёмаў) — 5 кватэр. У тыпавой секцыі па 2 трохпакаёвыя і двухпакаёвыя кватэры на паверсе, у індывідуальнай — 3 аднапакаёвыя, 1 трохпакаёвая і 1 чатырохпакаёвая кватэры.

Будынак — прыклад сучаснай жыллёвай архітэктуры, вылучаецца добра арганізаванай сістэмай добраўпарадкавання.

*Т. В. Габрусь.*

**вул. Трасцянецкая**

**316. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку адміністрацыйнага корпуса Мінскага швейнага вытворчага аб'яднання імя Н. К. Крупскай (дом № 5). Устаноўлена ў 1960 г.

З лютага 1942 г. да ліпеня 1944 г. на швейнай фабрыцы імя Н. К. Крупскай і ў пас. Малая Серабранка дзейнічала падпольная арганізацыя, якую ўзначальвалі камуніст М. П. Анапьін (да мая 1943 г.), С. К. Лапцэвіч (з мая 1943 г.). Дзейнасць арганізацыі накіроўваў Мінскі падпольны гарком КП(б)Б. Яднала 21 чалавека. Ядром арганізацыі былі рабочыя і інжынерна-тэхнічныя работнікі фабрыкі: Я. Я. Іваноўскі, В. І. Казакоў, С. К. Лапцэвіч, М. П. і Н. Д. Любезныя, М. А. Няхаеў, А. М. Улашчык, М. С. Ярашэвіч і інш.

Падпольшчыкі мелі на кватэрах М. А. Няхаева і Любезных радыёпрыёмнікі, запісвалі зводкі Саўінфармбюро, размнажалі іх і распаўсюджвалі сярод рабочых фабрыкі, гарбарнага завода «Бальшавік», насельніцтва горада. Яны сабатавалі мерапрыемствы фашысцкай адміністрацыі, псавалі электраабсталяванне, станкі, швейныя машыны, парашуты і іншую прадукцыю фабрыкі, выносілі з прадпрыемства аўчыны, цёплае адзенне, пераправілі партызанам больш за 100 кажухоў, каля 100 безрукавак, некалькі соцень шапак і рукавіц, 13 швейных машын, вялікую колькасць бялізны, нітак, іголак, перавязачнага матэрыялу, перадалі 5 кулямётаў, каля 50 вінтовак, 8 рэвальвераў, некалькі дзесяткаў гранат, тысячы патронаў. Патрыёты памаглі пайсці да партызан 30 чалавекам з ліку ваеннапалонных і мясцовага насельніцтва, ураталі ад вывазу ў фашысцкую Германію




314. *Забудова вуліцы Талбухіна. План кінатэатра «Партызан» і ансамбля жылых дамоў з гандлёвым цэнтрам.*



315. *Забудова вуліцы Танкавай.*

каля 100 юнакоў і дзяўчат. Падпольшчыкі збіралі для партызан звесткі аб прамысловых і ваенных аб'ектах ворага ў Мінску і яго наваколлі, умацаваных аб'ектах на чыгуначных і шашэйных дарогах Мінск — Барысаў, Мінск — Баранавічы. Зрабілі шэраг дыверсій, у тым ліку ўзарвалі плаціну на р. Свіслач. У барацьбе з акупантамі загінулі М. П. Любезны, М. Я. Невідовіч, М. А. Няхаеў.

**317. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля адміністрацыйнага корпуса Мінскага швейнага вытворчага аб'яднання імя Н. К. Крупскай (дом № 5). Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1965 г.

**вул. Ульянаўская**

**318. ДОМ НАСТАЎНІКА** гарадскі (архіт., маст.). Дом № 8. Пабудаваны ў 1976 г. (архіт. У. Гальдштэйн) са зборнага жалезабетону.

Квадратны ў плане трохпавярховы аб'ём з унутраным дворыкам. Галоўны фасад сіметрычна-восевай кампазіцыі, уваход вылучаны казырком на двух асіметрычных пілонах. Рытм фасадам надаюць вертыкальныя навясныя міжаконныя панелі-лапаткі 2-га і 3-га паверхаў. Першы паверх мае суцэльнае зашкленне. У завершы будынка па яго перыметры гарызантальная стужка парапета. Унутраная планіроўка арганізавана вакол вестыбюля і фае актавай залы. Паверхі звязаны мармуровай лесвіцай. Першы паверх фае расчлянёны шэрагам канеліраваных калон і выраншаны ў 2 узроўнях (у ніжнім размешчаны буфет). Вуглавая двухмаршавая лесвіца вядзе на 2-і паверх двухсветлавога фае. Вітражнае зашкленне фае раскрывае яго прастору ва ўнутраны дворык. Актавая зала вырашана амфітэатрам. Планіроўка бакавых крылаў калідорная. Тыльны корпус адведзены пад спартыўную залу. Фае аздоблена пано «Асветнікі» (маст. Г. Вашчанка; энкаўстыка). Кампазіцыя пано прысвечана гісторыі беларускай культуры і вырашана ў сімволіка-апавядальным стылі. Цэнтр яе — прасторавае тонда з выявамі настаўніцы і вучня, злева — выявы Ф. Скарыны, С. Буднага, Сімяона Полацкага, В. Цяпінскага, К. Каліноўскага, справа — А. Пашкевіч, М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, касманаўта П. Клімука. Вобразы перададзены з рэалістычнай дакладнасцю, эмацыянальнай выразнасцю. Будынак — твор сучаснай грамадзянскай архітэктуры.

У Доме настаўніка ёсць залы харэаграфіі, спартыўная, актавая на 670 месцаў, харавы клас, бібліятэка з чытальнай залай. Працуюць студыі драматычная, мастацкага слова, бальнага танца, вакальны гурток, народная харавая капэла, вакальная фальклорная група, калектыў народнага танца, аркестр беларускіх народных інструментаў, школа эстраднага танца, 2-гадовыя курсы кройкі, шыцця і вязання, група здароўя, клубы маладога выхавацеля, цікавых сустрэч, універсітэты навуковых ведаў, для старшынь прафкомаў школ, для класных кіраўнікоў, для бацькоў, лекторыі. *А. М. Кулагін, Л. Г. Лапцэвіч.*



315. *Жылы дом № 4—34 па вуліцы Танкавай. Фрагмент плана.*

**319. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 29. Пабудаваны ў 1927 г. з цэглы.

Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак размешчаны пад вуглом да вуліцы і павернуты да яе тарцовым фасадам. Пастаўлены на атынкаваным цокалі, які мае пераменную вышыню ў выніку перападу рэльефа. Фасады неатынкаваныя. Блокі лесвічных клетак выступаюць за плоскасць сцяны і завершаны люкарнамі. Прамавугольныя вокны рознай шырыні аздоблены сандрыкамі. Будынак накрыты вальмавым дахам; сцены завершаны прафіляваным карнізам. У аснову планіроўкі пакладзена двухкватэрная секцыя з двухбаковай арыентацыяй трохпакаёвых кватэр.

Жылы дом — помнік архітэктуры з рысамі канструктывізму. *І. С. Мельнік.*

**320. КУЛЬТАВЫ КАМЕНЬ** (археал.). Насупраць дома № 8 (Дом настаўні-



318. *Дом настаўніка.*



319. *Жылы дом № 29 па вуліцы Ульянаўскай. План 1-га паверха.*




321. *Мемарыяльная дошка І. В. Ахрэмчыку.*

ка) на правым беразе р. Свіслач, у цэнтры невялікай лукавіны.

У канцы 19 ст. тут рос лес, урочышча называлі «Свіслачча». Выступаючая на паверхню частка каменя мае акруглую форму, узвышаецца на 1 м, памер у аснове 1,0×1,3 м. Па паходжанні адносіцца да тыповых ледніковых валуноў, прынесеных з тэрыторыі паўднёвай Карэліі ці Фінляндыі ў час сожскага (маскоўскага) зледзянення. Адносіцца да буйназярністых чырвоных гранітаў. Паводле этнаграфічных матэрыялаў, да пачатку 20 ст. тут размяшчалася язычніцкае капішча («малельня ля камня»), якое ўяўляла прамавугольную пляцоўку, выцягнутую ўздоўж ракі прыкладна на 20 м. Яна была вымашчана драўлянымі плашкамі, адзін бок памоста навісаў над вадой і апіраўся на драўляныя палі. З трох бакоў пляцоўкі быў тын вышынёй каля 1,7—1,8 м з двума ўваходамі, сплецены з галінак ялін. На ёй размяшчаліся «свяшчэнныя» камень, дуб, агонь і калодзеж з вадой. Камень з'яўляўся асноўным аб'ектам пакланення і называўся «Дзед», ці «Стары». Яму першаму прыносілі «ахвяру» (вылівалі на паверхню каменя мёд, малако, віно, ці абвешвалі ручнікамі, фартухамі, тканінай). У цэнтры пляцоўкі рос стары дуб, які называлі «Волатам». Дрэва было ў 4—5 абхватаў, мела сухі верх і вялікае дупло. На ніжнія галіны дуба вешалі ручнікі, стужкі. Агнішча называлася «Агонь» ці «Жыжа», мела форму невялікага, складзенага з камянёў авала, у папярэчніку больш за 1 м, у паглыбленні гарэў агонь. Агнішча часта разбуралася, таму яго перараблялі або пераносілі ў іншае месца. Агню прыносілі ахвяры: жывёлін і птушак (куры, авечкі, свінні, козы). Вада з неглыбокага калодзежа лічылася гаючай. На рубяжы 19 і 20 ст. з капішчам як перажыткам язычніцтва павяла барацьбу праваслаўная царква і яно перастала існаваць. Захаваўся камень. *Э. А. Ляўкоў.*

**321. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АХРЭМЧЫКУ** Івану Восіпавічу (гіст.). На доме № 29. Устаноўлена ў 1976 г. на ўшанаванне памяці народнага мастака БССР, прафесара І. В. Ахрэмчыка, які ў 1945—71 гг. жыў у гэтым доме. Гл. таксама артыкул № 526 «Магіла Ахрэмчыка Івана Восіпавіча».

**вул. Уральская**

**322. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы № 108. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага (скульпт. С. Вакар) устаноўлены ў 1972 г.

**вул. Урыцкага**

**323. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 6. Размешчаны ў глыбіні квартала. Пабудаваны ў 1914 г. з цэглы.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане з рызалітамі ў бакавых частках будынак накрыты вальмавым дахам. Паверхі аддзелены карнізным поясам. 1-ы паверх аднаго з фасадаў руставаны, чляненне прамавугольнымі вокнамі без ліштваў. Па цэнтры размешчаны невялікі балкон з ажурнай агароджай. У рызаліце акно 2-га паверха высокае, над ім дата пабудовы.



323. *Жылы дом № 6 па вуліцы Урыцкага.*



324. *Жылы дом № 8 па вуліцы Урыцкага.*

2-і фасад таксама чляненны карнізным поясам і прамавугольнымі вокнамі — невялікімі на 1-м і высокімі на 2-м паверхах. Адзін з рызалітаў глухі, 2-і з высокімі прамавугольнымі вокнамі на 1-м і 2-м паверхах і двума маленькімі вузкімі вокнамі, якія размешчаны пад карнізам даху.

Будынак — помнік архітэктуры стылю «мадэрн».

**324. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 8. Размешчаны ў глыбіні квартала. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Двухпавярховы, складанай у плане формы, з выступамі, рызалітамі і эркерам на два паверхі. Накрыты сістэмай вальмавых дахаў. У архітэктурнай кампазіцыі выкарыстаны карнізныя паясы, плоская паўцыркульная ніша, трохгранны і паўкруглы эркеры, адкрытая тэраса з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё) і іншыя. Аконныя праёмы прамавугольныя, высокія, у драўляных ліштвах.

Будынак — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. Ю. Пятросава.*

**вул. Усходняя**

**325. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 28. Устаноўлена ў 1984 г. (архіт. Б. Сідарэнка) на будынку, размешчаным на месцы, дзе ў Вялікую Айчынную вайну быў дом (вул. Чарнышэўскага, 11), у якім знаходзілася канспіратыўная кватэра Мінскага камуністычнага падполля. Яе ўтрымлівалі актыўныя ўдзельнікі і арганізатары падпольнай групы ў раёне Камароўкі С. К. і У. С. Амельянюкі. Былы дырэктар Мінскага лясгаса С. К. Амельянюк і яго сын журналіст У. С. Амельянюк адны з першых устанавілі на сваёй кватэры радыёпрыёмнік, прымалі паведамленні Маскоўскага радыё, якія размнажалі і распаўсюджвалі ў горадзе. Тут адбываліся нарады падпольшчыкаў, захоўваліся боепрыпасы, хавалі савецкіх ваеннаслужачых, якія трапілі ў акружэнне, забяспечвалі іх адзеннем і перапраўлялі да партызан. У. С. Амельянюк трымаў сувязь з Дзяржынскім камуніс-

тычным падполлем. 3 мая 1942 г.— член Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б, быў загадчыкам аддзела агітацыі і прапаганды, падрыхтаваў і адрэдагаваў першы нумар падпольнай газеты «Звязда». С. К. і У. С. Амельянюкі загінулі вясной 1942 г. Гл. таксама артыкул № 143 «Помнік Амельянюку Уладзіміру Сцяпанавічу».

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Партийное подполье в Белоруссии, 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984.

*М. М. Казлоўская.*

**326. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы № 6. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1973 г.

**вул. Фрунзе**

**327. БУДЫНКІ БЫЛОГА ВАЙСКОВАГА ШПІТАЛЯ** (архіт.). Дом № 19. Пабудаваны ў першай палове 19 ст. з цэглы (архіт. К. Хшчановіч). Першапачаткова ў комплекс уваходзілі лячэбны корпус, 2 флігелі і гаспадарчыя пабудовы.

Лячэбны корпус. Трохпавярховы П-падобны ў плане будынак. Сіметрычны па кампазіцыі галоўны фасад быў падзелены карнізным поясам на 2 ярусы і завершаны шчытом. Рытм фасадаў стваралі прамавугольныя і паўцыркульныя аконныя праёмы з простымі ліштвамі. Першапачатковая планіроўка калідорная.

Флігелі размешчаны абапал лячэбнага корпуса. Двухпавярховыя прамавугольныя ў плане аб'ёмы. Галоўныя фасады завершаны трохвугольнымі франтонамі.

У 1940-я гады будынкі комплексу рэканструяваны (архіт. В. Гусеў). Галоўны фасад лячэбнага корпуса і бакавыя фасады флігеляў афармлены калоннымі порцікамі. Зменена планіроўка. З паўночнага ўсходу дабудаваны новы аб'ём.

Будынкі вайсковага шпіталя — помнік архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Квитницкая Е. Д. Госпитали Белоруссии в первой половине XIX в.— У кн.: Архитектурное наследство. М., 1982, № 30.

*У. М. Дзянісаў.*

**328. ДОМ ЛІТАРАТАРА** (архіт.). Дом № 5. Пабудаваны ў 1976 г. (архіт. Ю. Грыгор'еў і В. Шубіна). Займае вуглавое становішча на скрыжаванні вуліц Фрунзе і Румянцава.



328. *Дом літаратара.*

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя збудавання арганізавана вакол квадратнага ў плане ўнутранага двара. Яго абмяжоўваюць двухпавярховае крыло і трохпавярховы П-падобны ў плане корпус. Галоўны фасад з боку вул. Фрунзе двух'ярусны: 1-ы, з нішай галоўнага ўвахода, з'яўляецца асновай верхняга, вырашанага ў выглядзе пластычнай выгнутай плоскасці з рытмам вертыкальных панеляў і вузкіх аконных праёмаў. У завершы фасада квадратная ўвагнутая панель з каванай дэкаратыўнай зоркай. Плаўны пластычны сілуэт бакавому фасаду надае спалучэнне акруглых і прамавугольных плоскасцей. Сцены абліцаваны светлым туфам. У мастацкім афармленні выкарыстаны вітражы (У. Стальмашонак), метал (Ю. Любімаў).

Планіроўка будынка мае функцыянальнае размежаванне на парадную і дзелавую часткі. Асновай парадпай часткі з'яўляецца глядзельная зала (на 336 месцаў) на 2-м паверсе, да якой далучана фае з антрэсолямі і кафэ. Галоўны вестыбюль аб'ядноўвае канферэнц-залу, бібліятэку, камінную залу з эстрадай. Планіроўка адміністрацыйнага корпуса калідорная з вугламымі холамі. У апрацоўцы інтэр'ераў шырока выкарыстаны мармур, туф, шпона, дэкаратыўная тынкоўка, чаканка (маст. Ю. Любімаў).

Дом літаратара — твор сучаснай савецкай архітэктуры.

*А. М. Кулагін.*

**вул. В. Харужай**

**329. БУДЫНАК ІНСТЫТУТА «БЕЛНДІДЗІПРАСЕЛЬБУД»** (архіт.). Дом № 29. Пабудаваны ў 1973 г. (архіт. І. Боўт, Л. Сагалаў, У. Сакалоўскі).

Будынак мае вышынную кампазіцыю ў выглядзе прамавугольнага ў плане 12-павярховага аб'ёму (вышыня 42 м). Да яго галоўнага фасада далучаны аднапавярховы корпус актавай залы на 560 месцаў, да тыльнага таксама аднапавярховы корпус сталовай на 180 месц. Фасады вышыннага аб'ёма маюць рытм гарызантальных сценавых панеляў і лент акон. Суцэльнае зашкленне першага паверха выканана з паглыбленнем ад фасаднай паверхні, што надало будынку лёгкасць. У апрацоўцы фасадаў выкарыстана дэкаратыўная тынкоўка з мармуровай крошкай. Планіроўка будынка калідорная. 4 ніжнія паверхі займаюць памяшканні дапаможных служб і адміністрацыі, 5—12-ы паверхі — праектныя майстэрні. Ва ўнутранай апрацоўцы інтэр'ераў выкарыстаны дэкаратыўная тынкоўка, паркет, шпона.

Будынак інстытута — твор сучаснай савецкай архітэктуры.

*У. Э. Сакалоўскі.*

**330. ПАВІЛЬЁН КАМАРОЎСКАГА КРЫТАГА РЫНКУ** (архіт.). Размешчаны на рагу вуліц В. Харужай і Куйбышава. З'яўляецца важным горадабудаўнічым акцэнтам цэнтральнай часткі горада. Пабудаваны ў 1979 г. (архіт. В. Аладаў, А. Жалдакоў, У. Крывашэеў, М. Ткачук).

Квадратнае ў плане збудаванне. Зборна-маналітная танкасценная абалонка вышынёй 24 м, складанай формы, без прамежкавых апор перакрывае зальнае памяшканне, стварае пластычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Па перыметры залы плошчай 13 тыс. м² абсталявана шматлікімі гандлёвымі ячэйкамі, злучанымі калідорамі. Над імі размешчаны антрэсолі, на якія вядуць чатыры лесвіцы: па адной з сярэдзіны кожнага боку залы. У цэнтры перакрыцця ўзвышаецца светлавы квадратны ў плане ліхтар з эмблемай рынку. Тарцы абалонкі вырашаны ў выглядзе вялікіх арачных праёмаў, маюць суцэльнае зашкленне. Стужкавыя ўстаўкі аздоблены металічнымі дэкаратыўнымі элементамі, з боку галоўнага ўвахода — інфармацыйнымі надпісамі. У вонкавым афармленні выкарыстаны каляровае пакрыццё, дэкаратыўны тынк,




331. *Помнік Т. А. Галабурдзе.*

керамічная плітка, пластмаса, алюміній.

З процілеглага ад галоўнага ўвахода боку да гандлёвай залы прымыкае развіты блок абслугоўвання, які ўключае склады, халадзільныя камеры, лабараторыі, мыйкі, бюро гандлёвых паслуг, памяшканні для адміністрацыі, пагрузачна-разгрузачнае абсталяванне і інш. Асноўная гандлёвая зала звязана з адміністрацыйна-гаспадарчым корпусам пандусам.

Павільён крытага рынку — першы ў БССР і адзін з буйнейшых у СССР. Архітэктуры яго характэрна сучаснае канструкцыйнае вырашэнне, выразны сілуэт, планіровачная дакладнасць і цэласнасць кампазіцыі.

*Т. В. Габрусь.*




332. *Помнік на месцы Масюкоўшчынскага лагера смерці.*



330. *Павільён Камароўскага крытага рынку. План.*



330. *Павільён Камароўскага крытага рынку.*

**вул. Хмялеўскага**

**331. ПОМНІК ГАЛАБУРДЗЕ** Тамары Аляксандраўне (гіст.). На тэрыторыі школы № 105 (дом № 12а).

Разведчыца Чырвонай Арміі, удзельніца Мінскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну Т. А. Галабурда (падпольная клічка «Роза») нарадзілася 22.12.1922 г. у г. Навазыбкаў Бранскай вобл. у сям'і ваеннаслужачага. Член ВЛКСМ з 1938 г. З 1932 г. жыла ў Мінску, дзе скончыла сярэднюю школу. У 1940—41 гг. студэнтка Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. У час акупацыі горада нямецка-фашысцкімі захопнікамі працавала ў гебітскамісарыяце, дзе здабывала звесткі пра ворага, забяспечвала падпольшчыкаў і партызан пропускамі і дакументамі. З студзеня 1943 г. член падпольнай групы, якая дзейнічала ў Мінску па заданню разведвальна-дыверсійнага атрада «Дзіма», забяспечвала гэты атрад звесткамі пра дыслакацыю нямецкіх вайсковых часцей і іх штабоў. Удзельнічала ў дыверсіях на варожых аб'ектах. Арыштавана 7.4.1944 г. фашыстамі і пасля катаванняў загублена 30.6.1944 г. у канцлагеры на вул. Шырокай (цяпер вул. Куйбы-

шава). У 1971 г. узнагароджана медалём «За баявыя заслугі». У школе № 105 створаны музей разведчыцы, дзе сярод экспанатаў прадстаўлены камсамольскі білет і заліковая кніжка студэнткі Т. А. Галабурды. У 1975 г. аматарская кінастудыя «Педагог» педінстытута імя М. Горкага зняла дакументальны кароткаметражны кінафільм «Мінчанка», прысвечаны мужнай камсамолцы-разведчыцы. Яе імя прысвоена камсамольскай арганізацыі 105-й школы.

У 1970 г. установлены бюст разведчыцы (скульпт. У. Слінчанка; бронза). *В. В. Семянюк.*

**вул. Ціміразева**

**332. МЕСЦА МАСЮКОЎШЧЫНСКАГА ЛАГЕРА СМЕРЦІ** (гіст.). На заходняй ускраіне горада, справа ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Заслаўе.

Лагер (Шталаг № 352, Лясны лагер) створаны ў ліпені 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі для масавай загубы савецкіх людзей (ваеннапалонных і цывільных). Меў філіялы. Быў абгароджаны некалькімі радамі дроту вышынёй 2—5 м з вартавымі вышкамі. Вязні размяшчаліся ў летніх бараках і паўразбураных памяшканнях; за суткі атрымлівалі на 1 чалавека 100—200 г эрзацхлеба і 1/3 л баланды. Была ўстаноўлена жорсткая сістэма катаванняў і масавых забойстваў. Пасля выхаду Італіі з гітлераўскай кааліцыі сюды прывозілі італьянскіх салдат. За час існавання лагера да 3.7.1944 г. тут загублена больш за 80 тысяч савецкіх грамадзян.

У 1949 г. на месцы былога лагера пастаўлены помнік-манумент: сцяна з надпісам-прысвячэннем і ратонда, у якой зберагаецца кніга з прозвішчамі часткі загубленых (звыш 9 тысяч чалавек).

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965; В памяти народной.— Мн., 1969; Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**вул. Цнянская**

**333. МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Пастаўлены ў 1983 г. (архіт. А. Лабачэўскі), дзе знаходзіўся дом падпольшчыцы Т. Е. Якавенка (вул. Выдавецкая, 10), у якім размяшчалася падпольная друкарня Мінскага гаркома КП(б)Б. Тут былі надрукаваны другі і трэці нумары падпольнай газеты «Звязда». Работу па зборы і рэдагаванні матэрыялаў выконвала Я. М. Савіцкая. Набіраў газету падпольшчык Х. М. Александровіч. Другі нумар выйшаў у жніўні, трэці — у верасні 1942 г.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984; Давыдова В. С. В битве за Отечество.— У кн.: Герои подполья. 4 изд. М., 1972, в. 1. *М. М. Казлоўская.*

**вул. Цэнтральная**

**334. ПОМНІК КАШАВОМУ** Алегу Васілевічу (гіст.). Каля сярэдняй школы № 5. У 1971 г. на ўшанаванне памяці аднаго з кіраўнікоў падпольнай камсамольскай арганізацыі «Маладая гвардыя» ў г. Краснадоне ў Вялікую Айчынную вайну Героя Савецкага Саюза А. В. Кашавога пастаўлены бюст героя (скульпт. К. Гелашвілі). Гл. таксама артыкул № 293 «Помнік Кашавому Алегу Васілевічу».

*Літ.:* Кошевая Е. Повесть о сыне.— М., 1968; Фадзееў А. Маладая гвардыя.— Мн., 1953; Свет пламенных сердец.— 2 изд.— Донецк, 1970.

**335. ПОМНІК КЕДЫШКУ** Мікалаю Аляксандравічу (гіст.). Каля дома № 9а.

Герой Савецкага Саюза М. А. Кедышка нарадзіўся 3.8.1923 г. у Мінску ў сям'і рабочага. Скончыў 6 класаў сярэдняй школы, рамеснае вучылішча і працаваў будаўніком у абласным будаўнічым трэсце. Член ВЛКСМ з 1938 г. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны, калі гітлераўцы акупіравалі Мінск, М. А. Кедышка стаў адным з арганізатараў камсамольска-маладзёжнага падполля. З красавіка 1943 г. падпольная арганізацыя «Андруша», штаб якой ён узначаліў, устанавіла сувязь з Мінскім падпольным гаркомам ЛКСМБ і партызанскай брыгадай «Штурмавая». Падпольшчыкі зрабілі 40 дыверсій, у т. л. на хлебазаводзе «Аўтамат», на гарадской электрастанцыі, знішчылі склад з боепрыпасамі, бензасховішча і 10 аўтамашын, мініравалі чыгуначныя саставы, распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро. Члены арганізацыі перадалі партызанам шмат зброі, некалькі аўтамашын, медыкаменты, друкарскі шрыфт, выводзілі да партызан савецкіх грамадзян, якім акупанты пагражалі расправай. 7.11.1943 г. фашысты напалі на след падпольнай арганізацыі. М. А. Кедышка загінуў у час перастрэлкі з гітлераўцамі. 8.5.1965 г. яму пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Імем патрыёта названа вуліца ў Мінску, на доме, дзе размяшчаўся штаб арганізацыі, і на будынку вучылішча, у якім ён вучыўся, устаноўлены мемарыяльныя дошкі.



334. *Помнік Алегу Кашавому.*



335. *Помнік М. А. Кедышку.*

Помнік — паплечны бюст героя (скульпт. К. Гелашвілі) устаноўлены ў 1971 г.

*Літ.:* Герои Советского Союза — уроженцы Минска и Минской области.— Мн., 1965. *М. Б. Батвіннік.*

**336. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У дзіцячым парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**вул. Чайкінай**

**337. ПОМНІК ЧАЙКІНАЙ** Лізавеце Іванаўне (гіст.). У скверы.



337. *Помнік Л. І. Чайкінай.*

Герой Савецкага Саюза Л. І. Чайкіна нарадзілася 28.8.1918 г. у в. Руна Пенаўскага р-на Калінінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Працавала загадчыцай хаты-чытальні. З 1939 г. сакратар Пенаўскага РК ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну ў партызанскім атрадзе з 1941 г., сакратар Пенаўскага падпольнага РК ВЛКСМ. Актыўна ўдзельнічала ва ўсіх баявых аперацыях партызанскага атрада. 22.11.1941 г. Л. І. Чайкіна прыйшла на хутар Чырвонае Пакацішча Пенаўскага р-на, дзе яе выдаў акупантам здраднік. Гітлераўцы адвезлі патрыётку ў пас. Пена і пасля катаванняў расстралялі. 6.3.1942 г. Л. І. Чайкінай пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яе імем названы сельсавет у Пенаўскім р-не, вуліцы ў г. Калініне і пас. Пена, цеплаход. Імя патрыёткі прысвоена Пенаўскай школе, многім піянерскім дружынам. У 1968 г. у г. Калініне адкрыты музей гісторыі камсамола імя Л. І. Чайкінай, у 1973 г. у пас. Пена — мемарыяльны музей. У Мінску яе імем названа вуліца.

Помнік устаноўлены ў 1950 г. Уяўляе сабой паплечны бюст гераіні на прамавугольным пастаменце (скульпт. А. Бембель).

*Літ.:* Шведова И. Ф. Лиза Чайкина.— М., 1976. *М. Б. Батвіннік.*

**вул. Чарнігаўская**

**338. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 150 м на паўднёвы захад ад будынка спецшколы-інтэрната № 9. Пахаваны 15 савецкіх воінаў, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. пры вызваленні Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны-сувязісты 4-й гвардзейскай знішчальнай Аршанскай авіяцыйнай дывізіі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі 5.7.1944 г. у час налёту фашысцкіх бамбардзіроўшчыкаў на аэрадром і вузел сувязі.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**вул. Чкалава**

**339. АЭРАВАКЗАЛ** (архіт.). Пабудаваны ў 1946—56 гг. (архіт. А. П. Воінаў, Г. Заборскі).

Будынак аэравакзала — двухпавярховы прамавугольны ў плане выцягнуты па фронту плошчы аб'ём, завершаны ў цэнтры аднапавярховай надбудовай дыспетчарскай службы. Парадны ўваход і выхад на ўзлётнае поле вырашаны бакавымі рызалітамі з каланадай па перыметры невялікага прамавугольнага ў плане курданёра. Архітэктурная выразнасць цэнтральнай часткі падкрэслена бакавымі эдыкуламі і шырокім карнізам з парапетам, па баках якога ўстаноўлены пластычныя ляпныя кампазіцыі са сцягоў абапал герба БССР. Унутраная планіроўка арганізавана вакол квадратнага ў плане двухсветлавога вестыбюля, абкружанага антрэсолямі, на якія вядзе бакавая лесвіца. На 1-м паверсе — касавы вестыбюль, зала чакання, на 2-м — рэстаран і зала чакання.

У 1976 г. побач са старым будынкам вакзала ўзведзены новы са шкла і бетону.

Будынак аэравакзала — твор савецкай архітэктуры з выкарыстаннем форм класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**340. ДОМ, У ЯКІМ БЫЛА КАНСПІРАТЫЎНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Дом № 16. Тут у час нямецка-фашысцкай акупацыі горада ў ліпені 1941 г. адбыўся першы нелегальны сход камуністаў Мінскага чыгуначнага вузла. У створаную імі падпольную арганізацыю на чале з камуністам Ф. С. Кузняцовым увайшло 18 чалавек. Бюро партарганізацыі з'явілася партыйным цэнтрам чыгуначнага вузла, са жніўня 1941 г.— вузлавым падпольным партыйным камітэтам. Пасяджэнні камітэта праходзілі на кватэры Ф. С. Кузняцова на вул. Чкалава, 26 (цяпер дом № 16).




338. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Па рашэнню камітэта ў жніўні 1941 г. былі створаны падпольныя партыйныя арганізацыі на вагонарамонтным заводзе імя А. Ф. Мяснікова (сакратар А. Я. Аўчыннікаў), станцыях Мінск-Пасажырскі і Мінск-Таварны (сакратары П. І. Чыркун і І. В. Юховіч), у вагонным дэпо (сакратар А. А. Вадкоўскі; загінуў у жніўні 1941 г.). Дзейнічаў вузлавы партком да красавіка 1942 г. У сакавіку 1942 г. пачаліся масавыя арышты падпольшчыкаў. Каб пазбегнуць арышту, Ф. С. Кузняцоў з групай падпольшчыкаў пайшоў у партызанскі атрад «Мсцівец».

У ліпені 1942 г. па рашэнню Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б быў створаны Чыгуначны падпольны райком КП(б)Б. У яго склад увайшлі старэйшы камуніст чыгуначнага вузла І. І. Матусевіч (сакратар), І. В. Юховіч, П. І. Чыркун, А. Я. Аўчыннікаў. Явачная кватэра па-ранейшаму



339. *Аэравакзал.*




340. *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*

знаходзілася ў гэтым доме. Дзейнічаў райком да верасня 1942 г. да арышту членаў райкома. Яны загінулі ў гітлераўскіх засценках.

У 1961 г. на будынку, дзе знаходзілася канспіратыўная кватэра падпольшчыкаў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Лещеня С. К. С паролем горкома.— Мн., 1981. *М. І. Эпалетаў.*

**341. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ РАЗВЕДЧЫКАМ** (гіст.). На доме № 1. Устаноўлена ў 1984 г. У Вялікую Айчынную вайну на гэтым месцы быў дом, у якім у 1942 г. працавала падпольная рацыя групы савецкіх разведчыкаў.

**342. ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ І СПОРТУ ЧЫГУНАЧНІКАЎ ІМЯ ІЛЬІЧА** раённага камітэта прафсаюза чыгуначнікаў Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі (архіт.). Дом № 7. Пабудаваны ў 1978 г. (архіт. Л. Анікіна).

Будынак аднесены ў глыбіню квартала, фарміруе плошчу, добраўпарадкаваную фантанамі, басейнамі, газонамі і кветнікамі. Уяўляе сабой прамавугольнае ў плане двухпавярховае збудаванне, над якім з тыльнага боку ўзвышаецца кубападобны аб'ём сцэнічнай каробкі, апрацаваны рытмам вертыкальных панеляў. Фасады вылучаюцца строгасцю і лаканічнасцю архітэктурных форм. Аб'ёмы глядзельнай залы і адміністрацыйна-гуртковых памяшканняў скампанаваны вакол унутранага дворыка. Галоўны фасад вырашаны адзінай прамавугольнай, выцягнутай па фронту плоскасцю з суцэльным зашкленнем і рытмам вузкіх пілонаў. 1-ы паверх аддзелены ад верхняга бетоннай агароджай балкона. Галоўны ўваход размешчаны асіметрычна і вылучаны выступаючым аб'ёмам з увагнутым казырком над ім. Плоскасці бакавых фасадаў маюць прамавугольныя ўчасткі зашклення з рытмам вертыкальных рэбраў. Да будынка з паўднёвага боку далучаны аб'ём плавальнага басейна.

Відовішчная (глядзельная на 900 месцаў, кіна-лектарская на 300 месцаў і танцавальная залы, музей гісторыі чыгуначнага транспарту БССР), гуртковa-клубная (бібліятэка, рэпетыцыйныя залы, дыскатэка, кулуары-выстаўкі) і спартыўная (вялікая спартыўная зала, плавальны басейн з вышкай для скачкоў, трэніровачныя залы) і інш. часткі функцыянальна ізаляваны. Кампазіцыйным ядром з'яўляецца глядзельная зала. Пластычнасць форм, густа-малінавы колер крэслаў, залацістая дэкаратыўная тынкоўка сцен і партала сцэны надаюць ёй урачысты характар. Асноўнае двухсветлавое фае звязана з вестыбюлем шырокай беламармуровай лесвіцай, расчлянёна мармуровымі калонамі. Выразнасць апрацоўкі інтэр'ера дасягнута выкарыстаннем сучасных цёплых па танах аддзелачных матэрыялаў: бурштынавага фільзіта, светла-ружовага ракушачніка і белага мармуру, а таксама новых відаў дэкаратыўнай тынкоўкі. У фае размешчаны роспіс (маст. З. Літвінава, энкаўстыка). Парадныя памяшканні асвятляюць арыгінальныя па форме і выкананню вялізныя люстры шклозавода «Нёман».

Палац — твор архітэктуры, у якім увасобіліся прагрэсіўныя архітэктурна-мастацкія і планіровачна-функцыянальныя якасці. *А. М. Кулагін.*

**343. ПОМНІК РАМАШКІНУ** Цімафею Цярэнцьевічу (гіст., маст.). У скверы, перад будынкам аэрапорта Мінск-1.

Герой Савецкага Саюза Ц. Ц. Рамашкін нарадзіўся 15.4.1919 г. у в. Марчанкі Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1946. Некаторы час працаваў на цагельных заводах у Віцебску і Ленінградзе. У 1938 г. скончыў Ленінградскі аэраклуб. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічаў у абароне Ленінграда, служыў у авіяцыі стралком-радыстам. Пасля вайны ў Грамадзянскім паветраным флоце, старшы тэхнік-лейтэнант. Вызначыўся пры абясшкоджанні бандытаў, якія спрабавалі захапіць пасажырскі самалёт і пераляцець на ім за мяжу. 8.1. 1954 г. пасажырскі самалёт, у экіпажы якога быў борт-механікам Ц. Ц. Рамашкін, узняўся з Талінскага аэрапорта і ўзяў курс на Ленінград. У час палёту ў кабіну пілотаў уварваліся два ўзброеных бандыты. Ц. Ц. Рамашкін кінуўся на аднаго з іх, збіў з ног і абяззброіў яго, але сам быў смяротна паранены другім. Камандзір самалёта і другі пілот абясшкодзілі другога бандыта. Пахаваны Ц. Ц. Рамашкін у Таліне. 25.1.1954 г. яму пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. На радзіме героя ў 1969 г. устаноўлены яго бюст, 8-гадовай школе, дзе вучыўся Ц. Ц. Рамашкін, прысвоена яго імя. У Віцебску, на будынку адміністрацыйнага кор-




341. *Мемарыяльная дошка савецкім разведчыкам.*



342. *Палац культуры і спорту чыгуначнікаў імя Ільіча.*



343. *Помнік Ц. Ц. Рамашкіну.*

пуса вытворчага аб'яднання «Кераміка» (былы цагельны завод), дзе працаваў Ц. Ц. Рамашкін, у 1980 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

Помнік пастаўлены ў 1965 г. (скульпт. Г. Поснікаў, архіт. Г. Заборскі; граніт, алюміній, агульная вышыня 12 м) на сродкі, сабраныя камсамольцамі аэрафлоту. У цэнтры выкладзенай плітамі пляцоўкі ўстаноўлены чырвоны гранітны пастамент з пагруднай выявай лётчыка і 12-метровы абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын, Л. Г. Лапцэвіч.*

**вул. Чыгуначная**

**344. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку заводакіраўніцтва вагонарамонтнага завода імя А. Ф. Мяснікова. Устаноўлена ў 1971 г.

У Вялікую Айчынную вайну на вагонарамонтным заводзе імя А. Ф. Мяснікова дзейнічала падпольная партыйная арганізацыя (больш за 10 камуністаў). Створана ў ліпені 1941 г. (сакратар — рабочы завода А. Я. Аўчыннікаў). Яна аб'ядноўвала каля 10 падпольных партыйных і камсамольскіх груп [кіраўнікі К. П. Рагачоўскі, В. Ф. Барысаў, К. І. Трус, У. І. Адынец, В. Гудовіч («Зубілкін»), І. В. Кухто, Г. М. Красніцкі], якія аб'ядноўвалі больш за 85 падпольшчыкаў. Падпольшчыкі выводзілі са строю абсталяванне, збіралі зброю і боепрыпасы, распаўсюджвалі лістоўкі, накіроўвалі рабочых у партызанскія атрады. Толькі ў лютым 1942 г. у партызанскі атрад «Мсцівец» перапраўлена звыш 50 чалавек, крыху пазней — яшчэ 25. Падпольшчыкі завода падтрымлівалі сувязь з партызанскімі брыгадамі «Народныя мсціўцы», 2-й Мінскай, «Штурмавая», атрадам Градава (С. А. Ваўпшасава) і інш. Пры дапамозе партызан ажыццёўлен шэраг дыверсій. 2.7.1943 г. падпольшчыкі групы Г. М. Красніцкага ўзарвалі карусельныя станкі, абсталяванне калёснага цэху. 6 жніўня таго ж года ў выніку 2 дыверсій знішчылі рухомы маставы кран і паравоз, у верасні 1943 г. узарвалі кацёл паравога ацяплення, у выніку чаго больш як месяц кацельная завода не працавала. 10.4.1944 г. па заданню Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б падпольшчыкі завода ўзарвалі пуцеўкладчык.

*Літ.:* Короткевич А. Т. Минский вагоноремонтный.— Мн., 1971; Ваупшасов С. А. Партизанская хроника.— 2 изд.— Мн., 1971; Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Минск — город-герой: Справочник.— Мн., 1976; Лещеня С. К. С паролем горкома.— Мн., 1981.
*У. У. Бянько, М. І. Эпалетаў.*

**345. ПОМНІК МЯСНІКОВУ** Аляксандру Фёдаравічу (гіст.). На тэрыторыі вагонарамонтнага завода.

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з кіраўнікоў барацьбы за ўстанаўленне Савецкай улады на Беларусі А. Ф. Мяснікоў (сапраўднае Мяснікян) нарадзіўся 28.1.1886 г. у Растове-на-Доне. Член КПСС з 1906 г. Скончыў юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта ў 1911 г. У рэвалюцыйным руху ўдзельнічае з 1904 г. З 1914 г. у арміі, вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод салдат Заходняга фронту. З красавіка 1917 г. у Мінску, член бальшавіцкай фракцыі выканкома Заходняга фронту, член выканкома Мінскага Савета, член Мінскага камітэта РСДРП(б). Адзін з заснавальнікаў і рэдактараў бальшавіцкай газеты «Звезда». На VI з'ездзе РСДРП(б) (Петраград, 1917 г.) зрабіў даклад аб становішчы ў Мінску і на Заходнім фронце. З верасня 1917 г. да мая 1918 г. старшыня Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б). Удзельнік падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі. У лістападзе 1917 г. выбраны членам бюро ВРК Заходняга фронту, галоўнакамандуючым Заходнім фронтам. З снежня 1917 г. выконваў абавязкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага. З студзеня 1918 г. старшыня Абласнога выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту. У маі — чэрвені 1918 г. камандуючы Паволжскім фронтам. У студзені — лютым 1919 г.




344. *Мемарыяльная дошка падпольшчыкам.*

член Часовага рабоча-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі, старшыня ЦБ КП(б)Б. У лютым 1919 г. старшыня ЦВК БССР, намеснік старшыні СНК Беларусі і нарком па ваенных справах. Летам 1920 г. начальнік Палітупраўлення Заходняга фронту. У 1919—21 гг. сакратар Маскоўскага камітэта РКП(б). З 1921 г. Старшыня СНК і нарком па ваенных справах Армянскай ССР, адначасова намеснік Старшыні СНК ЗСФСР, член Каўказскага бюро ЦК РКП(б). З 1922 г. Старшыня Саюзнага Савета ЗСФСР, потым першы сакратар Закаўказскага крайкома РКП(б). Кандыдат у члены ЦК РКП(б) у 1923—25 гг. Член РВС СССР, член Прэзідыума ЦВК СССР у 1923—25 гг. Аўтар прац па тэорыі марксізму-ленінізму, гісторыі рэвалюцыйнага руху, армянскай літаратуры.



345. *Помнік А. Ф. Мяснікову.*



348. *Помнік падпольшчыцам.*

Загінуў 22.3.1925 г. у час аварыі самалёта. Імем А. Ф. Мяснікова ў Мінску названы вуліца, плошча і вагонарамонтны завод.

У 1975 г. устаноўлены бюст А. Ф. Мяснікова.

*Літ.:* Мнацаканян А. Н. Александр Мясников (Мясникян).— Ереван, 1957; Шатирян М. Генерал, рождённый революцией.— 2 изд.— М., 1985; Селиванов П. А., А. Ф. Мясников: Страницы биографии.— Мн., 1986.

**вул. Чыжэўскіх**

**346. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку былой в. Лошыца 1-я. Пахаваны 25 воінаў, у т. л. воіны 598-га артылерыйскага палка 175-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**347. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку былой в. Лошыца 1-я. На ўшанаванне памяці 70 вяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**348. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫЦАМ** (гіст., маст.). Каля дома № 40.

25.12.1943 г. на гэтым месцы нямецка-фашысцкія захопнікі пакаралі смерцю ўдзельніц Мінскага камуністычнага падполля Н. П. Майсееву, А. А. Чыжэўскую і М. П. Чыжэўскую, якія рыхтавалі забойства ката беларускага народа генеральнага камісара Беларусі групенфюрэра СС і генерал-лейтэнанта паліцыі Курта фон Готберга.

У Вялікую Айчынную вайну, у час нямецка-фашысцкай акупацыі Беларусі, у в. Лошыца-2 (з 1973 г. у межах г. Мінска) была рэзідэнцыя мінскага гебітскамісара Фрайтага. Яе часта наведвалі генеральны камісар Беларусі, яго намеснікі і інш. высокапастаўленыя гітлераўскія чыноўнікі. Пасля знішчэння (22.9.1943 г.) мінскімі падпольшчыкамі генеральнага камісара Беларусі фашысцкага гаўляйтэра В. Кубэ на яго месца быў прызначаны К. фон Готберг. У кастрычніку 1943 г. савецкія патрыёты пачалі падрыхтоўку аперацыі па знішчэнню і гэтага ката беларускага народа. У аперацыі ўдзельнічалі падпольшчыкі, якія выконвалі заданні разведвальна-дыверсійнай групы «Юрый» (камандзір Э. С. Куцын). У падборцы патрэбных людзей групе дапамагалі разведчыкі атрада «Мясцовыя». У створаную імі падпольную групу ўвайшлі член ВЛКСМ А. А. Чыжэўская (1924—43 гг., працавала ў гаражы генеральнага камісарыята Беларусі), яе маці, былая настаўніца М. П. Чыжэўская (1899—1943 гг., працавала прыслугай у доме Фрайтага), былая студэнтка Мінскага медыцынскага інстытута Н. П. Майсеева (1921—43 гг., працавала афіцыянткай у доме Фрайтага), былы дацэнт БДУ Е. М. Зубковіч, член ВЛКСМ М. І. Голубева, былая студэнтка З. К. Хадзюня і інш. Патрыёты ўстанавілі, што на 30.10.1943 г. у Лошыцы намечана нарада высокапастаўленых гітлераўцаў з удзелам Готберга. Разведчыкі даставілі з базы групы «Юрый» у Мінск узрывучатку, на адной з канспіратыўных кватэр зманціравалі міну, навучылі непасрэдных выканаўцаў акта пакарання карыстацца ёю. На наступны дзень разведчык Карл Кляйнюнг пераправіў гэтую міну ў раён в. Лошыца, адкуль А. А. і М. П. Чыжэўскія, Н. П. Майсеева перанеслі яе ў дом Фрайтага і залажылі ў печ гасцінага пакоя. Але аб гэтым стала вядома фашыстам. А. А. і М. П. Чыжэўскіх, Н. П. Майсееву арыштавалі і пасля катаванняў пакаралі смерцю.

У 1981 г. у гонар мужных патрыётак, на месцы іх загубы ўстаноўлены мемарыяльны знак (скульптар В. Занковіч; граніт, медзь; вышыня 4, 5 м). Уяўляе сабой гранітную стэлу ў выглядзе вугла хаты, уверсе якой замацавана абвітая ручніком рама з гарэльефнымі выявамі падпольшчыц.

*Літ.:* Зянькові́ч М. Міна для Готберга.— У кн.: Юнацтва баявое. Мн., 1967.

**349. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, каля былой вёскі Лошыца-1. У сутоку рэк Свіслач і Лошыца. Сфарміравана ў 2-й палове 19 — пачатку 20 ст. Уключае сядзібны дом, 2 гаспадарчыя пабудовы, дом упраўляючага, вадзяны млын, спіртзавод, капліцу-пахавальню, парк. Выкарыстоўваецца Доследнай гаспадаркай «Лошыца 1-я».

Сядзібны дом размешчаны на грэбені прыпоймавай тэрасы. Аднадвухпавярховы прамавугольны ў плане будынак асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Аднапавярховая драўляная частка накрыта двухсхіль-




349. *Сядзібны дом. План.*



349. *Сядзібны дом.*

ным, двухпавярховая цагляная — высокім чатырохсхільным дахамі. Цэнтральны ўваход вылучаны порцікам з казырком (на 10 тонкіх разных слупах). Мураваныя плоскасці сцен члянёны карнізным поясам, рызаліт на галоўным фасадзе завершаны трохвугольным шчытом. Аконныя праёмы прамавугольныя, аздоблены драўлянымі разнымі ліштвамі з трохвугольнымі сандрыкамі. З паўднёвага боку ў двухпавярховай частцы прыбудавана веранда на высокім цокалі. У інтэр'еры сцены ўваходнай часткі аздоблены філёнгамі з моранага дубу, столь — ляпнінай, па перыметры праходзіць арнаментальны ляпны фрыз. У цэнтры вестыбюля — высокая печ, абліцаваная каляровай кафляй.

Перад галоўным фасадам дома парадны партэр у форме няправільнага эліпса, абмежаваны пад'язнымі дарогамі. З процілеглага боку — пакаты спуск да ракі.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры стылю «мадэрн».

Парк пейзажнага тыпу. Плошча каля 5 га. Асноўны ўчастак з кальцавымі дарожкамі знаходзіцца перад паўночным тарцовым фасадам дома. Перад паўднёвым бакавым фасадам на невялікай тэрасе размешчаны кветнік. У парку растуць экзоты: гінко двухлопасцевы, магнолія кобус, багmarkраннік японскі, дуб пушысты, ясень маннаносны, лістоўніцы японская, сібірская і еўрапейская, хвоі веймутава і чорная, абрыкос маньчжурскі, гартэнзія Брэтшнэйдэра, бярозы амерыканская і Эрмана.

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва.

Дом упраўляючага. Адна-двухпавярховы драўляны будынак складанага плана. Пабудаваны ў адзіным стылі з сядзібным домам.

Капліца-пахавальня. Пабудавана з цэглы, атынкаваная, аздоблена пілястрамі, захавалася часткова.

Гаспадарчыя пабудовы — мураваныя, аднапавярховыя.

Вадзяны млын. Мураваны двухпавярховы будынак.

Спіртзавод. Мураваны чатырохпавярховы будынак з паўцыркульнымі вокнамі.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. Ю. Пятросава.*

**вул. Чырвонаармейская**

**350. БУДЫНАК ДЗЯРЖАЎНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БССР ІМЯ У. І. ЛЕНІНА** (архіт.). Дом № 9. Узведзены ў 1932 г. (архіт. Г. Лаўроў) на складаным па рэльефу ўчастку.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя заснавана на спалучэнні простых геаметрычных форм, пазбаўленых дэкору. Чатырохгранныя слупы падтрымліваюць навіслы паўкруглы аб'ём, утвараючы своеасаблівы порцік галоўнага ўвахода з зашклёным эркерам вестыбюля. Чатырохпавярховы будынак мае складаную канфігурацыю плана, падпарадкаваную арганізацыі функцыянальных працэсаў.



350. *Будынак Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. Галоўны корпус.*

У канцы 1950-х гадоў да бібліятэкі прыбудаваны 4-павярховы прамавугольны ў плане корпус, у якім размешчаны кнігасховішча, абанементны аддзел і шэраг службовых памяшканняў. У бібліятэцы 12 чытальных залаў, сярод якіх вылучаецца агульная зала на 500 чалавек. У вестыбюлі ўстаноўлена скульптура У. І. Леніна (скульпт. А. Бембель).

Па функцыянальна-прасторавай арганізацыі будынак з'яўляецца прыкладам архітэктуры канструктывізму.

Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна — нацыянальная навуковая бібліятэка Беларусі універсальнага профілю, дзяржаўнае кнігасховішча, рэспубліканскі цэнтр бібліяграфіі і навукова-метадычнай работы ў галіне бібліятэказнаўства. Створана 15.9.1922 г. на базе бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта пад назвай Беларуская дзяржаўная і універсітэцкая бібліятэка. У тым жа годзе пачала рэгістрацыю ўсіх кніг, якія выдаваліся на тэрыторыі БССР. У 1924 г. пры бібліятэцы арганізавана Кніжная палата БССР. У сувязі з павелічэннем кніжных фондаў і развіццём функцый бібліятэкі Беларуская дзяржаўная і універсітэцкая бібліятэка згодна Пастановы СНК БССР ад 14.5.1926 г. рэарганізавана ў самастойную Беларускую дзяржаўную бібліятэку. У 1932 г. прысвоена імя У. І. Леніна. З 1922 г. атрымлівае абавязковы бясплатны экземпляр кніг, якія друкуюцца ў СССР, і два абавязковыя экземпляры кніг, што выдаюцца ў БССР. У 1932 г. кніжны фонд бібліятэкі налічваў 1 млн. адзінак. Шмат кніг было даслана ў Мінск з Дзяржаўных фондаў Масквы, Ленінграда, Акадэміі навук СССР і г. д. Развіваўся міжнародны абмен кнігамі. У 1933 г. бібліятэка мела філіялы ў Віцебску, Магілёве, Гомелі, у 1934 г. стварыла філіял пры Доме ўрада БССР. З іх потым выраслі абласныя бібліятэкі і Урадавая бібліятэка БССР імя М. Горкага. У Вялікую Айчынную вайну ў час акупацыі Мінска гітлераўцы нанеслі бібліятэцы вялікія страты: асноўная частка фондаў была вывезена ці знішчана, загінулі архіў друку БССР, каля 1500 экземпляраў фонда рэдкай кнігі, шмат рукапісаў, значна пашкоджаны будынак. З дапамогай бібліятэк краіны і асабліва Дзяржаўнай бібліятэкі СССР колькасна адноўлены даваенны кніжны фонд. Каля 600 тыс. кніг было знойдзена на тэрыторыі Германіі, Польшчы, Чэхаславакіі. На 1987 г. кніжны фонд больш за 6,5 млн. адзінак.



351. *Будынак сярэдняй школы № 4 імя С. М. Кірава.*




351. *Будынак сярэдняй школы № 4 імя С. М. Кірава. План 1-га паверха.*

Бібліятэка выдае «Летапіс друку БССР» (з 1924 г.), друкаваныя карткі для каталогаў на кнігі, што выдаюцца ў БССР (з 1948 г.), анатаваныя карткі ў тыпавых камплектах для масавых бібліятэк (з 1955 г.), штомесячны бібліяграфічны бюлетэнь «Новыя кнігі БССР» (з 1960 г.), штогоднік «Библиотечное дело в БССР». За год бібліятэка абслугоўвае звыш 40 тыс. чытачоў. У аддзелах беларускай літаратуры і бібліяграфіі, рэдкай кнігі і старадрукаў сабраны унікальныя зборы кніг, што выйшлі на тэрыторыі рэспублікі, кнігі пра Беларусь з пачатку 19-га стагоддзя да нашага часу, першыя выданні твораў класікаў марксізма-ленінізма, выданні Ф. Скарыны, І. Фёдарава і П. Мсціслаўца і інш. Міжнародным кнігаабменам бібліятэка звязана са 170 бібліятэкамі 27 краін свету, міжбібліятэчным абанементам — з 43 бібліятэкамі і ўстановамі 17 краін, з 2615 бібліятэкамі СССР. Каардынуе метадычную, бібліяграфічную і даследчую дзейнасць бібліятэк рэспублікі, цэнтр метадычнай і бібліяграфічнай дапамогі масавым бібліятэкам. Узнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1972 г.).

*Літ.:* Дышиневич В. Н. Государственная библиотека БССР им. В. И. Ленина. 1922—1972.— Мн., 1972; Государственная библиотека БССР им. В. И. Ленина: Путеводитель.— Мн., 1969.

*В. М. Баскова, А. А. Воінаў.*

**351. БУДЫНАК СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ № 4 ІМЯ С. М. КІРАВА** (архіт.). Размешчаны на перакрыжаванні вул. Чырвонаармейскай і Кірава (№ 11). Пабудаваны ў 1936 г. з цэглы (архіт. Г. Якушка).

Чатырохпавярховы будынак Г-падобны ў плане. Вуглавая частка выступае паўкруглым эркерам з каланадай на ўзроўні 2-га і 3-га паверхаў і галоўным уваходам. Рэзкае паніжэнне рэльефа на вул. Кірава абумовіла неабходнасць цокальнага паверха, дзе размясціліся майстэрні, гаспадарчыя памяшканні. Планіроўка калідорная з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў. Тры лесвічныя клеткі па тарцах і ў цэнтральнай частцы будынка забяспечваюць сувязь паміж паверхамі.

У 1979 г. крыло, што выходзіць на вул. Кірава, было падоўжана. Да асноўнага прыбудаваны новы 6-павярховы корпус (архіт. В. Карака, В. Шалкоўскі), дзе размясціліся фізкультурны і актавы залы, басейн.

У сярэдзіне 1930-х гадоў ажыццяўлялася паскоранае і пашыранае школьнае будаўніцтва, якое характарызавалася пошукам новых архітэктурна-планіровачных вырашэнняў. Гэта школа з'яўляецца адным з прыкладаў такіх пошукаў. *А. А. Міцянін.*

**352. ДОМ АФІЦЭРАЎ** (архіт., маст.). Дом № 3. Будынак з трох бакоў абмежаваны Ленінскім праспектам, вул. Чырвонаармейскай і К. Маркса. Пабудаваны ў 1939 г. (архіт. І. Лангбард). Мае складаную форму плана. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя ўключае галоўны корпус, звернуты да вул. Чырвонаармейскай, і бакавыя крылы, якія ўтвараюць унутраны дворык.




353. *Мемарыяльная дошка П. М. Машэраву.*

Галоўны фасад вырашаны ў мадэрнізаваных класічных формах. Трохчвэртныя калоны на вышыню чатырох паверхаў падтрымліваюць магутны атык. Галоўныя ўваходы ў тэатральную і клубную часткі размешчаны ў бакавых рызалітах. Функцыянальная арганізацыя будынка ўключае развітую тэатральную частку з глядзельнай залай на 1005 месцаў, вучэбныя пакоі, холы для адпачынку, выставачныя залы, бібліятэку, кінаканцэртную залу на 591 месца і спартыўны комплекс з плавальным басейнам і заламі для заняткаў рознымі відамі спорту, рэстаран.

У афармленні інтэр'ераў удала выкарыстаны сродкі манументальна-дэкаратыўнага мастацтва: барэльефы на партале сцэны, асвятляльных галерэях, у фае, плавальным басейне (скульпт. А. Бембель, А. Глебаў). У 1974 г. ажыццёўлена рэканструкцыя інтэр'ераў тэатральнай часткі (аўтарскі калектыў пад кіраўніцтвам архіт. Г. Сысоева).

Архітэктура Дома афіцэраў вылучаецца строгімі, лаканічнымі формамі і ўдалай функцыянальна-планіровачнай арганізацыяй. *С. Ф. Самбук.*

**353. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАШЭРАВУ** Пятру Міронавічу (гіст.). На доме № 13. Устаноўлена ў 1983 г. на ўшанаванне памяці савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай Працы П. М. Машэрава, які жыў у гэтым доме ў 1966—80 гг. Гл. таксама артыкул № 618 «Магіла Машэрава Пятра Міронавіча».

**354. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). Каля будынка завода-кіраўніцтва Мінскага станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава. Скульптура С. М. Кірава ўстаноўлена ў 1974 г.

**355. ПОМНІК ТАНКІСТАМ** (гіст.). На скрыжаванні вул. Чырвонаармейскай і К. Маркса, каля будынка Дома афіцэраў.

У 23 гадзіны 2.7.1944 г. танкісты 4-й гвардзейскай танкавай брыгады (камандзір палкоўнік А. А. Лосік) 2-га гвардзейскага Тацынскага танкавага корпуса (камандзір генерал-маёр А. С. Бурдзейны) выйшлі на ўсходнюю ўскраіну г. Мінска і пачалі бой з праціўнікам. Перад воінамі была



352. *Дом афіцэраў.*




354. *Помнік С. М. Кіраву.*

пастаўлена задача разведкай устанавіць сілы ворага. Першым абарону фашыстаў прарваў танк малодшага лейтэнанта, камандзіра ўзвода Дз. Г. Фролікава (экіпаж — вадзіцель П. А. Карпушаў, стралок У. Ф. Зотаў, зараджаючы В. М. Касякоў і радысткулямётчык І. Касцюк). Трыццацьчацвёрка прайшла па вул. Савецкай, знішчыла самаходную і 2 зенітныя гарматы, супрацьтанкавую гармату і каля 50 гітлераўцаў. У 2 гадзіны ночы 3 ліпеня 2-і танкавы корпус поўнасцю перайшоў у наступленне. У 5 гадзін раніцы 4-я танкавая брыгада была ўжо на цэнтральнай магістралі горада.

У 1952 г. у гонар савецкіх танкістаў — вызваліцеляў сталіцы Савецкай Беларусі — на гранітным пастаменце ўстаноўлены танк Героя Савецкага Саюза Дз. Г. Фролікава. На пастаменце надпіс: «Доблесным воінам 4-й гвардзейскай Мінскай Чырванасцяжнай ордэна Суворава II ступені танкавай брыгады 2-га гвардзейскага Тацынскага Чырванасцяжнага ордэна Суворава II ступені танкавага корпуса, якія першымі ўвайшлі ў Мінск 3 ліпеня 1944 г. пры вызваленні яго ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў».

*Літ.:* В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974; В памяти народной.— Мн., 1969; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *В. М. Баскова.*

**вул. Чырвоная**

**356. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). На рагу вуліц Чырвонай і Камуністычнай, 1/14. Пабудаваны ў 1956 г. з цэглы (архіт. М. Ліўшыц, Э. Гальдштэйн).

Будынак пяціпавярховы, Г-падобны ў плане. Пастаўлены на ўзгорку, арыентаваны на набярэжную р. Свіслач. Вуглавая частка — васьміграны эркер, завершаны трох'ярусным ліхтаром са спічаком, які з'яўляецца вышыннай дамінантай кампазіцыі. Вулічныя фасады амаль раўназначныя, завершаны развітым карнізам на мадульёнах. 3 паверхі апрацаваны буйным рустам, на 4-м і 5-м балконы аформлены парталамі з пілястрамі і трохвугольнымі франтонамі. З боку Камуністычнай вуліцы зроблены праезд. Дваровыя фасады вырашаны сціпла.

На 1-м паверсе размешчаны магазін і прадпрыемствы службы быту, чатыры верхнія — жылыя, аднолькавай планіроўкі (двухкватэрныя секцыі з трыма і чатырма жылымі пакоямі). Планіроўка жылых секцый індывідуальная.

Будынак — прыклад жыллёвай архітэктуры. *Т. В. Габрусь.*

**бульвар Шаўчэнкі**

**357. ПОМНІК ШАЎЧЭНКУ** Тарасу Рыгоравічу (маст.). Пастаўлены ў 1976 г. (скульпт. С. Вакар; граніт,

355. *Помнік танкістам.*

бронза; вышыня пастамента 0,8 м, памер каменя 1×1 м) на ўшанаванне памяці паэта, імя якога носіць бульвар. Размешчаны злева ад галоўнай восі бульвара. Уяўляе сабой кампазіцыю з двух гранітных блокаў, асіметрычна пакладзеных адзін на адзін. Ніжні — з шэрага граніту — з'яўляецца нібы пастаментам для гранітнага маналіту чырвонага колеру, на паліраванай фасаднай грані якога замацаваны бронзавы барэльеф Т. Р. Шаўчэнкі. Тыльны бок блока неапрацаваны, са сколамі. Да помніка вядзе выкладзеная бетоннымі плітамі дарожка.

*Л. Г. Ланцэвіч.*

**вул. Шпалерная**

358. **ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Дом № 6а. Размешчаны ў раёне былога Ракаўскага прадмесця. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з высокім паўпадвалам накрыты двухсхільным дахам. Мае сіметрычную архітэктурную кампазіцыю. Паверхня плоскіх сцен



357. *Помнік Т. Р. Шаўчэнку.*



356. *Жылы дом № 1/14 на рагу вуліц Чырвонай і Камуністычнай.*




356. *Жылы дом № 1/14 на рагу вуліц Чырвонай і Камуністычнай. План 1-га паверха.*

члянёна прамавугольнымі вокнамі без ліштваў. Уваход вылучаны двухкалонным драўляным порцікам на высокім ганку.

Дом — прыклад грамадзянскай архітэктуры з элементамі класіцызму.

*А. Ю. Пятросава.*

**вул. Шчукіна**

359. **ПОМНІК ХАМЧАНОЎСКАМУ** Уладзіміру Антонавічу (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы № 101.

Герой Савецкага Саюза У. А. Хамчаноўскі нарадзіўся ў 1920 г. у в. Пірагі Расонскага р-на Віцебскай вобл. у сям'і селяніна. Кандыдат у члены КПСС (1942 г.). У 1939 г. скончыў 9 класаў Клясціцкай СШ, у 1939—40 гг. вучыўся ў Аршанскім настаўніцкім інстытуце, з канца 1940 г.— завочна і працаваў настаўнікам у Сакалішчанскай сямігодцы Расонскага р-на. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. член Расонскага камуністычнага падполля, вёў работу сярод насельніцтва вёсак Клясціцы, Пірагі, Забор'е па стварэнню падпольных груп. З красавіка 1942 г. намеснік камандзіра партызанскага атрада імя М. А. Шчорса па разведцы. У красавіку 1942 г. у час баявой аперацыі знішчыў нямецкага генерала, важныя дакументы якога былі перададзены савецкаму камандаванню. 19.12.1942 г. група падрыўнікоў пад камандаваннем У. А. Хамчаноўскага натрапіла на варожую засаду каля в. Гліснаўка Полацкага р-на. 30 партызан вялі бой супраць 500 гітлераўцаў. У. А. Хамчаноўскі прыкрываў адыход групы, знішчыў 15 гітлераўцаў. Калі ўзнікла пагроза трапіць жывым у рукі ворага, застрэліўся. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.5.1965 г. Пахаваны ў мемарыяльным парку ў г. п. Расоны. У 1974 г. у в. Пірагі на месцы дома, у якім нарадзіўся У. А. Хамчаноўскі, пастаўлена стэла. Яго імя прысвоена Клясціцкай школе Расонскага р-на.

У 1975 г. устаноўлены бюст героя.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Аслёзов С. А. Взрыв на рассвете.— Мн., 1976; Падбярозны А. Сэрца, поўнае агню.— У кн.: Юнацтва баявое. Мн., 1967; Романов А., Пригодич З. Свет его звезды.— У кн.: Дорога в бессмертие. Мн., 1967.

**вул. Энгельса**

360. **БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ІМЯ Я. КУПАЛЫ** (гіст., архіт.). Дом № 7. Будынак узведзены ў 1890 г. (архіт. К. Казлоўскі, К. Увядзенскі) як гарадскі тэатр. Адкрыты 5.6.1890 г. драматычным спектаклем «Сфінкс» А. Фелье ў выкананні аматараў. У тэатры выступалі оперныя, драматычныя і аперэтачныя трупы, у т. л. В. Сука, М. Старыцкага, М. Крапіўніцкага, М. Садоўскага ( з М. Занькавецкай), пад кіраўніцтвам П. Струйскага, П. Ленскага, А. Яблачкінай, Парыжскі тэатр пад кіраўніцтвам М. Метэрлінка, «Італьянская опера» Ф. Кастэлана з удзелам М. Батысціні і інш. Адбываліся літаратурна-музычныя вечары. З 1920 г. тут Беларускі тэатр імя Янкі Купалы.

Адкрыўся 14.9.1920 г. пад назвай Беларускі дзяржаўны тэатр (БДТ) спектаклем «Рысь» паводле аповесці «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі. З 1926 г., у сувязі з адкрыццём беларускага драматычнага тэатра ў Віцебску, называўся Беларускі першы дзяржаўны тэатр (БДТ-1), 21.12.1944 г. прысвоена імя Я. Купалы, у 1955 г.— званне акадэмічнага. У Вялікую Айчынную вайну тэатр працаваў у Томску, пасылаў брыгады акцёраў на фронт, абслугоўваў раненых байцоў і афіцэраў у шпіталях, у кастрычніку 1944 г. вярнуўся ў Мінск. Да 1928 г.



360. *Будынак тэатра імя Янкі Купалы.*



**360.** *Будынак гарадскога тэатра. Галоўны фасад. Пачатак 20 ст.*

у яго складзе — драматычная, балетная і оперная трупы. У рэпертуары 20-х гадоў — беларускія фальклорныя, гістарычныя п'есы, руская і зарубежная класіка: «Паўлінка» (1920 г.) і «Раскіданае гняздо» (1921 г.) Я. Купалы, «На Купалле» М. Чарота (1921 г.), «Машэка» і «Кастусь Каліноўскі» (1923 г.), «Кавальваявода» і «Кар'ера таварыша Брызгаліна» (1925 г.) Е. Міровіча, «Мост» Я. Рамановіча (1929 г.) і інш. У спектаклях 1930 — пачатку 40-х гг. шырока адлюстравана тагачаснае жыццё, барацьба за сацыяльную справядлівасць: «Гута» Р. Кобеца (1930 г.), «Бацькаўшчына» К. Чорнага (1932 г.), «Канец дружбы» (1934 г.) і «Партызаны» (1938 г.) К. Крапівы, «Салавей» З. Бядулі (1937 г.), «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка (1939 г.), «Хлопец з нашага горада» К. Сіманава (1941 г.) і інш.

Значным дасягненнем тэатра сталі спектаклі «Апошнія» М. Горкага (1937 г.) і «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы (1939 г.). Сярод спектакляў ваенных гадоў «Фронт» А. Карнейчука (1942 г.) і «Рускія людзі» К. Сіманава (1943 г.), у якіх раскрывалася веліч подзвігу савецкіх людзей у Вялікую Айчынную вайну. Этапным стаў спектакль «Паўлінка» Я. Купалы (1944 г.). Пастаўлены: у 1945 г. «Мілы чалавек» К. Крапівы, у 1946 г. «Рамэо і Джульета» У. Шэкспіра, у 1947 г. «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона. Прыкметнай з'явай у жыцці тэатра былі пастаноўкі камедый «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы (1950 г.), «Выбачайце, калі ласка!» (1954 г.) і «Лявоніха на арбіце» (1961 г.) А. Макаёнка. Важны ўклад купалаўцаў у стварэнне тэатральнай Ленініяны. На яго сцэне з поспехам ішлі спектаклі «Сям'я» І. Папова (1950 г.), «Крамлёўскія куранты» (1956 г.) і «Трэцяя, патэтычная» (1959 г.) М. Пагодзіна і інш. У пастаноўцы сучасных твораў глыбока раскрываюцца сацыяльныя з'явы, савецкая рэчаіснасць: «Я, бабуся, Іліко і Іларыён» Н. Думбадзе і Р. Лордкіпанідзе і «У мяцеліцу» Л. Лявонава (1965 г.), «Людзі на балоце» паводле І. Мележа (1966 г.), «Амністыя» (1970 г.) і «Мудрамер» (1987 г.) М. Матукоўскага, «Зацюканы апостал», «Трыбунал» (1971 г.) і «Таблетку пад язык» (1973) А. Макаёнка, «Брама неўміручасці» К. Крапівы (1974 г.), «Святая святых» І. Друцэ (1977 г.), «Плач перапёлкі» І. Чыгрынава (1980 г.), «Парог» (1983 г.) і «Радавыя» (1984 г.) А. Дударава.




**360.** *Будынак гарадскога тэатра. План паводле праекта 19 ст.*

У творчай гісторыі тэатра значная роля належыць рэжысёрам — Ф. Ждановічу, народным артыстам БССР Е. Міровічу і К. Саннікаву, заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР Л. Літвінаву, заслужанаму артысту БССР М. Зораву, заслужанаму дзеячу мастацтваў УССР Б. Эрыну; мастакам — народнаму мастаку БССР А. Марыксу, заслужаным дзеячам мастацтваў БССР А. Грыгар'янцу і І. Ушакову; акцёрам — народным артыстам СССР Г. Глебаву, У. Дзядзюшку, П. Малчанаву, Б. Платонаву, Л. Рахленку, Л. Ржэцкай і У. Уладамірскаму, народным артыстам БССР С. Бірылу, В. Галіне, Г. Грыгонісу, І. Ждановіч, В. Пола і І. Шацілу, заслужаным артыстам БССР У. Крыловічу і К. Міронавай. У розны час у тэатры працавалі народная артыстка БССР М. Блінская, народная артыстка РСФСР, заслужаная артыстка БССР Л. Драздова, заслужаныя артысты БССР А. Бараноўскі, П. Іваноў, В. Краўцоў, Б. Кудраўцаў, П. Пекур, Р. Філіпаў, С. Хацкевіч, Э. Шапко, Л. Шынко, Б. Янпольскі і інш. У складзе трупы (1988 г.) народныя артысты СССР Г. Макарава, С. Станюта, З. Стома, В. Тарасаў, народныя артысты БССР Г. Аўсяннікаў, З. Браварская, Г. Гарбук, Л. Давідовіч, М. Захарэвіч, П. Кармунін, М. Яроменка; заслужаныя артысты БССР Т. Аляксеева, Г. Арлова, В. Белахвосцік, А. Дзянісаў, П. Дубашынскі, М. Зінкевіч, У. Кудрэвіч, А. Мілаванаў, Т. Нікалаева, А. Памазан, У. Рагаўцоў, А. Рынковіч, Г. Талкачова, Б. Уладамірскі, М. Федароўскі, В. Філатаў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР В. Манаеў, заслужаны работнік культуры БССР З. Скачкоўская. Галоўны рэжысёр з 1973 г. заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Раеўскі, галоўны мастак заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Б. Герлаван.

Калектыў Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Я. Купалы ўносіць значны ўклад у развіццё савецкага тэатральнага мастацтва.

Першапачаткова галоўны фасад будынка тэатра выходзіў на плошчу на скрыжаванні вуліц Падгорнай (сучасная К. Маркса) і Петрапаўлаўскай (цяпер Энгельса), быў вырашаны двухпавярховым рызалітам. Да яго прылягалі аднапавярховыя крылы — касавыя вестыбюлі. Над уваходным тамбурам, на другім паверсе, знаходзіўся балкон, агароджаны балюстра-

дай. Дэкаратыўнае афармленне фасадаў было вырашана ў стылі неабарока, што было характэрна для такіх збудаванняў пачатку 20 ст. Сярод дэкаратыўных элементаў — каненліраваныя пілястры, паўцыркульныя нішы, круглыя вокны-люнеты, лучковы франтон і інш. Плафон глядзельнай залы быў упрыгожаны размалёўкай (архіт. В. Маас) з партрэтамі А. С. Пушкіна, М. В. Гогаля, М. І. Глінкі, А. М. Астроўскага. Партал сцэны ўпрыгожваў ляпны герб Мінскай губерні. Пазней галоўны фасад будынка, унутраная планіроўка зменены. У 1958 г. будынак рэканструяваны (архіт. А. Духан). Набыў складаную аб'ёмна-планіровачную кампазіцыю, у якой дамінуючае становішча належыць сцэнічнай каробцы. На галоўным фасадзе надбудаваны бакавыя крылы, перапланаваны шэраг дапаможных памяшканняў, тэхнічнае абсталяванне прыстасавана для сучасных патрэб.

На будынку тэатра ўстаноўлены 2 мемарыяльныя дошкі ў гонар 2-га з'езда армій Заходняга фронту і 1-га Усебеларускага з'езда Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, якія тут адбыліся.

Будынак тэатра — помнік грамадзянскай архітэктуры, адно з унікальных збудаванняў Мінска.

*В. М. Чарнатаў, Т. І. Чарняўская.*

**361. БУДЫНАК АБЛВЫКАНКОМА** (архіт.). Дом № 4. Пабудаваны ў 1962 г. (архіт. В. Волчак). Арачным праездам злучаны з будынкам цэнтральнага тэлеграфа, разам з якім фарміруе забудову паўднёва-заходняга боку Кастрычніцкай плошчы.

Прамавугольны ў плане пяціпавярховы будынак. Галоўны фасад вырашаны сіметрычна, рытмічна расчлянёны на ўзроўні трох верхніх паверхаў буйнымі пілястрамі з капітэлямі, дэкарыраваны гірляндамі, зоркамі. 1-ы паверх вырашаны як цокальны, апрацаваны светла-карычневай дэкаратыўнай тынкоўкай, 2-і — расшыты пад руст, прасценкі яго прамавугольных аконных праёмаў з'яўляюцца пастаментамі пілястраў верхніх паверхаў. 5-ы паверх з радам арачных аконных праёмаў завершаны буйным антаблементам з карнізам на вялізных дэнтыкулах. Галоўны фасад вылучаны трайной, дэкарыраванай гірляндамі, аркатурай, якая абрамляе прамавугольныя дзвярныя праёмы.



*361. Будынак аблвыканкома па вуліцы Энгельса.*



*362. Будынак цэнтральнага тэлеграфа.*

Планіроўка калідорная з двухбаковым размяшчэннем памяшканняў. Цэнтральная парадная і бакавыя дапаможныя лесвіцы вылучаны на дваровым фасадзе акруглым і прамавугольнымі рызалітамі.

Будынак аблвыканкома — твор савецкай архітэктуры з выкарыстаннем форм класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**362. БУДЫНАК ЦЭНТРАЛЬНАГА ТЭЛЕГРАФА** (архіт.). Дом № 6. Пабудаваны ў 1962 г. (архіт. У. Кароль, А. Духан). Уваходзіць у ансамбль Кастрычніцкай плошчы.

Прамавугольны ў плане чатырохпавярховы аб'ём. Галоўны фасад апрацаваны светла-шэрай тынкоўкай. Яго плоскасць рытмічна расчлянёна на ўзроўні трох паверхаў прамавугольнымі вокнамі, аб'яднанымі па вертыкалі агульнымі лучковымі нішамі, буйнымі руставанымі пілястрамі, капітэлі якіх дэкарыраваны паясамі профіляў, іёнік, спляценнямі аканта. Сіметрыя фасада адзначана арачнымі абрамленнямі галоўнага і бакавых уваходаў з паўкруглымі люкарнамі над імі. У завершы будынка буйны карніз на акантавых дэнтыкулах. 1-ы паверх з арачнымі вокнамі ў прафіляваных ліштвах вылучаны поясам сухарыкаў. Строеныя вокны верхніх паверхаў расчлянёны канеліраванымі слупамі, дэкарыраваны падаконнымі філёнгамі. 4-ы паверх плоскасны з арачнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраванымі ў завершы паўкруглымі франтончыкамі з разеткамі ў цэнтры і акантавымі завіткамі па баках (над цэнтральным праёмам трохвугольны франтон).

На 1-м паверсе будынка размешчаны аперацыйныя залы тэлеграфа. Верхнія паверхі калідорнай планіроўкі, адведзены пад адміністрацыйную і тэхнічную службы. У аздобе інтэр'ераў выкарыстана дэкаратыўная таніраваная тынкоўка.

Будынак тэлеграфа — твор савецкай архітэктуры з выкарыстаннем форм класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**363. КІНАТЭАТР «ПІЯНЕР»** (архіт., маст.). Дом № 20. Пабудаваны ў 1965 г. (архіт. Г. Заборскі, Л. Левін) як спецыялізаваны дзіцячы шырокаэкранны кінатэатр. Пастаўлены на рэльефе са значным перападам вы-



*363. Будынак кінатэатра «Піянер» і тэатра лялек.*



*363. Будынак кінатэатра «Піянер» і тэатра лялек. План.*

шынь, што абумовіла ўзвядзенне падпорнай сценкі, умацаванай бутавым каменем, і шырокай лесвіцы.

Асноўная частка будынка ўяўляе сабой значны па памерах лаканічны прамавугольны аб'ём, да якога з тыльнага фасада прылягаюць больш нізкія дапаможныя прыбудовы. Архітэктурны акцэнт зроблены на галоўным фасадзе, які вырашаны паглыбленым перспектыўным парталам з двума сіметрычнымі ўваходамі па баках. Цэнтральная частка фасада мае суцэльнае ашкленне, рытмічна расчлянёна металічным каркасам. Верхні схіл партала афармлены мазаікай па казачныя і навукова-фантастычныя тэмы. Строга сіметрычнае вырашэнне фасада адпавядае арганізацыі ўнутранай прасторы. Будынак уключае дзве залы на 400 месцаў кожная (для кінапаказаў і тэатра лялек), вялізнае фае з зімовым садам, дэкаратыўным басейнам і дробнай скульптурнай пластыкай. Аздобу інтэр'ера дапаўняюць пано «Шчаслівае дзяцінства» і кованыя металічныя рашоткі з выявамі жыхароў падводнага і леснога царстваў, якія аддзяляюць антрэсольныя паверхі па баках фае.

Будынак кінатэатра і тэатра лялек — прыклад арганічнага сінтэзу архітэктуры і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. *Т. В. Габрусь.*

**364. КОРПУС МАНАСТЫРА БАЗЫЛЬЯНАК** (архіт.). Дом № 1. Пабудаваны ў сярэдзіне 17 ст. з цэглы.

Манастырскі корпус уяўляе сабой двухпавярховы П-падобны ў плане будынак сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Пад двухсхільным дахам праходзіць шматслойны масіўны карніз. Плоскасці сцен пазбаўлены дэкору, члянёны прамавугольнымі вокнамі без ліштваў. Тарцовыя фасады завершаны трохвугольнымі плоскімі франтонамі з маленькімі вокнамі. Унутраная прастора вырашана па калідорнай схеме з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў. Калідор перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Манастырскі корпус быў злучаны з царквой Святога духа (не захавалася) двухпавярховым пераходам; 1-ы паверх меў скразныя арачныя праходы, другі — вузкі крыты калідор (пераход не захаваўся). Будынак выкарыстоўваецца пад жыллё.

Манастырскі корпус — помнік архітэктуры барока. *А. Ю. Пятросава.*



364. *Корпус былога манастыра базыльянак.*




364. *Корпус былога манастыра базыльянак. План 1-га паверха.*

**365. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР З'ЕЗДА АРМІЙ ЗАХОДНЯГА ФРОНТУ** (гіст.). На будынку тэатра імя Янкі Купалы (дом № 7), дзе адбыўся з'езд. Устаноўлена ў 1967 г.

З'езд адбыўся 20—25.11 (3—8.12). 1917 г. 714 дэлегатаў, з іх 473 бальшавікі. Ганаровым старшынёй быў выбраны У. І. Ленін. У рабоце з'езда ўдзельнічалі прадстаўнікі ад ЦК РСДРП(б) і Петраградскага ВРК Р. К. Арджанікідзе і В. Валадарскі.

Парадак дня: бягучы момант; аб дзейнасці Выканкома Франтавога камітэта і ВРК Заходняга фронту; арганізацыя арміі; заключэнне міру і дэмабілізацыя арміі; арганізацыя дапамогі ахвярам вайны і рэвалюцыі; выбары галоўнакамандуючага фронтам; выбары Франтавога камітэта. Дэлегаты віталі перамогу паўстання ў Петраградзе і запэўнілі, што ўвесь Заходні фронт будзе апорай народнай улады.

З'езд заявіў аб прызнанні II Усерасійскага з'езда Саветаў і выбранага ім СНК. Па прапанове бальшавіцкай фракцыі галоўнакамандуючым Заходняга фронту большасцю ў 524 галасы дэлегаты выбралі А. Ф. Мясьнікова. З'езд выбраў таксама Франтавы камітэт, у які ўвайшлі 80 бальшавікоў, 10 левых эсэраў, 4 меншавікі і 6 правых эсэраў і ў склад ВЦВК з'езд выбраў 20 чалавек, з іх 18 бальшавікоў.

Другі з'езд армій Заходняга фронту паказаў цвёрдую рашучасць салдацкіх мас абараняць заваёвы сацыялістычнай рэвалюцыі.

**366. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПЕРШАГА УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА САВЕТАЎ РАБОЧЫХ, СЯЛЯНСКІХ І ЧЫРВОНААРМЕЙСКІХ ДЭПУТАТАЎ** (гіст.). На будынку тэатра імя Янкі Купалы (дом № 7), дзе адбыўся з'езд. Устаноўлена ў 1947 г.

Першы Усебеларускі з'езд Саветаў быў склікаць Часовым рабоча-сялянскім савецкім урадам Беларусі. 230 дэлегатаў з рашаючым голасам ад Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віленскай і Смаленскай губерняў. Па даручэнню ЦК РКП(б) і ВЦВК у рабоце з'езда ўдзельнічаў старшыня ВЦВК Я. М. Свярдлоў.

З'езд адбыўся 2—3.2.1919 г. Парадак дня: аб адносінах да савецкіх рэспублік; бягучы момант; прыняцце Канстытуцыі БССР; зямельнае пытанне; выбары ЦВК БССР.

Я. М. Свярдлоў абвясціў пастанову Прэзідыума ВЦВК «Аб прызнанні незалежнасці Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі». Гэтай пастановай ВЦВК пацвярджаў, што РСФСР будзе ўсяляк дапамагаць працоўным Беларусі ў іх барацьбе супраць эксплуатацыі і прыгнёту, у абароне свабоды і незалежнасці. З'езд прыняў дэкларацыі: да ўсіх народаў і іх урадаў з заклікам прызнаць незалежнасць БССР і ўстанавіць з ёю дыпламатычныя адносіны; аб устанаўленні федэратыўнай сувязі з РСФСР, аб аб'яднанні рэспублік Літвы і Беларусі.

З'езд прыняў Канстытуцыю Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі, якая заканадаўча замацавала перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі, асноўныя пытанні грамадскага і дзяржаўнага ладу, правы і свабоды грамадзян. У адпаведнасці з Канстытуцыяй найвышэйшая ўлада ў рэспубліцы належала з'езду Саветаў, а ў перыяд паміж з'ездамі — ЦВК БССР, які выбіраўся з'ездам Саветаў. З'езд адзначыў неабходнасць умацавання Чырвонай Арміі, гаспадарчых і палітычных сувязей паміж савецкімі рэспублікамі. Абвясціў зямлю адзіным дзяржаўным фондам, паставіў задачу пераходу да калектыўных форм землекарыстання. З'езд выбраў ЦВК БССР у складзе 50 чалавек (з іх 45 бальшавікоў).

*Літ.:* Круталевич В. А. Рождение Белорусской Советской Республики.— Мн., 1979; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 2.— Мн., 1957; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967. *В. Б. Караткевіч.*

**ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (вул. Казлова)

Вайсковыя могілкі ўзніклі ў 1840-я гады як месца пахавання ваеннаслужачых, якія памерлі ў Мінскім вайсковым шпіталі. У 1890-я гады ў гонар перамогі ў руска-турэцкай вайне 1877—78 гг. на могілках пабудаваны храм-помнік — царква Аляксандра Неўскага. На могілках пахаваны савецкія воіны і партызаны, падпольшчыкі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, многія савецкія партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, рэвалюцыянеры, пісьменнікі, кампазітары, акцёры, мастакі, вучоныя і інш. З сярэдзіны 1950-х гадоў для пахаванняў закрыта. Плошча 4,15 га.

**367. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Пахаваны ўдзельнікі Мінскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну В. З. Клімук, М. А. Гуд, І. М. Сіткевіч, Б. І. Сіткевіч (Грынкевіч).

У час акупацыі горада нямецка-фашысцкімі захопнікамі адну з груп Мінскага камуністычнага падполля (дзейнічала з 1941 г.) узначальваў В. З. Клімук. Патрыёты падтрымлівалі сувязь з Мінскім падпольным гаркомам КП(б)Б, партызанамі брыгады «Штурмавая» і іншых фарміраванняў, збіралі і перапраўлялі для іх зброю, медыкаменты, распаўсюджвалі лістоўкі. Па заданню партызан В. З. Клімук разам з падпольшчыкамі М. А. Гудам, І. М. Сіткевічам і Б. І. Сіткевічам (Грынкевічам) падрыхтавалі дыверсію на вадапомпавай станцыі горада, якая размяшчалася каля в. Навінкі. Аднак у ноч з 6 на 7.10.1943 г. яны былі арыштаваны акупантамі і 6.11. 1943 г. павешаны. Пасля вызвалення Мінска астанкі патрыётаў у жніўні 1944 г. перапахаваны на Вайсковых могілках.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

*А. М. Літвін.*

**368. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**369. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У 42 брацкіх і больш за 500 адзіночных магілах пахаваны больш за 1000 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных воіны, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні г. Мінска і ліквідацыі мінскага «катла».



369. *Брацкія могілкі савецкіх воінаў.*

У 1965 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна, на брацкіх і адзіночных магілах — надмагіллі.

**370. МАГІЛА АГІЕВІЧА** Уладзіміра Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі крытык і літаратуразнавец У. І. Агіевіч нарадзіўся 13.9.1910 г. у в. Пухавічы Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут (1937 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў выкладчыкам Слуцкага педагагічнага вучылішча (1937—39 гг.), вучоным сакратаром Аддзялення грамадскіх навук АН БССР (1943—46 гг.), потым выкладчыкам беларускай літаратуры ў Мінскім педагагічным інстытуце, літкансультантам Саюза пісьменнікаў БССР, у часопісе «Беларусь».

Друкаваўся з 1928 г. Яго артыкулы і рэцэнзіі садзейнічалі пераадоленню вульгарызатарскіх схем і догмаў у беларускай крытыцы. Лепшыя працы сабраны ў кнізе «Літаратура і жыццё» (1954 г.). Склаў падручнікі (разам з І. Ф. Кудраўцавым) «Кніга для чытання ў другім класе школ рабочай і сельскай моладзі» і «Кніга для чытання ў трэцім класе школ рабочай і сельскай моладзі» (1952 г.). Памёр У. І. Агіевіч 4.10.1952 г.



367. *Помнік на брацкай магіле падпольшчыкаў.*



369. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў.*



371. *Помнік на магіле Б. С. Акрэсціна.*

У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *А. Г. Шчарбатаў.*

**371. МАГІЛА АКРЭСЦІНА** Барыса Сямёнавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Б. С. Акрэсцін нарадзіўся 18.2.1923 г. у Маскве ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. Скончыў аэраклуб у Маскве. У Вялікую Айчынную вайну з верасня 1942 г. на Сталінградскім, Паўднёвым, 4-м Украінскім і 3-м Беларускім франтах. Намеснік камандзіра эскадрыллі штурмавога авіяпалка 1-й гвардзейскай штурмавой авіядывізіі гвардыі старшы лейтэнант Б. С. Акрэсцін з верасня 1942 г. да снежня 1943 г. зрабіў 381 баявы вылет на штурмоўку жывой сілы і тэхнікі праціўніка. За ўзорнае выкананне баявых заданняў і праяўленыя пры гэтым доблесць, мужнасць і геройства 13.4.1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. 6.7.1944 г. у час разгрому гітлераўскай групоўкі, якая прарывалася з мінскага «катла», самалёт Б. С. Акрэсціна быў падбіты. Адважны лётчык паўтарыў подзвіг М. Ф. Гастэлы — накіраваў ахоплены агнём самалёт на варожую калону, знішчыў шмат гітлераўцаў. Імем героя ў Мінску названы вуліца, завулак. Яго імя прысвоена 65-й сярэдняй школе, на тэрыторыі якой пастаўлены помнік.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**372. МАГІЛА АПАНСКАГА** Іосіфа Казіміравіча **І ГАЛУБ'ЕВА** Мікалая Аляксандравіча (гіст.).

Савецкі дзяржаўны дзеяч І. К. Апанскі (партыйныя псеўданімы Краўчынскі, Міхайлаў) нарадзіўся 6.7.1897 г. у в. Сталярышкі Анікшчайскага р-на Літоўскай ССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1916 г. Скончыў Пецярбургскае рэальнае вучылішча. Удзельнік Лютаўскай рэвалюцыі. У 1917 г. працаваў у друкарні ЦК РСДРП(б), у рэдакцыі газеты «Правда». У 1917 г. арыштаваны Часовым урадам. Але дзякуючы рашучаму пратэсту Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў вызвалены з турмы. У Грамадзянскую вайну на падпольнай партыйнай рабоце ў Літве і на Беларусі. У 1919 г. член Віленскага гаркома КП(б)ЛіБ, выканкома гарсавета, рэўтрыбунала, потым старшыня Мазырскага павятовага рэўкома. З 1920 г. намеснік начальніка асобага аддзела 16-й арміі, якая размяшчалася на тэрыторыі Беларусі. З 1922 г. працаваў у ЧК Петраградскай ваеннай акругі і ў Самары. У 1923 г. начальнік Вышэйшай пагранічнай школы ў Маскве, памочнік начальніка аддзела пагранахове і старшы памочнік галоўнага інспектара войск Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ). З 1924 г. намеснік паўнамоцнага прадстаўніка АДПУ па Беларускай ваеннай акрузе і адначасова (з 1926 г.) начальнік Беларускага аддзялення Галоўнага таможнага ўпраўлення СССР. Адзін з арганізатараў ліквідацыі эсэраўскага падполля на Беларусі. Кандыдат у члены ЦК КП(б)Б у 1925—27 гг. Член ЦВК Літ.-Бел. ССР у 1919 г., член ЦВК БССР у 1925—27 гг. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Загінуў 7.6.1927 г. пры выкананні службовых абавязкаў. Імем І. К. Апанскага ў Мінску названа вуліца і 2 завулкі.

М. А. Галуб'еў — шафёр ДПУ БССР. Загінуў 7.6.1927 г. разам з І. К. Апанскім.

У 1928 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Галіч В. Чэкіст Осіп Апанскі.— Беларусь, 1958, № 6; Мехаў У. Апошняя яўка.— Мн., 1959; Вялюгін А., Рудаў В. Конь апошні: Кінааповесць.— Полымя, 1967, № 6. *В. Б. Караткевіч.*



372. *Помнік на магіле І. К. Апанскага і М. А. Галуб'ева.*

**373. МАГІЛА АРСЕНКІ** Арсена Дзянісавіча (гіст.).

Беларускі і ўкраінскі савецкі спявак, народны артыст БССР (1944 г.) А. Дз. Арсенка нарадзіўся 2.3.1903 г. у г. п. Новая Вадалага Харкаўскай вобл. Скончыў Харкаўскі музычна-драматычны тэхнікум (1928 г.). У 1928—36 гг. працаваў у оперных тэатрах Харкава, Адэсы, у 1936—37 гг. у Вялікім тэатры СССР. З 1937 г. саліст Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Першы выканаўца галоўных партый у операх «У пушчах Палесся» А. Багатырова (Кузьміч), «Кветка шчасця» А. Туранкова (Андрэй), выканаў таксама партыі Змітрака і Апанаса ў операх «Міхась Падгорны» і «Алеся» Я. Цікоцкага. Стварыў на беларускай сцэне яркія вобразы Фігара («Севільскі цырульнік» Дж. Расіні), Жэрмона і Рыгалета («Травіята» і «Рыгалета» Дж. Вердзі), Валянціна («Фауст» Ш. Гуно), Ялецкага, Анегіна («Пікавая дама» і «Яўген Анегін» П. Чайкоўскага). Валодаў высокай вакальнай культурай, створаныя ім вобразы вызначаліся арыгінальнасцю музычнай і сцэнічнай трактоўкі. Вядомы і як камерны спявак. Памёр А. Дз. Арсенка 30.8. 1945 г.

У 1950 г. на магіле пастаўлена стэла з выявай ліры і гарэльефам.

*Літ.:* Слова пра майстроў сцэны. Мн., 1967. *М. М. Казлоўская.*

**374. МАГІЛА АХМАНАВА** Аляксея Восіпавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. В. Ахманаў нарадзіўся ў 1896 г. у с. Алаты Татарскай АССР у сям'і рабочага. Член КПСС з 1926 г. Скончыў Вышэйшыя акадэмічныя курсы ўдасканалення каманднага саставу пры Ваеннай акадэміі імя К. Я. Варашылава (1948 г.). У Чырвонай Арміі з 1919 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г.— генерал-лейтэнант танкавых войск, камандзір 23-га танкавага корпуса. Ваяваў на Заходнім, Калінінскім, Сцяпным, Паўднёва-Заходнім, 2-м Украінскім франтах. З 25.1 да 12.2.1945 г. корпус пад камандаваннем А. В. Ахманава вёў жорсткія наступальныя і абарончыя баі ў раёне Будапешта (Венгрыя). Танкісты нанеслі ворагу вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы. У час баёў А. В. Ахманаў праявіў выключную мужнасць і ўменне кіраваць войскамі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 28.4.1945 г. Пасля вайны жыў у Мінску. Памёр А. В. Ахманаў у 1949 г.




373. *Помнік на магіле А. Дз. Арсенкі.*

У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Г. І. Дулеба.*

**375. МАГІЛА БАГДАНЧЫКА** Іосіфа Рыгоравіча (гіст.). Чырвонаармеец І. Р. Багданчык загінуў 21.9.1939 г. пры вызваленні Заходняй Беларусі. У 1940 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**376. МАГІЛА БАЛЬШАКОВА** Барыса Аляксеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі спартсмен, заслужаны майстар спорту СССР (1947 г.) Б. А. Бальшакоў нарадзіўся 13.9. 1910 г. у Архангельску. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1945—50 гг. трэнер Мінскага абласнога савета фізкультурна-спартыўнага таварыства «Дынама». Чэмпіён СССР па канькабежным спорце на дыстанцыях 500 м (1941 г., 1947 г.), 1500 м (1948 г.), па веласіпедным спорце ў групавой шашэйнай гонцы на 150 км (1947 г.), у спрынтарскім мнагабор'і на трэку (1949 г.). З 1928 г. да 1947 г. устанавіў 6 рэкордаў БССР па бегу на каньках на розныя дыстанцыі. Пераможца міжнароднай сустрэчы паміж савецкімі і нарвежскімі канькабежцамі на 500-метровай дыстанцыі (Масква, 1936 г.), 1-й беларускай мнагадзённай шашэйнай велагонкі на 1200 км (1937 г.). Па яго ініцыятыве штогод праводзілася аднадзённая веласіпедная гонка па маршруце Мінск — Барысаў — Мінск (з 1950 г. гонка на прыз імя Бальшакова). Памёр Б. А. Бальшакоў 27.8. 1950 г.

У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.



376. *Помнік на магіле Б. А. Бальшакова.*

*Літ.:* Багушэвіч Ю., Садоўскі Я. Чэмпіён краіны.— Мн., 1953.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**377. МАГІЛА БІЛЕТНІКАВА** Веніяміна Усцінавіча (гіст.). Партызан Вялікай Айчыннай вайны В. У. Білетнікаў загінуў 6.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**378. МАГІЛА БЛІАДУХО** Мікалая Фёдаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі геолаг, акадэмік АН БССР (1928 г.), прафесар (1926 г.) М. Ф. Бліадухо нарадзіўся 28.11. 1878 г. у г. Чэрвень Мінскай вобл. у сям'і настаўніка. Скончыў Пецярбургскі горны інстытут (1903 г.), працаваў у геалагічных экспедыцыях на Далёкім Усходзе і ў Сібіры. З 1922 г. начальнік Горнага аддзела Упраўлення Савета народнай гаспадаркі Беларусі, з 1923 г. загадчык кафедры геалогіі БДУ. З 1926 г. узначальваў Камісію па вывучэнню прадукцыйных сіл БССР, з 1929 г. старшыня Прадстаўніцтва геалагічнага камітэта на Беларусі. У 1929—35 гг. дырэктар Інстытута геалогіі і гідрагеалогіі АН БССР. Арганізатар работ па геалагічнай здымцы і разведцы карысных выкапняў на Беларусі. Упершыню склаў геалагічныя карты дачацвярцічных і чацвярцічных адкладаў, карысных выкапняў рэспублікі. Асноўныя даследаванні ў «Зборніку прац па геалогіі і карысных выкапнях БССР» (1952 г.).

Памёр М. Ф. Бліадухо 13.1.1935 г. У 1937 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

*Г. І. Дулеба.*

**379. МАГІЛА БРУК** Лілії Яўгенаўны (гіст.). Партызанка Вялікай Айчыннай вайны Л. Я. Брук загінула ў ліпені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**380. МАГІЛА БРЭГМАНА** Авеля Пінхусавіча (гіст.).

Беларускі савецкі архітэктар А. П. Брэгман нарадзіўся 30.3.1906 г. у в. Людзяневічы Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1931 г. Скончыў Маскоўскі архітэктурны інстытут (1936 г.). Працаваў начальнікам Мінскага архітэктурна-планіровачнага ўпраўлення (1936—38 гг.), Магілёўскага філіяла інстытута «Белдзяржпраект» (1938—41 гг.). У 1941—45 гг. у Куйбышаве. З 1945 г. кіраўнік майстэрні інстытута «Белдзяржпраект», выкладчык Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума (1946—58 гг.). Работы: у Магілёве — гасцініца «Дняпроўская», жылыя дамы (1938—41 гг., з А. П. Воінавым), у Мінску — інстытут фізкультуры (1938 г., з А. П. Воінавым), жылыя дамы на Ленінскім праспекце (1948—51 гг.), будынак інтэрната Вышэйшай партыйнай школы (1950 г.), галоўны корпус Беларускага тэхналагічнага інстытута (1956 г., з В. Ладыгінай) і інш. У 1937—41 гг. старшыня праўлення Саюза архітэктараў БССР. Памёр А. П. Брэгман 30.5.1958 г.





378. *Помнік на магіле М. Ф. Бліадухо.*

У 1959 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**381. МАГІЛА ВАРВАШЭНІ** Івана Дзянісавіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Мінскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну І. Дз. Варвашэня нарадзіўся 18.12.1904 г. у в. Быстрыца Капыльскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1927 г. Скончыў Мінскі політэхнікум, Маскоўскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту (1934 г.). У 1925—28 гг. на камсамольскай рабоце. Працаваў на Заходняй чыгунцы. З 1939 г. загадчык аддзела, сакратар па транспарту Мінскага абкома КП(б)Б.



381. *Надмагілле І. Дз. Варвашэні.*




381. *Мемарыяльная дошка І. Дз. Варвашэні на вуліцы ў Мінску, якая носіць яго імя.*

У Вялікую Айчынную вайну з 21.7. 1941 г. да мая 1943 г. сакратар Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б, адначасова з жніўня 1942 г. да красавіка 1943 г. сакратар Слуцкага падпольнага міжрайкома КП(б)Б, камісар партызанскага злучэння Слуцкай зоны. З 1944 г. сакратар Мінскага абкома, з 1950 г. першы сакратар Мінскага гаркома КПБ. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1949—52 гг., член ЦК КПБ у 1952—56 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—57 гг. Памёр І. Дз. Варвашэня 4.3.1957 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

У 1958 г. устаноўлена надмагілле.
*М. М. Казлоўская.*

**382. МАГІЛА ВЕЙСА** Ювеналія Аляксандравіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне машыназнаўства і механізацыі сельскай гаспадаркі, акадэмік АН БССР (1940 г., член-карэспандэнт з 1936 г.), доктар тэхнічных навук (1937 г.), прафесар (1909 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1940 г.) Ю. А. Вейс нарадзіўся 5.1.1878 г. у Свярдлоўску. Скончыў Новаалександрыйскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства (1899 г.). Да рэвалюцыі працаваў у Бюро сельскагаспадарчай механікі Вучонага камітэта дэпартамента земляробства. У 1920—41 гг. загадчык кафедры механізацыі сельскай гаспадаркі, прарэктар Горы-Горацкага земляробчага інстытута (з 1925 г. Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія). У 1941—45 гг. прафесар Варонежскага сельскагаспадарчага інстытута. У 1946—47 гг. узначальваў Аддзяленне прыродазнаўчых і сельскагаспадарчых навук АН БССР. З 1947 г. загадчык лабараторыі па вывучэнню фізіка-механічных уласцівасцей раслін Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі АН БССР. Распрацоўваў пытанні праектавання і выкарыстання сельскагаспадарчых машын і механізмаў. Сканструяваў і прымяніў на практыцы шэраг сельскагаспадарчых машын, вымяральных і навучальных прылад. Аўтар падручніка для ВНУ «Курс сельскагаспадарчага машыназнаўства» (1924 г., 4-е выд. 1931 г.), працы «Глебаапрацоўчыя і пасяўныя машыны травапольнай сістэмы земляробства» (1952 г.). Памёр Ю. А. Вейс 12.12. 1950 г.

У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *М. М. Казлоўская.*

**383. МАГІЛА ГАНЧАРЭНКІ** Ігната Яфімавіча (гіст.). І. Я. Ганчарэнка закатаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**384. МАГІЛА ГРЫГОНІСА** Генрыха Юр'евіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр, народны артыст БССР (1941 г.) Г. Ю. Грыгоніс нарадзіўся 8.5.1889 г. у в. Пабяржэ Вільнюскага р-на ў сям'і служачага. Быў юнгам, матросам на караблях рускага гандлёвага флоту. У 1908—15 гг. акцёр прыватных тэатраў Уладзівастока, Хабараўска, Благавешчанска, у 1917—19 гг. у тэатральных калектывах Петраграда, Вільні. З 1919 г. у Першым беларускім таварыстве драмы і камедыі, з 1920 г. у Беларускім дзяржаўным тэатры (з 1944 г. Беларускі тэатр імя Я. Купалы).

Акцёр стварыў шэраг мастацкіх вобразаў, якія вылучаюцца народнасцю, сакавітым гумарам, мяккай лірычнасцю, сатырычнай завостранасцю: Пустарэвіч («Паўлінка» Я. Купалы), Даніла («На Купалле» М. Чарота), Каваль («Каваль-ваявода» Е. Міровіча), Нічыпар («Хто смяецца апошнім» К. Крапівы), Анісім («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), Галушка, Бублік («У стэпах Украіны», «Платон Крэчат» А. Карнейчука). У класічным рэпертуары асаблівы поспех меў у ролі Журдэна («Мешчанін у дваранах» Мальера). Псіхалагічнай глыбінёй і самабытнымі рысамі характару вызначаліся вобразы Лукі («На дне» М. Горкага), Мураўёва («Кастусь Каліноўскі» Е. Міровіча), Чужакова («Мост» Я. Рамановіча), Фірса («Вішнёвы сад» А. Чэхава). З іншых значных роляў: Людавіка («Сабака на сене» Лопэ дэ Вэгі), Эскал («Рамэо і Джульета» У. Шэкспіра), Дзяк («Пісаравы імяніны» У. Галубка), Дамінік Луцэвіч («Шчасце паэта» В. Віткі) і інш. Здымаўся ў кіно («Дняпро ў агні», 1937 г.; «Кармялюк», 1939 г.; «Хто смяецца апошнім», 1954 г.). Памёр Г. Ю. Грыгоніс 4.11.1955 г.

У 1956 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

*Літ.:* Вішкароў Б. Генрых Юр'евіч Грыгоніс.— У кн.: Мастацтва Савецкай Беларусі. Мн., 1955; Есакоў А. Генрых Грыгоніс.— У кн.: Слова пра майстроў сцэны. Мн., 1967; Кузняцова К. Генрых Грыгоніс.— Мн., 1984.
*К. В. Кузняцова.*

**385. МАГІЛА ГРЭДЗІНГЕРА** Міхаіла Восіпавіча (гіст.).

Беларускі савецкі правазнавец, акадэмік АН БССР (1928 г.), доктар юрыдычных навук, прафесар (1922 г.) М. В. Грэдзінгер нарадзіўся 16.12. 1867 г. у Саксоніі (Германія) у сям'і ўрача. Скончыў Пецярбургскі універсітэт (1891 г.). Да Кастрычніцкай рэвалюцыі выкладаў у вышэйшых навучальных установах Юр'ева (Тарту) і Рыгі. З 1923 г. прафесар БДУ. У пачатку 1930-х гадоў намеснік дырэктара, дырэктар Інстытута савецкага будаўніцтва і права АН БССР, прафесар Інстытута права пры Народным камісарыяце юстыцыі БССР. Распрацоўваў пытанні грамадзянскага і сямейнага права. Асноўныя працы: «Задачы кадыфікацыі ў галіне грамадзянскага працэсу і грамадзянскага працэсуальнага кодэкса БССР» (1931 г.), «Да дзесяцігоддзя грамадзянскага кодэкса ў БССР» (1933 г.), «Дапаможнік па грамадзянскаму працэсу БССР» (1935 г.) і інш. Памёр М. В. Грэдзінгер 23.1. 1936 г.

У 1937 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмік М. О. Грэдынгер.— Запіскі Беларускай Акадэміі навук. Мн., 1936, кн. 5; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *А. Г. Шчарбатаў.*

**386. МАГІЛА ГУРЛО** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Алесь (Аляксандр Кандратавіч) Гурло нарадзіўся 19.1.1892 г. у г. Капыль Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1908 г. скончыў двухкласнае вучылішча. Член Капыльскай арганізацыі РСДРП (з 1909 г.), у яе рукапісных часопісах «Заря», «Голос низа», «Вольная думка» змяшчаў свае допісы. З канца 1911 г. у Пецярбургу, працаваў на ліцейным заводзе «Вулкан», быў рабкорам «Правды». З 1913 г. служыў па Балтыйскім флоце (крэйсер «Волат», эсмінец «Забіяка»). Удзельнік Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый, штурму Зімняга палаца, Грамадзянскай вайны. З канца 1921 г. у Мінску. Працаваў у тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта. Друкавацца пачаў у газеце «Наша ніва» (1909 г.). Член літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Полымя», «Пробліск». Творчасць

А. Гурло фарміравалася пад уплывам паэзіі Я. Купалы і Я. Коласа. У дакастрычніцкай паэзіі гучалі свабодалюбныя матывы. У творах савецкага часу, прасякнутых шчырым лірызмам, апяваў новае жыццё, працоўныя будні савецкіх людзей, прыроду роднай Капыльшчыны, дружбу народаў. Аўтар зборнікаў «Барвенак» (1924 г.), «Спатканні» (1925 г.), «Сузор'і» (1926 г.), «Зорнасць» (1927 г.), «Межы» (1929 г.), сямейна-бытавой драмы «Любоў усё змагае» (напісана ў 1912 г.). Прымаў удзел у апрацоўцы некалькіх тэрміналагічных слоўнікаў, самастойна апрацаваў слоўнік «Тэхнічная тэрміналогія» [вып. 1, 1932 (на вокл. 1933 г.)]. На беларускую мову пераклаў асобныя апавяданні А. Аўдзеенкі, Ф. Гладкова, вершы І. Садоф'ева і інш. Выдадзены «Выбраныя творы» (1950 г.), «Вершы» (1972 г.). Памёр А. Гурло 4.2.1938 г.

У 1939 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Хведаровіч М. Памятныя сустрэчы.— 2 выд.— Мн., 1963; Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы.— Мн., 1985, с. 208—211. *В. Б. Караткевіч.*

**387. МАГІЛА ЕЎДАКІМАВА** Ігара Аляксандравіча (гіст.). Партызан атрада імя А. М. Матросава 95-й брыгады імя М. В. Фрунзе, потым атрада імя М. В. Фрунзе 225-й брыгады імя А. В. Суворава І. А. Еўдакімаў (1925 г. нараджэння) загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 19.4. 1944 г. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**388. МАГІЛА ЕЎДАКІМАВЫХ** Гвідона Андрэевіча і Барыса Андрэевіча (гіст.).

Пахаваны ўдзельнікі Мінскага камуністычнага падполля браты Г. А. Еўдакімаў (1924 г. нараджэння) і Б. А. Еўдакімаў (1928 г. нараджэння).

У Вялікую Айчынную вайну кватэра, дзе жылі браты з маці — Еўдакімавай Марыяй Пятроўнай (Пушкінскі пас., д. № 5), была явачнай. Тут сустракаліся падпольшчыкі, захоўваліся зброя, боепрыпасы, якія потым перапраўляліся да партызан, падпольная літаратура, хаваліся выратаваныя з палону воіны Чырвонай Арміі, жыў актыўны ўдзельнік падполля І. К. Кабушкін. Браты былі сувязнымі і разведчыкамі, праваднікамі па гораду, распаўсюджвалі лістоўкі, здабывалі зброю. 13.4.1943 г. у горадзе была затрымана аўтамашына, у якой нямецка-фашысцкія акупанты знайшлі зброю. Дазнаўшыся, дзе яна загружалася, гітлераўцы арыштавалі братоў Еўдакімавых і праз некалькі тыдняў закатавалі. За мужнасць і самаахвярнасць, праяўленыя ў барацьбе з ворагам, браты Еўдакімавы ўзнагароджаны медалямі «За адвагу». У 1970 г. на тэрыторыі Мінскай сярэдняй школы № 58 Г. А. Еўдакімаву і Б. А. Еўдакімаву пастаўлены помнік.

У 1960 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Кукуня В. Р. Піянеры Міншчыны — героі вайны.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1975, № 3. *Л. І. Шэйко.*

**389. МАГІЛА ЗАБЕЛЫ** Васіля Спянанавіча (гіст.).

Дзяржаўны дзеяч БССР В. С. Забела нарадзіўся 7.5.1901 г. у в. Кішчына Слабада Барысаўскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. Скончыў Мінскі політэхнічны інстытут (1935 г.). З 1914 г. парабкаваў. У 1922—24 г. у Чырвонай Арміі. З 1924 г. на савецкай і партыйнай рабоце. З ліпеня 1938 г. нарком камунальнай гаспадаркі БССР. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічаў у арганізацыі партызанскага руху на Беларусі. З 1945 г. намеснік старшыні Савета народных камісараў БССР, з сакавіка 1949 г. міністр камунальнай гаспадаркі БССР. Кандыдат у члены ЦК КП(б)Б у 1949 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—49 гг. Памёр В. С. Забела 4.12.1949 г.

У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск. *А. Г. Шчарбатаў.*

**390. МАГІЛА ІГНАТОЎСКАГА** Усевалада Макаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык і грамадскі дзеяч, акадэмік АН БССР (1928 г.) У. М. Ігнатоўскі нарадзіўся 19.4.1881 г. у в. Токары Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. у сям'і настаўніка. Член КПСС з 1920 г. Скончыў Юр'еўскі (цяпер Тартускі) універсітэт (1911 г.). З 1901 г. да кастрычніка 1917 г. член партыі эсэраў. За ўдзел у рэвалюцыйным руху некалькі раз быў арыштаваны. У 1919—20 гг. удзельнічаў у падпольнай барацьбе супраць польскіх акупантаў. У 1914—20 гг. выкладчык Мінскага настаўніцкага інстытута. У 1920—21 гг. нарком земляробства БССР, у 1921—26 гг. нарком асветы БССР. Быў прафесарам, дэканам, намеснікам рэктара БДУ. З 1926 г. старшыня Інстытута Беларускай культуры (Інбелкульта), у 1929—31 гг. прэзідэнт АН БССР, адначасова дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР.

У. М. Ігнатоўскі вывучаў гісторыю Беларусі. Аўтар прац «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (1919 г.), «Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX стагоддзя» (1923 г.), «1863 год на Беларусі» (1930 г.) і інш. У сваіх працах не паказваў усёй складанасці сацыяльнага развіцця на розных этапах; не даваў належнай марксісцкай характарыстыкі эпохі. Кандыдат у члены ЦК КП(б)Б у 1923—24 гг., член ЦК КП(б)Б у 1924—30 гг., член Бюро ЦК КП(б)Б у 1925—30 гг., член ЦВК СССР у 1925—27 гг., член ЦВК БССР у 1920—30 гг., член Прэзідыума ЦВК БССР у 1924—30 гг. У кастрычніку 1930 г. Пленум ЦК КП(б)Б вывеў яго з членаў Бюро ЦК і ЦК КП(б)Б, у студзені 1931 г. пастановай Прэзідыума і парткалегіі ЦКК КП(б)Б выключаны з партыі як нацыянал-ухіліст. Памёр У. М. Ігнатоўскі 4.2.1931 г.

У 1932 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

**391. МАГІЛА КАВАЛІКА** Сяргея Піліпавіча (гіст.).

Рэвалюцыянер-народнік, адзін з арганізатараў «хаджэння ў народ» С. П. Кавалік нарадзіўся 13.10.1846 г. у былым маёнтку Свадкавічы Крычаўскага р-на Магілёўскай вобл. у дваранскай сям'і. Вучыўся ў кадэцкім корпусе, скончыў матэматычны факультэт Кіеўскага універсітэта (1869 г.). Працаваў міравым суддзёй у Чарнігаўскай губерні, вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод сялян. У 1873 г. выехаў за мяжу, дзе пазнаёміўся з М. А. Бакуніным, падзяляў яго погляды. Вярнуўшыся ў Расію, арганізоўваў народніцкія гурткі ў Кіеве, Маскве, Харкаве, Яраслаўлі, Казані, Саратаве, Ніжнім Ноўгарадзе і інш. У ліпені 1874 г. арыштаваны, па працэсе 193-х (1877—78 гг.) асуджаны на 10 гадоў катаргі. Потым на пасяленні жыў у Верхаянску і Іркуцку, удзельнічаў у этнаграфічных экспедыцыях па Якуціі. З 1898 г. у Мінску, працаваў у акцызным упраўленні, ва Усерасійскім земскім саюзе. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі старшыня Мінскага губернскага зямельнага камітэта, працаваў у органах сацыяльнага забеспячэння БССР, выкладаў матэматыку ў політэхнічным інстытуце. Член Таварыства былых паліткатаржан і ссыльнапасяленцаў. Аўтар успамінаў «Рэвалюцыйны рух сямідзесятых гадоў і працэс 193-х» (1928 г.). Памёр С. П. Кавалік 26.4. 1926 г.




391. *Помнік на магіле С. П. Каваліка.*

У 1928 г. на магіле пастаўлены помнік — камень-валун.

*Літ.:* Деятели революционного движения в России: Биобиблиогр. словарь. Т. 2. В. 2.— М., 1930; Дворниченко Н. Е. Во глубине сибирских руд.— Иркутск, 1968; Малінін А. С. Рэвалюцыянер Сяргей Кавалік.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1980, № 1.

*В. Б. Караткевіч.*

**392. МАГІЛА КАНЧЭЎСКАГА** Арсена Уладзіміравіча (гіст.).

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі А. У. Канчэўскі (партыйныя псеўданімы В. Камінскі, Уладак) нарадзіўся 23.8.1901 г. у Вільнюсе ў сям'і рабочага. Член КПЗБ з 1923 г. У 1919 г. працаваў у Наркамаце асветы Літоўска-Беларускай ССР. Адзін з стваральнікаў і кіраўнікоў нелегальнай Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (БРА), што выдзелілася ў 1922 г. з левага крыла партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў і стаяла на пазіцыях узброенай барацьбы супраць польскіх акупантаў, за вызваленне Заходняй Беларусі, уз'яднанне яе з БССР. БРА у канцы 1923 г. улілася ў КПЗБ. А. У. Канчэўскі быў кааптаваны ў ЦК КПЗБ. За рэвалюцыйную дзейнасць у 1924 г. арыштаваны і засуджаны на 4 гады турмы. На І з'ездзе КПЗБ (1928 г.) завочна выбраны кандыдатам у члены ЦК КПЗБ, пасля вызвалення з турмы ў лістападзе 1928 г. кааптаваны ў ЦК, з кастрычніка 1929 г. член Бюро ЦК КПЗБ. Кіраваў дзейнасцю арганізацый «Змаганне», Таварыства беларускай школы. А. У. Канчэўскі трагічна загінуў 31.8.1931 г.

У 1932 г. на магіле пастаўлены абеліск.




395. *Помнік на магіле Міхася Клімковіча.*

*Літ.:* Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966.

*Г. Б. Ватковіч.*

**393. МАГІЛА КАРАТКОВА** Канстанціна Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі хімік, акадэмік АН БССР (1950 г., член-карэспандэнт з 1947 г.), доктар хімічных навук (1943 г.), прафесар (1939 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1949 г.) К. М. Караткоў нарадзіўся 24.2.1890 г. у Варонежы ў сям'і служачых. У 1924 г. скончыў Горы-Горацкі земляробчы інстытут. У 1919—25 гг. працаваў у гэтым інстытуце асістэнтам. У 1925—30 гг. дацэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. З 1930 г. загадчык кафедры Беларускага лесатэхнічнага інстытута (у 1941—44 гг. у Свярдлоўску). З 1949 г. дырэктар, з 1952 г. загадчык лабараторыі лесахіміі Інстытута хіміі АН БССР. Асноўныя працы прысвечаны тэорыі працэсу сухой перагонкі драўніны і распрацоўцы тэхнікі падсочкі, вывучэнню тэрпенавых вуглевадародаў. Апублікаваны працы: «Колькасны аналіз» (1930 г.), «Жывіца і прадукты яе перапрацоўкі» (1934 г.), «Каніфоль і шкіпінар» (1950 г.) і інш. Памёр К. М. Караткоў 19.4.1954 г.

У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Памяці прафесара К. М. Караткова.— Весці АН БССР. Сер. фізіка-тэхнічных навук, 1956, № 1; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

*М. М. Казлоўская.*

**394. МАГІЛА КАРГУЗАЛАВА** Уладзіміра Леанідавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза У. Л. Каргузалаў нарадзіўся ў 1896 г. у Ленінградзе ў сям'і рабочага. З 1914 г. служыў у царскай арміі, у 1918—24 гг. у Чырвонай Арміі. Працаваў на будоўлях у Ленінградскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г.— гвардыі маёр, начальнік інжынернай службы 3-га гвардзейскага механізаванага корпуса. Удзельнічаў у баях пад Ленінградам, Масквой, Сталінградам, Варонежам, у вызваленні Украіны і Беларусі. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на Украіне і аваладанні плацдармам на правым беразе ракі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 25.10.1943 г. Памёр гвардыі палкоўнік У. Л. Каргузалаў 12.7.1944 г.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Г. І. Дулеба.*

**395. МАГІЛА КЛІМКОВІЧА** Міхася (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, крытык Міхась (Міхаіл Мікалаевіч) Клімковіч нарадзіўся 8.11.1899 г. у в. Сялітранка Барысаўскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1920 г. Скончыў Барысаўскае вышэйшае чатырохкласнае гарадское вучылішча (1915 г.). Здаў экстэрнам экзамен на годнасць народнага настаўніка. Працаваў у школе на Барысаўшчыне (1915—21 гг.). Служыў у Чырвонай Арміі (1921—23 гг.). Пасля дэмабілізацыі настаўнічаў, быў на партыйнай і прафсаюзнай рабоце. У 1932—34 гг. старшыня аргкамітэта, у 1934—39 гг. старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. У 1943—47 гг. галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР, у 1947—54 гг. літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў БССР.

Друкаваўся з 1926 г. (паэма «14 слуцкіх» пра партызан Грамадзянскай вайны). Выступаў у розных літаратурных жанрах. Аўтар тэксту Дзяржаўнага гімна БССР (1944 г.), драматычных паэм «Кацярына Жарнасек» (1937 г., пастаўлена ў 1938 г.), «Адплата» (1945 г.), «Уся ўлада Саветам!» (1956 г.), трылогіі «Георгій Скарына» (1946—47 гг., 1955 г.), драматычнага абразка пра юнага Т. Шаўчэнку «На Віленскім шляху» (1939 г.), аднаактовак «На скрыжаванні дарог» (1945 г.), «Маленькая хмарка» (1946 г.), лібрэта опер «Апошні вечар на хутары» (1940 г.), «Кастусь Каліноўскі» (1959 г., пастаўлена ў 1947 г.), «Песня аб шчасці» (1959 г.), балета «Князь-возера» (пастаўлены ў 1949 г.). Даследаваў беларускую літаратуру («Аб жыватворчым уплыве рускай літаратуры на беларускую літаратуру», 1955 г.; «Літаратурна-крытычныя артыкулы», 1962 г.). У 1959 г. выйшаў Збор твораў пісьменніка ў 2 тамах. Член Рэвізійнай камісіі КП(б)Б у 1930—32 гг., кандыдат у члены ЦК КП(б)Б у 1932—37 гг. Член ЦВК БССР у 1931—38 гг. Памёр М. Клімковіч 5.11.1954 г.

У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Васілевіч А. Міхась Клімковіч.— Полымя, 1959, № 11; Шушкевіч С. Да 70-годдзя з дня нараджэння М. Клімковіча.— Беларусь, 1969, № 11; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

*В. М. Баскова.*

**396. МАГІЛА КОЛАСА** Якуба (гіст., маст.).

Беларускі савецкі паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, грамадскі дзеяч, вучоны, педагог, адзін з заснавальнікаў беларускай сучаснай літаратуры і народны паэт БССР (1926 г.), акадэмік АН БССР (1928 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1944 г.) Я. Колас (Гушча, Тарас, Агарак, Адзінокі, Альбуцкі К., Андрэй «сацыяліст», Тамаш Булава, Ганна Груд, Дзямяноў Гуз, Пятрусь Дзягель, Дзядзька Карусь, Ганна Крум, Лапаць Карусь, Лесавік, Марцін, Мікалаевец, Наднёманец, Свой чалавек, Стары шут і інш.; сапраўднае Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч) нарадзіўся 22.10.1882 г. у в. Акінчыцы (з 1977 у межах г. Стоўбцы) Стаўбцоўскага р-на ў сям'і лесніка. Член КПСС з 1945 г. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1902 г.). Настаў-

нічаў (1902—06 гг.) у в. Люсіна Ганцавіцкага і в. Пінкавічы Пінскага р-наў, у Верхменскім народным вучылішчы (Смалявіцкі р-н). Працаваў у газеце «Наша ніва» (1907 г.), у прыватнай школе ў в. Сані Талачынскага р-на (1908 г.). 15.9.1908 засуджаны на 3 гады зняволення за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе (9—10.7.1906 г., в. Мікалаеўшчына, Стаўбцоўскі р-н) і нелегальную работу. У 1912—14 гг. настаўнік Пінскага прыходскага вучылішча. У пачатку 1-й сусветнай вайны з сям'ёй эвакуіраваўся ў Маскоўскую губерню. У верасні 1915 г. мабілізаваны ў армію. Пасля заканчэння Аляксандраўскага ваеннага вучылішча (1916 г.) служыў у Пярмі, з ліпеня 1917 г. на Румынскім фронце. У верасні 1917 г. прыехаў да сям'і ў г. Абаянь (Курская вобл.). З 1918 г. працаваў настаўнікам, інструктарам павятовага аддзела народнай асветы ў Абаянскім р-не. З 1921 г. у Мінску. Працаваў у навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР, выкладаў у Беларускім педагагічным тэхнікуме і БДУ. З 1922 г. член Інбелкульта, з 1929 г. віцэ-прэзідэнт АН БССР. У Вялікую Айчынную вайну жыў у Клязьме, Ташкенце, Маскве, вёў літаратурную, навукова-грамадскую дзейнасць. Са снежня 1944 г. у Мінску.

Першыя вершы (1898—1906 гг.) пісаў на рускай мове. Яны, як і першы празаічны твор «Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле», сведчаць аб вялікім уплыве на Я. Коласа рускай класічнай літаратуры. Першы апублікаваны верш «Наш родны край» (газета «Наша доля», 1.9.1906 г.). У дакастрычніцкі час выйшлі зборнікі паэзіі «Песні жальбы» (1910 г.), прозы — «Апавяданні» (1912 г.), «Родныя з'явы» (1914 г.) і інш. Цяжкае, поўнае трагізму жыццё працоўнага сялянства, яго клопаты і трывогі — асноўныя матывы творчасці Я. Коласа гэтага перыяду (вершы «Асенні вечар», «Нёман», «Магілкі», «Дарога» і інш.). Кожны паэтычны вобраз з гэтых твораў успрымаецца як абагульненне рэальных жыццёвых умоў. Галоўны герой паэта — селянін-бядняк, які пачынае разумець, што шчасце можна заваяваць толькі ў барацьбе з прыгнятальнікамі. Праслаўляў людзей валявых, моцных, непрымірымых да сацыяльнага зла і несправядлівасці («Не бядуй!», «Не дамся», «Мужык», «Ворагам»). Тэму мастака і мастацтва («Не пытайце, не прасеце...», «Пясняр», «Родныя песні», «Песняру») вырашаў у перадавых традыцыях самаадданага служэння мастака народу, вернасці радзіме. Разам з узорамі грамадзянскай лірыкі даў узоры інтымнага верша, пейзажнай лірыкі, у многіх творах паказаў сябе майстрам гумару, што моцнымі каранямі ўрастае ў народную глебу.

Я. Колас — адзін з пачынальнікаў мастацкай прозы ў беларускай літаратуры. Тэматыкай яго проза цесна звязана з паэзіяй. Імкненне да шырокага ахопу і гістарычна праўдзівага адлюстравання з'яў сацыяльна-грамадскага жыцця, да ўсебаковай абмалёўкі характараў прадвызначылі асноўныя кірункі, па якіх ішло паглыбленне рэалізму прозы Я. Коласа (апавяданні «Слабада», «Выбар старшыні», «Бунт», «Жывая вада», «Маладыя дубок»). Алегарычныя апавяданні («казкі жыцця») напоўнены глыбокім філасофскім зместам.

Перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі, у якой Я. Колас бачыў ажыццяўленне сваіх мар — знішчэнне буржуазна-памешчыцкага ладу, вызваленне народа — адкрыла новую старонку ў творчасці песняра. У вершах услаўляў самаахвярнасць і мужнасць тых, хто здзейсніў рэвалюцыю і абараняў маладую Савецкую ўладу, раскрываў веліч эпохі, адлюстроўваў сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні ў рэспубліцы, апяваў разнявольненую працу (зборнік паэзіі «Водгулле», 1922 г., вершы «Пасля навальніцы», «Покліч», «У палях Беларусі», «Змаганнікам за Кастрычнік», «Краіне Саветаў», «Да 10-й гадавіны БССР» і інш.). Вядучая тэма апавяданняў 1920-х гадоў [зборнікі «Першыя крокі», «Крок за крокам», «У ціхай вадзе», «На рубяжы» (усе 1925 г.), кніга «На прасторах жыцця» (1926 г.)] — Грамадзянская вайна і пасляваеннае мірнае будаўніцтва, барацьба новага са старым, ломка псіхалогіі заможнага сялянства, прадстаўнікоў буржуазнай інтэлігенцыі, станаўленне новай маралі, фарміраванне новага чалавека. Вяршыня творчасці Я. Коласа — паэма «Новая зямля» (першыя раздзелы напісаны ў 1911 г., закончана і апублікавана ў 1923 г.) — класічны твор беларускай літаратуры. У ёй асэнсавана цэлая эпоха з жыцця беларускага народа, праўдзіва адлюстравана становішча працоўнага сялянства ў канцы 19 ст., раскрыты глыбокія сацыяльныя супярэчнасці, паказана духоўнае багацце, маральная прыгажосць чалавека працы, яго спрадвечная мара аб волі і шчасці. Паэме ўласцівы шырыня ахопу сацыяльна-грамадскага жыцця, рэалізм у паказе народнага побыту, глыбокі псіхалагізм, непаўторнае багацце малюнкаў беларускай прыроды. У рамантычнай паэме «Сымон-музыка» (апублікавана ў 1925 г.) паказаны трагічны лёс таленту з народа ў дарэвалюцыйны час, у ёй філасофскі роздум над шляхамі развіцця народнага мастацтва. Паэма сцвярджае думку пра неўміручасць мастацтва, кроўна звязанага з народам, нацыянальнымі традыцыямі. Ідэйнаму пошуку перадавой інтэлігенцыі, яе месцы ў рэвалюцыйным руху працоўных




396. *Помнік на магіле Якуба Коласа.*

Беларусі прысвечана трылогія «На ростанях» («У палескай глушы», 1923 г., «У глыбі Палесся», 1927 г., «На ростанях», 1949—54 гг.). Створаная на аўтабіяграфічным матэрыяле, яна выявіла сталасць светапогляду пісьменніка. Трылогія — яскравы ўзор літаратуры сацыялістычнага рэалізму. Аповесць «На прасторах жыцця» (1925—26 гг.) пра моладзь 1920-х гадоў, яе ідэалы і імкненні, удзел у будаўніцтве новага ладу. Аповесць «Адшчапенец» (1932 г.) прысвечана калектывізацыі. Пра мужную барацьбу беларускага народа супраць замежных інтэрвентаў у Грамадзянскую вайну расказваецца ў аповесці «Дрыгва» (1933 г.). Паводле аповесці «Дрыгва» напісаў п'есу «У пушчах Палесся» (1938 г.). Я. Коласу належаць таксама п'есы «Забастоўшчыкі» (1925 г.) пра ўдзел настаўнікаў у рэвалюцыйнай барацьбе супраць самадзяржаўнага ладу, «Вайна вайне» (1927—31 гг., апошняя рэдакцыя 1938 г.), у якой паказана ўсведамленне працоўнымі імперыялістычнага характару 1-й сусветнай вайны, неабходнасць змагацца за новае жыццё. Асноўныя тэмы лірыкі гэтага часу — сацыялістычнае будаўніцтва, праслаўленне стваральнай працы. Напісаў шмат публіцыстычных вершаў, прысвечаных надзённым пытанням грамадскага жыцця.

Пафасам сацыялістычнага патрыятызму, верай у перамогу савецкага народа прасякнута творчасць перыяду Вялікай Айчыннай вайны. У вершах (зборнікі «Адпомсцім», 1942 г., «Голас зямлі», 1943 г., паэмах «Суд у лесе», 1943 г., «Адплата», 1945 г.), публіцыстычных артыкулах услаўляў гераізм беларусаў, дружбу савецкіх народаў, што гартавалася ў агні змагання з ворагам, выкрываў звярыную,



398. *Помнік на магіле У. М. Крыловіча.*

чалавеканенавісніцкую сутнасць фашызму. За цыкл вершаў ваенных гадоў паэту прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР 1946 г. У 1947 г. закончыў паэму «Рыбакова хата» (пачата ў 1939 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1949 г.), у якой паказаў жыццё і барацьбу працоўных Заходняй Беларусі супраць панскага прыгнёту.

Я. Колас — адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры (паэмы «Рак-вусач», 1926 г., «Міхасёвы прыгоды», 1934 г., зборнік вершаў «На рэчцы зімой», 1941 г., і інш.). Аўтар падручнікаў «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» (1909 г.), «Методыка роднае мовы» (1926 г.). У шматлікіх публіцыстычных і літаратурна-крытычных артыкулах з грамадзянскай заклапочанасцю адклікаўся на найбольш актуальныя праблемы грамадска-палітычнага, культурнага і літаратурнага жыцця. На беларускую мову пераклаў паэму А. Пушкіна «Палтава», асобныя творы Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча, Р. Тагора і інш. Творы Я. Коласа перакладзены на многія мовы народаў СССР і за мяжою, яны шырока выкарыстоўваюцца мастакамі і кампазітарамі, інсцэніруюцца і экранізуюцца. Многія вершы пакладзены на музыку. Па аповесці «Дрыгва» створана опера «У пушчах Палесся» (кампазітар А. Багатыроў, пастаўлена ў 1939 г.), па аповесці «Новая зямля» — опера «Новая зямля» (лібрэта А. Петрашкевіча, кампазітар Ю. Семяняка, пастаўлена ў 1982 г.). Выйшлі Зборы твораў у 7 (1952 г.), 12 (1961—64 гг.) і 14 (1972—78 гг.) тамах. Кандыдат у члены ЦВК БССР у 1927—29 гг., член ЦВК БССР у 1929—31 гг., 1935—38 гг. Член ЦК КПБ у 1952—56 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—56 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1940—56 гг. Быў членам Усесаюзнага славянскага камітэта, Савета камітэта абароны міру, старшынёй Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру. Памёр Я. Колас 13.8.1956 г. Імя паэта прысвоена драматычнаму тэатру ў Віцебску, Інстытуту мовазнаўства і Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН БССР, Мінскаму паліграфічнаму камбінату, школам, бібліятэкам, калгасам. Яго імем названы вуліцы, плошчы. У Мінску Літаратурны музей Я. Коласа (філіял — у Стаўбцоўскім р-не), на пл. Я. Коласа — мемарыяльны комплекс. Працуюць літаратурна-этнаграфічныя музеі ў Люсіне (Ганцавіцкі р-н) і Пінкавічах (Пінскі р-н). У мясцінах, звязаных з жыццём і дзейнасцю паэта, на будынках устаноў, дзе ён працаваў,— мемарыяльныя дошкі; у АН БССР існуе мемарыяльны пакой. У 1959—65 гг. прысуджалася Літаратурная прэмія БССР імя Я. Коласа, з 1966 г.— Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа (за творы прозы і літаратуразнаўства).

У 1970 г. на магіле паэта пастаўлены помнік (скульпт. У. Ананька, М. Якавенка, архіт. М. Мызнікаў; граніт; вышыня 4 м). Уяўляе сабой выцягнуты па вертыкалі блок з няроўнымі гранямі. У верхняй частцы яго — скульптурны партрэт пісьменніка, вырашаны ў абагульненай пластыцы. Своеасаблівы эфект дасягнуты пры дапамозе рознай апрацоўкі каменю. Матавая светла-шэрая паверхня скульптурных форм кантрастна вылучаецца на фоне больш цёмных па тону грубых сколаў. Ніжняя частка блока з факсімільным подпісам Я. Коласа мае гладкую паверхню. Кампазіцыйнае спалучэнне архітэктурных і скульптурных форм, выбар прапорцый, дакладнасць пластычнай характарыстыкі надаюць помніку манументальную выразнасць.

*Літ.:* Вялікі пясняр беларускага народа: Зб. артыкулаў аб жыцці і дзейнасці Я. Коласа.— Мн., 1959; Жыццё для народа: Зб. матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці Якуба Коласа.— Мн., 1962; Лойка А. А. «Новая зямля» Якуба Коласа: Вытокі, веліч, хараство.— Мн., 1961; Мазалькоў Я. С. Якуб Колас: Крытыка-біяграфічны нарыс.— Мн., 1953; Навуменка І. Я. Якуб Колас: Духоўны воблік героя.— 2 выд.— Мн., 1981; З жыццяпісу Якуба Коласа: Дакументы, матэрыялы.— Мн., 1982; Пшыркоў Ю. С. Летапісец свайго народа: Жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа.— Мн., 1982; Мушынскі М. І. Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці.— Мн., 1982; Якуб Колас: Да 100-годдзя з дня нараджэння: Біябібліягр. паказальнік.— Мн., 1983.

*В. М. Удальцоў, Г. М. Ярмоленка.*

**397. МАГІЛА КРУГЕРА** Янкеля Мордухавіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец і педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1939 г.) Я. М. Кругер нарадзіўся 2.5.1869 г. у Мінску ў сям'і рамесніка. Скончыў Кіеўскую школу малявання (1886 г.), вучыўся (1887—88 г.) у Варшаве ў прафесара Л. Гаравіца, у акадэміі Жуліяна ў Парыжы (1888—95 гг.). У 1897 г. пры дапамозе І. Рэпіна быў прыняты ў пецярбургскую Акадэмію мастацтваў, вучыўся ў У. Макоўскага. У 1900 г. атрымаў званне мастака за жанравую карціну «На суд прафесара». З 1901 г. у Мінску, у 1911 г. адкрыў тут школу малявання. У першую сусветную вайну ў Казані, з 1921 г. зноў у Мінску. Працаваў у бытавым і партрэтным жанрах. Творы бытавога жанру адметныя дакладнасцю характарыстык: «Пісьманосец» (1907 г.), «Дзіцячая калонія» (1930 г.), «Прызыўная камісія» (1932 г.), «Кавальскі цэх» (1937 г.), «Гульня ў гарадкі» (1930-я гады) і інш. Глыбінёй псіхалагічнай характарыстыкі вызначаюцца «Аўтапартрэт у малінавым берэце» (1889 г.), партрэты брата (1896 г.) і скрыпача Жухавіцкага (1897 г.), «Дзяўчынка ў чырвоным» (1890-я гады), партрэты Я. Коласа і Я. Купалы (1923 г.), аўтапартрэт (1931 г.), партрэт Г. Дзімітрава (1935 г.). У 1920—30-я гады выканаў партрэты У. І. Леніна, К. Маркса, К. Я. Варашылава, М. Горкага, З. Бядулі і інш. Памёр Я. М. Кругер 19.3.1940 г.

У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Черняк М., Я. М. Кругер.— Искусство, 1969, № 6; Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974. *Г. М. Ярмоленка.*

**398. МАГІЛА КРЫЛОВІЧА** Уладзіміра Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр, педагог, адзін з заснавальнікаў беларускага савецкага тэатра, заслужаны артыст БССР (1931 г.) У. М. Крыловіч нарадзіўся 20.10.1895 г. у в. Крыловічы Дзяржынскага р-на ў сялянскай сям'і. У 1914 г. скончыў Мінскае гарадское вучылішча і курсы тэлеграфістаў. Удзельнік Грамадзянскай вайны. З 1915 г. выступаў на аматарскай сцэне. З 1921 г. акцёр БДТ-1 (тэатр імя Я. Купалы), кіраўнік тэатральнай студыі пры гэтым тэатры. Дзейнасць У. М. Крыловіча зрабіла значны ўплыў на сцвярджэнне метаду сацыялістычнага рэалізму ў беларускім тэатры. Акцёр шырокага творчага дыяпазону: выконваў ролі сацыяльных і рамантычных герояў, характарныя і камедыйныя. Галоўная рыса творчасці артыста — поўнае пераўвасабленне і здольнасць захапляць гледача, цалкам падпарадкоўваць сабе яго пачуцці, імкненне да ўзбуйненай тыпізацыі характараў. Ранняму перыяду творчасці ўласціва яркая ра-

мантычная афарбоўка роляў: Машэка, Кастусь Каліноўскі (аднайменныя п'есы Е. Міровіча). Па-майстэрску ствараў вобразы нацыянальнай драматургіі: Сцяпан Крыніцкі («Паўлінка» Я. Купалы), Кручкоў («Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча), Ваявода, Гракові і Вагін («Кавальваявода», «Перамога» і «Запяюць верацёны» Е. Міровіча), Жрэц і Чужакоў («Вір» і «Мост» Я. Рамановіча), Шчураў («Міжбур'е» Дз. Курдзіна), Карнейчык («Канец дружбы» К. Крапівы) і інш. Стварыў вобразы сваіх сучаснікаў на беларускай сцэне. Сярод іх: Шагабутдзінаў («Мяцеж» паводле Дз. Фурманава), Вяршынін («Бранянпоезд 14-69» У. Іванава), Малько («Далёкае» А. Афінагенава), Бераст («Платон Крэчат» А. Карнейчука), Чадаў («Жыццё кліча» У. Біль-Белацаркоўскага) і інш. У характарных і камедыйных ролях — майстар імправізацыі і вострага сцэнічнага малюнка: Тарквіній («Жрэц Тарквіній» С. Паліванава), Муфці («Мешчанін у дваранах» Мальера), Крэспо («Вясковы суддзя» П. Кальдэрона) і інш. Здымаўся ў кіно («Двойчы народжаны», «Дняпро ў агні»). Член ЦВК БССР у 1935—37 гг. Памёр У. М. Крыловіч 23.10.1937 г. Яго імем названа вуліца і 2 завулкі ў Мінску.

У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — бюст акцёра на пастаменце (скульпт. З. Азгур; бронза; паліраваны лабрадарыт; вышыня бюста 0,9 м, пастамента 1,4 м).

*Літ.:* Есакоў А. Уладзімір Крыловіч: Жыццёвы і творчы шлях.— Мн., 1956; Рамановіч Я. Уладзімір Крыловіч.— У кн.: Слова пра майстроў сцэны. Мн., 1967; Красінскі А. Уладзімір Крыловіч.— У яго кн.: Беларускія акцёры ў кіно. Мн., 1973; Няфёд У. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982. *І. І. Чаркас.*

**399. МАГІЛА КУЛАКОВАЙ** Марыі Васілеўны (гіст.). Партызанка М. В. Кулакова загінула 2.7.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**400. МАГІЛА КУПАЛЫ** Янкі (гіст., маст.).

Адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы, народны паэт БССР (1925 г.), акадэмік АН БССР (1928 г.) і АН УССР (1929 г.) Я. Купала (Янук Купала, Марка Бяздольны, Купальскі Я., «Левы», Вайдэлота, Янук з-пад Мінска, Здарэнец, Нягутнік і інш.; сапраўднае Луцэвіч Іван Дамінікавіч) нарадзіўся 25.6.1882 г. у былым фальварку Вязынка Маладзечанскага р-на ў сям'і арандатара. Дзяцінства прайшло на розных хутарах Барысаўскага і Мінскага паветаў. Вучыўся ў вандроўных настаўнікаў, Сенненскім народным вучылішчы, Мінскай прыватнай падрыхтоўчай школе. У 1898 г. скончыў Бяларуцкае народнае вучылішча, у 1909—13 гг. вучыўся на агульнаадукацыйных курсах А. С. Чарняева ў Пецярбургу, у 1915 г.— у народным універсітэце А. Л. Шаняўскага ў Маскве. Пасля смерці бацькі (1902 г.) працаваў на гаспадарцы, потым хатнім настаўнікам (дарэктарам), пісарам у судовага следчага ў Радашковічах (1903 г.), малодшым прыказчыкам у памешчыка на Сенненшчыне (1904 г.), быў практыкантам і памочнікам вінакура на бровах у памешчыцкіх маёнтках (1905—08 гг.). У 1908—09 гг. бібліятэкар бібліятэкі «Веды» Б. Л. Даніловіча (Вільня), супрацоўнічаў у беларускай газеце «Наша ніва». З кастрычніка 1913 г. супрацоўнік «Беларускага выдавецкага таварыства», рэдактар «Нашай нівы» (1914—15 гг.). У студзені 1916 г. прызваны ў армію. Служыў у дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносін у Мінску, Полацку, Смаленску. З 1919 г. у Мінску, удзельнічаў у стварэнні БДУ, АН БССР, нацыянальнага тэатра, рэспубліканскіх выдавецтваў. У Вялікую Айчынную вайну спачатку ў Маскве, потым у пасёлку Пячышчы каля Казані.

Пісаць пачаў на польскай мове. Першы вядомы верш на беларускай мове «Мая доля» (напісаны ў 1904 г.). Надрукаваны ўпершыню верш паэта («Мужык») у мінскай газеце «Северо-Западный край» 15.5.1905 г. Першы зборнік «Жалейка» (Пецярбург, 1908 г.). Творчасць Я. Купалы стала яркім летапісам жыцця беларускага народа, мастацкім выражэннем росту сацыяльна-палітычнай свядомасці працоўных мас, адбіткам нацыянальнага характару, народнага светаразумення і паэтычнага светаўспрымання на пераломных гістарычных рубяжах 1-й паловы 20 ст. Выразнік рэвалюцыйных ідэй беларускага працоўнага сялянства, абуджанага Рэвалюцыяй 1905—07 гг., пясняр перадавых ідэалаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху Я. Купала ў савецкі час стаў адным з пачынальнікаў метаду сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры. Творчасць паэта вызначаецца глыбокай народнасцю. Непаўторнае хараство яго паэзіі ў арганічным зліцці лірызму і рамантычнай незвычайнасці светаўспрымання з традыцыямі фальклору — вобразамі, матывамі, паэтыкай беларускай народнай песні, з міфалагічнымі ўяўленнямі, каларытам беларускіх легенд, паданняў, казак і інш. Дакастрычніцкая лірыка прасякнута рэвалюцыйным пафасам, услаўленнем мужыка-працаўніка і перадавых сіл беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Тэматычна, стылёва, жанрава разнастайная яна эвалюцыяніравала ад канкрэтна-бытавога паказу жыцця, ад тэм і матываў пераважна сялянскіх (зборнік



400. *Помнік на магіле Янкі Купалы.*

«Жалейка») да паглыбленага выяўлення асобы паэта (зборнікі «Гусляр», 1910 г., «Шляхам жыцця», 1913 г.). Адкрыццё вобраза беларускага мужыка («Я мужык-беларус...», «З песень беларускага мужыка», цыкл «З песень беззямельнага») станавілася ў паэта адкрыццём беларусаў як народа («А хто там ідзе?»). З працэсам далейшага самапазнання беларускага народа ў сям'і народаў свету стала звязвацца ў Я. Купалы цікавасць да духоўных першаасноў народнага жыцця — да пошукаў свабоды, шчасця, справядлівасці, ідэалаў дабра і прыгажосці. Герой лірыкі паэта — чалавек свабодалюбны і самаахвярны ў барацьбе за свае ідэалы («За свабоду сваю...», «Будзь смелым!..», «Каб я князем быў...», «Для зямлі прадзедаў маіх...»), надзвычай актыўны («Гэй, наперад!», «Выйдзі...», «Слугам алтарным»). Глыбокі патрыятызм паэта, вера ў творчыя сілы народа, любоў да яго, да бацькаўшчыны раскрываецца ў вершах-гімнах пра Беларусь (абодва вершы «Маладая Беларусь» — «Вольны вецер напеў вольных песень табе...» і «Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка...»), у пейзажах роднай зямлі («З летніх малюнкаў», «Мой дом»), творах на гістарычную тэматыку («На дзяды», «На куццю»), у элегійна-настальгічных («Я ад вас далёка...», «Зоркі») і грамадзянска-пафасных («Блізкім і далёкім», «Жар не згас») вершах. Я. Купала стаў адным з заснавальнікаў беларускай пейзажнай і любоўнай лірыкі («Явар», «Дзве таполі», «Абнімі...» і інш.). У 1913—14 гг. у вершах Я. Купалы паглыбіў-

ся сатырычны струмень («Чын», герб і лапаць», «Дэпутаты і грамадзяне», «Янка і свабода», «Груган і салавей»), у 1-ю сусветную вайну загучалі матывы яе асуджэння («1914-ты», «Вясна 1915-ая»). Новую старонку ў лірыцы паэта адкрыла Кастрычніцкая рэвалюцыя. Ён вітаў рэвалюцыю («Час!», «На сход!»), імкнуўся асэнсаваць бурныя падзеі Грамадзянскай вайны («Спадчына», «Мая навука», «Для Бацькаўшчыны»). На працягу 1920—30-х гадоў стварыў шэраг выдатных узораў беларускай савецкай лірыкі (зборнікі «Спадчына», 1922 г., «Безназоўнае», 1925 г., «Песня будаўніцтву», 1936 г., «Беларусі ардэнаноснай», 1937 г.). Ім характэрна пафаснае сцвярджэнне новай явы, імкненне да абагульненых малюнкаў сацыялістычных пераўтварэнняў у краіне, рэзкае асуджэнне капіталізму, фашызму (вершы «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...», «Песня будаўніцтву», «Дыктатура працы», «Іспанія будзе свабоднай»), уменне зірнуць на новы свет вачамі саміх яго будаўнікоў («Я — калгасніца...», «На нашым полі»), раскрыць карціны новага жыцця, побыту, звычаяў («Выпраўляла маці сына», «Лён», «Вечарынка», «Алеся», «Госці»). Скразной у лірыцы Я. Купалы гэтых гадоў была тэма адказнасці чалавека перад гісторыяй («Наш летапісец», «Шляхам гадоў», «І прыйдзе»). Пісаў дзіцячыя вершы, многія з якіх сталі класічнымі («Ехаў бай», «Хлопчык і лётчык»). Як бы падагульненнем творчасці 1930-х гадоў стаў зборнік «Ад сэрца» (1940 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1941 г.). Апошнія вершы паэта напісаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У іх ён выкрываў звярыную сутнасць фашызму і звяртаўся з палымяным заклікам да сыноў Беларусі разгортваць барацьбу з чужынцамі («Грабежнік», «Беларускім партызанам», «Зноў будзем шчасце мець і волю»).

Паэмы Я. Купалы — яркі нацыянальна-самабытны эпас. У дарэвалюцыйных паэмах выявілася яго схільнасць да рамантычна-яркіх, выключных герояў і сітуацый («Нікому», «Зімою», «За што?», «Адплата кахання»). Паэма-трагедыя «Адвечная песня» (напісана ў 1908 г., апублікавана ў 1910 г.) — апафеоз мужычай празе шчасця на зямлі, гнеўнае асуджэнне эксплуататарскага грамадства, заклік да рэвалюцыйнага пераўтварэння свету. Класічнымі дарэвалюцыйнымі паэмамі сталі фальклорна-рамантычныя «Курган» (напісана ў 1910 г., апублікавана ў 1912 г.) — прасякнуты ідэяй неўміручасці народнага мастацтва, «Бандароўна» (1913 г.) — песня аб гераіцы народнага змагання супраць прыгнятальнікаў, «Яна і я» — паэтызацыя ідэалізаванага ўяўлення селяніна-працаўніка аб шчаслівым жыцці, якое нараджае вольная праца, духоўная еднасць людзей, каханне. Праблему ўзаемаадносін рамантычнага бунтара, народнага заступніка і сялянскай грамады ставілі драматызаваныя рамантычна-алегарычныя «Сон на кургане» (напісана ў 1910 г., апублікавана ў 1912 г.) і абразок «На папасе» (1913 г.), праблему ўзаемаадносін выключнай адзінкі і народа — «Магіла льва» (напісана ў 1913 г., апублікавана ў 1920 г.). Першая паэма савецкага часу — «Безназоўнае» (1924 г.) — аб поспехах у эканамічным і культурным развіцці рэспублікі, трыумфальная кантата Кастрычніку. Паэма «Над ракою Арэсай» (1933 г.) аб новым лёсе беларускага Палесся. Памяці Т. Р. Шаўчэнкі прысвечана паэма «Тарасова доля» (1939 г.).

Аўтар драматычных твораў: неўміручай камедыі «Паўлінка» (1912 г., апублікавана ў 1913 г., пастаўлена Беларускім музычна-драматычным гуртком у Вільні ў 1913 г., Беларускім дзяржаўным тэатрам у 1920 г., Беларускім другім дзяржаўным тэатрам у 1936 г.), у якой высмейваў дамастроеўскія асновы жыцця засцянковай шляхты, духоўнае ўбоства прадстаўнікоў старога свету, паказаў носьбітаў новых поглядаў, перадавых людзей дарэвалюцыйнай беларускай вёскі. Блізкая да камедыі нораваў, яна, як і сцэнічны жарт «Прымакі» (1913 г., апублікаваны ў 1920 г., пастаўлены Беларускім другім дзяржаўным тэатрам у 1936 г., Беларускім тэатрам імя Я. Купалы ў 1944 г.), насычана вадэвільнымі элементамі, беларускімі народнымі песнямі, танцамі. Цяжкі лёс беларускага беззямельнага сялянства, пошукі ім шляхоў да лепшай будучыні адлюстраваны ў драме «Раскіданае гняздо» (1913 г., апублікавана ў 1919 г., пастаўлена Першым беларускім таварыствам драмы і камедыі ў Мінску ў 1917 г., Беларускім дзяржаўным тэатрам у 1921 г., Беларускім тэатрам імя Я. Коласа ў 1951 г.). Кінастудыя «Беларусьфільм» паводле п'ес Я. Купалы стварыла фільмы «Паўлінка» (1952 г.), «Раскіданае гняздо» (1982 г.). Публіцыстычныя артыкулы Я. Купалы «Думкі з пабыцця ў Фінляндыі на Іматры» (1910 г.), «З гуты «Залессе» (1911 г.) узнімалі пытанні паляпшэння сацыяльнага становішча народных мас Беларусі, артыкулы «Ці маем мы права выракацца роднай мовы» і «Вера і нацыянальнасць» (1914 г.) спрыялі абуджэнню іх нацыянальнага самаўсведамлення. Публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя выступленні Я. Купалы савецкага часу садзейнічалі ідэйна-мастацкаму росту беларускай савецкай літаратуры. Асабліва актыўна ў публіцыстычным жанры паэт выступаў у Вялікую Айчынную вайну: «Не будзе беларус рабом нямецкіх баронаў» (1941 г.), «Кліч да беларускага народа» (1942 г.), «Узнімайся, народзе мой, на вялікую расплату!» (1942 г.) і інш. На беларускую мову пераклаў «Слова аб палку Ігаравым» (празаічны пераклад у 1919 г., вершаваны ў 1921 г.), «Інтэрнацыянал» (1921 г.), пераклады польскага тэксту ў «Сялянцы» і «Залётах» В. Дуніна-Марцінкевіча, лібрэта оперы «Галька» С. Манюшкі, паэму А. Пушкіна «Медны коннік», паэмы і вершы Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча, М. Канапніцкай, Я. Каспровіча, У. Бранеўскага, Ю. Жулаўскага, У. Сыракомлі, Ю. Крашэўскага, М. Някрасава, А. Кальцова, І. Крылова, П. Панча і інш. Творы Я. Купалы перакладзены на многія мовы народаў СССР і за мяжою. Больш за 200 музычных твораў напісана на яго вершы. Выдадзены Зборы твораў у 6 (1952—54 гг., 1961—63 гг.), у 7 (1972—76 гг.) тамах, кніга «Публіцыстыка» (1972 г.). Кандыдат у члены ЦВК БССР у 1927—29 гг., член ЦВК БССР у 1929—31 гг., 1935—38 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1940 г. Памёр Я. Купала 28.6.1942 г. у Маскве. У 1962 г. урна з прахам перавезена ў Мінск. Імя Я. Купалы прысвоена Інстытуту літаратуры АН БССР, Беларускаму акадэмічнаму драматычнаму тэатру ў Мінску, школам, калгасам, бібліятэкам. Яго імем названы вуліцы. Пастаўлены помнікі ў парку імя Я. Купалы ў Мінску, Гродне, Радашковічах, Вязынцы, Ляўках, у Араў-парку ў Нью-Йорку. У Мінску з 1944 г. працуе Літаратурны музей Я. Купалы, у Пячышчах (Татарская АССР) — музей-кватэра. Створаны мемарыяльныя запаведнікі «Вязынка» і «Ляўкі». У 1959—65 гг. прысуджалася Літаратурная прэмія імя Купалы, з 1966 г. прысуджаецца Дзяржаўная прэмія БССР імя Купалы (за творы паэзіі і драматургіі).

У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. А. Анікейчык, А. Заспіцкі, архіт. М. Мызнікаў; граніт, бронза; вышыня сцяны 4,1 м, фігуры 3 м). На фоне вертыкальнай сцяны з гранітных блокаў скульптурная фігура Я. Купалы. Паэт паказаны седзячы, прыхінуты спінай да сцяны, рукі апушчаны, у твары — сканцэнтраванасць, паэтычны парыў. Трактоўка мяккая, абагульненая, партрэтныя рысы дэталёва прапрацаваны.

*Літ.:* Івашын В. У. Янка Купала: Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гг.— Мн., 1953; Паліты ка Дз. Янка Купала — перакладчык.— Мн., 1985; Ярош М. Драматургія Янкі Купалы.— Мн., 1959; яго ж. Янка Купала і беларуская паэзія.— Мн., 1971; яго ж. Пясняр роднай зямлі: Жыццё і творчасць Янкі Купалы.— Мн., 1982; Мозольков Е. Янка Купала: Жизнь и творчество.— 5 изд.— М., 1961; Ленсу Е. Я. Фольклорные традиции в дооктябрьском творчестве Янки Купалы.— Мн., 1965; Бярозкін Р. Свет Купалы; Звенні.— Мн., 1981;

Макарэвіч А. Ад песень і думак народных.— Мн., 1965; Шарахоўскі Я. Пясняр народных дум: (Нарыс жыцця і дзейнасці Я. Купалы). Дарэвалюцыйны перыяд.— Мн., 1970; яго ж. Пясняр народных дум: Нарыс жыцця і дзейнасці Янкі Купалы. Савецкі перыяд.— Мн., 1976: Навуменка І. Я. Янка Купала.— 2 выд.— Мн., 1980; Песні беларускай валадар.— Мн., 1981; Лойко О. Янка Купала.— М., 1982; Содаль У. Пуцявінамі сейбіта.— Мн., 1982; Юрэвіч У. Янка Купала: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн., 1983; Янка Купала: (Зб. матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта БССР Янкі Купалы).— Мн., 1952; Янка Купала: Зб. матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта.— Мн., 1955; Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы/ Уклад. Г. В. Кісялёў.— Мн., 1981; Любімы паэт беларускага народа.— Мн., 1960; Бібліяграфія твораў Янкі Купалы. Ч. 1—3.— Мн., 1955—72.

*А. А. Лойка, Г. М. Ярмоленка.*

**401. МАГІЛА ЛУЦКАГА** Івана Сцяпанавіча (гіст.). Партызан Вялікай Айчыннай вайны І. С. Луцкі загінуў 2.3.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**402. МАГІЛА ЛУЦЭВІЧ** Бянігны Іванаўны (гіст.).

Маці народнага паэта БССР Я. Купалы — Б. І. Луцэвіч (дзявочае Валасевіч) нарадзілася ў 1857 г. у фальварку Няшота Стаўбцоўскай воласці (цяпер в. Ручын Стаўбцоўскага р-на) у сям'і дробнага шляхціца. У 1879 г. выйшла замуж за дробнага беззямельнага арандатара Д. А. Луцэвіча. У 1881 г. пераехалі ў Вязынку (Маладзечанскі р-н), дзе 25.6.1882 г. у іх нарадзіўся сын І. Д. Луцэвіч (Я. Купала). У Бянігны Іванаўны было сямёра дзяцей. З 1909 г. арандавала хутар Акопы (Лагойскі р-н), куды амаль кожнае лета прыязджаў Я. Купала. З 1929 г. жыла ў Мінску. Памерла Б. І. Луцэвіч 30.6.1942 г.

У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла са словамі з верша Я. Купалы «Мая навука»: «...Навучыўся я слоў беларускіх ад маці...»

*В. Б. Караткевіч.*

**403. МАГІЛА ЛУЦЭВІЧ** Уладзіславы Францаўны (гіст.).

Беларускі савецкі дзеяч культуры, педагог, заслужаны дзеяч культуры БССР (1959 г.), жонка Я. Купалы У. Ф. Луцэвіч (дзявочае Станкевіч) нарадзілася 13.12.1891 г. у в. Вішнева Валожынскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1959 г. У 1906 г. скончыла экстэрнам Віленскую гімназію, у 1908 г. двухгадовыя педагагічныя курсы ў Варшаве. З 1908 г. выхавацельніца дзіцячага прытулку ў Вільні. Адначасова вяла прапагандысцкую работу ў культурна-асветніцкіх і нелегальных школьных гуртках рабочай моладзі, за што ў 1909 г. і 1911 г. прыцягвалася да судовай адказнасці. У 1914 г. удзельнічала ў арганізацыі дзіцячага прытулку для дзяцей бежанцаў. Актыўна прапагандавала беларускую літаратуру, была карэспандэнтам «Нашай нівы», пісала вершы пад псеўданімамі Владычанка і В. Станкевічанка. На фарміраванне поглядаў У. Ф. Луцэвіч уплывалі цесныя сувязі з пісьменнікамі Цёткай (А. Пашкевіч), Ядвігіным Ш., З. Бядулем, С. Палуянам і інш., якія жылі ў Вільні. У 1908 г. пазнаёмілася з Я. Купалам. У 1915—16 гг. разам вучыліся ў Маскоўскім народным універсітэце імя А. Л. Шаняўскага. 23.1.1916 г. Уладзіслава Францаўна выйшла замуж за Я. Купалу. У 1919 г. яны пераехалі на сталае жыхарства ў Мінск. Да чэрвеня 1941 г. працавала інспектарам дашкольных устаноў Наркамасветы БССР, выхавальніцай у дзіцячым садзе, педагогам-метадыстам дзіцячых устаноў, літработнікам беларускага радыё. У 1944—60 гг. дырэктар Літаратурнага музея Я. Купалы. Удзельнічала ў падрыхтоўцы выданняў «Янка Купала (Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта БССР Янкі Купалы)» (1952 г.), «Янка Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта» (1955 г.), «Янка Купала ў беларускім мастацтве. Зборнік матэрыялаў» (1958 г.), «Любімы паэт беларускага народа» (1960 г.) і «Бібліяграфія твораў Янкі Купалы. 1905—1917» (ч. 1, 1955 г.), уваходзіла ў рэдакцыйную камісію па падрыхтоўцы Збору твораў Я. Купалы (т. 1—6, 1952—54 гг., 1961—63 гг.). Аўтар артыкулаў пра творчасць Я. Купалы, успамінаў пра яго, З. Бядулю, Цётку. Для дзяцей дашкольнага ўзросту сабрала і апрацавала «Народныя дзіцячыя песенькі» (1939 г.), склала «Зборнік вершаў для дашкольных устаноў» і «Для маленькіх» (1940 г.), апрацавала народныя казкі «Як жабы бараніліся ад бусла» (1928 г.), «Пых» і «Як пеўнік казу прагнаў» (1938 г.) і інш. Памерла У. Ф. Луцэвіч 25.2.1960 г.

У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — камень з бронзавым барэльефам У. Ф. Луцэвіч (скульпт. А. Анікейчык, А. Заспіцкі).



403. *Помнік на магіле У. Ф. Луцэвіч.*

*Літ.:* Раманоўская Я. Акрыленая песняй.— Полымя, 1971, № 12; Юрэвіч У. Наша цётка Уладзя.— Беларусь, 1971, № 12.

*В. Б. Караткевіч.*

**404. МАГІЛА МАГІЛЕЎЧЫК** Галіны Захараўны (гіст.).

Партызанка Г. З. Магілеўчык нарадзілася ў 1925 г. У сакавіку — жніўні 1943 г. удзельніца Вілейска-Куранецкага камуністычнага падполля, потым медсястра партызанскага атрада імя А. В. Суворава брыгады імя К. Я. Варашылава. Загінула ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі ў верасні 1943 г.

У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**405. МАГІЛА МАКУШКА** Маркела Емяльянавіча (гіст.).

Беларускі савецкі заолаг, акадэмік АН БССР (1950 г., член-карэспандэнт з 1947 г.), доктар біялагічных навук (1937 г.), прафесар (1928 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1944 г.) М. Е. Макушок нарадзіўся 2.1.1881 г. у в. Вярхнячка Хрысцінаўскага р-на Чаркаскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1910 г. скончыў Кіеўскі універсітэт. У 1918—27 гг. прафесар Маскоўскага універсітэта, дзе першым у краіне чытаў курс іхтыялогіі. У 1927—31 гг. загадчык кафедры заалогіі пазваночных Казанскага універсітэта, у 1931—37 гг. старшы навуковы супрацоўнік Акеанаграфічнага інстытута. У 1937—41 гг. і ў 1943—52 гг. загадчык кафедры заалогіі пазваночных, дарвінізму, генетыкі і адначасова ў 1950—52 гг. прарэктар БДУ. Працы прысвечаны пытанням параўнальнай анатоміі жывёл, іхтыялогіі і герпеталогіі. Даследаваў пытанні паходжання лёгкіх і плавальнага пузыра, развіцця галавы пазваночных жывёл, сістэматыкі губак возера Байкал і Баранцава мора, іхтыяфауны Беларусі: «Да пытання аб паходжанні спангіяфауны возера Байкал», 1925 г., «Карлікавы сомік, яго гаспадарчае значэнне і біялагічныя асаблівасці», 1951 г., і інш. Памёр М. Е. Макушок 31.1.1952 г.

У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

*В. М. Баскова.*

**406. МАГІЛА МІРОВІЧА** Еўсцігнея Афінагенавіча (гіст.).

Беларускі савецкі драматург, рэжысёр, педагог, адзін з заснавальнікаў беларускага савецкага тэатра, народны артыст БССР (1940 г.), прафесар (1945 г.) Е. А. Міровіч (сапраўднае Дунаеў) нарадзіўся 29.7.1878 г. у Пецярбургу ў сям'і чыгуначніка, выхадца з Беларусі. Скончыў школу малявання пры Акадэміі мастацтваў і курсы Пецярбургскага гуртка аматараў драматычнага мастацтва імя Волкава. Прафесійную сцэнічную дзейнасць пачаў у 1900 г. у Пецяр-

бургу як акцёр і рэжысёр. З 1919 г. працаваў на Беларусі. Акцёр і рэжысёр Мінскага гарнізоннага тэатра (1919 г.), Тэатра рэвалюцыйнай сатыры («Тэрэўсат», 1921 г.), рускага тэатра «Шануар» (1922 г.), мастацкі кіраўнік БДТ-1 (тэатр імя Я. Купалы; 1921—31 гг., у 1941—45 гг. рэжысёр), Гомельскіх ТРАМа (1932—35 гг.) і калгасна-саўгаснага (1935—37 гг.) і Беларускага юнага гледача (1937—40 гг.) тэатраў, Рэспубліканскага тэатральнага вучылішча (1938—41 гг.). З 1945 г. мастацкі кіраўнік і загадчык кафедры майстэрства акцёра Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. З 1904 г. выступаў як драматург. Першыя п'есы «Апекуны» (напісана ў 1904 г.), «Гнілыя ўстоі» (напісана ў 1905 г.), «Сучасны вампір» («Жах часу») і «Ноч міліянера» (абедзве напісаны ў 1906 г., забаронены царскай цэнзурай). З дакастрычніцкіх п'ес і сатырычных мініяцюр папулярнасцю карысталіся «Графіня Эльвіра», «Тэатр купца Япішкіна» (пастаўлены Рэспубліканскім тэлебачаннем у 1978 г.), «Вова прыстасаваўся», «Крутавертаў і сын». У п'есах «Машэка» (першая п'еса на беларускай мове, пачатковая назва «У часы даўнейшыя», пастаўлена ў 1923 г.) і «Каваль-ваявода» (пастаўлена ў 1925 г.) шырока выкарыстаў фальклорныя сюжэты, традыцыі беларускай народнай драмы.



**406.** *Помнік на магіле Е. А. Міровіча.*

Аўтар п'ес «Кастусь Каліноўскі» (пастаўлена ў 1923 г.), «Кар'ера таварыша Брызгаліна» (пастаўлена ў 1925 г.), «Перамога» (пастаўлена ў 1926 г.), «Запяюць верацёны» (пастаўлена ў 1928 г.), «Лён» (пастаўлена ў 1932 г.). Драматычныя творы вызначаліся жанрава-тэматычнай шырынёй, сцэнічнасцю, глыбінёй пранікнення ў псіхалогію герояў.

Е. А. Міровіч зрабіў вялікі ўплыў на фарміраванне беларускай нацыянальнай школы акцёрскага і рэжысёрскага майстэрства, узбагаціў беларускую школу лепшымі традыцыямі рускага рэалістычнага мастацтва. Рэжысёр высокай тэатральнай культуры. Яго спектаклі адметныя глыбінёй рэжысёрскай задумы, вялікай мастацкай праўдай, палымянай ідэйнасцю, псіхалагічнай распрацоўкай вобразаў, яркімі масавымі сцэнамі, ансамблевасцю выканання. Карпатліва і плённа працаваў з маладымі беларускімі драматургамі, ставіў іх п'есы: «На Купалле» М. Чарота і «Вяселле» В. Гарбацэвіча (абедзве 1921 г.), «Пасланец» Л. Родзевіча (1922 г.), «Панскі гайдук» Н. Быаеўскага (1924 г.), «Змрок» В. Шашалевіча (1927 г.), «Мост» Я. Рамановіча і «Міжбур'е» Дз. Курдзіна (абедзве 1929 г.), «Гута» Р. Кобеца (1930 г.) і інш. З іншых пастановак: «Вучань д'ябла» Б. Шоў (1922 г.), «Мешчанін у дваранах» Мальера (1924 г.), «Мяцеж» паводле Дз. Фурманава (1927 г.), «Дзяўчаты нашай краіны» І. Мікітэнкі (1934 г.), «Гадзіншчык і курыца» І. Качаргі (1935 г.), «Даходнае месца» А. Астроўскага (1936 г. і 1940 г.), «Як гартавалася сталь» паводле М. Астроўскага (1937 г., з Ю. Палічынецкім), «Цудоўная дудка» В. Вольскага (1939 г.). Памёр Е. А. Міровіч 16.2.1952 г. У Мінску на будынку Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1983 г. на магіле пастаўлены скульптурны партрэт Е. А. Міровіча на пастаменце.

*Літ.:* Сабалеўскі А. Беларуская савецкая драма. Кн. 1.— Мн., 1969; Пятровіч С. А. Еўсцігней Міровіч.— 2 выд.— Мн., 1978. *С. А. Пятровіч.*

**407. МАГІЛА МІХАЙЛАВА** Барыса Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Б. А. Міхайлаў нарадзіўся 24.5.1923 г. у в. Мянькова Пушкіна-Горскага р-на Пскоўскай вобл. у сям'і рабочага. Член ВЛКСМ з 1941 г. Вучыўся ў Падольскім ваенным вучылішчы (1941 г.). У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір артылерыйскай процітанкавай батарэі гвардыі лейтэнант Б. А. Міхайлаў вызначыўся ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра на поўнач ад Кіева і авалоданні плацдармам на правым беразе ракі. Батарэя пад яго камандаваннем ў час бою адбіла 6 контратак праціўніка. 3.7.1944 г. у баі каля Астрашыцкага Гарадка Мінскага р-на група аўтаматчыкаў на чале з ім перарэзала шлях адступлення варожай калоне, батарэя знішчыла 2 самаходныя гарматы, 60 аўтамашын, 12 матацыклаў, шмат жывой сілы праціўніка. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.1.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**408. МАГІЛА МІЦКЕВІЧ** Марыі Дзмітрыеўны (гіст., маст.). Побач з магілай Якуба Коласа.

Жонка Якуба Коласа М. Дз. Міцкевіч (дзявочае Каменская) нарадзілася 8.2.1891 г. у Ашмянах Гродзенскай вобласці. З сям'і святара. У 1913 г. у Пінску, дзе настаўнічала, выйшла замуж за Якуба Коласа. З 1921 г. жыла ў Мінску. У час Вялікай Айчыннай вайны жылі ў Падмаскоўі, Ташкенце, Маскве. Памерла 21.5.1945 г. у Маскве.

У 1948 г. на магіле пастаўлены помнік (мармур; вышыня абеліска 2,2 м), вырашаны ў класічных традыцыях надмагілляў: усечаны абеліск увенчаны урнай, з якой спадаюць драпіроўка і гірлянды кветак, абвітых стужкай. На пярэдняй плоскасці абеліска — медальён з рэльефнай партрэтнай выявай памерлай (скульпт. З. Азгур) у абрамленні кветкавай гірлянды і галінкі ружы. Пляцоўка вакол магілы абмежавана невысокай гранітнай агароджай; перапад рэльефу мясцовасці фіксуецца падпорнымі сценкамі з бутавага каменю (архіт. Г. Заборскі).

**409. МАГІЛА МЯЛКІХ** Сяргея Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі тэрапеўт, член-карэспандэнт АН БССР (1940 г.), доктар медыцынскіх навук (1934 г.), прафесар (1922 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1938 г.) С. М. Мялкіх нарадзіўся 9.5.1877 г. у Маскве ў сям'і служачага. Пасля заканчэння медыцынскага факультэта Маскоўскага універсітэта ў 1900 г. працаваў у клініцы прафесара А. А. Астравумава, з 1910 г. асістэнтам у тэрапеўтычнай клініцы Маскоўскіх вышэйшых жаночых курсаў. У 1-ю сусветную вайну ўрач эвакашпіталя. З 1922 г. загадчык кафедры факультэцкай і шпітальнай тэрапіі БДУ (з 1930 г. Мінскага медыцынскага інстытута), адначасова загадчык аддзела навукі і падрыхтоўкі кадраў Міністэрства аховы здароўя БССР (1937—41 гг.), дырэктар Інстытута тэарэтычнай і клінічнай медыцыны АН БССР (1940—52 гг.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Вывучаў злаякасныя анеміі і пухліны, малярыю, лейкозы, пытанні прафілактыкі і лячэння туберкулёзу лёгкіх. Асноўныя працы: «Калібацылярны сепсіс (калібацылёз)»

(1938 г.); «Прымяненне люмінесцэнтнага метаду даследавання мачы для дыягностыкі злаякасных пухлін» (1950 г.). Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1938—52 гг. Памёр С. М. Мялкіх 7.7.1952 г.

У 1953 г. на магіле пастаўлена пліта.

*Літ.:* С. М. Мелких.— Здравоохранение Белоруссии, 1969, № 12; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**410. МАГІЛА ПАПОВА** Васіля Васілевіча (гіст.).

Беларускі савецкі геадэзіст, акадэмік АН БССР (1950 г., член-карэспандэнт 1940 г.), доктар тэхнічных навук (1938 г.), прафесар (1939 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1954 г.) В. В. Папоў нарадзіўся 26.1. 1887 г. у в. Няўзорава Пронскага р-на Разанскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1906 г. скончыў Пензенскае землямернае вучылішча, у 1911 г. Маскоўскі межавы інстытут. У 1912—24 гг. (з перапынкам) працаваў у Пензенскім землямерным вучылішчы, у 1924—27 гг.— у землеўпарадкавальным тэхнікуме ў Днепрапятроўску. З 1928 г. прафесар, загадчык кафедры геадэзіі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1942—49 гг. загадчык кафедры вышэйшай геадэзіі Навасібірскага інстытута інжынераў геадэзіі, аэрафотаздымкі і картаграфіі. З 1949 г. прафесар Беларускага лесатэхнічнага і Беларускага політэхнічнага інстытутаў, адначасова з 1951 г. акадэмік-сакратар Аддзялення фізіка-матэматычных і тэхнічных навук АН БССР. Навуковыя даследаванні па пытаннях палігонаметрыі, базісных вымярэнняў, тэорыі спосабу найменшых квадратаў, тэхнікі вылічэнняў. Арганізатар работ па геадэзічнай здымцы Мінска, Віцебска, Гомеля і інш. гарадоў БССР, а таксама гарадоў РСФСР, па пракладванню прэцызійных траверсаў у СССР. Асноўная праца «Ураўнаважанне палігонаў» (9-е выд., 1958 г.). Памёр В. В. Папоў 29.11.1955 г.

У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск з барэльефнай выявай вучонага.

*Літ.:* Ганьшин В. Н., Хренов Л. С., В. В. Попов — выдающийся ученый и педагог.— У кн.: Построение сетей геодезического съемочного обоснования. Мн., 1963; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

*А. Г. Шчарбатаў.*




410. *Помнік на магіле В. В. Папова.*

**411. МАГІЛА ПАЎЛІЧУКА** Барыса Васілевіча (гіст.). Партызан атрада імя С. М. Будзённага брыгады імя П. К. Панамарэнкі Б. В. Паўлічук загінуў 4.7.1943 г. У 1954 г. на магіле пастаўлена стэла.

**412. МАГІЛА ПЕРЦАВА** Уладзіміра Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, акадэмік АН БССР (1940 г.), доктар гістарычных навук (1935 г.), прафесар (1921 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1944 г.) У. М. Перцаў нарадзіўся 15.7.1877 г. у г. Курску ў сям'і служачага. У 1895 г. скончыў Курскае рэальнае вучылішча, у 1897 г. здаў экстэрнам экзамен за курс гімназіі ў Харкаве. У 1903 г. скончыў Маскоўскі універсітэт. Удзельнічаў у студэнцкіх хваляваннях, у 1899 г. і 1901 г. быў зняволены ў бутырскую турму. У 1905—19 гг. выкладаў у сярэдніх навучальных установах, педінстытуце Масквы. У 1918 —21 гг. прафесар Смаленскага універсітэта. У 1921—31 гг., 1934—41 гг., з 1943 г. прафесар, загадчык кафедры гісторыі сярэдніх вякоў, з 1953 г.— кафедры ўсеагульнай гісторыі БДУ, адначасова ў 1943—59 гг. акадэмік — сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН БССР. У 1931—34 гг. у Мінскім вышэйшым педагагічным інстытуце, у 1941—43 гг. у Удмурцкім педінстытуце. Аўтар прац па ўсеагульнай гісторыі: «Гогенцолерны» (1918 г.), «Эканамічнае развіццё Англіі ў XIX ст.» (1924 г.), «Нарыс гісторыі Германіі XVIII ст.» (1959 г.) і інш. Напісаў «Падручнік старажытнай гісторыі» (ч. 1—2, 1912—16 гг.). Даследаваў праблемы гісторыі і гістарыяграфіі Беларусі: «Гуманізм на Беларусі і ў княстве Літоўскім у XVI ст.» (1955 г.), «Гістарычная думка на тэрыторыі Беларусі паводле даных ранніх народнай творчасці і летапісаў (з старажытнейшых часоў да XVI ст.)» (1956 г.) і інш. Вывучаў філасофію гісторыі Платона, І. Канта, І. Гердэра, Л. М. Талстога, М. В. Ламаносава, гісторыю грамадска-палітычных поглядаў Ф. Скарыны і К. Каліноўскага («Грамадская дзейнасць і светапогляд Г. Скарыны», 1948 г.; «Кастусь Каліноўскі», 1945 г.) і інш. Адзін з аўтараў і рэдактараў «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1954 г., 2-е выд. 1961 г.), раздзелаў па гістарыяграфіі Беларусі ў «Нарысах гісторыі гістарычнай навукі ў СССР» (т. 1—3, 1955—63 гг.). У 1945 г. член дэлегацыі БССР на канферэнцыі ў Сан-Францыска (ЗША), дзе быў падпісаны Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—60 гг. Памёр У. М. Перцаў 3.6.1960 г. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1961 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Ботвинник М. Б., В. Н. Перцев.— Мн., 1978.

*М. Б. Батвіннік.*

**413. МАГІЛА ПУЛІХАВА** Івана Пятровіча (гіст.).

Рэвалюцыянер І. П. Пуліхаў нарадзіўся 24.8.1879 г. у Мінску ў сям'і каморніка. Вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы, дзе далучыўся да рэвалюцыйнага руху; член партыі эсэраў. У 1900 г. паступіў у Пецярбургскі каморніцкі інстытут, выключаны ў 1903 г. і высланы ў Мінск пад нагляд паліцыі. Распаўсюджваў адозвы, выступаў на сходках сялян. Паводле прыгавору падпольнай рэвалюцыйнай арганізацыі І. П. Пуліхаў і А. А. Ізмайловіч падрыхтавалі і 14.1.1906 г. ажыццявілі замах на мінскага губернатара П. Р. Курлова, па загаду якога 18.10.1905 г. быў расстраляны шматтысячны мітынг працоўных горада. Былі схоплены паліцыяй. Мужна трымаліся на допытах, суд выкарысталі як трыбуну абвінавачвання царызму. І. П. Пуліхаў заявіў: «Вінаватым сябе не прызнаю... Хацеў адпомсціць губернатару Курлову за тое, што ён забіваў у Курскай губерні сялян і выхаванцаў навучальных



413. *Помнік на магіле І. П. Пуліхава.*

устаноў, а галоўнае, за 18 кастрычніка — масавы расстрэл на плошчы перад вакзалам станцыі Мінск. Тэрарыстычным актам... мінская арганізацыя хацела звярнуць увагу ўрада на тое, што так далей працягвацца не можа».

Па прыгавору ваеннага суда І. П. Пуліхаў павешаны на браме мінскай турмы. Каб запалохаць жыхароў, цела яго вісела там 4 дні (А. А. Ізмайловіч смяротны прыгавор заменены вечнай катаргай). Пахаваны на Старажоўскіх могілках, пазней астанкі перанесены на Вайсковыя могілкі. Яго імем у Мінску названа вуліца.

У 1926 г. на магіле пастаўлены помнік — камень-валун.

*Літ.:* Механў У. Слухаецца справа аб замаху...— Мн., 1972; Хаўратовіч І. Бясстрашны юнак.— Маладосць, 1965, № 12. *В. Б. Караткевіч.*

**414. МАГІЛА РАБЦЭВІЧА** Аляксандра Маркавіча (гіст.).

Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза А. М. Рабцэвіч нарадзіўся 2.3.1898 г. у былой в. Буда Лазавая (злілася з в. Мышкавічы) Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Скончыў курсы камсаставу Чырвонай Арміі (1920 г.). У Грамадзянскую вайну партызан атрада, які дзейнічаў у Бабруйскім павеце супраць корпуса Доўбар-Мусніцкага і германскіх акупантаў. У канцы 1918 г. добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, у кастрычніку — лістападзе 1919 г. на Петраградскім участку фронту. Удзельнік партызанскага руху ў Заходняй Беларусі ў 1921—24 гг., нацыянальнарэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі 1936—39 гг. У 1925—37 гг. на савецкай і гаспадарчай рабоце ў Кіраўскім р-не. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г.— камандзір роты асобнай мотастралковай брыгады асобага прызначэння. Удзельнік абароны Масквы. У 1942—44 г. камандзір дыверсійнага партызанскага атрада «Храбрацы», што дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі. Партызаны атрада пад камандаваннем А. М. Рабцэвіча вялі разведку, зрабілі больш за 200 дыверсій на чыгунках, шашэйных дарогах, узарвалі і спалілі 91 эшалон, знішчылі 24 танкі, 23 бронемашыны, браняпоезд, 102 аўтамашыны, 2 катэры і інш. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 5.11.1944 г. У 1945—52 гг. працаваў у органах дзяржаўнай бяспекі БССР. Памёр А. М. Рабцэвіч 11.4.1961 г. Яго імем названа вуліца ў г. п. Кіраўск.

У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Бессмертные имена.— Мн., 1979; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**415. МАГІЛА РУДЗЬКО** Юрыя Герасімавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Ю. Г. Рудзько нарадзіўся 14.6.1913 г. у Бабруйску ў сям'і служачага. Член КПСС з 1940 г. Скончыў Беларускі вышэйшы педагагічны інстытут (1933 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва газеты «Чырвоная змена» (1933—35 гг.), літсупрацоўнікам, потым загадчыкам аддзела мастацтва газеты «Літаратура і мастацтва» (1937—41 гг.). Друкаваўся з 1932 г. Аўтар аповесцей «Над Одэрам» (напісана ў 1945 г.), «Сакрэт маладосці» (напісана ў 1947 г.), «Пястаўская зямля» (апублікавана ў 1947 г.), зборніка нарысаў «Размова па шчырасці» (з І. Дуброўскім, 1935 г.), п'ес «Канец маскараду» (з У. Стэльмахам, пастаўлена ў 1938 г.), «Дарагі госць» і «Слава дружбе» (абедзве 1950 г.). Асноўныя тэмы творчасці — любоў да Радзімы, гераічная барацьба савецкіх воінаў у час Вялікай Айчыннай вайны, дружба народаў, пасляваеннае будаўніцтва ў вёсцы. У 1950 г. выйшла кніга выбраных твораў пісьменніка «Слава дружбе». Памёр Ю. Г. Рудзько 4.2.1948 г.

У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Вытокі песні.— Мн., 1973; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *А. Г. Шчарбатаў.*

**416. МАГІЛА САКАЛОЎСКАГА** Несцера Фёдаравіча (гіст., маст.).

Беларускі савецкі кампазітар, хормайстар, фалькларыст Н. Ф. Сакалоўскі нарадзіўся 27.10.1902 г. у в. Вешкі Докшыцкага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Мінскі музычны тэхнікум (1931 г.), вучыўся ў Беларускай кансерваторыі (1932—35 гг.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1926—31 гг. акцёр і хормайстар Беларускага трэцяга дзяржаўнага тэатра, у 1931—37 гг. кіраўнік самадзейных хораў. Адзін з арганізатараў і хормайстар ансамбля беларускай народнай песні і танца Беларускай філармоніі (1937—41 гг.). У 1943—44 гг. мастацкі кіраўнік Палескага абласнога ансамбля песні і танца, у 1944—46 гг. начальнік аддзела мастацкай самадзейнасці Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, з 1946 г. у рэдакцыі музычнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Аўтар музыкі Дзяржаўнага гімна БССР (словы М. Клімковіча), песень на словы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, А. Русака, М. Чарота, А. Якімовіча і інш., інструментальных мініяцюр, вакальных сюіт на тэмы беларускіх народных песень. Найбольш папулярны твор — «Песня пра Нёман» (верш А. Астрэйкі). Запісаў і апрацаваў больш за 500 беларускіх народных песень і інструментальных найгрышаў. Памёр Н. Ф. Сакалоўскі 13.11.1950 г. Яго імя прысвоена Гомельскаму музычнаму вучылішчу.

У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік (бетон, мармуровая крошка; вышыня 2 м). Выкананы ў форме саркафага, увенчанага скульптурнай кампазіцыяй, што сімвалізуе вобраз ракі — «бацькі Нёмана». Быццам з вады выступае асілак, які мускулістымі рукамі разграбае хвалі. На нахільным тарцовым баку надмагілля — радок нотнага запісу «Песні пра Нёман».

*Літ.:* Нісневіч І. Г. Кампазітар Несцер Сакалоўскі.— Мн., 1969; Журавлев Д. Композиторы Советской Белоруссии.— Мн., 1966. *Г. М. Новікава, Г. М. Ярмоленка.*



*416. Надмагілле Н. Ф. Сакалоўскага.*

**417. МАГІЛА САМУЙЛЁНКА** Эдуарда Людвігавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Э. Л. Самуйлёнак нарадзіўся 23.7.1907 г. у Пецярбургу ў сям'і рабочага. Вучыўся ў польскай гімназіі (Петраград). Юнацкія гады правёў на радзіме бацькі ў в. Бандзелі Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. Загадваў хатай-чытальняй, быў сакратаром камсамольскай ячэйкі. Шмат займаўся самаадукацыяй. Працаваў у рэдакцыях газет «Чырвоная Полаччына» (1930—33 гг.), «Літаратура і мастацтва» (1934—39 гг.). У друку ўпершыню выступіў з вершамі ў 1928 г. Першае апавяданне «Апошні заказ» (1929 г.) пра перавыхаванне чалавека ў сацыялістычным калектыве. Аповесць «Тэорыя Каленбрун» (1933 г.) прысвечана барацьбе польскіх працоўных супраць фашызму. Выкрыццю фашызму і яго дэмагагічнай ідэалогіі прысвечаны апавяданні «Сустрэча», «Урачыстая меса», «Герой нацыі». Аўтар зборнікаў прозы «Пункт апоры» (1935 г.), «Дачка эскадрона» (1937 г.). Пісаў пра рэвалюцыйныя традыцыі і заканамернасць іх развіцця ў практыцы сацыялістычнага будаўніцтва, пра калектывізацыю. У аповесці «Паляўнічае шчасце» (1933 г.) адлюстраваны новы побыт калгаснай вёскі. Раман «Будучыня» (1938 г.) пра жыццё грузінскага народа і яго

барацьбу за Савецкую ўладу, інтэрнацыянальную еднасць працоўных. Аўтар п'ес «Сяржант Дроб» (інсцэніроўка аповесці «Тэорыя Каленбрун», пастаўлена ў 1935 г. Беларускім 3-м дзяржаўным тэатрам), «Пагібель воўка» (пастаўлена ў 1939 г. БДТ-1 і БДТ-2). У 1952 г. выйшаў Збор твораў пісьменніка ў 2 тамах, у 1977 г.— зб. «Апавяданні і аповесць». Памёр Э. Л. Самуйлёнак 12.2.1939 г.

У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Вольскі В. Ф. Эдуард Самуйлёнак: Жыццё і творчасць.— Мн., 1951; Слова пра сябра: Успаміны аб Эдуарду Самуйлёнку.— Мн., 1962; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**418. МАГІЛА СІКОРСКАГА** Сяргея Іванавіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза С. І. Сікорскі нарадзіўся 29.8.1907 г. у г. Бабруйску ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1930 г. Скончыў Вышэйшую камуністычную сельскагаспадарчую школу Беларусі імя Леніна (1937 г.), Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б) (1949 г.). Працоўную дзейнасць пачаў у 1920 г. кур'ерам міліцыі Бабруйска. З 1921 г. працаваў у Беразіно. З 1930 г. на партыйнай і савецкай рабоце ў Бабруйскім р-не, з 1939 г. сакратар Брэсцкага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну арганізатар партызанскага руху ў Віцебскай вобл., з лістапада 1942 г. упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Брэсцкай вобл., з красавіка 1943 г. сакратар Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б, камандзір партызанскага злучэння Брэсцкай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. Пасля вайны сакратар Баранавіцкага абкома КПБ, намеснік міністра сельскай гаспадаркі БССР, першы сакратар Магілёўскага абкома КПБ, міністр унутраных спраў БССР. Член ЦК КПБ у 1952—60 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1954—60 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1951—55 гг. Памёр С. І. Сікорскі 28.4.1960 г. Яго імем названы вуліцы ў Бабруйску і Брэсце; імя героя прысвоена Здзітаўскай сярэдняй школе ў Бярозаўскім р-не Брэсцкай вобл.

У 1962 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Герои Советского Союза — могилевчане.— Мн., 1965.

*Г. І. Дулеба.*

**419. МАГІЛА СТАХОВІЧА** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Алесь (Аляксандр Іосіфавіч) Стаховіч нарадзіўся 20.6.1907 г. у в. Кашына Аршанскага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1927 г. З 1923 г. на камсамольскай і партыйнай рабоце ў Оршы, Мсціславе, Крупках, Талачыне, Жлобіне. З 1938 г. адказны сакратар часопіса «Полымя рэвалюцыі» ў Мінску. У Вялікую Айчынную вайну супрацоўнічаў у армейскім друку.

Друкаваўся з 1928 г. Пісаў навелы, нарысы, фельетоны, апавяданні, аповесці, раманы. Першы зборнік апавяданняў для дзяцей «Маленькія героі» выйшаў у 1939 г. Аўтар аповесцей «Пампей Шчупак» (1940 г.) пра жыццё калгаснай вёскі, «Шумяць лясы» (1944 г.) пра партызанскую барацьбу на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, раманаў «Пад мірным небам» (1947—49 гг.) і «Шырокія гарызонты» (1952 г.), прысвечаных жыццю беларускай вёскі першых пасляваенных гадоў. Пераклаў на беларускую мову «Аповесць аб сапраўдным чалавеку» Б. Палявога. Памёр А. Стаховіч 7.2.1956 г.

У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

*М. В. Кірэйшын.*

**420. МАГІЛА ТАЎЛАЯ** Валянціна Паўлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт, удзельнік рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі В. П. Таўлай (літаратурныя псеўданімы Бунтарны, Янка Дванаццаты, Паўлюк Сірата, В. Тарскі; партыйныя псеўданімы Васіль, Якімчык і інш.) нарадзіўся 26.1.1914 г. у г. Баранавічы ў сям'і чыгуначніка. Член КПЗБ з 1932 г. Дзяцінства прайшло на радзіме бацькі ў в. Рудаўка. Вучыўся ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі, з 1927 г.— у Віленскай беларускай гімназіі, адкуль у 1929 г. выключаны як адзін з арганізатараў вучнёўскіх хваляванняў. У жніўні 1929 г. за падпольную камсамольскую дзейнасць арыштаваны і зняволены ў слонімскую турму, потым — у гродзенскі астрог (1929—30 гг.).

У 1930 г. камуністычным падполлем накіраваны ў БССР. Працаваў у Мінску ў газеце «Звязда», вучыўся ў БДУ. У 1932 г. адкліканы ЦК КПЗБ у Заходнюю Беларусь. Член цэнтральнай рэдакцыі КПЗБ у Варшаве, адзін з фактычных рэдактараў легальнага неафіцыйнага органа КПЗБ «Беларуская газета» (Вільня). Прадстаўнік ЦК КПЗБ у Цэнтры нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Адзін з арганізатараў Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў (снежань 1933 г.— пачатак сакавіка 1934 г.). 4.1.1934 г. арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы, засуджаны на 8 гадоў турэмнага зняволення. Вызвалены Чырвонай Арміяй з гродзенскай турмы ў верасні 1939 г. Працаваў у лідскай раённай газеце «Уперад». У Вялікую Айчынную вайну сувязны атрада імя Р. І. Катоўскага брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага партызанскага злучэння Баранавіцкай вобл., разведчык спецгрупы «Буравеснік». У 1944—45 гг. адказны сакратар навагрудскай раённай газеты «Звязда», у 1945—47 гг. старшы навуковы супрацоўнік, намеснік дырэктара Літаратурнага музея Я. Купалы ў Мінску.

Друкаваўся з 1928 г. (вершы і паэма «Непераможная»). У першым пасмяротным зборніку В. П. Таўлая «Выбранае» (1947 г.) змешчаны палымяныя паэтычныя цыклы астрожных вершаў («Лукішскія вершы», «Таварышу маёй вясны», «Бацьку») і паэм («Таварыш», «Песня пра сухар»). Лёс рэвалюцыянера, высакароднасць рэвалюцыйных ідэалаў, гераіка-вызваленчай барацьбы працоўных Заходняй Беларусі супраць польскай буржуазіі, за ўз'яднанне з БССР, мужнасць беларускіх партызан і антыфашыстаў — асноўныя тэмы яго творчасці. Паэзія В. П. Таўлая вызначаецца высокай грамадзянскасцю, рэвалюцыйным гуманізмам, духоўнай еднасцю з народам і яго лёсам. Аўтар публіцыстычных нарысаў пра рэвалюцыйна-вызваленчую і антыфашысцкую барацьбу, літаратурна-крытычных артыкулаў пра творчасць Я. Купалы, П. Пестрака, Я. Брыля. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы А. Міцкевіча, І. Крылова. Мно-



420. *Помнік на магіле В. П. Таўлая.*

гія творы пісьменніка перакладзены на рускую, украінскую, літоўскую, грузінскую, карэйскую і інш. мовы. Выдадзены «Выбраныя творы» (1951 г.), «Вершы і паэмы» (1955 г.), «Творы» (1961 г.), «Выбраныя вершы і паэмы» (1967 г.). Памёр В. П. Таўлай 27.4.1947 г. Яго імем названы вуліцы ў гарадах і вёсках Беларусі, імя паэта прысвоена бібліятэкам у Лідзе і Баранавічах.

У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Арочка М. Валянцін Таўлай: Крытыка-біяграфічны нарыс.— Мн., 1969; Воткович Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все.— Мн., 1979; Калеснік У. Аповесць пра Таўлая.— Полымя, 1964, № 10, 1965, № 8—9; Валянцін Таўлай: Дакументы, успаміны, артыкулы.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**421. МАГІЛА ТРУСА** Паўлюка (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Паўлюк (Павел Адамавіч) Трус нарадзіўся 23.4.1904 г. у в. Нізок Уздзенскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Мінскі белпедтэхнікум (1927 г.), вучыўся ў БДУ (1928—29 гг.). Працаваў у рэдакцыі газеты «Палеская праўда» (Гомель, 1927—28 гг.). Член літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Друкаваўся з 1923 г. Выйшлі зборнікі «Вершы» (1925 г.), «Ветры буйныя» (1927 г.), паэмы «Юны змаганец» і «Астрожнік» (1925 г.). Аўтар няскончаных фальклорна-рамантычных паэм «Цыганка» (1926 г.), «Чырвоныя ружы» (1929 г.), «Сірата Алеся» (1925—29 гг.) і інш. Паэма «Дзесяты падмурак» (1928 г.) прысвечана 10-й гадавіне Кастрычніка. У сваіх творах адлюстроўваў падзеі Грамадзянскай вайны, уславіў сацыялістычныя пераўтварэнні ў краіне, рэвалюцыйны энтузіязм камсамольцаў 1920-х гадоў, веліч часу. Яго паэзіі ўласцівы рамантычная прыўзнятасць, спалучэнне публіцыстычна-грамадзянскіх матываў з мяккай лірычнасцю, творчае выкарыстанне народна-песенных сродкаў, рытміка-меладычная напеўнасць. Выступаў у друку з агітацыйнымі і сатырычнымі вершамі, гумарыстычнымі вершаванымі апавяданнямі. Выдадзены Збор твораў (1934 г.), «Выбраныя творы» (1953 г.), «Выбранае: Вершы і паэмы» (1979 г.) і інш. Многія творы паэта перакладзены на рускую, украінскую, польскую і інш. мовы. Памёр П. Трус 30.8.1929 г. Яго імя прысвоена Уздзенскай раённай бібліятэцы.

У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам паэта.

*Літ.:* Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць.— Мн., 1968; Глебка П. Паэзія барацьбы і перамогі.— Мн., 1973, с. 166—172; Чорны К. Думкі пра Паўлюка Труса.— Зб. тв. Мн., 1975, т. 8. *М. М. Казлоўская.*

**422. МАГІЛА ТУРАНКОВА** Аляксея Яўлампавіча (гіст.).

Беларускі савецкі кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1940 г.) А. Я. Туранкоў нарадзіўся 9.1.1886 г. у Пецярбургу ў сям'і рабочага. Скончыў харавыя курсы пры Пецярбургскай кансерваторыі (1904 г.). Вучыўся ў Пецярбургскай кансерваторыі (1911—14 гг.). Працаваў у прыватных сімфанічных аркестрах. З 1918 г. у Гомелі (адзін з арганізатараў і педагог музычнай школы, кіраўнік самадзейных харавых гурткоў, артыст гарадскога сімфанічнага аркестра, загадчык музычнай секцыі аддзела народнай асветы). З 1934 г. у Мінску. Адзін з пачынальнікаў жанраў масавай песні, хору, раманса ў беларускай музыцы. Паэтычнасцю, лірызмам, непасрэднай сувяззю з рознымі жанрамі нацыянальнага музычнага фальклору, дасціпным народным гумарам вызначалася яго опера «Кветка шчасця» (паказана на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 г.). Сярод іншых твораў: опера «Яснае світанне» (пастаўлена ў 1958 г., у новай музычнай рэдакцыі Г. Вагнера ў 1963 г.), балет для дзяцей «Лясная казка» (1952 г.), «Беларуская сюіта» ў 4 частках, «Беларуская фантазія» (абедзве 1933 г.), «Піянерская сюіта» (1955 г.), «Паэма аб міры і працы» (1957 г.) для сімфанічнага аркестра, кантата «Пушкіну» для салістаў, хору і сімфанічнага аркестра, «Рапсодыя» для струннага квартэта, 2 струнныя квартэты, скрыпічныя і фартэпіянныя п'есы, рамансы на вершы А. Пушкіна, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, П. Глебкі і інш. Аўтар музыкі да драматычных спектакляў і кінафільмаў, апрацоўваў беларускіх і рускіх народных песень для голасу з фартэпіяна. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1938—47 гг. Памёр А. Я. Туранкоў 27.9. 1958 г.

У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт на пастаменце. *Г. М. Ярмоленка.*

**423. МАГІЛА ФІЛІПСКІХ** Яўгена Фёдаравіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза Я. Ф. Філіпскіх нарадзіўся 15.6.1914 г. у г. Жданаў у сям'і рабочага. Член КПСС з 1939 г. Скончыў Днепрапятроўскі транспартны тэхнікум (1935 г.), вучыўся ў Данецкім індустрыяльным інстытуце (1938—39 гг.). У Вялікую Айчынную вайну з кастрычніка 1941 г. камандзір партызанскай групы, у ліпені 1942 г.— чэрвені 1943 г. камандзір партызанскага атрада «Полымя», у сакавіку — чэрвені 1943 г. камандзір партызанскай брыгады «За Радзіму» імя А. К. Флегантава, у чэрвені 1943 г.— ліпені 1944 г. камандзір партызанскай брыгады «Полымя» Мінскай вобл., адначасова ў кастрычніку 1942 г.— ліпені 1944 г. член Пухавіцкага падпольнага райкома КП(б)Б. Партызаны брыгады «Полымя» пад яго кіраўніцтвам правялі больш за 140 дыверсій па падрыву варожых эшалонаў, у час аперацыі «Рэйкавая вайна» ў жніўні 1943 г. падарвалі больш за 1,5 тыс. рэек, двойчы ўзрывалі мост цераз р. Блужа. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. Пасля вайны



421. *Помнік на магіле Паўлюка Труса.*




422. *Помнік на магіле А. Я. Туранкова.*

працаваў загадчыкам транспартнага аддзела Мінскага абкома КПБ. Памёр Я. Ф. Філіпскіх 14.6.1953 г.

У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978. *Г. І. Дулеба.*

**424. МАГІЛА ЦІТОВА** Івана Трафімавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паталагаанатам, акадэмік АН БССР (1940 г.), доктар медыцынскіх навук (1934 г.), прафесар (1927 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1939 г.) І. Т. Цітоў нарадзіўся 20.2.1875 г. у г. Радамышль Житомірскай вобл. у сям'і служачага. Скончыў медыцынскі факультэт Кіеўскага універсітэта (1898 г.). У 1898—1912 гг. працаваў у Кіеве, у 1900—05 гг. служыў у арміі. У 1912—15 гг. выкладчык Кіеўскага універсітэта, у 1915—23 гг. прафесар кафедры паталагічнай анатоміі гэтага універсітэта. З 1923 г. прафесар і загадчык кафедры паталагічнай анатоміі медыцынскага факультэта БДУ (з 1930 г. Мінскі медыцынскі інстытут), адначасова (у 1924—28 гг.) загадчык кафедры судовай медыцыны медыцынскага факультэта БДУ. У 1946—49 гг. загадчык аддзела паталогіі Інстытута тэарэтычнай і клінічнай медыцыны АН БССР. Даследаванні па пытаннях паталагічнай анатоміі чумы, рака, хвароб сардэчна-сасудзістай і дыхальнай сістэм, эпідэмічнага менінгіту, высвятленне ролі гельмінтаў у паталогіі чалавека. Асноўныя працы: «Кіраўніцтва для практычных заняткаў па паталагічнай гісталогіі» (1924 г.), «Асновы паталагічнай анатоміі» (ч. 1—2, 1935—37 гг.) і інш. Памёр І. Т. Цітоў 27.11.1949 г.

У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *М. М. Казлоўская.*



*425. Помнік на магіле А. Р. Чарвякова.*

**425. МАГІЛА ЧАРВЯКОВА** Аляксандра Рыгоравіча (гіст.).

Савецкі дзяржаўны дзеяч А. Р. Чарвякоў нарадзіўся 25.2.1892 г. у в. Дукора Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. у сям'і служачага. Член КПСС з 1917 г. Вучыўся ў гарадскім вучылішчы ў Вільні. Быў чорнарабочым, пісарам. Скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут (1915 г.). У 1910 г. вытрымаў экзамены на годнасць народнага настаўніка, працаваў у прыходскім вучылішчы ў Віленскай губерні (1910—13 гг.). Быў прызваны ў царскую армію (1915 г.), накіраваны ў Аляксандраўскае ваеннае вучылішча, якое скончыў у 1916 г. Удзельнічаў у рэвалюцыйных армейскіх гуртках і арганізацыях, у беларускіх бежанскіх арганізацыях у Петраградзе. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі. У лютым — маі 1918 г. камісар Беларускага нацыянальнага камісарыята (Белнацкома) пры Народным Камісарыяце па справах нацыянальнасцей РСФСР, вёў культурна-асветную работу. У Чырвонай Арміі з ліпеня 1918 г.— камісар дывізіі, начальнік аддзела Усерасійскага бюро ваенных камісараў, адначасова працаваў у беларускіх секцыях РКП(б). Член Часовага рабоча-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі. 1.1.1919 г. у ліку 5 членаў урада ў Смаленску падпісаў Маніфест аб абвяшчэнні БССР. У 1919 г. камісар асветы БССР, намеснік народнага камісара асветы Літоўска-Беларускай ССР, загадчык культурна-асветнага аддзела Палітупраўлення Заходняга фронту. У 1920 г. начальнік аддзела РВС Заходняга фронту, старшыня Мінскага губернскага ВРК, Ваенрэўкома БССР. Удзельнік мірных перагавораў з Польшчай у Рызе (кастрычнік 1920 г.). З 1920 г. старшыня ЦВК БССР, адначасова ў 1920—24 гг. старшыня СНК БССР, з 1922 г. адзін са старшынь ЦВК СССР. Прымаў удзел у падрыхтоўцы стварэння Саюза СССР, у распрацоўцы пяцігадовых планаў развіцця народнай гаспадаркі СССР і БССР, Канстытуцый СССР і БССР. Член ЦБ у 1920—24 гг. і ЦК КП(б)Б з 1924 г., член Бюро ЦК КП(б)Б з 1924 г. Член ЦВК СССР і яго Прэзідыума з 1922 г., член ЦВК БССР у 1919—37 гг. і яго Прэзідыума. Член ЦВК Літоўска-Беларускай ССР у 1919 г. Аўтар прац па гісторыі Беларусі. Памёр А. Р. Чарвякоў 16.6. 1937 г. Яго імем названы вуліца і завулак у Мінску, яго імя прысвоена Свіслацкай сярэдняй школе ў Пухавіцкім р-не.

У 1938 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Круталевич В. А. Рождение Белорусской Советской Республики.— Мн., 1975; Якутов В. Д., А. Г. Червяков: Страницы биографии.— Мн., 1978. *А. Г. Шчарбатаў.*

**426. МАГІЛА ЧАРНУХІНА** Яфіма Абрамавіча (гіст.).

Удзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гадоў на Беларусі Я. А. Чарнухін нарадзіўся 3.8.1879 г. у Віцебску ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1898 г. Член Кіеўскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа» (1898 г.). У 1899 г. зняволены царскімі ўладамі. Пасля вызвалення вёў рэвалюцыйную прапаганду ў Віцебску (1900—04 гг.), Вільні (1904—06 гг.). У 1906 г. сасланы ў Туруханскі край, адкуль уцёк. Працягваў рэвалюцыйную работу ў Мінску. У 1907 г. эміграваў у Англію. На радзіму вярнуўся ў лістападзе 1917 г., прымаў удзел ва ўмацаванні Савецкай улады ў Віцебскай губерні. З 1921 г. на гаспадарчай рабоце ў Віцебску, Горкаўскай вобл., Гомелі, Мінску. Аўтар успамінаў «З далёкага мінулага» (1962 г.). Памёр Я. А. Чарнухін 2.9. 1956.

У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. М. Баскова.*

**427. МАГІЛА ЧОРНАГА** Кузьмы (гіст.).

Беларускі савецкі празаік, драматург, публіцыст К. Чорны (сапраўднае Мікалай Карлавіч Раманоўскі) нарадзіўся 11.6.1900 г. у былым




*427. Помнік на магіле Кузьмы Чорнага.*

маёнтку Боркі Капыльскага р-на ў сям'і парабка. Член КПСС з 1943 г. Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1916—19 гг.), БДУ (1923—25 гг.). У 1920—22 гг. сакратар Цімкавіцкага валаснога рэўкома, настаўнік у в. Цімкавічы Капыльскага р-на, справавод павятовага ваенкамата ў Слуцку, у 1924—28 гг. у рэдакцыі газеты «Беларуская вёска». Старшыня літаратурна-мастацкага аб'яднання беларускіх пісьменнікаў «Узвышша» (1926—31 гг.), літаратурны кансультант кабінета маладога аўтара пры СП БССР (1932—37 гг.). У Вялікую Айчынную вайну жыў у Маскве, супрацоўнічаў у газеце «Савецкая Беларусь», газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», у часопісе «Беларусь».

Друкаваўся з 1921 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Срэбра жыцця» і «Апавяданні» (1925 г.), «Па дарозе», «Пачуцці», «Хвоі гавораць» (усе 1926 г.), «Вераснёвыя ночы» (1929 г.), «Нянавісць» і «Буры» (1930 г.), «Брыгадзіравы апавяданні» (1932 г.). У ранніх творах адлюстроўваў побыт беларускага селяніна-працаўніка, працэс станаўлення новага, савецкага жыцця, рэвалюцыйны энтузіязм людзей, раскрываў унутраныя матывы ўчынкаў чалавека, маральны змест яго паводзін. У раманах «Сястра» (1927—28 гг.) і «Зямля» (1928 г.) імкнуўся зразумець духоўны сэнс падзей, што адбываліся ў краіне ў сярэдзіне 1920-х гг., выявіць тэндэнцыі грамадскіх адносін, сцвярджаў высокія маральныя якасці простага чалавека. Раманы «Вецер і пыл» (1927—29 гг., няскончаны), «Ідзі, ідзі» (1930 г., няскончаны), аповесці «Лявон Бушмар» (1930 г.), «Вясна» (1931 г.), п'еса «Лета» (пастаўлена ў 1932 г.) прысвечаны калектывізацыі, мінулае і сучаснасць беларускага народа ўзнаўляюцца ў іх праз буйныя вобразы-тыпы, а абнаўленне рэчаіснасці паказваецца як складаны, усеабдымны і працяглы працэс. Раман «Бацькаўшчына» (1931 г.) адкрыў задуманы пісьменнікам цыкл твораў, якія расказваюць пра лёс беларускага народа ад часоў прыгону да пабудовы бяскласавага грамадства. Праблема бацькаўшчыны, якая хвалявала беларусаў на працягу стагоддзяў, вырашаецца пісьменнікам у сацыяльна-філасофскім плане, у выніку паняцце радзімы напаўняецца глыбокім гістарычна-канкрэтным зместам. Раманы «Трыццаць год» (1934 г.), «Трэцяе пакаленне» (1935 г.), аповесць «Люба Лук'янская» (1936 г.) расказваюць пра сацыялістычныя пераўтварэнні на Беларусі, выкрываюць згубны ўплыў «філасофіі» ўласніцкага свету на жыццё і лёс простых людзей. Логіка сюжэта, уся сістэма вобразаў вядуць да думкі, што выхаванне новага чалавека ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва — складаны і працяглы працэс і што паспяховае яго ажыццяўленне залежыць не толькі ад карэннага пераўтварэння эканамічных умоў, але і ад паслядоўнага праваджэння ў жыццё гуманістычных ідэй камунізма. Напісаў п'есы «Бацькаўшчына» (паводле аднайменнага рамана, апублікавана ў 1939 г., пастаўлена Беларускім першым дзяржаўным тэатрам у 1932 г., Беларускім тэатрам імя Я. Коласа ў 1966 г.), «Базылевічава сям'я» (1938 г.), «Ірынка» (1941 г., пастаўлена Беларускім першым дзяржаўным тэатрам і Беларускім другім дзяржаўным тэатрам у 1941 г.), у якіх імкнуўся да мастацкай маштабнасці і філасофскай глыбіні ў паказе працаўніка-беларуса і яго драматычнага лёсу ў эпоху войн і рэвалюцыі. У Вялікую Айчынную вайну стварыў раманы «Вялікі дзень» (1941—44 г., няскончаны, апублікаваны ў 1947 г.), «Пошукі будучыні» (1943 г., апублікаваны ў 1950 г.), «Млечны шлях» (1944 г., апублікаваны ў 1954 г.), аповесці «Скіп'ёўскі лес» (1944 г., няскончана, апублікавана ў 1946 г.), «Сумліцкая хроніка» (напісана 1941—44 гг.), зборнікі фельетонаў «Кат у белай манішцы» (1942 г.), апавяданняў «Вялікае сэрца» (1945 г.). У ваенных раманах і апавяданнях выступаў супраць мілітарызму, фашызму, уласніцтва, сцвярджаў веру ў чалавека, у яго будучыню. Прозе К. Чорнага гэтага часу характэрна эпічная і філасофская сталасць. У публіцыстычных і крытычных артыкулах абгрунтоўваў неабходнасць развіцця беларускай прозы па шляху паглыблення яе народнасці, мастацкага гістарызму і псіхалагізму, філасофскага асэнсавання падзей сучаснасці. Гумарыстычныя творы сабраны ў зборніку «Вяселле ў Скіп'ёўскім Пераброддзі» (1971 г.). Выдадзены «Выбраныя творы» (1934, 1947 гг.), Зборы твораў у 6 (1954—55 гг.) і 8 (1972—75 гг.) тамах. Пераклаў на беларускую мову аповесці «Капітанская дачка», «Станцыйны даглядчык», «Дуброўскі», «Трунар» А. Пушкіна, п'есы «Рэвізор» М. Гогаля, «Позняе каханне», «Гарачае сэрца» А. Астроўскага, «Варвары» і «Апошнія» М. Горкага, аповесць У. Караленкі «У благой кампаніі» і інш. Творы пісьменніка перакладзены на многія мовы народаў СССР і за мяжою. К. Чорны памёр 22.11.1944 г. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Нясвіжы, Бабруйску, Слуцку. Яго імя прысвоена сярэдняй школе ў в. Цімкавічы, пры якой створаны мемарыяльны музей К. Чорнага.

У 1947 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Адамовіч А. Шлях да майстэрства.— Мн., 1958; яго ж. Беларускі раман.— Мн., 1961; Кузьма Чорны: Зб. матэрыялаў аб жыцці і творчай дзейнасці пісьменніка.— Мн., 1959; Кудравцаў І. Кузьма Чорны.— 2 выд.— Мн., 1962; Луферав М. П. Проза Кузьмы Чорнага.— Мн., 1961; Булацкі Р. В., Сачанка І. І. Кузьма Чорны — публіцыст.— Мн., 1972; Тычына М. А. Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення.— Мн., 1973; Казека Я. Кузьма Чорны: Старонкі творчасці.— Мн., 1980; Пяткевіч А. Сюжэт. Кампазіцыя. Характар.— Мн., 1981.

*В. М. Баскова.*

**428. МАГІЛА ЧЫБІСАВА** Нікандра Яўлампіевіча (гіст.).

Савецкі военачальнік, генерал-палкоўнік (1943 г.), Герой Савецкага Саюза Н. Я. Чыбісаў нарадзіўся 24.10. 1892 г. у станіцы Раманаўская Цымлянскага р-на Растоўскай вобл. Член КПСС з 1939 г. Скончыў Пецяргофскую школу прапаршчыкаў (1915 г.), Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе (1935 г.). У арміі з 1913 г. У 1-ю сусветную вайну камандзір роты, штабс-капітан. З 1918 г. служыў у Чырвонай Арміі. У Грамадзянскую вайну камандзір батальёна, палка, начальнік штаба стралковай брыгады, удзельнічаў у баях з белагвардзейцамі і на Беларусі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг.— начальнік штаба 7-й арміі. З ліпеня 1940 г. намеснік камандуючага войскамі Ленінградскай, са студзеня 1941 г.— Адэскай ваенных акруг. У Вялікую Айчынную вайну намеснік камандуючага войскамі Бранскага фронту (ліпень 1942 г.), камандуючы 38-й ударнай арміі (да кастрычніка 1943 г.), 3-й і 1-й ударных армій (лістапад 1943 г.— май 1944 г.) на Паўднёвым, Бранскім, Варонежскім і 2-м Прыбалтыйскім франтах. Войскі пад яго камандаваннем удзельнічалі ў Варонежска-Касторненскай, Харкаўскай, Белгародска-Харкаўскай, Кіеўскай і Ленінградска-Ноўгарадскай аперацыях. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 20.10. 1943 г. за ўмелае кіраўніцтва войскамі пры фарсіраванні Дняпра, гераізм і мужнасць. З чэрвеня 1944 г. начальнік Ваеннай акадэміі імя М. В. Фрунзе, з сакавіка 1949 г. намеснік старшыні ЦК ДТСААФ СССР, з кастрычніка 1949 г. памочнік камандуючага войскамі Беларускай ваеннай акругі, з 1954 г. у запасе. Памёр Н. Я. Чыбісаў 20.9.1959 г.

У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт.

*Г. І. Дулеба.*

**429. МАГІЛА ЧЫРВОНЫХ ПАРТЫЗАН** (гіст.). Пахаваны 8 партызан, удзельнікаў барацьбы супраць польскіх інтэрвентаў у 1919—20 гг.

У партызанскі атрад, створаны ў кастрычніку 1919 г. пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага партыйнага камітэта, уваходзілі жыхары прыгарадных вёсак Козырава, Калядзічы, Сеніца і інш. Камандзір С. С. Плашчынскі. Партызаны распаўсюджвалі бальшавіцкую літаратуру, вялі агітацыю сярод насельніцтва і польскіх салдат, перадавалі камандаванню Чырвонай

Арміі звесткі аб праціўніку, рабілі дыверсіі на камунікацыях і лініях сувязі, знішчалі жывую сілу ворага. Падпольны партыйны камітэт планаваў нанесці ў маі 1920 г. сіламі партызан Мінскага і Ігуменскага паветаў адначасовы ўдар па варожых камунікацыях. Дэфензіва напала на след падпольшчыкаў і партызан. 27—28.4.1920 г. адбыліся арышты ў Мінску, вёсках Козырава, Калядзічы, Гатава. 24 партызаны былі кінуты ў турмы, 7 мая расстраляны В. С. Васілеўскі, А. І. Кепэ, В. П. Пагірэйчык, С. Р. Плашчынскі, С. С. Плашчынскі, М. Процкі, Л. В. Путырскі, У. В. Шумскі.

У 1923 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**430. МАГІЛА ШКАТЭЛАВА** Уладзіміра Віктаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне лесахіміі і хімічнай тэхналогіі, акадэмік АН БССР (1929 г.), доктар хімічных навук (1889 г.), прафесар (1893 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1938 г.) У. В. Шкатэлаў нарадзіўся 7.5.1861 г. у Пецярбургу ў сям'і служачага. У 1884 г. скончыў Маскоўскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча. У 1884—86 гг. хімік (лабарант) Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. У 1886—93 гг. асістэнт Пятроўска-Разумоўскай акадэміі (цяпер Маскоўская сельскагаспадарчая акадэмія імя К. А. Ціміразева). У 1893—1914 гг. прафесар Новаалександрыйскага інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства. У 1914—23 гг. загадчык кафедры Харкаўскага хіміка-тэхналагічнага інстытута. З 1923 г. прафесар Беларускага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі ў Мінску, з 1925 г. Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. У 1930 г. дырэктар Інстытута хіміі АН БССР. З 1930 г. загадчык кафедры хіміі Беларускага лесатэхнічнага інстытута ў Гомелі, з 1938 г. загадчык лабараторыі лесахіміі Інстытута хіміі АН БССР. Навуковыя працы прысвечаны даследаванням саставу і будовы натуральных смаляных кіслот і шкіпінараў. Арганізаваў здабычу сасновай жывіцы і перапрацоўку яе ў каніфоль і шкіпінар. Практычным вынікам яго даследаванняў з'явілася пабудова Барысаўскага і Бабруйскага каніфольна-шкіпінарных заводаў. Асноўныя працы: «Аб хімічнай будове смол» (1889 г.), «Пра састаў цвёрдай часткі прыроднай смалы і каніфолі» (1939 г.). Памёр У. В. Шкатэлаў 7.10. 1940 г.

У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Скрыган А. І., У. В. Шкатэлаў.— Весці АН БССР. Сер. фізіка-тэхнічных навук, 1961, № 2. *А. Г. Шчарбатаў.*

**431. МАГІЛА ШЧАРБАТАВА** Георгія Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Г. М. Шчарбатаў нарадзіўся 7.5.1919 г. у в. Рэкатка Горацкага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Магілёўскае педагагічнае вучылішча (1938 г.), вучыўся ў Магілёўскім педагагічным інстытуце. Настаўнічаў у Бярэзінскім р-не. Працаваў у рэдакцыях газет «Камунар Магілёўшчыны», «Советская Белоруссия», «Волжская коммуна» (1939—41 гг.). У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. у тыле ворага як карэспандэнт газеты «Савецкая Беларусь». У 1943—44 гг. у газеце «Звязда», што выдавалася падпольна на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Пасля вайны працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда», карэспандэнтам газеты «Известия» па Беларускай ССР, загадчыкам аддзела, намеснікам рэдактара часопіса «Маладосць».

Друкаваўся з 1939 г. Яго творы прысвечаны ўсенароднай партызанскай барацьбе, камсамолу Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Аўтар аповесці «Партызанскія агні» (1950 г.), нарысаў «Камсамол Беларусі ў баях за Радзіму» (1950 г.), «Неспакойныя сэрцы» (1951 г.), зборнікаў аповесцей і апавяданняў «Шумелі пушчы» (1957 г.), «Лясны фронт» (1961 г.). Пераклаў на беларускую мову кнігу Ю. Фучыка «Рэпартаж з-пад шыбеніцы» пад назвай «Слова перад пакараннем смерцю» (1953 г.). Памёр Г. М. Шчарбатаў 2.2.1957 г.

У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. М. Баскова.*

**432. МАГІЛА ЮРЫНА** Аляксея Мікалаевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. М. Юрын нарадзіўся 5.3.1905 г. у г. Трубчэўск Бранскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1926 г. Скончыў Ніжагародскае ваенна-пяхотнае вучылішча (1927 г.), Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе (1938 г.). З 1921 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір 222-й стралковай дывізіі, палкоўнік А. М. Юрын вызначыўся ў Беларускай аперацыі. У чэрвені 1944 г. дывізія прарвала варожую абарону на р. Проня ў Горацкім р-не, фарсіравала Дняпро ў р-не Шклова, захапіла плацдарм на правым беразе ракі. За час баёў знішчыла 8 танкаў, бронемашыну, 20 гармат, 6 мінамётаў, 37 аўтамашын, шмат жывой сілы праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 21.7.1944 г. А. М. Юрын загінуў у баі 26.7.1944 г. Яго імем названы вуліцы ў Трубчэўску і Барнауле.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**433. МАГІЛА ЯФІМАВА** Васіля Аляксандравіча (гіст.).

Беларускі савецкі кампазітар, педагог і харавы дырыжор, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1955 г.) В. А. Яфімаў нарадзіўся 11.11.1881 г. у в. Брудна Варшаўскага ваяводства (ПНР) у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1946 г. Скончыў настаўніцкую семінарыю (1898 г.), Мінскі музычны тэхнікум (1928 г.), Беларускую кансерваторыю (1937 г.). З 1917 г. працаваў у Мінску, выкладаў спевы і музыку ў школах і педагагічным тэхнікуме. Арганізатар і кіраўнік хору Галоўпалітасветы (1921 г.), польскага вакальнага ансамбля Беларускага радыё (1928 г.). У 1937—41 гг. і з 1944 г. педагог Беларускай кансерваторыі (з 1947 г. дацэнт і загадчык кафедры, у 1948—54 гг. намеснік дырэктара). Аўтар 2 струнных квартэтаў, хораў, вакальных дуэтаў, рамансаў, апрацовак беларускіх народных песень, падручніка элементарнай тэорыі музыкі (выдадзены ў 1947 г. і 1952 г.).

Памёр В. А. Яфімаў 25.5.1955 г.

У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Журавлёв Д. Н. Композитор Василий Ефимов: Биогр. очерк.— Мн., 1967. *М. М. Казлоўская.*

## КАЛЬВАРЫЙСКІЯ МОГІЛКІ (праезд Кальварыйскі)

Кальварыйскія могілкі ўзніклі ў 18 ст. Спачатку тут хавалі больш багатых, потым усіх грамадзян. З 1967 г. для пахаванняў закрыты. Плошча 14 га.

**434. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.).




433. *Помнік на магіле В. А. Яфімава.*

Пахаваны 6 мірных жыхароў горада, якіх у 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

**435. МАГІЛА ВІЕРА** Гаўрылы Сямёнавіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец Г. С. Віер нарадзіўся 25.3.1890 г. у в. Пуцунтэй Аргееўскага р-на Малдаўскай ССР у сялянскай сям'і. Вучыўся і працаваў у Мінску ў іканапіснай майстэрні П. Курбатава (1905—10 гг.), у Пецярбургу ў мастака С. Ягорава (1910—12 гг.), там скончыў Школу таварыства заахвочвання мастацтваў (1916 г.), вучыўся ў А. Пісемскага і М. Рорыха. Пасля заканчэння вучобы працаваў у Тамбоўскай губерні. У 1921 г. вярнуўся ў Мінск. У 1922—25 гг. дэкаратар у тэатры «Чырвоная зала», потым выкладчык у чыгуначным тэхнікуме, інш. навучальных установах. Удзельнік мастацкіх выставак з 1925 г. У сваіх карцінах адлюстроўваў нараджэнне савецкага ладу жыцця: «Малады мастак» (1923 г.), «Старое і новае» (1927 г.), «Суботнік» (1932 г.), «Маладыя спартсмены» (1934 г.), «Зборка машыны» (1937 г.), «У ліцейным цэху» (1940 г.), «ФЗВ» (1947 г.) і інш. Звяртаўся да гістарычнага жанру: «Курлоўскі расстрэл» (1924 г.), «Лядовае пабоішча» (1938 г.), «3 ліпеня 1944 года ў Мінску» (1945 г.). Напісаў шэраг партрэтаў: «Змітрок Бядуля» (1924 г.), «Сямейны партрэт» (1927 г.), «Кандрат Крапіва» (1938 г.), «Маці-гераіня» (1946 г.), «Партрэт дачкі» (1947 г.) і інш. Памёр Г. С. Віер 7.3.1964 г.

У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Очерки по истории изобразительного искусства Белоруссии.— М.; Л., 1940; Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960.
*Г. М. Ярмоленка.*

**436. МАГІЛА ДАЛІДОВІЧА** Аляксандра Ільіча (гіст.).

Поўны кавалер ордэна Славы А. І. Далідовіч нарадзіўся 2.8.1914 г. у в. Ямнае Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Мар'інагорскі сельскагаспадарчы тэхнікум, працаваў бухгалтарам у Маскве. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1941 г. Камандзір аддзялення разведкі А. І. Далідовіч вызначыўся ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні Ленінградскай вобл. і на тэрыторыі Германіі. 21.6.1944 г. з групай разведчыкаў пад агнём ворага пераправіўся цераз р. Свір каля г. Ладзейнае Поле, уварваўся ў варожыя траншэі, падавіў 5 агнявых кропак і захапіў пры гэтым 38 салдат і афіцэраў праціўніка. 28.2.1945 г. у складзе групы байцоў А. І. Далідовіч пад моцным абстрэлам разведаў абарону ворага і ў баі знішчыў 3 гітлераўцаў. У сакавіку 1945 г. у час бою за г. Кольберг знішчыў варожы кулямёт з разлікам. 4.4.1945 г. разведчыкі на чале з сяржантам А. І. Далідовічам уварваліся на пярэдні край абароны гітлераўцаў, выбілі ворага з 1-й і 2-й ліній траншэй і вялі бой да падыходу стралковых падраздзяленняў. Пасля вайны жыў і працаваў у Мінску.

Памёр А. І. Далідовіч 29.4.1952 г.

У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*Г. І. Дулеба.*

**437. МАГІЛА ДАМЕЛЯ** Яна (гіст.).

Жывапісец, рысавальшчык Я. Дамель нарадзіўся ў 1780 г. у г. Елгава Латвійскай ССР у сям'і ваеннага. Скончыў Віленскі універсітэт (1809 г.). Выкладаў у ім на кафедры рысунка і жывапісу (1809—20 гг.). Удзельнік адной з масонскіх арганізацый. У 1820—22 гг. у ссылцы (Табольск, Томск, Іркуцк, Енісейск). З 1822 г. жыў у Мінску. З яго імем звязана развіццё гістарычнага жанру ў жывапісе Беларусі 1-й паловы 19 ст. Вядомы яго карціны «Смерць князя Панятоўскага», «Смерць магістра крыжаносцаў Ульрыха фон Юнгінгена ў бітве пад Грунвальдам» (абедзве 1820-я гады), «Хрышчэнне славян», «Чарнецкі пераплывае Піліцу», «Смерць Глінскага ў няволі», «Вызваленне Т. Касцюшкі з цямніцы» (1830-я гады), «Твардоўскі паказвае Сігізмунду Аўгусту цень яго жонкі Барбары», «Напалеон на бівуаку пад Аўстэрліцам», «Цар Аляксандр I падпісвае ў Вільні амністыю», «Адступленне французаў праз Вільню ў 1812 г.», «Разбітыя войскі Напалеона на плошчы ратушы ў Вільні». Трактоўка гістарычнага матэрыялу сведчыць аб імкненні мастака адлюстроўваць рэальныя падзеі. У 1820-я гады выканаў эскізы і рысункі на тэмы Айчыннай вайны 1812 г., у 1821—22 г.— побыту народаў Сібіры, якія ўвайшлі ў «Дзённік падарожжа ў Сібір», пейзажы. Распісаў Евангелісцкі касцёл у Табольску і касцёл бернардзінцаў у Томску. Сярод работ пейзажы Мінска і яго ваколіц («Вадзяны млын», «Дрэвы пад вадой»). Напісаў партрэты князя Д. Радзівіла, графаў І. Храптовіча, К. Тышкевіча, рэктара Віленскага універсітэта Ш. Малеўскага, мінскага губернатара Гіцэвіча, прафесара Я. Рустэма, М. Спяранскага, Е. Кабылінскага, «М. Равіч з сынам», «А. Горват з жонкай», «Валатковіч з жонкай» і інш. У 1820—30-х гадах напісаны карціны на рэлігійныя сюжэты: «Святая дзева з дзіцем», «Хрыстос, які нясе крыж», «Адрачэнне святога Пятра», «Палажэнне ў труну», «Маленне аб чашы», «Спакушэнне Хрыста», «Агар у пустыні». Творчасць мастака сфарміравалася пад уплывам класіцызму, але ў шэрагу твораў адчуваецца імкненне да рамантызму. Памёр Я. Дамель 18.8.1840 г. Пахаваны ў касцёле.

*Літ.:* Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960; Дробаў Л. Н. Беларускія мастакі XIX стагоддзя.— Мн., 1971; яго ж. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974.
*В. Б. Караткевіч.*

**438. МАГІЛА ЛУЧЫНЫ** Янкі (гіст.).

Беларускі паэт-дэмакрат Я. Лучына (сапраўднае Неслухоўскі Іван Люцыянавіч) нарадзіўся 6.7.1851 г. у Мінску ў сям'і юрыста. Скончыў Мінскую класічную гімназію (1870 г.), вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце на матэматычным факультэце (1870—71 гг.), скончыў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут (1877 г.). Працаваў у Тыфлісе ў чыгуначных майстэрнях (1877—79 гг.), потым у тэхнічным бюро Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінску. Пісаў на беларускай, польскай, рускай мовах. Упершыню выступіў у друку ў 1886 г. (верш «Не дзеля славы ці разліку», на рускай мове). У 1887 г. напісаў вершы на беларускай мове «Усёй трупе дабрадзея Старыцкага беларускае слова», «Дабрадзею артысту Манько». Друкаваўся ў газеце «Минский листок», «Паўночна-Заходнім календары на 1893 год», польскіх часопісах і штотыднёвіках «Głos Polski» («Польскі голас»), «Kłosy» («Калоссе»), «Kraj» («Край»), «Życie» («Жыццё») і інш. выданнях. У 1898 г. выйшаў першы зборнік Я. Лучыны «Паэзія» (на польскай мове, Варшава, увайшлі паэма «Паляўнічыя замалёўкі» і «Розныя вершы»), у 1903 г. на беларускай мове зборнік «Вязанка» (Пецярбург, пасмяротна). Шмат арыгінальных і перакладных твораў на беларускай і польскай мовах асталося ў рукапісах. У паэзіі адлюстроўваў гаротны лёс роднага краю, нядолю беларускага мужыка, услаўляў чалавека працы, імкнуўся раскрыць яго ўнутраны свет, выказваў глыбокую веру ў народныя сілы («Што думае Янка, везучы дровы ў горад», «Стары ляснік», «Абразкі з палявання»). Шэраг вершаў з народна-песеннай сімволікай выразна алегарычнага сэнсу («Сівер», «Вясна», «Мароз»). Творчасць прасякнута любоўю да роднай зямлі, беларускага народа («Роднай старонцы»). Яго пяру належаць вершы-наследаванні У. Сыракомлю («Не я пяю — народ божы», «Горсць шпаніцы», «Ямшчык»). Аўтар нарыса «З крывавых дзён» (1889 г.), у якім узнаўляюцца карціны паўстання 1863—64 гг. на Міншчыне. Збіраў беларускі фальклор, запісы дасылаў П. В. Шэйну. Перакладаў на польскую мову з рускай (І. Крылоў, М. Някрасаў), нямецкай (Г. Гэйне), старажытнагрэчаскай (Гамер). Частку твораў М. Лучыны з польскай на беларускую мову пераклалі М. Клімковіч, М. Машара, П. Пестрак, К. Ці-

тоў. У 1953 г. выдадзены Выбраныя творы. Памёр Я. Лучына 16.7.1897 г.

*Літ.:* Майхровіч С. Янка Лучына: Жыццё і творчасць.— Мн., 1952; Пачынальнікі / Склад. Г. В. Кісялёў.— Мн., 1977.

*В. Б. Караткевіч.*

**439. МАГІЛА МАТУСЕВІЧА** Івана Іванавіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Мінскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну І. І. Матусевіч нарадзіўся 20.1.1884 г. у в. Лапаровічы Мінскага р-на. Член КПСС з 1917 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. Перад Вялікай Айчыннай вайной працаваў старшынёй прафсаюзнай арганізацыі Мінскага чыгуначнага вузла. Летам 1941 г. у акупіраваным нямецка-фашысцкімі захопнікамі Мінску разам з Ф. С. Кузняцовым арганізаваў падпольную партыйную групу на заводзе імя А. Ф. Мяснікова, члены якой узрывалі чыгуначныя эшалоны, выводзілі са строю сістэму водазабеспячэння, паравозы і вагоны, вялі прапагандысцкую работу сярод насельніцтва, перапраўлялі людзей у партызанскія атрады. З мая 1942 г. член, з верасня — сакратар Чыгуначнага падпольнага райкома КП(б)Б г. Мінска. Арыштаваны 2.10.1942 г., загінуў у фашысцкіх засценках 28.11. 1942 г. Імем патрыёта названа вуліца ў Мінску.

У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла. *В. Б. Караткевіч.*

**440. МАГІЛА ПАЛІКАРПОВІЧА** Канстанціна Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі археолаг, кандыдат гістарычных навук (1951 г.) К. М. Палікарповіч нарадзіўся 6.3.1889 г. у в. Белая Дуброва Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. у сям'і святара. Скончыў у 1909 г. Магілёўскую духоўную семінарыю. Настаўнічаў. З 1925 г. член Гомельскага губернскага бюро краязнаўства. Вывучаў археалагічныя помнікі Гомельшчыны. З 1926 г. член гісторыка-археалагічнай камісіі Інбелкульта. З 1929 г. навуковы супрацоўнік, у 1944—62 гг. загадчык сектара археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. Вёў шырокія абследаванні ў басейнах Дняпра і Сожа, у выніку на археалагічную карту было нанесена больш за 300 помнікаў. Адкрыў і вывучыў стаянкі эпохі палеаліту (Бердыж, Елісеевічы, Падлужжа, Юравічы, Юдзінава), мезаліту (Журавель, Крыжы), помнікі неаліту і бронзы (Крывіна, Стрэліца), склаў карту знаходак астанкаў жывёл чацвярцічнага перыяду на тэрыторыі Беларусі. Выказаў думку аб пранікненні чалавека на тэрыторыю паўднёвай Беларусі ў сярэднім палеаліце, даказаў, што тэрыторыя паўднёвай Беларусі была заселена ў эпоху верхняга палеаліту, адкрыў рэшткі жытлаў гэтага перыяду, аснову якіх складалі чарапы, круглыя і трубчастыя косці маманта. Аўтар манаграфіі «Палеаліт Верхняга Падняпроўя» (1968 г.), многіх артыкулаў, прысвечаных пераважна старажытнасцям каменнага веку. Памёр К. М. Палікарповіч 20.2.1963 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла. *Т. М. Каробушкіна.*

**441. МАГІЛА ФІЛІПОВІЧА** Арцёма Мікітавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны-інфекцыяніст, член-карэспандэнт АМН СССР (1960 г.), доктар медыцынскіх навук, прафесар (1951 г.) А. М. Філіповіч нарадзіўся 24.3.1901 г. у в. Еўлічы Слуцкага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1946 г. У 1926 г. скончыў Ленінградскі медыцынскі інстытут. З 1927 г. працаваў у Барысаве, Мінску, Валагодскай вобл. У 1939—51 гг. загадчык кафедры інфекцыйных хвароб Іжэўскага, у 1951—61 гг.— Мінскага медыцынскіх інстытутаў. Працы па пытаннях клінікі, дыягностыкі, лячэння вострага сезоннага менінгіту, бруцэлёзу і інш. Памёр А. М. Філіповіч 28.12.1961 г.

У 1963 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Артемий Никитич Филиппович.— Здравоохранение Белоруссии, 1971, № 4.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**442. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.).

У 117 адзіночных і 8 брацкіх магілах пахавана больш за 200 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1944 г. ці памерлі ад ран у шпіталі.

**443. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.).

У 6 магілах пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941 г. і 1944 г. У 1947 г. на магілах пастаўлены абеліск.

**КОЗЫРАЎСКІЯ МОГІЛКІ (вул. Аэрадромная)**

**444. МАГІЛА СЯНЬКО** Івана Мікалаевіча, Канстанціна Іванавіча і Уладзіміра Іванавіча.

З першых дзён акупацыі камсамольцы браты Уладзімір і Канстанцін Сянько ўступілі на шлях падпольнай барацьбы з гітлераўцамі. У верасні 1941 г. яны разам з бацькам І. М. Сянько стварылі падпольную групу, устанавілі сувязь з партызанамі.

17.11.1943 г. у засадным баі загінуў Уладзімір. Пахаваны партызанамі ў в. Азярычына Пухавіцкага р-на. У верасні 1946 г. перапахаваны на Козыраўскія могілкі ў Мінску. У снежні 1943 г. арыштаваны Канстанцін, праз некалькі дзён — бацька падпольшчыкаў. 11.1.1944 г. пасля катаванняў бацька і сын павешаны ў Цэнтральным скверы. Камсамольцы Уладзімір і Канстанцін Сянько пасмяротна ўзнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны I ступені. У Мінску каля сярэдняй школы № 29 братам Сянько пастаўлены помнік (гл. артыкул № 296 «Помнік братам Сянько У. І. і К. І.»).

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Ваупшасов С. А. Партизанская хроника.— 2 изд.— Мн., 1971; Лещеня С. К. С паролем горкома.— Мн., 1981.

*М. І. Эпалетаў.*

**445. МАГІЛА ТАРАСІКАВА** Мікалая Лукіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец і графік М. Л. Тарасікаў нарадзіўся 3.12. 1908 г. у г. Краснаярску ў сям'і рабочага. Да 1923 г. жыў і вучыўся ў Омску, затым у Гомелі, дзе адначасова скончыў агульнаадукацыйную школу і студыю выяўленчага мастацтва С. А. Каўроўскага. Працаваў з 1925 г. рабочым у чыгуначных майстэрнях. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум (1930 г., вучыўся ў Ф. Фогта і В. Руцая), Адэскі мастацкі інстытут (1935 г., у прафесара А. Шаўкуненкі). У 1936—37 гг. служыў у Чырвонай Арміі. З 1937 г. працаваў у Рэспубліканскім Доме народнай творчасці (Мінск).

У Вялікую Айчынную вайну на Заходнім фронце. Пасля дэмабілізацыі ў 1946 г. займаўся творчай і педагагічнай дзейнасцю — кіраваў студыяй выяўленчага мастацтва Рэспубліканскага Дома народнай творчасці, выкладаў у Беларускім політэхнічным інстытуце і ў Мінскім мастацкім вучылішчы. З 1952 г. да 1957 г. працаваў у Інстытуце літаратуры і мастацтва АН БССР. У творчай дзейнасці аддаваў перавагу станковаму жывапісу (пераважна акварэлі), станковай і кніжнай графіцы. Найбольш цікавыя працы мастака: «Рыбакі Адэсы» (1935 г.), «Паравознае дэпо» (1938 г.), «Гарадскі пейзаж», «Плошча Свабоды», «Аўтапартрэт» (1944 г.), «Камсамолка», «Інтэр'ер» і «Партрэт акадэміка М. М. Нікольскага» (1940 г.), «Кветкі» (1941 г.), партрэт кампазітара М. Аладава (1946 г.), «Элеватар у Мінску» (1955 г.), «Народны ўмелец» (1956 г.), «Мужчынскі партрэт» (1957 г.), «Каля каўша» (1958 г.), «Будаўніца» (1960 г.), «Сяргей Ясенін», «Натуршчыца» (абодва 1964 г.), «Нацюрморт з півонямі, макамі і рамонкамі» (1965 г.), групавы партрэт «Беларускія кампазітары». Аўтар серыі лірычных пейзажаў «Пейзажы Беларусі» (1947—48 гг.), «Пейзажы Крыма» (1948—49 гг.), «Народныя майстры» (1957 г.), нацюрмортаў і інш. М. Л. Тарасікаў выканаў размалёўкі ў фае Беларускага тэатра оперы і балета на тэму опер «Русалка» і «Міхась Падгорны» і размалёўку ў дзіцячым кінатэатры.

Аўтар шэрагу артыкулаў па праблемах беларускага мастацтва, буклетаў пра мастакоў Я. Красоўскага, А. Шаўчэнку, І. Давідовіча.

Памёр М. Л. Тарасікаў 11.7.1965 г.

У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Мікола Тарасікаў: успаміны аб жыцці і творчасці мастака / Склад. Я. Я. Красоўскі.— Мн., 1977. *Г. М. Ярмоленка.*

**ПАЎНОЧНЫЯ МОГІЛКІ (Даўгінаўскі тракт)**

**446. МАГІЛА АБЕЛІЁВІЧА** Льва Майсеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1963 г.) Л. М. Абеліёвіч нарадзіўся 24.12.1911 г. у г. Вільнюсе. Вучыўся на юрыдычным факультэце Вільнюскага універсітэта, з 1935 г. у Варшаўскай кансерваторыі. У 1941 г. скончыў Беларускую кансерваторыю (клас В. Залатарова). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1944—45 гг. удасканальваў кампазітарскае майстэрства ў Маскоўскай кансерваторыі (клас М. Мяскоўскага). Асноўнае ў творчасці Л. М. Абеліёвіча — сімфанічная музыка, якой характэрны напружанасць тэматычнага развіцця, вострая канфліктнасць вобразаў, а таксама камерная. Шмат працаваў у вакальнай лірыцы. Аўтар 4 сімфоній (1962, 1964, 1967, 1970 гг.), «Гераічнай паэмы» (1957 г.), сімфанічнай карціны (1958 г.), арыі для скрыпкі і камернага аркестра (1973 г.), канцэрта для фартэпіяна (1976 г.), вакалізу для голасу з аркестрам, прысвечанага памяці Дз. Шастаковіча (1976 г.), фартэпіяннага трыо (1955 г.), санат для фартэпіяна (1953 г.; 1973 г., 2-я рэдакцыя 1979 г.; 1974 г.), для цымбалаў і фартэпіяна, фартэпіяннага цыкла «Фрэскі» (2 сшыткі; 1965, 1972 гг.), рамансаў і вакальных цыклаў на вершы М. Багдановіча, Я. Коласа, Ф. Цютчава, Р. Бёрнса, А. Пушкіна, «Партызанскіх балад» на вершы А. Астрэйкі, М. Танка, У. Дубоўкі, «Ваенных балад» на вершы розных паэтаў, хораў, песень. Пісаў музыку для тэатра, кіно, тэле- і радыёспектакляў. Яму належыць шэраг апрацовак беларускіх, рускіх, польскіх народных песень. Памёр Л. М. Абеліёвіч 8.12.1985 г.

*Літ.:* Калеснікава Н. Леў Абеліёвіч.— Мн., 1970; Дубкова Т. А. Сімфоніі Л. Абеліёвіча.— У яе кн.: Беларуская сімфонія. Мн., 1974.

**447. МАГІЛА АЛЕКСАНДРОВІЧА** Сцяпана Хусейнавіча (гіст.).

Беларускі савецкі літаратуразнавец, крытык і празаік, доктар філалагічных навук (1972 г.), прафесар (1974 г.) С. Х. Александровіч нарадзіўся 15.12.1921 г. у г. Капыль у сям'і гарбара. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна (1950 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Настаўнічаў, працаваў у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». З 1959 г. навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР, з 1963 г. у БДУ. Друкаваўся з 1946 г. Даследаванні па гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры, кнігадрукавання і перыядычнага друку. Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (т. 1, 1965 г.). Аўтар краязнаўчых і біяграфічных нарысаў пра Я. Купалу, М. Багдановіча, Ц. Гартнага, К. Чорнага і інш. [кнігі «Незабыўнымі сцежкамі» (1959 г., 2-е выд. 1962 г.), «Па слядах паэтычнай легенды» (1965 г.), «Тут зямля такая...» (1974 г.), «Вальнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі» (1975 г.)], аповесцей «Ад роднае зямлі...» (1962 г.), «На шырокі прастор» (1972 г.), «Крыжавыя дарогі» (1985 г.) — пра жыццё і творчасць Я. Коласа, «Далёкія зарніцы» (1967 г.) — пра гераізм савецкага народа ў Вялікую Айчынную вайну. Апублікаваны таксама кнігі «Старонкі братняй дружбы» (1960 г.), «Гісторыя і сучаснасць» (1968 г.), «Кнігі і людзі» (1976 г.), «Слова — багацце» (1981 г.). Памёр С. Х. Александровіч 1.5.1986 г.

У 1987 г. на магіле пастаўлены помнік — гранітная глыба з барэльефам.

**448. МАГІЛА АЛЯКСЕЕВА** Мікалая Іванавіча (гіст.).

Рускі савецкі пісьменнік, заслужаны работнік культуры БССР (1980 г.) М. І. Аляксееў нарадзіўся 17.12.1898 г. у Пецярбургу ў сям'і дворніка. Член КПСС з 1920 г. Скончыў Акадэмічныя курсы пры Ваенна-інжынернай акадэміі (1935 г.). Працаваў падручным, электраманцёрам у тэхнічных канторах Пецярбурга, на трыкатажнай фабрыцы, Абухаўскім заводзе. З 1915 г. у арміі. Удзельнік Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 г. у Петраградзе. У Савецкай Арміі (1918—58 гг.) прайшоў шлях ад радавога да генерал-маёра інжынерных войск. Ваяваў з інтэрвентамі на Заходнім фронце, прымаў удзел у баях на Хасане, у час Вялікай Айчыннай вайны на Заходнім і 3-м Беларускім франтах.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1939 г. У 1946 г. выйшаў раман «Якаў Жалязноў», які ўваскрашае падзеі Грамадзянскай вайны. Раманы «Выпрабаванне» (1957 г.) і «Па закліку сэрца» (1974 г.) прысвечаны подзвігу савецкага народа ў Вялікую Айчынную вайну. У цэнтры аповесці «Асколкам абарванае жыццё» (1978 г.) неўміручы вобраз двойчы Героя Савецкага Саюза, генерала арміі І. Д. Чарняхоўскага. Пра нашых пагранічнікаў і баявыя будні пагранзаставы аповесць «Сухар» (1971 г.). Пяру пісьменніка належаць таксама аповесць «Вось так, Мікалай!» (1964 г.), дакументальная кніга «Насустрач перамозе» (у сааўтарстве з М. І. Крыловым, І. Г. Драганам, 1970 г.), п'еса «Сястра Варвара» (пастаўлена ў 1960 г. Бабруйскім вандроўным тэатрам). Памёр М. І. Аляксееў 12.8.1985 г.

*Літ.:* Шней-Красиков К. Не ради славы...— Неман, 1963, № 5; Круговых Н. С думой о Родине.— Тамсама, 1978, № 11; Кудраўцаў І. Выпрабаванне агнём.— Беларусь, 1964, № 2; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *І. Ф. Кудраўцаў.*

**449. МАГІЛА БАГДАНЧУКА** Аляксандра Іванавіча (гіст.).

Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі А. І. Багданчук нарадзіўся 25.12.1905 г. у г. Ляхавічы Брэсцкай вобл. у сям'і чыгуначніка. У першую сусветную вайну сям'я эвакуіравалася ў Пензенскую губерню. На радзіму А. І. Багданчук вярнуўся ў 1922 г. З 1923 г. член КПЗБ. Быў сакратаром Слонімскага райкома, Баранавіцка-Слонімскага акруговага камітэта КПЗБ. Неаднаразова быў арыштаваны польскімі ўладамі, каля 7 гадоў сядзеў у турмах. Пасля заканчэння партыйнай школы КПЗБ (1934 г.) сакратар Навагрудскага акруговага камітэта КПЗБ. Арганізаваў у снежні 1934 г. выданне падпольнай газеты «На акупанта». Летам 1935 г. упаўнаважаны ЦК КПЗБ па кіраўніцтву паўстаннем нарачанскіх рыбакоў. Быў арыштаваны, але ўцёк з-пад канвою і з дапамогаю М. Танка нелегальна перапраўлены цераз граніцу ў СССР. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Памёр А. І. Багданчук 26.11.1976 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Вотковіч Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все.— Мн., 1979. *В. Б. Караткевіч.*

**450. МАГІЛА БАГУШЭВІЧА** Юрыя (гіст.).

Рускі савецкі пісьменнік Юрый (Георгій Канстанцінавіч) Багушэвіч нарадзіўся 23.4.1917 г. у г. Оршы ў сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1944 г. У 1941 г. скончыў факультэт мовы і літаратуры Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1949 г. жыў у Мінску, працаваў у рэдакцыях газет «Піянер Беларусі», «Мінская праўда», «Физкультурник Белоруссии», быў карэспандэнтам газеты «Советский спорт», літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1961—64 гг. галоўны рэдактар Мінскай кінастудыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў.

Друкаваўся з 1938 г. Аўтар аповесцей «Пабрацімы» (1955 г.), «Дрэва дружбы» (1959 г.), «У гарадку над Нёманам» (1973 г.), «Дырэктар «зялёнай» школы» (1975 г.), зборнікаў прозы «Аповесць і апавяданні» (1970 г.), «Юнацтва прыйшло» (1977 г.), п'есы «Сябры» (з В. А. Зубам, пастаўлена ў 1958 г., выдадзена ў 1960 г.), шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Для творчасці пісьменніка характэрны тэмы дружбы, патрыятызму савецкіх людзей, услаўленне гераічных падзей Вялікай Айчыннай вайны. Пераклаў на

рускую мову асобныя творы П. Пестрака, А. Рылько, П. Кавалёва, аповесць Р. Няхая «Сарочы лес» і інш. Памёр Ю. Багушэвіч 18.3.1983 г.

У 1986 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Г. І. Дулеба.*

**451. МАГІЛА БОКУНА** Германа Мацвеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі спартсмен і трэнер па фехтаванню, майстар спорту СССР (1949 г.), заслужаны трэнер БССР (1961 г.), заслужаны трэнер СССР (1965 г.), заслужаны дзеяч фізічнай культуры БССР (1971 г.) Г. М. Бокун нарадзіўся 27.8. 1922 г. у в. Ясень Уздзенскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. Скончыў Беларускі інстытут фізічнай культуры (1949 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1950—57 гг. начальнік вучэбна-спартыўнага аддзела, інструктар, трэнер па фехтаванню ў Беларускім савеце і Мінскім абласным савеце фізкультурна-спартыўнага таварыства «Дынама». Удзельнік Алімпійскіх гульняў 1952 г. (Хельсінкі). З 1957 г. загадчык кафедры фехтавання і бокса Беларускага інстытута фізічнай культуры, з 1962 г. трэнер Цэнтральнага савета саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый БССР. У 1964—77 гг. намеснік старшыні Спартыўнага камітэта БССР. У 1977—78 гг. дырэктар Рэспубліканскай школы вышэйшага спартыўнага майстэрства.

Выступаў па фехтаванню на рапірах. Чэмпіён СССР 1954 г. Чэмпіён БССР у 1948—50 гг. Памёр Г. М. Бокун 8.3.1978 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам. *М. Б. Батвіннік.*

**452. МАГІЛА БРАНАВІЦКАГА** Аляксандра Юльянавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне патафізіялогіі, член-карэспандэнт АН БССР (1950 г.), доктар медыцынскіх навук (1940 г.), прафесар (1948 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1971 г.) А. Ю. Бранавіцкі нарадзіўся 16.3. 1914 г. у в. Танежыцы Слуцкага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў 2-і Ленінградскі медыцынскі інстытут (1936 г.). У 1941—44 гг. загадчык кафедры патафізіялогіі Іркуцкага медыцынскага інстытута, у 1944—50 гг. загадчык лабараторыі Інстытута агульнай і эксперыментальнай паталогіі і адначасова (з 1948 г.) загадчык кафедры патафізіялогіі Маскоўскага стаматалагічнага інстытута. У 1950—53 гг. дырэктар Інстытута тэарэтычнай медыцыны АН БССР, у 1953—59 гг. загадчык аддзела ўзроставай фізіялогіі Інстытута аховы мацярынства і дзяцінства Міністэрства аховы здароўя БССР. З 1958 г. загадчык кафедры патафізіялогіі, у 1962—63 гг. прарэктар па навуковай рабоце Мінскага медыцынскага інстытута. Даследаванні па праблемах рэактыўнасці арганізма, шоку, следавых рэакцый у паталогіі, ролі нервовай рэцэпцыі ў паталогіі, кампенсатарных прыстасаванняў і па метадалагічных пытаннях медыцыны. Займаўся вывучэннем дваістай, унутрана супярэчлівай прыроды хваробы, прыроды злаякасных новаўтварэнняў. Асноўныя працы: «Уплыў выключэння дыстантных аналізатараў на цячэнне паталагічных працэсаў» (1958 г.), «Эксперыментальная тэрапія некаторых форм гіпаксіі галаўнога мозга» (1966 г.) і інш. Быў старшынёй навуковага таварыства патафізіёлагаў БССР. Памёр А. Ю. Бранавіцкі 24.7.1975 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *А. Г. Шчарбатаў.*

**453. МАГІЛА БУРНОСАВА** Васіля Емяльянавіча (гіст.).

Беларускі савецкі крытык і літаратуразнавец В. Е. Бурносаў нарадзіўся 18.8.1914 г. у в. Зеляньюва Круглянскага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. У 1939 г. скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава ў Мінску, Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б) у 1947 г. З 1933 г. працаваў брыгадзірам калгаса «Новы свет» Бельскага р-на, токарам на аўтарамонтным заводзе ў Магілёве, рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1942—43 гг. інструктар ЦК ВЛКСМ, намеснік рэдактара газеты «Чырвоная змена», потым на журналісцкай рабоце. З 1964 г. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, у 1968—75 гг. галоўны рэдактар выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Літаратурна-крытычнай працай займаўся з 1947 г. Артыкулы В. Е. Бурносава прысвечаны партыйнасці і народнасці літаратуры, сацыялістычнаму рэалізму, творчасці Л. Талстога, М. Гогаля, А. Кальцова, М. Горкага, У. Маякоўскага, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Лынькова, А. Куляшова і інш. пісьменнікаў. Памёр В. Е. Бурносаў 19.7.1984 г.

У 1986 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *А. Г. Шчарбатаў.*

**454. МАГІЛА ГАНЧАРЫКА** Міхаіла Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне фізіялогіі раслін, член-карэспандэнт АН БССР (1969 г.), доктар біялагічных навук, прафесар (1960 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1972 г.) М. М. Ганчарык нарадзіўся 12.11. 1899 г. у в. Кляннік Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1927 г. Скончыў Горацкі сельскагаспадарчы інстытут у 1924 г. З 1926 г. працаваў асістэнтам кафедры фізіялогіі раслін Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1929—34 гг. вучоны спецыяліст, загадчык кафедры батанікі, намеснік дырэктара, в. а. дырэктара Інстытута біялогіі АН БССР. У 1947—48 гг. старшы навуковы супрацоўнік Арлоўскай бульбяной вопытнай станцыі, у 1949—56 гг. старшы навуковы супрацоўнік, дырэктар Ігарскай вопытнай станцыі Інстытута сельскай гаспадаркі Крайняй Поўначы. З 1956 г. выкладаў у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, з 1958 г. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута біялогіі АН БССР, з 1961 г. загадчык аддзела фотасінтэзу, з 1967 г. дырэктар, з 1972 г. загадчык лабараторыі, з 1976 г. навуковы кансультант Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР. Распрацоўваў навуковыя асновы палярнага земляробства, вывучаў пытанні вырошчвання бульбы, капусты і інш. культур ва ўмовах Крайняй Поўначы, уплыў іонаў хлору і хлорзмяшчальных калійных угнаенняў на фізіялагічныя працэсы раслін. Выдадзены працы «Уплыў экалагічных умоў на фізіялогію культурных раслін» (1962 г.), «Фізіялогія і біяхімія бульбы» (1979 г., разам з А. С. Вечарам) і інш. Памёр М. М. Ганчарык 11.4.1986 г.

У 1987 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Г. І. Дулеба.*



*452. Помнік на магіле А. Ю. Бранавіцкага.*

**455. МАГІЛА ГАРУЛЁВА** Мікалая Аляксандравіча (гіст.).

Рускі савецкі пісьменнік, заслужаны работнік культуры БССР (1979 г.) М. А. Гарулёў нарадзіўся 6.11.1919 г. у в. Баева Дубровенскага р-на Віцебскай вобл. у сям'і настаўніка. Член КПСС з 1943 г. Скончыў у 1941 г. аддзяленне рускай мовы і літаратуры Магілёўскага педагагічнага інстытута. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1947 г. працаваў адказным сакратаром рэдакцыі Магілёўскай абласной газеты «За Радзіму», рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, адказным сакратаром рэдакцыі часопіса «Советская Отчизна», загадчыкам літаратурнай часткі рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага, адказным сакратаром бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі».

Друкаваўся з 1939 г. У 1950 г. выйшаў першы зборнік вершаў «Аднагодкі», выдадзены зборнікі «У дарозе» (1956 г.), «Прызнанне» (1976 г.), аповесць для дзяцей і юнацтва «Сябры-таварышы» (1954 г.), «Новы настаўнік» (1974 г.), раман «Бывайце, любімыя» (1979 г.) — пра жыццё студэнцкай моладзі напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны, цяжкія выпрабаванні, якія выпалі на іх долю ў першыя месяцы вайны. Зрабіў літаратурны запіс кнігі М. Ф. Каралёва «Сыны народа» (1955 г.). Аўтар п'ес «Другое знаёмства» (пастаўлена ў 1960 г., выдадзена ў 1961 г.), «Калі любіш» (выдадзена ў 1963 г.), «Мая дачка» (выдадзена ў 1966 г.), «Помста Палавінкіна» (пастаўлена ў 1968 г.) і інш., прысвечаных маральна-этычным праблемам. Напісаў кінааповесць «Наследнікі Мацвея Маркавіча» (1963 г.) і сцэнарыі трох дакументальных фільмаў. Перакладаў на рускую мову творы Я. Коласа, Э. Самуйлёнка, П. Галавача, М. Зарэцкага, І. Мележа, М. Танка і інш. Памёр М. А. Гарулёў 7.5.1980 г.

У 1982 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт на пастаменце.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *У. У. Бянько.*



455. *Помнік на магіле М. А. Гарулёва.*

**456. МАГІЛА ГАЎРУКА** Юркі (гіст.).

Беларускі савецкі перакладчык і паэт Юрка (Юрый Паўлавіч) Гаўрук нарадзіўся 23.4.1905 г. у Слуцку ў сям'і рабочага. У 1925 г. скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава ў Маскве. У 1925—35 гг. дацэнт кафедры беларускай мовы і літаратуры ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, чытаў курс зарубежнай літаратуры і літаратур народаў СССР у Магілёўскім педагагічным інстытуце. З 1935 г. жыў і працаваў у Карэліі, Усходняй Сібіры, Комі АССР. У 1957—67 гг.— загадчык літаратурнай часткі Беларускага тэатра імя Я. Купалы.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1925 г. перакладам камедыі У. Шэкспіра «Сон у летнюю ноч» для Беларускай тэатральнай студыі ў Маскве. Выйшлі ў свет кнігі краязнаўчых нарысаў «Вясковыя рыскі» (1926 г.), паэтычных перакладаў «Кветкі з чужых палёў» (1928 г.), зборнік арыгінальных і перакладных вершаў «Іскры з крэменя» (1969 г.). Пераклаў на беларускую мову трагедыі У. Шэкспіра «Атэла», «Антоній і Клеапатра», «Кароль Лір»; верш Г. Гейнэ «Ткачы», яго паэму «Германія. Зімняя казка» (1959 г.), балады Ф. Шылера, раманы «Любіць будзем заўтра» (1960 г.) А. Стыля, «І ўзыходзіць сонца (Фэст)» (1976 г.) Э. Хемінгуэя, «Дачка Урагану» (1977 г.) К. С. Прычард, а таксама асобныя творы Дж. Байрана, А. Пушкіна, У. Сасюры, Л. Украінкі, П. Ваньнько. У перакладах Ю. Гаўрука ў тэатры імя Я. Купалы пастаўлены п'есы «Ліса і вінаград» Г. Фігейрэду, «Забыты ўсімі» Назыма Хікмета, «Тысяча франкаў узнагароды» В. Гюго, «Канец — справе вянец» У. Шэкспіра, «Дзядзька Ваня» А. Чэхава, «Мяцеліца» і «Залатая карэта» Л. Лявонава; у тэатры імя Я. Коласа п'есы «Улада цемры» Л. Талстога, «Багна» А. Астроўскага, «Уніжаныя і зняважаныя» паводле Ф. Дастаеўскага, «Доктар філасофіі» Б. Нушыча, «Гамлет» У. Шэкспіра. У перакладзе Ю. Гаўрука на рускую мову надрукаваны аповесць «Люба Лук'янская» (1965 г.) і раманы «Пошукі будучыні» (1968 г.) К. Чорнага і «Серадзібор» (1966 г.) П. Пестрака. Аўтар артыкулаў па пытаннях тэорыі і практыкі мастацкага перакладу. Памёр Ю. П. Гаўрук 18.2.1979 г.

У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Пра час і пра сябе.— Мн., 1966; Нікіфаровіч В. Перакладчык «Гамлета».— Полымя, 1965, № 4.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**457. МАГІЛА ГАХАВА** Фёдара Дзмітрыевіча (гіст.).

Беларускі савецкі матэматык, акадэмік АН БССР (1966 г.), доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар (1943 г.) Ф. Дз. Гахаў нарадзіўся 6.2. 1906 г. у г. Чэркеску Стаўрапольскага краю ў сям'і рамесніка. Член КПСС з 1964 г. Скончыў Казанскі універсітэт (1930 г.). Працаваў выкладчыкам у Свярдлоўскім пединстытуце, у 1938—39 гг. дацэнт кафедры матэматычнага аналіза Казанскага універсітэта. З 1939 г. дацэнт, загадчык кафедры Паўночна-Асецінскага пединстытута (г. Арджанікідзе), прафесар, загадчык кафедры Казанскага, Растоўскага універсітэтаў. У 1961—75 гг. прафесар, загадчык кафедры матэматычнага аналізу, з 1975 г. прафесар-кансультант БДУ.

Навуковыя працы прысвечаны краявым задачам аналітычных функцый і сінгулярным інтэгральным ураўненням, у прыватнасці, ураўненням тыпу звёрсткі. Даў закончанае рашэнне асноўнай краявой задачы аналітычных функцый, т. зв. задачы Рымана (або задачы лінейнага спалучэння). Асноўныя працы «Аб краявой задачы Рымана» (1937 г.), «Выключныя выпадкі інтэгральных ураўненняў тыпу звёрсткі і ўраўнення першага рода» (1962 г., разам з




456. *Помнік на магіле Ю. П. Гаўрука.*

В. І. Смагінай), «Ураўненні тыпу звёрсткі» (1978 г., разам з Ю. І. Чэрскім) і інш. Памёр Ф. Дз. Гахаў 30.3. 1980 г.

У 1982 г. на магіле пастаўлены помнік — 2 стэлы пад вуглом, на адной з іх барэльефная выява вучонага.

*Літ.:* Ф. Д. Гахов.— Успехи математических наук, 1976, т. 31, в. 4; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.
*М. В. Батвіннік.*

**458. МАГІЛА ГОДНЕВА** Ціхана Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі фізіёлаг раслін і біяхімік, акадэмік АН БССР (1940 г., член-карэспандэнт з 1936 г.), доктар біялагічных навук (1935 г.), прафесар (1926 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1944 г.) Ц. М. Годнеў нарадзіўся 24.3.1893 г. у г. Задонску Ліпецкай вобл. у сям'і служачага. Скончыў прыродазнаўчае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта Маскоўскага універсітэта (1916 г.). У 1919—27 гг. працаваў у Астраханскім сельскагаспадарчым, Іванаўскім хіміка-тэхналагічным інстытутах. У 1927—41 гг. прафесар Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, прафесар, загадчык кафедры БДУ. У 1941—44 гг. прафесар Свярдлоўскага сельскагаспадарчага інстытута, у 1945—73 гг. загадчык лабараторыі хларафілу ў Інстытуце эксперыментальнай батанікі і Інстытуце фотабіялогіі АН БССР. У 1946—56 гг. член Прэзідыума АН БССР. Старшыня рэспубліканскага навуковага савета па праблеме фотасінтэзу, член рэдакцыйнага савета ўсесаюзнага часопіса «Физиология растений».

Выказаў ідэі пра фарміраванне хларафілу праз монапірол і лейказлучэнні парфірынаў, аб адзіным працэсе сінтэзу хларафілу і гему з вугляводаў, аб адносна пастаяннай колькасці хларафілу ў адзінцы аб'ёму хларапластаў. Даказаў, што папярэднікам хларафілу з'яўляецца протахларафілід, упершыню ператварыў яго ў цемнаце ў хларафіл. Даследаваў стан фотасінтэтычных пігментаў у антагенезе ў залежнасці ад светлавых і тэмпературных умоў. Апублікаваны працы: «Будова хларафілу і метады яго колькаснага выяўлення» (1952 г.), «Хларафіл. Яго будова і ўтварэнне ў расліне» (1963 г.), «Пытанні біясінтэзу хларафіла і караціноідаў» (1965 г., у сааўтарстве) і інш. Прэмія АН СССР імя К. А. Ціміразева 1967 г. Памёр Ц. М. Годнеў 29.10. 1982 г.

У 1986 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Шлык А. А., Ганчарык М. М., Ц. М. Годнеў.— Весці АН БССР. Сер. біялагічных навук, 1973, № 2; Шлык А. А. Тихон Николаевич Годнев и развитие современных представлений о биосинтезе и состоянии хлорофилла: Библиогр. научных трудов Тихона Николаевича Годнева.— У кн.: Хлорофилл. Мн., 1974.
*А. Г. Шчарбатаў.*

**459. МАГІЛА ГРАМОВІЧА** Івана Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, заслужаны работнік культуры БССР (1978 г.) І. І. Грамовіч нарадзіўся 26.7.1918 г. у в. Закружжа Мінскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага (1939 г.). Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1956 г.). З 1939 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў загадчыкам аддзела, адказным сакратаром часопіса «Беларусь» (1946—53 гг.), адказным сакратаром часопіса «Маладосць» (1953—58 гг.), у апараце Саюза пісьменнікаў БССР (1958—69 гг.), намеснікам рэдактара часопіса «Вожык» (1970—75 гг.).

Друкаваўся з 1935 г. У 1939 г. выйшла аповесць «Чужы грунт». Выдаў зборнік «Апавяданні» (1947 г.) пра гераізм савецкіх людзей у Вялікую Айчынную вайну, зборнік нарысаў «Агні пяцігодкі» (1949 г.). Аўтар зборнікаў апавяданняў «Шырокія азёры» (1951 г.), «Да ясных вышыняў» (1952 г.), «У лесе на палянцы» (1957 г.), «Рына-Марына» (1958 г.). Кнігі для дзяцей «Першага верасня» (1949 г.), «Сонца скрозь воблакі» (1964 г.) і інш. прасякнуты любоўю да прыроды, рамантычным настроем. Аповесці «На крутой гары» (пачатковая назва «Да ясных вышыняў») і «Сям'я Вішнёвых» (пачатковая назва «Далі сабе слова», 1970 г.) прысвечаны станаўленню характару савецкага чалавека, праблемам умацавання сям'і, перажытаму ў вайну і ў адпаўленчы перыяд. У сатырычных і гумарыстычных зборніках «Нарасць» (1961 г.), «Вадалей — Гэтакдалей» (1975 г.), «Залатая бранзалетка» (1977 г.) асуджае абывацельшчыну, зазнайства, высмейвае мяшчанства. У 1978 г. выйшлі «Выбраныя творы» ў 2 тамах, у 1983 г. кніга «У сховах памяці і сэрца. Успаміны, нататкі». Аўтар сцэнарыяў фільмаў «Памяццю сэрца» (1962 г.), «Паэт у дарозе» (1963 г.), «Паўлік і партфель» (1963 г.), публіцыстычных артыкулаў, нарысаў. Творы пісьменніка перакладаліся на рускую і іншыя мовы народаў СССР. Памёр І. І. Грамовіч 2.7.1986 г.

У 1988 г. на магіле пастаўлены помнік — бюст (скульпт. М. Рыжанкоў) на пастаменце.

**460. МАГІЛА ГРЫГАР'ЯНЦА** Армена Багратавіча (гіст.).

Беларускі савецкі мастак тэатра, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1955 г.) А. Б. Грыгар'янц нарадзіўся 15.9.1918 г. у г. Андыжане Узбекскай ССР. Скончыў у 1939 г. Ленінградскае мастацка-педагагічнае вучылішча, працаваў у тэатрах Ташкента, Вільнюса. З 1953 г. у Мінску: галоўны мастак рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага, з 1962 г.— Беларускага тэатра імя Я. Купалы. Адначасова з 1958 г. выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Дэкарацыі і афармленне спектакляў, выкананыя А. Грыгар'янцам, вызначаюцца манументальнасцю кампазіцыйнага і вобразнага вырашэння, шматграннасцю паказу эпохі, каларыстычным багаццем. Аформіў каля 200 спектакляў, у т. л. для тэатраў Масквы, Ташкента, Вільнюса, Ленінграда, Ерэвана, Кіева, Віцебска, Днепрапятроўска. Лепшыя з іх: у рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага — «Кароль Лір» У. Шэкспіра (1953 г.), «Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага (1957 г.); у тэатры імя Я. Купалы — «Вогненны мост» Б. Рамашова (1954 г.), «Сала-



457. *Помнік на магіле Ф. Дз. Гахава.*



460. *Помнік на магіле А. Б. Грыгар'янца.*

вей» З. Бядулі (1956 г.), «Забыты ўсімі» Назыма Хікмета (1958 г.), «Чацвёрты» К. Сіманава (1962 г.), «Я, бабуся, Іліко і Іларыён» Н. Думбадзе і Р. Лордкіпанідзе, «У мяцеліцу» Л. Лявонава (абодва 1965 г.), «Людзі на балоце» паводле І. Мележа (1966 г., з Б. Герлаванам), «На дне» М. Горкага, «Рудабельская рэспубліка» паводле С. Грахоўскага (абодва 1968 г.), «Амністыя» М. Матукоўскага (1970 г.), «Залатая карэта» Л. Лявонава, «У ноч зацьмення месяца» М. Карыма (абодва 1972 г.), «Забыць Герастрата» Р. Горына (1974 г.), «Пратакол аднаго пасяджэння» А. Гельмана (1975 г.), «Гульня з кошкай» І. Эркеня (1976 г.); у тэатры оперы і балета БССР — «Багема» Дж. Пучыні (1968 г.). З 1950-х гадоў супрацоўнічаў са студыяй «Беларусьфільм», мастак кінафільмаў «Палеская легенда» (1957 г.), «Чырвонае лісце» (1958 г., абодва з У. Белавусавым) і інш. Памёр А. Б. Грыгар'янц 24.3.1976 г.

У 1977 г. устаноўлена надмагілле.

*Літ.:* Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва Савецкай Беларусі.— Мн., 1958; Гісторыя беларускага тэатра. Т. 3. Кн. 1—2.— Мн., 1987.

*Г. М. Ярмоленка.*

**461. МАГІЛА ГУСЕВА** Сілана (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Сілан (Сіла Нічыпаравіч) Гусеў нарадзіўся 14.8.1897 г. у в. Калясянка Чавускага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1924 г. Скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску (1933 г.). З 1913 г. батрачыў, працаваў на суконнай фабрыцы ў Пецярбургу, служыў на Балтыйскім флоце. Удзельнік Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый, Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. З 1921 г. на партыйнай рабоце. У 1930-я гады рэдагаваў літаратурны альманах «Атака», быў літкансультантам Саюза пісьменнікаў БССР, потым працаваў на Беларускім радыё, пасля вайны — ва ўстановах культуры і ў друку БССР. Друкаваўся з 1933 г. Аўтар зборніка апавяданняў «За жыццё» (1934 г.), аповесці «Шлях юнака» (ч. 1, 1938 г.; фрагменты ч. 2 апублікаваны ў часопісе «Полымя», 1969 г.). Творчасць пісьменніка прысвечана барацьбе за перамогу Савецкай улады, падзеям Грамадзянскай вайны. Памёр С. Гусеў 31.3.1986 г.



463. *Помнік на магіле С. Г. Жуніна.*

**462. МАГІЛА ДЗЯРГАЯ** Сяргея Сцяпанавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт С. С. Дзяргай нарадзіўся 17.9.1907 г. у Мінску ў сям'і рабочага-чыгуначніка. У 1924 г. скончыў Мінскую чыгуначную школу, у 1927 г.— 3-гадовыя агульнаадукацыйныя курсы. У сярэдзіне 1930-х гадоў працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда». У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі. У 1951—53 гг. загадчык аддзела паэзіі часопіса «Полымя». У 1953—67 гг. адказны сакратар, рэдактар аддзела літаратуры ў часопісе «Вожык».

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1938 г. У 1953 г. выйшаў першы зборнік вершаў і паэм «Вачыма будучыні». Аўтар кніг «Крэмень аб крэмень» (1958 г.), «Цепча» (1959 г.), «Чатыры стыхіі» (1962 г., Літаратурная прэмія імя Я. Купалы 1964 г.), «Свята ў будзень» (1964 г.), «Салата з дзядоўніку» (1967 г.), «Выбранае» (1967 г.), «Вершы» (1974 г.), «На вогненнай сцяжыне» (1977 г.).

Творчасць С. Дзяргая прасякнута грамадзянскімі і патрыятычнымі матывамі любві да Радзімы, людзей, прыроды. Паэмы і вершы вызначаюцца багатай мастацкай палітрай, у іх арганічна спалучаюцца лірычная пранікнёнасць і філасофскі роздум. У паэзіі шырока выкарыстоўваюцца традыцыйныя і песенна-народныя рытмы і вобразы, фальклорна-народная лексіка, выявіўся грамадзянскі тэмперамент, філасофскі склад мыслення, арыгінальнасць стылю. Гістарычнаму мінуламу беларускага народа прысвечаны паэмы «Напрадвесні» (1960 г.), «Над спакоем крыніц: Янку Купалу» (1962 г.), стварыў гістарычны эпас «Пушкін на шашы Энтузіястаў» (1953 г.). Вядомы як перакладчык. На беларускую мову пераклаў асобныя творы А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, М. Лермантава, Э. Багрыцкага, В. Брусава, А. Блока, У. Маякоўскага, С. Шчыпачова, Л. Украінкі, П. Тычыны, М. Асеева, П. Антакольскага, Б. Пастарнака, К. Сіманава, Я. Райніса, М. Рыльскага, У. Бехера, Г. Зэгерс і інш. Памёр С. С. Дзяргай 25.12. 1980 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Арочка М. Песня шчырасці і роздуму.— Полымя, 1965, № 5; Лойка А. Зайдзі ў мой дом.— Там жа, 1967, № 9; Бярозкін Р. Пошук сапраўднага.— У яго кн.: Постаці. Мн., 1971.

*У. У. Бянько.*

**463. МАГІЛА ЖУНІНА** Сяргея Георгіевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. Г. Жунін нарадзіўся 18.8.1906 г. у с. Мядзведзіцкае Кімрскага р-на Калінінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1928 г. У Вялікую Айчынную вайну на Заходнім фронце — памочнік камандзіра танкавага палка. Удзельнік абароны Беластока, Гродна, Ваўкавыска, Слоніма. У 1941 г. арганізоўваў партызанскія атрады ў Круглянскім і Шклоўскім р-нах Магілёўскай вобл. З красавіка 1942 г. камандзір атрада «Сяргея» (пазней 36-ы партызанскі атрад). У кастрычніку 1942 г.— жніўні 1943 г. камандзір 8-й Круглянскай партызанскай брыгады. Пад яго кіраўніцтвам 28.8.1942 г. партызаны разграмілі чыгуначную станцыю Слаўнае на лініі Мінск — Орша, разбурылі чыгуначнае палатно і больш як на суткі спынілі рух. З жніўня да снежня 1943 г. камандзір Круглянскай ваенна-аператыўнай групы. У снежні 1943 г. 8-я партызанская брыгада на чале з палкоўнікам С. Г. Жуніным здзейсніла рэйд у Брэсцкую вобласць, правяла шмат баявых аперацый: у красавіку — чэрвені 1944 г. на ўчастку чыгункі Баранаві-



464. *Помнік на магіле С. С. Забродскага.*

чы — Брэст народныя мсціўцы пададрвалі і пашкодзілі 27 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай ворага, знішчылі 5 мастоў, падарвалі больш за 750 рэек, бронедрызіну з аховай, падбілі 71 аўтамашыну. Званне Героя Савецкага Саюза С. Г. Жуніну прысвоена 5.8.1944 г. У 1944—50 гг. на савецкай і гаспадарчай рабоце ў Брэсце і Мінску. Аўтар кнігі «Ад Дняпра да Буга» (1974 г.). Памёр С. Г. Жунін 27.1.1977 г. У Мінску на тэрыторыі школы № 100 устаноўлены бюст героя, створаны мемарыяльны музей.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**464. МАГІЛА ЗАБРОДСКАГА** Сяргея Сцяпанавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне гідрадынамікі і цепла- і масаабмену, член-карэспандэнт АН БССР (1966 г.), доктар тэхнічных навук (1960 г.), прафесар (1964 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1978 г.) С. С. Забродскі нарадзіўся 4.12.1911 г. у г. Нясвіжы ў сям'і служачых. Член КПСС з 1947 г. Скончыў энергетычны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1939 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г. навуковы супрацоўнік Энергасектара, потым Інстытута энергетыкі АН БССР, у 1957—79 гг. загадчык лабараторыі дысперсных сістэм Інстытута цепла- і масаабмену АН БССР.

Навуковыя даследаванні цепла- і масаабмену ў дысперсных сістэмах з цвёрдымі часцінкамі. Прапанаваў формулу для разліку каэфіцыента цеплаабмену ў кіпячым слоі, распрацаваў асновы выкарыстання дысперсных матэрыялаў у якасці высокаэфектыўных прамежкавых цепланосьбітаў для безакісляльнага нагрэву металу, стварэння ахоўных атмасфер і інш. Апублікаваны працы: «Гідрадынаміка і цеплаабмен у псеўдаажыжаным (кіпячым) слоі» (1963 г.), «Высокатэмпературныя ўстаноўкі з псеўдаажыжаным слоем» (1971 г.) і інш. Быў членам нацыянальнага камітэта АН СССР па цепла- і масаабмену, ганаровага рэдакцыйнага савета міжнароднага часопіса «International Journal of Heat and Mass Transfer» («Цепла- і масаперанос»). Памёр С. С. Забродскі 7.1.1980 г.

На магіле пастаўлена стэла, на адной з граней якой барэльефная выява вучонага.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *В. Б. Караткевіч.*

**465. МАГІЛА ЗУБА** Валянціна Андрэевіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік В. А. Зуб нарадзіўся 27.12.1914 г. у Мінску ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1969 г. Скончыў сцэнарны факультэт Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве (1943 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1943—44 гг. працаваў на сцэнарнай студыі Камітэта па справах кінематаграфіі СССР у Маскве. У 1944—46 гг. старшы рэдактар сцэнарнага аддзела кінастудыі «Беларусьфільм». У 1946—75 гг. загадчык аддзела часопіса «Вожык».

Друкавацца пачаў у 1938 г. Аўтар аповесцей для дзяцей «Таямнічы надпіс» (1953 г.), «Як Толік праславіўся» (1962 г.), зборнікаў гумарыстычных апавяданняў «Сапернікі» (1958 г.), «Пад вясновым сонцам» (1960 г.), «Чорны кот» (1973 г.). Выступае ў галіне драматургіі. Выйшлі зборнікі п'ес: «Дружная сям'я» (1955 г.), «Злавацца не трэба» (1961 г., аднайменная п'еса пастаўлена ў 1960 г.), «Аперацыя «Шафа» (1967 г.), «П'есы» (1972 г.), «Нарада ў ЗАГСе» (1972 г.), «Не спяшайцеся караць» (1975 г.), п'есы «Сябры» (з Ю. Багушэвічам, пастаўлена ў 1958 г.), «Марат Казей» (1963 г., пастаўлена ў 1964 г.), «Нечаканае знаёмства» (1963 г., пастаўлена ў 1962 г.), «Юнацтва рыцара» (пастаўлена ў 1970 г.). Аўтар лібрэта аперэты «Тыдзень вечнага кахання» (музыка Ю. Семянякі, пастаўлена ў 1975 г.), многіх аднаактовак. Па яго сцэнарыях на кінастудыі «Беларусьфільм» створана некалькі навукова-папулярных фільмаў (фільм «Фіноз» адзначаны дыпломам на міжнародным фестывалі дакументальных фільмаў у Чэхаславакіі ў 1964 г.). Асобныя творы пісьменніка перакладзены на рускую, украінскую, грузінскую і латышскую мовы. Памёр В. А. Зуб 11.8. 1980 г.

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *У. У. Бянько.*

**466. МАГІЛА ЗЮВАНАВА** Міхаіла Акімавіча (гіст.).

Беларускі савецкі спявак, народны артыст БССР (1954 г.) М. А. Зюванаў нарадзіўся 11.2.1906 г. у г. Грозны у сям'і рабочага. Скончыў Бакінскі педагагічны інстытут, Беларускую дзяржаўную кансерваторыю імя А. В. Луначарскага (1951 г.). З 1938 г. саліст Бакінскага, з 1941 г.— Ташкенцкага тэатраў оперы і балета. У 1942 г. саліст Дзяржаўнага хору СССР, потым у тэатры оперы і балета г. Фрунзе, Вялікім тэатры ў Маскве, з 1944 г. у г. Перм. У 1949—61 гг. саліст Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета БССР. З 1962 г. выкладчык сольных спеваў у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

М. А. Зюванаў стварыў на беларускай сцэне шэраг цікавых вобразаў класічнага рэпертуару: Сусанін («Іван Сусанін» М. Глінкі), Барыс («Барыс Гадуноў» М. Мусаргскага), Кончак («Князь Ігар» А. Барадзіна). Каларытныя запамінальныя вобразы ў операх П. Чайкоўскага: Качубей («Мазепа»), Грэмін («Яўген Анегін»). Майстэрства сцэнічнага пераўвасаблення дазваляла М. А. Зюванаву ствараць і камедыйныя вобразы: Карась («Запарожац за Дунаем» С. Гулак-Арцямоўскага), Дон Базіліо («Севільскі цырульнік» Дж. Расіні). Паспяхова выступаў у операх беларускіх кампазітараў: Дураў («Надзея Дурава» А. Багатырова), Даніла і




465. *Помнік на магіле В. А. Зуба.*




466. *Помнік на магіле М. А. Зюванава.*

Анішчук («Дзяўчына з Палесся» і «Міхась Падгорны» Я. Цікоцкага), Якуб («Марынка» Р. Пукста). Памёр М. А. Зюванаў 29.4.1977 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Ж у р а ў л ё ў Д. Шлях акцёра.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960. *М. В. Кірэйшын.*

**467. МАГІЛА ІВАНОВА** Яўгена Аляксеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі матэматык, член-карэспандэнт АН БССР (1977 г.), доктар фізіка-матэматычных навук (1969 г.), прафесар (1970 г.) Я. А. Іваноў нарадзіўся 18.12.1924 г. у г. Арэнбургу ў сям'і служачых. Член КПСС з 1950 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1950 г. скончыў Пінскі настаўніцкі інстытут, у 1956 г.— БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у школах на Брэстчыне. З 1959 г. старшы выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута, з 1962 г. старшы навуковы супрацоўнік, загадчык лабараторыі матэматычнай фізікі Інстытута матэматыкі АН БССР. З 1970 г. дэкан факультэта прыкладной матэматыкі, загадчык кафедры ўраўненняў матэматычнай фізікі БДУ. Навуковыя даследаванні па тэорыі дыфракцыі хваль. Распрацаваў метад строгага рашэння задач дыфракцыі хваляў на некалькіх целах правільнай геаметрычнай формы, заснаваны на выкарыстанні тэарэм складання для элементарных хвалявых функцый, запісаных у лакальных каардынатах, звязаных з адпаведным целам. Пабудаваў алгарытмы лікавага рашэння задач, якія рэалізуюцца на ЭВМ па стандартных праграмах. Асноўныя працы: «Дыфракцыя электрамагнітных хваляў на двух целах» (1968 г.), «Табліцы сфераідальных хвалявых функцый і іх першых вытворных» (т. 1—2, 1973—76 гг., у сааўтарстве). Памёр Я. А. Іваноў 3.7.1985 г.



468. *Помнік на магіле С. П. Каткова.*

**468. МАГІЛА КАТКОВА** Сяргея Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец, педагог, заслужаны настаўнік БССР (1966 г.) С. П. Каткоў нарадзіўся 18.9.1911 г. у в. Скрыпіцына Калышлейскага р-на Пензенскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1931 г. скончыў Пензенскі мастацка-педагагічны тэхнікум. З 1937 г. мастак-педагог і кіраўнік мастацкай студыі пры мінскім Палацы піянераў і школьнікаў. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля дэмабілізацыі працаваў да 1971 г. у Палацы піянераў і школьнікаў. Адначасова выкладаў у 1956—58 гг. у Мінскім мастацкім вучылішчы, у 1963—65 гг.— у Рэспубліканскай мастацкай школе-інтэрнаце. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1938 г. Працаваў у жанры пейзажу і нацюрморта. Найбольш вядомыя творы: «Восеньскі пейзаж» (1947 г.), «На рацэ» (1959 г.), «Будаўніцтва дамбы» (1960 г.), «Зіма. Даўгінаўскі тракт» (1961 г.), «Індустрыяльны пейзаж» (1967 г.), «Раённы цэнтр» (1968 г.), «Лета. Нацюрморт» (1971 г.), «На Прыпяці» (1973 г.). Асобнае месца ў творчасці мастака займаюць графічныя работы — малюнкі з франтавога жыцця, зробленыя ў Вялікую Айчынную вайну. Памёр С. П. Каткоў 17.2.1976 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976. *М. В. Кірэйшын.*

**469. МАГІЛА КЛАЗА** Ільі Сямёнавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік І. С. Клаз нарадзіўся 17.3.1922 г. у г. Магілёве ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1942 г. У 1939—41 гг. вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1945 г. працаваў у рэдакцыях газет «Сталинская молодежь», «Во славу Родины» і інш., з 1956 г. загадчык аддзела інфармацыі ў газеце «Літаратура і мастацтва», з 1966 г. працаваў у Літаратурным музеі Я. Купалы, з 1974 г. у бюлетэні «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі».

Першы верш надрукаваў у 1940 г. Пісаў на рускай і беларускай мовах. На рускай мове выйшлі: аповесці «Жарцы» (1955 г.), «Падснежнікі» (1958 г.), «Злодзей» (1960 г.), «Разбег» (1963 г.), «Зара вішнёвая» (1973 г.), раман «Белая Русь» (1977 г.), зборнік нарысаў «Нашчадкам у прыклад» (1978 г.), на беларускай — нарысы «Машыніст Анатоль Шабуняеў» (1961 г.), «Каменных спраў майстар» (1971 г.), «Па Дзвіне на вёслах» (1975 г.). Аўтар старонак з жыцця Я. Купалы «Спадчына» (1968 г.). Памёр І. С. Клаз 22.12.1980 г.

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Г. Ф. Раманаў.*

**470. МАГІЛА КЛЯЎКО** Генадзя Якаўлевіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Г. Я. Кляўко нарадзіўся 1.5.1932 г. у в. Варонічы Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1955 г. У 1955 г. скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. У 1954—61 гг. працаваў у рэдакцыі газеты «Калгасная праўда», з 1961 г. літсупрацоўнік, потым адказны сакратар часопіса «Вожык», з 1973 г. намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».

Першы верш надрукаваў у 1949 г. Выйшлі зборнікі вершаў: «Абветраныя далягляды» (1962 г.), «Першы салют» (1964 г.), «Лайдак і кнопкі» (1964 г.), «Сто крокаў» (1967 г.), «Каб не сурочыць», «Што праўда, то не грэх...» (абодва 1971 г.), «Прыстань» (1974 г.), «Плуг» (1978 г.), «Падкова над парогам» (1979 г.). Значнае месца ў творах Г. Я. Кляўко займаюць тэмы вайны, жыцця нашага сучасніка, непарушнай дружбы савецкіх народаў. Перакладаў творы рускіх і ўкраінскіх паэтаў, у яго перакладзе асобным выданнем выйшла кніга паэзіі Паўднёвай Асеціі «Трубіць алень» (1975 г.). Памёр Г. Я. Кляўко 21.8.1979 г.



470. *Помнік на магіле Г. Я. Кляўко.*

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Вытокі песні.— Мн., 1973; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Багдановіч М., Саламевіч І. Паэтавы далягляды.— Маладосць, 1963, № 4; Бялевіч А. Вачыма юнацтва.— Полымя, 1962, № 12. *А. Г. Шчарбатаў.*

**471. МАГІЛА КРАСОЎСКАГА** Яўгена Яўстафіевіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец і графік, заслужаны работнік культуры БССР (1975 г.) Я. Я. Красоўскі нарадзіўся 16.11.1908 г. у г. Баку ў сям'і служачага. Член КПСС з 1945 г. У 1922 г. разам з бацькамі пераехаў на іх радзіму ў г. Мінск. З 1924 г. працаваў у тэатральна-дэкарацыйнай майстэрні Беларускага дзяржаўнага тэатра. У 1930 г. скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум, дзе вучыўся ў В. Руцая, Ф. Фогта і М. Эндэ. Выкладаў маляванне ў школах г. Мінска. У 1936—37 гг. вучыўся ў Кіеўскім мастацкім інстытуце. З 1942 г. у Маскве, загадваў аддзелам мастацкага афармлення Беларускага дзяржаўнага выдавецтва, супрацоўнічаў у перыядычным выданні ЦК КП(б)Б «Раздавім фашысцкую гадзіну».

У выстаўках удзельнічаў з 1930 г. Працаваў у галіне сюжэтна-тэматычнай карціны, партрэта, пейзажа, нацюрморта, станковай графікі, экслібрыса. Асноўная тэма творчасці — стваральная праца савецкіх людзей. Аўтар тэматычных карцін «Дажынаюць» (1931 г.), «Трамвай — у рабочы квартал» (1932 г.), «Беларускія ткачыхі» (1940 г.), «Зямля» (1943 г.), «Вызваленне з рабства» (1944 г.), «У штабе рэўваенсавета Заходняга фронту» (1945 г.), «Брыгада выдатнай якасці» (1949 г.), «Прыём рыбы» (1952 г.), «Выплаўка сталі» (1957 г.), «На Мінскім трактарным» (1958 г.), «Кавальскі цэх» (1958 г.), «Перад штурмам» (1967 г.), «Яхтсмены» (1971 г.), партрэтаў «Малады партызан» (1944 г.), маці (1945 г.), народнага артыста СССР Б. Платонава (1947 г.), мастака М. Станюты (1963 г.) і інш., пейзажаў «Белавежская пушча» і «Вязынка» (1947 г.), «На Бярэзіне» (1954 г.), «Вуліцы Парыжа», «Лондан» (абодва 1961 г.), «Паўночная Венецыя» (1962 г.), «Яхты на прычале» (1978 г.); нацюрмортаў «Кветкі», «Нацюрморт з яблыкамі» (абодва 1976 г.). Памёр Я. Я. Красоўскі 14.7.1980 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Выстаўка твораў мастака Я. Я. Красоўскага: Каталог.— Мн., 1968; Арава Э. В. Яўгеній Красоўскі.— Мн., 1983. *Г. М. Ярмоленка.*

**472. МАГІЛА КУЗНЯЦОВА** Івана Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1967 г.) І. І. Кузняцоў нарадзіўся 24.1.1919 г. у в. Ціманава Валуйскага р-на Белгарадскай вобл. Член КПСС з 1946 г. Скончыў Валуйскае педагагічнае вучылішча, працаваў у школе. З 1939 г. у Чырвонай Арміі, удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У 1946—48 гг. вучыўся ў Гомельскім музычным вучылішчы, у 1948—53 гг.— у Беларускай кансерваторыі (клас кампазіцыі М. Аладава і В. Белага). Працаваў старшым інспектарам аддзела тэатраў і музыкі Упраўлення па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР (1953—55 гг.), старшым рэдактарам (1957—60 гг.), загадчыкам рэдакцыі музычнай літаратуры выдавецтва «Беларусь» (1963—70 гг.).

Індывідуальнасць творчасці І. І. Кузняцова найбольш поўна выявілася ў жанрах кантаты, хору а капэла, масавай песні, якім характэрны напеўнасць, меладычная выразнасць, лірычная вобразнасць. З твораў: кантаты «Палі стэпавыя» (1958 г.), «Гімн Радзіме і чалавеку-творцу» (1963 г.), «Светлы шлях» (1967 г.); для хору а капэла «Ленін» (1959 г.), «Радуйся, наша зямля» (1961 г.), «Да зорак» (1972 г.). Пісаў музыку для аркестра беларускіх народных інструментаў: уверцюра «Святочная Беларусь» (1961 г.), танцавальная сюіта «Слуцкія паясы» (1959 г.) і інш.; камерныя інструментальныя творы: санаціна (1951 г.), харэаграфічная карцінка «Памяць» (1976 г.) і інш.; для народнага хору з суправаджэннем аркестра народных інструментаў: «Нёманскі край» (1968 г.); для баяна: сюіта «Івянецкія сувеніры» (1972 г.); песні, сярод якіх «Мы за партыяй роднай ідзем», «Партыі слава», «Песня аб Мінску», «Між нас жыве Ленін», «Нас вітае Ленін», «Партызанскі край», «Штосьці мне вясною марыцца», «Ходзяць песні над ракою», «А я не верыла рабіне», «Беларусачка» і інш. Памёр І. І. Кузняцоў 29.1.1986 г.

**473. МАГІЛА ЛАБАНАВА** Яўгена Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі фізік, член-карэспандэнт АН БССР (1969 г.), доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар (1968 г.) Я. М. Лабанаў нарадзіўся 7.11.1913 г. у с. Хр්ашчоўка Стаўрапольскага р-на Куйбышаўскай вобл. у сям'і настаўніка. Член КПСС з 1945 г. У 1938 г. скончыў Ленінградскі універсітэт. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў у Фізіка-тэхнічным інстытуце АН СССР у Ленінградзе, з 1958 г. загадчык аддзела і лабараторыі, намеснік дырэктара Інстытута ядзернай фізікі АН Узбекскай ССР. У 1969—76 гг. загадчык лабараторыі актывацыйнага аналізу Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў АН БССР, адначасова ў 1969—74 гг. прафесар кафедры эксперыментальнай і тэарэтычнай фізікі Мінскага педагагічнага інстытута.

Асноўныя даследаванні па ўздзеянню ядзерных выпраменьванняў на паўправадніковыя прылады. Распрацаваў высокаадчувальныя і экспрэсныя метады нейтронна-актывацыйнага аналізу для вызначэння мікрадамешак у чыстых і звышчыстых матэрыялах, геалагічных і біялагічных аб'ектах. Стварыў радыеізатопныя прыборы для вымярэння шчыльнасці розных асяроддзяў, кантролю ўзроўню і інш. параметраў. Апублікаваны працы: «Актывацыйны аналіз ва ўмовах геалагічных свідравін» (1963 г., разам з А. П. Новікавым, А. А. Хайдаравым), «Радыеізатопныя прылады ў прамысловасці будаўнічых матэрыялаў» (1973 г., у сааўтарстве) і інш. Памёр Я. М. Лабанаў 6.11.1976 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла. *В. Б. Караткевіч.*

**474. МАГІЛА ЛАДЫГІНА** Барыса Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне дарожнага будаўніцтва, член-карэспандэнт АН БССР (1959 г.), доктар тэхнічных навук (1957 г.), прафесар (1958 г.) Б. І. Ладыгін нарадзіўся 17.1.1896 г. у г. Сквіра Кіеўскай вобл. у сям'і служачага. Член КПСС з 1944 г. У 1921 г. скончыў Інстытут інжынераў шляхоў зносін у Петраградзе. Да 1926 г. працаваў на будаўніцтве чыгунак, потым кансультантам у Дзяржплане БССР. З 1929 г. начальнік аддзела Галоўнага ўпраўлення шашэйных дарог і аўтатранспарту БССР. У 1931—38 гг. загадчык секцыі Беларускага навукова-даследчага аўтадарожнага інстытута, з 1938 г. асістэнт, дацэнт, з 1946 г. загадчык кафедры будаўніцтва дарог. У 1951—



471. *Помнік на магіле Я. Я. Красоўскага.*

53 гг. дэкан факультэта ў Саратаўскім аўтамабільна-дарожным інстытуце. У 1958—66 гг. загадчык кафедры аўтамабільных дарог Беларускага політэхнічнага інстытута. З 1966 г. прафесар-кансультант. Навуковыя працы прысвечаны будаўніцтву і ўдасканаленню дарожных пакрыццяў, класіфікацыі грунтоў, выкарыстанню мясцовых каменных матэрыялаў, у прыватнасці слабых пясчанікаў. Апублікаваны працы: «Асновы трываласці і даўгавечнасці дарожных бетонаў» (1963 г.), «Будаўніцтва аўтамабільных дарог» (1965 г., у сааўтарстве), «Трываласць і даўгавечнасць асфальтабетону» (1972 г.). Памёр Б. І. Ладыгін 5.10.1981 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *М. М. Казлоўская.*

**475. МАГІЛА ЛАПІДУСА** Навума Абрамавіча (гіст.).

Беларускі савецкі спартсмен і трэнер, заслужаны майстар спорту СССР (1949 г.), адзін з арганізатараў цяжкай атлетыкі ў БССР Н. А. Лапідус нарадзіўся 26.10.1908 г. у Мінску ў сям'і рабочага. У 1923—26 гг. вучыўся ў прафтэхшколе абутнікаў, у 1935—36 гг.— у Вышэйшай школе трэнераў у Маскве. З 1934 г. трэнер па цяжкай атлетыцы Мінскага гарадскога фізкультурна-спартыўнага таварыства «Дынама». З 1941 г. у Галоўным архіўным упраўленні Народнага камісарыята ўнутраных спраў СССР у Саратаве і Пермі, у 1944—46 гг. начальнік аддзела архіва Чырвонай Арміі ў Маскве. У 1946—75 гг. трэнер па цяжкай атлетыцы Мінскага гарадскога і абласнога саветаў ФСТ «Дынама». Чэмпіён СССР (1932—35 гг.). Шматразовы рэкардсмен СССР. Памёр Н. А. Лапідус 8.8.1976 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Зейналов А. А., Цивес И. Л. Белорусские богатыри.— Мн., 1979. *М. Б. Батвіннік.*

**476. МАГІЛА ЛЕЙТМАНА** Льва Меeравіча (гіст.).

Беларускі савецкі графік, педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1967 г.) Л. М. Лейтман нарадзіўся 23.3.1896 г. у г. Петрыкаў Гомельскай вобл. у сям'і служачага. Член КПСС з 1942 г. Мастацкую адукацыю атрымаў у майстэрні Ю. Пэна ў Віцебску (1921—30 гг.). З 1931 г. выкладчык, з 1934 г.— загадчык навучальнай часткі Віцебскага мастацкага тэхнікума. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1947—58 гг. выкладчык Мінскага мастацкага вучылішча.

Працаваў пераважна ў тэхніцы акварэлі. Стварыў тонкія па колеры пейзажы «Зіма» (1942 г.), «Чырвоныя дахі» (1943 г.), «Цішыня» (1945 г.) і інш. Аўтар кампазіцыйных партрэтаў: свідравальшчыцы велазавода Л. С. Дуброўскай (1950 г.), тынкоўшчыцы новабудоўляў Мінска М. П. Кірпічковай (1951 г.); серыі акварэлей «Жанчыны на вытворчасці» (1930-я гады), «Абарончыя збудаванні пад Масквой» (1942 г.), «Новыя абрысы гарадоў Беларусі» (1950-я гады), «Вартавыя Радзімы» (1964 г.), «Па ленінскіх мясцінах» (1960-я — пачатак 1970-х гадоў) і інш. Памёр Л. М. Лейтман 20.9.1974 г.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Шматаў В. Ф. Беларуская графіка 1917—1941 гг.— Мн., 1975; яго ж. Беларуская сучасная графіка. 1945—1977.— Мн., 1979; Арава Э. В., Л. М. Лейтман.— Мн., 1976. *Г. М. Ярмоленка.*

**477. МАГІЛА МАГІЛЕЎЧЫКА** Захара Кузьміча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне гігіены і санітарыі, член-карэспандэнт АМН СССР (1953 г.), доктар медыцынскіх навук (1945 г.), прафесар (1934 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1949 г.) З. К. Магілеўчык нарадзіўся 6.2.1895 г. у в. Галоўчын Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта (1923 г.). Працаваў намеснікам загадчыка Горацкага паветовага аддзела аховы здароўя, санітарным урачом у Мінску. У 1925—31 гг. загадчык санітарна-эпідэміялагічнага аддзела Народнага Камісарыята аховы здароўя БССР. Адначасова (з 1924 г.) на кафедры агульнай гігіены медыцынскага факультэта БДУ (з 1930 г.— Мінскага медыцынскага інстытута), з 1934 г. загадчык гэтай кафедры. У 1941—43 гг. загадчык кафедры агульнай гігіены Іжэўскага медыцынскага інстытута, у 1944—53 гг. дырэктар Мінскага медыцынскага інстытута. Галоўны рэдактар часопіса «Здравоохранение Белоруссии» ў 1955—68 гг. Асноўныя працы па пытаннях гігіены, добраўпарадкавання і планіроўкі населеных пунктаў, у тым ліку Мінска, Магілёва, Віцебска, па жыллёва-камунальнай гігіене, санітарнай ахове атмасфернага паветра, вады, глебы. Памёр З. К. Магілеўчык 6.1.1975 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Беляцкий Д. П. Профессор З. К. Могилевчик.— Советское здравоохранение, 1965, № 3; Захар Кузьмич Могилевчик.— Здравоохранение Белоруссии, 1970, № 5; Памяти Захара Кузьмича Могилевчика.— Там жа, 1975, № 2. *А. Г. Шчарбатаў.*

**478. МАГІЛА МАЙХРОВІЧА** Сцяпана Казіміравіча (гіст.).

Беларускі савецкі літаратуразнавец і крытык, кандыдат філалагічных навук (1959 г.) С. К. Майхровіч нарадзіўся 8.6.1908 г. у в. Старэва Слуцкага р-на Мінскай вобл. Член КПСС з 1928 г. З 7 гадоў працаваў на шклозаводзе ў Старэве. У 1929—30 гг. інструктар Бабруйскага акруговага камітэта ЛКСМБ. У 1941 г. скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Восенню 1941 г. узначаліў Цэнтральнае беларускае радыёвяшчанне. У 1943 г. перапраўлены ў тыл ворага, член Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б (23.11.1943 г.— ліпень 1944 г.), рэдактар падпольнай газеты «Белостокская правда». У 1944—48 гг. дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва БССР, у 1951—54 гг.— галоўны рэдактар Вучэбна-педагагічнага выдавецтва БССР. Працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Полымя». У 1959—70 гг. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

Друкаваўся з 1930 г. Даследаваў старажытную і сучасную беларускую літаратуру. Аўтар прац «Янка Лучына» (1952 г.), «В. І. Дунін-Марцінкевіч» (1955 г.), «Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя» (1957 г., 2-е выд. 1959 г.), «Максім Багдановіч: Жыццё і творчасць» (1958 г.), «Жыццё і творчасць Ф. Багушэвіча», «Янка Брыль» (абедзве 1961 г.), «Георгій Скарына» (1966 г.), «Слова аб палку Ігаравым» (1968 г.), «Прыказкі і прымаўкі. Гістарычны нарыс» (1976 г.), «Іван Шамякін» (1978 г.), «Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV—XVIII ст.» (1980 г.). Памёр С. К. Майхровіч 1.7.1981 г.

У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Казлоўскі А. Дасведчанасць і прынцыповасць.— Беларусь, 1978, № 6; Цішчанка І., Галчанаў А. Плён шматгадовай працы.— Полымя, 1968, № 6; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *А. Г. Шчарбатаў.*

**479. МАГІЛА МАРКІНАЙ** Галіны Пятроўны (гіст.).

Беларуская савецкая актрыса, народная артыстка БССР (1976 г.) Г. П. Маркіна нарадзілася 23.11.1931 г. у Варонежы ў сям'і акцёраў. Член КПСС з 1977 г. Скончыла Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1956 г.) і адначасова Варонежскі універсітэт. З 1956 г. працавала ў Брэсцкім абласным драматычным тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі, з 1959 г. у Беларускім тэатры імя Я. Купалы, з 1961 г. у Беларускім тэатры імя Я. Коласа. Спалучэнне тонкай тэхнікі акцёрскага майстэрства з эмацыянальнай напоўненасцю вызначылі шырокі творчы дыяпазон актрысы. Створаныя ёю вобразы неадназначныя, вызначаюцца спасціжэннем аўтарскага стылю, сацыяльнай прыроды гераінь. У беларускім рэпертуары: Зося Савіч, Яўгенія, Марозава («Сэрца на далоні», «Выгнанне блудніцы», «Крыніцы» паводле І. Шамякіна), Корзун («Вайна пад стрэхамі» паводле А. Адамовіча), Маці («Зацюканы апостал» А. Макаёнка), Зубрыч («Трывога» А. Петрашкевіча), Серафіма («Хуткія цягнікі» А. Паповай),

Грачанская («Востраў Алены» Я. Шабана); у класічным — Соф'я, Варвара («Зыкавы», «Дачнікі» М. Горкага), Анісся («Улада цемры» Л. Талстога), Раneўская («Вішнёвы сад» А. Чэхава), Марыя Сцюарт (аднайменная п'еса Ф. Шылера), Беатрычэ, Гаперыльля («Многа шуму з нічога», «Кароль Лір» У. Шэкспіра), матухна Кураж («Матухна Кураж і яе дзеці» Б. Брэхта). Запамінальныя таксама вобразы Ксеніі («Разлом» Б. Лаўранёва), Спірыдонавай («Шостага ліпеня» М. Шатрова), Эльзевіры Рэнесанс («Клоп» У. Маякоўскага), Гелены («Варшаўская мелодыя» Л. Зорына), Ганны («Летась у Чулімску» А. Вампілава), Веры Сяргееўны («Энергічныя людзі» В. Шукшына), Евы Пабратынскай («Гісторыя грэху» С. Жаромскага і інш.). Памерла Г. П. Маркіна 27.10.1985 г.

*Літ.:* Гаробчанка Т. Галіна Маркіна.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1986.

**480. МАГІЛА МАШАРЫ** Міхася (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Міхась (Міхаіл Антонавіч) Машара нарадзіўся 5.11.1902 г. на хутары Падсосна Шаркоўшчынскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. У 1914—19 гг. вучыўся ў Глыбоцкім гарадскім вышэйшым пачатковым вучылішчы. У 1920 г. добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, удзельнік савецка-польскай вайны 1920 г. Прымаў удзел у нацыянальна-вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі. Быў інструктарам Беларускай сялянска-рабочай грамады, рэдактарам легальнага органа КПЗБ газеты «Наша воля». У 1928 г. арыштаваны польскімі буржуазнымі ўладамі, засуджаны на 4 гады турэмнага зняволення. У верасні 1939 г. удзельнічаў ва ўстанаўленні Савецкай улады ў Заходняй Беларусі, выбраны дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі. З кастрычніка 1939 г. працаваў у Шаркоўшчынскім райана. У Вялікую Айчынную вайну супрацоўнічаў у перыядычным друку, на радыё. З 1945 г. загадчык аддзела часопіса «Полымя», з 1947 г. у «Настаўніцкай газеце», у 1949—50 гг. літкансультант газеты «Савецкі селянін». Друкавацца пачаў у 1927 г. Першы зборнік вершаў «Малюнкі» выдадзены ў Вільні ў 1928 г. Выйшлі кнігі паэзіі «На сонечны бераг!» (1934 г.), «Напрадвесні» (1935 г.), «З-пад стрэх саламяных» (1937 г.), паэмы «Вяселле» (1933 г.), «Смерць Кастуся Каліноўскага» (1934 г.), «Мамчына горка» (1936 г.), п'есы «Вось тут і зразумей...» (1933 г.), «Лёгкі хлеб» (1936 г.), «Чорт з падпечча» (1938 г.). Творы пісьменніка гэтага часу прасякнуты пратэстам супраць сацыяльнай несправядлівасці, верай у свабодалюбівыя сілы народа. У пасляваенных творах «Беларусі» (1944 г.), «Выбраная лірыка» (1945 г.), «Праз навальніцы» (1948 г.), «Урачыстасць» (1952 г.), «Ад родных аселіц» (1959 г.), «Мая азёрная краіна» (1962 г.), «Вершы» (1971 г.) і інш. апяваў подзвіг народа ў барацьбе супраць фашызму, славіў стваральныя будні пад мірным небам, дружбу народаў. Вядомы і як празаік, аўтар раманаў «Крэсы змагаюцца» (1966 г.), «Сонца за кратамі» (1968 г.), «Лукішкі» (1970 г.), якія склалі трылогію, раманаў «Ішоў дваццаты год» (1973 г.), «І прыйдзе час...» (1975 г.) пра вызваленчую барацьбу працоўных Заходняй Беларусі, дзе шырока выкарыстаны факты з аўтабіяграфіі. У 1958 г. выйшлі «Выбраныя творы», у 1975 г.— кніга ўспамінаў «Старонкі летапісу». Пісаў для дзяцей — зборнікі вершаваных казак «Зязюльчыны слёзы» (1961 г.), «Зелянушка і Кракатушка» (1964 г.). Пераклаў на беларускую мову «Мёртвыя душы» М. Гогаля, «Апавяданні» Г. Сянкевіча, «Уральскія сказы» П. Бажова, «Калевалу» і інш. Памёр М. Машара 7.6. 1976 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Ларчанка М. Песні помсты і гневу.— Беларусь, 1944, № 6; Няхай Р. Пясняр азёрнага краю.— Полымя, 1972, № 11. *І. Ф. Кудраўцаў.*



480. *Помнік на магіле Міхася Машары.*

**481. МАГІЛА МІШЭНІНА** Івана Дзмітрыевіча (гіст.).

Беларускі савецкі тэрапеўт, акадэмік АН БССР (1966 г.), доктар медыцынскіх навук (1941 г.), прафесар (1964 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1964 г.), заслужаны ўрач РСФСР (1945 г.) І. Дз. Мішэнін нарадзіўся 28.1.1899 г. у г. Жданаве Данецкай вобл. у сям'і служачых. Скончыў Марыупальскую гімназію (1916 г.), медыцынскі факультэт Данскога універсітэта (1921 г.). У 1922—30 гг. працаваў у тэрапеўтычнай клініцы гэтага універсітэта і адначасова ў 1925—30 гг. загадчыкам туберкулёзнага дыспансера. У 1931—38 гг. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута працы і прафесіянальных захворванняў. У 1938—40 гг. загадчык кафедры факультатыўнай тэрапіі Дагестанскага медыцынскага інстытута, у 1941—46 гг. кансультант эвакашпіталяў і галоўны тэрапеўт аддзела эвакашпіталяў Наркамата аховы здароўя Дагестанскай АССР, адначасова прафесар Дагестанскага медыцынскага інстытута. У 1946—49 гг. намеснік дырэктара па навуковай частцы савецкай бальніцы ў Тэгеране. У 1949—66 гг. загадчык кафедры ўнутраных хвароб Мінскага медыцынскага інстытута.

Навуковыя працы аб рэўматызме, гепатытах, інтэрацэптыўных раздражненнях і каранарнай недастатковасці, патагенезе і лячэнні пнеўманій, уплыве ачаговых запаленняў на ўнутраныя органы і нервовую сістэму, фізічных метадах дыягностыкі. Даследаваў клініку і ўкараніў у практыку новы спосаб лячэння інтэрстыцыяльных нефрытаў, рэфлекторны метад лячэння сардэчнай недастатковасці і падскурных трансфузій крыві. Апублікаваны працы: «Да пальпацыі падлыжачнай вобласці» (1952 г.), «Рэфлектарны прынцып у лячэнні сардэчнай недастатковасці» (1957 г.), «Аб патагенезе гіперхалестэрынеміі» (1970 г., разам з С. В. Ткачовым) і інш. Памёр І. Дз. Мішэнін 11.8.1974 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *М. Б. Батвіннік.*

**482. МАГІЛА МОДЗІНА** Эмануіла Натанавіча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы Э. Н. Модзін нарадзіўся 13.10.1905 г. у г. п. Уваравічы Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл. Член КПСС з 1953 г. З 1921 г. працаваў па запалкавай фабрыцы «Хваля рэвалюцыі» на Бранцшчыне, потым на лесапільным заводзе «Пралетарый» у Мазыры. У 1927—29 гг. у Чырвонай Арміі. Вясной 1929 г. з групай дэмабілізаваных чырвонаармейцаў прыехаў на Любаншчыну і ўзначаліў работы па асушэнню Мар'інскіх балот, старшы-

ня калектыўнай гаспадаркі — камуны, з 1932 г. калгас імя Беларускай Ваеннай акругі. З 1935 г. на гаспадарчай і партыйнай рабоце. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля цяжкага ранення і лячэння ў шпіталі працаваў (1942—45 гг.) дырэктарам саўгаса «Галубкоўскі» Омскай, з 1946 г.— саўгаса «Мормаль» Гомельскай, з 1953 г.— саўгаса «Любанскі» Мінскай абласцей. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 30.4. 1966 г. за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак бульбы, агародніны і садавіны. Памёр Э. Н. Модзін 25.12.1983 г.

У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Масаулаў І. Чалавек з паэмы.— У кн.: Сцяганосцы новага, перадавога. Мн., 1967. *В. М. Удальцоў.*

**483. МАГІЛА МЯДЗВЕДЗЕВА** Андрэя Рыгоравіча (гіст.).

Беларускі савецкі глебазнавец, член-карэспандэнт АН БССР (1961 г.), акадэмік Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1959—61 гг.), доктар сельскагаспадарчых навук (1952 г.), прафесар (1953 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1968 г.) А. Р. Мядзведзеў нарадзіўся 27.10. 1897 г. у в. Сачылаў Пагарскага р-на Бранскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1925 г.). У 1921—41 гг. і 1944—56 гг. навуковы супрацоўнік, асістэнт, дацэнт, загадчык кафедры глебазнаўства гэтай акадэміі. У 1942—44 гг. старшы навуковы супрацоўнік Троіцкага доследнага поля Чэлябінскай абласной доследнай сельскагаспадарчай станцыі. З 1953 г. прафесар, з 1968 г. загадчык кафедры глебазнаўства і геалогіі БДУ. У 1958—61 гг. намеснік дырэктара НДІ глебазнаўства Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР. Кіраваў буйнамаштабнымі глебавымі даследаваннямі зямель калгасаў і саўгасаў БССР, распрацаваў методыку гэтых даследаванняў, методыку і табліцу якаснай ацэнкі (баніціроўкі) глеб рэспублікі, па якіх праведзены карціраванне глеб, якасная ацэнка зямель. Склаў зводную глебавую карту БССР. Удзельнічаў у аграглебавым раяніраванні рэспублікі, прагназіраванні ўплыву меліярацыі на глебы Беларускага Палесся на 1990 г. Асноўныя працы: «Матэрыялы да агранамічнай характарыстыкі глеб БССР» (1933 г., разам з Я. М. Афанасьевым, Г. І. Пратасеняй), «Глебавы нарыс Бабруйшчыны» (1934 г.), «Кіраўніцтва па глебавым даследаванні зямель калгасаў і саўгасаў БССР» (1960 г., разам з М. П. Булгакавым, Ю. І. Гаўрыленкам), «Якасная ацэнка зямель у калгасах і саўгасах БССР» (1971 г., у сааўтарстве). Дзяржаўная прэмія БССР 1976 г., прэмія імя В. Р. Вільямса 1972 г. Памёр А. Р. Мядзведзеў 16.4.1985 г.



486. *Помнік на магіле В. Б. Папова.*

**484. МАГІЛА МЯЖЭВІЧА** Уладзіміра Навумавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, журналіст У. Н. Мяжэвіч нарадзіўся 23.5. 1907 г. у пас. Якаўлевічы Аршанскага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. У 1925—28 гг. працаваў загадчыкам хаты-чытальні, быў на камсамольскай рабоце. З 1929 г. у Мінску, у рэдакцыі газеты «Звязда». Адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні літаратурнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1931—33 гг.). З 1933 г. рэдактар бягомльскай раённай газеты «Калгасны змагар», з 1934 г. карэспандэнт газеты «Известия» па БССР. У 1938—55 гг. жыў у Краснаярскім краі. З 1956 у Мінску, працаваў у часопісах «Вожык», «Вясёлка», «Бярозка», карэспандэнтам газеты «Лесная промышленность» па БССР.

Друкаваўся з 1924 г. Аўтар зборнікаў нарысаў і апавяданняў «Крок у будучыню» (1931 г.), «Шляхам герояў» (1932 г.), «Землякі» (1969 г.), «Яны былі першымі» (1970 г.), «Аксамітны бляск» (1971 г.), «Спатканні па дарогах» (1978 г.). Для дзяцей напісаў кнігі «Медунічкі» (1966 г.), «Лясныя знаходкі» (1969 г.), «Выдумшчыцы» (1971 г.), «Стрэлы на зялёнай палянцы» (1973 г.), «На ўсходзе сонца» (1982 г.). У сваіх творах адлюстроўваў родную прыроду, услаўляў жыццё і быт савецкіх людзей — будаўнікоў камуністычнага грамадства. Памёр У. Н. Мяжэвіч 1.6.1982 г.

У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Г. І. Дулеба.*

**485. МАГІЛА НОВІКАВА** Яўгена Васілевіча (гіст.).

Беларускі савецкі спартсмен (цяжкая атлетыка), заслужаны майстар спорту СССР (1969 г.) Я. В. Новікаў нарадзіўся 26.8.1924 г. у г. п. Пачалма Пензенскай вобл. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Скончыў Вышэйшыя курсы трэнераў пры Ленінградскім інстытуце фізічнай культуры імя У. І. Леніна (1951 г.). У 1962—73 гг. загадчык аддзела спорту Беларускага тэлебачання. Чэмпіён Еўропы (1957 г., Катавіцы, ПНР), СССР (1957 г.) у 2-й цяжкай вазе, 3-х Сусветных гульняў моладзі і студэнтаў (1957 г.). Пераможца і прызёр міжнародных і ўсесаюзных спаборніцтваў. Рэкардсмен Еўропы і СССР. Памёр Я. В. Новікаў 20.10.1973 г.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Зейналов А. А., Цивес И. Л. Белорусские богатыри.— Мн., 1979. *М. Б. Батвіннік.*

**486. МАГІЛА ПАПОВА** Віктара Барысавіча (гіст.).

Беларускі савецкі скульптар В. Б. Папоў нарадзіўся 1.4.1923 г. у г. Мінску. У 1952 г. скончыў Маскоўскі інстытут прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў у станковай і манументальнай скульптуры. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1955 г. Адзін з аўтараў скульптурнага афармлення Палаца культуры Белсаўпрофа (1954 г.), будынкаў Мінскага сувораўскага вучылішча (1953 г.) і Рэспубліканскага тэатра юнага гледача (1956 г.). У 1960 г., пасля перамогі на Усесаюзным конкурсе на праект помніка туркменскаму паэту 18 ст. Махтумкулі, пераехаў у Ашхабад, дзе працаваў да 1971 г. Сярод работ: кампазіцыі «Добрай раніцы» (1957 г.), «У. І. Ленін за працай» (1962 г.), «Маладосць» (1960 г.), «Зноў ідуць» (1964 г.) і інш.; помнікі У. І. Леніну ў Мікашэвічах (Лунінецкі р-н, 1959 г.), у Ашхабадзе (1966 г.), Небіт-Дагу (1967 г.), шэраг помнікаў, прысвечаных подзвігу савецкага народа ў Вялікую Айчынную вайну. Памёр В. Б. Папоў 27.11.1981 г.

У 1984 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт на высокім пастаменце. *Г. М. Ярмоленка.*

**487. МАГІЛА ПАЎЛЮЧЭНКІ** Міхаіла Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі фізікахімік, акадэмік АН БССР (1959 г., член-карэспандэнт з 1956 г.), доктар хімічных навук, прафесар (1954 г.), заслужаны

дзеяч навукі БССР (1972 г.) М. М. Паўлючэнка нарадзіўся 4.3.1909 г. у в. Глухавічы Брагінскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1951 г. У 1933 г. скончыў хімічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. З сакавіка 1934 г. асістэнт кафедры фізічнай і калоіднай хіміі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. У 1935 г. быў накіраваны ў Ленінградскі аптычны інстытут. У 1938 г. загадчык лабараторыі радыёхіміі БДУ. Адначасова з 1937 г. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута хіміі АН БССР. З 1957 г. загадчык лабараторыі мінеральных солей і ўгнаенняў гэтага інстытута. У 1959—66 гг. дырэктар, з 1966 г. загадчык лабараторыі цвёрдафазных рэакцый Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР.

Навуковыя даследаванні прысвечаны тэорыі тапахімічных рэакцый, кінетыцы і механізму гетэрагенных хімічных рэакцый, радыёхіміі, малекулярнаму і эмісійнаму спектральнаму аналізу. Распрацаваў тэорыю кінетыкі тапахімічных рэакцый, якія не каталізуюцца цвёрдым прадуктам. Удзельнічаў у распрацоўцы тэхніка-эканамічнага абгрунтавання шляхоў развіцця прамысловасці мінеральных угнаенняў у БССР, прапанаваў шэраг новых флотарэагентаў для флатацыйнага ўзбагачэння калійных руд. Памёр М. М. Паўлючэнка 24.3.1975 г. У 1977 г. на будынку Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* М. М. Павлюченко.— Весці АН БССР. Сер. хімічных навук, 1969, № 2; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Т. Р. Чуракова.*

**488. МАГІЛА РАМАНОВІЧА** Яўгена Сцяпанавіча (гіст.).

Беларускі савецкі тэатральны дзеяч, драматург, заслужаны артыст БССР (1944 г.) Я. С. Рамановіч нарадзіўся 8.1.1905 г. у Мінску ў сям'і служачага. Член КПСС з 1946 г. У 1922—24 гг. вучыўся ў БДУ. Працаваў акцёрам (1922—31 гг.), рэжысёрам, загадчыкам літаратурнай часткі (1931—48 гг.) у Беларускім тэатры імя Я. Купалы. У 1949—63 гг. у Міністэрстве культуры БССР.

Друкавацца пачаў у 1923 г. (пад псеўданімам «Брацішка»). Яго першыя творы прысвечаны старой інтэлігенцыі, якая ўключылася ў будаўніцтва новага жыцця. Аўтар п'ес «Усё добра будзе» («Кантракт, альбо — Усё добра будзе», пастаўлена ў 1924 г.), «Вір» (пастаўлена ў 1926 г.), «Крывая аблона» (пастаўлена ў 1929 г.), «Мост» (пастаўлена ў 1929 г.), «Камяні на дарозе» (пастаўлена ў 1931 г.). Тэме Вялікай Айчыннай вайны прысвяціў п'есы «Палешукі» і «Таварыш Андрэй» (абедзве пастаўлены ў 1944 г.). Напісаў лібрэта опер «У пушчах Палесся» паводле аповесці Я. Коласа «Дрыгва» (пастаўлена ў 1939 г.), «Алеся» (разам з П. Броўкам, пастаўлена ў 1944 г.), «Дзяўчына з Палесся» (пастаўлена ў 1953 г.), балетаў «Падстаўная нявеста» (пастаўлены ў 1958 г.), «Мара» (пастаўлены ў 1961 г.). Даследаваў гісторыю беларускага тэатра («Першы тэатр», 1946 г., «Народны артыст СССР Б. В. Платонаў», 1954 г., «Знаёмыя сілуэты», 1974 г., «Людзі і маскі», 1977 г.). Выдаў зборнікі «Галіна Званцова» (1958 г.), успаміны «Рэкі цякуць з ручаёў» (1969 г.). Пераклаў на беларускую мову паасобныя п'есы Л. Талстога, А. Астроўскага, А. Чэхава, М. Горкага, К. Трапёва, А. Карнейчука і інш. Памёр Я. С. Рамановіч 25.2.1979 г.

У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Уладамірская Г. Мастацтва — яго стыхія, тэатр — ягоны дом.— Полымя, 1975, № 1. *М. М. Казлоўская.*

**489. МАГІЛА РАМАНОЎСКАГА** Пятра Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец П. М. Раманоўскі нарадзіўся 21.9.1919 г. у г. Орша Віцебскай вобл. у сям'і рабочага. У 1938 г. скончыў Віцебскае мастацкае вучылішча, дзе вучыўся ў Л. Лейтмана, Х. Даркевіча, Ф. Фогта, у 1948 г.— Ленінградскі інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1948—54 гг. выкладчык Мінскага мастацкага вучылішча. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1949 г. Працаваў у галіне сюжэтна-тэматычнай карціны («Ленін у Смольным», 1950 г.; «На канікулах», 1951 г.; «Уборка капусты», 1958 г.), у жанрах пейзажа («Мінск», 1954 г.; «Хутар Альбуць», 1959 г.; «Жыта», 1960 г.), партрэта («Піянерважатая», 1957 г.; сына, 1967 г.; Герояў Савецкага Саюза Л. Даватара і Ф. Смалячкова, абодва 1961—67 гг.; трэнера А. Кір'янава, 1968 г.; мастака А. Шаўчэнкі, 1970 г. і інш.). Памёр П. М. Раманоўскі 23.9.1977 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт на пастаменце.

*Літ.:* Выставка произведений художника П. М. Романовского: Каталог.— Мн., 1979. *Г. М. Ярмоленка.*

**490. МАГІЛА САКАЛОВА** Уладзіміра Фёдаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі графік У. Ф. Сакалоў нарадзіўся 14.10.1908 г. у Мінску. У 1932 г. скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум. Вучыўся ў Ф. Фогта, В. Волкава, Я. Мініна. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1932 г. Працаваў у галіне станковай графікі, у тэхніках лінагравюры, аўталітаграфіі, манатыпіі, малюнка вугалем. Асноўныя тэмы творчасці — мірная стваральная праца савецкіх людзей, подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне, будні Савецкай Арміі і Флоту, спорт. Найбольш вядомыя серыі: «Мінск будуецца» (1957 г.), «Гераічная абарона Брэсцкай крэпасці» (1961 г.), «У маракоў і вадалазаў Чарнаморскага флоту» (1973 г.), «Лукомская ДРЭС» (1976 г.), «Рэчыцкая нафта» (1976 г.). Стварыў шэраг партрэтаў маракоў і пагранічнікаў. Творы мастака вылучаюцца высокай кампазіцыйнай выразнасцю і дакладнасцю. Памёр У. Ф. Сакалоў 1.2. 1978 г.

*Літ.:* Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976; Уладзімір Фёдаравіч Сакалоў: Выстаўка твораў. Мінск. 1969: Каталог.— Мн., 1969. *М. В. Кірэйшын.*

**491. МАГІЛА САМЦЭВІЧА** Сямёна Андрэевіча (гіст.).

Беларускі савецкі мікрабіёлаг, член-карэспандэнт АН БССР (1967 г.), доктар біялагічных навук (1954 г.), прафесар (1956 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1977 г.) С. А. Самцэвіч нарадзіўся 14.7.1902 г. у в. Дакудава Крупскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. Скончыў Горацкі сельскагаспадарчы інстытут (1924 г.), Валагодскі малочнагаспадарчы інстытут (1930 г.). У 1934—38 гг. працаваў у Інстытуце біялагічных навук АН БССР, потым на Украіне. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1964 г. загадчык ла-



489. *Помнік на магіле П. М. Раманоўскага.*

бараторыі мікрабіялогіі Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР, з 1966 — Аддзела мікрабіялогіі, з 1973 загадчык лабараторыі, з 1977 навуковы кансультант Інстытута мікрабіялогіі АН БССР. Вёў даследаванні ўзаемадзеяння мікраарганізмаў глебы і вышэйшых раслін, вывучаў магчымасці кіравання імі, прыроду сімбіёзу клубеньчыкавых бактэрый і бабовых раслін, ролю гелепадобных выдзяленняў карнёў пры ўзаемаадносінах раслін з мікраарганізмамі глебы. Асноўныя публікацыі ў кнігах: «Роля мікраарганізмаў у жыўленні раслін і ўрадлівасці глебы» (1969 г.), «Мікраарганізмы глебы і расліна» (1972 г.), «Фітатаксічныя ўласцівасці глебавых мікраарганізмаў» (1978 г.) і інш. Памёр С. А. Самцэвіч 30.5. 1985 г.

У 1986 г. на магіле пастаўлена стэла.

**492. МАГІЛА СЕМАШКЕВІЧА** Рыгора Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт і літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук (1970 г.) Р. М. Семашкевіч нарадзіўся 12.9.1945 г. у в. Дамашы Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1966 г. скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў дырэктарам Малінаўскай васьмігадовай школы Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. У 1967—69 гг. аспірант, з 1970 г. выкладчык беларускай літаратуры ў БДУ.

Друкаваўся з 1961 г. у часопісах «Полымя», «Маладосць», у альманаху «Дзень паэзіі» і іншых выданнях. Аўтар зборнікаў паэзіі «Леснічоўка» (1968 г.), «Субота» (1973 г.), «Золата саломы» (1974 г.), аповесці «Бацька ў калаўроце» (1976 г.). Выйшлі літаратуразнаўчыя працы «Браніслаў Эпімах-Шыпіла» (1968 г.), «Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX — пачатак XX ст.)» (1971 г.), якія напісаны на багатым дакументальным матэрыяле. Творчасць Семашкевіча вызначаецца навізной светаадчування, лірычнай усхвалявапасцю. Асноўнае месца ў яго паэзіі займае тэма Радзімы. Лепшыя крытычныя выступленні і эсэ «Світка Буйніцкага» выдадзены кнігай «Выпрабаванне любоўю» (1982 г.). Памёр Р. М. Семашкевіч 11.6.1982 г.



492. *Помнік на магіле Р. М. Семашкевіча.*

У 1984 г. на магіле пастаўлены помнік — камень-валун.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *У. У. Бянько.*

**493. МАГІЛА СМОЛЬСКАГА** Бякіра Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне цеплафізікі, член-карэспандэнт АН БССР (1967 г.), доктар тэхнічных навук (1958 г.), прафесар (1961 г.) Б. М. Смольскі нарадзіўся 29.6.1913 г. у Мінску ў сям'і служачых. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1935 г.). Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., Вялікай Айчыннай вайны. З 1937 г. старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі прамысловай вентыляцыі НДІ аховы працы ВЦСПС. З 1946 г. старшы выкладчык, з 1949 г. дацэнт БПІ. З 1958 г. загадчык лабараторыі цепла- і масаабмену Інстытута энергетыкі АН БССР, у 1959—71 гг. намеснік дырэктара, у 1971—82 гг. загадчык лабараторыі тэрмааэрадынамікі Інстытута цепла- і масаабмену.

Працы прысвечаны прамысловай цеплатэхніцы, метадам тэрмавільготнай апрацоўкі матэрыялаў, працэсам пераносу цяпла і рэчыва ва ўмовах вакууму, ачысткі газавых прамысловых выкідаў. Вызначыў аптымальныя ўмовы для інтэнсіфікацыі сублімацыйнага абязводжвання капілярнапорыстых рэчываў. Асноўныя працы: «Знешні цепла- і масаабмен у працэсе канвектыўнай сушкі» (1957 г.), «Рэадынаміка і цеплаабмен нелінейна-вязкапластычных матэрыялаў» (1970 г., разам з З. П. Шульманам, В. М. Гарыславец), «Нестацыянарны цеплаабмен» (1974 г., разам з Л. А. Сяргеевай, У. Л. Сяргеевым). Памёр Б. М. Смольскі 28.9.1982 г.

У 1987 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Н. І. Пятровіч.*

**494. МАГІЛА СТЭЛЬМАХА** Уладзіміра Мацвеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі тэатральны дзеяч, пісьменнік, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1961 г.) У. М. Стэльмах нарадзіўся 2.12.1907 г. у в. Бушмічы Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. У 1931 г. скончыў студыю Беларускага другога дзяржаўнага тэатра, у 1954 г. Маскоўскі інстытут тэатральнага мастацтва імя А. В. Луначарскага. З 1931 г. акцёр Беларускага тэатра рабочай моладзі, з 1937 г.— Беларускага тэатра юнага гледача імя Н. К. Крупскай. Лепшыя ролі: Петухоў («Трывога» Ф. Кнорэ), Польдзі («Працяг будзе» А. Бруштэйн), фельдфебель Мокры («Музыканцкая каманда» Д. Дэля) — у траме; рабочы Розенц («Гады выпрабаванняў» К. Раймонд), Пан («Цудоўная дудка» В. Вольскага) — у тэатры юнага гледача. Дырэктар Беларускага тэатра імя Я. Коласа (з 1943 г.), Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР (з 1945 г.), Беларускага тэатра імя Я. Купалы (у 1947—51 гг.), Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача (з 1955 г.). У 1966—71 гг. намеснік старшыні прэзідыума праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1930 г. У 1931 г. пастаўлена п'еса «Шляхі» (апублікавана ў 1930 г.), у 1933 г. п'есы «Фантан» і «Тры крыжыкі» (апублікаваны ў 1932 г.), у 1938 г.— «Канец маскараду» (з Ю. Рудзько). Выдадзены кнігі «Народны артыст СССР Г. П. Глебаў» (1954 г.), «Шляхі беларускага тэатра» (1964 г.), «Кранаючы чуткія струны душы» (1966 г.), «Тэатр і час» (1973 г.). Памёр У. М. Стэльмах 27.1. 1974 г.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пятровіч С. Уладзімір Стэльмах.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1986.

**495. МАГІЛА СЯРГЕЙЧЫКА** Цімафея Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр, народны артыст БССР (1944 г.) Ц. М. Сяргейчык нарадзіўся 8.6.1899 г. у в. Заполле Глускага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. У 1919—23 гг. удзельнічаў у чырвонаармейскай мастацкай самадзейнасці. У 1926 г. скончыў Беларускую драматычную студыю ў Маскве. З 1926 г. у Беларускім тэатры імя Я. Коласа (адначасова мастацкі кіраўнік студыі тэатра). Яркі самабытны акцёр, стваральнік народных характараў, выканаўца драматычных, камедыйных роляў. Вобразы школяра Самахвальскага («Несцерка» В. Вольскага, Дзяржаўная прэмія СССР 1946 г.), Лявона Зябліка («Раскіданае гняздо» Я. Купалы), дзеда Мікіты, Саўкі Мільгуна («Вайна вайне», «У пушчах Палесся» Я. Коласа), Бокуця («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), Азорыча («Над Бярозай-ракой» П. Глебкі) і іншыя вылучаліся вострай характарнасцю, мастацтвам жыццёвай праўды. У ролях рускай і савецкай класікі — Градабоеў, Васьмібратаў («Гарачае сэрца», «Лес»

А. Астроўскага), Феліцыян («Мараль пані Дульскай» Г. Запольскай), Якаў Бардзін, Дасцігаеў («Ворагі», «Ягор Булычоў і іншыя» М. Горкага), Бярсенеў («Разлом» Б. Лаўранёва), Таланаў («Нашэсце» Л. Лявонава), Забелін («Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна) Ц. М. Сяргейчык дасягаў глыбокага пранікнення ў сацыяльную сутнасць характару. Як рэжысёр паставіў спектаклі: «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча (1928 г.), «Дзеці Ванюшына» С. Найдзёнава (1938 г.), «Ірынка» К. Чорнага (1941 г.), «Блудны сын» Э. Ранета (1958 г.). Аўтар кнігі ўспамінаў «Нататкі акцёра» (1966 г.). Памёр Ц. М. Сяргейчык 27.5.1977 г. У Віцебску на доме, дзе жыў акцёр, у 1979 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Есакоў А. Жыццё і творчасць.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960; Няфёд У. І. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982. *Т. Я. Гаробчанка.*

**496. МАГІЛА ТАМАШЭЎСКАГА** Казіміра Адамавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза К. А. Тамашэўскі нарадзіўся 1.11.1914 г. у г. Бярдзічаве Жытомірскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1944 г. Скончыў курсы «Выстрал» (1942 г.). З 1933 г. працаваў рабочым галоўпаштамта г. Бярдзічава. У Чырвонай Арміі з 1936 г. Быў камандзірам узвода (1939 г.), камандзірам горнастралковай роты. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г., удзельнічаў у баях на Варонежскім, Цэнтральным, 1-м Украінскім франтах. Вызначыўся ў баях за Берлін. 19.4.1945 г. мотастралковы батальён 21-й гвардзейскай механізаванай брыгады, якім ён камандаваў, выйшаў на ўсходнюю ўскраіну Берліна, фарсіраваў р. Шпрэе, знішчыў варожы дзот, 8 танкаў і самаходак, звыш 100 фашыстаў і 950 узяў у палон. Паранены працягваў камандаваць боем. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.5.1945 г. Да 1958 г. служыў у Савецкай Арміі, потым працаваў у Мінскім вытворчым аб'яднанні «Гарызонт». Памёр К. А. Тамашэўскі 11.4.1983 г.

У 1985 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Романов Д. Ф. Славный боевой путь.— У кн.: Золотые звезды Полесья. 3 изд. Киев, 1985. *Г. М. Новікава.*

**497. МАГІЛА ТРАХТЭНБЕРГА** Навума Яфімавіча (гіст.).

Беларускі савецкі архітэктар, педагог Н. Я. Трахтэнберг нарадзіўся 22.12.1909 г. у г. Бахмач Чарнігаўскай вобл. у сям'і служачага. Скончыў прафесійную школу будаўнікоў (1927 г.), Адэскі інстытут грамадзянскага і камунальнага будаўніцтва (1932 г.). У 1934—41 гг., 1944—53 гг. у інстытуце «Белдзяржпраект». У Вялікую Айчынную вайну працаваў ва Упраўленні будаўніцтва Чэлябінскага металургічнага завода. У 1953—56 гг. кіраўнік майстэрні Генплана ў інстытуце Мінскпраект, адначасова ў 1954—76 гг. выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута. Асноўныя работы ў сааўтарстве: у Мінску — праект дэталёвай планіроўкі (1939 г.), генпланы (1946 г., карэктуры 1952 г., 1958 г.; 1965 г., карэктуры 1969 г., 1972—73 гг.), праект дэталёвай планіроўкі і забудовы цэнтра, праект планіроўкі і забудовы 2-й чаргі Ленінскага праспекта (1953 г.); генпланы Бабруйска (1936 г., 1949 г.); Магілёва (1939 г.); праект забудовы цэнтра Віцебска (1950 г.). Галоўны архітэктар і аўтар схемы планіроўкі прыгараднай зоны Мінска (1964 г.), праекта планіроўкі зоны адпачынку Заслаўскага вадасховішча пад Мінскам (1968 г.). Дзяржаўная прэмія БССР 1968 г. за ўдзел у стварэнні архітэктурнага ансамбля Ленінскага праспекта ў Мінску. Памёр Н. Я. Трахтэнберг 16.10.1977 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла. *В. М. Удальцоў.*

**498. МАГІЛА ТРЭЕРА** Вальфрыда Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне машыназнаўства, член-карэспандэнт АН БССР (1959 г.), доктар тэхнічных навук, прафесар (1950 г.) В. М. Трэер нарадзіўся 22.11.1901 г. у г. Турку (Фінляндыя). З рабочых. Член КПСС з 1962 г. Скончыў Маскоўскі аўтатрактарны інстытут (1929 г.). У 1923—29 гг. працаваў тэхнолагам і канструктарам на заводах. У 1929—36 гг. старшы навуковы супрацоўнік Навуковага аўтатрактарнага інстытута. У 1936—37 гг. загадчык падшыпнікавай лабараторыі Цэнтральнага НДІ цяжкага машынабудавання, у 1937—39 гг. старшы навуковы супрацоўнік Эксперыментальнага НДІ машынабудавання і станкабудавання ў Маскве. У 1939—51 гг. дацэнт, прафесар Маскоўскага інстытута каляровых металаў і золата і Маскоўскага інстытута сталі, у 1951—55 гг. прарэктар па навуковай рабоце Талінскага, у 1955—60 гг. Беларускага політэхнічных інстытутаў. У 1960—65 гг. дырэктар Інстытута машыназнаўства і аўтаматызацыі АН БССР, у 1966—84 гг. у Мінскім радыётэхнічным інстытуце. Даследаванні па праблемах надзейнасці і даўгавечнасці машын і прылад. Прапанаваў тэорыю і метад разліку падшыпнікаў качэння па параметры, які характарызуе іх даўгавечнасць. Апублікаваны працы: «Тэорыя і разлік падшыпнікаў качэння» (1934 г.), «Разлікі дэталей машын на даўгавечнасць» (1956 г.), «Тэорыя даўгавечнасці і надзейнасці машын» (1964 г.), «Метадалагічныя асновы навукі аб надзейнасці і даўгавечнасці тэхнічных сродкаў» (1973 г.) і інш. Памёр В. М. Трэер 3.12.1984 г.

У 1986 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *У. У. Бянько.*

**499. МАГІЛА ХАДКЕВІЧА** Тараса Канстанцінавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, заслужаны работнік культуры БССР (1972 г.) Т. К. Хадкевіч нарадзіўся 23.2.1912 г. у в. Шайцерава Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Пасля вучобы ў Полацкім педагагічным тэхнікуме (1927—29 гг.) працаваў літработнікам, потым адказным сакратаром у рэдакцыі газеты «Чырвоная Полаччына». У 1931—33 г. вучыўся на літаратурным факультэце Беларускага вышэйшага педагагічнага інстытута. Працаваў у рэдакцыях газет «Чырвоная змена» (1933—34 гг.), «Звязда» (1936—41, 1945—50 гг.), «Літаратура і мастацтва» (1950—52 гг.). Служыў у Чырвонай Арміі (1934—36 гг.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1953—72 гг. літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў БССР.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1926 г. У 1932 г. выдаў зборнік «Смялей, таварыш!». Працаваў пераважна ў жанры прозы. Кнігі аповесцей і апавяданняў «Братэрства» (1948 г.), «Рэха ў гарах» (1951 г.) прысвечаны дружбе і інтэрнацыянальнай салідарнасці народаў у барацьбе супраць фашызму ў Вялікую Айчынную вайну. Аповесць «Вяснянка» (1948 г.), раман «Даль палявая» (1957—58 гг.) аб жыцці беларускай вёскі паслява-



*499. Помнік на магіле Тараса Хадкевіча.*

еннага аднаўленчага перыяду, працоўным гераізме савецкіх людзей. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Сяброўства» (1952 г.), апавяданняў і нарысаў «Сад у квецені» (1966 г.). Раман «Песня Дзвіны» (1972 г.) пра людзей новабудоўлі на Заходняй Дзвіне. Выдадзены кнігі нарысаў «Мая Беларусь» (1961 г.), «Нафтагігант на Дзвіне» (1963 г.). Выйшлі зборнікі апавяданняў пісьменніка для дзяцей — «За сінім лесам» (1951 г.), «На новым месцы» (1954 г.), «Спеюць яблыкі» (1959 г.), «Жыла-была казка» (1967 г.), «Дзвіна пайшла» (1968 г.), «Як вырас абеліск» (1972 г.). Адзін з аўтараў кнігі «Мы раскажам пра Мінск» (1964 г., з С. Грахоўскім, У. Карпавым, Р. Сабаленкам). Выйшлі «Выбранае» (1970 г.), «Творы» ў 2 тамах (1982 г.). На беларускую мову пераклаў кнігі М. Горкага «У Амерыцы» (1952 г.), «Апавяданні» (з І. Сакалоўскім, А. Якімовічам, 1955 г.), раман А. Чайшвілі «Лело» (з П. Рунцом, 1953 г.). Творы Т. Хадкевіча перакладзены на мовы народаў СССР і за мяжой. Памёр Т. К. Хадкевіч 14.8.1975 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску. Імя пісьменніка прысвоена Верхнядзвінскай раённай бібліятэцы.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Кухараў С. Зачараваны красою Наддзвіння...: Штрыхі да літаратурнага партрэта Тараса Хадкевіча.— Полымя, 1982, № 9. *Л. І. Шэйко.*

**500. МАГІЛА ХАРКОВА** Пятра Андрэевіча (гіст.).

Рускі савецкі пісьменнік П. А. Харкоў нарадзіўся 15.8.1922 г. на станцыі Хацень Сухініцкага р-на Калужскай вобл. у сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1944 г. У 1939 г. скончыў Маскоўскае тэатральна-тэхнічнае вучылішча, у 1943 г. Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, вызвалення Беларусі. У 1947—60 гг. працаваў у газеце «Во славу Родины», у 1963—65 гг.— карэспандэнт газеты «Советская культура» па Беларусі. З 1966 г.— член рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР.

Першыя апавяданні надрукаваў у 1940 г. З канца 1950-х гг. працаваў у галіне драматургіі і ў літаратурна-музычным жанры. Аўтар п'ес «Ад імя пакалення», «Вечны агонь» (абедзве пастаўлены ў 1963 г.), «Рэпартаж з пекла» (пастаўлена ў 1972 г.), «Кветкі на попеле» (пастаўлена ў 1978 г.). Аўтар кінасцэнарыя пра Героя Савецкага Саюза Дз. М. Карбышава «Пакуль б'ецца сэрца» (1957 г.). На тэксты П. Харкова напісаны кантаты «Невядомы салдат» (1970 г., музыка І. Лучанка), «Аб Нёмане» (1975 г., з А. Астрэйкам, музыка Дз. Смольскага), вакальныя паэмы «Світанне», «Калі сэрца прыніжана», «Роздум» (1973 г., музыка Я. Глебава), вакальна-сімфанічная паэма «Аб Дняпры» (1973 г., з П. Макалём, музыка Дз. Смольскага). Творчасць П. Харкова прысвечана гераізму савецкіх салдат у Вялікую Айчынную вайну, высокаму грамадзянскаму абавязку савецкага чалавека. Для яе характэрны высокі патрыятызм і жыццесцвярджальны пафас. Памёр П. А. Харкоў 10.1.1983 г.

У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *У. У. Бянько.*

**501. МАГІЛА ХВЕДАРОВІЧА** Міколы (гіст.).

Беларускі савецкі паэт М. Хведаровіч (сапраўднае Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч) нарадзіўся 24.3. 1904 г. у г. Капыль Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. З 1919 г. адзін з арганізатараў камсамольскіх ячэек на Случчыне. Скончыў у 1928 г. рабфак у Мінску, у 1931 г.— літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. Працаваў у часопісах «Партыйны работнік», «Бальшавік Беларусі», «Чырвоная Беларусь», «Полымя рэвалюцыі». Друкаваўся з 1925 г. Выйшлі кнігі паэзіі «Настроі» (1929 г.), «Баявыя песні» і «Рытмы» (1930 г.), «Тэмпы-кантрасты» (1931 г.), «Вайна за мір» (1932 г.), «Усім сэрцам» (1937 г.), «Залаты лістапад» (1957 г.), «Перазвон бароў» (1961 г.), «Пасля навальніцы» (1965 г.), «Зоркі на камені» (1968 г.), «Крынічка» (1978 г.) і інш. Аўтар зборнікаў для дзяцей «Сонечны зайчык» (1961 г.), «Лясныя званочкі» (1968 г.), «Крылы» (1973 г.). Напісаў кнігі нарысаў-успамінаў пра беларускіх пісьменнікаў «Памятныя сустрэчы» (1960 г.), «Незабыўнае» (1976 г.), аўтабіяграфічную аповесць «Споведзь перад будучыняй» (1978 г.). У 1974 г. выйшлі «Выбраныя творы» ў двух тамах. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы А. Пушкіна, Э. Багрыцкага, раман А. Фадзеева «Апошні з Удэге» (з А. Звонакам), паэму «Віцязь у тыгравай шкуры» Ш. Руставелі (з А. Звонакам), раман У. Кочатава «Браты Яршовы» (з І. Грамовічам), зборнік «Ліра і меч» Ш. Пецёфі (1971 г.), вершы ўкраінскіх і інш. паэтаў. Творчасць М. Хведаровіча прасякнута пафасам жыццесцвярджэння, услаўленнем сацыялістычных пераўтварэнняў у рэспубліцы і краіне. Памёр М. Хведаровіч 20.8.1981 г.

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла ў выглядзе раскрытай кнігі, на адной старонцы якой барэльефная выява паэта, на другой — радкі з верша.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *М. М. Казлоўская.*



501. *Помнік на магіле Міколы Хведаровіча.*

**502. МАГІЛА ЧЭРНІ** Хведара (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Хведар (Фёдар Мікалаевіч) Чэрня нарадзіўся 10.6.1939 г. у в. Лінкі Валожынскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1961 г. У 1966 г. скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна, у 1969 г.— Мінскую вышэйшую партыйную школу. Працаваць пачаў на Мінскім аўтазаводзе. У 1959—61 гг. служыў у Савецкай Арміі. У 1966—67 гг. на Беларускім радыё, з 1969 г. у выдавецтвах «Беларусь», «Мастацкая літаратура».

Друкаваўся з 1957 г. Выдаў зборнікі «Добрай раніцы, людзі!» (1966 г.), «Дабрэе свет» (1968 г.), «Размова з памяццю» (1970 г.), «Сады юнацтва» (1972 г.), «Настрой» (1974 г.), «Ваколіца» (1976 г.), «Святло рамонкаў» (1981 г.), зборнік сатырычных вершаў «Ажаніся, не журыся» (1979 г.). Пісаў для дзяцей: «Песня Сабіны» (1971 г.), «На сонечнай вуліцы» (1973 г.). У 1982 г. выдадзена кніга выбраных твораў «На скрыжаваннях памяці», у 1984 г.— «Музыка дарог». Свае творы паэт прысвячаў жыццю сучаснікаў, людзям працы, іх думам і клопатам, роднай прыродзе. Памёр Х. Чэрня 16.3.1983 г.

У 1985 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *М. Б. Батвіннік.*

**503. МАГІЛА ШАБАНА** Яўгена Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт і драматург Я. П. Шабан нарадзіўся 29.12.1936 г. у в. Калодзіна Мядзельскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1958 г. скончыў акцёрскі факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Працаваў акцёрам, загадчыкам літаратурнай часткі Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Я. Коласа ў Віцебску (1958—65 гг.), рэжысёрам студыі Беларус-

кага тэлебачання (1965—76 гг.). З 1976 г.— памочнік галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы Беларускага тэатра імя Я. Купалы.

Друкаваўся з 1960 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Нарачанка» (1969 г.), «Чырвоныя сумёты» (1977 г.), п'ес «Ракіроўка» (апублікавана ў 1982 г.), «Чахарда» (напісана ў 1976 г.), «Сіні снег» (пастаўлена ў 1975 г., Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача, апублікавана ў 1976 г.), «Шрамы» (пастаўлена і апублікавана ў 1977 г.), «Чалавек з легенды» (разам з І. Ражковым, пастаўлена ў 1978 г., абедзве — Беларускім тэатрам імя Я. Купалы), «Аўтограф на пласцінцы» (напісана ў 1980 г.), «Вячэра» (1982 г.), «Востраў Алены» (пастаўлена ў 1982 г., Беларускі тэатр імя Я. Коласа). Напісаў лібрэта тэлеоперы «Ранак» (1968 г.), сцэнарый тэлефільма «І смех, і бяда» (пастаўлены ў 1973 г.), некалькі сцэнарыяў тэлеспектакляў. У 1983 г. выдадзены зборнік «П'есы». Перакладаў на беларускую мову паэзію народаў СССР, творы рускай драматургіі, асобныя М. Шолахава, В. Шукшына, Н. Думбадзе, Ю. Туўліка і інш. Памёр Я. П. Шабан 30.7.1982 г.

У 1985 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Беларуская літаратура і праблемы сучаснасці.— Мн., 1978, с. 245—246.
*У. У. Бянько.*

**504. МАГІЛА ШАЦІЛЫ** Івана Браніслававіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр, народны артыст БССР (1953 г.) І. Б. Шаціла нарадзіўся 15.12.1910 г. у в. Талька Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1952 г. Скончыў у 1932 г. аднагадовыя драматычныя курсы ў Мінску. У 1932—61 гг. і ў 1967—71 гг. у Беларускім тэатры імя Я. Купалы; у 1961—67 гг. у рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага. Акцёр моцнага драматычнага тэмпераменту, яркіх эмоцый, высокага грамадзянскага пафасу. Выканаўца драматычных, характарных роляў. З лепшых роляў у тэатры імя Я. Купалы: Рыгор, Левановіч, Мікола Верас («Партызаны», «Хто смяецца апошнім», «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы), Мікола («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), Якім Сарока («Паўлінка» Я. Купалы), Янка Купала («Шчасце паэта» В. Віткі), Якараў, Мядзведзеў («Апошнія», «На дне» М. Горкага), Трэплеў («Чайка» А. Чэхава), Тыбальд («Рамэо і Джульета» У. Шэкспіра), Хельмер («Нора» Г. Ібсена), Сафонаў («Рускія людзі» К. Сіманава), Сяргей Горлаў, Крэчат («Фронт», «Платон Крэчат» А. Карнейчука), Рыбакоў («Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна), Герман («Таня» А. Арбузава), Сыравараў («У мяцеліцу» Л. Лявонава), Арцём Восіпавіч («Блакада» У. Іванава), Касагораў («Уцёкі з ночы» братоў Тур); у рускім тэатры: Аляксей («Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага), Давыдаў («Узнятая цаліна» паводле М. Шолахава), Паратаў («Беспасажніца» А. Астроўскага) і інш. Здымаўся ў кіно («Пяюць жаваранкі», «Першыя выпрабаванні», «Вуліца малодшага сына», «Масква — Генуя»). Памёр І. Б. Шаціла 12.2.1977 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Сабалеўскі А. Творчасць, сугучная думам народным.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960; яго ж. Рампай асветленае.— Мн., 1962, с. 35—49; яго ж. Жыццё тэатра.— Мн., 1980.
*Ю. М. Сохар.*

**505. МАГІЛА ШПІГЕЛЬМАНА** Нуты Аўрум-Эльевіча (гіст.).

Беларускі савецкі архітэктар, заслужаны архітэктар БССР (1974 г.) Н. А.-Э. Шпігельман нарадзіўся 28.5. 1921 г. у г. п. Валадарск-Валынскі Жытомірскай вобл. у сям'і рабочага. Вучыўся ў Кіеўскім мастацкім інстытуце (1938—41 гг.), у 1950 г. скончыў Маскоўскі архітэктурны інстытут. З 1945 г. у Мінску, працаваў у праектных інстытутах, майстэрнях, з 1950 г. галоўны архітэктар інстытута «Белпрампраект», у 1962—71 гг.— інстытута «Мінскпраект», у 1971—74 гг. кіраўнік архітэктурна-канструктарскай майстэрні гэтага інстытута. Асноўныя работы ў Мінску (у сааўтарстве): інтэрнаты па вул. Казлова і Маскоўскай (1952 г.), паліграфкамбінат (1956 г.), карпусы заводаў ЭВМ (1961 г.) і гадзіннікавага (1963 г.), жылыя дамы на пл. Я. Коласа (1957 г.), на Бранявым і Вайсковым зав. (1969 г.), вул. Чкалава (1979 г.), рэстаран «Журавінка» (1968 г.), Цэнтральны навукова-даследчы і праектна-тэхналагічны інстытут арганізацыі і тэхнікі кіравання на Партызанскім праспекце (1967—73 гг.), НДІ глебазнаўства і аграхіміі (1980 г.), заводы швейных машын у г. Орша (1953 г.), дарожных машын у г. Жодзіна (1956 г.), дывановы і панчошны камбінаты ў Брэсце (1968 г.). Распрацаваў серыі 5—9-павярховых жылых дамоў для масавага будаўніцтва (1966 г., у сааўтарстве). Дзяржаўная прэмія БССР 1968 г. за ўдзел у стварэнні архітэктурнага ансамбля Ленінскага праспекта ў Мінску. Памёр Н. А.-Э. Шпігельман 27.10.1974 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла з рэльефным партрэтам.

*В. М. Чарнатаў.*

**506. МАГІЛА ШЧАРБІНЫ** Валянціна Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі геолаг і геахімік, член-карэспандэнт АН БССР (1956 г.), доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар (1953 г.) В. М. Шчарбіна нарадзіўся 24.1.1908 г. у г. Харкаве ў сям'і служачага. Скончыў Харкаўскі універсітэт (1933 г.). З 1934 г. працаваў у геалагічных арганізацыях на Украіне, у Казахстане, Літве. У 1948—55 гг. загадчык сектара нярудных карысных выкапняў у Інстытуце геалогіі Кіргізскага філіяла АН СССР (з 1955 г. АН Кірг. ССР), адначасова выкладаў у Казахскім тэхналагічным інстытуце будматэрыялаў (1948—51 гг.), Кіргізскім універсітэце (1953—54 гг.), Фрунзенскім політэхнічным інстытуце (1954—55 гг.). У 1955—64 гг. загадчык сектара карысных выкапняў, потым сектара геалогіі і геахіміі мінеральных солей Інстытута геалагічных навук АН БССР. Вывучаў гіпсаносныя і саляносныя адклады Цянь-Шаня, адкрыў новы глаўберытавы тып мінералізацыі саляносных адкладаў. Даследаваў Прыпяцкі саляны басейн і Старобінскае радовішча калійных солей. Ім вывучаны асаблівасці саставу і будовы саляносных адкладаў і калійных гарызонтаў, умовы іх утварэння, мінералогія і петраграфія галагенных парод і саляных глін (галапелітаў). Асноўныя працы: «Мінералага-петраграфічныя і генетычныя асаблівасці трацічных кантынентальных саляносных і гіпсаносных адкладаў міжгорных упадзін Цянь-Шаня» (1956 г.), «Будова саляной тоўшчы Старобінскага радовішча калійных солей» (1960 г.). Памёр В. М. Шчарбіна 19.5. 1976 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.
*В. Б. Караткевіч.*

**УСХОДНІЯ МОГІЛКІ** (Маскоўская шаша)

Усходнія могілкі адкрыты ў пачатку 1950-х гадоў. Знаходзяцца на паў-



504. *Помнік на магіле І. Б. Шаціла.*

ночна-ўсходняй ускраіне Мінска. Тут пахаваны многія савецкія дзяржаўныя і партыйныя, ваенныя дзеячы, Героі Савецкага Саюза і Героі Сацыялістычнай Працы, вучоныя, пісьменнікі, кампазітары, акцёры, мастакі і інш. Плошча 24 га.

**507. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Пахаваны ўдзельнікі Мінскага камуністычнага падполля Васіль Ермалаевіч Гурло і яго сыны Кірыл і Яўген.

Ветэран Грамадзянскай вайны В. Е. Гурло ў Вялікую Айчынную вайну стаў падпольшчыкам. У кастрычніку 1941 г. з Мінска ездзіў у Лагойскі раён на сувязь з партызанамі. Па дарозе назад натрапіў на засаду, быў абстраляны, памёр ад ран.

К. В. і Я. В. Гурло — члены камсамольска-маладзёжных падпольных арганізацый «Андруша», потым «Танюша». Вялі разведку, рыхтавалі для падпольшчыкаў, партызан, ваеннапалонных, якія трапілі ў канцлагеры, дакументы (пашпарты, пропускі і інш.), неаднаразова ўдзельнічалі ў дыверсіях. Загінулі ў лістападзе 1943 г. у няроўным баі з гітлераўцамі.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Сквозь огонь и смерть.— Мн., 1970; Николаев Н. Минские молодогвардейцы.— Мн., 1968. *Р. М. Шавяла.*



508. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**508. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Пахаваны 33 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г. пры вызваленні Мінска і ліквідацыі мінскага «катла». У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**509. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні Мінска. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**510. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў пры ліквідацыі мінскага «катла». У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**511. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Пахаваны воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях пры вызваленні Мінска ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1955 г. на магіле пастаўлена стэла.

**512. МАГІЛА АБЭЦЭДАРСКАГА** Лаўрэнція Сямёнавіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, член-карэспандэнт АПН СССР (1968 г.), доктар гістарычных навук, прафесар (1966 г.) Л. С. Абэцэдарскі нарадзіўся 29.6.1916 г. у г. Горкі Магілёўскай вобл. у сям'і служачага. Член КПСС з 1944 г. Скончыў БДУ (1946 г.). Працаваў там жа выкладчыкам, загадчыкам кафедры гісторыі СССР (1950—58 гг.), гісторыі БССР (з 1958 г.). Асноўныя працы прысвечаны гісторыі беларускага народа ў эпоху феадалізму. Выдадзены працы: «Барацьба ўкраінскага і беларускага народаў за ўз'яднанне з Расіяй у сярэдзіне XVII ст.» (1954 г.), «Беларусы ў Маскве XVII ст.: З гісторыі руска-беларускіх сувязей» (1957 г.), «Беларусь і Расія: Нарысы руска-беларускіх сувязей другой палавіны XVI—XVII ст.» (1978 г.). Адзін з аўтараў 2- і 5-томнай гісторыі БССР, школьнага падручніка гісторыі БССР. Памёр Л. С. Абэцэдарскі 6.7.1975 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла. *В. М. Удальцоў.*

**513. МАГІЛА АКСАКАВА** Сяргея Сяргеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі кампазітар С. С. Аксакаў нарадзіўся 26.12.1890 г. у Куйбышаве. Музычную адукацыю па кансерваторскай праграме (тэорыя кампазіцыі, гісторыя музыкі, тэхніка ігры на фартэпіяна, дырыжорскае майстэрства) атрымаў прыватна пад кіраўніцтвам вядомых рускіх музыкантаў і педагогаў. Скончыў Аляксандраўскі ліцэй у Пецярбургу (1914 г.). У 1-ю сусветную вайну ўпаўнаважаны Таварыства Чырвонага Крыжа ў Полацку, Пскове, Самары і інш. З 1923 г. да 1954 г. жыў у Кітаі, працаваў педагогам Вышэйшай



511. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

музычнай школы імя А. К. Глазунова ў Харбіне, з 1928 г. прафесар Шанхайскай кансерваторыі. Пасля вяртання на радзіму жыў у Омскай вобл. З 1955 г. у Мінску, выкладаў у сярэдняй спецыяльнай музычнай школе пры Беларускай кансерваторыі.

Фарміраванне Аксакава-кампазітара, станаўленне і развіццё яго таленту арганічна звязана з лепшымі традыцыямі рускага класічнага мастацтва. Ён стварыў вакальныя творы на словы рускіх паэтаў А. М. Плешчэева, А. М. Майкава, В. Я. Брусава і інш. Плённымі для кампазітара былі гады жыцця на Беларусі. Уражан-



510. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

ні ад беларускіх краявідаў, цікавасць да гісторыі беларускага народа вызначылі тэматыку яго творчасці апошняга перыяду. У гэты час С. С. Аксакаў стварыў шэраг праграмных інструментальных твораў: сімфанічныя паэмы «У Тураўскай пушчы» паводле верша У. Дубоўкі (1961 г.), «Лясная казка» па матывах твораў Я. Коласа, канцэртную ўверцюру «Сельскае свята» (1958 г.), песні і рамансы на словы Я. Купалы, Я. Коласа, К. Кірэенкі, П. Прыходзькі, А. Ставера і інш. Памёр С. С. Аксакаў 4.9.1968 г.

У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла. *Б. С. Смольскі.*

**514. МАГІЛА АЛАДАВА** Мікалая Ільіча (гіст., маст.).

Беларускі савецкі кампазітар і педагог, народны артыст БССР (1955 г.) М. І. Аладаў нарадзіўся 9.12.1890 г. у Пецярбургу ў сям'і чыноўніка. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Пецярбургскую кансерваторыю экстэрнам (1910 г.). На працягу некалькіх гадоў даваў прыватныя ўрокі ігры на раялі, акампаніраваў на канцэртах. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — педагог Петраградскай адзінай працоўнай школы. З 1919 г. у Казані, выкладчык спеваў у дзіцячым доме, педагог Усходняй кансерваторыі. З 1923 г. у Маскве. Працаваў у Дзяржаўным інстытуце музычнай навукі. Уваходзіў у Беларускую песенную камісію пры гэтым інстытуце. У Мінску з 1924 г. Адзін з арганізатараў і першых выкладчыкаў Беларускага музычнага тэхнікума і кансерваторыі (з 1946 г. прафесар, у 1944—48 гг. рэктар кансерваторыі). Сярод яго вучняў кампазітары У. У. Алоўнікаў, А. В. Багатыроў, Н. Ф. Сакалоўскі і інш. М. І. Аладаў удзельнічаў у стварэнні ў 1932 г. беларускай кампазітарскай арганізацыі. Рэдактар многіх музычных выданняў. Яго творчасць адлюстроўвае аптымістычнае светаўспрыманне, пастаянную цікавасць да новых працэсаў і з'яў у савецкай рэчаіснасці. Адзін з заснавальнікаў сімфанічнага, кантатна-аратарыяльнага, камерна-інструментальнага і камерна-вакальнага, харавога жанраў беларускай прафесійнай музыкі. Яму характэрны сімфанічнасць мыслення, выкарыстанне сродкаў поліфаніі, фальклорнага матэрыялу. Сярод твораў: опера «Андрэй Касценя» (1947 г., пастаўлена ў 1970 г.), камічная опера «Тарас на Парнасе» (1927 г.), вакальна-сімфанічная паэма «Над ракою Арэсай» (на вершы Я. Купалы; 1933 г.), кантаты «Сорак год» (1956 г.), «Па шляху барацьбы і перамог» (1966 г.), 10 сімфоній (1921 г., 1930 г., 1951 г., 1953—54 гг., 1956 г., 1960 г., 1963 г., 1965 г., 1967 г., 1971 г.), сімфонія-балада «У суровыя дні» (1942 г.), сімфанічная паэма «Мацней за смерць» (1933 г.) і кантата-плакат «Сціплы і просты» (1959 г.), прысвечаныя У. І. Леніну, камерныя ансамблі, вакальныя цыклы на вершы Я. Купалы, М. Багдановіча, М. Танка, Н. Гілевіча і інш., п'есы для беларускага народнага аркестра, апрацоўкі народных мелодый — больш за 50 беларускіх, 10 марыйскіх, 10 чувашскіх, 16 якуцкіх народных песень для голаса з фартэпіяна, хору. Памёр М. І. Аладаў 4.12.1972 г. Яго імя прысвоена Мінскай музычнай школе № 2, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.




514. *Помнік на магіле М. І. Аладава.*

У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. З. Азгур; бетон, граніт, бронза; вышыня пастамента 1,6 м, скульптуры 0,9 м) — скульптурная паўфігура кампазітара на прамавугольным пастаменце, абліцаваным чырвоным паліраваным гранітам. Помнік вызначаецца дынамізмам: торс у развароце, плечы падкрэслена асіметрычныя, галава злёгку нахілена. У руках нотныя лісткі. Дакладна перададзены партрэтныя рысы. На пярэдняй плоскасці пастамента — бронзавыя барэльефныя выявы ліры і лаўровага вянка.

*Літ.:* Нисневич С. Г. Народный артист БССР Н. И. Аладов.— Мн., 1959; Журавлёв Д. Н. Союз композиторов БССР.— Мн., 1978.

*В. Б. Караткевіч, Г. М. Ярмоленка.*

**515. МАГІЛА АЛЕЙНІКА** Івана Лявонцьевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. Л. Алейнік нарадзіўся 12.12.1919 г. у в. Шкурупіі Рашацілаўскага р-на Палтаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе (1956 г.). З 1939 г. у Чырвонай Арміі. З 1941 г. на Паўночна-Заходнім, Заходнім, 2-м Украінскім франтах, намеснік камандзіра стралковага батальёна. Удзельнік абароны Масквы, баёў пад Сталінградам, вызвалення Украіны, Румыніі, Венгрыі. Вызначыўся 20.10. 1944 г. Атрад воінаў на чале з старшым лейтэнантам І. Л. Алейнікам пад агнём праціўніка пераправіўся на тэрыторыі Венгрыі цераз р. Ціса, захапіў плацдарм на правым беразе ракі і замацаваўся на ім, што садзейнічала паспяховаму наступленню савецкіх войск. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Да 1960 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Жыў у Мінску. Памёр І. Л. Алейнік 6.6.1968 г.

У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**516. МАГІЛА АЛЕКСАНДРОВІЧА** Андрэя Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт, член-карэспандэнт АН БССР (1936 г.) А. І. Александровіч нарадзіўся 9.1.1906 г. у Мінску ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1930 г. Скончыў Мінскі педагагічны тэхнікум (1925 г.), БДУ (1930 г.). У 1924—25 гг. рэдактар газеты «Маладыя араты» (Мінск), у 1925—26 гг.— газеты «Наш працаўнік» (г. Клімавічы). Адзін з арганізатараў літаратурнага аб'яднання «Маладняк». У 1934—37 гг. намеснік старшыні праўлення СП БССР. Друкаваўся з 1921 г. Першы зборнік вершаў «Па беларускім бруку» (1925 г.). Аўтар кніг «Прозалаць» (1926 г.), «Угрунь» (1927 г.), «Фабрыка смерці» (1929 г.), «Гудкі»



516. *Помнік на магіле А. І. Александровіча.*



517. *Помнік на магіле Л. П. Александроўскай.*

(1930 г.), паэмы «Цені на сонцы» (1928—29 гг.). Асноўныя тэмы творчасці — працоўныя будні рабочага чалавека, будаўніцтва сацыялізма, класавая барацьба ў перыяд калектывізацыі, вызваленчая барацьба працоўных Заходняй Беларусі. У паэмах «Дваццаць» (1925 г.), «Нараджэнне чалавека» (1931 г.), «Векапомная восень» (1933 г.) паказаў станаўленне новага чалавека. Кніга «Узброеныя песні» (1936 г.) прысвечана абаронна-патрыятычнай тэматыцы. У 1938—55 гг. стварыў цыкл «Поўнач», шэраг вершаў пра Вялікую Айчынную вайну, у 1956—62 гг.— вершы пра барацьбу за мір. Для дзяцей напісаў кнігі: «Горад ранiцой» (1930 г.), «Шчаслівая дарога» і «Казка пра пана Жываглота» (1935 г.), «Падарунак дзеткам-малалеткам» (1936 г.) і інш. На беларускую мову пераклаў «Інтэрнацыянал», паэму А. С. Пушкіна «Руслан і Людміла», асобныя вершы Дз. Беднага, М. Ісакоўскага, А. Суркова. Некаторыя творы А. І. Александровіча перакладзены на рускую, украінскую і інш. мовы. Член ЦВК БССР у 1931—37 гг. Кандыдат у члены ЦК КП(б)Б у 1936—37 гг. Памёр А. І. Александровіч 6.1.1963 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — гранітная глыба з барэльефным партрэтам пісьменніка.

*М. М. Казлоўская.*

**517. МАГІЛА АЛЕКСАНДРОЎСКАЙ** Ларысы Пампееўны (гіст.).

Беларуская савецкая спявачка, рэжысёр і грамадскі дзеяч, народная артыстка СССР (1940 г.) Л. П. Александроўская нарадзілася 2.2.1904 г. у Мінску ў сям'і служачага. Член КПСС з 1942 г. Скончыла Беларускі музычны тэхнікум (1928 г.), удасканальвала майстэрства як оперная спявачка ў Беларускай студыі оперы і балета (1930—1933 гг.). У 1919—24 гг. удзельніца арганізаванай ёю самадзейнай трупы пры Палітаддзеле Заходняга фронту. Першая оперная партыя — Маргарыта («Фауст» Ш. Гуно) выканана ў 1928 г. У 1930—33 гг. салістка Беларускай студыі оперы і балета. У 1933 г. партыяй Кармэн дэбютавала на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Да 1960 г. салістка, у 1951—60 гг. і галоўны рэжысёр тэатра. У Вялікую Айчынную вайну член франтавых канцэртных брыгад. У 1946—76 гг. старшыня прэзідыума праўлення БТА. Шырокі дыяпазон голасу даваў магчымасць спявачцы выконваць і сапранавыя, і меццa-сапранавыя партыі. Сапраўдная народнасць, выключнае майстэрства выявіліся ў выкананні партый у нацыянальных спектаклях: Марыся і Алеся («Міхась Падгорны» і «Алеся» Я. Цікоцкага), Надзейка («Кветка шчасця» А. Туранкова), Марыя Грагатовіч («Кастусь Каліноўскі» Дз. Лукаса), партый класічнага і савецкага рэпертуару: Таццяна, Ліза, Графіня («Яўген Анегін» і «Пікавая дама» П. Чайкоўскага), Яраслаўна, Канчакоўна («Князь Ігар» А. Барадзіна), Любаша («Царская нявеста» М. Рымскага-Корсакава), Аксіння («Ціхі Дон» І. Дзяржынскага) і інш. Паставіла оперы «Запарожац за Дунаем» С. Гулак-Арцямоўскага (1951 г.), «Страшны двор» С. Манюшкі, «Мазепа» П. Чайкоўскага (абедзве 1952 г.), «Дзяўчына з Палесся» Я. Цікоцкага, «Аіда» Дж. Вердзі (абедзве 1953 г.), «Барыс Гадуноў» М. Мусаргскага (1954 г.), «Русалка», «Трубадур» Дж. Вердзі (абедзве 1955 г.), «Надзея Дурава» А. Багатырова (1956 г.), «Міхась Падгорны» (1957 г.), «Яснае світанне» А. Туранкова (1958 г.), «Пікавая дама» (1960 г.). Шырокую вядомасць за межамі рэспублікі атрымалі беларускія народныя песні і вакальныя творы савецкіх кампазітараў у выкананні Л. П. Александроўскай. Дзяржаўная прэмія СССР 1941 г. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1952—60 гг., Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—58 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1951—63 гг. Памерла Л. П. Александроўская 23.5.1980 г. У Мінску яе імя прысвоена музычнай школе № 1; на доме, дзе жыла спявачка, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1986 г. на магіле пастаўлены скульптурны помнік.

*Літ.:* Рузов Г., Л. П. Александровская.— М.; Л., 1950; Лукас Д., Жураўлёў Д. Выдатны дзеяч опернага мастацтва.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960. *В. Б. Караткевіч.*

**518. МАГІЛА АЛЯКСАНДРАВА** Мікалая Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі анколаг, член-карэспандэнт АМН СССР (1974 г.), доктар медыцынскіх навук (1955 г.), прафесар (1962 г.), Герой Сацыялістычнай Працы (1977 г.) М. М. Аляксандраў нарадзіўся 11.6.1917 г. у Бранску ў сям'і настаўніка. Член КПСС з 1939 г. Скончыў Ваенна-медыцынскую акадэмію імя С. М. Кірава ў Ленінградзе (1940 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1950 г. працаваў выкладчыкам кафедры факультэцкай хірургіі Ленінградскай ВМА, з 1960 г. дырэктар НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Міністэрства аховы здароўя БССР, адначасова загадчык кафедры анкалогіі Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў. Працы па дыягностыцы і лячэнню злаякасных пухлін і арганізацыі проціракавай барацьбы: «Раненні чэрапа і галаўнога мозга пры вострай прамянёвай хваробе» (1962 г., у сааўтарстве), «Аперацыйная рызыка і інтэнсіўная тэрапія ў анкалагічнай клініцы» (1976 г., у сааўтарстве), «Выкарыстанне гіпертэрміі і гіперглікеміі пры лячэнні злаякасных пухлін» (1980 г., у сааўтарстве) і інш. Памёр М. М. Аляксандраў 7.10.1981 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлены помнік — бюст на пастаменце.

*У. У. Бянько.*

**519. МАГІЛА АЛЯХНОВІЧА** Антона Адамавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. А. Аляхновіч нарадзіўся 20.3.1914 г. у в. Дабраводка Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1938 г. скончыў ваенналётнае вучылішча. Пасля заканчэння школы ФЗН (1932 г.) працаваў слесарам на заводах у Ленінградзе. З 1935 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з верасня 1942 г.— намеснік камандзіра гвардзейскага авіяпалка далёкага дзеяння. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, прарыва блакады Ленінграда, вызвалення Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі, Чэхаславакіі, Польшчы, Венгрыі. Бамбіў ваенныя і прамысловыя аб'екты ў глыбокім тыле ворага, зрабіў 260 баявых вылетаў, 25 вылетаў па дастаўцы грузаў беларускім партызанам. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.8.1944 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Удзельнічаў у ажыццяўленні палётаў у Арктыку. У 1958—71 гг. працаваў у Беларускім упраўленні грамадзянскай авіяцыі.

Жыў у Мінску. Памёр А. А. Аляхновіч 29.12.1979 г.

У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

520. **МАГІЛА АЛЯШКЕВІЧА** Васіля Антонавіча (гіст.).

Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Грамадзянскую вайну В. А. Аляшкевіч нарадзіўся 16.1.1893 г. у в. Еськавічы Нясвіжскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1917 г. У 1915—17 гг. у арміі на Паўднёва-Заходнім фронце, вёў бальшавіцкую прапаганду. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі член палкавога камітэта. Вярнуўшыся ў родныя мясціны ў кастрычніку 1917 г., узначаліў Еськавіцкі сельскі Савет. У час акупацыі Беларусі кайзераўскімі войскамі арганізатар і камісар партызанскага атрада Лапскай воласці Слуцкага павета (з мая 1918 г.). У час польскай інтэрвенцыі камісар аб'яднанага партызанскага атрада Случчыны (з мая 1919 г.). З жніўня 1919 г. на падпольнай рабоце ў Бабруйскім павеце, адзін з арганізатараў партызанскага атрада імя III Інтэрнацыянала. У 1920—21 гг. ваенны камісар Парыцкай воласці Бабруйскага павета, удзельнік барацьбы з бандамі Булак-Балаховіча. У 1922—49 гг. на савецкай і адміністрацыйна-гаспадарчай рабоце. Памёр В. А. Аляшкевіч 18.7.1972 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла. *В. Б. Караткевіч.*

521. **МАГІЛА АПЕЙКІ** Фёдара Аляксандравіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне механікі тарфяных машын, член-карэспандэнт АН БССР (1950 г.), член-карэспандэнт Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1959 г.), доктар тэхнічных навук (1949 г.), прафесар (1950 г.) Ф. А. Апейка нарадзіўся 8.2.1908 г. у Мінску ў сям'і служачых. Член КПСС з 1965 г. Скончыў Маскоўскі тарфяны інстытут (1932 г.). У 1933—41 гг. выкладчык, з 1949 г. загадчык кафедры тарфяных машын Беларускага політэхнічнага інстытута, адначасова ў 1938—41 гг. і з 1949 г. супрацоўнік Інстытута торфу АН БССР. У 1943—49 гг. дацэнт Маскоўскага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Навуковыя працы па прыкладной механіцы, разліку тарфяных машын і сельскагаспадарчай тэхнікі, па тэорыі пластычнасці, кантактавай трываласці: «Калёсны і гусенічны ход» (1960 г.), «Тэорыя трываласці» (1961 г.), «Тарфяныя машыны» (1968 г.). «Матэматычная тэорыя трэння» (1971 г.). Памёр Ф. А. Апейка 29.4.1970 г.

У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла. *М. В. Кірэйшын.*

522. **МАГІЛА АРЛОВА** Дзмітрыя Аляксеевіча (гіст.).

Рускі савецкі акцёр, рэжысёр, педагог, народны артыст БССР (1940 г.), прафесар (1961 г.) Дз. А. Арлоў нарадзіўся 13.9.1903 г. у Маскве ў сям'і настаўніка. Скончыў Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва ў Маскве (1925 г.). З 1929 г. працаваў у Маскоўскім тэатры імя ВЦСПС, з 1934 г. у Рэалістычным тэатры, які́м кіраваў М. П. Ахлопкаў. З 1936 г. у Дзяржаўным рускім тэатры БССР (у 1939—41 гг., 1944—48 гг. мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысёр, у 1943—44 гг. кіраўнік франтавога тэатра). У 1948—69 гг. выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Як акцёра Дз. А. Арлова вызначалі тонкі псіхалагізм і глыбокае пранікненне ў вобраз героя, вынаходлівасць, імправізатарства, мяккі гумар. З лепшых роляў: Косця-капітан («Арыстакраты» М. Пагодзіна), Хлестакоў («Рэвізор» М. Гогаля), цар Фёдар («Цар Фёдар Іаанавіч» А. К. Талстога), Цыляцьеў («Шалёныя грошы» А. Астроўскага), Мальволіо («Дванаццатая ноч» У. Шэкспіра), Бярсенеў («Разлом» Б. Лаўранёва), Чайка («Што пасееш, тое і пажнеш» В. Палескага), Чабутыкін, Вайніцкі («Тры сястры», «Дзядзька Ваня» А. Чэхава). Першы выканаўца на рускай сцэне ў Беларусі ролі У. І. Леніна ў спектаклі «Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна (1940 г.). У рэжысуры прытрымліваўся прынцыпаў рускага псіхалагічнага тэатра. Да ліку лепшых рэжысёрскіх работ адносяцца спектаклі: «Прафесар Паляжаеў» Л. Рахманава (1936 г.), «Палаўчанскія сады» Л. Лявонава (1938 г.), «Дзядзька Ваня» А. Чэхава (1947 г.), «Шалёныя грошы» А. Астроўскага (1951 г.). Здымаўся ў кіно («Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Веснавыя навальніцы» і інш.). У Бабруйскім вандроўным беларускім тэатры паставіў «Ягор Булычоў і іншыя» М. Горкага (1958 г.). Памёр Дз. А. Арлоў 18.6.1969 г.

У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Мастацтва Савецкай Беларусі.— Мн., 1955, с. 422—428; Вішкароў Б. Акцёр, рэжысёр, педагог.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960; Бурьян Б., Лисневский И. На театральных перекрестках.— Мн., 1967; Обухович А. Полвека на сцене.— Мн., 1987. *Р. Б. Смольскі.*

523. **МАГІЛА АСТАПЕНКІ** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Алесь (Аляксандр Кірылавіч) Астапенка нарадзіўся 14.7.1920 г. у в. Сырская Буда Добрушскага р-на ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце (1938—41 гг.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў на Беларускім радыё (1943—46 гг.), у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў (1946—53 гг.). Першыя вершы А. Астапенкі з'явіліся ў друку ў 1942 г. У 1947 г. выйшаў зборнік «Выпрабаванне», у 1952 г.— «Дзень маёй Радзімы», у 1960 г.— «Сэрца спявае». Услаўляў подзвіг савецкіх людзей у Вялікую Айчынную вайну, іх мірную стваральную працу. Перакладаў на беларускую мову паасобныя творы М. Ісакоўскага, Я. Райніса, П. Тычыны. Памёр А. Астапенка 20.7.1970 г.

У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *М. В. Кірэйшын.*

524. **МАГІЛА АСТРЭЙКІ** Анатоля (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Анатоль (Акім Пятровіч) Астрэйка нарадзіўся 11.7.1911 г. у в. Пясочнае Капыльскага р-на ў сялянскай сям'і. Скончыў курсы пры Мінскім педагагічным тэхнікуме (1930 г.), вучыўся ў Беларускім вышэйшым педагагічным інстытуце (1932—34 гг.). У 1930—32 гг., 1934—41 гг. працаваў у рэдакцыях газет «Чырвоная Полаччына», «Ленінскі прызыў» (Орша), «Ленінскі шлях» (Горкі). У Вялікую Айчынную вайну адказны сакратар сатырычнай газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». У 1942 г. і 1943 г. па заданню Беларускага штаба партызанскага руху быў у варожым тыле. У 1946—48 гг. старшыня Гродзенскага аддзялення СП БССР, у 1948—53 гг. адказны сакратар часопіса «Вожык». Друкаваўся з 1928 г. Першы зборнік «Слава жыццю» (1940 г.). У 1943 г. друкарня падпольнай слуцкай газеты «Народны мсцівец» выпусціла зборнік вершаў паэта «Слуцкі пояс» (перавыдадзены ў 1964 г.). Аўтар зборнікаў «Крамлёўскія зоры» (1945 г.), «Добры дзень» (1948 г.). «Зямля мая» (1952 г.), «Песня дружбы» (1956 г.), «Бацька мой Нёман» (1961 г.), «Сэрпа наспеж» (1965 г.), «Цвіціце, верасы!» (1975 г.), «Зямная Случчына» (1977 г.), «Ураджай пяпла» (1978 г.), «Памяць дарог» (1980 г.). Творам А. Астрэйкі ўласцівы задушэўнасць і спавядальная адкрытасць, цесная сувязь з фальклорам, напеўнасць. Ён шырока вядомы як паэт-песеннік. Найбольш папулярныя песні «Ой бацька мой. Нёман», «Песня пра Заслонава», «Шоўкавыя травы», «Песня мінаеўцаў» і інш. Для дзяцей напісаў паэму «Прыгоды дзеда Міхеда» (1956 г.). У 1970 г. выдадзены «Выбраныя творы» ў 2 тамах. На беларускую мову пераклаў вершы «Да мора», «Вакхічная песня» А. Пушкіна, «Севастопальскія апавяданні» Л. Талстога, раман «Прададзеныя гады» Ю. Балтушыса (разам з О. Главацкене), асобныя вершы У. Маякоўскага, А. Пракоф'ева, А. Твардоўскага, М. Рыльскага, У. Сасюры, П. Тычыны, літоўскіх, некаторыя творы малдаўскіх, узбекскіх і інш. паэтаў. Яго

вершы перакладзены на рускую, украінскую і інш. мовы. Памёр А. Астрэйка 23.8.1978 г. Яго імя прысвоена Капыльскай цэнтральнай раённай бібліятэцы.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла. *М. В. Кірэйшын.*

**525. МАГІЛА АЎСЯНКІНА** Вадзіма Аўдзеевіча (гіст., маст.).

Беларускі савецкі спартсмен, заслужаны майстар спорту СССР (1967 г.) В. А. Аўсянкін нарадзіўся 8.4.1939 г. у Палтаве. Член КПСС з 1968 г. Скончыў Цэнтральную аб'яднаную лётна-тэхнічную школу ДТСААФ (1959 г.), Школу вышэйшай лётнай падрыхтоўкі Міністэрства грамадзянскай авіяцыі (1967 г.). З 1958 г. лётчык Цэнтральнага аэраклуба БССР, з 1962 г. камандзір карабля Беларускага ўпраўлення грамадзянскай авіяцыі. Самалётным спортам займаўся з 1960 г. Чэмпіён свету ў камандным і асабістым заліках (1964 г.), сярэбраны прызёр у камандным і асабістым заліках (1966 г.). Чэмпіён СССР (1963 г.) па вышэйшаму пілатажу (зваротны комплекс), абсалютны чэмпіён СССР і Усесаюзнай спартакіяды па тэхнічных відах спорту (1965 г.). Загінуў 15.6.1968 г. у час трэніровачнага парнага палёту.

У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. С. Вакар; лабрадарыт; вышыня 2,2 м). Уяўляе сабой выцягнуты па вертыкалі пастамент, увенчаны блокам з гарэльефным партрэтам В. А. Аўсянкіна. Блок мае форму няправільнага прамавугольніка са зрэзанымі пад вострым вуглом тарцамі. Форма блока, а таксама скругленая лінія, якая аддзяляе фактурна апрацаваную плоскасць з партрэтам ад паліраванай паверхні пастамента з трыма паралельнымі штрыхаванымі лініямі, надаюць кампазіцыі дынамізм. Партрэт лаканічны, шлем лётчыка з'яўляецца дадатковым штрыхом у вобразным вырашэнні помніка.

*М. В. Кірэйшын, Г. М. Ярмоленка.*



525. *Помнік на магіле В. А. Аўсянкіна.*

**526. МАГІЛА АХРЭМЧЫКА** Івана Восіпавіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец, народны мастак БССР (1949 г.), прафесар (1964 г.) І. В. Ахрэмчык нарадзіўся 3.12.1903 г. у Мінску ў сям'і рамесніка. Член КПСС з 1965 г. Скончыў Вышэйшы мастацка-тэхнічны інстытут у Маскве (1930 г.). Вучыўся ў А. Архіпава, К. Істоміна, А. Шаўчэнкі. У 1931—41 гг. выкладаў у Віцебскім мастацкім вучылішчы. У Вялікую Айчынную вайну супрацоўнічаў у сатырычных газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну» і лістку «Партызанская дубінка». У 1944—48 гг. выконваў абавязкі старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР. З 1949 г. выкладчык Мінскага мастацкага вучылішча, з 1953 г. у Беларускім політэхнічным інстытуце, у 1963—71 гг. загадчык кафедры жывапісу Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.

У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1921 г. Адзін з першых адлюстраваў у беларускім жывапісе тэмы станаўлення Савецкай улады, сацыялістычнага будаўніцтва. Напісаў карціны: «Падпісанне маніфеста аб утварэнні БССР» (1929 г.), «Торф для Асінбуда» (1931 г.), «Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінске» (1935 г./, «Гідраторф», «БелДРЭС», «Гідраторф Асінбуда» (усе 1937 г.), «Арганізацыя Савецкай улады ў Гомелі» (1940 г.), «Твар ворага» (1942 г.), «Пасяджэнне ЦК КП(б) Беларусі 3 ліпеня 1941 г.» (1944 г.), «Абаронцы Брэсцкай крэпасці» (1958 г.). Стварыў партрэты Дз. М. Жураўлёва (1928 г.), А. Александровіча, У. І. Галубка (абодва 1931 г.), Ю. М. Пэна (1938 г.), З. А. Васільевай, Г. П. Глебава, К. Чорнага, П. Ф. Глебкі (усе 1943 г.), «Партрэт дзяўчыны» (1947 г.), У. І. Уладамірскага (1948 г.), М. І. Дзянісава (1951 г.), Е. А. Міровіча (1952 г.), М. Б. Осіпавай (1959 г.), «За раялем» (партрэт дачкі, 1966 г.), П. С. Пестрака (1968 г.). С. Б. Баткоўскага (1971 г.). Вялікую ўвагу аддаваў пейзажу: «Над ракой» (1935 г.), «Пасля дажджу» (1937 г.), «На ўзлессі» (1945 г.), «Сонечны дзень» (1952 г.), «Каля сажалкі. Паланга» (1957 г.), «Канец лета», «Бэз цвіце» (абодва 1958 г.), «Ліпеньскі дзень» (1960 г.), «Раніцай», «Квітучая вясна» (абодва 1963 г.), «Летні пейзаж» (1965 г.), «З акна майстэрні» (1971 г.), «Алея» (1974 г.). У галіне манументальнага жывапісу выканаў 2 пано для Усебеларускай выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасці (1930 г.), дэкаратыўны фрыз «Свята беларускага народа» для беларускага павільёна Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве (1939 г.), плафон «Дружба народаў» у Тэатры юнага гледача ў Мінску (1955 г.), пано «Беларускія народныя майстры» ў канферэнц-зале Беларускага таварыства дружбы з зарубежнымі краінамі (1956 г., з І. Давідовічам). Творчасці І. В. Ахрэмчыка ўласцівы грамадзянскасць, глыбокае пранікненне ва ўнутраны свет сучасніка, дакладнасць пластычнай формы, цэльнасць каляровага вырашэння. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—59 гг. Памёр І. В. Ахрэмчык 9.3. 1971 г. Яго імя прысвоена Рэспубліканскай школе-інтэрнату па музыцы і выяўленчаму мастацтву, у Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік — пагрудны скульптурны партрэт мастака (скульпт. З. Азгур; граніт, бронза; вышыня бюста 0,9 м, пастамента 1,9 м).

*Літ.:* Аладова Е. В., И. О. Ахремчик.— М., 1960; Масленікаў П. В. Беларускі савецкі тэматычны жывапіс.— Мн., 1962. *Г. М. Ярмоленка.*

**527. МАГІЛА БАБІЯ** Зіновія Іосіфавіча (гіст.).

Беларускі савецкі спявак, народны артыст БССР (1964 г.) З. І. Бабій нарадзіўся 27.1.1935 г. у в. Падсадкі Пустамытаўскага р-на Львоўскай вобл. у сялянскай сям'і. Вучыўся ў Кіеўскай кансерваторыі (1957—59 гг.), скончыў Беларускую кансерваторыю (1981 г.). Творчы шлях пачаў як саліст ансамбля песні і танца Прыкарпацкай ваеннай акругі (1954—57 гг.). У 1957—60 гг. саліст Кіеўскага тэатра оперы і балета імя Шаўчэнкі, у 1960—63 гг.— Львоўскага тэатра оперы і балета імя Франка, у 1963—77 гг.— Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Валодаў голасам шырокага дыяпазону, яркага тэмбравага гучання. Характару голаса і артыстычнай індывідуальнасці спевака найбольш адпавядалі партыі героіка-драматычнага і трагедыйнага плана. Выконваў партыі Германа («Пікавая дама» П. Чайкоўскага), Арэста («Арэстэя» С. Танеева), Каварадосі, Рудольфа («Тоска», «Багема» Дж. Пучыні), Атэла, Манрыка, Радамэса, Герцага («Атэла», «Трубадур», «Аіда», «Рыгалета» Дж. Вердзі), Хазэ («Кармэн» Ж. Бізэ), Сяргея («Алеся» Я. Цікоцкага). Меў разнастайны канцэртны рэпертуар: старадаўняя італьянская музыка, рамансы рускіх і зарубежных класікаў, савецкіх, у т. л. беларускіх кампазітараў, арыі з класічных аперэт, рускія і беларускія народныя песні, старадаўнія рускія рамансы і інш. Гастраліраваў у розных гарадах Савецкага Саюза, а таксама ў ВНР, ГДР, НРБ, ПНР, СРР,

Аўстрыі, Канадзе, Фінляндыі. Памёр З. І. Бабій 28.7.1984 г.

*Літ.:* Жураўлёў Дз. М., Зіновій Бабій.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1978.

**528. МАГІЛА БАЛОЦІНА** Ісідара Міхайлавіча (гіст., маст.).

Беларускі савецкі спявак, народны артыст БССР (1944 г.) І. М. Балоцін (сапраўднае Балотны Ізраіль Рувімавіч) нарадзіўся 26.8.1907 г. у Бабруйску ў сям'і служачага. Член КПСС з 1943 г. Творчы шлях пачынаў у самадзейных калектывах, кіраваў эстрадным тэатральным гуртком «Сіняя блуза» ў Бабруйску (1924—27 гг.) і інш. Скончыў Беларускі музычны тэхнікум (1930 г., педагогі В. Цвяткоў і А. Баначыч). Удасканальваў вакальнае і сцэнічнае майстэрства ў Беларускай студыі оперы і балета (1930—33 гг.). Як оперны спявак дэбютаваў у студыйным спектаклі «Залаты пеўнік» М. Рымскага-Корсакава, дзе выканаў партыю Звездачота. З 1933 г. саліст Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. У Вялікую Айчынную вайну саліст Свярдлоўскага тэатра, у 1941—42 гг. выступаў на сцэне Вялікага тэатра СССР, уваходзіў у франтавыя канцэртныя брыгады. Валодаў гібкім, выразным голасам, майстэрства пераўвасаблення памагала яму паспяхова выконваць партыі самага рознага характару. У беларускіх спектаклях выканаў партыі Саўкі («У пушчах Палесся» А. Багатырова), Конрада («Кветка шчасця» А. Туранкова), Сёмкі («Алеся» Я. Цікоцкага). Лепшыя партыі опернай класікі: Ленскі («Яўген Анегін» П. Чайкоўскага), Дуброўскі («Дуброўскі» Э. Напраўніка), Фауст («Фауст» Ш. Гуно), Юродзівы («Барыс Гадуноў» М. Мусаргскага), Герцаг («Рыгалета» Дж. Вердзі), Альмавіва («Севільскі цырульнік» Дж. Расіні), Надзір («Шукальнікі жэмчугу» Ж. Бізэ), Вашак («Прададзеная нявеста» Б. Сметаны), Дамазы («Страшны двор» С. Манюшкі), дэ Грыё («Манон» Ж. Маснэ). Значнае месца ў рэпертуары спевака займалі камерныя вакальныя творы М. Глінкі, П. Чайкоўскага, М. Рымскага-Корсакава, С. Рахманінава, Р. Гліэра, Р. Шумана, Ф. Шуберта, творы савецкіх кампазітараў, рускія і беларускія народныя песні, рамансы беларускіх кампазітараў У. Алоўнікава, Р. Пукста і інш. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—59 гг. Памёр І. М. Балоцін 7.12.1961 г.

У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — пагрудны скульптурны партрэт спевака на пастаменце (скульпт. З. Азгур; граніт, бронза; вышыня бюста 0,8 м, пастамента 1,9 м). Выраны ў рэалістычных традыцыях. Выразны твар перадае стан эмацыянальнага творчага ўздыму, прафесійную прыналежнасць падкрэсліваюць дэталі касцюма. Пластыка скульптурных форм вылучаецца мяккасцю і дэталёвай прапрацоўкай.

*Літ.:* Смольскі Б. Таленавіты спявак (І. М. Балоцін).— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960.

*В. М. Удальцоў.*

**529. МАГІЛА БАНДАРЫНАЙ** Зінаіды Аляксандраўны (гіст.).

Беларуская савецкая пісьменніца З. А. Бандарына нарадзілася 11.10. 1909 г. у Гродне ў сям'і настаўніка. Скончыла Мінскі педагагічны тэхнікум (1927 г.), Дзяржаўны інстытут кінематаграфіі ў Маскве (1933 г.), аспірантуру пры Дзяржаўнай акадэміі мастацтвазнаўства ў Ленінградзе (1937 г.). Удзельніца Вялікай Айчыннай вайны. Працавала настаўніцай у беларускай школе для перасяленцаў у сібірскім пасёлку Медзякова (1927—28 гг.), у беларускім перыядычным друку, у тэатрах, на кінастудыях Масквы, Архангельска, Горкага. У 1946—48 гг. дырэктар Дома народнай творчасці ў Гродне, у 1948—50 гг. загадчык філіяла музея Я. Купалы ў Вязынцы, у 1950—56 гг. супрацоўнік газет «Зорька» і «Літаратура і мастацтва». Літаратурную дзейнасць пачала ў 1926 г. Аўтар зборніка вершаў «Веснацвет» (1931 г.), аповесцей «Шуміць тайга» (1928 г.), «Дыпломная работа» (па рускай мове, 1953 г.), «Галіна Ільіна» (на рускай мове, 1959 г.), зборніка апавяданняў для дзяцей «Лясныя госці» (1960 г.). Аповесць «Ой, рана на Івана...» (1956 г.) прысвечана дзіцячым і юнацкім гадам Я. Купалы. Памерла З. А. Бандарына 16.4.1959 г.

У 1960 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Хведаровіч М. Памятныя сустрэчы.— 3 выд.— Мн., 1977.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**530. МАГІЛА БАРБАШЫНА** Яўгена Аляксеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі матэматык, акадэмік АН БССР (1966 г.), доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар (1951 г.) Я. А. Барбашын нарадзіўся 4.1.1918 г. у с. Уінскае Пермскай вобл. у сям'і служачага. З 1927 г. выхоўваўся ў дзіцячым доме. Скончыў Уральскі універсітэт (1940 г.). З 1943 г. асістэнт, дацэнт, загадчык кафедры вышэйшай матэматыкі Уральскага політэхнічнага інстытута, з 1961 г. загадчык аддзела матэматычнага аналізу Матэматычнага інстытута АН СССР (Свярдлоўскае аддзяленне), з 1966 г. загадчык лабараторыі прыкладной матэматыкі і механікі Інстытута матэматыкі АН БССР і аднначасова кафедры прыкладной матэматыкі БДУ. Працаваў у галіне дыферэнцыяльных ураўненняў, тэорыі ўстойлівасці руху. Аўтар прац «Уводзіны ў тэорыю ўстойлівасці» (1967 г.), «Дынамічныя сістэмы з цыліндрычнай фазавай прасторай» (1969 г., разам з В. А. Табуевай), «Функцыі Ляпунова» (1970 г.). Дзяржаўная прэмія СССР 1972 г. за цыкл работ па праблемах устойлівасці сістэм аўтаматычнага рэгулявання, апублікаваных у 1967—70 гг. Памёр Я. А. Барбашын 5.7.1969 г.

У 1970 г. на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Еругин Н. П., Красовский Н. Н., Е. А. Барбашин.— Дифференциальные уравнения, 1967, т. 3, № 12.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**531. МАГІЛА БАРЫСЕНКІ** Васіля Васілевіча (гіст.).

Беларускі савецкі літаратуразнавец, крытык, акадэмік АН БССР (1969 г., член-карэспандэнт з 1957 г.), доктар філалагічных навук, прафесар (1956 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1974 г.) В. В. Барысенка нарадзіўся 12.4.1904 г. у г. Барысаў у сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1928 г. Скончыў Барысаўскі педагагічны тэхнікум (1924 г.), БДУ (1929 г.). З ранніх гадоў працаваў чорнарабочым на чыгунцы, у 1924—26 гг. настаўнічаў. У 1932—37 гг. дэкан літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута, аднначасова з 1934 г. старшы навуковы супрацоўнік, у 1937—41 гг. дырэктар Інстытута літаратуры і мовы АН БССР. У Вялікую Айчынную вайну ваенны журналіст. З 1946 г. дырэктар, з 1973 г. старшы навуковы супрацоўнік-кансультант Інстытута літаратуры АН БССР. У друку выступаў з 1934 г. Даследаваў праблемы гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, тэксталогіі, творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Мар-



526. *Помнік на магіле І. В. Ахрэмчыка.*

цінкевіча, Цёткі, З. Бядулі, Я. Лучыны, П. Труса, М. Лынькова, Т. Шаўчэнкі. Аўтар прац «Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя» (1957 г.), «Роля рускай класічнай літаратуры ў развіцці рэалізму беларускай літаратуры пачатку XX ст.» (1963 г., разам з В. У. Івашыным) і інш. Адзін з аўтараў «Нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры» (1956 г.), зборніка «У. І. Ленін і літаратура» (1970 г.), хрэстаматыі і падручніка для 8-га класа «Беларуская літаратура» (19-е выд., 1978 г., з В. У. Івашыным). Складальнік хрэстаматый для педвучылішчаў «Беларуская літаратура (дакастрычніцкі перыяд)» (1953 г.), для10-га класа «Родная літаратура» (14-е выд., 1961 г.), зборнікаў тэкстаў «Беларуская дакастрычніцкая проза» (1965 г.) і «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (1967 г.), зборніка «Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст.» (1956 г.) і інш. За ўдзел у двухтомным даследаванні «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» (на рускай мове, 1977 г.) Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа 1980 г. Памёр В. В. Барысенка 26.7.1984 г.

У 1986 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам. *У. У. Бянько.*

**532. МАГІЛА БЕЛАСТОЦКАГА** Іосіфа Антонавіча (гіст.).




531. *Помнік на магіле В. В. Барысенкі.*

Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны шафёр БССР (1970 г.) І. А. Беластоцкі нарадзіўся 20.12.1919 г. у в. Міхалкавічы Лагойскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1949 г. Вучыўся на Лагойшчыне, у 1934 г. пераехаў у Мінск, працаваў рабочым на 4-м цагельным заводзе. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г. шафёр у Галоўмінскбудзе, у 1957—79 гг. узначальваў брыгаду шафёраў Мінскага аўтакамбіната № 4. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 23.1.1974 г. за паспяховае выкананне і перавыкананне вытворчых планаў і сацыялістычных абавязацельстваў. Памёр І. А. Беластоцкі 4.1.1981 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла. *М. Б. Батвіннік.*

**533. МАГІЛА БЕЛЬСКАГА** Іосіфа Аляксандравіча (гіст.).

Савецкі партыйны і прафсаюзны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза І. А. Бельскі нарадзіўся 8.9.1903 г. у в. Лошыца 1-я Мінскага р-на (цяпер у межах г. Мінска) у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1929 г. Скончыў Маскоўскую прамысловую акадэмію (1941 г.). З 1921 г. на гаспадарчай, савецкай і партыйнай рабоце. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. З сакавіка 1941 г. сакратар Мінскага абкома КП(б)Б. З ліпеня 1941 г. да ліпеня 1944 г. сакратар Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б, адначасова ў маі — чэрвені 1943 г. камандзір партызанскага злучэння Мінскай вобласці. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. З 1944 г. сакратар Мінскага гаркома КП(б)Б, у 1948—58 гг. старшыня Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў. Член ЦК КПБ у 1952—60 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—51 гг., 1955—59 гг. Памёр І. А. Бельскі 25.6. 1966 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

У 1969 г. на магіле пастаўлены пагрудны бюст на пастаменце.

*Літ.:* Герои Советского Союза — уроженцы Минска и Минской области.— Мн., 1965; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**534. МАГІЛА БІРУКОВА** Сяргея Сяргеевіча (гіст.).

Рускі савецкі акцёр, народны артыст РСФСР (1957 г.) С. С. Бірукоў нарадзіўся 8.1.1897 г. у сям'і рабочага. Скончыў драматычную студыю пры Кастрамскім аддзеле народнай асветы (1922 г.). Член КПСС з 1947 г. Акцёрскую дзейнасць пачаў у Кастрамскім драматычным тэатры ў 1923 г. Працаваў у тэатрах Яраслаўля, Іванава, Уладзівастока, Новасібірска. У 1932—60 гг. у трупе Новасібірскага тэатра «Чырвоны факел». Выканаўца роляў: Дорн («Чайка» А. Чэхава), Фама Аніскін («Сяло Сцяпанчыкава» паводле Ф. Дастаеўскага), Іван Каламійцаў («Апошнія» М. Горкага), Забелін («Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна), Гары Сміт («Рускае пытанне» К. Сіманава), Карэнін («Ганна Карэніна» паводле Л. Талстога), Стэсель («Порт-Артур» паводле А. Сцяпанава). З 1960 г. працаваў у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага. Выканаў ролі адмірала Часоўнікава («Акіян» А. Штэйна), Кнурава («Беспасажніца» А. Астроўскага), пастара («Матухна Кураж і яе дзеці» Б. Брэхта) і інш. Прадстаўнік рускай псіхалагічнай акцёрскай школы С. С. Бірукоў валодаў высокай сцэнічнай тэхнікай. Яму было ўласціва глыбокае пранікненне ў сутнасць характару героя, здольнасць выразна паказаць яго галоўныя рысы. Памёр С. С. Бірукоў 10.6.1962 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай акцёра. *Р. Б. Смольскі.*

**535. МАГІЛА БІРЫЛЫ** Сцяпана Сцяпанавіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр, народны артыст БССР (1955 г.) С. С. Бірыла нарадзіўся 1.8.1903 г. у Мінску. Член КПСС з 1943 г. Сцэнічную дзейнасць пачаў у 1918 г. у тэатрах Волагды, Архангельска, Гомеля, Віцебска. З 1926 г. акцёр Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатра (БДТ-3), з 1928 г. у Беларускім тэатры імя Я. Купалы. Акцёр шырокага творчага дыяпазону, выконваў рознахарактарныя ролі. Сярод іх: Лютынскі («Канец дружбы» К. Крапівы), Якаў Каламійцаў («Апошнія» М. Горкага), Паляжаеў («Неспакойная старасць» Л. Рахманава), Акаёмаў («Машачка» А. Афінагенава), Хірт («Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона), Гудзееў, Глуздакоў («Каб людзі не журыліся», «Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка), Ксанф («Ліса і вінаград» Г. Фігейрэду) і інш. Памёр С. С. Бірыла 15.7. 1978 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Сабалеўскі А. Нястомны дзеяч сцэны.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960. *Ю. М. Сохар.*

**536. МАГІЛА БЛІШЧА** Міхаіла Андрэевіча (гіст.).

Беларускі савецкі мастак тэатра і жывапісец М. А. Блішч нарадзіўся 25.10.1917 г. у в. Заспа Рэчыцкага р-на. Скончыў Віцебскае мастацкае вучылішча (1938 г.), вучыўся ў І. Ахрэмчыка. У 1938—56 гг. працаваў у Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Сярод работ дэкарацыі да опер «Алека» С. Рахманінава, «Севільскі цырульнік» Д. Расіні (абедзве 1949 г.), «Дзяўчына з Палесся» Я. Цікоцкага (1953 г.), «Марынка» Р. Пукста (1955 г.), балетаў «Доктар Айбаліт» І. Марозава (1951 г.), «Жызэль»



537. *Помнік на магіле Петруся Броўкі.*

А. Адана (1953 г.), «Лаўрэнсія» А. Крэйна (1955 г.), да драматычных пастановак «Пупсовая кветачка» І. Карнавухавай і Л. Браўсевіча (1952 г., тэатр імя Я. Купалы), «Гады вандраванняў» А. Арбузава (1954 г., Гомельскі абласны драматычны тэатр) і інш. Дэкарацыі М. А. Блішча вызначаліся кампазіцыйнай выразнасцю, рамантычнасцю і каларыстычнай дэкаратыўнасцю. Ствараў эскізы касцюмаў для танцавальных і харавых калектываў. Аўтар насценнай размалёўкі «Дэман» (1958 г., Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР), карцін «Прыбой» (1957 г.), «Купальскі вечар» (1960 г.), «Саўгас «Аколіца», «Мыс Чэхава. Гурзуф» (абедзве 1961 г.), «Батлейка» (1962 г.), «Мінская ЦЭЦ-3» (1963 г.), «Полацкі нафтабуд» (1964 г.). Памёр М. А. Блішч 9.5.1966 г.

*Літ.:* Тэатральна-дэкаратыўнае мастацтва Савецкай Беларусі.— Мн., 1958.

*Г. М. Ярмоленка.*

**537. МАГІЛА БРОЎКІ** Петруся (гіст.).

Беларускі савецкі паэт і грамадскі дзеяч, народны паэт БССР (1962 г.), акадэмік АН БССР (1966 г., член-карэспандэнт з 1953 г.), Герой Сацыялістычнай Працы (1972 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1975 г.) Пятрусь (Пётр Усцінавіч) Броўка нарадзіўся 12.6.1905 г. у в. Пуцілкавічы Ушацкага р-на Віцебскай вобл. у сям'і селяніна-бедняка. Член КПСС з 1940 г. Скончыў БДУ (1931 г.). З 1918 г. працаваў перапісчыкам у ваенным камісарыяце, справаводам у валасным выканкоме, рахункаводам у саўгасе, старшынёй Маладолецкага сельсавета, загадчыкам аддзела ў Полацкім акруговым камітэце камсамола. У 1927—28 гг. адказны сакратар газеты «Чырвоная Полаччына». У пачатку Вялікай Айчыннай вайны добраахвотна пайшоў у Чырвоную Армію, супрацоўнік франтавой газеты «За Савецкую Беларусь», выступаў у партызанскім друку. З 1943 г. адказны сакратар праўлення СП БССР, у 1945—48 гг. рэдактар часопіса «Полымя», з 1948 г. старшыня праўлення СП БССР, з 1967 г. галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Сакратар праўлення СП СССР у 1963—80 гг.

Друкаваўся з 1926 г. Першыя зборнікі «Гады як шторм» і «Прамова фактамі» (1930 г.), «Цэхавыя будні» (1931 г.), аповесць «Каландры» (1931 г.) прысвечаны велічы рэвалюцыі, новаму жыццю, натхнёнай стваральнай працы савецкага чалавека — барацьбіта за сацыялізм. У героіка-рамантычнай паэме «Праз горы і стэп» (1932 г.) пра падзеі Грамадзянскай вайны і рэалістычна-бытавой паэме «1914» (1935 г.) дасягнуў непасрэднасці пачуццяў, канкрэтнасці лірычнага перажывання і праўдзівасці ў раскрыцці чалавечага характару. Зборнікам «Прыход героя» (1935 г.), «Вясна Радзімы» (1937 г.), «Шляхамі баравымі» (1940 г.), паэме «Кацярына» (1938 г.) характэрны зварот да канкрэтных герояў, праблем шырокага грамадскага гучання; значнае месца ў іх займае інтымная і пейзажная лірыка. У Вялікую Айчынную вайну паглыбляецца эмацыянальны і рэалістычны змест паэзіі П. Броўкі, узмацняецца яе патрыятычнае гучанне. Тэмы подзвігу народа, яго мужнасці і адвагі, вернасці Радзіме, пераемнасці гераічных традыцый атрымалі глыбокае лірычнае і шырокае эпічнае ўвасабленне ў «Паэме пра Смалячкова» (1943 г.), паэмах «Беларусь» (1943 г.) і «Ясны кут» (1944 г.), вершах «Кастусь Каліноўскі», «Надзя-Надзейка», «Рана», «Магіла байца», «Будзем сеяць, беларусы», «Зноў будзем шчасце мець і волю» і інш. Працоўны подзвіг народа, дружба савецкіх людзей, барацьба за мір — асноўныя тэмы пасляваеннай творчасці паэта (зборнікі «У роднай хаце», 1946 г., «Дарога жыцця», 1950 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1951 г., «Сонечнымі днямі», 1950 г., «Цвёрдымі крокамі», 1954 г.). Паэма «Хлеб» (1946 г.), вершы «Думы пра Маскву», «Брат і сястра», «Народнае дзякуй», «Каб мне стаць...», «Спатканне» адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР 1947 г., раман «Калі зліваюцца рэкі» (1956 г.) — Літаратурнай прэміяй імя Я. Коласа 1959 г. У творчасці П. Броўкі апошніх дзесяцігоддзяў пашырыўся ідэйна-тэматычны і жанравы дыяпазон, паглыбіўся яе грамадзянскі гуманістычны змест. Яна стала больш аналітычная, філасофская, псіхалагічна праніклёная, разнастайная па формах і сродках мастацкага выяўлення; узмацнілася ўвага паэта да маральна-этычных, агульначалавечых праблем [зборнікі «Пахне чабор» (1959 г.), «Далёка ад дому» (1960 г.), «А дні ідуць...» (1961 г., у перакладзе на рускую мову, Ленінская прэмія 1962 г.); «Высокія хвалі» (1962 г.), «Заусёды з Леніным» (1967 г.), «Між чырвоных рабін» (1969 г., Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы 1970 г.); «Калі ласка» (1972 г.), «І ўдзень і ўночы...» (1974 г.), «Што сэрца праспявала» (1979 г.), «І маладосць і сталасць» (1980 г.), кніга прозы «Разам з камісарам» (1974 г.)]. Паэмы «Заусёды з Леніным» (1956 г.), «Голас сэрца» (1960 г.) пра вернасць ленінскім запаветам, памяць пра герояў вайны. П. Броўка — паэт высокага грамадзянскага пафасу, мастак з ярка выяўленай рамантычнай патэтыкай і песенна-лірычнай накіраванасцю. Яго паэзіі ўласціва публіцыстычнасць, маштабнасць, народнасць мастацкага мыслення, прастата рэалістычнага светаадчування, яна моцна звязана з жыццём народа, з актуальнымі задачамі камуністычнага будаўніцтва. Выдадзены Зборы твораў у 2 (1957 г.), 4 (1965—66 гг.), 7 (1975—78 гг.), 4 (1981—82 гг., на рускай мове) тамах. Напісаў лібрэта опер «Міхась Пад-



533. *Помнік на магіле І. А. Бельскага.*

горны» (з Я. Рамановічам), «Алеся». Выступаў з артыкуламі па пытаннях літаратуры і мастацтва. Аўтар успамінаў пра Я. Купалу, Я. Коласа, І. Мележа, М. Ісакоўскага, А. Пракоф'ева, А. Твардоўскага і інш. На беларусскую мову перакладаў творы Т. Шаўчэнкі, У. Маякоўскага (паэма «Уладзімір Ільіч Ленін», вершы), П. Тычыны, М. Бажана, А. Твардоўскага, М. Ісакоўскага, У. Бранеўскага, Дж. Байрана і інш. Творы П. Броўкі перакладзены на многія мовы народаў СССР і за мяжой. Дзяржаўная прэмія БССР 1976 г. за ўдзел у выданні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Кандыдат у члены ЦК КП(б)Б у 1949—52 гг., член ЦК КПБ у 1952—80 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1956—80 гг., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—55 гг. Ганаровы грамадзянін Мінска (1980 г.) і г. п. Ушачы Віцебскай вобл. (1979 г.). Памёр П. Броўка 24.3.1980 г. Яго імя прысвоена выдавецтву «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», калгасу «Новае жыццё» і Вялікадолецкай сярэдняй школе Ушацкага р-на. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Віцебску, Полацку, Гомелі і Ушачах. У Мінску адкрыты Літаратурны музей П. Броўкі (1984 г.), на доме, дзе ён жыў, і на будынку Вялікадолецкай школы ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі, у школе і БелСЭ створаны мемарыяльныя пакоі.

У 1985 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. С. Вакар, архіт. Ю. Казакоў). Бронзавая фігура народнага песняра на гранітным пастаменце. На надмагіллі ў выглядзе кнігі размешчана гранітная пліта з беларускім арнаментам і бронзавы скрутак з радкамі з верша паэта. Помнік вызначае прастата, духоўная напоўненасць вобраза.

*Літ.:* Перкін Н. Творчасць Петруся Броўкі.— Мн., 1952; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1966; Гніламёдаў У. Праз усё жыццё: (Пятрусь Броўка).— У яго кн.: Упоравень з векам. Мн., 1976; Ярош М. Пятрусь Броўка: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн., 1981; Васілеўскі М. С., Каваленка М. А. Пятрусь Броўка: Бібліягр. даведнік.— 2 выд.— Мн., 1976.



538. *Помнік на магіле Б. А. Булата.*

**538. МАГІЛА БУЛАТА** Барыса Адамавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Баранавіцкай вобл. у Вялікую Айчынную вайну Б. А. Булат нарадзіўся 11.7.1912 г. у г. Тула ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1941 г. У Чырвонай Арміі з 1932 г. Скончыў 1-ю Савецкую аб'яднаную школу імя ВЦВК (1936 г.), Вышэйшую школу харчовай прамысловасці ў Маскве (1955 г.). У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны быў цяжка паранены і захоплены гітлераўцамі ў палон. У верасні 1941 г. уцёк з фашысцкага канцлагера. У маі 1942 г. арганізаваў і ўзначаліў партызанскую групу, на базе якой створаны атрад, у ліпені — снежні 1942 г. камандзір гэтага атрада. У снежні 1942 г.— маі 1943 г. начальнік штаба, у чэрвені — кастрычніку 1943 г. камандзір Ленінскай партызанскай брыгады. У лістападзе 1943 г.— чэрвені 1944 г. камандзір партызанскай брыгады «Уперад» Баранавіцкай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. У 1944—46 гг. намеснік старшыні выканкома Мінскага гарадскога Савета, з 1947 г. намеснік дырэктара велазавода, у 1951—73 гг. дырэктар кандытарскай фабрыкі «Камунарка». Памёр Б. А. Булат 27.3.1984 г.

У 1985 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Люди легенд. В. 3.— М., 1968; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**539. МАГІЛА БУЛЫГІНА** Івана Андрэевіча (гіст.).

Беларускі савецкі фізіёлаг, акадэмік АН БССР (1959 г., член-карэспандэнт з 1956 г.), доктар біялагічных навук (1953 г.), прафесар (1954 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1967 г.) І. А. Булыгін нарадзіўся 28.1.1907 г. у в. Радушкава Пачынкаўскага р-на Смаленскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1940 г. Скончыў Ленінградскі ветэрынарны інстытут (1931 г.), аспірантуру Ленінградскага філіяла Усесаюзнага інстытута эксперыментальнай медыцыны (1938 г.). У 1932—35 гг. выкладчык Ачынскага ветэрынарнага і Араніенбаумскага заатэхнічнага тэхнікумаў. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік абароны Ленінграда. У 1946—53 гг. старшы навуковы супрацоўнік Ленінградскага філіяла Усесаюзнага інстытута эксперыментальнай медыцыны, Інстытута фізіялогіі цэнтральнай нервовай сістэмы АМН СССР, Інстытута фізіялогіі імя І. П. Паўлава АН БССР. З 1953 г. дырэктар Інстытута фізіялогіі АН БССР і загадчык лабараторыі агульнай фізіялогіі, у 1969—78 гг. адначасова акадэмік-сакратар Аддзялення біялагічных навук АН БССР. З 1960 г. старшыня Беларускага фізіялагічнага таварыства.

Устанавіў наяўнасць умоўна-рэфлекторных уплываў кары вялікіх паўшар'яў на маторыку страўніка і кішэчніка і выявіў некаторыя заканамернасці інтэрацэптыўных уплываў на рэфлекторную дзейнасць спіннога і галаўнога мозга. Распрацаваў новыя прынцыпы структурна-функцыянальнай арганізацыі вегетатыўных гангліяў, вылучыў і абгрунтаваў агульнае палажэнне аб узаемасувязі з'явы дывергенцыі і канвергенцыі ў дзейнасці нервовай сістэмы. Аўтар прац: «Замыкальная і рэцэпторная функцыі вегетатыўных гангліяў» (1964 г.), «Рэфлекторная функцыя вегетатыўных гангліяў» (1976 г.), «Новыя прынцыпы структурна-функцыянальнай арганізацыі сімпатычаскіх гангліяў» (1979 г.). Дзяржаўная прэмія СССР 1978 г., Дзяржаўная прэмія БССР 1972 г. Памёр І. А. Булыгін 12.4.1984 г.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Г. М. Новікава.*

**540. МАГІЛА БУСЛАВА** Казіміра Паўлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі філосаф, акадэмік АН БССР (1972 г., член-карэспандэнт з 1969 г.), доктар філасофскіх навук (1965 г.), прафесар (1966 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1978 г.) К. П. Буслаў нарадзіўся 12.10.1914 г. у в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Смаленскі педагагічны інстытут (1938 г.), Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б) (1947 г.), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б) (1951 г.). У 1932—43 гг. настаўнік, інспектар аддзела школ Омскай чыгункі, загадчык аддзела Омскага абласнога радыёкамітэта, у 1944—48 гг. лектар ЦК КП(б)Б. З 1951 г. загадчык аддзела ЦК КПБ. У 1956—72 гг. дырэктар Інстытута філасофіі і права АН БССР. У 1970—72 гг. выконваючы абавязкі, у 1973—76 гг. акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН БССР. З 1976 г. загадчык сектара Інстытута філасофіі і права АН БССР. Старшыня Беларускага аддзялення Філасофскага таварыства СССР (з 1972 г.). Працы прысвечаны гістарычнаму матэрыялізму, праблемам сацыяльнага прагрэсу, гуманізму і культуры. Сярод іх: «Свабода павінна быць свабодай на справе» (1961 г.), «Праблемы са-

цыяльнага прагрэсу ў працах У. І. Леніна (1917—1923 гг.)» (1963 г.), «Сацыяльнае адзінства, супярэчнасці, адказнасць» (1972 г.), «Сацыяльна-гістарычнае развіццё класаў у СССР» (1979 г.), «Фарміраванне сацыяльнага ў чалавеку» (1980 г.) і інш. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1952—54 гг., член ЦК КПБ у 1954—61 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—59 гг. Памёр К. П. Буслаў 20.1. 1983 г.

*Літ.:* Патаенка К. Л., Савасцюк А. І., Агіевіч У. У., К. П. Буслаў.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1974, № 5; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Г. Ф. Раманаў.*

**541. МАГІЛА БЫЛІНСКАГА** Івана Сямёнавіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР І. С. Былінскі нарадзіўся 15.1.1903 г. у в. Якубоўка Гомельскага р-на ў сям'і рабочага-чыгуначніка. Член КПСС з 1926 г. Скончыў Гомельскі лесатэхнічны інстытут (1936 г.). Працаваў слесарам Гомельскага паравозавагонарамонтнага завода (1920—26 гг.), потым на камсамольскай, гаспадарчай і партыйнай рабоце. У 1939 г. інструктар, загадчык аддзела лясной прамысловасці ЦК КП(б)Б. З 1940 г. да пачатку 1944 г. старшыня СНК БССР. У 1944—46 гг. першы сакратар Палескага абкома КП(б)Б. У 1948—60 гг. намеснік міністра, міністр лясной гаспадаркі БССР, намеснік міністра сельскай гаспадаркі БССР, начальнік Галоўнага ўпраўлення лясной гаспадаркі пры СМ БССР. Член ЦК КП(б)Б у 1940—49 гг., Бюро ЦК КП(б)Б у 1940—47 гг., кандыдат у члены ЦК КПБ у 1952—60 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1940—50 гг., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1940—47 гг. і 1951—55 гг. Памёр І. С. Былінскі 10.5. 1976 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла. *А. Г. Шчарбатаў.*

**542. МАГІЛА БЯДЫ** Леаніда Ігнатавіча (гіст., маст.).

Двойчы Герой Савецкага Саюза, генерал-лейтэнант авіяцыі (1972 г.), заслужаны ваенны лётчык СССР (1971 г.) Л. І. Бяда нарадзіўся 16.8. 1920 г. у с. Новапакроўка Урыцкага р-на Кустанайскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Скончыў Арэнбургскую авіяцыйную школу пілотаў (1942 г.), Ваенна-паветраную акадэмію (1950 г.), Ваенную акадэмію Генштаба (1957 г.). У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1942 г. на Сталінградскім, Паўднёвым, 4-м Украінскім, 3-м Беларускіх франтах — пілот, старшы пілот, намеснік камандзіра, камандзір эскадрыллі, памочнік камандзіра 75-га гвардзейскага штурмавога авіяпалка. Удзельнік Сталінградскай бітвы, вызвалення Украіны, Крыма, Беларусі, Літвы, наступальных аперацый ва Усходняй Прусіі і Польшчы. Зрабіў 214 баявых вылетаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1944 г. і 29.6.1945 г. Пасля вайны камандаваў авіяцыйным палком, дывізіяй, авіяцыяй Беларускай ваеннай акругі. Член ЦК КПБ у 1976 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1959—63 гг., у 1975—76 гг. Л. І. Бяда загінуў 26.12.1976 г. у аўтамабільнай катастрофе. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Лідзе. Бюст героя ўстаноўлены ў г. Кустанай.

У 1978 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. І. Міско, архіт. Ю. Казакоў; чырвоны граніт, бронза; вышыня бюста 0,8 м, пастамента 2,2 м) — скульптурны партрэт на пастаменце са складаным подыумам. Кансоль з тыльнага боку бюста пераходзіць у дугападобную стужку, якая завяршана стылізаванай выявай самалёта.

*Літ.:* Наливайко Б. М. На грозных «илах»: О Герое Советского Союза Л. И. Беде.— Мн., 1981; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**543. МАГІЛА БЯЛЕВІЧА** Антона Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт А. П. Бялевіч нарадзіўся 14.5.1914 г. у в. Дуброўка Уздзенскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Вучыўся ў Магілёўскім палітасветным інстытуце (1933—35 гг.). Працаваў у пухавіцкай раённай газеце «За калгасы», у газетах «Чырвоная змена» і «Звязда» (1936—41 гг.), «Літаратура і мастацтва» (1945—47 гг.), «Савецкі селянін» (1947—50 гг.). Першыя вершы надрукаваў у 1937 г. У 1939 г. выдаў зборнік нарысаў «Майстры сацыялістычнага земляробства». У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік партызанскага руху на Беларусі. У 1943 г. напісаў паэму «Мой майстра», якая была ўключана ў першы зборнік паэта «Чалавек з Дубровы» (1945 г., выйшаў у Маскве ў перакладзе на рускую мову). Вайне, барацьбе савецкіх людзей супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў прысвечаны паэма «Сям'я» (1946 г.), дакументальныя нарысы «Мінай Шмыроў» (1970 г.), «Хатынь: боль і гнеў» (1971 г.). Аднаўленне беларускай пасляваеннай вёскі, працоўны гераізм, духоўны свет сучасніка, любоў да роднай зямлі адлюстраваны ў зборніках паэзіі «На бацькоўскіх сцежках» (1946 г.), «Дарогай шчасця» (1952 г.), «Жывая рака» (1955 г.), «За салаўінымі гаямі» (1959 г.), «Вясёлка над полем» (1961 г.), «Рэха навальніц» (1965 г.) і інш. Гістарычнае мінулае беларускага сялянства адлюстраваў у паэме «Карэнні дуба» (1959 г.). Вобраз У. І. Леніна створаны ў паэме «Чалавек-сонца» (1947 г.). Выдаў таксама зборнікі «Залатыя ключы» (1963 г.), «Партрэт Бацькаўшчыны» (1967г.), «Любоў мая» (1971 г.), «А ў бары, бары» (1974 г.), «Сонцам заручоныя» (1975 г.) і інш. У 1969 г. выйшлі Выбраныя творы ў 2 тамах. Яго паэзіі характэрны песенна-народныя інтанацыі, традыцыйна-фальклорная вобразнасць, жывая народная мова. Пісаў сатырычныя і гумарыстычныя творы (зборнікі «Хлеб і нахлебнікі», 1957 г., «Маштабны Міканор», 1963 г.), вершы і паэмы для дзяцей. Аўтар кніг нарысаў, зборніка літаратурных партрэтаў «Чарадзеі» (1970 г.). Пераклаў на беларускую мову паэму «За даллю — даль» А. Твардоўскага, асобныя вершы А. Пракоф'ева, М. Бажана і інш. Памёр А. П. Бялевіч 11.4. 1978 г. Яго імем названа вуліца ў г. п. Узда.

У 1982 г. на магіле ўстаноўлены бронзавы бюст пісьменніка на гранітным пастаменце (скульпт. З. Азгур).

*Літ.:* Бярозкін Р. Спадарожніца часу.— Мн., 1961, с. 170—199; Арочка М. Поўдзень паэта.— Полымя, 1965, № 1. *В. Б. Караткевіч.*

**544. МАГІЛА БЯЛЯВІНА** Евеля Самуілавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Е. С. Бялявін нарадзіўся 3.5.1920 г. у г. Барысаў. З рабочых. Член КПСС з 1941 г. Скончыў Мінскі аэраклуб (1937 г.), ваенную школу лётчыкаў. У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну з лістапада 1941 г. на Паўднёвым, Закаўказскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Украінскіх франтах — камандзір звяна, намеснік камандзіра эскадрыллі бамбардзіровачнага авіяпалка. Зрабіў каля 300 баявых вылетаў. У баі на Белгарадска-Харкаўскім напрамку сваёй машынай засланіў падбіты самалёт камандзіра, прыняў увесь агонь на сябе, даючы камандзі-



542. *Помнік на магіле Л. І. Бяды.*

ру магчымасць выйсці з небяспечнай зоны, потым здолеў пасадзіць свой пашкоджаны самалёт на аэрадром. У ліку першых савецкіх лётчыкаў з паветра штурмаваў Берлін. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 4.2.1944 г. Да 1958 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Жыў і працаваў у Мінску. Памёр Е. С. Бялявін 10.9.1972 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Герои Советского Союза — уроженцы Минска и Минской области.— Мн., 1965; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**545. МАГІЛА ВАЛАДЗЬКО** Леаніда Вікенцьевіча (гіст.).

Беларускі савецкі фізік, акадэмік АН БССР (1977 г., член-карэспандэнт з 1969 г.), доктар фізіка-матэматычных навук (1966 г.), прафесар (1967 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1971 г.) Л. В.Валадзько нарадзіўся 2.1.1928 г. у в. Баравое Дзяржынскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1959 г. Скончыў БДУ (1953 г.). З 1956 г. асістэнт, старшы выкладчык, дацэнт кафедры фізічнай оптыкі, у 1962—63 гг. дэкан фізічнага факультэта, у 1963—78 гг. загадчык кафедры спектральнага аналізу, адначасова з 1966 г. прарэктар па навуковай рабоце БДУ. Навуковыя працы прысвечаны малекулярнай спектраскапіі і люмінесцэнцыі. Даследаваў злучэнні шасцівалентнага урану, у прыватнасці сувязь паміж спектральна-люмінесцэнтнымі ўласцівасцямі гэтых злучэнняў, іх структурай і будовай электроннай абалонкі малекул. Вывучаў працэсы ўтварэння прасторавых структур і ўзнікнення электраправоднасці фенольных палімераў. Распрацаваў метад статыстычнай рэгістрацыі кінетыкі люмінесцэнцыі. Выдадзены працы: «Даследаванне дэпалярызацыі флуарэсцэнцыі пры затуханні метадам шматканальнага часовага аналізу» (1974 г., у сааўтарстве), «Палярызаваная люмінесцэнцыя крышталяў уранілавых злучэнняў пры тэмпературы вадкага гелія» (1975 г., у сааўтарстве), «Да пытання аб прыродзе флуарэсцэнтнага стану ў комплексных уранілавых злучэннях» (1977 г., разам з Я. Ф. Цітковым, А. П. Зажогіным) і інш. Дзяржаўная прэмія БССР 1974 г. Памёр Л. В. Валадзько 29.9.1978 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлена пліта.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *А. Г. Шчарбатаў.*

**546. МАГІЛА ВАРАПАЕВА** Емяльяна Данілавіча (гіст.).

Воін Чырвонай Арміі Е. Д. Варапаеў загінуў у 1944 г. у баі пры вызваленні Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**547. МАГІЛА ВОЛКАВА** Валянціна Віктаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец, народны мастак БССР (1955 г.), прафесар (1957 г.) В. В. Волкаў нарадзіўся 7.4.1881 г. у г. Ялец Ліпецкай вобл. у сям'і рамесніка-жывапісца. Скончыў Пензенскае мастацкае вучылішча (1907 г.), Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў (1915 г., вучыўся ў В. Я. Савінскага і П. П. Чысцякова). Удзельнік мастацкіх выставак з 1903 г. У 1915 г. за карціну «Сусанна» атрымаў званне мастака. У 1918 г. удзельнічаў у мастацкім афармленні Петраграда да 1-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, выканаў эскізы пано «Уся ўлада Саветам», «Штурм Зімняга», «Урачыстасць рабочага», «Хто не з намі. той супраць нас» і інш. Выкладаў у Веліжскай мастацкай школе (1919—23 гг.), Віцебскім мастацкім тэхнікуме (1923—29 гг.), Мінскім мастацкім вучылішчы (1947—50 гг.), Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце (1953—64 гг., загадчык кафедры малюнка з 1961 г.). Адзін з першых у беларускім жывапісе стварыў вобраз У. І. Леніна (партрэт, 1926 г.). Аўтар малюнка герба БССР (1926 г. і 1938 г.), пано «Індустрыялізацыя» і «Калектывізацыя» для таможні на станцыі Негарэлае (1930—32 гг.), дэкаратыўнага фрыза «Кастрычнік на Беларусі» для павільёна БССР на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ў Маскве (1939 г.). Ілюстраваў і аформіў шэраг кніг для Дзяржаўнага выдавецтва БССР (1928—41 гг.). Пісаў сюжэтна-тэматычныя карціны, прысвечаныя гісторыка-рэвалюцыйнаму мінуламу Беларусі, Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнам, сучаснасці. Сярод работ: «Кастусь Каліноўскі», «Барыкады» (абедзве 1923 г.), «Плытагоны» (1927 г.), «Партызаны» (1928 г.), «Мінск. 3 ліпеня 1944 года» (1944—55 гг.) і інш. Працаваў у жанрах партрэта, пейзажа: партрэты М. Багдановіча (1927 г.), М. Горкага (1951 г.), хірурга Г. Ф. Лося (1963 г.), групавы партрэт народных артыстаў СССР Г. Глебава, У. Уладамірскага і народнага мастака БССР А. Марыкса (1959 г.); пейзажы «Марозны дзень» (1947 г.), «На ўскраіне Мінска» (1956 г.) і інш. Творчасць мастака вызначаецца рэалістычнасцю, дакладнасцю дэталей, яснасцю кампазіцыі. Памёр В. В. Волкаў 8.11.1964 г.

*Літ.:* Элентух И. Б. Валентин Викторович Волков.— Мн., 1956; Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976. *Г. М. Ярмоленка.*

**548. МАГІЛА ГАЛАВАЧОВА** Паўла Якаўлевіча (гіст.).

Двойчы Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр авіяцыі (1957 г.) П. Я. Галавачоў нарадзіўся 2.12.1917 г. у в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Адэскую школу пілотаў (1940 г.), Ваенна-паветраную акадэмію (1951 г.). Ваенную акадэмію Генштаба (1959 г.). Працаваў токарам і фрэзероўшчыкам у Гомелі (1933—38 гг.). У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёвым, Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, 4-м Украінскім, 3-м і 1-м Беларускіх франтах. Камандзір звяна, эскадрыллі знішчальнага авіяпалка П. Я. Галавачоў удзельнічаў у абароне Адэсы, Сталінградскай бітве, вызваленні Украіны і Беларусі, Усходне-Прускай і Берлінскай аперацыях. Зрабіў 457 баявых вылетаў, правёў 125 паветраных баёў, збіў 30 варожых самалётаў, адзін тараніў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.11.1943 г. і 29.6.1945 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі. Памёр П. Я. Галавачоў 2.7.1972 г. Бюсты героя ўстаноўлены ў Гомелі і Буда-Кашалёве.

У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт.

*Літ.:* Люди бессмертного подвига. Кн. 1.— 4 изд.— М., 1975; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**549. МАГІЛА ГАЛІНЫ** Вольгі Уладзіміраўны (гіст.).

Беларуская савецкая актрыса, народная артыстка БССР (1946 г.) В. У. Галіна (сцэнічны псеўданім; дзявочае Грудзінская, па мужу Александроўская) нарадзілася 11.3.



548. *Помнік на магіле П. Я. Галавачова.*

1899 у г. п. Жалудок Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл. у сям'і настаўніка. Скончыла Тульскую гімназію. Сцэнічную дзейнасць пачала ў 1919 г. па Украіне. У 1921—22 гг. у трупе палітаддзела 45-й стралковай дывізіі. У 1923—62 гг. у Беларускім тэатры імя Я. Купалы; у 1948—55 гг. і 1960—68 гг. педагог Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Выканаўца роляў гераінь і характарных. У нацыянальным рэпертуары стварыла вобразы: Ганна, графіня Стэмбоўская («Машэка», «Кастусь Каліноўскі» Е. Міровіча), Яворская, Альдона («Мост», «Вір» Я. Рамановіча), пані Яндрыхоўская, Марозава, Прымаковіч («Партызаны», «Пяюць жаваранкі», «Людзі і д'яблы» К. Крапівы). Найбольш значныя ролі ў класічным рэпертуары: Купавіна, Барабашова («Ваўкі і авечкі», «Праўда добра, а шчасце лепш» А. Астроўскага), Соф'я («Апошнія» М. Горкага), Ранеўская, Аркадзіна («Вішнёвы сад», «Чайка» А. Чэхава), Карэніна («Жывы труп» Л. Талстога), Карміцелька («Рамэо і Джульета» У. Шэкспіра), Тэадора («Дурная для іншых, разумная для сябе» Лопэ дэ Вегі). Выканала ролю Марыі Аляксандраўны Ульянавай («Сям'я» І. Папова). З іншых роляў: Паляжаева («Неспакойная старасць» Л. Рахманава), Полазава («Маскоўскі характар» А. Сафронава), Ганна Ліхта («Змова асуджаных» М. Вірты), Гарыцвет, Мар'я Тарасаўна («Крылы», «Платон Крэчат» А. Карнейчука), Кашавая («Маладая гвардыя» паводле А. Фадзеева), Марыя Мікалаеўна («Рускія людзі» К. Сіманава) і інш. Створаныя актрысай вобразы вызначаліся высокай духоўнасцю, высакароднасцю, багаццем і шматграннасцю сцэнічных характарыстык, сатырычнай завостранасцю, тонкім лірызмам. Памерла В. У. Галіна 4.12. 1980 г.

*Літ.:* Гаробчанка Т. Я. Вольга Галіна: Крытыка-біягр. нарыс.— Мн., 1980.
*М. М. Казлоўская.*

**550. МАГІЛА ГАРАЧКІНА** Цімафея Сцяпанавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Ц. С. Гарачкін нарадзіўся 4.3.1922 г. у г. п. Чамзінка Чамзінскага р-на Мардоўскай АССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Ваенна-паветраную акадэмію (1954 г.). У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну з 26.6.1943 г. на фронце — камандзір звяна асобнага разведвальнага авіяпалка. Зрабіў 101 баявы вылет на разведку і фатаграфаванне ваенных аб'ектаў, абарончых рубяжоў праціўніка. Правёў 10 паветраных баёў, асабіста збіў 2 варожыя самалёты, раскідаў над тэрыторыяй праціўніка 1 млн. 552 тыс. лістовак. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.5.1946 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, падпалкоўнік. Жыў у Мінску. Памёр Ц. С. Гарачкін 7.5.1974 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.
*Г. І. Дулеба.*

**551. МАГІЛА ГАРБУНОВА** Цімафея Сазонавіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, беларускі савецкі гісторык, акадэмік АН БССР (1959 г.) Ц. С. Гарбуноў нарадзіўся 24.7.1904 г. у в. Саннікі Бешанковіцкага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. Скончыў саўпартшколу (1924 г.), БДУ (1936 г.), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б) (1948 г.). З маленства быў парабкам у мясцовых багацеяў. Працаваў на лесапільні, фабрыцы «Дзвіна» ў Віцебску (1919—24 гг.). З 1933 г. карэспандэнт газеты «Правда», з 1937 г. галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР, з 1939 г. рэдактар газеты «Звязда». У 1941—47 гг. і 1950—60 гг. сакратар ЦК КПБ. У Вялікую Айчынную вайну на палітрабоце ў Чырвонай Арміі, адзін з арганізатараў партызанскага руху на Беларусі. У 1942—45 гг. рэдактар часопіса «Славяне», у 1949—50 гг. намеснік старшыні праўлення Усесаюзнага таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў, рэдактар часопіса «Наука и жизнь». У 1960—67 гг. акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН БССР. Працы па гісторыі ўтварэння БССР, уз'яднання беларускага народа ў адзінай Савецкай сацыялістычнай дзяржаве. Сярод іх: «Вызваленая Заходняя Беларусь» (1940 г.), «Гераічнае мінулае беларускага народа» (1945 г.), «У. І. Ленін — стваральнік беларускай савецкай сацыялістычнай дзяржавы» (1962 г.) і інш. Член ЦК КПБ у 1940—66 гг., член Бюро ЦК КПБ у 1941—47 гг. у 1950—60 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—62 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1947—67 гг. У 1955—63 гг. старшыня Вярхоўнага Савета БССР. Памёр Ц. С. Гарбуноў 8.10. 1969 г.

У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.
*Г. І. Дулеба.*

**552. МАГІЛА ГАРКУШЫ** Івана Федасеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі глебазнавец, акадэмік АН БССР (1961 г.), Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1959—61 гг.), доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар (1954 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1956 г.) І. Ф. Гаркуша нарадзіўся 17.4.1896 г. у с. Гарадзішча Гарадзішчанскага р-на Чаркаскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1938 г. Скончыў Гарадзішчанскае земляробчае вучылішча (1916 г.), Херсонскі сельскагаспадарчы інстытут (1928 г.). З пачатку 1919 г. у Чырвонай Арміі, удзельнічаў у баях на Паўднёвым фронце, быў цяжка паранены, працаваў настаўнікам (1920—23 гг.). У 1933—42 гг. старшы навуковы супрацоўнік Усесаюзнага інстытута ўгнаенняў, агратэхнікі і аграглебазнаўства, адначасова загадчык кафедры глебазнаўства і земляробства Ленінградскай вышэйшай камуністычнай сельскагаспадарчай школы імя С. М. Кірава, у 1942—44 гг. дырэктар глебава-агранамічнай лабараторыі Туркменскага філіяла АН СССР у Ашхабадзе. У 1944—52 гг. прарэктар, у 1952—65 гг. рэктар і адначасова загадчык кафедры глебазнаўства Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Навуковыя працы па пытаннях геаграфіі, генезісу, урадлівасці і эвалюцыі глеб: «Змяненне дзярнова-падзолістых глеб пад уплывам акультурвання» (1955 г.), «Асноўныя прынцыпы класіфікацыі акультураных глеб дзірвана-падзолістага тыпу» (1966 г.) і інш. За падручнік «Глебазнаўства» (1940 г., 6-е выд. 1962 г.) і манаграфію «Акультурванне глеб як сучасны этап глебаўтварэння» (1956 г.) прысуджана прэмія імя В. Р. Вільямса 1947 г. і 1957 г. Член ЦК КПБ у 1961—66 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—67 гг. Памёр І. Ф. Гаркуша 6.8. 1970 г.

У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефным партрэтам вучонага.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.
*А. Г. Шчарбатаў.*

**553. МАГІЛА ГАЎРЫЛЕНКІ** Паўла Нічыпаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец П. Н. Гаўрыленка нарадзіўся 15.2.1902 г. у



553. *Помнік на магіле П. Н. Гаўрыленкі.*

в. Касцюкоўка Гомельскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1927 г. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум (1930 г.). Адзін з арганізатараў аб'яднання моладзі Асацыяцыі мастакоў рэвалюцыі ў Віцебску (1928—30 гг.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1927 г. У 1950 г. у якасці галоўнага мастака прымаў удзел у падрыхтоўцы Беларускага павільёна на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ў Маскве. Аўтар шэрагу твораў аб сацыялістычных пераўтварэннях на Беларусі: «Калгасная брыгада» (1931 г.), «Будоўля» і «Пуск завода» (1932 г.), «Узорванне новых земляў» (1952 г.). Кастрычніцкай рэвалюцыі і Вялікай Айчыннай вайне, працоўным будням горада і вёскі прысвечаны палотны «Раззбраенне карнілаўцаў. Гомель, 1917 г.» (1940 г.), «Прарыў нямецкай абароны» (1942 г.), «Партрэт хлопчыка-партызана» (1943 г.), «Пераправа» (1947 г.), «На партызанскім аэрадроме» (1950 г.), «Збор яблыкаў» (1949 г.), «Ідзе эшалон» (1957 г.), «На рыштаваннях» (1960 г.) і інш. Любоў да Радзімы, захапленне прыгажосцю яе краявідаў знайшлі адлюстраванне ў лірычных пейзажах, натурных малюнках і акварэлях жывапісца. У 1933—36 гг. старшыня аргкамітэта, у 1956—61 гг. старшыня Саюза мастакоў БССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—55 гг. Памёр П. Н. Гаўрыленка 4.2.1961 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. А. Глебаў; бронза, ліраваны лабрадарыт; вышыня бюста 0,8 м, пастамента 2 м) — пагрудны бюст на пастаменце. *Г. М. Ярмоленка.*




555. *Помнік на магіле А. К. Глебава.*

**554. МАГІЛА ГЛАДКОВА** Васіля Дзмітрыевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза В. Дз. Гладкоў нарадзіўся 12.1.1907 г. у г. Верхнеўральск Чэлябінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. Скончыў Тамбоўскае ваеннае кавалерыйскае вучылішча (1936 г.), Ваенную акадэмію Генштаба (1948 г.). У Чырвонай Арміі з 1929 г. Удзельнік барацьбы з басмачамі ў Сярэдняй Азіі (1930 г.). Прымаў удзел у вызваленні Заходняй Беларусі ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім і 1-м Беларускім франтах — камандзір гвардзейскага кавалерыйскага палка. Удзельнік вызвалення Беларусі, Польшчы, разгрому ворага ў Германіі. Полк на чале з В. Дз. Гладковым адзін з першых фарсіраваў рэкі Сож, Прыпяць, Віслу, Шпрэе. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.5.1945 г. Пасля вайны да 1959 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Жыў у Мінску. Ганаровы грамадзянін г. Мазыра. Памёр В. Дз. Гладкоў 5.4.1981 г.

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**555. МАГІЛА ГЛЕБАВА** Аляксея Канстанцінавіча (гіст., маст.).

Беларускі савецкі скульптар, народны мастак БССР (1955 г.) А. К. Глебаў нарадзіўся 11.3.1908 г. у в. Зверавічы Краснінскага р-на Смаленскай вобл. у сялянскай сям'і. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме (1926—30 гг.) у М. Керзіна. Адзін з арганізатараў аб'яднання моладзі Асацыяцыі мастакоў рэвалюцыі ў Віцебску (1928—30 гг.). З 1933 г. жыў у Мінску. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1955—68 гг. выкладчык Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Удзельнічаў у мастацкіх выстаўках з 1928 г. Працаваў у галіне станковай і манументальнай скульптуры. Майстар тэматычнай кампазіцыі, батальнага жанру, партрэта. Удзельнічаў у афармленні Дома ўрада БССР (бюст М. В. Фрунзе, 1933 г.), стварыў барэльефы для Дома Чырвонай Арміі («Лявоніха», «Мастацкая студыя», 1936 г.), гарэльеф для Палаца піянераў і школьнікаў («Піянерскі джаз-аркестр», 1940 г.) у Мінску, скульптуры «Лявоніха» і «Крыжачок» для будынка Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве (1940 г.). У 1936—39 гг. выканаў мадэль помніка для Барысава (конная група) у гонар вызвалення Беларусі ад войск буржуазнай Польшчы ў 1920 г., групу «Рэўваенсавет Першай коннай арміі». Сярод станковых работ партрэты Уладзіміра Полацкага (1944 г.), Л. М. Даватара (конны, 1945 г.), У. Уладамірскага і партрэтная група «М. Горкі і Я. Купала» (1949 г.), партрэт В. Цехановіча (1963 г.), скульптурныя кампазіцыі «Народны паэт БССР Янка Купала» (1950 г.), «У. І. Ленін» (1951 г.), «Францыск Скарына» (1954 г.), «М. В. Фрунзе» (1962 г.), тэматычныя кампазіцыі «Вяртанне з працы» (1957 г.), «Сустрэча У. І. Леніна на Фінляндскім вакзале ў красавіку 1917 г.» (1958 г.), статуі «Юнацтва», «Плыўчыха» (абедзве 1963 г.), конныя групы «Будзёнаўцы» (1959 г.), «Атака» (1964 г.), «Першая конная» (1968 г.). У манументальным мастацтве: статуі рускага фізіка П. М. Лебедзева і Дз. І. Мендзялеева для Маскоўскага універсітэта (1951 г.), гарэльеф «Партызаны Беларусі» для манумента Перамогі ў Мінску (1954 г.), помнік Ф. Скарыне ў Полацку (1967 г., устаноўлены ў 1974 г., Дзяржаўная прэмія БССР 1976 г.). Памёр А. К. Глебаў 2.10. 1968 г. Яго імя прысвоена Мінскаму мастацкаму вучылішчу; на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. З. Азгур, А. Заспіцкі; бронза, лабрадарыт; вышыня бюста 0,7 м, пастамента 1,9 м). Скульптурная пагрудная выява А. К. Глебава пастаўлена на высокі пастамент. Дынамічны разварот корпуса падкрэслены жэстам рукі. Твар прапрацаваны дэталёва, з мяккай святлоценявой мадэліроўкай. Кампазіцыйнае і пластычнае вырашэнне ўзмацняе псіхалагічную характарыстыку вобраза.

*Літ.:* Художники народов СССР: Биобиблиогр. словарь. Т. 3.— М., 1976; Никифоров П., А. К. Глебов.— М., 1960; Петерсон Э. А. Портретная скульптура Советской Белоруссии.— Мн., 1982.
*Г. М. Ярмоленка.*

**556. МАГІЛА ГЛЕБАВА** Глеба Паўлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр, народны артыст СССР (1948 г.), народны артыст БССР (1940 г.) Г. П. Глебаў (сапраўднае Сарокін) нарадзіўся 29.4.1899 г. у г. Вазнясенск (УССР) у сям'і рабочага. Вучыўся ў Адэскім політэхнічным інстытуце (1917—18 гг.). Удзельнічаў у аматарскіх спектаклях, якія наладжваў яго бацька. У Грамадзянскую вайну ў Чырвонай Арміі — акцёр агітпоезда, тэатра «Палітасвета». Пазней у вандроўных трупах на Украіне. З 1926 г. артыст Беларускага тэатра імя Я. Купалы (у 1943—47 гг. мастацкі кіраўнік; у 1943 г. узначальваў тэатральную франтавую брыгаду). Выдатны майстар камедыі. Найбольш ярка талент акцёра выявіўся ў нацыянальнай драматургіі ў ролях Няміры («Бацькаўшчына» К. Чорнага), Халімона («Партызаны» К. Крапівы), Харкевіча («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), Тулягі («Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, Дзяржаўная прэмія СССР 1941 г.), Пустарэвіча

(«Паўлінка» Я. Купалы), Кроплі («Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, Дзяржаўная прэмія СССР 1948 г.), Гарошкі («Выбачайце, калі ласка!» А. Макаёнка), Глушака («Людзі на балоце» паводле І. Мележа). Глыбокім пранікненнем у сутнасць характараў герояў вызначаюцца створаныя Г. П. Глебавым вобразы класічнага рэпертуару: Чугуноў, Маргарытаў, Мамаеў («Ваўкі і авечкі», «Позняе каханне», «На ўсякага мудраца хапае прастаты» А. Астроўскага), Гарпагон («Скупы» Мальера), Мендоза («Дзень цудоўных падманаў» Р. Шэрыдана) і інш. Высокае майстэрства пераўвасаблення, народнасць, выразнасць знешняга малюнка, пластычная насычанасць, мастацкая апраўданасць сцэнічных сродкаў, імправізацыйны дар вызначалі яго мастацтва. Вядомы работы акцёра і ў беларускім кіно. Ён здымаўся ў фільмах «Канстанцін Заслонаў», «Паўлінка», «Несцерка», «Хто смяецца апошнім», «Нашы суседзі», «Палеская легенда», «Хлеб і ружы» і інш. Вялікую папулярнасць набыў як чытальнік на радыё, асабліва казак і баек для дзяцей. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1963—67 гг. Памёр Г. П. Глебаў 3.3.1967 г.

У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт на пастаменце ў выглядзе калоны (скульпт. Г. Мурамцаў, архіт. У. Крывашэеў; бронза, бетон, мармуровая крошка; вышыня бюста 0,7 м, пастамента 1,8 м).



556. *Помнік на магіле Г. П. Глебава.*

*Літ.:* Дунина С., Г. П. Глебов.— М.; Л., 1949; Стэльмах У. М. Народны артыст СССР Г. П. Глебаў.— Мн., 1954; Красінскі А. В. Беларускія акцёры ў кіно.— Мн., 1973. *К. Б. Кузняцова.*

**557. МАГІЛА ГЛЕБКІ** Пятра (гіст., маст.).

Беларускі савецкі паэт, акадэмік АН БССР (1957 г., член-карэспандэнт з 1950 г.) Пятро (Пётр Фёдаравіч) Глебка нарадзіўся 23.6.1905 г. у в. Вялікая Уса Уздзенскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Скончыў БДУ (1930 г.). Працаваў сакратаром рэдакцыі часопіса «Узвышша» (1928—30 гг.), у рэдакцыях газеты «Калгаснік Беларусі», часопіса «Полымя рэвалюцыі», літкансультантам кабінета маладога аўтара пры СП БССР. У гады Вялікай Айчыннай вайны супрацоўнік франтавых газет «За Савецкую Беларусь» і «За свабодную Беларусь», у 1943—45 гг. рэдактар выдавецтва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь», галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР. З 1945 г. працаваў у АН БССР: у Інстытуце літаратуры, мовы і мастацтва, у 1952—56 гг. загадчык сектара лексікаграфіі, у 1956—57 гг. дырэктар Інстытута мовазнаўства, у 1957—69 гг. дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, адначасова ў 1968—69 гг. акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук.

Друкавацца пачаў у 1925 г. У 1927 г. выйшаў першы зборнік лірыкі «Шыпшына». У ім выявілася прыхільнасць аўтара да рамантычнага кірунку ў паказе новай савецкай явы, зварот да літаратурных і фальклорных традыцый. Кнігам паэзіі «Урачыстыя дні» (1930 г.), «Хада падзей», «Арка над акіянам» і «Арлянка» (усе 1932 г.), «Чатыры вятры» (1935 г.), «Мужнасць» (1938 г.) характэрны жанравая разнастайнасць, узмацненне грамадзянскіх матываў. Тэма рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны на Беларусі паглыблена ў паэмах «Трывожны сігнал» (1929 г.), «Арлянка» (1931 г.), драматычнай паэме «Над Бярозай-ракой» (пастаўлена ў 1940 г.). Стварыў вобразы барацьбітоў за Савецкую ўладу, сцвярджаў неўміручасць ленінскіх ідэй (паэмы «Мужнасць», 1934 г., «У тыя дні», 1937 г., і інш.). У Вялікую Айчынную вайну пісаў вершы і паэмы, прасякнутыя лірызмам, шчырым і глыбокім пачуццём любві да Радзімы, верай у перамогу над ворагам. У цэнтры ўвагі паэта — вобраз воіна-патрыёта, услаўленне гераічных спраў беларускіх партызан («Родны хлеб», «Партызаны», «Дзяўчыне з Клімавіч», «Беларусі», «Смерць салдата» і інш.). Пад псеўданімам Язэп Касіла друкаваў сатырычныя вершы і куплеты ў газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну» і сатырычным лістку «Партызанская дубінка». Галоўныя тэмы пасляваеннай




557. *Помнік на магіле Пятра Глебкі.*

творчасці паэта — аднаўленне беларускіх гарадоў і вёсак, памяць вайны, барацьба за мір («Нашай славы зара», «Пад небам бацькаўшчыны», «Размова аб шчасці», «Рака», «Мінск», «Слова міру», «Будаўнікі» і інш.). Выкрыццю антынароднай сутнасці імперыялізму прысвечаны цыкл «З вершаў аб заграніцы». П. Глебка аўтар лібрэта оперы «Андрэй Касценя» (напісана ў 1947 г., пастаўлена ў 1970 г.), вершаванай п'есы «Святло з Усходу» (пастаўлена ў 1957 г.), шэрагу літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў. Выдадзены Зборы твораў у 2 тамах (1958 г.) і ў 3 тамах (1969—71 гг.). Вёў даследчую работу ў галіне беларускай лексікаграфіі, мастацтвазнаўства і фалькларыстыкі. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы А. Пушкіна, М. Лермантава, М. Горкага, А. Міцкевіча, У. Маякоўскага, Т. Шаўчэнкі і інш. Творы П. Глебкі перакладзены на многія мовы народаў СССР і за мяжою. Памёр П. Глебка 18.12.1969 г. Імя паэта прысвоена Літвянскай школе (Уздзенскі р-н), яго імем названа вуліца ў Мінску, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. З. Азгур; граніт, бронза; вышыня скульптуры 2,2 м, пастамента 0,8 м) — бронзавая фігура паэта на прамавугольным, амаль кубічным пастаменце. У партрэтных рысах духоўная мяккасць, сціпласць. На надмагільнай пліце перад помнікам умацаваны бронзавы напалову разгорнуты скрутак з чатырохрадкоўем П. Глебкі.

*Літ.:* Барсток М. Пятро Глебка: Паэтычная творчасць.— Мн., 1952; Перкін Н. С. Пятро Глебка.— Мн., 1955; Пясняр мужнасці: Кніга пра Пятра Глебку.— Мн., 1976.

*У. У. Бянько, Г. М. Ярмоленка.*

**558. МАГІЛА ГУРСКАГА** Ільі Данілавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры БССР (1969 г.) І. Д. Гурскі нарадзіўся 14.4. 1899 г. у в. Замосце Уздзенскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1919 г. Скончыў БДУ (1932 г.). Удзельнік Грамадзянскай вайны. Працаваў на Абухаўскім заводзе ў Петраградзе, у 1924—32 гг. у Галоўрэперткоме, потым у Галоўмастацтве БССР. У 1935—41 гг. рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва», у Вялікую Айчынную вайну адказны сакратар газеты «За Савецкую Беларусь», рэдактар газеты «За свабодную Беларусь» і сатырычнага лістка «Партызанская дубінка». У 1944—60 гг. рэдактар часопіса «Беларусь». Літаратурную дзейнасць пачаў у 1928 г. як драматург. Аўтар п'ес «Новым шляхам» і «Дрыгва» (1928 г.), «Качагары» (1930 г.), «Маці» (1934 г.), «Сваты» (1935 г.), «Патрыёты» (1939 г.), «Хлеб» (1948 г.), «Свае людзі» (1950 г.) і інш. П'есы прысвечаны станаўленню рабочага класа Савецкай Беларусі, сацыялістычнаму будаўніцтву ў рэспубліцы. У творах пасляваеннага часу адлюстроўваў подзвіг беларускага народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі [зборнікі апавяданняў «Над Нёманам» (1945 г.), «У вялікай дарозе» (1958 г.), раман «У агні» (1952 г.)], падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе, на Заходнім фронце і на Беларусі (раман «Вецер веку», 1966 г.), выкрываў варожую сутнасць беларускіх буржуазных нацыяналістаў (раман «Чужы хлеб», 1969 г.). Аўтар аповесці «Лясныя салдаты» (1945 г.; у 1979 г. пад той жа назвай выйшлі аповесць і апавяданні), апавяданняў «На родных гонях» (1948 г.), «Зары насустрач» (1949 г.), «Неспакойныя характары» (1955 г.), «Родная дарога» (1961 г.), зборніка апавяданняў для дзяцей «На берагах Нявы» (1968 г.). Творы пісьменніка перакладзены на многія мовы народаў СССР. Памёр І. Д. Гурскі 12.8.1972 г. Імя пісьменніка прысвоена Нёманскай сярэдняй школе (Уздзенскі р-н), яго імем названа вуліца ў Мінску, на доме, дзе ён жыў, установлена мемарыяльная дошка.

У 1973 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт пісьменніка.

*Літ.:* Аляксееў М. Салдат рэвалюцыі.— Полымя, 1978, № 2; Панчанка П. Камуніст.— Беларусь, 1977, № 4.

*А. Г. Шчарбатаў.*




558. *Помнік на магіле І. Д. Гурскага.*

**559. МАГІЛА ГУРЭВІЧА** Сямёна Шоламавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. Ш. Гурэвіч нарадзіўся 7.12.1915 г. у г. Чэрвень Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Тамбоўскае кавалерыйскае вучылішча (1942 г.). З 1932 г. працаваў рабочым на заводзе ў Мінску. У Чырвонай Арміі з 1935 г. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Бранскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Украінскіх франтах. Камандзір узвода сувязі гвардыі лейтэнант С. Ш. Гурэвіч вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на поўнач ад Днепрадзяржынска. 25.9.1943 г. з групай сувязістаў пераправіўся цераз р. Дняпро і наладзіў тэлефонную сувязь з палком. Сувязісты на чале з С. Ш. Гурэвічам ліквідавалі групу гітлераўцаў, якая прарвалася ў тыл нашых войск і пагражала пераправе. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1943 г. Пасля вайны жыў у Мінску, працаваў на заводзе імя Леніна, на мэблевай фабрыцы. Памёр С. Ш. Гурэвіч 23.4.1982 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**560. МАГІЛА ГУСЕВА** Мікалая Іванавіча (гіст., маст.).

Беларускі савецкі жывапісец, графік, педагог М. І. Гусеў нарадзіўся 9.12.1899 г. у былой вёсцы Петрына (цяпер у межах г. Вязнікі) Уладзімірскай вобл. у сялянскай сям'і. Вучыўся ў Мсцёрскім іканапісным вучылішчы (1910—16 гг.), у Віцебскім мастацкім тэхнікуме (1924—26 гг.) у В. Волкава і Ю. Пэна, у Ленінградскім вышэйшым мастацка-тэхнічным інстытуце (1926—30 гг.), Маскоўскім паліграфічным інстытуце (1930—32 гг.). З 1932 г. у Мінску. Працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР. У 1936—65 гг. выкладчык БПІ (дацэнт з 1954 г.). Удзельнічаў у мастацкіх выстаўках з 1925 г. Працаваў пераважна ў жанрах сюжэтна-тэматычнай карціны, партрэта. Аўтар палотнаў: «У ліцейнай майстэрні» (1929 г.), «Шчаслівая сям'я» (1930 г.), «У гасцях у калгасніка» (каля 1938 г.), «М. І. Калінін праводзіць войскі на польскі фронт. Мінск. 1919 год» (1940 г.), «Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінск у 1920 г.» (1941 г.), «Штаб Мінскага партызанскага злучэння» (1946 г.), «Будуемся» (1947 г.), «Янка Купала і Ян Райніс» (1959 г.). Напісаў партрэты дачкі (1946 г.), А. Бембеля, А. Глебава (абодва канец 1940-х гадоў), Я. Купалы (1949 г.), П. Глебкі (1958 г.), П. Броўкі, Р. Шырмы (абодва 1960 г.). Сярод графічных работ партрэты М. Горкага (1934 г.), І. Харыка (1930-я гады). Памёр М. І. Гусеў 14.2.1965 г.




560. *Помнік на магіле М. І. Гусева.*

У 1971 г. на магіле установлены помнік (скульпт. І. Глебаў, архіт. Ю. Казакоў; мармур; вышыня 2,1 м) — 2 прамавугольныя блокі, пастаўленыя асіметрычна адзін на адзін. Пярэдпія плоскасці адпаліраваны. У верхнім, амаль кубічным блоку, у нішы — скульптурны партрэт мастака. Формы вызначаюцца выразнасцю святлоценявой мадэліроўкі.

*Літ.:* Белорусское искусство: Биобиблиогр. справочник. В. 1. Изобразительное искусство. Живопись.— Мн., 1965.

*Г. М. Ярмоленка.*

**561. МАГІЛА ДАРАШЭВІЧА** Міхаіла Васілевіча (гіст.).

Дзяржаўны дзеяч БССР, беларускі вучоны-геадэзіст, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1954 г.), прафесар (1961 г.) М. В. Дарашэвіч нарадзіўся 6.11.1900 г. у г. Орша ў сям'і служачага. Член КПСС з 1946 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1927 г.). У 1928—29 гг. працаваў у Наркамземе БССР. З 1933 г. у БПІ: загадчык кафедры геадэзіі (1933—41 гг., 1945—68 гг.), дырэктар інстытута (1947—59 гг.). У 1959—68 гг. міністр вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР. Аўтар навукова-метадычных прац па розных відах геадэзічных здымак, выяўленні і вывучэнні тарфяных радовішчаў рэспублікі. Член ЦК КПБ у 1954—66 гг., кандыдат у члены ЦК КПБ з 1966 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—68 гг. Памёр М. В. Дарашэвіч 28.1. 1968 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску, на галоўным корпусе БПІ устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Михаил Васильевич Дорошевич.— Геодезия и картография, 1968, № 6.

*Г. І. Дулеба.*

**562. МАГІЛА ДЗЯДЗЮШКІ** Уладзіміра Іосіфавіча (гіст., маст.).



562. *Помнік на магіле У. І. Дзядзюшкі.*

Беларускі савецкі акцёр, народны артыст СССР (1971 г.), народны артыст БССР (1949 г.) У. І. Дзядзюшка нарадзіўся 1.2.1905 г. у Мінску. Член КПСС з 1948 г. Сцэнічную дзейнасць пачаў як акцёр-аматар. У складзе Трупы Галубка выступаў у розных кутках Беларусі. У 1923—37 гг. у Беларускім трэцім дзяржаўным тэатры. Стварыў шматгранныя сцэнічныя вобразы: Мірон, Адзінота («Суд», «Плытагоны» У. Галубка), Крамарчык («Сяржант Дроб» Э. Самуйлёнка), Акімаў («Контратака» Дз. Курдзіна), Гай («Мой сябра» М. Пагодзіна), Малаиган («Дыктатура» І. Мікітэнкі), Жадаў («Даходнае месца» А. Астроўскага), Прэзідэнт («Каварства і каханне» Ф. Шылера). З 1937 г. у Беларускім першым дзяржаўным тэатры (з 1944 г. тэатр імя Я. Купалы). Псіхалагічная прырода створаных вобразаў, уласцівыя творчасці выразнасць, праўдзівасць, тонкі гумар вылучылі У. І. Дзядзюшку ў рад буйных талентаў беларускай сцэны. Ён сыграў больш за сто роляў, у т. л. Мірона Бокуця («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), Ксаверыя («Кацярына Жарнасек» М. Клімковіча), Крыніцкага («Паўлінка» Я. Купалы), Крушыны («Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона), Пытляванага («Пяюць жаваранкі» К. Крапівы), Язэпа («Салавей» З. Бядулі), Моцкіна («Выбачайце, калі ласка!» А. Макаёнка), дзеда Савося («Адкуль грэх?» А. Петрашкевіча), Дароднага («Позняе каханне» А. Астроўскага), Вакуленкі («Калінавы гай» А. Карнейчука), Багрова («Залп Аўроры» М. Бальшынцова і М. Чыяўрэлі), герцага Альбы («Фландрыя» В. Сарду), Дон Джэрома («Дзень цудоўных падманаў» Р. Шэрыдана), дзядзькі Васы («Пані міністэрша» Б. Нушыча). Здымаўся ў кінафільмах «Паўлінка», «Несцерка», «Канстанцін Заслонаў», «Запомнім гэты дзень», тэлевізійных пастаноўках «Суд» (У. Галубка), «Людзі на балоце» (паводле І. Мележа), «Прымакі» (Я. Купалы). Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1971—73 гг. Памёр У. І. Дзядзюшка 30.3.1973 г. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1976 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. З. Азгур; бронза, лабрадарыт; вышыня бюста 1,1 м, пастамента 2,1 м) — скульптурны партрэт акцёра на строгім прамавугольным пастаменце з паліраванага лабрадарыту. Дакладнасці партрэтных рысаў, раскрыццю яркага характару чалавека-творцы адпавядаюць мяккая мадэліроўка, дэталі адзення. Помнік вылучаецца кампазіцыйнай кампактнасцю.

*Г. М. Новікава, Г. М. Ярмоленка.*

**563. МАГІЛА ДЗЯНІСАВА** Міхаіла Іванавіча (гіст.).



563. *Помнік на магіле М. І. Дзянісава.*

Беларускі савецкі спявак, народны артыст БССР (1944 г.) М. І. Дзянісаў нарадзіўся 8.11.1900 г. у в. Трасцянка Балашоўскага р-на Саратаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1946 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. Вучыўся ў Саратаўскай кансерваторыі (1925—28 гг.), вышэйшым оперным класе Беларускага музычнага тэхнікума (1928—30 гг.), Беларускай студыі оперы і балета (1930—33 г.) у А. Баначыча. У 1933—41 гг. і 1944—58 гг. саліст Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, у 1941—43 гг.— Ерэванскага опернага тэатра. У 1958—64 гг. мастацкі кіраўнік Беларускай філармоніі, у 1964—70 гг. педагог Беларускай кансерваторыі. Стварыў яркія вобразы ў беларускіх операх: Кузьміч («У пушчах Палесся» А. Багатырова), Змітрок і Апанас («Міхась Падгорны», «Алеся» Я. Цікоцкага), Мураўёў («Кастусь Каліноўскі» Дз. Лукаса). Лепшыя партыі опернай класікі: Анегін, Ялецкі, Мазепа («Яўген Анегін», «Пікавая дама», «Мазепа» П. Чайкоўскага), князь Ігар («Князь Ігар» А. Барадзіна), Дэман («Дэман» А. Рубінштэйна), Гразной («Царская нявеста» М. Рымскага-Корсакава), Траякураў («Дуброўскі» Э. Напраўніка), Мечнік («Страшны двор» С. Манюшкі), Рыгалета, Жэрмон




567. *Помнік на магіле І. І. Жыновіча.*

(«Рыгалета» і «Травіята» Дж. Вердзі), Фігара («Севільскі цырульнік» Дж. Расіні), Эскамільё («Кармэн» Ж. Бізэ) і інш. Значнае месца ў канцэртным рэпертуары спевака займалі беларускія народныя песні, рамансы, творы беларускіх кампазітараў. Памёр М. І. Дзянісаў 11.1.1971 г.

У 1973 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт артыста на высокім пастаменце.

*Літ.:* Пукст Р. Натхнёны спявак.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960; Гук І. Карыфей беларускай оперы.— Беларусь, 1970, № 11.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**564. МАГІЛА ДОРСКАГА** Іосіфа Львовіча (гіст.).

Беларускі савецкі тэатральны дзеяч і драматург, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1961 г.) І. Л. Дорскі нарадзіўся 4.12.1911 г. у Мінску ў сям'і служачага. Член КПСС з 1945 г. Скончыў курсы кінасцэнарыстаў у Мінску (1930 г.). Працаваў на кінафабрыцы «Савецкая Беларусь» у Ленінградзе (1931—33 гг.). З 1935 г. загадчык літаратурнай часткі, з 1948 г. дырэктар Беларускага тэатра імя Якуба Коласа. У 1961—64 гг. дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм». Літаратурную дзейнасць пачаў у 1930 г. З К. Губарэвічам напісаў драму «Цэнтральны ход» (пастаўлена ў 1948 г.), лірычную камедыю «Алазанская даліна» (апублікавана ў 1951 г., пастаўлена ў 1949 г.) пра мірную працу беларускіх калгаснікаў у першыя пасляваенныя гады. Аўтар п'есы «Права на шчасце» (пастаўлена ў 1956 г. пад назвай «Шчасце»). Памёр І. Л. Дорскі 7.12.1964 г.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*В. В. Семянюк.*

**565. МАГІЛА ДУБРОЎСКАГА** Фёдара Фаміча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр (1943 г.) Ф. Ф. Дуброўскі нарадзіўся 17.4.1901 г. у в. Замошша Ушацкага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. Скончыў Вышэйшую цэнтральную калгасную школу (1932 г.). У 1918 г. добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію. Удзельнік Грамадзянскай вайны на Заходнім фронце. З 1929 г. старшыня калгаса, сельсавета, дырэктар МТС. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну адзін з арганізатараў камуністычнага падполля ў Віцебскай вобл., камандзір партызанскага атрада (створаны ў 1942 г.) Чашніцкай («Дубава») партызанскай брыгады. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.9. 1943 г. У 1944—53 гг. сакратар Чашніцкага райкома КП(б)Б, дырэктар саўгасаў імя Леніна, «Новыя Зялёнкі» на Віцебшчыне. Памёр Ф. Ф. Дуброўскі 3.3.1970 г.

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай героя.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*Г. І. Дулеба.*

**566. МАГІЛА ЖЫЖАЛЯ** Івана Мацвеевіча (гіст.).

Дзяржаўны дзеяч БССР, Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны будаўнік БССР (1962 г.) І. М. Жыжаль нарадзіўся 3.6.1904 г. у в. Сыраежкі Бераставіцкага р-на ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1924 г. У 1935 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працоўную дзейнасць пачаў у 1921 г., быў рабочым на чыгунцы, потым памочнікам машыніста, машыністам паравоза, прарабам на будоўлі, інжынерам-канструктарам, дырэктарам інстытута «Белпрампраект». Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1944 г. інструктар ЦК КП(б)Б, загадчык аддзела будаўнічых матэрыялаў Дзяржплана БССР, з 1946 г. у упраўленнях прамысловага, сельскага будаўніцтва пры Савеце Міністраў БССР, Галоўмінскбудзе. З 1953 г. намеснік міністра гарадскога і сельскага будаўніцтва БССР, у 1955—69 гг. міністр прамысловага будаўніцтва БССР. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1964 г. за поспехі ў будаўніцтве Гродзенскага азотна-тукавага завода, 1-га Салігорскага калійнага камбіната і Полацкага нафтаперапрацоўчага завода. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1952—54 гг., член Рэвізійнай камісіі КПБ у 1954—56 гг., член ЦК КПБ у 1956—71 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—71 гг. Ганаровы грамадзянін г. Мінска. Памёр І. М. Жыжаль 18.3.1982 г. Яго імя прысвоена Мінскаму гарадскому прафесійна-тэхнічнаму вучылішчу № 52 будаўнікоў.

У 1983 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Т. Р. Чуракова.*

**567. МАГІЛА ЖЫНОВІЧА** Іосіфа Іосіфавіча (гіст.).

Беларускі савецкі цымбаліст, дырыжор, кампазітар і педагог, народны артыст СССР (1968 г.), народны артыст БССР (1955 г.), прафесар (1963 г.) І. І. Жыновіч (сапраўднае Жыдовіч) нарадзіўся 1.5.1907 г. у в. Арэшкавічы Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. Скончыў юрыдычны факультэт БДУ (1931 г.), Беларускую кансерваторыю (1941 г.). У 1922 г. саліст-цымбаліст Беларускага дзяржаўнага тэатра (тэатр імя Я. Купалы). У 1930—35 гг. кіраваў Беларускім дзяржаўным ансамблем народных інструментаў, у 1938—41 гг. саліст, канцэртмайстар і педагог Дзяржаўнага народнага аркестра БССР. У Вялікую Айчынную вайну ў франтавых канцэртных брыгадах. З 1944 г. да 1974 г. выкладаў у Беларускай кансерваторыі, дзе заснаваў клас цымбалаў і кафедру народных інструментаў (загадчык кафедры ў 1946—63 гг.), з 1946 г. галоўны дырыжор і мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага народнага аркестра БССР. Першы прафесійны выканаўца на беларускіх цымбалах у савецкі час. Ігра І. І. Жыновіча вызначалася віртуозным размахам, артыстызмам, беражлівым стаўленнем да аўтарскага тэксту. Выконваў уласныя арыгінальныя творы («Беларускія танцы» і інш.), пералажэнні п'ес іншых аўтараў. Лаўрэат 1-га Усесаюзнага агляду выканаўцаў на народных інструментах (1939 г.). Канцэртаваў як віртуоз-цымбаліст у ГДР, Фінляндыі, Канадзе. Удзел І. І. Жыновіча ў рэканструкцыі музычных інструментаў, перш за ўсё цымбалаў, меў вялікае значэнне для станаўлення народнага аркестра. Для аркестра напісаў: «Беларуская мелодыя» для ансамбля цымбалаў і 2 арфаў, «Сказ-быліна аб зямлі беларускай», канцэртныя апрацоўкі народных танцаў «Лявоніха» і «Мікіта», зрабіў пералажэнні 7-й сімфоніі В. А. Моцарта, фіналаў 1-га канцэрта для фартэп'яна з сімфанічным аркестрам і Серэнады для струннага аркестра П. І. Чайкоўскага і многіх іншых твораў рускай і зарубежнай класікі і савецкай музыкі. Стваральнік першай школы ігры на беларускіх цымбалах. Дзяржаўная прэмія БССР 1968 г. Памёр І. І. Жыновіч 13.1.1974 г. Яго імя прысвоена Дзяржаўнаму народнаму аркестру БССР, у Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1976 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. З. Азгур; мармур). Уяўляе сабой скульптурную выяву цымбаліста, пастаўленую на нізкі прамавугольны аб'ём.

*Літ.:* Насценка З. Іосіф Жыновіч: (Старонкі жыцця).— Мн., 1969.

*М. В. Кірэйшын.*

**568. МАГІЛА ЗАБЛОЦКАГА** Уладзіміра Уладзіміравіча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы У. У. Заблоцкі нарадзіўся 13.7.1933 г. у Мінску. Член КПСС з 1975 г. Працоўную дзейнасць пачаў у 1947 г. у г. Барысаве на заводзе «Чырвоны металіст». У 1950 г. скончыў чыгуначнае вучылішча, працаваў слесарам на Мінскім вагонным участку Беларускай чыгункі. У 1962—63 гг. працаваў на заводзе імя У. І. Леніна, з 1963 г. слесарам механазборачных работ у вытворчым аб'яднанні «Інтэграл» у Мінску. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 16.1. 1974 г. за поспехі ў выкананні і перавыкананні планаў і сацыялістычных абавязацельстваў за 1973 г. Памёр У. У. Заблоцкі 26.7.1984 г.

*В. В. Семянюк.*

**569. МАГІЛА ЗАХАРАВА** Івана Кузьміча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. К. Захараў нарадзіўся 31.7.1909 г. у в. Ганявічы Лагойскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1937 г. Заслужаны работнік культуры БССР (1980 г.). У 1934 г. скончыў Вышэйшую камуністычную сельскагаспадарчую школу, у 1948 г.— Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Б. Працаваў старшынёй сельсавета, намеснікам дырэктара, дырэктарам Чапаеўскай МТС Асвейскага (цяпер Верхнядзвінскі) р-на Віцебскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну накіраваны ў лістападзе 1941 г. у тыл ворага для арганізацыі партызанскага руху на Віцебшчыне. У красавіку 1942 г. узначаліў партызанскі атрад імя М. В. Фрунзе, які ў ліпені 1942 г. пераўтвораны ў Асвейскую партызанскую брыгаду імя М. В. Фрунзе. Да студзеня 1944 г. камандзір брыгады, адначасова ў чэрвені 1942 г.— снежні 1943 г. першы сакратар Асвейскага падпольнага райкома КП(б)Б. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. З ліпеня 1944 г. сакратар Дрысенскага, з 1948 г.— Докшыцкага райкомаў КП(б)Б. У 1953—63 гг. старшыня Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза рабочых будаўніцтва і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. Аўтар кнігі «Вайна ў краі азёр» (2-е выд., 1973 г.). Памёр І. К. Захараў 18.5.1982 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**570. МАГІЛА ІААНІСІЯНІ** Рыгора Зіноўевіча (гіст.).

Удзельнік устанаўлення Савецкай улады ў Чэчэна-Інгушскай АССР Р. З. Іаанісіяні нарадзіўся 27.6.1888 г. Член КПСС з 1906 г. У 1917—18 гг. сакратар, старшыня Грозненскага акруговага ваенна-рэвалюцыйнага Савета, у 1918—19 гг. намеснік старшыні, старшыня Грозненскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў. У час дзянікінскай акупацыі Чэчэна-Інгушэціі (люты 1919 — сакавік 1920 гг.) палітработнік партызанскага атрада Шатаўскага р-на. З 1920 г. старшыня Грозненскага акруговага рэўкома, у 1920—21 гг. старшыня Грозненскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў. З 1921 г. да 1936 г. у Горскім абкоме партыі, Грозненскай акруговай кантрольнай камісіі, Грозненскім аблвыканкоме, старшыня Чэчэнскай абласной кантрольнай камісіі ВКП(б), у парткантролі ЦК ВКП(б). У 1936—37 гг. загадчык гандлёвага аддзела ЦК КП(б)Б, член парткалегіі ЦК ВКП(б) па БССР (1937—39 гг.), у наркамаце паліўнай прамысловасці БССР (1939—41 гг.). У Вялікую Айчынную вайну ў Мічурынску, у 1943—53 гг. працаваў у Міністэрстве мясцовай прамысловасці БССР. Памёр Р. З. Іаанісіяні 6.7.1973 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла. *В. Б. Караткевіч.*

**571. МАГІЛА КАЗЛОВА** Васіля Іванавіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза (1942 г.), генерал-маёр (1943 г.) В. І. Казлоў нарадзіўся 5.2. 1903 г. у в. Заграддзе Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1927 г. У 1933 г. скончыў Камуністычны універсітэт Беларусі імя У. І. Леніна ў Мінску. З 1917 г. рабочы, слесар дэпо станцыі Жлобін. У 1925—27 гг. у Чырвонай Арміі, у 1928—40 гг. на партыйнай і савецкай рабоце ў Жлобінскім, Старобінскім і Чэрвеньскім р-нах. З 1940 г. намеснік старшыні Саўнаркома БССР. З сакавіка 1941 г. сакратар Мінскага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну пакінуты ў тыле ворага для арганізацыі камуністычнага падполля і партызанскага руху. З ліпеня 1941 г. першы сакратар Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б і камандзір партызанскага злучэння Мінскай вобл. У 1944—48 гг. першы сакратар Мінскага абкома і гаркома КП(б)Б. У 1947 г. старшыня Вярхоўнага Савета БССР. У 1948—67 гг. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. З 1956 г. кандыдат у члены, у 1966—67 гг. член ЦК КПСС, з 1949 г. член ЦК КПБ, член Бюро ЦК КПБ у 1945—67 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—67 гг., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—67 гг. Аўтар кніг: «Людзі асобага складу» (1958 г.), «Разам з масамі, пад кантролем мас» (1962 г.), «Саюз свабодных і роўных» (1964 г.), «Верны да канца» (2-е выд., 1973 г.). Памёр В. І. Казлоў 2.12.1967 г. На ўшанаванне яго памяці ў Салігорску пастаўлены помнік, у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны створана мемарыяльная зала. Імем В. І. Казлова названы вуліцы ў Мінску, Салігорску, Жлобіне, яго імя прысвоена электратэхнічнаму заводу ў Мінску, саўгасу і школе ў Жлобінскім р-не. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.



571. *Помнік на магіле В. І. Казлова.*

У 1969 г. на магіле пастаўлены бюст (бронза, граніт; скульпт. З. Азгур).

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Люди легенд. В. 1.— М., 1965; Марушкевич Н. Т. Смысл его жизни.— М., 1976. *Г. І. Дулеба.*

**572. МАГІЛА КАЗЛОЎСКАГА** Ігната Ігнатавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. І. Казлоўскі нарадзіўся 2.2.1917 г. у в. Прусы (цяпер Вялікія Прусы) Капыльскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. У 1939 г. скончыў Сталінградскае ваеннае авіяцыйнае вучылішча. У Чырвонай Арміі з 1936 г. У Вялікую Айчынную вайну з лістапада 1941 г. на Заходнім, 1-м і 4-м Украінскіх франтах: штурман, камандзір авіяэскадрыллі, намеснік камандзіра штурмавога авіяпалка. Зрабіў больш за 120 баявых вылетаў, з іх 48 у тыл ворага. Экіпаж яго самалёта знішчыў 15 танкаў, 80 аўтамашын, 20 зенітных кропак, 30 чыгуначных вагонаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 18.8.1945 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны палкоўнік І. І. Казлоўскі служыў у Савецкай Арміі. З 1960 г. працаваў у 2-м аўтапарку г. Мінска. Памёр 8.6. 1962 г. У 1967 г. на радзіме ўстаноўлены яго бюст.

У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**573. МАГІЛА КАЛІНІНА** Пятра Захаравіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну П. З. Калінін нарадзіўся 12.1.1902 г. на былым хутары Альховікі Шумілінскага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1928 г. Скончыў Рэспубліканскую школу прапагандыстаў пры ЦК КП(б)Б (1937 г.) і Вышэйшую школу партыйных арганізатараў пры ЦК ВКП(б) (1941 г.). У 1924—26 гг. у Чырвонай Арміі, з 1926 г. на партыйнай і савецкай рабоце ў Сіроцінскім і Чашніцкім р-нах. У 1938 г. у апараце ЦК КП(б)Б, з 1939 г. намеснік наркома земляробства БССР, першы сакратар Вілейскага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну сакратар ЦК КП(б)Б, член ваеннага савета 21-й арміі, намеснік начальніка штаба партызанскага руху пры ваенным савеце Заходняга фронту. З верасня 1942 г. начальнік Беларускага штаба партызанскага руху. У 1944—48 гг. першы сакратар Гродзенскага абкома КП(б)Б, у 1948—51 гг. намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР. З 1951 г. міністр саўгасаў, дарожнай і транспартнай гаспадаркі, хлебапрадуктаў БССР, з 1959 г. саветнік Савета Міністраў БССР. Член ЦК КПБ у 1940—60 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—58 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1938—55, 1959—63 гг. Аўтар кнігі «Партызанская рэспубліка» (3-е выд., 1973 г.), успамінаў «Беларускі штаб партызанскага руху» ў кнізе «Непакораная Беларусь» (1963 г.). Памёр П. З. Калінін 12.12.1966 г. Яго імя прысвоена школе ў в. Лескавічы Шумілінскага р-на і цукроваму заводу ў Скідалі.




573. *Помнік на магіле П. З. Калініна.*

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Т. Р. Чуракова.*

**574. МАГІЛА КАМЕНСКАЙ** Ніны Васілеўны (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, член-карэспандэнт АН БССР (1959 г.), доктар гістарычных навук (1959 г.), прафесар (1961 г.) Н. В. Каменская нарадзілася 23.12.1913 г. у г. Асіповічы ў сям'і рабочага-чыгуначніка. Член КПСС з 1942 г. У 1937 г. скончыла гістарычны факультэт Магілёўскага педінстытута, працавала выкладчыкам гісторыі ў школах Магілёва і Бабруйска, загадчыкам парткабінета райкома партыі ў г. Леў Талстой Ліпецкай вобл. У 1944—1962 гг. старшы навуковы супрацоўнік, загадчык сектара, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР. У 1962—64 гг. дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, у 1965—69 гг.— Інстытута гісторыі АН БССР. З 1969 г. прарэктар, загадчык кафедры гісторыі БССР Мінскага педагагічнага інстытута, з 1974 г. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. Навуковыя працы па гісторыі Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны на Беларусі, стварэння Беларускай ССР, кампартыі і камсамола Беларусі. Адзін з аўтараў і рэдактараў «Гісторыі Мінска» (2-е выд., 1967 г.), «Нарысаў гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі» (ч. 1, 2-е выд., 1968 г.), «Гісторыі Беларускай ССР» у 5 тамах (1972—75 гг.), «Гісторыі Беларускай ССР» (1977 г.). Памерла Н. В. Каменская 22.3.1986 г.

У 1988 г. на магіле пастаўлена стэла з бронзавым барэльефам.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Г. І. Дулеба.*

**575. МАГІЛА КАМІНСКАГА** Івана Іларыёнавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. І. Камінскі нарадзіўся 8.11.1919 г. у былой в. Мяккія (перайменавана ў в. Масора) Сенненскага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1946 г. Скончыў школу лётчыкаў у г. Энгельс (1941 г.), Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Б (1948 г.) і Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС (1963 г.). З 1939 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1942 г. на Заходнім, 3-м Беларускім франтах. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Арлоўскай, Бранскай і Смаленскай абласцей, Беларусі, Літвы, Польшчы, баёў ва Усходняй Прусіі. Камандзір авіязвяна, намеснік камандзіра авіяэскадрыллі 10-га асобнага разведвальнага авіяпалка 1-й паветранай арміі, старшы лейтэнант І. І. Камінскі зрабіў 239 баявых вылетаў, з якіх 159 на разведку і аэрафотаздымку ваенных умацаванняў, абарончых рубяжоў, аэрадромаў праціўніка, першы ў палку праклаў шлях на Кёнігсберг, тройчы разведваў яго і бамбіў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.6.1945 г. Пасля вайны на партыйнай і савецкай рабоце ў г. Мінску. Памёр І. І. Камінскі 6.10.1974 г. У 1981 г. у в. Машканы Сенненскага р-на каля сярэдняй школы, у якой ён вучыўся, устаноўлены бюст героя.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**576. МАГІЛА КАНАВАЛАВА** Яўмена Рыгоравіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне тэхналогіі машынабудавання, акадэмік АН БССР (1969 г., член-карэспандэнт з 1967 г.), доктар тэхнічных навук (1962 г.), прафесар (1964 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1972 г.) Я. Р. Канавалаў нарадзіўся 6.9.1914 г. у в. Чарнарэчка Горацкага р-на Магілёўскай вобл. у сям'і рабочага. Быў вучнем токара ў майстэрнях імя 1-га злёту піянераў у Ленінградзе. У 1936 г. скончыў Ленінградскі механіка-тэхналагічны інстытут. У 1936—41 гг. інжынер-механік на заводзе. У Вялікую Айчынную вайну разам з прадпрыемствам эвакуіраваўся ў Краснаярск. Працаваў начальнікам тэхнічнага бюро, бюро вынаходніцтваў, начальнікам цэха, кіраваў навукова-даследчай работай на заводзе. З 1955 г. у Акадэміі навук БССР, загадчык лабараторыі фізіка-тэхнічнага інстытута. З 1970 г. выконваў абавязкі акадэміка-сакратара, з 1973 г. акадэмік-сакратар Аддзялення фізіка-тэхнічных навук АН БССР. Навуковыя працы прысвечаны новым відам апрацоўкі металаў, стварэнню металаапрацоўчага абсталявання і інструменту, трываласці металаў і сплаваў у ультрагукавым полі. Прапанаваў адзіную класіфікацыю розных тэхналагічных працэсаў металаапрацоўкі. Выявіў заканамернасці ўплыву ультрагукавога поля на працэсы расцягнення, кручэння, выгібу і паўзучасці металаў і сплаваў, устанавіў ультрагукавы капілярны эфект. Займаўся педагагічнай дзейнасцю, прапагандай і ўкараненнем тэарэтычных распрацовак у народна-гаспадарчую практыку. Дзяржаўная прэмія БССР 1974 г. Памёр Я. Р. Канавалаў 16.6. 1974 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *В. М. Удальцоў.*

**577. МАГІЛА КАРАЛЯ** Уладзіміра Адамавіча (гіст.).

Дзяржаўны дзеяч БССР, народны архітэктар СССР (1970 г.), правадзейны член АМ СССР (1979 г.), заслужаны будаўнік БССР (1962 г.) У. А. Кароль нарадзіўся 14.12.1912 г. у г. Чэрвень Мінскай вобл. Член КПСС з 1940 г. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум (1931 г.), Усерасійскую акадэмію мастацтваў у Ленінградзе (1941 г.). У Вялікую Айчынную вайну ў складзе атрада народнага апалчэння ўдзельнічаў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на Ленінградскім фронце. З 1945 г. намеснік начальніка, з 1951 г. начальнік Упраўлення па справах архітэктуры пры Савеце Міністраў БССР, у 1955—79 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах будаўніцтва Савета Міністраў БССР, з 1959 г. адначасова загадчык кафедры горадабудаўніцтва Беларускага політэхнічнага інстытута. Сааўтар праектаў планіроўкі і забудовы Ленінскага праспекта і Цэнтральнай плошчы (Дзяржаўная прэмія БССР 1968 г.), будынкаў Галоўнага паштамта і Галоўнага тэлеграфа, манумента Перамогі ў Мінску. Стварыў праекты шэрагу архітэктурных ансамбляў і асобных будынкаў у іншых гарадах БССР, мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой». Апублікаваў працы па пытаннях горадабудаўніцтва і архітэктуры, у тым ліку «Архітэктурнае аблічча будучага Мінска» (1953 г.), «З вопыту сельскага будаўніцтва ў Беларускай ССР» (1973 г.). Быў рэдактарам бюлетэня «Строительство и архитектура Белоруссии». Член Рэвізійнай камісіі КПБ у 1952—54 гг., кандыдат у члены ЦК КПБ у 1956—80 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—80 гг. Памёр У. А. Кароль 28.5.1980 г. Яго імем названы вуліца ў Мінску і школа ў Чэрвені. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Г. І. Дулеба.*

**578. МАГІЛА КАРАТКЕВІЧА** Уладзіміра Сямёнавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік У. С. Караткевіч нарадзіўся 26.11.1930 г. у г. Орша Віцебскай вобл. у сям'і служачага. У 1954 г. скончыў філалагічны факультэт Кіеўскага універсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі, у 1960 г.— вышэйшыя літаратурныя, у 1962 г.— сцэнарныя курсы ў Маскве. Друкавацца пачаў у 1955 г. Распрацоўваў пераважна гістарычную тэматыку. Характэрныя рысы яго творчасці — вострая сацыяльная накіраванасць, грамадзянская палымянасць, вернасць ідэалам гуманізму, дабра, красы і справядлівасці. Аўтар зборнікаў паэзіі «Матчына душа» (1958 г.), «Вячэрнія ветразі» (1960 г.), «Мая Іліяда» (1969 г.), «Быў. Ёсць. Буду» (1986 г.), зборніка апавяданняў і аповесцей «Блакіт і золата дня» (1961 г.), раманаў «Нельга забыць» (апублікаваны ў 1962 г., Літаратурная прэмія імя І. Мележа 1983 г.), «Каласы пад сярпом тваім» (кн. 1—2, 1965 г.), «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (1966 г.), «Чорны замак Альшанскі» (1979 г., Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа 1984 г.; аднайменны кінафільм, 1983 г.), аповесцей «Дзікае паляванне караля Стаха» (1964 г., экранізавана кінастудыяй «Беларусьфільм» у 1980 г.), «Чазенія» (1970 г.), «Зброя» (1981 г.) і інш. Аўтар п'ес «Млын на Сініх Вірах» (пастаўлена ў 1959 г.), «Званы Віцебска» (пастаўлена ў 1974 г.), «Кастусь Каліноўскі» (пастаўлена ў 1978 г.), «Калыска чатырох чараўніц» (пастаўлена ў 1982 г.), нарысаў «Зямля пад белымі крыламі» (1977 г.), «Сцюдзёная вясна, або 1000 год і 7 дзён» (1980 г.) і інш., сцэнарыяў кароткаметражных фільмаў «Сведкі вечнасці» (1964 г.), «Памяць» (1966 г.), «Чырвоны агат» (1973 г.) і інш., літаратурна-крытычных артыкулаў. Творы У. С. Караткевіча перакладзены на рускую, украінскую, літоўскую, чэшскую, балгарскую і інш. мовы. Памёр У. С. Караткевіч 25.7.1984 г. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лойка А. Выхаванне таленту.— Маладосць, 1961, № 7; Сямёнава А. Часоў жывая плынь.— Полымя, 1979, № 11; Верабей А. Яднаючы сучаснае з мінулым.— Маладосць, 1980, № 11; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

**579. МАГІЛА КАРЖА** Васіля Захаравіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза (1944 г.), генерал-маёр (1943 г.) В. З. Корж нарадзіўся 1.1. 1899 г. у в. Хорастава Салігорскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1929 г. Скончыў Ваенную акадэмію Генштаба (1949 г.). Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі ў 1921—25 гг. З 1925 г. старшыня калгасаў у Слуцкім і Старобінскім р-нах. У 1931—36 гг. у органах НКУС. Удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі (1936—39 гг.), камандзір інтэрнацыянальнага партызанскага атрада. У 1939—40 гг. на гаспадарчай рабоце ў Краснадарскім краі, Беларусі. З 1940 г. загадчык сектара Пінскага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну В. З. Корж стварыў адзін з першых на Беларусі партызанскіх атрадаў, які з ліпеня 1941 г. вёў баі з фашыстамі, увосень 1941 г. разам з партызанамі Палесся і Міншчыны зрабіў рэйд па раёнах Палескай і Мінскай абласцей. Камандзір партызанскага злучэння Пінскай вобл., з жніўня 1942 г. да ліпеня 1944 г. член Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б. У 1949—53 гг. намеснік міністра лясной гаспадаркі БССР. У 1953—63 гг. старшыня калгаса «Партызанскі край» Салігорскага р-на. Аўтар успамінаў «Народная барацьба супраць фашысцкіх акупантаў на Піншчыне» [у кн.: «З гісторыі партызанскага руху на Беларусі (1941—1944 гады)», 1961 г.]. Памёр В. З. Корж 5.5.1967 г. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Пінску, Салігорску, імя В. З. Каржа прысвоена сярэдняй школе № 2 у Пінску і калгасу на радзіме. У в. Хорастава ўстаноўлены скульптурны партрэт героя.

У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1983—85; Казлоў В. І. Людзі асобага складу.— Мн., 1967; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*Г. І. Дулеба.*

**580. МАГІЛА КАРПАВА** Уладзіміра Барысавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік У. Б. Карпаў нарадзіўся 13.2.1912 г. у г. Хвалынск Саратаўскай вобл. у сям'і земскага ўрача. З 1921 г. жыў на Гомельшчыне. У 1929 г. скончыў сярэднюю школу, працаваў рабочым на лесапільным заводзе ў Рэчыцы, з 1931 г. настаўнічаў. У 1941 г. завочна скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. удзельнік камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі. З 1944 г. настаўнічаў, працаваў у газетах «Советская Белоруссия», «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Полымя». Літаратурную дзейнасць пачаў у 1944 г. як крытык.




579. *Помнік на магіле В. З. Каржа.*

Аўтар зборнікаў артыкулаў «Па шляху сталасці» (1952 г.) і «Крылаты ўзлёт» (1966 г.). З 1949 г. працаваў пераважна ў галіне прозы. Гераічнай барацьбе беларускіх партызан і падпольшчыкаў супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў прысвяціў аповесць «Без нейтральнай паласы» (1949 г.) і раман «Нямігі крывавыя берагі» (1962 г.). Складальнік і адзін з аўтараў зборнікаў «Мы раскажам пра Мінск» (1964 г.), «Горад і гады» (1967 г.), «Праз агонь і смерць» (1970 г.). Выдаў кнігу ўспамінаў і апавяданняў «Прызнанне ў нянавісці і любові» (1976 г.). Яго раманы «За годам год» (1955—56 гг.), «Вясеннія ліўні» (1959—60 гг.), «Сотая маладосць» (1969 г.) расказваюць пра рабочы клас, інтэлігенцыю рэспублікі. Выдадзены Збор твораў у 5 тамах (1983—85 гг.). Памёр У. Б. Карпаў 6.8.1977 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. М. Баскова.*

**581. МАГІЛА КАЧАТКОВА** Рыгора Аляксеевіча (гіст.).

Рускі савецкі акцёр, чытальнік, народны артыст БССР (1954 г.) і Узбекскай ССР (1946 г.) Р. А. Качаткоў нарадзіўся 19.1.1904 г. у в. Шмялёўка Цыцюшскага р-на Татарскай АССР у сялянскай сям'і. Скончыў Яраслаўскае тэатральнае вучылішча (1924 г.). Працаваў у тэатрах РСФСР і Узбекскай ССР. З 1950 г. у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага, у 1962—67 гг. педагог Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Выканаўца драматычных і характарных роляў. Найбольш значныя: Гадун («Разлом» Б. Лаўранёва), Забродзін («Ленінградскі праспект» І. Штока), Сіпаты («Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага), Фаюнін («Нашэсце» Л. Лявонава). З поспехам выступаў і ў класічным рэпертуары — граф Кент («Кароль Лір» У. Шэкспіра), Ягор Булычоў, Цыганоў («Ягор Булычоў і іншыя», «Варвары» М. Горкага), Мітрыч («Улада цемры» Л. Талстога). Цікавыя вобразы стварыў у спектаклях па п'есах беларускіх драматургаў — Калеснікаў, Карнілаў («Брэсцкая крэпасць», «Галоўная стаўка» К. Губарэвіча), Чарнуха («Што пасееш, тое і пажнеш» В. Палескага), Траян («Пад адным небам» А. Маўзона). Акцёру былі ўласцівы праўдзівасць і лаканізм сцэнічных паводзін, яркі драматычны тэмперамент. Памёр Р. А. Качаткоў 15.10.1968 г.

У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск з барэльефным партрэтам акцёра.

*Літ.:* Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960. *Р. Б. Смольскі.*

**582. МАГІЛА КАШЭЛЬНІКАВАЙ** Раісы Мікалаеўны (гіст.).

Беларуская савецкая актрыса, народная артыстка БССР (1957 г.) Р. М. Кашэльнікава нарадзілася 3.9.1904 г. у в. Баршчоўка Хойніцкага р-на Гомельскай вобл. у сям'і настаўніка. Скончыла педагагічны тэхнікум у г. Чэрвень (1923 г.), Беларускую драматычную студыю ў Маскве (1926 г.). Працавала ў Беларускім другім дзяржаўным тэатры ў Віцебску (тэатр імя Я. Коласа), з 1939 г. у Беларускім першым дзяржаўным тэатры (тэатр імя Я. Купалы). У 1943 г. у франтавой тэатральнай брыгадзе. Выконвала лірыка-драматычныя, вострахарактарныя ролі. Творчую індывідуальнасць Р. М. Кашэльнікавай вызначалі народны гумар, яркая характарнасць і тэмперамент. Найбольшую вядомасць прынёс створаны ёю вобраз Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Я. Купалы, у якім ярка выявілася творчая індывідуальнасць актрысы. Сярод роляў: Аўгіння («У пушчах Палесся» Я. Коласа), Броня, Клава («З народам», «Мілы чалавек» К. Крапівы), Уладзіслава Францаўна («Шчасце паэта» В. Віткі), Куліна («Людзі на балоце» паводле І. Мележа), Ксенія («Разлом» Б. Лаўранёва), Аксана («Гібель эскадры» А. Карнейчука), Ларыса, Глафіра, Лябёдкіна, Глумава («Беспасажніца», «Ваўкі і авечкі», «Позняе каханне», «На ўсякага мудраца хапае прастаты» А. Астроўскага), Люба («Апошнія» М. Горкага), Надзея, Забеліна («Чалавек з ружжом», «Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна), Аня («Сям'я» І. Папова), Касагорава («Уцёкі з ночы» братоў Тур), Сюзана («Жаніцьба Фігара» П. Бамаршэ) і інш. Памерла Р. М. Кашэльнікава 29.11.1980 г.

*Літ.:* Дабралюбаў І. Яркі талент.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960. *М. М. Казлоўская.*

**583. МАГІЛА КІСТАВА** Аляксандра Фёдаравіча (гіст.).

Рускі савецкі акцёр, народны артыст БССР (1953 г.) А. Ф. Кістаў нарадзіўся 25.8.1903 г. у г. Валгаградзе ў сям'і грузчыка. Член КПСС з 1931 г. Скончыў Ленінградскі тэатральны тэхнікум (1928 г.). Працаваў у тэатрах Ленінграда, Куйбышава, Масквы. З 1944 г. у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры БССР. Акцёр яркай творчай індывідуальнасці, валодаў моцным трагедыйным тэмпераментам, высокай акцёрскай тэхнікай. Яго работы вызначаліся глыбокім псіхалагізмам, грамадзянскім пафасам. Сярод роляў: Атэла, сэр Тобі («Атэла», «Дванаццатая ноч» У. Шэкспіра), Іван Шуйскі («Цар Фёдар Іаанавіч» А. К. Талстога), Радазубаў, Цэцераў («Варвары», «Мяшчане» М. Горкага), Прыбыткаў («Апошняя ахвяра» А. Астроўскага), Ванюшын («Дзеці Ванюшына» С. Найдзёнава), Барэйка («Порт-Артур» паводле А. Сцяпанава), Важак («Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага), Варапаеў («Шчасце» паводле П. Паўленкі), палкоўнік Ермашоў («Брэсцкая крэпасць» К. Губарэвіча) і інш. Вышэйшым творчым дасягненнем А. Ф. Кістава з'явіўся створаны ім вобраз караля Ліра ў аднайменнай трагедыі У. Шэкспіра. Здымаўся ў кіно. Памёр А. Ф. Кістаў 14.5.1960 г.

У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная выява акцёра.

*Літ.:* Няфёд У. Аляксандр Фёдаравіч Кістаў.— У кн.: Мастацтва Савецкай Беларусі. Мн., 1955; Майстры беларускай сцэны.— Мн., 1960; Бурьян Б., Лисневский И. На высоком взлете.— Мн., 1962. *Р. Б. Смольскі.*

**584. МАГІЛА КІСЯЛЁВА** Кузьмы Венядзіктавіча (гіст.).

Дзяржаўны дзеяч БССР, кандыдат медыцынскіх навук (1936 г.) К. В. Кісялёў нарадзіўся 19.10.1903 г. у в. Лабковічы Крычаўскага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1925 г. У 1928 г. скончыў медыцынскі факультэт Варонежскага універсітэта. У 1928—37 гг. ардынатар клінікі універсітэта, намеснік загадчыка акрутовага аддзела аховы здароўя ў Варонежы, навуковы супрацоўнік Усесаюзнага інстытута эксперыментальнай медыцыны. З 1937 г. нарком аховы здароўя БССР. У 1938—40 гг. старшыня СНК БССР. З 1940 г. намеснік дырэктара інстытута эксперыментальнай медыцыны, дырэктар Дзяржаўнага медыцынскага выдавецтва ў Маскве, старшыня Ульянаўскага аблвыканкома. З снежня 1943 г. першы намеснік, з сакавіка 1944 г. да 1958 г. намеснік старшыні СНК БССР (з 1946 г. Савета Міністраў БССР) і міністр замежных спраў БССР. Як кіраўнік дэлегацыі БССР падпісаў у 1945 г. у Сан-Францыска Статут ААН. З 1966 г. саветнік Савета Міністраў БССР. Член ЦК КПБ у 1938—66 гг., член Бюро ЦК КП(б)Б у 1938—40 гг., 1947—49 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1937—58 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1938—67 гг. Аўтар успамінаў. Памёр К. В. Кісялёў 4.5.1977 г. Яго імя прысвоена Лабковіцкай сярэдняй школе.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла. *М. В. Кірэйшын.*

**585. МАГІЛА КІСЯЛЁВА** Рыгора Якаўлевіча (гіст., маст.).

Дзяржаўны дзеяч БССР, заслужаны дзеяч культуры БССР (1963 г.), кандыдат гістарычных навук (1951 г.) Р. Я. Кісялёў нарадзіўся 5.5.1913 г. у в. Мікалаеўка Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. Скончыў Гомельскі педінстытут (1947 г.) і Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б) (1951 г.). У 1932—36 гг., 1938—39 гг. настаўнік, дырэктар школ у Буда-Кашалёўскім і Касцюковіцкім р-нах. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля ранення з 1942 г. загадчык арганізацыйна-інструктар-



586. *Помнік на магіле Ц. Я. Кісялёва.*

скага аддзела, сакратар Петухоўскага РК ВКП(б) Курганскай вобл. З 1945 г. другі сакратар Гомельскага РК КП(б)Б, намеснік загадчыка аддзела кадраў Гомельскага абкома партыі. З 1947 г. загадчык аддзела, намеснік начальніка ўпраўлення кадраў ЦК КП(б)Б. З 1951 г. загадчык аддзела навукі і ВНУ ЦК КП(б)Б. З 1953 г. міністр культуры, з 1964 г. міністр асветы БССР, у 1968—70 гг. намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР. Член ЦК КПБ у 1952—70 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—70 гг. Памёр Р. Я. Кісялёў 10.4.1970 г. Яго імя прысвоена Мікалаеўскай сярэдняй школе ў Буда-Кашалёўскім р-не, яго імем названа вуліца ў Гомелі.

У 1974 г. на магіле ўстаноўлены помнік (скульпт. С. Селіханаў, архіт. Л. Левін; граніт, бронза) — на пастаменце размешчана дэталёва прапрацаваная скульптурная кампазіцыя, падкрэсленая выступаючым архітэктурным аб'ёмам, што адцяняе пластычна выкананую выяву вобраза, надае завершанасць помніку. *В. М. Удальцоў.*

**586. МАГІЛА КІСЯЛЁВА** Ціхана Якаўлевіча (гіст., маст.).

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, Герой Сацыялістычнай Працы (1977 г.) Ц. Я. Кісялёў нарадзіўся 30.7.1917 г. у в. Агароднія-Кузьмініцкая Добрушскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. Скончыў Гомельскі педінстытут (1941 г.), Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б) (1946 г.). З 1936 г. на педагагічнай рабоце ў школах Ельскага р-на. У 1941—44 гг. выкладчык, дырэктар школы ў Сталінградскай вобл. З 1944 г. інструктар Гомельскага абкома, з 1946 г. кіраўнік лектарскай групы Брэсцкага абкома КП(б)Б. З 1948 г. у апараце ЦК КП(б)Б: загадчык аддзела школ упраўлення прапаганды і агітацыі, намеснік загадчыка, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі. З 1952 г. першы сакратар Брэсцкага абкома КПБ. З ліпеня 1955 г. сакратар, з ліпеня 1956 г. другі сакратар ЦК КПБ. У 1959—78 гг. Старшыня Савета Міністраў БССР. У 1978—80 гг. намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР. З кастрычніка 1980 г. першы сакратар ЦК КПБ, кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС. У 1967 г. узначальваў дэлегацыю БССР на V Надзвычайнай спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Член ЦК КПСС з 1961 г. Член ЦК КПБ з 1952 г., член Бюро ЦК КПБ у 1955—78 гг. і з 1980 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР з 1954 г., намеснік Старшыні Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР у 1958—62 гг. Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР з 1981 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1951 г., член Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР з 1981 г. Памёр Ц. Я. Кісялёў 11.1.1983 г. Яго імя прысвоена Мінскаму вытворчаму тонкасуконнаму аб'яднанню, Рамязоўскай сярэдняй школе Ельскага р-на, саўгасу ў Брэсцкім р-не. Яго імем названы марское судна, вуліца ў Мінску, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1984 г. на магіле ўстаноўлены помнік (скульпт. С. Вакар, архіт. Ю. Казакоў; граніт, бронза) — на пастаменце з выявай накладной зоркі Героя Сацыялістычнай Працы размешчана скульптурная кампазіцыя. Пластычнае вырашэнне, псіхалагічная напоўненасць вобраза партыйнага і дзяржаўнага дзеяча арганічна спалучаюцца з дэкаратыўнымі дэталямі вакол помніка, ствараюць адзіны ансамбль.

**587. МАГІЛА КОЖАРА** Ільі Паўлавіча (гіст.).

Савецкі партыйны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза (1944 г.), генерал-маёр (1943 г.) І. П. Кожар нарадзіўся 21.7.1902 г. у в. Малое Гальцэва Талачынскага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. Скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б) (1949 г.). З 1924 г. на савецкай і партыйнай рабоце. З 1940 г. адказны рэдактар газеты «Гомельская праўда», сакратар Гомельскага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну са жніўня 1941 г. да лістапада 1943 г. сакратар Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б, адначасова з лістапада 1942 г. камандзір Гомельскага партызанскага злучэння. З 1943 г. сакратар Гомельскага абкома КП(б)Б, з 1945 г. узначальваў лектарскую групу ЦК КП(б)Б, у 1947—63 гг. дырэктар Рэспубліканскай партыйнай школы пры ЦК КПБ (з 1956 г. Мінская Вышэйшая партыйная школа). Член ЦК КПБ у 1952—61 гг. З 1961 г. член, у 1963—67 гг. старшыня Рэвізійнай камісіі КПБ. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—63 гг., 1967 г. Памёр І. П. Кожар 13.10.1967 г. Яго імем названа вуліца ў Гомелі, яго імя прысвоена Коханаўскай сярэдняй школе Талачынскага р-на. На будынку Мінскай Вышэйшай партыйнай школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам. *Г. І. Дулеба.*

**588. МАГІЛА КОРШ-САБЛІНА** Уладзіміра Уладзіміравіча (гіст.).

Беларускі савецкі кінарэжысёр, народны артыст СССР (1969 г.), народны артыст БССР (1955 г.), адзін з заснавальнікаў беларускай мастацкай кінематаграфіі У. У. Корш-Саблін (сапраўднае С а б л і н) нарадзіўся 16.3.1900 г. у Маскве ў сям'і кнігавыдаўца. Член КПСС з 1948 г. Скончыў рэальнае вучылішча ў 1916 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. Творчую дзейнасць пачаў у 1923 г., працаваў у розных тэатрах, здымаўся ў кіно, быў памочнікам, асістэнтам рэ-




587. *Помнік на магіле І. П. Кожара.*

жысёра Ю. Тарыча, з 1926 г. у беларускім кіно. У Вялікую Айчынную вайну ўзначальваў рабочы атрад па ахове народнагаспадарчых аб'ектаў у Ленінградзе (1941 г.), працаваў у Алма-Аце і Маскве над стварэннем публіцыстычнага кіназборніка пра барацьбу беларускага народа супраць гітлераўскіх акупантаў (1941—43 гг.), быў кіраўніком франтавой кінагрупы (1944 г.), рэжысёр фільма «Беларускі кінаканцэрт» («Жыві, родная Беларусь!»), дакументальнай кінастужкі «Вызваленне Савецкай Беларусі» (1944 г., абодва з М. Садковічам). Пасля вайны вярнуўся ў Мінск, быў мастацкім кіраўніком кінастудыі «Беларусьфільм». Дэбютаваў як рэжысёр-пастаноўшчык фільма «У агні народжаная» (1930 г.). Асноўнае месца ў творчасці займалі барацьба беларускага народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, героіка Грамадзянскай вайны: «Першы ўзвод» (1933 г.), «Вогненныя гады» (1939 г., з С. Наўроцкім), «Чырвонае лісце» (1958 г.), «Першыя выпрабаванні» (1—2-я серыі, 1960—61 гг.), «Масква-Генуя» (разам з А. Спешневым і П. Армандам, 1964 г.; Дзяржаўная прэмія БССР 1967 г.), «Запомнім гэты дзень» (1967 г.), «Крушэнне імперыі» (1970 г.) і інш. Вялікім дасягненнем рэжысёра стаў фільм «Канстанцін Заслонаў» (з А. Файнцымерам, 1949 г.; Дзяржаўная прэмія СССР 1950 г.). Вядомы яго работы і ў жанры кінакамедыі: «Шукальнікі шчасця» (1936 г.), «Маё каханне» (1940 г.); экранізаваў п'есы К. Крапівы «Пяюць жаваранкі» (1953 г., з К. Саннікавым), «Хто смяецца апошнім» (1955 г.). Сучаснасці прысвечаны фільмы «Сонечны паход» (1931 г.), «Шчаслівая краіна» (1931 г.), «Дачка Радзімы» (1937 г.), «Новы дом» (1947 г.), «Пасеялі дзяўчаты лён» (1956 г.) і інш. З 1957 г. старшыня Аргбюро, з 1962 г. 1-ы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР. Памёр У. У. Корш-Саблін 6.7.1974 г. У Мінску яго імем названа вуліца, на доме, дзе ён жыў, і на будынку кінастудыі «Беларусьфільм» устаноўлены мемарыяльныя дошкі.

У 1976 г. на магіле пастаўлены 2 стэлы, на адной з іх барэльеф.

*Літ.:* Бондарева Е. Л. Владимир Владимирович Корш-Саблин.— Мн., 1960; е е ж. Путь длиною в полвека.— У кн.: Кино Советской Белоруссии. М., 1975; е е ж. Кинолента длиною в жизнь.— Мн., 1980; История белорусского кино. [Ч. 1—2].— Мн., 1969—70; Стамболцян М. Владимир Корш-Саблин.— У кн.: 20 режиссёрских биографий. М., 1971.
*А. В. Красінскі.*




588. *Помнік на магіле У. У. Корш-Сабліна.*

**589. МАГІЛА КРАСІНА** Андрэя Капітонавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне атамнай энергетыкі, акадэмік АН БССР (1960 г.), доктар фізіка-матэматычных навук (1955 г.), прафесар (1957 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1968 г.) А. К. Красін нарадзіўся 8.5.1911 г. у г. Томск у сям'і служачых. Член КПСС з 1944 г. У 1934 г. скончыў Томскі універсітэт імя В. У. Куйбышава, да 1940 г. працаваў у Сібірскім фізіка-тэхнічным інстытуце і адначасова выкладаў ва універсітэце. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1945 г. працаваў у лабараторыі І. В. Курчатава, з 1946 г. у Обнінскім фізіка-энергетычным інстытуце. З 1961 г. кіраўнік аддзялення атамнай энергетыкі Інстытута энергетыкі АН БССР, у 1965—77 г. дырэктар інстытута, адначасова ў 1962—69 гг. акадэмік-сакратар Аддзялення фізіка-тэхнічных навук АН БССР. З 1969 г. член Прэзідыума АН БССР, з 1977 г. загадчык лабараторыі вадароднай энергетыкі Інстытута цепла- і масаабмену АН БССР. Даследаванні прысвечаны распрацоўцы і будаўніцтву атамных электрастанцый. Удзельнік стварэння першай у свеце АЭС (Ленінская прэмія 1957 г.), Белаярскай і перасоўнай атамных электрастанцый. Кіраўнік распрацоўкі і стварэння берыліевага рэактара, даследаванняў дысацыіруючых газаў як цепланосьбітаў атамных электрастанцый. Вёў даследаванні па вадароднай энергетыцы і элементарных ядзерных узаемадзеяннях. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1971—75 гг. Памёр А. К. Красін 28.3.1981 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Т. Р. Чуракова.*

**590. МАГІЛА КРАЎЧАНКІ** Івана Сяргеевіча (гіст).

Беларускі савецкі гісторык, акадэмік АН БССР (1969 г., член-карэспандэнт з 1959 г.), доктар гістарычных навук, прафесар (1959 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1977 г.) І. С. Краўчанка нарадзіўся 12.9.1902 г. у с. Дзмітраўка Бутурлінаўскага р-на Варонежскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1920 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1930 г. скончыў Паўночна-Каўказскі камуністычны універсітэт, у 1933 г.— Інстытут чырвонай прафесуры ў Маскве, у 1946 г.— Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б). У 1933 г. намеснік начальніка палітаддзела Буйвалінскай МТС Паўночна-Каўказскага краю, з 1934 г. начальнік палітаддзела Глускай МТС, першы сакратар Глускага райкома партыі. З 1938 г. выкладчык, намеснік дэкана, дэкан Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. З студзеня 1940 г. дырэктар Беластоцкага педінстытута, з чэрвеня 1941 г. сакратар Беластоцкага абкома КП(б)Б. З верасня 1942 г. працаваў у Беларускім штабе партызанскага руху. У 1943—46 гг. намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б. У 1948—53 гг. намеснік дырэктара, у 1953—64 гг. дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР, у 1964—74 гг. загадчык сектара, з 1974 г. старшы навуковы супрацоўнік-кансультант гэтага інстытута.

Навуковыя працы І. С. Краўчанкі прысвечаны гісторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Член рэдкалегіі і сааўтар «Гісторыі Беларускай ССР» у 2 тамах (1954—58 гг.; 2-е выд., 1961 г.), член галоўнай рэдакцыі «Гісторыі Беларускай ССР» у 5 тамах (1972—75 гг.), галоўны рэдактар і сааўтар 4 тома гэтага выдання, член рэдкалегіі «Гісторыі СССР» у 12 тамах і сааўтар яе 10-га тома (1973 г.). Асноўныя працы: «Падпольны бальшавіцкі друк у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны» (1950 г.), «Работа Кампартыі Беларусі ў тыле ворага (1941—1944 гг.)» (1959 г.), «Партызанская вайна беларускага народа супраць фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну (1941—1944 гг.)» у кн.: «Германскі імперыялізм і другая сусветная вайна» (1963 г.) і інш. Памёр І. С. Краўчанка 12.6.1979 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; Акадэмік АН БССР І. С. Краўчанка.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1977, № 4. *М. Б. Батвіннік.*

**591. МАГІЛА КРАЎЧАНКІ** Усевалада Ігнатавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік У. І. Краўчанка нарадзіўся 1.10.1915 г. у в. Каплічы Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл. у сям'і настаўніка. Член КПСС з 1949 г. У 1933 г. скончыў Мазырскі рабфак. У 1933—37 гг. завочна вучыўся ў БДУ, працаваў у газеце «Калгаснік Мазыршчыны», з 1935 г. у газеце «Бальшавік Палесся». У Вялікую Айчынную вайну супрацоўнічаў у армейскай газеце 3-й ар-

міі «Боевое знамя», у газеце «Савецкая Беларусь», з 1945 г. адказны сакратар часопіса «Полымя», з 1950 г. адказны сакратар, у 1953—61 гг. рэдактар часопіса «Бярозка». Друкавацца пачаў у 1933 г. Першая аповесць «Таямніца аднае вышкі» апублікавана ў 1935 г. Выйшлі зборнікі апавяданняў «На крутым павароце» (1937 г.), «Калгасныя навелы» (1940 г.). У пасляваенныя гады выдадзены зборнікі аповесцей і апавяданняў: «Зямля гудзе» (1945 г.), «Станаўленне» (1947 г.), «У імя Радзімы» (1948 г.), «Жыта красуе» (1951 г.), «Вясна на Палессі» (1952 г.), «Крыгаход» (1957 г.), «Не поле перайсці» (1958 г.), «Апошняя варажба» (аднаактовыя п'есы, 1960 г.), «Зорка Венера» (1960 г.), «Злачынства ля Зялёнай тоні» (1961 г.), «Над хвалямі Прыпяці» (1964 г.), «Таямніца вугла альфа» (1973 г.) і інш. Выдаў зборнікі для дзяцей «Дзве сяброўкі» (1948 г., 2-е выд. 1959 г.), «Падарунак» (1950 г.), «Тэорыя імавернасці» (1958 г.). У. І. Краўчанка адлюстроўваў новы быт палескай вёскі, гераічную барацьбу беларускіх партызан у Вялікую Айчынную вайну, мірную стваральную працу савецкіх людзей у пасляваенны час. Яго творам уласціва рэалістычная дакладнасць, дасціпны гумар. Пераклаў на беларускую мову «Бялее парус адзінокі» В. Катаева, «Сцяганосцы» А. Ганчара (разам з І. Мележам), «Служу Радзіме» І. Кажадуба і інш. Паасобныя апавяданні пісьменніка перакладзены на рускую і ўкраінскую мовы. Памёр У. І. Краўчанка 27.8.1961 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *М. В. Кірэйшын.*

**592. МАГІЛА КУДРЭВІЧА** Уладзіміра Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1944 г.) У. М. Кудрэвіч нарадзіўся 13.11.1884 г. у г. Чавусы Магілёўскай вобл. у сям'і служачага. Скончыў 4-класнае павятовае вучылішча і 3-месячныя курсы тэлеграфістаў. З 1902 г. працаваў у Чавускай паштова-тэлеграфнай канторы, быў тэлеграфістам на чыгунцы ў г. Гомель і Лібава (цяпер г. Ліепая Латвійскай ССР), дзе вучыўся ў 1903—06 гг. у мастацкім вучылішчы. З 1915 г. у Мінску, працаваў тэлеграфістам, з 1919 г. загадчыкам клуба Заходняй чыгункі, адначасова кіраваў мастацкай студыяй, выступаў на сцэне як акцёр, быў рэжысёрам і дэкаратарам. З 1923 г. выкладаў маляванне ў школах г. Мінска, з 1928 г. цалкам прысвяціў сябе творчасці. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1909 г. Прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі 1, 2-й і 3-й Усебеларускіх мастацкіх выставак. У Вялікую Айчынную вайну арганізатар і першы старшыня (1942—44 гг.) Кемераўскага аддзялення Саюза мастакоў СССР. Працаваў пераважна ў жанры лірычнага пейзажа. Вядомы яго работы, прысвечаныя пераўтварэнню палескага краю. Сярод твораў: «Стары Мінск» (1921 г.), «Над Свіслаччу» і «На Сажы» (1927 г.), «Паром на Дзвіне» і «Паглыбленне Арэсы» (1934 г.), «Баржы на Сажы» (1937 г.), «Экскаватар на асушцы балот» (1939 г.), «Зіма на Мінскім возеры» і «БелДРЭС» (1940 г.), «Коксахім. Кемерава» (1942 г.), «Пейзаж з Уральскімі гарамі», «Ручай», «Тайга» (усе 1943 г.), «Рака Том» (1944 г.), «Па дарогах вайны» і «Заход сонца ў лесе» (1945 г.), «Пасля дажджу» і «Марозная раніца» (1947 г.), «Пачатак вясны» і «Дарога каля лесу» (1948 г.), «Перад навальніцай» (1949 г.), серыя пейзажаў «Гурзуф» (1951 г.), «Свіслач» і «Вясновы матыў» (1952 г.), «Дубы» і «Вечар на возеры Палік» (1953 г.), «Апошні прамень» (1954 г.) і інш. Памёр У. М. Кудрэвіч 4.1.1957 г.

У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Лейтман Ф., У. М. Кудрэвіч.— Мн., 1958; Бяспалы А. А. Пясняр беларускага пейзажу.— У кн.: Выяўленчае мастацтва Беларусі. Мн., 1981. *Г. М. Ярмоленка.*

**593. МАГІЛА КУЛАГІНА** Андрэя Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. М. Кулагін нарадзіўся 4.9.1921 г. у в. Старое Закружжа Веткаўскага р-на Гомельскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. У 1942 г. скончыў Армавірскую авіяцыйную школу, у 1954 г.— Ваенна-паветраную акадэмію. З 1936 г. слесар на аўтарамонтным заводзе імя С. М. Кірава ў г. Магілёве. З 1940 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1942 г. на Паўднёвым, Закаўказскім, Паўночна-Каўказскім, 2-м Беларускім франтах і ў Асобнай Прыморскай арміі. Лётчык-знішчальнік, намеснік камандзіра эскадрыллі знішчальнага авіяпалка капітан А. М. Кулагін зрабіў 762 баявыя вылеты, удзельнічаў у 142 паветраных баях, збіў 31 самалёт праціўніка асабіста і 8 самалётаў у групавых баях. Быў двойчы паранены. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.7.1944 г. Да 1956 г. служыў у Савецкай Арміі. З 1959 г. працаваў інструктарам Заводскага райкома КПБ г. Мінска, з 1961 г.— інструктарам, загадчыкам сектара аддзела адміністрацыйных органаў ЦК КПБ. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—51 гг. Памёр А. М. Кулагін 9.8.1980 г. Яго імем названы вуліцы ў Магілёве і в. Старое Закружжа.

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**594. МАГІЛА КУЛАКОЎСКАГА** Аляксея Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, заслужаны работнік культуры БССР (1974 г.) Кулакоўскі А. М. нарадзіўся 11.12.1913 г. у в. Кулакі Салігорскага р-на Мінскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1948 г. Скончыў Рагачоўскую прафтэхшколу (1931 г.), Мінскі настаўніцкі інстытут (1939 г.). У 1931—34 гг. працаваў у рэдакцыях Клімавіцкай раённай газеты «Камуна», Жлобінскай «Шлях сацыялізма», з снежня 1934 г. у рэспубліканскай газеце «Чырвоная змена», потым настаўнічаў. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1945 г. у газетах «Сталинская молодежь», «Літаратура і мастацтва», іншых рэспубліканскіх выданнях. У 1953—1958 гг. галоўны рэдактар часопіса «Маладосць». У 1965—76 гг. намеснік адказнага сакратара, адказны сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. З 1977 г. дырэктар Літаратурнага музея Я. Купалы. Друкаваўся з 1945 г. Першы зборнік апавяданняў «Сад» (1947 г.) прысвечаны людзям калгаснай вёскі. Выдадзены аповесць «Гартаванне» (1949 г.), зборнікі «Новыя сустрэчы» (1950 г.), «Хораша ўзыходзіць сонца» (1952 г.), «Незабыўнае рэха» (1956 г.), аповесць «Тры зоркі» (1963 г.). Жыццё горада з пасляваенных гадоў паказана ў аповесцях «Тут я жыву...» (1960 г.), «Расце мята пад акном» (1966 г.), зборніках «Першае чаканне» (1965 г.), «Родныя шыроты» (1978 г.), рамане «Васількі» (1979 г.). Падзеі Вялікай Айчыннай вайны, мужнасць і самаахвярнасць савецкіх людзей адлюстраваны ў рамане-дылогіі «Расстаёмся ненадоўга» (1953—54 гг.) і «Сустрэчы на ростанях» (1961—62 гг.), аповесцях «Твой шлях перад табою» (1965 г.), «Белы Сокал» (1981 г.) і інш., рамане «Сцежкі зведаныя і нязведаныя» (1972 г.). Зрабіў літаратурны запіс кнігі В. І. Казлова «Людзі асобага складу» (1951 г.), пераклаў на беларускую мову раман Р. Файзі «Яго вялікасць Чалавек». Выдадзены Збор твораў у 4 тамах (1970—71 гг.), «Выбраныя творы» ў 2 тамах (1984 г.). Памёр А. М. Кулакоўскі 9.4.1986 г.

*Літ.:* Гусак С. А. Аляксей Кулакоўскі.— Мн., 1967; Пашкевіч Н. На шырокіх шляхах жыцця.— Мн., 1965, с. 265—349; Герцовіч Я. Творчае крэда.— Мн., 1970, с. 118—150; Шамякін І. Размова з чытачом.— Мн., 1973, с. 215—223.

**595. МАГІЛА КУЛЯШОВА** Аркадзя Аляксандравіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт, народны паэт БССР (1968 г.), заслужаны работнік культуры УССР (1973 г.) А. А. Куляшоў нарадзіўся 24.1.1914 г. у в. Саматэвічы Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. у сям'і настаўніка. Член КПСС з 1941 г. Вучыўся ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме (1928—30 гг.), на літаратурным факультэце Беларускага вышэйшага педагагічнага інстытута (1931—33 гг.). Працаваў у рэдакцыі газеты «Чырво-

ная змена» (1934 г.), літаратурным рэдактарам Беларускага радыё (1934—36 гг.), літаратурным кансультантам кабінета маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў БССР (1936—37 гг.). У 1941—43 гг. у армейскай газеце «Знамя Советов», у 1944—45 гг. у Беларускім штабе партызанскага руху. У 1945—46 гг. рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва», у 1958—67 гг. начальнік сцэнарнага аддзела, галоўны рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм». Друкаваўся з 1926 г. у газеце «Чырвоная змена», часопісах «Маладняк» і «Полымя». Аўтар зборнікаў вершаў «Росквіт зямлі» (1930 г.), «Па песню, па сонца!..» і «Медзі дождж» (1932 г.), у якіх услаўляецца савецкая рэчаіснасць і сацыялістычныя пераўтварэнні ў беларускай вёсцы 20—30-х гадоў, паэм «Крыўда» (напісана ў 1931 г.), «Аманал» (1932 г.), «Гарбун» (1934 г.). У паэмах «Баранаў Васіль» (1937 г.), «Хлопцы апошняй вайны» (1940 г.), цыкле «Юнацкі свет» (1939—40 гг.) — роздум пра лёс моладзі 1930-х гадоў, тэма міру і бяспекі Радзімы. Шырокую вядомасць атрымалі напісаныя ў гады вайны паэмы і вершы «Камсамольскі білет», «Балада аб чатырох заложніках», «Ліст з палону» і інш. Паэма «Сцяг брыгады» (1943 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1946 г.) была перакладзена М. Ісакоўскім на рускую мову і выпушчана асобным выданнем у Маскве ў 1946 г. У паэмах «Новае рэчышча» (1948 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1949 г.), «Простыя людзі» («Перамога», 1949 г.), «Толькі ўперад» (1950 г.) адлюстраваў мірную стваральную працу ў імя ажыццяўлення камуністычных ідэалаў. Барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за ўз'яднанне ў адзінай сацыялістычнай дзяржаве прысвяціў гісторыка-рэвалюцыйную паэму «Грозная пушча» (1955 г.). Пяру А. Куляшова належаць таксама зборнікі «Сасна і бяроза» (1970 г.), «Хуткасць» (1976 г.), паэмы «Цунамі» (1968 г.), «Далёка да акіяна» (1970—71 гг.), «Хамуціус» (1975 г.) і інш. Выйшлі Збор твораў у 4 тамах (1966—67 гг.) і ў 5 тамах у 1974—77 гг. Па матывах паэмы «Песня аб разведчыках» («Песня аб слаўным паходзе», напісана ў 1935—51 гг.) у 1967 г. створана тэлеопера «Ранак» (муз. Г. Вагнера). Сааўтар сцэнарыяў фільмаў «Чырвонае лісце» (1958 г.) і «Першыя выпрабаванні» (па матывах трылогіі «На ростанях» Я. Коласа, у 2 серыях, 1960—1961 гг.). Выступаў з літаратурна-крытычнымі артыкуламі. Шмат працаваў над перакладамі на беларускую мову твораў А. Пушкіна (паэмы «Яўген Анегін», «Цыганы», асобныя вершы), Т. Шаўчэнкі, У. Маякоўскага, С. Ясеніна, А. Твардоўскага, М. Ісакоўскага, А. Пракоф'ева, А. Малышкі, М. Нагнібеды, М. Рыльскага і інш. Прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1968 г., Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы 1970 г. за пераклады на беларускую мову вершаў і паэм М. Лермантава, «Энеіды» І. Катлярэўскага, «Спеву аб Гаяваце» Г. Лангфела. Творы А. Куляшова перакладзены на многія мовы народаў СССР і за мяжой. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—78 гг. Памёр А. А. Куляшоў 4.2.1978 г. Яго імя прысвоена Магілёўскаму педагагічнаму інстытуту, школам у Мінску і Саматэвічах, імем паэта названа вуліца ў Мінску, на доме, дзе ён жыў, мемарыяльная дошка. У 1984 г. у Саматэвічах адкрыты літаратурны музей паэта. У 1979 г. устаноўлена Літаратурная прэмія імя А. Куляшова Саюза пісьменнікаў БССР.



595. *Помнік на магіле А. А. Куляшова.*

На магіле пастаўлены помнік — стэла з гарэльефам пісьменніка на гранітным пастаменце.

*Літ.:* Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1966; Грынчык М. Аркадзь Куляшоў.— Мн., 1964; Вярозкін Р. Аркадзь Куляшоў.— Мн., 1978; Бечык В. Шлях да акіяна.— Мн., 1981; Кенька М. П. Майстэрства Аркадзя Куляшова — перакладчыка.— Мн., 1983.

*Н. І. Пятровіч.*

**596. МАГІЛА КУПРЭВІЧА** Васіля Феафілавіча (гіст., маст.).

Беларускі савецкі батанік, дзяржаўны дзеяч БССР, член-карэспандэнт АН СССР (1953 г.), акадэмік АН БССР (1952 г.), доктар біялагічных навук (1942 г.), прафесар (1950 г.), Герой Сацыялістычнай Працы (1969 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1967 г.) В. Ф. Купрэвіч нарадзіўся 12.1.1897 г. у в. Кальнікі Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. У 1913 г. скончыў Смаленскае сельскагаспадарчае вучылішча, у 1931 г. Інстытут павышэння кваліфікацыі кадраў народнай асветы. У 1913—17 гг. служыў у ваенна-марскім флоце. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, штурму Зімняга палаца, барацьбы за ўстанаўленне Савецкай



596. *Помнік на магіле В. Ф. Купрэвіча.*

улады ў Петраградзе. Пасля дэмабілізацыі настаўнічаў. У 1934—38 гг. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута біялагічных навук АН БССР, потым загадчык лабараторыі, дырэктар Батанічнага інстытута АН СССР, вёў педагагічную работу. З 1952 г. прэзідэнт АН БССР. Адначасова з 1953 г. загадчык аддзела Інстытута біялогіі, з 1958 г.— Аддзела фізіялогіі і сістэматызацыі ніжэйшых раслін АН БССР. Быў галоўным рэдактарам «Ботанического журнала» (1959—66 гг.), часопісаў «Микология и фитопатология» (1967—69 гг.) і «Доклады АН БССР» (1952—69 гг.).

Асноўны кірунак навуковай дзейнасці — мікалогія (сістэматыка ржаўных грыбоў, эвалюцыя паразітызму, праблема віду, узбуджальнікі хвароб сельскагаспадарчых раслін), фізіялогія хворых раслін. З'яўляецца заспавальнікам глебавай энзімалогіі. Выдадзены «Навуковыя працы» (т. 1—4, 1971—75 гг.). Шмат увагі аддаваў прапагандзе савецкай біялагічнай навукі, падрыхтоўцы навуковых кадраў. Член ЦК КПБ у 1952—69 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1954—69 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1951—55 гг. Памёр В. Ф. Купрэвіч 17.3.1969 г. Яго імя прысвоена Інстытуту эксперыментальнай батанікі АН БССР. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. З. Азгур; граніт, бронза; вышыня пастамента 2,1 м, бюста 1,5 м) — высокі пастамент з выявай накладной зоркі Героя Сацыялістычнай Працы завершаны скульптурным партрэтам. Адлюстроўвае аблічча ра-

зумнага, валявога і жыццялюбівага чалавека. Энергічная мадэліроўка аб'ёмаў у спалучэнні з падрабязнай прапрацоўкай і выразнай святлаценню рыс твару ствараюць партрэтна-дасканалы вобраз вучонага. Побач устаноўлена гранітная пліта ў выглядзе стылізаванага скрутка з мемарыяльным тэкстам.

*Літ.:* Ганчарык М. М. Рэвалюцыянер, арганізатар, вучоны: Жыццё і дзейнасць В. Ф. Купрэвіча (1897—1969 гг.).— Мн., 1981. *Г. І. Дулеба.*

**597. МАГІЛА КУШЧАВА** Аляксандра Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. М. Кушчаў нарадзіўся 23.5.1898 г. у Маскве ў сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1922 г. Скончыў Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе і Акадэмію Генеральнага штаба. У Чырвонай Арміі з 1918 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны, баёў з японскімі мілітарыстамі на р. Халхін-Гол (1939 г.). У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г., начальнік штаба 5-й ударнай арміі. Вызначыўся ў баях на тэрыторыі Германіі. Часці 5-й ударнай арміі з 14 да 31.1.1945 г. з баямі прайшлі 570 км, фарсіравалі р. Одэр, захапілі плацдарм на заходнім беразе, знішчылі больш за 20 тыс. гітлераўцаў. Пасля прарыву моцнай, глыбока эшаланіраванай абароны праціўніка на р. Одэр з 16.4 да 2.5.1945 г. вялі жорсткія баі. Уварваўшыся ў Берлін, авалодалі яго цэнтральнай часткай, знішчылі шмат баявой тэхнікі і жывой сілы, захапілі ў палон каля 30 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.5.1945 г. Да 1968 г. служыў у Савецкай Арміі, генерал-палкоўнік. Памёр А. М. Кушчаў 14.1.1975 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефным партрэтам.

*Г. І. Дулеба.*

**598. МАГІЛА ЛЕСІКА** Івана Андрэевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. А. Лесік нарадзіўся ў верасні 1918 г. у с. Дубовічы Глухаўскага р-на Сумскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі (Харкаў, 1938 г.), ваенна-палітычнае вучылішча (1940 г.), Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе (1948 г.). З 1935 г. працаваў у рэдакцыі раённай газеты «Коллективист Глуховщины». З 1938 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Калінінскім, Бранскім, Беларускім і 2-м Беларускім франтах. Камандзір разведроты, начальнік штаба, камандзір 298-га стралковага палка 186-й стралковай дывізіі І. А. Лесік вызначыўся ў баях на тэрыторыі Германіі ў красавіку 1945 г. Полк на чале з І. А. Лесікам фарсіраваў р. Одэр, падавіў агнявыя кропкі, авалодаў важным плацдармам на заходнім беразе ракі і, адбіўшы шматлікія контратакі праціўніка, замацаваўся на ім, чым садзейнічаў паспяховаму наступленню часцей Чырвонай Арміі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.6.1945 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, генерал-маёр. Памёр І. А. Лесік у 1964 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**599. МАГІЛА ЛІ** Соф'і Дзмітрыеўны (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец, заслужаны работнік культуры БССР (1975 г.) С. Дз. Лі нарадзілася 30.3. 1904 г. у в. Обаль Сенненскага р-на Віцебскай вобл. у сям'і чыгуначнага служачага. Член КПСС з 1940 г. Скончыла Віцебскае мастацкае вучылішча (1931 г.). Да 1941 г. выкладала ў фабрычна-заводскім вучылішчы. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічала ў партызанскім руху на Беларусі.

У мастацкіх выстаўках удзельнічала з 1929 г. Працавала ў асноўным над сюжэтна-тэматычнымі карцінамі, прысвечанымі жыццю партызан і мірным будням савецкіх людзей, у жанрах пейзажа і нацюрморта. Сярод твораў: тэматычныя палотны «Фабрыка КІМ» (1929 г.), «Калгасная электрастанцыя» (1935 г.), «Партызаны ў вёсцы» (1946 г.), «Партызаны ў дазоры» (1947 г.), «Лесасплаў» (1948 г.), «Вечная слава» (1963 г.), «У тыле ворага» (1967 г.), «Партызанская зямлянка» (1968 г.), «Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры» (1975 г.), «Тэрміновае данясенне» (1979 г.) і інш., пейзажы «Восень» (1949 г.), «Калгасныя агні» (1957 г.), «У пачатку верасня» (1958 г.), «Абнаўленне прыроды» (1960 г.), «Бярозкі» (1975 г.), «На Лепельшчыне» (1976 г.) і інш., нацюрморты «Дзічына» (1953 г.), «Макі» (1956 г.), «Чэрвень» (1979 г.) і інш. Памерла С. Дз. Лі 5.9.1980 г.

*Г. М. Ярмоленка.*

**600. МАГІЛА ЛІЎШЫЦА** Гілера Маркавіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, доктар гістарычных навук (1961 г.), доктар філасофскіх навук (1977 г.), прафесар (1962 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1979 г.) Г. М. Ліўшыц нарадзіўся 25.6.1909 г. у в. Дараганава Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл. у сям'і служачага. Скончыў Мінскі пединстытут у 1934 г., працаваў там выкладчыкам. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1944 г. у БДУ імя У. І. Леніна. Вывучаў сацыяльна-эканамічныя адносіны, класавую барацьбу і ідэалогію старажытнага свету і феадальнай Еўропы, пытанні навуковага атэізму і гісторыі філасофіі. Выдадзены працы: «Класавая барацьба ў Іудзеі і паўстанні супраць Рыма» (1957 г.), «Сацыяльна-палітычная барацьба ў Рыме ў 60-х гг. I ст. да н. э. і загавор Катыліны» (1960 г.), «Нарысы гістарыяграфіі Бібліі і ранняга хрысціянства» (1970 г.), «Свабодамыснасць і матэрыялістычная філасофія ў Заходняй Еўропе (другая палова XVII ст.)» (1975 г.); «Французскія асветнікі XVIII ст. аб рэлігіі і царкве» (1976 г.), «Рэфармацыйны рух у Чэхіі і Германіі» (1978 г.), «Атэізм рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў» (1979 г.), «Крытыка ідэалізму і рэлігіі ў працах Г. В. Пляханава» (1981 г.) і інш. Памёр Г. М. Ліўшыц 27.6.1983 г.

У 1986 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам. *М. Б. Батвіннік.*

**601. МАГІЛА ЛОСЬ** Еўдакіі Якаўлеўны (гіст.).

Беларуская савецкая паэтэса Е. Я. Лось нарадзілася 1.3.1929 г. у в. Старына Ушацкага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1955 г. Скончыла Глыбоцкае педвучылішча (1948 г.), Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага (1955 г.), Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1960 г.). У 1952—59 гг. рэдактар Вучэбна-педагагічнага выдавецтва БССР. Працавала ў рэдакцыях газет, адказным сакратаром часопіса «Работніца і сялянка» (1970—72 гг.), галоўным рэдактарам часопіса «Вясёлка» (1974—76 гг.). Друкавацца пачала ў 1948 г. Першы зборнік вершаў «Сакавік» выдадзены ў 1958 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Палачанка» (1962 г.), «Людзі добрыя» (1963 г.), «Хараство» (1965 г.), «Яснавокія мальвы» (1967 г.), «Перавал» (1971 г.), «Галінка з яблыкам» (1973 г.), «Лірыка ліпеня» (1977 г.), паэм «Гавораць несмяротныя» (1961 г.), «Мой свет» (1962 г.), «Мая Хатынь» (1971 г.), «Высакосны год» (1972 г.), «Слова пра вечныя зоркі» (1974 г.), «Матчына трывога» (1975), зборнікаў апавяданняў «Пацеркі» (1966 г.), «Травіца брат-сястрыца» (1970 г.). Дзецям



601. *Помнік на магіле Еўдакіі Лось.*

адрасаваны кнігі «Абутая ёлачка» (1961 г.), «Казка пра Ласку» (1963 г.), «Вяселікі» (1964 г.), «Зайчык-выхваляйчык» (1970 г.), «Дванаццаць загадак» (1974 г.). Выйшлі Выбраныя творы ў 2 тамах (1979 г.). Асноўная тэма творчасці — мірная стваральная праца людзей, гераічнае мінулае, дружба народаў. Яе паэзія прасякнута шчырасцю, непасрэднасцю. Пераклала на беларускую мову кнігу вершаў С. Баруздзіна «Краіна, дзе мы жывём». Многія вершы паэтэсы перакладзены на ўкраінскую, літоўскую, малдаўскую, англійскую, польскую, венгерскую, балгарскую і іншыя мовы. Памерла Е. Я. Лось 3.7.1977 г. Імем паэтэсы названа вуліца ў Віцебску, яе імя прысвоена Ушацкай раённай бібліятэцы.

У 1982 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. А. Заспіцкі, архіт. Ю. Казакоў). Уяўляе сабой скульптурны пагрудны партрэт паэтэсы, пастаўлены на высокі пастамент. Разварот корпуса падкрэслены жэстам левай рукі з кнігай.

*Літ.:* Бечык В. Ад сакавіка — да ліпеня...— У яго кн.: Перад высокаю красою... Мн., 1984; Гіламёдаў У. Праўда перажытага.— У яго кн.: Ля аднаго вогнішча. Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**602. МАГІЛА ЛУПІНОВІЧА** Івана Сцяпанавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне глебазнаўства і аграхіміі, акадэмік АН БССР (1947 г.), Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1957—61 гг.), доктар сельскагаспадарчых навук (1944 г.), прафесар (1953 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1951 г.) І. С. Лупіновіч нарадзіўся 23.6.1900 г. у в. Шацк Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (1918 г.), Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1925 г.). У 1926 г. выкладчык Маскоўскага гідрамеліярацыйнага інстытута. З 1934 г. загадчык кафедры агульнага земляробства Беларускага сельскагаспадарчага інстытута. У 1938—47 гг. кіраўнік групы, начальнік экспедыцыі, вучоны сакратар Савета па вывучэнню прадукцыйных сіл АН СССР. У 1947—56 гг. віцэ-прэзідэнт АН БССР (адначасова ў сакавіку 1951 г. выконваў абавязкі прэзідэнта АН БССР), з 1950 г. загадчык кафедры глебазнаўства БДУ. У 1957—61 гг. прэзідэнт Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР. З 1963 г. быў старшынёй Беларускага рэспубліканскага савета Таварыства аховы прыроды.

Вывучаў генезіс, фізіка-хімічныя і біялагічныя ўласцівасці забалочаных і тарфяна-балотных глеб, шляхі павышэння іх урадлівасці, даследаваў аграі біяхімічныя ўласцівасці глеб і глебавае жыўленне раслін. Многія працы прысвечаны праблемам асваення і комплекснага выкарыстання Палескай нізіны. Распрацаваў методыку комплекснага прыродагістарычнага раянавання тэрыторыі СССР для сельскагаспадарчага выкарыстання і склаў карту. Асноўныя працы «Тарфяна-балотныя глебы БССР і іх урадлівасць» (1952 г., 2-е выд.— 1958 г., разам з Т. Ф. Голуб), «Мікраэлементы ў глебах БССР і эфектыўнасць мікраўгнаенняў» (1970 г., у сааўтарстве) і інш. Член ЦК КПБ у 1952—61 гг., член Рэвізійнай камісіі КПБ у 1961—66 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—63 гг. Памёр І. С. Лупіновіч 9.10. 1968 г. У Мінску імя вучонага прысвоена Беларускай рэспубліканскай навуковай сельскагаспадарчай бібліятэцы, на будынку Беларускага навукова-даследчага інстытута глебазнаўства і аграхіміі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; Рагавы П. П. Юбілей віднага вучонага.— Сельская гаспадарка Беларусі. 1960, № 10. *М. Б. Батвіннік.*

**603. МАГІЛА ЛУШЧЫЦКАГА** Івана Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі філосаф, член-карэспандэнт АН БССР (1969 г.), доктар філасофскіх навук (1952 г.), прафесар (1953 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1971 г.) І. М. Лушчыцкі нарадзіўся 7.1.1907 г. у в. Агароднікі Капыльскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. Прымаў актыўны ўдзел у рабоце мясцовай камсамольскай ячэйкі. У 1924—27 гг. сакратар, старшыня Цімкавіцкага сельсавета Капыльскага р-на. У 1927—30 гг. вучыўся на факультэце савецкага будаўніцтва і права БДУ. У 1933—34 гг. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР, у 1934—40 гг. сакратар парткома АН БССР, вучоны сакратар, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР, у 1940—41 гг. дацэнт кафедры марксізма-ленінізма Беларускага Інстытута народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1946—47 гг. вучоны сакратар Прэзідыума АН БССР, у 1947—48 гг. намеснік дырэктара, дырэктар Інстытута філасофіі і права АН БССР і адначасова загадчык кафедры марксізма-ленінізма Мінскага педінстытута імя М. Горкага, потым загадчык сектара гісторыі філасофіі Інстытута філасофіі і права АН БССР, адначасова дацэнт, прафесар кафедры гісторыі філасофіі і логікі БДУ. З 1953 г. загадчык кафедры гісторыі філасофіі, логікі і навуковага атэізму БДУ, адначасова (1967—70 гг.) загадчык Праблемнай лабараторыі сацыялістычных даследаванняў БДУ. І. М. Лушчыцкаму належыць шэраг прац і артыкулаў па гісторыі філасофскай, сацыялагічнай думкі беларускага народа другой паловы 19 ст. Даследаваў прагрэсіўныя грамадскія ідэі ў вуснай творчасці таго перыяду, погляды К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, А. Гурыновіча і інш. Памёр І. М. Лушчыцкі 9.9.1973 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла з гарэльефнай выявай вучонага.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *В. М. Удальцоў.*

**604. МАГІЛА ЛЫНЬКОВА** Міхася (гіст., маст.).

Беларускі савецкі празаік, крытык, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч, народны пісьменнік БССР (1962 г.), акадэмік АН БССР (1953 г., член-карэспандэнт з 1936 г.) М. (Міхаіл Ціханавіч) Лынькоў нарадзіўся 18.11. 1899 г. у в. Зазыбы Віцебскага р-на ў сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1926 г. Ранняе дзяцінства прайшло на раз'ездзе № 230 пад Рагачовам. У 1917 г. скончыў Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю. Быў настаўнікам земскай школы ў в. Ліпінічы (Буда-Кашалёўскі р-н). Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўдзельнічаў у рабоце камітэта ўзаемадапамогі, у арганізацыі мясцовага кааператыва, у Грамадзянскую вайну — у партызанскім руху. У 1919—22 гг. у Чырвонай Арміі, удзельнік савецка-польскай вайны 1920 г., разгрому бандаў Булак-Балаховіча. Пасля дэмабілізацыі настаўнічаў, быў селькорам, у 1925—30 гг. адказны сакратар, рэдактар бабруйскай акруговай газеты «Камуніст». У Бабруйску арганізаваў філію «Маладняка» (1926 г.). З 1930 г. у Мінску. Працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР (1930—32 гг.), галоўным рэдактарам часопіса «Полымя рэвалюцыі» (1933—41 гг.); адзін з кіраўнікоў літаратурнага аб'яднання БелАПП. У 1938—48 гг. старшыня Саюза пісьменнікаў БССР. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі (1939 г.) і Вялікай Айчыннай вайны. Рэдактар газет «Беларуская звязда» (1939 г.) і «За Савецкую Беларусь» (1941—42 гг.). У 1943—46 гг. і 1949—52 гг. дырэктар Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР.

Друкавацца пачаў у 1919 г. Аўтар зборнікаў «Апавяданні» (1927 г.), «Гой» (1929 г.), «Андрэй Лятун» (1930 г.), «Саўка-агіцірнік» (1933 г.) і інш., напоўненых гуманістычным пафасам, гераікай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, паказам барацьбы за новы грамадскі лад, сацыяльную перабудову вёскі, новыя чалавечыя ўзаемаадносіны. Шмат увагі аддаваў тэме гарадскога і мястэчковага жыцця рабочага асяроддзя («Гома», «Чыгунныя песні», «Жураўель мой, жураўель» і інш.). У няскончаным рамане «На чырвоных лядах» (1934 г.) рэалістычна паказаў беларускую вёску дакастрычніцкай пары. Аповесці для дзяцей «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» (1935 г.), «Міколка-паравоз» (выдадзена ў 1936 г.) сталі класічнымі творамі бе-




604. *Помнік на магіле Міхася Лынькова.*

ларускай дзіцячай літаратуры. Тэма барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне з Савецкай Беларуссю знайшла адлюстраванне ў зборніку апавяданняў «Сустрэчы» (1940 г.). Барацьбе з фашызмам у Вялікую Айчынную вайну, гераізму і мужнасці савецкага народа прысвечаны апавяданні са зборніка «Астап» (1944 г.). У многіх апавяданнях паказана знявечанае фашысцкай акупацыяй дзяцінства («Дзіцячы башмачок», «Недапетая песня», «Пацалунак» і інш.). Манументальнасцю, эпічнай шырынёй ахопу падзей і людскіх характараў вызначаецца раман «Векапомныя дні» (у 4 кн., 1-е поўнае выданне 1958 г.; Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа 1968 г.). У ім адлюстравана партызанская вайна супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на Беларусі, створаны калектыўны вобраз народа-змагара. Уражанні пісьменніка ад замежных паездак знайшлі ўвасабленне ў кнізе замалёвак, нарысаў і апавяданняў «За акіянам» (1962 г.). М. Лынькову належыць шэраг публіцыстычных артыкулаў па праблемах моўнага развіцця, літаратуразнаўчых работ: «Летапіс эпохі» (1968 г.), «Літаратура і жыццё» (1978 г.), «Публіцыстыка» (1980 г.) і інш. У 1967—68 гг. выдадзены Збор твораў у 4, у 1981—85 гг.— у 8 тамах. Перакладаў на беларускую мову творы М. Горкага і М. Ціханава. Творы М. Лынькова перакладаліся на многія мовы народаў СССР і за мяжой, экранізаваліся, інсцэніраваліся (кінафільм «Міколка-паравоз», 1957 г., радыёспектакль паводле рамана «Векапомныя дні», 1969 г., і інш.). Кандыдат у члены ЦВК БССР у 1929—31 гг., кандыдат у члены ЦК КП(б)Б у 1937—38 гг., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1940—75 гг. Памёр М. Лынькоў 21.9. 1975 г. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Бабруйску, імя яго прысвоена Крынкаўскай сярэдняй школе ў Лёзненскім р-не, прафесійна-тэхнічнаму вучылішчу ў Гомелі, цеплавозу і цеплаходу. У Мінску на доме, дзе жыў пісьменнік, устаноўлена мемарыяльная дошка, у в. Крынкі — помнік, музеі ў Крынкаўскай і Бронніцкай (Буда-Кашалёўскі р-н) школах.

У 1979 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. А. Анікейчык, архіт. Ю. Градаў, Л. Левін; бронза, граніт) — на вертыкальным пастаменце выцягнуты па гарызанталі блок з рэльефным партрэтам пісьменніка. На паверхні пастамента бронзавая выява факсімільнага подпісу М. Лынькова, на двух гарызантальна пакладзеных перад пастаментам плітах даты нараджэння і смерці пісьменніка.

*Літ.:* Міхась Лынькоў: Бібліягр. даведнік / Склад. Н. Б. Ватацы.— Мн., 1959; Бугаёў Дз. Шчодрае сэрца пісьменніка.— Мн., 1963; Куляшоў Ф. І. Міхась Лынькоў: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн., 1979; яго ж. Міхась Лынькоў: Семінарый.— Мн., 1963; Святло яго душы.— Мн., 1979.

*В. Б. Караткевіч, Г. М. Ярмоленка.*

**605. МАГІЛА ЛЯВОНАВА** Васіля Антонавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне педыятрыі, акадэмік АН БССР (1941 г., член-карэспандэнт з 1940 г.), доктар медыцынскіх навук (1921 г.), прафесар (1924 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1939 г.) В. А. Лявонаў нарадзіўся 11.4.1889 г. у г. Варонежы ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1938 г. Скончыў Пецярбургскую ваенна-медыцынскую акадэмію (1914 г.). З 1918 г. старшы асістэнт медыцынскага факультэта Варонежскага універсітэта, з 1924 г. загадчык кафедры дзіцячых хвароб медыцынскага факультэта БДУ (з 1930 г. Мінскі медыцынскі інстытут). З 1933 г. дэкан і намеснік дырэктара Мінскага медыцынскага інстытута. У 1940—47 гг. віцэ-прэзідэнт АН БССР. З 1941 г. загадчык кафедраў дзіцячых хвароб Горкаўскага, Новасібірскага і Мінскага медыцынскіх інстытутаў, адначасова з 1959 г. загадчык сектара геранталогіі АН БССР. У 1948—56 гг. член Прэзідыума АН БССР. Вывучаў умоўныя астаткавыя рэфлексы, пранікальнасць сценак сасудаў галаўнога мозга, узбагачэнне мікраэлементамі раслінных і жывёльных прадуктаў харчавання, эпідэмічны і туберкулёзны менінгіт у дзяцей. Асноўныя працы: «Мінеральны спектр крыві ў дынаміцы лейкозаў у дзяцей» (1966 г., разам з А. К. Усціновічам), «Цынк у арганізме чалавека і жывёл» (1971 г., разам з Т. Л. Дубінай) і інш. У 1932—72 гг. старшыня Беларускага навуковага таварыства педыятраў. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1947—55 гг. Памёр В. А. Лявонаў 4.9. 1972 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* В. А. Леонов.— Здравоохранение Белоруссии, 1964, № 6; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

*Т. Р. Чуракова.*

**606. МАГІЛА МАЗАЛЕЎСКАЙ** Любові Іванаўны (гіст.).

Беларускі савецкі рэжысёр, педагог і актрыса, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1957 г.) Л. І. Мазалеўская нарадзілася 12.1.1903 г. у в. Каўшова Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл. Скончыла Беларускую драматычную студыю ў Маскве (1926 г.). Актрыса і рэжысёр тэатра імя Я. Коласа (1926—30, 1936—51 гг.), рэжысёр-пастаноўшчык тэатра імя Я. Купалы (1952—55 гг.); у 1930—36 гг. працавала на кінастудыі «Савецкая Беларусь», у 1953—59 гг.— у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Арганізатар і галоўны рэжысёр Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача (у 1955—61, 1963—64 гг.). Выканаўца характарных і камедыйных роляў: Караліна («Вайна вайне» Я. Коласа), Агата («Паўлінка» Я. Купалы), Сцепаніда («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), Любоў Яравая (аднайменная п'еса К. Транёва), Таццяна («Разлом» Б. Лаўранёва), фру Альвінг («Здані» Г. Ібсена), Дзямідаўна («Нашэсце» Л. Лявонава). Здымалася ў кіно: «Баям насустрач», «Жанчына», «Шчасце», «Залатыя агні», «Інжынер Гоф», «Адзінаццатага ліпеня», «Дзеці партызана» і інш. Паставіла шэраг спектакляў у тэатры імя Я. Коласа: «Каварства і каханне» Ф. Шылера (1946 г., з Самбуравым), «Тайная вайна» В. Міхайлава і Л. Самойлава (1947 г.), «Я хачу дамоў» С. Міхалкова і «Па той бок» А. Бар'янава (1949 г.), «Напярэдадні» паводле І. Тургенева, «Блізкае» Ю. Чапурына, «Яе сябры» В. Розава (усе 1950 г.), «Атэстат сталасці» Л. Гераскінай (1951 г.) і інш. Лепшыя яе пастаноўкі ў тэатры імя Я. Купалы: «Макар Дубрава» А. Карнейчука (1952 г.), «Даходнае месца» А. Астроўскага і «Гібель Пампеева» М. Вірты (1953 г.), «Чайка» А. Чэхава (1954 г.), «У добры час!» В. Розава (1955 г.), «Пакуль вы маладыя» І. Мележа (1957 г.). У Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача паставіла «Мінулася кату масленіца» А. Астроўскага, «Горад майстроў» Т. Габэ, «Каханне Ані Бярозкі» У. Пісталенкі (усе 1956 г.), «У пошуках радасці» В. Розава, «Не верце цішыні» І. Шамякіна (з В. Пацехіным, абодва 1958 г.), «Учора ў Касаткіне» А. Зака і І. Кузняцова (1959 г.), «Рэвізор» М. Гогаля (з Л. Біруковай, 1960 г.), «Над хвалямі Серабранкі» І. Козела (1961 г.) і інш. Шмат зрабіла для развіцця беларускага сцэнічнага мастацтва, пад-

рыхтоўкі маладой акцёрскай змены. Памерла Л. І. Мазалеўская 18.7.1964 г.

У 1967 на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт на пастаменце.

*Літ.:* Стэльмах У. Выхавальніца акцёрскай моладзі.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960; Няфёд У. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982.

*С. А. Пятровіч.*

**607. МАГІЛА МАЗАЛЁВА** Аляксандра Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец і графік, педагог А. П. Мазалёў нарадзіўся 21.2.1910 г. у г. Рудня Смаленскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1927 г. вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, у 1931—40 гг. у Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна ў Ленінградзе. Выкладаў у Віцебскім (1939—41 гг.) і Мінскім (1948—52 гг.) мастацкіх вучылішчах, Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце (1956—70 гг.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1940 г. Працаваў у гістарычным, батальным жанрах, жанрах партрэта, пейзажа. У творчасці мастака знайшлі адлюстраванне тэмы калектывізацыі, сацыялістычнага будаўніцтва, Вялікай Айчыннай вайны. Выканаў графічную серыю, прысвечаную вайне: «Салдат» (1952 г.), «У партызанскім штабе Бацькі Міная» (1953 г.), «Па слядах мінулых баёў» (1954 г.), «Атака» (1960 г.), «Акупанты» і «Разгром фашысцкага гарнізона» (1967 г.) і інш. Сярод работ: «Гродна. 1939 г.» (1940 г.), «Лагойскі тракт» (1945 г.), «Восень» (1946 г.), «Вясна» і «Старая вёска» (1947 г.), «Сенеж-возера. Вясна» (1957 г.), «На канікулах» (1966 г.), «Наташа» (1967 г.) і інш. Стварыў шматлікія лірычныя пейзажы Мінска і яго ваколіц: «Ускраіна Мінска» (1959 г.), «Мінск. Плошча Перамогі» (1960 г.) і інш. Памёр А. П. Мазалёў 1.7.1970 г.

*Літ.:* Дробаў Л. Н., А. П. Мазалёў.— Мн., 1976; Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976.

*Г. М. Ярмоленка.*



608. *Помнік на магіле А. Я. Макаёнка.*

**608. МАГІЛА МАКАЁНКА** Андрэя Ягоравіча (гіст.).

Беларускі савецкі драматург, народны пісьменнік БССР (1977 г.) А. Я. Макаёнак нарадзіўся 12.11.1920 г. у в. Борхаў Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. Пасля заканчэння ў 1938 г. Журавіцкай сярэдняй школы працаваў масавіком у раённым Доме культуры. З кастрычніка 1939 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічаў у баях на Крымскім фронце. У 1942 г. пасля цяжкага ранення дэмабілізаваны з арміі. У 1942—43 гг. выкладаў ваенную справу ў Акаурцкай сярэдняй школе ў Грузіі, у 1944—47 гг. на камсамольскай, партыйнай рабоце на Беларусі. У 1949 г. скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Б. Працаваў у часопісе «Вожык», літаратурным кансультантам у Саюзе пісьменнікаў БССР, у 1966—78 гг. галоўным рэдактарам часопіса «Неман».

Друкавацца пачаў у 1946 г., пісаў гумарэскі, фельетоны, нарысы. Аўтар аднаактовых п'ес «Перад сустрэчай», «Жыццё патрабуе» (абедзве 1950 г.), «Крымінальная справа» (1951 г.), «Першае пытанне» (1952 г.) і інш., прысвечаных людзям, якія вярнуліся пасля вайны да мірнай стваральнай працы. У 1948 г. на рэспубліканскім конкурсе адзначана шматактовая драма «Выйгрыш» (пры жыцці аўтара не друкавалася і не ставілася). У 1951 г. напісана палітычная драма «На досвітку» (пастаўлена тэатрам імя Я. Купалы ў 1952 г.) пра барацьбу французскага пралетарыята за свае жыццёвыя правы. Шырокую вядомасць аўтару прынесла сатырычная камедыя «Выбачайце, калі ласка!» (1953 г., пастаўлена больш як у 160 тэатрах краіны і за мяжой). У наступныя гады напісаны: камедыі «Каб людзі не журыліся» (пастаўлена ў 1958 г.), «Лявоніха на арбіце» (пастаўлена ў 1961 г.; Літаратурная прэмія імя Я. Купалы 1962 г.), трагікамедыя «Трыбунал» (пастаўлена ў 1970 г.), сатырычная камедыя-памфлет «Зацюканы апостал» (пастаўлена ў 1971 г.), камедыя-рэпартаж «Таблетку пад язык» (1973 г., пастаўлена ў 1979 г., разам з «Трыбуналам» Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа 1974 г.), камедыі «Кашмар» (пастаўлена ў 1976 г. пад назвай «Святая прастата»), «Верачка» (1980 г., пастаўлена ў 1979 г.; у 1981 г.— тэатрам імя Я. Купалы), трагікамедыі «Пагарэльцы» (напісана ў 1966 г., апублікавана ў 1980 г., пастаўлена ў 1981 г.), «Дыхайце эканомна» (апублікавана ў 1983 г.). Выдадзены Выбраныя творы ў 2 тамах (1980 г.). А. Я. Макаёнак выкрываў бюракратызм, прыстасаванства і ашуканства, якія замінаюць развіццю грамадства, раскрываў чалавеканенавісніцкую ідэалогію і мараль, вялікадзяржаўную, шавіністычную палітыку капіталістычных краін. Шмат месца ў творчасці драматурга займала жыццё людзей калгаснай вёскі, іх надзённыя праблемы. Пісьменнік распрацоўваў тэму Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў як кінадраматург. Па яго сцэнарыях зняты фільмы «Шчасце трэба берагчы» (1958 г.), «Кандрат Крапіва» (1961 г.), «Рагаты бастыён» (1975 г.), тэлефільм «Пасля кірмашу» (1973 г.). Творы А. Я. Макаёнка перакладзены на многія мовы народаў СССР і за мяжой. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1971—82 гг. Памёр А. Я. Макаёнак 16.11.1982 г. Яго імя прысвоена Гродзенскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы, Журавіцкай сярэдняй школе ў Рагачоўскім р-не, яго імем названа вуліца ў Мінску, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка. У в. Журавічы Рагачоўскага р-на ў 1986 г. адкрыты літаратурны музей пісьменніка.

У 1986 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. А. Шатэрнік, архіт. Ю. Казакоў). Уяўляе сабой скульптурную кампазіцыю, пастаўленую на нізкі аб'ём. Пластычнае вырашэнне фігуры пісьменніка ўзмацняе яго вобразную характарыстыку.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1966; Сабалеўскі А. Ад п'есы — да спектакля.— Мн.,




610. *Помнік на магіле П. С. Малчанава.*

1965; Сохар Ю. М. На пульсе жыцця: Андрэй Макаёнак і беларускі тэатр.— Мн., 1979; Вишневская И. Комедия на орбите.— М., 1979; Усікаў Я. К. Андрэй Макаёнак.— Мн., 1984.

**609. МАГІЛА МАКАРАВА** Валянціна Мікалаевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза В. М. Макараў нарадзіўся 30.8.1919 г. у г. Севастопаль у рабочай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У 1939 г. скончыў Качынскую ваенную авіяцыйную школу пілотаў, у 1956 г. Ваенную акадэмію Генштаба. З 1937 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Заходнім, Сталінградскім, Данскім, Цэнтральным і 1-м Беларускім франтах. Прымаў удзел у вызваленні Беларусі, Польшчы, у баях на тэрыторыі Германіі. Камандзір знішчальнага авіяпалка В. М. Макараў зрабіў больш за 600 баявых вылетаў, удзельнічаў у 150 паветраных баях. Збіў 30 варожых самалётаў асабіста і 9 у групавых баях. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 28.1.1943 г. Да 1976 г. служыў у Савецкай Арміі, генерал-маёр (1954 г.) авіяцыі. Памёр В. М. Макараў 20.5.1978 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**610. МАГІЛА МАЛЧАНАВА** Паўла Сцяпанавіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр, народны артыст СССР (1948 г.), народны артыст БССР (1940 г.) П. С. Малчанаў нарадзіўся 1.3.1902 г. у в. Івольск Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. У 1920 г. скончыў Гомельскую настаўніцкую семінарыю, настаўнічаў па Украіне, потым на радзіме. У 1922—26 гг. вучыўся ў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве. Працаваў у беларускіх тэатрах імя Я. Коласа (1926—30, 1936—51 гг.; у 1944 г. узначальваў франтавую тэатральную брыгаду), Беларускім тэатры рабочай моладзі (1935—36 гг.) і імя Я. Купалы (з 1952 г.). П. С. Малчанаў — акцёр шырокага творчага дыяпазону. З вялікім тэмпераментам іграў ролі ў трагедыйным рэпертуары, дзе раскрываў глыбіню перажыванняў герояў, іх унутраныя супярэчнасці, перажыванні: Гамлет («Гамлет» У. Шэкспіра), Освальд («Здані» Г. Ібсена), Фёдар («Нашэсце» Л. Лявонава), Федзя Пратасаў («Жывы труп» Л. Талстога). Дасканалае майстэрства праўвасаблення выявілася ў створаных ім вобразах Косці-капітана («Арыстакраты» М. Пагодзіна), Яравога («Любоў Яравая» К. Транёва), Паўла Грэкава (аднайменная п'еса Б. Войцехава і Л. Ленча), Караневіча («Проба агнём» К. Крапівы), Сафонава («Рускія людзі» К. Сіманава), Ранка («Нора» Г. Ібсена), Сорына («Чайка» А. Чэхава), Доктара («Забыты ўсімі» Назыма Хікмета). Вялікая жыццёвая праўда, псіхалагічная глыбіня ўласцівы створаным акцёрам яркім народным характарам: Кутас («Прымакі» Я. Купалы), Шышла, Дарвідошка («Вайна вайне», «У пушчах Палесся» Я. Коласа), Калібераў, Глуздакоў («Выбачайце, калі ласка!», «Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка), Пярчыхін, Лука («Мяшчане», «На дне» М. Горкага). Першы на беларускай сцэне ўвасобіў вобраз У. І. Леніна («Чалавек з ружжом» М. Пагодзіна, 1938 г.). У спектаклях «Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна, «Незабыўны 1919-ы» У. Вішнеўскага, «Навальнічны год» А. Каплера, «Вечная крыніца» Дз. Зорына па-мастацку дасканала раскрываў рысы геніяльнага філосафа, мысліцеля, правадыра, трыбуна рэвалюцыі.

Апошняя роля акцёра ў тэатры — Віктор Чэрмлені («Гульня з кошкай» І. Эркеня, 1976 г.). Зняўся ў фільмах «Баям насустрач», «Жанчына», «Масква — Генуя» (1964 г.) і іншых (у 1930—35 гг. працаваў на кінастудыі «Савецкая Беларусь»). Выступаў як рэжысёр кіно (фільм «Палескія рабінзоны», 1934 г., разам з І. Бахарам) і тэатра. Сярод тэатральных пастановак: «Арыстакраты» М. Пагодзіна (1935 г., разам з Г. Ферманам) у БелТРАМе: «Вечар беларускіх вадэвіляў» («Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча, «Паўлінка» і «Прымакі» Я. Купалы, 1936 г.), «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка (1939 г.), «Хлопец з нашага горада» (1941 г.) і «Рускае пытанне» К. Сіманава (1947 г.) у тэатры імя Я. Коласа; «Адкуль грэх?» А. Петрашкевіча (1969 г.) у тэатры імя Я. Купалы; «Хлапчыш-Кібальчыш» паводле А. Гайдара (1963 г.), «Дама-невідзімка» П. Кальдэрона (1964 г.) у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Дзяржаўная прэмія СССР 1946 г. Аўтар кнігі «Тэатр — жыццё маё: Успаміны» (1984 г.). Створаны хранікальна-дакументальны фільм «Дзесяць мінут з Паўлам Малчанавым» (1969 г.). Памёр П. С. Малчанаў 24.2.1977 г. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1982 г. на магіле пастаўлены стэла і скульптурны партрэт.

*Літ.:* Няфёд У. Народны артыст СССР Павел Сцяпанавіч Малчанаў.— Мн., 1958; яго ж. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982; Майстры беларускай сцэны.— Мн., 1960. *Т. Я. Гаробчанка.*

**611. МАГІЛА МАЛЬКОВАЙ** Веры Міхайлаўны (гіст., маст.).

Беларуская савецкая спявачка, народная артыстка БССР (1949 г.) В. М. Малькова нарадзілася 5.3.1903 г. у г. Тэлаві Грузінскай ССР у сям'і рабочага. Член КПСС з 1927 г. У 1933 г. скончыла Тбіліскую кансерваторыю. На сцэне Грузінскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета дэбютавала партыяй Маргарыты ў оперы «Фауст» Ш. Гуно. Выканала партыі Мікаэлы («Кармэн» Ж. Бізэ), Нэды («Паяцы» Р. Леанкавала), Дэздэмоны («Атэла» Дж. Вердзі). На першай дэкадзе грузінскага мастацтва ў Маскве (1937 г.) артыстка выступіла з галоўнымі жаночымі партыямі ў грузінскіх нацыянальных операх — «Паданні аб Шата Руставелі», «Каварная Дарыджан», «Даісі». Яны прынеслі В. М. Мальковай вядомасць і прызнанне ў шырокіх колах музычнай грамадскасці. У 1937—53 гг. салістка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. У Вялікую Айчынную вайну ў Ленінградскім тэатры оперы і балета імя С. М. Кірава (1941—42 гг.), удзельніца франтавых канцэртных брыгад. У 1953—59 гг. мастацкі кіраўнік Белдзяржэстрады. Стварыла запамінальныя вобразы: Надзейка («Кветка шчасця» А. Туранкова), Марфачка («Алеся» Я. Цікоцкага), Вольга («Кастусь Каліноўскі» Дз. Лукаса), Марфа («Царская нявеста» М. Рымскага-Корсакава), Наталля («Ціхі Дон» І. Дзяржынскага), Таццяна («Яўген Анегін» П. Чайкоўскага), Мажэнка («Прададзеная нявеста» Б. Сметаны), Аксана («Запарожац за Дунаем» С. Гулак-Арцямоўскага), Мікаэла («Кармэн» Ж. Бізэ), Чыо-Чыо-сан (аднайменная опера Дж. Пучыні), Нэда («Паяцы» Р. Леанкавала) і інш. Памерла В. М. Малькова 19.5.1964 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. С. Селіханаў; мармур; вышыня 1,9 м) — стэла з паліраванымі плоскасцямі. У верхняй яе частцы, у нішы няправільнай канфігурацыі, размешчаны скульптурны партрэт актрысы. Пластычнае вырашэнне вызначаецца дасканаласцю і выразнасцю мадэліроўкі, вытанчанасцю ліній і сілуэта. Вобраз спявачкі пераканальны і паэтычны.



611. *Помнік на магіле В. М. Мальковай.*

*Літ.:* Жураўлёў Дз. Вера Малькова.— У кн.: Слова пра майстроў сцэны. Мн., 1967.
*В. М. Удальцоў, Г. М. Ярмоленка.*

**612. МАГІЛА МАРКАВА** Данілы Аляксандравіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне неўрапаталогіі, фізіятэрапіі і курарталогіі, акадэмік АН БССР (1940 г., член-карэспандэнт з 1936 г.), доктар медыцынскіх навук (1936 г.), прафесар (1931 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1964 г.) Д. А. Маркаў нарадзіўся 1.1.1895 г. у с. Раскатава Тамбоўскага р-на ў сялянскай сям'і. Скончыў Саратаўскі універсітэт (1919 г.). З 1926 г. у клініцы нервовых хвароб БДУ, з 1931 г. загадчык кафедры фізіятэрапіі, у 1935—41 гг.— нервовых хвароб Мінскага медыцынскага інстытута. У 1929—41 гг. і ў 1946—48 гг. дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута фізіятэрапіі і неўралогіі. У 1947—73 гг. загадчык кафедры нервовых хвароб Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў, у 1950—76 гг. загадчык лабараторыі паталагічнай фізіялогіі нервовай сістэмы Інстытута фізіялогіі АН БССР. Даследаванні па пытаннях ранняй функцыянальнай дыягностыкі, тонкай семіётыкі і патагенетычнай тэрапіі нервовых захворванняў. Апублікаваны працы: «Асновы патагенетычнай тэрапіі захворванняў нервовай сістэмы» (1964 г.), «Агульная тэрапія і прафілактыка захворванняў нервовай сістэмы» (1967 г.), «Асновы аднаўленчай тэрапіі (медыцынскай рэадаптацыі і рэабілітацыі) захворванняў нервовай сістэмы» (1973 г.) і інш. Дзяржаўная прэмія БССР 1974 г. Быў старшынёй Навуковага таварыства фізіятэрапеўтаў (з 1948 г.) і неўрапатолагаў (з 1964 г.). Памёр Д. А. Маркаў 23.12.1976 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *М. В. Кірэйшын.*

**613. МАГІЛА МАРКІНА** Сяргея Сцяпанавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. С. Маркін нарадзіўся 18.7.1918 г. у с. Белы Калодзезь Арсеньеўскага р-на Тульскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1940 г. скончыў Балашоўскую ваенна-авіяцыйную школу. У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Намеснік камандзіра эскадрыллі авіяцыі далёкага дзеяння капітан С. С. Маркін зрабіў 360 баявых вылетаў; на ваенна-прамысловыя аб'екты, скопішчы жывой сілы і тэхнікі праціўніка скінуў 342 т бомб. На акупіраванай нямецка-фашысцкімі акупантамі тэрыторыі і прыфрантавой паласе раскідаў 895 тыс. экземпляраў лістовак. Наносіў бомбавыя ўдары па прамысловых і ваенных аб'ектах у глыбокім тыле ворага. У час Беларускай аперацыі 1944 г. граміў ворага ў раёнах Оршы, Бабруйска. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 5.11.1944 г. Да 1956 г. служыў у Савецкай Арміі, падпалкоўнік запасу. Жыў і працаваў у Мінску. Памёр С. С. Маркін 13.5. 1977 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**614. МАГІЛА МАСКАЛЕНКІ** Якава Раманавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Я. Р. Маскаленка нарадзіўся 2.3.1922 г. у в. Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1950 г. Скончыў Мазырскае педвучылішча (1940 г.). Працаваў настаўнікам у Дудзіцкай сярэдняй школе Калінкавіцкага р-на. У Чырвонай Арміі з кастрычніка 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. У 1942—43 гг. партызан 2-й Калінкавіцкай партызанскай брыгады. З чэрвеня 1944 г. на фронце. Радавы 1323-га стралковага палка 415-й стралковай дывізіі 61-й арміі Я. Р. Маскаленка вызначыўся ў баях пры вызваленні Пінска. З групай воінаў-дэсантнікаў высадзіўся ў цэнтры горада на беразе Піны і на працягу 2 дзён трымаў абарону да падыходу часцей Чырвонай Арміі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. З снежня 1945 г. працаваў настаўнікам на радзіме. З ліпеня 1947 г. на прафсаюзнай і гаспадарчай рабоце ў Мінску. Памёр Я. Р. Маскаленка 18.3.1966 г.

У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**615. МАГІЛА МАСЛАВА** Пятра Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі хірург, доктар медыцынскіх навук (1947 г.), прафесар (1949 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1964 г.) П. М. Маслаў нарадзіўся 16.12.1897 г. у в. Енгалычава Дубенскага р-на Мардоўскай АССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. Скончыў Казанскі універсітэт (1924 г.). Удзельнік Грамадзянскай вайны. З 1924 г. працаваў у клініках Казані, з 1930 г. да 1948 г.— у клініках Масквы пад кіраўніцтвам вядучых хірургаў краіны А. В. Вішнеўскага, С. І. Спасакукоцкага. У 1949—65 гг. загадчык кафедры агульнай, пазней факультатыўнай хірургіі Мінскага медыцынскага інстытута. Навуковыя працы па хірургічным лячэнні хвароб органаў грудной поласці, стрававальна-кішачнага тракту, выкарыстанню павакаінавых блакад. Быў старшынёй Навуковага таварыства хірургаў г. Мінска і Мінскай вобл., членам праўлення Усесаюзнага таварыства хірургаў і рэдакцыйнага савета часопіса «Хирургия». Памёр П. М. Маслаў 27.8.1965 г.

У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура вучонага (скульпт. І. Краўчанка).

*Літ.:* П. Н. Маслов.— Здравоохранение Белоруссии, 1965, № 9. *Т. Р. Чуракова.*

**616. МАГІЛА МАЎРА** Янкі (гіст., маст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, адзін з заснавальнікаў беларускай савецкай дзіцячай літаратуры, заслужаны дзеяч культуры БССР (1968 г.) Я. Маўр (сапраўднае Фёдараў Іван Міхайлавіч) нарадзіўся 28.4.1883 г. у г. Лієпая Латвійскай ССР у сям'і рабочага-



615. *Помнік на магіле П. М. Маслава.*




616. *Помнік на магіле Янкі Маўра.*

сталяра. Член КПСС з 1950 г. Пасля смерці бацькі разам з маці пераехаў у в. Лебянішкі Ковенскай губерні. Скончыў пачатковае, потым Ковенскае рамеснае вучылішча (1899 г.). Вучыўся ў Панявежскай настаўніцкай семінарыі, адкуль у 1902 г. выключаны з выпускнога класа за вальнадумства. Пасля здачы экзаменаў экстэрнам атрымаў званне настаўніка пачатковай школы (1903 г.), працаваў памочнікам настаўніка ў Новым Месцы (Літва), у в. Бытча на Барысаўшчыне. За ўдзел у нелегальным з'ездзе настаўнікаў (1906 г.) у в. Мікалаеўшчына (Стаўбцоўскі р-н) звольнены з працы і ўзяты пад нагляд паліцыі. З 1911 г. выкладаў гісторыю і геаграфію ў мінскай прыватнай гандлёвай школе. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў у школе, у рэспубліканскім саюзе работнікаў асветы, Наркамаце асветы БССР, Беларускім дзяржаўным выдавецтве. Упершыню выступіў у друку ў 1923 г. Змяшчаў фельетоны ў газеце «Савецкая Беларусь», у ленінградскім часопісе сатыры і гумару «Бегемот». Першы буйны твор — навукова-мастацкая аповесць «Чалавек ідзе!..» (1926—27 гг.). Аповесці «У краіне райскай птушкі» (1927 г.), «Сын вады» (1928 г.), раман «Амок» (1929 г.) і шэраг апавяданняў прысвечаны жыццю і барацьбе каланіяльных народаў за незалежнасць, выкрыццю згубнай знешняй палітыкі імперыялістычных дзяржаў, антыгуманнай сутнасці ідэалогіі капіталізму. Аўтар аповесцей «Палескія рабінзоны» (1930 г., экранізавана паводле сцэнарыя аўтара ў 1935 г.), «ТВТ...» (1934 г), «Аповесці будучых дзён» (1932 г.), п'ес «Памылка» (1940 г.), аднаактовак «Хата з краю» (1941 г.), «Балбатун» (1946 г.), аўтабіяграфічнай аповесці «Шлях з цемры» (кн. 1—3, напісана ў 1920—57 гг.), фантастычнай аповесці «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага» (1954—55 гг.), шматлікіх апавяданняў, фельетонаў, памфлетаў. Кнігі Я. Маўра перакладзены на мовы народаў СССР і за мяжой, вытрымалі шмат перавыданняў. Выдадзены Збор твораў у 2 тамах (1960 г.), у 4 тамах (1975—76 гг.). Дзяржаўная прэмія БССР 1972 г. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы Дз. Маміна-Сібірака, М. Прышвіна, В. Шклоўскага, Р. Кіплінга, Х. К. Андэрсена, М. Твэна. Памёр Я. Маўр 3.8.1971 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску, імя пісьменніка прысвоена Мінскай абласной дзіцячай бібліятэцы, Бытчанскай 8-гадовай школе ў Барысаўскім р-не; у в. Бытча на будынку школы і ў Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлены мемарыяльныя дошкі.

У 1977 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. І. Міско, архіт. Ю. Казакоў; сілумін; вышыня 1,5 м, пліта — лабрадарыт, памер 1,6×0,8 м). Складаецца з паліраванай надмагільнай пліты і стэлы ў выглядзе ветразя. У цэнтральнай яе частцы — скульптурны партрэт пісьменніка з яго факсімілe. Пластычныя сродкі ў спалучэнні з кампазіцыйнымі прыёмамі ствараюць выразны вобраз пісьменніка-рамантыка.

*Літ.:* Барсток М. М. Віднейшы беларускі дзіцячы пісьменнік Янка Маўр.— Мн., 1958; Яфімава М. Б. Янка Маўр: (Жыццё і творчасць).— Мн., 1960; яе ж. Цэлы свет — дзецям.— Мн., 1983; Рунец П. Чалавек з крылатай фантазіяй.— Мн., 1979; Миронов А. Е. Дед Мавр.— [2 изд.].— Мн., 1983; Гурэвіч Э. С. Янка Маўр: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн., 1983.

*А. Г. Шчарбатаў, Г. М. Ярмоленка.*

**617. МАГІЛА МАЦАПУРЫ** Міхаіла Яфрэмавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне механізацыі сельскай гаспадаркі, акадэмік АН БССР (1947 г.), УАСГНІЛ (1964 г.), Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1957—61 гг.), доктар тэхнічных навук (1945 г.), прафесар (1947 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1954 г.) М. Я. Мацапура нарадзіўся 8.11.1908 г. у в. Барбароў Мазырскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. Пасля заканчэння Ленінградскага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі (1932 г.) працаваў старшым навуковым супрацоўнікам, дырэктарам Беларускай навукова-даследчай станцыі механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. З 1938 г. загадчык лабараторыі бульбяных машын Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі ў Маскве. У 1947—65 гг. дырэктар Цэнтральнага НДІ механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі Нечарназёмнай зоны СССР (Мінск), адначасова акадэмік-сакратар АН БССР (1947—50 гг.). Навуковыя працы прысвечаны праблемам механізацыі і тэхналогіі сельскагаспадарчай вытворчасці. Ленінская прэмія 1962 г. і Дзяржаўныя прэміі СССР 1951 г. і 1952 г. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1952—54 гг., член ЦК КПБ у 1954—66 гг., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—67 гг. Памёр М. Я. Мацапура 31.10.1971 г. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* М. Я. Мацапура.— Весці АН БССР. Сер. фізіка-тэхнічных навук. 1968, № 4; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

*Г. І. Дулеба.*

**618. МАГІЛА МАШЭРАВА** Пятра Міронавіча (гіст., маст.).

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы П. М. Машэраў нарадзіўся 13.2.1918 г. у в. Шыркі Сенненскага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член



618. *Помнік на магіле П. М. Машэрава.*

КПСС з 1943 г. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут (1939 г.). У 1939—41 гг. выкладаў фізіку і матэматыку ў Расонскай сярэдняй школе Віцебскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну ў жніўні 1941 г. стварыў і ўзначаліў Расонскае камуністычнае падполле. З красавіка 1942 г. камандзір партызанскага атрада імя М. А. Шчорса, які дзейнічаў у Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім раёнах БССР, а таксама ў суседніх раёнах РСФСР і Латвійскай ССР. З сакавіка 1943 г. камісар партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага Віцебскай вобл. З верасня 1943 г. да ліпеня 1944 г. першы сакратар Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ. У барацьбе супраць акупантаў паказаў асабістую мужнасць і выдатныя здольнасці арганізатара і кіраўніка, удзельнічаў у распрацоўцы і правядзенні многіх баявых аперацый. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. З ліпеня 1944 г. першы сакратар Маладзечанскага абкома ЛКСМБ, з ліпеня 1946 г. сакратар, з кастрычніка 1947 г. першы сакратар ЦК ЛКСМБ. З ліпеня 1954 г. другі сакратар Мінскага, з жніўня 1955 г. першы сакратар Брэсцкага абкомаў КПБ. З красавіка 1959 г. сакратар, з снежня 1962 г. другі сакратар ЦК КПБ, з сакавіка 1965 г. першы сакратар ЦК КПБ. Кандыдат у члены ЦК КПСС з 1961 г., член ЦК КПСС з 1964 г. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС з красавіка 1966 г. Член ЦК КПБ з 1949 г., кандыдат у члены Бюро ЦК КПБ з лютага 1949 г. да студзеня 1956 г., член Бюро ЦК КПБ з красавіка 1959 г. да снежня 1962 г. і з

чэрвеня 1966 г., член Прэзідыума ЦК КПБ з снежня 1962 г. да чэрвеня 1966 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1950—62 гг. і з 1966 г., член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР з 1966 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—55 гг. і з 1959 г., член Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у 1951—55 гг. і з 1963 г. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 10.2.1978 г. П. М. Машэраў трагічна загінуў 4.10.1980 г. Яго імем названы праспект і марское судна, імя яго прысвоена заводу аўтаматычных ліній у Мінску, Расонскай сярэдняй школе, саўгасу ў Віцебскай вобл.; устаноўлены мемарыяльныя дошкі ў Мінску на доме, дзе ён жыў, і на будынку Віцебскага педінстытута, у Віцебску ўстаноўлены яго бюст.

У 1984 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. А. Анікейчык, архіт. Ю. Градаў, Л. Левін; шэры граніт; вышыня 2,8 м). Скульптурная фігура высечана з гранітнага маналіту. Злёгку схіленая галава, складзеныя на грудзях рукі, выраз твару перадаюць стан самапаглыбленасці, унутранай сабранасці. Нібы ветрам прыўзняты каўнер надае партрэту лірычны акцэнт. Дакладна прапрацаваныя рысы вызначаюцца лаканічнай абагульненасцю і кампактнасцю. Шурпатая фактура граніту з няроўнымі сколамі кантрастуе з паліраванымі плоскасцямі, стварае маляўнічы эфект. Гранітны маналіт размешчаны ў цэнтры крыху прыўзнятай над зямлёй пляцоўкі, злева — невялікі паліраваны камень з надпісам «П. М. Машэраў. 1918—1980» і выявы двух Зорак — Героя Савецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай Працы.

**619. МАГІЛА МЕЛЕЖА** Івана Паўлавіча (гіст., маст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, народны пісьменнік БССР (1972 г.) І. П. Мележ нарадзіўся 8.2.1921 г. у в. Глінішча Хойніцкага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. Пасля заканчэння сярэдняй школы (1938 г.) працаваў у Хойніцкім райкоме камсамола. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Летам 1942 г. пад Растовам быў цяжка паранены. У 1945 г. скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. У 1945—47 гг. працаваў у рэдакцыі часопіса «Полымя», у 1950—51 гг. у апараце ЦК КПБ. З 1966 г. сакратар, у 1971—76 гг. намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Друкаваўся з 1939 г. (вершы). 29.2.1944 г. у падпольнай газеце «Звязда» было надрукавана яго першае апавяданне «Сустрэча ў шпіталі». Першую кнігу І. П. Мележа «У завіруху» (1946 г.) склалі апавяданні ваеннага цыкла, другая — «Гарачы жнівень» (1948 г.) прысвечана жыццю вёскі. У рамане «Мінскі напрамак» (1950—52 гг.; дапрацаваны ў 1974 г., кн. 1—3) імкнуўся паказаць трагедыю вайны, веліч народнага подзвігу, суровыя выпрабаванні, якія выпалі на долю Беларусі, бітву за яе вызваленне ў 1944 г. Гэты шматпланавы, маштабны твор стаў для яго школай пісьменніцкага майстэрства. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Блізкае і далёкае» (1954 г.), «У гарах дажджы» (1957 г.), «Што ён за чалавек» (1961 г.), п'ес «Хто прыйшоў уночы» (1959 г.), «Пакуль вы маладыя» (1956 г., пастаўлена Беларускім тэатрам імя Я. Купалы ў 1957 г.), «Дні нараджэння» (1958 г., пастаўлена тэатрам імя Я. Купалы ў 1959 г.). Сапраўднае народнае прызнанне атрымала трылогія «Палеская хроніка», што склалася з раманаў «Людзі на балоце» (1961 г., Літаратурная прэмія імя Я. Коласа 1962 г.), «Подых навальніцы» (1964—65 гг.), за якія прысуджана Ленінская прэмія 1972 г., і «Завеі, снежань» (1976 г.). «Палеская хроніка» прысвечана карэнным пераўтварэнням у паслярэвалюцыйнай вёсцы, перш за ўсё калектывізацыі. Шырыня гістарычнага погляду, глыбіня сацыяльнага даследавання, маштабнасць думкі, тонкі псіхалагічны аналіз характараў, майстэрства мовы паставілі «Палескую хроніку» ў шэраг выдатных дасягненняў не толькі беларускай прозы, але і ўсёй савецкай літаратуры. Паводле раманаў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» Беларускім тэлебачаннем створаны ў 1965 г. 3-серыйны тэлеспектакль, у 1979 г.— тэлеспектакль паводле рамана «Завеі, снежань». Беларускі тэатр імя Я. Купалы паставіў спектакль «Людзі на балоце» (1966 г.). Па матывах гэтага рамана К. Цесакоў стварыў радыёоперу «Барвовы золак» (1983 г.). Рэжысёры В. Тураў і Дз. Зайцаў экранізавалі «Палескую хроніку» (кінафільмы «Людзі на балоце», 1982 г., «Подых навальніцы», 1983 г.). У 1975 г. выйшла кніга літаратурна-крытычных артыкулаў, нарысаў і публіцыстычных выступленняў пісьменніка «Жыццёвыя клопаты» (Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа 1976 г.), у 1977 г.— «Першая кніга» (дзённікі, запісы ваенных гадоў). Творы І. Мележа перакладзены на многія мовы народаў СССР і за мяжой. У 1969—71 гг. выйшаў Збор твораў у 6 тамах, у 1979—85 гг.— Збор твораў у 10 тамах. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1967—76 гг. Быў старшынёй праўлення Беларускага аддзялення таварыства «СССР — Францыя», старшынёй Беларускага камітэта абароны міру, членам Сусветнага Савета Міру. Памёр І. П. Мележ 9.8. 1976 г. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Хойніках, імя пісьменніка прысвоена школе ў в. Глінішча, бібліятэцы ў Гомелі, цеплаходу. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка. У Глінішчы ў 1983 г. адкрыты Літаратурны музей І. П. Мележа, пастаўлены бюст. У 1980 г. устаноўлена літаратурная прэмія СП БССР імя І. П. Мележа.

У 1980 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. С. Вакар, архіт. Ю. Казакоў; пастамент — граніт, вышыня 1,6 м; бюст — бронза, вышыня 1 м) — скульптурны партрэт пісьменніка, асі-



619. *Помнік на магіле Івана Мележа.*



620. *Помнік на магіле У. Ф. Міцкевіча.*

метрычна пастаўлены на пяцівугольны вертыкальны пастамент. Кампазіцыя насычана дынамічнымі акцэнтамі. Экспрэсіўная пластыка скульптурных форм, выразны сілуэт, дакладнасць партрэтнай характарыстыкі служаць выяўленню грамадзянскай пазіцыі пісьменніка.

*Літ.:* Куляшоў Ф. Іван Мележ.— Мн., 1968; яго ж. Подвиг художника: Литературный путь И. Мележа.— 2 изд.— Мн., 1982; Гніламёдаў У. Іван Мележ: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн., 1984; Бугаёў Дз. Вернасць прызванню: Творчая індывідуальнасць Івана Мележа.— Мн., 1977; Успаміны пра Івана Мележа.— Мн., 1982; Адамовіч А. Вяртанне наперад.— У яго кн.: Здалёк і зблізку. Мн., 1976. *В. Б. Караткевіч.*

**620. МАГІЛА МІЦКЕВІЧА** Уладзіміра Фёдаравіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР У. Ф. Міцкевіч нарадзіўся 21.1.1920 г. у в. Юравічы Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Гомельскі заатэхнікум (1939 г.), ваеннае авіяцыйнае вучылішча (1940 г.), Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС (1953 г.). З 1939 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў з 1946 г. інструктарам Тамбоўскага абкома ВКП(б), з 1948 г. дырэктарам Мінскай інкубатарна-птушкагадоўчай станцыі, з 1949 г. у Мінскім абкоме КП(б)Б і аблвыканкоме. У 1950 г. другі, з 1951 г. першы сакратар Смалявіцкага райкома КП(б)Б. З 1955 г. старшыня Мінскага аблвыканкома, з 1962 г. першы сакратар Гродзенскага абкома КПБ. У 1968—74 гг. сакратар ЦК КПБ. З мая 1974 г. першы намеснік старшыні Савета Міністраў БССР. Член Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС з 1976 г., з 1956 г. член ЦК КПБ, з 1968 г. член Бюро ЦК КПБ. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1962—70 гг. і 1974—83 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1955—63 гг. і 1967—83 гг. Памёр У. Ф. Міцкевіч 16.2.1983 г. Яго імя прысвоена цеплаходу Верхнедняпроўскага рачнога параходства, саўгасу-тэхнікуму ў Калінкавічах.

У 1985 г. на магіле пастаўлены бюст (скульпт. І. Міско; граніт, бронза). *Г. І. Дулеба.*

**621. МАГІЛА МЛОДАК** Рыты Веньямінаўны (гіст., маст.).

Беларуская савецкая спявачка, народная артыстка БССР (1940 г.) Р. (сапраўднае Рэвека) В. Млодак нарадзілася 14.2.1906 г. у Мінску ў сям'і мяшчан. Скончыла Мінскую музычную школу, Віцебскі музычны тэхнікум (1928 г.) і Беларускую студыю оперы і балета (1933 г.). З 1931 г. артыстка Беларускага радыёкамітэта, у 1933—59 гг. салістка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. У 1941—42 гг. у Ленінградскім тэатры оперы і балета імя С. М. Кірава (г. Перм) і Свярдлоўскім тэатры оперы і балета, у складзе франтавых канцэртных брыгад выступала на Калінінскім фронце, у шпіталях, перад партызанамі Віцебшчыны. Валодала багатага тэмбру голасам (лірыка-драматычнае сапрана). У беларускіх операх выканала партыі Марысі («Міхась Падгорны» Я. Цікоцкага), Надзейкі («Кветка шчасця» А. Туранкова), Астахавай («Надзея Дурава» А. Багатырова); у класічным рэпертуары — Таццяны, Лізы, Аксаны, Марыі («Яўген Анегін», «Пікавая дама», «Чаравічкі», «Мазэпа» П. Чайкоўскага), Тамары («Дэман» А. Рубінштэйна), Яраслаўны («Князь Ігар» А. Барадзіна), Маргарыты («Фауст» Ш. Гуно), Мажэнкі («Прададзеная нявеста» Б. Сметаны), Чыо-Чыо-сан у аднайменнай оперы Дж. Пучыні), Мікаэлы «Кармэн» Ж. Бізэ), Наталлі («Ціхі Дон» І. Дзяржынскага). Творчай манеры спявачкі характэрны эмацыянальнасць, раскрыццё вобраза ў яго ўнутранай дынаміцы. Выступала і як камерная спявачка, выконвала рамансы, песні рускіх, савецкіх, беларускіх кампазітараў, народныя песні. Памерла Р. В. Млодак 3.12.1969 г.

У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт артысткі (скульпт. З. Азгур, архіт. Ю. Патапаў; бюст — бронза, вышыня 0,9 м; пастамент — бетон, мармуровая крошка, вышыня 1,7 м). Скульптура выканана ў рэалістычнай манеры, раскрывае абаяльны вобраз спявачкі.

*Літ.:* Тамашова Н. Майстар вакальнага мастацтва.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960. *В. М. Удальцоў, Г. М. Ярмоленка.*

**622. МАГІЛА НІКОЛЬСКАГА** Мікалая Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, усходазнавец, акадэмік АН БССР (1931 г.), член-карэспандэнт АН СССР (1946 г.), доктар гістарычных навук (1934 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1935 г.) М. М. Нікольскі нарадзіўся 1.11.1877 г. у Маскве. Член КПСС з 1946 г. Скончыў Маскоўскі універсітэт (1900 г.). У 1900—17 гг. выкладчык жаночай гімназіі. З 1918 г. прафесар, з 1919 г. рэктар Смаленскага універсітэта, з 1921 г. прафесар БДУ. Узначальваў сектар этнаграфіі і фальклору Інстытута гісторыі АН БССР (з 1931 г.), у 1937—53 гг. дырэктар гэтага інстытута. У Вялікую Айчынную вайну меў сувязь з мінскім камуністычным падполлем, быў у партызанскай зоне (1943—44 гг.), потым вывезены ў Маскву. У 1946—52 гг. член Прэзідыума АН БССР. Працы па пытаннях гісторыі Старажытнага Усходу, рэлігіі, рускай царквы і сектанцтва ў Расіі, крытыкі Бібліі, этнаграфіі і фальклору Беларусі. Даследаваў паходжанне беларускіх абрадавых песень, старажытнарускую абрадавасць, міфы, вераванні, прасачыў гісторыю ўзнікнення і відазмянення беларускіх вясельных рытуалаў да канца 19 ст. Асноўныя працы: «Прыватнае землеўладанне і і землекарыстанне ў Старажытным Двурэччы» і «Эцюды па гісторыі фінікійскіх абшчынных і землеробчых культаў» (1948 г.), «Гісторыя рускай царквы» (8-е выд. 1988 г.), «Дахрысціянскія вераванні і культы дняпроўскіх славян» (1929 г.), «Паходжанне і гісторыя беларускай вясельнай абраднасці» (1956 г.), «Выбраныя творы па гісторыі рэлігіі» (1974 г.) і інш. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—59 гг. Памёр М. М. Нікольскі 19.11.1959 г. У Мінску на доме, дзе жыў вучоны, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1961 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; Ботвинник М., Н. М. Никольский.— Мн., 1967. *М. Б. Батвіннік.*

**623. МАГІЛА ПАДАЛЯКІ** Аляксандра Іванавіча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы А. І. Падаляка нарадзіўся 23.4.1918 г. у в. Кулікі Чэрвеньскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1947 г. У 1936—39 гг. працаваў слесарам у Мінску і Оршы. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну камандзір мінамётнага разліку, ваяваў на Волхаўскім, Паўднёва-Заходнім, 2-м Беларускім франтах. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, старшы лейтэнант. З 1957 г. жыў у Мінску, працаваў слесарам-шліфоўшчыкам на Мінскім механічным заводзе. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 26.4.1971 г. за поспехі ў выкананні заданняў 8-й пяцігодкі, за ўдзел у арганізацыі вытвор-




621. *Помнік на магіле Р. В. Млодак.*

часці новай тэхнікі. Памёр А. І. Падаляка 3.6.1978 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**624. МАГІЛА ПАКРОЎСКАГА** Мікалая Пракопавіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза М. П. Пакроўскі нарадзіўся 6.5.1909 г. у с. Сарагожскае Ляснога р-на Калінінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. Скончыў Калінінскую савецка-партыйную школу (1931 г.). З 1932 г. сакратар Ушацкага райкома камсамола Віцебскай вобл. У 1937—39 гг. вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце. З 1940 г. сакратар Рудзенскага райкома КП(б)Б Мінскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну ў жніўні 1941 г. арганізаваў і ўзначаліў партызанскі атрад «Беларусь», з сакавіка да чэрвеня 1943 г. камандзір партызанскай брыгады «Беларусь», якая дзейнічала на тэрыторыі Мінскай вобл. У ліпені 1941 г.— чэрвені 1943 г. сакратар Рудзенскага падпольнага райкома КП(б)Б. У лістападзе 1942 г.— чэрвені 1943 г. член Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. Пасля вайны працаваў першым сакратаром Барысаўскага гаркома, Баранавіцкага абкома КП(б)Б, у апараце ЦК КП(б)Б, у Савеце Міністраў БССР. Член ЦК КП(б)Б у 1949—52 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—55 гг. Памёр М. П. Пакроўскі 4.8. 1976 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла з партрэтам героя (гравіраванне).

*Літ.:* Казлоў В. І. Людзі асобага складу.— Мн., 1967; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**625. МАГІЛА ПАЛЕСКАГА** Вячаслава Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі драматург, заслужаны дзеяч культуры БССР (1967 г.) В. П. Палескі (сапраўднае Станкевіч) нарадзіўся 21.10.1912 г. у в. Астрагляды Брагінскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. Пасля заканчэння ў 1929 г. Бабчынскай сярэдняй школы з педагагічным ухілам настаўнічаў. У 1930—32 гг. супрацоўнік гомельскай абласной газеты «Палеская праўда», з 1932 г. у Мінску, працаваў у рэспубліканскіх газетах «Савецкая Беларусь», «Калгаснік Беларусі», «Советская Белоруссия», рэдактарам Беларускага радыёкамітэта. У Вялікую Айчынную вайну намеснік рэдактара, адказны рэдактар радыёстанцыі «Савецкая Беларусь» у Маскве. У 1944—60 гг. адказны сакратар, намеснік рэдактара газеты «Звязда». З 1960 г. дырэктар Мінскай студыі тэлебачання, з 1961 г. намеснік старшыні, у 1965—71 гг. старшыня Дзяржаўнага Камітэта Савета Міністраў БССР па радыёвяшчанню і тэлебачанню. Друкаваўся з 1930 г., выступаў з вершамі. Як драматург вядомы па п'есах «Песня нашых сэрцаў» («Што пасееш, тое і пажнеш»; пастаўлена ў 1949 г.), «Калі зацвітаюць сады» (пастаўлена ў 1950 г.), «Гарачыя пірагі» (апублікавана ў 1958 г.). У сваіх творах пісьменнік адлюстроўваў жыццё і быт калгаснай вёскі. Асобна выйшла кніга «П'есы» (1976 г.). У 1966—71 гг. член Рэвізійнай камісіі КПБ, член ЦК КПБ з 1971 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1971 г. Памёр В. П. Палескі 18.6.1971 г. Яго імя прысвоена сярэдняй школе ў в. Бабчын Хойніцкага р-на Гомельскай вобл., дзе ён вучыўся ў 1925—29 гг., на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла. *Т. Р. Чуракова.*

**626. МАГІЛА ПАЛІТЫКІ** Дзмітрыя Антонавіча (гіст.).

Беларускі савецкі крытык і літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук (1950 г.) Дз. А. Палітыка нарадзіўся 15.5.1915 г. у в. Гарывец Чашніцкага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1930—32 гг. вучыўся ў Мінскім, Лепельскім педагагічных тэхнікумах, настаўнічаў. У 1935 г. пасля сканчэння літаратурнага факультэта Магілёўскага педінстытута працаваў там жа, потым у Полацкім педагагічным вучылішчы. У 1937—41 гг. выкладаў рускую літаратуру ў Магілёўскім педтэхнікуме, у 1941—44 гг. працаваў у Башкірскай АССР. У 1944—45 гг. выкладаў у Магілёўскім педінстытуце. У 1950 г. скончыў Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б). З 1950 г. загадчык кафедры мовы і літаратуры Мінскай вышэйшай партыйнай школы. Друкавацца пачаў у 1932 г., дэбютаваў вершамі. З 1946 г. выступаў з крытычнымі артыкуламі па праблемах беларускай савецкай літаратуры, мастацкага перакладу, літаратурнай крытыкі, гісторыі рускага рамана. Выдадзены кнігі «Аб значэнні савецкай літаратуры ў камуністычным выхаванні працоўных» (1952 г.), «Вялікі рускі пісьменнік-сатырык М. Я. Салтыкоў-Шчадрын» (1955 г.), «Беларуская пасляваенная проза» (1958 г.), «Янка Купала — перакладчык» (1959 г.), «Раман І. А. Ганчарова «Абрыў» (1962 г.), «Сляды часу» (1967 г.) і інш. Памёр Дз. А. Палітыка 18.4.1965 г.

У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Вытокі песні.— Мн., 1973. *В. М. Баскова.*

**627. МАГІЛА ПАРАХНЕВІЧА** Уладзіміра Аляксеевіча (гіст).

Герой Савецкага Саюза, заслужаны настаўнік БССР (1965 г.) У. А. Парахневіч нарадзіўся 5.1.1918 г. у в. Аўсімавічы Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. У 1941 г. скончыў БДУ імя У. І. Леніна. У Вялікую Айчынную вайну са жніўня 1941 г. у падпольнай групе Варатынскага сельсавета Бабруйскага р-на, з ліпеня 1942 г. партызан 537-га атрада, які дзейнічаў у Кіраўскім р-не Магілёўскай вобл., потым камандзір дыверсійнай групы. На ўчастку чыгункі Жлобін — Бабруйск група партызан на чале з У. А. Парахневічам пусціла пад адхон 21 варожы эшалон. З лістапада 1943 г. палітрук роты 539-га партызанскага атрада, з чэрвеня 1944 г. камісар 102-га атрада 9-й партызанскай брыгады імя С. М. Кірава. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. Пасля вайны на камсамольскай і педагагічнай рабоце ў Мінску. Аўтар кнігі «Вогненныя віхры» (1969 г.), падручнікаў для школ. Памёр У. А. Парахневіч 28.7.1980 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**628. МАГІЛА ПАТРЫНА** Аляксея Фёдаравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. Ф. Патрын нарадзіўся 2.5.1910 г. у с. Борскае Борскага р-на Куйбышаўскай вобл. Член КПСС з 1943 г. У 1931—33 гг. вучыўся ў Агралесамеліярацыйным інстытуце ў г. Куйбышаве. Скончыў 2 курсы Ваеннай артылерыйскай акадэміі імя Ф. Э. Дзяржынскага. З 1933 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1942 г. на фронце: начальнік штаба і камандзір 576-га артылерыйскага палка 167-й стралковай дывізіі, камандуючы артылерыяй дывізіі. Вызначыўся 3.11.1943 г. Полк пад камандаваннем А. Ф. Патрына моцным артылерыйскім агнём забяспечыў паспяховае наступленне часцей дывізіі, знішчыў да 800 гітлераўцаў, шмат баявой тэхнікі праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.1.1944 г. Да 1955 г. служыў у Савецкай Арміі, гвардыі палкоўнік. Памёр А. Ф. Патрын 26.8.1959 г.

У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**629. МАГІЛА ПАЦЕЕВА** Мікалая Паўлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. П. Пацееў нарадзіўся 16.5.1919 г. у г. Рагачоў Гомельскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. У 1938 г. скончыў Ленінградскі машынабудаўнічы тэхнікум, у 1952 г.— Вышэйшую афіцэрскую школу самаходнай артылерыі. З 1939 г. служыў у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёвым, Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, Бранскім, 1-м Прыбалтыйскім, 3-м Беларускім франтах. Вызваляў Беларусь, Літву, Латвію. 17.9.1944 г. танкавая рота лейтэнанта М. П. Пацеева заняла абарону на захад ад г. Мітава (цяпер г. Елгава) Латвійскай ССР, уступіла ў бой і спыніла наступленне праціўніка. На працягу 4 сутак воіны адбілі 28 контратак, знішчылі 37 тан-

каў, каля 400 варожых салдат і афіцэраў. М. П. Пацееў з экіпажам знішчыў 9 танкаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пасля вайны да 1970 г. служыў у Савецкай Арміі, падпалкоўнік. Памёр М. П. Пацееў 27.9.1972 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**630. МАГІЛА ПЕРАХОДА** Вячаслава Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне лесаводства, акадэмік АН БССР (1950 г.), акадэмік Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1959—61 гг.), доктар сельскагаспадарчых навук (1944 г.), прафесар (1923 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1956 г.) В. І. Пераход нарадзіўся 31.1.1887 г. у пас. Рахаў Келецкага ваяводства ПНР у сям'і настаўніка. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Новаалександрыйскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства (1911 г.). Працаваў у навучальных установах Пскова, Кастрамы, Вятлугі. У 1921—25 гг. выкладчык Беларускага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі, БДУ, з 1925 г. прафесар Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1931—36 гг. выкладчык Беларускага лесатэхнічнага інстытута, у 1936—44 гг. Кіеўскага і Бранскага інстытутаў лясной гаспадаркі. З 1946 г. загадчык сектара лесу, у 1949—54 гг. дырэктар Інстытута лесу АН БССР. Вывучаў праблемы лесаводства, эканомікі, геаграфіі, статыстыкі лясной гаспадаркі, гісторыю лясной гаспадаркі БССР. Распрацаваў лесаэканамічнае раяніраванне БССР. Апублікаваны працы: «Лясы і лясная гаспадарка БССР» (1925 г.), «Раённыя профілі дрэваапрацоўчай прамысловасці і лесавырошчвання ў БССР» (1936 г.), «Эканамічная геаграфія лясоў БССР» (1958 г.). У лесазнаўстве і геабатаніцы выкарыстоўваецца абгрунтаваны вучоным геаграфічны профіль вывучэння лясоў. Памёр В. І. Пераход 26.5.1964 г.

У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; Нестерович Н. Д., Юркевич И. Д., В. И. Переход.— Весці АН БССР. Сер. біялагічных навук, 1956, № 4. *В. Б. Караткевіч.*

**631. МАГІЛА ПЕРКІНА** Навума Саламонавіча (гіст.).

Беларускі савецкі літаратуразнавец і крытык, доктар філалагічных навук (1964 г.), прафесар (1965 г.) Н. С. Перкін нарадзіўся 2.2.1912 г. у г. п. Тураў Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. у сям'і рамесніка. Член КПСС з 1945 г. У 1936 г. скончыў Мінскі педінстытут, выкладаў у Полацкім педтэхнікуме. Служыў у Чырвонай Арміі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г. навуковы супрацоўнік, загадчык сектара (1963—76 гг.) Інстытута літаратуры АН БССР. Друкаваўся з 1946 г. Аўтар кніг: «Аркадзь Куляшоў. Паэтычная творчасць» (1951 г.), «Творчасць Петруся Броўкі» (1952 г.), «Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры 20—30 гг.: Праблемы сацыялістычнага рэалізму» (1960 г.), «У сям'і братніх літаратур» (1967 г.), «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў літаратуры» (1971 г.), «Чалавек у савецкім рамане» (1975 г.), зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў «Абсягі думкі» (1980 г.), брашуры «Пятро Глебка» (1955 г.). Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (т. 1, 1964 г.), «Гісторыі савецкай шматнацыянальнай літаратуры» (т. 1—2, кн. 1, 1970—71 гг.), падручнікаў (разам з Ю. С. Пшырковым) для сярэдняй школы «Беларуская савецкая літаратура» (для 9—10-х класаў, 4-е выд. 1973 г.; для 9-га класа, 9-е выд. 1969 г.; для 10-га класа, 8-е выд. 1968 г.). Аўтар аўтабіяграфічных аповесцей «Я стаў партызанам» (1979 г.), «Хлопчык з мястэчка» (1981 г.). За ўдзел у 2-томным даследаванні «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» (1977 г.) Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа 1980 г. Памёр Н. С. Перкін 2.10.1976 г. Яго імем названа вуліца ў Тураве.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Вытокі песні.— Мн., 1973; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. М. Баскова.*

**632. МАГІЛА ПЕСТРАКА** Піліпа Сямёнавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, заслужаны дзеяч культуры БССР (1968 г.) П. С. Пестрак нарадзіўся 14.11.1903 г. у в. Сакоўцы Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. У 1915 г. скончыў двухкласнае народнае вучылішча ў в. Бусяж, непадалёку ад Сакоўцаў. Увосень 1915 г. разам з бацькамі эвакуіраваўся ў Паволжа, у в. Максімаўка Багатаўскага р-на Куйбышаўскай вобл. прайшлі яго юнацкія гады. Вучыўся на бібліятэчных курсах, у гімназіі, на рабфаку, некаторы час працаваў у валасным камітэце. У 1920—21 гг. студэнт Куйбышаўскага універсітэта. У Заходняй Беларусі з 1921 г. Працаваў рабочым на лесапільні, лесарубам, у 1922—23 гг. леснікам, служыў у польскім войску (1924—26 гг.). З 1927 г. сакратар Касаўскага падпольнага райкома партыі, член Слонімскага акруговага камітэта КПЗБ, у 1933—34 гг. інструктар ЦК КПЗБ. Быў членам Касаўскага павятовага камітэта Беларускай сялянска-рабочай грамады. Пры разгроме дэманстрацыі ў Косаве 3.2.1927 г. арыштаваны, у турмах буржуазнай Польшчы прасядзеў амаль 11 гадоў. Вызвалены Чырвонай Арміяй у верасні 1939 г. Быў выбраны дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі, членам паўнамоцнай камісіі на сесіі Вярхоўнага Савета СССР (1939 г.). У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік партызанскага руху. У 1943—45 гг. працаваў начальнікам Упраўлення па справах мастацтваў пры Саўнаркоме БССР, у 1946—48 гг. у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР, у 1948—49 гг. літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў БССР. Друкавацца пачаў у 1927 г. (ранні псеўданім Звястун). Яго паэзія нарадзілася ў турмах і на этапах. Невыпадкова амаль пад усімі вершамі, датаванымі 1927—39 гг., стаяць словы: «Лукішкі», «Гродзенскі астрог». Прысвечаныя рэвалюцыйнаму змаганню, гэтыя вершы ўвайшлі ў першы зборнік паэта «На варце» (1940 г.). У зборніку «За сваю Айчыну» (1946 г.) услаўляў подзвіг савецкіх людзей у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У пасляваеннай творчасці асноўнай была тэма барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне з БССР у адзінай савецкай дзяржаве (раман «Сустрэнемся на барыкадах», 1951—54 гг.). У рамане «Серадзібор» (1961—63 гг.) адлюстравана жыццё і пераўтварэнне палескага краю ў пасляваенныя гады (Літаратурная прэмія імя Я. Коласа 1964 г.). Аўтар аповесці «Пачатак» (1948 г.), зборнікаў апавяданняў «Першыя ўсходы» (1951 г.), «Неспадзяванак» (1957 г.), «Лясная песня» (1958 г.), «Сярод чаротаў» (1964 г.), «Апавяданні» (1970 г.), зборніка вершаў «Падарожнае» (1962 г.), паэмы «Слова пра Мінск» (1968 г.), літаратурна-крытычных артыкулаў. Выйшлі Зборы твораў пісьменніка ў 4 тамах (1969—71 гг.) і 5 тамах (1984—86 гг.). Перакладаў на беларускую мову асобныя творы Э. Ажэшкі, Е. Путраманта, І. Франко, Л. Украінкі, М. Рыльскага, У. Сасюры, П. Тычыны, літоўскіх і латышскіх пісьменнікаў. Яго творы перакладаліся на мовы народаў СССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1940—46 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1971—75 гг. Памёр П. С. Пестрак 22.8.1978 г. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Гродне, імя пісьменніка прысвоена Івацэвіцкай раённай бібліятэцы. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Ватацы Н. Б. Піліп Пестрак: Бібліягр. памятка.— Мн., 1961; Хромчанка К. Р. Піліп Пестрак: Жыццё і творчасць.— Мн., 1960. *В. Б. Караткевіч.*

**633. МАГІЛА ПІНЧУКА** Мікалая Рыгоравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. Р. Пінчук нарадзіўся 4.2.1921 г. у в. Дурынічы Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл. (у 1964 г. вёска перайменавана ў в. Ізюмава ў гонар Героя Савецкага Саюза М. А. Ізюмава) у сялянскай

сям'і. Член КПСС з 1945 г. Скончыў Бабруйскі аэраклуб у 1940 г., Армавірскую ваенную школу пілотаў у 1942 г., Ваенна-паветраную акадэмію ў 1954 г. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну са жніўня 1942 г. на Заходнім, 3-м Беларускім франтах. Камандзір знішчальнай авіяэскадрыллі гвардыі маёр М. Р. Пінчук зрабіў 307 баявых вылетаў, правёў 68 паветраных баёў, у час якіх збіў 22 самалёты праціўніка асабіста (адзін з іх тараніў), у групавых баях — 2. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.4.1945 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны да 1975 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр М. Р. Пінчук 12.1.1978 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**634. МАГІЛА ПІСКАРОВА** Івана Васілевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. В. Піскароў нарадзіўся 11.4.1901 г. у в. Меліхава Гагарынскага р-на Смаленскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. Скончыў курсы «Выстрал» (1932 г.), Вышэйшую палітшколу (1941 г.). З 1920 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г., начальнік штаба, намеснік камандзіра, камандзір 290-га стралковага палка войск НКУС. Вызначыўся ў верасні 1943 г. пры вызваленні Новарасійска. Байцы 290-га стралковага палка на чале з І. В. Піскаровым ноччу высадзіліся ў порт, у жорсткіх баях авалодалі плацдармам, замацаваліся на ім, адбілі шэраг варожых контратак, чым садзейнічалі паспяховаму наступленню Чырвонай Арміі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 18.9.1943 г. Да 1950 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр І. В. Піскароў 3.5.1973 г.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Воробьёв М., Титов В., Храпченков А. Смоляне — Герои Советского Союза.— 3 изд.— М., 1982. *Г. І. Дулеба.*

**635. МАГІЛА ПЛАТНЕРА** Ісака Хаймавіча (гіст.).

Яўрэйскі савецкі паэт І. (сапраўднае Айзік) Х. Платнер нарадзіўся 17.11. 1895 г. у г. Сакалоў-Падляшскі (цяпер ПНР). У 1922 г. эмігрыраваў у Амерыку, працаваў на фабрыках, быў настаўнікам у інтэрнацыянальных рабочых школах, супрацоўнічаў у камуністычнай газеце «Morning Freiheit» («Раніца свабоды»). З 1932 г. у СССР, з 1933 г. у Мінску. Працаваў у Рэспубліканскім радыёкамітэце, у рэдакцыях перыядычных выданняў. Друкаваўся з 1918 г. Аўтар зборнікаў вершаў «З Амерыкі» (1934 г.), «З любоўю і верай» (1947 г.), паэмы «Аб краўцах» (1935 г.), зборніка навел «Самае дарагое» (1948 г.). На беларускай мове выйшлі кнігі «Сярод дзяцей» (1938 г.), «Сваёй краіне» (1947 г.), «Соль жыцця» (1957 г.), «Дар сэрца» (1962 г.) і інш. Пісаў для дзяцей: «Мой агарод» (1958 г.), «Палаючае сэрца» (1960 г.), «Вясёлая іголка» (1961 г.), «Магазін цацак» (1963 г.), «Хто што робіць» (1970 г.). Перакладаў з англійскай і нямецкай моў на беларускую. Памёр І. Х. Платнер 26.7.1961 г.

У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Т. Р. Чуракова.*

**636. МАГІЛА ПЛАТОНАВА** Барыса Віктаравіча (гіст., маст.).

Беларускі савецкі акцёр, педагог, народны артыст СССР (1948), народны артыст БССР (1946 г.) Б. В. Платонаў нарадзіўся 24.7.1903 г. у Мінску ў сям'і служачага. Член КПСС з 1953 г. Вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1920—22 гг. працаваў у самадзейным калектыве пры клубе беларускай мастацкай інтэлігенцыі «Беларуская хатка», у тэатры рэвалюцыйнай сатыры ў Мінску. З 1922 г. у Беларускім тэатры імя Я. Купалы (у 1943 г. у франтавой тэатральнай брыгадзе). У 1961—63 гг. мастацкі кіраўнік гэтага тэатра, з 1965 г. аднačасова загадчык кафедры рэжысуры і майстэрства акцёра Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.

Акцёрскае майстэрства Б. В. Платонава вызначалі тонкі псіхалагізм, вонкавая акрэсленасць і выразнасць. Сярод роляў: Ярыськін («Мяцеж» паводле Дз. Фурманава), Пётр («Апошнія» М. Горкага), Огнеў, Рамадан («Фронт», «Крылы» А. Карнейчука), Рамэо («Рамэо і Джульета» У. Шэкспіра), Заслонаў («Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона; Дзяржаўная прэмія СССР 1948 г.), Туміловіч («Пяюць жаваранкі» К. Крапівы; Дзяржаўная прэмія СССР 1952 г.), Жадаў («Даходнае месца» А. Астроўскага), Забелін («Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна). Стварыў яркія камедыйныя вобразы: Зёлкін, Жлукта («Хто смяецца апошнім», «Мілы чалавек» К. Крапівы), Быкоўскі («Паўлінка» Я. Купалы), Лявон («Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка), Мужаскі («Дабракі» Л. Зорына). Дасягненнем савецкай тэатральнай Ленініяны стаў створаны акцёрам вобраз У. І. Леніна ў спектаклі «Трэцяя, патэтычная» М. Пагодзіна. Плённай была праца Б. В. Платонава і ў кінамастацтве (фільмы «Кастусь Каліноўскі», «Песня вясны», «Паўлінка», «Пяюць жаваранкі», «Хто смяецца апошнім» і інш.). Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1959—67 гг. Памёр Б. В. Платонаў 15.2. 1967 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. У. Слінчанка, архіт. У. Крывашэеў; бронза, бетон; вышыня бюста 0,8 м, пастамента 1,8 м) — скульптурны партрэт Б. В. Платонава на пастаменце ў выглядзе пілона з канеліраванай пярэдняй плоскасцю. Кампазіцыя разлічана на франтальнае ўспрыманне. Пластыка скульптуры лаканічная, з дакладнай прапрацоўкай форм, вызначаецца глыбінёй псіхалагічнай характарыстыкі.

*Літ.:* Рамановіч Я. С. Народны артыст СССР Б. В. Платонаў.— Мн., 1954; Сабалеўскі А. В. Уладар дум чалавечых: Творчасць народнага артыста СССР Барыса Платонава.— Мн., 1964; яго ж. Перад блізкім расстаннем.— У яго кн.: Жыццё тэатра. Мн., 1980. *І. І. Чаркас, Г. М. Ярмоленка.*



636. *Помнік на магіле Б. В. Платонава.*

**637. МАГІЛА ПРАКАПЧУКА** Андрэя Якаўлевіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне дэрматавенералогіі, акадэмік АН БССР (1940 г., член-карэспандэнт з 1936 г.), доктар медыцынскіх навук (1936 г.), прафесар (1931 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1944 г.) А. Я. Пракапчук нарадзіўся 4.7.1896 г. у в. Чамяры Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1917 г. У 1923 г. скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Удзельнік Грамадзянскай вайны. З 1927 г. працаваў у клініцы скурных і венерычных хвароб БДУ. З 1931 г. загадчык кафедры дэрматавенералогіі Мінскага медыцынскага інстытута, у 1932—38 гг. і 1945—63 гг. аднačасова дырэктар Скурна-венералагічнага навукова-даследчага інстытута Міністэрства аховы здароўя БССР. Даследаваў пытанні марфалогіі запаленчых працэсаў скуры пры розных дэрматозах ферментатыўных працэсаў абмену рэчываў. Абгрунтаваў новыя метады дыягностыкі і лячэння скурных і венерычных хвароб. Распрацаваў і ўка-

раніў у практыку метад лячэння чырвонай ваўчанкі акрыхінам. Памёр А. Я. Пракапчук 13.4.1970 г.

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *М. М. Казлоўская.*

**638. МАГІЛА ПРАКОПАВА** Пятра Яфімавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне агульнага земляробства і раслінаводства, член-карэспандэнт АН БССР (1950 г.), доктар сельскагаспадарчых навук (1960 г.), прафесар (1963 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1968 г.) П. Я. Пракопаў нарадзіўся 31.8.1909 г. у в. Старая Мілееўка Магілёўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У 1931 г. скончыў БСГА. З 1934 г. навуковы супрацоўнік Інстытута біялагічных навук АН БССР. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1946—50 гг. старшы навуковы супрацоўнік, намеснік дырэктара ў інстытутах біялогіі і сацыялістычнай сельскай гаспадаркі АН БССР. З 1950 г. у Міністэрстве сельскай гаспадаркі БССР, з 1953 г. загадчык аддзела Інстытута сацыялістычнай сельскай гаспадаркі АН БССР, Беларускага навукова-даследчага інстытута земляробства, з 1961 г. начальнік Упраўлення сельскагаспадарчай навукі і прапаганды Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР, з 1969 г. загадчык аддзела севазваротаў і апрацоўкі глебы, з 1974 г. навуковы кансультант Беларускага НДІ земляробства. У 1961—69 гг. старшыня Беларускага рэспубліканскага навукова-тэхнічнага таварыства сельскай гаспадаркі. Навуковыя даследаванні па распрацоўцы і ўкараненню ў сельскагаспадарчую вытворчасць найбольш рацыянальных севазваротаў і эфектыўных прыёмаў апрацоўкі дзярнова-падзолістых глеб Беларусі. Асноўныя працы: «Правільныя севазвароты і рацыянальнае выкарыстанне зямлі» (1973 г.), «Асновы севазваротаў у паўночна-заходніх раёнах СССР» (1974 г., разам з М. Ф. Сціхіным) і інш. Памёр П. Я. Пракопаў 24.6.1980 г. *Г. Ф. Раманаў.*

**639. МАГІЛА ПРЫТЫЦКАГА** Сяргея Восіпавіча (гіст., маст.).

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну С. В. Прытыцкі нарадзіўся 19.1.1913 г. у в. Гаркавічы Саколкаўскага павета Беластоцкага ваяводства ПНР у сялянскай сям'і. Батрачыў. Член КСМЗБ з 1930 г. Член КПСС з 1932 г. У 1932 г. сакратар Крынкаўскага раённага, Гродзенскага акруговага камітэтаў КСМЗБ. Вясною 1933 г. арганізаваў кампанію салідарнасці з бастуючымі тэкстыльшчыкамі Беластока, кіраваў стачкамі лясных рабочых у Саколкаўскім, Гродзенскім



639. *Помнік на магіле С. В. Прытыцкага.*

і Слонімскім паветах (1933—34 гг.). За рэвалюцыйную дзейнасць у маі — кастрычніку 1933 г. зняволены ў гродзенскую турму. У 1934—35 гг. слухач партыйнай школы КПЗБ у Мінску. У 1933—34 гг. член, з 1935 г. сакратар Слонімскага акруговага камітэта КСМЗБ. Па заданню ЦК КПЗБ 27.1.1936 г. у час судовага працэсу над 17 рэвалюцыянерамі ў Віленскім акруговым судзе С. В. Прытыцкі страляў у правакатара. Быў цяжка паранены і арыштаваны. У чэрвені 1936 г. судом буржуазнай Польшчы прыгавораны да пакарання смерцю. Працоўныя Заходняй Беларусі, Польшчы, СССР, Чэхаславакіі, Англіі, Францыі, ЗША і іншых краін узняліся на яго абарону. Пад націскам грамадскасці пакаранне смерцю было заменена пажыццёвым турэмным зняволеннем. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй у 1939 г. выбраны дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі, дзе выступіў з дакладам аб устанаўленні Савецкай улады на вызваленай тэрыторыі. Па даручэнню і як член Паўнамоцнай камісіі Народнага сходу на 5-й (нечарговай) сесіі Вярхоўнага Савета СССР выступіў з заявай аб уключэнні Заходняй Беларусі ў СССР і аб'яднанні яе з БССР. З 1939 г. намеснік старшыні Беластоцкага аблвыканкома. У чэрвені — жніўні 1941 г. удзельнічаў у стварэнні абарончых збудаванняў вакол Магілёва і фарміраванні народнага апалчэння ў Гомелі. З жніўня 1941 г. у палітупраўленні Цэнтральнага фронту. З сакавіка 1942 г. другі сакратар ЦК ЛКСМБ, з сакавіка 1944 г. намеснік начальніка, начальнік Польскага штаба партызанскага руху. У 1948 г. скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б). У 1949—52 гг., 1953—62 гг. першы сакратар Гродзенскага, Баранавіцкага, Маладзечанскага, Мінскага абкомаў КПБ. У 1952—53 гг. намеснік загадчыка аддзела ЦК КПБ, у 1962—68 гг. сакратар ЦК КПБ, старшыня Камітэта партыйна-дзяржаўнага кантролю ЦК КПБ і СМ БССР, намеснік старшыні СМ БССР. З 1968 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Член ЦК КПСС з 1961 г., член ЦК КПБ з 1949 г., член Бюро ЦК КПБ з 1960 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета БССР з 1940 г. Аўтар успамінаў пра рэвалюцыйную барацьбу ў Заходняй Беларусі: «Вясна абнаўлення» (у кнізе «Пад сцягам Вялікага Кастрычніка. Савецкія рэспублікі за сорак год», 1957 г.); «У імя шчасця працоўнага народа» (у кнізе «У суровыя гады падполля», 1958 г.); «Партызанскі рух на Гродзеншчыне» (у кнізе «Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны», 1959 г.); «Асобае заданне» (у кнізе «Вільнюскае падполле», 1966 г.); «Па заданню партыі» (у кнізе «Гады выпрабаванняў і мужнасці», 1973 г.) і інш. Памёр С. В. Прытыцкі 13.6.1971 г. Яго імем названы плошча ў Мінску, вуліцы ў Мінску, Гродне, Баранавічах, Маладзечне, яго імя прысвоена вытворчаму аб'яднанню «Азот» у Гродне, заводу ў Саколцы (ПНР), калгасам у Бераставіцкім і Маладзечанскім раёнах, школе ў г. п. Вялікая Бераставіца, дзе створаны музей, пастаўлены яго бюст, ваенна-патрыятычнаму музею школы № 20 г. Мінска. Яму прысвечаны раздзел экспазіцыі Дзяржаўнага музея БССР, мемарыяльная зала ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, створаны музей на радзіме. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. А. Анікейчык, архіт. Л. Левін, Ю. Градаў; граніт, бронза; вышыня 2,5 м). Уяўляе сабою скульптурную кампазіцыю, асіметрычна ўстаноўленую на прамавугольным подыуме. Цэнтрам яе з'яўляецца скульптурны партрэт С. В. Прытыцкага. Вакол бюста — падобная на сцяг драпіроўка. Яе дынамічная маса, пластычны і рытмічны лад надаюць трактоўцы помніка рамантычнасць.

*Літ.:* Анісаў С. Р. Крутымі шляхамі. Запіскі былога камсамольскага работніка-падпольшчыка.— Мн., 1960; Воткович Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все.— Мн., 1979; Денисевич А. Орлиное племя.— Мн., 1972; Жизнь, отданная народу.— Мн., 1978.

*Г. Б. Ваткові́ч, Г. М. Ярмоленка.*

**640. МАГІЛА ПУЗАНАВА** Льва Іларыёнавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Л. І. Пузанаў нарадзіўся 23.2.1908 г. у г. Днепрапятроўску ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1931 г. Скончыў аб'яднаную ваенную школу імя ЦВК СССР (1935 г.). У Чырвонай Арміі з 1931 г. Удзельнік савецка-фінляндскай 1939—

40 гг. і Вялікай Айчыннай войнаў. У савецка-фінляндскую вайну стралковы батальён пад камандаваннем старшага лейтэнанта Л. І. Пузанава 2—13.3.1940 г. прарваў абарону праціўніка і забяспечыў паспяховае наступленне падраздзяленняў Чырвонай Арміі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 21.3.1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г., камандзір стралковага палка, намеснік камандзіра і камандзір стралковай дывізіі. Да 1957 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр Л. І. Пузанаў 26.9.1965 г.

У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік.

*Г. І. Дулеба.*

**641. МАГІЛА ПУКСТА** Рыгора Канстанцінавіча (гіст.).

Беларускі савецкі кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1955 г.) Р. К. Пукст нарадзіўся 14.11.1900 г. у г. Гомель у сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1941 г. У 1918 г. скончыў Гомельскае тэхнічнае вучылішча, у 1928 г.— Маскоўскую кансерваторыю (клас прафесара Г. Канюса). Працаваў слесарам на чыгунцы, памочнікам машыніста, машыністам, інструктарам палітасветы Заходняй чыгункі, кіраваў гурткамі самадзейнасці, выкладаў спевы ў школах Гомеля. З 1929 г. выкладчык у Омскім, з 1932 г. у Гомельскім музычных тэхнікумах. У Вялікую Айчынную вайну ў складзе франтавой брыгады Беларускай дзяржаўнай філармоніі. З 1943 г. начальнік музычнага аддзела Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР. У 1944—49 гг. і 1959—60 гг. выкладчык Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. У 1949—59 гг. хормайстар, мастацкі кіраўнік музычнага вяшчання Беларускага радыё, мастацкі кіраўнік музычных перадач Галоўнага ўпраўлення радыёінфармацыі Міністэрства культуры БССР. Творчую дзейнасць пачаў у 1920-я гады, напісаў цыкл рамансаў, апрацоўваў беларускія народныя песні. Стварыў 6 сімфоній (1934, 1941 гг., 2-я рэдакцыя 1944, 1950, 1955, 1957, 1959 гг.), сімфанічную фантазію «Перапёлачка», сюіту «Сымон-музыка», танцавальныя сюіты для квартэта цымбалаў, 3 сюіты для секстэта домраў, 5 фуг для фартэпіяна і струннага квартэта, іншыя камерныя інструментальныя творы, шэраг хораў («Дуб» на словы П. Броўкі, «Партызанскія акопы» на словы М. Танка і інш.), вакальна-сімфанічны твор «Паэма аб Чырвонай Арміі» (1938 г.), кантату «А хто там ідзе?» (1958 г., на словы Я. Купалы). Аўтар оперы «Машэка» (1945 г.), першай беларускай оперы для дзяцей «Марынка» (1954 г., пастаўлена ў 1955 г.), оперы «Свіцязянка» (1960 г.), рамансаў для голасу і фартэпіяна на словы А. Пушкіна, А. Блока, Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі і інш. Напісаў музыку да некалькіх спектакляў, фільмаў. Музыка кампазітара вызначаецца прастатой, выразнасцю і напеўнасцю, лірычнасцю, шырокім выкарыстаннем інтанацый, блізкіх да беларускай народнай песні. Памёр Р. К. Пукст 12.11.1960 г.

У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла з чырвонага паліраванага граніту з барэльефнай партрэтнай выявай кампазітара.

*Літ.:* Журавлёв Д. Н., Г. К. Пукст, заслуженный деятель искусств БССР.— Мн., 1963.

*Г. М. Ярмоленка.*



641. *Помнік на магіле Р. К. Пукста.*

**642. МАГІЛА ПУШКАРОВА** Сяргея Піліпавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр танкавых войск (1945 г.) С. П. Пушкароў нарадзіўся 20.11.1902 г. у с. Любіцкае Пугачоўскага р-на Саратаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. У Чырвонай Арміі з 1924 г. Вучыўся ў Ваеннай акадэміі бранятанкавых войск. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1942 г. на Заходнім, Сцяпным, Варонежскім і 1-м Украінскім франтах, камандзір танкавага палка, падпалкоўнік. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі, разгрому ворага на тэрыторыі Германіі. 3.10.1943 г. на танку Т-34 першы фарсіраваў р. Дзясна, камандаваў пераправай палка. 8.10.1943 г. полк першы сярод танкавых часцей арміі пераправіўся цераз р. Дняпро, прарваў абарону праціўніка, замацаваўся на плацдарме, чым садзейнічаў паспяховаму наступленню часцей Чырвонай Арміі. 10—12.10.1943 г. полк на чале з С. П. Пушкаровым вёў жорсткія баі супраць значна большых сіл праціўніка ў раёне Кіева, адбіў некалькі контратак. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.1.1944 г. З 1960 г. у запасе, жыў у Мінску. Памёр С. П. Пушкароў 8.9.1976 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Румянцев Н. М. Люди легендарного подвига.— Саратов, 1968.

*Г. І. Дулеба.*

**643. МАГІЛА ПЯНЬКОЎСКАГА** Валянціна Антонавіча (гіст.).

Савецкі военачальнік, генерал арміі (1961 г.) В. А. Пянькоўскі нарадзіўся 1.4.1904 г. у г. Магілёве ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. У 1927 г. скончыў Аб'яднаную Беларускую ваенную школу імя ЦВК БССР, у 1947 г. Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваеннай акадэміі Генеральнага штаба. У Чырвонай Арміі з 1920 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, Данскім, Варонежскім, Ленінградскім, 1-м і 2-м Прыбалтыйскіх і 1-м Далёкаўсходнім франтах. Начальнік штаба ўпраўлення проціпаветранай абароны Паўднёва-Заходняга фронту, камандзір стралковай дывізіі (1941—42 гг.), начальнік штаба 21-й, 6-й гвардзейскай, 25-й армій (1942—45 гг.). Удзельнічаў у Сталінградскай і Курскай бітвах, вызваленні Украіны і Беларусі, у баях з японскімі мілітарыстамі. У 1946—56 гг. начальнік штаба Прыкарпацкай, Прыморскай, Забайкальскай, Далёкаўсходняй ваенных акруг, з сакавіка 1956 г. камандуючы войскамі Далёкаўсходняй акругі, з 1961 г.— войскамі БВА. З 1964 г. намеснік міністра абароны СССР, з 1968 г. ваенны інспектар-саветнік Групы генеральных іспектараў Міні-




642. *Помнік на магіле С. П. Пушкарова.*

стэрства абароны СССР. Кандыдат у члены ЦК КПСС з 1961 г., член ЦК КПБ у 1961—66 гг., кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПБ у 1962—64 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР з 1958 г., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1963—67 гг. Памёр В. А. Пяньkоўскі 26.4.1969 г. Ганаровы грамадзянін г. Полацка.

У 1972 г. на магіле пастаўлены бюст (скульпт. І. Глебаў, архіт. С. Сысоеў). *Г. І. Дулеба.*

**644. МАГІЛА ПЯРМІНАВА** Івана Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. А. Пярмінаў нарадзіўся 30.9.1920 г. у в. Грэхава Акцябрскага р-на Кастрамской вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1955 г. скончыў Ваенна-паветраную акадэмію. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з лістапада 1942 г. Камандзір звяна штурмавога авіяпалка гвардыі лейтэнант І. А. Пярмінаў зрабіў 101 баявы вылет, удзельнічаў у 18 паветраных баях. Асабіста збіў 2 самалёты праціўніка. Авіязвяно выканала 138 баявых вылетаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.5.1946 г. Да 1960 г. служыў у Савецкай Арміі, падпалкоўнік. Потым працаваў на заводзе электронных вылічальных машын імя Р. К. Арджанікідзе ў Мінску. Памёр І. А. Пярмінаў 15.9.1973 г.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам. *Г. І. Дулеба.*

**645. МАГІЛА РАКІЦКАГА** Пятра Фаміча (гіст.).

Беларускі савецкі біёлаг-генетык, акадэмік АН БССР (1967 г.), доктар



643. *Помнік на магіле В. А. Пяньkоўскага.*

біялагічных навук, прафесар (1940 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1973 г.) П. Ф. Ракіцкі нарадзіўся 2.8.1903 г. у былой в. Кустоўніца Мазырскага р-на Гомельскай вобл. у сям'і служачага. У 1927 г. скончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт. З 1930 г. старшы навуковы супрацоўнік ва Усесаюзным інстытуце жывёлагадоўлі, адначасова ў 1932—38 гг. дацэнт кафедры генетыкі Маскоўскага універсітэта. У 1938—48 гг. загадчык кафедры, дэкан факультэта, намеснік дырэктара Маскоўскага пушніна-футравага інстытута. У 1949—57 гг. старшы навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела жывёлагадоўлі і заалогіі Комі філіяла Акадэміі навук СССР. З 1957 г. ва Усесаюзным інстытуце навуковай і тэхнічнай інфармацыі. У 1960—69 гг. загадчык кафедры заалогіі пазваночных Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, з 1965 г. загадчык лабараторыі тэарэтычнай генетыкі Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР. Сфармуляваў і эксперыментальна абгрунтаваў паняцце аб полі дзеяння гена, распрацаваў шэраг пытанняў генетыкі колькасных прыкмет і генетычных асноў селекцыі жывёл, некаторыя пытанні філасофіі і гісторыі біялогіі. Аўтар прац па статыстычнай генетыцы і ўжыванню матэматычных метадаў у біялагічных даследаваннях: «Генетыка» (4-е выд. 1937 г.), «Біялагічная статыстыка» (3-е выд. 1973 г.), «Уводзіны ў статыстычную генетыку» (2-е выд. 1978 г.) і інш. Дзяржаўная прэмія БССР (1974 г.). Аўтар першага падручніка па генетыцы для заатэхнічных ВНУ. З 1966 г. прэзідэнт Беларускага таварыства генетыкаў і селекцыянераў. Памёр П. Ф. Ракіцкі 21.10. 1977 г. У 1983 г. на будынку Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Г. І. Дулеба.*

**646. МАГІЛА РАМАНОЎСКАГА** Янкі (гіст.).

Беларускі савецкі мастак Я. (Іван Юльянавіч) Раманоўскі нарадзіўся 24.8.1928 г. у Мінску. Яго маці — сястра Янкі Купалы. У 1959 г. скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. З 1960 г. мастацкі рэдактар часопіса «Маладосць». Працаваў у станковай і кніжнай графіцы, у тэхніцы літаграфіі, акварэлі, афорта. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1960 г. Стварыў ілюстрацыі да паэм Я. Купалы «Бандароўна» (1952 г. і 1959 г.), «Зімою» (1955 г.), «Магіла льва» (1956 г. і 1959 г.), «Тарасова доля» (1958 г. і 1959 г.). Сярод графічных работ мастака серыя аўталітаграфій, прысвечаных Я. Купалу: лісты «А хто там ідзе?», «Малады Янка Купала ў Пецярбургу», «Янка Купала на абарончых рубяжах пад Масквой. 1941 год» (усе 1959 г.), серыі малюнкаў і графічных партрэтаў паэта (1961—71 гг.); жывапісныя работы «Партрэт Янкі Купалы», «Янка Купала з моладдзю» (1962 г.). Зрабіў таксама партрэтныя серыі: «Передавыя людзі калгаса «Рассвет» (1961 г.), «Галасы Палесся» (1967 г.), серыю афортаў «Палеская камунары», «Янка Купала на Волзе. 1942 г.» (1969 г.) і інш. Глыбокім лірызмам прасякнуты партрэты спявачак з палескай вёскі Тонеж П. Алесіч, С. Пятровай, Т. Сафонавай, Герояў Сацыялістычнай Працы П. Л. Калыскі і К. П. Арлоўскага. Сярод жывапісных работ партрэты А. Міцкевіча (1954 г.), бацькі Я. Купалы Д. А. Луцэвіча, Я. Коласа (абодва 1960 г.), Цёткі (А. Пашкевіч), В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Коласа, К. Крапівы, М. Лынькова, П. Броўкі, К. Чорнага (усе 1960—70-я гг.). Да 90-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы зрабіў эскізы юбілейнага медаля і 2 значкоў. Выпусціў альбом эстампаў «Янка Купала». Памёр І. Ю. Раманоўскі 25.6.1974 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай мастака.

*Літ.:* Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976; Палтаран В. Талент чалавечай дабраты.— Маладосць, 1975, № 9. *В. М. Барадуліна, В. Б. Караткевіч.*

**647. МАГІЛА РАХЛЕНКІ** Леаніда Рыгоравіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр і рэжысёр, народны артыст СССР (1966 г.), народны артыст БССР (1946 г.) Л. Р. (Леанід Гдальевіч) Рахленка нарадзіўся 24.8.1907 г. у г. п. Церахоўка Добрушскага р-на Гомельскай вобл. у сям'і служачага. Член КПСС з 1942 г. Вучыўся ў Ленінградскім інстытуце сцэнічнага мастацтва (1925—27 гг.). З 1926 г. у Ленінградскім рабочым тэатры пралеткульта, з 1929 г. у Беларускім першым дзяржаўным тэатры (з 1944 г. тэатр імя Я. Купалы), у 1937—43 гг. яго мастацкі кіраўнік. Адначасова ў 1956—58 гг. і 1967—69 гг. мастацкі кіраўнік студый пры тэатры. Сцэнічныя работы Л. Р. Рахленкі вызначаліся глыбокай псіхалагічнай распрацоўкай, яркай вонкавай характарыстыкай. Выконваў сатырычныя, характарныя і драматычныя ролі: Сымон («Салавей» З. Бядулі), граф дэ Рызаор («Фландрыя» В. Сарду), Бераст («Платон Крэчат» А. Карнейчука), Гарлахвацкі («Хто смяецца апошнім» К. Крапівы), Максімаў («За тых, хто ў моры!» Б. Лаўранёва), Гвздзіліп («Трэцяя, патэтычная» М. Пагодзіна), Сцяпан Сыравараў («У мяцеліцу» Л. Лявонава). У класічным рэпертуары стварыў вобразы Круцідкага і Прыбыткова («На ўсякага мудраца хапае прастаты» і «Апошняя ахвяра» А. Астроўскага), Бубнаў («На дне» М. Горкага), Старац («Раскіданае гняздо» Я. Купалы). З іншых роляў: Ён («Чацвёрты» К. Сіманава), Новікаў («Палата» С. Алёшына), Доб-

рых («Амністыя» М. Матукоўскага), Тысаферы («...Забыць Герастрата!» Р. Горына), Макар Дубрава (аднайменная п'еса А. Карнейчука) і інш.

Рэжысуры Л. Р. Рахленкі характэрны сацыяльная паглыбленасць у раскрыцці грамадскіх канфліктаў, ідэйна-эстэтычная выразнасць, дакладнасць вобразнай структуры. Паставіў п'есы «Ваўкі і авечкі», «Без віны вінаватыя» А. Астроўскага (1936, 1938 гг.), «Скупы» Мальера (1937 г.), «Партызаны» (1938 г., з К. Саннікавым), «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы (1939 г., з І. Расўскім), «У стэпах Украіны», «Фронт» і «Крылы» А. Карнейчука (1941, 1942, 1955 гг.), «Рускія людзі» К. Сіманава (1943 г.), «Каварства і каханне» Ф. Шылера (1953 г.), «Вогненны мост» Б. Рамашова (1954 г.), «Пані міністэрша» Б. Нушыча, «Салавей» З. Бядулі (абедзве 1956 г.), «Паўночная мадонна» братоў Тур (1962 г.) і інш. Укладам у распрацоўку беларускай Лейініяны сталі спектаклі Л. Р. Рахленкі «Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна (1956 г.) і «Навальнічны год» А. Каплера (1957 г.). Зняўся ў кіно: Гарлахвацкі («Хто смяецца апошнім», 1954 г.), германскі палкоўнік і пан Іван («Міколка-паравоз» і «Палеская легенда», 1957 г.), Готберг («Гадзіннік спыніўся апоўначы», 1958 г.), прафесар («Веснавыя навальніцы», 1960 г.). Дзяржаўная прэмія БССР 1970 г. Памёр Л. Р. Рахленка 9.3.1986 г.

*Літ.:* Грыгор'ева А. Вядомы дзеяч беларускай сцэны.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960; Арлова Т. Магнітнае поле таленту.— Полымя, 1977, № 9.



648. *Помнік на магіле С. П. Рачок.*

**648. МАГІЛА РАЧОК** Соф'і Пятроўны (гіст.).

Брыгадзір першай у Беларусі жаночай трактарнай брыгады С. П. Рачок нарадзілася ў 1909 г. у в. Печураны Капыльскага р-на Мінскай вобл. У 1940 г. скончыла сельскагаспадарчы тэхнікум. З 1929 г. трактарыстка, брыгадзір трактарнай брыгады Капыльскай МТС. У Вялікую Айчынную вайну брыгадзір трактарнай брыгады Пензенскай МТС. У 1944—47 гг. інспектар Наркамата земляробства БССР. У 1947—70 гг. працавала ў сістэме матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння сельскай гаспадаркі БССР. На VII з'ездзе Саветаў СССР (1935 г.) была выбрана членам ЦВК СССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1937—46 гг. Памерла С. П. Рачок 25.9.1970 г.

У 1971 г. на магіле пастаўлены бюст.

*М. М. Казлоўская.*

**649. МАГІЛА РАШЭТНІКАВА** Мікалая Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. М. Рашэтнікаў нарадзіўся 7.4.1921 г. у с. Агафонаўка Піцерскага р-на Саратаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1941 г. скончыў Арэнбургскае ваеннае танкавае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір танкавага батальёна капітан М. М. Рашэтнікаў вызначыўся ў верасні 1944 г. пры вызваленні г. Паланга Літоўскай ССР. Батальён на чале з ім прарваў абарону ворага, уварваўся ў горад і адбіў некалькі контратак праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр М. М. Рашэтнікаў 27.8.1959 г.

У 1961 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Румянцев Н. М. Люди легендарного подвига.— Саратов, 1968.

*Г. І. Дулеба.*

**650. МАГІЛА РЖЭЦКАЙ** Лідзіі Іванаўны (гіст.).

Беларуская савецкая актрыса, народная артыстка СССР (1955 г), народная артыстка БССР (1944 г.) Л. І. Ржэцкая нарадзілася 5.4.1899 г. у Мінску ў сям'і чыгуначніка. Сцэнічную дзейнасць пачала ва ўкраінскай вандроўнай трупе ў 1916 г. Працавала ў Першым беларускім таварystве драмы і камедыі [1917—20 гг.; ролі: Зоська («Раскіданае гняздо» Я. Купалы), Пронка («Хам» паводле Э. Ажэшка), цыганка Аза («Хата за вёскай» М. Старыцкага)]. З 1921 г. у БДТ-1 (тэатр імя Я. Купалы) стварыла шэраг вобразаў нацыянальнай драматургіі, якія вызначаліся праўдзівасцю, глыбокім псіхалагізмам, мяккім лірызмам і гумарам. Гэта Ганначка («На купалле» М. Чарота), Ключніца і Марына («Машэка» і «Кастусь Каліноўскі» Е. Міровіча), Даміцэля («Панскі гайдук» Н. Бываеўскага), Насця («Кар'ера таварыша Брызгаліна» Е. Міровіча). Ролі ў рускай і замежнай класіцы: Аксана («Лес шуміць» паводле У. Караленкі), Марыя («Жрэц Тарквіній» С. Палівалава), Дыяна («Чырвоная маска» А. Луначарскага), Джудзіт («Апостал сатаны» Б. Шоў). Развівала і паглыбляла галерэю жаночых вобразаў у нацыянальным рэпертуары — Вера і Аксёна («Запяюць верацёны» і «Перамога» Е. Міровіча), жонка Мароза («Гута» Р. Кобеца), маці («Бацькаўшчына» К. Чорнага), Наталля («Канец дружбы» К. Крапівы), Каспарыха («Салавей» З. Бядулі), Альжбета («Паўлінка» Я. Купалы). Высокім майстэрствам вызначаліся класічныя вобразы з рускай драматургіі: Мурзавецкая, Кручыніна, Галчыха, Шаблова, Домна Панцялееўна, Кукушкіна, Турусіна («Ваўкі і авечкі», «Без віны вінаватыя», «Позняе каханне», «Таленты і паклоннікі», «Даходнае месца», «На ўсякага мудраца хапае прастаты» А. Астроўскага), Сакалова («Апошнія» М. Горкага). Стварыла яркія адмоўныя характары: Яворская («Мост» Я. Рамановіча), пані Яндрыхоўская («Партызаны» К. Крапівы) і высокакамедыйныя народныя тыпы: цёця Каця («Хто смяецца апошнім» К. Крапівы), Сцепаніда («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), Палашка («У стэпах Украіны» А. Карнейчука). Багаты духоўны свет выявіла артыстка ў ролях сваіх сучасніц: Нічыпарыха («Заложнікі» А. Кучара), Ганна Чыхнюк («Выбачайце, калі ласка» А. Макаёнка), Вярбіцкая («Пяюць жаваранкі» К. Крапівы, Дзяржаўная прэмія СССР 1951 г.). Стварыла вобразы вялікай грамадзянскай палымянасці і глыбокага мацярынскага пачуцця — Матруна («На крутым павароце» К. Губарэвіча), Алена Сцяпанаўна («Людзі і д'яблы» К. Крапівы), Кір'якулі



650. *Помнік на магіле Л. І. Ржэцкай.*

(«Востраў Афрадзіты» А. Парніса), Марфы Касьянаўны («У мяцеліцу» Л. Лявонава). Выступала па радыё і тэлебачанні, здымалася ў беларускіх кінафільмах «Паўлінка», «Хто смяецца апошнім», «Пяюць жаваранкі», «Гадзіннік спыніўся апоўначы». Памерла Л. І. Ржэцкая 24.10.1977 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла з белага мармуру, якая нагадвае заслону тэатральнай сцэны.

*Літ.:* Бутакоў А. Актрыса яскравага таленту.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960. *С. А. Пятровіч.*

**651. МАГІЛА РУДСКОГА** Фёдара Андрэевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр бранятанкавых войск Ф. А. Рудской нарадзіўся 21.5.1921 г. у г. Аўдзееўка Данецкай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. У 1941 г. скончыў танкавае вучылішча, у 1954 г. Ваенную акадэмію бранятанкавых войск, у 1969 г. Ваенную акадэмію Генштаба. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Варонежскім, 1-м Украінскім, 2-м і 3-м Прыбалтыйскіх, 3-м Беларускім франтах. Камандзір танкавага батальёна капітан Ф. А. Рудской вызначыўся ў час правядзення Усходне-Прускай аперацыі. У баях ва Усходняй Прусіі батальён пад яго камандаваннем знішчыў 14 танкаў, 19 самаходных і 46 іншых гармат, 51 мінамёт, 14 бронетранспарцёраў, 26 цягачоў з прычэпамі і артылерыяй, 520 грузавых і 34 легкавыя аўтамашыны, каля 1300 салдат і афіцэраў праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.4.1945 г. У 1969—82 гг. начальнік Мінскага сувораўскага ваеннага вучылішча. Памёр Ф. А. Рудской 29.6.1982 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Кавалеры Золотой Звезды: Очерки о Героях Советского Союза.— Донецк, 1976; Герои грозовых лет.— Донецк, 1973. *А. Г. Шчарбатаў.*

**652. МАГІЛА РЫЖЫКАВА** Іосіфа Іванавіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР І. І. Рыжыкаў нарадзіўся 21.8.1893 г. у в. Рацава Талачынскага р-на Віцебскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1917 г. З 1914 г. у арміі, з 1918 г. у ЧК, Чырвонай Арміі, з 1923 г. на гаспадарчай і партыйнай рабоце. У 1937—40 гг. нарком лясной прамысловасці, прамысловасці будматэрыялаў БССР, першы сакратар Гродзенскага РК КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну сакратар ЦК КП(б)Б, прадстаўнік ЦК КП(б)Б пры ЦК ВКП(б), узначальваў Заходнюю аператыўную групу ЦК КП(б)Б. Быў упаўнаважаным ЦШПР на Сталінградскім фронце, намеснікам начальніка БШПР, прадстаўніком ЦШПР і членам Ваеннага Савета Калінінскага, 1-га Прыбалтыйскага франтоў. З 1944 г. міністр жыллёва-грамадзянскага будаўніцтва БССР, першы намеснік міністра жыллёва-грамадзянскага будаўніцтва БССР, гарадскога і сельскага будаўніцтва БССР, у 1958—59 гг. намеснік міністра будаўніцтва БССР. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1932—34 гг., 1954—60 гг., член ЦК КПБ у 1929—30 гг., 1934—38 гг., 1952—54 гг., член Рэвізійнай камісіі КП(б)Б у 1949—52 гг. Член ЦВК БССР у 1931—35 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—59 гг. Памёр І. І. Рыжыкаў 19.12.1979 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла. *В. М. Удальцоў.*

**653. МАГІЛА РЫЛЬКО** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік А. (Аляксей Іванавіч) Рылько нарадзіўся 27.3.1923 г. у в. Рыдамля Талачынскага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1949 г. У 1951 г. скончыў БДУ. Працаваў настаўнікам (1939—41 гг., 1944—46 гг.). У Вялікую Айчынную вайну са жніўня 1942 г. у партызанах. З 1952 г. загадчык аддзела рэдакцыі часопіса «Вожык», у 1952—67 гг. літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў БССР. Друкаваўся з 1946 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Мае сустрэчы» (1952 г.), апавяданняў і аднаактовых камедый «Цвіце чаромха» (1957 г.), гумарыстычных апавяданняў «Стуканок у аблавушцы» (1959 г.), апавяданняў і нарысаў «Ты прыгожая, Арынка» (1960 г.). Напісаў аповесць для дзяцей «Мядовыя краскі» (1959 г.), аднаактовую п'есу «Гром з яснага неба» (1953 г.). У 1958 г. выдадзена кніга аднаактовых камедый і сцэнак «Колькі вяровачку ні віць...», у 1969 г.— «Выбранае», у 1984 г.— зборнік апавяданняў «Напрадвесні». Памёр А. І. Рылько 16.4.1967 г.

У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

**654. МАГІЛА САВЕЦКАГА ЛЁТЧЫКА** (гіст.).

Савецкі лётчык загінуў у 1941 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1964 на магіле пастаўлена пліта.

**655. МАГІЛА САМБУКА** Івана Елісеевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. Е. Самбук нарадзіўся 28.7.1919 г. у в. Рог Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У1945 г. скончыў Томскае артылерыйскае вучылішча, у 1956 г. Харкаўскую ваен. інж. радыётэхнічную акадэмію імя Л. А. Говарава. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну са жніўня 1941 г. на Паўднёвым, Заходнім, Бранскім, Цэнтральным, 1-м Украінскім франтах. Камандзір агнявога ўзвода артылерыйскага палка гвардыі старшы сяржант І. Е. Самбук вызначыўся ў баях на Курскай дузе і пры фарсіраванні Дзясны, Дняпра і Прыпяці летам 1943 г. Узвод пад яго камандаваннем трое сутак адбіваў атакі пяхоты і танкаў праціўніка ў час Курскай бітвы, гарматным агнём па ворагу садзейнічаў пераправе цераз водныя рубяжы і паспяховаму наступленню палка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.10.1943 г. Гаўбіца, разлікам якой ён камандаваў, экспануецца ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Да 1960 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік-інжынер, потым працаваў выкладчыкам у Мінскім радыётэхнікуме. Памёр І. Е. Самбук 27.5.1979 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**656. МАГІЛА САННІКАВА** Канстанціна Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі рэжысёр, акцёр і педагог, народны артыст БССР (1949 г.), прафесар (1960 г.) К. М. Саннікаў нарадзіўся 18.5.1896 г. у г. Рагачоў Гомельскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1941 г. Скончыў у 1926 г. беларускую драматычную студыю ў Маскве. З 1919 г. працаваў як акцёр у розных тэатральных трупах Рагачова, Мінска, з 1918 г. у Першым беларускім таварыстве драмы і камедыі. З 1920 г. у БДТ-1 (тэатр імя Я. Купалы), з 1926 г. акцёр і рэжысёр БДТ-2 (тэатр імя Я. Коласа), у 1931—37 гг. мастацкі кіраўнік Беларускага 3-га дзяржаўнага тэатра, у 1937—61 гг. у тэатры імя Я. Купалы (у 1948—52 гг. яго галоўны рэжысёр, у 1942—44 гг. рэжысёр франтавых тэатральных брыгад). З 1947 г. адначасова выкладчык Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, кіраўнік курса акцёрскага майстэрства і загадчык кафедры рэжысуры.

Спектаклям К. М. Саннікава ўласцівы выразнасць грамадзянскай пазіцыі, адчуванне сучаснасці, тонкае разуменне беларускага народнага побыту, гумару, характару, пластычная мяккасць, рамантычная афарбоўка, выразнасць сцэнічнага моманту. Шмат увагі аддаваў рабоце з акцёрамі, імкнуўся паўней раскрыць яго індывідуальнасць. Дапамагаў станаўленню і фарміраванню драматургаў Э. Самуйлёнка, К. Крапівы, А. Маўзона, К. Губарэвіча, А. Макаёнка. Найбольш значныя спектаклі: «Маёмасць» паводле аповесці Г. Караваевай (1929 г.), «Мой сябар» М. Пагодзіна (1932 г.), «Сяржант Дроб» і «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка (1935 г., 1939 г.), «Каварства і каханне» Ф. Шылера (1937 г.), «Партызаны» К. Крапівы (1938 г., з Л. Рахленкам), «Машачка» А. Афінагенава і «Хлопец з нашага горада» К. Сіманава (1941 г.), «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона (1947 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1948 г.), «З народам» (1948 г.), «Пяюць жаваранкі» (1950 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1952 г.) і «Людзі і д'яблы» (1958 г.) К. Крапі-

вы, «Цытадэль славы» і «На крутым павароце» К. Губарэвіча (1950 г., 1956 г.), «Сям'я» І. Папова (1950 г.), «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча і «Выбачайце, калі ласка» А. Макаёнка (1954 г.), «Зыкавы» М. Горкага (1955 г.), «Вечная крыніца» Дз. Зорына (1957 г.), «Смерць ваяводы» Ю. Славацкага (1959 г.), «Любоў, Надзея, Вера» П. Васілеўскага (1961 г.) і інш. Як акцёр выконваў драматычныя і гераічныя ролі: Аляксей («Рысь» паводле аповесці Э. Ажэшка «У зімовы вечар»), Васька Пепел («На дне» М. Горкага), Максіміліян («Цар Максіміліян», народная драма), Аберон («Сон у летнюю ноч» У. Шэкспіра), Гадун («Разлом» Б. Лаўранёва), князь Капуста («Кацярына Жарнасек» М. Клімковіча) і інш. Памёр К. М. Саннікаў 12.7.1965 г.

У 1966 г. на магіле пастаўлены бюст.

*Літ.:* Сушко П. К. М. Саннікаў.— У кн.: Мастацтва Савецкай Беларусі. Мн., 1955; Есакоў А. У барацьбе за жыццесцвярджальнае мастацтва.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960; Кандрашына К. Канстанцін Саннікаў: Крытыка-біяграфічны нарыс.— Мн., 1981; Няфёд У. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982. *Ю. М. Сохар.*

**657. МАГІЛА САХНЕНКІ** Міхаіла Сідаравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. С. Сахненка нарадзіўся ў 1919 г. у г. Курганінск Краснадарскага краю ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну са жніўня 1941 г. на фронце, удзельнік вызвалення Украіны, Малдавіі, штурма Берліна, фарсіравання рэк Паўночны Данец, Інгулец, Паўднёвы Буг, Дняпро, Днестр, Паўночны Буг, Вісла. Камандзір стралковага ўзвода, гвардыі старшы сяржант М. С. Сахненка вызначыўся ў сакавіку 1944 г. пры вызваленні Днепрапятроўскай вобл. Узвод пад яго камандаваннем пад моцным агнём праціўніка першы пераправіўся цераз р. Інгулец, захапіў плацдарм на правым беразе ракі, авалодаў некалькімі населенымі пунктамі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.6.1944 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, падпалкоўнік. Памёр М. С. Сахненка ў 1970 г.

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**658. МАГІЛА СЕЛІХАНАВА** Сяргея Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі скульптар, народны мастак БССР (1963 г.) С. І. Селіханаў нарадзіўся 23.2.1917 г. у Ленінградзе ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. Дзяцінства прайшло ў Оршы. У 1937 г. скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1940 г. удзельнічаў у мастацкіх выстаўках. Працаваў у манументальнай і станковай скульптуры. У 1950 г. удзельнічаў у афармленні беларускага павільёна на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ў Маскве. Аўтар манументальнага партрэта рускага вучонага-фізіка А. Сталетава для Маскоўскага універсітэта (1952 г.), гарэльефнай кампазіцыі «Савецкая Армія ў гады Вялікай Айчыннай вайны» для Манумента Перамогі ў Мінску (1954 г.), помнікаў Герою Савецкага Саюза К. С. Заслонаву на пероне вакзала чыгуначнай станцыі Орша (1955 г., архіт. Г. Сысоеў), Герою Савецкага Саюза піянеру Марату Казею ў Мінску (1958 г., архіт. В. Волчак), братам-партызанам І. і М. Цубам у Салігорскім р-не Мінскай вобл. (1961 г., архіт. В. Занковіч, Л. Левін), скульптурнай кампазіцыі для мемарыяльнага комплексу Хатынь (1969 г., Ленінская прэмія 1970 г.), мемарыяльнага комплексу ў в. Старыца Капыльскага р-на Мінскай вобл. (1975 г.).

Сярод тэматычных кампазіцый найбольш цікавыя станковыя работы: «Вызваленне» (1948 г.), «Газетчык «Юманітэ» (1956 г.), «Кантонскі лодачнік» (1957 г.), «Абаронім дзяцей» (1957 г.), «Абаронцы Брэсцкай крэпасці» (1965 г.), «Аголеная» (1972 г.), «Лён» (1974 г.), «Рэйкавая вайна» (1975 г.). Стварыў скульптурныя партрэты рускага пісьменніка М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1952 г.), старых бальшавікоў Ф. В. Сімончыка, І. І. Яворскага, Я. А. Чарнухіна (1955 г.), народных артыстаў СССР Г. І. Цітовіча (1956 г.), У. І. Уладамірскага (1976 г.), мастака А. П. Мазалёва (1956 г.), героя Грамадзянскай вайны Яна Фабрыцыуса (1959 г.), народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы (1959 г.) і Якуба Коласа (1967 г.), К. Маркса (1964 г. і 1971 г.), Герояў Савецкага Саюза І. Д. Чарняхоўскага (1959 г.), Р. Н. Мачульскага (1970 г.), А. Ф. Данукалава (1975 г.), У. Е. Лабанка (1976 г.). У 1956 г. выканаў серыю партрэтаў работніц Мінскага камвольнага камбіната, у 1960—70 гг. перадавікоў вытворчасці і сельскай гаспадаркі. У пасляваенны час неаднаразова звяртаўся да ўвасаблення ў скульптуры вобраза У. І. Леніна: партрэты (1955, 1958, 1974—76 гг.), помнік у Століне (1980 г., з В. Палійчуком, архіт. Ю. Казакоў). Памёр С. І. Селіханаў 28.9.1976 г.

На магіле пастаўлены помнік.

*Літ.:* Кавалёў А. Ф. Сяргей Селіханаў.— Мн., 1978. *Г. М. Ярмоленка.*

**659. МАГІЛА СЕМЕНЮКА** Івана Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. І. Семянюк нарадзіўся 2.2.1917 г. у Мінску ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. У 1940 г. скончыў Батайскую ваенную школу лётчыкаў. Працаваў на чыгунцы. У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Камандзір звяна, эс-



656. *Помнік на магіле К. М. Саннікава.*



658. *Помнік на магіле С. І. Селіханава.*

кадрыллі знішчальнага авіяцыйнага палка гвардыі капітан І. І. Семянюк зрабіў 430 баявых вылетаў, удзельнічаў у 125 паветраных баях, асабіста збіў 19 самалётаў праціўніка і 8 у складзе групы. Вызначыўся 2.6.1943 г. у паветраным баі пад Курскам. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.7.1944 г. Да 1961 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр І. І. Семянюк 26.4.1973 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**660. МАГІЛА СЕРБЕНТЫ** Віталя Андрэевіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык і філосаф, акадэмік АН БССР (1931 г.), доктар гістарычных навук (1934 г.), прафесар (1930 г.) В. А. Сербента нарадзіўся 2.6.1895 г. у в. Люкяй Вілкавішскага р-на Літоўскай ССР у сям'і настаўніка. Член КПСС з 1920 г. Прымаў удзел у рэвалюцыйным руху, быў рэдактарам падпольных і легальных выданняў у Літве, Маскве, Варонежы і Харкаве (1909—17 гг.). У лютым 1917 г. выбраны ў Харкаўскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У 1920 г. скончыў гісторыка-філалагічны, у 1922 г.— медыцынскі факультэты Харкаўскага універсітэта, у 1924 г.— Інстытут чырвонай прафесуры. З 1920 г. загадчык аддзела Харкаўскага губернскага камітэта КП(б)У, сакратар Цэнтральнага бюро Літоўскіх секцый пры ЦК КП(б)У, рэдактар літоўскай газеты «Darbininćų balsas» («Голас рабочага»), часопіса «Raudonóju dirva» («Чырвоная ніва»), газет «Красные резервы», «Красноармейская страница», «Коммунист» [орган КП(б)У]. У 1922—23 гг. на выкладчыцкай рабоце ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду. З 1924 г. загадчык Віцебскай губсаўпартшколы, дацэнт, прафесар БДУ і Камуністычнага універсітэта Беларусі імя У. І. Леніна, у 1925—27 гг. намеснік загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б, у 1929—32 гг. дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б, у 1932—37 гг. загадчык сектара Інстытута гісторыі АН БССР. Член Прэзідыума АН БССР у 1931—37 гг. З 1957 г. загадчык сектара, з 1967 г. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР.

В. А. Сербента вывучаў пытанні гісторыі партыі, філасофскай і сацыялагічнай думкі на Беларусі і ў Літве. Адзін з рэдактараў перакладу на беларускую мову Збору твораў У. І. Леніна ў 12 тамах (1929—33 гг., т. 1—5, 9). Старшыня Таварыства гісторыкаў-марксістаў Беларусі (1926—34 гг.). Памёр В. А. Сербента 26.10.1980 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; Савасцюк А. І. В. А. Сербента.— Весці АН БССР.— Серыя грамадскіх навук, 1970, № 4. *Г. І. Дулеба.*

**661. МАГІЛА СЕРБІНЕНКІ** Мікалая Іларыёнавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. І. Сербіненка нарадзіўся 7.11.1922 г. на хутары Саўчанскі Блізнюкоўскага р-на Харкаўскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1940 г. скончыў Славянскі аэраклуб, у 1941 г.— Варашылаўградскую авіяцыйную школу. У 1952—55 гг. вучыўся ў Ваенна-паветранай акадэміі. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Паўночна-Заходнім, Бранскім, 1-м і 2-м Прыбалтыйскіх, 3-м Украінскім франтах. Камандзір звяна, намеснік камандзіра эскадрыллі старшы лейтэнант М. І. Сербіненка зрабіў 180 начных вылетаў. У лютым 1944 г. бамбіў аб'екты праціўніка ў г. Полацку. Прымаў удзел у Яска-Кішынёўскай аперацыі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 18.8.1945 г. Да 1961 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. З 1961 г. інжынер-наладчык Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі. Памёр М. І. Сербіненка 9.3. 1981 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла. *М. В. Батвіннік.*

**662. МАГІЛА СЕЎЧАНКІ** Антона Нікіфаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі фізік, акадэмік АН БССР (1953 г.), доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар (1953 г.), Герой Сацыялістычнай Працы (1971 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1967 г.) А. Н. Сеўчанка нарадзіўся 9.2.1903 г. у в. Дзяніскавічы Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. У 1926 г. скончыў педагагічны тэхнікум, у 1932 г.— Беларускі дзяржаўны універсітэт, у 1934 г.— аспірантуру пры Фізіка-матэматычным інстытуце АН СССР у Ленінградзе. У 1934—53 гг. старшы навуковы супрацоўнік, намеснік начальніка, в. а. начальніка лабараторыі Дзяржаўнага аптычнага інстытута ў Ленінградзе. У 1953—55 гг. загадчык сектара фізікі і матэматыкі Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР, у 1955—57 гг. дырэктар Інстытута фізікі і матэматыкі, адначасова ў 1955—71 гг. загадчык лабараторыі люмінесцэнцыі Інстытута фізікі АН БССР. З 1953 г. загадчык кафедры фізічнай оптыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1957—72 гг. рэктар БДУ імя У. І. Леніна. З 1972 г. дырэктар арганізаванага ім навукова-даследчага Інстытута прыкладных фізічных праблем пры БДУ. У 1957—73 гг. член Прэзідыума АН БССР. Навуковыя працы А. Н. Сеўчанкі па спектраскапіі уранілавых злучэнняў, люмінесцэнцыі рэдкіх зямель, спектраскапіі і фотахіміі парфірынаў і біялагічна актыўных злучэнняў. Выявіў палярызацыю флуарэсцэнцыі уранілавых злучэнняў, расшыфраваў складаную структуру іх спектраў, выявіў заканамернасць затухання люмінесцэнцыі раствораў рэдкіх зямель, вывучаў міграцыю энергіі ў комплексах анізатроннага вымушанага выпрамянення раствораў арганічных злучэнняў. Член Рэвізійнай камісіі КПБ у 1960—61 гг., член ЦК КПБ у 1961—78 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1958—62 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1955—59 гг., 1963—75 гг. Памёр А. Н. Сеўчанка 26.9.1978 г. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка, яго імя прысвоена Навукова-даследчаму інстытуту прыкладных фізічных праблем пры БДУ.

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* А. Н. Севченко.— Успехи физических наук, т. 109, в. 2; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Т. Р. Чуракова.*

**663. МАГІЛА СІДАРАВА** Аляксандра Васілевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. В. Сідараў нарадзіўся 27.9.1910 г. у г. Сырдар'я Узбекскай ССР. З рабочых. Член КПСС з 1939 г. У 1955 г. скончыў Ваенна-палітычную акадэмію імя У. І. Леніна. У Чырвонай Арміі з 1932 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Намеснік камандзіра палка па палітчастцы падпалкоўнік А. В. Сідараў вызначыўся ў баях за вызваленне Лоеўскага р-на Гомельскай вобл. 15.10.1943 г. дэсантны батальён на чале з ім пераправіўся цераз Дняпро, у рукапашным баі авалодаў траншэямі праціўніка, на захопленым плацдарме адбіў 3 контратакі, знішчыў каля 300 гітлераўцаў, захапіў 9 станковых і 11 ручных кулямётаў. Паранены, А. В. Сідараў не пакінуў поля бою. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі. Памёр А. В. Сідараў 27.6.1968 г.

У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**664. МАГІЛА СІКОРСКАГА** Усевалада Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, член-карэспандэнт АН БССР (1972 г.), доктар філасофскіх навук, прафесар (1967 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1971 г.) У. М. Сікорскі нарадзіўся 10.10.1923 г. у в. Хутар Чэрвеньскага р-на Мінскай вобл. у сям'і настаўніка. Член КПСС з 1945 г. У 1948 г. скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Б, у 1949 г.— БДУ імя У. І. Леніна. У Вялікую Айчынную вайну адзін з арганізатараў партызанскага атрада імя К. Я. Варашылава, намеснік камісара партызанскай брыгады «Чырвоны Сцяг», якая дзейнічала на тэрыторыі Мінскай і Магілёўскай абласцей. З 1944 г. старшы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, потым працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда». У 1948—50 гг. карэспандэнт газеты «Правда» па БССР. У 1953—72 гг. выкладчык, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі КПСС, у 1972—78 гг.

рэктар БДУ імя У. І. Леніна. Працы па гісторыі КПСС, тэорыі і практыцы камуністычнага будаўніцтва, праблемах міжнароднага рабочага і камуністычнага руху, барацьбы КПСС супраць рэвізіянізму і рэфармізму. Кіраўнік аўтарскага калектыву і галоўны рэдактар «Курса лекцый па гісторыі КПСС» (ч. 1—2, 1971 г.). Апублікаваны працы: «Барацьба бальшавікоў на чале з У. І. Леніным за чысціню марксісцкай тэорыі ў гады рэакцыі (1907—1910 гг.)» (1957 г.), «Рэвізіянізм — галоўная небяспека ў радах міжнароднага камуністычнага руху на сучасным этапе» (1958 г.), «Сацыялістычная дзяржава і сучасны рэвізіянізм» (1961 г.), «КПСС на этапе развітога сацыялізма» (1975 г.), «Партыя класа, партыя народа» (1980 г.) і інш. Член ЦК КПБ у 1976—71 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1975—80 гг. Памёр У. М. Сікорскі 22.12.1981 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Г. М. Новікава.*

**665. МАГІЛА СІМОНЧЫКА** Фёдара Васілевіча (гіст.).

Прафесійны рэвалюцыянер, удзельнік трох рэвалюцый Ф. В. Сімончык нарадзіўся 15.2.1885 г. у в. Плесавіцкая Слабодка Жлобінскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1904 г. Адзін з заснавальнікаў Бабруйскай арганізацыі РСДРП у 1904 г. Вёў палітычную агітацыю сярод рабочых, рамеснікаў, сялян і салдат. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў рэвалюцыйных выступленняў рабочых Бабруйска, забастовак батракоў навакольных маёнткаў у перыяд Рэвалюцыі 1905—07 гг., уцёкаў (1905 г.) з турэмнага лазарэта асуджаных на пакаранне смерцю 10 удзельнікаў паўстання Бабруйскага батальёна. З вясны 1906 г. у Мінску, член камітэтаў Мінскай арганізацыі РСДРП, Мінскай акруговай сялянскай арганізацыі пры РСДРП. Арганізатар выступленняў сялян Навагрудскага і Слуцкага паветаў у 1905 і 1906 гадах. З 1909 г. у арміі, удзельнік 1-й сусветнай вайны. За рэвалюцыйную дзейнасць 4 разы зняволены, быў у турмах і ссылках. Пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1917 г. быў выбраны членам салдацкага камітэта палка, потым дывізіі 6-й арміі. Удзельнік устанаўлення Савецкай улады на Бабруйшчыне і арганізацыі камуністычнага падполля ў час акупацыі 1918 г. германскімі войскамі. З 1919 г. у Смаленскай губ., з 1920 г. старшыня Парыцкага валвыканкома, з 1923 г. загадчык аддзела ў Бабруйскім акруговым выканкоме, пазней супрацоўнік Наркамата сацыяльнага забеспячэння БССР. Аўтар кнігі ўспамінаў «У агні трох рэвалюцый» (1964 г.). Памёр Ф. В. Сімончык 9.4.1966 г. У Бабруйскім краязнаўчым музеі матэрыялы аб рэвалюцыйнай дзейнасці Ф. В. Сімончыка, бюст (скульптар С. Селіханаў).

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**666. МАГІЛА СІЎЦОВА** Івана Кузьміча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік І. К. Сіўцоў нарадзіўся 27.12.1922 г. у в. Бакунавічы Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1948 г. скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Б. У 1948—50 гг. працаваў у Магілёўскім абкоме партыі. З 1950 г. у Мінску. Працаваў у рэдакцыях часопісаў «Бярозка» (1950—52 гг.), «Беларусь» (з 1952 г.). Аўтар кніжкі для дзяцей «Самыя юныя» (1949 г.), рамана пра Вялікую Айчынную вайну «Нягоды і радасці» (1960 г.). Памёр І. К. Сіўцоў 9.11.1959 г.

У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**667. МАГІЛА СКАЧКОВА** Канстанціна Мікалаевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза К. М. Скачкоў нарадзіўся 4.11.1922 г. у г. Сычоўка Смаленскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У 1956 г. скончыў Ваенную артылерыйскую камандную акадэмію. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1942 г. на фронце. Камандзір батарэі знішчальнага процітанкавага артылерыйскага палка асобнай знішчальнай процітанкавай артылерыйскай брыгады капітан К. М. Скачкоў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў верасні — кастрычніку 1943 г. 28.9. 1943 г. батарэя на чале з ім першая фарсіравала Дняпро. У жорсткіх баях за плацдарм на правым беразе ракі з 28.9 да 9.10.1943 г. знішчыла 6 танкаў праціўніка і каля 200 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1943 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны служыў у Савецкай Арміі. Памёр К. М. Скачкоў 21.2.1966.

У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**668. МАГІЛА СМОЛЬСКАГА** Мікалая Уладзіслававіча (гіст.).

Беларускі савецкі батанік, акадэмік АН БССР (1969 г., член-карэспандэнт з 1956 г.), акадэмік АН Таджыкскай ССР (1951 г.), доктар біялагічных навук (1967 г.), прафесар (1969 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1972 г.) М. У. Смольскі нарадзіўся 24.9.1905 г. у г. Нароўля Гомельскай вобл. у сям'і служачага. Член КПСС з 1943 г. У 1927 г. скончыў у Омску Сібірскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства. У 1931—33 гг. працаваў ва Усесаюзным інстытуце раслінаводства ў Ленінградзе, у 1933—41 гг. намеснік дырэктара па навуковай частцы і загадчык аддзела тэхнічных культур Усесаюзнай селекцыйнай станцыі вільгацесубтрапічных культур у г. Сухумі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1945—55 гг. дырэктар Усесаюзнага НДІ сухіх субтропікаў. З 1955 г. дырэктар Цэнтральнага батанічнага саду АН БССР. Асноўныя працы прысвечаны інтрадукцыі і селекцыі раслін. Вывучаў перспектыўныя для Беларусі тэхнічныя, кармавыя і арнаментальныя культуры, шляхі і метады рацыянальнага выкарыстання і аднаўлення прыродных багаццяў, праблемы арганізацыі ў БССР рацыянальнай сеткі дзяржаўных запаведнікаў, заказнікаў і помнікаў прыроды. Дзяржаўная прэмія БССР 1978 г. Памёр М. У. Смольскі 29.4.1976 г. У 1977 г. на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.



**668.** *Помнік на магіле М. У. Смольскага.*




**669.** *Помнік на магіле М. В. Страйкова.*

У 1979 г. на магіле пастаўлены помнік — кампазіцыя з дзвюх гранітных глыб, паміж якімі выявы рук з ружай.

Літ.: Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; Весці АН БССР. Сер. біялагічных навук. 1975, № 4.
*М. Б. Батвіннік.*

**669. МАГІЛА СТРАЙКОВА** Мікалая Васілевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. В. Страйкоў нарадзіўся 21.12.1921 г. у с. Тырнова Шылаўскага р-на Разанскай вобл. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Працаваў на заводзе. Скончыў аэраклуб у Разані (1938 г.), Адэскую ваенную авіяцыйную школу пілотаў (1942 г.). У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на Варонежскім, 2-м і 1-м Украінскіх франтах. Камандзір эскадрыллі знішчальнага авіяпалка гвардыі старшы лейтэнант М. В. Страйкоў зрабіў 245 баявых вылетаў, правёў 66 паветраных баёў, у якіх асабіста збіў 18 самалётаў праціўніка. Удзельнік вызвалення Украіны, Малдавіі, баёў на тэрыторыі Германіі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1945 г. Да 1959 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр М. В. Страйкоў 13.1. 1964 г.

У 1967 г. на магіле пастаўлены бюст.
*Г. І. Дулеба.*

**670. МАГІЛА СУРГАНАВА** Фёдара Анісімавіча (гіст., маст.).

Савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольскага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну Ф. А. Сурганаў нарадзіўся 25.5.1911 г. у в. Суднікі Віцебскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. У 1939 г. скончыў Беларускі сельскагаспадарчы інстытут. З 1939 г. сакратар Горацкага РК ЛКСМБ, 1-ы сакратар Магілёўскага абкома ЛКСМБ, з лістапада 1941 г. сакратар Свярдлоўскага гаркома ВЛКСМ, у 1942—45 гг. сакратар ЦК ЛКСМБ. У 1942—43 гг. на Калінінскім фронце ў складзе аператыўнай групы ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху, у жніўні 1943 — ліпені 1944 гг. у тыле ворага, упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і БШПР. З 1945 г. намеснік загадчыка аддзела ЦК КП(б)Б, у 1947—54 гг. другі сакратар Мінскага абкома КПБ, у 1954 г. старшыня Мінскага аблвыканкома. У 1955—56 гг. першы сакратар Мінскага абкома КПБ. З 1956 г. сакратар, з 1959 г. другі сакратар ЦК КПБ, у 1962—65 гг. старшыня Бюро ЦК КПБ па кіраўніцтву сельскай гаспадаркай, сакратар ЦК КПБ, з сакавіка 1965 г. другі сакратар ЦК КПБ, з ліпеня 1971 г. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, намеснік Старшыні Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР у 1962—66 гг., старшыня Камісіі па сельскай гаспадарцы Савета Саюза Вярхоўнага Савета СССР у 1966—70 гг., старшыня камісіі па гандлю, бытавому абслугоўванню і камунальнай гаспадарцы Савета Саюза Вярхоўнага Савета СССР у 1970 — лістападзе 1971 г., намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у 1955—71 гг. Кандыдат у члены ЦК КПСС у 1956—61 гг., член ЦК КПСС з 1961 г., кандыдат у члены ЦК КПБ у 1949—56 гг., член ЦК КПБ з 1956 г., член Бюро ЦК КПБ з 1956 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР з 1954 г., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1951 г. Памёр Ф. А. Сурганаў 26.12.1976 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка, яго імя прысвоена Лужаснянскаму сельскагаспадарчаму тэхнікуму. У 1981 г. на будынку Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.



670. *Помнік на магіле Ф. А. Сурганава.*

У 1978 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. А. Анікейчык, архіт. Л. Левін, Ю. Градаў; граніт, бронза; вышыня бюста 1 м). Уяўляе сабой асіметрычную архітэктурна-скульптурную кампазіцыю, устаноўленую на ступеньчатым подыуме, абрамленым з 2 бакоў аб'ёмамі рознай канфігурацыі. У цэнтральнай частцы аднаго з аб'ёмаў размешчаны бюст Ф. А. Сурганава. У скульптурным партрэце раскрыта сутнасць характару — дзяржаўнага дзеяча, грамадзяніна, патрыёта. Спалучэнне дакладнай дэталёвай мадэліроўкі скульптурных форм і строгага лаканізму архітэктурных аб'ёмаў стварае манументальны характар помніка.
*Г. М. Ярмоленка.*

**671. МАГІЛА СЯДЫХ** Васіля Якаўлевіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, рэвалюцыянер В. Я. Сядых нарадзіўся 28.2.1887 г. у Курску ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1905 г. У 1950 г. скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б). Удзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гг., член Курскага гарадскога камітэта РСДРП. За рэвалюцыйную дзейнасць няраз быў арыштаваны і сасланы. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1919—21 гг. у Чырвонай Арміі. З 1921 г. на партыйнай, савецкай, прафсаюзнай рабоце ў Курску, Мічурынску, Варонежы, Маскве. З 1937 г. старшыня выканкома Полацкага акруговага Савета дэпутатаў працоўных, сакратар Партыйнай калегіі пры ўпаўнаважаным Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК ВКП(б) па БССР, старшыня Вярхоўнага суда БССР, Вярхоўнага суда Узбекскай ССР (1941—42 гг.), з 1943 г. загадчык сектара апеляцый аргаддзела ЦК КП(б)Б. У 1944—59 гг. член парткалегіі, Парткамісіі пры ЦК КПБ. Старшыня Рэвізійнай камісіі КПБ у 1938—63 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1937—46 гг., Вярхоўнага Савета БССР з 1947 г. Памёр В. Я. Сядых 4.6.1963 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.
*А. Г. Шчарбатаў.*

**672. МАГІЛА ТАЛКАЧОВА** Сямёна Львовіча (гіст.).

Беларускі савецкі піяніст, народны артыст БССР (1964 г.) С. Л. Талкачоў нарадзіўся 16.5.1907 г. у г. Бабруйску. У 1930 г. скончыў Маскоўскую кансерваторыю. З 1938 г. канцэртмайстар, з 1943 г. галоўны канцэртмайстар Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. У Вялікую Айчынную вайну прымаў удзел у выступленнях канцэртных франтавых брыгад. У 1957—67 гг. адначасова з работай у тэатры выкладаў у Беларускай кансерваторыі. Дасканалае валоданне інструментам, веданне прыроды чалавечага голасу спрыялі паляпшэнню музычнай культуры спектакляў, у падрыхтоўцы якіх удзельнічаў. Вёў канцэртную дзейнасць з спевакамі Л. Александроўскай, М. Ворвулевым, Р. Млодак, З. Бабіем, зрабіў шмат запісаў на радыё. Памёр С. Л. Талкачоў 7.8.1970 г.

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.
*В. М. Удальцоў.*

**673. МАГІЛА ТАМІНА** Міхаіла Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі батанік, акадэмік АН БССР (1956 г., член-карэспандэнт з 1940 г.), доктар біялагічных навук (1937 г.), прафесар (1929 г.) М. П. Тамін нарадзіўся 24.7.1883 г. у в. Шаровічы Жыздрынскага р-на Калужскай вобл. у сям'і служачага. У 1906 г. скончыў Маскоўскую земляробчую школу, у 1912 г. Маскоўскі сельскагаспадарчы інстытут, працаваў у ім асістэнтам пры кафедры батанікі. У 1912—34 гг. у Варонежскім сельскагаспадарчым, Архангельскім лесатэхнічным, Арэнбургскім буйной мясной жывёлагадоўлі і ветэрынарыі інстытутах. У 1934—41 гг. і 1944—50 гг. працаваў у Цэнтральным батанічным садзе АН БССР, адначасова прафесар БДУ,

у 1950—61 гг. загадчык аддзела флоры і гербарыя Інстытута біялогіі АН БССР. Навуковыя працы па ліхеналогіі, батанічнай геаграфіі, сістэматыцы ніжэйшых раслін. Апісаў 32 віды, 4 разнавіднасці і 12 форм невядомых раней лішайнікаў. У яго гонар названы 4 віды лішайнікаў. Рэдактар і сааўтар выдання «Флора БССР» (т. 1—5, 1949—59 гг.). Памёр М. П. Тамін 31.5.1967 г.

У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Горбач Н. В. Памяти Михаила Петровича Томина (к 85-летию со дня рождения).— Ботаника, 1969, в. 11.
*В. М. Баскова.*

**674. МАГІЛА ТКАЧОВА** Міколы (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік М. (Мікалай Гаўрылавіч) Ткачоў нарадзіўся 8.3.1918 г. у в. Горанка Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1950 г. У 1939 г. скончыў планава-эканамічны факультэт Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1943 г. у рэдакцыі магілёўскай абласной газеты «За Радзіму», з 1949 г. у часопісе «Полымя». У 1957—59 гг. галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва», у 1959—72 гг. сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. З 1972 г. дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Друкаваўся з 1938 г. Аўтар рамана «Згуртаванасць» (1949—50 гг.), зборнікаў «Пошукі скарбаў» (1963 г.), «Дыханне агню» (1978 г.). Героі яго твораў — адважныя воіны, верныя свайму абавязку, Радзіме, адданыя справе працаўнікі. Памёр М. Г. Ткачоў 20.4. 1979 г. Яго імя прысвоена цэнтральнай бібліятэцы ў г. п. Краснаполле.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.
*Л. І. Шэйко.*

**675. МАГІЛА ТРУСЕВІЧА** Барыса Іпалітавіча (гіст.).

Беларускі савецкі тэрапеўт, акадэмік АН БССР (1956 г., член-карэспандэнт з 1953 г.), доктар медыцынскіх навук (1943 г.), прафесар (1934 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1948 г.) Б. І. Трусевіч нарадзіўся 24.7.1892 г. у г. Віцебску ў сям'і служачага. У 1916 г. скончыў медыцынскі факультэт Кіеўскага універсітэта. З 1928 г. працаваў на медыцынскім факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта, з 1930 г. у Мінскім медыцынскім інстытуце. У 1934—41 гг. загадчык 2-й тэрапеўтычнай клінікі г. Мінска. У 1941—43 гг. прафесар медыцынскіх інстытутаў у Самаркандзе, Душанбе. У 1943—61 гг. загадчык кафедры факультатыўнай тэрапіі Мінскага медыцынскага інстытута, адначасова прафесар і загадчык кафедры тэрапіі Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў. Працы Б. І. Трусевіча прысвечаны фізічным метадам дыягностыкі, клінічным і эксперыментальным даследаванням унутранай паталогіі і інфекцыйных захворванняў. Распрацаваў методыку пальпацыі малой крывізны страўніка, падстраўнікавай залозы, новую мадыфікацыю пальпацыі нырак, прапанаваў бесперапынную перкусію грудной клеткі, методыку выяўлення дыясталічнага шуму пры недастатковасці клапанаў аорты ў так званай шостай кропцы, іншыя прыёмы, што ўзбагачаюць дыягностыку ўнутраных і інфекцыйных захворванняў. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—59 гг. Памёр Б. І. Трусевіч 14.11.1961 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.
*Т. Р. Чуракова.*

**676. МАГІЛА УЛАДАМІРСКАГА** Уладзіміра Іосіфавіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр, народны артыст СССР (1955 г.), народны артыст БССР (1938 г.) У. І. Уладамірскі (сапраўднае Малейка) нарадзіўся 6.10. 1893 г. у г. Каўнасе ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. Прафесійную сцэнічную дзейнасць пачаў у 1920 г. у Другім паказальным тэатры (Бабруйск). У 1924—59 гг. працаваў у Беларускім тэатры імя Я. Купалы (у 1944 г. узначальваў франтавую тэатральную брыгаду). Прафесійнае станаўленне і фарміраванне творчай індывідуальнасці артыста адбывалася пад уплывам рэжысёра Е. Міровіча. Стварыў высокамастацкія сцэнічныя вобразы ў беларускім рэпертуары: Блазан, Брызгалін («Каваль-ваявода», «Кар'ера таварыша Брызгаліна» Е. Міровіча), Дыбаў («Міжбур'е» Дз. Курдзіна), Цыганок («Гута» Р. Кобеца), Гушка («Бацькаўшчына» К. Чорнага), Даніла Дрыль, Канягін, Гудовіч («Партызаны», «Мілы чалавек», «З народам» К. Крапівы), Абабурка («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), фон Кубэ («Гэта было ў Мінску» А. Кучара). У класічным рэпертуары: Іван Каламійцаў («Апошнія» М. Горкага), Іонас («Фландрыя» В. Сарду), Трыстан («Сабака на сене» Лопэ дэ Вэга), Апалон Мурзавецкі, Юсаў, Гразноў («Ваўкі і авечкі», «Даходнае месца», «Праўда добра, а шчасце лепш» А. Астроўскага), Вурм («Каварства і каханне» Ф. Шылера). Зняўся ў беларускіх фільмах «Хто смяецца апошнім», «Палеская легенда». Памёр У. І. Уладамірскі 24.1.1971 г. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік.

*Літ.:* Няфёд У. І. Народны артыст БССР У. І. Уладамірскі.— Мн., 1954; Есакоў А. Любімы артыст (У. І. Уладамірскі).— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960.
*Т. Я. Гаробчанка.*

**677. МАГІЛА УШАКОВА** Івана Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі тэатральны мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1949 г.) І. М. Ушакоў нарадзіўся 6.1.1910 г. у г. Барысаў у сям'і чыгуначніка. У 1933 г. скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум. Творчы шлях звязаны з Беларускім тэатрам імя Я. Купалы (у 1939—52 гг. галоўны мастак). Стварыў дэкарацыі больш як да 40 спектакляў. Аформіў спектаклі «Слуга двух паноў» К. Гальдоні (1938 г.), «Кацярына Жарнасек» М. Клімковіча (1938 г.), «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка (1939 г.), «Ірынка» К. Чорнага, «Фландрыя» В. Сарду, «Хлопец з нашага горада» К. Сіманава (усе 1941 г.), «Фронт» А. Карнейчука, «Крылатае племя» А. Первенцава, «Душа Масквы» Л. Нікуліна (усе 1942 г.), «Пётр Крымаў» К. Фіна (1943 г.), «Палешукі» і «Таварыш Андрэй» Я. Рамановіча (1944 г.), «Заложнікі» і «Гэта было ў Мінску» А. Кучара (1945, 1949 гг.), «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона (1947 г.), «Цытадэль славы» К. Губарэвіча (1949 г.), «Вішнёвы сад» А. Чэхава (1951 г.), «Зацікаўленая асоба» К. Крапівы (1953 г.), «Выбачайце, калі ласка!» А. Макаёнка (1954 г.) і інш. Працаваў і над афармленнем выстаў, інтэр'ераў, пісаў лірычныя пейзажы. Памёр І. М. Ушакоў 26.8.1966 г.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Іван Міхайлавіч Ушакоў.— Мн., 1959; Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва Савецкай Беларусі.— Мн., 1958.
*Г. М. Ярмоленка.*

**678. МАГІЛА ФАНАРОВА** Івана Пятровіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. П. Фанароў нарадзіўся 29.12.1918 г. у в. Кварса Воткінскага р-на Удмурцкай АССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Удзельнік Сталінградскай бітвы, вызвалення Украіны, Беларусі, Літвы, баёў ва Усходняй Прусіі. Камандзір звяна штурмавога авіяцыйнага палка гвардыі старшы лейтэнант І. П. Фанароў зрабіў 346 баявых вылетаў, знішчыў шмат баявой тэхнікі і жывой сілы праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.6.1945 г. Да 1958 г. служыў у Савецкай Арміі, падпалкоўнік. Памёр І. П. Фанароў 19.9. 1973 г.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*Г. І. Дулеба.*

**679. МАГІЛА ФІЛІМОНАВА** Дзмітрыя Фаміча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР Дз. Ф. Філімонаў нарадзіўся 19.10. 1903 г. у г. Ананьеў Адэскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1929 г. У 1935 г. скончыў Ленінградскі інстытут інжынераў прамысловага будаўніцтва. З 1938 г. першы сакратар Манчагорскага райкома, сакратар, намеснік сакратара Мурманскага абкома,

першы сакратар Петсамскага (цяпер Печангскі) райкома партыі Мурманскай вобл., намеснік сакратара, трэці сакратар Велікалуцкага абкома ВКП(б). У 1948—49 гг. намеснік сакратара ЦК КП(б)Б, у 1949—55 гг. загадчык аддзела ЦК КПБ. У 1955—57 гг. першы сакратар Гомельскага абкома КПБ, з 1957 да 1968 гг. сакратар і член Бюро ЦК КПБ, у 1962—64 гг. старшыня Бюро ЦК КПБ па кіраўніцтву прамысловасцю і будаўніцтвам. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1949—52 гг., член ЦК КПБ у 1952—71 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1958—62 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1955—71 гг. Памёр Дз. Ф. Філімонаў 15.7.1978 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Т. Р. Чуракова.*

**680. МАГІЛА ХРУСТАЛЁВА** Уладзіміра Якаўлевіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец і педагог У. Я. Хрусталёў нарадзіўся 16.6. 1896 г. у Пецярбургу ў сям'і рабочага. Вучыўся ў студыі Б. Кустодзіева, у 1917—19 гг. у пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. У 1926—41 гг. выкладаў у Віцебскім, з 1947 г. у Мінскім мастацкіх вучылішчах. З 1927 г. удзельнічаў у мастацкіх выстаўках. Пісаў пейзажы і жанравыя кампазіцыі, партрэты. У творчасці мастака знайшлі адлюстраванне тэмы будаўніцтва новага жыцця, барацьбы савецкага народа супраць фашызму. Сярод работ: «Від Віцебска» (1927 г.), «Будаўніцтва» (1929 г.), «Прыезд Леніна ў Петраград» (1936 г.), «Канцэрт лесасплаўшчыкаў на Дзвіне» (1940 г.), «Вяртанне партызан з аперацыі» (1946 г.), «У пошуках маці» і «Нацюрморт» (1947 г.), «Пераезд у новы дом» (1948 г.), «Канстанцін Заслонаў» (1950 г.), «Зіма» (1951 г.) і інш. Памёр У. Я. Хрусталёў 19.5.1954 г.

У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. М. Ярмоленка.*

**681. МАГІЛА ХУДАЛЕЕВА** Рыгора Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Р. А. Худалееў нарадзіўся 9.2.1902 г. у в. Ізабеліна Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. У 1930 г. скончыў Аб'яднаную беларускую ваенную школу імя ЦВК БССР. Да 1924 г. працаваў у сельскай гаспадарцы. З 1924 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Начальнік штаба артылерыйскага палка, камандзір артылерыі стралковай дывізіі. Удзельнічаў у абаронных баях каля Нясвіжа, Слуцка, Крычава, Клімавіч, на Бярэзіне, Друці, у бітве пад Масквой, вызваленні Беларусі, Літвы, Латвіі, Польшчы. Вызначыўся на тэрыторыі Віцебскай вобл. 24.6.1944 г. артылерысты дывізіі пад камандаваннем палкоўніка Р. А. Худалеева прарвалі глыбока эшаланіраваную абарону ворага, пераправіліся пад моцным агнём праціўніка цераз Заходнюю Дзвіну ў Сіроцінскім р-не, падавілі агнявыя кропкі праціўніка, вызвалялі многія населеныя пункты Віцебскай вобл., у т. л. Бешанковічы, Докшыцы, Лепель. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Пасля вайны жыў у Мінску. Памёр Р. А. Худалееў 4.7.1964 г.

У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Герои Советского Союза — могилевчане.— Мн., 1965; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**682. МАГІЛА ЦІКОЦКАГА** Яўгена Карлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі кампазітар, народны артыст СССР (1955 г.), народны артыст БССР (1953 г.) Я. К. Цікоцкі нарадзіўся 14.12.1893 г. у Пецярбургу ў сям'і марака. Член КПСС з 1948 г. У 1911 г. скончыў рэальнае вучылішча. Вучыўся (1914 г.) у прыватным музычным вучылішчы З. Бонч-Бруевіч у Пецярбургу. Удзельнік 1-й сусветнай і Грамадзянскай войнаў. Адзін з заснавальнікаў (1927 г.) і выкладчык Бабруйскай музычнай школы. З 1934 г. у Мінску, педагог музычнай школы, у 1944—45 гг. мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Аўтар опер «Міхась Падгорны» (лібрэта П. Броўкі, пастаўлена ў 1939 г., 2-я рэд. 1957 г.), «Алеся» (лібрэта П. Броўкі і Я. Рамановіча, пастаўлена ў 1944 г., у новай рэдакцыі пад назвай «Дзяўчына з Палесся» пастаўлена ў 1953 г., у канчатковай рэдакцыі пад назвай «Алеся» — у 1967 г., Дзяржаўная прэмія БССР 1968 г.), «Ганна Громава» (лібрэта Я. Рамановіча, пастаўлена ў 1970 г.). Вытокі музычнай мовы кампазітара — у беларускім фальклоры і савецкай масавай песні. Творчасць Я. К. Цікоцкага характарызуецца жанравай разнастайнасцю, пераважаі гісторыка-рэвалюцыйнай тэматыкі. Сярод твораў: музычная камедыя «Кухня святасці» (1931 г.), араторыі (не скончаны) «Вызваленне» (на вершы Я. Купалы, 1939 г.) і «У. І. Ленін» (на вершы У. Маякоўскага, 1946 г.), 6 сімфоній (1927, 1941, 1948, 1955, 1958, 1963 гг.), уверцюра «Свята на Палессі» (1953 г.), сімфанічная паэма «50 гадоў» (1966 г.), інструментальныя творы, хоры, балады для голасу і фартэпіяна. Пісаў музыку да спектакляў («Паўлінка» і «Прымакі» Я. Купалы, «Салавей» З. Бядулі, «Бацькаўшчына» К. Чорнага ў Беларускім тэатры імя Я. Купалы і інш.) і фільмаў («Паўлінка» з Ю. Бяльзацкім, «Навасельле», «30 гадоў БССР», «Вызваленне Савецкай Беларусі» і інш.). У 1950—63 гг. старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—63 гг. Памёр Я. К. Цікоцкі 23.11.1970 г. Яго імя прысвоена музычнай школе ў Бабруйску, яго імем названа вуліца ў Мінску, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Гусин И. Л. Евгений Карлович Тикоцкий: Очерк жизни и творчества.— М.; Л., 1965; Журавлёв Д. Н. Союз композиторов БССР.— Мн., 1978; Нісневіч С. Г. Яўген Цікоцкі.— Мн., 1972; Дубкова Т. А. Сімфоніі Я. Цікоцкага.— У яе кн.: Беларуская сімфонія. Мн., 1974. *В. Б. Караткевіч.*

**683. МАГІЛА ЦІМЧУКА** Івана Мацвеевіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху ў Мінскай, Вілейскай і Віцебскай абласцях, Герой Савецкага Саюза І. М. Цімчук нарадзіўся 14.2.1901 г. у с. Грушка Тлумацкага р-на Івана-Франкоўскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1924 г. У 1929 г. скончыў Харкаўскі камуністычны універсітэт імя Арцёма, у 1956 г. Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. Удзельнік Грамадзянскай вайны. З 1926 г. на гаспадарчай рабоце. У Вялікую Айчынную вайну з красавіка 1942 г. да лютага 1943 г. камісар партызанскага атрада «Мсцівец», у ліпені — жніўні 1943 г.— атрада «Бальшавік» Мінскай вобл., адначасова ў лістападзе 1942 г.— верасні 1943 г. сакратар Лагойскага падпольнага РК КП(б)Б. У кастрычніку 1943 г.— маі 1944 г. камісар, маі — ліпені 1944 г. камандзір 1-й Антыфашысцкай партызанскай брыгады. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. З 1944 г. намеснік старшыні Дзяржплана БССР, у 1960—68 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па ахове прыроды. Памёр І. М. Цімчук 16.10. 1982 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**684. МАГІЛА ЦІТКОВА** Івана Піліпавіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на тэрыторыі Мінскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза І. П. Ціткоў нарадзіўся 14.8.1912 г. у в. Слабада Бялёўскага р-на Тульскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1939 г. скончыў Новасібірскі будаўнічы інстытут, у 1950 г. Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б), у 1953 г. Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе. У Чырвонай Арміі ў 1934—36 гг. і з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на фронце, памочнік камандзіра інжынернага батальёна. У чэрвені 1942 г. накіраваны ў варожы тыл. У кастрычніку 1942 г.— чэрвені 1944 г. камандзір партызанскай брыгады «Жалязняк». Брыгада стварыла Бягомльскую партызанскую зону і партызанскі аэрадром для сувязі з Вялікай зямлёй. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. У 1945—72 гг. на партыйнай і гаспадарчай рабоце. Аўтар кнігі «Брыгада «Жалязняк» (2-е выд., 1982 г.). Жыў у

Мінску. Памёр І. П. Ціткоў 3.7.1982 г. Яго імем названа вуліца ў Бягомлі.

У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**685. МАГІЛА ЦІТОВІЧА** Генадзя Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі харавы дырыжор і этнамузыказнавец, народны артыст СССР (1968 г.), народны артыст БССР (1955 г.) Г. І. Цітовіч нарадзіўся 25.7. 1910 г. у в. Новы Пагост Міёрскага р-на Віцебскай вобл. у сям'і настаўніка. Скончыў Віленскую кансерваторыю (1939 г.), вывучаў (1936—39 гг.) этнаграфію ў Віленскім універсітэце. У 1939—41 гг. і 1944—51 гг. рэдактар абласнога радыё і кансультант Дома народнай творчасці ў Баранавічах. Арганізатар (1939 г.) і кіраўнік самадзейнага харавога калектыву — Падлескага народнага хору (Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл.). У 1952—74 гг. кіраўнік створанага ім Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР. У 1974—76 гг. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Збіраў і вывучаў музычны фальклор, запісаў каля 3 тысяч народных мелодый, у складзеных зборніках адлюстраваў разнастайнасць жанраў і меладычных стыляў беларускай народнай песні. На аснове запісаў народных мелодый зрабіў шэраг апрацовак для хору, класічнымі песнямі сталі «Ой, рана на Йвана», «Жавароначкі, прыляціце», «Рэчанька» і інш. Вывучаў міжславянскія фальклорныя сувязі, музычны побыт беларускай вёскі. Аўтар прац: «Беларускія народныя песні» (двухгалосыя, 1948 г.), «Песні шчасця» (сучасныя беларускія народныя песні, 1950 г. на рускай мове), «Песні беларускага народа» (1959 г.), «Сучасная беларуская песня» (1961 г.), «Польскія народныя песні» (выбраныя, 1962 г.), «Анталогія беларускай народнай песні» (1968 г., 2-е выд. 1975 г.), «Аб беларускім песенным фальклоры: Выбраныя нарысы» (1976 г., на рускай мове), зборніка «Добры вечар!» (1986 г.). Складальнік і аўтар уступнага артыкула да зборніка «Песні роднага краю» (1972 г.), музычны рэдактар тамоў «Радзінная паэзія» (1971 г.) і «Жартоўныя песні» (1974 г.) з шматтомнага выдання «Беларуская народная творчасць». Аўтар артыкулаў па праблемах народнай музыкі, перадач для Усесаюзнага і Рэспубліканскага тэлебачання, радыё. Дзяржаўная прэмія БССР 1978 г., Прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1968 г. Памёр Г. І. Цітовіч 20.6.1986 г.

*Літ.:* Ж у р а ў л ё ў Дз. М. Генадзь Цітовіч.— Мн., 1969; я г о ж. Геннадий Цитович.— Мн., 1984.

**685. МАГІЛА ЦІТОВІЧА** Ігара Сяргеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне машынабудавання, член-карэспандэнт АН БССР (1974 г.), доктар тэхнічных навук, прафесар (1970 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1972 г.) І. С. Цітовіч нарадзіўся 17.6.1917 г. у г. Горкі Магілёўскай вобл. у сям'і служачага. Член КПСС з 1975 г. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1940 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1946—50 гг. асістэнт, дацэнт, у 1951—73 гг. загадчык кафедры аўтамабіляў гэтага інстытута. З 1973 г. дырэктар, з 1978 г. намеснік дырэктара Інстытута праблем надзейнасці і даўгавечнасці машын АН БССР. Даследаванні ў галіне праектавання асноўных агрэгатаў аўтамабіляў, трактароў і лакаматываў. Стварыў методыкі разліву валоў, шасцерняў, падшыпнікаў. Пад яго кіраўніцтвам распрацавана тэорыя пабудовы электронных мадэлей транспартных і цягавых машын на аналагавых і лічбавых электронна-вылічальных машынах. Працы: «Разлікі па гранічных станах валоў, шасцерняў і падшыпнікаў аўтамабіля» (1960 г.), «Зубчастыя калёсы аўтамабіляў і трактароў (праектаванне і разлік)» (1962 г., разам з В. А. Вавулам, Б. М. Хвалем), «Асновы сінтэзу планетарных і гідрамеханічных перадач» (1963 г.), «Безадмоўнасць і даўгавечнасць трактароў і сельскагаспадарчых машын» (1977 г.), «Трансмісіі аўтамабіляў» (1979 г., разам з І. У. Канонікам, В. А. Вавулам). Памёр І. С. Цітовіч 12.6.1985.

У 1986 г. на магіле пастаўлена стэла.

**687. МАГІЛА ЦІХАМІРАВА** Уладзіміра Андрэевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза У. А. Ціхаміраў нарадзіўся 11.7.1921 г. у в. Запруддзе Мелянкоўскага р-на Уладзімірскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1941 г. скончыў Харкаўскае ваеннае вучылішча. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Удзельнік абарончых баёў на Беларусі. З кастрычніка 1941 г. камандзір партызанскай групы, з мая 1942 г.— партызанскага атрада, з сакавіка 1943 г.— 12-й кавалерыйскай партызанскай брыгады, якая дзейнічала на тэрыторыі Магілёўскай і Мінскай абласцей. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. Удзельнік баёў супраць японскіх імперыялістаў у 1945 г. Пасля вайны на партыйнай рабоце ў г. Улан-Удэ. З 1948 г. жыў у Мінску. Памёр У. А. Ціхаміраў 6.6. 1976 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**688. МАГІЛА ЦЮРЫНА** Леаніда Фёдаравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Л. Ф. Цюрын нарадзіўся 2.4.1914 г. у г. Мурам Уладзімірскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1944 г. У 1935 г. скончыў тэхнікум чорнай металургіі, у 1940 г. ваеннае авіяцыйнае вучылішча, у 1953 г. Вышэйшыя афіцэрскія лётна-тактычныя курсы ўдасканалення камандзіраў часцей. У Чырвонай Арміі з 1936 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. 17.8.1941 г. над Заходняй Дзвіной яго самалёт быў падбіты. На ахопленай агнём машыне лётчык выканаў баявое заданне і вярнуўся ў сваю часць. Штурман звяна авіяпалка далёкага дзеяння гвардыі капітан Л. Ф. Цюрын зрабіў 260 баявых вылетаў на разведку і бамбардзіроўку ваенна-прамысловых аб'ектаў і ўмацаванняў у глыбокім тыле ворага. Удзельнічаў у вызваленні Беларусі, Румыніі, Югаславіі, Чэхаславакіі, Венгрыі, у паветраных баях над Германіяй, Фінляндыяй. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.8.1944 г. Да 1961 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Потым жыў і працаваў у Мінску. Памёр Л. Ф. Цюрын 12.3.1970 г.

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**689. МАГІЛА ЧАРНУШЭВІЧА** Нічыпара Тодаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Н. Т. Чарнушэвіч нарадзіўся 14.11.1900 г. у г. п. Капыль Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1928 г. скончыў БДУ. З 1917 г. настаўнічаў. У 1920—22 гг. у Чырвонай Арміі. Працаваў лектарам-групаводам у школе малодшага каманднага і палітычнага саставу, у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь» (1924 г.— жнівень 1929 г.), потым у гарадах Кіраў, Масква, з 1941 г. у газеце «Тюменская правда». З 1947 г. у Мінску, рэдактар Беларускага дзяржаўнага выдавецтва, Беларускага тэлебачання. Друкаваўся з 1923 г. Аўтар вершаваных зборнікаў «Дзіва» (1927 г.), «Нясу надзею» (1962 г.), «Гаворка дум» (1966 г.), «Выбраныя вершы» (1975 г.). Перакладаў творы рускіх, украінскіх, яўрэйскіх паэтаў на беларускую мову. Памёр Н. Т. Чарнушэвіч 18.2. 1967 г.

У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Вытокі песні.— Мн., 1973; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. М. Баскова.*

**690. МАГІЛА ЧАРНЫШЭВІЧА** Аркадзя Дзмітрыевіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік А. Дз. Чарнышэвіч нарадзіўся 26.7.1912 г. у в. Кулакі Салігорскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1940 г. скончыў Кудымкарскае педагагічнае вучылішча. У 1930—54 гг. працаваў настаўнікам у школах Пермскай, потым Мінскай абласцей. У 1957—62 гг. жыў і працаваў у г. п. Радашковічы, з 1962 г. у Мінску. Друкаваўся з 1940 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Суседзі» (1956 г.), «Марцін Когут» (1958 г.), «Праз зімы і вёсны» (1960 г.), «Новы дом» (1967 г.), рамана-хронікі

«Засценак Малінаўка» (кнігі 1—2, 1961—64 гг.), дзе паказаў жыццё палескай вёскі напярэдадні Рэвалюцыі 1905—07 гг. Пісаў для дзяцей: цыкл апавяданняў «Лета» (1940 г.), аповесць «У адной сям'і» (1951 г.), кніга «На сажалках» (1955 г.), зборнікі апавяданняў «Зосін лужок» (1952 г.), «Апавяданні старога Арцёма» (1958 г.). У 1979 г. выдадзены «Выбраныя творы» ў 2 тамах. Асобныя творы пісьменніка перакладзены на рускую, украінскую і іншыя мовы. Памёр А. Дз. Чарнышэвіч 18.1.1967 г. У Радашковічах яго імем названа вуліца, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Герцовіч Я. Творчае крэда.— Мн., 1970; Куляшоў Ф. Шлях да майстэрства.— Полымя, 1972, № 8.

*М. Б. Батвіннік.*

**691. МАГІЛА ЧАЦВЕРЫКОВА** Віталя Паўлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі кінарэжысёр, народны артыст БССР (1979 г.), заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1974 г.) В. П. Чацверыкоў нарадзіўся 16.8. 1933 г. у г. Алма-Ата ў сям'і служачага. Член КПСС з 1965 г. У 1962 г. скончыў Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі (майстэрня Р. Козінцава). З 1962 г. на кінастудыі «Беларусьфільм». Першая работа — кінанавела «Не плач, Алёнка» (1963 г.), першы поўнаметражны мастацкі фільм — «Саша-Сашачка» (1967 г.). Паставіў дакументальныя фільмы «Высокае напружанне» (1964 г.), «Беларуская рапсодыя» і «Экіпаж светлавераў» (1965 г.), «Звычайная хроніка» і «Пакараны смерцю ў сорак першым» (1967 г.), «Семдзесят дзевятая вясна» (1968 г.), «Мне хацелася расказаць» (1969 г.). Зняў фільмы «Час-Не-Чакае» (1975 г., паводле Дж. Лондана), «Зацішша» (1975 г., паводле І. С. Тургенева), «Чорная бяроза» (1979 г.), «Паводка» (1981 г.), «Сад» (1983 г.). Подзвігу савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны прысвечаны фільм «Полымя» (1975 г., сярэбраны медаль імя А. П. Даўжэнкі) і шасцісерыйны тэлевізійна-мастацкі фільм «Руіны страляюць» (1973 г., Дзяржаўная прэмія БССР 1974 г.). Памёр В. П. Чацверыкоў 26.8. 1983 г.

*Літ.:* Асіпенка А. Гэта — як узыходжанне на вяршыню...— Маладосць, 1976, № 9.

**692. МАГІЛА ЧУРКІНА** Мікалая Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі кампазітар, фалькларыст, народны артыст БССР (1949 г.) М. М. Чуркін нарадзіўся 9.5.1869 г. у г. Сцепанаван Армянскай ССР у сялянскай сям'і. У 1892 г. скончыў музычнае вучылішча Рускага музычнага таварыства ў Тбілісі (клас кампазіцыі М. М. Іпалітава-Іванава), у 1899 г. Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Працаваў у Баку настаўнікам музыкі, у 1905—14 гг. кіраваў харавымі гурткамі ў Вільнюсе і Каўнасе. З 1914 г. педагог настаўніцкай семінарыі ў Мсціславе, кіраваў рабочай і чырвонаармейскай самадзейнасцю, стварыў хоры, аркестры. У 1924—35 гг. выкладчык Магілёўскага педагагічнага тэхнікума, з 1935 г. у Мінску.

М. М. Чуркін — адзін з заснавальнікаў беларускай прафесійнай музыкі, пачынальнік нацыянальнага жанравага сімфанізму, дзіцячай музыкі. Ім створаны: першая беларуская савецкая опера «Вызваленне працы» (1922 г., пастаўлена сіламі мастацкай самадзейнасці ў 1922 г. у Мсціславе і 1924 г. у Магілёве), радыёопера для дзяцей «Рукавічка» (1940 г.), музычныя камедыі «Кок-сагыз» (1939 г.) і «Песня Бярэзіны» (1947 г.), 3 сімфаньеты (1925, 1949, 1955 гг.), 4 сюіты (1940, 1944, 1950, 1951 гг.), 4 сюіты (1945, 1951, 1953, 1955 гг.) і уверцюра «Памяці Янкі Купалы» (1952 г.) для аркестра беларускіх народных інструментаў, 11 струнных квартэтаў, хоры, рамансы, песні для дзяцей, музыка да спектакляў. Вялікае месца ў творчасці М. М. Чуркіна займаў фальклор. Ён запісаў больш за 3 тысячы беларускіх, грузінскіх, армянскіх, азербайджанскіх, таджыкскіх, літоўскіх, польскіх народных песень і танцаў. Першыя апрацоўкі апублікаваны Е. Р. Раманавым у 7-м выпуску «Беларускага зборніка» (1910 г.). Склаў зборнікі «Беларускія народныя песні і танцы» (1949 г.) і «Беларускія народныя песні» (1959 г.). Ім створаны вучэбныя дапаможнікі. Памёр М. М. Чуркін 27.12.1964 г. Яго імя прысвоена музычнай школе ў Мсціславе, у Мінску на доме, дзе жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.




692. *Помнік на магіле М. М. Чуркіна.*

У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт кампазітара (скульпт. Г. Мурамцаў).

*Літ.:* Журавлёв Д. Н. Большая дорога: Народный артист БССР Н. Н. Чуркин.— Мн., 1964.

*В. Б. Караткевіч.*

**693. МАГІЛА ШУБЫ** Аляксея Іванавіча (гіст., маст.).

Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобл., Герой Сацыялістычнай Працы (1969 г.), заслужаны ўрач БССР (1948 г.) А. І. Шуба нарадзіўся 12.2.1912 г. у в. Падарэссе Старадарожскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У 1939 г. скончыў Мінскі медыцынскі інстытут. Працаваў у Старадарожскай бальніцы. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну са снежня 1941 г. арганізатар і кіраўнік партызанскай групы ў г. п. Старыя Дарогі. З чэрвеня 1942 г. камандзір партызанскага атрада «Народныя мсціўцы», з сакавіка 1943 г. партызанскай брыгады 100-й імя С. М. Кірава. У 1944—50 гг. загадчык аддзела аховы здароўя Мінскага гарвыканкома. У 1950—52 гг. асістэнт кафедры Мінскага медінстытута. З 1952 г. галоўны ўрач 1-й клінічнай бальніцы г. Мінска. Памёр А. І. Шуба 26.12.1971 г.

У 1973 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. С. Селіханаў; пастамент — чырвоны граніт, вышыня 1,5 м; бюст — бронза, вышыня 0,8 м) — скульптурны партрэт на строгім прамавугольным пастаменце. У характарыстыцы вобраза падкрэслены духоўная сіла, жыццялюбства, аптымізм.

*В. М. Удальцоў.*



693. *Помнік на магіле А. І. Шубы.*

**694. МАГІЛА ШЫРМЫ** Рыгора Раманавіча (гіст.).

Беларускі савецкі харавы дырыжор, фальклярыст, музычны і грамадскі дзеяч, народны артыст СССР (1955 г.), народны артыст БССР (1949 г.), Герой Сацыялістычнай Працы (1977 г.) Р. Р. Шырма нарадзіўся 8.1.1892 г. у в. Шакуны Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1959 г. Скончыў Пружанскае гарадское вучылішча, у 1912 г. двухгадовыя настаўніцкія курсы ў Свянцянах, у 1918 г. Седлецкі настаўніцкі інстытут (цяпер ПНР). Настаўнічаў у в. Ганута Свянцянскага павета Віленскай губерні. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. Вёў у Заходняй Беларусі культурна-асветную і літаратурна-публіцыстычную дзейнасць. Двойчы быў арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы. У 1924 г. стварыў у Пружанах беларускі народны хор. З 1926 г. выкладчык беларускай гімназіі ў Вільні, арганізатар прафесійных і самадзейных харавых калектываў, у т. л. хору Беларускага саюза студэнтаў у Вільні. У 1928—37 гг. сакратар Таварыства беларускай школы (ТБШ). Выдаў «Беларускія народныя песні» (вып. 1-ы, 1929 г.), «Наша песня» (1983 г.). Адзін з арганізатараў, выдаўцоў і актыўных супрацоўнікаў друкаванага органа ТБШ «Беларускі летапіс», удзельнічаў у рабоце легальнай газеты КПЗБ «Наша воля». Спрыяў творчаму станаўленню маладых заходне-беларускіх паэтаў (В. Таўлай, М. Васілёк, М. Засім, С. Крывец). У 1936 г. на свае сродкі выдаў першую кнігу рэвалюцыйнай паэзіі М. Танка «На этапах». Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР арганізаваў у 1940 г. Беларускі ансамбль песні і танца, які ў 1950 г. рэарганізаваны ў Дзяржаўны хор БССР, у 1955 г.— у Дзяржаўную харавую капэлу БССР (з 1957 г. акадэмічная). Быў яе кіраўніком да 1970 г.

З 1910 г. запісваў беларускія народныя песні (усяго больш за 2 тыс.), склаў шмат зборнікаў музычнага фальклору: «Дзвесце беларускіх народных песень» (1958 г.), «Беларускія народныя песні» (т. 1—4, 1959—76 гг.), «Беларускія народныя песні (для хору)» (т. 1—2, 1971—73 гг.). Выступаў як публіцыст, музычны і літаратурны крытык. Яго артыкулы і выступленні 1929—74 гг. сабраны ў кнізе «Песня — душа народа» (1976 г.). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1966 г. і 1974 г. З 1966 г. старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР і сакратар праўлення Саюза кампазітараў СССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1955 г. Памёр Р. Р. Шырма 23.3.1978 г. Яго імя прысвоена Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэле БССР, музычнай школе ў г. Пружаны Брэсцкай вобл., у Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1980 г. на магіле пастаўлены бронзавы бюст (скульпт. І. Міско; вышыня бюста 0,73 м, пастамента 1,5 м).

*Літ.:* Журавлёв Д. Н. Союз композиторов БССР.— Мн., 1978; Нисневич И. Г. Григорий Романович Ширма.— 2 изд.— Л., 1971; Песня на ўсё жыццё: Успаміны пра Р. Р. Шырму.— Мн., 1983.

*В. Б. Караткевіч.*



**694.** *Помнік на магіле Р. Р. Шырмы.*

**695. МАГІЛА ШЫШКІНА** Якава Васілевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Я. В. Шышкін нарадзіўся 23.12.1920 г. у с. Аляксееўка Базарна-Карабулацкага р-на Саратаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў ваеннае авіяцыйнае вучылішча. У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце са студзеня 1944 г. Удзельнік вызвалення Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі, разгрому ворага на тэрыторыі Германіі. Камандзір авіяэскадрыллі знішчальнага авіяпалка капітан Я. В. Шышкін з 1.1.1944 г. да 17.4.1945 г. зрабіў 205 баявых вылетаў, правёў 27 паветраных баёў, у якіх асабіста збіў 17 самалётаў праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1945 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр Я. В. Шышкін 25.12.1979 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Румянцев Н. М. Люди легендарного подвига.— Саратов, 1968.

*Г. І. Дулеба.*

**696. МАГІЛА ШЫШЫГІНА** Васіля Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза В. М. Шышыгін нарадзіўся 17.12.1917 г. у г. Куйбышаў Новасібірскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1940 г. скончыў афіцэрскую школу. У 1933—37 гг. працаваў у калгасе рахункаводам. У Чырвонай Арміі з 1937 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з жніўня 1941 г., камандзір кулямётнай роты. Удзельнік абароны Ноўгарада, Ленінграда, Сталінградскай бітвы, вызвалення Беларусі, Латвіі. Вызначыўся ва Усходне-Прускай аперацыі. 26.1.1945 г. група дэсантнікаў на чале са старшым лейтэнантам В. М. Шышыгіным пад моцным агнём праціўніка высадзілася на бераг Балтыйскага мора ў тыле ворага, выбіла яго з траншэй, авалодала плацдармам, адбіла шэраг контратак, чым садзейнічала паспяховаму наступленню савецкіх войск. У гэтым баі дэсантнікі знішчылі 8 агнявых кропак ворага, больш за 300 гітлераўскіх салдат і афіцэраў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.6.1945 г. Да 1946 г. служыў у Савецкай Арміі, капітан. Памёр В. М. Шышыгін 29.10.1972 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Г. І. Дулеба.*

**697. МАГІЛА ШЭМПЕЛЯ** Віктара Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі аграхімік, акадэмік АН БССР (1950 г., член-карэспандэнт з 1940 г.), акадэмік Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1957—61 гг.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1968 г.) В. І. Шэмпель нарадзіўся 24.1.1908 г. у Мінску ў сям'і служачага. Член КПСС з 1940 г. У 1929 г. скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. З 1933 г. у Інстытуце глебазнаўства і ўгнаенняў АН БССР (з 1937 г. Інстытут сацыялістычнай сельскай гаспадаркі АН БССР). У 1936—40 гг. загадчык аддзела аграхіміі, у 1940—41 гг. намеснік дырэктара па навуковай рабоце гэтага інстытута. У 1942—46 гг. вучоны сакратар Прэзідыума АН БССР. У 1946—49 гг. і 1952—73 гг. дырэктар Інстытута сацыялістычнай сельскай гаспадаркі АН БССР (з 1956 г. Беларускі НДІ земляробства Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР), у 1973—75 гг. загадчык аддзела гэтага інстытута. У 1949—52 гг. рэктар Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Навуковыя даследаванні па праблемах вапнавання кіслых дзярнова-падзолістых глеб, метадах выкарыстання ўгнаенняў для павышэння ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур. Памёр В. І. Шэмпель 23.8.1975 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Памяці акадэміка АН БССР В. І. Шэмпеля.— Весці АН БССР. Сер. сельскагаспадарчых навук, 1978, № 1; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

*Г. І. Дулеба.*

**698. МАГІЛА ЮРКОВА** Іосіфа Адрыянавіча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы

(1966 г.), заслужаны будаўнік БССР (1962 г.) І. А. Юркоў нарадзіўся 26.10. 1903 г. у г. Орша Віцебскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1956 г. У 1936 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. У 1936—37 гг. начальнік будаўнічага ўчастка, кіраўнік трэста Белкамунбуд. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1947—55 гг. намеснік кіраўніка трэста Белтрактарабуд, у 1955—71 гг.— будтрэста № 5 Міністэрства прамысловага будаўніцтва БССР у Мінску. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена за поспехі ў будаўніцтве. Памёр І. А. Юркоў 20.2.1976 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла з рэльефным партрэтам.

*Г. І. Дулеба.*

**699. МАГІЛА ЮСКАЎЦА** Майсея Калінікавіча (гіст.).

Беларускі савецкі эпізаатолаг, мікрабіёлаг, імунолаг, акадэмік АН БССР (1950 г.), акадэмік Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1957—61 гг.), доктар ветэрынарных навук (1941 г.), прафесар (1943 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1958 г.) М. К. Юскавец нарадзіўся 4.8.1898 г. у в. Заверша Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1929 г. У 1925 г. скончыў Маскоўскі ветэрынарны інстытут. Удзельнік Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай вайнаў. У 1931—35 гг. намеснік дырэктара Маскоўскага заатэхнічна-ветэрынарнага інстытута і адначасова намеснік дырэктара Дзяржаўнай ветэрынарна-бактэрыялагічнай лабараторыі. З 1935 г. загадчык лабараторыі туберкулёзу, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Усесаюзнага інстытута эксперыментальнай ветэрынарыі. У 1943—52 гг. загадчык дыягнастычнай лабараторыі ў Дзяржаўным навукова-кантрольным інстытуце ветэрынарных прэпаратаў Міністэрства сельскай гаспадаркі СССР, адначасова з 1944 г. загадчык кафедры эпізааталогіі ветэрынарнага факультэта Маскоўскага хіміка-тэхналагічнага інстытута мясной прамысловасці. З 1952 г. загадчык лабараторыі Усесаюзнага інстытута эксперыментальнай ветэрынарыі і адначасова (у 1950—56 гг.) загадчык лабараторыі Навукова-даследчага інстытута жывёлагадоўлі АН БССР. У 1957—61 гг. акадэмік-сакратар Аддзялення жывёлагадоўлі і ветэрынарыі Акадэміі сельскагаспадарчых навук СССР і адначасова ў 1957—59 гг. дырэктар, у 1961—69 гг. загадчык аддзела мікрабіялогіі і імуналогіі Беларускага навукова-даследчага ветэрынарнага інстытута. Навуковыя працы па пытаннях эпізааталогіі, мікрабіялогіі, імуналогіі сельскагаспадарчых жывёл, арганізацыі ветэрынарнай справы і жывёлагадоўлі ў СССР. Распрацаваў сістэму паскоранага аздараўлення гаспадарак пры туберкулёзе буйной рагатай жывёлы, метад прыгатавання вакцын са штаму бруцэл № 19. Памёр М. К. Юскавец 23.4.1969 г.

У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік.

*В. М. Баскова.*

**700. МАГІЛА ЯВОРСКАГА** Івана Іванавіча (гіст.).

Удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі І. І. Яворскі нарадзіўся ў 1888 г. у Варшаве ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1904 г. Царскія ўлады тройчы (1904, 1905 гг. і 1906 г.) арыштоўвалі яго за рэвалюцыйную дзейнасць, у 1906—09 гг. у ссылцы. У 1915 г. адзін з арганізатараў бальшавіцкай групы на заводзе «Арсенал» у Гомелі. Удзельнік Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 г. у Маскве. З 1918 г. у Гомелі, адзін са стваральнікаў партызанскага атрада з рабочых Навабеліцы, потым ваенком Вышэйшых курсаў камсаставу Заходняга фронту, камандзір атрада асобага прызначэння, які дзейнічаў у Гомелі. У 1922—25 гг. ваенком 27-й стралковай дывізіі, Кранштацкай крэпасці. намеснік камандуючага войск АДПУ Заходняй пагранічнай акругі па палітчастцы. Пасля дэмабілізацыі ў 1925 г. на гаспадарчай рабоце. Памёр І. І. Яворскі 20.5.1962 г.

У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**701. МАГІЛА ЯКІМОВІЧА** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры БССР (1968 г.) А. (Аляксандр Іванавіч) Якімовіч нарадзіўся 4.1.1904 г. у в. Чурылава Узденскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1947 г. У 1930 г. скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. З 1924 г. працаваў рэдактарам дзіцячых часопісаў «Беларускі піянер» і «Іскры Ільіча». Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1945—48 гг. рэдактар дзіцячага часопіса «Бярозка», у 1948—54 гг. у Дзяржаўным выдавецтве БССР, у 1955—60 гг. літкансультант Саюза пісьменнікаў БССР.

Друкаваўся з 1923 г. Пісаў пераважна для дзяцей. Першыя кнігі «Вершы» і зборнік апавяданняў «Гул бубна» (1925 г.). Аповесці «Перамога» (1932 г.) і «Незвычайны мядзведзь» (1934 г.) адлюстроўваюць класавую барацьбу на вёсцы, удзел у ёй піянераў і школьнікаў. Аповесці «Гаворыць Масква» (1951 г.), «Базылёў курган» (1954 г.), «Смелыя людзі» (1960 г.) прысвечаны гістарычнаму мінуламу нашага народа. У аповесцях «Адкуль ліха на свеце» (1963 г.), «Канец сервітуту» (1966 г.) і «Кастусь Каліноўскі» (1971 г.; за ўсе Дзяржаўная прэмія БССР 1974 г.) паказана барацьба беларускіх працоўных за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Апрацоўваў народныя казкі: «Каток — залаты лабок» (1955 г.), «З рога ўсяго многа» (1959 г.), «Андрэй за ўсіх мудрэй» (1975 г.). Пісаў літаратурныя казкі ў вершах і прозе: «Каваль-Вярнідуб» (1936 г.), «Казка пра смелага вожыка» (1937 г.) і інш. У 1967 г. выдадзены «Выбраныя творы» ў 2 тамах, у 1978—80 гг. Збор твораў у 3 тамах. Перакладаў на беларускую мову творы А. Пушкіна, М. Някрасава, І. Крылова, П. Яршова, І. Тургенева, У. Маякоўскага, К. Чукоўскага, С. Маршака, С. Міхалкова і інш. Выступаў і як публіцыст. Памёр А. І. Якімовіч 15.1. 1979 г. Яго імя прысвоена Зенькавіцкай сярэдняй школе ў Узденскім р-не.

У 1981 г. на магіле пастаўлены бюст (скульпт. А. Заспіцкі).

*Літ.:* Пяцьдзесят чатыры дарогі.— Мн., 1963; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

*Л. І. Шэйко.*

**702. МАГІЛА ЯКУБЕНІ** Гары Ігнатавіча (гіст.).

Беларускі савецкі графік Г. І. Якубеня нарадзіўся 17.9.1932 г. у Маскве ў сям'і мастака. У 1945—50 гг. вучыўся ў Маскоўскай сярэдняй мастацкай школе імя В. І. Сурыкава. У 1952—58 гг. працаваў у жывапісна-выставачным камбінаце Мастацкага фонда СССР, часопісных выдавецтвах Масквы. З 1959 г. жыў у Беларусі, пазаштатны мастак Белдзяржвыдавецтва. Работы Г. І. Якубені экспанаваліся на выстаўцы твораў маладых маскоўскіх мастакоў (1954 г.), удзельнік многіх рэспубліканскіх, усесаюзных і замежных выставак.

У мастацкай спадчыне творы кніжнай графікі, створаныя на тэмы рускіх і беларускіх народных казак. Сярод іх ілюстрацыі да кніг «Маша і мядзведзь», «Жылі тры браты», «Агеньчык», «Вясёлка над полем», «Цудоўная скрыпка», «Ты не адзін», «Казаманюка», «Як святыя смятану елі», «Крылаты дзень», «Дударык» і інш. Значнае месца сярод твораў мастака займае цыкл лінагравюр па матывах беларускіх народных дзіцячых песень. Памёр Г. І. Якубеня 8.10.1964 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

*В. М. Удальцоў.*

## ЧЫЖОЎСКІЯ МОГІЛКІ (паўднёва-ўсходняя ўскраіна Мінска)

**703. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**704. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні Мінска ў ліпені 1944 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск (у 1984 г. рэканструяваны).

**705. МАГІЛА АЛЕКСАНДРОВІЧ** Клары Давыдаўны (гіст.). Капітан медыцынскай службы К. Д. Александровіч загублена нямецка-фашысцкімі акупантамі ў сакавіку 1944 г. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**706. МАГІЛА АЛЕШКІ** Антона Антонавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік А. А. Алешка нарадзіўся 19.1.1913 г. у в. Балотчыцы Слуцкага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. Скончыў двухгадовыя педагагічныя курсы пры Слуцкім педтэхнікуме (1931 г.), Ваенна-медыцынскую акадэмію імя С. М. Кірава (1941 г.). У 1931—35 гг. працаваў настаўнікам у в. Лапічы Асіповіцкага р-на. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Да 1963 г. служыў у Савецкай Арміі. Першае апавяданне «Песня восені» надрукаваў у 1932 г. Выдадзены кнігі аповесцей, апавяданняў «Раніца» (1949 г.), «Іх першых вітае сонца» (1957 г.), «Пяць сутак» (1959 г.), «Над намі мільён вышыні» (1965 г.), раман «Дарогі без слядоў» (1969 г.), зборнік выбраных твораў «Неба на замку» (1974 г.). Асноўная тэма творчасці — жыццё і подзвігі савецкіх лётчыкаў у Вялікую Айчынную вайну і ў мірны час. Памёр А. А. Алешка 13.9.1971 г.

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

*М. М. Казлоўская.*

**707. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Пахаваны 97 савецкіх грамадзян, якіх у 1941—44 гг. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**708. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Пахаваны 3 мірныя жыхары, закатаваныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**709. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Пахаваны 2 мірныя жыхары, закатаваныя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941—44 гг. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

**710. МАГІЛА БАЛЯСЛАЎСКАГА** Ісака Яфрэмавіча (гіст.).

Беларускі савецкі шахматыст, міжнародны гросмайстар (1948 г.), заслужаны майстар спорту СССР (1948 г.), заслужаны трэнер СССР (1964 г.) І. Я. Баляслаўскі нарадзіўся 9.6.1919 г. у г. Залатаноша Чаркаскай вобл. Скончыў Уральскі універсітэт (1949 г.). З 1947 г. інструктар па шахматах Спорткамітэта СССР, з 1954 г. старшы трэнер зборнай СССР па шахматах, з 1958 г. працаваў у беларускіх спартыўных таварыствах «Буравеснік» і «Спартак». У 1967—77 гг. трэнер Рэспубліканскай школы вышэйшага спартыўнага майстэрства. Чэмпіён свету (1952 г.) і Еўропы (1957 г., 1965 г.) у камандным першынстве. У 1950 г. у турніры прэтэндэнтаў на званне чэмпіёна свету падзяліў першае і другое месца. Удзельнік буйных міжнародных і міжзанальных шахматных спаборніцтваў, у т. л. СССР — ЗША (1945—46 гг., 1954—55 гг.), СССР — Вялікабрытанія (1946—47 гг., 1957 г.), матчаў БССР — Польшча, БССР — Венгрыя, БССР — ГДР. Тэарэтык шахматнай гульні. Распрацаваў шэраг сістэм у сіцыліянскай і стараіндыйскай абаронах. Аўтар кнігі «Выбраныя партыі» (1957 г.). Памёр І. Я. Баляслаўскі 14.2.1977 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*В. М. Удальцоў.*

**711. МАГІЛА БУЛАТАВА** Уладзіміра Георгіевіча (гіст.).

Беларускі савецкі спартсмен, заслужаны майстар спорту СССР (1959 г.), заслужаны трэнер БССР (1975 г.) У. Г. Булатаў нарадзіўся 30.6.1929 г. у г. Новасібірску ў сям'і служачых. Член КПСС з 1967 г. Скончыў Кіеўскі інстытут фізічнай культуры (1953 г.). З 1961 г. старшы трэнер па скачках з шастом зборнай юніёраў СССР па лёгкай атлетыцы. З 1962 г. выкладчык, старшы выкладчык Беларускага інстытута фізічнай культуры. У 1965—66 гг. трэнер па лёгкай атлетыцы дзіцячай спартыўнай школы Мінскага аблсавета ДСТ «Спартак». У 1967—68 гг. трэнер зборнай нацыянальнай каманды Рэспублікі Куба. З 1968 г. старшы трэнер па скачках з шастом Рэспубліканскай школы вышэйшага спартыўнага майстэрства. У 1957 г. чэмпіён СССР па скачках з шастом. Рэкардсмен Еўропы і СССР. Удзельнік XVI і XVII Алімпійскіх гульняў (Мельбурн, 1956 г.; Рым, 1960 г.). Памёр У. Г. Булатаў 19.2. 1976 г. З 1978 г. праводзяцца адкрытыя рэспубліканскія спаборніцтвы па скачках з шастом памяці У. Г. Булатава.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*М. Б. Батвіннік.*

**712. МАГІЛА ВАЛКАДАЕВА** Пятра Іванавіча (гіст.).

Рускі савецкі пісьменнік П. І. Валкадаеў нарадзіўся 9.11.1911 г. у в. Кажамякі Кінель-Чаркаскага р-на Куйбышаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. Скончыў Куйбышаўскі педагагічны інстытут (1936 г.), настаўнічаў. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1944 г. супрацоўнічаў у рэспубліканскіх газетах «Советская Белоруссия», «Настаўніцкая газета», з 1948 г. загадчык аддзела, з 1955 г. літаратурны кансультант газеты «Знамя юности». Друкаваўся з 1934 г. Аўтар паэмы «Чандра» (1952 г.), зборнікаў вершаў «Родная старонка» (1950 г.), «Зялёная прыстань» (1960 г., «Лівень» (1967 г.), зборнікаў нарысаў «Будаўнікі» (1956 г.), «Механізатар Андрэй Худзякоў» (1961 г.), «Пошукі квадрата» (1962 г.), «Ветэран» (1963 г.), зборніка апавяданняў для дзяцей «Ягоркавы рапарты» (1958 г.) і аповесці «Чый хлопчык?» (1961 г.). У 1981 г. выйшла кніга «Далёкія зарніцы». Памёр П. І. Валкадаеў 4.11.1973 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Л. І. Шэйко.*

**713. МАГІЛА ВАРАКСІНА** Уладзіміра Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі архітэктар, педагог, заслужаны будаўнік БССР (1967 г.) У. М. Вараксін нарадзіўся 22.6.1901 г. у Омску. У 1934 г. скончыў Ленінградскі інстытут інжынераў камунальнага будаўніцтва. З 1952 г. выкладчык, з 1954 г. дацэнт кафедры архітэктуры Беларускага політэхнічнага інстытута. У 1971—75 гг. загадчык кафедры архітэктурнага праектавання Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута. Асноўныя работы: Дом Саветаў у Слуцку (1937—39 гг.), педтэхнікум у Крычаве (1938 г.), кінатэатр «Радзіма» ў Магілёве, клуб запалкавай фабрыкі ў Рэчыцы (абодва 1939 г.), жылы пасёлак аўтарамонтнага завода ў Магілёве (1940—41 гг.), галоўная машынная зала электрастанцыі (1945 г.) і кінатэатр імя М. І. Калініна (1950 г.) у Гомелі, жылыя дамы ў Мінску па вул. Захарава, К. Маркса, Маскоўскай (1949—55 гг.), будынак абкома КПБ у Гродне (1952 г.), Беларускі інстытут народнай гаспадаркі (1954 г., па вул. Свярдлова), разам з А. П. Воінавым Палац піянераў і школьнікаў (1935—36 гг.), будынак ЦК КПБ (будаваўся ў 1939—41 гг., завершаны ў 1947 г.) у Мінску. Памёр У. М. Вараксін 2.1.1980 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**714. МАГІЛА ГЕМБІЦКАГА** Ібрагіма Рафаілавіча (гіст.).

Беларускі савецкі графік І. Р. Гембіцкі нарадзіўся 4.10.1900 г. у Мінску. Скончыў Маскоўскі інтытут выяўленчых мастацтваў (1938 г.). У 1916—18 гг. і з 1923 г. працаваў наборшчыкам у друкарнях, мастаком у Дзяржаўным выдавецтве БССР. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1921 г. Працаваў у тэхніках ксілаграфіі і каляровай лінагравюры. У тарцовай гравюры выкананы ілюстрацыі да аповесці Я. Коласа «Дрыгва» (1938 г.), серыя «Разгром белапольскіх акупантаў у 1920 г.» (1939—40 гг.), у каляровай лінагравюры «Малацьба ў аднаўленым калгасе» (1945 г.), «Весновая сяўба» (1948 г.), «Пуск калгаснай ГЭС» (1950 г.), «Уборка ўраджаю» (1952 г.), «Будынак політэхнічнага інстытута ў Мінску» (1953 г.). Стварыў серыі гравюр: «Мінскі жалезабетонны завод» (1958 г.) і «Мінскі камвольны камбінат» (1960 г.), а таксама пейзажы «Затока» (1965 г.), «Восень» (1967 г.) і інш. Творы І. Р. Гембіцкага вызначаюцца лаканічнасцю, ураўнаважанасцю кампазіцыі, пластычнасцю, танальным багаццем гравіроўкі, значнасцю тэматыкі. Памёр І. Р. Гембіцкі 1.1.1974 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Шматаў В. Ф. Беларуская сучасная графіка. 1945—1977.— Мн., 1979.

*М. Б. Батвіннік.*

**715. МАГІЛА ЗАРЫЦКАГА** Аляксея Аляксандравіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт А. А. Зарыцкі нарадзіўся 9.3.1911 г. у г. п. Хо-

цімск Магілёўскай вобл. Член КПСС з 1946 г. З 1928 г. працаваў на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. Скончыў Маскоўскі інстытут замежных моў (1936 г.). У Савецкай Арміі з 1938 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Друкаваўся з 1927 г. Першы зборнік вершаў — «Эпічныя фрагменты» (1932 г.). Апавядальнасць, стрыманасць у выяўленні пачуццяў, лірызм, уменне раскрыць філасофскі сэнс у звычайных з'явах — асноўныя рысы яго паэзіі. Найбольш уласцівыя яму жанры эпічнай паэзіі, сюжэтна-лірычны верш, блізкі да балады (зборнікі вершаў і паэм «Дняпроўскае рэха», 1946 г., «Праз бурныя парогі», 1957 г., «Размова з сэрцам», 1961 г., «Мая асяніна», 1973 г., «Пераклічка гадоў», 1974 г., «Каля вячэрняга кастра», 1979 г., і інш.). У многіх вершах і паэмах узнаўляе яркія старонкі рэвалюцыйнай барацьбы і інтэрнацыянальнай салідарнасці працоўных, гераічныя падзеі Айчыннай вайны. Аўтар паэм «Аповесць пра залатое дно» (1954 г.), «Пяцёра» (1957 г.), «Марыля» (1965 г.), «На волю» (1969 г.), «Вяртанне на зямлю» (1964 г.). Пісаў гумарыстычныя і сатырычныя творы (зборнікі «Пасылка ў рай», 1960 г., «Талоны на бяссмерце», 1974 г.). Перакладаў на беларускую мову творы армянскіх, літоўскіх, рускіх, украінскіх, нямецкіх, французскіх, іспанскіх, польскіх і інш. паэтаў. У яго перакладах выдадзены зборнік А. Туманяна «Казкі і легенды» (1958 г.), паэма К. Данелайціса «Чатыры пары года» (1961 г.), балада А. Міцкевіча «Свіцязянка» (1976 г.) і кніга выбраных перакладаў «У свет па песні» (1978 г.).

У 1969 г. і 1981 г. выдадзены «Выбраныя творы» паэта ў 2 тамах.

Памёр А. А. Зарыцкі 29.10.1987 г.

*Літ.:* Звонак А. З верай у заўтрашні дзень.— Полымя, 1971, № 3; Мацяш Н. Пераклад — гэта любоў.— Там жа, 1979, № 8; Пысін А. З арлінай крыніцы.— Маладосць, 1981, № 4.

**716. МАГІЛА КАВАЛЁВА** Мікіты Рыгоравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. Р. Кавалёў нарадзіўся 7.12.1909 г. у в. Майскае Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1938 г. Скончыў Ульянаўскае ваеннае вучылішча (1937 г.). У Чырвонай Арміі з 1931 г. У Вялікую Айчынную вайну з лістапада 1941 г. на Заходнім, Паўночна-Заходнім, Варонежскім, 1-м і 2-м Украінскіх, Забайкальскім франтах. Камандзір танкавага батальёна гвардыі маёр М. Р. Кавалёў вызначыўся ў баях за вызваленне Кіева. Яго батальён 6.11.1943 г. адным з першых уварваўся ў горад. Адбіваючы контратакі праціўніка (Кіеў, Васількова, Белая Царква), знішчыў 8 танкаў і самаходных гармат, 24 гарматы, 124 кулямёты, 26 аўтамашын, 340 падвод з грузам праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.4.1944 г. Да 1969 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр М. Р. Кавалёў 10.5.1978 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**717. МАГІЛА КОЗЕЛА** Івана Васільевіча (гіст.).

Беларускі савецкі драматург І. В. Козел нарадзіўся 21.5.1928 г. у в. Канчаны Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1959 г. У 1955 г. скончыў БДУ імя У. І. Леніна, у 1969 г. Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. З 1949 г. настаўнічаў, працаваў у навукова-даследчым інстытуце педагогікі Міністэрства асветы БССР, на Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў, у Дзяржаўным камітэце Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Першая п'еса «Папараць-кветка» пастаўлена Рэспубліканскім тэатрам юнага гледача ў 1957 г. (апублікавана ў 1958 г.), прысвечана тэме барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. П'еса «Канчане — суседзі мае» (апублікавана і пастаўлена ў 1961 г. Тэатрам юнага гледача пад назвай «Над хвалямі Серабранкі») аб жыцці беларускай вёскі канца 1950-х гадоў. Памёр І. В. Козел 30.1.1970 г.

У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Няфёд У. І. Сучасны беларускі тэатр (1946—1959).— Мн., 1961; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

*М. В. Кірэйшын.*

**718. МАГІЛА КОРБАНА** Уладзіміра Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры БССР (1970 г.) У. І Корбан нарадзіўся 12.8. 1910 г. у г. Барань Аршанскага р-на Віцебскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1932 г. Працаваў токарам на цвіковым заводзе ў Барані, з 1930 г. на Балтыйскім суднабудаўнічым заводзе ў Ленінградзе. Пасля службы ў Чырвонай Арміі (1932—34 гг.) працаваў токарам, начальнікам цэха, старшынёй заўкома на заводзе «Чырвоны Кастрычнік» у Барані, старшынёй будкома на будаўніцтве Аршанскага льнокамбіната. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля вайны дырэктар цвіковага завода ў Лідзе, з 1948 г. галоўны механік завода «Чырвоны Кастрычнік». У 1952—71 гг. працаваў у рэдакцыі часопіса «Вожык» (з 1967 г. галоўны рэдактар).

Друкаваўся пачаў у 1945 г. Пісаў байкі, рыфмаваныя гумарэскі, фельетоны, памфлеты, апавяданні. Выдадзены кнігі «Мы іх ведаем» (1950 г.), «Байкі» (1953 г.), «З вецярком» (1957 г.), «Дакладныя прыкметы» (1958 г.), «Гарачая прыпарка» (1959 г.), «Да цешчы на бліны» (1963 г.), «Не на сваім месцы» (1965 г.), «Свінні ў рэпе» (1968 г.) і інш. Творы У. І. Корбана вызначаюцца актуальнасцю тэматыкі, дасціпнасцю, глыбокім зместам, сатырычнай завостранасцю, мастацкай выразнасцю вобразаў. У іх высмейваюцца ганебныя перажыткі ў побыце і свядомасці людзей — кар'ерызм, бюракратызм, падхалімства, скваппасць, зайздрасць і інш. Аўтар гнеўна выступаў супраць падпальшчыкаў новай вайны. Памёр У. І. Корбан 30.11.1971 г.

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Казека Я. Беларуская байка.— Мн., 1960; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Пяцьдзесят чатыры дарогі.— Мн., 1963. *Г. І. Дулеба.*

**719. МАГІЛА КУДЗІНАВА** Дзмітрыя Яфрэмавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Дз. Я. Кудзінаў нарадзіўся 7.11.1916 г. у в. Старое Камячына Вяземскага р-на Смаленскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў дывізійную школу сувязі (1938 г.), Серпухаўскае ваеннае авіяцыйна-тэхнічнае вучылішча (1939 г.). У Чырвонай Арміі з 1937 г. З 1939 г. служыў у школе пілотаў імя Сярова (г. Батайск), тэхнік-лейтэнант авіяцыйнага звяна. З 12.6.1943 г. на курсах Жытомірскага ваенна-пяхотнага вучылішча. З 29.1.1944 г. на Заходнім фронце, камандзір роты аўтаматчыкаў, удзельнік вызвалення Беларусі. Вызначыўся 13—15.7.1944 г. пры захопе плацдарма на заходнім беразе Нёмана каля г. Алітус Літоўскай ССР. Асабістая мужнасць Дз. Я. Кудзінава, умелая арганізацыя бою дапамаглі падраздзяленням 169-га гвардзейскага стралковага палка адбіць контратакі праціўніка і ўтрымаць плацдарм. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г. Да 1956 г. служыў у Савецкай Арміі, капітан. Потым працаваў на прадпрыемствах г. Мінска. Памёр Дз. Я. Кудзінаў 25.7.1972 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944.— М., 1973.

*Ю. А. Удод.*

**720. МАГІЛА ЛІСОЎСКАГА** Міхаіла Якаўлевіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец і графік М. Я. Лісоўскі нарадзіўся 17.3. 1931 г. у в. Белы Мох Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1952 г.), Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1960 г.). Выкладаў жывапіс і кампазіцыю ў Мінскім мастацкім вучылішчы. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1960 г. Працаваў у жанрах партрэта, бытавым, у станковай графіцы. Рэалістычнай трактоўкай формы, багаццем каларыту, псіхалагізмам вобразаў вызначаюцца работы ў жывапісе «Сувораўцы» і «Настаўніца» (1960 г.), партрэты маці, беларускіх пісьменнікаў Я. Брыля, Я. Семяжона (усе 1967 г.), Н. Гілеві-

ча (1968 г.) і інш., палатно «Паплечнікі Ільіча І. К. Апанскі і Ф. Э. Дзяржынскі» (1969 г.). Запамінальныя карціны «У порце», «Паўднёвы бераг Крыма», «Восень», «Залатая восень», «Вуліца ў Гурзуфе» і інш. М. Я. Лісоўскі — аўтар карыкатур і сяброўскіх шаржаў (у 1971 г. выдадзены асобным альбомам «Няўрокам кажучы», тэкст Р. Барадуліна), якія вызначаюцца дакладнасцю і вастрынёй характарыстык, умелым выкарыстаннем гіпербалы ў якасці сродка сатырычнай тыпізацыі. Памёр М. Я. Лісоўскі 1.10.1970 г.

У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Шматаў В. Ф. Беларуская сатырычная графіка (1945—1970 гг.).— Мн., 1971; Гончарова Л. Художник Лисовский.— Неман, 1974, № 12.

*Г. Ф. Юрчанка.*

**721. МАГІЛА ЛУПСЯКОВА** Міколы (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Мікола (Мікалай Радзівонавіч) Лупсякоў нарадзіўся 4.3.1919 г. у Маскве. Скончыў Мінскі педінстытут імя А. М. Горкага (1941 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў у рэдакцыях часопісаў «Беларусь», «Бярозка». Друкаваўся з 1935 г. З любоўю і цеплынёй пісаў пра подзвігі савецкіх людзей у гады вайны, іх працоўныя справы, думкі, імкненні, пра родную прыроду. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Першая атака» (1946 г.), «Мост» (1947 г.), «Дружба» (1952 г.), «Чырвоны бераг» (1954 г., апавяданні і нарысы), «Паядынак» і «Дняпроўская чайка» (1957 г.), «У вераб'іную ноч» (1958 г.), «Ля пераправы» (1959 г.), «Прырэчча» (1961 г., аповесць і апавяданні), «На берагах Дняпра» (1966 г.), «Міхалаў дуб» (1974 г.) і інш. У нізцы «Вясковыя паданні» (1968 г.) стварыў псіхалагічна глыбокія чалавечыя характары, адлюстраваў складанасць жыцця, побыту людзей. Пісаў для дзяцей: «Разведчыкі» (1949 г.), «На вірах» (1974 г.), і аповесць «Я помню...» (1964 г.). На беларускую мову пераклаў асобныя творы Дж. Лондана, У. Гаршына, А. Гайдара і інш. Выдадзены «Выбраныя творы» (1968 г.). Памёр М. Лупсякоў 12.2.1972 г.

У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

*Л. І. Шэйко.*

**722. МАГІЛА МАЛКІНА** Барыса Яўсеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі мастак тэатра і графік Б. Я. Малкін нарадзіўся 13.1. 1908 г. у г. Прылукі Чарнігаўскай вобл. Скончыў Кіеўскую вышэйшую школу мастацтва (1929 г.). Працаваў у Кіеўскім перасоўным тэатры (1924 г.), Дзяржаўным выдавецтве БССР (1929—36 гг.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1929 г. Афарміў спектаклі: у тэатры імя Я. Купалы — «Партызаны» (1938 г.) і «Мілы чалавек» (1945 г.) К. Крапівы, «Паўлінка», «Прымакі» Я. Купалы, «Позняе каханне» А. Астроўскага (усе ў 1944 г.), «Маладая гвардыя» паводле А. Фадзеева (1947 г.), «Пані міністэрша» Б. Нушыча (1956 г.) і інш.; у тэатры імя Я. Коласа — «Ірынка» К. Чорнага (1941 г.); у Рускім тэатры БССР імя М. Горкага — «Карчмарка» К. Гальдоні і «Шалёныя грошы» А. Астроўскага (1951 г.), «Ад казкі да казкі» (1970 г.). Працаваў таксама ў кніжнай [ілюстрацыі да кніг «Яўген Анегін» А. Пушкіна, «Над ракою Арэсай» Я. Купалы (1936 г.), «Выбраныя творы» Цёткі (1967 г.)], станковай [серыі «Па слядах вайны» (1942—44 гг.), «Цырк» (1960-я гады), «Рыга» (1962 г.) і інш.] і прамысловай (этыкеткі, маркі заводаў, эскізы афармлення керамікі, размалёўкі тканін, шпалераў і інш.) графіцы. Працаваў у тэхніцы манатыпіі, акварэлі, лінагравюры, гуашы. У тэхніцы лаку зроблены лісты: «Песня пра Мінск», «Рагонда», «Залаты нацюрморт», «Лагер смерці», «Абеліск Перамогі» (1966—67 гг.), «Алеся» (1968 г.) і інш. Памёр Б. Я. Малкін 20.11.1972 г.

На магіле пастаўлены помнік — канструкцыя з бетону ў выглядзе мальберта.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**723. МАГІЛА МАНАСЗОНА** Монаса Ісакавіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец М. І. Манасзон нарадзіўся 13.12.1907 г. у г. Магілёве ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Віцебскае мастацкае вучылішча (1929 г.). З 1934 г. працаваў у Мінску. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1927 г. Працаваў у гістарычным і бытавых жанрах. Важным гістарычным падзеям прысвечаны творы «Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінск 11 ліпеня 1920 г.» (1937 г.), «Выступленне М. І. Калініна перад працоўнымі Мінска ў 1919 г.» (1938 г.), «Сустрэча савецкіх танкістаў у Заходняй Беларусі. 1939 год» (1940 г.), «Паўстанне рамеснікаў у Магілёве ў 1606 г.» (разам з М. Беляніцкім, 1964 г.), «Уваход Чырвонай Арміі ў Магілёў у 1918 г.» (1966 г.), «Першы дзень Савецкай Беларусі» (1967 г.), «Канец царскай стаўкі ў Магілёве ў 1917 г.» (1968 г.), «Першы з'езд РСДРП» (1969 г.), «У. І. Ленін у Шушанскім. 1898 год» (1977 г.), «А. Р. Чарвякоў у У. І. Леніна» (1978 г.), «Камуністычны маніфест» (1980 г.) і інш. На тэму Вялікай Айчыннай вайны напісаны карціны «Клятва танкістаў» (1946 г.), «Вяртанне» (1958 г.), «Не забудзем, не даруем!» (трыпціх, 1965 г.), «Ноч на 22 чэрвеня 1941 г.» (1975 г.). Мірнае жыццё і стваральная праца савецкіх людзей адлюстраваны ў творах «Мінск адраджаецца» (1949 г.), «Маладыя кадры» (1950 г.), «Раніца ў заводскім раёне» (1959 г.), «У новы дом» (1962 г.), «На будоўлі» (1965 г.), «Першамайскі парад у Мінску» (1966 г.), «Мінск і мінчане» (1973 г.) і інш. Працаваў таксама ў графіцы. Памёр М. І. Манасзон 30.11. 1980 г.

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Монас Ісакавіч Манасзон / Аўтар тэксту Я. І. Садоўскі.— Мн., 1978.

*Г. М. Ярмоленка.*

**724. МАГІЛА МАРЫКСА** Аскара Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі мастак тэатра, графік, майстар дэкаратыўнага мастацтва, педагог, народны мастак БССР (1961 г.) А. П. Марыкс нарадзіўся 8.12.1890 г. у г. Львове. Скончыў Акадэмію мастацтваў у Празе (1912 г.). У Грамадзянскую вайну працаваў у Палітупраўленні Заходняга фронту. З 1920 г. у Мінску. З 1921 г. мастак, у 1922—29 гг. і 1934—39 гг. галоўны мастак Беларускага першага дзяржаўнага тэатра (з 1944 г. тэатр імя Я. Купалы), у 1940—46 гг.— Беларускага другога дзяржаўнага тэатра (з 1944 г. Беларускі тэатр імя Я. Коласа). У 1949—62 гг. выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. У 1946—63 гг. афарміў больш за 200 спектакляў у розных тэатрах Беларусі. Найбольш значныя работы ў БДТ-1: «Раскіданае гняздо» Я. Купалы (1921 г.), «Машэка» і «Кастусь Каліноўскі» (1923 г.), «Каваль-ваявода» і «Кар'ера таварыша Брызгаліна» (1925 г.) Е. Міровіча, «Мешчанін у дваранах» Мальера (1924 г.), «Мост» Я. Рамановіча (1929 г.), «Салавей» З. Бядулі і «Капітанская дачка» паводле А. Пушкіна (1937 г.) і інш. У тэатры імя Я. Коласа: «Чалавек з ружжом» М. Пагодзіна (1938 г.), «Здані» Г. Ібсена і «Лекар паняволі» Мальера (1940 г.), «Фронт» А. Карнейчука і «Ягор Булычоў і іншыя» М. Горкага (1942 г.), «Проба агнём» К. Крапівы (1943 г.), «Заложнікі» А. Кучара (з Я. Нікалаевым, 1944 г.), «Каварства і каханне» Ф. Шылера (1946 г.), «Шторм» У. Біль-Белацаркоўскага (1953 г.). Сярод работ у інш. тэатрах: «Цудоўная дудка» В. Вольскага (1939 г.) у Беларускім тэатры юнага гледача імя Н. К. Крупскай, опера «Яўген Анегін» П. Чайкоўскага (1936 г.) і балет «Дон Кіхот» Л. Мінкуса (1947 г.) у Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР і інш. Дэкарацыі А. П. Марыкса вызначаліся рэалістычнай вобразнасцю, глыбокім веданнем эпохі, стылявой своеасаблівасцю, кампазіцыйнай выразнасцю. Шырока вядомы яго графічныя серыі «Помнікі дойлідства Беларусі» (1944—61 гг.), «Беларускае адзенне» (1950-я гады), «Беларусь старажытная» (1972—76 гг.), пано «Лядовае пабоішча» (1941 г.), «Уладзімір Полацкі» (1944 г.), «Пераправа Уладзіміра Полацкага цераз Дзвіну» (1945 г.). У дэ-

каратыўна-прыкладным мастацтве вітражы «Папараць-кветка» і «Бярозка» (1966 г.), «Восень» (1967 г.), чаканкі «Лірнік» і «Сказ пра Мапэку» (1967), «На Купалле» і «Лясная песня» (1968 г.), «Францыск Скарына» (1969 г.), дэкаратыўныя пано «Карл Маркс», «Макі», «Нацюрморт» (усе 1970 г., мяшаная тэхніка) і інш. Пісаў партрэты, пейзажы, нацюрморты. Памёр А. П. Марыкс 24.6.1976 г.

У 1978 г. на магіле ўстаноўлены бронзавы бюст мастака (скульпт. З. Азгур, архіт. Ю. Казакоў).

*Літ.:* Тэатральна-дэкаратыўнае мастацтва Савецкай Беларусі.— Мн., 1958.
*Л. Г. Лапцэвіч.*

**725. МАГІЛА НІКАНЧЫКАВА** Аляксея Уладзіміравіча (гіст.).

Беларускі савецкі спартсмен, заслужаны майстар спорту СССР (1967 г.), заслужаны дзеяч фізічнай культуры БССР (1971 г.) А. У. Нікапчыкаў нарадзіўся 30.7.1940 г. у г. п. Ягаднае Магаданскай вобл. Скончыў Беларускі інстытут фізічнай культуры (1962 г.). У 1961—72 гг. інструктар Беларускага рэспубліканскага савета фізкультурна-спартыўнага таварыства «Дынама». Сяміразовы чэмпіён СССР па фехтаванню на шпагах (1961—71 гг.). Удзельнік Алімпійскіх гульняў у Токіо (1964 г.), сярэбраны прызёр у камандным першынстве (1968 г., Мехіка). Чэмпіён свету ў асабістым першынстве (1966 г., Масква; 1967 г., Манрэаль; 1969 г., Гавана), сярэбраны (1966 г., Масква; 1971 г., Вена) і бронзавы (1962 г., Буэнас-Айрэс; 1965 г., Парыж) прызёр у камандным першынстве. Пераможца Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў (1969 г., 1970 г.). Чэмпіён Спартакіяды народаў СССР (1971 г.), СССР (1969 г.) у асабістым першынстве. Пераможца і прызёр міжнародных і ўсесаюзных спаборніцтваў. Памёр А. У. Нікапчыкаў 29.1.1972 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам. *М. Б. Батвіннік.*

**726. МАГІЛА НЯДЗВЕДСКАГА** Уладзіслава Іосіфавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік У. І. Нядзведскі нарадзіўся 24.7.1929 г. у в. Рахавічы Салігорскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна (1955 г.). З 1955 г. працаваў настаўнікам, на Беларускім тэлебачанні, у рэдакцыі часопіса «Маладосць», з 1972 г. у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Друкаваўся з 1949 г. Першы зборнік вершаў «Вясновыя барозны» выйшаў у 1958 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Запрашэнне» (1960 г.), «У лясной старане» (1962 г.), «Размова з адсутнымі» (1969 г.), аповесці «Хлопцы з другога корпуса» (1963 г.), зборнікаў сатырычных і гумарыстычных апавяданняў «Капронавыя галёшы» (1964 г.), «Начная пагоня» (1966 г.) і інш. Для дзяцей напісаў кнігі: «Сто братоў і сяспёр» (1960 г.), «Сыны Кастрычніка» (1969 г., паэма). У 1976 г. выдадзена кніга «Выбранае». Пераклаў на беларускую мову асобныя творы польскіх паэтаў, паэтаў братніх савецкіх рэспублік. Памёр У. І. Нядзведскі 17.10.1973 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

**727. МАГІЛА ОКАРКАВА** Уладзіміра Андрэевіча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы У. А. Окаркаў нарадзіўся 4.11.1915 г. у Гомелі ў сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут сувязі (1949 г.). У 1929—36 гг. працаваў на Гомельскай дыстанцыі сігналізацыі і сувязі. З 1936 г. тэхнік, начальнік участка службы дыстанцыі сувязі Дняпроўскага рачнога параходства, у 1938—41 гг. начальнік тэхнічнага аддзела службы сувязі Беларускай чыгункі. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічаў у аднаўленні прыфрантавой чыгункі. З 1949 г. галоўны інжынер службы сігналізацыі і сувязі Беларускай чыгункі. Аўтар вынаходства «Сістэма паўаўтаматычнай блакіроўкі з палярным лінейным ланцугом» і шэрагу іншых. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1959 г. за поспехі ў развіцці чыгуначнага транспарту. Памёр У. А. Окаркаў 4.8. 1981 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

**728. МАГІЛА ПАСЛЯДОВІЧА** Макара Трафімавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік М. Т. Паслядовіч нарадзіўся 8.8.1906 г. у в. Караваева Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. у сям'і рабочага-чыгуначніка. У 1924 г. вучыўся на падрыхтоўчых курсах у ВНУ. Як актыўны селькор у 1925 г. запрошаны на работу ў рэдакцыю газеты «Беларуская вёска». У 1935—39 гг. адказны сакратар часопіса «Полымя рэвалюцыі», у 1945—48 гг. у газеце «Звязда». У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік партызанскага руху на Беларусі. Друкаваўся з 1927 г. Выдадзены зборнікі апавяданняў «Зруйнаваныя межы» і «Людзі вясны» (абодва 1930 г.), «Чатырнаццаты нумар» (1934 г.), аповесці «Марсель» (1931 г.), «Хада ў заўтра» (1933 г.), прысвечаныя жыццю тагачаснай вёскі, станаўленню калгаснага ладу, раман «Паўстанне» (1940 г.) аб партызанскай барацьбе супраць інтэрвентаў і буржуазных нацыяналістаў у гады Грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі. Раман «Святло над Ліпскам» (кн. 1—2, 1949—52 гг.) адлюстроўвае пасляваеннае станаўленне вёскі. Будаўніцтву мінскага аўтазавода прысвечана аповесць «Цёплае дыханне» (1947 г.), рабоце савецкіх чэкістаў — «Па воўчых сцежках» (1957 г.). Аўтар дакументальнай аповесці пра К. П. Арлоўскага — «З табою побач» (1956—59 г.), зборніка гумарыстычных апавяданняў «Двайное дно» (1964 г.), літаратурных пародый і памфлетаў «Наравісты Пегас» (1968 г.), нарысаў «Мяцежнае сэрца» (1959 г.), «Салігорскае дзіва» (1963 г.), кніжак апавяданняў для дзяцей «Вучоны верабей» (1937 г.), «Зялёны канверт» (1964 г.), п'ес «Гонар» (1934 г.), «Гарачае сэрца» (1938 г.), «Шалёная рысь» (1940 г.). На беларускую мову пераклаў асобныя творы А. Пушкіна, А. Чэхава, М. Гогаля, П. Бажова, М. Горкага, М. Астроўскага, Р. Джаваньёлі, рускія народныя казкі, апавяданні і аповесці пісьменнікаў народаў СССР, СФРЮ, МНР. Выдадзены Збор твораў (т. 1—2, 1961 г.), «Аповесці. Апавяданні» (1970 г.). Памёр М. Т. Паслядовіч 30.12.1984 г. Яго імем названа вуліца ў г. Мар'іна Горка.

*Літ.:* Карпаў У. Прыход героя.— У яго кн.: Крылаты ўзлёт. Мн., 1966; Савіцкі А. Цёплае дыханне дабрыні.— Полымя, 1982, № 1.

**729. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.).

Воін загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні Мінска ў ліпені 1944 г. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**730. МАГІЛА САЗОНАВА** Мікалая Сцяпанавіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец М. С. Сазонаў нарадзіўся 8.10.1895 г. у Свярдлоўску. Скончыў Екацярынбургскую мастацка-прамысловую школу (1917 г.). У першыя гады Савецкай улады займаўся агітацыйна-масавай работай, дапамагаў мясцовым органам у наладжванні народна-асветніцкай справы. Удзельнічаў у стварэнні першых студый выяўленчага мастацтва, Уральскага філіяла Асацыяцыі мастакоў рэвалюцыйнай Расіі (у 1925—32 гг. член прэзідыума), Свярдлоўскага аддзялення Саюза мастакоў СССР (у 1932—42 гг. член праўлення). У 1942—44 гг. у Чырвонай Арміі. З 1968 г. жыў у Мінску. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1918 г. Асноўныя матывы яго творчасці: шырокі размах сацыялістычнага будаўніцтва на Урале, прыгажосць родных краявідаў. Асноўныя работы: «Пракатны стан» (1925 г.), «Стары мартэнаўскі цэх» (1926 г.), «Уралмаш» (1933 г.). «Калгасны млын» (1930 г.), «Сяроўскі металургічны завод» (1931 г.), «Індустрыяльны Свярдлоўск» (1948 г.) і інш. Захапленне беларускай прыродай знайшло адлюстраванне ў лірычных пейзажах «На дачы», «Веранда» «Асвяціла сонца» і інш. Памёр М. С. Сазонаў 28.7.1972 г.

*Літ.:* Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976.
*В. М. Удальцоў.*

**731. МАГІЛА СТАНЮТЫ** Міхаіла Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец, педагог М. П. Станюта нарадзіўся 19.9. 1881 г. у г. Чэрвень Мінскай вобл. Ву-

чыўся ў школе малявання Я. Кругера (1908—11 гг.), Дзяржаўных вольных мастацкіх майстэрнях у Маскве (1918—20 гг.) у М. Касаткіна і А. Архіпава. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1921 г. З 1920 г. у Мінску: загадчык аддзела выяўленчага мастацтва Галоўпалітасветы Беларусі, сакратар аб'яднання мастакоў Беларусі, сакратар Усебеларускага аб'яднання мастакоў (1927—30 гг.). Выкладаў маляванне ў школах, мастацкіх студыях і гуртках (1920—39 гг.). Адзін з ініцыятараў і арганізатараў Мінскай гарадской мастацкай выстаўкі 1921 г. Працаваў у станковым жывапісе (тэматычная карціна, партрэт, пейзаж, нацюрморт), графіцы. Сюжэтна-тэматычныя карціны вызначаюцца актуальнасцю тэматыкі, выразнасцю кампазіцыі і малюнка, некалькі спрошчанай трактоўкай формы: «Шклозавод» (1924 г.), «Бетоншчыкі» (1927 г.), «Будаўніцтва універсітэцкага гарадка» (1928 г.), «На будоўлі» (1929 г.), «Ліцейны цэх» (1931 г.), «Камсамолкі-калгасніцы» (1935 г.). Значнае месца займаў партрэт: «Бежанец» і «Аўтапартрэт» (1921 г.), «Партрэт дачкі» (1923 г.), «Партрэт мастака М. Філіповіча» (1925 г.), «Студэнт» (1927 г.), «Ударнік» (1928 г.), «Камсамолка» (1938 г.), «Беларус» (1944 г.), «Хлопчык у кепцы» (1949 г.), «Партрэт старога» (1952 г.), «Калгасніца» (1961 г.) і інш. Сярод пейзажаў: «Прыцемкі» і «Вечар» (1920 г.), «Захад» (1921 г.), «Дарога» і «Сосны» (1923 г.), «Разбураны Мінск» (1944 г.), «Цэнтральны сквер» (1951 г.), «Зімой у парку» (1965 г.) і інш. Памёр М. П. Станюта 2.1.1974 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Выстаўка твораў мастака Станюты М. П.: Каталог.— Мн., 1971.
*Г. М. Ярмоленка.*

**732. МАГІЛА СУХАВЕРХАВА** Уладзіміра Паўлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец, педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1955 г.) У. П. Сухаверхаў нарадзіўся 20.10.1908 г. у Днепрапятроўску. Член КПСС з 1948 г. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум (1930 г.), Маскоўскі мастацкі інстытут імя В. І. Сурыкава (1946 г.). У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік партызанскага руху. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1927 г. Выкладаў у Мінскім мастацкім вучылішчы (1947—54 гг.), Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце (з 1954 г., з 1971 г. дацэнт). Старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР (1954—56 гг.). Працаваў у розных жанрах станковага жывапісу. Вобразы мужных абаронцаў Радзімы ў гады Вялікай Айчыннай вайны створаны ў карцінах «Сустрэча партызан з Чырвонай Арміяй» (1946 г.), «За родную Беларусь» (1948 г.), акварэльных партрэтах удзельнікаў партызанскага руху на Беларусі (1942—44 гг.). Мірная стваральная праца савецкага народа — тэма работ «Пераможцам у працы» (1950 г.), «Зборачны цэх Мінскага трактарнага завода» (1963 г.), «Трактары ідуць» (1967 г.), партрэтаў перадавікоў працы Мінскага трактарнага завода К. В. Курчыцкай (1952 г.), Я. С. Смірнова (1959 г.), У. П. Шышко (1963 г.), Л. К. Пармона і Я. І. Клімчанкі (1969 г.). Сярод твораў: «Рэспубліканская Іспанія змагаецца» (1938 г.), «Асфальтоўшчыкі» (1939 г.), «Пагранічнікі» (1940 г.), пейзажы «Зіма» (1944 г.), «Вёска», «Пад вечар», «Свіслач» (усе 1945 г.), «Зімовы вечар» і «Хмарны зімовы дзень» (1948 г.), «Вербы» (1952 г.), «Дубцы» (1953 г.), партрэт мастачкі С. Лі (1946 г.), нацюрморты. Памёр У. П. Сухаверхаў 4.5.1977 г.

*Літ.:* Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976.
*В. М. Удальцоў.*

**733. МАГІЛА СЦЯПАНАВА** Васіля Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі філосаф, член-карэспандэнт АН БССР (1967 г.), доктар філасофскіх навук (1960 г.), прафесар (1961 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1977 г.) В. І. Сцяпанаў нарадзіўся 28.2.1903 г. у в. Залатое Чырвонаармейскага р-на Саратаўскай вобл. Член КПСС з 1924 г. У 1932 г. скончыў Акадэмію камуністычнага выхавання імя Н. К. Крупскай. У 1935—42 гг. дэкан гістарычнага факультэта, прарэктар, загадчык кафедры асноў марксізма-ленінізма Сталінградскага педагагічнага інстытута. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1947 г. у БДУ імя У. І. Леніна: загадчык кафедры марксісцка-ленінскай філасофіі, адначасова ў 1962—67 гг. прарэктар БДУ. Вывучаў гісторыю рускай філасофіі, дыялектычны і гістарычны матэрыялізм. Даследаваў філасофскія і сацыялагічныя погляды В. Р. Бялінскага, асаблівасці ленінскага этапа ў развіцці дыялектыка-матэрыялістычнай тэорыі пазнання, некаторыя праблемы тэорыі будаўніцтва сацыялізму. Аўтар прац «Філасофскія і сацыялагічныя погляды В. Р. Бялінскага» (1959 г.), «Ад сацыялізму да камунізму» (1963 г.), «Дыялектычны матэрыялізм як метадалогія прыродазнаўча-навуковага пазнання» (абедзве ў сааўтарстве, 1965 г.), «Вялікі ўзор ваяўнічай партыйнасці» (у кнізе «Філасофскае завяшчанне У. І. Леніна і сучаснасць») (1973 г.). Пад кіраўніцтвам В. І. Сцяпанава і пры яго ўдзеле створаны працы аб сацыяльнай структуры савецкага грамадства і яе змяненні ва ўмовах НТР: «Сацыяльныя змены рабочага класа Беларусі ў працэсе будаўніцтва камунізму» (1965 г.), «Структура савецкай інтэлігенцыі» (1970 г.). Разам з калектывам аўтараў падрыхтаваў манаграфію «Пытанні дыялектычнага матэрыялізму» (1976 г.) і інш. Памёр В. І. Сцяпанаў 22.5.1979 г.

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.
*М. Б. Батвіннік.*

**734. МАГІЛА СЯРЖАНІНА** Івана Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі заолаг, член-карэспандэнт АН БССР (1959 г.), доктар біялагічных навук (1957 г.), прафесар (1958 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1968 г.) І. М. Сяржанін нарадзіўся 2.10.1899 г. у г. Любань Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў прыродазнаўчае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ (1926 г.), настаўнічаў. З 1933 г. навуковы супрацоўнік, з 1947 г. загадчык аддзела заалогіі Інстытута біялогіі АН БССР, адначасова дацэнт БДУ. У 1959—71 гг. загадчык Аддзела заалогіі і паразіталогіі АН БССР, адначасова (з 1958 г.) прафесар кафедры заалогіі названых БДУ імя У. І. Леніна. Даследаваў фауну запаведных прыродных месцаў Беларусі, пытанні гаспадарчага значэння каштоўных відаў млекакормячых, зрабіў аналіз гістарычных змен і працэсаў фарміравання тэрыяфауны, распрацаваў мерапрыемствы па ахове і аднаўленню колькасці баброў. Займаўся праблемамі экалогіі. Асноўныя працы: «Насякомаедныя» (Фауна БССР, т. 1, вып. 1-ы, 1938 г.), «Рачны бабёр і яго біялагічныя асаблівасці» (1951 г.), «Млекакормячыя Беларусі» (2-е выд. 1961 г.), «Вызначальнік млекакормячых Беларусі» (1967 г., разам з Ю. І. Сяржаніным, В. В. Слесарэвічам). Памёр І. С. Сяржанін 2.2.1973 г.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.
*М. Б. Батвіннік.*

**735. МАГІЛА ЦІТОВА** Канстанціна Маркавіча (гіст.).

Рускі савецкі паэт К. М. Цітоў нарадзіўся 13.10.1905 г. у в Сачкавічы Клімаўскага р-на Бранскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Ленінградскі універсітэт (1937 г.). У 1927—37 гг. служыў у Чырвонай Арміі. Працаваў у рэдакцыях газет «Советская Белоруссия» (1937—38 гг.) і «Літаратура і мастацтва» (1938—39 гг.), кансультантам кабінета маладога аўтара, старшынёй рускай секцыі Саюза пісьменнікаў БССР (1939—40 гг.). У Вялікую Айчынную вайну карэспандэнт армейскага франтавога друку. У пасляваенныя гады жыў у Мінску. Друкаваўся з 1930 г. Аўтар зборнікаў «Выступленне ў дарогу» (1941 г.) і «Мы пакляліся» (1942 г.), «Салдацкія радкі» (1947 г.), «Шукальнікі» (1956 г.), «Сэрца зямлі» (1958 г.), «Локаць сябра» (1961 г.), «Ручаёк» (1966 г.), «Проста пра каханне» (1970 г.), «Сляды на водмелі» (1972 г.). Працаваў у галіне прозы: надрукаваны кніжкі апавяданняў для

дзяцей «Лясны маршрут» (1961 г.) і «Ізумрудная гусь» (1967 г.), зборнік вершаваных казак «Якубава каша» (1960 г.). Аўтар нарыса «За гонар заводскай маркі» (1949 г.). Пераклаў на рускую мову трылогію Р. Сабаленкі «Іду ў жыццё», паасобныя творы беларускіх паэтаў. Памёр К. М. Цітоў 13.4.1972 г.

У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. М. Удальцоў.*

**736. МАГІЛА ЦІХАНОВІЧА** Валянціна Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі графік В. М. Ціхановіч нарадзіўся 16.8.1909 г. у г. Вільнюс. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум (1933 г.). З 1932 г. афармляў дзіцячыя кнігі ў Дзяржаўным выдавецтве БССР. Працаваў у галіне кніжнай, станковай графікі, плаката і экслібрыса, адзін з пачынальнікаў анімалістычнага жанру ў беларускай графіцы. У 1930-я гады ілюстраваў творы Я. Купалы, Я. Коласа, Л. Талстога, А. Гайдара, К. Крапівы. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1934 г. У 1940 г. на выстаўцы ў Маскве прадставіў серыю лінагравюр, прысвечаных барацьбе беларускага народа супраць войск буржуазнай Польшчы. Аўтар ілюстрацый да беларускіх народных казак, казак З. Бядулі, У. Гаршына, Л. Талстога, А. Якімовіча, да кніг І. Тургенева, М. Някрасава, М. Прышвіна, М. Танка, В. Вольскага, Я. Пушчы, Р. Барадуліна, А. Вялюгіна, В. Віткі і інш. Напісаў і ілюстраваў кнігу «Са стрэльбай і вудай» (1957 г.). Зрабіў шмат экслібрысаў. Аўтар карыкатуры «Ноеў каўчэг» (1950 г.), «Як бабулька парк вартавала» (1953 г.), «Рэкардыстка» (1954 г.), «Рэдкі госць» (1955 г.), «Цягні, браткі» (1963 г.). Аўтар станковых работ, афортаў «Вячэрні канцэрт», «У пушчы», «У чаротах», «На ўскраіне» і «Хтосьці ідзе» (усе 1967 г.). «Рэха далёкага выстралу» (1968 г.). Супрацоўнічаў у часопісе «Вожык». Творчасць мастака вызначаецца графічнай выразнасцю, эмацыяльнай вобразнасцю. Памёр В. М. Ціхановіч 24.8.1978 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976; Шматаў В. Ф. Беларуская сатырычная графіка (1945—1970 гг.).— Мн., 1971; яго ж. Беларуская графіка 1917—1941 гг.— Мн., 1975. *М. Б. Батвіннік.*

**737. МАГІЛА ШАРАХОЎСКАГА** Янкі (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік і літаратуразнавец Янка (Іван Захаравіч) Шарахоўскі нарадзіўся 20.2.1908 г. у г. п. Бялынічы Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Ленінградскі гісторыка-лінгвістычны інстытут (1931 г.). Працаваў у рэдакцыях часопісаў «Чырвоная Беларусь» і «Полымя рэвалюцыі», газеты «Літаратура і мастацтва». Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г. працаваў адказным сакратаром рэдакцыі часопіса «Полымя», з 1948 г. галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР, потым намеснік міністра культуры БССР, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва», дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы. Літаратурна-крытычную дзейнасць пачаў у 1931 г. Вывучаў жыццёвы і творчы шлях В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, В. Таўлая і інш. Выдаў кнігі апавяданняў «Срэбраная раніца» (1951 г.), «Сердалікавая бухта» (1955 г.), «Сплочаны доўг» (1978 г.), 2 кнігі пра жыццё і творчасць Янкі Купалы: «Пясняр народных дум» (1970 г. і 1976 г.). Пераклаў на беларускую мову шэраг твораў рускіх і савецкіх пісьменнікаў. Памёр Я. Шарахоўскі 6.4.1973 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

**738. МАГІЛА ШЛЫКА** Аляксандра Аркадзевіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне фотабіялогіі, член-карэспандэнт АН СССР (1966 г.), доктар біялагічных навук (1963 г.), прафесар (1965 г.) А. А. Шлык нарадзіўся 1.11.1928 г. у Мінску. Член КПСС з 1948 г. Скончыў БДУ (1950 г.). З 1957 г. загадчык лабараторыі біяфізікі і ізатопаў АН БССР, у 1973—84 гг. дырэктар Інстытута фотабіялогіі АН БССР.

Асноўныя працы прысвечаны даследаванню біясінтэзу і арганізацыі фотасінтэтычнага апарату раслін, вывучэнню структурных і энергетычных узаемаадносін малекул пігментаў зялёных раслін, механізмаў фотарэгулявання і метабалічнага рэгулявання іх біясінтэзу. Адкрыў групавы механізм фарміравання пігментнай сістэмы хларапластаў, стварыў канцэпцыю цэнтраў біясінтэзу хларафілу і высветліў асноўныя прынцыпы іх функцыяніравання. Сярод прац: «Метабалізм хларафілу ў зялёнай расліне» (1965 г.), «Біясінтэз хларафілу і фарміраванне фотасінтэтычных сістэм» (1972 г.), «Спектральнае даследаванне групавой лакалізацыі малекул протахларафіліда і хларафілаў у цэнтрах біясінтэзу» (1978 г., з Л. І. Фрадкіным) і інш. Памёр А. А. Шлык 30.11.1984 г.

У 1987 г. на магіле пастаўлена стэла.

*У. У. Бянько.*

**739. МАГІЛА ЯРМОЛЕНКІ** Мікалая Фёдаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі хімік, акадэмік АН БССР (1947 г.), доктар хімічных навук (1935 г.), прафесар (1931 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1949 г.) М. Ф. Ярмоленка нарадзіўся 17.1.1900 г. у в. Клюкаўка Аршанскага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1953 г. Скончыў 2-і Маскоўскі універсітэт (1924 г.). Працаваў у БДУ (з 1930 г. загадчык кафедры). З 1932 г. загадчык лабараторыі калоіднай хіміі АН БССР. У 1938—44 гг. у вышэйшых навучальных і навукова-даследчых установах Днепрапятроўска, Кіева, Валгаграда, Ташкента, Масквы. З 1944 г. загадчык кафедры ў БДУ, у 1959—72 гг. загадчык лабараторыі сінтэтычных адсарбентаў і сарбцыйных працэсаў Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР, адначасова ў 1946—53 гг. і 1956—69 гг. акадэмік-сакратар Аддзялення фізіка-матэматычных і тэхнічных навук, у 1963—69 гг.— Аддзялення хімічных і геалагічных навук АН БССР. У 1965—72 гг. галоўны рэдактар часопіса «Весці Акадэміі навук БССР. Серыя хімічных навук». Аўтар прац па калоіднай, фізічнай, агульнай, неарганічнай і прыкладной хіміі і фізікахіміі высокапалімераў. Займаўся навуковым і тэхніка-эканамічным абгрунтаваннем развіцця і размяшчэння раду галін хімічнай прамысловасці БССР. Асноўныя працы: «Храматаграфічны адсарбцыйны аналіз і яго развіццё» (1955 г.), «Трыпаліфасфаты і іх выкарыстанне» (1969 г., разам з Я. А. Продапам, Л. І. Продан), «Рэгуляванне порыстай структуры вокісных адсарбентаў і каталізатараў» (1971 г., разам з М. Д. Эфрас) і інш. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1960—66 гг. Памёр М. Ф. Ярмоленка 10.6.1972 г. На будынку Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1973 г. на магіле пастаўлены помнік — бюст вучонага (скульпт. З. Азгур).

*Літ.:* Весці АН БССР. Сер. хімічных навук, 1972, № 4; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *М. Б. Батвіннік.*

* * *

**740. РАДЗІМА АСКЕРКІ** Міхаіла Андрэевіча (гіст.).

Удзельнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 гг. супраць царызму ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве М. А. Аскерка нарадзіўся ў 1836 г. у сям'і чыноўніка. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі, скончыў у 1860 г. медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Працаваў урачом у Магілёве. З 1862 г. у адстаўцы. М. А. Аскерка належаў да «Чырвоных» — дэмакратычнай плыні ў нацыянальна-вызваленчым руху, трымаў сувязь з цэнтрам падрыхтоўкі і кіраўніцтва паўстаннем — Літоўскім правінцыяльным камітэтам і з Кастусём Каліноўскім. Прымаў актыўны ўдзел у стварэнні рэвалюцыйных арганізацый у Магілёўскай губерні, быў прызначаны паўстанцкім камісарам Магілёўскай губерні. Разам з Л. М. Звяждоўскім узначаліў узброенае паўстанне ў Горках на Магілёўшчыне. Улетку 1863 г. паўстанцкім камітэтам прызначаны камісарам Мінскай губерні. У пачатку кастрычніка 1863 г. па заданні К. Каліноўскага разам з яго сакрата-

ром І. М. Ямантам рэарганізоўваў паўстанцкую адміністрацыю на Міншчыне. 22.10.1863 г. арыштаваны па станцыі Остраў (цяпер г. Остраў Пскоўскай вобл.). Па прыгавору ваеннага суда 28.4.1864 г. расстраляны ў г. Магілёве.

*Літ.:* Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг.— М., 1965; Ostatnie chwile Michała Oskierki.— Goniec Wileński, 1908, № 1. *В. Б. Караткевіч.*

**741. РАДЗІМА АСТАПОВІЧА** Аркадзя Антонавіча (гіст.).

Беларускі савецкі графік А. А. Астаповіч нарадзіўся 18.9.1896 г. Мастацкую адукацыю атрымаў у Рысавальнай школе Таварыства заахвочвання мастацтваў у Петраградзе (1915—16 гг.) і ў мастацкай школе ў Харкаве. Удзельнік Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. У 1923 г. пасля дэмабілізацыі з Чырвонай Арміі працаваў настаўнікам у в. Навасёлкі пад Мінскам, у 1930 г. пераехаў у Мінск. У 1920-я гады мастак праявіў цікавасць да сюжэтна-тэматычных кампазіцый, у якіх услаўляў свабодную працу. Адчуваннем новага, бадзёрасцю і аптымізмам вылучаюцца палотны «Заводскія карпусы», «У гады разрухі» (1926 г.), «Першыя трактары», «Палёт» (1927 г.), «Чырвонаармеец» (1930 г.). Зрабіў значны ўклад у развіццё графічнага пейзажа. У творах перададзены тонкі лірызм прыроды — «Сакавік», «Ранняя вясна» (1923 г.), «Зіма» (1927 г.), «Дождж» (1933 г.). Шмат працаваў у тэхніцы акварэлі са штрыхоўкай тушшу. Творчасць А. А. Астаповіча 1930-х гг. адзначана сталым майстэрствам. Яго пейзажы ўзбагачаны прысутнасцю і актыўнай дзейнасцю чалавека: «Апрацоўка лёну» (1932 г.), «Пастух», «Дарога», «Зімовы дзень» (1940 г.) і інш.

Загінуў А. А. Астаповіч 21.9.1941 г. на фронце.

*Літ.:* Шматаў В. Ф. Беларуская графіка 1917—1941 гг.— Мн., 1975. *Г. М. Ярмоленка.*

**742. РАДЗІМА БАГУНА** Міхася (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Міхась Багун (сапраўднае Міхаіл Фёдаравіч Блошкін) нарадзіўся 8.11. 1908 г. у сям'і паштовага служачага. Скончыў курсы пры Мінскім беларускім педагагічным тэхнікуме (1928 г.), настаўнічаў у Бягомльскім р-не (1929—30 гг.), удзельнічаў у правядзенні калектывізацыі ў вёсцы. З 1931 г. працаваў у газеце «Чырвоная Полаччына», у 1932—36 гг. у Дзяржаўным выдавецтве БССР, у газеце «Літаратура і мастацтва».

Друкаваўся з 1925 г. У зборніках вершаў «Рэха бур» (1931 г.), «Рэвалюцыі» (1932 г.) гучаць гордасць за родную Беларусь, вера ў яе светлае будучае. Паэма «Крокі ў вяках» (1930 г.) і некаторыя вершы напісаны пад уплывам творчасці У. Маякоўскага, адлюстроўваюць пафас сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне. Паэма «Канчыта з-пад Таледа» (1936 г.) прысвечана падзеям нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі. У 1934 г. выдадзена кніга для дзяцей «Жэнька». Выступаў і ў жанры прозы, напісаў апавяданні: «Сярод белых драпежнікаў» (1929 г.), «Вораг у доме» (1932 г.), «Жывыя чэрці» (1933 г.). Пераклаў на беларускую мову раманы А. Первамайскага «Ваколіцы» (разам з З. Астапенкам), Ф. Панфёрава «Брускі» (разам з Т. Кляшторным), М. Астроўскага «Як гартавалася сталь», асобныя творы А. Пушкіна, Э. Багрыцкага, У. Маякоўскага, Я. Гашака, Р. Альберці. На вершы М. Багуна беларускія кампазітары напісалі шэраг песень. У 1961 г. выйшла кніга пісьменніка «Выбранае».

Памёр М. Багун 17.2.1938 г.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць.— Мн., 1968. *А. Г. Шчарбатаў.*

**743. РАДЗІМА БАГУШЭВІЧА** Івана Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. М. Багушэвіч нарадзіўся 12.9.1906 г. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1942 г. З 1925 г. працаваў на будаўніцтве ў Мінску. Пасля сканчэння педагагічных курсаў (1928 г.) настаўнічаў у г. п. Ула Віцебскай вобл. У 1929—30 гг. і з 1935 г. у Чырвонай Арміі, у 1930—35 гг. працаваў электразваршчыкам у Магнітагорску і Мінску. Удзельнік баёў супраць японскіх агрэсараў на р. Халхін-Гол (1939 г.). У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1942 г. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Малдавіі, Румыніі, Чэхаславакіі і Аўстрыі. Камандзір 161-га гвардзейскага артылерыйскага палка 7-й гвардзейскай арміі І. М. Багушэвіч вызначыўся пры фарсіраванні восенню 1943 г. р. Дняпро каля Днепрадзяржынска Днепрапятроўскай вобл. Падраздзяленні пушачна-артылерыйскага палка пад камандаваннем І. М. Багушэвіча пераправіліся пад шквальным агнём праціўніка на правы бераг ракі, замацаваліся на плацдарме, падавілі агнявыя кропкі праціўніка і разгарнулі наступленне. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10. 1943 г. Пасля вайны да 1956 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Ганаровы грамадзянін г. Браціслава (ЧССР).

Памёр І. М. Багушэвіч 14.8 1962 г. Пахаваны ў Маскве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**744. РАДЗІМА БАРАШКІ** Ілары (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Ілары (Ларыён Мацвеевіч) Барашка нарадзіўся 12.7.1905 г. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1931 г. У 1930 г. скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт, у 1938 г.— сцэнарны факультэт Кінаакадэміі ў Маскве. З 1924 г. адказны сакратар часопіса «Полымя»; з 1925 г. рэдактар часопіса «Маладыя араты», з 1927 г. намеснік рэдактара газеты «Чырвоная змена», з 1929 г.— часопіса «Маладняк». Быў рэдактарам на студыі Белдзяржкіно ў Ленінградзе (1932—36 гг.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля вайны працаваў у Міністэрствах культуры СССР і РСФСР.

Друкаваўся з 1924 г. Выйшлі зборнік апавяданняў «У прасторы» (1926 г.), аповесць «Рыгор Галота» (1929 г.), казка «Залатыя арэхі» (1930 г.), вершаваны нарыс «Асінстан» (1931 г.), зборнікі апавяданняў і навел «Камунары» і «На розныя тэмы» (1931 г.), апавяданне для дзяцей «Газета Ганначкі Хаванычкі» (1932 г.), зборнік апавяданняў «Блізкія далі» (1959 г.) і інш. У сваіх творах пісьменнік адлюстроўваў героіку Грамадзянскай вайны і змены ў жыцці беларускага народа, што адбыліся пасля Вялікага Кастрычніка. Па сцэнарыях І. Барашкі створаны дакументальныя фільмы «Якуб Колас — народны паэт», «Георгій Скарына» (1963 г.), з Р. Кобецам мастацкі кінафільм «Дняпро ў агні» (1937 г.).

Памёр І. Барашка 3.6.1968 г. у Маскве.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Л. І. Шэйко.*

**745. РАДЗІМА ВІГДОРЧЫКА** Мікалая Абрамавіча (гіст.).

Дэлегат І з'езда РСДРП, урач-гігіеніст, прафесар (1935 г.), заслужаны дзеяч навукі РСФСР (1947 г.) М. (Натан) А. Вігдорчык нарадзіўся 16.11. 1874 г. Скончыў у 1898 г. медыцынскі факультэт Кіеўскага універсітэта. У 1894—98 гг. удзельнік сацыял-дэмакратычнага руху ў Кіеве. Адзін з кіраўнікоў групы «Рабочая справа» і Кіеўскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа». Рэдактар сацыял-дэмакратычнай «Рабочай газеты», дэлегатам ад якой быў на І з'ездзе РСДРП. У красавіку 1899 г. арыштаваны царскімі ўладамі, 7 месяцаў быў зняволены, потым знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У 1902 г. сасланы на 3 гады ў Енісейскую губерню, дзе працаваў урачом. Пасля ссылкі ад рэвалюцыйнай дзейнасці адышоў. З 1906 г. за мяжой. Вярнуўся ў Расію ў 1907 г., працаваў урачом у Пецярбургу, дзе ў 1916 г. арганізаваў лячэбніцу бальнічных кас «Самадапамога». У 1918—22 гг. загадчык статыстычнай секцыі медыцынскага аддзела бальнічнай касы ў Петраградзе, у 1922—23 гг. дацэнт Іркуцкага медінстытута. У 1924—31 гг. дырэктар, у 1931—50 гг. навуковы кіраўнік інстытута прафесійных хвароб у Ленінградзе, у 1950—51 гг. загадчык кафедры Ленінградскага інстытута ўдасканалення ўрачоў. Аўтар прац па прафесійнай гігіене і сацыяльным страхаванні.

Памёр М. А. Вігдорчык 25.4.1954 г. у Ленінградзе.

*Літ.:* Лукомский М. К 30-летнему юбилею Н. А. Вигдорчика.— У кн.: Профессиональная патология и гигиена. М., 1929, сб. 6; Фридлянд И. Г. Николай Абрамович Вигдорчик (К 100-летию со дня рождения).— Гигиена труда и профессиональные заболевания, 1974, № 11.

*М. Б. Батвінніх.*

**746. РАДЗІМА ВОЛАХА** Анатоля Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. А. Волах нарадзіўся ў 1917 г. у сям'і чыгуначніка. Скончыў Мінскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча чыгуначнікаў. Працаваў на вагона-рамонтным заводзе. З 1938 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Варонежскім франтах. Разведчык 12-га асобнага батальёна 2-га танкавага корпуса сяржант А. А. Волах у жніўні 1943 г. у час разведкі абстраляў фашысцкую калону пяхоты, знішчыў 37 гітлераўцаў, захапіў у палон нямецкага афіцэра. 21.8.1943 г. у раёне г. Зенькаў Палтаўскай вобл. у тыле ворага разведаў размяшчэнне агнявых кропак праціўніка, знішчыў 19 гітлераўцаў, захапіў аўтамашыну з нямецкімі афіцэрамі, каштоўныя дакументы. Пры вызваленні г. Лебядзін Сумскай вобл. у верасні 1943 г. на браневіку адзін з першых уварваўся ў горад, уступіў у бой з намнога большымі сіламі праціўніка. Загінуў 1.10.1943 г. пры разведцы падыходаў да Дняпра. Пахаваны ў г. Лебядзін. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.11.1943 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**747. РАДЗІМА ГАЛАЎЧЫНЕРА** Віктара Якаўлевіча (гіст.).

Савецкі рэжысёр і драматург, народны артыст БССР (1944 г.) і Літоўскай ССР (1959 г.) В. Я. Галаўчынер нарадзіўся 15.6.1905 г. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Беларускую драматычную студыю ў Маскве (1926 г.). Працаваў у Дзяржаўным яўрэйскім тэатры БССР: акцёр, у 1928—30 гг. і 1932—38 гг. рэжысёр, у 1942—46 гг. мастацкі кіраўнік. У 1939—42 гг. рэжысёр БДТ-1 (з 1944 г. тэатр імя Я. Купалы), у 1948 г. галоўны рэжысёр Дзяржаўнага рускага тэатра БССР З 1949 г. у тэатрах Іркуцка, Ташкента, Вільнюса. Займаўся педагагічнай дзейнасцю. Лепшыя пастаноўкі: «Стрэл» А. Безыменскага (1930 г.) у тэатры імя ЦСПСБ; «Дон Жуан» («Севільскі спакуснік») Тырса дэ Маліна (1937 г.) у Беларускім ТРАМе; «Вальпоне» Б. Джонсана (1934 г.), «Фальшывая манета» М. Горкага (1937 г.), «Чараўніца» А. Гольдфадэна (1941 г.), «Пігмаліён» Б. Шоў (1946 г.) і інш. у Дзяржаўным яўрэйскім тэатры БССР; «Дурная для іншых, разумная для сябе» Лопэ дэ Вэга (1940 г.) у БДТ-1; «Атэла» У. Шэкспіра (1947 г.) у Дзяржаўным рускім тэатры БССР; «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы (1954 г.) у Ташкенцкім рускім тэатры. Рэжысуры В. Галаўчынера ўласцівы вострае пачуццё формы, яркая відовішчнасць сцэнічнага дзеяння. Аўтар п'ес «Вялікадушнасць» і «Урок жыцця» («Жыццё вучыць»); пастаўлены ў 1935 г. і 1942 г. у БДТ-1.

Памёр В. Я. Галаўчынер 15.7.1961 г. у Вільнюсе.

*К. Б. Кузняцова.*

**748. РАДЗІМА ГЛЕБАЎСКАЙ** Яніны Казіміраўны (гіст.).

Беларуская савецкая актрыса; народная артыстка БССР (1970 г.) Я. К. Глебаўская нарадзілася 11.10.1901 г. у сям'і служачага. У 1920 г. артыстка балета ў Беларускім першым дзяржаўным тэатры (з 1944 г. тэатр імя Я. Купалы). Пасля заканчэння Беларускай драматычнай студыі ў Маскве (1926 г.) працавала ў Беларускім другім дзяржаўным тэатры (з 1944 г. тэатр імя Я. Коласа). Творчасць Я. К. Глебаўскай адметная народнасцю, вострай характарнасцю, дасканалай шліфоўкай малюнка ролі. Сярод роляў: Бярсенева («Разлом» Б. Лаўранёва), Забеліна («Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна), Аксана («Гібель эскадры» А. Карнейчука), Шарлота («Гарачае лета ў Берліне» паводле Д. К'юсак), Гурмыжская і Уліта, Феліцата («Лес», «Праўда добра, а шчасце лепш» А. Астроўскага), Атуева («Вяселле Крачынскага» А. Сухаво-Кабыліна), Матруна («Улада цемры» Л. Талстога), Малання, Паліна, Васа («Ягор Булычоў і іншыя», «Ворагі», «Васа Жалязнова» М. Горкага), Дульская («Мараль пані Дульскай» Г. Запольскай), Орта («Ветрык, вей!» Я. Райніса). Мяккая манера ўвасаблення трагічнага канфлікту гераіні з асяроддзем, уласцівая Я. К. Глебаўскай, узбагаціла вобразы жанчын у рускім класічным рэпертуары.

Я. К. Глебаўская ўвасобіла шмат вобразаў з рэпертуару беларускай савецкай драматургіі: Паўлючыха («Лявоніха» П. Данілава), Даміцэля («Прымакі» Я. Купалы), Мальвіна («Несцерка» В. Вольскага), Югася («Навальніца будзе» паводле трылогіі Я. Коласа «На ростанях»), Сухадол («Сэрца на далоні» паводле І. Шамякіна), Старая Жыгоцкая («Вайна пад стрэхамі» паводле А. Адамовіча) і іншыя.

Памерла Я. К. Глебаўская 16.12. 1978 г. Пахавана ў Віцебску на Мазурынскіх могілках.

*Літ.:* Майстры беларускай сцэны. Кн. 3.— Мн., 1978; Няфёд У. Беларускі тэатр імя Якуба Коласа.— Мн., 1976.

*Г. М. Новікава.*

**749. РАДЗІМА ГЛУШНЕВІЧА** Міхаіла (гіст.).

Беларускі астраном, магістр філасофіі М. Глушневіч нарадзіўся ў 1797 г. Скончыў універсітэт у Вільні. У 1819—48 гг. працаваў памочнікам дырэктара абсерваторыі пры Віленскім універсітэце. Вынікі даследаванняў публікаваліся ў 1838—46 гг. у выданнях абсерваторыі, некаторыя працы — у спецыяльным часопісе «Astronomische Nachrichten» («Веснік астраноміі»). Разам з геадэзістам і тапографам І. І. Ходзькам у 1824 г. праводзіў градусныя вымярэнні на тэрыторыі Беларусі.

Памёр М. Глушневіч у 1862 г. у Вільні.

*Літ.:* Лаврова Н. Б. Библиография русской астрономической литературы 1800—1900 гг.— М., 1968.

**750. РАДЗІМА ЖДАНОВІЧА** Фларыяна Паўлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр, рэжысёр і тэатральны дзеяч Ф. П. Ждановіч нарадзіўся 16.10.1884 г. у сям'і служачага. Скончыў Мінскае рэальнае вучылішча, Варшаўскую драматычную школу (1902 г.). Працаваў акцёрам у польскіх тэатрах. З 1907 г. у Мінску, у польскай трупе пры спартыўным таварыстве «Сокал». Першым з аматарамі пачаў арганізоўваць канцэрты на беларускай мове. У «Сокале» наладзіў праграму «Беларускі кірмаш», якая складалася з беларускіх вершаў і народных песень. Разам з І. Буйніцкім, А. Бурбісам і У. Фальскім арганізоўваў драматычныя гурткі ў Мінску, Вільні, Слуцку (1907—13 гг.). Упершыню на Міншчыне паставіў купалаўскую «Паўлінку». Па прычыне забароны гарадскімі ўладамі прэм'еры ў Мінску яна адбылася ў Радашковічах (1913 г.). Сябраваў з Я. Купалам. Ажыццявіў пастаноўку яго п'есы «Раскіданае гняздо» ў Мінску (1917 г.) і Вільні (1919 г.). Паслядоўнік І. Буйніцкага, адзін з арганізатараў і мастацкі кіраўнік Першага беларускага таварыства драмы і камедыі (1917—20 гг.), выхавальнік першага пакалення беларускіх акцёраў. У 1920—21 гг. мастацкі кіраўнік, у 1922—29 акцёр Беларускага першага дзяржаўнага тэатра (БДТ-1, з 1944 г. тэатр імя Я. Купалы). Адначасова быў рэжысёрам «Беларускага савецкага тэатра», драматычнай секцыі Беларускага рабочага клуба, ставіў спектаклі ў Беларускім трэцім дзяржаўным тэатры (БДТ-3), Беларускім рабочым тэатры імя ЦСПСБ. Пастаноўшчык спектакляў у БДТ-1 «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «Хам» і «У зімовы вечар» («Рысь») Э. Ажэшкі, «Сягонняшнія і даўнейшыя» К. Буйло, «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Антось Лата» Я. Коласа, «Міхалка» Далецкіх, «Лес шуміць» паводле У. Караленкі, «Хата за вёскай» М. Смятрыцкага, «Апошняе спатканне», «Пісаравы іманіны», «Бязвінная кроў», «Бязродны», «Залёты дзяка» У. Галубка і інш. У БДТ-3 паставіў спектаклі: «Кастусь Каліноўскі» Е. Міровіча, «Ярасць» Я. Яноўскага, «Пінская мадонна» У. Галубка і інш. У рэжысёрскай рабоце прыхільнік прыёмаў народнага тэатра, шырока выкарыстоўваў фальклор, імкнуўся да глы-

бокага раскрыцця вобразаў. Сярод роляў: Быкоўскі («Паўлінка»), Дзяк («Пісаравы імяніны»), Палкоўнік («Ганка»), Сурынта («Пан Сурынта»), Ксёндза («Пінская мадонна»), Міхалка (аднайменная п'еса Далецкіх), Рычард («Вучань д'ябла» Б. Шоў), Вярхоўны жрэц («Жрэц Тарквіній» С. Паліванава), Дзюлеран і Серакоўскі («Кастусь Каліноўскі» Е. Міровіча), ксёндз Яхіда («Панскі гайдук» Н. Бываеўскага), граф Даранта («Мешчанін у дваранах» Мальера), Караваеў («Мяцеж» Дз. Фурманава), Пеклраванаў («Браняпоезд 14-69» У. Іванава) і інш. Займаўся перакладчыцкай дзейнасцю. З 1930 г. жыў у Саратаве, выкладаў у мясцовым тэатральным вучылішчы, ставіў спектаклі ў гарадскім тэатры, з 1935 г. рэжысёр калгасна-саўгаснага тэатра ў г. Сокал Валагодскай вобласці.

Памёр Ф. П. Ждановіч 27.1.1942 г.

*Літ.:* Атрошчанка А. Я. Фларыян Ждановіч.— Мн., 1972. *С. А. Пятровіч.*

**751. РАДЗІМА КАРЖАНЕЎСКАГА** Мікалая Канстанцінавіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Мінскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну М. К. Каржанеўскі нарадзіўся 2.2.1904 г. у сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1941 г. Вучыўся завочна ў Маскоўскім юрыдычным інстытуце. Перад вайной працаваў пракурорам Баранавіцкай вобласці. З першых дзён нямецка-фашысцкай акупацыі ўключыўся ў падпольную барацьбу. Стварыў у ліпені 1941 г. падпольную групу на цагельных заводах № 1 і 4 (кіраўнік Г. Ф. Валынец). У жніўні 1941 г. М. К. Каржанеўскі ўладкаваўся начальнікам пажарна-вартавой аховы садоваагароднінная базы № 1, дзе стварыў падпольную групу (кіраўнік Я. І. Ярмалінскі). Па яго ініцыятыве створана таксама падпольная група на садоваагароднінная базе № 2 (кіраўнік І. І. Яцэвіч). З верасня 1942 г. сакратар Кастрычніцкага падпольнага райкома КП(б)Б г. Мінска. Накіроўваў дзейнасць падпольных груп у заходняй частцы горада, падпольнай камсамольска-маладзёжнай арганізацыі ў в. Вялікія Навасёлкі Дзяржынскага р-на, актыўна ўдзельнічаў у выданні і распаўсюджванні падпольнай газеты «Звязда», падтрымліваў сувязь з Дзяржынскім камуністычным падполлем. 2.10.1942 г. быў арыштаваны і ў чэрвені 1943 г. загінуў у фашысцкіх засценках. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны I ступені. Яго імем названы вуліца і завулак у Мінску, на доме № 6 па вул. Каржанеўскага ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Петраченко Д. Н. Именами героев.— Мн., 1978.

**752. РАДЗІМА МАРЦІНКЕВІЧ** Камілы Вінцэнтаўны (гіст.).

Беларуская піяністка, кампазітар, педагог, удзельніца рэвалюцыйнага руху на Беларусі ў 1860-я гады К. В. Марцінкевіч (па мужу Асіповіч) нарадзілася каля 1837 г. Дачка беларускага пісьменніка, стваральніка беларускага нацыянальнага тэатра В. Дуніна-Марцінкевіча. Добра валодала фартэпіяннай тэхнікай, была тонкім інтэрпрэтатарам. Выступала з фартэпіяннымі канцэртамі ў Мінску, Слуцку, Кіеве (1849 г. і 1851 г.), Варшаве (1850 г., разам з братам Міраславам). Выконвала творы Ф. Шапэна, Ф. Ліста, уласныя варыяцыі на тэму песні А. Варламава «Чырвоны сарафан». З яе фартэпіянных твораў — фантазія «У летуценні мінулага». Удзельнічала ў 1852 г. у паказе ў Мінску першай беларускай оперы «Сельская ідылія» (вядома пад назвай «Сялянка», музыка С. Манюшкі, лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча). Займалася педагагічнай дзейнасцю, выкладала музыку ў прыватных пансіёнах Мінска, у 1861—62 гг. арганізавала школы для дзяцей беднаты. З'яўлялася членам Мінскай арганізацыі Літоўскага правінцыяльнага камітэта (цэнтр падрыхтоўкі і кіраўніцтва паўстаннем), члены якой збіраліся ў яе доме. Арыштавана ў 1861 г. за ўдзел у дэмакратычным руху і адпраўлена ў бальніцу для вар'ятаў, што выклікала ў Мінску дэманстрацыю пратэсту. Царскія ўлады вымушаны былі вызваліць К. В. Марцінкевіч. Паўстанне 1863—64 гг. застала яе ў мястэчку Гарадок (цяпер вёска ў Маладзечанскім р-не), дзе яна арганізоўвала школу для сялянскіх дзяцей. Тут яе арыштавалі і зняволілі ў мінскую турму. Душыцель паўстання Мураўёў пісаў мінскаму губернатару 24.8.1863 г.: «...Каміла Марцінкевіч... прымала самы дзейны ўдзел у пашырэнні ў краі рэвалюцыйна руху... Прымаючы пад увагу яе палітычныя перакананні, нельга цярпець, каб яна пражывала ў тутэйшым краі без яўнай шкоды грамадству, таму прашу... выслаць Камілу Марцінкевіч, як жанчыну шкодную і зусім нядобранадзейную ў палітычных адносінах, на пражыванне пад строгі паліцэйскі нагляд...».

К. Марцінкевіч была саслана ў Пермскую губерню, у 1865 г. выйшла замуж за павятовага ўрача Казіміра Асіповіча. У 1880-я гады вярнулася на радзіму. Памерла пасля 1890 г. Пахавана на могілках Тупальшчына (каля в. Падневічы Валожынскага р-на Мінскай вобл.).

*Літ.:* Барышев Г. Из истории семьи В. И. Дунина-Марцинкевича.— Неман, 1961, № 1; Кісялёў Г. В. Сейбіты вечнага.— Мн., 1963. *В. Б. Караткевіч.*

**753. РАДЗІМА МІТКЕВІЧА** Уладзіміра Фёдаравіча (гіст.).

Савецкі вучоны ў галіне электратэхнікі, акадэмік АН СССР (1929 г., член-карэспандэнт 1927 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі РСФСР (1938 г.) У. Ф. Міткевіч нарадзіўся 22.7.1872 г. У 1895 г. скончыў універсітэт у Пецярбургу. У 1896—1905 гг. выкладаў у Пецярбургскім горным інстытуце, у 1902—38 гг. у Ленінградскім політэхнічным інстытуце (з 1909 г. прафесар). Прымаў удзел у распрацоўцы плана ГОЭРЛО, у наладжванні шэрагу прамысловых электратэхнічных вытворчасцей. У 1921—37 гг. узначальваў асобае тэхнічнае бюро па ваенных вынаходствах Наркамата абароны СССР, з 1938 г. працаваў у АН СССР. Асноўныя навуковыя працы прысвечаны вывучэнню электрамагнітных з'яў, праблемам праваднай і бесправаднай сувязі, перадачы электрычнай энергіі («Фізічныя асновы электратэхнікі», 3-е выд., 1933 г.; «Магнітны паток і яго пераўтварэнні», 1946 г.). Першым прапанаваў расшчапленне фаз для высокавольтных ліній электраперадачы (1910 г.). Аўтар курсаў па тэарэтычных асновах электратэхнікі. Прэмія імя У. І. Леніна 1928 г. Дзяржаўная прэмія СССР 1943 г.

Памёр У. Ф. Міткевіч 1.6.1951 г.

*В. М. Баскова.*

**754. РАДЗІМА МЯРЖЫНСКАГА** Сяргея Канстанцінавіча (гіст.).

Адзін з першых марксістаў на Беларусі С. К. Мяржынскі нарадзіўся ў 1870 г. у сям'і чыгуначніка. Уваходзіў у кіруючае ядро Мінскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі. З 1895 г. вучыўся ў Кіеўскім дзяржаўным універсітэце, вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод студэнтаў. З'яўляўся членам Кіеўскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа», змагаўся супраць народнікаў і «эканамістаў», адзін з арганізатараў I з'езда РСДРП. Вярнуўся ў Мінск у 1899 г., працаваў у аддзеле кантролю Упраўлення Лібава-Роменскай чыгункі.

У ліпені 1897 г. пазнаёміўся з украінскай паэтэсай Лесяй Украінкай, якая пад яго кіраўніцтвам вывучала марксісцкую літаратуру, удзельнічала ў перакладзе яе на ўкраінскую мову. Паэтэса двойчы прыязджала ў Мінск, правяла каля ложка хворага С. К. Мяржынскага апошнія два месяцы яго жыцця. Жыццё і смерць С. К. Мяржынскага знайшлі ўвасабленне ў многіх творах Л. Украінкі, у прыватнасці ў паэме «Апантаная», якую яна напісала за адну ноч на 18.1.1901 г. у Мінску.

Памёр С. К. Мяржынскі 29.3.1901 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

*Літ.:* Кабржыцкая Т. В., Рагойша В. П. Карані дружбы.— Мн., 1976; Мішчанка Л. І. Вобраз С. К. Мяржынскага ў творчасці Лесі Украінкі.— Веснік БДУ імя У. І. Леніна. Сер. 4, 1970, № 1; Мошинский И. Н. На путях к I-му съезду РСДРП.— М., 1928; Украинка Л. Собрание сочинений. Т. 1—4.— М., 1956—57. *В. Б. Караткевіч.*

**755. РАДЗІМА НІКАЛАЕВА** Яўгена Дзмітрыевіча (гіст.).

Беларускі савецкі тэатральны мастак, народны мастак БССР (1967 г.), заслужаны дзеяч мастацтваў БССР

(1955 г.), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1968 г.) Я. Дз. Нікалаеў нарадзіўся 13.12.1913 г. у сям'і служачага. Член КПСС з 1946 г. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум (1933 г.). Працаваў у Беларускім тэатры імя Я. Коласа, загадчыкам бутафорскім цэхам, мастаком-пастаноўшчыкам, з 1944 г.— галоўным мастаком тэатра. Аформіў больш за 200 спектакляў: «Адважны трус» І. Штока (1935 г.), «Паўлінка» і «Прымакі» Я. Купалы, «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча (усе 1936 г.), «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка (1939 г.), «Лес» А. Астроўскага (1940 г.), «Ірынка» К. Чорнага (1941 г.).

У Вялікую Айчынную вайну разам з калектывам тэатра Я. Дз. Нікалаеў працаваў у Уральску, у Арэхава-Зуеве, дзе аформіў спектаклі «Партызаны ў стэпах Украіны» А. Карнейчука, «Рускія людзі» К. Сіманава (абодва 1942 г.), «Плошча кветак» В. Ільянкова, «Заложнікі» А. Кучара (абодва 1944 г.).

Плённа працаваў мастак у пасляваенныя гады. Адметныя дэкарацыі да спектакляў: «Начное радыё» братоў Тур і Л. Шэйніна (1946 г.), «Авадзень» паводле Э. Войніч, «Вялікая сіла» Б. Рамашова (абодва 1948 г.), «Вяселле Крачынскага» А. Сухаво-Кабыліна, «Я хачу дамоў» С. Міхалкова, «Алазанская даліна» К. Губарэвіча і І. Дорскага (усе 1949 г.), «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы (1950 г.), «Раскіданае гняздо» Я. Купалы (1951 г.), «Простая дзяўчынка» (1952 г.), «На крутым павароце» К. Губарэвіча (1956 г.), «Крэпасць над Бугам» С. Смірнова (1956 г.), «Навальніца будзе» паводле трылогіі Я. Коласа «На ростанях» (1958 г.), «Лявоніха» П. Данілава (1960 г.), «Крыніцы» (1961 г.) і «Сэрца на далоні» (1966 г.) паводле І. Шамякіна, «Таня» А. Арбузава (1963 г.), «Дачнікі» (1964 г.), «Зыкавы» (1968 г.) М. Горкага, «Бацькаўшчына» К. Чорнага (1966 г.), «Вайна пад стрэхамі» паводле А. Адамовіча (1967 г.), «Шостага ліпеня» М. Шатрова (1967 г., Дзяржаўная прэмія БССР 1968 г.), «Жывы труп» (1961 г.), «Улада цемры» (1969 г.) Л. Талстога, «Выбачайце, калі ласка» (1953 г.), «Трыбунал» А. Макаёнка, «Трэцяя патэтычная» М. Пагодзіна (абодва 1970 г.), «Амністыя» М. Матукоўскага (1971 г.), «Не трывожся, мама» паводле Н. Думбадзе (1972 г.), «Прыніжаныя і зняважаныя» паводле Ф. Дастаеўскага (1973 г.), «Сталявары» Г. Бокарава (1974 г.) і інш.

Творчасць мастака вызначаецца арыгінальнасцю формы, драматызмам каларыту, вобразнасцю дэкарацыйнай трактоўкі.

Памёр Я. Дз. Нікалаеў 30.12.1978 г., пахаваны ў Віцебску на Мазурынскіх могілках.

*Літ.:* Яўгеній Дзмітрыевіч Мікалаеў.— Мн., 1960; Нікалаеў Я. Д. / Аўтар тэксту П. Карнач.— Мн., 1975; Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва Савецкай Беларусі.— Мн., 1958; Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976. *Г. М. Ярмоленка.*

**756. РАДЗІМА ПАЎЛОВІЧА** Альберта Францавіча (гіст.).

Беларускі паэт-гумарыст, драматург А. Ф. Паўловіч нарадзіўся 11.11.1875 г. у сям'і мешчаніна. У 1894 г. скончыў мінскае гарадское чатырохкласнае вучылішча. Працаваў у галоўнай канцэляры Упраўлення Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінску. У 1932—41 гг. жыў у Маскве, у Вялікую Айчынную вайну — на Урале, з 1945 г. у Курску.

Літаратурную дзейнасць пачаў у канцы 19 ст. Першыя вершы надрукаваны ў 1907 г. у газеце «Наша ніва». Аўтар зборнікаў вершаў «Снапок» (1910 г.), драмы «Васількі» (1919 г.), а таксама баек, вершаваных жартаў, вершаў для дзяцей, якія друкаваліся ў перыядычных выданнях «Наша ніва», «Маладая Беларусь», «Лучынка» і інш. Падрыхтаваў рукапіс зборніка гумару «Перавясла» (не выдадзены і пакуль не знойдзены). У 1975 г. выйшаў зборнік «Выбранае». Творчасць А. Ф. Паўловіча цесна звязана з фальклорам. У дарэвалюцыйны час вядомымі былі яго вершаваныя гумарыстычныя апавяданні, сцэнкі, пераказы беларускіх анекдотаў («Пан і акуляры», «Маладая гаспадынька», «Ракі» і інш.). Аўтар артыкула «Забытае» (да гісторыі тэксту «Гутаркі Данілы са Сцяпанам»). Пераклаў на беларускую мову асобныя творы А. Пушкіна, Т. Шаўчэнкі, У. Сыракомлі, М. Канапніцкай і інш.

Памёр А. Ф. Паўловіч 17.3.1951 г.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1969. *М. В. Кірэйшын.*

**757. РАДЗІМА СЛУЦКАЙ** Веры Кліменцьеўны (гіст.).

Прафесійная рэвалюцыянерка В. К. (сапраўднае Берта Браніславаўна) Слуцкая нарадзілася 5.9.1874 г. у сям'і крамніка. Член РСДРП з 1902 г. У рэвалюцыйным руху з 1898 г., у 1901 г. член Бунда. Скончыла экстэрнам Мінскую гімназію, вучылася ў Кіеве, атрымала прафесію зубнога ўрача. Адна з арганізатараў падпольнай друкарні ў Кіеве, за што арыштавана і на 9 месяцаў зняволена ў турму. Жыла пад наглядам паліцыі ў Мінску. За рэвалюцыйную агітацыю выслана ў мястэчка Мір, адкуль праз год выехала ў Швейцарыю. З восені 1904 г. у Мінску. Актыўная ўдзельніца Рэвалюцыі 1905—07 гг. у Мінску і Пецярбургу, член баявой арганізацыі РСДРП. 15.11. 1909 г. зноў арыштавана, асуджана да трохгадовай ссылкі ў Архангельскую губерню, але атрымала дазвол выехаць за мяжу. Да 1913 г. у эміграцыі (Германія, Швейцарыя), дзе вяла актыўную прапагандысцкую работу, сустракалася з У. І. Леніным. З 1913 г. у Пецярбургу, займалася бальшавіцкай агітацыяй і прапагандай, за што зноў арыштавана, у 1914 г. саслана ў Наўгародскую губерню. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі член Пецярбургскага камітэта РСДРП(б), сакратар Васілеўвостраўскага райкома РСДРП(б). Член жаночага бюро ЦК РСДРП(б), член выканкома Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Актыўны ўдзельнік Кастрычніцкага ўзброенага паўстання ў Петраградзе, адна з кіраўнікоў Васілеўвостраўскага раённага рэвалюцыйнага штаба, выконвала даручэнні Петраградскага ВРК. Дэлегат V (Лонданскага) з'езда РСДРП (1907 г.), VII (Красавіцкай) канферэнцыі РСДРП(б), VI з'езда РСДРП(б), II Усерасійскага з'езда Саветаў у 1917 г.

Загінула В. К. Слуцкая 30.10.1917 г. у баі каля Царскага Сяла ў час абароны Петраграда ад наступаючых войск Керэнскага — Краснова. Яе імем названы вуліцы ў Ленінградзе і Мінску, яе імя прысвоена фабрыцы і бальніцы ў Ленінградзе.

*Літ.:* Славные большевички.— М., 1958; Герои Октября. Т. 2.— Л., 1967; Зимонина С. Секретарь райкома (Вера Слуцка).— У кн.: Женщины русской революции. М., 1968. *М. Б. Батвіннік.*

**758. РАДЗІМА СЯЛІЦКАГА** Мікалая Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. А. Сяліцкі нарадзіўся 31.12.1907 г. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1930 г. У 1932 г. скончыў бранятанкавую школу ў г. Арол. З 1931 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі 1936—39 гг. Вызначыўся ў кастрычніку 1936 г. Танкавы ўзвод пад камандаваннем М. А. Сяліцкага атакаваў артылерыйскія пазіцыі ворага, падавіў батарэю горных гармат, зайшоў у тыл, знішчыў некалькі аўтамашын з грузам і да 2 узводаў пяхоты праціўніка. Загінуў М. А. Сяліцкі 29.10.1936 г. у баі пад Мадрыдам. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.12.1936 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.—3 изд.— Мн., 1984.

**759. РАДЗІМА ТАРАСЕВІЧА** Аляксандра Міхайлавіча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы А. М. Тарасевіч нарадзіўся 3.8.1922 г. Член КПСС з 1955 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г. працаваў у калгасе імя М. Ф. Гастэлы Мінскага р-на: цесляром, брыгадзірам паляводчай, потым будаўнічай брыгады. У 1960—63 гг. старшыня калгаса імя ЦК КПБ Пухавіцкага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 18.1.1958 г. за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў.

Памёр А. М. Тарасевіч 7.9.1963 г. Пахаваны ў в. Сенніца Мінскага р-на.

**760. РАДЗІМА ТУМАНСКАГА** Сяргея Канстанцінавіча (гіст.).

Савецкі канструктар авіяцыйных рухавікоў, акадэмік АН СССР (1968 г., член-карэспандэнт 1964 г.), Герой Сацыялістычнай Працы (1957 г.) С. К. Туманскі нарадзіўся 8.5.1901 г. Член КПСС з 1951 г. У 1922 г. скончыў Петраградскую ваенна-тэхнічную школу, у 1931 г.— Ваенна-паветраную інжынерную акадэмію імя М. Я. Жукоўскага. З 1956 г. генеральны канструктар авіяцыйных рухавікоў. Працаваў над стварэннем поршневых і рэактыўных авіяцыйных рухавікоў. Стварыў рухавікі для скорасных бамбардзіроўшчыкаў, пасажырскіх лайнераў, вучэбна-трэніровачных самалётаў, звышгукавых знішчальнікаў, у т. л. тыпу МіГ. Зрабіў вялікі ўклад у развіццё тэорыі і канструкцыі авіяцыйных рухавікоў. Дзяржаўная прэмія СССР 1945 г. Ленінская прэмія 1957 г.

Памёр С. К. Туманскі 9.9.1973 г. у Маскве. *Т. Р. Чуракова.*

**761. РАДЗІМА ФІЛІПОВІЧА** Міхаіла Мацвеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец і графік М. М. Філіповіч нарадзіўся ў Мінску ў 1896 г. у сям'і рабочага-чыгуначніка. Вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы, дзе авалодаў пачатковымі навыкамі ў жывапісе, у 1918 г. у Дзяржаўных вольных мастацкіх майстэрнях у К. А. Каровіна, у 1920—21 і 1925—30 гг. у Вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрнях у Маскве. Працаваў у Беларускім дзяржаўным музеі ў Мінску (1923—25 гг.). З 1930 г. жыў у Маскве. У Вялікую Айчынную вайну супрацоўнічаў у сатырычных выданнях «Партызанская дубінка» і «Раздавім фашысцкую гадзіну». Пасля вызвалення Мінска працаваў рэдактарам у Белдзяржвыдавецтве.

Першыя з вядомых твораў мастака — альбомы (іх 10) замалёвак народнага мастацтва. М. М. Філіповіч адзін з арганізатараў і ўдзельнік першай Усебеларускай мастацкай выстаўкі ў Мінску (1921 г.). Яго раннія карціны створаны на фальклорных і казачных сюжэтах — «На Купалле», «Скаканне праз вогнішча» (1921 г.), «Веснавое свята (Карагод)» (1922 г.), «Ноч на Івана Купалу» (1925 г.) і інш. Працаваў у жанры партрэта. Напісаў партрэты мастакоў М. Станюты, П. Мрачкоўскай (1921 г.), артыста Г. Грыгоніса (1927 г.). Стварыў шэраг палотнаў у гістарычным жанры — «Бітва на Нямізе» (1922 г.), «Паўстанне К. Каліноўскага» (1929 г.), «1905 год у Мінску» (1931—32 гг.) і інш.

Адзін з першых сярод мастакоў Савецкай Беларусі М. М. Філіповіч адлюстраваў жыццё беларускай дарэвалюцыйнай вёскі, стварыў тыповыя вобразы працоўных беларусаў — «Касцы» (1924 г.), «Стары беларус з люлькай», «Беларускія сяляне на кірмашы» (1925 г.). У жанры дробнай пластыкі выкананы «Цымбаліст», «Дудар», «Лірнік» (1946 г.) і інш. У 1920-я гады ілюстраваў паэму М. Чарота «Босыя на вогнішчы», беларускія казкі «Паляшук і чорт», «Каваль-асілак», «Зайздросны поп» і інш. У цыкле карцін паказаў новыя з'явы ў беларускай вёсцы — «Ворыва» (1930 г.), «Трактары ў вёсцы», «Чырвонаармейцы ў вёсцы» (1931 г.). У 1944—46 гг. напісаў карціны «Партызаны», «Краявід» і інш.

М. М. Філіповіч — адзін з заснавальнікаў нацыянальнай мастацкай школы. У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР захоўваецца больш за 100 яго жывапісных і графічных работ.

Памёр М. М. Філіповіч у 1947 г. у Маскве.

*Літ.:* Шматаў В. Ф. Міхась Філіповіч.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*

**762. РАДЗІМА ЯЎНЗЕМ** Ірмы Пятроўны (гіст.).

Руская савецкая спявачка (мецца-сапрана), збіральніца і прапагандыст песеннай народнай творчасці, народная артыстка РСФСР (1957 г.) І. П. Яўнзем нарадзілася 15.9.1897 г. Член КПСС з 1954 г. У 1915—17 гг. вучылася ў Петраградскай кансерваторыі. Першы канцэрт адбыўся ў камерным тэатры мініяцюр г. Пензы ў 1917 г. Удзельніца Грамадзянскай вайны. У 1921—23 гг. працавала ў Мінску. У канцэртах выконвала беларускія народныя песні. З 1923 г. у Маскве, выкладала спевы і народную беларускую музыку ў Беларускай драматычнай студыі. У 1923—63 гг. артыстка Маскоўскай філармоніі. Сваім выкананнем дакладна і тонка перадавала характар і нацыянальныя асаблівасці песні. Першая ў СССР стала выконваць песні розных народаў на іх мовах (у рэпертуары І. П. Яўнзем больш за 5 тыс. узораў песеннай творчасці больш за 60 народаў свету), праводзіла лекцыі-канцэрты, прысвечаныя народным песням. Падрыхтавала зборнік «Рэвалюцыйныя песні народаў» (1931 г.), аўтар кнігі «Чалавек ідзе за песняй» (1968 г.). Гастраліравала ў многіх краінах свету. На кінастудыі «Беларусьфільм» зняты дакументальны фільм пра І. Яўнзем «Мелодыя для голасу з аркестрам» (1986 г.).

Памерла І. П. Яўнзем 17.4.1975 г. у Маскве.

*Літ.:* Бугославский С. А. Ирма Яунзем, исполнительница песен народностей.— М.; Л., 1927. *Т. Р. Чуракова.*

## БІБЛІЯТЭКІ г. МІНСКА*

Мінская гарадская цэнтральная імя Я. Купалы (г. Мінск, вул. В. Харужай, 16). Фонд 259,3 тыс. экз.

Мінская гарадская нотна-музычная (г. Мінск, Партызанскі праспект, 3). Фонд 159,4 тыс. экз.

Мінская гарадская № 1 імя Л. М. Талстога (г. Мінск, вул. Маякоўскага, 18). Фонд 92,2 тыс. экз.

Мінская гарадская № 2 імя Н. К. Крупскай (г. Мінск, вул. Усходняя, 56). Фонд 80,7 тыс. экз.

Мінская гарадская № 3 імя У. У. Маякоўскага (г. Мінск, вул. Рыбалкі, 2). Фонд 104,1 тыс. экз.

Мінская гарадская № 4 імя М. В. Гогаля (г. Мінск, вул. Камуністычная, 42). Фонд 85,3 тыс. экз.

Мінская гарадская № 5 (г. Мінск, вул. Казлова, 2а). Фонд 55,3 тыс. экз.

Мінская гарадская № 6 (г. Мінск, вул. А. Кашавога, 10). Фонд 60,0 тыс. экз.

Мінская гарадская № 7 імя Я. Коласа (г. Мінск, вул. Пляханава, 27). Фонд 39,9 тыс. экз.

Мінская гарадская № 8 імя М. Багдановіча (г. Мінск, вул. Казлова, 44/2). Фонд 60,5 тыс. экз.

Мінская гарадская № 9 (г. Мінск, вул. К. Лібкнехта, 51). Фонд 91,9 тыс. экз.

Мінская гарадская № 10 імя М. А. Мінковіча (г. Мінск, бульвар Шаўчэнкі, 15). Фонд 112,4 тыс. экз.

Мінская гарадская № 11 (г. Мінск, Ташкенцкі праспект, 3). Фонд 101,9 тыс. экз.

Мінская гарадская № 12 (г. Мінск, вул. Маякоўскага, 164). Фонд 82,8 тыс. экз.

Мінская гарадская № 13 (г. Мінск, вул. Сечанава, 2). Фонд 39,4 тыс. экз.

Мінская гарадская № 14 «Юнацтва» (г. Мінск, вул. Прытыцкага, 42). Фонд 103,2 тыс. экз.

Мінская гарадская № 15 імя Цёткі (г. Мінск, вул. Талбухіна, 14а). Фонд 100,3 тыс. экз.

Мінская гарадская № 16 (г. Мінск, вул. Солтыса, 189). Фонд 29,6 тыс. экз.

Мінская гарадская № 17 (г. Мінск, Лагойскі тракт, 25). Фонд 68,6 тыс. экз.

Мінская гарадская № 18 (г. Мінск, вул. Каліноўскага, 55). Фонд 73,1 тыс. экз.

Мінская гарадская № 19 (г. Мінск, вул. Казінца, 122). Фонд 63,5 тыс. экз.

Мінская гарадская цэнтральная дзіцячая імя М. А. Астроўскага (г. Мінск, праспект Газеты «Правда», 20). Фонд 120,7 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 1 (г. Мінск, вул. Урыцкага, 10). Фонд 64,9 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 2 (г. Мінск, вул. К. Чорнага, 10). Фонд 91,0 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 3 (г. Мінск, Партызанскі праспект, 105). Фонд 59,9 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 4 (г. Мінск, вул. Чкалава, 30). Фонд 50,3 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 5 (г. Мінск, вул. Чайкоўскага, 5). Фонд 57,1 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 6 (г. Мінск, вул. К. Лібкнехта, 98). Фонд 56,7 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 7 (г. Мінск, вул. Дзянісаўская, 43). Фонд 61,0 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 8 (г. Мінск, вул. Пашкевіч, 9/2). Фонд 30,8 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 9 (г. Мінск, вул. Убарэвіча, 44). Фонд 51,7 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 10 (г. Мінск, Ленінскі праспект, 123). Фонд 57,4 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 11 (г. Мінск, вул. Жудро, 69). Фонд 43,0 тыс. экз.

Мінская гарадская дзіцячая № 12 (г. Мінск, вул. Прытыцкага, 18/3). Фонд 17,7 тыс. экз.

* Кніжны фонд даецца на 1.1.1988 г.

## МУЗЕІ г. МІНСКА

**БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ** (г. Мінск, Ленінскі праспект, 25а). Заснаваны 30.9.1943 г. Адкрыты 1.11.1944 г. У фондах на 1.1.1988 г. больш як 120 тыс. экспанатаў. Аддзелы: гісторыі партызанскага руху і ваенна-франтавы.

**БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЕЙ НАРОДНАЙ АРХІТЭКТУРЫ І БЫТУ** (кіраўніцтва г. Мінск, вул. Пашкевіч, 3; музей за 12 км ад Мінска, каля Воўчкавіцкага вадасховішча на беразе р. Пціч). Заснаваны 9.12.1976 г. Адкрыты ў 1987 г. У фондах на 1.1.1988 г. 9,5 тыс. экспанатаў.

**ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСКАЙ ССР** (г. Мінск, вул. К. Маркса, 12). Заснаваны ў 1957 г. Адкрыты 2.11. 1967 г. У фондах музея на 1.1.1988 г. 275 тыс. экспанатаў.

**ДЗЯРЖАЎНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ БССР** (г. Мінск, вул. Леніна, 20). Заснаваны 8.11.1939 г. як Дзяржаўная карцінная галерэя БССР. 10.7.1957 г. пераўтворана ў Дзяржаўны мастацкі музей БССР. У фондах на 1.1.1988 г. 17,4 тыс. экспанатаў.

**ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ Я. КУПАЛЫ** (г. Мінск, вул. Я. Купалы, 4). Заснаваны ў маі 1944 г. Адкрыты 20.9.1945 г. У фондах на 1.1.1988 г. 22,7 тыс. экспанатаў.

**ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ Я. КОЛАСА** (г. Мінск, Ленінскі праспект, 66а). Заснаваны 16.8.1956 г. Адкрыты 4.12. 1959 г. У фондах на 1.1.1988 г. 23,6 тыс. экспанатаў.

**ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ П. БРОЎКІ** (г. Мінск, вул. К. Маркса, 30). Заснаваны 10.7.1980 г. Адкрыты 29.12.1984 г. У фондах на 1.1.1988 г. 10,1 тыс. экспанатаў.

21 Зак. 442

**ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ М. БАГДАНОВІЧА** (г. Мінск, вул. М. Горкага, 9). Заснаваны ў маі 1981 г. У фондах на 1.1.1988 г. 5,7 тыс. экспанатаў.

**МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ** (г. Мінск). Заснаваны 16.11.1987 г. У фондах на 1.1.1988 г. 470 экспанатаў. Аддзелы: гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры і гісторыі беларускай савецкай літаратуры.

## АРХІВЫ г. МІНСКА

**ЦЭНТРАЛЬНЫ ДЗЯРЖАЎНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БССР** (г. Мінск, вул. Казлова, 26). Створаны паводле пастановы Прэзідыума ЦВК БССР ад 5.7.1938 г. на базе Магілёўскага гістарычнага архіва (існаваў з 1927 г.), з 1963 г. у Мінску. Захоўвае матэрыялы за перыяд уваходжання Беларусі ў склад Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, дакументы губернскіх, павятовых, валасных органаў улады і кіравання, гаспадарча-эканамічных, фінансавых, жандарскіх, паліцэйскіх, судовых, культурна-асветных і іншых устаноў Расійскай імперыі на тэрыторыі былых Полацкай, Беларускай, Магілёўскай, Мінскай і Віцебскай губерняў.

**ЦЭНТРАЛЬНЫ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ І САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА БССР** (г. Мінск, вул. Бакуніна, 4). Створаны паводле пастановы ЦВК і СНК БССР ад 28.5.1927 г. як архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пастановай Прэзідыума ЦВК БССР ад 5.7.1938 г. архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі рэарганізаваны ў Цэнтральны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР. Захоўвае дакументы вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіравання, гаспадарча-эканамічных, фінансавых, судовых, культурна-асветных, прафсаюзных, кааператыўных і іншых арганізацый і ўстаноў рэспублікі, пачынаючы з 1917 г.

**ЦЭНТРАЛЬНЫ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА БССР** (г. Мінск, вул. Астроўскага, 4). Створаны паводле пастановы СМ БССР ад 9.6.1960 г. 8.1.1976 г. архіў пераўтвораны ў архіў-музей. Захоўвае дакументы, якія маюць палітычнае, навуковае і практычнае значэнне, адлюстроўваюць гісторыю развіцця літаратуры і мастацтва Беларусі дарэвалюцыйнага і савецкага перыядаў. Дакументы захоўваюцца ў асабістых фондах дзеячаў літаратуры і мастацтва, а таксама ў фондах дзяржаўных устаноў гэтага профілю: тэатраў, кінастудый, выдавецтваў, рэдакцый часопісаў і газет.

**ЦЭНТРАЛЬНЫ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЙ ДАКУМЕНТАЦЫІ БССР** (г. Мінск, вул. Астроўскага, 4). Створаны паводле пастановы СМ БССР ад 27.5.1968 г. Захоўвае навукова-тэхнічную дакументацыю праектна-канструктарскіх, тэхналагічных і навукова-даследчых устаноў і арганізацый на тэрыторыі БССР, асабістыя фонды вучоных у галіне навукі і тэхнікі, архітэктараў, пачынаючы з 1869 г.

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У імянны паказальнік вынесены прозвішчы ўсіх асоб, пра якіх ёсць асобныя артыкулы ці якія ўпамінаюцца ў тэкстах артыкулаў і ў подпісах пад ілюстрацыямі, у бібліяграфіі, а таксама прозвішчы аўтараў падпісаных артыкулаў. Лічбы паказваюць нумар артыкула, з якога вынесена прозвішча, лічбы ў дужках — старонку.

## ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У геаграфічны паказальнік вынесены ўсе назвы вуліц, дзе ёсць помнікі. Лічбы паказваюць нумар артыкула пра помнік, які знаходзіцца на гэтай вуліцы.

